А.М. БУЛЫКА



# СЛОЎНІК ІНШАМОЎНЫХ СЛОЎ

1

А-Л

А.М. БУЛЫКА



# СЛОЎНІК ІНШАМОЎНЫХ СЛОЎ

**1**

# А-Л

МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
1999

УДК 801.316.4
ББК 81.2 Р-4
Б 90

Рэцэнзент
доктар філалагічных навук *А.Я.Супрун*

Мастак *А.С.Забаўская*

**Булыка А.М.**

**Б 90** Слоўнік іншамоўных слоў: У 2 т. Т. 1: А—Л — Мн.: БелЭн, 1999. — 736 с.

ISBN 985-11-0152-4.

Слоўнік з'яўляецца першым у беларускай лексікаграфічнай практыцы даведнікам па іншамоўнай лексіцы. У ім змешчана каля 25 тысяч агульнаўжывальных слоў і найбольш пашыраных тэрмінаў з розных галін ведаў, запазычаных з іншых моў або ўтвораных з іншамоўных лексічных элементаў. Кожнае слова забяспечана даведкай аб яго паходжанні і тлумачэннем. Улічаны і новыя лексічныя адзінкі, якія ўвайшлі ў актыўны ўжытак на працягу апошняга дзесяцігоддзя.

Разлічаны на шырокае кола чытачоў.

**УДК 801.316.4**
**ББК 81.2 Р-4**

**ISBN 985-11-0152-4**

## Структура слоўніка

Запазычванне лексікі — з'ява, уласцівая кожнай мове. Актыўна выкарыстоўваюцца іншамоўныя лексічныя сродкі і ў пісьмова-маўленчай практыцы беларусаў. Аднак удзельнікам моўных зносін не заўсёды зразумелы дакладны сэнс і тым больш паходжанне замежных слоў, узнікаюць цяжкасці пры іх ужыванні, вымаўленні, напісанні. Асноўная задача гэтага слоўніка — даць кароткае тлумачэнне слоў іншамоўнага паходжання, якія можна пачуць па радыё і тэлебачанні, сустрэць у газетах і часопісах, у мастацкай, публіцыстычнай, навуковай і навукова-папулярнай літаратуры.

Слоўнік змяшчае каля 25 тысяч слоў, запазычаных у розны час беларускай мовай з іншых моў або ўтвораных з іншамоўных лексічных элементаў. Усе гэтыя словы, з'яўляючыся загаловачнымі ў слоўнікавых артыкулах, размешчаны ў алфавітным парадку і надрукаваны тлустымі (чорнымі) літарамі. Націскныя галосныя ў іх, акрамя літары ё, забяспечаны знакам націску.

Загаловачныя словы-амонімы пазначаюцца арабскімі лічбамі зверху справа: **МАНДАРЫ́Н**[1] і **МАНДАРЫ́Н**[2].

Пасля загаловачнага слова ў дужках даецца ўказанне на паходжанне слова (этымалогія). Прыводзіцца звычайна іншамоўная першакрыніца, а калі ёсць дастатковыя навуковыя падставы, то і звесткі аб мовах-пасрэдніцах. Усе словы з іншых моў, акрамя рускіх і ўкраінскіх, падаюцца лацінскім алфавітам.

Калі змешчанае ў этымалагічнай даведцы іншамоўнае слова супадае ў значэнні з загаловачным, яно не тлумачыцца:

**ЛІМАНА́Д** (фр. limonade).

Пры розных значэннях загаловачнага слова і іншамоўнага слова, якое паслужыла крыніцай запазычвання, апошняе даецца з тлумачэннем:

**СЭ́РВІС** (англ. service = служба).

У лацінскіх і старажытнагрэчаскіх словах, калі аснова іх па назоўным склоне няясная, прыводзіцца побач форма роднага склону, якая выяўляе чыстую аснову слова:

**ПАТЭ́НТ** (лац. patens, -ntis = адкрыты, яўны).

**ХЛАМІ́ДА** (гр. chlamys, -ydos).

Паміж прыведзенымі ў дужках двума іншамоўнымі адпаведнікамі загаловачнага слова (словам-пасрэднікам і словам-крыніцай), а таксама калі ў этымалагічнай даведцы, акрамя іншамоўнага адпаведніка, прыводзіцца і яго этымон (зыходнае слова) або ёсць толькі этымон загаловачнага слова, звы-

чайна ўжываецца прыназоўнік «ад».

**АНІ́С** (н.-лац. anisum, ад гр. anison).

**БАРКАРО́ЛА** (іт. barcarola, ад barca = лодка).

**ДЭНДРА́РЫЙ** (ад гр. dendron = дрэва).

Часам паміж іншамоўнымі адпаведнікамі ставіцца знак < , каб пазбегнуць паўтарэння прыназоўніка «ад».

**ХАЛЕ́РА** (лац. cholera < гр. cholera, ад chole = жоўць).

Па магчымасці робіцца пераклад састаўных частак іншамоўнай першакрыніцы:

**МАТАЦЫ́КЛ** (фр. motocycle, ад лац. motus = які рухаецца + гр. kyklos = кола).

Пры складаных словах, утвораных ад двух іншамоўных слоў, падаюцца абодва гэтыя словы са скарочанай назвай мовы і тлумачэннем. Адсутнасць указання на мову перад другім іншамоўным словам сведчыць, што яно паходзіць з той жа крыніцы, з якой і першае:

**САЛІЦЫ́ЛАВЫ** (ад лац. salix, -icsis = вярба + гр. yle = рэчыва).

**СХІЗАФРЭНІ́Я** (ад гр. schizo = расшчапляю + phren = душа, розум, мысленне).

Калі слова складзена са змешчаных у слоўніку самастойных лексічных адзінак або словаўтваральных элементаў, у этымалагічнай даведцы ўказваюцца кампаненты складання, прычым яны выдзяляюцца курсівам:

**МЕТАЛАКЕРА́МІКА** (ад *метал* + *кераміка*).

**СЕЙСМАЛО́ГІЯ** (ад *сейсма-* + *-логія*).

Словаўтваральныя элементы складаных слоў даюцца як асобныя слоўнікавыя артыкулы з адпаведнымі этымалагічнымі даведкамі і тлумачэннямі:

**АВІЯ-** (ад лац. avis = птушка) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «авіяцыйны».

**-ЛОГІЯ** (гр. logos = слова; вучэнне) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «навука», «вучэнне», «веды».

У выпадках, калі этымалогія складаецца з загаловачных (чорных) слоў іншых артыкулаў і гэтыя словы сустракаюцца ў слоўнікавым артыкуле, курсіў даецца толькі ў этымалогіі:

**КАТАТЭРМО́МЕТР** (ад *ката-* + *тэрмометр*) — спіртавы тэрмометр для вымярэння ахаладжэння, якое выклікаецца паветрам.

Пры словах, утвораных ад уласных імён, у этымалагічнай даведцы, акрамя прозвішча асобы, ад якога паходзіць слова, па магчымасці падаюцца гады яе жыцця.

Значэнні слоў тлумачацца ў даступнай форме, але такім чынам, каб сэнс слова быў раскрыты поўна і дакладна. Часта паўната інфармацыі аб слове дасягаецца адсылкай да іншых слоў шляхам выдзялення іх курсівам у тэксце тлумачэння, прычым калі слова, да якога адсылаецца чытач, мнагазначнае, указваецца нумар значэння:

**АЛІГАКЛА́З** (ад *аліга-* + гр. klasis = разлом) — пародаўтваральны мінерал класа *сілікатаў*, разнавіднасць *плагіяклазу*.

**АПЕРТО́МЕТР** (ад лац. apertus = адкрыты + *-метр*) — прыбор для вымярэння лікавай *апертуры* 1 аптычнай сістэмы.

Калі загаловачнае слова паўтараецца ў тэксце артыкула ў нязменнай форме, то яно абазначаецца першай літарай гэтага слова з кропкай, а калі змяняецца грама-

тычная форма, то назоўнікі ў гэтым выпадку даюцца поўнасцю, а прыметнікі абазначаюцца першай літарай і праз злучок даецца канчатак: каравул — паставіць к., быць у каравуле; шанцавы — ш. інструмент, ш-ая лапата.

Калі загаловачнае слова мае два варыянты ўжывання, кожны з іх падаецца асобным чорным словам і менш ужывальны спасылаецца на больш ужывальны:

**АКСІ́МАРАН** гл. *аксюмаран.*

**АКСЮ́МАРАН, АКСІ́МАРАН** (гр. aksymoron = дасціпна-бязглуздае) — стылістычны прыём наўмыснага спалучэння процілеглых слоў, у выніку чаго ўзнікае новы сэнсавы змест.

Калі загаловачнае слова мае сінанімічны тэрмін беларускага паходжання, то апошні падаецца ў канцы слоўнікавага артыкула пасля кропкі з коскай звычайным шрыфтам:

**КАТРЭ́Н** (фр. quatrain, ад quatre = чатыры) — страфа з чатырох вершаваных радкоў; чатырохрадкоўе.

**КАТАСТРАФІ́ЗМ** (фр. catastrophisme, ад гр. katastrophe = пераварот, знішчэнне) — вучэнне, паводле якога развіццё зямной кары і арганічнага свету адбываецца ў выніку перыядычных сусветных геалагічных катастроф і патопаў, што наступаюць пасля трывалага перыяду спакою; тэорыя катастроф.

Пры наяўнасці спасылкі на аманімічны тэрмін робіцца адпаведная лічбавая памета:

**ЧАНТЭ́ЗІМА** (іт. centesimo, ад cento = сто) — разменная манета Італіі, Сан-Марына, Ватыкана, роўная 1/100 *ліры*[2].

У мнагазначных словах розныя значэнні слова пазначаюцца ў радку арабскімі лічбамі з дужкай. Пры гэтым яны падаюцца ў наступным парадку: а) першаснае, гістарычнае значэнне; б) усе наступныя прамыя значэнні; в) пераноснае значэнне. Выключэнне робіцца толькі ў тых выпадках, калі некалькі прамых значэнняў маюць адпаведна некалькі пераносных. Тады пасля кожнага прамога значэння змяшчаецца адпаведнае пераноснае.

Па магчымасці звязваюцца паміж сабой тэрміны, якія характарызуюць адну і тую ж з'яву з розных бакоў або абазначаюць антанімічныя з'явы. У канцы слоўнікавага артыкула ў дужках ці пасля кропкі з коскай даецца спасылка на такі тэрмін пры дапамозе памет «параўн.», «проціл.»:

**АПАФЕРМЕ́НТЫ** (ад *апа-* + *ферменты*) — бялковая група малекул некаторых ферментаў, якая вызначае іх спецыфіку (параўн. *каферменты*).

**КАФЕРМЕ́НТЫ** (ад *ка-* + *ферменты*) — небялковая група малекул некаторых ферментаў, якая прымае ўдзел у ферментатыўных рэакцыях, што адбываюцца ў арганізмах (параўн. *апаферменты*).

**АНТЫПА́ТЫЯ** (гр. antipatheia) — пачуццё непрыязнасці, недружалюбнасці, агіды (проціл. *сімпатыя*).

**СІМПА́ТЫЯ** (гр. sympatheia = спачуванне) — цяга, прыхільнасць да каго-н. (проціл. *антыпатыя*).

Пасля тлумачэнняў у неабходных выпадках даюцца ілюстрацыі ў выглядзе свабодных або ўстойлівых выразаў, пры гэтым першыя падаюцца ў дужках без тлумачэння, а другія вылучаюцца разрадкай і тлумачацца:

**ТЭРМІНА́ЛЬНЫ** (лац. terminalis, ад terminus = мяжа, край) — канцавы, канечны (напр. т. стан арганізма).

**ШПА́ГА** (іт. spada) — халодная колючая зброя з прамым вузкім і доўгім клінком; с к р ы ж а в а ц ь ш п а г і — пачаць паядынак, бой, спрэчку.

## Спіс скарачэнняў

*ав.* — авіяцыя
азерб. — азербайджанскі
алб. — албанскі
алт. — алтайскі
амер. — амерыканскі
*анат.* — анатомія
англ. — англійскі
*антр.* — антрапалогія
ар. — арабскі
арам. — арамейскі
арм. — армянскі
*архіт.* — архітэктура
асец. — асецінскі
*астр.* — астраномія
аўстр. — аўстрыйскі
аўстрал. — аўстралійскі
афг. — афганскі
афр. — афрыканскі
балг. — балгарскі
бельг. — бельгійскі
бенг. — бенгальскі
*біял.* — біялогія
*ваен.* — ваенная справа
венг. — венгерскі
в’етн. — в’етнамскі
гал. — галандскі
гал. ч. — галоўным чынам
*геагр.* — геаграфія
*геад.* — геадэзія
*геал.* — геалогія
г.зн. — гэта значыць
*гіст.* — гістарызм
гл. — глядзі
*горн.* — горная справа
гр. — грэчаскі
груз. — грузінскі
дацк. — дацкі
егіп. — егіпецкі
*жарт.* — жартаўлівы
зах. — заходні
і г.д. — і гэтак далей
інш. — іншыя
інд. — індыйскі
інданез. — інданезійскі
індз. — індзейскі
*іран.* — іранічны
ірл. — ірландскі
ісл. — ісландскі
ісп. — іспанскі
іт. — італьянскі
кабард. — кабардзінскі
казах. — казахскі
калм. — калмыцкі
*камерц.* — камерцыйная справа
караім. — караімскі
карэйск. — карэйскі
карэл. — карэльскі
кельц. — кельцкі
кіт. — кітайскі
*кніжн.* — кніжны
кр.-тат. — крымска-татарскі
лаоск. — лаоскі
латыш. — латышскі
лац. — лацінскі
*лаянк.* — лаянкавы
*лінгв.* — лінгвістыка
літ. — літоўскі
*літ.* — літаратуразнаўства
*літар.* — літаральна
*лог.* — логіка
малайск. — малайскі
манг. — мангольскі
*мар.* — марская справа
*мат.* — матэматыка
*мед.* — медыцына
*мет.* — металургія
*метэар.* — метэаралогія
*мін.* — мінералогія
*міф.* — міфалогія
млн. — мільён
*мн.* — множны лік
*муз.* — музыка
-н. — -небудзь
напр. — напрыклад
нарв. — нарвежскі
н.-гр. — новагрэчаскі

ненец. — ненецкі
нідэрл. — нідэрландскі
н.-лац. — навалацінскі
н.э. — нашай эры
ням. — нямецкі
пал. — палавіна
*палігр.* — паліграфія
палінез. — палінезійскі
*паляўн.* — паляўніцтвазнаўства
*памянш.* — памяншальная форма
параўн. — параўнай
парт. — партугальскі
паўд. — паўднёвы
паўн. — паўночны
пач. — пачатак
*паэт.* — паэтыка
*перан.* — пераноснае значэнне
перуан. — перуанскі
перс. — персідскі
п.-лац. — познелацінскі
польск. — польскі
праванс. — правансальскі
проціл. — процілеглы
*псіх.* — псіхалогія
*разм.* — размоўны
рум. — румынскі
рус. — рускі
*рэл.* — рэлігія
саам. — саамскі
санскр. — санскрыт
с.-в.-ням. — сярэдневерхненямецкі
с.-гр. — сярэднегрэчаскі
серб. — сербскахарвацкі
сканд. — скандынаўскі
с.-лац. — сярэднелацінскі
с.-н.-ням. — сярэдненіжненямецкі
*сп.* — спорт
ст. — стагоддзе
ст.- — старажытна-, стара- (пры назвах моў)
старaж. — старажытны
ст.-в.-ням. — старажытнаверхненямецкі
сям. — сямейства
сярэд. — сярэдні
тагал. — тагальскі
тадж. — таджыкскі
таміл. — тамільскі
тат. — татарскі
т.зв. — так званы
тунгус. — тунгускі
тур. — турэцкі
тыбецк. — тыбецкі
тыс. — тысячагоддзе
*тэатр.* — тэатральны
*тэх.* — тэхніка
узб. — узбекскі
укр. — украінскі
*уст.* — устарэлы
усх. — усходні
у т.л. — у тым ліку
*фарм.* — фармакалогія
*фіз.* — фізіка
*фізіял.* — фізіялогія
*філас.* — філасофія
фін. — фінскі
*фін.* — фінансавая справа
фінік. — фінікійскі
фр. — французскі
харв. — харвацкі
*хім.* — хімія
цэнтр. — цэнтральны
цюрк. — цюркскі
чукоц. — чукоцкі
чэш. — чэшскі
шатл. — шатландскі
шв. — шведскі
швейц. — швейцарскі
эвенк. — эвенкійскі
*экан.* — эканоміка
эскім. — эскімоскі
эсп. — эсперанта
эст. — эстонскі
этруск. — этрускі
эфіоп. — эфіопскі
*юр.* — юрыспрудэнцыя
яв. — яванскі
якуцк. — якуцкі
яп. — японскі
яўр. — яўрэйскі

# А

# A

**А-, АН-** (гр. a-, an- = не, без) — прыстаўка, якая выражае адмаўленне або адсутнасць якой-н. прыметы, уласцівасці.

**АА-** (гр. oon = яйцо) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «яйцо», «палавая клетка».

**ААГА́МІЯ** (ад *аа-* + *-гамія*) — тып палавога працэсу ў жывёл і многіх раслін, пры якім у апладненні ўдзельнічаюць буйная яйцаклетка і дробны *сперматазоід* або *спермій* (параўн. *гетэрагамія, ізагамія*).

**ААГЕНЕ́З** (ад *аа-* + *-генез*) — *біял.* працэс развіцця жаночых палавых клетак у яечніку.

**ААГО́НІІ** (ад *аа-* + *-гонія*) — жаночыя палавыя клеткі, якія ўтвараюцца з першасных палавых клетак.

**ААГО́НІЙ** (ад *аа-* + гр. gone = нараджэнне) — жаночы палавы орган многіх водарасцяў і грыбоў, унутры якога ўтвараюцца яйцаклеткі.

**АА́ЗІС** (лац. oasis, ад егіп. Oasia = назва старажытнаегіпецкага горада) — 1) месца ў пустыні, дзе ёсць вада і расліннасць; 2) *перан.* тое, што з'яўляецца прыемным выключэннем на агульным шэрым фоне.

**ААЛІ́ТЫ** (ад *аа-* + *-літ*) — мінеральныя ўтварэнні з *кальцыту, даламіту*, вокіслаў жалеза, *марганцу* ў выглядзе дробных акруглых зярнят канцэнтрычнай або радыяльна-прамяністай будовы.

**ААЛО́ГІЯ** (ад *аа-* + *-логія*) — раздзел *арніталогіі*, які вывучае яйцы птушак.

**ААМІЦЭ́ТЫ** (ад *аа-* + *-міцэты*) — клас ніжэйшых грыбоў, для якога характэрна размнажэнне *ааспорамі* і *зааспорамі*; пашыраны ў Еўразіі, Афрыцы, Паўн. Амерыцы; *сапратрофы* і *паразіты*.

**ААРТЫ́Т** (ад *аорта*) — *мед.* запаленне аорты.

**ААСПО́РЫ** (ад *аа-* + *споры*) — аднаклетачныя споры, якія развіваюцца з апладненых яйцаклетак у некаторых водарасцяў і грыбоў.

**ААФАРЫ́Т** (ад гр. oophoron = яечнік) — *мед.* запаленне яечніка.

**ААЦЫСТЫ́ДЫУМ** (н.-лац. oocystidium, ад гр. oon = яйцо + kystis = пузыр) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. аацысцievых, якая трапляецца ў *планктоне* азёр і лужынах.

**ААЦЫ́СЦІС** (ад *аа-* + гр. kystis = пузыр) — аднаклетачная або каланіяльная зялёная водарасць сям. аацысцievых, якая трапляецца ў стаячых забруджаных водах.

**ААЦЫ́ТЫ** (ад *аа-* + *-цыты*) — жаночыя палавыя клеткі ў перыяд *аагенезу*.

**АБАЖУ́Р** (фр. abat-jour) — каўпак на лямпе для адлюстравання святла і для засцярогі вачэй ад яго яркасці.

**АБА́З** (перс. abbāsi) — дробная сярэбраная манета, распаўсюджаная даўней на Каўказе.

# А

**АБА́ЗІЯ** (н.-лац. abasia, ад гр. a- = не + basis = хада) — *мед.* страта здольнасці хадзіць у выніку захворвання нервовай сістэмы.

**АБА́К, АБА́КА** (гр. abaks, -akos = дошка) — 1) *архіт.* верхняя частка *капітэлі* калоны ў выглядзе гарызантальнай пліты; 2) лічыльная дошка ў старажытных грэкаў і рымлян.

**АБАКА́** (ісп. abacá, з тагал.) — манільскае канаплянае валакно, якое выкарыстоўваецца для вырабу карабельных канатаў.

**АБАЛІ́ЦЫЯ** (лац. abolitio = знішчэнне, скасаванне) — 1) скасаванне закону, рашэння; 2) *юр.* прыпыненне крымінальнай справы на стадыі, калі вінаватасць падследнага яшчэ не даказана.

**АБАЛІЦЫЯНІ́ЗМ** (англ. abolitionism, ад лац. abolitio = знішчэнне, скасаванне) — 1) грамадскі рух за адмену якога-н. закону; 2) рух за адмену рабства неграў у ЗША ў 18—19 ст.

**АБАЛІЦЫЯНІ́СТ** (англ. abolitionist, ад лац. abolitio = знішчэнне, скасаванне) — 1) прыхільнік адмены якога-н. закону; 2) удзельнік руху за адмену рабства неграў у ЗША ў 18—19 ст.

**АБАНДО́Н** (фр. abandon) — адмова судна- або грузаўладальніка ад сваіх правоў на застрахаваную маёмасць на карысць страхавой арганізацыі пры ўмове, калі апошняя выплаціць яму поўную страхавую суму.

**АБАНЕМЕ́НТ** (фр. abonnement) — 1) права на карыстанне пэўны час чым.-н. (напр. месцам у тэатры, басейнам), а таксама дакумент, які забяспечвае гэта права; 2) аддзел бібліятэкі, дзе кнігі выдаюцца на дом.

**АБАНЕ́НТ** (ням. Abonnent, ад фр. abonné) — 1) асоба, якая карыстаецца *абанементам*; 2) асоба або ўстанова, якія маюць тэлефон.

**АБАНІ́РАВАЦЬ** (фр. abonner) — атрымліваць што-н. па *абанеменце*.

**АБАРА́ЛЬНЫ** (ад лац. ab = ад, супраць + *аральны*) — *біял.* процілеглы роту, размешчаны ў частцы цела, процілеглай вобласці рота (параўн. *аральны*).

**АБАРДА́Ж** (фр. abordage) — даўнейшы спосаб марской бітвы — счэпліванне з варожым суднам для рукапашнага бою.

**АБАРТЫ́ЎНЫ** (лац. abortivus = неданошаны, раней часу народжаны) — 1) накіраваны на спыненне якога-н. працэсу (напр. хваробы); 2) *біял.* недаразвіты (напр. а-ыя органы раслін).

**АБАРЫГЕ́НЫ** (лац. aborigines, ад ab origine = ад пачатку) — 1) карэнныя жыхары якой-н. краіны, мясцовасці ў адрозненне ад пазнейшых перасяленцаў; 2) тое, што і *аўтахтоны* 1.

**АБА́Т** (лац. abbas, -atis, ад арам. abba = бацька) — 1) настаяцель каталіцкага мужчынскага манастыра; 2) каталіцкі святар у Францыі.

**АБАТЫ́СА** (лац. abbatissa) — настаяцельніца каталіцкага жаночага манастыра.

**АБА́ЦТВА** (ад *абат*) — каталіцкі манастыр з належнымі яму ўладаннямі, якім кіруе абат або *абатыса*.

# А

**АБВЕ́Р** (ням. Abwehr, ад Auslandsnachrichten- und Abwehramt) — орган ваеннай разведкі і контрразведкі Германіі ў 1919—1944 гг.

**АБДАМІНА́ЛЬНЫ** (н.-лац. abdominalis, ад лац. abdomen = жывот) — *анат.* брушны (напр. а-ае дыханне).

**АБДО́МЕН** (лац. abdomen = жывот) — брушка, задні аддзел цела некаторых членістаногіх, напр. ракападобных.

**АБУ́КТАР** (н.-лац. abductor, ад лац. abducere = адводзіць) — *анат.* адводная мышца (параўн. *аддуктар*).

**АБДУ́КЦЫЯ** (лац. abductio = адвод, адхіленне) — 1) *анат.* рух канечнасці ад сярэдняй лініі цела (параўн. *аддукцыя*); 2) *геал.* перанос акіянічнай кары і мантыі на ўскраіну кантынента, у выніку чаго ўтвараюцца *афіяліты.*

**АБДЫКАВА́ЦЬ** (лац. abdicare) — адрачыся ад прастолу, адмовіцца ад улады, пасады або сану.

**АБДЫКА́ЦЫЯ** (лац. abdicatio) — адрачэнне ад прастолу, адмаўленне ад улады, пасады або сану.

**АБ'Е́КТ** (лац. obiectum = прадмет) — 1) усё тое, што складае частку знешняга, матэрыяльнага свету; 2) факт, прадмет, з'ява, якія трэба вывучыць, разгледзець (напр. а. назірання); 3) прадпрыемства, будоўля, асобны ўчастак чаго-н. як месца чалавечай дзейнасці (напр. а.. будаўніцтва, ваенны а.); 4) *лінгв.* дапаўненне.

**АБ'ЕКТЫВА́ЦЫЯ** (ад с.-лац. obiectivus = які адносіцца да прадмета) — тое, што і *аб'ектывізацыя*.

**АБ'ЕКТЫВІЗА́ЦЫЯ** (ад с.-лац. obiectivus = які адносіцца да прадмета) — выражэнне чаго-н. у матэрыяльных формах, вобразах, даступных успрыманню.

**АБ'ЕКТЫВІ́ЗМ** (ад с.-лац. obiectivus = які адносіцца да прадмета) — 1) прынцып тлумачэння з'яў грамадскага жыцця, які абмяжоўваецца канстатаваннем пэўных фактаў, з'яў і падзей без аналізу іх прычын; 2) тое, што і *аб'ектыўнасць* 2.

**АБ'ЕКТЫ́Ў** (с.-лац. obiectivus = які адносіцца да прадмета) — частка аптычнага прыбора (напр. фотаапарата, тэлескопа), якая складаецца з адной ці некалькіх лінзаў.

**АБ'ЕКТЫ́ЎНАСЦЬ** (ад *аб'ектыўны*) — 1) існаванне *аб'екта* незалежна ад свядомасці; прыналежнасць да аб'ектыўнай рэальнасці; 2) адпаведнасць аб'ектыўнай рэчаіснасці, адсутнасць *суб'ектывізму* ў разважанні пра што-н.; бесстароннасць, непрадузятасць.

**АБ'ЕКТЫ́ЎНЫ** (с.-лац. obiectivus = які адносіцца да прадмета) — 1) незалежны ад чалавечай свядомасці (напр. а-ая рэальнасць); 2) праўдзівы, бесстаронні, непрадузяты (напр. а. вывад).

**АБЕЛІ́СК** (гр. obeliskos) — помнік у гонар якой-н. падзеі або на ўшанаванне чыёй-н. памяці ў выглядзе гранёнага слупа, пірамідальна завостранага ўверсе.

**АБЕЛІ́Т** (ад англ. F. Abel = прозвішча англ. хіміка 19 ст.) — выбуховая сумесь з амоніевай *салетры, дынітрабензолу* і кухоннай солі.

**АБЕРА́ЦЫЯ** (лац. aberratio = адхіленне) —1) *астр.* уяўнае адхіленне нябесных свяцілаў ад іх сапраўднага месцазнаходжання, якое выклікаецца рухам Зямлі вакол Сонца; 2) *фіз.* скажэнне або недастатковая выразнасць паказанняў аптычных прыбораў (напр. *сферычная* а., *храматычная* а.); 3) *біял.* адхіленне ад нормы ў будове арганізма або ў функцыі асобных органаў; 4) *перан.* памылка, адхіленне ад ісціны.

**АБЕРТО́Н** (ням. Oberton) — *муз.* дадатковы, больш высокі *тон*, які ўзнікае пры гучанні асноўнага тона і надае яму асаблівае адценне або тэмбр (параўн. *унтэртон*).

**АБЗА́Ц** (ням. Absatz) — 1) водступ управа (чырвоны радок) у пачатку *тэксту* або яго часткі; 2) адносна закончаная ў сэнсавых адносінах частка тэксту ад аднаго чырвонага радка да наступнага.

**АБЗЕ́ТЦЭР** (ням. Absetzer, ад absetzen = адсоўваць) — многакаўшовы *экскаватар* для выемкі і перамяшчэння пустых парод на адвалах кар'ераў.

**АБІСАЛІ́ТЫ** (ад гр. abyssos = бяздонны + *-літ*) — *геал.* глыбінныя горныя пароды.

**АБІСА́ЛЬ** (ад гр. abyssos = бяздонны) — зона найбольшых марскіх глыбінь (звыш 2000 м), дзе вада мае пастаянную тэмпературу, салёнасць і шчыльнасць.

**АБІСА́ЛЬНЫ** (ад *абісаль*) — глыбакаводны (напр. а-ая зона, а-ыя адклады).

**АБІСАПЕЛАГІЯ́ЛЬ** (ад гр. abyssos = бяздонны + *пелагіяль*) — самыя глыбокія, прыдонныя пласты тоўшчы вады, куды ніколі не пранікаюць сонечныя прамяні.

**АБІСАПЕЛІ́ТЫ** (ад гр. abyssos = бяздонны + pelos = гушча) — усе віды асадачных адкладаў, якія ўтвараюцца на глыбіні звыш 2000 м.

**АБІСАФІ́ЛЫ** (ад гр. abyssos = бяздонны + *-філ*) — марскія жывёлы, якія жывуць у зоне вялікіх глыбінь (звыш 2000 м).

**АБІТУРЫЕ́НТ** (с.-лац. abituriens, -ntis = гатовы пайсці, пакінуць) — той, хто паступае ў сярэднюю спецыяльную або ў вышэйшую навучальную ўстанову.

**АБІЦЫ́Н** (ад A, B, C, назваў літар лац. алфавіта) — лекавы прэпарат, які з'яўляецца сумессю *глюказідаў* A, B і C, што здабываюцца з лісця наперстаўкі шарсцістай; прымяняецца пры сардэчнай недастатковасці.

**АБІЯГЕНЕ́З** (ад *а-* + *біягенез*) — тэорыя ўзнікнення жыцця на Зямлі, паводле якой зародкі жывых істот утварыліся ў выніку ўскладнення рэчываў неарганічнай матэрыі (параўн. *біягенез* 2).

**АБІЯГЕ́ННЫ** (ад *а-* + *біягенны*) — *біял.* які ўзнік з неарганічнай матэрыі.

**АБІЯТЫ́ЧНЫ** (ад *а-* + *біятычны*) — неарганічны або пазбаўлены жыцця; а-ая зона — зона, у якой няма жывых арганізмаў; а-ыя фактары — сукупнасць умоў неарганічнага асяроддзя, якія ўплываюць на арганізм.

**АБІЯЦІ́Н** (ад лац. abies, -etis = елка) — вуглевадарод, які здабываецца са смалы хвойных дрэў і выкарыстоўваецца замест бензіну як растваральнік.

# А

**АБЛАКЦІ́РАВАЦЬ** (лац. ablactare = адымаць дзіця ад грудзей) — праводзіць *аблакціроўку*.

**АБЛАКЦІРО́ЎКА** (ад *аблакціраваць*) — спосаб прышчэплівання раслін (дрэў, кустоў) зрошчваннем галінак без аддзялення іх ад ствалоў.

**АБЛА́СТЫКА** (ад *а-* + гр. blastos = парастак, зародак) — сукупнасць прыёмаў, якія выкарыстоўваюцца ў час выдалення пухлін, каб перашкодзіць іх *рэцыдывам* і *імплантацыі* клетак у ране.

**АБЛІ́ГА** (іт. obligo, ад лац. obligo = абавязваю) — 1) сума запазычанасці па *вэксалях*; 2) банкаўскія кнігі асабістых рахункаў, у якіх улічваецца запазычанасць па вэксалях.

**АБЛІГА́ТА** (іт. obligato, ад лац. obligatus = абавязковы) — абавязковая для выканання партыя суправаджальнага інструмента ў музычным ансамблі.

**АБЛІГА́ТНЫ** (лац. obligatus) — абавязковы, які пастаянна трапляецца (напр. а-ыя паразіты).

**АБЛІГА́ЦЫЯ** (лац. obligatio = абавязацельства) — каштоўная папера, якая дае яе трымальніку даход у выглядзе працэнтаў ад яе намінальнай вартасці або выйгрышу.

**АБЛІ́КВА** (н.-лац. obliquus) — рыба сям. *харацынідаў* атрада карпавых, якая водзіцца ў рэках басейна Амазонкі; на Беларусі гадуецца ў акварыумах.

**АБЛІТЭРА́ЦЫЯ** (лац. obliteratio = згладжванне, забыццё) — 1) зарастанне поласці або прасвету якога-н. трубчастага органа ў чалавека і жывёл; 2) сплюшчванне раслінных клетак і тканак, напр. пры разрастанні сцябла ў таўшчыню.

**АБЛЯТЫ́Ў** [лац. (casus) ablativus] — *лінгв.* адкладальны склон у лацінскай і некаторых іншых мовах; у беларускай мове адпавядае творнаму склону.

**АБЛЯ́УТ** (ням. Ablaut) — *лінгв.* чаргаванне галосных кораня слова ў розных граматычных формах (напр. несці — насіць).

**АБЛЯ́ЦЫЯ** (п.-лац. ablatio = адыманне) — 1) змяншэнне масы ледніка або снежнага покрыва ў выніку раставання ці выпарэння; 2) вынас масы з паверхні цвёрдага цела патокам гарачых газаў, напр. пры руху на вялікай хуткасці ракет і касмічных апаратаў праз зямную атмасферу.

**АБО́Л** (гр. obolos) — 1) вагавая адзінка, а таксама дробная сярэбраная або медная манета ў Стараж. Грэцыі, роўная 1/6 *драхмы*; 2) дробная манета вартасцю 1/2 *дынара* ў заходнееўрапейскіх краінах перыяду феадалізму.

**АБО́РТ** (лац. abortus) — дачаснае самаадвольнае або наўмыснае спыненне цяжарнасці.

**А́БРА** (ісп. abra = створка) — тое, што і *сіндэсмія*.

**АБРАГА́ЦЫЯ** (лац. abrogatio) — скасаванне ўстарэлага закону.

**АБРАЗІ́ВЫ** (фр. abrasif, ад лац. abrasio = саскрабанне) — дробназярністыя ці парашкападобныя рэчывы вялікай цвёрдасці (*алмаз, карунд, наждак*), якія выкарыстоўваюцца пры механічнай апрацоўцы металаў, шкла і інш.

**АБРА́ЗІЯ** (лац. abrasio = саскрабанне) — 1) *геал.* разбурэнне хвалямі і прыбоем берагоў акіянаў, мораў, азёраў, вадасховішчаў; 2) *мед.* выскрэбванне (слізістай абалонкі маткі, лункі зуба і інш.).

**АБРАКАДА́БРА** (п.-лац. abracadabra) — 1) магічная формула, таямнічае слова, якому прыпісвалася цудадзейная сіла; 2) бяссэнсавы, незразумелы набор слоў.

**АБРУ́ПЦЫЯ** (лац. abruptio) — *муз.* раптоўнае прыпыненне мелодыі як сродак музычнай *экспрэсіі*.

**АБРЫЕ́ТА** (н.-лац. aubrieta) — травяністая расліна сям. крыжакветных з ліловымі або ружовымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў Малой Азіі, на Балканах; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**АБРЫКАЦІ́Н** (фр. abricotine) — абрыкосавы *лікёр*.

**АБРЫКО́С** (фр. abricot) — пладовае дрэва сям. ружавых, пашыранае ў Сярэд. Азіі, на Каўказе, а таксама сакаўны плод гэтага дрэва чырвона-жоўтага колеру; на Беларусі вырошчваецца аматарамі.

**АБРЫ́С** (ням. Abriss) — 1) лінія, якая ачэрчвае знешнюю форму прадмета; контур; 2) *геад.* чарцёж, зроблены ў палявых умовах ад рукі з абазначэннем дадзеных вымярэнняў, неабходных для складання дакладнага плана; 3) контур малюнка на празрыстым матэрыяле для пераносу на літаграфскі камень; 4) *перан.* агульная характарыстыка, беглы агляд чаго-н.

**АБРЭВІЯТУ́РА** (іт. abbreviatura, ад лац. abbreviare = скарачаць) — 1) складанаскарочанае слова, утворанае з пачатковых частак, пачатковых літар або гукаў некалькіх слоў; 2) знакі скарачэння ў нотным пісьме.

**АБРЭВІЯ́ЦЫЯ** (лац. abbreviatio = скарачэнне) — 1) утварэнне *абрэвіятур*; 2) скарачэнне індывідуальнага развіцця органаў або іх частак у жывёльных арганізмаў.

**АБРЭЖЭ́** (фр. abrégé, ад abréger = скарачаць) — выпіс з твора, скарочаны пераказ.

**АБРЭ́К** (асец. abreg) — *гіст.* горац, які ў перыяд далучэння Каўказа да Расіі прымаў удзел у барацьбе супраць царскіх войск і адміністрацыі.

**АБСАЛЮ́Т** (лац. absolutus = неабмежаваны; самастойны) — 1) тое, што ні ад чаго не залежыць; 2) вечная, нязменная першааснова свету (дух, бог, ідэя) у ідэалістычнай філасофіі і рэлігіі.

**АБСАЛЮ́ТНЫ** (лац. absolutus) — 1) безадносны, узяты без параўнання з чым-н. (напр. а. прырост насельніцтва); 2) неабмежаваны, поўны; а-ая большасць — амаль усе; а-ая велічыня — лік, узяты без знака плюс або мінус; а-ая ісціна — вычарпальнае веданне аб'ектыўнай рэальнасці; а. нуль — самая нізкая магчымая тэмпература (-273,16 °C); а. слых — здольнасць дакладна вызначаць на слых любую ноту; а. чэмпіён — спартсмен, які набраў найбольшую колькасць ачкоў у мнагабор'і.

**АБСАЛЮТЫЗАВА́ЦЬ** (ад лац. absolutus = неабмежаваны, безумоўны) — рабіць безумоўным,

безадносным, даводзіць да *абсалюту*.

**АБСАЛЮТЫЗА́ЦЫЯ** (ад лац. absolutus = неабмежаваны, безумоўны) — давядзенне да *абсалюту*.

**АБСАЛЮТЫ́ЗМ** (фр. absolutisme, ад лац. absolutus = поўны, неабмежаваны) — форма дзяржаўнага кіравання, пры якой вярхоўная ўлада поўнасцю належыць адной асобе; неабмежаваная манархія, самадзяржаўе.

**АБСАЛЮ́ЦЫЯ** (лац. absolutio = вызваленне) — 1) пастанова суда, якая вызваляе падсуднага ад пакарання; 2) адпушчэнне грахоў (у каталікаў).

**АБСА́НС** (фр. absence = адсутнасць) — раптоўны кароткачасовы несвядомы стан, які ўзнікае пры некаторых формах *эпілепсіі*.

**АБСАРБЕ́НТЫ** (лац. absorbens, -ntis = які паглынае) — рэчывы, здольныя да *абсорбцыі* 1.

**АБСАРБІ́РАВАЦЬ** (лац. absorbere) — *хім.* паглынаць, усмоктваць.

**АБСЕ́НТ** (фр. absinthe = палын) — спіртны напітак, горкая настойка на палыне.

**АБСЕНТЭІ́ЗМ** (ад лац. absens, -ntis = адсутны) — 1) ухіленне ад выканання грамадскіх абавязкаў, напр. ад удзелу ў выбарах, сходах; 2) форма землеўладання, пры якой землеўласнік, не маючы непасрэдных адносін да вытворчасці, атрымлівае даход у выглядзе *рэнты*.

**АБСЕРВАТО́РЫЯ** (н.-лац. observatorium, ад лац. observare = назіраць) — навуковая ўстанова, у якой з дапамогай спецыяльных прыбораў вядуцца астранамічныя, геафізічныя, метэаралагічныя назіранні.

**АБСЕРВА́ЦЫЯ** (лац. observatio) — 1) уважлівае нагляданне, сачэнне, агляд; 2) назіранне на працягу пэўнага тэрміну над ізаляванымі ў спецыяльным памяшканні здаровымі людзьмі, якія маглі мець кантакт з хворымі; 3) вызначэнне месцазнаходжання судна па берагавых прадметах або па нябесных свяцілах.

**АБСЕ́СІІ** (с.-лац. obsessio) — міжвольныя думкі, успаміны, сумненні, якія суправаджаюцца ўсведамленнем іх хваравітасці і цяжкім пачуццём неадольнасці.

**АБСІ́ДЫЯ** (н.-лац. absidia) — грыб сям. мукаравых, які расце на глебе, раслінных і жывёльных рэштках.

**АБСІДЫЯ́Н** [лац. obsidianus (lapis) = камень Абсідыя, ад Obsidius = імя рымляніна, які прывёз гэты камень з Эфіопіі] — шклопадобная вулканічная горная парода чырвонага, чорнага або шэрага колеру; выкарыстоўваецца ў будаўніцтве і ювелірнай справе.

**АБСКУРА́НТ** (лац. obscurans,-ntis = які зацямняе) — прыхільнік *абскурантызму*, рэакцыянер, цемрашал.

**АБСКУРАНТЫ́ЗМ** (ад лац. obscurans, -ntis = які зацямняе) — крайне рэакцыйныя, варожыя адносіны да асветы, навукі, прагрэсу, да ўсяго новага і перадавога; цемрашальства.

**АБСО́РБЕР** (лац. absorbere = паглынаць) — апарат для правядзення *абсорбцыі* 1.

**АБСО́РБЦЫЯ** (лац. absorptio = паглынанне) — 1) *хім.* паглынанне

газаў або рэчываў усёй масай *аб-сарбента* (параўн. *адсорбцыя*); 2) паглынанне святла, гуку або радыёхваляў пры праходжанні праз рэчыва; 3) усмоктванне рэчываў, у прыватнасці лекавых сродкаў.

**АБСТАЛЯВА́ЦЬ** (польск. obstalować, ад ням. bestellen) — 1) забяспечыць патрэбнымі інструментамі, прыладамі, механізмамі; 2) набыць абстаноўку, мэбляваць; 3) прыстасаваць для чаго-н., пад што-н.

**АБСТРАГАВА́ЦЬ** (лац. obstrahere = адцягваць) — адкідаць у думках неістотныя ўласцівасці, сувязі прадмета, з'явы і выдзяляць яго асноўныя, заканамерныя прыкметы.

**АБСТРА́КТНЫ** (ад лац. abstractio = адцягненне, аддаленне) — адцягнены, заснаваны на *абстракцыі*.

**АБСТРА́КЦЫЯ** (лац. abstractio = адцягненне, аддаленне) — 1) адцягненне ў думках ад неістотных уласцівасцей, якасцей, сувязяў прадметаў ці з'яў з мэтай выдзеліць іх найбольш істотныя прыкметы; 2) адцягненае паняцце, тэарэтычнае, навуковае абагульненне.

**АБСТРАКЦЫЯНІ́ЗМ** (ад *абстракцыя*) — плынь у выяўленчым мастацтве 20 ст., для якой характэрны поўны адыход ад прынцыпаў рэалістычнага адлюстравання рэчаіснасці.

**АБСТРАКЦЫЯНІ́СТ** (ад *абстракцыянізм*) — прадстаўнік абстракцыянізму.

**АБСТРУ́КЦЫЯ** (лац. obstructio = перашкода) — від пратэсту, метад барацьбы, дзеянні, учынкі асоб ці калектываў, накіраваныя на зрыў якога-н. мерапрыемства, прапановы; найбольш пашырана ў парламентах.

**АБСТРУКЦЫЯНІ́ЗМ** (ад *абструкцыя*) — сістэма палітычнай барацьбы шляхам абструкцый.

**АБСТРУКЦЫЯНІ́СТ** (ад *абструкцыянізм*) — прыхільнік ці непасрэдны ўдзельнік *абструкцыі*.

**АБСТЫНЕ́НТ** (лац. abstinens, -ntis = які ўстрымліваецца) — асоба, якая ўстрымліваецца ад чаго-н., пераважна ад ужывання спіртных напіткаў.

**АБСТЫНЕ́НЦЫЯ** (лац. abstinentia) — 1) поўнае ўстрыманне ад ужывання спіртных напіткаў; 2) палавое ўстрыманне.

**АБСТЭНЦЫЯНІ́СТЫ** (ад лац. abstentio = устрыманне) — прыхільнікі сектанцкай тактыкі *байкоту* парламенцкіх выбараў у краінах Зах. Еўропы.

**АБСУ́РД** (лац. absurdus = недарэчны) — недарэчнасць, бязглуздзіца.

**АБСЦЫ́СА** (лац. abscissa = адрэзаная, абсечаная) — *мат.* адна з трох *каардынат*, якія паказваюць месцазнаходжанне пункта ў прасторы.

**АБСЦЭ́С** (лац. abscessus) — *мед.* гнойны нарыў.

**АБТУРА́ТАР** (фр. obturateur, ад лац. obturare = закупорваць) — 1) прыстасаванне ў затворах гармат, якое не дапускае прарыву парахавых газаў пры выстрале; 2) затвор, які перыядычна перакрывае светлавы паток у кіназдымачных, кінапраекцыйных, фотаэлектронных і іншых апаратах.

**АБТУРА́ЦЫЯ** (фр. obturation, ад лац. obturare = закупорваць) — *ва-*

*ен.* герметызацыя канала ствала, якая не дапускае прарыву парахавых газаў пры выстрале з агнястрэльнай зброі.

**АБУЛІ́ЧНЫ** (ад *абулія*) — *псіх.* бязвольны.

**АБУЛІ́Я** (гр. abulia = нерашучасць) — *псіх.* расслабленне ці страта волі, выкліканая хваробай; бязволле.

**АБУТЫЛО́Н** (н.-лац. abutilon, ад ар. aubutylun) — кустовая або травяністая расліна сям. мальвавых з буйным лісцем і адзіночнымі кветкамі аранжавага, чырвонага, жоўтага, белага колераў, пашыраная ў тропіках і субтропіках; дае грубае валакно; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная; канатнік.

**АБЦА́С** (польск. obcas, ад ням. Absatz) — цвёрдая набойка на падэшве абутку пад пятой.

**А́БЦУГ** (ням. Abzug) — шлак, які ўтвараецца пры выплаўцы з *веркблею* золата, серабра і волава.

**АБЦУГІ́** (польск. obcęgi, ад ням. Zange) — 1) прылада для захоплівання і заціскання кавалкаў металу, выцягвання цвікоў; 2) *перан.* тое, што скоўвае, заціскае развіццё чаго-н.

**АБША́Р** (польск. obszar, ад ням. obirschar = вымераны ўчастак зямлі) — 1) неабсяжная прастора, разлегласць; 2) участак вялікіх памераў.

**АБШЛА́Г** (ням. Abschlag) — адварот на канцы рукава; наогул ніжняя частка рукава.

**АБШТРЫ́Х** (ням. Abstrich) — шлак, які ўтвараецца пры ачыстцы свінцу ад прымесей мыш'яку і сурмы.

**АБЭВІ́ЛЬ** (фр. Abbeville = назва горада ў Францыі) — археалагічная культура ранняга *палеаліту* ў Еўропе, пачатковы этап эпохі *ашэль.*

**АБЭ́РАК** (польск. oberek) — польскі народны танец, які выконваецца ў хуткім тэмпе.

**АБЭ́РЖА** (польск. oberża, ад фр. auberge) — прасторная хата, вялікі будынак.

**АБ'ЮРА́ЦЫЯ** (лац. abiuratio) — публічнае адрачэнне ад веры або ад сваіх перакананняў.

**АВАГЕНЕ́З** (ад лац. ovum =яйцо + *-генез*) — тое, што і *аагенез*.

**АВАКА́ДА** (парт. abacate, з індз.) — пладовае дрэва сям. лаўровых; культывуецца ў тропіках і субтропіках; на Беларусі вырошчваецца ў аранжарэях.

**АВА́Л** (фр. ovale, ад лац. ovum = яйцо) — выпуклая замкнутая крывая лінія без вуглавых пунктаў, падобная да лініі падоўжанага разрэзу яйца.

**АВАЛІ́СТ** (ад *аваль*) — асоба, якая дала вэксальнае паручыцельства, г.зн. зрабіла аваль.

**АВА́ЛЬ** (фр. aval) — вэксальнае паручыцельства, зробленае трэцяй асобай у выглядзе асобнага гарантыйнага запісу.

**АВА́ЛЬНЫ** (ад *авал*) — які мае форму авала.

**АВАМЕ́ТР** [ад *а(мпер)* + *ва(льт)* *-метр*] — тое, што і *ампервольтомметр*.

**АВАНБЕ́К** (фр. avant-bec, ад avant = наперадзе + bec = выступ) — перасоўнае металічнае мацаванне замкнёнай цыліндрычнай або авальнай формы; выка-

рыстоўваецца пры шахтавых работах у нястойкіх пародах і пад рэчышчамі.

**АВАНГА́РД** (фр. avant-garde, ад avant = наперадзе + garde ахова) — 1) частка войска, якая знаходзіцца ўперадзе галоўных сіл у паходзе і пры наступленні; 2) *перан.* перадавая частка класа, грамадства.

**АВАНГА́РДНЫ** (ад *авангард*) — які адносіцца да авангарда, знаходзіцца ўперадзе іншых, перадавы.

**АВАНГАРДЫ́ЗМ** (фр. avant-gardisme) — абагульненая назва мастацкіх кірункаў, якім уласцівы разрыў з традыцыяй рэалістычнага мастацкага вобраза, пошукі новых сродкаў выяўлення і фармальнай структуры твора; у сваіх крайніх формах змыкаецца з *дэкадэнцтвам*, *мадэрнізмам*, абстрактным мастацтвам.

**АВАНГАРДЫ́СТ** (ад *авангардызм*) — прыхільнік авангардызму.

**АВАНЗА́ЛА** (ад фр. avant = перад + *зала*) — пярэдняя зала, пакой перад галоўнай залай у грамадскіх будынках.

**АВАНКА́МЕРА** (ад фр. avant = перад + *камера*) — 1) прыбудова ў пярэдняй частцы водазаборнай пляціны, а таксама водны ўчастак непасрэдна перад машыннай залай электрастанцыі; 2) тое, што і *фаркамера*.

**АВАНЛО́ЖА** (ад фр. avant = перад + *ложа*) — *тэатр.* невялікае памяшканне перад уваходам у ложу.

**АВАНПО́РТ** (фр. avant-port, ад avant = перад + port = порт) — вонкавая частка воднай прасторы *порта* або гавані, зручная для стаянкі суднаў на якары, пагрузкі і разгрузкі іх.

**АВАНПО́СТ** (фр. avant-poste, ад avant = перад + poste пост) — вартавы *пост*, які выстаўляецца наперадзе войск, калі яны знаходзяцца недалёка ад праціўніка.

**АВА́НС** (фр. avance) — грашовая сума, якая выдаецца папярэдне ў лік заработнай платы, за выкананыя работы і зробленыя паслугі.

**АВАНСАВА́ЦЬ** (фр. avancer) — даваць *аванс*.

**АВАНСЦЭ́НА** (фр. avantscena) — *тэатр.* пярэдняя частка *сцэны* (ад заслоны да *рампы*).

**АВАНТА́Ж** (фр. avantage = перавага) — *уст.* выгада, карысць, спрыяльнае становішча.

**АВАНТА́ЖНЫ** (ад фр. avantage = перавага) — *уст.* які стварае прыемнае ўражанне знешнасцю, прывабны.

**АВАНТУ́РА** (фр. aventure = прыгода) — рызыкоўная падазроная справа, распачатая без уліку рэальных умоў і магчымасцей з надзеяй на выпадковы поспех.

**АВАНТУРЫ́ЗМ** (ад фр. aventure = прыгода) — дзейнасць, заснаваная на рызыкоўных падазроных учынках, з мэтай дасягнуць лёгкага поспеху, выгады; схільнасць да *авантур*.

**АВАНТУРЫ́Н** (фр. aventurine) — 1) разнавіднасць дробназярністага *кварцу* пераважна бура-чырвонага колеру; выкарыстоўваецца для мастацкіх і ювелірных вырабаў; 2) гатунак шкла.

**АВАНТУРЫ́СТ** (ад фр. aventure = прыгода) — чалавек, схільны да

*авантур*, беспрынцыповы дзялок, прайдзісвет.

**АВАНТЫ́ТУЛ** (ад фр. avant = перад + *тытул*) — першая старонка кнігі, якая папярэднічае тытулу.

**АВА́РЫЯ** (іт. avaria, ад ар. 'avar = пашкоджанне, шкода) — 1) моцнае пашкоджанне якога-н. механізма або машыны ў час работы, руху; 2) *перан.* няўдача, няшчасны выпадак.

**АВАРЫЯ́ЛЬНЫ** (ад лац. ovarium = яечнік) — які адносіцца да яечніка.

**АВАСКО́П** (ад лац. ovum = яйцо + *-скоп*) — прыбор для вызначэння свежасці яец прасвечваннем.

**АВА́ЦЫЯ** (лац. ovatio = радасць, весялосць) — бурныя, працяглыя *апладысменты*, якія суправаджаюцца радаснымі воклічамі, з выпадку адабрэння чаго-н. або прывітання каго-н.

**АВЕНЮ́** (фр. avenue) — шырокая вуліца, абсаджаная з абодвух бакоў дрэвамі (у Францыі, Англіі, ЗША).

**АВЕРАІ́ЗМ** (ад лац. Averroes = лацінская форма імя арабскага мысліцеля Ібн-Рушда) — кірунак у заходнееўрапейскай філасофіі 13—16 ст., які развіваў погляды арабскага мысліцеля 12 ст. Ібн-Рушда; натуралістычная і матэрыялістычная трактоўка вучэння Арыстоцеля.

**АВЕРА́РМ** (англ. over-arm = рука зверху) — спосаб плавання на баку.

**АВЕРДРА́ФТ** (англ. overdraft) — форма кароткатэрміновага крэдытавання, якая практыкуецца банкамі.

**АВЕРЛО́К** (англ. overlock) — краеабкідальная швейная машына пяцельнага шыўка, дзе адна з пятляў агінае край зрэзу дэталі; выкарыстоўваецца пры пашыве вырабаў з трыкатажнага палатна.

**АВЕ́РС** (фр. avers, ад лац. adversus = павернуты тварам) — правы (галоўны) бок манеты, медаля, банкноты.

**АВЕ́РСІЯ** (лац. aversio = агіда) — адна з цяжкіх формаў сексуальнай *дысфункцыі*; стан, процілеглы *лібіда*.

**АВЕРСО́ЛД** (англ. oversold) — сітуацыя рэзкага зніжэння цэн на які-н. тавар у выніку паступлення яго ў вялікай колькасці на рынак.

**АВЕРШО́Т** (англ. overshot) — інструмент для захоплівання бурыльных труб, што засталіся ў свідравіне.

**АВЕРШТА́Г** (гал. overstag) — паварот паруснага судна, калі яно пераходзіць на другі *галс* супраць ветру.

**АВЕ́СТА** (ад перс. apastak = асноўны тэкст) — зборнік свяшчэнных кніг *зараастрызму*.

**АВІА́ЛЬ** [ад *аві(я)-* + *ал(юміній)*] — сплаў алюмінію пераважна з *магніем, крэмніем* і меддзю, які вызначаецца высокай пластычнасцю, антыкаразійнай трываласцю.

**АВІ́ДНАСЦЬ** (ад лац. avidus = прагны) — уласцівасць *антыгенаў* і антыцелаў, якая вызначае трываласць звязвання *камплементарных* участкаў іх малекул.

**АВІЕ́ТКА** (фр. aviette) — *уст.* самалёт малой магутнасці, звычайна 1—2-месны.

**АВІ́ЗА**[1] (іт. avviso) — 1) паведамленне (пісьмо) атрымальніку аб адгрузцы яму прадукцыі, пераводзе грашовых сродкаў ці аб зменах ва ўзаемных разліках паміж *контрагентамі*; 2) *фін.* афіцыйнае паведамленне банка кліенту або іншаму банку аб выкананні разліковых аперацый.

**АВІ́ЗА**[2] (ісп. aviso) — невялікі быстраходны ваенны карабель для разведвальнай і пасыльнай службы.

**АВІЗАВА́ЦЬ** (іт. avvisare) — *фін.* паведамляць кліенту аб правядзенні банкаўскай аперацыі на яго рахунку.

**АВІ́ЗМ** (ад лац. ovum = яйцо) — кірунак у біялогіі 17—18 ст., прадстаўнікі якога лічылі, што ў жаночай палавой клетцы змяшчаецца ў мініяцюры сфарміраваны арганізм, а яго развіццё зводзіцца толькі да павелічэння ў памерах (параўн. *анімалькулізм*).

**АВІ́СТА** (іт. a vista = пасля прад'яўлення) — надпіс на *вэксалі*, які сведчыць, што гэты дакумент можа быць аплачаны пасля прад'яўлення або праз пэўны тэрмін.

**АВІ́СТЫ** (ад лац. ovum = яйцо) — прыхільнікі *авізму* (параўн. *анімалькулісты*).

**АВІТАМІНО́З** (ад *а-* + *вітаміны*) — хвароба, якая развіваецца пры адсутнасці або недахопе вітамінаў у ежы.

**АВІТЭЛІНО́З** (ням. Avitellinos, ад гр. а- = не + лац. vitalis = жыццёвы) — хвароба авечак і коз, якая выклікаецца стужачнымі чарвямі, што паразітуюць у кішэчніку (параўн. *гіпавітаміноз, гіпервітаміноз*).

**АВІФА́ЎНА** (ад лац. avis = птушка + *фауна*) — тое, што і *арнітафауна*.

**АВІЦЫ́ДЫ** (ад лац. ovum = яйцо + *-цыды*) — хімічныя рэчывы, якія згубна дзейнічаюць на яйцы насякомых і кляшчоў.

**АВІЯ-** (ад лац. avis = птушка) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «авіяцыйны».

**АВІЯБА́ЗА** (ад *авія-* + *база*) — *аэрадром* са складамі, майстэрнямі і абслуговымі падраздзяленнямі, якія забяспечваюць дзеянні авіяцыі.

**АВІЯБІЛЕ́Т** (ад *авія-* + *білет*) — дакумент, які дае права праезду на пасажырскім самалёце.

**АВІЯБО́МБА** (ад *авія-* + *бомба*) — снарад абцякаемай формы, які скідваецца з самалёта або іншага лятальнага апарата для паражэння наземных, марскіх і паветраных цэляў.

**АВІЯБРЫГА́ДА** (ад *авія-* + *брыгада*) — злучэнне з некалькіх *эскадрылляў* ваенных самалётаў.

**АВІЯГАРЫЗО́НТ** (ад *авія-* + *гарызонт*) — гараскапічны прыбор для вызначэння становішча самалёта ў прасторы адносна гарызонта.

**АВІЯДЭСА́НТ** (ад *авія-* + *дэсант*) — войска, перакінутае паветраным транспартам у тыл праціўніка для ўдзелу ў баявых аперацыях.

**АВІЯКАМПА́НІЯ** (ад *авія-* + *кампанія*) — авіятранспартнае прадпрыемства, якое ажыццяўляе

міжнародныя і ўнутраныя паветраныя зносіны.

**АВІЯКАНСТРУ́КТАР** (ад *авія-* + *канструктар*) — канструктар лятальных апаратаў і рухавікоў да іх.

**АВІЯКЛУ́Б** (ад *авія-* + *клуб*) — спартыўны клуб, які аб'ядноўвае аматараў авіяцыйнага спорту.

**АВІЯКО́МПАС** (ад *авія-* + *компас*) — аэранавігацыйная прылада, якая паказвае курс лятальнага апарата адносна магнітнага і геаграфічнага мерыдыянаў, зададзенага напрамку ці напрамку на радыёмаяк.

**АВІЯЛІ́НІЯ** (ад *авія-* + *лінія*) — пастаянны *маршрут* транспартных самалётаў паміж двума або некалькімі населенымі пунктамі.

**АВІЯМАДЭЛІ́ЗМ** (ад *авія-* + *мадэлізм*) — канструяванне, пабудова і запуск *мадэляў* лятальных апаратаў.

**АВІЯМАТО́Р** (ад *авія-* + *матор*) — рухавік лятальнага апарата.

**АВІЯМЕТЭАСТА́НЦЫЯ** (ад *авія-* + *метэастанцыя*) — метэастанцыя, прызначаная для абслугоўвання ваеннай і грамадзянскай авіяцыі (параўн. *гідраметэастанцыя*).

**АВІЯМЕХА́НІК** (ад *авія-* + *механік*) — спецыяліст, які назірае за работай лятальных апаратаў і правільным іх выкарыстаннем.

**АВІЯПА́РК** (ад *авія-* + *парк*) — сукупнасць лятальных апаратаў на *аэрадроме*.

**АВІЯПАСАЖЫ́Р** (ад *авія-* + *пасажыр*) — асоба, якая робіць паездку на самалёце.

**АВІЯПО́ШТА** (ад *авія-* + *пошта*) — перавозка паштовых адпраўленняў паветраным шляхам, а таксама самі гэтыя адпраўленні, калі іх дастаўляюць самалётам.

**АВІЯСЕКСТА́НТ** (ад *авія-* + *секстант*) — секстант, які прымяняецца ў *авіяцыі*.

**АВІЯ́ТАР** (фр. aviateur) — той, хто займаецца лётнай справай, лётчык.

**АВІЯТРА́НСПАРТ** (ад *авія-* + *транспарт*) — 1) сродкі перавозу паветраным шляхам пасажыраў, грузаў, пошты; 2) ваенны карабель для перавозкі самалётаў.

**АВІЯТРА́СА** (ад *авія-* + *траса*) — паласа зямной паверхні, над якой праходзіць *авіялінія*.

**АВІЯТЭ́ХНІКА** (ад *авія-* + *тэхніка*) — галіна тэхнікі, звязаная з выкарыстаннем лятальных апаратаў, іх рухавікоў і аснашчэння.

**АВІЯЦЫ́ДЫ** (ад лац. avis = птушка + *-цыды*) — хімічныя рэчывы (*заацыды*) для барацьбы са шкоднымі птушкамі.

**АВІЯ́ЦЫЯ** (фр. aviation, ад лац. avis = птушка) — 1) тэорыя і практыка лятання на апаратах, цяжэйшых за паветра (самалётах, верталётах, планёрах); 2) сукупнасць ваенных або грамадзянскіх лятальных апаратаў (самалётаў, верталётаў і інш.) якой-н. дзяржавы; паветраны флот.

**АВІЯЭСКАДРЫ́ЛЛЯ** (ад *авія-* + *эскадрылля*) — падраздзяленне ў *авіяцыі*, якое складаецца з некалькіх звёнаў самалётаў.

**АВО́ІД** (ад лац. ovum = яйцо + *-оід*) — *геал.* плоская крывая яйца-

падобнага разрэзу з адной воссю *сіметрыі*.

**АВУА́РЫ** (фр. avoir = маё-масць) — 1) грашовыя сродкі, *чэкі, вэксалі, акрэдытывы*, якімі праводзяць плацяжы; 2) сродкі банка ў замежнай *валюце* на яго рахунках у замежных банках; 3) уклады прыватных асоб і арганізацый у банках.

**АВУЛЯ́РЫЯ** (н.-лац. ovularia) — недасканалы грыб сям. маніліевых, які паразітуе на лісці раслін сям. ружавых, злакавых, казяльцовых і інш.

**АВУЛЯ́ЦЫЯ** (н.-лац. ovulatio) — выхад даспелай жаночай палавой клеткі з яечніка.

**АВУНКУЛА́Т** (ад лац. avunculus = дзядзька па мацеры) — звычай у некаторых народаў (напр. у старажытных германцаў, грэкаў, сучасных народаў Афрыкі і Акіяніі), які абавязвае дзядзьку з боку маці клапаціцца пра пляменніка больш, чым пра свайго сына.

**А́ГА** (індз. aga) — жывёла сям. рапух класа земнаводных, пашыраная ў Паўд. і Цэнтр. Амерыцы; разводзяць для знішчэння шкоднікаў на плантацыях цукровага трыснягу.

**АГА́** (тур. aga) — 1) вайсковы тытул у Асманскай імперыі; 2) ветлівы зварот у сучаснай Турцыі.

**АГА́ВА** (н.-лац. agave, ад гр. agauos = варты здзіўлення) — дрэвападобная расліна сям. агававых з шорсткім буйным лісцем, пашыраная пераважна ў Цэнтр. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**АГАЛЬМАТАЛІ́Т** (ад гр. agalma, -atos = аздоба + *-літ*) — дробназярністая горная парода белага, шэрага, бура-жоўтага або зялёнага колеру, якая складаецца з *пірафіліту* з рознымі прымесямі; выкарыстоўваецца ў дэкаратыўным мастацтве.

**АГАМАГО́НІЯ** (ад гр. agamos = бясшлюбны + *-гонія*) — бясполае размнажэнне арганізмаў шляхам дзялення або пачкавання.

**АГАМІ́ЧНЫ** (ст.-ірл. ogam); а - а е п і с ь м о — літарнае пісьмо, якое выкарыстоўвалася кельтамі на Брытанскіх астравах пачынаючы з 4 ст.

**АГАМІ́Я** (гр. agamia) — 1) бясшлюбнасць; 2) *біял.* адсутнасць полу.

**АГА́МНЫ** (гр. agamos = бясшлюбны) — які размнажаецца без апладнення (аб ніжэйшых раслінах і жывёлах).

**АГА́МЫ** (лац. agamidae) — сямейства яшчарак, якое ў сусветнай *фауне* налічвае каля 300 відаў; вядуць наземны, скальны або надрэўны спосаб жыцця, многія здольныя змяняць афарбоўку цела.

**АГАНІЗАВА́ЦЬ** (фр. agoniser, ад с.-лац. agonia < гр. agonia = трывога) — быць у стане *агоніі*, канаць.

**АГАНІ́СТЫКІ** (гр. agonistikos = здольны да барацьбы) — дэмакратычная хрысціянская *секта* ў рымскай Афрыцы ў 4—5 ст., левае крыло *данатыстаў*.

**АГАНІ́ЧНЫ** (ад *а-* + гр. gonia = вугал); а - а я л і н і я — лінія на геаграфічнай карце, якая злучае пункты з магнітным схіленнем, роўным нулю.

# А

**АГАПА́НТУС** (н.-лац. agapanthus) — травяністая расліна сям. лілейных з блакітнымі кветкамі ў парасоніках, пашыраная ў Паўд. Афрыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**АГА́Р** (малайск. agar) — сумесь *поліцукрыдаў*, якая атрымліваецца з марскіх водарасцяў; выкарыстоўваецца ў кандытарскай прамысловасці і як харчавальнае асяроддзе для вырошчвання *бактэрый*.

**АГАРАФО́БІЯ** (ад гр. agora = плошча + *-фобія*) — паталагічны страх перад прастораю.

**АГАСФЕ́Р** (п.-лац. Ahasverus = імя легендарнага сярэдневяковага персанажа — «вечнага жыда», які не дазволіў адпачыць Ісусу Хрысту ў час яго пакутніцкага шляху на Галгофу і за гэта быў асуджаны на вечнае блуканне па свеце) — *перан.* чалавек, які вандруе ўсё жыццё, не знаходзячы сабе прыстанку.

**АГА́Т** (гр. achates) — разнавіднасць *халцэдону* са слаістым размеркаваннем афарбоўкі; выкарыстоўваецца ў ювелірнай справе.

**АГА́ЦІС** (н.-лац. agathis, ад гр. agathis = клубок нітак) — вечназялёнае хвойнае дрэва сям. араўкарыевых, пашыранае пераважна ў Новай Зеландыі, Усх. Аўстраліі і Паўд.-Усх. Азіі.

**АГЕЛЕ́НА** (н.-лац. agelena) — павук сям. лейкавых, які жыве на паверхні глебы, на лугах.

**АГЕНЕ́ЗІЯ** (ад *а-* + гр. genesis = паходжанне) — тое, што і *аплазія*.

**АГЕ́НТ** (лац. agens, -ntis = які дзейнічае) — 1) асоба, упаўнаважаная арганізацыяй, установай, прадпрыемствам для выканання службовых даручэнняў, асобых заданняў (напр. страхавы а.); 2) чыйн. стаўленік, прыслужнік; 3) супрацоўнік вышукной або разведвальнай службы; 4) прычына, якая выклікае тыя або іншыя з'явы ў прыродзе.

**АГЕНТУ́РА** (ням. Agentur, ад лац. agens, -ntis = які дзейнічае) — 1) сукупнасць *агентаў* якой-н. установы, прадпрыемства або арганізацыі; 2) сетка агентаў, якая ствараецца разведвальнай службай для збірання сакрэтных звестак і правядзення падрыўной работы.

**АГЕ́НЦТВА** (ад *агент*) — 1) прадстаўніцтва, аддзяленне якойн. установы ці прадпрыемства; 2) установа інфармацыйнага, пасрэдніцкага характару.

**АГЕРА́ТУМ** (н.-лац. ageratum) — травяністая расліна сям. складанакветных з лілова-сінімі, ружовымі або белымі кветкамі, пашыраная ў трапічнай Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная; даўгацвет.

**АГЕЎЗІ́Я** (ад *а-* + гр. geusis = смак) — страта смакавых адчуванняў.

**АГІТАВА́ЦЬ** (лац. agitare = узбуджаць) — 1) займацца *агітацыяй*, прапагандаваць што-н.; 2) пераконваць у чым-н., схіляць да пэўнай дзейнасці, угаворваць.

**АГІТА́ТАР** (лац. agitator = які прыводзіць у рух) — асоба, якая займаецца *агітацыяй*.

**АГІТА́ЦЫЯ** (лац. agitatio = узрушэнне) — 1) палітычная дзейнасць, звязаная з уздзеяннем на свядомасць і настрой мас шляхам распаўсюджання (вусна і праз друк) праграмных ідэй, лозунгаў;

2) *перан.* пераконванне ў чым-н., угаворванне з мэтай схіліць да чаго-н.

**АГІЯГРА́ФІЯ** (гр. hagiographia) — жанр царкоўна-рэлігійнай літаратуры, апавяданні пра жыццё святых.

**АГЛАМЕРА́Т** (лац. agglomeratus = назапашаны) — 1) рыхлае скапленне розных горных парод і мінералаў; 2) *мет.* спечаная ў кавалкі дробная або пылападобная руда.

**АГЛАМЕРА́ЦЫЯ** (ад лац. agglomerare = запасіць) — 1) *мет.* атрыманне вялікіх кавалкаў з рыхлых дробных руд, пылападобных матэрыялаў шляхам спякання; 2) утварэнне скапленняў мікраарганізмаў у вадкасці; 3) зліццё гарадоў і іншых населеных пунктаў у адно гарадское пасяленне.

**АГЛАПАРЫ́Т** [ад лац. agglo (meratus) = накоплены + гр. poros = выхад, пора] — будаўнічы матэрыял порыстай структуры.

**АГЛЮЦІНАГЕ́НЫ** [ад *аглюцін(ацыя)* + *-ген*] — рэчывы, якія патрэбны для ўтварэння *аглюцінінаў*.

**АГЛЮЦІНАТЫ́ЎНЫ** (ад *аглюцінацыя*) — звязаны з аглюцінацыяй; а-ы я  м о в ы — мовы, у якіх граматычныя формы і вытворныя словы ўтвараюцца спосабам аглюцінацыі.

**АГЛЮЦІНА́ЦЫЯ** (лац. agglutinatio = склейванне) — 1) *лінгв.* спосаб утварэння вытворных слоў і граматычных форм шляхам далучэння да кораня афіксаў з пэўным значэннем; 2) *мед.* склейванне ў камякі і выпадзенне ў асадак *мікробаў, эрытрацытаў* і іншых клетачных элементаў.

**АГЛЮЦІНІ́НЫ** (лац. agglutinare = склейваць) — рэчывы, якія ўтвараюцца ў крыві чалавека і жывёл пры інфекцыйных захворваннях і выклікаюць *аглюцінацыю*.

**АГМАТЫ́Т** (ад гр. agma, -atos = адломак) — разнавіднасць *мігматыту*, падобная на *брэкчыю*.

**АГНАСТЫЦЫ́ЗМ** (фр. agnosticisme, ад гр. agnostos = невядомы) — філасофскае вучэнне, якое адмаўляе магчымасць пазнання навакольнага свету і яго заканамернасцей (параўн. *скептыцызм* 1).

**АГНА́ТЫ**[1] (лац. agnatus = сваяк па бацьку) — 1) члены старажытнарымскай сям'і, якія паходзілі па мужчынскай лініі ад аднаго родапачынальніка, а таксама тыя, якія ўваходзілі ў сям'ю пры ўсынаўленні або шлюбе (параўн. *кагнаты*); 2) кроўныя сваякі-мужчыны германскай сям'і, звязаныя паходжаннем па мужчынскай лініі.

**АГНА́ТЫ**[2] (н.-лац. agnatha, ад гр. a- = не + gnathos = сківіца) — надклас ніжэйшых пазваночных жывёл; прымітыўныя рыбападобныя марскія і прэснаводныя арганізмы без сківіц і парных канечнасцей; бяссківічныя.

**АГНО́ЗІЯ** (гр. agnosia = няведанне) — парушэнне працэсаў распазнавання прадметаў, з'яў у выніку паражэння кары галаўнога мозга.

**АГНО́СТЫК** (ад гр. agnostos = невядомы) — прыхільнік *агнастыцызму*.

**АГО́ГІКА** (ад гр. agoge = адвод, вынас) — адхіленне і змены ў *тэмпе* выканання музычнага твора

для ўзмацнення мастацкай выразнасці.

**АГО́Н** (гр. agon) — спаборніцтва, у тым ліку і музычнае (у спевах, ігры на *кіфары*), якое арганізоўвалася ў час урачыстых гульняў у Стараж. Грэцыі.

**АГО́НІЯ** (с.-лац. agonia, ад гр. agonia = трывога) — 1) перадсмяротныя пакуты, кананне; 2) *перан.* занятад, дажыванне чаго-н.

**АГО́РА** (гр. agora) — гандлёвы пляц і месца народных сходаў у старажытнагрэчаскіх гарадах.

**АГРА-** (гр. agros = поле) — першая састаўная частка складанаскарочаных слоў, якая адпавядае паняццю «аграномічны».

**АГРАБА́ЗА** (ад *агра-* + *база*) — апорны пункт для забеспячэння і абслугоўвання аграномічных патрэб.

**АГРАБІЯГЕАЦЭНО́З** (ад *агра-* + *біягеацэноз*) — няўстойлівая *экасістэма* з натуральным або штучна створаным біятычным згуртаваннем, што дае сельскагаспадарчую прадукцыю (напр., поле, сеяны луг, сажалка).

**АГРАБІЯЛО́ГІЯ** (ад *агра-* + *біялогія*) — навука аб агульных біялагічных заканамернасцях, якія дзейнічаюць у земляробстве.

**АГРАБІЯЦЭНО́З** (ад *агра-* + *біяцэноз*) — згуртаванне раслін, жывёл і мікраарганізмаў, створанае ў выніку дзейнасці чалавека ў пасевах і пасадках культурных раслін.

**АГРАВА́ЦЫЯ** (лац. aggravatio = абцяжарванне) — перабольшванне хворым сімптомаў захворвання.

**АГРАКАМБІНА́Т** (ад *агра-* + *камбінат*) — прадпрыемства па зборы і апрацоўцы сельскагаспадарчай прадукцыі.

**АГРАКЛІМАТАЛО́ГІЯ** (ад *агра-* + *кліматалогія*) — раздзел кліматалогіі, які вывучае *клімат* як фактар сельскагаспадарчай вытворчасці.

**АГРАКУЛЬТУ́РА** (ад *агра-* + *культура*) — сістэма мерапрыемстваў, накіраваных на павышэнне культуры земляробства.

**АГРАЛАНДША́ФТ** (ад *агра-* + *ландшафт*) — антрапагенны ландшафт, на большай частцы тэрыторыі якога прыродная расліннасць заменена *аграбіяцэнозамі.*

**АГРАМА́НТ** (фр. agrément = аздоба) — аздабленне штор, мяккай мэблі, зробленае з плеценага шнура.

**АГРАМАТЫ́ЗМ** (ад гр. agrammatos = неразборлівы) — парушэнне моўнай дзейнасці ў выніку паражэння пэўных зон кары галаўнога мозгу.

**АГРАМЕЛІЯРА́ЦЫЯ** (ад *агра-* + *меліярацыя*) — сістэма асушальных або арашальных мерапрыемстваў, накіраваных на павышэнне ўрадлівасці глебы.

**АГРАМЕТЭАРАЛО́ГІЯ** (ад *агра-* + *метэаралогія*) — раздзел метэаралогіі, які вывучае атмасферныя ўмовы, што маюць значэнне для сельскагаспадарчай вытворчасці.

**АГРАМІ́НІМУМ** (ад *агра-* + *мінімум*) — мінімум аграномічных ведаў, неабходных для работы ў сельскай гаспадарцы.

**АГРАНО́М** (гр. agronomos) — спецыяліст у галіне *аграноміі.*

**АГРАНО́МІЯ** (гр. agronomia) — навука пра земляробства.

**АГРАНУЛАЦЫТО́З** (ад *а-* + *гранула* + *-цытоз*) — хвароба, пры якой значна змяншаецца колькасць або поўнасцю адсутнічаюць *агранулацыты*.

**АГРАНУЛАЦЫ́ТЫ** (ад *а-* + *гранулацыты*) — *лейкацыты* (*лімфацыты* і *манацыты*), якія не змяшчаюць у *цытаплазме* бялковых гранул (параўн. *гранулацыты*).

**АГРАПРАПАГА́НДА** (ад *агра-* + *прапаганда*) — прапаганда сельскагаспадарчых ведаў.

**АГРА́РНЫ** (лац. agrarius) — 1) звязаны з уладаннем зямлёй і землекарыстаннем (напр. а-ая рэформа); 2) які характарызуецца перавагай сельскагаспадарчай вытворчасці (напр. а. раён).

**АГРА́РЫЙ** (лац. agrarius = зямельны) — 1) буйны землеўладальнік, памешчык; 2) член аграрнай палітычнай партыі; 3) спецыяліст па аграрных пытаннях, аграрнік.

**АГРАСФЕ́РА** (ад *агра-* + *сфера*) — частка *біясферы*, якую складаюць культурныя расліны, свойскія жывёлы і падрыхтаваная пад сельскагаспадарчыя культуры глеба.

**АГРАТЭ́ХНІКА** (ад *агра-* + *тэхніка*) — сістэма прыёмаў вырошчвання сельскагаспадарчых культур.

**АГРА́Ф** (фр. agrafe) — каштоўная спражка або засцежка на адзенні.

**АГРАФІ́ЗІКА** (ад *агра-* + *фізіка*) — навука пра фізічныя ўласцівасці грунтаў, фізічныя метады даследавання знешніх умоў жыцця раслін і фізічныя працэсы іх жыццядзейнасці.

**АГРАФІТАЦЭНО́З** (ад *агра-* + *фітацэноз*) — згуртаванне раслін, штучна створанае чалавекам (напр. сад, лесанасаджэнне).

**АГРА́ФІЯ** (ад *а-* + *-графія*) — страта здольнасці пісаць у сувязі з паражэннем пэўных аддзелаў кары галаўнога мозгу.

**АГРАФО́Н** (ад *агра-* + *фон*[1]) — стан глебы, які ўплывае на ўраджай сельскагаспадарчых культур.

**АГРАХІ́МІЯ** (ад *агра-* + *хімія*) — навука пра хімічныя і біяхімічныя працэсы, якія працякаюць у глебе і раслінах, пра жыўленне раслін, выкарыстанне ўгнаенняў і хімічных сродкаў абароны раслін з мэтай атрымання высокіх устойлівых ураджаяў.

**АГРАЦЭНО́З** (ад *агра-* + *-цэноз*) — тое, што і *аграбіяцэноз*.

**АГРАЭКАЛО́ГІЯ** (ад *агра-* + *экалогія*) — раздзел прыкладной экалогіі, які вывучае ўплыў фактараў асяроддзя на прадукцыйнасць культурных раслін.

**АГРО́ЦЫБЕ** (н.-лац. agrocybe) — шапкавы базідыяльны грыб сям. бальбітыевых, які расце на лясным подсціле, лугах, палях, у хмызняках; ядомы.

**АГРУ́МАВЫ** (ад іт. agrume = цытрусавыя); а. а л е й — алей, атрыманы з апельсінавых і лімонных скурак.

**АГРЭГА́Т** (лац. aggregatus = злучаны) — 1) спалучэнне рознатыповых машын, апаратаў у адну канструкцыю для сумеснай работы (напр. трубапракатны а.); 2) асобная, вузлавая частка складанай машыны, напр. рухавік аўтамабіля; 3) сукупнасць мінералаў,

якія складаюць горную пароду; 4) рэчыва, утворанае механічным спалучэннем аднародных або разнародных частак.

**АГРЭГАТАВА́ЦЬ** (ад *агрэгат*) — 1) кампанаваць машыны або комплексы машын з уніфікаваных агрэгатаў; 2) аб'ядноўваць якія-н. аднародныя паказчыкі (велічыні) у больш агульныя, сукупныя.

**АГРЭГА́ТНЫ** (лац. aggregatus = злучаны) — 1) сабраны ў цэлае, сукупны, сумарны; 2) звязаны з фізічным станам рэчыва (цвёрдага, вадкага, газападобнага).

**АГРЭГА́ЦЫЯ** (лац. aggregatio) — працэс спалучэння, збірання ў цэлае.

**АГРЭЖЭ́** (фр. agrégé) — вучоная ступень у Францыі, Бельгіі, якая дае права выкладаць у *ліцэях* і на гуманітарных і прыродазнаўчых факультэтах універсітэтаў.

**АГРЭМА́Н** (фр. agrément = згода) — папярэдняя згода дзяржавы прыняць асобу, прапанаваную іншай дзяржавай у якасці яе дыпламатычнага прадстаўніка.

**АГРЭ́САР** (лац. aggressor) — той, хто ажыццяўляе разбойны напад; захопнік.

**АГРЭСІ́НЫ** (ад лац. aggredere = нападаць) — прадукты жыццядзейнасці хваробатворных мікробаў, якія садзейнічаюць пранікненню *патагенных* мікробаў у арганізм, іх размнажэнню і распаўсюджванню.

**АГРЭСІ́ЎНЫ** (фр. agressif, ад лац. aggressio = напад) — 1) захопніцкі (напр. а-ыя сілы); 2) варожы, наступальны (напр. а. тон).

**АГРЭ́СІЯ** (лац. aggressio = напад) — узброены напад адной ці некалькіх дзяржаў на іншыя з мэтай захопу чужых зямель і насільнага падпарадкавання сваёй уладзе.

**АГРЭ́СТ** (польск. agrest, ад лац. agrestis = вясковы, палявы) — кустовая садова-ягадная расліна сям. агрэставых, пашыраная ў Еўразіі, Паўн. Амерыцы і Паўн. Афрыцы, а таксама кісла-салодкія ягады гэтай расліны.

**АГУ́ЦІ** (ісп. aguti, ад індз. aguti) — жывёла атрада грызуноў з залацістай афарбоўкай і кароткім хвастом, пашыраная ў тропіках Цэнтр. і Паўд. Амерыкі.

**АДА́ЖЫО** (іт. adagio = павольна) — 1) *муз.* павольны тэмп, больш хуткі, чым *ларга*, але павольнейшы за *андантэ*; 2) музычны твор або яго частка ў такім тэмпе; 3) павольная частка сольнага або дуэтнага балетнага танца.

**АДАЛІ́Н** [ад лац. ad = пры +*ал(ей)*] — лекавы *прэпарат*, які выкарыстоўваецца як заспакойвальны і снатворны сродак.

**АДАЛІ́СКА** (фр. odalisque, ад тур. odalyk = наложніца) — 1) рабыня або прыслужніца ў гарэме; 2) палюбоўніца, каханка.

**АДАМА́НТ** (гр. adamas, -antos) — тое, што і *алмаз* 1.

**АДАМАНТАБЛА́СТЫ** (ад *адамант* + *-бласты*) — клеткі *эпітэлію*, якія выпрацоўваюць *эмаль* у каронцы зуба.

**АДАМАНТА́Н** (ад *адамант*) — хімічнае злучэнне, насычаны цыклічны вуглевадарод.

**АДАМАНЦІ́Н** (лац. adamantinus, ад гр. adamantinos) — мінерал, разнавіднасць *карунду*, які лёгка расшчапляецца на тонкія пласцінкі з алмазным бляскам.

**АДАМАШКА** (польск. adamaszek, ад с.-лац. adamascus) — шаўковая ўзорыстая тканіна, матавая з аднаго боку, а з другога бліскучая.

**АДАМІ́ТЫ** (ад ст.-яўр. Adam = імя біблейскага персанажа) — члены хрысціянскай секты *гностыкаў*, заснаванай у 3 ст., якія адмаўлялі ўсякую царкоўную арганізацыю і абраднасць.

**АДАМСІ́Т** [ад англ. R.Adams = прозвішча амер. хіміка (1889—1966)] — атрутнае рэчыва, якое раздражняльна дзейнічае на верхнія дыхальныя шляхі, выклікае рвоту і галаўныя болі.

**АДАНІЗІ́Т** (ад *адоніс*) — лекавы прэпарат для стымуляцыі работы сэрца, які з'яўляецца водным растворам *глюказідаў* адонісу.

**АДАНТАБЛА́СТЫ** (ад гр. odus, -ontos = зуб + *-бласты*) — клеткі пазваночных, якія прымаюць удзел ва ўтварэнні *дэнціну*.

**АДАНТАГРА́ФІЯ** (ад гр. odus, -ontos = зуб + *-графія*) — раздзел *марфалогіі*, які вывучае зубы вымерлых пазваночных.

**АДАНТАЛІ́Т** (н.-лац. odontolithos, ад гр. odus, -ontos = зуб + lithos = камень) — 1) зубны камень; 2) бівень выкапнёвай жывёліны (*маманта, мастадонта*).

**АДАНТАЛО́ГІЯ** (ад гр. odus, -ontos = зуб + *-логія*) — раздзел *стаматалогіі*, які вывучае будову зубоў, іх хваробы і лячэнне.

**АДАНТАСХІ́ЗМА** (н.-лац. odontoschisma) — пячоначны мох сям. адантасхізмавых, які трапляецца на тарфяністай глебе, гнілой драўніне, зрэдку на камянях.

**АДАНТО́ЛАГ** (ад гр. odus, -ontos = зуб + *-лаг*) — спецыяліст па *аданталогіі*.

**АДАНТО́МА** (ад гр. odus, -ontos = зуб + *-ома*) — дабраякасная пухліна ў выглядзе кангламерату розных зубных тканак.

**АДАПТАВА́ЦЬ** (лац. adaptare = прыстасоўваць) — перапрацоўваць тэкст з мэтай спрашчэння, напр. іншамоўны літаратурны твор для тых, хто пачынае вывучаць замежную мову.

**АДАПТАГЕ́НЫ** [ад *адапта(цыя)* + *-ген*] — лекавыя прэпараты расліннага паходжання, якія павышаюць адаптацыю арганізма да неспрыяльных умоў асяроддзя.

**АДАПТАМЕ́ТРЫЯ** [ад *адапта(цыя)* + *-метрыя*] — вымярэнне светлавой адчувальнасці вока пры дапамозе адаптометра.

**АДАПТА́ЦЫЯ**[1] (лац. adaptatio = прыстасаванне) — 1) прыстасаванне арганізма, органаў пачуццяў да навакольнага асяроддзя, напр. прызвычаенне вачэй да цемнаты; 2) перапрацоўка тэксту з мэтай яго спрашчэння, напр. іншамоўнага літаратурнага твора для тых, хто пачынае вывучаць замежную мову.

**АДАПТА́ЦЫЯ**[2] (лац. adoptatio) — усынаўленне.

**АДАПТАЦЫЯГЕНЕ́З** (ад *адаптацыя*[1] + *-генез*) — узнікненне, развіццё і пераўтварэнне прыстасавальнасці арганізмаў у працэсе *эвалюцыі* арганічнага свету.

# А

**АДАПТАЦЫЯМАРФО́З** (ад *адаптацыя*[1] + *-марфоз*) — развіццё, змена і пераўтварэнне прыстасавальнасці ў працэсе эвалюцыі арганізмаў.

**АДАПТО́МЕТР** [ад *адапта(цыя)*[1] + *-метр*] — прыбор для вымярэння светлавой адчувальнасці вока.

**АДАПТЫ́ЎНЫ** (англ. adaptive, ад лац. adaptare = прыстасоўваць) — які мае адносіны да *адаптацыі*; а - а я р а д ы я ц ы я — эвалюцыя родных груп арганізмаў, звязаная з іх прыстасаваннем да розных умоў існавання; а - ы я ф е р м е н т ы — ферменты, сінтэз якіх паскараецца тымі самымі рэчывамі, на якія яны ўздзейнічаюць.

**АДА́ПТЭР** (англ. adapter, ад лац. adaptare = прыстасоўваць) — 1) прылада для электраакустычнага ўзнаўлення механічных запісаў гуку; 2) дадатковая *касета* да фотаапарата, якая дае магчымасць выкарыстоўваць нестандартныя святлоадчувальныя матэрыялы.

**АДАРА́НТЫ** (лац. odorans, -ntis = пахучы) — пахучыя рэчывы, якія выкарыстоўваюцца для *адарызацыі*.

**АДАРА́ЦЫЯ** (лац. adoratio) — *уст.* абажанне, пакланенне.

**АДАРЫЗА́ЦЫЯ** (ад лац. adorare = рабіць пахучым) — 1) дадаванне да газу пахучых рэчываў, якія б сігналізавалі пра яго выцяканне з газаправода або пасудзіны; 2) распыленне ў паветры памяшкання рэчываў з прыемным пахам.

**АДА́Т** (ар. adat) — няпісаны закон, звычай у народаў, якія вызнаюць *іслам* (лічыцца дадаткам да *шарыяту*).

**АДВАКА́Т** (лац. advocatus) — 1) *юрыст*, які абараняе інтарэсы абвінавачанага на судзе; абаронца; 2) *перан.* той, хто заступаецца за каго-н.

**АДВАКАТУ́РА** (ад *адвакат*) — 1) дзейнасць *адваката*; адвакацтва; 2) калегія адвакатаў.

**АДВЕ́КЦЫЯ** (лац. advectio = дастаўка) — 1) *метэар.* гарызантальнае перамяшчэнне паветра і перанясенне разам з ім цяпла, вільгаці; 2) перанос марской вады ў гарызантальным, іншы раз у вертыкальным напрамку.

**АДВЕНТЫ́ЗМ** (ад лац. adventus = прышэсце) — хрысціянская плынь у *пратэстантызме*, якая ўзнікла ў 1830-я гг. у ЗША і прапаведуе другое прышэсце Хрыста для «страшнага суда» над усімі жывымі і мёртвымі.

**АДВЕНТЫ́СТЫ** (ад лац. adventus = прышэсце) — прыхільнікі *адвентызму*.

**АДВЕНТЫ́ЎНЫ** (ад лац. adventicius = прышлы) — *біял.* чужы, не ўласцівы; а. о р г а н — орган расліны, які развіваецца не на звычайным месцы, напр. карані на надземнай частцы, пупышкі і парасткі на каранях; а - а я р а с л і н а — расліна, занесеная чалавекам у мясцовасць, дзе яна раней не расла.

**АДВЕНТЫ́ЦЫЯ** (н.-лац. adventitia, ад лац. adventicius = прышлы) — знешняя абалонка сценкі крывяносных сасудаў, якая спалучаецца з тканкамі мышцаў.

**АДВЕРБІЯЛІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. adverbium = прыслоўе) — *лінгв.* пераход слоў іншых часцін мовы (пераважна назоўнікаў і прыметнікаў) у прыслоўі (напр. вечар — вечарам).

**АДВЕРБІЯ́ЛЬНЫ** (лац. adverbialis) — *лінгв.* прыслоўны.

**АДГЕ́ЗІЯ** (лац. adhaesio = прыліпанне) — зліпанне паверхняў двух цвёрдых або вадкіх целаў пры іх кантакце.

**А́ДДАКС** (лац. addax) — жвачная парнакапытная жывёла сям. пустарогіх, пашыраная ў Амерыцы; нубійская антылопа.

**АДДУ́КТАР** (н.-лац. adductor, ад лац. adducere = прыводзіць) — *анат.* прыводная мышца (параўн. *абдуктар*).

**АДДУ́КЦЫЯ** (с.-лац. adductio = прывядзенне) — *анат.* рух канечнасці да сярэдняй лініі цела (параўн. *абдукцыя*).

**АД'ЕКТЫВА́ЦЫЯ** (ад лац. adiectivum = прыметнік) — *лінгв.* пераход іншых часцін мовы (пераважна дзеепрыметнікаў) у прыметнікі (напр. калючыя ружы).

**АД'ЕКТЫ́ЎНЫ** (лац. adiectivum) — *лінгв.* прыметнікавы.

**А ДЖО́РНА** (іт. a giorno) — штучнае асвятленне, якое імітуе дзённае святло.

**А́ДЗІЦІ** (санскр. aditi = бязмежжа, сусвет) — увасабленне жаночага пачатку ў старажытнаіндыйскай міфалогіі.

**АДЗЮЛЬТЭ́Р** (фр. adultère, ад лац. adulterium) — сямейная нявернасць, здрада.

**АДМІНІСТРАВА́ЦЬ** (лац. administrare) — 1) кіраваць, загадваць; 2) кіраваць бюракратычна, падмяняючы канкрэтнае кіраўніцтва загадамі і распараджэннямі.

**АДМІНІСТРА́ТАР** (лац. administrator = распарадчык, кіраўнік) — 1) службовая асоба, якая кіруе прадпрыемствам, установай, арганізацыяй (напр. а. гасцініцы); 2) распарадчык (напр. а. выстаўкі).

**АДМІНІСТРА́ЦЫЯ** (лац. administratio = кіраванне) — 1) кіроўны орган прадпрыемства, установы, арганізацыі, які нясе адказнасць за іх дзейнасць (напр. а. фабрыкі); 2) органы выканаўчай улады дзяржавы; урадавы апарат, 3) адказныя распарадчыкі (напр. а. выстаўкі).

**АДМІРА́Л** (гал. admiraal, ад ар. amir al-bahr = уладар мора) — 1) воінскае званне вышэйшага каманднага саставу ў ваенна-марскім флоце; 2) матылёк сям. *німфалідаў* з яркай, прыгожай афарбоўкай, які трапляецца на палянах, лугах, па берагах лясных ручаёў.

**АДМІРАЛЦЕ́ЙСТВА** (ад *адмірал*) — 1) *міністэрства* ваенна-марскога флоту ў Англіі; 2) цэнтр ваеннага караблебудавання ў царскай Расіі; 3) *уст.* тэрыторыя порту з верфямі, майстэрнямі і складамі для абслугоўвання ваенна-марскога флоту.

**АДНЕКСІ́Т** (ад лац. adnexa = прыдаткі) — тое, што і *сальпінгаафарыт*.

**АДО́Б, АДО́БА** (ісп. adobe, ад ар. at-tub) — тое, што і *саман*.

**АДО́ГРАФ** (ад гр. hodos = шлях + *-граф*) — прыбор, які аўтаматычна прачэрчвае на навігацыйнай карце курс карабля.

# А

**АДО́КСА** (н.-лац. adoxa) — травяністая расліна сям. адоксавых з дробнымі жаўтавата-зялёнымі кветкамі з мускусным пахам, пашыраная ва ўмераных і халодных зонах; трапляецца на Беларусі.

**АДО́МЕТР** (ад гр. hodos = шлях + *-метр*) — прыбор для вымярэння пройдзенай суднам адлегласці.

**АДО́НІС** (н.-лац. adonis, ад гр. Adonis = імя бога ўрадлівасці ў антычнай міфалогіі) — травяністая расліна сям. казяльцовых з буйнымі жоўтымі або чырвонымі кветкамі, пашыраная ў стэпах і лесастэпах Еўразіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная; гарыцвет.

**-АДОНТ** (гр. odus, -ontos = зуб) — другая састаўная частка складаных слоў, што з'яўляюцца назвамі выкапнёвых жывёл, класіфікацыя якіх праводзіцца паводле будовы зубоў.

**А́ДРАС** (фр. adresse) — 1) месцажыхарства асобы або месцазнаходжанне прадпрыемства, установы, арганізацыі; 2) надпіс на паштовым адпраўленні з указаннем атрымальніка і яго месцазнаходжання; 3) пісьмовае прывітанне каму-н. з выпадку юбілею.

**АДРАСАВА́ЦЬ** (фр. adresser) — накіроўваць, пасылаць што-н. на пэўны адрас.

**АДРАСА́НТ** (ням. Adressant, ад фр. adresser = пасылаць, накіроўваць) — той, хто пасылае паштовае адпраўленне.

**АДРАСА́Т** (ням. Adressat, ад фр. adresser = пасылаць, накіроўваць) — той, каму адрасавана паштовае адпраўленне.

**А́ДРАС-КАЛЯНДА́Р** (ад *адрас* + *каляндар*) — даведачнае выданне з адрасамі прадпрыемстваў, устаноў, службовых асоб на пэўны год.

**АДРАСО́ГРАФ** (ад *адрас* + *-граф*) — машына для друкавання з металічных пласцінак трафарэтных тэкстаў.

**АДРО́НЫ** (ад гр. adros = моцны) — элементарныя часціцы (*пратоны, нейтроны, гіпероны, мезоны*), якія моцна ўзаемадзейнічаюць.

**АДРЭНАКОРТЫКАТРО́ПНЫ** [ад *адрэна(лін)* + *кортыкатрапін*]; а. г а р м о н — гармон пярэдняй часткі *гіпофіза*, што стымулюе дзейнасць кары наднырачных залоз.

**АДРЭНА́ЛАВЫ** (ад лац. ad = пры + renalis = нырачны); а - а я с і с т э м а — сукупнасць клетак, якія выпрацоўваюць гармоны *адрэналін* і *нарадрэналін* і змяшчаюцца ў мазгавым рэчыве наднырачнікаў, сімпатычных вузлах і спляценнях.

**АДРЭНАЛІ́Н** (ад лац. ad = пры + renalis = нырачны) — гармон, які выдзяляецца наднырачнымі залозамі або выпрацоўваецца сінтэтычна і служыць лекавым сродкам.

**АДРЭНАЛІ́ТЫКІ** (ад *адрэналін*) — лекавыя сродкі, якія ўзаемадзейнічаюць з пэўнымі тыпамі *адрэнарэцэптараў*, зніжаюць або блакіруюць уздзеянне на іх *нарадрэналіну, адрэналіну* і іншых *медыятараў*.

**АДРЭНАМІМЕ́ТЫКІ** [ад *адрэна(лін)* + гр. mimetes = перайmальнік] — лекавыя сродкі, якія выклі-

каюць фізіялагічныя эфекты, падобныя на ўздзеянне *норадрэналіну, адрэналіну* і іншых *медыятараў*.

**АДРЭНАРЭЦЭ́ПТАРЫ** [ад *адрэна(лін) + рэцэптары*] — спецыфічныя біяхімічныя структуры клетак, якія ўзаемадзейнічаюць з *норадрэналінам, адрэналінам* і некаторымі лекавымі рэчывамі.

**АДРЭНЕРГІ́ЧНЫ** [ад *адрэн(алін)* + гр. ergon = уплыў] — *біял.* які ўзбуджаецца адрэналінам, чуллівы да адрэналіну (параўн. *халінергічны*).

**АДСАРБЕ́НТ** (ад лац. ad = да, пры + sorbens, -ntis = які паглынае) — рэчыва, здольнае да *адсорбцыі*.

**АДСАРБІ́РАВАЦЬ** (ад лац. ad = да, пры + sorbere = паглынаць) — *хім.* паглынаць, усмоктваць.

**АДСО́РБЕР** (ад лац. ad = да, пры + sorbere = паглынаць) — апарат для правядзення *адсорбцыі*.

**АДСО́РБЦЫЯ** (ад лац. ad = да, пры + sorbere = паглынаць) — *хім.* паглынанне газаў або рэчываў паверхневым слоем *адсарбента* (параўн. *абсорбцыя*).

**АДСТРА́Т** (лац. adstratum = напластаванне) — моўныя з'явы ў мове карэннага насельніцтва, якія ўзніклі пад уплывам мовы прышэльцаў, а таксама сама мова прышэльцаў.

**АДУКАВА́ЦЬ** (лац. educere) — даць каму-н. *адукацыю*, навучыць, выхаваць.

**АДУКА́ЦЫЯ** (лац. educatio) — працэс і вынік набыцця сістэматызаваных ведаў, уменняў і навыкаў у навучальных установах або самаадукацыяй.

**АДУ́КТ** (лац. adductus = прыведзены, прыцягнуты) — 1) малекулярны комплекс ці злучэнне, што ўтвараецца ў рэакцыях далучэння; 2) рэчывы невядомай будовы ці злучэнні, для якіх цяжка ўтварыць назву па правілах хімічнай наменклатуры.

**АДУЛЯ́Р** (ад ням. Adula = назва горнага масіву ў Швейцарыі) — мінерал класа *сілікатаў*, бясколерная празрыстая разнавіднасць *артаклазу*.

**АДЫЁЗНЫ** (лац. odiosus = ненавісны, агідны) — крайне непрыемны, непажаданы, які выклікае рэзка адмоўныя адносіны да сябе (напр. а-ая асоба).

**АДЫНАМІ́Я** (гр. adynamia = бяссілле) — *мед.* амаль поўнае або поўнае спыненне рухальнай актыўнасці ў выніку парушэнняў нервовамышачнага апарата; крайні выпадак *гіпадынаміі*.

**АДЫНО́Л** (ад гр. adinos = шчыльны) — шчыльная тонказярністая горная парода, якая складаецца пераважна з *альбіту* і *кварцу*.

**АДЫПІ́НАВЫ** (ад лац. adeps, adipis = тлушч) — які мае адносіны да арганічнай кіслаты, што з'яўляецца паўпрадуктам сінтэтычнага валакна *нейлону*.

**АДЫСЕ́Я** (гр. Odysseia = гераічна-эпічная паэма, аўтарам якой лічаць Гамера) — *кніжн.* падарожжа, звязанае з рознымі перашкодамі і прыгодамі.

**АДЫТЫ́П** [ад лац. addi(tivus) = дадатковы + *-тып*] — фотанаборная машына з ручной устаноўкай

шрыфтавога шаблону і механічным перамяшчэннем фотама'эрыялу; выкарыстоўваецца ў *картаграфіі*.

**АДЫТЫ́ЎНЫ** (лац. additivus = дадатковы) — атрыманы шляхам складання; а-ая тэорыя лікаў — частка *арыфметыкі*, што вывучае законы, паводле якіх лікі можна атрымаць са складаемых таго ці іншага віду.

**АДЫЯБА́ТА** (гр. adiabatos = непераходны) — лінія, якая паказвае на графіку *адыябатычны* працэс.

**АДЫЯБА́ТНЫ** (гр. adiabatos = непераходны) — тое, што і *адыябатычны*.

**АДЫЯБАТЫ́ЧНЫ** (фр. adiabatique, ад гр. adiabatos = непераходны) — *фіз.* а. працэс — змены стану фізічнага цела, якія адбываюцца без цеплаабмену з навакольным асяроддзем.

**АДЫЯ́НТУМ** (н.-лац. adiantum) — папараць сям. адыянтавых з тонкім перыстым лісцем, пашыраная пераважна ў вільготных трапічных і субтрапічных лясах; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная, адзін з відаў — венерын волас.

**АДЫЯНТЫ́ТЫ** (н.-лац. adiantites, ад гр. adianton = назва расліны) — вымерлыя папараці, якія існавалі ў *карбоне* і з якіх утварыліся залежы каменнага вугалю.

**АДЭКАЛО́Н** (фр. eau de Cologne = *літар.* кёльнская вада) — спіртаводны раствор розных пахучых рэчываў, які выкарыстоўваецца як парфумерны сродак.

**АДЭКВА́ТНЫ** (лац. adaequatus = прыраўнаваны) — такі, што адпавядае чаму-н.; раўназначны (напр. а-ыя паняцці).

**АДЭНАВІ́РУСЫ** (ад гр. aden = залоза + *вірусы*) — група вірусаў, якія выклікаюць шэраг захворванняў — востры катар дыхальных шляхоў, *кан'юнктывіт, энтэракаліт*.

**АДЭНАЗІ́Н** (ад гр. aden, -enos = залоза) — арганічнае злучэнне, бясколернае крышталічнае рэчыва, якое ўваходзіць у некаторыя *ферменты* і пры ўвядзенні ў арганізм узмацняе сардэчную дзейнасць.

**АДЭНАЗІНДЫФАСФА́Т** (ад *адэназін + ды- + фасфат*) — *нуклеатыд*, утвораны адэназінам і дзвюма рэшткамі фосфарнай кіслаты.

**АДЭНАЗІНМОНАФАСФА́Т** (ад *адэназін + мона- + фасфат*) — *нуклеатыд*, адзін з важнейшых біяхімічных рэгулятараў, які ўдзельнічае ў малекулярных механізмах дзеяння многіх гармонаў.

**АДЭНАЗІНТРЫФАСФА́Т** (ад *адэназін* + гр. tria = тры + *фасфат*) — *нуклеатыд*, утвораны адэназінам і трыма рэшткамі фосфарнай кіслаты.

**АДЭНАЗІНТРЫФАСФАТА́ЗЫ** (ад *адэназін* + гр. tria = тры + *фасфатазы*) — група *ферментаў*, якія каталізуюць адшчапленне ад адэназінтрыфосфарнай кіслаты часткі фосфарнай кіслаты з вызваленнем энергіі, неабходнай для мышачнага скарачэння.

**АДЭНАКАРЦЫНО́МА** (ад гр. aden = залоза + *карцынома*) — *мед.* рак залозы.

**АДЭНАМАТО́З** (ад *адэнома*) — хранічная лёгачная хвароба жывёл.

**АДЭНАМЕ́Р** (ад гр. aden = залоза + *-мер*) — канцавы аддзел залоз жывёл і чалавека, у якім узнікае *сакрэт*[2], што трапляе ў вывадную пратоку.

**АДЭНАФАРЭ́І** (н.-лац. adenophorea) — падклас *нематодаў*; чэрві з органамі асязання па ўсім целе; жывуць пераважна ў морах, радзей у прэсных водах і глебе, некаторыя — паразіты раслін і жывёл.

**АДЭ́НДУМ** (лац. addendum = тое, што мае быць дададзена) — дапаўненне да дагавору, якое змяняе або ўдакладняе тыя ці іншыя яго ўмовы.

**АДЭНІЛАТКІНА́ЗА** [ад *адэн(азін)* + *ат(ам)* + *кіназа*] — *фермент*, які прымае ўдзел у клетачным энергетычным абмене.

**АДЭНІ́Н** (ад гр. aden = залоза) — арганічнае рэчыва, якое змяшчаецца ва ўсіх жывых клетках у складзе нуклеінавых кіслот.

**АДЭНІ́Т** (ад гр. aden = залоза) — тое, што і *лімфадэніт*.

**АДЭНО́ІДЫ** (ад гр. aden = залоза + *-оід*) — пухлінападобныя разрастанні лімфатычных утварэнняў насаглоткі.

**АДЭНО́МА** (ад гр. aden = залоза + *-ома*) — дабраякасная пухліна, якая можа развівацца ў залозістых органах (малочнай, шчытападобнай і іншых залозах).

**АДЭНТЫ́Я** (ад *а-* + лац. dens, -ntis = зуб) — адсутнасць усіх або многіх зубоў у выніку парушэння фарміравання зубных пачаткаў у эмбрыянальным перыядзе.

**АДЭО́Н** (гр. odeion) — круглы будынак для выступлення спевакоў і музыкантаў у Стараж. Грэцыі.

**АДЭ́ПТ** (лац. adeptus = які дасягнуў) — 1) чалавек, азнаёмлены з тайнамі якога-н. вучэння, секты; 2) заўзяты паслядоўнік, прыхільнік якой-н. ідэі, вучэння.

**АДЭРМІ́Н** (ад *а-* + гр. derma = скура) — вітамін $B_6$, які змяшчаецца ў дражджах, пшанічных і рысавых высеўках.

**АД'Ю́НКТ** (лац. adiunctus = далучаны) — 1) асоба, якая праходзіць навуковую стажыроўку; памочнік кіраўніка кафедры, прафесара, акадэміка ў некаторых краінах Зах. Еўропы і ў Расіі; 2) афіцэр, які займаецца ў *ад'юнктуры*.

**АД'ЮНКТУ́РА** (ад *ад'юнкт*) — адна з асноўных формаў падрыхтоўкі навуковых і навукова-педагагічных кадраў у ВНУ і навукова-даследчых установах узброеных сіл некаторых краін СНД.

**АД'ЮСТА́Ж** (ням. Adjustage, ад фр. ajustage) — участак пракатнага цэха з машынамі і механізмамі, пры дапамозе якіх апрацоўваюць і рыхтуюць да плаўкі пракатны метал.

**АД'ЮТА́НТ** (ням. Adjutant, ад лац. adiutans, -ntis = памочнік) — 1) ваеннаслужачы пры камандзіры для выканання службовых даручэнняў; 2) афіцэр, адказны за справаводства ў штабах дарэвалюцыйнай рускай арміі; 3) прыдворны ваенны чын у світце манарха (генерал-а., флігель-а.).

**АЕ́Р** (тур. agyr) — травяністая расліна сям. ароннікавых з доўгім мечападобным лісцем і тоўстым паў-

зучым карэнішчам, пашыраная ва ўмераных і субтрапічных зонах па берагах вадаёмаў.

**АЖА́Н** [рус. ажан, ад фр. agent (de police)] — паліцэйскі чын у Францыі.

**АЖУ́Р**[1] (фр. ajour = скразны, ажурны) — 1) негустое, скразное вязанне, вышыванне, разьба і інш.; 2) лёгкая празрыстая тканіна.

**АЖУ́Р**[2] (фр. à jour = на сённяшні дзень) — выкананне бухгалтарскіх запісаў у дзень правядзення гаспадарчых аперацый; *перан.* у с ё ў а ж у р ы — усё як трэба.

**АЖУ́РНЫ** (фр. ajour) — 1) празрысты, скразны (пра тканіны, вязаныя і разныя вырабы); 2) майстэрскай, тонкай работы.

**АЖУСТАВА́ЦЬ** (фр. ajuster = выпраўляць) — правільна складаць бухгалтарскія рахункі.

**А́ЖЫО** (іт. aggio) — тое, што і *лаж*.

**АЖЫТА́ТА** (іт. agitato) — *муз.* узбуджана, усхвалявана.

**АЖЫТА́ЦЫЯ** (фр. agitation, ад лац. agitatio = прывядзенне ў рух) — 1) *уст.* узбуджаны стан, моцнае хваляванне; 2) *псіх.* ненатуральная рэакцыя чалавека ў адказ на небяспеку для жыцця, аварыйную сітуацыю і інш.; выяўляецца ў форме моцнай трывогі, нярэдка ўспрымаецца як разгубленасць.

**АЖЫЯТА́Ж** (фр. agiotage) — 1) спекулятыўная гарачка на біржах і рынках; 2) моцнае ўзбуджэнне, хваляванне, барацьба інтарэсаў вакол якой-н. справы.

**АЗААСПЕРМІ́Я** (ад *а-* + *заа-* + *сперма*) — адсутнасць у сперме *сперматазоідаў*.

**АЗАБЕНЗО́Л** (ад гр. ozo = пахну + *бензол*) — найпрасцейшае араматычнае азазлучэнне, крышталічнае аранжава-чырвонае рэчыва.

**АЗАГЕ́НА** (н.-лац. asagena) — павук сям. цянётнікаў, які жыве на адкрытых сухіх месцах.

**АЗАГЕ́НЫ** (ад *азот* + *-ген*) — рэчывы для халоднага фарбавання; прадукты, якія выкарыстоўваюцца для сінтэзу азафарбавальнікаў непасрэдна на валакністых матэрыялах.

**АЗАКЕРЫ́Т** (ад гр. ozo = пахну + keros = воск) — мінерал групы нафтавых *бітумаў* белага, жоўтага, бурага або зялёнага колеру; выкарыстоўваецца ў радыё-, электратэхніцы, парфумернай і лакафарбавай прамысловасці, медыцыне; горны воск.

**АЗАКЕРЫТАТЭРАПІ́Я** (ад *азакерыт* + *тэрапія*) — метад цеплалячэння з выкарыстаннем азакерыту.

**АЗА́ЛІЯ** (н.-лац. azalea, ад гр. azaleos = сухі) — садовая форма *рададэндрана* з белымі, ружовымі, чырвонымі або жоўтымі кветкамі.

**АЗАНАВА́ЦЬ** (ад *азон*) — 1) ператвараць у азон (пра кісларод); 2) рабіць азанізацыю.

**АЗАНА́ЛЬНАСЦЬ** (ад *а-* + *зона*) — пашырэнне пэўнай прыроднай з'явы незалежна ад занальных асаблівасцей тэрыторыі.

**АЗАНА́ЛЬНЫ** (ад *а-* + *занальны*) — пашыраны незалежна ад занальных асаблівасцей тэрыторыі (напр. а-ая раслыннасць).

**АЗАНАСФЕ́РА** (ад *азон* + *сфера*) — слой у межах *стратасферы*

з павышанай канцэнтрацыяй азону.

**АЗАНА́ТАР** (ад *азон*) — прыбор для атрымання азону, для азанавання паветра.

**АЗАНІ́ДЫ** (ад *азон* + гр. eidos = выгляд) — арганічныя злучэнні, якія ўзнікаюць пры далучэнні да азону падвойнай сувязі паміж атамамі вугалю; з'яўляюцца моцнымі акісляльнікамі.

**АЗАНІЗА́ЦЫЯ** (ад *азон*) — ачышчэнне азонам з мэтай ліквідацыі дрэннага паху.

**АЗА́РТ** (фр. hasard = выпадак, выпадковасць; рызыка, ад ар. az-zahr = ігральная костка) — заўзятасць, гарачнасць, моцнае захапленне (напр. спартыўны а.).

**АЗАРЭ́ЛА** (н.-лац. azorella) — травяністая расліна сям. парасонавых са скурыстым лісцем, пашыраная ў Паўд. Амерыцы і Новай Зеландыі; на Беларусі вырошчваецца ў аранжарэях.

**АЗАТО́ЛЫ** (ад *азот* + *-ол*) — матэрыялы, блізкія да цэлюлозных валокнаў, якія з'яўляюцца паўпрадуктамі для атрымання азафарбавальнікаў.

**АЗАТУРЫ́Я** (ад *азот* + *-урыя*) — павышанае выдзяленне з мачой азоцістых прадуктаў.

**АЗАТЫЗА́ЦЫЯ** (ад *азот*) — насычэнне паверхневага слоя стальных вырабаў азотам, каб надаць ім цвёрдасць.

**АЗАТЭМІ́Я** (ад *азот* + *-эмія*) — залішняе ўтрыманне ў крыві прадуктаў азоцістага абмену.

**АЗБАЛА́Н** (ад гр. asbolos = куродым, сажа) — мінерал, водны вокісел марганцу, кобальту і нікелю пераменнага саставу.

**АЗБАЛІ́Т** [ад *азб(ест)* + *-літ*] — будаўнічы матэрыял з сумесі магнезіяльнага цэменту, апілак і азбеставага валакна.

**АЗБАПЛА́СТЫК** [ад *азб(ест)* + *пластык*] — пластмаса з азбеставым напаўняльнікам.

**АЗБАЦЭМЕ́НТ** [ад *азб(ест)* + *цэмент*] — будаўнічы матэрыял з воднай сумесі цэменту і азбесту.

**АЗБЕ́СТ** (гр. asbestos = незнішчальны) — мінерал класа водных сілікатаў магнію, жалеза і інш. з групаў *серпенціну* і *амфіболаў*, здольны расшчапляцца на тонкія, трывалыя валокны; шырока выкарыстоўваецца ў тэхніцы як вогнетрывалы матэрыял; горны лён.

**АЗБЕСТАЦЭМЕ́НТ** (ад *азбест* + *цэмент*) — тое, што і *азбацэмент*.

**АЗБЕСТЫ́Т** (ад *азбест*) — цэлаізаляцыйны матэрыял з кароткага азбеставага валакна.

**АЗЕАТРО́ПНЫ** (ад *а-* + гр. zeo = кіплю + *-тропны*) — характэрны для сумесі вадкасцей, што пры перагонцы не падзяляецца на фракцыі.

**АЗЕ́НА** (лац. ozaena, ад гр. zo = пахну) — хранічная інфекцыйная хвароба верхніх дыхальных шляхоў чалавека, якая выклікаецца капсульнымі бактэрыямі *клебсіеламі*; суправаджаецца атрафіяй слізістых абалонак носа.

**АЗІ́Д** (ад *азот* + гр. eidos = выгляд) — соль азоцістаВадароднай кіслаты; выкарыстоўваецца пераважна як выбуховае рэчыва.

# А

**АЗІ́ЛЬСКІ** (ад фр. Mas-d'Azil = назва пячоры ў Францыі); а - а я  к у л ь т у р а — археалагічная культура плямёнаў ранняга *мезаліту*.

**А́ЗІМУТ** (ар. as-simūt, мн. ад as-samt = дарога) — 1) *астр.* вугал паміж плоскасцю мерыдыяна дадзенага пункта і вертыкальнай плоскасцю, якая праходзіць праз гэты пункт і аб'ект назірання; 2) *геад.* вугал, які ўтвараецца зададзеным напрамкам руху і напрамкам на поўнач (параўн. *пеленг* 1).

**АЗІ́НЫ** (ад *азот*) — шасцічленныя *гетэрацыклічныя* злучэнні, якія змяшчаюць не менш як адзін атам азоту і выконваюць важную ролю ў працэсах жыццядзейнасці.

**АЗО́ЙСКІ** (ад *а-* + гр. zoe = жыццё); а - а я  э р а — тое, што і *архей*.

**АЗО́ЛА** (н.-лац. azolla) — водная папараць з плаваючым карэнішчам і галінастым сцяблом, зверху блакітна-зялёная, знізу ружовая, пашыраная ў стаячых або слаба праточных вадаёмах Амерыкі; на Беларусі вырошчваецца як акварыумная.

**АЗО́ЛЫ** [ад *аз(от)* + *-ол*] — пяцічленныя *гетэрацыклічныя* злучэнні, якія маюць у цыкле атамы вугляроду і не менш як два гетэраатамы, адзін з іх азот.

**АЗО́Н** (гр. ozon = які пахне) — алатропная мадыфікацыя кіслароду, газ сіняга колеру, з рэзкім пахам; мае моцныя ачышчальныя ўласцівасці.

**АЗО́Т** (ад *а-* + гр. zoo = жыву) — газ без колеру і паху, які складае асноўную частку паветра, уваходзіць у склад бялкоў і іншых арганічных рэчываў.

**АЗОТАБА́КТЭР** (ад *азот* + *бактэрыя*) — бактэрыя, якая засвойвае з паветра азот і ўзбагачае глебу азоцістымі рэчывамі.

**АЗОТАБАКТЭРЫ́Н** (ад *азотабактэр*) — угнаенне, якое мае ў сабе азотабактэр.

**АЗОТАБАКТЭ́РЫЯ** (ад *азот* + *бактэрыя*) — тое, што і *азотабактэр*.

**АЗОТАГЕ́Н** (ад *азот* + *-ген*) — тое, што і *азотабактэрын*.

**АЗОТФІКСА́ТАР** (ад *азот* + *фіксатар*) — бактэрыя, здольная ператвараць малекулярны азот паветра ў арганічныя азоцістыя злучэнні.

**АЗОТФІКСА́ЦЫЯ** (ад *азот* + *фіксацыя*) — працэс звязвання малекулярнага азоту атмасферы ў арганічныя азоцістыя злучэнні, які ажыццяўляюць *азотфіксатары*.

**АЗУ́Р** (фр. azur = блакіт, ад ар. lāzavard = сіні камень) — сіні фарбавальнік, які атрымліваюць з метыленавай сінькі; выкарыстоўваецца ў мікраскапічнай тэхніцы пры даследаванні крыві, мікраарганізмаў.

**АЗУРЫ́Т** (ад фр. azur = блакіт, ад ар. lāzavard = сіні камень) — мінерал класа *карбанатаў* блакітнага або сіняга колеру; медная руда.

**АІ́Д** (гр. Aides = імя бога падземнага свету ў старажытнагрэчаскай міфалогіі) — царства мёртвых, апраметная.

**АІДЫЁПС** (н.-лац. oidiopsis) — недасканалы грыб сям. маніліевых, які паразітуе на лісці *флёксаў* і іншых раслін.

**АІ́ДЫУМ** (лац. oidium, ад гр. oidion = яечка) — грыбная хвароба вінаграду, якая характарызуецца ўтварэннем на ўсіх надземных органах расліны шаравата-белага налёту.

**АІ́Л** (цюрк. ail) — 1) пасёлак качавога тыпу ў кіргізаў і алтайцаў у мінулым; 2) сельская адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Кыргызстане; 3) качавая сямейная група ў мангольскіх народаў.

**АІСТАПО́ДЫ** (н.-лац. aistopoda) — атрад выкапнёвых земнаводных, якія лічацца зыходнымі формамі сучасных атрадаў хвастатых і бязногіх земнаводных; вымерлі ў пермскім перыядзе.

**АЙВА́** (цюрк. ajva) — пладовае дрэва сям. ружавых, пашыранае пераважна на Каўказе, у Іране, Сярэд. Азіі, а таксама падобны на яблык плод гэтага дрэва, цвёрды, даўкі на смак; на Беларусі вырошчваецца аматарамі.

**АЙКАНІ́МІКА** (ад гр. oikos = жыллё + onyma = імя) — раздзел *тапанімікі*, які вывучае *айконімы*.

**АЙКАНІ́МІЯ** (ад гр. oikos = жыллё + onyma = імя) — сукупнасць *айконімаў* пэўнай тэрыторыі.

**АЙКІНІ́Т** (ад англ. Aykin = прозвішча англ. геолага) — рэдкасны мінерал класа сульфасолей свінцова-шэрага колеру з металічным бляскам.

**АЙКО́НІМ** (ад гр. oikos = жыллё + onyma = імя) — *лінгв.* уласная назва населенага пункта.

**АЙКУМЕ́НА** (гр. oikumene = уся зямля, ад oikeo = насяляю) — тэрыторыя зямнога шара, населеная людзьмі.

**АЙЛА́НТ** (н.-лац. ailanthus, ад малайск. ajlant) — дрэва сям. сімарубавых, пашыранае пераважна ў Кітаі, Індыі, Аўстраліі, лісце якога скормліваюць гусеніцам шаўкапрада.

**АЙМА́К** (манг. ajmak) — 1) род, племя ў манголаў і цюркскіх народаў; 2) буйная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Манголіі; 3) мясцовая назва раёна ў Бураціі і на Алтаі.

**АЙНАХО́Я** (ад гр. oinos = віно + cheo = лью) — старажытнагрэчаскі гліняны або металічны збан для віна.

**АЙРА́Н** (цюрк. ajran) — малочны прахаладжальны напітак, распаўсюджаны ў Сібіры, Казахстане, Сярэд. Азіі і на Каўказе.

**АЙРШЫ́РЫ** (англ. Ayrshire = назва графства ў Шатландыі) — малочная парода кароў, выведзеная ў Шатландыі.

**А́ЙСБЕРГ** (англ. iceberg, ад ice = лёд + berg = гара) — вялікі масіў мацерыковага або шэльфавага лёду, які плавае ў акіяне, моры або ляжыць на мелі.

**А́ЙСІНГ** (англ. icing) — пракід шайбы праз усе зоны пры гульні ў *хакей*.

**АКАВІ́ТА** (лац. aqua vitae = вада жыцця) — 1) *уст.* гарэлка, настоеная на каранях; 2) *перан.* жыватворны напітак.

**АКАДЭМІ́ЗМ** (фр. académisme) — 1) чыста тэарэтычны кірунак у навуцы і адукацыі; 2) адрыў тэорыі ад практыкі ў навуцы і мастацтве; 3) напрамак у выяўленчым мастацтве 16—19 ст., які ўстанавіў традыцыйныя правілы выкарыс-

тання класічных узораў і супрацьстаяў рэалістычнаму напрамку.

**АКАДЭ́МІК** (лац. academicus = акадэмічны) — вучонае званне правадзейнага члена акадэміі, а таксама асоба, якая мае гэта званне.

**АКАДЭМІ́ЧНЫ** (лац. academicus) — 1) які адносіцца да *акадэміі*, належыць ёй (напр. а-ая бібліятэка); 2) вучэбны (у прымяненні да вышэйшых навучальных устаноў) (напр. а. год); 3) які прытрымліваецца норм, правіл, уласцівых *акадэмізму* (напр. а. жывапіс); 4) чыста навуковы, тэарэтычны (напр. а-ая дыскусія).

**АКАДЭ́МІЯ** (лац. academia, ад гр. Akademeia) — 1) філасофская школа, заснаваная Платонам у 4 ст. да н.э. у свяшчэнных садах міфічнага героя Акадэма паблізу Афін; 2) вышэйшая навуковая або мастацкая ўстанова (напр. Нацыянальная а. навук Беларусі); 3) назва некаторых вышэйшых навучальных устаноў па спецыяльных галінах навукі (напр. ваенная а., сельскагаспадарчая а.).

**АКАЖУ́** (фр. acajou, ад індз. acaju = чырвонае дрэва) — дрэва сям. анакардыевых, пашыранае ў тропіках; дае каштоўную драўніну, едкі бальзам, алей і камедзь.

**АКА́ЗІЯ** (лац. occasio = выпадак, падстава) — 1) зручны выпадак (напр. паслаць пісьмо з аказіяй); 2) нечаканае здарэнне, непрадбачаны выпадак (Вось дык а.!).

**АКАЗІЯНАЛІ́ЗМ** (ад с.-лац. occasionalis = выпадковы) — 1) ідэалістычны напрамак у еўрапейскай філасофіі 17 ст., які адмаўляў сувязь паміж псіхічнымі і фізічнымі з'явамі; 2) *лінгв.* слова, пабудаванае па законах дадзенай мовы, але ўжытае адзін раз, для дадзенага выпадку.

**АКАЗІЯНА́ЛЬНЫ** (с.-лац. occasionalis = выпадковы) — *лінгв.* які не адпавядае агульнапрынятаму ўжыванню, абумоўлены спецыфічным кантэкстам ужывання.

**АКАЛА́ДА** (фр. accolade) — прамая або фігурная дужка, якая злучае некалькі нотных станаў у музычным творы.

**АКАЛЬКУЛІ́Я** (ад *а-* + лац. calculare = лічыць) — парушэнне здольнасці лічыць і разумець лікі ў выніку некаторых захворванняў галаўнога мозгу.

**АКАМАДА́ЦЫЯ** (лац. accommodatio) — прыстасаванне да пэўных умоў, з'яў, абставін (напр. а. вока, а. органаў мовы).

**АКАМАДЗІ́РАВАЦЬ** (лац. accommodare) — прыстасоўваць.

**АКАМПАНАВА́ЦЬ** гл. *акампаніраваць.*

**АКАМПАНЕМЕ́НТ** (фр. accompagnement) — 1) музычнае суправаджэнне спеваў, дэкламацыі або ігры на інструменце; 2) *перан.* падзеі, з'явы, якія ствараюць гукавы фон чаму-н. (напр. а. кананады).

**АКАМПАНІ́РАВАЦЬ, АКАМПАНАВА́ЦЬ** (іт. accompagnare) — выконваць *акампанемент.*

**АКАМПАНІЯ́ТАР** (іт. accompagnatore) — той, хто акампаніруе, выконвае партыю *акампанемента.*

**АКАНІ́Т** (н.-лац. aconitum, ад гр. akoniton) — травяністая расліна сям. казяльцовых з буйнымі жоўтымі, сінімі, фіялетавымі кветкамі

ў гронках, пашыраная ва ўмераных і субтрапічных зонах; боцікі.

**АКА́НТ** (н.-лац. acanthus, ад гр. akanthos) — 1) травяністая расліна сям. акантавых з буйным фігурным лісцем у разетках, пашыраная ў тропіках і субтропіках; 2) *архіт.* скульптурнае ўпрыгожанне *капітэлі*, *карніза* ў выглядзе лісця гэтай расліны.

**АКАНТАЛІ́МАН** (н.-лац. acantholimon) — калючая кустовая расліна сям. плюмбагавых з пурпуровымі, чырвонымі або ружовымі кветкамі ў каласках, пашыраная ад Балканскага паўвострава да Цэнтр. Азіі.

**АКАНТАМАРФІ́ТЫ** (н.-лац. acantomorphitae) — падгрупа выкапнёвых марскіх водарасцей або іх *цыстаў* з групы *акрытархаў* са сферычнай або эліпсападобнай абалонкай без грэбеняў, з простымі або разгалінаванымі вырастамі.

**АКАНТАПА́НАКС** (н.-лац. acanthopanax) — кустовая расліна сям. араліевых з фіялетава-бурымі кветкамі ў шарападобных парасоніках, пашыраная ў Паўд.-Усх. Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**АКАНТА́РЫІ** (н.-лац. acantharea) — атрад прасцейшых падкласа *радыялярый*, які аб'ядноўвае больш як 140 марскіх планктонных аднаклетачных жывёл з мінеральным шкілетам з сернакіслага стронцыю.

**АКАНТАСАМАТЫ́ДЫ** (н.-лац. acanthosomotidae) — сямейства насякомых атрада паўцвердакрылых; шкодзяць лісцевым дрэвам і кустам.

**АКАНТАСФЕ́РА** (н.-лац. acanthosphaera) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. мікрактыніевых, якая трапляецца ў *планктоне* азёр і рэк.

**АКАНТАЦЭФАЛАЛО́ГІЯ** (ад *акантацэфалы* + *-логія*) — навука, якая вывучае паразітычных чарвей у арганізме рыб, птушак, млекакормячых.

**АКАНТАЦЭФАЛЁЗ** (ад *акантацэфалы*) — глісная хвароба жывёл, якая выклікаецца акантацэфаламі.

**АКАНТАЦЭФА́ЛЫ** (ад гр. acantha = калючка + kephale = галава) — клас *нематгельмінтаў*, чэрві з вераценападобным целам даўжынёй ад 1 да 65 см, якія з'яўляюцца паразітамі рыб, птушак і млекакормячых; скрэбні.

**АКАНТО́ДЫ** (н.-лац. acanthodei, ад гр. akantha = калючка) — група вымерлых акулападобных рыб, на плаўніках якіх, акрамя хваставых, былі моцныя калючыя шыпы; жылі ў *палеазоі*.

**АКАНТЫ́Т** (ад гр. akantha = калючка) — мінерал класа сульфідаў жалезіста-чорнага колеру, сульфід серабра з групы *аргентыту*.

**АКА́ПІ** (з мовы мбуба okapi) — парнакапытнае млекакормячае сям. жырафавых, якое пашырана ў Афрыцы.

**А КА́ПІТЭ** (лац. a capite = ад раздзела) — 1) першы радок новага раздзела; 2) частка тэксту, якая пачынаецца з *абзаца*.

**А КАПЭ́ЛА** (іт. a cappella) — харавы спеў без інструментальнага суправаджэння.

# А

**АКАРАІДО́ЗЫ** (н.-лац. acaroidea, ад гр. akari = клешч) — інвазійная хвароба скуры жывёл і чалавека, якая выклікаецца кароставымі кляшчамі.

**АКАРАЛО́ГІЯ** (ад гр. akari = клешч + *-логія*) — раздзел *заалогіі*, які вывучае кляшчоў.

**АКАРАПІДО́З** (ад гр. akari = клешч + лац. apis = пчала) — хвароба пчол, якая выклікаецца кляшчом.

**АКАРАСПО́РА** (н.-лац. acarospora) — накіпны сумчаты лішайнік сям. акараспоравых, які расце на валунах і цэментаваных падмурках.

**АКАРДЭАНІ́СТ** (ад *акардэон*) — музыкант, які іграе на акардэоне.

**АКАРДЭО́Н** (фр. accordeon) — храматычны гармонік з клавіятурай фартэпіяннага тыпу для правай рукі.

**АКАРО́ЗЫ** (ад гр. akari = клешч) — тое, што і *акарынозы*.

**АКАРЫ́ДЫІ** (н.-лац. acaridiae) — група кляшчоў атрада акарыформных, сярод якіх многія — шкоднікі збожжа, сельскагаспадарчых прадуктаў, паразіты жывёл і чалавека.

**АКАРЫ́НА** (іт. ocarina = *літар.* гусяня) — музычны інструмент класа аэрафонаў віду глабулярных флейтаў; мае гліняны корпус, свістковае прыстасаванне, 8—10 іграевых адтулін.

**АКАРЫНО́ЗЫ** (ад гр. akari = клешч + *-ноз*) — хваробы, якія выклікаюцца паразітычнымі кляшчамі, напр. кароста.

**АКАРЫ́НЫ** (н.-лац. acarina, ад гр. akari = клешч) — група членістаногіх жывёл класа *арахнідаў* з шарападобным або прадаўгаватым целам даўжынёй ад 0,2 мм да 3 см, якая ў сусветнай фауне налічвае больш за 10 тысяч відаў; многія — паразіты, пераносчыкі ўзбуджальнікаў розных хвароб; кляшчы.

**АКАРЫЦЫ́ДЫ** (ад гр. akari = клешч + *-цыды*) — рэчывы, якія прымяняюцца для барацьбы з кляшчамі.

**АКАРЫЯ́ЗІС** (ад гр. akari = клешч) — хвароба раслін, якая выклікаецца кляшчамі.

**АКАСМІ́ЗМ** (ад *а-* + *космас*) — філасофскае і рэлігійнае вучэнне, якое прапаведуе погляды аб нікчэмнасці свету.

**АКА́ФІСТ** (гр. akathistos) — асобны від малітоўна-хвалебных песень у гонар Хрыста, Багародзіцы і святых.

**АКА́ЦЫЯ** (лац. acacia, ад гр. akakia) — дрэва або куст сям. бабовых з размешчанымі папарна дробнымі лісцямі і гронкамі белых або жоўтых духмяных кветак.

**АКВА-** (лац. aqua = вада) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «водны».

**АКВАДА́Г** (ад *аква-* + англ. dag = графітавы пыл) — сумесь *графіту* з вадою, якая выкарыстоўваецца для пакрыцця ўнутранай паверхні электравакуумных прыбораў.

**АКВАКУЛЬТУ́РА** (ад *аква-* + *культура*) — развядзенне і таварнае вырошчванне каштоўных водных арганізмаў (рыб, ракападобных, малюскаў, водарасцяў).

**АКВАЛА́НГ** (англ. aqualung, ад лац. aqua = вада + англ. lung = лёг-

кае) — апарат для дыхання чалавека пад вадой.

**АКВАЛАНГІ́СТ** (ад *акваланг*) — плывец, які карыстаецца аквалангам.

**АКВАМАБІ́ЛЬ** (ад *аква-* + лац. mobilis = рухомы) — невялікая адкрытага тыпу падводная лодка з запасам паветра, прызначаная для перавозкі вадалазаў.

**АКВАМАРЫ́Н** (лац. aqua marina = марская вада) — мінерал, разнавіднасць *берылу*, каштоўны празрысты камень сінявата-зялёнага або блакітнага колеру.

**АКВАМЕ́ТРЫЯ** (ад *аква-* + *-метрыя*) — метады вызначэння колькасці вады ў розных рэчывах.

**АКВАНА́ЎТ** (ад *аква-* + *-наўт*) — даследчык мора, які ў спецыяльным гідракасцюме або ў падводным апараце працуе на глыбінях, недаступных вадалазу.

**АКВАНА́ЎТЫКА** (ад *аква-* + *-наўтыка*) — навука, якая вывучае магчымасці доўгага знаходжання чалавека ў моры пад вадой.

**АКВАПЛА́Н** (ад *аква-* + *-план*) — невялікі плыт, стоячы на якім і трымаючыся за буксірны канат самаходнага судна, спартсмен перамяшчаецца па вадзе.

**АКВАРЫ́СТЫКА** (ад лац. aquarium = вадаём) — развядзенне жывёл і раслін у *акварыумах*.

**АКВА́РЫУМ** (лац. aquarium = вадаём) — 1) штучны вадаём або шкляная пасудзіна з вадой для рыб, водных жывёл і раслін; 2) спецыяльная навуковая ўстанова, якая вывучае і дэманструе прадстаўнікоў марской і прэснаводнай фауны і флоры.

**АКВАРЭЛІ́СТ** (ад *акварэль*) — мастак, які піша акварэллю.

**АКВАРЭ́ЛЬ** (іт. acquarella, ад лац. aqua = вада) — 1) *фарба*, якая разбаўляецца вадой; 2) карціна, малюнак, напісаныя такімі фарбамі.

**АКВАТО́РЫЯ** [ад *аква-* + *(тэры)торыя*] — участак воднай паверхні ў моры або порце.

**АКВАТЫ́НТА** (іт. acquatinta) — від *гравюры*, атрыманы шляхам траўлення кіслатой пакрытай тонкім слоем асфальту або каніфолі металічнай плацінкі, на якую іголкай нанесены малюнак.

**АКВАТЫ́ПІЯ** (ад *аква-* + *-тыпія*) — друкаванне малюнкаў вадзянымі (абястлушчанымі) фарбамі.

**АКВАФО́РТА** (іт. acquaforte) — тое, што і *афорт*.

**АКВЕДУ́К** (лац. aquaeductus) — збудаванне ў выглядзе моста для правядзення водаправодных труб праз глыбокі яр, раку, чыгунку.

**АКВІЗІ́ТАР** (лац. acquisitor = набытчык) — агент транспартных або страхавых арганізацый, у абавязкі якога ўваходзіць залучэнне новых грузаў або страхаванняў.

**АКВІЗІ́ЦЫЯ** (лац. acquisitio) — 1) залучэнне новых кліентаў, грузаў, страхаванняў *аквізітарам*; 2) скупка акцыянерам (групай акцыянераў) усіх акцый прадпрыемства, што азначае куплю гэтага прадпрыемства.

**АКВІЛЕ́ГІЯ** (н.-лац. aquilegia, ад лац. aqua = вада) — травяністая расліна сям. казяльцовых з буйнымі сінімі або фіялетавымі кветкамі, пашыраная ва ўмераных зонах; ворлікі.

# А

**АКВІЛО́Н** (гр. aquilo, -onis) — рэзкі паўночны вецер.

**АКІНА́К** (гр. akinakes) — кароткі меч ці кінжал, традыцыйная зброя старажытных іранамоўных народаў (персаў, сакаў, саўраматаў, скіфаў).

**АКІНАСПЕРМІ́Я** (ад *а-* + гр. kineo = прыводзіць у рух + *сперма*) — поўная нерухомасць жывых *сперматазоідаў* у сперме і няздольнасць іх да апладнення.

**АКІНЕ́ЗІЯ** (гр. akinesia = нерухомасць) — страта здольнасці да актыўных рухаў у выніку паралічу, болю, пры некаторых псіхічных захворваннях.

**АКІЯ́Н** (гр. Okeanos = імя міфалагічнага бога воднай стыхіі) — 1) непарыўная водная абалонка Зямлі, якая акружае мацерыкі і астравы, мае агульны салявы састаў; Сусветны а.; 2) водная прастора паміж мацерыкамі (напр. Атлантычны а.); 3) *перан.* што-н. неабсяжнае, неабдымнае (напр. паветраны а.).

**АКІЯНАГРА́ФІЯ** (ад *акіян* + *-графія*) — раздзел *акіяналогіі*, які вывучае памеры і глыбіню акіянаў і мораў, характар іх берагоў, будову дна, рух вады, цеплавыя, аптычныя і акустычныя з'явы.

**АКІЯНАЛО́ГІЯ** (ад *акіян* + *-логія*) — навука, якая вывучае фізічныя, хімічныя, геалагічныя працэсы ў Сусветным акіяне.

**АКІЯНА́РЫУМ, АКІЯНА́РЫЙ** [ад *акіян* + *(акв)арыум*] — вялікі басейн з марской вадой або спецыяльна выдзелены прыбярэжны ўчастак мора для развядзення, вывучэння і дэманстрацыі марскіх жывёл (рыб, дэльфінаў, цюленяў і інш.).

**АКІЯНА́ЎТ** (ад *акіян* + *-наўт*) — спецыяльна падрыхтаваны чалавек, які даследуе марскія глыбіні.

**АКІЯНІ́ДЫ** (ад гр. Okeanis, -idos = імя дачкі Акіяна, міфалагічнага бога воднай стыхіі) — марскія *німфы* (паводле старажытнагрэчаскай міфалогіі).

**АКІЯНО́ГРАФ** (ад *акіян* + *-граф*) — спецыяліст у галіне *акіянаграфіі.*

**АКІЯНО́ЛАГ** (ад *акіян* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *акіяналогіі.*

**АКЛАМА́ЦЫЯ** [лац. acclamatio = крык] — прыняцце або адхіленне сходам якой-н. прапановы без падліку галасоў, на падставе рэакцыі ўдзельнікаў сходу, што выяўляецца ў выгуках, розных рэпліках.

**АКЛІМАТЫЗАВА́ЦЬ** [ад лац. ас = да + *клімат*] — прыстасаваць расліну, жывёліну да новага клімату, да жыцця ў новых геаграфічных, пераважна кліматычных умовах.

**АКЛІМАТЫЗА́ЦЫЯ** [ад лац. ас = да + *клімат*] — 1) прыстасаванне жывёл і раслін да жыцця ў новых геаграфічных, пераважна кліматычных умовах; 2) прыстасаванне чалавека да жыцця, працы ў новым асяроддзі.

**АКЛІМА́ЦЫЯ** (ад лац. ас + *клімат*) — сукупнасць карысных гамеастатычных змен у арганізме, якія даюць яму магчымасць існаваць пры змене ўмоў асяроддзя.

**АКЛЮЗАВА́ЦЬ** (лац. occludere = замыкаць) — мець здольнасць паглынаць газы (пра металы).

**АКЛЮ́ЗІЯ** (лац. occlusio = замыканне) — 1) паглынанне газаў металамі; 2) выцясненне цёплага паветра ў больш высокія слаі атмасферы халодным паветрам; 3) змыканне зубоў верхняй і ніжняй сківіцы.

**АКМЕ́ІЗМ** (ад гр. akme = вяршыня) — мадэрнісцкая плынь у рускай паэзіі пач. 20 ст., якая прапагандавала тэорыю «чыстага мастацтва», індывідуалізм і містыку.

**АКМІНІ́Т** [ад *ак(устыка)* + *мін(ерал)*] — будаўнічы матэрыял, непранікальны для гукаў.

**АКМІ́Т** (ад гр. akme = вастрыё) — мінерал, бурая ігольчатая разнавіднасць *эгірыну*.

**А-КО́НТА** (іт. a conto = у рахунак) — *камерц.* у рахунак плацяжу.

**АКО́РД** (іт. accordo = згода, сугучнасць) — 1) спалучэнне некалькіх розных па вышыні музычных гукаў, якое ўспрымаецца як гукавое адзінства; 2) набор струн для смычковага або шчыпковага музычнага інструмента; 3) *перан.* дзеянне, якім што-н. завяршаецца.

**АКО́РДНЫ** (ад іт. accordo = згода, сугучнасць) — які выконваецца паводле дагавору, здзельны; а-ая аплата — плата, якая ўстанаўліваецца не за адпрацаваны час, а за аб'ём выкананай работы.

**АКО́РУС** (н.-лац. acorus) — від *аеру* з сіметрычным ізумрудна-зялёным лісцем, пашыраны пераважна ў Японіі, дзе называецца японскім чаротам; на Беларусі вырошчваецца як акварыумная расліна; аер злакавы.

**АКР** (англ. acre) — зямельная мера ў Англіі і Паўн. Амерыцы, роўная 4 *рудам*, або 0,4047 га.

**АКРА-** (гр. akros = крайні, самы аддалены, высокі) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці, «які адносіцца да канечнасцей, органаў, частак цела», «які адносіцца да вяршыні», «верхні».

**АКРАБАЛІ́СТЫ** (ад akrobolistes = стралкі) — старажытнагрэчаскія коннікі, узброеныя дроцікамі або лукамі і мячамі, якія не выкарыстоўвалі ні латаў, ні шчытоў.

**АКРАБА́Т** (фр. acrobate, ад гр. akrobates = які лезе ўгору) — умелы гімнаст, звычайна цыркавы.

**АКРАБАТЫ́ЗМ** (ад *акрабатыка*) — акрабатычны спорт у выкананні гімнастычных практыкаванняў.

**АКРАБА́ТЫКА** (гр. akrobatikos = які лазіць угары) — 1) від спорту, які ўключае скачкі, стойкі, піраміды і іншыя фізічныя практыкаванні; спартыўная а.; 2) від фізічных практыкаванняў накшталт гімнастычных; 3) жанр цыркавога і эстраднага мастацтва.

**АКРАБАТЫ́ЧНЫ** (гр. akrobatikos = які лазіць угары) — 1) які мае дачыненне да *акрабатыкі* (нар. а-ая гімнастыка); 2) спрытны, уласцівы *акрабату.*

**АКРАВЕ́РШ** (ад *акра-* + *верш*) — верш, у якім пачатковыя літары радкоў складаюць якое-н. імя, слова або фразу.

**АКРАДЭРМАТЫ́Т** (ад *акра-* + *дэрматыт*) — група хвароб з выключным або пераважным пашкоджаннем скуры канечнасцей.

# А

**АКРАКЛІ́НУМ** (н.-лац. acroclinium) — травяністая расліна сям. складанакветных з белымі або ружовымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў Аўстраліі і Паўд. Афрыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**АКРАЛЕІ́Н** (ад лац. acer, acris = востры + oleum = алей) — арганічнае злучэнне, бясколерная слёзатачывая вадкасць з рэзкім пахам.

**АКРАМЕГА́ЛІЯ** (ад *акра-* + гр. megas, -alou = вялікі) — непрапарцыянальны, празмерны рост канечнасцей і касцей твару ў сувязі з парушэннем функцыі *гіпофіза*.

**АКРАМЕЛАНІ́ЗМ** (ад *акра-* + гр. melas = чорны) — разнавіднасць *альбінізму*, калі жывёліна не пазбаўлена цалкам пігменту — вушы, хвост, морда афарбаваны.

**АКРАМО́НІЙ** (н.-лац. acremonium) — недасканалы грыб сям. дэмацыевых, які развіваецца на раслінных, цэлюлозазмяшчальных субстратах, у глебе, на сене, гнілых яблыках, пашкоджаных клубнях бульбы, жывых раслінах і скуры чалавека і жывёл.

**АКРАПЕТА́ЛЬНЫ** (ад гр. akron = вяршыня + лац. petere = імкнуцца) — накіраваны да вяршыні, напр. парадак распускання кветак у шэрагу суквеццяў (гронка, колас, шчыток).

**АКРАСО́МА** (ад *акра-* + *сома*) — верхняя частка галоўкі *сперматазоіда*.

**АКРАТАФО́Р** (гр. akratophoros = пасудзіна для чыстага віна) — герметызаваны *рэзервуар*, які прымяняецца ў вытворчасці шампанскіх він.

**АКРАТЭ́РЫЙ** (гр. akroterion) — скульптурнае ўпрыгожанне над вугламі *франтона* архітэктурнага збудавання.

**АКРАФАНІ́Я** (ад *акра-* + *-фанія*) — складанаскарочаныя словы з пачатковых літар словазлучэння, якія чытаюцца не па назвах літар, а як звычайнае слова (напр. загс, нэп).

**АКРАЦЫЯНО́З** (ад *акра-* + *цыяноз*) — сінюшная афарбоўка канечнасцей пераважна пры разладзе кровазвароту.

**АКРАЦЭФА́ЛІЯ** (ад *акра-* + *-цэфалія*) — *анамалія* формы чэрапа, пры якой галава выцягнута ўверх накшталт вежы.

**АКРО́НІМ** (ад гр. akros = высокі + onyma = імя) — *абрэвіятура*, утвораная з пачатковых літар (напр. СНД, НАТО).

**АКРО́ПАЛЬ** (гр. akropolis) — узвышаная ўмацаваная частка старажытнагрэчаскага горада.

**АКРУ́ТНЫ** (польск. okrutny) — 1) жорсткі, люты (напр. а. чалавек); 2) цяжкі, бязвыхадны (напр. а-ае становішча).

**АКРЫДЗІ́Н** (ад лац. acer, acris = востры) — *гетэрацыклічнае* арганічнае злучэнне, якое змяшчаецца ў каменнавугальнай смале; выкарыстоўваецца ў вытворчасці фарбаў і лякарстваў.

**АКРЫ́ДЫ** (гр. akris, -idos = саранча) — насякомыя сям. саранчовых атрада прамакрылых; к а р м і ц ц а а к р ы д а м і і д з і к і м м ё д а м — галадаць, мізэрна харчавацца.

**АКРЫ́Л** (ад лац. acer = востры) — бясколерная празрыстая маса, з

якой вырабляюць шкло для акуляраў.

**АКРЫ́ЛАВЫ** (ад *акрыл*); а - а я к і с л а т а — арганічнае злучэнне *аліфатычнага* рада, бясколерная вадкасць, якая выкарыстоўваецца для сінтэзу штучных смолаў, як кампанент друкарскіх фарбаў, лакаў і інш.

**АКРЫЛАМІ́Д** (ад *акрыл* + *амід*) — арганічнае злучэнне, амід акрылавай кіслаты, цвёрды бясколерны крышталічны прадукт, які выкарыстоўваецца для сінтэзу супалімераў.

**АКРЫЛАНІТРЫ́Л** (ад *акрыл* + *нітрыл*) — арганічнае злучэнне, нітрыл акрылавай кіслаты, бясколерная вадкасць з характэрным пахам, якая выкарыстоўваецца для вырабу пластмас і сінтэтычнага каўчуку.

**АКРЫЛА́ТЫ** (ад *акрыл*) — арганічныя злучэнні, солі і эфіры акрылавай кіслаты.

**АКРЫТА́РХІ** (ад гр. akritos = няясны + arche = паходжанне) — група выкапнёвых аднаклетачных марскіх водарасцей або іх *цыстаў* незразумелага паходжання акруглай, эліпсападобнай, шматвугольнай формы з гладкай або зярністай кропкавай паверхняй, часам з вырастамі, вядомая ад *пратэразою*.

**АКРЫХІ́Н** (ад лац. acer, acris = востры + *хінін*) — *фарм.* сінтэтычны супрацьмалярыйны *прэпарат*.

**АКРЫЦЫ́Д** (ад лац. acer, acris = востры + *-цыд*) — лекавы *прэпарат* для барацьбы з мікробамі, *антысептык*.

**АКРЭДЫТАВА́ЦЬ** (фр. accréditer, ад лац. accredere = давярацць) — 1) прызначыць каго-н. дыпламатычным прадстаўніком пры ўрадзе іншай дзяржавы або пастаянным прадстаўніком дзяржавы пры міжнароднай арганізацыі; 2) даручыць каму-н. атрымаць грошы або весці гандлёвыя аперацыі.

**АКРЭДЫТА́ЦЫЯ** (фр. accréditation, ад лац. accredere = даваряць) — афіцыйнае прызначэнне дыпламатычнага прадстаўніка пры ўрадзе іншай дзяржавы або пастаяннага прадстаўніка дзяржавы пры міжнароднай арганізацыі.

**АКРЭДЫТЫ́Ў** (фр. accréditif, ад лац. accreditivus = вярыцельны) — 1) дакумент на права атрымання кім-н. пэўнай сумы грошай у ашчадным банку; 2) від банкаўскага рахунка, паводле якога ажыццяўляюцца безнаяўныя разлікі; 3) вярыцельная грамата, якая пацвярджае паўнамоцтвы дыпламатычнага прадстаўніка пры ўрадзе іншай дзяржавы.

**АКРЭДЫТЫ́ЎНЫ** (лац. accreditivus) — вярыцельны (напр. а-ая грамата).

**АКРЭМАНІЁЛА** (н.-лац. acremoniella) — недасканалы грыб сям. дэмацыевых, якія развіваецца на розных раслінных субстратах, у глебе, на сельскагаспадарчых культурах.

**АКРЭ́ЦЫЯ** (лац. accretio) — захоп нябесным целам рэчыва з акаляючай міжпланетнай прасторы, напр. захоп Зямлёй метэорнага рэчыва.

**АКСАКА́Л** (цюрк. āqsaqal, ад āq = белы + saqal = барада) — паважаны, умудроны жыццём чалавек у народаў Сярэд. Азіі.

# А

**АКСАЛА́ТЫ** (ад гр. oksys = кіслы + hals = соль) — солі шчаўевай кіслаты.

**АКСАЛО́ТЛЬ** (фр. axolotle, з індз.) — лічынка некаторых *амблістом*, здольная да размнажэння; выкарыстоўваецца ў эксперыментальных работах па біялогіі.

**АКСАМІ́Т** (гр. heksamiton = з шасці нітак) — 1) тоўстая шаўковая тканіна з кароткім густым ворсам з аднаго боку; 2) дрэва сям. рутавых з няпарнаперыстым лісцем, пашыранае ва Усх. Азіі; вырошчваецца ў садах і парках Беларусі.

**АКСАНАМЕ́ТРЫЯ** (ад гр. akson = вось + *-метрыя*) — спосаб адлюстравання прадметаў, пры якім на плоскасць праектуюцца і прадмет, і восі прамавугольнай сістэмы *каардынат*, з якімі суадносіцца прадмет.

**АКСАПЛА́ЗМА** (ад *аксон* + *плазма*) — частка *цытаплазмы* нервовай клеткі, якая ўваходзіць у склад яе *аксона*.

**АКСАФЕНАМІ́Д** (ад гр. oksys = кіслы + phaino = свячу + *амід*) — лекавы *прэпарат*, жоўцегонны сродак, які выкарыстоўваецца пры хранічных *халецыстытах*, халангітах і інш.

**АКСЕЛЕРА́Т** (ад *акселерацыя*) — падлетак, які вызначаецца раннім развіццём.

**АКСЕЛЕРА́ТАР** (ад лац. accelerare = паскараць) — 1) рэгулятар колькасці гаручай сумесі, што паступае ў цыліндры аўтамабільных і іншых рухавікоў унутранага згарання; 2) эканамічны паказчык, які характарызуе сувязь паміж аб'ёмам капіталаўкладанняў і велічынёй спажывецкіх выдаткаў у эканоміцы.

**АКСЕЛЕРА́ЦЫЯ** (лац. acceleratio = паскарэнне) — паскоранае фарміраванне арганізма ці асобных органаў.

**АКСЕЛЕРО́ГРАФ** (ад лац. accelerare = паскараць + *-граф*) — *акселерометр* з аўтаматычным запісвальным устройствам.

**АКСЕЛЕРО́МЕТР** (ад лац. accelerare = паскараць + *-метр*) — прыбор для вымярэння паскарэння або перагрузак у транспартных машынах, самалётах і іншых лятальных апаратах.

**А́КСЕЛЬ** [нарв. P.Axel = прозвішча нарв. канькабежца-фігурыста (1865—1938)] — *сп.* скачок у паўтара абарота з адной нагі на другую ў адзіночным фігурным катанні.

**АКСЕЛЬБА́НТ** (ням. Achselband) — наплечны шнур на мундзіры як прыналежнасць парадная формы афіцэраў многіх армій; ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь — прыналежнасць парадная формы адзення ганаровай варты, удзельнікаў ваенных парадаў.

**АКСЕРАФТО́Л** (ад *а-* + гр. kseros = сухі + ophthalmos = вока + *-ол*) — *уст.* вітамін А.

**АКСЕСУА́Р** (фр. accessoire = дапаможны, другарадны) — 1) дробная рэч, прадмет тэатральнага абсталявання; 2) *перан.* прыватнасць, другарадная дэталь чаго-н. (у жывапісе, літаратуры, скульптуры).

**АКСІ-** (гр. oksys = кіслы) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае прысутнасць

кіслароду ў злучэннях або сумесях.

**АКСІАНІЛІ́НЫ** (ад *аксі-* + *анілін*) — тое, што і *амінафенолы*.

**АКСІБІЁНТЫ** [ад *аксі(ген)* + *біёнты*] — тое, што і *аэробы*.

**АКСІГЕМАГЛАБІ́Н** (ад *аксі-* + *гемаглабін*) — арганічнае рэчыва, якое ўтвараецца ў органах дыхання пры злучэнні гемаглабіну з кіслародам.

**АКСІГЕМАМЕ́ТРЫЯ** [ад *аксігема(глабін)* + *-метрыя*] — фотаметрычны метад вымярэння ступені насычанасці артэрыяльнай крыві кіслародам.

**АКСІГЕМО́МЕТР** [ад *аксігема(глабін)* + *-метр*] — прыбор для вымярэння ступені насычанасці кіслародам артэрыяльнай крыві чалавека.

**АКСІГЕ́Н, АКСІГЕ́НІУМ** (лац. oxygenium, ад гр. oksys = кіслы + genos = нараджэнне) — лацінская назва кіслароду, якая ўжываецца ў назвах яго злучэнняў, працэсаў з яго ўдзелам.

**АКСІГЕНА́ЗЫ** (ад *аксіген*) — ферменты класа *аксідарэдуктазаў*, якія каталізуюць далучэнне двух атамаў кіслароду да малекулы субстрата.

**АКСІГЕНА́ТАР** (ад *аксіген*) — апарат, які замяняе лёгкія ў час хірургічнай аперацыі.

**АКСІГЕНАТЭРАПІ́Я** (ад *аксіген* + *тэрапія*) — штучнае ўвядзенне кіслароду ў арганізм чалавека з лячэбнай мэтай.

**АКСІДАВА́ЦЬ** (фр. oxyder, ад гр. oksys = кіслы) — праводзіць *аксідацыю*.

**АКСІДА́ЗЫ** (ад *аксіды*) — акісляльныя *ферменты* расліннага і жывёльнага паходжання, якія выконваюць важную ролю ў жыццёвых працэсах.

**АКСІДАРЭДУКТА́ЗЫ** (ад *аксіды* + лац. reductare = адводзіць назад) — клас *ферментаў*, якія паскараюць або запавольваюць акісляльна-аднаўленчыя рэакцыі ў арганізмах.

**АКСІДА́ЦЫЯ** (ад фр. oxyder = акісляць, ад гр. oksys = кіслы) — уздзеянне акісленнем на верхні слой металу, каб засцерагчы ад карозіі або надаць прыгожы знешні выгляд.

**АКСІ́ДЫ** (фр. oxyde = вокісел, ад гр. oksys = кіслы) — злучэнні хімічных элементаў з кіслародам; вокіслы.

**АКСІДЫМЕ́ТРЫЯ** (ад *аксіды* + *-метрыя*) — метад колькаснага аналізу, заснаваны на выкарыстанні акісляльна-аднаўленчых рэакцый.

**АКСІЁМА** (лац. axioma, ад гр. aksioma) — 1) суджэнне, якое прымаецца без доказу як зыходнае палажэнне навуковай тэорыі; 2) *перан.* відавочная, агульнавядомая ісціна.

**АКСІЁМЕТР** (ад гр. aksios = які ўтрымлівае раўнавагу + *-метр*) — 1) інструмент для вымярэння адхілення восі прыбора ад пачатковай плоскасці; 2) прыбор для вызначэння вугла адхілення руля ад дыяметральнай плоскасці судна.

**АКСІКО́РТ** (ад *аксі-* + лац. cortex = кара, скура) — *антыбіётык*, які выкарыстоўваецца для лячэння ін-

фіцыраваных ран, гнойных хвароб скуры.

**АКСІЛАФІ́ТЫ** (ад *аксі-* + гр. ilys = глей + *-фіты*) — расліны, якія растуць на кіслых глебах, напр. некаторыя віды імхоў і верасовых, карлікавая бяроза, журавіны.

**АКСІЛІКВІ́Т** [ад *аксі(ген)* + лац. liquidus = вадкі] — выбуховае рэчыва, сумесь вадкага кіслароду з гаручымі порыстымі матэрыяламі (вугалем, апілкамі, торфам, саломай).

**АКСІЛІ́Т** (ад гр. oksys = кіслы) — тэхнічная назва перакісу натрыю.

**АКСІ́МАРАН** гл. *аксюмаран*.

**АКСІНАФТАЛІ́НЫ** (ад *аксі-* + *нафталін*) — тое, што і *нафтолы*.

**АКСІНІ́Т** (ад гр. aksine = сякера) — мінерал класа *сілікатаў*, пераважна бурага колеру з рознымі адценнямі.

**АКСІО́ПЕС** (н.-лац. oxyopes) — павук карычневай афарбоўкі з падоўжнымі белымі лініямі на задняй частцы брушка, пашыраны ў паўночнай і сярэдняй частцы Еўропы; жыве ў траве, на кустах і дрэвах у лесе.

**АКСІПО́Р** (н.-лац. oxyporus) — губавы *базідыяльны* грыб сям. паліпоравых, які расце на дрэвах і мёртвай драўніне лісцевых і хвойных парод.

**АКСІПРАЛІ́Н** (ад *аксі-* + *пралін*) — арганічнае рэчыва з групы амінакіслот, якое ўваходзіць у склад бялкоў раслінных і жывёльных арганізмаў, напр. у жэлацін, казеін.

**АКСІПТЫ́ЛЯ** (н.-лац. oxyptila) — павук сям. бакаходаў, які жыве пад полагам лесу на паверхні глебы.

**А́КСІРЫС** (н.-лац. axyris) — травяністая расліна сям. лебядовых з дробнымі непрыгляднымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная ў Еўразіі; пустазелле.

**А́КСІС** (лац. axis) — млекакормячае сям. аленяў, якое водзіцца ў лясах Індыі і на востраве Шры-Ланка.

**АКСІТАЦЫ́Н** (ад *аксі-* + гр. tokos = нараджэнне) — *гармон* задняй часткі *гіпофіза*, які выклікае скарачэнне гладкай мускулатуры ўнутраных органаў (пераважна маткі).

**АКСІТРЫПТАФА́Н** (ад *аксі-* + *трыптафан*) — араматычная амінакіслата, прамежкавы прадукт ператварэння трыптафану ў сератанін.

**АКСІЯЛО́ГІЯ** (ад гр. aksios = каштоўны + *-логія*) — філасофскае вучэнне аб маральных, эстэтычных і іншых каштоўнасцях.

**АКСІЯ́ЛЬНЫ** (ад лац. axis = вось) — восевы.

**АКСІЯМА́ТЫКА** (ад гр. aksiomatikos = выражаны ў аксіёмах) — сукупнасць *аксіём*, пакладзеных у аснову той або іншай навукі.

**АКСО́Н** (гр. akson = вось) — адростак нервовай клеткі (*нейрона*), які праводзіць нервовы імпульс да органаў і іншых нервовых клетак.

**АКСО́Н-РЭФЛЕ́КС** (ад *аксон* + *рэфлекс*) — нервовая рэакцыя, якая адбываецца ў межах разгалінаванняў нервовага валакна без удзелу галаўнога і спіннога мозгу.

**АКСЮ́МАРАН, АКСІ́МАРАН** (гр. oksymoron = дасціпна-бязглуздае) — стылістычны прыём наў-

мыснага спалучэння семантычна процілеглых слоў, у выніку чаго ўзнікае новы сэнсавы змест (напр. гаючы боль, звонкая цішыня).

**АКТ** (лац. actus) — 1) аднаразовае праяўленне якой-н. дзейнасці, учынак, падзея (напр. гістарычны а., тэрарыстычны а.); 2) афіцыйны дакумент, які пацвярджае што-н.; 3) закончаная частка п'есы; 4) урачысты сход у навучальных установах.

**АКТАБО́Л** (гр. oktobolon = 8 абалаў) — сярэбраная манета ў Стараж. Грэцыі, раўная 4/6 *драхмы*.

**АКТА́ВА** (лац. octava = восьмая) — 1) *муз.* восьмая ступень *гамы*; 2) *літ.* васьмірадковая страфа.

**А́КТАВЫ** (ад *акт*) — які мае дачыненне да акта; а-ая зала — зала для ўрачыстых пасяджэнняў; а-ыя кнігі — кнігі, у якіх натарыусы і некаторыя афіцыйныя асобы запісваюць акты і здзелкі.

**АКТАДРА́ХМА** (гр. oktadrachmon) — сярэбраная манета ў Стараж. Грэцыі, роўная 8 *драхмам*.

**АКТАГО́Н** (гр. oktagonos) — *мат.* васьмівугольнік.

**АКТАМІЯЗІ́Н** (ад *актын* + *міязін*) — комплексны бялок мышачных валокнаў, які садзейнічае іх скарачэнню.

**АКТА́Н** (ад лац. octo = восем) — насычаны вуглевадарод, бясколерная вадкасць, якая змяшчаецца ў нафце і бензіне, з'яўляецца кампанентам маторнага паліва.

**АКТА́НТ**[1] (лац. octans, -ntis) — 1) *мат.* адна з васьмі частак прасторы, падзеленай трыма ўзаемна перпендыкулярнымі плоскасцямі; 2) астранамічны інструмент, якім раней вымяралі вуглавыя адлегласці паміж нябеснымі свяцiламі.

**АКТА́НТ**[2] (фр. actant, ад лац. ago = дзейнічаю) — 1) *лінгв.* абумоўлены дзеясловам член сказа (напр. асоба або прадмет); 2) *тэатр.* персанаж, герой драматычнага твора.

**АКТАПО́ДЫ** (н.-лац. octopoda, ад гр. okto = восем + pus, podos = нага) — атрад марскіх драпежных галаваногіх малюскаў (*цэфалаподаў*) з мешкападобным целам і размешчанымі на галаве васьмю шчупальцамі; васьміногі, спруты (параўн. *дэкаподы*).

**АКТА́ЭДР** (гр. oktaedron, ад okto = восем + edra = грані) — *мат.* цела, абмежаванае васьмю правільнымі трохвугольнікамі; васьміграннік.

**АКТАЭДРЫ́Т** (ад гр. oktoedros = васьмігранны) — тое, што і *анатаз*.

**АКТО́ГРАФ** (ад *акт* + *-граф*) — прыбор для аўтаматычнага запісвання цыклу актыўнасці паддоследных жывёл.

**АКТО́Д** [ад лац. octo = восем + *(электр)од*] — электронная лямпа з васьмю электродамі (*катодам*, *анодам* і шасцю сеткамі).

**АКТРАІ́РАВАЦЬ** (фр. octroyer) — надаць манаршым актам якія-н. правы, прывілеі, напр. канстытуцыю.

**АКТРУА́** (фр. octroi = наданне) — увозныя пошліны на карысць феадала або горада ў сярэдневяковай Францыі, а пазней зборы на сельскагаспадарчыя прадукты пры іх увозе.

# А

**АКТРЫ́СА** (фр. actrice, ад лац. actor = выканаўца) — артыстка, якая выконвае ролі ў тэатры і кіно.

**АКТУАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. actualis = дзейны) — паварот да найбольш важнага, адпаведнага патрабаванням сучаснасці.

**АКТУАЛІ́ЗМ** (ад лац. actualis = дзейны) — 1) варыянт неагегельянства, распрацаваны італьянскім філосафам Д.Джэнціле; 2) параўнальна-гістарычны метад у геалогіі, які заключаецца ў вывучэнні мінулага праз пазнанне сучаснасці.

**АКТУА́ЛЬНАСЦЬ** (ад *актуальны*) — важнасць, значнасць чаго-н. на гэты момант, сучаснасць, надзённасць (напр. а. пытання).

**АКТУА́ЛЬНЫ** (лац. actualis) — 1) важны для дадзенага моманту, наспелы, надзённы (напр. а-ая тэма); 2) *філас.* які сапраўды існуе, праяўляецца ў рэчаіснасці.

**АКТУА́РЫЙ** (лац. actuarius) — спецыяліст па тэхніцы налічэння страхавых узносаў.

**АКТУА́РЫУС** (лац. actuarius) — канцылярскі пісар у дзяржаўных установах Расіі 18 ст.

**АКТЫВАВА́ЦЬ** (фр. activer, ад лац. activus = дзейны) — рабіць *актывацыю* чаго-н., пераводзіць з нядзейнага стану ў дзейны.

**АКТЫВА́ТАР** (ад лац. activus = дзейны) — рэчыва, якое паскарае, актывізуе цячэнне хімічнай рэакцыі.

**АКТЫВАЦЫ́ЙНЫ** (ад *актывацыя*); а. а н а л і з — метад вызначэння якаснага і колькаснага саставу рэчыва, які грунтуецца на апрамяненні (актывацыі) атамных ядраў і наступным вымярэнні іх радыеактыўнага выпрамянення.

**АКТЫВА́ЦЫЯ** (ад лац. activus = дзейны) — 1) вывядзенне з нядзейнага стану ў дзейны, узмацненне дзейнага стану; 2) перавод малекул у стан, пры якім яны хутчэй уступаюць у хімічныя рэакцыі; 3) спецыяльная апрацоўка дрэўнага вугалю і іншых порыстых цел для павелічэння іх здольнасці ўбіраць газы, вадкасці.

**АКТЫВІЗАВА́ЦЬ** (польск. aktywizować, ад лац. activus = дзейны) — ажыўляць, узмацняць чыю-н. дзейнасць, актыўнасць.

**АКТЫВІЗА́ЦЫЯ** (польск. aktywizacja, ад лац. activus = дзейны) — 1) ажыўленне, узмацненне чыёй-н. дзейнасці, актыўнасці; 2) развіццё інтэнсіўных тэктанічных і магматычных працэсаў у стабілізаваных раёнах зямной кары.

**АКТЫВІ́СТ** (рус. активист, ад лац. activus = дзейны) — актыўны член якога-н. калектыву; грамадскі работнік.

**АКТЫ́Н** (гр. aktis, -inos = прамень) — бялок мышачнай тканкі, які разам з *міязінам* удзельнічае ў скарачэнні мышцаў.

**АКТЫНА-** (гр. aktis, -inos = прамень) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «прамennы», «прамянёвая энергія».

**АКТЫНАБАЦЫЛЁЗ** (ад *актына- + бацыла*) — хранічная інфекцыйная хвароба жывёл, якая характарызуецца гнойнымі пашкоджаннямі мяккіх тканак галавы, шыі, лімфатычных вузлоў.

**АКТЫНАЛІ́Т** (ад *актына-* + *-літ*) — пародаўтваральны мінерал класа *сілікатаў* зялёнага колеру, які выкарыстоўваецца як вогнетрывалы матэрыял.

**АКТЫНАЛО́ГІЯ** (ад *актына-* + *-логія*) — тое, што і *актынаметрыя*.

**АКТЫНАМЕ́ТРЫЯ** (ад *актына-* + *-метрыя*) — 1) раздзел *геафізікі*, які вывучае працэсы сонечнага, зямнога і атмасфернага выпрамянення; 2) сукупнасць метадаў вымярэння *радыяцыі* Зямлі.

**АКТЫНАМІКО́ЗЫ** (ад *актына-* + *мікозы*) — хранічныя інфекцыйныя хваробы чалавека і жывёл, якія выклікаюцца *актынаміцэтамі*.

**АКТЫНАМІКСІ́ДЫІ** (н.-лац. actinomyxidia) — атрад прасцейшых класа *кнідаспарыдый*; паразіты кольчатых чарвей.

**АКТЫНАМІЦЫ́НЫ** (ад *актына-* + *-міцын*) — антыбіётыкі, якія ўтвараюцца *актынаміцэтамі*.

**АКТЫНАМІЦЭ́ТЫ** (ад *актына-* + *-міцэты*) — мікраарганізмы, для якіх характэрны рысы будовы *бактэрый* і найпрасцейшых грыбоў; прамянёвыя грыбкі.

**АКТЫНАМО́РФНЫ** (ад *актына-* + *-морфны*) — праменепадобны; а - а я к в е т к а — кветка, праз цэнтр якой можна правесці не менш як дзве плоскасці сіметрыі, што дзеляць кветку на роўныя палавіны, напр. кветка шыпшыны, кураслепу (параўн. *зігаморфны*).

**АКТЫНА́СТРУМ** (н.-лац. actinastrum) — каланіяльная зялёная водарасць сям. сценадэсмавых, якая трапляецца ў тоўшчы вады сажалак, азёр, рэк.

**АКТЫНАСТЭ́ЛА** (ад гр. aktis, -inos = прамень + *стэла*) — тып цэнтральнага цыліндра сцябла і кораня вышэйшых раслін, які складаецца з *ксілемы*, што мае ў папярочным разрэзе выгляд зоркі, і *флаэмы*, размешчанай паміж прамянямі ксілемы; характэрны для дзеразовых.

**АНТЫНАТЭ́НІУМ** (н.-лац. actinotaenium) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. касмарыевых, якая трапляецца ў невялікіх вадаёмах, рэках, на эўтрофных і мезатрофных сфагнавых балотах.

**АКТЫНАТЭРАПІ́Я** (ад *актына-* + *тэрапія*) — метад лячэння шляхам апраменьвання лячэбнымі лямпамі.

**АКТЫНАФА́ГІ** (ад *актына-* + *фагі*) — вірусы, якія паражаюць *актынаміцэтаў*.

**АКТЫНЕ́ЛА** (н.-лац. actinella) — дыятомавая прэснаводная водарасць сям. эўноцыевых, якая пашырана ў Бразіліі, Скандынавіі, на Далёкім Усходзе і на поўначы Еўропы.

**АКТЫНІ́ДЫ** (ад н.-лац. actinium = актыній + гр. eidos = выгляд) — тое, што і *актыноіды*.

**АКТЫНІ́ДЫЯ** (н.-лац. actinidia, ад гр. aktis, -inos = прамень + eidos = выгляд) — павойная кустовая расліна сям. актынідыевых з зеленавата-белымі кветкамі, пашыраная ва Усх. і Паўд.-Усх. Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**АКТЫ́НІЙ** (н.-лац. actinium, ад гр. aktis, -inos = прамень) — радые-

актыўны хімічны элемент, серабрыста-белы метал, які здабываецца з уранавай руды.

**АКТЫНІ́ЧНЫ** (ад гр. aktis, -inos = прамень) — здольны аказваць фатаграфічнае ўздзеянне на святлоадчувальны матэрыял (аб выпрамяненні).

**АКТЫ́НІЯ** (н.-лац. actiniaria, ад гр. aktis, -inos = прамень) — марская жывёла тыпу кішачнаполасцевых з праменепадобнымі шчупальцамі для захоплівання здабычы.

**АКТЫНО́ГРАФ** (ад гр. aktis, -inos = прамень + *-граф*) — самапісны прыбор для рэгістрацыі інтэнсіўнасці сонечнай *радыяцыі*.

**АКТЫНО́ІДЫ** (ад н.-лац. actinium = актыній + *-оід*) — радыеактыўныя хімічныя элементы, якія ў перыядычнай сістэме Мендзялеева размешчаны пасля *актынію*.

**АКТЫНО́МЕТР** (ад гр. aktis, -inos = прамень + *-метр*) — прыбор для вымярэння сонечнай *радыяцыі*.

**АКТЫНО́Н** [ад *актын(ій)* + *(рад)он*] — адзін з ізатопаў атамаў радону, прадукт радыеактыўнага распаду актынію.

**АКТЫ́Ў** (лац. activus = дзейны) — 1) найбольш дзейная, энергічная частка калектыву, арганізацыі; 2) частка бухгалтарскага балансу, якая ўключае матэрыяльныя каштоўнасці, грашовыя сродкі і даўгавыя патрабаванні прадпрыемства (проціл. *пасіў* 2); 3) перавышэнне грашовых даходаў краіны над яе замежнымі расходамі (проціл. *пасіў* 3); 4) усё, што мае грашовую вартасць і з'яўляецца ўласнасцю фірмы або асобы; 5) *перан.* поспехі, дасягненні, перавагі чые-н.; 6) *лінгв.* незалежны стан.

**АКТЫ́ЎНАСЦЬ** (ад *актыўны*) — уласцівасць актыўнага, дзейны ўдзел у чым-н., энергічная дзейнасць; а п т ы ч н а я а. — здольнасць некаторых рэчываў, напр. кварцу, раствору цукру, паварочваць плоскасць палярызацыі святла.

**АКТЫ́ЎНЫ** (лац. activus) — 1) дзейны, энергічны (напр. а. прапагандыст); 2) які хутка развіваецца (напр. а. працэс у лёгкіх); а. б а л а н с — перавышэнне вывазу тавараў з краіны над увозам іх у яе; 3) здольны уступаць у хімічную рэакцыю.

**АКТЭ́Т** (іт. ottetto, ад лац. octo = восем) — 1) музычны твор для васьмі галасоў або інструментаў; 2) *ансамбль* з васьмі выканаўцаў.

**АКУАРЫІДО́ЗЫ** (ад *акуарыіды*) — інвазійныя хваробы (*гельмінтозы*) свойскіх і дзікіх птушак, якія выклікаюцца акуарыідамі.

**АКУАРЫІ́ДЫ** (н.-лац. acuariidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *нематодаў*, паразітуюць у страваводзе і страўніку свойскіх і дзікіх птушак.

**АКУЗАТЫ́Ў** [лац. (casus) accusativus] — *лінгв.* вінавальны склон.

**АКУ́ЛА** (рус. акула, ад нарв. hákaal) — вялікая драпежная марская рыба з верацёнападобным целам.

**АКУЛІ́РАВАЦЬ** (ад лац. oculus = вока) — прышчэплівадь адну расліну вочкам другой расліны.

**АКУЛІРО́ЎКА** (ад лац. oculus = вока) — спосаб вегетатыўнага размнажэння раслін, пры якім на дзіч-

ку прышчэпліваюць вочка культурнага гатунку.

**АКУЛІ́СТ** (фр. oculiste, ад лац. oculus = вока) — тое, што і *афтальмолаг.*

**АКУЛЬТУРА́ЦЫЯ** (англ. acculturation, ад лац. ad = да + cultura = асвета, развіццё) — працэс узаемаўплыву культур, успрымання адным народам культуры іншага народа.

**АКУЛЬТЫ́ЗМ** (ад лац. occultus = схаваны, тайны) — містычнае вучэнне, якое прызнае існаванне таямнічых, звышнатуральных сіл і магчымасць непасрэдных зносін з імі пры дапамозе магіі.

**АКУЛЯ́Р** (лац. ocularis = вочны) — шкло ў аптычным прыборы, звернутае да вока назіральніка (напр. а. фотаапарата, а. мікраскопа).

**АКУЛЯ́РЫ** (польск. okulary, ад лац. ocularium = шчыліна для вачэй у шлеме) — прылада з двух аптычных шкельцаў у аправе, часцей на дужках, для паляпшэння бачнасці або для засцярогі вачэй ад пашкоджанняў.

**АКУМЕ́ТРЫЯ** (ад гр. akuo = чую + *-метрыя*) — тое, што і *аўдыяметрыя.*

**АКУМУЛІ́РАВАЦЬ** (лац. accumulare) — збіраць, засяроджваць што-н., напр. энергію, капітал.

**АКУМУЛЯ́ТАР** (лац. accumulator = збіральнік) — прыбор для назапашвання энергіі з мэтай далейшага яе выкарыстання.

**АКУМУЛЯ́ЦЫЯ** (лац. accumulatio) — 1) збіранне, назапашванне, канцэнтраванне чаго-н., напр. энергіі, капіталу; 2) намнажэнне рыхлага мінеральнага і арганічнага матэрыялу на паверхні сушы ці на дне вадаёмаў.

**АКУПАВА́ЦЬ** гл. *акупіраваць.*

**АКУПА́НТ** (лац. occupans, -ntis) — той, хто ўдзельнічае ў *акупацыі*; захопнік.

**АКУПАЦЫ́ЙНЫ** (ад *акупацыя*) — які мае дачыненне да акупацыі; а. р э ж ы м — спецыяльны рэжым, устаноўлены *акупантамі* на захопленай тэрыторыі.

**АКУПА́ЦЫЯ** (лац. occupatio) — часовы захоп войскамі якой-н. дзяржавы чужой тэрыторыі.

**АКУПЕ́ДЫЯ** (ад гр. akuo = чую + *-педыя*) — раздзел *педагогікі*, які даследуе праблемы выхавання і навучання дзяцей з недахопамі слыху.

**АКУПІ́РАВАЦЬ, АКУПАВА́ЦЬ** (лац. occupere) — захопліваць узброенымі сіламі чужую тэрыторыю.

**АКУПУНКТУ́РА** (ад лац. acus = іголка + punctura = укол) — метад лячэння іголкаўколваннем; іголкатэрапія.

**АКУРА́Т** (польск. akurat, ад лац. accurate = старанна, пільна) — зусім дакладна, якраз.

**АКУРА́ТНЫ** (лац. accuratus) — 1) які захоўвае ва ўсім парадак, дакладнасць (напр. а. работнік); 2) які падтрымліваецца ў парадку, старанна выкананы або выконваецца (напр. а. спытак, а-ая работа).

**АКУ́СМА** (гр. akusma = пачуццё) — *лінгв.* слыхавое ўяўленне аб гуку.

**АКУСТАЭЛЕКТРО́НІКА** [ад *акуст(ыка)* + *электроніка*] — раздзел электронікі, які вывучае ўзбу-

джэнне, распаўсюджванне і прыём акустычных хваляў у кандэнсаваных асяроддзях, узаемадзеянне іх з электрамагнітнымі палямі і электронамі праводнасці.

**АКУ́СТЫКА** (гр. akustikos = слыхавы) — 1) раздзел *фізікі*, які вывучае гук; 2) ступень чутнасці музыкі, голасу ў якім-н. памяшканні, напр. у канцэртнай зале.

**АКУСТЫ́ЧНЫ** (гр. akustikos = слыхавы) — які мае дачыненне да гукаў, *акустыкі*.

**АКУ́Т** (лац. acutus = востры) — узыходны націск у старажытнагрэчаскай, сербскай і іншых мовах, а таксама знак гэтага націску.

**АКУШЭ́Р** (фр. accoucheur) — урач, спецыяліст па аказванню дапамогі жанчыне пры цяжарнасці і родах.

**АКУШЭ́РКА** (ад *акушэр*) — жанчына з сярэдняй медыцынскай адукацыяй, якая мае права самастойна аказваць дапамогу пры родах.

**АКУШЭ́РСТВА** (ад фр. accoucher = дапамагаць пры родах) — 1) раздзел *медыцыны*, які вывучае пытанні цяжарнасці, родаў, пасляродавага перыяду, іх фізіялогіі, розных парушэнняў, правільнай медыцынскай дапамогі парадзісе; 2) аказанне практычнай медыцынскай дапамогі пры родах.

**АКХ’Я́НА** (санскр. akchjana = апавяданне) — апавядальныя жанры помнікаў літаратуры старажытных народаў Індыі.

**АКЦЁР** (фр. acteur, ад лац. actor = выканаўца) — *артыст*, які выконвае ролі ў тэатры і кіно.

**АКЦЫДЭ́НТНЫ** (лац. accidens, -ntis) — 1) выпадковы, пабочны, неістотны; 2) звязаны з выкананнем дробных друкарскіх работ (бланкаў, анкет, атэстатаў, аб’яў, афіш, ярлыкоў і інш.).

**АКЦЫДЭ́НЦЫЯ** (лац. accidentia = выпадак) — 1) выпадковая, мінучая, неістотная ўласцівасць; 2) выкананне дробных друкарскіх работ (бланкаў, анкет, атэстатаў, аб’яў, афіш, ярлыкоў і інш.).

**АКЦЫ́З** (фр. accise) — ускосны падатак за продаж тавараў шырокага ўжытку, які ўключаецца ў цану тавара.

**А́КЦЫЯ** [1] (польск. akcja, ад лац. actio = дзеянне) — дзеянне, накіраванае на дасягненне якой-н. мэты (напр. дыпламатычная а., палітычная а.).

**А́КЦЫЯ**[2] (фр. action, ад лац. actio = дзеянне) — каштоўная папера, якая сведчыць аб грашовым укладзе яе трымальніка ў прадпрыемства і аб яго праве на атрыманне адпаведнай часткі прыбытку гэтага прадпрыемства.

**АКЦЫЯНЕ́Р** (фр. actionnaire) — удзельнік прадпрыемства, заснаванага на *акцыях*; уладальнік акцый.

**АКЦЫЯНЕ́РНЫ** (ад фр. actionnaire = акцыянер) — заснаваны на *акцыях*; а-ае таварыства — асноўная арганізацыйная форма прадпрыемстваў, капітал якіх утвараецца шляхам продажу акцый.

**АКЦЭ́НТ** (лац. accentus) — 1) асаблівасці вымаўлення, якія праяўляюцца пры размове чалавека не на роднай мове; 2) націск у слове, а таксама знак націску; 3) *перан.*

падкрэсліванне асобных думак, слоў пры гаворцы; з р а б і ц ь а. н а ч ы м.-н. — звярнуць увагу на што-н.; 4) *муз.* выдзяленне гуку або акорда шляхам яго ўзмацнення.

**АКЦЭНТАВА́ЦЬ** (лац. accentuare) — 1) выразна вымаўляць, падкрэсліваючы гукі, словы, выразы; 2) *перан.* падкрэсліваць асобную думку ў выказванні; 3) *муз.* выдзяляць гук або акорд шляхам яго ўзмацнення.

**АКЦЭНТАЛО́ГІЯ** (ад *акцэнт* + *-логія*) — раздзел мовазнаўства, які вывучае сістэму націску ў мовах.

**АКЦЭНТУА́ЦЫЯ** (лац. accentuatio) — 1) сістэма націскаў у якой-н. мове; 2) абазначэнне націскаў; 3) выдзяленне пры дапамозе націску асобных элементаў у слове або фразе.

**АКЦЭ́ПТ** (лац. acceptus = прыняты) — 1) згода на заключэнне дагавору на прапанаваных умовах; 2) форма безнаяўнага разліку паміж арганізацыямі, а таксама згода аплаціць грашовыя дакументы.

**АКЦЭПТАВА́ЦЬ** (лац. acceptare = прымаць) — прымаць, зацвярджаць да аплаты грашовы дакумент (рахунак, чэк, вэксаль).

**АКЦЭПТА́НТ** (лац. acceptans, -ntis = які прымае) — асоба, якая прыняла грашовы дакумент да аплаты.

**АКЦЭ́ПТАР** (лац. acceptor = той, хто прымае) — *фіз. атам*, які можа захопліваць электроны ў паўправадніках.

**АКЦЭПТА́ЦЫЯ** (лац. acceptatio = прыманне) — выражэнне згоды на што-н., напр. на аплату грашовага дакумента.

**АКЦЭСІ́ЙНЫ** (ад лац. accessio = далучэнне) — які далучаецца; а. д а г а в о р — дагавор, падпісваючы які дзяржава далучаецца да дагавору, заключанага раней паміж іншымі дзяржавамі.

**АКЦЭСО́РНЫ** (ад лац. accessorius = дадатковы) — дадатковы, другарадны; а. д а г а в о р — дадатковы дагавор, які далучаецца да асноўнага дагавору; а - ы я м і н е р а л ы — мінералы, якія ўтвараюць колькасна малы, але часам характэрны дамешак у горных пародах.

**АКЫ́Н** (цюрк. akyn) — народны паэт-імправізатар і спявак у некаторых народаў Азіі, напр. у казахаў, кіргізаў.

**АЛА-** (гр. allos = іншы) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «іншы».

**АЛАГА́МІЯ** (ад *ала-* + *-гамія*) — апыленне кветкі адной расліны пылком кветкі іншай расліны.

**АЛАГЕНЕ́З** (ад *ала-* + *-генез*) — кірунак эвалюцыі групы арганізмаў, пры якой у блізкіх відаў адбываецца змена адных прыватных прыстасаванняў другімі, а агульны ўзровень арганізацыі застаецца ранейшым.

**АЛАГІ́ЗМ** (ад *а-* + *-лагізм*) — 1) што-н. нелагічнае, несумяшчальнае з лагічным мысленнем; бяссэнсіца; 2) філасофскі погляд, які адмаўляе логіку як сродак навуковага пазнання; 3) стылістычны прыём; наўмыснае парушэнне ў мове лагічных сувязей з мэтай надання камізму, іроніі і інш.

# А

**АЛАГІ́ЧНЫ** (ад *а-* + *лагічны*) — нелагічны, несумяшчальны з лагічным мысленнем.

**АЛАЗА́ЎР** (ад *ала-* + *-заўр*) — вымерлы паўзун, які жыў у *мезазоі*.

**АЛАКУ́РТ** (н.-лац. alacurt) — насякомае атрада блох, пашыранае ў Сярэд. і Цэнтр. Азіі; паразіт дамашніх і дзікіх капытных.

**АЛАКУ́ЦЫЯ** (лац. allocutio) — урачыстая прамова; пачатковая фраза прамовы.

**АЛАЛІ́Я** (ад гр. alalos = нямы) — адсутнасць або абмежаванне мовы ў дзяцей у выніку недаразвіцця або паражэння моўных участкаў кары вялікіх паўшар'яў галаўнога мозгу.

**АЛАМАРФО́З** (ад *ала-* + *-марфоз*) — тое, што і *ідыяадаптацыя*.

**АЛАМЕ́ТРЫЯ** (ад *ала-* + *-метрыя*) — нераўнамерны рост частак цела ў працэсе развіцця арганізма.

**АЛАМІ́ЦЭС** (н.-лац. allomyces) — ніжэйшы грыб сям. бластакладыевых, які развіваецца ў глебе, на раслінных і жывёльных рэштках, у прэсных вадаёмах, на трупах насякомых і жывёл.

**АЛАМО́НЫ** (ад *ала-* + гр. hormao = узбуджаю) — біялагічна актыўныя рэчывы, якія выпрацоўваюцца арганізмамі і выклікаюць у прадстаўнікоў іншых відаў накіраваныя фізіялагічныя рэакцыі, карысныя для арганізма, што выдзяляе гэтыя рэчывы (напр., пах кветак і нектару, што прыцягвае апыляльнікаў).

**АЛАМО́РФ** (ад *ала-* + *-морфы*) — *лінгв.* варыянт *марфемы*.

**АЛАНІ́М** (ад *ала-* + гр. onyma = імя) — чыё-н. сапраўднае імя, выкарыстанае іншай асобай як псеўданім.

**АЛАНІ́Н** [ад *ал(ьфа) + аміны*] — ацыклічная амінакіслата, вельмі пашыраная ў жывой прыродзе; адна з крыніц глюкозы ў арганізме.

**АЛАНІ́Т** (ад англ. T. Allan = прозвішча англ. мінералога) — тое, што і *артыт*.

**АЛАНТО́ІС** (ад гр. allantoeides — падобны да каўбасы) — адна з зародкавых абалонак паўзуноў, птушак і млекакормячых, якая выконвае функцыі органаў дыхання, выдзялення і харчавання зародка.

**АЛАПА́Т** (гр. allopathes) — урач, які процілегла *гамеапату* прытрымліваецца звычайнай сістэмы лячэння (*алапатыі*).

**АЛАПА́ТРЫЯ** (ад *ала-* + гр. patris = бацькаўшчына) — тып відаўтварэння, пры якім новыя віды ўзнікаюць з *папуляцый*, *арэалы* якіх не перакрываюцца.

**АЛАПА́ТЫЯ** (гр. allopatheia) — звычайныя метады лячэння (параўн. *гамеапатыя*).

**АЛАПЕКО́ЗА** (н.-лац. alopecosa) — павук сям. *тарантулаў*; жыве на лясных палянах, у разнатраўі паблізу ўзлескаў.

**АЛАПЛА́СТЫКА** (ад *ала-* + *-пластыка*) — хірургічны метад замяшчэння дэфектаў органаў або тканак штучнымі матэрыяламі.

**АЛАПОЛІПЛАІДЫ́Я** (ад *ала-* + *поліплаідыя*) — спадчынныя змены ў клетках раслін, радзей жывёл, якія заключаюцца ў кратным павелічэнні колькасці набораў храмасом пры міжвідавым або міжродавым скрыжаванні.

**АЛАПРЫ́НІНГ** (ад *ала-* + англ. preen = чысціць апярэнне) — камфортныя паводзіны ў птушак, звязаныя з чысткай апярэння.

**АЛАРМІ́ЗМ** (ад фр. alarme = трывога) — плынь у заходняй навуцы і грамадскай думцы, прадстаўнікі якой сцвярджаюць пра фатальны, катастрафічны характар уздзеяння чалавека на прыроду, яго асаблівую небяспеку для далейшага развіцця чалавецтва.

**АЛАРМІ́СТ** (фр. alarmiste, ад alarme = трывога) — 1) асоба, схільная да панікі, якая распаўсюджвае неправераныя, неабгрунтаваныя чуткі, выклікаючы трывожны настрой; 2) прадстаўнік *алармізму*.

**АЛАСТЭРЫ́ЧНЫ** (ад *ала-* + гр. stereos = прасторавы); а - а я  р э г у л я ц ы я — кантроль за хуткасцю працякання асобных метабалічных працэсаў у арганізме за кошт змены актыўнасці рэгулятарных ферментаў.

**АЛА́СЫ** (якуцк. alasi) — неглыбокія паніжэнні рэльефу акруглай формы пераважна карставага паходжання.

**АЛАТАСПО́РА** (н.-лац. alatospora) — недасканалы грыб сям. маніліевых, які развіваецца на лісці розных дрэвавых парод у вадзе.

**АЛАТРАНСПЛАНТА́Т** (ад *ала-* + *трансплантат*) — орган або ўчастак тканкі, выкарыстаныя для *алатрансплантацыі*.

**АЛАТРАНСПЛАНТА́ЦЫЯ** (ад *ала-* + *трансплантацыя*) — перасадка *трансплантата* ад аднаго прадстаўніка якога-н. біялагічнага віду іншаму прадстаўніку таго ж віду (параўн. *гетэратрансплантацыя, ксенатрансплантацыя*).

**АЛАТРО́ПІЯ** (ад *ала-* + *-тропія*) — здольнасць аднаго і таго ж хімічнага элемента выступаць у выглядзе некалькіх простых рэчываў (напр. вуглярод існуе ў выглядзе вугалю, графіту і алмазу).

**АЛАТРО́ФНЫ** (ад *ала-* + *-трофны*); а - а е  в о з е р а — возера, вада якога атрымлівае ў значнай колькасці біягенныя, мінеральныя і арганічныя рэчывы з вадазбору.

**АЛАТЭТРАПЛО́ІД** (ад *ала-* + гр. tetra = чатыры + haploos = адзінкавы + *-оід*) — тое, што і *амфідыплоід*.

**АЛАФА́Н** (ад *ала-* + гр. phaino = выдаюся, выпінаюся) — мінерал класа *сілікатаў* бледна-блакітнага, зеленаватага або бурага колеру.

**АЛАФО́Н** (ад *ала-* + *-фон*) — *лінгв.* гук, які адрозніваецца ад іншага гука фанетычнай прыметай, а не функцыяй.

**АЛА́Х** (ар. Allah) — назва бога ў *ісламе*.

**АЛАХО́Л** (ад *ала-* + гр. chole = жоўць) — лекавы *прэпарат*, жаўцягонны сродак.

**АЛАХАРЫ́Я** (ад *ала-* + *-харыя*) — распаўсюджанне пладоў, насення і спор пры дапамозе знешніх фактараў — ветру (*анемахарыя*), вады (*гідрахарыя*), жывёл (*заахарыя*), чалавека (*антрапахарыя*).

**АЛАХО́РЫ** (ад *ала-* + гр. choreo = перасоўваюся) — расліны, якія распаўсюджваюцца пры дапамозе знешніх фактараў (ветру, вады, жывёл, чалавека).

# А

**АЛАХТО́НЫ** (ад *ала-* + гр. chthon = зямля) — 1) *біял.* арганізмы, якія насяляюць пэўную мясцовасць, але ўзніклі ў працэсе эвалюцыі ў іншым месцы (параўн. *аўтахтоны* 1); 2) *геал.* горныя пароды, якія ўтварыліся ў выніку геалагічных працэсаў з матэрыялу, перанесенага з іншых мясцін.

**АЛГАРЫ́ТМ** (с.-лац. algorithmus, ад ар. al-Chwārizmi = імя матэматыка) — сукупнасць правілаў, якія дазваляюць чыста механічна рашыць любую задачу з класа аднатыповых задач.

**АЛГАРЫТМІЗА́ЦЫЯ** (ад *алгарытм*) — пабудова алгарытму, што рэалізуе пэўны працэс.

**А́ЛГЕБРА** (фр. algèbre, ад ар. al džabr) — раздзел *матэматыкі*, які вывучае дзеянні над велічынямі, выражанымі літарамі, незалежна ад лікавага значэння гэтых велічынь.

**АЛГЕБРАІ́ЧНЫ** (ад *алгебра*) — які мае дачыненне да алгебры; а - а я ф у н к ц ы я — функцыя, звязаная з незалежнай пераменнай велічынёй алгебраічным ураўненнем; а - а е ў р а ў н е н н е — ураўненне, кожная частка якога з'яўляецца мнагачленам адносна невядомых лічбаў.

**АЛГО́Л** [ад англ. algo(rithmic) l(anguage) = алгарытмічная мова] — адна з моў *праграмавання* для электронна-вылічальных машын.

**АЛДЭАМЕ́НТУ** (парт. aldeiamentos) — пасяленні ў колішніх партугальскіх калоніях, што былі фактычна канцлагерамі для карэннага афрыканскага насельніцтва.

**АЛЕ́** (фр. allez = ідзіце!) — выкрык (звычайна артыста ў цырку): «Наперад! Пачынай!»; п а р а д - а л е — урачысты выхад усіх удзельнікаў цыркавога прадстаўлення.

**АЛЕА-** (лац. oleum = алей) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з алеем, маслам.

**АЛЕАГРА́ФІЯ** (ад *алеа-* + *-графія*) — устарэлы спосаб узнаўлення карцін, якія намаляваны алейнымі фарбамі, а таксама копія карціны, атрыманая такім спосабам.

**АЛЕАНА́ФТ** (ад *алеа-* + *нафта*) — машыннае змазачнае масла.

**АЛЕАНДАМІЦЫ́Н** [ ад *алеанд(р)* + *-міцын*] — лекавы *прэпарат*, які прыгнятае рост многіх шкодных мікробаў; выкарыстоўваецца пры лячэнні запалення лёгкіх, *ангіны*, *атыту* і іншых хвароб.

**АЛЕА́НДР** (фр. oléandre, ад с.-лац. lorandrum) — вечназялёная кустовая расліна сям. кутравых з буйнымі белымі або ружовымі пахучымі кветкамі, пашыраная ў Міжземнамор'і і субтропіках Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**АЛЕАТО́РНЫ** (ад лац. aleator = гулец у косці) — рызыкоўны, звязаны са здзелкамі, біржавымі аперацыямі, латарэямі.

**АЛЕАТО́РЫКА** (ад лац. aleatorius = ігральны) — метад музычнай кампазіцыі, заснаваны на прынцыпе выпадковасці і імправізацыйнасці ў будове музычнага твора.

**АЛЕА́ТЫ** (лац. oleatus = змочаны алівай) — солі *алеінавай* кіслаты.

**АЛЕАФІ́ЛЬНАСЦЬ** (ад *алеа-* + гр. phileo = люблю) — уласцівасць некаторых рэчываў змочвацца алеямі.

**АЛЕБА́РДА** (польск. halabarda, ад ням. Hellebarde) — старадаўняя халодная колюча-рубячая зброя, доўгае плоскае або гранёнае кап'ё з прымацаванай да яго сякерай або паўмесяцападобным лязом.

**АЛЕБА́СТР** (лац. alabastrum, ад гр. alabastros) — размолаты белы гіпс, які выкарыстоўваецца для тынкоўкі, вырабу скульптур, у хірургіі і інш.

**АЛЕГАРЫ́ЧНЫ** (ад *алегорыя*) — 1) які мае дачыненне да алегорыі; 2) пабудаваны на алегорыі, іншасказальны.

**АЛЕГО́РЫЯ** (гр. allegoria) — іншасказанне, выражэнне адцягненага паняцця пры дапамозе канкрэтнага вобраза ў творы літаратуры ці мастацтва (напр.вясна — маладая жанчына з кветкамі, правасуддзе — жанчына з вагамі).

**АЛЕ́ГРА** (іт. allegro) — 1) *муз.* хуткі тэмп, больш хуткі, чым *алегрэта*, але павольнейшы за *вівачэ*; 2) музычны твор або яго частка ў такім тэмпе.

**АЛЕ́ГРЫ** (іт. allegri = будзьце вясёлыя) — *латарэя*, у якой розыгрыш адбываецца адразу ж пасля куплі білета.

**АЛЕГРЭ́ТА** (іт. allegretto) — 1) *муз.* умерана хуткі тэмп, больш хуткі, чым *мадэрата*, але павольнейшы за *алегра*; 2) музычны твор або яго частка ў такім тэмпе.

**АЛЕІ́Н** (ад лац. oleum = алей) — сумесь *гліцэрыны* з алеінавай кіслатой, бясколерная вадкасць, якая ўваходзіць у склад раслінных і жывёльных алеяў.

**АЛЕІ́НАВЫ** (ад *алеін*) — які адносіцца да алеіну; а - а я к і с л а т а — арганічнае злучэнне *аліфатычнага* рада, якое выкарыстоўваецца ў мылаварэнні, для атрымання лакаў, эмаляў, фарбаў і інш.

**АЛЕ́Й** (лац. oleum) — 1) тлушч, атрыманы з пладоў і насення розных раслін; 2) аліўкавы тлушч, які выкарыстоўваецца ў царкоўным абыходку; 3) *перан.* прытворная ласкавасць, празмерная ліслівасць.

**АЛЕЙКЕМІ́Я** (ад *а-* + *лейкемія*) — форма белакроўя, якая характарызуецца зменамі ў колькасным складзе *лейкацытаў*.

**АЛЕЙКІ́Я** (ад *а-* + гр. leukos = белы) — тое, што і *агранулацытоз*.

**АЛЕЙРАДЗІ́ДЫ** (ад гр. aleurodes = мучны) — падатрад раўнакрылых насякомых з пакрытым мучністым налётам целам, шкоднікаў агародніны і ягадных культур; белакрылкі.

**АЛЕЙРО́МЕТР** (ад гр. aleuron = мука + *-метр*) — прыбор для вызначэння набрыняння мукі.

**АЛЕЙРО́Н** (гр. aleuron = мука) — бялковыя зерні ў клетках насення злакаў і іншых раслін.

**АЛЕКСІКАЛІ́ЗМ** (ад *а-* + гр. leksikon = слоўнік) — род *афазіі*, якая праяўляецца ў семантычна-лексічных парушэннях мовы хворага, галоўным чынам у нядольнасці правільна называць прадметы.

**АЛЕКСІ́Н** (ад гр. alekso = ахоўваю, абараняю) — *уст.* тое, што і *камплемент*.

# А

**АЛЕКСІ́Я** (н.-лац. alexia, ад гр. a- = не + leksis = слова) — страта здольнасці чытаць з прычыны ачаговага пашкоджання галаўнога мозга.

**АЛЕКТО́РЫЯ** (н.-лац. alectoria) — кусцісты лішайнік, пашыраны на кары дрэў пераважна хвойных парод, звісаючы ў выглядзе барады, а таксама на глебе ў тундры і лесатундры; корм для дзікіх аленяў, прадукт для вырабу антыбіётыкаў.

**АЛЕЛАМАРФІ́ЗМ** (ад гр. allelon = узаемна + *-марфізм*) — тое, што і *алелізм*.

**АЛЕЛАМО́РФЫ** (ад гр. allelon = узаемна + *-морфы*) — тое, што і *алелі*.

**АЛЕЛАПА́ТЫЯ** (ад гр. allelon = узаемна + *-патыя*) — уплыў адных раслін на другія ў сувязі з выдзяленнем імі розных рэчываў.

**АЛЕ́ЛІ** (гр. allelon = узаемна) — *гены*, якія вызначаюць варыянты развіцця адной і той жа прыметы.

**АЛЕЛІ́ЗМ** (ад гр. allelon = узаемна) — наяўнасць *генаў*, якія вызначаюць варыянты развіцця адной і той жа прыметы.

**АЛЕМА́НДА** (фр. allemande = *літар.* нямецкая) — старадаўні прыдворны французскі танец нямецкага паходжання.

**АЛЕМАНІ́СТЫ** [ад фр. J.Allemane = прозвішча фр. палітычнага дзеяча (1843—1935)] — члены французскай Рабочай сацыял.-рэв. партыі канца 19 — пач. 20 ст.

**АЛЕРГАЛО́ГІЯ** (ад *алергія* + *-логія*) — навука, якая вывучае прычыны ўзнікнення, развіццё, прафілактыку і лячэнне алергічных хвароб.

**АЛЕРГА́Н** (ад *алергія*) — *фарм.* процiалергічны прэпарат.

**АЛЕРГЕ́Н** (ад *алергія* + *-ген*) — чужароднае рэчыва, якое выклікае алергію.

**АЛЕРГІ́Я** (ад гр. allos = іншы + ergon = дзеянне) — імунная рэакцыя арганізма да паўторнага ўздзеяння *алергенаў* з пашкоджаннем уласнай тканкі.

**АЛЕРГО́ЛАГ** (ад *алергія* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *алергалогіі*.

**АЛЕТЭТРЫ́Н** (ад лац. oleum = алей + гр. tetras = чатыры) — лекавы прэпарат, *антыбіётык*, які выкарыстоўваецца для лячэння інфекцыйных хвароб (*ангіны*, *менінгіту*, *сепсісу*, *ганарэі* і інш.).

**АЛЕЎРАЛІ́Т** (ад гр. aleuron = мука + *-літ*) — сцэментаваны *алеўрыт*, цвёрдая горная парода.

**АЛЕЎРЫ́Т** (ад гр. aleuron = мука) — дробназярністая рыхлая асадачная горная парода, па велічыні зерняў прамежкавая паміж пяском і глінай.

**АЛЕЎРЫ́Я** (н.-лац. aleuria) — сумчаты грыб сям. пецыцавых, які расце на глебе сярод травы ў лясах, часта на месцы былых вогнішчаў.

**АЛЕФІ́НЫ** (ад лац. oleum = алей + affinis = блізкі, сумежны) — тое, што і *алкены*.

**АЛЕ́Я** (фр. allée) — дарога ў парках, садах, абсаджаная дрэвамі, кустамі.

**А́ЛІБІ** (лац. alibi = у іншым месцы) — *юр.* доказ невінаватасці абвінавачанага, заснаваны на тым,

што ён у момант, калі рабілася злачынства, знаходзіўся ў іншым месцы.

**АЛІБІДЭМІ́Я** (ад *а-* + *лібіда*) — поўная адсутнасць лібіда; уласціва пераважна жанчынам як вынік прыроджаных або набытых нейраэндакрынных расстройстваў.

**АЛІ́ВА** (лац. oliva) — 1) вечназялёнае дрэва сям. маслінавых, пашыранае ў Міжземнамор'і і субтропіках Азіі, а таксама яго плод; 2) алей з пладоў гэтага дрэва.

**АЛІВАМІЦЫ́Н** (ад *аліва* + *-міцын*) — лекавы прэпарат, *антыбіётык*, які выкарыстоўваецца пры пухлінах семяннікоў, *лімфагранулематозе*, *меланомах*, ракавых паражэннях.

**АЛІВІ́Н** (ад лац. oliva = масліна) — паўкаштоўны камень класа *сілікатаў* зеленаватага колеру розных адценняў.

**АЛІВІНО́З** (ад *алівін*) — прафесійнае захворванне, абумоўленае ўздзеяннем алівіну.

**АЛІГА-** (гр. oligos = нешматлікі, нязначны) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на малую колькасць, нешматлікасць чаго-н., на адхіленне ад нормы ў бок памяншэння.

**АЛІГАКАНТАРЫНХІ́ДЫ** (н.-лац. oligocanthorhynchidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *акантацэфалаў*, кішачныя паразіты птушак і млекакормячых.

**АЛІГАКЛА́З** (ад *аліга-* + гр. klasis = разлом) — пародаўтваральны мінерал класа *сілікатаў*, разнавіднасць *плагіяклазу*.

**АЛІГАМЕ́РНЫ** (ад *аліга-* + гр. meros = частка) — які мае адносіны да жывёл з целам, падзеленым на малую колькасць *сегментаў*.

**АЛІГАМЕ́РЫ** (ад *аліга-* + *-мер*) — *палімеры* нізкай ступені *полімерызацыі*.

**АЛІГАМЕРЫЗА́ЦЫЯ** (ад *аліга-* + гр. meros = частка) — працэс змяншэння колькасці *гамалагічных* і гомадынамічных (якія выконваюць адну функцыю) органаў у арганізме.

**АЛІГАМЕ́РЫЯ** (ад *аліга-* + *-мерыя*) — змяншэнне колькасці *гамалагічных* органаў, якія паўтараюцца, у працэсе гістарычнага развіцця арганізмаў (напр. змяншэнне колькасці сегментаў цела ў чарвей).

**АЛІГАПО́ЛІЯ** (ад *аліга-* + гр. poleo = прадаю) — 1) панаванне некалькіх кампаній (*трэстаў*, *канцэрнаў*) у некаторых галінах прамысловасці; 2) сітуацыя на рынку, пры якой невялікая колькасць прадаўцоў, што кантралюе цэнаўтварэнне, гандлюе з вялікай колькасцю пакупнікоў.

**АЛІГАПСО́НІЯ** (англ. oligopsonia) — сітуацыя на рынку, пры якой даволі абмежаванай колькасці пакупнікоў процістаіць вялікая колькасць прадаўцоў (вытворцаў).

**АЛІГА́РХ** (ад *алігархія*) — 1) правіцель *алігархіі* 1; 2) прадстаўнік манапалістычнага капіталу.

**АЛІГА́РХІЯ** (гр. oligarchia = улада нямногіх) — 1) *гіст.* дзяржава, заснаваная на панаванні арыстакратычных вярхоў; 2) палітычнае і эканамічнае панаванне ў краіне невялікай групы прадстаўнікоў буйнога манапалістычнага капіталу (напр., фінансавая а.).

# А

**АЛІГАСАПРО́БЫ** (ад *аліга-* + *сапробы*) — арганізмы, якія жывуць у чыстых або слаба забруджаных арганічнымі рэчывамі водах.

**АЛІГАСПЕРМІ́Я** (ад *аліга-* + *сперма*) — памяншэнне аб'ёму спермы, што выліваецца пры семявывяржэнні.

**АЛІГА́Т** (ад лац. alligare = прывязваць) — кніга, прыплеценая да іншай кнігі.

**АЛІГА́ТАР** (англ. alligator, ад ісп. el lagarto = яшчарка) — тупарылы *кракадзіл*, які водзіцца ў вадаёмах Паўн. Амерыкі і Паўд. Кітая.

**АЛІГАТО́НІКА** (ад *аліга-* + *тоніка*) — *муз.* сістэма з малой колькасцю гукаў, дзе ўсе *тоны* функцыянальна раўнапраўныя.

**АЛІГАТРО́ФНЫ** (ад *аліга-* + *-трофны*); а-ы я  а з ё р ы — глыбокія, бедныя раслінным *планктонам* і пажыўнымі рэчывамі азёры з паніжанай мінералізацыяй і высокай празрыстасцю вады; а-ы я  р а с л і н ы — тое, што і *алігатрофы*.

**АЛІГАТРО́ФЫ** (ад *аліга-* + *-трофы*) — расліны, здольныя расці на бедных пажыўнымі рэчывамі глебах (напр. верас, сасна); параўн. *мезатрофы*, *эўтрофы*.

**АЛІГАФА́ГІ** (ад *аліга-* + *фагі*) — жывёлы, якія кормяцца нямногімі відамі ежы (напр. ястраб-перапёлачнік, каларадскі жук).

**АЛІГАФА́ГІЯ** (ад *аліга-* + *-фагія*) — харчаванне жывёльных арганізмаў толькі некалькімі відамі ежы, напр. пэўнымі відамі насення раслін, некаторымі травяністымі раслінамі, насякомымі.

**АЛІГАФРЭНАПЕДАГО́ГІКА** (ад *алігафрэнія* + *педагогіка*) — раздзел педагогікі, які распрацоўвае пытанні навучання і выхавання разумова адсталых дзяцей.

**АЛІГАФРЭНАПСІХАЛО́ГІЯ** (ад *аліга-* + гр. phren = розум + *псіхалогія*) — раздзел псіхалогіі, які вывучае псіхічнае развіццё і магчымасць яго карэкцыі ў дзяцей з інтэлектуальнымі недахопамі.

**АЛІГАФРЭНІ́Я** (ад *аліга-* + гр. phren = розум) — прыроджанае або набытае ў раннім узросце псіхічнае недаразвіццё чалавека (параўн. *дэменцыя*).

**АЛІГАХЕ́ТЫ** (ад *аліга-* + гр. chaite = шчацінка) — клас кольчатых чарвей, якія жывуць у глебе і часткова ў вадаёмах; малашчацінкавыя чэрві.

**АЛІГАЦУКРЫ́ДЫ** (ад *аліга-* + *цукрыды*) — вугляводы, якія пры *гідролізе* распадаюцца на невялікую колькасць *монацукрыдаў*; да а-аў належаць, напр., *дыцукрыды*.

**АЛІГАЦЭ́Н** (ад *аліга-* + *-цэн*) — трэцяя эпоха *палеагену*.

**АЛІГАЦЭ́НАВЫ** (ад *аліга-* + *-цэн*); а-а я  э п о х а — тое, што і *алігацэн*.

**АЛІГАЦЭНО́З** (ад *аліга-* + *-цэноз*) — *фітацэноз*, у склад якога ўваходзіць толькі некалькі відаў вышэйшых раслін — *прадуцэнтаў*.

**АЛІГЕМІ́Я** (ад *аліга-* + *-емія*) — змяншэнне агульнай колькасці крыві ў арганізме (пры крывацёках, згусанні крыві і інш.).

**АЛІГУРЫ́Я** (ад *аліга-* + *-урыя*) — змяншэнне колькасці мачы, што выдзяляецца ныркамі.

**АЛІДА́ДА** (ар. al-idāda) — дэталь астранамічных і геадэзічных вугламерных інструментаў, якая верціцца вакол восі ў цэнтры *лімба*.

**АЛІЗАРЫ́Н** (фр. alisarine < ісп. alizarina, ад ар. al asāru = выціснуты сок) — фарбавальнае рэчыва, якое вырабляецца з карэння марэны або і штучным спосабам.

**АЛІКВО́ТЫ** [лац. aliquot = некалькі (тонаў)] — 1) *муз. тоны*, якія суправаджаюць асноўную мелодыю; 2) часткі велічыні, на якія цэлае дзеліцца без астатку.

**АЛІЛУ́Я** (ст.-яўр. hellelū-Jāh = слаўце бога) — хвалебны малітоўны выгук у набажэнствах іудзейскай і хрысціянскай рэлігій.

**АЛІМЕНТА́ЦЫЯ** (с.-лац. alimentatio) — 1) сістэма дзяржаўнай дапамогі дзецям беднякоў і сіротам у Стараж. Рыме; 2) абавязак выплачваць *аліменты*.

**АЛІМЕ́НТЫ** (лац. alimentum = утрыманне, харчаванне) — сродкі, якія ва ўстаноўленых законам выпадках адны члены сям'і абавязаны выплачваць на ўтрыманне другіх.

**АЛІ́МП** (гр. Olympos = назва гары ў Грэцыі, дзе паводле ўяўленняў старажытных грэкаў жылі багі) — выбранае кола якога-н. таварыства (напр. літаратурны а.).

**АЛІМПІ́ЙСКІ** (гр. Olympios) — 1) які мае адносіны да *алімпіяды* (напр. а-ія гульні); 2) *перан.* урачыста-спакойны, непарушны.

**АЛІМПІЯ́ДА** (гр. Olympias, -ados) — 1) міжнародныя спартыўныя спаборніцтвы, якія праводзяцца раз у чатыры гады па ўзору старажытнагрэчаскіх алімпійскіх гульняў; 2) каманднае першынство свету па шахматах ці міжнародных шашках; 3) назва аглядаў, конкурсаў мастацкай самадзейнасці, народнай творчасці ў СССР у 1920—1940-я г.; 4) спаборніцтвы навучэнцаў у вызначаных галінах ведаў (напр. а. па матэматыцы).

**АЛІСТАСТРО́МА** (ад гр. olisthos = няўстойлівасць + stroma = падсцілка) — хаатычнае скапленне абломкаў горных парод сярод тоўшчаў, у якіх яны змяшчаюцца.

**АЛІ́СУМ** (н. лац. Alyssum, ад гр. alysson = які ўжываецца супраць урокаў) — травяністая расліна сям. крыжакветных з дробнымі жоўтымі кветкамі ў гронках, пашыраная ў Міжземнамор'і, Цэнтр. Еўропе і Сярэд. Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная; бурачок.

**АЛІТАВА́ЦЬ** (ням. alitieren) — наносіць на металічныя вырабы алюмініевае пакрыццё, каб засцерагчы іх ад акіслення.

**АЛІТЭРА́ЦЫЯ** (ад лац. ad litteram = да літары) — паэтычны прыём, заснаваны на паўтарэнні аднолькавых або блізкіх зычных гукаў у вершаваным радку для ўзмацнення інтанацыйнай і гукавой выразнасці мовы.

**АЛІФАТЫ́ЧНЫ** (ад гр. aleiphar, -atos = тлушч) — тлусты, ацыклічны; а-ы я з л у ч э н н і — арганічныя злучэнні, у якіх атамы вугляроду злучаны паміж сабой у прамыя незамкнёныя ланцугі.

**АЛІЦЫКЛІ́ЧНЫ** [ад гр. alei(phar) = тлушч + *цыклічны* 2]; а-ы я з л у ч э н н і — арганічныя злучэнні з цыклічнай (кальцавой) бу-

довай, у склад цыкла якіх уваходзяць толькі атамы вугляроду.

**АЛІЦЫ́Н** (ад лац. alium = часнок) — лекавы прэпарат, *антыбіётык*, антыбактэрыяльны сродак супраць шэрагу мікраарганізмаў.

**АЛКАГАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад ар. al-kuhl = далікатны парашок) — 1) дабаўленне спірту да вінаграднага віна, каб павялічыць яго моцнасць; 2) увядзенне спірту ў тканкі арганізма для суцішэння болю.

**АЛКАГАЛІ́ЗМ** (ад ар. al-kuhl = далікатны парашок) — хвароба, якая ўзнікае ад празмернага і частага ўжывання спіртных напіткаў: выяўляецца ў псіхічнай і фізічнай залежнасці ад алкаголю, сацыяльнай і маральнай дэфармацыі асобы, у псіхічных, неўралагічных і саматычных расстройствах.

**АЛКАГАЛІМЕ́ТР** (ад *алкаголь* + *-метр*) — прыбор для вызначэння працэнтнай колькасці алкаголю ў воднаалкагольных растворах.

**АЛКАГАЛІМЕ́ТРЫЯ** (ад *алкаголь* + *-метрыя*) — вызначэнне працэнтнай колькасці алкаголю ў воднаалкагольных растворах.

**АЛКАГАЛЯ́ТЫ** (ад ар. al-kuhl = далікатны парашок) — арганічныя злучэнні, прадукты замяшчэння металам вадароду гідраксільнай групы (гл. *гідраксіл*) спіртоў.

**АЛКАГО́ЛІЗ** [ад *алкаго(ль)* + *-ліз*] — абменны распад рэчываў пры ўзаемадзеянні са спіртамі.

**АЛКАГО́ЛЬ** (ар. al-kuhl = далікатны парашок) — 1) арганічнае злучэнне, у склад малекул якога ўваходзіць група атамаў кіслароду і вадароду; 2) спіртныя напіткі.

**АЛКАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад ар. al-kali = шчолач) — далучэнне шчолачаў да рэчываў.

**АЛКАЛІМЕ́ТРЫЯ** (ад ар. al-kali = шчолач + *-метрыя*) — вызначэнне колькасці кіслаты ў рэчыве шляхам дабаўлення да яго шчолачы.

**АЛКАЛО́З** (ад ар. al-kali = шчолач) — павелічэнне колькасці шчолачаў у крыві і тканках арганізма (параўн. *ацыдоз*).

**АЛКАЛО́ІД** (ад ар. al-kali = шчолач + *-оід*) — арганічнае рэчыва, падобнае на шчолач, якое мае ў сабе *азот* і вызначаецца моцным фізіялагічным дзеяннем.

**АЛКА́НА** (н.-лац. alcanna, ад ар. al-hinna = хна) — травяністая расліна сям. бурачнікавых з шорсткім лісцем, пашыраная ў Міжземнамор'і, Сірыі, Іраку, Іране; дае *алканін*.

**АЛКАНІ́Н** (ад *алкана*) — натуральны фарбавальнік, які здабываюць з карэння алканы і выкарыстоўваюць у хімічнай, касметычнай і харчовай прамысловасці.

**АЛКА́НЫ** (ад *алкаголь*) — насычаныя *ацыклічныя* вуглевадароды.

**АЛКАРА́Н** (тур. Al-Koran, ад ар. al-Qur'ān) — тое, што і *каран*.

**АЛКЕ́НЫ** (ад *алкіл*) — арганічныя вуглевадародныя злучэнні з адной падвойнай сувяззю паміж атамамі ў малекуле.

**АЛКІ́ДНЫ** [ад *алк(аголь)* + лац. (ac)id = кіслата] — які адносіцца да рэчываў, што атрымліваюцца шляхам узаемадзеяння карбонавых кіслот з многаатамнымі спіртамі.

**АЛКІ́Л** (ар. al-kuhl = далікатны парашок) — аднавалентны арганічны *радыкал* вуглевадароду *аліфатычнага* рада.

**АЛКІЛАВА́ЦЬ** (ад *алкіл*) — уводзіць алкіл у малекулу арганічнага злучэння.

**АЛКІЛСУЛЬФА́ТЫ** (ад *алкіл* + *сульфаты*) — *эфіры* сернай кіслаты.

**АЛКІ́НЫ** (ад *алкіл*) — арганічныя злучэнні ненасычанага вуглевадароду з адной трайной сувяззю паміж атамамі ў малекуле, напр. *ацэтылен*.

**АЛМА́З** (тат. almas < ар. älmās, ад гр. adamas = адамант) — 1) мінерал, крышталъная кубічная мадыфікацыя самароднага чыстага вугляроду; каштоўны празрысты камень незвычайнай цвёрдасці; 2) тонкі асколак такога каменя ў аправе для рэзання шкла.

**А́ЛНІ** [ад *ал(юміній) + ні(кель)*] — магнітнацвёрдыя сплавы на аснове сістэмы жалеза — алюміній — нікель.

**АЛО́ВАК** (польск. ołówek) — тое, што і *карандаш*.

**АЛО́Д** (ням. Allod, ад ст.-в.-ням. alod) — поўная спадчынная ўласнасць на зямлю пры феадалізме ў Зах. Еўропе.

**АЛО́ЗА** (н.-лац. alosa) — рыба сям. селядцовых даўжынёй ад 18 да 80 см з зубчастым кілем уздоўж сярэдняй лініі брушка, пашыраная ва ўмерана цёплых і субтрапічных морах; аб'ект промыслу.

**АЛО́НЖ** (фр. allonge = надстаўка) — 1) прамая або выгнутая шкляная трубка, па якой вадкасць з халадзільніка, дзе адбываецца дыстыляцыя, сцякае ў прыёмнік; 2) аркуш паперы, які прымацоўваецца да вэксаля для гарантыйных запісаў, калі яны не змяшчаюцца на вэксальным бланку; 3) найбольшая адлегласць, з якой баксёр можа нанесці ўдар.

**АЛО́Э** (н.-лац. aloe ад гр. aloe) — травяністая расліна сям. мальвавых з тоўстым прадаўгаватым калючым лісцем, пашыраная пераважна ў Афрыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная і лекавая.

**АЛТА́Р** (лац. altare) — 1) месца ахвярапрынашэння ў старажытных народаў, перад якім выконваліся культавыя абрады; 2) усходняя частка хрысціянскай царквы (у праваслаўнай царкве аддзеленая ад агульнай часткі іканастасам).

**АЛТЫ́Н** (рус.алтын, ад тат. altyn = золата) — старадаўняя руская трохкапеечная манета.

**АЛУ́НД** [ад *ал(юміній) + (кар)унд*] — штучны карунд.

**АЛУНІ́Т** (фр. alunite, ад alun = галун) — мінерал класа *сульфатаў*, белы з шараватым, жаўтаватым або чырванаватым адценнем.

**АЛФАВІ́Т** (гр. alphabetos, ад alpha + beta = назвы першых дзвюх літар грэчаскага алфавіта) — сукупнасць літар якой-н. пісьменнасці, размешчаных у пэўным парадку; азбука.

**АЛФЕ́Р** [ад *ал(юміній)* + лац. Ferrum = жалеза] — магнітна-мяккі сплаў жалеза і алюмінію.

**АЛХІ́МІЯ** (с.-лац. alchemia, ад ар. alkimija̅) — сярэдневяковае вучэнне, накіраванае на адшуканне так званага «філасофскага каменя»,

быццам бы здольнага ператвараць простыя металы ў золата, вылечваць усе хваробы і інш.

**АЛЬЫЧА́** (тур. aluča) — пладовае дрэва сям. ружавых, пашыранае ў Еўропе, Сярэд. Азіі, на Каўказе, а таксама плод гэтага дрэва жоўтага, цёмна-чырвонага колеру.

**А́ЛЬБА**[1] [польск. alba, ад лац. alba (vestis) = белая (рыза)] — белая рыза ксяндза.

**А́ЛЬБА**[2] (праванс. alba = світанак) — адна з жанравых форм сярэдневяковай куртуазнай лірыкі, ранішняя песня.

**АЛЬБАМІЦЫ́Н** (ад лац. albus = белы + *-міцын*) — лекавы прэпарат, *антыбіётык*, які выкарыстоўваюць пры лячэнні *пнеўманіі*, *дызентэрыі*.

**АЛЬБАРА́ДА** (ісп. alborada = ранішняя песня) — 1) песня іспанскіх пастухоў у гонар усходу Сонца; 2) характэрны для Іспаніі ранішні канцэрт на адкрытым паветры, аналагічны вячэрняму канцэрту (гл. *серэнада* 2).

**АЛЬБАРУТЭ́НІКА** (н.-лац. albaruthenica, ад лац. alba = белая + с.-лац. Ruthenia = Русь) — лацінская назва беларусазнаўства.

**АЛЬБАТРО́С** (фр. albatros, ад ісп. alcatraz) — вялікая марская птушка атрада буравеснікаў з вузкімі доўгімі крыламі і доўгай дзюбай.

**АЛЬБАТРЭ́ЛУС** (н.-лац. albatrellus) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. скутыгеравых, які расце ў хвойных лясах, пераважна старых ельніках; ядомы; бяляк.

**АЛЬБЕ́ДА** (п.-лац. albedo = белізна, ад лац. albus = белы) — велічыня, якая характарызуе здольнасць паверхні якога-н. цела адбіваць прамянёвую энергію Сонца.

**АЛЬБЕДАМЕ́ТР** (ад *альбеда* + *-метр*) — прыбор для вымярэння альбеда розных фізічных цел.

**АЛЬБІГО́ЙЦЫ** (фр. Albigeois, ад лац. Albiga = назва французскага горада) — удзельнікі ерэтычнага руху ў Паўд. Францыі 12—13 ст., прыхільнікі вучэнняў *катараў* і *вальдэнсаў*.

**АЛЬБІ́ДУМ** (ад лац. albidus = белаваты) — разнавіднасць мяккай пшаніцы з белым коласам і зернем.

**АЛЬБІНІ́ЗМ** (фр. albinisme, ад лац. albus = белы) — прыроджаная адсутнасць нармальнай для арганізма пігментнай афарбоўкі.

**АЛЬБІНО́С** (ісп. albinos, ад лац. albus = белы) — чалавек або жывёла з адзнакамі *альбінізму*.

**АЛЬБІ́Т** (ад лац. albus = белы) — мінерал класа *сілікатаў*, белы натрыевы палявы шпат, выкарыстоўваецца ў шкляной, керамічнай, абразіўнай вытворчасцях.

**АЛЬБІТАФІ́Р** [ад *альбіт* + *(пар)фір*] — магматычная горная парода, разнавіднасць парфіру, у якім крышталі асноўнай масы пароды прадстаўлены альбітам.

**АЛЬБІ́ЦЫЯ** (н.-лац. albizzia) — дрэвавая або кустовая расліна сям. бабовых, пашыраная ў тропіках і субтропіках; дае дубільныя рэчывы і *сапанін*.

**АЛЬБО́М** (рус. альбом < фр. album, ад лац. album = белая табліца) — 1) кніга або сшытак для малюнкаў, фотакартак, вершаў (напр. сямейны а.); 2) збор рэпрадукцый, фотакартак, чарцяжоў, выдадзеных у

выглядзе кнігі, часта з тлумачальным тэкстам.

**АЛЬБУМІНО́ІДЫ** (ад лац. albumen, -minis = бялок + *-оід*) — простыя бялкі валакністай будовы, устойлівыя на ўздзеянне хімічных рэчываў, якія з'яўляюцца асноўнай састаўной часткай шкілета, валасоў, рагоў, пер'я, злучальнай тканкі.

**АЛЬБУМІНУ́РЫЯ** (ад лац. albumen, -minis = бялок + *-урыя*) — наяўнасць бялку ў мачы.

**АЛЬБУМІ́НЫ** (ад лац. albumen, -minis = бялок) — простыя бялкі, якія змяшчаюцца ў яечным бялку, сываратцы крыві, малацэ і насенні раслін; прымяняюцца ў фармацэўтычнай, кандытарскай і тэкстыльнай прамысловасці.

**АЛЬБУМО́ЗЫ** (ад *альбуміны*) — прамежкавыя прадукты распаду бялкоў, сумесь *поліпептыдаў* і амінакіслот.

**А́ЛЬБУС** (лац. denarius albus = белы дэнарый) — высакапробная сярэбраная манета, якая з 2-й пал. 14 ст. выпускалася ў дзяржавах Ніжняга Рэйна, пазней у іншых нямецкіх дзяржавах.

**АЛЬБУЦЫ́Д** [ад *альбу(міны)* + *-цыд*] — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца ў *афтальмалогіі*, а таксама пры лячэнні *энтэракалітаў*, *цыстыту* і інфіцыраваных ран.

**АЛЬБУЦЫ́Д-НА́ТРЫЙ** (ад *альбуцыд* + *натрый*) — тое, што і *альбуцыд*.

**АЛЬВЕАКАКО́З** (ад *альвеакок*) — гельмінтозная хвароба жывёлы і чалавека, якая выклікаецца альвеакокам.

**АЛЬВЕАКО́К** (н.-лац. alveococcus) — *гельмінт* сям. *саліцёраў*, паразітуе ў тонкім кішэчніку лісоў, ваўкоў, сабак, катоў, а ад іх можа трапіць у арганізм грызуноў, насякомаедных, чалавека.

**АЛЬВЕАЛЯ́РНЫ** (ад *альвеола*) — 1) які мае порыстую будову; 2) *лінгв.* зычны гук, пры вымаўленні якога язык датыкаецца да паднябення каля альвеолаў.

**АЛЬВЕО́ЛА** (лац. alveolus = паглыбленне, пузырок) — 1) паглыбленне ў сківіцы, у якім змяшчаецца корань зуба; 2) маленькі лёгачны пузырок (на канцы кожнай бронхі), куды пранікае паветра пры дыханні.

**АЛЬГАДЫСМЕНАРЭ́Я** (ад гр. algos = боль + *дысменарэя*) — менструацыя з болямі ў нізе жывата, галавы, ірвотай, слабасцю, стратай прытомнасці, сэрцабіеннем, паніжэннем або стратай працаздольнасці.

**АЛЬГАЛАГНІ́Я** (ад гр. algos = боль + lagneia = юр, сладастраснасць) — сексуальнае задавальненне, якое ўзнікае ад прычынення псіхічнага або фізічнага болю аднаму з палавых партнёраў.

**АЛЬГАЛО́ГІЯ** (ад лац. alga = водарасць + *-логія*) — раздзел *батанікі*, які вывучае водарасці.

**АЛЬГВАСІ́Л** (ісп. alguacil) — судзейскі, а таксама паліцэйскі чын у Іспаніі.

**АЛЬГІ́Н** (ад лац. alga = водарасць) — клейкае рэчыва, якое здабываюць з марскіх водарасцяў і выкарыстоўваюць для апрацоўкі тканін, валокнаў, футра.

# А

**АЛЬГІЦЫ́ДЫ** (ад лац. alga = водарасць + *-цыды*) — хімічныя сродкі для барацьбы з водарасцямі (на рысавых палях, у рыбаводных сажалках).

**АЛЬГРА́ФІЯ** [ад *ал(юміній)* + *-графія*] — спосаб плоскага друку на афсетнай машыне з друкарскай формы, зробленай на алюмініевай пласціне.

**АЛЬДАСТЭРО́Н** [ад *альд(эгід)* + гр. stereos = цвёрды] — адзін з *гармонаў* кары наднырачнікаў, які ўдзельнічае ў рэгуляцыі мінеральнага абмену ў арганізме жывёл і чалавека.

**АЛЬДЗІ́НЫ**, **А́ЛЬДЫ** [ад лац. Aldus = імя венецыянскага друкара Альда Мануцыя (1449—1515)] — кнігі, выдадзеныя ў 1494—1597 гг. у Венецыі ў друкарні, заснаванай Альдам Мануцыем.

**АЛЬДО́ЗЫ** (ад *альдэгіды*) — арганічныя крышталічныя рэчывы, салодкія на смак (напр. *глюкоза*), якія выконваюць важную фізіялагічную ролю.

**АЛЬДРАВА́НДА** [н.-лац. aldrovanda, ад іт. U.Aldrovandi = прозвішча іт. батаніка (1522—1605)] — водная насякомаедная травяністая расліна сям. расіцавых, якая трапляецца ў азёрных і рачных затоках.

**А́ЛЬДЫ** гл. *альдзіны.*

**АЛЬДЭГІ́ДЫ** [ад н.-лац. al(cohol) dehyd(rogenatum) = алкаголь, пазбаўлены вадароду] — арганічныя злучэнні, якія змяшчаюць *карбанілавую* групу, звязаную з атамам вадароду; прымяняюцца ў вытворчасці пластмас, парфумерыі і інш.

**АЛЬКАБА́ЛА** (ісп. alcabala, ад ар. al-kabala = спагнанне) — падатак на гандлёвыя здзелкі ў Іспаніі і яе калоніях у 12—19 ст.

**АЛЬКА́ЛЬД** (ісп. alcalde, ад ар. al-kadī = суддзя) — галава гарадской адміністрацыі, суддзя ў Іспаніі і некаторых краінах Лац. Амерыкі.

**АЛЬКАСА́Р** (ісп. alcazar, ад ар. alkasr = замак) — замак або ўмацаваны палац у Іспаніі, збудаваны часцей за ўсё ў маўрытанскім стылі.

**АЛЬКАТРО́Н** [ад фр. alcôve = паглыбленне + *(элек)трон*] — *уніпалярны* транзістар з кіруемым каналам для патоку асноўных носьбітаў зарада.

**А́ЛЬКЕР** (польск. alkierz < чэш. alkeř, ад с.-в.-ням. ärker) — вуглавая адасобленая частка будынка, якая знадворку намнога выступае ад сцен; былі характэрны для шляхецкіх сядзіб Беларусі і Польшчы 17—19 ст.

**АЛЬКЛЕ́Д** [ад *ал(юміній)* + англ. clad = пакрыты] — паўфабрыкат (ліст, труба) з алюмініевага сплаву, пакрыты з абодвух бакоў слоем алюмінію для аховы ад карозіі.

**АЛЬКО́Ў** (фр. alcôve, ад ар. alkubba) — *ніша* ў сцяне пакоя для ложка ці спальнае памяшканне без вокнаў.

**АЛЬКУПРЫ́НТ** (ад фр. alcôve = паглыбленне + англ. print = друк) — *электралітычны* спосаб прыгатавання форм афсетнага друку, які вызначаецца высокай трываласцю.

**АЛЬМ** (ням. Alm) — вапнавы азёрны туф з арганічным рэчывам, які пашыраны ў антрапагенавых

адкладах Беларусі; выкарыстоўваецца яе мясцовае ўгнаенне.

**А́ЛЬМА-МА́ТЭР** (лац. alma mater = *літар.* маці-карміцелька) — старадаўняя студэнцкая назва універсітэта; ужываецца як ласкальнае або жартоўнае.

**АЛЬМАНА́Х** (с.-лац. almanachus, ад ар. al-manāh = каляндар) — неперыядычны зборнік літаратурных твораў розных аўтараў.

**АЛЬМАНДЗІ́Н** (ад тур. Alabanda = назва горада ў Малой Азіі) — мінерал класа *сілікатаў*, каштоўны камень чырвонага, бура-чырвонага або чырвона-фіялетавага колеру; разнавіднасць *гранату*[2].

**АЛЬМАРАВІ́ДЫ** (ісп. almoravides, ад ар. al-murabitun = жыхары мусульманскіх умацаваных манастыроў) — прадстаўнікі феадальнай дынастыі ў краінах Паўн. Афрыкі сярэдзіны 11 — сярэдзіны 12 ст.

**АЛЬМАХА́ДЫ** (ісп. almohades, ад ар. al-muvahidun = аднабожнік) — прадстаўнікі феадальнай дынастыі ў краінах Паўн. Афрыкі сярэдзіны 12 — сярэдзіны 13 ст.

**АЛЬМЕ́НДА** (ням. Allmende, ад с.-в.-ням. algemeinde = тое, што належыць усім) — зямельныя ўгоддзі ў раннефеадальнай Зах. Еўропе, якія былі ў агульным карыстанні членаў абшчыны.

**АЛЬМУКАНТАРА́Т** (ар. al-mukantarat) — любы малы круг нябеснай сферы, паралельны гарызонту.

**АЛЬПАКА́** (ісп. alpaca, ад перуан. alpako) — 1) свойская бязрогая млекакормячая жывёла сям. вярблюдавых, якую разводзяць у высакагорных раёнах Перу і Балівіі; 2) лёгкая тканіна з воўны гэтай жывёлы.

**АЛЬПА́РЫ** (іт. al pari = нароўні) — адпаведнасць біржавай (рыначнай) і намінальнай вартасці каштоўнай паперы.

**АЛЬПЕНШТО́К** (ням. Alpenstock) — палка з вострым стальным наканечнікам, якой карыстаюцца пры ўзыходжанні на высокія горы, ледні́кі.

**АЛЬПІ́ДЫЙ** (н.-лац. olpidium) — ніжэйшы грыб сям. альпідыевых, які развіваецца на расадзе капусты, лёне, агурках, памідорах, салаце і іншых раслінах.

**АЛЬПІНА́РЫЙ** (ад лац. alpinus = альпійскі) — участак саду або парку ў выглядзе штучнай камяністай горкі, засаджанай высакагорнай расліннасцю.

**АЛЬПІНІ́ЗМ** (ад лац. alpinus = альпійскі) — узыходжанне на цяжкадаступныя горныя вяршыні, ледні́кі са спартыўнай або пазнавальнай мэтай; высакагорны турызм.

**АЛЬПІНІ́СТ** (ад лац. alpinus = альпійскі) — спартсмен, які займаецца *альпінізмам*.

**АЛЬПІНІЯ́ДА** (ад лац. alpinus = альпійскі) — масавыя спартыўныя мерапрыемствы па *альпінізме*.

**АЛЬСЕ́КА** (іт. al secco = па-сухому) — насценны жывапіс па сухім тынку.

**АЛЬТ** (іт. alto, ад лац. altus = высокі) — 1) нізкі дзіцячы або жаночы голас, а таксама спявак (спявачка) з такім голасам; 2) смыковы інструмент, сярэдні паміж скрыпкай і віяланчэллю; 3) другая па вы-

шыні партыя шматгалосага музычнага твора.

**АЛЬТА́ЗІМУТ** (ад лац. altus = высокі + *азімут*) — прылада для вызначэння вышыні і азімутаў нябесных свяцілаў.

**АЛЬТА́НКА** (польск. altanka, ад іт. altana) — лёгкі летні будынак у садзе, парку для адпачынку.

**АЛЬТРУІ́ЗМ** (фр. altruisme, ад лац. alter = іншы) — 1) бескарыслівае служэнне людзям, гатоўнасць ахвяраваць для іх сваімі ўласнымі інтарэсамі (проціл. *эгаізм*); 2) форма паводзін жывёл, пры якой задавальняюцца патрэбнасці іншых асобін і нават відаў без карысці для сябе.

**АЛЬТРУІ́СТ** (фр. altruiste, ад лац. alter = іншы) — той, хто ў сваёй дзейнасці кіруецца пачуццямі *альтруізму* (проціл. *эгаіст*).

**АЛЬТЫГРА́Ф** (ад лац. altus = высокі + *-граф*) — самапісны вышынямер.

**АЛЬТЫМЕ́ТР** (ад лац. altus = высокі + *-метр*) — авіяцыйны прыбор вызначэння вышыні палёту.

**А́ЛЬТЫНГ** (ісл. althing) — *парламент* у Ісландыі.

**АЛЬТЫПЛАНА́ЦЫЯ** (ад ісп. altiplano, -nicie = пласкагор'е) — выраўноўванне *рэльефу* вяршыннай зоны горных хрыбтоў пераважна ў выніку выветрывання і *нівацыі* ва ўмовах халоднага і ўмеранага клімату.

**АЛЬТЫ́СТ** (ад *альт*) — музыкант, які іграе на альце.

**АЛЬТЫТУ́ДА** (лац. altitudo = вышыня) — вышыня пункта мясцовасці над узроўнем мора.

**АЛЬТЭРА́ЦЫЯ** (лац. alteratio = змяненне) — 1) *муз.* павышэнне або паніжэнне гуку на паўтона або на *тон*; 2) *біял.* змяненне функцыі і будовы клетак, тканак і органаў пад уплывам механічных, электрычных, хімічных і іншых пашкоджанняў.

**АЛЬТЭРНА́НС** (фр. alternance, ад лац. alternare = чаргаваць) — правіла чаргавання рыфмаў у класічным французскім і ўсходнеславянскім вершаскладанні: сумежныя мужчынскія і жаночыя канчаткі павінны быць звязаны рыфмай.

**АЛЬТЭРНАНТЭ́РА** (н.-лац. alternanthera) — травяністая або паўкустовая расліна сям. аксамітнікавых з дробнымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная пераважна ў Паўд. Амерыцы і Аўстраліі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**АЛЬТЭРНАРЫЁЗЫ** (ад *альтэрнарыя*) — хваробы раслін, якія выклікаюцца *альтэрнарыяй*.

**АЛЬТЭРНА́РЫЯ** (н.-лац. alternaria) — недасканалы грыб сям. дэмацыевых, які развіваецца на пладах і агародніне ў час вегетацыі і асабліва пры захоўванні.

**АЛЬТЭРНА́Т** (фр. alternat, ад лац. alternare = чаргаваць) — правілы, якія рэгулююць чарговасць падпісання міжнароднага дагавору яго ўдзельнікамі.

**АЛЬТЭРНА́ТАР** (н.-лац. alternator, ад лац. alternare = чаргаваць) — электрычная машына, якая выпрацоўвае пераменны ток.

**АЛЬТЭРНАТЫ́ВА** (фр. alternative, ад лац. alternare = чаргаваць) — 1) неабходнасць выбару адной з дзвюх ці некалькіх магчы-

масцей, кожная з якіх выключае другую; 2) кожная з гэтых магчымасцей.

**АЛЬТЭРНАТЫЎНЫ** (ад *альтэрнатыва*) — які дапускае адну з дзвюх магчымасцей.

**АЛЬТЭРНАЦЫЯ** (лац. alternatio = чаргаванне) — *лінгв.* чаргаванне гукаў, абумоўленае пэўным фанетычным акружэннем або марфалагічнай пазіцыяй.

**АЛЬТЭЯ** (н.-лац. althaea, ад гр. althaia) — травяністая расліна сям. мальвавых з бледна-ружовымі або чырвонымі кветкамі, пашыраная ў Міжземнамор'і, Сярэд. Азіі, на Каўказе; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**АЛЬФА** (гр. alpha) — 1) назва першай літары грэчаскага алфавіта; а. і а м е г а — пачатак і канец, аснова ўсяго; 2) абазначэнне стану рэчыва пры высокай тэмпературы або пры радыеактыўным распадзе.

**АЛЬФАКТАМЕТРЫЯ** (ад лац. olfactus = нюх + *-метрыя*) — метад вымярэння вастрыні нюху.

**АЛЬФАМЕТР** (ад *альфа* + *-метр*) — прыбор для вызначэння лішку паветра ў гаручай сумесі, якая паступае ў рухавік унутранага згарання.

**АЛЬФА-РАДЫЕАКТЫЎНАСЦЬ** (ад *альфа* + *радыеактыўнасць*) — радыеактыўнасць, пры якой адбываецца выдзяленне альфа-часціц; радыераспад.

**АЛЬФА-СПЕКТРАСКАПІЯ** (ад *альфа* + *спектраскапія*) — раздзел ядзернай спектраскапіі.

**АЛЬФА-СПЕКТРОМЕТР** (ад *альфа* + *спектрометр*) — прыбор для вымярэння энергіі (энергетычнага спектра) альфа-часціц, якія выпраменьваюцца радыеактыўнымі ядрамі.

**АЛЬФАТРОН** (ад *альфа* + *-трон*) — прыбор для вызначэння ціску газу па яго электраправоднасці.

**АЛЬФАТЫП** (ад *альфа* + *-тып*) — электронная фотанаборная машына, пры дапамозе якой атрымліваюць фотанабор на плёнцы або фотапаперы.

**АЛЬФА-ТЭРАПІЯ** (ад *альфа* + *тэрапія*) — лячэбнае прымяненне альфа-часціц (радонавыя ванны, радыеактыўныя павязкі і інш.).

**АЛЬФОЛЬ** [ад *ал(юміній)* + *фоль(га)*] — алюмініевая фольга, якая выкарыстоўваецца як цеплаізаляцыйны матэрыял.

**АЛЬФОНС** (фр. Alphonse = імя героя камедыі А.Дзюма «Масье Альфонс») — мужчына, які знаходзіцца на забеспячэнні каханкі.

**АЛЬФРЭСКА** (іт. al fresco = па-свежаму) — насценны жывапіс па сырым тынку.

**АЛЬЯНС** (фр. alliance) — 1) саюз, аб'яднанне дзяржаў або арганізацый на аснове дагаворных абавязацельстваў (напр. міжнародны кааператыўны а.); 2) шлюбны саюз.

**АЛЬЯС** (с.-лац. aloes, ад гр. aloe) — тое, што і *алоэ*.

**АЛЮВІЙ** (лац. alluvio = нанос) — адклады, якія ўтварыліся з рачных наносаў.

**АЛЮЗІЯ** (лац. allusio = жарт, намёк) — стылістычны прыём, калі падзея, якая апісваецца або адбываецца, суадносіцца намёкам з вядомым гістарычным, міфалагіч-

ным, літаратурным фактам, напр. цяжкія да знясілення, але марныя намаганні каго-н. характарызуюцца выразам «Сізіфава праца».

**АЛЮМАГЕ́ЛЬ** (ад лац. alumen = галун + *гелі*) — порыстая белая маса, што ўяўляе сабой вокіс алюмінію, *адсарбент*.

**АЛЮМАГІДРЫ́ДЫ** [ад *алюм(іній) + гідрыд*] — хімічныя злучэнні, у склад якіх уваходзіць алюміній; выкарыстоўваюцца ў арганічным сінтэзе для гідрыравання.

**АЛЮМАСІЛІКА́ТЫ** [ад *алюм(іній) + сілікаты*] — пародаўтваральныя мінералы, крэменязёмістыя злучэнні з вялікай колькасцю алюмінію, напр. палявыя шпаты, слюды, мінералы глін.

**АЛЮМАТО́Л** [ад *алюм(іній) + тол*] — водаўстойлівае выбуховае рэчыва, грануляваная сумесь літага трацілу з парашком алюмінію.

**АЛЮМАФАСФА́ТЫ** [ад *алюм(іній) + фасфаты*] — горныя пароды, у складзе якіх пераважаюць алюмафасфатныя (аўгеліт, баранеіт, вавеліт, крандаліт і інш.) і фасфатныя мінералы.

**АЛЮМЕ́ЛЬ** [ад *алюм(іній) + (нік)ель*] — сплаў алюмінію, нікелю, крэмнію, марганцу і кобальту; выкарыстоўваецца ў *піраметры*.

**АЛЮМІНА́ТЫ** (ад *алюміній*) — солі алюмініевых кіслот, напр. а. кальцыю, натрыю.

**АЛЮМІНАТЭРМІ́Я** (ад *алюміній + -тэрмія*) — спосаб здабывання металаў шляхам узнаўлення іх вокіслаў алюмініем.

**АЛЮМІ́НІЙ** (н.-лац. Aluminium, ад лац. alumen = галун) — хімічны элемент, лёгкі коўкі метал серабрыста-белага колеру.

**АЛЮ́Р** (фр. allure) — віды руху каня (хада, рысь, інахадзь, галоп, скачок).

**АЛЯРЫЁЗ** (ад *алярыя*) — глісная хвароба сабак, ваўкоў, лісоў і іншых сабачых, якая выклікаецца алярыяй.

**АЛЯ́РЫЯ** (н.-лац. alaria) — *гельмінт* класа смактуноў; паразітуе ў кішэчніку лісоў, сабак, ваўкоў, пясцоў, янотападобных сабак.

**АЛЯСКІ́Т** (ад н.-лац. Alaska = Аляска) — горная парода, граніт, які змяшчае менш за 5% каляровых мінералаў.

**АМАГРА́МА** (гр. homogrammos = з аднолькавымі літарамі) — спалучэнне слоў, якія пішуцца аднолькава, але гучаць па-рознаму.

**АМА́Ж** (фр. hommage) — цырымонія ў сярэдневяковай Зах. Еўропе, звязаная з заключэннем васальнага дагавору паміж *сеньёрам* і *васалам*.

**АМАЗАНІ́Т** (ад лац. Amazonas = Амазонка, назва ракі ў Паўд. Амерыцы) — мінерал класа *сілікатаў*, разнавіднасць каліевага палявога шпату блакітна-зялёнага колеру; выкарыстоўваецца як абліцовачны матэрыял.

**АМАЗО́Н** (н.-лац. amazona) — папугай з кароткім хвастом, які водзіцца ў лясах Антыльскіх астравоў, Цэнтр. і Паўд. Амерыкі; цэніцца як добры імітатар мовы чалавека.

**АМАЗО́НКА** (ад гр. amazones, ад а- = без + mazos = грудзі) — 1) паводле старажытнагрэчаскай міфалогіі, прадстаўніца жанчын-воінаў,

якія жылі ля берагоў Чорнага мора; 2) жанчына-коннік; 3) доўгая жаночая сукенка для язды на конях; 4) расліна сям. шальнікавых, від *эхінадоруса*.

**АМАЛЬГА́МА** (фр. amalgame, ад ар. al-malgam) — сплаў ртуці з іншым металам, а таксама раствор металу ў ртуці.

**АМАЛЬГАМАГРА́ФІЯ** (ад *амальгама* + *-графія*) — спосаб плоскага друку з амальгамаваных форм, у якіх прабельныя элементы апрацаваны ртуццю.

**АМАЛЬГАМА́ЦЫЯ** (фр. amalgamation, ад ар. al-malgam = амальгама) — 1) раствор металу ў ртуці, атрыманне *амальгамы*; 2) пакрыццё металу, шкла амальгамай; 3) здабыванне металаў шляхам змочвання руд ртуццю; 4) зліццё фірмаў у адну акцыянерную кампанію.

**АМАНА́Л** [ад *ам(оній)* + *ал(юміній)*] — выбуховае рэчыва, у склад якога ўваходзяць амоніевая салетра, алюміній, вугаль, парафін; выкарыстоўваецца ў ваеннай і горнай справе.

**АМАНА́Т** (ар. amanat) — заложнік у Стараж. Русі і некаторых усходніх краінах.

**АМАНІМА́ЦЫЯ** (ад *амонімы*) — стылістычная фігура ў паэтыцы, спалучэнне слоў з аднолькавым коранем, але неаднолькавых паводле граматычнай катэгорыі.

**АМАНІМІ́Я** (гр. homonymia) — *лінгв.* гукавое супадзенне слоў, якія маюць рознае значэнне.

**АМАНІ́ТЫ**[1] [ад *амо(ній)* + лац. nitrogenium = азот] — аміячна-салетравыя выбуховыя рэчывы, у склад якіх уваходзяць нітразлучэнні.

**АМАНІ́ТЫ**[2] (н.-лац. ammonitida, ад гр. Ammon = імя старажытнаегіпецкага бога, якога малявалі з рагамі барана) — падклас вымерлых галаваногіх *малюскаў* са спіральна закручанай ракавінай, якія жылі ў *палеазоі* і *мезазоі*.

**АМАНІФІКА́ЦЫЯ** (ад *амоній* + *-фікацыя*) — працэс выдзялення *аміяку* пры разлажэнні азотных арганічных злучэнняў.

**АМАНІЯ́К** (лац. ammoniacum, ад гр. ammoniakon) — водны раствор *аміяку*, нашатырны спірт.

**АМАНО́ЛІЗ** (ад *амоній* + *-ліз*) — абменны працэс у арганічных злучэннях пры ўзаемадзеянні з *аміякам*.

**АМА́Р** (фр. homard) — вялікі марскі рак атрада дзесяціногіх (*дэкаподаў*); аб'ект промыслу.

**АМАРАЛІ́ЗМ** (ад *а-* + лац. moralis = маральны) — адсутнасць *маральных* прынцыпаў.

**АМАРА́ЛЬНЫ** (ад *а-* + *маральны*) — пазбаўлены *маралі*.

**АМАРА́НТ** (н.-лац. amaranthus, ад гр. amarantos = які не вяне) — травяністая расліна сям. амарантавых з ярка афарбаваным лісцем, пашыраная ў цёплых і ўмераных зонах; аксамітнік.

**АМАРТЫЗА́ТАР** (рус. амортизатор, ад фр. amortir = аслабляць, змякчаць) — прыстасаванне ў машынах для змякчэння штуршкоў, удараў пры яздзе.

**АМАРТЫЗА́ЦЫЯ** (с.-лац. amortisatio = аслабленне) — 1) паступовае зношванне машын, абсталявання, збудаванняў і перанясенне

іх вартасці на прадукцыю; 2) паступовае пагашэнне доўгу асобай або арганізацыяй перыядычнымі ўзносамі; 3) прызнанне даўгавога абавязацельства несапраўдным у выніку яго страты, крадзяжу і інш.; 4) змякчэнне штуршкоў, удараў пры руху машын, пасадцы самалётаў з дапамогай спецыяльных прыстасаванняў.

**АМАРТЫФІКА́ЦЫЯ** (ад *а-* + лац. mors, mortis = смерць + *-фікацыя*) — афіцыйнае аб'яўленне аб ануляванні (пазбаўленні сілы) страчаных дакументаў.

**АМАРФІ́ЗМ** (ад гр. amorphos = бясформенны) — 1) аморфны стан рэчыва; 2) *перан.* бясформеннасць, расплывістасць.

**АМАРЫ́ЛІС** (н.-лац. amaryllis, ад гр. amaryllis) — цыбульная травяністая расліна сям. амарылісавых з буйнымі кветкамі розных колераў, пашыраная ў тропіках і субтропіках; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**АМАСТЫГАСПО́РЫЙ** (н.-лац. amastigosporium) — недасканалы грыб сям. маніліевых, які паразітуе на злаках.

**АМА́ТАР** (польск. amator, ад лац. amator) — чалавек, які ў вольны час займаецца чым-н. не для заробку, а па ахвоце (напр. а. палявання, а. музыкі).

**АМАТО́ЛЫ** [ад *амо(ній)* + *тал(уол)*] — выбуховыя рэчывы, якія складаюцца з сумесі *нітрату* амонію з *трынітраталуолам*.

**АМАТЫ́ДЫІ** (ад гр. omma, -atos = вока + eidos = выгляд) — асобныя вочкі, з якіх утвараюцца складаныя фасетачныя вочы членістаногіх жывёл (насякомых, ракападобных і інш.).

**АМАЎРО́З** (гр. amauros = цёмны, сляпы) — страта зроку, слепата.

**АМАФІ́ЛА** (н.-лац. ammophila) — насякомае сям. рыючых вос з доўгім чырвоным брушкам; пясчаная аса.

**АМАФО́НІЯ** (гр. homophonia) — шматгалосы музычны твор, у якім асноўную мелодыю выконвае толькі адзін голас, а астатнія гучаць як *акампанемент*.

**АМАФО́НЫ** (гр. homophonos = аднагучны, аднатонны) — *лінгв.* словы, якія аднолькава гучаць, але маюць рознае напісанне (напр. грыб — грып, казка — каска).

**АМАФО́РМЫ** (ад гр. homos = аднолькавы + форма) — *лінгв.* словы, якія належаць да розных часцін мовы і супадаюць толькі ў пэўных марфалагічных формах (напр. вусны 'губы' і вусны 'які вымаўляецца').

**АМАФО́С** [ад *амо(ній)* + *фос(фар)*] — мінеральнае азотна-фосфарнае ўгнаенне.

**А́МБА** (рус. амба, ад іт. ambo = два нумары латарэйнага білета) — *разм.* усё, канец.

**АМБАЛА́Ж** (фр. emballage) — пакавальны матэрыял, а таксама затраты на пакаванне.

**АМБАРА́С** (фр. embarras) — клопаты, турботы, непакой.

**АМБАЦЭ́ПТАР** (ад лац. ambo = абодва + ceptor = які бярэ) — асобае ўтварэнне клеткі, якое, паводле тэорыі нямецкага вучонага П.Эрліха, удзельнічае ў рэакцыі *імунітэту*.

**АМБІВАЛЕ́НТНАСЦЬ** (ад *амбівалентны*) — 1) дваістасць перажывання, калі аб'ект выклікае ў чалавека адначасова два процілеглыя пачуцці, напр. сімпатыю і антыпатыю; 2) *літ.* спецыфічная ўласцівасць дыялектычна супярэчлівых вобразаў, у якіх арганічна знітавана адмаўленне і сцвярджэнне адных і тых жа з'яў жыцця.

**АМБІВАЛЕ́НТНЫ** (ад лац. ambo = абодва + valens, -ntis = значны, важны, каштоўны) — дваісты, які змяшчае ў сабе процілеглыя элементы, напр. а-ае пачуццё (гл. *амбівалентнасць*1).

**АМБІСТО́МА** гл. *амблістома*.

**АМБІ́ЦЫЯ** (польск. ambicja, ад лац. ambitio) — абвостранае самалюбства, празмернае пачуццё асабістай годнасці; кінуцца ў амбіцыю — выявіць крайнюю крыўдлівасць.

**АМБІЯФАНІ́ЧНЫ** (ад лац. ambi = навокал + гр. phone = гук) — звязаны з сістэмай электроннаакустычных устройстваў, якія выкарыстоўваюцца ў тэатрах, канцэртных залах для забеспячэння добрай чутнасці ў любым пункце залы.

**АМБЛІГАНІ́Т** (ад гр. amblys = тупы + gonia = вугал) — мінерал класа фасфатаў белага, блакітнага або карычневага колеру.

**АМБЛІЁ́ПІЯ** (ад гр. amblys = тупы + ops = вока) — аслабленне зроку, абумоўленае функцыянальнымі расстройствамі зрокавага аналізатара.

**АМБЛІСТО́МА**, **АМБІСТО́МА** (ад гр. amblys = тупы + stoma = рот) — хвастатае земнаводнае, падобнае да *саламандры*, якое водзіцца ў Паўн. і Цэнтр. Амерыцы.

**АМБЛІСТЭГІЕ́ЛА** (н.-лац. amblystegiella) — лістасцябловы мох сям. амблістэгіевых, які расце на ствалах і галінках дрэў і кустоў, радзей на камянях.

**АМБЛІСТЭ́ГІУМ** (н.-лац. amblystegium) — лістасцябловы мох сям. амблістэгіевых, які расце на кары дрэў, камянях, вільготнай глебе.

**АМБО́Н** (гр. ambon = узвышэнне) — паўкруглае і высунутае на сярэдзіну храма ўзвышэнне перад царскімі варотамі, з якога чытаюць Евангелле, гавораць казанні.

**А́МБРА** (фр. ambre, ад ар. 'anbar) — 1) воскападобнае рэчыва, якое выдзяляецца кашалотамі; выкарыстоўваецца ў парфумерыі; 2) *уст.* духі́.

**АМБРАЗУ́РА** (фр. embrasure) — 1) адтуліна ў сцяне абарончага збудавання для стральбы; байніца; 2) аконны ці дзвярны праём у дамах, вежах.

**АМБРАФІ́ЛЫ** (ад гр. ombros = дождж + *-філ*) — расліны, якія добра пераносяць павышаную вільготнасць, працяглыя дажджы (параўн. *амбрафобы*).

**АМБРАФІ́ТЫ** (ад гр. ombros = дождж + *-фіты*) — расліны, якія выкарыстоўваюць толькі вільгаць атмасферных ападкаў (параўн. *трыхафіты*).

**АМБРАФО́БЫ** (ад гр. ombros = дождж + *-фоб*) — характэрныя для засушлівых мясцін расліны, якія не пераносяць працяглых дажджоў (параўн. *амбрафілы*).

# А

**АМБРО́ЗІЯ** (гр. ambrosia) — 1) ежа багоў у старажытнагрэчаскай міфалогіі; 2) *перан.* незвычайна смачная, далікатная страва; 3) травяністая расліна сям. складанакветных з дробнымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная пераважна ў Амерыцы; на Беларусі трапляецца як заносная; 4) налёты міцэлію сумчатых грыбоў у ходах жукоўкараедаў.

**АМБРО́МЕТР** (ад гр. ombros = дождж + *-метр*) — прыбор для вымярэння колькасці атмасферных ападкаў.

**АМБУЛАКРА́ЛЬНЫ** (ад лац. ambulacrum = хаджэнне); а - а я с і с т э м а — сістэма органаў руху ігласкурых, якая ўтварылася ў выніку складанай дыферэнцыяцыі другаснай поласці цела.

**АМБУЛАТО́РЫЯ** (лац. ambulatorius = рухомы) — лячэбная ўстанова для прыхадных хворых.

**АМБУШУ́Р** (фр. embouchure) — 1) частка духавога музычнага інструмента, якая ў час ігры бярэцца ў рот або прыцiскаецца да губ; 2) вечка на мікрафоне тэлефоннай трубкі для засцярогі яго ад пашкоджанняў і для ўзмацнення голасу.

**АМЕБАЦЫ́ТЫ** (ад гр. ameibo = змяняю + *-цыты*) — элементы крыві беспазваночных жывёл, якія адпавядаюць *лейкацытам* пазваночных і чалавека.

**АМЕБЕ́ЙНЫ** (гр. amoibaios) — які чаргуецца; а - а я к а м п а - з і ц ы я — вершаваная кампазіцыя, пры якой на працягу ўсяго твора чаргуюцца строфы, звязаныя паміж сабой *паралелізмам.*

**АМЕ́ГА** (гр. o mega) — назва апошняй літары ў грэчаскім алфавіце; а д а л ь ф ы д а а м е - г і — ад пачатку да канца.

**АМЕЛІЯРА́ЦЫЯ** (лац. amelioratio) — паляпшэнне, упарадкаванне.

**АМЕНАРЭ́Я** (ад *а-* + гр. men = месяц + rheo = цяку) — адсутнасць менструацый у перыяд палавой спеласці жанчыны.

**АМЕНСАЛІ́ЗМ** (ад *а-* + лац. mensa = стол, жыўленне) — форма ўзаемаадносін паміж арганізмамі, якая для аднаго віду карысная, а для другога шкодная (напр. вароны, падбіраючы рэшткі ежы воўка, сваім крыкам прыцягваюць увагу паляўнічага).

**АМЕ́НЦЫЯ** (лац. amentia) — расстройства свядомасці, якое характарызуецца бяссувязнасцю мыслення, разгубленасцю, парушэннем арыенціроўкі ў навакольным, узбуджанасцю.

**АМЕРЫ́ЦЫЙ** (н.-лац. americium, ад англ. America = Амерыка) — штучна атрыманы радыеактыўны хімічны элемент, які адносіцца да *актыноідаў*, серабрысты метал.

**АМЕТАБАЛІ́Я** (ад *а-* + гр. metabole = перамена) — адсутнасць *метамарфозы*, развіццё некаторых ніжэйшых насякомых, пры якім пераход ад маладой фазы да дарослай зводзіцца толькі да росту і скідання старога хітынавага покрыву (лінькі).

**АМЕТРАПІ́Я** (н.-лац. ametropia, ад гр. ametros = бязмерны + ops = зрок) — ненармальная пераламляльная здольнасць вока (блізарукасць або дальназоркасць).

**АМЕТЫ́СТ** (лац. amethystus, ад гр. amethystos) — мінерал, разнавіднасць кварцу, каштоўны камень фіялетавага або блакітна-фіялетавага колеру; выкарыстоўваецца для ювелірных вырабаў.

**АМЁБА** (н.-лац. amoeba, ад гр. amoibe = змяненне) — найпрасцейшая аднаклетачная жывёла, якая можа змяняць форму.

**АМЁБІЯ́З** (ад *амёба*) — хвароба чалавека, якая выклікаецца дызентэрыйнай амёбай; амёбная *дызентэрыя*.

**А́МІ** (н.-лац. ammi, ад гр. ammi) — травяністая расліна сям. парасонавых з пасечаным на сегменты лісцем, пашыраная пераважна ў Міжземнамор'і; вырошчваецца на Каўказе і ў Малдове як лекавая.

**АМІДА́ЗЫ** (ад *аміды*) — *ферменты*, якія змяшчаюцца ў тканках жывёл і раслін і прымаюць удзел у азоцістым абмене ў арганізме.

**АМІДАПІРЫ́Н** (ад *аміды* + гр. pyr = агонь) — *фарм.* болесуцішальны і гарачкапаніжальны лекавы прэпарат.

**АМІДАСТАМО́З** (н.-лац. amidostomosis) — хвароба гусей, якая выклікаецца *амідастомамі*.

**АМІДАСТО́МЫ** (ад *аміды* + гр. stoma = губы) — чэрві, якія паразітуюць у падслізістай абалонцы страўніка гусей, часам качак, галубоў і некаторых іншых птушак.

**АМІДО́Л** (ад *аміды* + *-ол*) — арганічнае злучэнне, бясколернае крышталічнае рэчыва; выкарыстоўваецца як праявіцель у фатаграфіі.

**АМІ́ДЫ** (ад *аміяк* + гр. eidos = выгляд) — 1) арганічныя злучэнні, у якіх *гідраксіл* заменены *амінагрупай*; 2) хімічныя злучэнні, што ўтвараюцца заменай аднаго атама вадароду аміяку атамам металу, напр. амід натрыю.

**АМІКАШО́НСТВА** (ад фр. ami = сябра + cochon = свіння) — бесцырымоннасць, панібрацтва, фамільярнасць.

**АМІКРО́Н** (гр. o mikron) — назва літары грэчаскага алфавіта: о кароткае.

**АМІ́ЛАВЫ** (ад гр. amylon = крухмал); а - ы я с п і р т ы — гранічныя аднаатамныя спірты.

**АМІЛАДЭКСТРЫ́Н** (ад гр. amylon = крухмал + *дэкстрын*) — прадукт расшчаплення *крухмалу*.

**АМІЛА́ЗЫ** (ад гр. amylon = крухмал) — *ферменты*, якія гідралітычна расшчапляюць *крухмал* і *глікаген* і ўтвараюць *дэкстрыны*, *мальтозу* і *глюкозу* ў жывых арганізмах.

**АМІЛАІДО́З** (ад гр. amylon = крухмал + eidos = выгляд) — парушэнне бялковага абмену ў арганізме.

**АМІЛА́Н** (ад *аміды*) — разнавіднасць сінтэтычнага валакна з *поліамідаў*.

**АМІЛАПЕКЦІ́Н** (ад гр. amylon = крухмал + *пекцін*) — састаўная частка крухмалу, разгалінаваны *поліцукрыд*, утвораны рэшткамі глюкозы; выкарыстоўваецца як клей і ў харчовай прамысловасці.

**АМІЛАПЛА́СТЫ** (ад гр. amylon = крухмал + *-пласт*) — *лейкапласты* расліннай клеткі, якія назапашваюць крухмал.

**АМІЛАЦЭТА́Т** (ад гр. amylon = крухмал + *ацэтат*) — арганічнае

злучэнне, амілавы эфір воцатнай кіслаты, бясколерная вадкасць.

**АМІЛЕ́Н** (ад гр. amylon = крухмал) — ненасычаны вуглевадарод з адной падвойнай сувяззю і пяццю атамамі вугляроду ў малекуле.

**АМІЛНІТРЫ́ТЫ** (ад гр. amylon = крухмал + *нітрыты*) — складаныя *эфіры* амілавых спіртоў і азоцістай кіслаты.

**АМІЛО́ЗА** (ад гр. amylon = крухмал) — лёгкарастваральная ў вадзе састаўная частка *крухмалу*.

**АМІЛО́ІД** (ад гр. amylon = крухмал + *-оід*) — 1) шклопадобнае рэчыва бялковага характару, якое ўтвараецца ў тканках арганізма пры *амілаідозе*; 2) запасная клятчатка ў абалонках клетак насення.

**АМІМІ́Я** (ад *а-* + гр. mimos = спадчыннік) — аслабленне або поўная адсутнасць *мімікі*, што назіраецца пры некаторых хваробах нервовай сістэмы.

**АМІ́Н** (гр. amen, ад ст.-яўр. āmēn) — заключнае слова хрысціянскіх малітваў, пропаведзей, якое азначае «так», «правільна».

**АМІНАБЕНЗО́Л** (ад *аміны* + *бензол*) — тое, што і *анілін*.

**АМІНАГРУ́ПА** (ад *аміны* + *група*) — група аднавалентных вытворных *аміяку*, якая змяшчаецца ў *амінах*, амінакіслотах і іншых арганічных злучэннях.

**АМІНАЗІ́Н** (ад *аміны*) — лекавы прэпарат, які прымяняюць пры нервовых і псіхічных захворваннях як снатворны і болесуцішальны сродак.

**АМІНАПЕПТЫДА́ЗЫ** (ад *аміны* + *пептыдазы*) — група *ферментаў* кішачнага соку, якія каталізуюць гідралітычнае расшчапленне *поліпептыдаў* з утварэннем свабодных амінакіслот.

**АМІНАПЛА́СТЫ** (ад *аміны* + *-пласт*) — *пластмасы* на аснове тэрмарэактыўных сінтэтычных смол; выкарыстоўваюцца для вырабу электраізаляцыйных смол.

**АМІНАСПІРТЫ́** (ад *аміны* + *спірты*) — арганічныя злучэнні *аліфатычнага* рада, якія змяшчаюць у малекуле амінагрупу і гідраксільную групу.

**АМІНАТРАНСФЕРА́ЗЫ** (ад *аміны* + *трансферазы*) — *ферменты* з групы трансферазаў, якія выконваюць важную ролю ў азоцістым абмене ў арганізме жывёл і раслін.

**АМІНАФЕНО́ЛЫ** (ад *аміны* + *фенолы*) — арганічныя крышталічныя злучэнні, вытворныя фенолу, якія вызначаюцца *амфатэрнасцю*; выкарыстоўваюцца пры вырабе фарбавальнікаў, лакаў, у фатаграфіі.

**АМІНАЦУ́КРЫ** (ад *аміны* + *цукар*) — арганічныя злучэнні, вытворныя простых цукраў (*гексозаў*), у якіх адна або некалькі гідраксільных груп замешчаны *амінагрупамі*.

**АМІ́НЫ** (ад лац. ammoniacum = аміяк) — арганічныя злучэнні, прадукты замяшчэння ў *аміяку* атамаў вадароду вуглевадароднымі *радыкаламі*.

**АМІТО́З** (ад *а-* + гр. mitos = нітка, тканка) — прамое дзяленне ядра ў раслінных і жывёльных клетках.

**АМІ́ЧНЫ** (ад *ом*) — які вылічаецца ў омах (напр. а-ае супраціўленне).

**А́МІЯ** (лац. amia) — рыба атрада аміяпадобных, якая жыве ў неглыбокіх вадаёмах Паўн. Амерыкі; глейная рыба.

**АМІЯ́К** (ад лац. ammoniacum < гр. ammoniakon) — злучэнне азоту з вадародам, бясколерны газ з едкім непрыемным пахам; выкарыстоўваецца для атрымання азотнай кіслаты, соды і штучных угнаенняў.

**АМІЯКА́ТЫ** (ад *аміяк*) — прадукты далучэння аміяку да іншых рэчываў; выкарыстоўваюцца як вадкія ўгнаенні.

**АМІЯ́НТ** (гр. amiantos = чысты) — мінерал з групы *амфіболаў*, адна з разнавіднасцей *азбесту*.

**АМЛЕ́Т** (фр. omelette) — страва з разбоўтаных яец з дабаўленнем мукі і малака.

**АМНАПО́Н** (ад лац. omnis = увесь, усякі + гр. opion = макавы сок) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца як болесуцішальны сродак.

**АМНЕЗІ́Я** (гр. amnesia = бяспамяцтва) — парушэнне памяці, пры якім немагчыма ўзнавіць сфарміраваныя раней паняцці, уяўленні; прагал у прыпамінанні (параўн. *парамнезія*).

**АМНІЁН** (гр. amnion = абалонка зародка) — унутраная абалонка зародка вышэйшых пазваночных жывёл і чалавека, а таксама некаторых беспазваночных, напр. насякомых.

**АМНІЁТЫ** (н.-лац. amniota, ад гр. amnion = абалонка зародка) — вышэйшыя пазваночныя жывёлы, у якіх у працэсе эмбрыянальнага развіцця ўтвараюцца зародкавыя абалонкі — *амніён* і *алантоіс*.

**АМНІ́СТЫЯ** (гр. amnestia = дараванне) — адмена ці змякчэнне судовага пакарання па рашэнню вярхоўнай улады.

**АМНІСЦІ́РАВАЦЬ** (ад *амністыя*) — вызваліць па амністыі.

**АМО́БІУМ** (н.-лац. ammobium) — травяністая расліна сям. складанакветных з дробнымі жоўтымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў Аўстраліі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**АМО́ГРАФЫ** (ад гр. homos = аднолькавы + *-граф*) — *лінгв.* словы, якія аднолькава пішуцца, але па-рознаму вымаўляюцца (напр. му́зыка — музы́ка, па́ра — пара́).

**АМО́К** (малайск. amuk) — псіхічнае захворванне, якое назіраецца ў жыхароў Малайскіх астравоў і выражаецца ў буйных паводзінах хворага.

**АМОНАІ́ДЭІ** (н.-лац. ammonoidea) — тое, што і *аманіты*$^2$.

**АМО́НІЙ** (н.-лац. ammonium, ад лац. ammoniacum = аміяк) — аднавалентная група атамаў азоту і вадароду, якая ўваходзіць у склад многіх солей.

**АМО́НІМЫ** (гр. homonymos = аднайменны) — *лінгв.* словы, якія аднолькава вымаўляюцца, але маюць рознае значэнне (напр. каса́ — сельскагаспадарчая прылада і каса́ — заплеценыя валасы).

**АМО́РФА** (н.-лац. amorpha) — кустовая расліна сям. бабовых з доўгім лісцем і дробнымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная ў Паўн. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

# А

**АМОРФАНАСТО́К** (ад гр. amorphos = бясформенны + *насток*) — тое, што і *насток*.

**АМО́РФНЫ** (гр. amorphos = бясформенны) — 1) які не мае крышталічнай будовы (напр. а-ае рэчыва); 2) *перан.* бясформенны, расплывісты (напр. а-ыя ўражанні).

**АМПЕЛАГРА́ФІЯ** (ад гр. ampelos = вінаград + *-графія*) — навука аб відах і сартах вінаграду.

**АМПЕЛАЛО́ГІЯ** (ад гр. ampelos = вінаград + *-логія*) — навука аб вінаградарстве.

**АМПЕЛАТЭРАПІ́Я** (ад гр. ampelos = вінаград + *тэрапія*) — лячэнне вінаградам.

**АМПЕЛО́ПСІС** (н.-лац. ampelopsis) — дэкаратыўная расліна сям. вінаградавых; дзікі вінаград.

**А́МПЕЛЬНЫ** (ад ням. Ampel = падвесная ваза для кветак); а - ы я р а с л і н ы — дэкаратыўныя расліны са звіслымі парасткамі, павойнымі сцябламі і прыгожым лісцем, якія вырошчваюцца ў падвесных вазах, гаршках і скрынках для ўпрыгожвання памяшканняў, балконаў (напр. бягонія, традысканцыя, плюшч, настурка).

**АМПЕ́Р** [фр. A.Ampère = прозвішча фр. фізіка (1775—1836)] — асноўная адзінка сілы электрычнага току ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ), роўная сіле току паміж двума паралельнымі праваднікамі, размешчанымі ў вакууме на адлегласці 1 м адзін ад другога.

**АМПЕРА́Ж** (ад *ампер*) — сіла электрычнага току, выражаная ў амперах.

**АМПЕРАМЕ́ТРЫЯ** (ад *ампер* + *-метрыя*) — вымярэнне ў амперах сілы электрычнага току.

**АМПЕРВАЛЬТМЕ́ТР** (ад *ампер* + *вольт* + *-метр*) — электрычны прыбор для вымярэння сілы і напружання току.

**АМПЕРВОЛЬТО́ММЕТР** (ад *ампер* + *вольт* + *ом* + *-метр*) — камбінаваны электрычны прыбор для вымярэння сілы току, напружання і электрычнага супраціўлення.

**АМПЕРМЕ́ТР** (ад *ампер* + *-метр*) — прыбор для вымярэння сілы электрычнага току.

**АМПЕ́Р-СЕКУ́НДА** (ад *ампер* + *секунда*) — тое, што і *кулон*[2].

**АМПІ́Р** (фр. empire = імперыя) — стыль у архітэктуры і дэкаратыўным мастацтве першых дзесяцігоддзяў 19 ст., які характарызаваўся падкрэслена манументальнымі формамі.

**АМПЛІДЗІ́Н** [ад лац. ampli(ficare) = павялічваць, узмацняць + гр. dyn(amis) = сіла] — электрычная машына для ўзмацнення слабых токаў.

**АМПЛІТРО́Н** [ад лац. ampli(ficare) = павялічваць, узмацняць + *-трон*] — электравакуумны прыбор магнетроннага тыпу, пры дапамозе якога ўзмацняюцца ваганні звышвысокіх частот (параўн. *платынатрон*).

**АМПЛІТУ́ДА** (лац. amplitudo = велічыня) — 1) размах ваганняў, найбольшае адхіленне цела пры ваганні ад стану раўнавагі; 2) *мат.* розніца межаў, паміж якімі змяняецца якая-н. пераменная велічыня; 3) *перан.* размах, шырыня.

**АМПЛІФІКАВА́ЦЬ** (лац. amplificare = пашыраць, павялічваць) — намнажаць аднародныя элементы мовы (сінонімы, параўнанні і інш.), каб узмацніць выразнасць выказвання.

**АМПЛІФІКА́ЦЫЯ** (лац. amplificatio = пашырэнне, павелічэнне) — 1) далейшае тлумачэнне, больш падрабязны выклад; 2) *літ.* стылістычны прыём нанізвання аднародных элементаў мовы (сінонімаў, параўнанняў і інш.) для ўзмацнення выразнасці; 2) павелічэнне аб'ёму тэксту пры перакладзе.

**АМПЛІЯ́ЦЫЯ** (лац. ampliatio) — копія распіскі, што прыняты грошы.

**АМПЛУА́** (фр. emploi = прымяненне) — 1) блізкае па характару кола роляў, якія адпавядаюць сцэнічным здольнасцям артыста; 2) *перан.* кола заняткаў каго-н.

**А́МПУЛА** (лац. ampulla) — 1) герметычна запаяная шкляная пасудзіна невялікіх памераў, у якой у стэрыльным выглядзе захоўваецца пэўная доза лякарства, раствору, крыві і інш.; 2) расшыраная частка полага органа, які мае трубчастую будову (напр. слёзнага канала, прамой кішкі).

**АМПУТАВА́ЦЬ** (лац. amputare = адсякаць) — рабіць *ампутацыю*.

**АМПУТА́ЦЫЯ** (лац. amputatio = адсячэнне) — адняцце хірургічным шляхам канечнасці або іншай часткі цела (параўн. *экзартыкуляцыя*).

**АМУЗІ́Я** (ад *а-* + гр. musa = музыка) — *мед.* парушэнне здольнасці ўспрымаць музычныя гукі.

**АМУЛЕ́Т** (лац. amuletum) — невялікі прадмет, што носяць на целе як магічны сродак, нібыта здольны засцерагчы ад няшчасця (параўн. *талісман*).

**АМУНІ́ЦЫЯ** (польск. amunicja, ад с.-лац. admunitio = узбраенне) — прыналежнасці ваеннаслужачага (рамяні, сумкі і інш.), якія аблягчаюць нашэнне зброі і боепрыпасаў.

**АМУ́РНЫ** (ад *амуры*) — любоўны.

**АМУ́РЫ** (фр. Amour, ад лац. Amor = імя бога кахання ў старажытнарымскай міфалогіі) — любошчы, заляцанні.

**АМФАДАНТО́З** (ад гр. amphi = вакол, з абодвух бакоў + odus, odontos = зуб) — тое, што і *парадантоз*.

**АМФАЛІ́НА** (н.-лац. omphalina) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. радоўкавых, які расце на агаленай глебе, сярод імху, на лясным подсціле, сухой драўніне, гнілых пнях.

**АМФАЛІ́Т** (ад гр. omphalos = пупок) — запаленне скуры ў вобласці пупка ў нованароджанага пры заражэнні пупочнай ранкі.

**АМФАЛІ́ТЫ** (ад гр. ampho = абодва + lytos = раскладны) — рэчывы, якія ў растворы праяўляюць *амфатэрнасць* (напр. амінакіслоты, бялкі).

**А́МФАРА** (лац. amphora, ад гр. amphoreus) — старажытная гліняная пасудзіна з дзвюма ручкамі і вузкім горлам.

**АМФАТЭ́РНАСЦЬ** (ад гр. amphoteros = двухбаковы) — здольнасць некаторых рэчываў у залеж-

насці ад умоў праяўляць або кіслотныя, або асноўныя ўласцівасці.

**АМФІ-** (гр. amphi = вакол, з абодвух бакоў) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае дваякасць, адносіны да двух прадметаў.

**АМФІБАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *амфіболы*) — замяшчэнне *піраксенаў* і іншых цемнаколерных сілікатных мінералаў амфіболамі; характэрная для магматычных, метамарфічных і асадачных парод асноўнага складу, якія зазналі рэгрэсіўны рэгіянальны *метамарфізм*.

**АМФІБАЛІ́Т** (ад *амфіболы* + *-літ*) — горная парода, якая складаецца ў асноўным з амфіболаў.

**АМФІБАЛІ́Я** (гр. amphibolia = двухсэнсавасць) — выраз, які можна тлумачыць двухзначна (напр. у выказванні «вырашыў сёння працаваць» слова «вырашыў» можна адносіць і да «сёння» і да «працаваць»).

**АМФІБАРЭА́ЛЬНЫ** (ад *амфі-* + лац. borealis = паўночны) — звязаны з пашырэннем арганізмаў, пры якім адзін і той жа від жыве ва ўмераным і на ўскраіне арктычных паясоў акіянаў (напр. дэльфіны, цюлені, траска).

**АМФІБІЁНТЫ** (ад *амфі-* + *біёнты*) — арганізмы, прыстасаваныя да жыцця ў двух асяроддзях — у вадзе і на сушы (напр. *амфібіі*).

**АМФІ́БІЯ** (гр. amphibion) — 1) земнаводная жывёла (напр. жаба, трытон), лічынкі якой дыхаюць жабрамі, а дарослыя асобіны лёгкімі; 2) аўтамабіль, танк, бронетранспарцёр, здольныя рухацца па сушы і па вадзе; 3) самалёт, прыстасаваны для ўзлёту і пасадкі на сушы і на вадзе.

**АМФІБО́ЛЫ** (гр. amphibolos = двухсэнсавы, падманлівы) — група мінералаў класа *сілікатаў*, крэменякіслыя злучэнні магнію, жалеза, кальцыю, часам алюмінію і натрыю.

**АМФІБРА́ХІЙ** (гр. amphibrachys = з абодвух бакоў кароткі) — трохскладовая вершаваная стапа з націскам на другім складзе.

**АМФІГА́СТРЫІ** (ад *амфі-* + гр. gaster, -tros = чэрава) — лусачкі на ніжнім баку *талома* некаторых раслін тыпу мохападобных.

**АМФІДЫ́НІУМ** (н.-лац. amphidinium) — аднаклетачная *пірафітавая* водарасць сям. гімнадыніевых, якая трапляецца ў прэсных вадаёмах.

**АМФІДЫПЛО́ІД** (ад *амфі-* + гр. diploos = падвойны + *-оід*) — міжвідавы *гібрыд* з падвоенай колькасцю *храмасом*.

**АМФІКА́РПІЯ** (ад *амфі-* + гр. karpos = плод) — утварэнне на адной расліне надземных і падземных пладоў.

**АМФІКТЫЯНІ́Я** (гр. amphiktyonia) — рэлігійна-палітычны саюз плямён і гарадоў у Стараж. Грэцыі для сумеснай аховы свяцілішчаў, адпраўлення культу і вырашэння мірным шляхам канфліктаў паміж яго членамі.

**АМФІЛІНІ́ДЫ** (н.-лац. amphilinida) — клас плоскіх чарвей; паразіты рыб і чарапах.

**АМФІМА́КР** (гр. amphimakros = падоўжаны з абодвух бакоў) — трохскладовая стапа ў антычным вершаскладанні, якая складаецца з

двух доўгіх складоў і аднаго кароткага пасярэдзіне.

**АМФІМІ́КСІС** (ад *амфі-* + *-міксіс*) — характэрны для большасці жывёл і раслін тып палавога працэсу, пры якім адбываецца зліццё ядраў мужчынскай і жаночай палавых клетак.

**АМФІПАЦЫФІ́ЧНЫ** (ад *амфі-* + англ. Pacific = Ціхі акіян) — звязаны з раз'ядналым пашырэннем марскіх арганізмаў у паўночнай палавіне Ціхага акіяна, калі яны сустракаюцца каля ўзбярэжжа Азіі і Паўн. Амерыкі, але адсутнічаюць у адкрытай частцы акіяна (напр. губкі, ігласкурыя, сардзіны).

**АМФІПО́ДЫ** (ад *амфі-* + *-поды*) — атрад ракападобных, якія жывуць пераважна ў морах, але сустракаюцца і ў прэсных вадаёмах; служаць ежай для прамысловых рыб, цюленяў, кітоў; бакаплавы.

**АМФІПРО́РА** (н.-лац. amphiprora) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. навікулавых, якая пашырана пераважна ў саленаватаводных і марскіх вадаёмах, радзей у прэснаводных.

**АМФІПРО́СТЫЛЬ** (гр. amphiprostylos) — тып старажытнагрэчаскага прамавугольнага храма з калоннымі порцікамі на тарцовых фасадах.

**АМФІСБЕ́НЫ** (н.-лац. amphisbaenia, ад гр. amphi = вакол, з абодвух бакоў + baino = іду) — сямейства яшчарак, пашыраных у тропіках; здольныя рухацца па падземных хадах уперад і назад.

**АМФІТАКІ́Я** (ад *амфі-* + гр. tokos = родны) — адна з формаў *партэнагенезу*, пры якім нашчадкі складаюцца толькі з самцоў або самак (назіраецца ў тлі).

**АМФІТРЫЁН** (гр. Amphitryon = імя міфалагічнага героя, які славіўся сваёй гасціннасцю) — *перан.* гасцінны гаспадар дома, кватэры.

**АМФІТРЫ́ХІ** (ад *амфі-* + гр. thriks, -ichos = волас) — *бактэрыі* з двума жгуцікамі, размешчанымі палярна на канцах клеткі.

**АМФІТЭА́ТР** (гр. amphitheatron, ад amphi = па абодва бакі + theatron = відовішча) — 1) месцы ў глядзельнай зале: у тэатры — за партэрам, у цырку — уступамі; 2) антычнае збудаванне для масавых відовішчаў, у якім рады для гледачоў узвышаліся паўкругам.

**АМФІУ́МЫ** (н.-лац. amphiumidae) — сямейства жывёл атрада хвастатых земнаводных з кароткімі канечнасцямі, не прыстасаванымі для хады па зямлі; водзяцца ў балотах на паўднёвым усходзе ЗША.

**АМФІФІ́ТЫ** (ад *амфі-* + *фіты*) — водныя, прымацаваныя да грунту вадаёма расліны, большасць лістоў і кветак якіх размешчана пад вадой (напр. рагоз, трыснёг, стрэлкаліст).

**АМФІЦЭ́ЛЬНЫ** (ад *амфі-* + гр. koiloma = паглыбленне) — дваякаўвагнуты (аб пазванках рыб, некаторых земнаводных і паўзуноў).

**АН-** гл. *а-*.

**АНА-** (гр. ana = уверх) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае рух угору, падмацаванне, паўторнае або зваротнае дзеянне.

**АНАБАЗІ́Н** (ад *анабазіс*) — арганічнае атрутнае рэчыва, алкалоід;

выкарыстоўваецца ў сельскай гаспадарцы для знішчэння шкодных насякомых.

**АНАБАЗІ́Н-СУЛЬФА́Т** (ад *анабазін* + *сульфат*) — прэпарат, які ў 1930—60 гг. выкарыстоўваўся для барацьбы са шкоднымі насякомымі раслін і жывёл.

**АНАБА́ЗІС** (гр. anabasis) — расліна сям. лебядовых, пашыраная пераважна ў Сярэд. Азіі; змяшчае *анабазін*, мае лекавае значэнне.

**АНАБАЛІ́ЗМ** (н.-лац. anabolismus, ад гр. anabole = уздым) — сукупнасць рэакцый абмену рэчываў у арганізме (*метабалізму*), якія суправаджаюцца ўтварэннем (*асіміляцыяй 2*) складаных арганічных злучэнняў (проціл. *катабалізм*).

**АНАБАЛІ́Я** (гр. anabole = уздым) — *біял.* разнавіднасць *філэнбрыягенезу*, пры якой змена ў развіцці органа адбываецца ў сувязі з далучэннем новых стадый у канцы перыяду формаўтварэння (параўн. *архалаксіс*, *дэвіяцыя* 3).

**АНАБАПТЫ́ЗМ** (гр. anabaptismos = паўторнае хрышчэнне) — рэлігійны рэфармацыйны рух пераважна ў Германіі, Швейцарыі і Нідэрландах 16 ст. супраць афіцыйнай царквы і яе догматаў, а таксама супраць феадальнага прыгнёту; знаходзіў паслядоўнікаў і сярод рамеснікаў некаторых беларускіх гарадоў.

**АНАБАПТЫ́СТ** (лац. anabaptista, ад гр. anabaptismos = паўторнае хрышчэнне) — паслядоўнік *анабаптызму*.

**АНАБА́С** (н.-лац. anabas) — рыба атрада акунепадобных, якая жыве ў прэсных вадаёмах Паўд. Азіі і Філіпінскіх астравоў; мае наджаберны орган для дыхання паветрам, калі прыходзіцца прасоўвацца па сушы пры перасыханні вадаёма.

**АНАБЕ́НА** (н.-лац.anabaena) — ніткавая сіне-зялёная водарасць сям. анабенавых, якая трапляецца ў *планктоне* прэсных водаў, часам у саланаватых водах і на сушы.

**АНАБЕНО́ПСІС** (н.-лац. anabaenopsis) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. анабенавых, якая пашырана пераважна ў трапічных і субтрапічных водах і рэдкая для ўмераных шырот.

**АНАБІЁЗ** (гр. anabiosis = ажыўленне) — стан арганізма, пры якім жыццёвыя працэсы рэзка замаруджваюцца або спыняюцца і могуць аднавіцца пры вяртанні спрыяльных умоў; назіраецца пераважна ў беспазваночных (насякомых, круглых чарвей і інш.).

**АНАГАЛАКТЫ́ЧНЫ** (ад *ана-* + *галактыка*) — звязаны з зорнымі групоўкамі за межамі нашай Галактыкі.

**АНАГАЛІ́ННАСЦЬ** (ад *ана-* + гр. halinos = салёны) — узрастанне салёнасці марской вады ад дна да паверхні.

**АНАГЕНЕ́З** (ад *ана-* + *-генез*) — 1) тып эвалюцыйнага працэсу арганічнага свету, блізкі да *прагрэсу*; 2) *біял.* працэс *рэгенерацыі* тканак.

**АНАГЛІ́ФІЯ** (ад гр. anaglyphos = рэльефны) — спосаб рэпрадуктавання, які дае магчымасць атрымліваць стэрэаскапічныя (аб'ёмныя) адлюстраванні.

**АНАГЛІ́ФЫ** (гр. anaglyphos = рэльефны) — карты, надрукаваныя двума ўзаемна дапаўняльнымі

колерамі (сіне-зялёным і чырвоным); пры разглядзе іх праз спецыяльныя акуляры-святлафільтры атрымліваецца стэрэаскапічнае адлюстраванне.

**АНАГЛЯЦЫЯ́Л** (ад *ана-* + *гляцыял*) — перыяд насоўвання раўніннага ледніка на пэўную тэрыторыю.

**АНА́ГР** (гр. onagros) — падвід *кулана*; водзіцца ў Паўд.-Зах. Азіі.

**АНАГРА́МА** (гр. anagramma) — 1) слова, утворанае шляхам перастаноўкі літар другога слова (напр. год — дог, фара — арфа); 2) спосаб вершаскладання на санскрыце, лацінскай і іншых старажытных індаеўрапейскіх мовах, калі асобныя фанемы самага важнага слова верша паўтараюцца ў іншых словах.

**АНАДЗІ́РАВАЦЬ** (ад *анод*) — утвараць ахоўную вокісную плеўку на паверхні металічных вырабаў спосабам *электролізу*.

**АНАДО́НТА** (н.-лац. anodonta) — прэснаводны *малюск* класа двухстворкавых, пашыраны ў Еўразіі, Амерыцы; бяззубка.

**АНАДРО́МНЫ** (ад *ана-* + гр. dromos = бег) — звязаны з рухам рыб з мораў у рэкі для адкладання ікры.

**АНАДЫПЛО́ЗІС** (гр. anadiplosis = падваенне) — стылістычная фігура, якая ўяўляе сабой паўтарэнне заключнай часткі вершаванага радка ў пачатку наступнага радка.

**АНАКАЛУ́Ф** (гр. anakoluthon = непаслядоўнасць) — сінтаксічная або лагічная непаслядоўнасць у мове, адхіленні ад граматычных норм.

**АНАКА́РД** (н.-лац. anacardium) — тое, што і *акажу*.

**АНАКО́НДА** (ісп. anaconda) — самая вялікая змяя сям. удававых, якая водзіцца ў Цэнтр. і Паўд. Амерыцы.

**АНАКРУ́ЗА** (гр. anakrusis = *літар.* адштурхоўванне) — лішні безнаціскны склад у пачатку вершаванага радка, метрычна слабое месца ў вершы.

**АНАКРЭАНТЫ́ЧНЫ** (ад гр. Anakreont = імя старажытнагрэчаскага паэта 6 ст. да н.э.) — які датычыць паэзіі, што апявае радасці жыцця, каханне, весялосць.

**АНАКСЕМІ́Я** [ад *ан-* + *акс(іген)* + *-емія*] — адсутнасць кіслароду ў крыві; трапляецца рэдка, часцей бывае *гіпаксемія*.

**АНАКСІБІЁЗ** [ад *ан-* + *аксі(ген)* + *-біёз*] — тое, што і *анаэрабіёз*.

**АНАКСІБІЁНТЫ** [ад *ан-* + *аксі(ген)* + *біёнты*] — тое, што і *анаэробы*.

**АНАКСІ́Я** [ад *ан-* + *аксі(ген)*] — адсутнасць кіслароду ў тканках арганізма; трапляецца рэдка, часцей бывае *гіпаксія*.

**АНА́ЛАГ** (гр.analogos = адпаведны) — тое, што з'яўляецца адпаведнасцю з чым-н., падабенствам чаго-н.

**АНА́ЛАГАВЫ** (ад *аналаг*) — непарыўны, непадзельны на асобныя часткі; а - а я  м а ш ы н а — вылічальная машына, якая апрацоўвае інфармацыю, што прадстаўлена ў непарыўнай форме.

**АНАЛАГІ́ЧНЫ** (гр. analogikos) — 1) заснаваны на *аналогіі* (напр. а. метад); 2) падобны, адпаведны; а - ы я  о р г а н ы — органы

жывёл і раслін, якія выконваюць аднолькавыя функцыі, хоць і адрозніваюцца па будове (напр. лёгкія і жабры, лісты і калючкі); параўн. *гамалагічны*.

**АНАЛЕ́КТЫ** (гр. analekta = падборка) — выбраныя ўрыўкі з твораў аднаго або некалькіх аўтараў.

**АНАЛЕ́ПТЫКІ** (гр.analeptikos = які аднаўляе) — лекавыя прэпараты, што выкарыстоўваюцца для стымуляцыі дыхальных і сасударухальных нервовых цэнтраў прадаўгаватага мозга, пры парушэннях дыхання і кровазвароту (кардыямін, каразол і інш.).

**АНА́ЛІЗ** (гр. analysis = раскладанне) — 1) навуковае даследаванне шляхам расчлянення цэлага на састаўныя часткі (напр. матэматычны а., а. мастацкага твора); 2) вызначэнне саставу і ўласцівасцей рэчыва (напр. а. крыві).

**АНАЛІЗАВА́ЦЬ** (ад *аналіз*) — рабіць аналіз.

**АНАЛІЗА́ТАР** (ад *аналіз*) — 1) прыбор для вызначэння характару палярызацыі святла; 2) прыбор для аналізу гукаў; 3) анатама-фізіялагічная сістэма ў чалавека і жывёл, якая ажыццяўляе ўспрыняцце і аналіз раздражненняў, што паходзяць са знешняга і ўнутранага асяроддзя; кожны з органаў пачуццяў.

**АНАЛІ́СТ** (ад лац. annalis = гадавы) — аўтар *аналаў*.

**АНАЛІ́ТЫК** (гр. analytikos = які адносіцца да аналізу) — 1) спецыяліст, які займаецца *аналізам* рэчываў; 2) *перан.* той, хто мае схільнасць аналізаваць падзеі навакольнага свету і свае асабістыя адчуванні і перажыванні.

**АНАЛІ́ТЫКА** (гр. analytika) — вучэнне пра *сілагізмы* і паняцці як састаўная частка логікі Арыстоцеля.

**АНАЛІТЫ́ЧНЫ** (гр. analytikos) — 1) заснаваны на прымяненні *аналізу* (напр. а. метад даследавання); 2) здольны рабіць аналіз (напр. а. розум); 3) які служыць для аналізу (напр. а-ыя вагі).

**АНАЛО́ГІЯ** (гр. analogia) — 1) падабенства ў пэўных адносінах з'яў, паняццяў, прадметаў, якія ў цэлым розняцца паміж сабой; 2) *лог.* форма высновы, калі на аснове падабенства двух прадметаў, з'яў, паняццяў у якіх-н. адносінах робяць вывад пра іх падабенства ў іншых адносінах; 3) падобнасць органаў, якія маюць розную будову, але выконваюць у розных жывёл і раслін аднолькавыя функцыі (параўн. *гамалогія*); 4) *лінгв.* змяненне граматычнай формы на ўзор другой формы.

**АНАЛО́Й** (гр. analogeion = падстаўка для кніг) — высокі столік у царкве, на які ў час набажэнства кладуць кнігі, ставяць абразы і крыж.

**АНА́ЛЫ** (лац. annales) — 1) запісы гістарычных падзей у храналагічным парадку ў Стараж.Рыме і сярэдневяковай Еўропе; 2) *перан.* наогул запісы.

**АНАЛЬГЕЗІ́Н** (ад *анальгезія*) — тое, што і *антыпірын*.

**АНАЛЬГЕЗІ́Я** (гр. analgesia) — тое, што і *анальгія*.

**АНАЛЬГЕ́ТЫКІ** (ад гр. analgesia = адсутнасць болю) — лекавыя рэчывы, якія знімаюць або памянша-

юць боль (напр. *амідапірын*, *анальгін*, *марфін*).

**АНАЛЬГІ́Н** (ад гр. analges = абязболены) — лекавы прэпарат, які ўздзейнічае на арганізм як болесуцішальны, гарачкапаніжальны і супрацьзапаленчы сродак.

**АНАЛЬГІ́Я** (ад гр. analges = абязболены) — неадчувальнасць да болю, адсутнасць болевага пачуцця.

**АНА́ЛЬНЫ** (лац. analis) — *анат.* заднепраходны (напр. а-ыя залозы).

**АНАЛЬЦЫ́М** (ад гр. analkis = слабы) — мінерал класа *сілікатаў*, белага колеру са шкляным бляскам.

**АНАМАДО́Н** (н.-лац. anomodon) — лістасцябловы мох сям. туідыевых, які расце на ствалах лісцевых дрэў, зрэдку на камянях.

**АНАМА́ЛІЯ** (гр. anomalia = няроўнасць) — адхіленне ад нармальнага, агульнапрынятага, ненармальнасць (напр. а. ў развіцці арганізма); м а г н і т н а я а. — адхіленне магнітнай стрэлкі пад уплывам скрытых у зямлі пакладаў жалеза.

**АНАМА́ЛЬНЫ** (лац.anomalis, ад гр. anomalos) — які адхіляецца ад нормы, ад агульнай заканамернасці, ненармальны.

**АНАМАРФАВА́ЦЬ** (гр. anamorphoo = пераўтвараю) — змяняць прапорцыі адлюстравання пры кіна- і фотаздымцы і праецыраванні пры дапамозе анамарфотнай насадкі або ўзаемным нахілам восі аб'ектыва і плоскасці прадмета.

**АНАМАРФІ́ЧНЫ** (ад гр. anamorphoo = пераўтвараю) — скажоны, няправільны, зменлівы.

**АНАМАРФО́З** (гр. anamorphosis = скажэнне формы) — зменeная *канфігурацыя* аб'екта, якая атрымліваецца пры дапамозе аптычных сістэм; выкарыстоўваецца пры кіназдымцы.

**АНАМАСІЯЛО́ГІЯ** (ад гр. onomasia = называнне + *-логія*) — раздзел *семасіялогіі*, у якім разглядаюцца прынцыпы называння.

**АНАМА́СТЫКА** (гр. onomastikos = звязаны з імем) — 1) сукупнасць уласных імёнаў у мове; 2) раздзел мовазнаўства, які вывучае ўласныя імёны.

**АНАМАСТЫКО́Н** (гр. onomastikon) — 1) сукупнасць уласных імёнаў пэўнага *этнасу*, 2) слоўнік уласных імёнаў, складзены пасобку для кожнай катэгорыі імёнаў.

**АНАМАТАЛО́ГІЯ** (ад гр. onoma, -atos = імя + *-логія*) — тое, што і *анамастыка*.

**АНАМАТАПЕ́Я** (гр. onomatopoiia = словатворчасць) — словаўтварэнне шляхам гукапераймання (напр. «бабах», «бабахаць»).

**АНАМЕО́НЕІС** (н.-лац. anomoeoneis) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. навікулавых, якая пашырана ў прэсных вадаёмах і морах.

**АНАМІ́Я** (фр. anomie = адсутнасць закону, арганізацыі) — маральна-псіхалагічны стан індывідуальнай і грамадскай свядомасці, які характарызуецца разлажэннем сістэмы каштоўнасцей і выражаецца ў апатыі, расчараванні ў жыцці, злачыннасці.

**АНА́МНЕЗ** (гр. anamnesis = успамін) — весткі аб гісторыі развіцця

хваробы, атрыманыя ўрачом ад хворага.

**АНА́МНІІ** (ад *ан-* + *амніён*) — ніжэйшыя пазваночныя жывёлы (кругларотыя, рыбы, земнаводныя), у якіх у працэсе эмбрыянальнага развіцця не ўтвараюцца амніён і *алантоіс*.

**АНАНА́С** (н.-лац. ananas < ісп. ananas, ад індз. anana) — травяністая расліна сям. ананасавых, пашыраная ў трапічнай Амерыцы, а таксама духмяны сакаўны плод гэтай расліны залацістага колеру.

**АНАНІ́ЗМ** (ад ст.-яўр. Onan = імя біблейскага персанажа) — ненармальнае (без палавога акта) задавальненне палавога пачуцця шляхам раздражнення палавых органаў.

**АНАНІ́М** (гр. anonymos = безыменны) — 1) аўтар літаратурнага твора або пісьма, які ўтаіў сваё імя; 2) літаратурны твор або пісьмо, на якім не пазначаны аўтар.

**АНАНІ́МНЫ** (гр. anonymos) — без прозвішча аўтара, без указання імя (напр. а-ая літаратура, а-ае пісьмо).

**АНАНСАВА́ЦЬ** (фр.annoncer) — рабіць *анонс* аб чым-н., абʼяўляць.

**АНА́ПЕСТ** (гр. anapaistos) — трохскладовая вершаваная стапа з націскам на трэцім складзе.

**АНАПЛАЗІ́Я** (ад *ана-* + гр. plasis = утварэнне) — вяртанне клетак і тканак у недыферэнцыраваны стан, у якім яны перастаюць выконваць спецыфічныя функцыі і набываюць здольнасць да неабмежаванага росту.

**АНАПЛАЗМО́З** (ад *анаплазмы*) — хвароба свойскіх і дзікіх жывёл, якая выклікаецца анаплазмамі.

**АНАПЛА́ЗМЫ** (н.-лац.anaplasma, ад гр. anaplasma = вобраз, форма) — бактэрыяпадобныя мікраарганізмы, якія паразітуюць у крыві свойскіх і дзікіх жывёл.

**АНАПЛАЦЭФАЛІДО́ЗЫ** (ад *анаплацэфаліды*) — хваробы коней, аслоў, мулаў, якія выклікаюцца анаплацэфалідамі.

**АНАПЛАЦЭФАЛІ́ДЫ** (н.-лац. anoplocephalidae, ад гр. anoplos = безабаронны + kephale = галава) — сямейства *гельмінтаў* класа цэстодаў; паразітуюць у кішэчніку млекакормячых.

**АНАПО́РДУМ** (н.-лац. onopordum) — травяністая расліна сям. складанакветных з лілова-пурпуровымі кветкамі, пашыраная пераважна ў Міжземнаморʼі; на Беларусі трапляецца рэдка.

**АНАПСІ́ДЫ** (н.-лац. anapsida) — падклас паўзуноў, які ўключае атрады чарапах і вымерлых *катылазаўраў*.

**АНАПТЫ́ХІЯ** (н.-лац. anaptychia) — кусцісты сумчаты лішайнік сям. фісцыевых, які трапляецца на кары дрэў лісцевых парод.

**АНАРГАЗМІ́Я** (ад *ан-* + *аргазм*) — адсутнасць аргазму пры палавых зносінах; адна з формаў зніжэння сексуальнасці ў жанчын.

**АНАРМА́ЛЬНЫ** (ад *а-* + *нармальны*) — які адступае ад агульнай *нормы*, ненармальны.

**АНАРТАКЛА́З** (ад *ан-* + *артаклаз*) — мінерал, калій-натрыевы палявы шпат.

**АНАРТРЫ́Я** (гр. anarthria = расслабленне членаў) — страта орга-

намі мовы здольнасці вымаўляць гукі.

**АНАРТЫ́Т** (ад гр. anorthos = косы) — мінерал класа *сілікатаў*, кальцыевы палявы шпат шараватага або рыжа-шэрага колеру.

**АНА́РХА-СІНДЫКАЛІ́ЗМ** (ад *анархізм* + *сіндыкалізм*) — плынь у рабочым руху, якая адмаўляе неабходнасць дзяржаўнай улады і палітычнай барацьбы, лічыць вышэйшай формай арганізацыі працоўных прафсаюзы.

**АНАРХІ́ЗМ**[1] (ад *анархія*) — 1) палітычная плынь, якая адмаўляе ўсякую дзяржаўную ўладу, выступае за замену яе сувязямі вытворцаў і спажыўцоў; 2) *перан.* непрызнанне аўтарытэту, парадку, дысцыпліны.

**АНАРХІ́ЗМ**[2] (ад *ан-* + гр. orchis = яечка) — парок развіцця, які заключаецца ў адсутнасці абодвух яечкаў.

**АНАРХІ́СТ** (ад *анархія*) — прыхільнік *анархізму*, член анархічнай арганізацыі.

**АНА́РХІЯ** (гр. anarchia) — 1) адсутнасць кіраўніцтва, безуладдзе; 2) *перан.* адсутнасць арганізаванасці, бясгіланавасць, стыхійнасць (напр. а. вытворчасці).

**АНАРЭКСІГЕ́ННЫ** (ад *ан-* + гр. oreksis = апетыт + *-генны*) — які мае адносіны да лекавых рэчываў, што змяншаюць адчуванне голаду і выкарыстоўваюцца пры атлусценні.

**АНАСМА́ТЫКІ** (ад *ан-* + гр. osme = пах) — жывёлы, у якіх адсутнічае нюх (напр. *дэльфіны*).

**АНАСМІ́Я** (ад *ан-* + гр. osme = пах) — адсутнасць нюху.

**АНА́СПІДЫ** (н.-лац. anaspida, ад гр. an = не + aspis, -idos = панцыр) — падклас вымерлых бяспанцырных *агнатаў* класа няпарнаноздравых; жылі ў *сілуры* — *дэвоне*.

**АНАСТАМО́З** (гр. anastomosis = адтуліна, выхад) — 1) *анат.* злучэнне паміж валакністымі ўтварэннямі (нервамі, мышцамі) і крывяноснымі або лімфатычнымі сасудамі; 2) з'яднанне трубчастых структур, напр. жылак у лістах, *гіфаў* у грыбоў.

**АНА́СТРАФА** (гр. anastrophe) — змена прамога парадку слоў у выразе ці словазлучэнні на непрамы без парушэння зместу.

**АНАСТЫГМА́Т** (ад *ан-* + *астыгмат*) — *аб'ектыў*, у якім падборам лінз ліквідаваны *астыгматызм* і *аберацыя*.

**АНАТАВА́ЦЬ** (ад *анатацыя*) — складаць анатацыю чаго-н.

**АНАТА́З** (фр. anatase, ад гр. anatasis = выцягненне) — мінерал класа вокісаў і гідравокісаў, двухвокіс *тытану* чорна-сіняга, бурага або жоўтага колеру з алмазным бляскам.

**АНАТАКСІ́Н** (ад *ан-* + *таксін*) — таксін, які шляхам адпаведнай апрацоўкі пазбаўлены ядавітасці, але зберагае антыгенныя і імунагенныя ўласцівасці.

**АНА́ТАМ** (гр. anatome = рассячэнне) — спецыяліст у галіне *анатоміі* або прэпаравання трупаў.

**АНАТАМІ́РАВАЦЬ** (ад гр. anatome = рассячэнне) — прэпараваць труп для навуковых або судова-медыцынскіх мэт.

# А

**АНАТАЦЫ́ЗМ** (гр. anatokismos)— налічэнне працэнтаў не толькі з пачатковай сумы, але і з працэнтаў, якія набеглі за час укладу.

**АНАТА́ЦЫЯ** (лац. annotatio = заўвага) — кароткі выклад зместу кнігі, артыкула з агульнай іх характарыстыкай.

**АНАТО́МІЯ** (ад гр. anatome = рассячэнне) — 1) навука аб будове жывых арганізмаў (напр. а. чалавека); 2) будова арганізма, органа (напр. а.сэрца); 3) *перан.* будова чаго-н. (напр. а. грамадства).

**АНА́ТЫ** [лац. annatae = гадавыя (грошы)] — збор на карысць папскай казны з асоб, якія атрымлівалі касцельныя пасады (у 13—18 ст.).

**АНАТЭ́КСІС** (гр. anateksis = расплаўленне) — ультраметамарфічны працэс, які вядзе да расплаўлення цвёрдых горных парод у выніку агульнага прамочвання іх магмай.

**АНАФА́ЗА** (ад *ана-* + *фаза*) — трэцяя фаза клетачнага дзялення, якая ідзе ўслед за *метафазай* і характарызуецца разыходжаннем храмасом да полюсаў клеткі.

**АНА́ФАРА** (гр. anaphora) — стылістычны прыём, звязаны з паўтарэннем слова або гуку ў пачатку некалькіх вершаваных радкоў (параўн. *эпіфара*).

**АНАФАРЭ́З** (ад *ана-* + гр. phoresis = перамяшчэнне) — перамяшчэнне да *анода* завіслых у растворы часцінак, калі праз раствор праходзіць электрычны ток (параўн. *катафарэз*, *электрафарэз*).

**АНА́ФЕМА** (гр. anathema) — адлучэнне ад царквы, праклён як самая высокая кара ў хрысціянстве.

**АНАФІЛАКСІ́Я** (ад *ана-* + гр. phylaksis = безабароннасць) — адно з праяўленняў *алергіі*, якое выражаецца ў павышанай адчувальнасці арганізма да паўторнага ўздзеяння таго ж рэчыва (сывараткі, вакцыны і інш.); параўн. *ідыясінкразія*.

**АНАФРО́НТ** (ад *ана-* + *фронт*) — атмасферны фронт, які характарызуецца ўзыходным рухам цёплага паветра (проціл. *катафронт*).

**АНАФТА́ЛЬМ** (ад *ан-* + гр. ophthalmos = вока) — адсутнасць аднаго або абодвух вачэй у выніку няшчаснага выпадку ці аперацыйнага выдалення.

**АНАХАРЭ́Т** (гр. anachoretes) — пустэльнік.

**АНАХАРЭТЫ́ЗМ** (ад *анахарэт*) — разнавіднасць *імурацыі*, калі жывы арганізм самазамуроўваецца і гіне (напр. малюскі-каменеточцы).

**АНАХРАМА́Т** (ад *ана-* + гр. chroma, -atos = колер) — аптычная сістэма, у якой не выпраўлена храматычная *аберацыя*.

**АНАХРАНІ́ЗМ** (гр.anachronismos) — 1) парушэнне храналагічнай дакладнасці, якое прыводзіць да неапраўданага ўнясення ў апісанне якой-н. эпохі рыс, характэрных для іншага часу; 2) устарэлы погляд, падыход, звычай; перажытак мінулага.

**АНАЭРАБІЁЗ** (ад *ан-* + *аэрабіёз*) — жыццё ва ўмовах, дзе адсутнічае свабодны кісларод.

**АНАЭРАБІЁНТЫ** (ад *ан* + *аэрабіёнты*) — тое, што і *анаэробы*.

**АНАЭРО́БЫ** (ад *ан-* + *аэробы*) — арганізмы, здольныя жыць у асяроддзі, дзе няма атмасфернага кіслароду, напр. некаторыя бактэрыі, ніжэйшыя расліны (параўн. *аэробы*).

**АНГАЖЫ́РАВАЦЬ** (фр. engager) — 1) запрашаць артыстаў для ўдзелу ў спектаклях або канцэртах на пэўны тэрмін; 2) запрашаць даму на танец; 3) прыцягваць каго-н. да актыўнага ўдзелу ў якой-н. справе.

**АНГАЖЭМЕ́НТ** (фр. engagement) — запрашэнне артыстаў для ўдзелу ў спектаклях або канцэртах на пэўны тэрмін.

**АНГАЛА́Р** (парт. angolar) — грашовая адзінка Анголы, роўная 100 *сентава*.

**АНГА́Р** (фр. hangar) — памяшканне для стаянкі і рамонту самалётаў і верталётаў.

**АНГАРМАНІ́ЧНЫ** (ад *ан-* + *гарманічны*) — не гарманічны; а - ы я в а г а н н і — ваганні, пры якіх змяшчэнне, напружанасць не прапарцыянальныя сіле, якая выклікае ваганні.

**АНГА́РЫЯ** (лац. angaria, ад гр. angareia) — 1) перавозная і іншыя адработачныя павіннасці ў сярэдневяковай Еўропе; 2) права захопу дзяржавамі, якія ваююць, у сваіх портах гандлёвых суднаў нейтральных краін для выкарыстання іх у ваенных мэтах.

**АНГВІЛАСПО́РА** (н.-лац. anguillospora) — недасканалы грыб сям. маніліевых, які развіваецца на лісці розных дрэвавых парод у вадзе.

**АНГЕМІТО́НІКА** (ад *ан-* + *гемі-* + *тоніка*) — гукавая сістэма, заснаваная на беспаўтонавых гукавых суадносінах; бывае трох-, чатырох-, пяціступенная *(пентатоніка)* у аб'ёмах кварты, квінты, а таксама актавы, малой сексты, сентымы.

**АНГІДРАБІЁЗ** (ад *ан-* + гр. hydor = вада + *-біёз*) — прыватны выпадак *анабіёзу*, калі арганізмы могуць выжываць без вады.

**АНГІДРО́Н** (ад *ан-* + гр. hydor = вада) — бясколернае крышталічнае рэчыва, якое пры паглынанні вады ператвараецца ў крышталегідрат, выкарыстоўваецца для высушвання газаў і вадкасцей.

**АНГІДРЫ́Д** (ад *ан-* + гр. hydor = вада) — вокісел, які пры злучэнні з вадой дае кіслату.

**АНГІДРЫ́Т** (ад *ан-* + гр. hydor = вада) — мінерал класа *сульфатаў* (сернакіслы кальцый), які пры злучэнні з вадой ператвараецца ў гіпс.

**АНГІЁМА** (ад грэч. angeion = сасуд + *-ома*) — *мед.* дабраякасная пухліна, якая складаецца з крывяносных і лімфатычных сасудаў.

**АНГІ́НА** (лац. angina, ад angere = душыць) — вострая інфекцыйная хвароба з запаленнем слізістай абалонкі зева, асабліва паднябенных міндалін.

**АНГІЯ-** (гр. angeion = сасуд) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на адносіны да сасудзістай сістэмы жывёл і раслін.

**АНГІЯГРА́ФІЯ** (ад *ангія-* + *-графія*) — рэнтгеналагічнае абследаванне крывяносных сасудаў розных органаў шляхам увядзення ў іх кантрастных рэчываў.

# А

**АНГІЯКАРДЫЯГРА́ФІЯ** (ад *ангія-* + *кардыяграфія*) — рэнтгеналагічнае даследаванне поласцей сэрца і магістральных сасудаў.

**АНГІЯЛО́ГІЯ** (ад *ангія-* + *-логія*) — раздзел *анатоміі*, які вывучае крывяносныя і лімфатычныя сасуды.

**АНГІЯНЕЎРО́З** (ад *ангія-* + *-неўроз*) — функцыянальнае расстройства *інервацыі* крывяносных сасудаў.

**АНГІЯСПА́ЗМА** (ад *ангія-* + *спазма*) — раптоўнае звужэнне дробных *артэрый* і *капіляраў*, у выніку чаго парушаецца забеспячэнне крывёй тканкі або органа.

**АНГІЯСТАМІ́Я** (ад *ангія-* + гр. stoma = адтуліна) — налажэнне на крывяносныя сасуды *фістул*, што дазваляе перыядычна браць у жывёлы кроў ва ўмовах працяглага доследу.

**АНГІЯСТЭНО́З** (ад *ангі-* + *стэноз*) — звужэнне крывяносных сасудаў.

**АНГІЯТЭНЗІ́Н** (ад *ангія-* + лац. tensus + напружаны) — біялагічна актыўнае рэчыва, якое ўтвараецца ў крыві жывёл і чалавека і рэгулюе артэрыяльны ціск, водна-солевы абмен, стымулюе сакрэцыю гармонаў.

**АНГІЯХІРУРГІ́Я** (ад *ангія-* + *хірургія*) — хірургічнае лячэнне крывяносных сасудаў.

**АНГЛАМА́Н** (ад п.-лац. Anglia = Англія + *-ман*) — чалавек, які захапляецца ўсім англійскім.

**АНГЛАМА́НІЯ** (ад п.-лац. Anglia = Англія + *манія*) — захапленне ўсім англійскім.

**АНГЛАФІ́Л** (ад п.-лац. Anglia = Англія + *-філ*) — прыхільнік англійскай нацыі, культуры.

**АНГЛАФО́Б** (ад п.-лац. Anglia = Англія + *-фоб*) — чалавек, які ненавідзіць усё англійскае.

**АНГЛЕ́З** (фр. anglaise = англійская) — агульная назва англійскіх народных танцаў, якія распаўсюдзіліся ў 17—19 ст. у краінах Еўропы.

**АНГЛЕЗІ́Т** (фр. anglaisite, ад англ. Anglesey = назва вострава) — мінерал класа *сульфатаў*, сернакіслы свінец, а таксама свінцовая руда.

**АНГЛІКА́НЕЦ** (с.-лац. anglicanus = англіканскі) — прыхільнік *англіканства*.

**АНГЛІКА́НСКІ** (с.-лац. anglicanus) — які мае адносіны да *англіканства*.

**АНГЛІКА́НСТВА** (ад с.-лац. anglicanus = англіканскі) — дзяржаўная царква ў Англіі, адна з пратэстанцкіх цэркваў, што ўзнікла ў 16 ст. ў час Рэфармацыі.

**АНГЛІЦЫ́ЗМ** (фр. anglicisme, ад с.-лац. anglicus = англійскі) — слова або выраз, запазычаныя з англійскай мовы.

**АНГО́Б** (фр. engobe) — тонкі слой гліны, які наносіцца на паверхню керамічнага вырабу перад абпальваннем, каб згладзіць няроўнасці і надаць вырабу пэўны колер.

**АНГО́РСКІ** (польск. angorski, ад Angora = старажытная назва Анкары) — які датычыць парод катоў, козаў і трусоў з доўгай пушыстай шэрсцю, выведзеных у старажытнасці ў Анкары.

**А́НГСТРЭМ** [шв. A.Angström = прозвішча шв. фізіка і астранома (1814—1874)] — адзінка вымярэння даўжыні, роўная адной дзесяцімільярднай долі метра; прымяняецца ў оптыцы для вымярэння даўжыні светлавых хваляў.

**АНДАЛУЗІ́Т** (ад ісп. Andalucia = назва правінцыі ў Іспаніі) — мінерал класа *сілікатаў* белага, шэрага, ружовага або зялёнага колеру; выкарыстоўваецца як вогне- і кіслотатрывалы матэрыял.

**АНДА́НТЭ** (іт. andante) — 1) *муз.* умерана павольны тэмп, больш хуткі, чым *адажыо*, але павольнейшы за *анданціна*; 2) музычны твор або яго частка ў такім тэмпе.

**АНДАНЦІ́НА** (іт. andantino) — 1) *муз.* умераны тэмп, больш хуткі, чым *андантэ*, але павольнейшы за *мадэрата*; 2) музычны твор або яго частка ў такім тэмпе.

**АНДАРА́К** (ням. Unterrock) — саматканая паласатая або клятчастая спадніца, якую даўней насілі жанчыны на Беларусі.

**АНДА́ТРА** (англ. ondatra, ад індз. ondatra) — грызун сям. палёвак з каштоўным бліскучым футрам бурага колеру, а таксама футра гэтага звярка; мускусны пацук.

**АНДО́ГРАФ** (ад фр. ondo = хваля + *-граф*) — прыбор для запісу ваганняў электрычнага напружання.

**АНДРА-** (гр. aner, andros = мужчына) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае адносіны да мужчыны або мужчынскага полу.

**АНДРАГЕНЕ́З** (ад *андра-* + *-генез*) — форма размнажэння, пры якой у развіцці яйцаклеткі ўдзельнічае толькі мужчынскае ядро, прыўнесенае ў яе *сперміем* у працэсе апладнення (проціл. *гінагенез*).

**АНДРАГЕ́НЫ** (ад *андра-* + *-ген*) — група мужчынскіх палавых *гармонаў*, якія стымулююць развіццё другасных палавых прымет.

**АНДРАГІ́НІЯ** (гр. androgynos = двухполы) — наяўнасць у асобіны аднаго полу прымет другога полу; прыватны выпадак андрагініі — *гермафрадытызм*.

**АНДРАГІНАФО́Р** (ад гр. androgynos = двухполы + *-фор*) — вырасты ў даўжыню ўчастак двухполай кветкі паміж песцікам і тычынкамі.

**АНДРАГО́ГІКА** (ад *андра-* + гр. agoge = выхаванне) — раздзел *педагогікі*, які вывучае пытанні стымулявання працэсаў выхавання дарослых людзей.

**АНДРАДЫ́Т** (ад парт. d'Andrad = прозвішча парт. мінералога) — мінерал класа *сілікатаў*, вапняковажалезісты *гранат*² зеленаватага або чорнага колеру.

**АНДРАКЕФАЛІ́ЗМ** (ад *андра-* + гр. kephale = галава) — стварэнне вобразаў міфічных істот з целам звера і галавой чалавека *(сфінкс, кентаўр, сірэна)* у мастацтве старажытнага Егіпта, Асірыі, Індыі, Кітая і сярэдневяковай Еўропы.

**АНДРАЛО́ГІЯ** (ад *андра-* + *-логія*) — раздзел *уралогіі*, які вывучае хваробы мужчынскіх мачавых і палавых органаў.

**АНДРАМЕ́ДА** (н.-лац. andromeda, ад гр. Andromede = паводле старажытнагрэчаскай міфалогіі дачка цара Эфіопіі Кефея, прынесеная ў

ахвяру марскому страшыдлу і вызваленая Персеем) — нізкая вечназялёная кустовая расліна сям. верасовых, пашыраная ў лясной і тундравай зонах.

**АНДРАСТЭРО́Н** (ад *андра-* + гр. stereos = цвёрды) — рэчыва, якое выдзяляецца з мачой і мае біялагічнае дзеянне мужчынскага палавога гармона.

**АНДРАФО́БІЯ** (ад *андра-* + *-фобія*) — нянавісць да мужчын.

**АНДРАЦЭ́Й** (ад *андра-* + гр. oikia = дом) — сукупнасць тычынак кветкі.

**АНДРО́ІДЫ** (ад *андра-* + *-оід*) — аўтаматычныя рухомыя фігуры, якія могуць выконваць рухі, уласцівыя чалавеку.

**-АНДРЫЯ** (гр. andreios = мужчынскі) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на адносіны да мужчыны або мужчынскага полу.

**АНДРЭІ́ДЫ** (н.-лац. andreaeidae) — падклас лістасцябловых імхоў; пашыраны па ўсім зямным шары, прадстаўлены адзіным родам *андрэя*.

**АНДРЭ́Я** (н.-лац. andreaea) — лістасцябловы мох падкласа *андрэідаў*, які трапляецца на камянях у лясах.

**АНДУЛЯ́ТАР** (фр. ondulateur, ад лац. unda = хваля) — тэлеграфны прыёмны апарат, які робіць бесперапынны запіс сігналаў на папяровай стужцы.

**АНДУЛЯ́ЦЫЯ** (фр. ondulation, ад лац. unda = хваля) — завіўка валасоў, наданне ім хвалістага выгляду.

**АНДЭЗІ́Н** (ад лац. Andes = Анды, горы ў Паўд. Амерыцы) — мінерал класа *сілікатаў* белага або шараватага колеру са шкляным бляскам; выкарыстоўваецца для вытворчасці кіслотатрывалых керамічных вырабаў.

**АНДЭЗІ́Т** (ням. Andesit, ад лац. Andes = Анды, горы ў Паўд. Амерыцы) — горная парода цёмна-шэрага, бурага або чорнага колеру, якая складаецца з *андэзіну, аўгіту* і іншых мінералаў, а таксама шкла; выкарыстоўваецца як будаўнічы і кіслотатрывалы матэрыял.

**АНДЭЗІ́Т-ДАЦЫ́Т** (ад *андэзіт* + *дацыт*) — вулканічная горная парода, пераходная ад андэзіту да дацыту, эфузіўны аналаг *дыярыту*.

**АНДЭРГРА́УНД** (англ. underground = метрапалітэн; падполле) — падпольны, нелегальны рух у палітыцы, мастацтве.

**АНДЭРРА́ЙТЫНГ** (англ. underwriting) — 1) размяшчэнне каштоўных папер па публічнай падпісцы праз пасрэднікаў, функцыі якіх звычайна выконваюць інвестыцыйныя банкі; 2) падпіска на акцыі; 3) прыём нерухомасці на страхаванне.

**АНДЭРРА́ЙТЭР** (англ. underwriter) — асоба, якая прымае на сябе абавязак па размяшчэнню, рэалізацыі каштоўных папер (акцый) на рынку.

**АНЕЙРО́ІД** (ад гр. oneiros = сон + *-оід*) — расстройства свядомасці, якое характарызуецца сумессю фрагментаў адлюстравання рэальнага свету і яркіх фантастычных уяўленняў, падобна на тое, як гэта бывае ў сне.

**АНЕКДО́Т** (фр. anecdote, ад гр. anekdotos = нявыдадзены) — 1) кароткае апавяданне жартоўнага ці сатырычнага зместу пра незвычайную падзею, сітуацыю, выпадак у жыцці гістарычнай асобы або фальклорнага героя; 2) невялікае гумарыстычнае апавяданне з нечаканым канцом.

**АНЕКСІ́РАВАЦЬ** (лац. annectere) — гвалтоўна далучаць, захопліваць тэрыторыі іншых дзяржаў.

**АНЕ́КСІЯ** (лац. annexio = далучэнне) — захоп, гвалтоўнае далучэнне да краіны чужой тэрыторыі.

**АНЕКСІЯНІ́ЗМ** (фр. annexionisme, ад лац. annexio = далучэнне) — палітыка *анексіі*, захопніцкая палітыка.

**АНЕЛІ́ДЫ** (ад лац. annelus = кольца + гр. eidos = выгляд) — кольчатыя чэрві, пашыраныя ў грунце, морах і прэсных водах зямнога шара.

**АНЕМА-** (гр. anemos = вецер) — першая састаўная частка складаных слоў, якая па значэнню адпавядае слову «вецер».

**АНЕМАГА́М** (ад *анема-* + гр. gamos = шлюб) — расліна, якая апыляецца пры дапамозе ветру.

**АНЕМАГА́МІЯ** (ад *анема-* + *-гамія*) — тое, што і *анемафілія*.

**АНЕМАКЛІНО́ГРАФ** (ад *анема-* + гр. klino = нахіляю + *-граф*) — самапісная прылада для вымярэння нахілу ветру да гарызантальнай плоскасці.

**АНЕМАМЕ́ТРЫЯ** (ад *анема-* + *-метрыя*) — раздзел практычнай *метэаралогіі*, які займаецца вымярэннем хуткасці ветру.

**АНЕМАРУМБО́ГРАФ** (ад *анема-* + англ. rhumb = вугал + *-граф*) — тое, што і *анемограф*.

**АНЕМАРУМБО́МЕТР** (ад *анема-* + *румб* + *-метр*) — тое, што і *анемометр*.

**АНЕМАСКО́П** (ад *анема-* + *-скоп*) — прыбор, які паказвае наяўнасць ветру пэўнага напрамку.

**АНЕМАФІЛІ́Я** (ад *анема-* + *-філія*) — прыстасаванасць кветак раслін да апылення пры дапамозе ветру.

**АНЕМАФІ́ЛЬНЫ** (ад *анема-* + гр. phileo = люблю); а - ы я р а с л і н ы — ветраапыляльныя расліны.

**АНЕМАХАРЫ́Я** (ад *анема-* + *-харыя*) — рассейванне насення, спораў, пладоў раслін ветрам.

**АНЕМІ́ЧНЫ** (ад *анемія*) — 1) які мае дачыненне да анеміі; малакроўны; 2) *перан.* вялы, кволы; бяздзейны.

**АНЕМІ́Я** (гр. anaimia) — змяншэнне колькасці *эрытрацытаў* і *гемаглабіну* ў крыві, малакроўе.

**АНЕМО́ГРАФ** (ад *анема-* + *-граф*) — прыбор для беспераПыннай аўтаматычнай рэгістрацыі хуткасці і напрамку ветру.

**АНЕМО́МЕТР** (ад *анема-* + *-метр*) — прыбор для вымярэння хуткасці руху і напрамку ветру.

**АНЕМО́НА** (гр. anemone) — травяністая расліна сям. казяльцовых з жоўтымі, белымі або ружовымі кветкамі; кураслеп.

**АНЕНЦЭФАЛІ́Я** (ад *ан-* + гр. enkephalos = галаўны мозг) — змяншэнне або поўная адсутнасць

галаўнога мозга ў выніку *анамаліі* развіцця.

**АНЕРГІ́Я** (ад гр. anergos = не выкананы) — страта здольнасці рэагаваць на раздражняльнікі.

**АНЕРО́ІД** (ад *а-* + гр. neros = вільгаць + *-оід*) — *барометр*, у якім атмасферны ціск вымяраецца па велічыні дэфармацыі пругкай металічнай каробкі.

**АНЕСТЭЗІЁЛАГ** (ад *анестэзія* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *анестэзіялогіі*.

**АНЕСТЭЗІ́Н** (ад гр. anaisthesia = неадчувальнасць) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца для мясцовага абязбольвання.

**АНЕСТЭЗІ́РАВАЦЬ** (ад *анестэзія*) — абязбольваць пры дапамозе *анестэтыкаў*.

**АНЕСТЭЗІ́Я** (гр. anaisthesia = неадчувальнасць) — 1) страта або паслабленне ўспрымальнасці да знешніх раздражненняў; 2) абязбольванне пры дапамозе *анестэтыкаў*.

**АНЕСТЭЗІЯЛО́ГІЯ** (ад *анестэзія* + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які распрацоўвае метады і сродкі абязбольвання.

**АНЕСТЭ́ТЫКІ** (ад гр. anaisthetos = неадчувальны) — сродкі для абязбольвання.

**АНЕСТЭТЫ́ЧНЫ** (ад гр. anaisthetos = неадчувальны) — абязбольваючы.

**АНЕЎПЛАІДЫ́Я** (ад *ан-* + гр. eu = цалкам, зусім + ploos = кратны + eidos = выгляд) — спадчынная змена, пры якой клеткі арганізма змяншаюць або павялічваюць колькасць храмасом у параўнанні з іх звычайным наборам.

**АНЕЎРЫ́ЗМА** (гр. aneurysma = расшырэнне) — мясцовае расшырэнне *артэрыі*, выкліканае зменамі яе сценак або пашкоджаннем.

**АНЕЎРЫ́Н** (ад *а-* + гр. neuron = нерв) — вітамін $B_1$, неабходны для нармальнай дзейнасці нервовай сістэмы.

**АНЁЛ** (польск. anioł, ад грэч. angelos = пасланец) — 1) пасланец бога, якога вернікі ўяўляюць у выглядзе юнака з крыламі; 2) *перан.* асоба як увасабленне чаго-н. станоўчага, ідэальнага.

**АНЖАМБЕМА́Н** (фр. enjambement) — паэтычны прыём, пры якім фраза, пачатая ў адным вершаваным радку, заканчваецца ў наступным.

**АНІГЕ́НА** (н.-лац. onygena) — сумчаты грыб сям. анігенавых, які развіваецца на рагах і капытах буйной рагатай жывёлы, коней, авечак, пер'і птушак, выклікае гідроліз рагавога рэчыва.

**АНІГІЛЯ́ЦЫЯ** (лац. annihilatio = знішчэнне) — ператварэнне элементарных часціц і антычасціц пры сутыкненні ў іншыя часціцы, напр. *пратона* і *антыпратона* ў некалькі *мезонаў* або *электрона* і *пазітрона* ў два *фатоны*.

**АНІЁН** (гр. anion = які ідзе ўверх) — адмоўна зараджаны *іон*, які ў час *электролізу* рухаецца да *анода*.

**АНІЗА-** (гр. anisos = неаднолькавы) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «неаднолькавы».

**АНІЗАГАМЕ́ТЫ** (ад *аніза-* + *гаметы*) — гаметы, якія адрозніва-

юцца па форме, велічыні і паводзінах пры *капуляцыі*.

**АНІЗАГА́МІЯ** (ад *аніза-* + *-гамія*) — палавы працэс, пры якім адбываецца зліццё *анізагамет*.

**АНІЗАКАРЫ́Я** (ад *аніза-* + kore = зрэнка) — розная велічыня зрэнак у асоб з захворваннем галаўнога і спіннога мозгу.

**АНІЗАМЕРЫ́Я** (ад *аніза-* + *-мерыя*) — неаднолькавасць уласцівасцей аднолькавых органаў, клетак, частак клетак.

**АНІЗАМЕ́ТР** (ад *аніза-* + *-метр*) — прылада для вызначэння магнітнай *анізатрапіі* монакрышталёў і тэкстураваных матэрыялаў.

**АНІЗАМЕТРЫ́Я** (ад *аніза-* + *-метрыя*) — неаднолькавы зрок абодвух вачэй.

**АНІЗАТРАПІ́Я** (ад *аніза-* + *-трапія*) — 1) неаднолькавасць фізічных уласцівасцей рэчыва (напр. механічных, аптычных, электрычных) па розных напрамках унутры яго (проціл. *ізатрапія*); 2) здольнасць органаў расліны набываць рознае становішча пры аднолькавым уздзеянні фактараў знешняга асяроддзя.

**АНІЗАФІЛІ́Я** (ад *аніза-* + *-філія*) — неаднолькавы памер лістоў на адным і тым жа парастку ў некаторых раслін.

**АНІЗЕЙКАНІ́Я** (ад *аніза-* + гр. eikon = адлюстраванне) — розніца ў велічыні адлюстраванняў на сятчатцы абодвух вачэй пры *бінакулярным* разглядванні прадметаў.

**АНІЗО́Л** (фр. anisol) — арганічнае злучэнне, рэчыва прыемнага паху, якое выкарыстоўваецца ў парфумернай прамысловасці.

**АНІЛІ́Н** (фр. aniline, ад парт. anil < ар. an-nīl = індыга) — арганічнае злучэнне, алеістая ядавітая вадкасць без колеру; выкарыстоўваецца пры вырабе фарбаў, лякарстваў, выбуховых рэчываў.

**АНІЛІ́НГУС** (ад лац. anus = задні праход + lingere = лізаць) — варыянт папярэдніх інтымных ласкаў у час любоўнай прэлюдыі, пры якой палавое ўзбуджэнне дасягаецца праз раздражненне заднепраходнай вобласці партнёра языком і губамі.

**АНІЛІ́НКЦЫЯ** (ад лац. anus = задні праход + lingere = лізаць) — тое, што і *анілінгус*.

**АНІМАЛІ́ЗМ** (фр. animalisme, ад лац. animal = жывёла) — адлюстраванне жывёл у жывапісе і скульптуры.

**АНІМАЛІ́СТ** (фр. animaliste, ад лац. animal = жывёла) — мастак або скульптар, які адлюстроўвае ў сваіх творах пераважна жывёл.

**АНІМАЛІСТЫ́ЧНЫ** (ад *анімаліст*) — звязаны з адлюстраваннем жывёльнага свету ў выяўленчым мастацтве і літаратуры (напр. а. жанр).

**АНІМАЛЬКУЛІ́ЗМ** (ад лац. animalculum = звярок) — сістэма поглядаў біёлагаў 17—18 ст., якія лічылі, што ў *сперматазоідзе* змяшчаецца ў мініяцюры сфарміраваны арганізм, а яго развіццё зводзіцца толькі да павелічэння ў памерах (параўн. *авізм*).

**АНІМАЛЬКУЛІ́СТЫ** (ад лац. animalculum = звярок) — прыхільнікі *анімалькулізму* (параўн. *авісты*).

# А

**АНІМА́ЛЬНЫ** (лац. animalis = жывёльны) — які адносіцца да жывёлы, жывёльны.

**АНІМА́ТА** (іт. animato) — *муз.* жвава, узбуджана.

**АНІМА́ТАР** (лац. animator = ажыўляльнік) — 1) спецыяліст па *анімацыі*; 2) *уст.* той, хто заахвочвае, пабуджае да дзейнасці.

**АНІМАТЫ́ЗМ** (ад лац. animatus = адушаўлёны) — вера ў безасабовую адушаўлёнасць прадметаў і з'яў акаляючай рэчаіснасці — характэрная рыса ўсіх першабытных рэлігій.

**АНІМАТЭ́Р** (фр. animateur) — душа кампаніі.

**АНІМА́ЦЫЯ** (лац. animatio = адушаўлёнасць) — метад стварэння серыі здымкаў, малюнкаў або сілуэтаў у розных фазах руху, пры паказе якіх на экране з'яўляецца ўражанне ажыўлення мёртвых форм руху.

**АНІМІ́ЗМ** (ад лац. anima = душа) — уяўленне пра існаванне душы ў кожнай рэчы, надзяленне прадметаў і з'яў прыроды ўласцівасцямі жывых істот.

**АНІ́С** (н.-лац. anisum, ад гр. anison) — 1) травяністая эфіраалейная расліна сям. парасонавых, пашыраная пераважна ў Міжземнамор'і, а таксама яе насенне, якое ўжываецца як прыправа; 2) сорт яблыні з сакаўнымі кісла-салодкімі яблыкамі, а таксама плод гэтай яблыні.

**АНІХАМІКО́З** (ад гр. onyks, -ychos = ногаць + *мікозы*) — захворванне ногцяў, якое выклікаецца рознымі відамі паразітычных грыбоў.

**АНІХАФО́РЫ** (н.-лац. onychophora) — тып многасегментных беспазваночных жывёл падраздзялення першаснаротых, знешне падобных на вусеня; жывуць у лясным подсціле.

**АНІХІЎРЫ́ДЫ** (н.-лац. onychiuridae) — сямейства насякомых атрада нагахвостак; шкодзяць усходам і агародным раслінам.

**АНІХІ́Я** (ад гр. onyks, -ychos = ногаць) — захворванне ногцяў, паражэнне ногцевай пласцінкі, кораня ногця, ногцевага ложа (параўн. *параніхія*).

**АНІЯНІ́ТЫ** (ад гр. anion = які ідзе ўверх) — *іаніты*, здольныя абменьваць свае адмоўна зараджаныя *іоны (аніёны)* на іоны знешняга асяроддзя.

**АНКАГЕНЕ́З** (ад гр. onkos = уздутасць + *-генез*) — працэс ператварэння нармальных клетак, тканак у пухлінныя.

**АНКАГЕ́ННЫ** (ад гр. onkos = уздутасць + *-генны*) — тое, што і *канцэрагенны*.

**АНКАГЕ́НЫ** (ад гр. onkos = уздутасць + *ген*) — гены, якія абумоўліваюць ператварэнне нармальных клетак *эўкарыёт* у злаякасныя.

**АНКАЛІ́ТЫ** (ад гр. onkos = уздутасць, нарасць + *-літ*) — вапняковыя і даламітавыя ўтварэнні ў горных пародах, якія паходзяць з пасяленняў выкапнёвых ніжэйшых водарасцяў.

**АНКАЛО́ГІЯ** (ад гр. onkos = уздутасць + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае пухліны і распрацоўвае метады іх лячэння.

**АНКАТЫ́ЧНЫ** (гр. onkoteros) — напружаны, павялічаны; а. ц і с к — частка *асматычнага* ціску раствору, выкліканая калоідамі, што змяшчаюцца ў гэтым растворы.

**А́НКЕР** (ням. Anker, ад лац. ancora = якар) — 1) дэталь гадзіннікавага механізма, якая звязвае хадавое кольца з маятнікам і забяспечвае раўнамернасць ходу гадзінніка; 2) металічная дэталь, якая служыць для мацавання састаўных частак збудаванняў, машын.

**АНКЕРО́К** (гал. anker) — драўляная бочачка для зберажэння на судне пітной вады.

**АНКЕРЫ́Т** (ад ням. M.Anker = прозвішча аўстр. мінералога 19 ст.) — мінерал класа *карбанатаў*, разнавіднасць *даламіту* белага або шэрага колеру са шкляным бляскам.

**АНКЕ́ТА** (фр. enquête) — апытальны ліст для атрымання якіх-н. звестак аб тым, хто яго запаўняе, або адказаў на пытанні, складзеныя па пэўнай праграме.

**АНКІЛАЗА́ЎРЫ** (ад гр. ankylos = сагнуты + *-заўр*) — буйныя расліннаедныя чацвераногія *дыназаўры* мелавога перыяду (гл. *мезазой*) з целам, пакрытым панцырам з касцявых пласцінак.

**АНКІЛАСТАМАТЫДО́З** (ад *анкіластаматыды*) — хвароба чалавека і некаторых жывёл, якая выклікаецца анкіластаматыдамі.

**АНКІЛАСТАМАТЫ́ДЫ** (н.-лац. ankylostomatidae, ад гр. ankylos = сагнуты + stoma, -atos = рот) — сямейства *гельмінтаў* класа *нематодаў*, паразітуюць у кішэчніку чалавека і некаторых жывёл.

**АНКІЛАСТАМО́З** (ад *анкіластома*) — хвароба чалавека і мясаедных жывёл, якая выклікаецца анкіластомамі.

**АНКІЛАСТО́МА** (н.-лац. ankylostoma, ад гр. ankylos = сагнуты + stoma = рот) — *гельмінт* сям. *анкіластаматыдаў*, паразітуе ў кішэчніку чалавека і мясаедных жывёл; крывагалоўка.

**АНКІЛО́З** (гр. ankylos = сагнуты) — нерухомасць сустава, выкліканая спайкай храсткоў або касцей.

**АНКІСТРАДЭ́СМУС** (н.-лац. ancistradesmus) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. аацысціевых, якая свабодна плавае ў вадаёмах рознага тыпу; павышае прадукцыйнасць рыбагадоўчых сажалак.

**АНКЛА́Ў** (фр. enclave) — тэрыторыя або частка тэрыторыі адной дзяржавы, поўнасцю акружаная тэрыторыяй іншай дзяржавы.

**АНКО́ЛАГ** (ад гр. onkos = уздутасць + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *анкалогіі*.

**АНКО́ЛЬ** (англ. on call = па патрабаванні) — кароткатэрміновая пазыка, якая павінна пагашацца па першым патрабаванні крэдытора.

**АНКО́ЛЬНЫ** (ад *анколь*); а. к р э д ы т — тое, што і *анколь*.

**АНО́А** (н.-лац. anoa) — парнакапытная жывёла сям. пустарогіх, якая жыве ў лясах Інданезіі; карлікавы буйвал.

**АНО́Д** (гр. anodos = пад'ём, узыходжанне) — *электрод* з дадатным зарадам (проціл. *катод*).

# А

**АНО́НА**[1] (лац. annona, ад annus = год) — гадавы запас хлеба, неабходны для забеспячэння старажытнарымскага горада, а таксама павіннасць насельніцтва забяспечваць прадуктамі і фуражом старажытнарымскую армію.

**АНО́НА**[2] (н.-лац. annona) — дрэвавая або кустовая расліна сям. анонавых, пашыраная ў тропіках і субтропіках Амерыкі і Афрыкі; многія віды разводзяцца як пладовыя.

**АНО́НС** (фр. annonce) — папярэдняя аб'ява, паведамленне аб чым.-н. (напр. што павінны адбыцца гастролі, канцэрт, спектакль).

**АНО́ФЕЛЕС** (гр. anopheles = шкодны) — малярыйны камар.

**АНСА́МБЛЬ** (фр. ensamble = сукупнасць) — 1) стройнае спалучэнне частак у адно цэлае (напр. архітэктурны а.); 2) мастацкая зладжанасць у выкананні (драматычным, музычным, харэаграфічным); 3) група выканаўцаў, якая выступае як адзіны мастацкі калектыў (напр. а. песні і танца); 4) музычны твор для некалькіх музыкантаў ці спевакоў.

**АНТА́БА** (ням. Handhabe = ручка) — металічнае кольца, якое прымацоўвалася даўней да варот сядзіб, дзвярэй дамоў, дзверцаў у шафах, куфраў і служыла ручкай; у наш час выкарыстоўваецца пераважна для аздаблення прадметаў хатняга ўжытку.

**АНТАБІЯЛО́ГІЯ** (ад гр. on, ontos = быццё + *біялогія*) — раздзел біялогіі, які вывучае ўзроставыя асаблівасці арганізма; біялогія развіцця.

**АНТАБЛЕМЕ́НТ** (фр. entablement) — верхняя гарызантальная частка будынка, якая апіраецца на калоны і складаецца з *карніза, фрыза* і *архітрава*.

**АНТАГАНІ́ЗМ** (гр. antagonisma = спрэчка, барацьба) — непрымірымая супярэчнасць, варожасць.

**АНТАГАНІ́СТ** (гр. antagonistes) — 1) непрымірымы праціўнік; 2) мышца, якая дзейнічае ў процілеглым напрамку адносна другой мышцы (параўн. *сінергіст*); 3) *біял.* мікраарганізм, які тармозіць жыццядзейнасць іншых мікраарганізмаў.

**АНТАГАНІСТЫ́ЧНЫ** (ад *антаганіст*) — поўны *антаганізму*, непрымірымы, варожы.

**АНТАГЕНЕ́З** (ад гр. on, ontos = быццё + *-генез*) — індывідуальнае развіццё жывёльнага або расліннага арганізма з моманту зараджэння да смерці.

**АНТАГЕНЕ́ТЫКА** (ад гр. on, ontos = быццё + *генетыка*) — раздзел генетыкі, які вывучае генетычныя асновы індывідуальнага развіцця арганізма.

**АНТАЛО́ГІЯ**[1] (гр. anthologia = *літар.* букет кветак) — зборнік выбраных твораў розных аўтараў.

**АНТАЛО́ГІЯ**[2] (ад гр. on, ontos = быццё + *-логія*) — раздзел *філасофіі*, які вывучае тэорыю быцця, характар і структуру рэчаіснасці або агульную тэорыю прадметаў.

**АНТАНАМАЗІ́Я** (гр. antonomasia) — від *метаніміі*, замена агульнага слова ўласным іменем і наадварот (напр. «заіл» замест «злосны крытык»).

**АНТАНІМІ́Я** (ад *анты-* + гр. onyma = імя) — *лінгв.* тып семантычных адносін лексічных адзінак, якія маюць процілеглае значэнне *(антонімаў)*.

**АНТАНО́МУС** (н.-лац. anthonomus) — жук сям. даўганосікаў, які развіваецца на дрэвавых, кустовых і травяністых раслінах.

**АНТА́НТА** (фр. entante = *літар.* згода) — блок Вялікабрытаніі, Францыі, Расіі, які склаўся ў 1904—1907 гг. у процівагу Германіі і яе саюзнікам, а ў ходзе першай сусветнай вайны папоўніўся ЗША і Японіяй; распаўся ў пач. 20-х гадоў.

**АНТАРКТАЗА́ЎР** (ад *Антарктыка* + *-заўр*) — самы буйны *дыназаўр* мелавога перыяду з групы *заўраподаў*, рэшткі яго знойдзены адносна блізка ад Антарктыкі, у Аргенціне.

**АНТА́РКТЫКА** (гр. antarktikos = які знаходзіцца насупраць поўначы) — паўднёвая *палярная* вобласць зямнога шара.

**АНТАРКТЫ́ЧНЫ** (гр. antarktikos = які знаходзіцца насупраць поўначы) — які мае дачыненне да Антарктыкі.

**АНТАСФЕ́РА** (ад гр. anthos = кветка + *сфера*) — сфера ўплыву пахучых залоз асобнай кветкі на дзейнасць насякомых — апыляльнікаў раслін (спажыўцоў яе нектару і пылку).

**АНТАФЕІ́Н** (ад гр. anthos = колер + faios = цёмны) — цёмна-буры пігмент у клетачным соку некаторых раслін, напр. у пялёстках бабоў.

**АНТАФІЛІ́Т** (ад грэч. anthos = колер + phyllon = ліст) — мінерал з групы рамбічных *амфіболаў* шэрага, зялёнага або карычневага колеру; багатая жалезам валакністая разнавіднасць выкарыстоўваецца як гатунак азбесту.

**АНТАХЛО́Р** (ад гр. anthos = кветка + chloros = жаўтаваты) — жоўты пігмент у клетачным соку некаторых раслін, гал.ч. у пялёстках кветак, часам сцёблах і лістах.

**АНТАЦЫ́ДНЫ** (ад *анты-* + лац. acidus = кіслы) — які мае адносіны да лекавых рэчываў, што нейтралізуюць саляную кіслату страўнікавага соку.

**АНТАЦЫЯ́Н** (ад гр. anthos = кветка + kyanos = сіні) — сіні, чырвоны або фіялетавы *пігмент* у клетачным соку многіх раслін, напр. у пялёстках многіх кветак.

**АНТАЦЭ́РАС** (н.-лац. anthoceros) — мох сям. антацэротавых, які трапляецца на аблогах, каля дарог, канаў, па берагах рэк.

**АНТАЦЭРАТАПСІ́ДЫ** (н.-лац. anthocerotopsida) — клас мохападобных; пашыраны пераважна ў тропіках і субтропіках; на Беларусі прадстаўлены родамі *антацэрас* і *феацэрас; піянеры* вільготных агаленых глеб.

**АНТГЕЛЬМІ́НТЫКІ** [ад *ант(ы)-* + *гельмінты*] — рэчывы, якімі выганяюць або знішчаюць гельмінтаў як у арганізме чалавека, жывёл, раслін, так і ў знешнім асяроддзі.

**АНТО́НІМЫ** (ад *анты-* + гр. onyma = імя) — *лінгв.* словы з процілеглым значэннем (напр. дабро — зло, вялікі — малы).

# А

**АНТРАКНО́ЗЫ** (ад гр. anthraks = вугаль + *-ноз*) — хваробы раслін, якія выклікаюцца паразітычнымі грыбамі.

**АНТРАКО́БІЯ** (н.-лац. anthracobia) — сумчаты грыб сям. піранемавых, які расце на глебе, звычайна на месцы былых вогнішчаў.

**АНТРАКО́З** (гр. anthraks, -akos = вугаль) — прафесійнае захворванне лёгкіх (гл. *пнеўмаканіёзы*), якое развіваецца ў выніку працяглага ўдыхання вугальнага пылу.

**АНТРА́КТ** (фр. entracte, ад entre = паміж + acte = дзеянне) — 1) перапынак паміж актамі спектакля, адзяленнямі канцэрта і інш.; 2) музычны твор, які выконваецца паміж актамі опернага ці драматычнага спектакля; 3) *перан.* перапынак у якім-н. дзеянні, працэсе.

**АНТРАПА-, -АНТРАП** (ад гр. anthropos = чалавек) — першая або другая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «чалавек».

**АНТРАПАБІЯЦЭНО́З** (ад *антрапа-* + *біяцэноз*) — біяцэноз, які знаходзіцца пад пастаянным уплывам гаспадарчай дзейнасці чалавека.

**АНТРАПАГЕАГРА́ФІЯ** (ад *антрапа-* + *геаграфія*) — плынь у эканамічнай геаграфіі, якая прызнае вызначальную ролю прыродных умоў у размяшчэнні насельніцтва і гаспадаркі.

**АНТРАПАГЕ́Н** (ад *антрапа-* + *-ген*) — сучасны перыяд геалагічнай гісторыі Зямлі, які налічвае ад 1 да 3,5 млн. гадоў і звязаны з узнікненнем чалавека.

**АНТРАПАГЕ́НАВЫ** (ад *антрапа-* + *-ген*); а. п е р ы я д — тое, што і *антрапаген*.

**АНТРАПАГЕНЕ́З** (ад *антрапа-* + *-генез*) — раздзел *антрапалогіі*, які вывучае паходжанне і развіццё чалавека.

**АНТРАПАГЕНЕ́ТЫКА** (ад *антрапа-* + *генетыка*) — генетыка чалавека.

**АНТРАПАГЕ́Я** (ад *антрапа-* + гр. ge = Зямля) — сукупнасць экасістэм, якія ствараюцца ў выніку творчай або разбуральнай дзейнасці чалавека.

**АНТРАПАГРА́ФІЯ** (ад *антрапа-* + *-графія*) — раздзел *антрапалогіі*, які займаецца апісаннем чалавечых рас і народнасцей.

**АНТРАПАЗААНО́ЗЫ** (ад *антрапа-* + *заанозы*) — група інфекцыйных і інвазійных хвароб, агульных для жывёл і чалавека.

**АНТРАПАЛАГІ́ЗМ** (ад *антрапа-* + *-лагізм*) — філасофская канцэпцыя, якая разглядае ўсе з'явы прыроды, грамадства і мыслення ў залежнасці ад уласцівасцей і патрэб чалавека.

**АНТРАПАЛО́ГІЯ** (ад *антрапа-* + *-логія*) — навука аб паходжанні і эвалюцыі чалавека і ўтварэнні чалавечых рас.

**АНТРАПАМАРФАЛО́ГІЯ** (ад *антрапа-* + *марфалогія*) — раздзел *антрапалогіі*, які вывучае заканамернасці зменлівасці арганізма чалавека, а таксама змены асобных яго частак.

**АНТРАПАМАРФІ́ЗМ** (ад *антрапа-* + *-марфізм*) — надзяленне з'яў прыроды, жывёл, неадушаўлёных прадметаў і фантастычных істот

чалавечымі ўласцівасцямі; увасабленне.

**АНТРАПАМЕ́ТР** (ад *антрапа-* + *-метр*) — прылада для вымярэння росту і прапорцый цела чалавека.

**АНТРАПАМЕ́ТРЫЯ** (ад *антрапа-* + *-метрыя*) — адзін з метадаў антрапалагічнага даследавання, які заключаецца ў вымярэнні чалавечага цела і яго частак.

**АНТРАПАМО́РФНЫ** (ад *антрапа-* + *-морфны*) — чалавекападобны (напр. а-ыя малпы).

**АНТРАПАНІ́МІКА** (ад *антрапа-* + гр. onyma = імя) — раздзел *анамастыкі*, які вывучае *антрапонімы*.

**АНТРАПАНІ́МІЯ** (ад *антрапа-* + гр. onyma = імя) — сукупнасць *антрапонімаў* той ці іншай мовы.

**АНТРАПАНО́ЗЫ** (ад *антрапа-* + *-ноз*) — група заразных хвароб, узбуджальнікі якіх здольныя паражаць толькі чалавека (напр. *грып, тыфы, дыфтэрыя, сіфіліс*).

**АНТРАПАСАЦЫЯЛО́ГІЯ** (ад *антрапа-* + *сацыялогія*) — расісцкае вучэнне, якое фальсіфікуе дадзеныя *антрапалогіі*, разглядаючы грамадскія з'явы як залежныя ад анатама-фізіялагічных прымет.

**АНТРАПАСІСТЭ́МА** (ад *антрапа-* + *сістэма*) — чалавецтва, якое развіваецца як адзінае цэлае і складаецца з чалавека як біялагічнага віду, яго матэрыяльнай і духоўнай культуры, прадукцыйных сіл і вытворчых адносін грамадства.

**АНТРАПАСО́ФІЯ** (ад *антрапа-* + *-софія*) — разнавіднасць *тэасофіі*, рэлігійна-містычнае вучэнне, якое ставіць на месца бога абагоўленага чалавека.

**АНТРАПАСФЕ́РА** (ад *антрапа-* + *сфера*) — частка *сацыясферы*, якую складае сукупнасць усіх людзей зямнога шара.

**АНТРАПАПАТЫ́ЗМ** (ад *антрапа-* + гр. pathos = адчуванне) — перанясенне псіхічных уласцівасцей чалавека на жывёл, міфічных істот і нежывыя прадметы.

**АНТРАПАФА́Г** (гр. anthropophagos) — людаед.

**АНТРАПАФА́ГІЯ** (гр. anthropophagia) — людаедства.

**АНТРАПАФІ́ТЫ** (ад *антрапа-* + *-фіты*) — расліны, якія ўвайшлі ў склад флоры пэўнай мясцовасці ў выніку гаспадарчай дзейнасці чалавека; у адрозненне ад *апафітаў* яны не звязаны з прыродным развіццём мясцовай флоры.

**АНТРАПАФО́БІЯ** (ад *антрапа-* + *-фобія*) — хваравіта-псіхічны стан, які характарызуецца страхам перад людзьмі.

**АНТРАПАФО́БЫ** (ад *антрапа-* + *-фоб*) — расліны і жывёлы, якія не пераносяць змены ўмоў існавання пад уплывам дзейнасці чалавека, напр. адоніс, кавыль не церпяць узмоцненай пасьбы, касьбы.

**АНТРАПАХАРЫ́Я** (ад *антрапа-* + *-харыя*) — распаўсюджанне раслін пры мімавольным удзеле чалавека (з насеннем, пры перавозках і інш.).

**АНТРАПАЦЭНАЛО́ГІЯ** (ад *антрапа-* + гр. kainos = агульны + *-логія*) — раздзел *экалогіі* чалавека, які вывучае ўзаемаадносіны згуртавання людзей з навакольным асяроддзем.

# А

**АНТРАПАЦЭНТРЫ́ЗМ** (ад *антрапа- + цэнтр*) — рэлігійна-ідэалістычны погляд, паводле якога чалавек з'яўляецца цэнтрам і канчатковай мэтай сусвету.

**АНТРАПО́ІДЫ** (гр. anthropoeides = чалавекападобны) — чалавекападобныя малпы.

**АНТРАПО́ЛАГ** (ад *антрапа- + -лаг*) — спецыяліст у галіне *антрапалогіі*.

**АНТРАПО́НІМ** (ад *антрапа- +* гр. onyma = імя) — любое ўласнае імя, якое можа мець чалавек.

**АНТРАХІНО́Н** (ад гр. anthraks = вугаль + *хінон*) — арганічнае злучэнне класа хінонаў, цвёрды светла-жоўты крышталічны прадукт, выкарыстоўваецца ў вытворчасці фарбавальнікаў.

**АНТРАЦЫ́Т** (гр. anthrakitis) — лепшы сорт каменнага вугалю.

**АНТРАЦЭ́Н** (ад гр. anthraks = вугаль + *-цэн*) — араматычны вуглевадарод, які атрымліваюць з каменнага вугалю.

**АНТРАША́** (фр. entrechat) — лёгкі скачок уверх у балетным танцы, у час якога танцор ударае некалькі разоў нагой аб нагу.

**АНТРО́ДЫЯ** (н.-лац. antrodia) — губавы *базідыяльны* грыб сям. порыевых, які расце на пнях, сухастоі і павале бярозы, асіны, вольхі, вярбы, дубу, ліпы і іншых дрэў.

**АНТРЫ́Т** (ад лац. antrum = пячора, поласць) — запаленне слізістай абалонкі і касцявых сценак пячоры — найбольш буйной поласці соскападобнага адростка скроневай косці.

**АНТРЭ́** (фр. entree) — 1) клоунскі нумар у цырку; 2) выхад аднаго або некалькіх выканаўцаў у балеце; 3) урачысты выхад касцюміраваных персанажаў у бальную залу (у сярэдневяковай Еўропе).

**АНТРЭКО́Т** (фр. entrecôte) — адбіўная ялавічная катлета.

**АНТРЭПРЫ́ЗА** (фр. entreprise) — прыватнае тэатральнае прадпрыемства.

**АНТРЭПРЭНЁР** (фр. entrepreneur) — 1) прыватны тэатральны прадпрымальнік; 2) асоба, якая адшуквае сродкі для арганізацыі, прадпрыемства і гэтым самым бярэ на сябе прадпрымальніцкую рызыку.

**АНТРЭСО́ЛЬ** (фр. entresol) — 1) верхні паўпаверх дома; 2) верхні паўярус у структуры зальнага памяшкання, звычайна ў выглядзе галерэі; 3) паліца пад столлю кватэры для розных рэчаў.

**АНТУРА́Ж** (фр. entourage) — 1) навакольнае асяроддзе, акружэнне; 2) *перан.* фон (у мастацкім творы).

**АНТУ́РЫУМ** (н.-лац. anthurium) — вечназялёная травяністая расліна сям. ароідных, пашыраная ў Паўд. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**А́НТЫ** (лац. antae) — тарцы падоўжных сцен антычнага храма, якія выступаюць на *фасадзе*, замыкаючы па баках *порцік*.

**АНТЫ-** (гр. anti = супраць) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае процілегласць або варожасць чаму-н.

**АНТЫАЗАНА́НТЫ** (ад *анты- + азон*) — хімічныя рэчывы, якія павышаюць устойлівасць гумы да

разбурэння (растрэскваньня) пад уздзеяннем атмасфернага азону.

**АНТЫАКСІДА́НТЫ** (ад *анты-* + *аксіды*) — рэчывы, якія затрымліваюць акісленне арганічных злучэнняў, напр. аміны, фенолы, нафтолы.

**АНТЫАЛКАГО́ЛЬНЫ** (ад *анты-* + *алкаголь*) — процiалкагольны, накіраваны супраць *алкагалізму*.

**АНТЫАНГІНА́ЛЬНЫ** (ад *анты-* + *ангіна*) — які адносіцца да лекавых сродкаў, што выкарыстоўваюцца пры лячэнні *стэнакардыі*.

**АНТЫА́ПЕКС** (ад *анты-* + *апекс*) — *астр.* пункт нябеснай сферы, процілеглы апексу.

**АНТЫА́РХІ** (н.-лац. antiarchi) — падклас вымерлых панцырных рыб класа пласцінаскурых; паходзілі ад *артрадыраў*, ад якіх адрозніваліся размяшчэннем пласцінак панцыра; жылі ў *дэвоне*.

**АНТЫБАКТЭРЫЯ́ЛЬНЫ** (ад *анты-* + *бактэрыя*) — здольны процідзейнічаць развіццю бактэрый.

**АНТЫБА́КХІЙ** (гр. antibakcheios) — *літ.* стапа, якая складаецца з двух доўгіх складоў і аднаго кароткага.

**АНТЫБАРЫЁНЫ** (ад *анты-* + *барыёны*) — элементарныя часціцы, якія з'яўляюцца антычасціцамі ў адносінах да барыёнаў.

**АНТЫБАРЭА́ЛЬНЫ** (ад *анты-* + гр. borens = паўночны); а. р э г і ё н — буйнейшае зоагеаграфічнае падраздзяленне Сусветнага акіяна.

**АНТЫБІЁЗ** (ад *анты-* + *-біёз*) — *біял.* немагчымасць існавання аднаго віду жывых істот у прысутнасці другога ў выніку атручвання апошнімі асяроддзя.

**АНТЫБІЁТЫКІ** (ад *анты-* + гр. bios = жыццё) — хімічныя рэчывы арганічнага паходжання, здольныя прыпыняць рост шкодных бактэрый і знішчаць іх.

**АНТЫВІ́РУСЫ** (ад *анты-* + *вірусы*) — лекавыя сродкі, якія маюць уласцівасць затрымліваць размнажэнне тых відаў мікробаў, ад якіх яны атрыманы.

**АНТЫВІТАМІ́НЫ** (ад *анты-* + *вітаміны*) — хімічныя злучэнні, блізкія па будове да вітамінаў, але процілеглыя па біялагічным дзеянні.

**АНТЫГАРМО́НЫ** (ад *анты-* + *гармоны*) — абаронныя рэчывы, якія арганізм выпрацоўвае пры працяглым увядзенні ў яго бялковых гарманальных прэпаратаў.

**АНТЫГЕЛЬМІ́НТЫКІ** (ад *анты-* + *гельмінты*) — лекавыя сродкі, якія выкарыстоўваюцца для лячэння *гельмінтоза*.

**АНТЫГЕ́Н** (ад *анты-* + *-ген*) — рэчыва, якое пры ўвядзенні ў арганізм можа прывесці да ўтварэння антыцелаў.

**АНТЫГЕРО́Й** (ад *анты-* + *герой*) — тып літаратурнага персанажа, які ў той ці іншай ступені процістаіць традыцыйнаму вобразу героя і аб'ектыўна выступае носьбітам адмоўных грамадскіх з'яў.

**АНТЫГІГІЕНІ́ЧНЫ** (ад *анты-* + *гігіена*) — які не адпавядае, супярэчыць патрабаванням гігіены.

**АНТЫГІПЕРО́Н** (ад *анты-* + *гіперон*) — элементарная антычасціца ў дачыненні да масы гіперона.

# А

**АНТЫГІСТАРЫ́ЧНЫ** (ад *анты-* + *гісторыя*) — які супярэчыць прынцыпам гістарызму.

**АНТЫГРЫЗУ́ТНАСЦЬ** (ад *анты-* + фр. grisouteux = выбухованебяспечны) — уласцівасць засцерагальных выбуховых рэчываў, якая характарызуе іх паніжаную здольнасць запальваць сумесі пры выбуховых работах у шахтах.

**АНТЫГРЫЗУ́ТНЫ** (ад *анты-* + фр. grisouteux = выбухованебяспечны) — які мае адносіны да засцерагальных выбуховых рэчываў.

**АНТЫГУМАНІ́ЗМ** (ад *анты-* + *гуманізм*) — непрызнанне прынцыпаў гуманізму, прыніжэнне ролі чалавека як асобы.

**АНТЫГУМА́ННЫ** (ад *анты-* + *гуманны*) — які пярэчыць прынцыпам гуманнасці, чалавечнасці.

**АНТЫДАГМАТЫ́ЧНЫ** (ад *анты-* + *дагматычны*) — які не прызнае *догмаў*, не абапіраецца на догмы; крытычны.

**АНТЫДА́КТЫЛЬ** (гр. antidaktylos = зваротны дактыль) — тое, што і *анапест*.

**АНТЫДАРВІНІ́ЗМ** (ад *анты-* + *дарвінізм*) — тэорыя, накіраваная супраць дарвінізму і несумяшчальная з ім (напр. *крэацыянізм*).

**АНТЫДАТАВА́ЦЬ** (фр. antidater, ад лац. ante = перад + data = дадзены) — выдаваць дакументы з датай, што ўжо мінула.

**АНТЫДО́ТЫ** (гр. antidoton = супраць дадзеныя) — лекавыя сродкі для лячэння атручванняў; проціяддзі.

**АНТЫДЫЗ'Ю́НКЦЫЯ** (ад *анты-* + *дыз'юнкцыя*) — адмаўленне дыз'юнкцыі.

**АНТЫДЫУРЭТЫ́ЧНЫ** (ад *анты-* + *дыурэтычны*) — супрацьмачагонны; а. г а р м о н — тое, што і *вазапрэсін*.

**АНТЫДЫЯЛЕКТЫ́ЧНЫ** (ад *анты-* + *дыялектычны*) — які супярэчыць прынцыпам *дыялектыкі*, накіраваны супраць дыялектыкі.

**АНТЫДЭЙТРО́Н** (ад *анты-* + *дэйтрон*) — элементарная часціца, якая з'яўляецца антычасціцай у адносінах да дэйтрона; звязаны стан *антыпратона* і *антынейтрона*.

**АНТЫДЭМАКРАТЫ́ЗМ** (ад *анты-* + *дэмакратызм*) — варожасць інтарэсам *дэмакратыі*.

**АНТЫДЭМАКРАТЫ́ЧНЫ** (ад *анты-* + *дэмакратычны*) — накіраваны супраць *дэмакратыі*.

**АНТЫДЭПРЭСА́НТЫ** (ад *анты-* + *дэпрэсанты*) — лекавыя рэчывы, якія прымяняюць пры хваравітым псаванні настрою; знімаюць пачуццё прыгнечанасці.

**АНТЫДЭТАНА́ТАР** (ад *анты-* + *дэтанатар*) — хімічнае злучэнне, якое дабаўляецца ў бензін, каб папярэдзіць дэтанацыю ў рухавіках унутранага згарання.

**АНТЫІМПЕРЫЯЛІСТЫ́ЧНЫ** (ад *анты-* + *імперыялізм*) — накіраваны супраць імперыялізму, проціпастаўлены яму.

**АНТЫІМПЛІКА́ЦЫЯ** (ад *анты-* + *імплікацыя*) — адмаўленне імплікацыі.

**АНТЫІНТЭЛЕКТУАЛІ́ЗМ** (ад *анты-* + *інтэлектуалізм*) — адмаўленне магчымасці пазнання ісціны пры дапамозе розуму.

**А́НТЫК** (лац. antiquus = старадаўні) — антычная *скульптура* або яе фрагмент.

**АНТЫКААГУЛЯ́НТ** (ад *анты-* + *каагулянт*) — лекавае рэчыва, якое перашкаджае згусанню крыві і ўтварэнню тромбаў.

**АНТЫКАДО́Н** (ад *анты-* + *кадон*) — участак малекулы транспартнай *рыбануклеінавай* кіслаты, які «пазнае» кадон пры *біясінтэзе* бялку.

**АНТЫКАДЭ́НЦЫЯ** (ад *анты-* + *кадэнцыя*) — інтанацыйнае павышэнне голасу ва ўступнай частцы складана-залежнага сказа.

**АНТЫКАЛАНІЯ́ЛЬНЫ** (ад *анты-* + *каланіяльны*) — накіраваны супраць *каланіялізму*.

**АНТЫКА́МЕРА** (іт. anticamera) — пакой у палацах 16—18 ст., чакальня для дваран і пакаёвых, часта памяшканне шматмэтавага выкарыстання (сталовая, зала і г.д.).

**АНТЫКАМУНІ́ЗМ** (ад *анты-* + *камунізм*) — варожая камуністычнай тэорыі і практыцы ідэалогія і палітыка.

**АНТЫКАНСТЫТУЦЫ́ЙНЫ** (ад *анты-* + *канстытуцыя*) — які супярэчыць канстытуцыі.

**АНТЫКАН'Ю́НКЦЫЯ** (ад *анты-* + *кан'юнкцыя*) — адмаўленне кан'юнкцыі.

**АНТЫКАРАЗІ́ЙНЫ** (ад *анты-* + *карозія*) — які вызначаецца стойкасцю супраць хімічнага або электрахімічнага ўздзеяння знешняга асяроддзя.

**АНТЫКАТО́Д** (ад *анты-* + *катод*) — дадатны *электрод* рэнтгенаўскай трубкі, размешчаны супраць катода.

**АНТЫ́КВА** (лац. antiquus = старадаўні) — друкарскі лацінскі *шрыфт* з закругленымі формамі, у адрозненне ад вуглаватага гатычнага шрыфту.

**АНТЫКВА́Р** (лац. antiquarius) — збіральнік і прадавец прадметаў старадаўняга мастацтва, рэдкіх кніг і інш.

**АНТЫКВА́РКІ** (ад *анты-* + *кваркі*) — элементарныя часціцы, якія з'яўляюцца антычасціцамі ў адносінах да кваркаў.

**АНТЫКВА́РНЫ** (ад *антыквар*) — 1) вельмі стары і каштоўны (напр. а-ая рэч); 2) які мае адносіны да старых каштоўных прадметаў (напр. а. магазін).

**АНТЫКВАРЫЯ́Т** (ад лац. antiquarius = антыквар) — гандаль старадаўнімі прадметамі, карцінамі, кнігамі.

**АНТЫКЛЕРЫКАЛІ́ЗМ** (ад *анты-* + *клерыкалізм*) — грамадска-палітычны рух, накіраваны супраць клерыкалізму, супраць прывілеяў царквы і духавенства.

**АНТЫКЛІ́МАКС** (ад *анты-* + *клімакс* 2) — стылістычная фігура, размяшчэнне слоў ці выразаў у парадку аслаблення эмацыянальнага і сэнсавага зместу; від *градацыі* 2.

**АНТЫКЛІНА́ЛЬ** (ад *анты-* + гр. klino = выгінаю) — складка пластоў горных парод, павернутая пукатасцю ўгару, у ядры якой знаходзяцца больш старажытныя пласты, чым на крылах.

**АНТЫКЛІНО́РЫЙ** (н.-лац. anticlinorium, ад гр. anti = супраць + klino = выгінаю + oros = гара) — буйны і складаны выгін складкаватых тоўшчаў горных парод, які ў

цэлым мае антыклінальную форму.

**АНТЫЛАГАРЫ́ФМ** (ад *анты-* + *лагарыфм*) — лік, які мае дадзены лагарыфм, напр. лік B ёсць антылагарыфм ліку A, калі log B = A.

**АНТЫЛАГІ́ЗМ** (ад *анты-* + гр. logos = розум) — формула логікі, якая адлюстроўвае несумяшчальнасць пасылак катэгарычнага *сілагізму* з адмаўленнем яго заключэння.

**АНТЫЛЕПТО́НЫ** (ад *анты-* + *лептоны*) — элементарныя часціцы, якія з'яўляюцца антычасціцамі ў адносінах да лептонаў.

**АНТЫЛО́ПА** (фр. antilope, ад с.-гр. antholops) — жвачная парнакапытная жывёла сям. пустарогіх, якая пашырана пераважна ў Афрыцы і Паўд. Азіі.

**АНТЫМАГНІ́ТНЫ** (ад *анты-* + *магніт*) — які не паддаецца ўздзеянню магніту (напр. а. гадзіннік).

**АНТЫМАНАПАЛІСТЫ́ЧНЫ** (ад *анты-* + *манаполія*) — накіраваны супраць манаполій.

**АНТЫМАНАРХІ́ЧНЫ** (ад *анты-* + *манархія*) — накіраваны супраць манархіі, *манархізму*.

**АНТЫМАНІ́ДЫ** (ад с.-лац. antimonium = сурма) — злучэнні сурмы з іншымі элементамі; выкарыстоўваюцца як паўправаднікі.

**АНТЫМАНІ́Т** (ад с.-лац. antimonium = сурма) — мінерал класа *сульфідаў*, сульфід сурмы свінцова-шэрага колеру.

**АНТЫМАРА́ЛЬНЫ** (ад *анты-* + *маральны*) — які супярэчыць *маралі*; амаральны.

**АНТЫМАРКСІ́СЦКІ** (ад *анты-* + *марксізм*) — накіраваны супраць марксізму.

**АНТЫМАТЭ́РЫЯ** (ад *анты-* + *матэрыя*) — гіпатэтычная *субстанцыя*, утвораная з антыатамаў.

**АНТЫМАТЭРЫЯЛІСТЫ́ЧНЫ** (ад *анты-* + *матэрыялістычны*) — накіраваны супраць *матэрыялізму*.

**АНТЫМЕ́РЫ** (ад *анты-* + *-мер*) — сіметрычныя часткі цела, напр. вочы, правая і левая рука і нага.

**АНТЫМЕТАБАЛІ́ТЫ** (ад *анты-* + *метабаліты*) — біялагічна актыўныя рэчывы, якія ўтвараюцца ў арганізме або штучна сінтэзаваныя; па хімічнай будове блізкія да метабалітаў, але парушаюць абмен рэчываў.

**АНТЫМІЛІТАРЫ́ЗМ** (ад *анты-* + *мілітарызм*) — масавы міжнародны рух супраць палітыкі мілітарызму, барацьба супраць падрыхтоўкі і распальвання захопніцкіх войнаў.

**АНТЫМУСО́Н** (ад *анты-* + *мусон*) — уяўнае перанясенне паветра ў верхняй *трапасферы* над мусонным перанясеннем у адваротным яму напрамку.

**АНТЫМУТАГЕ́НЫ** (ад *анты-* + *мутагены*) — хімічныя і фізічныя *агенты*, якія паніжаюць частату *мутацый*.

**АНТЫНАЦЫЯНА́ЛЬНЫ** (ад *анты-* + *нацыянальны*) — накіраваны супраць нацыянальнага, варожы інтарэсам *нацыі*.

**АНТЫНЕЙТРО́Н** (ад *анты-* + *нейтрон*) — электрычна нейтральная элементарная часціца, якая

з'яўляецца антычасціцай у адносінах да нейтрона.

**АНТЫНЕЙТРЫ́НА** (ад *анты-* + *нейтрына*) — электрычна нейтральная элементарная часціца, якая з'яўляецца антычасціцай у адносінах да нейтрына.

**АНТЫНО́МІЯ** (гр. antinomia) — супярэчнасць паміж двума суджэннямі, якія ўзаемна выключаюць адно аднаго і ў той жа час прызнаюцца аднолькава правільнымі.

**АНТЫПА́ПА** (ад *анты-* + *папа*) — рымскі папа, не прызнаны каталіцкай царквой.

**АНТЫПАСА́ТЫ** (ад *анты-* + *пасаты*) — пастаянныя вятры ў высокіх слаях *атмасферы* ў трапічных шыротах, якія дзьмуць над пасатамі ў процілеглым напрамку.

**АНТЫПАТА́РЫІ** (н.-лац. antipatharia) — атрад класа каралавых паліпаў тыпу кішачнаполасцевых, якія насяляюць невялікія глыбіні ў трапічных і субтрапічных морах.

**АНТЫПАТЫ́ЧНЫ** (ад *антыпатыя*) — непрыемны, агідны, які выклікае антыпатыю (проціл. *сімпатычны* 1).

**АНТЫПА́ТЫЯ** (гр. antipatheia) — пачуццё непрыязнасці, недружалюбнасці, агіды (проціл. *сімпатыя*).

**АНТЫПЕРЫСТА́ЛЬТЫКА** (ад *анты-* + *перыстальтыка*) — хвалепадобнае скарачэнне полых органаў (напр. кішэчніка) у адваротным да звычайнага напрамку.

**АНТЫПІРАГЕ́НЫ** (ад *анты-* + гр. pyr = агонь + *-ген*) — рэчывы, якія перашкаджаюць самазагаранню вугалю, руды і служаць для папярэджвання пажараў на рудніках.

**АНТЫПІРЫ́Н** (н.-лац. antipyrinum, ад гр. anti = супраць + pyretos = гарачка) — лекавы прэпарат, які заспакойвае боль і зніжае тэмпературу.

**АНТЫПІРЭ́НЫ** (ад *анты-* + гр. pyr = агонь) — рэчывы, якія надаюць драўніне, тканінам, пластмасам і іншым матэрыялам вогнетрываласць.

**АНТЫПІРЭ́ТЫКІ** (ад *анты-* + гр. pyretos = гарачка) — лекавыя сродкі для зніжэння тэмпературы.

**АНТЫПО́ДЫ** (гр. antipodes = *літар.* размешчаныя нагамі да ног) — 1) насельнікі двух дыяметральна процілеглых пунктаў зямнога шара; 2) людзі з процілеглымі поглядамі, густамі, рысамі характару; 3) клеткі, размешчаныя ў процілеглым ад пылкаўваходу канцы зародкавага мяшка пакрытанасенных раслін.

**АНТЫПРАТАЗО́ЙНЫ** (ад *анты-* + лац. protozoa = прасцейшыя) — які мае адносіны да рэчываў, што прыгнечваюць жыццядзейнасць прасцейшых і выкарыстоўваюцца для лячэння і прафілактыкі захворванняў, выкліканых гэтымі мікраарганізмамі.

**АНТЫПРАТО́Н** (ад *анты-* + *пратон*) — *фіз.* элементарная часціца, якая з'яўляецца антычасціцай у адносінах да пратона.

**АНТЫРАБІ́ЧНЫ** (ад *анты-* + лац. rabies = шаленства) — звязаны з прышчэпкамі, якія ахоўваюць чалавека або жывёліну ад захворвання шаленствам.

# А

**АНТЫРА́ДЫ** [ад *анты-* + *рады(яцыя)*] — рэчывы, якія павышаюць стойкасць *палімераў* і іншых матэрыялаў да дзеяння радыяцыйнага выпрамянення.

**АНТЫРАКЕ́ТА** (ад *анты-* + *ракета*) — снарад, прызначаны для знішчэння ракет наступальнага дзеяння.

**АНТЫРЫ́НУМ** (н.-лац. antirrhinum, ад гр. antirrinon) — травяністая расліна сям. залознікавых з буйнымі кветкамі ў гронках, пашыраная пераважна ў Паўн. Амерыцы і Міжземнамор'і; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная; роцікі.

**АНТЫРЭЛІГІ́ЙНЫ** (ад *анты-* + *рэлігія*) — накіраваны супраць рэлігіі.

**АНТЫСАНІТА́РНЫ** (ад *анты-* + *санітарыя*) — які супярэчыць патрабаванням санітарыі.

**АНТЫСАНІТАРЫ́Я** (ад *анты-* + *санітарыя*) — парушэнне правіл санітарыі.

**АНТЫСАЦЫЯ́ЛЬНЫ** (ад *анты-* + *сацыяльны*) — проціграмадскі.

**АНТЫСЕЙСМІ́ЧНЫ** (ад *анты-* + *сейсмічны*) — пабудаваны з улікам магчымага ўздзеяння сейсмічных сіл.

**АНТЫСЕМІ́Т** (ад *анты-* + гр. Sem, ад ст.-яўр. Šem = Сім, імя аднаго з сыноў біблейскага Ноя) — той, хто варожа ставіцца да яўрэяў.

**АНТЫСЕМІТЫ́ЗМ** (ад *антысеміт*) — адна з форм нацыянальнай і рэлігійнай нецярпімасці, якая выражаецца ў варожых адносінах да яўрэяў.

**АНТЫСЕ́ПТЫКА** (ад *анты-* + гр. septikos = гнойны) — абеззаражванне ран процігніласнымі сродкамі (параўн. *асептыка*).

**АНТЫСЕ́ПТЫКІ** (ад *анты-* + гр. septikos = гнойны) — процігніласныя сродкі, хімічныя рэчывы, якія знішчаюць хваробныя мікраарганізмы.

**АНТЫСПА́СТ** (гр. antispastos) — вершаваная стапа ў антычнай паэзіі, якая складаецца з двух доўгіх складоў паміж двума кароткімі.

**АНТЫСТА́ТЫКІ** (ад *анты-* + гр. statikos = які ўтрымлівае раўнавагу) — рэчывы, якія паніжаюць статычную электрызацыю палімерных матэрыялаў і вырабаў.

**АНТЫСТРАФА́** (гр. antistrophe) — парная страфа харавой песні ў антычнай *трагедыі*, якая ў метрычных адносінах паўтарае папярэднюю страфу.

**АНТЫТАКСІ́НЫ** (ад *анты-* + *таксіны*) — ахоўныя рэчывы, якія ўтвараюцца ў арганізме пры ўвядзенні ў яго таксінаў бактэрыйнага, расліннага ці жывёльнага паходжання.

**АНТЫТАКСІ́ЧНЫ** (ад *анты-* + *таксічны*) — які мае адносіны да *антытаксінаў*, проціатрутны.

**АНТЫТРАНСПІРА́НТЫ** (ад *анты-* + *транспірацыя*) — рэчывы, якія выкарыстоўваюцца для апылення раслін, каб паменшыць выпарэнне лісцем вады *(транспірацыю)*.

**АНТЫТРЫНІТА́РЫІ** (ад *анты-* + лац. trinitas = тройца) — прыхільнікі хрысціянскіх плыней і сект, якія не прымаюць догмат Тройцы.

**АНТЫТРЫ́ХІЯ** (н.-лац. antitrichia) — лістасцябловы мох сям. леўкадонтавых, які трапляецца на кары дрэў, часам на камянях.

**АНТЫТЭ́ЗА** (гр. antithesis) — 1) процілегласць, процістаўленне; 2) стылістычны прыём, заснаваны на супастаўленні процілеглых думак ці мастацкіх вобразаў для большай выразнасці.

**АНТЫТЭ́ЗІС** (гр. antithesis = процістаўленне) — 1) *лог.* суджэнне, якое процістаўляецца *тэзісу*, 2) другая з трох ступеняў трыяды філасофскага вучэння Гегеля (тэзіс, антытэзіс, *сінтэз*).

**АНТЫТЭТЫ́ЧНЫ** (гр. antitheti-kos ) — процілеглы, процістаўлены.

**АНТЫУТО́ПІЯ** (ад *анты-* + *утопія*) — песімістычнае ўяўленне пра будучы сацыяльны працэс.

**АНТЫФАБІ́ЧНЫ** (ад *анты-* + гр. phobos = страх) — накіраваны супраць страху, трывогі; а - ы я с р о д к і — лякарствы, якія прымяняюцца пры стане страху, трывогі, павышанай узбуджанасці.

**АНТЫФАШЫ́СТ** (ад *анты-* + *фашыст*) — чалавек, які змагаецца супраць *фашызму*.

**АНТЫФАШЫ́СЦКІ** (ад *анты-* + *фашызм*) — накіраваны супраць фашызму.

**АНТЫФЕАДА́ЛЬНЫ** (ад *анты-* + *феадал*) — накіраваны супраць *феадалізму*.

**АНТЫФЕБРЫ́Н** (ад *анты-* + лац. febris = гарачка) — тое, што і *ацэтанілід*.

**АНТЫФЕРАМАГНЕТЫ́ЗМ** (ад *анты-* + *ферамагнетызм*) — магнітны стан рэчыва, пры якім элементарныя магніцікі яго суседніх часціц арыентаваны насустрач адзін другому, што абумоўлівае малую намагнічанасць цела ў цэлым.

**АНТЫФЕРАМАГНЕ́ТЫК** (ад *анты-* + *ферамагнетык*) — рэчыва, у якім ніжэй пэўнай тэмпературы ўзнікае стан *антыферамагнетызму*.

**АНТЫФЕРМЕ́НТЫ** (ад *анты-* + *ферменты*) — рэчывы бялковага паходжання, якія прыгнечваюць у арганізме актыўнасць ферментаў.

**АНТЫФО́Н** (гр. antiphonos = які гучыць у адказ) — спеў, які выконваюць па чарзе два хоры або саліст і хор.

**АНТЫФО́НЫ** (ад *анты-* + *-фон*) — навушнікі, прызначаныя для засцярогі арганізма ад дзеяння моцнага шуму.

**АНТЫФРА́ЗІС** (гр. antiphrasis) — стылістычная фігура, якая заключаецца ў выкарыстанні слова ці выразу ў процілеглым, звычайна іранічным, значэнні.

**АНТЫФРЫ́ЗЫ** (англ. antifreeze) — водныя растворы некаторых рэчываў, якія не замярзаюць пры нізкіх тэмпературах.

**АНТЫФРЫКЦЫ́ЙНЫ** (ад *анты-* + *фрыкцыйны*) — які вызначаецца нізкім *каэфіцыентам* трэння (напр. такія матэрыялы, як бабіты, бронза).

**АНТЫФУНГІ́Н** (ад *анты-* + лац. fungus = грыб) — рэчыва, якое перашкаджае развіццю грыбка ў драўляных дэталях збудаванняў.

**АНТЫХЛО́Р** (ад *анты-* + *хлор*) — хімічнае злучэнне, *трыясульфат* натрыю, які здольны за-

трымліваць хлор; выкарыстоўваецца ў *фатаграфіі*.

**АНТЫ́ХРЫСТ** (гр. Antichristos) — 1) галоўны праціўнік Хрыста, які павінен з'явіцца перад канцом свету; 2) *перан.* злы, непачцівы чалавек.

**АНТЫЦЫКЛО́Н** (ад *анты-* + *цыклон*) — зона з высокім атмасферным ціскам, якая характарызуецца ясным, сонечным надвор'ем.

**АНТЫЦЫПА́ЦЫЯ** (лац. anticipatio) — 1) прадугледжванне, прагноз; 2) заўчасны прыход якой-н. з'явы; 3) *экан.* выплата грошай па даўгавым абавязацельстве да ўмоўленага тэрміну, спагнанне падатку раней, чым прадугледжана.

**АНТЫЦЫПІ́РАВАЦЬ** (лац. anticipare) — прадугледжваць, прагназіраваць.

**АНТЫ́ЧНАСЦЬ** (ад лац. antiquitas = даўніна) — старажытнагрэчаскі, старажытнарымскі свет, яго культура.

**АНТЫ́ЧНЫ** (лац. antiquus = старажытны) — які адносіцца да гісторыі і культуры старажытных грэкаў і рымлян.

**АНТЫЭЛЕКТРО́Н** (ад *анты-* + *электрон*) — тое, што і *пазітрон*.

**АНТЭКЛІ́ЗА** (ад лац. ante = перад + гр. klisis = нахіл) — шырокае пакатае паднятце слаёў зямной кары ў межах *платформ*.

**АНТЭ́НА** (лац. antenna = мачта) — 1) прыстасаванне для перадачы або ўлоўлівання радыёхваляў; 2) орган дотыку і нюху ў членістаногіх жывёл, размешчаны на галаве; вусік.

**АНТЭНАТА́ЛЬНЫ** (ад лац. ante = да + natalis = які датычыць нараджэння) — звязаны з жыццём ва ўлонні мацеры, да нараджэння.

**АНТЭНА́ТЫ** (н.-лац. antennata) — зборная назва некалькіх груп членістаногіх, для якіх характэрна наяўнасць вусікаў (трахейнадыхальныя і ракападобныя).

**АНТЭ́НУЛЫ** (ад лац. antenna = мачта) — першая пара галаўных прыдаткаў у ракападобных.

**АНТЭРАЗО́ІД** [ад гр. antheros = які цвіце + *(спермата)зоід*] — мужчынская рухомая палавая клетка, якая ўтвараецца ў *антэрыдыях* некаторых раслін.

**АНТЭРЫ́ДЫЙ** (ад гр. antheros = які цвіце) — мужчынскі орган палавога размнажэння споравых раслін.

**АНТЭФІ́КС** (лац. antefixus = прымацаваны спераду) — каменнае або керамічнае ўпрыгожанне на карнізе антычнага збудавання.

**АНТЭЦЭДЭ́НТ** (лац. antecedens, -ntis = папярэдні) — *лог.* першы член *імплікацыі*, якому папярэднічае слова «калі».

**АНУІТЭ́Т** (фр. annuite, ад п.-лац. annuitas = штогадовы плацеж) — від дзяржаўнай пазыкі, з якой крэдытор перыядычна атрымлівае пэўны даход (рэнту), што вызначаецца з улікам сумы пазыкі і працэнтаў з яе.

**АНУЛЯВА́ЦЬ** (польск. anulować, ад п.-лац. annullare = знішчаць) — аб'яўляць несапраўдным, касаваць які-н. акт, дакумент (напр. а. дагавор).

**АНУЛЯ́ЦЫЯ** (ад п.-лац. annullare = знішчаць) — прызнанне несапраўдным якога-н. акта, дагавору, права; скасаванне.

**АНУРЫ́Я** (ад *ан-* + *-урыя*) — спыненне выдзялення мачы ныркамі.

**АНУСВА́РА** (санскр. anusvara) — насавы прыгук у канцы галоснага гука.

**АНФА́С** (фр. en face) — тварам да таго, хто глядзіць; спераду (сфатаграфавацца а.).

**АНФЕ́ЛЬЦЫЯ** (н.-лац. ahnfeltia) — чырвоная водарасць класа фларыдэевых, якая пашырана пераважна ў халодных морах; выкарыстоўваецца для атрымання *агару*.

**АНФІЛА́ДА** (фр. enfilade) — шэраг паслядоўна прылеглых адзін да аднаго пакояў з размешчанымі па адной прамой лініі дзвярамі (часта ў палацах, старадаўніх будынках).

**АНФЛЕРА́Ж** (фр. enfleurage) — спосаб здабывання з кветак рэчываў паглынаннем іх жывёльнымі тлушчамі.

**АНХІТЭ́РЫЙ** (ад гр. anchi = паблізу + *-тэрый*) — вымерлы трохпальцы конь, які быў пашыраны ў *міяцэне* (параўн. *гіпарыён, палеатэрый*).

**АНХУ́ЗА** (н.-лац. anchusa) — травяністая расліна сям. бурачнікавых з сінімі кветкамі ў гронкападобных суквеццях; лекавая, дэкаратыўная і фарбавальная; пакрывец.

**АНЦЫЛІ́ДЫ** (н.-лац. ancylidae) — сямейства прэснаводных лёгачных *малюскаў* класа бруханогіх, якія пашыраны ў Еўразіі.

**АНЦЭСТРА́ЛЬНЫ** (фр. ancestral) — папярэдні, уласцівы продкам.

**АНЧА́Р** (малайск. ančar) — дрэва сям. тутавых з ядавітым млечным сокам, пашыранае ў тропіках Азіі і Афрыкі.

**АНЧО́УС** (фр. anchois, ад ісп. anchoa) — дробная марская рыба атрада селядцовых; хамса.

**АНШЛА́Г** (ням. Anschlag) — аб'ява, што ўсе білеты (на спектакль, канцэрт і г.д.) прададзены; с п е к т а к л ь  п р а й ш о ў  з  а н ш л а г а м — спектакль меў вялікі поспех; 2) буйны загаловак у газеце.

**А́НШЛІФ** (ням. Anschliff = завострыванне) — прэпарат мінералу або горнай пароды з адной адшліфаванай плоскасцю, падрыхтаваны для даследавання пад мікраскопам у адбітым святле.

**А́НШЛЮС** (ням. Anschluss = далучэнне) — палітыка захопу Аўстрыі, якую праводзіла Германія пасля першай сусветнай вайны.

**А́НШПУГ** (гал. handspaak) — 1) драўляны або металічны рычаг для падымання і перасоўвання грузаў на караблі; 2) драўляны кол, які ўтрымлівае палі ў патрэбным становішчы пры забіванні іх капром.

**АНЭЛЯ́РЫЯ** (н.-лац. anellaria, ад лац. anellus = кольца) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. гнаевіковых, які расце на перагноі і конскім гноі ў садах, на палях і лугах; ядомы.

**АО́РТА** (н.-лац. aorta, ад гр. aorte) — галоўная *артэрыя* крывяноснай сістэмы, якая ідзе ад сэрца і забяспечвае ўсе органы цела кроўю.

# А

**АО́РЫСТ** (гр. aoristos) — *лінгв.* дзеяслоўная форма прошлага часу даўніх індаеўрапейскіх моў, якая выражала імгненнасць і закончанасць дзеяння.

**АПА-** (гр. apo = з, ад) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на адмаўленне, страту, адсутнасць чаго-н., паходжанне з чаго-н., выдаленне.

**АПАА́СТР** (ад *апа-* + гр. astron = зорка) — *астр.* самы аддалены ад галоўнай зоркі пункт арбіты зоркі-спадарожніка (параўн. *перыастр*).

**АПАБІЯСФЕ́РА** (ад *апа-* + *біясфера*) — высокія слаі *атмасферы* (вышэй за 60—80 км), да якіх не падымаюцца жывыя арганізмы, а біягенныя рэчывы трапляюць у нязначнай колькасці.

**АПАГАГІ́ЧНЫ** (гр. apagogos = які аддаляе) — ускосны; а. д о к а з — ускосны доказ, калі вывад аб правільнасці палажэння робіцца шляхам абвяржэння супярэчлівага яму палажэння.

**АПАГАМІ́Я** (ад *апа-* + *-гамія*) — развіццё зародка з клетак зарастка або зародкавага мяшка ў некаторых кветкавых раслін і папарацей.

**АПАГЕ́Й** (гр. apogeion, ад apo = ад + ge = Зямля) — 1) *астр.* пункт *арбіты* Месяца або штучнага спадарожніка, найбольш аддалены ад цэнтра Зямлі (проціл. *перыгей*); 2) *перан.* самая высокая ступень развіцця, росквіт чаго-н.

**АПАДЫКТЫ́ЧНЫ** (гр. apodeiktikos) — безумоўны, пэўны, заснаваны на лагічнай неабходнасці (напр. а-ае суджэнне).

**АПАДЭЛЬДО́К** (н.-лац. oppodeltoch) — мыльна-камфорная мазь з *аманіякам*, спіртам і эфірным алеем, якая даўней выкарыстоўвалася як процірэўматычны сродак.

**АПАЗЕ́РЫС** (н.-лац. aposeris) — травяністая расліна сям. складанакветных з жоўтымі доўгімі кветкамі, пашыраная ў цёплых зонах Еўропы; на Беларусі трапляецца рэдка.

**АПАЗІ́ТНЫ** (англ. opposite, ад лац. oppositio = супрацьстаўленне) — процілеглы; а. р у х а в і к — поршневы рухавік унутранага згарання з размешчанымі па розных баках каленчатага вала цыліндрамі.

**АПАЗІЦЫ́ЙНЫ** (ад *апазіцыя* 1) — які знаходзіцца ў апазіцыі, прытрымліваецца процілеглай думкі.

**АПАЗІ́ЦЫЯ**[1] (лац. oppositio) — 1) супрацьдзеянне, супраціўленне, выкліканае нязгодай з чыімі-н. поглядамі, палітыкай, рашэннямі; 2) група ўнутры партыі, арганізацыі, саюза, якая выступае супраць большасці; 3) *астр.* процістаянне, знаходжанне нябеснага цела ў процілеглым Сонцу баку неба.

**АПАЗІ́ЦЫЯ**[2] (лац. appositio = дадатак) — 1) *лінгв.* назоўнікавы прыдатак (напр. горад Мінск); 2) *біял.* рост тканак арганізма або клетачнай абалонкі, абумоўлены адкладаннямі новых слаёў на ўтвораную раней паверхню (параўн. *інтусусцэпцыя*).

**АПАЗІЦЫЯНЕ́Р** (ад *апазіцыя*[1]) — той, хто належыць да апазіцыі.

**АПА́К** (лац. opacus = цёмны, непразрысты) — 1) сорт белай гліны, якая ідзе на выраб пасуды; 2) белыя ганчарныя вырабы, падобныя да тонкага *фаянсу*.

**АПАКА́ЛІПСІС** (гр. apokalypsis = адкрыццё) — 1) частка Біблії, адна з кніг Новага запавету, якая змяшчае прароцтвы пра канец свету; 2) магчымая пагібель цывілізацыі і чалавецтва наогул у выніку ядзернай вайны, духоўнага падзення, знішчэння прыроднага асяроддзя.

**АПАКАЛІПСІ́ТЫ** (ад *апакаліпсіс*) — члены заснаванай у 20-я гады 20 ст. на Украіне праваслаўнай секты, што спалучае праваслаўныя і сектанцкія абрады.

**АПАКАЛІПТЫ́ЧНЫ** (гр. apokalyptikos) — які мае дачыненне да *апакаліпсісу*, прарочыць канец свету.

**АПАКА́РПНЫ** (ад *апа-* + гр. karpos = плод) — утвораны двума свабоднымі песцікамі (пра тып *гінецэю*).

**АПАКРЫ́ННЫ** (ад гр. apokrino = аддзяляю) — які адлучае ад сябе; а-ыя залозы — залозы, у якіх пры ўтварэнні *сакрэту*[2] адбываецца частковае парушэнне цэласнасці клетак, напр. малочныя, потавыя залозы (параўн. *гелакрынавы, мерыкрынавы*).

**АПАКРЫФІ́ЧНЫ** (гр. apokryphos = тайны) — які мае адносіны да *апокрыфаў*.

**АПА́Л** (лац. opalus < гр. opallios, ад санскр. upala = каштоўны камень) — мінерал класа *сілікатаў* пераважна белага або шэрага колеру.

**АПАЛАГЕ́Т** (гр. apologetes) — актыўны абаронца якой-н. ідэі, вучэння, парадкаў (напр. а. абстракцыянізму).

**АПАЛАГЕ́ТЫКА** (гр. apologetikos = *абаронцы*) — 1) *выклікаеная* якімі-н. прычынамі, але не абгрунтаваная абарона чаго-н.; 2) галіна багаслоўя, якая мае задачай абарону хрысціянскай *догмы*.

**АПАЛЕСЦЭ́НЦЫЯ** (ад *апал* + лац. -escentia = суфікс, які абазначае слабое дзеянне) — рассейванне святла каламутнымі растворамі з утварэннем розных яго адценняў (як у апала).

**АПАЛІ́ДЫ** (гр. apolis, -idos = які не мае айчыны) — тое, што і *апатрыды*.

**АПАЛІ́НЫ** (н.-лац. opalina) — прасцейшыя класа жгуцікавых, якія паразітуюць пераважна ў кішэчніку земнаводных.

**АПАЛІТЫ́ЗМ** (ад *а-* + гр. politismos = удзел у дзяржаўных або грамадскіх справах) — абыякавыя адносіны да *палітыкі*, ухіленне ад удзелу ў грамадска-палітычным жыцці.

**АПАЛІТЫ́ЧНЫ** (ад *а-* + *палітычны*) — які стаіць убаку ад грамадска-палітычнага жыцця або ўхіляецца ад удзелу ў ім.

**АПАЛО́Г** (гр. apologos = *літар.* апавяданне) — кароткі павучальны апавядальны твор, пабудаваны на алегарычным паказе жывёл і раслін, у старажытнагрэчаскай і ўсходняй літаратуры.

**АПАЛО́ГІЯ** (гр. apologia) — празмернае ўсхваленне, абарона каго-н. або чаго-н.

**АПАЛО́Н** (гр. Apollon = імя бога мудрасці, апекуна мастацтва ў старажытнагрэчаскай і старажытнарымскай міфалогіі) — 1) *пераен.* прыгожы стройны мужчына; 2) прыгожы буйны дзённы матыль сям. парусьнікаў.

# А

**АПАМАРФІ́Н** (ад *апа-* + *марфін*) — лекавы *прэпарат*, які выкарыстоўваецца як адхарквальны сродак.

**АПАМІ́КСІС** (ад *апа-* + *-міксіс*) — 1) розныя спосабы бясполага размнажэння жывёл і раслін *(апагамія, апаспарыя, партэнагенез)*; 2) утварэнне зародка ў вышэйшых раслін без запладнення і рэдукцыйнага падзелу.

**АПАНАГЕ́ТАН** (н.-лац. aponogeton) — травяністая расліна сям. апанагетанакветных з доўгім лісцем і белымі кветкамі, пашыраная ў вадаёмах Афрыкі, Паўд.-Усх. Азіі і Аўстраліі; на Беларусі вядома як акварыумная.

**АПАНА́Ж** (фр. apanage) — зямельнае валоданне, якое давалася ў заходнееўрапейскіх манархічных краінах, напр. у Францыі да 1832 г., некаранаваным членам каралеўскай сям'і.

**АПАНЕ́НТ** (лац. opponens, -ntis = які пярэчыць) — 1) праціўнік у спрэчцы, палеміцы; 2) той, каму даручана ацэнка *дысертацыі* і выступленне на яе публічнай абароне.

**АПАНЕЎРО́З** (гр. aponeurosis) — *анат.* сухажылле шырокіх пласціністых мышцаў.

**АПАНІ́РАВАЦЬ** (лац. opponere = пярэчыць) — 1) пярэчыць, аспрэчваць чыё-н. меркаванне; 2) выступаць у якасці *апанента* на публічнай абароне *дысертацыі*.

**АПАНТА́ЛЕС** (н.-лац. apantales) — насякомае сям. *браканідаў*; выкарыстоўваецца ў біялагічнай барацьбе са шкоднымі насякомымі.

**АПАНТА́НЫ** (польск. opętany) — ахоплены крайнім душэўным узрушэннем, безразважны, шалёны.

**АПАНЧА́** (тат. japynču) — старадаўняе верхняе адзенне ў выглядзе шырокага плашча без рукавоў.

**АПАПАНА́КС** (ад гр. opos = сок + panaksos = зелле, лекі) — травяністая расліна сям. парасонавых, пашыраная ў Міжземнамор'і, з карэння якой здабываюць парфумерныя рэчывы.

**АПАПЛА́СТ** (ад *апа-* + *-пласт*) — сукупнасць свабодных прастораў у тканках раслін, па якіх ажыццяўляецца свабодная *дыфузія* рэчываў (міжклетнікі, клетачныя абалонкі).

**АПАПЛЕКСІ́ЧНЫ** (гр. apoplektikos) — які мае дачыненне да *апаплексіі*, звязаны з апаплексіяй.

**АПАПЛЕ́КСІЯ** (гр. apopleksia) — раптоўнае кровазліццё ў які-н. орган, часцей у галаўны мозг (гл. *інсульт*).

**АПАРА́Т** (лац. apparatus) — 1) прыбор, прыстасаванне для якой-н. пэўнай работы (напр. тэлефонны а., фатаграфічны а.); 2) сукупнасць органаў, якія выконваюць якую-н. функцыю ў арганізме (напр. зрокавы а., дыхальны а.); 3) органы кіравання (напр. дзяржаўны а.); 4) сукупнасць работнікаў якой-н. установы, арганізацыі (напр. а. міністэрства, гандлёвы а.); 5) заўвагі, паказальнікі і іншы дапаможны матэрыял да навуковай працы, выдання (напр. навуковы а., даведачны а.).

**АПАРАТУ́РА** (ад *апарат*) — сукупнасць апаратаў для якой-н. работы; абсталяванне лабараторыі, цэха.

**АПА́РТ** (фр. aparté) — сцэнічныя *рэплікі*, якія вымаўляюцца «ўбок», для публікі, і, па задуме аўтара, «не чутны» партнёрам на сцэне.

**АП-А́РТ** (англ. op-art, ад optical art = аптычнае мастацтва) — напрамак абстрактнага мастацтва, паслядоўнікі якога выкарыстоўваюць аптычную ілюзію і ствараюць формы, далёкія ад рэчаіснасці.

**АПАРТАМЕ́НТЫ** (фр. appartement = кватэра) — 1) вялікае раскошнае памяшканне, пакоі; 2) *іран.* кватэра, пакой.

**АПАРТУНІ́ЗМ** (фр. opportunisme, ад лац. opportunus = зручны) — прыстасавальніцтва, згодніцтва, беспрынцыповасць.

**АПАРТУНІ́СТ** (фр. opportuniste) — прыстасаванец, згоднік.

**АПАРТЭІ́Д** (афрыкаанс apartheid = раздзельнае пражыванне) — палітыка прымусовага размежавання насельніцтва ў краіне, заснаваная на расавай *дыскрымінацыі*.

**АПАРЫ́Я** (гр. aporia = бязвыхаднасць) — *лог.* супярэчнасць у меркаванні, якая здаецца неадольнай.

**АПАРЭ́ЛЬ** (фр. appareil = уезд) — 1) нахільная платформа для пагрузкі ў вагоны аўтамабіляў і іншых машын; 2) пліта з невялікім нахілам для праходу або праезду ў будынак; 3) пакаты спуск у акопах для гармат і танкаў.

**АПАСЕМАТЫ́ЧНЫ** (ад гр. aposemaino = паведамляю) — папераджальны; а - а я  а ф а р б о ў - к а — яркая афарбоўка некаторых ядавітых жывёл, якая «сігналізуе» аб небяспецы з боку гэтых жывёл.

**АПАСІЯНА́ТА** (іт. appassionato = прадузяты) — натхнёны характар выканання музычнага твора або яго часткі.

**АПАСПАРЫ́Я** (ад *апа-* + *спора*) — спосаб размнажэння некаторых раслін, які заключаецца ў развіцці *гаметафіта* з вегетатыўных клетак *спарафіта* без спораўтварэння.

**АПАСТА́ЗІЯ** (польск. apostazja, ад гр. apostasia = адступніцтва) — адыход ад догматаў, асноўных палажэнняў веравызнання; адступніцтва.

**АПАСТРО́ФА** (гр. apostrophe = паварот убок) — *літ.* стылістычная фігура, калі да адсутнай асобы звяртаюцца як да прысутнай, да мёртвага як да жывога, да прадмета як да чалавека.

**АПАСТЫ́ЛЬБ** (гр. apostilbo = ззяю) — адзінка яркасці асветленай паверхні, роўная 0,3183 *ніта*.

**АПАСТЭРЫЁРНЫ** (ад *апастэрыёры*) — заснаваны на вопыце, які вынікае з вопыту (проціл. *апрыёрны*).

**АПАСТЭРЫЁРЫ** (лац. a posteriori = з наступнага) — на падставе вопыту, вопытных дадзеных (проціл. *апрыёры*).

**АПАСЯЛЕ́НІЙ** (ад *апа-* + гр. selene = месяц) — *астр.* пункт *арбіты* спадарожніка Месяца, найбольш аддалены ад цэнтра Месяца (проціл. *перысяленій*).

**АПАТАЗА́ЎР** (н.-лац. apatosaurus) — тое, што і *брантазаўр.*

**АПАТРАПЕ́Й** (гр. apotropaios = які адводзіць бяду) — прадмет, выява або дзеянне, якім прыпісваюць магічную здольнасць засцерагаць ад няшчасця і злога духу.

# А

**АПАТРЫ́ДЫ** (гр. apatris, -idos = які не мае айчыны) — асобы, якія не маюць грамадзянства.

**АПАТЫ́Т** (ад гр. apate = падман) — мінерал, *фасфат кальцыю* з пераменным змяшчэннем фтору, хлору, вуглекіслаты і гідраксіду; сыравіна для вытворчасці фасфатных угнаенняў.

**АПАТЫТО́З** (ад *апатыт*) — лёгачнае захворванне, выкліканае ўздзеяннем апатытавага пылу.

**АПА́ТЫЯ** (гр. apatheia) — поўная абыякавасць да ўсяго; раўнадушнасць, вяласць.

**АПАТЭ́ЦЫЙ** (ад гр. apotheke = сховішча) — адкрытае пладовае цела некаторых сумчатых грыбоў і лішайнікаў.

**АПАФАНІ́Я** (ад *апа-* + *-фанія*) — тое, што і *абляут*.

**АПАФАТЫ́ЧНЫ** (гр. apophatikos = адмоўны); а-ая тэалогія — *тэалогія*, якая імкнецца выразіць незямную сутнасць бога шляхам адмаўлення ўсякіх уяўленняў аб ім як несумяшчальных з яго прыродай (у адрозненне ад *катафатычнай* тэалогіі).

**АПАФЕ́ГМА** (гр. apophthegma) — *літ.* кароткае дасціпнае павучальнае выслоўе.

**АПАФЕГМА́ТЫ** (гр. apophthegma, -atos = кароткае выслоўе) — даўнія зборнікі дасціпных і павучальных выслоўяў.

**АПАФЕ́МА** (гр. apotithemi = адкладваю ўбок) — *мат. перпендыкуляр*, які апушчаны з цэнтра правільнага многавугольніка на адну з яго старон.

**АПАФЕО́З** (гр. apotheosis = абагатварэнне) — 1) праслаўленне, узвялічванне якой-н. асобы, з'явы, падзеі; 2) урачыстая заключная сцэна ў некаторых спектаклях з удзелам усіх выканаўцаў.

**АПАФЕРМЕ́НТЫ** (ад *апа-* + *ферменты*) — бялковая група малекул некаторых ферментаў, якая вызначае іх спецыфіку (параўн. *каферменты*).

**АПАФІ́ЗА** (гр. apophysis = адростак) — 1) *біял.* нарасць пры аснове каробачкі некаторых імхоў; 2) *геал.* адгалінаванне ад магматычнага цела ў суседнія горныя пароды.

**АПАФІ́ТЫ** (ад *апа-* + *-фіты*) — сінантропныя расліны, якія паходзяць з мясцовых прыродных раслінных згуртаванняў (лясных, лугавых, балотных і інш.).

**АПАХРАМА́Т** (ад *апа-* + гр. chroma, -atos = колер) — аб'ектыў, у якім храматычная *аберацыя* выпраўлена ў яшчэ большай ступені, чым у *ахрамаце*.

**АПАЦЭ́НТР** (ад *апа-* + *цэнтр*) — *астр.* пункт *арбіты* нябеснага цела, які найбольш аддалены ад цэнтральнага цела.

**АПА́Ч** (ад ням. Patsch = апляуха) — прыём *клаунады* ў цырку, гучная фальшывая аплявуха, якую даюць адзін аднаму *клоуны*.

**АПА́Ш** (фр. apache) — дэкласаваны элемент у Францыі, злодзей; 2) мужчынская кашуля з адкрытым каўнярам.

**АПВЕ́ЛІНГ** (англ. upwelling, ад up = наверх + well = хлынуць) — падыманне водаў з глыбіні вадаёма да паверхні, які адбываецца ў выпадках, калі вецер зганяе паверхневыя воды ў бок мора, возера.

**АПЕГРА́ФА** (н.-лац. opegrapha) — накіпны сумчаты лішайнік сям. апеграфавых, які расце на ствалах і галінках клёна, граба, асіны, ясеня, дуба.

**АПЕЙРО́Н** (гр. apeiron = бязмежнае) — бясконцае, бясформеннае, бяз'якаснае першарэчыва ў старажытнагрэчаскай філасофіі.

**А́ПЕКС** (лац. apex = вяршыня) — 1) *астр.* пункт нябеснай сферы, у напрамку да якога рухаецца Сонечная сістэма; 2) *анат.* кончык языка; 3) верхавінкавая частка сцябла або кораня расліны.

**АПЕЛЕ́НТЫ** (лац. appellens, -ntis = які накіроўвае) — прынады, сродкі прываблівання жывёл.

**АПЕ́ЛЬ** (фр. appel = заклік) — 1) кавалерыйскі сігнал, якім заклікаюць да збору; 2) удар правай выцягнутай нагой па зямлі ў час фехтавання, што азначае пачатак атакі.

**АПЕЛЬСІ́Н** (гал. appelsien) — пладовае дрэва сям. рутавых, пашыранае ў тропіках і субтропіках, а таксама буйны сакаўны плод гэтага дрэва аранжавага колеру.

**АПЕЛЯВА́ЦЬ** (лац. appellare) — 1) абскарджваць прыгавор суда ў вышэйшай інстанцыі; 2) звяртацца да каго-н. дзеля падтрымкі (напр. а. да грамадскай думкі).

**АПЕЛЯ́НТ** (лац. appellans, -ntis) — асоба, якая падала або падае *апеляцыю*.

**АПЕЛЯТЫ́Ў** (ад лац. appellare = называць) — *лінгв.* імя агульнае як супрацьлегласць імені ўласнаму.

**АПЕЛЯ́ЦЫЯ** (лац. appellatio) — 1) абскарджанне прыгавору суда ў вышэйшай інстанцыі; просьба перагледзець справу (параўн. *касацыя* 1); 2) просьба падтрымаць у чым-н. (напр. а. да грамадскасці).

**АПЕ́НДЫКС** (лац. appendix = прыдатак) — 1) *анат.* адростак сляпой кішкі; 2) кароткі *шланг* у ніжняй частцы *дырыжабля* для рэгуліроўкі колькасці газу.

**АПЕНДЫКУЛЯ́РЫІ** (н.-лац. appendicularia, ад лац. appendicula = дадатак) — клас марскіх хордавых жывёл падтыпу *тунікатаў*, пашыраны пераважна ў верхніх слаях вады.

**АПЕНДЫЦЫ́Т** (лац. appendix, -icis = прыдатак) — запаленне *апендыкса*.

**АПЕПСІ́Я** (ад *а-* + гр. pepsis = страваванне) — *мед.* нястраўнасць у сувязі з невыдзяленнем страўнікавага соку.

**АПЕРА́НД** (англ. operand) — велічыня, над якой адбываецца *аперацыя* пры рэалізацыі праграмы ў электронна-вылічальнай машыне.

**АПЕРА́ТАР** (лац. operator = выканаўца) — 1) спецыяліст, які кіруе работай якога-н. механізма або ўстаноўкі; 2) тое, што і *кінаапаратар*; 3) *мат.* правіла, якое дазваляе кожны элемент аднаго мноства супаставіць з пэўным элементам другога мноства.

**АПЕРАТЫ́ЎНЫ** (лац. operativus = дзейны) — 1) здольны хутка і правільна выканаць практычныя задачы, дзейсны (напр. а. работнік); 2) звязаны з ажыццяўленнем пэўнай *аперацыі* (напр. а. прастор, а-ая група).

**АПЕРАЦЫ́ЙНЫ** (ад *аперацыя*) — 1) прызначаны для аперацыі, звязаны з аперацыяй (напр. а. стол,

а-ае ўмяшанне); 2) прызначаны для непасрэднага практычнага ажыццяўлення (напр. а. план).

**АПЕРА́ЦЫЯ** (лац. operatio = дзеянне) — 1) лячэнне, звязанае з хірургічным умяшаннем; 2) сукупнасць баявых дзеянняў буйной вайсковай групіроўкі, аб'яднаных адной мэтай; 3) дзеянне, накіраванае на дасягненне пэўнай мэты, рашэнне пэўнай задачы (напр. вытворчая а., фінансавая а.); 4) асобная закончаная частка тэхналагічнага працэсу, якая выконваецца на адным рабочым месцы; 5) перапрацоўка інфармацыі электронна-вылічальнай машынай па адной камандзе.

**АПЕРАЦЫЯНАЛІ́ЗМ** (ад лац. operatio = дзеянне) — суб'ектыўна-ідэалістычны напрамак у сучаснай філасофіі, паводле якога паняцці не адлюстроўваюць аб'ектыўную рэчаіснасць, а з'яўляюцца прадуктам дзеянняў *(аперацый)* вучонага.

**АПЕРКО́Т** (англ. upper-cut) — удар знізу ў тулава або падбародак пры гульні ў *бокс*.

**АПЕРО́Н** (ад лац. operare = працаваць) — група *генаў*, якія вызначаюць сінтэз функцыянальна звязаных ферментаў.

**АПЕРТО́МЕТР** (ад лац. apertus = адкрыты + *-метр*) — прыбор для вымярэння лікавай *апертуры* аптычнай сістэмы.

**АПЕРТУ́РА** (лац. apertura = адтуліна) — 1) адтуліна аптычнага прыбора, якая вызначаецца памерамі лінзаў або дыяфрагмамі; 2) частка паверхні складаных антэн, якая прымае або выпучае электрамагнітнае выпрамяненне.

**АПЕРТЫЗА́ЦЫЯ** [ад фр. N.Appert = прозвішча фр. вынаходцы (1752—1841)] — спосаб кансервавання мяса і агародніны, заснаваны на працяглым награванні ў кіпячай вадзе ў герметычна закрытых шкляных пасудзінах пасля таго, як адтуль адпампавана паветра.

**АПЕРЦЫПІ́РАВАЦЬ** (ад лац. ad = да + *перцыпіраваць*) — асвойваць на аснове папярэдняга вопыту.

**АПЕРЦЭ́ПЦЫЯ** (ад лац. ad = да + *перцэпцыя*) — 1) *псіх.* залежнасць успрыняцця чалавекам прадметаў і з'яў аб'ектыўнага свету ад папярэдняга індывідуальнага вопыту, ранейшых уяўленняў і запасу ведаў; 2) *філас.* усведамленне самога сябе, пазнанне праз розум уласнага стану.

**АПЕРЫ́РАВАЦЬ** (лац. operre) — 1) рабіць хірургічную *аперацыю*; 2) выконваць якія-н. дзеянні, дзейнічаць; 3) карыстацца чым-н. (напр. а. лічбамі).

**АПЕРЫТЫ́Ў** (фр. apéritif) — слабы спіртны напітак для ўзбуджэння апетыту.

**АПЕРЭ́ТА** (іт. operetta) — музычна-драматычны твор камедыйнага характару, у якім спевы чаргуюцца з размовамі і танцамі.

**АПЕТЫ́Т** (лац. appetitus = жаданне) — 1) жаданне есці; 2) *перан.* жаданне наогул, імкненне да чаго-н. (напр. уласніцкі а.).

**АПЕФО́РА** (н.-лац. opephora) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. фрагілярыевых, якая трапляецца ў прэсных вадаёмах.

**АПІЗАТРО́Н** (ад лац. apis = пчала + гр. arthron = орган, частка цела) — лекавы *прэпарат*, болесуцішальны і процізапаленчы сродак.

**АПІКА́ЛЬНЫ** (ад лац. apex, apicis = канец) — 1) *анат.* звернуты ўгору, верхні (напр. а. орган); 2) *лінгв.* пярэднеязычны зычны (гук).

**АПІЛА́К** (ад лац. apis = пчала + lac = малако) — біягенны лекавы *прэпарат*, які ўяўляе сабой высушанае матачнае малако пчол; выкарыстоўваецца пры *гіпатрафіі* і адсутнасці апетыту ў маленькіх дзяцей.

**А́ПІС** (гр. Apis, ад егіп. Chapi) — свяшчэнны бык у старажытных егіпцян.

**АПІСТАГНАТЫ́ЧНЫ** (ад гр. opisthe = ззаду + gnathos = галава) — звернуты коса назад і ўніз (пра рот і сківіцы галавы насякомага).

**АПІСТАГРА́МА** (н.-лац. apistogramma) — рыба атрада акунепадобных, якая пашырана ў рэках Паўд. Амерыкі; на Беларусі разводзіцца як акварыумная.

**АПІСТАДО́М** (гр. opisthodomos = які знаходзіцца ў задняй частцы дома) — закрытае памяшканне ў заходняй частцы старажытнагрэчаскага храма.

**АПІСТА́РХ** (н.-лац. opistorchis) — *гельмінт* сям. *апістархідаў* класа смактуноў, які пашыраны ў Еўропе і Азіі.

**АПІСТАРХІ́ДЫ** (н.-лац. opisthorchidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *трэматодаў*, паразіты рыб, паўзуноў, птушак, млекакормячых *і чалавека.*

**АПІСТАРХО́З** (ад гр. opisthe = ззаду + orchos = шпалера) — глістовае захворванне жывёл і чалавека, якое выклікаецца паразітаваннем у печані, жоўцевым пузыры і падстраўнікавай залозе плоскіх чарвей.

**АПІСТАСО́МА** (ад гр. opisthe = ззаду + *сома*) — наступны за *прасомай* задні аддзел цела хеліцэравых, часам называецца брушкам.

**АПІТЭРАПІ́Я** (ад лац. apis = пчала + *тэрапія*) — выкарыстанне пчалінага яду на лекавыя мэты.

**АПІЯКРЭ́Я** (н.-лац. apiocrea) — сумчаты грыб сям. *гіпаміцэтавых*, які развіваецца на ядомых грыбах (баравіку, падасінавіку, падбярозавіку, махавіку) і лішайніках.

**АПІЯЦЫ́СЦІС** (н.-лац. apiocystis) — каланіяльная зялёная водарасць сям. тэтраспоравых, якая трапляецца на водных раслінах, адмерлым субстраце ў непраточных вадаёмах.

**АПЛАДЗІ́РАВАЦЬ** (фр. applaudir) — пляскаць у далоні на знак прывітання або адабрэння.

**АПЛАДЫСМЕ́НТЫ** (фр. applaudissements) — пляскание ў далоні на знак прывітання або адабрэння.

**АПЛАЗІ́Я** (ад *а-* + гр. plasis = утварэнне, фармаванне) — прыроджаная адсутнасць якога-н. органа ў выніку парушэння працэсу закладкі і развіцця яго тканак (параўн. *гіпаплазія, гіперплазія*).

**АПЛАНАСПО́РЫ** (ад гр. aplanes = нерухомы + *споры*) — нерухомыя споры водарасцяў, якія служаць для бясполага размнажэння.

**АПЛАНА́Т** (гр. aplanetos = нерухомы, які не адхіляецца) — *фота-*

*аб'ектыў*, у якім выпраўлена сферычная *аберацыя*.

**АПЛАНАТЫ́ЗМ** (ад *апланат*) — адсутнасць сферычнай і храматычнай *аберацыі*.

**АПЛА́ТКА** (польск. opłatek, ад лац. oblatum = ахвераванае) — 1) аладачка з прэснага цеста, якая выкарыстоўваецца каталікамі і пратэстантамі пры прычасці; 2) абалонка з крухмальнага цеста або жэлаціну для парашковых лякарстваў; капсула.

**АПЛАЦЭНТА́РНЫЯ** (ад *а-* + *плацэнта*) — млекакормячыя (клаачныя і сумчатыя), у якіх пры развіцці зародкаў не ўтвараецца плацэнта.

**АПЛІКА́ТА** (лац. applicata = прылеглая, сумежная) — *мат.* назва аднаго з трох лікаў, якія вызначаюць становішча пункта ў прасторы адносна прамавугольнай сістэмы каардынат.

**АПЛІКА́ТАРЫ** (ад лац. applicare = прыкладваць) — вырабы, якія змяшчаюць радыеактыўныя ізатопы і выкарыстоўваюцца ў медыцынскай практыцы для лячэння пашкоджаных участкаў скуры і слізістых абалонак.

**АПЛІКАТУ́РА** (іт. applicatura, ад лац. applicare = прыкладваць) — 1) спосаб размяшчэння пальцаў, найбольш зручны пры ігры на музычных інструментах; 2) лічбавае абазначэнне пад нотамі парадку размяшчэння пальцаў музыканта.

**АПЛІКА́ЦЫЯ** (лац. applicatio = прыкладванне, наклейванне) — 1) спосаб стварэння малюнка, мастацкага ўзору, арнаменту шляхам наклейвання кавалачкаў рознакаляровай матэрыі, паперы і інш.; 2) узор, малюнак, арнамент, створаны такім чынам; 3) *мед.* накладванне на абмежаваны ўчастак паверхні цела лячэбнай гразі, парафіну і інш.

**АПЛІКЕ́** (фр. appliqué, ад лац. applicatus = прыкладзены) — 1) накладное серабро; 2) металічныя вырабы, пакрытыя тонкім слоем серабра.

**АПЛІ́Т** (ад гр. aploos = просты) — магматычная горная парода, па мінералагічнаму складу падобная да глыбінных парод, з якімі яна звязана; выкарыстоўваецца ў керамічнай вытворчасці.

**АПЛО́МБ** (фр. aplomb = *літар.* раўнавага) — 1) празмерная самаўпэўненасць, самаўпэўненасць у паводзінах, у абыходжанні з кім-н.; 2) уменне захоўваць у танцы ўстойлівасць.

**АПНО́Э** (ад *а-* + гр. pnoe = дыханне) — часовая затрымка дыхальных рухаў у сувязі са збядненнем крыві вуглякіслым газам (параўн. *дыспноэ*).

**АПО́ГРАФ** (гр. apographon = копія) — 1) *копія* арыгінала; 2) прыбор для капіравання малюнкаў.

**АПО́КАПА** (гр. apokope = адсячэнне) — *лінгв.* 1) адпадзенне аднаго або некалькіх гукаў у канцы слова (напр. «мо» замест «можа»); 2) утварэнне новых слоў шляхам скарачэння.

**АПО́КРЫФЫ** (гр. apokryphos = тайны) — 1) творы іудзейскай і раннехрысціянскай літаратуры, забароненыя царквой, бо іх змест не поўнасцю супадаў з патрабаваннямі афіцыйнага веравызнання; 2) творы з няпэўным аўтарствам.

**АПО́РПІЙ** (н.-лац. Aporpium) — губавы *базідыяльны* грыб сям. порыевых, які расце на кары і гнілой драўніне вольхі, бярозы, таполі, вярбы і іншых лісцевых парод.

**АПО́РЫЯ** (гр. aporia = непраходнасць) — супярэчнасць у меркаванні, якая здаецца непераадольнай.

**АПО́СТАЛ** (гр. apostolos = пасланец) — 1) кожны з дванаццаці вучняў Хрыста, прапаведнікаў яго вучэння; 2) *перан.* заўзяты паслядоўнік якой-н. ідэі, вучэння; 3) хрысціянская богаслужэбная кніга, якая змяшчае частку Новага запавета і Апакаліпсіс.

**АПО́СТРАФ** (гр. apostrophos = звернуты ўбок, назад) — надрадковы знак у выглядзе коскі.

**АПО́СУМ** (індз. oposon) — невялікая жывёла сям. сумчатых пацукоў, якая водзіцца ў лясах Амерыкі.

**АПО́ФІЗ** (гр. apophysis = адростак) — *анат.* адростак, выступ косці.

**АПРАБАВА́ЦЬ** (лац. approbare) — 1) афіцыйна адобрываць, зацвярджаць што-н., напр. праект, заданне; 2) рабіць праверку, аналіз чаго-н. перш чым пачаць карыстацца (напр. а. машыну, а. новы прэпарат).

**АПРАБА́ЦЫЯ** (лац. approbatio) — 1) афіцыйнае адабрэнне, вынесенае на падставе выпрабавання, праверкі, шырокага абмеркавання (напр. а. вучэбных праграм); 2) абследаванне гатунковых якасцей сельскагаспадарчых культур для адбору лепшых з іх на насенне (напр. палявая а.).

**АПРАКСІМА́ЦЫЯ** (лац. approximatio = збліжэнне) — замена адных матэматычных велічынь, аб'ектаў іншымі, больш простымі.

**АПРА́КСІЯ** (гр. apraksia = бяздзейнасць) — парушэнне здольнасці выконваць мэтанакіраваныя рухі ў выніку паражэння пэўных аддзелаў кары галаўнога мозга.

**АПРАПРЫЯ́ЦЫЯ** (лац. appropriatio = засваенне) — прысваенне, завалодванне.

**АПРО́ШЫ** (фр. approches) — 1) земляныя равы, якія пракладвалі для скрытага набліжэння да сцен крэпасці перад яе штурмам; 2) прамежкі паміж літарамі або словамі ў друкарскім наборы.

**АПРЫЁРНЫ** (ад *апрыёры*) — які не залежыць ад вопыту, не абапіраецца на вывучэнне фактаў, папярэднічае даследаванню (проціл. *апастэрыёрны*).

**АПРЫЁРЫ** (лац. a priori = з папярэдняга) — 1) незалежна ад вопыту, да вопыту (проціл. *апастэрыёры*); 2) *перан.* не правяраючы чаго-н., загадзя.

**АПРЭСІ́Н** (ад *а-* + лац. pressus = ціск) — лекавы *прэпарат*, які выкарыстоўваюць пры розных формах гіпертанічнай хваробы.

**АПРЭ́Т** (фр. apprêt = апрацоўка) — рэчывы, якія накладваюць на скуру, тканіну, паперу пры *апрэтуры*.

**АПРЭТАВА́ЦЬ** (фр. apprêter) — выконваць *апрэтуру* 1.

**АПРЭТУ́РА** (ням. Appretur, ад фр. apprêter = апрацоўваць) — 1) сукупнасць *аперацый* над скурамі, тканінамі, паперай для надання ім патрэбных уласцівасцей; 2) ра-

шчына для апрацоўкі скураных вырабаў.

**АПСАНІ́НЫ** (гр. opsonion = забеспячэнне ежай) — спецыфічныя антыцелы, якія ўтвараюцца ў імунізаваным арганізме і стымулююць *фагацытоз* бактэрый лейкацытамі.

**АПСІ́ДА** (гр. apsis, -idos = дуга, скляпенне) — паўкруглы або шматвугольны выступ у сцяне хрысціянскіх царкоўных будынкаў, які перакрыты паўкупалам.

**АПСІ́ДЫ** (ад гр. apsis, -idos = дуга, скляпенне) — *астр.* самы блізкі і самы далёкі пункты *арбіты* аднаго свяціла адносна другога, цэнтральнага, напр. Зямлі адносна Сонца, Месяца адносна Зямлі.

**АПТАВА́ЦЬ** (лац. optare) ажыццяўляць у адносінах да каго-н. права *аптацыі*.

**АПТА́ЙП** (англ. optype) — *палігр.* аўтаматычная машына для фотанабору радкоў, якія аказаліся прапушчанымі наборнапішучай машынай.

**АПТА́НТ** (лац. optans, -ntis = які выбірае) — асоба, якая мае права выбіраць грамадзянства.

**АПТАТЫ́Ў** (лац. optativus = пажадальны) — *лінгв.* лад дзеяслова, які абазначае пажаданасць адпаведнага дзеяння.

**АПТА́ЦЫЯ** (лац. optatio = жаданне, выбар) — добраахвотны выбар грамадзянства, які звычайна дазваляецца зрабіць насельніцтву тэрыторыі, што перайшла ад адной дзяржавы да другой.

**АПТО́МЕТР** (ад гр. optos = бачны + *-метр*) — прыбор для вымярэння і вызначэння вастрыні зроку.

**АПТРО́Н** [ад *опт(ыка)* + *-трон*] — оптыкаэлектронны прыбор, у якім адбываецца ўзмацненне і пераўтварэнне аптычных або электрычных сігналаў; выкарыстоўваецца ў вылічальнай тэхніцы, аўтаматыцы і інш.

**АПТЫМА́ЛЬНЫ** (ад лац. optimus = найлепшы) — самы спрыяльны, найбольш адпаведны пэўным умовам і задачам (напр. а. варыянт).

**АПТЫМА́ТЫ** (лац. optimates) — палітычная групоўка ў Стараж. Рыме, якая адлюстроўвала інтарэсы *нобіляў* і супрацьстаяла *папулярам*.

**АПТЫМЕ́ТР** (ад гр. optos = бачны + *-метр*) — аптычны прыбор для асабліва дакладных лінейных вымярэнняў з пагрэшнасцю да 1 *мікрометра*.

**АПТЫМІЗА́ТАР** (ад лац. optimus = найлепшы) — набор тэхнічных устройстваў, які забяспечвае *аптымальнае* працяканне пэўнага вытворчага або тэхналагічнага працэсу.

**АПТЫМІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. optimus = найлепшы) — выбар найлепшага варыянта з некалькіх магчымых (напр. а. працэсу кіравання).

**АПТЫМІ́ЗМ** (фр. optimisme, ад лац. optimus = найлепшы) — бадзёры, жыццярадасны настрой, пры якім чалавек верыць у лепшае будучае, у поспех; схільнасць бачыць ва ўсім светлыя бакі (проціл. *песімізм*).

**АПТЫМІ́СТ** (ад *аптымізм*) — чалавек, схільны да аптымізму.

**АПТЫМІСТЫ́ЧНЫ** (ад *аптымізм*) — прасякнуты аптымізмам (проціл. *песімістычны*).

**АПТЫ́ЧНЫ** (гр. optikos) — 1) звязаны з *оптыкай* (напр. а. прыбор, а-ае шкло); 2) светлавы, звязаны з адбіццём і пераламленнем прамянёў святла (напр. а-ая з'ява).

**АПТЭ́КА** (польск. apteka < лац. apotheca, ад гр. apotheke = склад) — 1) установа, дзе па *рэцэптах* урачоў робяцца і адпускаюцца лякарствы; 2) набор лякарстваў, неабходны для першай дапамогі або хатняга лячэння; аптэчка.

**АПТЭ́КАР** (ст.-польск. aptekarz, ад лац. apothecarius) — тое, што і *фармацэўт*.

**АПТЭРЫГО́ТЫ** (н.-лац. apterygota, ад гр. apteros = бяспёры) — ніжэйшыя першаснабяскрылыя насякомыя, да якіх адносяцца двухвосткі, нагахвосткі, шчацінахвосткі.

**АПТЭРЫЁЗ** (ад *а*- + гр. pteron = пяро) — хвароба птушак, якая характарызуецца затрымкай або поўным прыпыненнем росту пер'я.

**АПТЭ́РЫІ** (ад гр. apteros = бяспёры) — пазбаўленыя пёраў участкі скуры птушак.

**АПУ́НЦЫЯ** (н.-лац. opuntia, ад гр. Opus, -untos = назва старажытнагрэчаскага горада) — кустовая расліна сям. кактусавых з сакаўнымі сцёбламі, пакрытымі калючкамі, пашыраная ў пустынях і паўпустынях Амерыкі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**АПЦЫЁН** (ням. Option, ад лац. optio, -onis = свабодны выбар) — 1) умова ў дагаворы марской перавозкі адносна права замены аднаго грузу іншым або аднаго порту прызначэння іншым; 2) умова, якая ўключаецца ў біржавыя здзелкі на тэрмін, паводле якой аднаму з бакоў даецца права выбару паміж асобнымі элементамі здзелкі; 3) прадастаўленае кампаніямі сваім вышэйшым служачым права купляць акцыі па цвёрдай цане.

**АР** (фр. are, ад лац. area = плошча, паверхня зямлі) — адзінка зямельнай плошчы ў метрычнай сістэме мер, роўная 100 $м^2$, або 0,01 га.

**А́РА** (ісп. ara, ад тупі-гуарані ara) — даўгахвосты папугай з яркім апярэннем, пашыраны ў Цэнтр. Амерыцы.

**АРАБЕ́СК** (фр. arabesque, ад іт. arabesco = арабскі) — поза ў класічным балеце, пры якой раўнавага захоўваецца на адной назе, а другая паднята і адведзена назад.

**АРАБЕ́СКА** (іт. arabesco = арабскі) — 1) складаны *арнамент* у выглядзе прыгожа пераплеценых геаметрычных фігур і лісцяў, кветак, раслін, жывёл; 2) невялікі музычны твор з арнаментаваным (гл. *арнаментыка* 2) меладычным малюнкам.

**АРАБІ́ЗМ** (ад лац. arabicus = арабскі) — слова або выраз, запазычаныя з арабскай мовы.

**АРАБІ́Н** (ад лац. arabicus = арабскі) — разнавіднасць расліннага клею, састаўная частка аравійскай камедзі *(гуміарабіку)*.

**АРАБІНО́ЗА** (ад *арабін*) — *монацукрыд*, які ўваходзіць у склад запасных *поліцукрыдаў* раслін, а таксама камедзяў, слізяў.

**АРАГАНІ́Т** (ад ісп. Aragon = вобласць у Іспаніі) — мінерал класа

*карбанатаў*, разнавіднасць карбанату кальцыю белага, шэрага або фіялетавага колеру.

**АРАГЕ́Н** (ад гр. oros = гара + *-ген*) — *геал.* горна-складкаватае ўзнікненне на месцы *геасінкліналі* на позняй стадыі яе эвалюцыі.

**АРАГЕНЕ́З, АРАГЕНЕ́ЗІС** (ад гр. oros = гара + *генезіс)* — сукупнасць працэсаў, з якімі звязана ўзнікненне і развіццё гор.

**АРАГРА́ФІЯ** (ад гр. oros = гара + *-графія*) — раздзел фізічнай *геаграфіі*, які вывучае рэльеф зямной паверхні.

**АРА́К** (ар. arag = пот) — моцны спіртны напітак, які гатуюць з соку какосавай, фінікавай *пальмы* або з *рысу*.

**АРА́КУЛ** (лац. oraculum = прароцтва) — 1) жрэц у старажытных грэкаў і рымлян, што прарочыў быццам ад бога, а таксама месца такіх прароцтваў; 2) іранічная назва чалавека, які прадказвае будучае або выказвае меркаванні, што прымаюцца многімі на веру.

**АРА́ЛІЯ** (н.-лац. aralia) — кустовая расліна сям. аралiевых з доўгім лісцем і дробнымі белымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная ў тропіках і субтропіках; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**АРА́ЛЬНЫ** (н.-лац. oralis, ад лац. os, oris = рот) — *біял.* ротавы, размешчаны ў вобласці рота (параўн. *абаральны*).

**АРАМАРФО́З** (ад гр. airo = падымаць + *-марфоз*) — адзін з напрамкаў *эвалюцыі* арганізмаў, які характарызуецца ўскладненнем іх будовы і функцыі, развіццём прыстасавальнай здольнасці да ўмоў асяроддзя (параўн. *ідыяадаптацыя*).

**АРАМАТЫЗА́ЦЫЯ** (ад гр. aroma, -atos = пахучыя травы) — утварэнне *араматычных* злучэнняў; а. нафтапрадуктаў — хімічная перапрацоўка нафты і нафтапрадуктаў для ўзбагачэння іх араматычнымі вугляводамі.

**АРАМАТЫ́ЧНЫ** (гр. aromatikos = пахучы); а-ыя злучэнні — вуглевадароды (*бензол, нафталін, антрацэн* і інш.) і іх вытворныя (*анілін*, бензойная кіслата, *фенол* і інш.), якія змяшчаюць у малекуле *цыклы* з шасці атамаў вугляроду.

**АРАМЕ́ТРЫЯ** (ада гр. oros = гара + *-метрыя*) — метады вымярэння формаў зямной паверхні.

**АРАНГЛА́УТЫ** (малайск. orang-laut = марскі чалавек) — марскія вандроўнікі, жыхары Малайскага архіпелага, якія вандруюць з вострава на востраў.

**АРАНГУТА́Н, АРАНГУТА́НГ** (малайск. orang-utan = *літар.* лясны чалавек) — буйная чалавекападобная *малпа*, якая жыве на астравах Суматра і Калімантан.

**АРАНДАВА́ЦЬ** (с.-лац. arendare) — браць або даваць што-н. у *арэнду*.

**АРАНДА́ТАР** (с.-лац. arendator) — той, хто бярэ што-н. у *арэнду*.

**АРАНЕ́І** (н.-лац. aranei) — атрад *арахнідаў*, беспазваночныя жывёлы тыпу членістаногіх з целам рознай афарбоўкі даўжынёй ад 0,8 да 11 см, якое складаецца з галавагрудзей і брушка, злучаных кароткай сцяблінкай; павукі.

**АРАНЕЯЛО́ГІЯ** (ад лац. aranea = павук + *-логія*) — раздзел *арахналогіі*, які вывучае павукоў.

**АРА́НЖАВЫ** (ад фр. orange = апельсін) — жоўта-чырвоны, колеру апельсіна.

**АРАНЖА́Д** (фр. orangeade) — прахаладжальны напітак з апельсінавым сокам.

**АРАНЖАРЭ́Я** (фр. orangerie, ад orange = апельсін) — зашклёнае памяшканне для вырошчвання і зімоўкі паўднёвых раслін або для несезоннага атрымання пладоў, агародніны і кветак; цяпліца.

**АРАНЖЫ́РАВАЦЬ** (фр. arranger = упарадкоўваць) — рабіць *аранжыроўку*.

**АРАНЖЫРО́ЎКА** (ад *аранжыраваць*) — 1) пералажэнне музычнага твора для выканання на іншым інструменце або для іншага складу інструментаў ці галасоў (параўн. *транскрыпцыя* 3); 2) мастацкая кампаноўка раслін (кветак, дэкаратыўных галінак, лісця) у вазах, карзінах, гірляндах, вянках.

**АРА́НТ** (лац. orans, -ntis = які моліцца) — адлюстраванне ў раннехрысціянскім мастацтве фігуры ў малітоўнай позе з узнятымі рукамі.

**АРАПА́ЙМА** (н.-лац. arapaima) — рыба атрада селядцовых даўжынёй да 4 м, якая водзіцца ў басейне ракі Амазонкі.

**АРА́Р** (гр. horarion) — частка адзення *дыякана* ў выглядзе перавязі, расшытай крыжамі, што надзяваецца на левае плячо.

**АРА́С** (фр. arras, ад Arras = назва горада ў Францыі) — дыван ручной работы, вытканы ў французскім горадзе Арас, цэнтры шпалернага ткацтва ў 14—15 ст.

**АРА́Т** (манг. arat) — жывёлавод у Манголіі.

**АРА́ТАР** (лац. orator) — 1) асоба, якая выступае з прамовай; прамоўца; 2) той, хто валодае майстэрствам слова, красамоўствам.

**АРАТО́РЫЯ** (іт. oratorio) — буйны музычны твор для хору, салістаў-спевакоў і аркестра.

**АРАТЫ́П** (ад гр. oros = гара + *-тып*) — наборна-друкавальная машына, аналагічная *лінатыпу*, але забяспечаная замест матрыц *патрыцамі*, а замест адліўнога апарата друкавальным.

**АРАЎКАРЫ́ТЫ** (ад ісп. Arauco = назва чылійскай правінцыі) — рэшткі ствалоў хвойных дрэў, якія сустракаюцца ў адкладах пермскага перыяду (гл. *палеазой*).

**АРАЎКА́РЫЯ** (н.-лац. araucaria, ад ісп. Arauco = назва чылійскай правінцыі) — вечназялёнае хвойнае дрэва сям. араўкарыевых, пашыранае пераважна ў Паўд. Амерыцы і Аўстраліі.

**АРАЎРУ́Т** (англ. arrowroot, ад arrow = страла + root = корань) — сарты *крухмалу*, якія атрымліваюцца з карэнішчаў раслін роду *маранта*, клубняў *куркумы* і некаторых іншых трапічных відаў класа аднадольных.

**АРА́ХІС** (н.-лац. arachis, ад гр. arachis = зелле) — травяністая расліна сям. бабовых, пашыраная ў тропіках і субтропіках, а таксама плады гэтай расліны (земляныя арэхі).

**АРАХНАІДЫ́Т** (ад гр. arachnos = павуціна + eidos = выгляд) — запа-

ленне павуцiннай абалонкi галаўнога або спiннога мозга.

**АРАХНАЛО́ГIЯ** (ад гр. arachne = павук + *-логiя*) — раздзел *заалогii*, якi вывучае павукападобных.

**АРАХНАХЛО́РЫС** (н.-лац. arachnochloris) — аднаклетачная жоўтазялёная водарасць сям. плеўрахлоравых, якая ўдзельнiчае ў абагачэннi глебы арганiчнымi рэчывамi.

**АРАХНÍДЫ** (н.-лац. arachnida, ад гр. arachne = павук) — клас беспазваночных жывёл тыпу членiстаногiх, да якога належаць павукi, *скарпiёны, сальпугi*, iлжэскарпiёны, сенакосцы, кляшчы; пашыраны на ўсiх мацерыках, акрамя Антарктыды; павукападобныя.

**АРАХНО́ЗЫ** (ад гр. arachne = павук + *-ноз*) — хваробы млекакормячых, птушак, насякомых, чалавека, якiя выклiкаюцца павукападобнымi.

**АРА́ЦЫЯ** (лац. oratio) — празаiчны жанр у лiтаратуры Беларусi 17—18 ст.; своеасаблiвы тэатралiзаваны паказ-прамова ў школьным тэатры.

**АРБА́** (цюрк. araba) — высокая двухколая павозка ў Сярэд. Азii i доўгая чатырохколая — у Крыме i на Каўказе.

**АРБАВÍРУСЫ** [н.-лац. arboviruses, ад англ. ar(thropod) bo(rne) viruses = вiрусы, народжаны членiстаногiмi] — група *вiрусаў* пазваночных жывёл i чалавека, якiя пераносяцца членiстаногiмi (кляшчамi, камарамi, маскiтамi).

**АРБАЛЕ́Т** (фр. arbalète) — сярэдневяковы ўдасканалены лук з прыкладам, самастрэл.

**АРБАЛÍТ** (ад лац. arbor = дрэва + *-лiт*) — разнавiднасць лёгкага *бетону*, што ўяўляе сабой сумесь цэменту, драўняных адходаў i вады.

**АРБАРЫЦЫ́ДЫ** (ад лац. arbor = дрэва + *-цыд*) — рэчывы, якiя выкарыстоўваюць для барацьбы з драўняна-хмызняковай раслiннасцю.

**АРБАРЭ́ТУМ** (лац. arboretum = гай) — тое, што i *дэндрарый*.

**АРБÍТА** (лац. orbita = калянiна, дарога) — 1) шлях, па якiм нябеснае цела цi касмiчны апарат рухаецца ў прасторы адносна другога нябеснага цела; 2) *перан.* сфера дзеяння, пашырэння чаго-н. (напр. а. уплыву); 3) вачнiца.

**АРБIТА́ЛЬНЫ** (ад *арбiта*) — якi знаходзiцца на арбiце, рухаецца па арбiце.

**АРБÍТР** (лац. arbiter) — 1) пасрэднiк пры разборы спрэчак, трацейскi суддзя; 2) суддзя ў некаторых спартыўных спаборнiцтвах.

**АРБIТРА́Ж** (фр. arbitrage) — 1) вырашэнне спрэчных пытанняў арбiтрамi; трацейскi суд; 2) орган па вырашэнню гаспадарчых спрэчак; 3) камерцыйная дзейнасць, звязаная з выкарыстаннем рознiцы цэн аднолькавых бiржавых аб'ектаў (каштоўных папер, тавараў) на розных рынках, каб атрымаць прыбытак; а. в а л ю т н ы — здзелка, якая дазваляе атрымаць прыбытак з рознiцы ў курсах валюты на розных валютных рынках; а. п р а ц э н т н ы — здзелка, якая дазваляе атрымаць прыбытак з рознiцы ў працэнтных стаўках па розных валютах; а. т а в а р н ы — здзелка, якая дазваляе атрымаць прыбытак з розні-

цы ў цэнах на адзін і той жа тавар на розных рынках; а. ф о н д а в ы — здзелка, якая дазваляе атрымаць прыбытак з розніцы паміж курсамі адной і той жа каштоўнай паперы на розных рынках фіктыўнага капіталу.

**АРБІТРАЖО́Р** (фр. arbitrageur) — крэдытна-фінансавая ўстанова, буйныя карпарацыі і фірмы, якія ажыццяўляюць здзелкі на таварных, фондавых, валютных і грашовых рынках.

**АРБІТРА́ЛЬНЫ** (лац. arbitralis = адвольны) — *філас.* які вырашаецца паводле чалавечай волі, самавольны.

**АРБУЦІ́Н** (ад лац. arbutus = сунічнае дрэва) — *гліказід*, пры расшчапленні якога ўтвараюцца *глюкоза* і *гідрахінон*.

**АРГА́ЗМ** (гр. orgasmos = напятасць) — вышэйшая ступень пачуццёвай асалоды, што ўзнікае ў момант завяршэння палавога акта.

**АРГА́Л** (манг. argal) — сухі *кізяк*, які выкарыстоўваецца як паліва ў бязлесных мясцовасцях Азіі.

**АРГАЛІ́** (манг. argali) — тое, што і *архар*.

**АРГАМА́К** (кр.-тат. arhamak) — старадаўняя назва ўсходніх пародзістых верхавых коней.

**АРГА́Н** (лац. organum, ад гр. organon = прылада, інструмент) — 1) духавы музычны клавішны інструмент складанай будовы (уключае сістэму труб, паветранагнятальных мяхоў, клавіятур і рэгістравых ручак), па гукавым аб'ёме роўны сімфанічнаму аркестру; 2) шматствольная артылерыйская гармата 16—18 ст. у Еўропе, у т.л. на Беларусі.

**АРГАНАГЕНЕ́З** (ад *орган* + *-генез*) — 1) фарміраванне органаў жывёл і чалавека ў працэсе эмбрыянальнага развіцця арганізма; 2) утварэнне асноўных органаў раслін з клетачных тканак.

**АРГАНАГЕ́ННЫ** (ад *орган* + *-генны);* а - ы я г о р н ы я п а р о д ы — тое, што і *біяліты.*

**АРГАНАГЕ́НЫ** (ад *орган* + *-ген*) — хімічныя элементы, неабходныя для жыццядзейнасці жывых арганізмаў.

**АРГАНАГРА́ФІЯ** (ад *орган* + *-графія*) — раздзел *біялогіі*, які вывучае і апісвае органы раслін і жывёл.

**АРГАНАЗО́ЛІ** [ад *арган(ічны)* + *золі*] — золі, у якіх часцінкі рэчыва размеркаваны ў арганічным злучэнні (параўн. *гідразолі, аэразолі*).

**АРГАНАЛЕПТЫ́ЧНЫ** (ад *орган* + гр. leptikos = схільны браць або прымаць) — які выяўляецца пры дапамозе органаў пачуццяў, напр. смак, пах аб'ектаў знешняга асяроддзя (вады, паветра, ежы і інш.).

**АРГАНАЛО́ГІЯ** (ад *арган* + *-логія*) — навуковая дысцыпліна, якая вывучае музычныя інструменты — іх канструкцыю, форму, матэрыял, спосабы вырабу, акустычна-тэмбравыя якасці, выканальніцкія магчымасці і інш.

**АРГАНАПЛА́СТЫКА** (ад *орган* + *пластыка*) — пластычная аперацыя па ўтварэнню страчаных органаў (напр. носа, сустава).

**АРГАНАТЭРАПІ́Я** (ад *орган* + *тэрапія*) — лячэнне *прэпаратамі*,

прыгатаванымі з органаў і тканак жывёл.

**АРГАНА́ЎТЫ** (гр. Argonautai, ад Argo = назва карабля + nautes = мараплавец) — 1) *міф.* група старажытнагрэчаскіх герояў, якія плавалі ў Калхіду па залатое руно; 2) *перан.* адважныя мараплаўцы, шукальнікі прыгод на моры.

**АРГАНДЗІ́** (фр. organdi) — вельмі тонкая шорсткая празрыстая матавая шаўковая тканіна з дробнаўзорыстым перапляценнем.

**АРГАНЕ́ЛЫ** (лац. organella, ад гр. organon = прылада, інструмент) — часткі цела аднаклетачнага арганізма, якія выконваюць пэўныя функцыі ў яго жыццядзейнасці.

**АРГАНІЗАВА́ЦЬ** (фр. organiser) — 1) заснаваць што-н. такое, што мае грамадскі характар (напр. а. гурток); 2) падрыхтаваць, наладзіць (напр. а. сустрэчу); 3) аб'яднаць, згуртаваць для якой-н. мэты (напр. а. атрад); 4) упарадкаваць што-н. (напр. а. свой рабочы час).

**АРГАНІЗА́ТАР** (фр. organisateur) — 1) той, хто арганізуе што-н., з'яўляецца ініцыятарам чаго-н.; 2) той, хто мае здольнасці да арганізацыйнай работы.

**АРГАНІЗА́ЦЫЯ** (фр. organisation, ад с.-лац. organisatio) — 1) грамадскае аб'яднанне або дзяржаўная ўстанова (напр. прафсаюзная а., рамонтная а.); 2) будова, склад чаго-н. (напр. унутраная а. завода); 3) арганізаванасць; 4) заснаванне, наладжванне чаго-н.

**АРГАНІ́ЗМ** (фр. organisme, ад с.-лац. organismus) — 1) усякая жывая істота або расліна; 2) сукупнасць фізічных і духоўных уласцівасцей чалавека; 3) *перан.* тое, што ўяўляе сабой складанае арганізаванае адзінства.

**АРГА́НІК** (гр. organikos = арганічны) — спецыяліст у галіне арганічнай хіміі.

**АРГА́НІКА** (гр. organikos = арганічны) — 1) арганічная хімія; 2) арганічныя ўгнаенні.

**АРГАНІ́СТ** (с.-лац. organista) — музыкант, які іграе на *аргане*.

**АРГАНІ́СТРУМ** (н.-лац. organistrum) — музычны інструмент, тып даўняй колавай *ліры*.

**АРГАНЦЫ́ЗМ** (ад *арганічны*) — вучэнне, якое растлумачвае прыродныя і сацыяльныя з'явы (працэсы) па аналогіі з біялагічнай будовай арганізма; атрымала развіццё ў агульнай тэорыі сістэм, у кібернетыцы, тэорыі інфармацыі і інш.

**АРГАНІ́ЧНЫ** (гр. organikos) — 1) які належыць да жывёльнага або расліннага свету; 2) які ўтварыўся ў выніку разлажэння жывёльных і раслінных арганізмаў (напр. а-ыя рэчывы); 3) які займаецца вывучэннем прадуктаў разлажэння жывых арганізмаў (напр. а-ая хімія); 4) абумоўлены самой сутнасцю чаго-н., непарыўна звязаны з чым-н.; 5) *перан.* унутрана ўласцівы каму-н. (напр. а-ая патрэбнасць).

**АРГАНО́ІДЫ** (ад *орган* + *-оід*) — састаўныя часткі цытаплазмы жывёльнай або расліннай клеткі (напр. *мітахондрыі, пластыды*), якія выконваюць пэўныя функцыі ў яе жыццядзейнасці.

**АРГАНО́ЛА** (ад *орган*) — электрамузычны інструмент, гучанне якога блізкае да гучання аргана.

**АРГАНО́Н** (гр. organon = прылада, інструмент) — агульная назва твораў Арыстоцеля па *логіцы*.

**АРГА́НУМ** (лац. organum, ад гр. organon = прылада, інструмент) — тое, што і *дыяфанія*.

**АРГАТЫ́ЗМ** (фр. argotisme) — слова, запазычанае літаратурнай мовай з якога-н. *арго*.

**АРГАТЭ́ХНІКА** [ад *арга(нізацыя) + тэхніка*] — комплекс тэхнічных сродкаў для механізацыі і аўтаматызацыі кіраўніцкай і інжынерна-тэхнічнай працы.

**АРГЕНТАМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. argentum = серабро + *-метрыя*) — метад колькаснага аналізу, пры якім асноўным *рэагентам* з'яўляецца цітраваны раствор азотнакіслага серабра.

**АРГЕНТЫ́Т** (ад лац. argentum = серабро) — мінерал класа *сульфідаў* свінцова-шэрага колеру; сярэбраная руда.

**АРГЕНЦІ́НА** (ад лац. argentum = серабро) — невялікая прамысловая рыба атрада селядцовых, якая водзіцца ў Атлантычным і Ціхім акіянах.

**АРГІЛАФІ́ЛЫ** (ад гр. argillos = гліна + *-філ*) — водныя арганізмы, якія жывуць галоўным чынам на гліністым грунце.

**АРГІЛІ́Т** (ад гр. argillos = гліна + *-літ*) — асадачная горная парода, утвораная ў выніку ўшчыльнення і цэментацыі гліны.

**АРГІНІ́Н** (ад гр. arginoeis = сляпуча белы) — арганічная кіслата, якая ўваходзіць у склад бялкоў жывёл і раслін.

**АРГІРАГРА́ФІЯ** (ад гр. argyros = серабро + *-графія*) — прыгатаванне штрыхавых негатываў без выкарыстання фотаапарата.

**АРГО́** (фр. argot) — умоўныя словы, выразы, што ўжываюцца якой-н. сацыяльнай групай, каб іншыя не маглі іх зразумець (напр. зладзейскае а.).

**АРГО́Н** (лац. argon, ад гр. argos = бяздзейны) — хімічны элемент, газ без колеру і паху; выкарыстоўваецца для напаўнення электрычных лямпаў, у рэкламных асвятляльных прыстасаваннях і інш.

**АРГУМЕ́НТ** (лац. argumentum) — 1) факт, які прыводзіцца для пацвярджэння, абгрунтавання чаго-н.; доказ, довад; 2) *мат.* незалежная пераменная велічыня, ад змянення якой залежыць змяненне другой велічыні, што называецца *функцыяй*.

**АРГУМЕНТАВА́ЦЬ** (лац. argumentari) — прыводзіць доказы, *аргументы*.

**АРГУМЕНТА́ЦЫЯ** (лац. argumentatio) — 1) прывядзенне доказаў, *аргументаў*; 2) сукупнасць аргументаў.

**А́РГУС** (гр. Argos = міфічны стовокі вартаўнік) — 1) *перан.* пільны ахоўнік, вартаўнік; 2) птушка сям. фазанавых, якая водзіцца ў лясах Паўд.-Усх. Азіі.

**АРДА́** (цюрк. ordu) — 1) дзяржава, саюз плямён у старажытных цюркскіх народаў (напр. Залатая а.); 2) цюркскае войска, якое ўрывалася ў межы Стараж. Русі; 3) *перан.* полчышчы азвярэлых варожых войск; 4) *перан.* шумны неарганізаваны натоўп.

**АРДА́ЛІЯ** (лац. ordalia) — распаўсюджаны ў сярэднія вякі спосаб

вызначэння вінаватасці асобы, якая падазравалася ў злачынстве, праз катаванне агнём, вадой, гарачым жалезам.

**АРДАНА́НС** (фр. ordonnance) — 1) урадавы *акт* у Францыі і некаторых іншых краінах; 2) каралеўскі ўказ у Францыі (12—18 ст. і ў перыяд Рэстаўрацыі) і ў Англіі (13—16 ст.).

**АРДО́ВІК** (лац. ordovices = назва кельцкага племені, што жыло ў Уэльсе ў часы Рымскай імперыі) — другі перыяд *палеазойскай* эры ў геалагічнай гісторыі Зямлі.

**АРДО́МЕТР** (ад лац. ardor = жар + *-метр*) — прыбор для вымярэння высокіх тэмператур.

**АРДЫНА́ЛЬНЫ** (лац. ordinalis = парадкавы) — размешчаны ў пэўным парадку, напр. а. лік у адрозненне ад *кардынальнага* ліку.

**АРДЫНА́Р** (лац. ordinarius = звычайны) — сярэдні за многа гадоў узровень вады ў рэках, затоках і асобных пунктах марскога ўзбярэжжа.

**АРДЫНА́РАЦ** (рус. ординарец, ад ням. Ordonnanz) — ваеннаслужачы пры камандзіры або пры штабе для выканання розных даручэнняў.

**АРДЫНА́РНЫ** (лац. ordinarius = звычайны) — 1) які нічым не вызначаецца, звычайны, нават пасрэдны (а. чалавек); 2) *уст.* штатны; а. п р а ф е с а р — прафесар, які кіраваў кафедрай (параўн. *экстраардынарны* 2).

**АРДЫНА́РЫЯ** (польск. ordynaria, ад лац. ordinarius = звычайны) — *уст.* частка заработку службовых асоб у маёнтку, якая выплачвалася натурай (напр. збожжам).

**АРДЫНА́Т** (польск. ordynat, ад с.-лац. ordinatus = законны нашчадак) — уладальнік родавага маёнтка *(ардынацыі)* у Рэчы Паспалітай (напр. Радзівіл — нясвіжскі а.).

**АРДЫНА́ТА** (лац. ordinatus = упарадкаваны) — *мат.* назва аднаго з двух лікаў, якія вызначаюць становішча пункта на плоскасці адносна прамавугольнай сістэмы *каардынат*.

**АРДЫНА́ТАР** (лац. ordinator = распарадчык) — 1) урач лячэбнай установы, які лечыць пад кіраўніцтвам загадчыка аддзялення; 2) урач, які праходзіць курс павышэння кваліфікацыі ў *ардынатуры*.

**АРДЫНАТУ́РА** (ад лац. ordinatus = упарадкаваны) — форма павышэння кваліфікацыі ўрачоў у вышэйшых навучальных і навуковадаследчых установах.

**АРДЫНА́ЦЫЯ** (польск. ordynacja, ад лац. ordinatio = упарадкаванне) — 1) збор прававых нормаў, якімі кіраваліся ўстановы, арганізацыі, суды ў сярэдневяковай Польшчы; 2) збор прававых нормаў, якія рэгулявалі спадчынныя правы на нерухомую маёмасць пэўных магнацкіх родаў у Рэчы Паспалітай, а таксама родавы маёнтак, што пасля смерці ўладальніка *(ардыната)* пераходзіў як непадзельны і неадчужальны да аднаго нашчадка, звычайна старэйшага сына (напр. Нясвіжская а.).

**АРДЫ́НШЧЫНА** (ад *арда*) — дзяржаўны падатак у Вялікім княстве Літоўскім у 15—16 ст., які

ішоў на выплату даніны крымскаму хану.

**АРДЭ́НЫ** (фр. Ardennes = назва ўзвышша ў Бельгіі) — парода цяжкавозаў, выведзеная ў Бельгіі.

**АР'ЕРГА́РД** (фр. arrière-garde) — частка войска, якая знаходзіцца ззаду галоўных сіл, каб у час руху абараніць іх ад нападу з тылу.

**АР'ЕРСЦЭ́НА** (ад фр. arrière = ззаду + *сцэна*) — задняя частка сцэны, якая з'яўляецца рэзервовым памяшканнем для ўстанаўлення дэкарацый.

**А́РКА** (іт. arco, ад лац. arcus = дуга) — 1) перакрыцце ў форме дугі паміж дзвюма апорамі збудавання (напр. а. моста); 2) збудаванне ў выглядзе варот з дугападобным перакрыццем.

**АРКА́ДА** (фр. arcade) — рад аднолькавых *арак*, якія апіраюцца на калоны і ўтвараюць адкрытую *галерэю* ўздоўж будынка.

**АРКА́ДЗІЯ** (гр. Arkadia = назва гарыстай вобласці ў Грэцыі, насельніцтва якой у старажытнасці займалася жывёлагадоўляй) — вобраз ідэальнай краіны «шчаслівых пастухоў» у ідылічнай паэзіі.

**АРКА́Н** (цюрк. arkan) — доўгая вяроўка з пятлёй на канцы для лоўлі жывёл.

**АРКАТУ́РА** (ням. Arkatur, фр. arcature, ад іт. arcata = аркада) — рад аднолькавых *арак* на фасадзе будынка або на сценах унутры памяшканняў.

**АРКБУТА́Н** (фр. arc-boutant) — знешняя апорная каменная *арка*, што перадае распор скляпення ад сцяны да апорнага слупа *(контрфорса)*.

**АРКЕБУ́ЗА** (фр. arquebuse) — вядомая ў 15—16 ст. у Зах. Еўропе, Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім ручная агнястрэльная зброя, якая зараджалася з дула.

**АРКЕ́СТР** (фр. orchestre, ад гр. orchestra = пляцоўка перад сцэнай для хору ў старажытнагрэчаскім тэатры) — 1) група музыкантаў, аб'яднаных для сумеснага выканання на розных інструментах музычных твораў, а таксама сукупнасць музычных інструментаў для гэтага; 2) месца ў тэатры перад сцэнай, дзе размяшчаюцца музыканты.

**АРКЕСТРА́НТ** (ад *аркестр*) — музыкант аркестра.

**АРКЕСТРО́ЎКА** (ад *аркестр*) — 1) выклад аркестравага музычнага твора ў выглядзе *партытуры*; 2) пераладжэнне для аркестра музычнага твора, напр. фартэпіяннага.

**АРКЕСТРЫЁН** (фр. orchestrion, ад гр. orchestra = пляцоўка перад сцэнай для хору ў старажытнагрэчаскім тэатры) — назва розных механічных музычных інструментаў, якія знешнім выглядам нагадваюць *арган*.

**АРККАСЕ́КАНС** (ад лац. arcus = дуга + *касеканс*) — *мат.* вугал, касеканс якога прыраўноўваецца да дадзенага ліку.

**АРККАТА́НГЕНС** (ад лац. arcus = дуга + *катангенс*) — *мат.* вугал, катангенс якога прыраўноўваецца да дадзенага ліку.

**АРККО́СІНУС** (ад лац. arcus = дуга + *косінус*) — *мат.* вугал, косінус якога прыраўноўваецца да дадзенага ліку.

# А

**АРКО́ЗЫ** (фр. arcose) — буйназярністыя пясчанікі, якія ўтварыліся ў выніку *цэментацыі* прадуктаў руйнавання гранітаў, гнейсаў — зерняў кварцу, палявога шпату, слюды.

**АРКСЕ́КАНС** (ад лац. arcus = дуга + *секанс*) — *мат.* вугал, секанс якога прыраўноўваецца да дадзенага ліку.

**АРКСІ́НУС** (ад лац. arcus = дуга + *сінус*) — *мат.* вугал, сінус якога прыраўноўваецца да дадзенага ліку.

**АРКТАГЕ́Я** (н.-лац. arctogea, ад гр. arktos = поўнач + ge = зямля) — адзін з асноўных зоагеаграфічных абшараў, які ахоплівае Галарктычную, Індамалайскую і Эфіопскую зоагеаграфічныя вобласці, што характарызуюцца агульнасцю паходжання жывёльнага свету.

**АРКТА́НГЕНС** (ад лац. arcus = дуга + *тангенс*) — *мат.* вугал, тангенс якога прыраўноўваецца да дадзенага ліку.

**АРКТО́ЗА** (н.-лац. arctosa) — павук сям. *ліказідаў*, які жыве па берагах вадаёмаў.

**АРКТО́ЦІС** (н.-лац. arctotis) — травяністая расліна сям. складанакветных з апушаным лісцем і серабрыста-белымі кветкамі, пашыраная ў Паўд. Афрыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**А́РКТЫКА** (гр. arktikos = паўночны) — паўночная палярная вобласць зямнога шара.

**АРКТЫ́ЧНЫ** (гр. arktikos) — які мае дачыненне да *Арктыкі* (напр. а. клімат, а. пояс).

**А́РКУШ** (польск. arkusz, ад лац. arcus = дуга) — 1) стандартны ліст паперы, кардону, фанеры, бляхі; 2) адзінка вымярэння аб'ёму кнігі, роўная шаснаццаці старонкам друкаванага тэксту.

**АРЛЕА́Н** (фр. orléans, ад Orléans = назва горада ў Францыі) — 1) расліна сям. арлеанавых, пашыраная ў тропіках Паўд. Амерыкі; 2) аранжавы фарбавальнік з пладоў гэтай расліны.

**АРЛЕКІ́Н** (іт. Arlecchino) — 1) традыцыйны персанаж італьянскай камедыі масак, дасціпны слуга-блазан у касцюме з рознакаляровых шматкоў і ў чорнай паўмасцы; 2) *перан.* блазан.

**АРЛЕКІНА́ДА** (іт. arlecchinata) — 1) невялікія тэатральныя сцэнкі, у якіх галоўнай дзеючай асобай з'яўляецца *арлекін*; 2) *перан.* блазенства, штукарства, камедыянцтва.

**АРЛО́Н** (англ. orlon) — тое, што і *нітрон*.

**АРМАБЕТО́Н** [ад *арма(тура)* + *бетон*] — узмоцненыя арматурай канструкцыі з бетону.

**АРМА́ДА** (ісп. armada = флот) — вялікае злучэнне ваенных караблёў або самалётаў, якія дзейнічаюць узгоднена; В я л і к а я а. — буйны ваенны флот іспанскага караля Філіпа II, накіраваны ў 1588 г. для заваявання Англіі і знішчаны англійскім флотам і штормам.

**АРМАДЗІ́Л** (ісп. armadillo = браняносец) — жывёла атрада непаўназубых, цела якой пакрыта панцырам з рагавых шчыткоў; пашырана ў Амерыцы; браняносец.

**АРМАПЛАСТАБЕТО́Н** (ад лац. armo = напаўняю + гр. plastos = вылеплены + *бетон*) — бетон, у якім вяжучымі рэчывамі з'яўляюцца некаторыя сінтэтычныя смолы.

**АРМА́ТАР** (лац. armator = узброены) — тое, што і *капер* 1.

**АРМАТО́ЛЫ** (ад іт. armato = узброены чалавек) — атрады ўнутранай аховы на службе ў турэцкага ўрада ў час знаходжання Грэцыі пад асманскім панаваннем (17—19 ст.), а ў 1821—1829 гг. — удзельнікі нацыянальна-вызваленчай рэвалюцыі.

**АРМАТУ́РА** (лац. armatura = узбраенне) — 1) сукупнасць прыбораў і прыстасаванняў для якога-н. апарата, машыны; 2) металічная аснова, каркас жалезабетоннага збудавання.

**АРМЕ́РЫЯ** (н.-лац. armeria) — травяністая расліна сям. свінчаткавых з ружовымі або белымі кветкамі, пашыраная ў халодных і ўмераных зонах; жудрэц.

**АРМІ́ЛА** (лац. armilla = бранзалет, пярсцёнак) — старажытны астранамічны інструмент для вызначэння *каардынатаў* нябесных свяцілаў.

**АРМІЛЯ́РНЫ** (ад лац. armilla = бранзалет, пярсцёнак) — *астр.* кольцападобны; а - а я с ф е - р а — тое, што і *арміла*.

**АРМІ́РАВАЦЬ** (лац. armare = умацоўваць) — умацоўваць матэрыял або часткі канструкцыі элементамі з больш трывалага матэрыялу, напр. уводзіць у бетон стальную *арматуру*, у шкло металічную сетку.

**А́РМІЯ** (фр. armée, ад лац. armatus = узброены) — 1) сукупнаць узброеных сіл дзяржавы; 2) сухапутныя ўзброеныя сілы ў адрозненне ад марскіх і паветраных; 3) злучэнне з некалькіх корпусаў або дывізій, прызначанае для вядзення ваенных аперацый (напр. танкавая а.); 4) *перан.* вялікая колькасць людзей, аб'яднаных агульнай справай (працоўная а.).

**АРМРЭ́СТЛІНГ** (англ. armwrestling, ад arm = рука + wrestling = упартая барацьба) — *сп.* від барацьбы, пераадоленне намаганняў рукі партнёра сваёй рукой (з апорай локцямі на стол).

**АРМЮ́Р** (фр. armure) — разнавіднасць перапляцення нітак у дробнаўзорыстай тканіне.

**АРМЯ́К** (тат. ärmäk) — старадаўняя сялянская верхняя адзежына з тоўстага саматканага сукна.

**А́РМІЯ** (фр. armée, ад лац. armatus = узброены) — 1) сукупнаць узброеных сіл дзяржавы; 2) сухапутныя ўзброеныя сілы ў адрозненне ад марскіх і паветраных; 3) злучэнне з некалькіх корпусаў або дывізій, прызначанае для вядзення ваенных аперацый (напр. танкавая а.); 4) *перан.* вялікая колькасць людзей, аб'яднаных агульнай справай (працоўная а.).

**АРМРЭ́СТЛІНГ** (англ. armwrestling, ад arm = рука + wrestling = упартая барацьба) — *сп.* від барацьбы, пераадоленне намаганняў рукі партнёра сваёй рукой (з апорай локцямі на стол).

**АРМЮ́Р** (фр. armure) — разнавіднасць перапляцення нітак у дробнаўзорыстай тканіне.

# А

**АРМЯ́К** (тат. ärmäk) — старадаўняя сялянская верхняя адзежына з тоўстага саматканага сукна.

**АРНАЗЕ́РЫС** (н.-лац. arnoseris) — травяністая расліна сям. складанакветных з залаціста-жоўтымі кветкамі, пашыраная ў Еўропе.

**АРНА́МЕНТ** (лац. ornamentum = упрыгожанне) — жывапісны ўзор з рытмічна размешчаных геаметрычных, раслінных і жывёльных элементаў.

**АРНАМЕНТА́ЛЬНЫ** (ад *арнамент*) — 1) які з'яўляецца арнаментам, складаецца з арнаменту (напр. а. роспіс); 2) пышны, вычварны; багаты на ўпрыгожанні (напр. а-ая проза).

**АРНАМЕНТА́ЦЫЯ** (фр. ornamentation, ад лац. ornamentum = упрыгожанне) — 1) упрыгожванне *арнаментам*; 2) тое, што і *арнаментыка*.

**АРНАМЕ́НТЫКА** (ням. Ornamentik, ад лац. ornamentum = упрыгожанне) — 1) сукупнасць элементаў *арнаменту* ў якім-н. стылі, творы мастацтва; 2) сукупнасць музычных гукаў, якія аздабляюць асноўную меладычную лінію.

**АРНА́Т** (польск. ornat, ад лац. ornatus) — рыза *ксяндза*.

**АРНА́ТУС** (лац. ornatus) — рыба атрада карпападобных, якая водзіцца ў Амазонцы і Гвіяне; на Беларусі гадуецца як акварыумная.

**АРНАЎ́ТКА** (укр. арнаутка, ад тур. arnaut = албанец) — гатунак яравой цвёрдай пшаніцы са шклопадобным белым зернем.

**АРНІ́КА** (н.-лац. arnica) — травяністая расліна сям. складанакветных з кветкамі розных колераў у суквеццях, пашыраная ў Паўн. Амерыцы і Еўразіі; купальнік.

**АРНІТА-** (гр. ornis, -ithos = птушка) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «птушка».

**АРНІТАЗУ́Х** (н.-лац. ornithosuchus) — драпежны паўзун, які жыў у *трыясе*.

**АРНІТАЛО́ГІЯ** (ад *арніта-* + *-логія*) — раздзел *заалогіі*, які вывучае птушак.

**АРНІТАМІ́М** (ад *арніта-* + гр. mimos = перайма́льнік) — бяззубы драпежны *дыназаўр* мелавога перыяду (гл. *мезазой*), які знешнім выглядам нагадваў гіганцкую птушку тыпу страуса.

**АРНІТАПО́ДЫ** (ад *арніта-* + *-поды*) — падатрад раслінаедных *дыназаўраў* мелавога перыяду, (гл. *мезазой*), для якіх быў характэрны двухногі (як у птушак) спосаб перасоўвання; тыповыя прадстаўнікі — *гадразаўр, заўралоф, ігуанадонт, псітаказаўр*.

**АРНІТАПТЭ́Р** (ад *арніта-* + *-птэр*) — лятальны апарат з махаючымі крыламі, заснаваны на прынцыпе палёту птушак.

**АРНІТАРЫ́НХУС** (ад *арніта-* + гр. rynchos = дзюба) — млекакормячае атрада аднапраходных, якое пашырана ў Паўд. Аўстраліі і на востраве Тасманія; качканос.

**АРНІТАФА́ЎНА** (ад *арніта-* + *фауна*) — сукупнасць птушак пэўнай мясцовасці або якога-н. адрэзка часу ў гісторыі Зямлі.

**АРНІТАФІЛІ́Я** (ад *арніта-* + *-філія*) — апыленне некаторых раслін, у асноўным трапічных, пры

дапамозе птушак (калібры, нектарніц і інш.); параўн. *энтамафілія*.

**АРНІТАХАРЫ́Я** (ад *арніта-* + *-харыя*) — разнос пладоў, насення і спораў птушкамі, напр. жалудоў і арэхаў сойкамі, насення рабіны, вішні, маліны драздамі.

**АРНІТО́З** (н.-лац. ornithosis, ад гр. ornis, -ithos = птушка) — вострая вірусная хвароба, якая перадаецца чалавеку ад хворых птушак і працякае з ліхаманкай, галаўнымі болямі, запаленнем лёгкіх.

**АРНІТО́ЛАГ** (ад *арніта-* + *-лаг*) — спецыяліст па *арніталогіі*.

**АРНІЦІ́Н** (ад гр. ornis, -ithos = птушка) — амінакіслата, якая выконвае ролю каталізатара ў *біясінтэзе* мачавіны ў печані.

**АРО́БА** (ісп. arroba) — мера вагі, роўная 10—15 кг, і аб'ёму, роўная 12,6—40 л, у краінах Лац. Амерыкі.

**АРО́НІЯ** (н.-лац. aronia, ад гр. aronia) — кустовая расліна сям. ружавых з белымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў Паўн. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**АРПЕ́ДЖЫО** (іт. arpeggio) — *муз.* спосаб выканання *акордаў*, пры якім тоны, што іх складаюць, бяруцца не адначасова, а па чарзе, звычайна ад ніжняга да верхняга.

**АРПЕНА́Л** (ад гр. arpe = крывы меч) — лекавы прэпарат, проціспазматычны сродак.

**АРПІНГТО́Н** (англ. Orpington = назва паселішча ў графстве Кент) — парода курэй, выведзеная ў Англіі.

**АРСЕ́ЙЛЬ** (фр. orseille = лакмусавы лішайнік) — фіялетава-чырвоны фарбавальнік для тканін, здабыты ў выніку спецыяльнай апрацоўкі лішайніка

**АРСЕ́Н** (гр. arsen = моцны) — хімічны элемент крышталічнай будовы, шэрага або металічнага колеру, атрутны; мыш'як.

**АРСЕНА́Л** (фр. arsenal, ад ар. dār-sinā'a = майстэрня зброі) — 1) установа, дзе захоўваецца зброя і ваенная амуніцыя (да канца 19 ст. займалася і вырабам зброі); 2) *перан.* вялікі запас якіх-н. сродкаў, магчымасцей (напр. а. ведаў).

**АРСЕНАПІРЫ́Т** (ад *арсен* + *пірыт*) — мінерал класа *персульфідаў* серабрыста-белага або шэрасталёвага колеру з металічным бляскам.

**АРСЕНА́ТЫ** (ад лац. arsenicum = мыш'як) — солі мыш'яковай кіслаты.

**АРСЕНІ́ДЫ** (ад лац. arsenicum = мыш'як) — злучэнні мыш'яку з металамі; выкарыстоўваюцца ў паўправадніковай тэхніцы.

**АРСЕНІ́ТЫ** (ад лац. arsenicum = мыш'як) — солі мыш'яковістых кіслот.

**АРСІ́Н** (ад *арсен*) — злучэнне мыш'яку з вадародам, бясколерны атрутны газ з пахам часнаку.

**А́РСІС** (гр. arsis = пад'ём) — *літ.* моцная частка стапы (параўн. *тэзіс* 3).

**АРТА-** (гр. orthos = прамы, правільны) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «прамы», «правільны».

**АРТАА́ТАМ** (ад *арта* + *атам*) — атам, у якім сума *спінаў* электронаў дае адзінку, напр. атам гелію ў

стане, калі спіны або двух яго электронаў накіраваны паралельна.

**АРТАГАНА́ЛЬНАСЦЬ** (ад *артаганальны*) — абагульненне паняцця перпендыкулярнасці, распаўсюджанае на розныя матэматычныя аб'екты.

**АРТАГАНА́ЛЬНЫ** (ад гр. orthogonios = прамавугольны) — *мат.* які мае прамы вугал ці прамыя вуглы (напр. а-ая праекцыя).

**АРТАГЕНЕ́З** (ад *арта-* + *-генез*) — тэорыя развіцця жывой прыроды, паводле якой эвалюцыя арганізмаў адбываецца ў строга вызначаных напрамках, без прыроднага адбору.

**АРТАГНАТЫ́ЗМ** (ад *арта-* + гр. gnathos = сківіца) — тып профілю твару, калі сківіцы не выступаюць уперад у адносінах да агульнай плоскасці аблічча.

**АРТАГНА́ТЫЯ** (ад *арта-* + гр. gnathos = сківіца) — адзін з відаў нармальнага прыкусу, пры якім верхнія пярэднія зубы перакрываюць ніжнія прыкладна на $^1/_3$ вышыні іх каронак.

**АРТАГНЕ́ЙС** (ад *арта-* + *гнейс*) — горная парода парфіравай структуры з фенакрышталямі палявых шпатаў, кварцу, біятыту і інш.

**АРТАДАКСА́ЛЬНЫ** (ад гр. orthodoksos = прававерны) — які няўхільна прытрымліваецца прынцыпаў якога-н. вучэння, светапогляду; паслядоўны (напр. а. погляд).

**АРТАДАНТЫ́Я** (ад *арта-* + гр. odus, odontos = зуб) — раздзел *стаматалогіі*, які вывучае дэфармацыю зубных радоў і прафілактыку яе лячэння.

**АРТАДО́КС** (гр. orthodoksos = прававерны) — той, хто прытрымліваецца *артадаксальных* поглядаў.

**АРТАДО́КСІЯ** (гр. orthodoksia) — нязменная прыхільнасць да якога-н. вучэння, цвёрдая паслядоўнасць у поглядах.

**АРТАДРО́МІЯ** (ад *арта-* + гр. dromos = бег, шлях) — самая кароткая лінія паміж двума пунктамі на паверхні шара.

**АРТАДЫКРА́НУМ** (н.-лац. orthodicranum) — лістасцябловы мох сям. дыкрынавых, які расце на гніючай драўніне, часам на глебе і камянях.

**АРТАКА́РПУС** (н.-лац. artocarpus) — дрэва сям. тутавых з буйнымі ядомымі супладдзямі, пашыранае ў тропіках Азіі, Палінезіі; хлебнае дрэва.

**АРТАКЛА́З** (ад *арта-* + гр. klasis = разлом) — мінерал класа *сілікатаў* белага або ружовага колеру, часам бясколерны; выкарыстоўваецца ў шклоплавільнай і керамічнай вытворчасці.

**АРТАМІКСАВІ́РУСЫ** (ад *арта* + *міксавірусы*) — група *вірусаў*, якія выклікаюць вострыя інфекцыйныя хваробы дыхальных шляхоў у чалавека і жывёл (грып, парагрып, чуму).

**АРТАНЕКТЫ́ДЫ** (н.-лац. orthonectida) — клас беспазваночных жывёл тыпу *мезазояў*, паразіты поласці цела і палавых залоз марскіх беспазваночных.

**АТРАПЕ́Д** (ад артапедыя) — спецыяліст па артапедыі.

**АРТАПЕДЫ́ЧНЫ** (ад *артапедыя*) — які мае дачыненне да артапедыі, прызначаны для лячэння дэфармацый цела або для іх кампенсацыі (напр. а. абутак).

**АРТАПЕ́ДЫЯ** (ад *арта-* + *-педыя*) — раздзел *медыцыны*, які займаецца вывучэннем, лячэннем і прафілактыкай стойкіх дэфармацый пазваночніка і канечнасцей.

**АРТАПІРАКСЕ́НЫ** (ад *арта-* + *піраксены*) — мінералы групы піраксенаў рамбічнай *сінгоніі*, зярністыя ўтварэнні зялёнага або бурага колеру.

**АРТАПІРЭ́НІЯ** (н.-лац. arthopyrenia) — накіпны сумчаты лішайнік сям. плеяспоравых, які расце на кары дуба, вольхі, ліпы, вішні, таполі.

**АРТАПТЭ́Р** (ад *арта-* + *-птэр*) — лятальны апарат з крыламі, якія пла́зам ударають па паветры; спрошчаная разнавіднасць *арнітаптэра*.

**АРТАСКАПІ́Я** (ад *арта-* + *-скапія*) — вывучэнне крышталёў у спалярызаваным лінейнапаралельным святле пры дапамозе *артаскопа*.

**АРТАСКО́П** (ад *арта-* + *-скоп*) — прыбор для даследавання крышталічных цел у спалярызаваным святле.

**АРТАСЦІ́ХА** (ад *арта-* + гр. stichos = лінія) — вертыкальная лінія, якую можна ўмоўна правесці паміж асновамі лісця або бакавых каранёў, размешчаных адзін пад адным.

**АРТАТРАПІ́ЗМ** (ад *арта-* + *трапізм*) — здольнасць бакавых органаў раслін расці паралельна напрамку раздражнення (святла, хімічнага рэчыва і інш.); параўн. *плагіятрапізм*.

**АРТАФЕРЫ́ТЫ** (ад *арта-* + *ферыты*) — ферыты рэдказямельных элементаў, якія крышталізуюцца ў структурным тыпе *пераўскіту*.

**АРТАХРАМАТЫЗА́ЦЫЯ** (ад *арта-* + гр. chroma, -atos = колер) — павелічэнне колераадчувальнасці фатаграфічнай *эмульсіі* ўвядзеннем у яе *сенсібілізатараў*, якія робяць эмульсію больш успрымальнай да зялёных і жоўтых прамянёў (параўн. *панхраматызацыя*).

**АРТАХРАМАТЫ́ЧНЫ** (ад *арта-* + *храматычны*) — які мае павышаную адчувальнасць да зялёных і жоўтых прамянёў (напр. а-ая плёнка).

**АРТАЦЭ́НТР** (ад *арта-* + *цэнтр*) — *мат.* пункт перасячэння вышынь трохвугольніка.

**АРТЗА́НД** (ням. ortsand) — разнавіднасць *артштэйну*, што ўтвараецца ў пясчаных падзолістых грунтах.

**АРТО́НІЯ** (н.-лац. arthonia) — накіпны сумчаты лішайнік сям. артоніевых, які расце на кары лісцевых дрэў.

**АРТО́ТРЫХУМ** (н.-лац. orthotrichum) — лістасцябловы мох сям. артотрыхавых, які расце на ствалах дрэў, зрэдку на камянях.

**АРТРА-** (гр. arthron = сустаў) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па значэнню слову «сустаў».

**АРТРАБО́ТРЫС** (н.-лац. arthrobotrys) — недасканалы грыб сям. маніліевых, які развіваецца ў гле-

бе, на гноі, розных арганічных рэштках.

**АРТРАГРЫПО́З** (ад *артра-* + гр. gryposa = скрыўлены) — прыроджаныя *кантрактуры* канечнасцей з абмежаваннем або адсутнасцю рухаў у суставах.

**АРТРАДЫ́РЫ** (н.-лац. arthrodira, ад гр. arthron = сустаў + deire = шыя) — падклас вымерлых панцырных рыб класа пласціністаскурых, у якіх у шыйнай вобласці злучаліся галаўны і тулаўны сегменты панцыра; жылі ў *сілуры* — *дэвоне*.

**АРТРАДЭ́З** (ад *артра-* + гр. desis = звязванне) — хірургічная аперацыя па стварэнню поўнай нерухомасці сустава, каб вярнуць страчаную апораздольнасць канечнасці.

**АРТРАДЭ́СМУС** (н.-лац. arthrodesmus) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. дэсмідыевых, некаторыя віды якой трапляюцца ў сажалках і азёрах Беларусі.

**АРТРАЛГІ́Я** (ад *артра-* + гр. algos = боль) — боль у суставах пры розных захворваннях.

**АРТРАЛО́ГІЯ** (ад *артра-* + *-логія*) — раздзел *анатоміі*, які вывучае будову суставаў.

**АРТРАПЛА́СТЫКА** (ад *артра-* + *-пластыка*) — хірургічная аперацыя, якая аднаўляе рухомасць суставаў.

**АРТРАПО́ДЫ** (ад *артра-* + *-поды*) — тып беспазваночных жывёл, у які ўваходзяць насякомыя, павукападобныя, ракападобныя, мнаганожкі; членістаногія.

**АРТРАТАМІ́Я** (ад *артра-* + *-тамія*) — хірургічная аперацыя ўскрыцця сустава.

**АРТРО́З** (н.-лац. arthrosis, ад гр. arthron = сустаў) — хранічнае захворванне суставаў, звязанае з парушэннем абмену рэчываў.

**АРТРОЗААРТРЫ́Т** (ад *артроз* + *артрыт*) — абвастрэнне хранічнага запалення суставаў пры *інфекцыі*.

**АРТРЫ́Т** (фр. arthrite, ад гр. arthron = сустаў) — запаленне суставаў інфекцыйнага паходжання.

**АРТРЫТЫ́ЗМ** (ад *артрыт*) — схільнасць да захворвання суставаў у выніку парушэння абмену рэчываў.

**АРТШТЭ́ЙН** (ням. Ortstein) — цёмна-бурая скарынка або праслойка пяску ці пясчаніку, што утвараецца ў ніжнім гарызонце некаторых падзолістых і лясных глеб; рудзяк.

**АРТЫ́КЛЬ** (фр. article, ад лац. articulus = член, раздзел) — службовае слова, якое дадаецца ў некаторых мовах да назоўніка для адрознення яго роду, пэўнасці ці няпэўнасці.

**АРТЫКО́Н** (ад гр. orthos = прамы + eikon = адлюстраванне) — тэлевізійная электронна-прамянёвая трубка для пераўтварэння светлавога адлюстравання ў электрычныя імпульсы; больш адчувальная, чым *іканаскоп*; выкарыстоўваецца пры перадачы адлюстравання тэлебачаннем пры слабой асветленасці.

**АРТЫ́КУЛ** (лац. articulus) — 1) навуковы або публіцыстычны твор невялікага памеру ў часопісе, зборніку, газеце; 2) раздзел, параграф у афіцыйным дакуменце; 3)

тып вырабу, тавару (напр. а. тканіны).

**АРТЫКУЛЯВА́ЦЬ** (фр. articuler) — *лінгв.* утвараць *артыкуляцыю*.

**АРТЫКУЛЯЦЫ́ЙНЫ** (ад *артыкуляцыя*) — які мае дачыненне да артыкуляцыі.

**АРТЫКУЛЯ́ЦЫЯ** (лац. articulatio) — 1) работа органаў маўлення (губ, языка, мяккага паднябення, галасавых звязак) пры вымаўленні гукаў; 2) спосаб выканання паслядоўнага рада гукаў пры спевах і ігры на музычных інструментах; 3) мера якасці сістэмы сувязі, прызначаная для перадачы моўных паведамленняў.

**АРТЫЛЕ́РЫЯ** (фр. artillerie) — 1) гарматы розных канструкцый і калібраў для знішчэння жывой сілы, тэхнікі і ўмацаванняў праціўніка; 2) род войск з такім узбраеннем; 3) навука пра будову артылерыйскай зброі і яе баявое прымяненне.

**АРТЫ́ЛІЯ** (н.-лац. orthilis) — вечназялёная травяністая расліна сям. грушанкавых з дробнымі белымі кветкамі ў гронках, пашыраная ў халодных і ўмераных зонах; сісінец.

**АРТЫ́СТ** (фр. artiste, ад лац. ars = мастацтва) — 1) прафесійны выканаўца ў галіне сцэнічнага мастацтва, цырка, кіно (акцёр, спявак, музыкант і інш.); 2) *перан.* вялікі ўмелец, віртуоз у якой-н. справе.

**АРТЫСТЫ́ЧНЫ** (фр. artistique) — 1) які мае адносіны да *артыста*, уласцівы яму (напр. а-ыя здольнасці, а-ая натура); 2) які вызначаецца артыстызмам, высокім майстэрствам, віртуознасцю.

**АРТЫ́Т** (ад гр. orthos = прамы) — мінерал класа *сілікатаў* бурага колеру, радыеактыўны; з'яўляецца сыравінай для атрымання рэдказямельных элементаў.

**АРТЫШО́К** (ням. Artischocke, ад ар. al-charshof) — травяністая расліна сям. складанакветных з трубчастымі, мясістымі фіялетавымі кветкамі, пашыраная ў Міжземнамор'і і на Канарскіх астравах.

**АРТЭЗІЯ́НСКІ** (фр. artesien, ад Artua = назва французскай правінцыі) — які знаходзіцца ў глыбокіх ваданосных слаях пад натуральным ціскам; а. к а л о д з е ж — калодзеж з труб, які падае глыбінную напорную ваду.

**АРТЭ́МІЯ** (н.-лац. artemia, ад гр. artema = падвеска) — рачок падкласа жабраногіх, які жыве ў салёных азёрах і ліманах, а таксама разводзіцца на рыбазаводах на корм рыбнай моладзі.

**АРТЭРЫ́Т** (ад *артэрыя*) — запаленне сценак артэрыі.

**АРТЭ́РЫЯ** (гр. arteria) — 1) крываносны сасуд, па якім кроў ад сэрца паступае ў розныя органы цела (напр. сонная а.); 2) *перан.* важны шлях зносін (транспартная а.).

**АРТЭРЫЯСКЛЕРО́З** (ад *артэрыя* + *склероз*) — хранічнае захворванне артэрый, якое характарызуецца патоўшчэннем іх сценак.

**АРТЭФА́КТ** (лац. artefactum = умела зробленае) — працэс, які ўзнікае часам пры даследаванні арганізма пад уздзеяннем на яго саміх умоў даследавання.

# А

**АРУ́Д** (літ. aruodas) — адгароджанае месца ў клеці, куды ссыпаюць збожжа, муку; засек.

**А́РФА** (польск. arfa, harfa, ад ням. Harfe) — 1) шматструнны шчыпковы інструмент у выглядзе трохвугольнай рамы; 2) сельскагаспадарчая машына для ачысткі зерня ад мякіны.

**АРФАГРА́МА** (ад гр. orthos = правільны + *-грама*) — напісанне, якое адпавядае правілам *арфаграфіі*, патрабуе прымянення гэтых правілаў.

**АРФАГРА́ФІЯ** (ад гр. orthos = правільны + *-графія*) — сістэма правілаў напісання слоў пэўнай мовы; правапіс.

**АРФАЭ́ПІЯ** (ад гр. orthos = правільны + epos = маўленне) — 1) правілы літаратурнага вымаўлення; 2) раздзел *фанетыкі*, які вывучае нормы літаратурнага вымаўлення.

**АРФЕ́Й** (гр. Orpheus = імя чароўнага музыканта і спевака ў старажытнагрэчаскай міфалогіі) — *перан.* спявак з мілагучным голасам.

**АРФЕО́Н** (фр. orpheon, ад гр. Orpheus = *Арфей*) — струнны шчыпковы клавішны музычны інструмент, разнавіднасць *клавіра* 1.

**АРФЕРЫЁН** (англ. orphereon, ад гр. Orpheus = *Арфей*) — струнны шчыпковы музычны інструмент тыпу *гітары*.

**АРФІ́ЗМ** (фр. orphisme, ад гр. Orpheus = *Арфей*) — плынь у заходнееўрапейскім жывапісе пач. 20 ст., блізкая да *кубізму* і *футурызму*.

**АРХАЗА́ЎРЫ** (ад гр. archaios = старажытны + *-заўр*) — падклас вымерлых (*тэкадонты, дыназаўры, птэразаўры*) і сучасных (*кракадзіл*) паўзуноў (*дыапсідаў*).

**АРХАІЗАВА́ЦЬ** (гр. archaizo) — пераймаць прыёмы старых пісьменнікаў, майстроў мастацтва, засвойваць іх манеру; рабіць што-н. падобным на старое.

**АРХАІЗА́ЦЫЯ** (ад гр. archaizo = наследую даўніну) — наўмыснае перайманне старых форм мастацтва.

**АРХАІ́ЗМ** (гр. archaismos) — 1) *лінгв.* слова, якое выйшла з актыўнага ўжытку, напр. перст (палец), чало (лоб); 2) застарэлая з'ява, перажытак мінулага.

**АРХА́ІКА** (гр. archaikos = стары, устарэлы) — 1) старажытнасць, старадаўнасць; 2) ранні перыяд развіцця архітэктуры і выяўленчага мастацтва Стараж. Грэцыі.

**АРХАІ́ЧНЫ** (гр. archaikos) — устарэлы, старажытны, старадаўні (напр. а-ае слова, а-ая прылада).

**АРХАЛА́КСІС** (ад гр. arche = пачатак + allaksis = змена) — разнавіднасць *філэмбрыягенезу*, пры якой змена ў развіцці органа адбываецца ў выніку ранніх эмбрыянальных адхіленняў, што накіроўваюць яго фарміраванне па новым шляху (параўн. *анабалія, дэвіяцыя* 3).

**АРХА́НГЕЛ** (гр. archangelos) — *анёл* вышэйшага рангу ў хрысціянскай *рэлігіі*.

**АРХА́НТРАПЫ** (ад гр. archaios = старажытны + *-антрап*) — самыя старажытныя выкапнёвыя людзі (*пітэкантрапы, сінантрапы* і інш.), блізкія па ўзроўню эвалюцыйнага развіцця.

**АРХА́Р** (цюрк. archar) — дзікі горны баран з вялікімі рагамі, які водзіцца ў гарах Цэнтр. Азіі.

**АРХЕА-** (гр. archaios = даўні) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па значэнню слову «старажытны».

**АРХЕАГРА́ФІЯ** (ад *археа-* + *-графія*) — навука, якая займаецца распрацоўкай пытанняў, звязаных з выданнем помнікаў пісьменнасці.

**АРХЕАЗО́ЙСКІ** (ад *археа-* + гр. zoe = жыццё); а - а я э р а — тое, што і *архей*.

**АРХЕАЛО́ГІЯ** (ад *археа-* + *-логія*) — навука, якая вывучае быт і культуру даўніх часоў па знойдзеных пры раскопках рэчавых помніках.

**АРХЕАМЕ́РЫКС** (ад *археа-* + гр. meryks = алень) — старажытнае жвачнае ростам з ягня, якое жыло ў *эацэнавую* эпоху.

**АРХЕАПТЭ́РЫКС** (н.-лац. archaeopteryx, ад гр. archaios = даўні + pteryks = крыло) — самая старажытная птушка, знойдзеная ў сланцах *юрскага* перыяду.

**АРХЕАПТЭ́РЫС** (ад *археа-* + гр. pteris = папараць) — вымерлая буйная папарацепадобная расліна, якая існавала ў *дэвоне — карбоне*.

**АРХЕАФІ́ТЫ** (ад *археа-* + *-фіты*) — віды раслін, вядомыя па археалагічных знаходках як пустазелле яшчэ з дагістарычных часоў (напр. куколь, васілёк).

**АРХЕАЦЫ́ТЫ** (ад *археа-* + *-цыты*) — 1) асобыя клетачныя элементы ў *мезаглеі* губак; 2) разнавіднасць *амебацытаў*.

**АРХЕАЦЫЯ́ТЫ** (ад *археа-* + гр. cyathos = кубак) — марскія жывёлы *кембрыйскага* перыяду з вапняковым шкілетам у выглядзе кубка, якія вялі прымацаваны спосаб жыцця і нярэдка ўтваралі *рыфы*.

**АРХЕБАКТЭ́РЫІ** (ад *архе(а)-* + *бактэрыі*) — група мікраарганізмаў з пракарыётнай арганізацыяй клетак (гл. *пракарыёты*), якая рэзка адрозніваецца некаторымі фізіёлага-біяхімічнымі ўласцівасцямі ад сапраўдных бактэрый (*эўбактэрый*).

**АРХЕГАНІЯ́ТЫ** (н.-лац. archegoniatae, ад гр. arche = пачатак + gone = нараджэнне) — група раслін, у якіх жаночым палавым органам з'яўляецца *архегоній* (мохападобныя, папарацепадобныя, голанасенныя).

**АРХЕГО́НІЙ** (ад гр. arche = пачатак + gone = нараджэнне) — жаночы палавы орган мохападобных, папарацепадобных і голанасенных раслін.

**АРХЕ́Й** (ад гр. archaios = даўні + aion = век, эпоха) — самая старажытная *эра* ў геалагічнай гісторыі Зямлі, якая распачалася больш за 3500 млн. гадоў таму назад і працягвалася 900 млн. гадоў, а таксама пласты горных парод, што ўтварыліся ў той час.

**АРХЕ́ЙСКІ** (ад *архей*); а - а я э р а — тое, што і *архей*.

**АРХЕО́ГРАФ** (ад *археа-* + *-граф*) — спецыяліст па *археаграфіі*.

**АРХЕО́ЛАГ** (ад *археа-* + *-лаг*) — спецыяліст па *археалогіі*.

**АРХЕО́РНІС** (ад гр. arche = пачатак + ornis = птушка) — разнавід-

насць *археаптэрыкса*, якую раней лічылі самастойным родам старажытных птушак.

**АРХЕСПО́РЫЙ** (ад гр. arche = пачатак + *спора*) — група клетак, з якіх развіваюцца споры ў імхоў і роўнаспоравых папарацепадобных або мікраспоры ў рознаспоравых папарацепадобных, голанасенных і пакрытанасенных раслін.

**АРХЕ́СТРА** (гр. orchestra) — акружаная амфітэатрам пляцоўка ў старажытнагрэчаскім тэатры, на якой выступалі хор і акцёры антычнай трагедыі і камедыі.

**АРХЕТЫ́П** (гр. archetypon) — 1) самы старажытны рукапіс твора, з якога зроблены наступныя копіі; 2) рэканструяваная або засведчаная моўная форма, зыходная для пазнейшых форм.

**АРХІ-** (гр. archi-, ад arche = пачатак) — прыстаўка, якая абазначае старшынства, вяршэнства або найвышэйшую ступень чаго-н.

**АРХІБІ́СКУП** (ад *архі-* + *біскуп*) — духоўнае званне ў каталікаў, сярэдняе паміж біскупам і мітрапалітам (параўн. *архіепіскап*).

**АРХІВА́РЫУС** (ням. Archivarius, ад лац. archivarius) — супрацоўнік *архіва*, хавальнік фондаў.

**АРХІВО́ЛЬТ** (іт. archivolto) — *архіт.* знешняе абрамленне пралёту *аркі*, найчасцей прафіляванае.

**АРХІДЫЯ́КАН** (гр. archidiakonos) — старшы *дыякан* пры *мітрапаліце*.

**АРХІДЭ́Я** (ад гр. orchis = ядро + eidos = выгляд) — травяністая расліна сям. архідных з духмянымі кветкамі розных колераў, пашыраная ў тропіках і субтропіках; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**АРХІЕПІ́СКАП** (гр. archiepiskopos) — духоўнае званне ў праваслаўнай царкве, сярэдняе паміж *епіскапам* і *мітрапалітам*; старшы епіскап (параўн. *архібіскуп*).

**АРХІКА́РП** (ад *архі-* + гр. karpos = плод) — жаночы палавы орган некаторых грыбоў, які складаецца з дзвюх клетак.

**АРХІКО́РТЭКС** (ад *архі-* + лац. cortex = кара) — філагенічна (гл. *філагенез*) адносна старажытная частка кары вялікіх паўшар'яў галаўнога мозга пазваночных; развіваецца ў эвалюцыі пазней за *палеакортэкс*.

**АРХІМАНДРЫ́Т** (с.-гр. archimandrites) — старшы манах, звычайна ігумен праваслаўнага манастыра.

**АРХІПЕЛА́Г** (гр. archipelagos) — група марскіх астравоў, размешчаных блізка адзін каля аднаго, якія разглядаюцца звычайна як адно цэлае.

**АРХІРЭ́Й** (гр. archiereus) — асоба, якая належыць да вышэйшых святарства *епіскап, архіепіскап, мітрапаліт, патрыярх*).

**АРХІ́Т** (ад гр. orchis = яечка) — *мед.* запаленне яечка ў чалавека і жывёл.

**АРХІТАМІ́Я** (ад гр. arche = пачатак + *-тамія*) — форма бясполага размнажэння, якая заключаецца ў расчляненні цела жывёліны на асобныя ўчасткі, або сегменты, кожны з якіх можа развівацца ў новую жывёліну.

**АРХІТРА́Ў** (фр. architrave, ад гр. arche = пачатак + лац. trabs = бэлька) — *архіт.* галоўная бэлька, ніжняя частка *антаблемента*.

**АРХІТЭКТАНІ́ЧНЫ** (гр. architektonikos) — звязаны з *архітэктонікай*.

**АРХІТЭ́КТАР** (гр. architekton) — спецыяліст у галіне *архітэктуры*.

**АРХІТЭКТО́НІКА** (гр. architektonike = будаўнічае майстэрства) — 1) *архіт.* мастацкае выяўленне заканамернасцей будовы (у суразмернасці, прапарцыянальнасці, маштабнасці і інш.), уласцівых канструкцыйнай сістэме будынка; 2) будова мастацкага твора, якая абумоўлівае суадносіны яго галоўных і другарадных элементаў (параўн. *кампазіцыя* 1); 3) агульная карціна геалагічнай будовы, асаблівасцей залягання горных парод.

**АРХІТЭКТУ́РА** (лац. architectura, ад гр. architekton = будаўнік) — 1) майстэрства праектаваць і ўзводзіць будынкі; 2) характар, стыль будынка (напр. гатычная а.).

**АРХІ́Ў** (лац. archivum, ад гр. archeion = урадавы будынак) — 1) установа, дзе захоўваюцца і сістэматызуюцца пісьмовыя помнікі мінулага, старыя дакументы; 2) аддзел установы, дзе захоўваюцца старыя дакументы, скончаныя справы і інш.; 3) збор пісем, рукапісаў, фатаграфій, якія маюць адносіны да дзейнасці якой-н. арганізацыі, установы, асобы.

**АРХІФАНЕ́МА** (ад *архі-* + *фанема*) — *лінгв.* агульнае ў гучанні парнапроціпастаўленых фанем без уліку іх уласцівасцей, на якіх заснавана *карэляцыя*.

**АРХО́НТ** (гр. archon, -ntos) — вышэйшая службовая асоба ў гарадах-дзяржавах Стараж. Грэцыі.

**АРЦЕ́ЛЬ** (рус. артель, ад цюрк. artil = рэзерв) — аб'яднанне асоб пэўнай спецыяльнасці (рамяства) для сумеснай працы з удзелам у даходах паводле дамоўленасці і агульнай адказнасцю (напр. рыбалавецкая а., сельскагаспадарчая а.).

**АРЦЫ́РЫЯ** (н.-лац. arcyria) — слізявік, які развіваецца на гнілых дрэвах, ламаччы, пад карой пнёў, на апалым лісці.

**АРША́Д** (фр. orgeat) — прахаладжальны напітак з працёртага міндалю, цукру і вады або малака.

**АРШЫ́Н** (тат. aršyn) — мера даўжыні, роўная 71,12 см, якой карысталіся на Беларусі і ў Расіі да ўвядзення метрычнай сістэмы.

**АРЫБА́Л** (гр. aryballos) — старажытнагрэчаскі туалетны сасуд для араматычных алеяў.

**АРЫБАТЫ́ДЫ** (н.-лац. oribatei) — група сямействаў кляшчоў, якія жывуць у глебе, лясным падсціле, імху; панцырныя кляшчы.

**АРЫ́БІ** (н.-лац. ourebi) — млекакормячае сям. пустарогіх, якое водзіцца ва Усх. і Паўд. Афрыцы на адкрытых месцах або ў хмызняках.

**АРЫГІНА́Л** (лац. originalis = першапачатковы) — 1) твор ці дакумент у сваёй сапраўднай, першапачатковай форме (у адрозненне ад перакладу або копіі); 2) рукапіс, з якога робіцца друкарскі набор; 3) *перан.* дзівак, чалавек своеасаблівых паводзін.

# А

**АРЫГІНА́Л-МАКЕ́Т** (ад *арыгінал* + *макет*) — надрукаваны арыгінал рукапісу для выдання, з дакладным размеркаваннем усіх элементаў, тэксту будучай кнігі.

**АРЫГІНА́ЛЬНЫ** (лац. originalis = першапачатковы) — 1) які з'яўляецца *арыгіналам*; сапраўдны, першапачатковы; 2) створаны самастойна, не запазычаны, не перакладны; 3) непадобны на іншых, самабытны, своеасаблівы.

**АРЫГІНА́ТАР** (ад лац. origo, -ginis = паходжанне, пачатак) — асоба, якая працуе над вывядзеннем новых гатункаў раслін.

**АРЫ́ДНАСЦЬ** (ад *арыдны*) — сукупнасць умоў існавання, якая выяўляецца ў недахопе вільгаці ў паветры і глебе.

**АРЫ́ДНЫ** (лац. aridus = сухі) — які мае адносіны да раёнаў зямнога шара, што характарызуюцца *арыднасцю* (звычайна пустыні і паўпустыні, а таксама некаторыя стэпы).

**АРЫДЫЗА́ЦЫЯ** (ад лац. aridus = сухі) — працэс эвалюцыі ландшафту ў бок павелічэння сухасці клімату (перавышэння патэнцыяльнага выпарэння над колькасцю ападкаў).

**АРЫЕНТАВА́ЦЬ** (фр. orienter, ад лац. oriens, -ntis = усход) — 1) даваць магчымасць вызначыць сваё месцазнаходжанне або напрамак руху (напр. а. карабель у моры); 2) *перан.* памагаць каму-н. разабрацца ў якіх-н. пытаннях (напр. а. у праблемах навукі); 3) *перан.* ставіць перад кім-н., чым-н. пэўную мэту, указваць на кірунак далейшай дзейнасці (напр. а. на выкарыстанне мясцовых рэсурсаў).

**АРЫЕНТАЛІ́ЗМ** (ад п.-лац. orientalis = усходні) — 1) захапленне Усходам, яго культурай; 2) усходні, арыентальны характар, адценне чаго-н. (напр. а. стылю).

**АРЫЕНТАЛІ́СТ** (ад п.-лац. orientalis = усходні) — спецыяліст па *арыенталістыцы*.

**АРЫЕНТАЛІ́СТЫКА** (ад п.-лац. orientalis = усходні) — усходазнаўства; сукупнасць навук, якія вывучаюць эканоміку і культуру краін Усходу.

**АРЫЕНТА́ЛЬНЫ** (польск. orientalny, ад п.-лац. orientalis) — характэрны для краін Усходу; усходні (напр. а-ыя матывы ў паэзіі).

**АРЫЕНТА́ЦЫЯ** (фр. orientation, ад лац. oriens, -ntis = усход) — 1) вызначэнне свайго месцазнаходжання; арыенціроўка (а. на мясцовасці); 2) *перан.* уменне разабрацца ў якіх-н. пытаннях, у навакольнай абстаноўцы; 3) *перан.* накіраванасць дзейнасці, якая вызначаецца інтарэсамі каго-н., чаго-н. (напр. а. на масавага чытача).

**АРЫЕНЦІ́Р** (ням. orientieren = арыентаваць, ад лац. oriens, -ntis = усход) — 1) добра бачны на мясцовасці нерухомы прадмет або элемент рэльефу, па якім можна вызначыць сваё месцазнаходжанне, знайсці пэўны аб'ект, 2) *перан.* кірунак дзейнасці, мэта, устаноўка.

**АРЫЕ́ТА** (іт. arietta) — невялікая *арыя*, якая характарызуецца прастатой будовы і песенным характарам мелодыі.

**АРЫЁЗА** (іт. ariozo) — 1) невялікая лірычная *арыя*, якая чаргуецца

з рэчытатывам; 2) вакальніцкае абазначэнне, якое паказвае на пявучы характар спеваў або ігры.

**АРЫ́ЗІЯС** (н.-лац. oryzias) — рыба атрада карпазубых, якая водзіцца ў неглыбокіх вадаёмах Японіі; на Беларусі гадуецца як акварыумная.

**АРЫ́К** (цюрк. aryk) — абвадняльная канава ў Сярэд. Азіі.

**АРЫКТАЦЭНО́З** (ад гр. oryktos = выкапнёвы + *-цэноз*) — комплекс выкапнёвых рэштак раслін і жывёл у дадзеным месцы.

**АРЫЛАВА́ЦЬ** (ад лац. arilli = араматычныя радыкалы) — тое, што і *алкілаваць*.

**АРЫЛО́ІДЫ** (ад п.-лац. arillus = мантыя) — дробныя нарасці на семені, якія змяшчаюць масляністыя рэчывы, што садзейнічаюць распаўсюджанню насення мурашкамі.

**АРЫ́ЛУС** (п.-лац. arillus = мантыя) — нарасць, якая развіваецца вакол семені і садзейнічае распаўсюджанню насення птушкамі.

**АРЫ́ЛЫ** (с.-лац. arilli) — *хім.* аднавалентныя рэшткі *араматычных* вугляводаў.

**АРЫНЬЯ́К** (фр. Aurignac = назва пячоры ў Францыі) — археалагічная культура верхняга *палеаліту* на тэрыторыі шэрагу краін Еўропы, у Палесціне, Іране і Афганістане.

**АРЫСТАГЕНЕ́З** (ад гр. aristos = найменшы + *-генез*) — аўтагенетычная канцэпцыя (гл. *аўтагенез*), паводле якой новыя прыметы арганізмаў з'яўляюцца ў выніку ўнутраных змен спадчынных рэчываў.

**АРЫСТАКРА́Т** (ад *арыстакратыя*) — асоба, якая належыць да арыстакратыі.

**АРЫСТАКРАТЫ́ЗМ** (ад *арыстакратыя*) — манера паводзін, знешняя вытанчанасць, характэрныя арыстакратам.

**АРЫСТАКРАТЫ́ЧНЫ** (гр. aristokratikos) — 1) які мае адносіны да *арыстакратыі*; 2) уласцівы *арыстакрату*, вытанчаны (напр. а-ыя манеры).

**АРЫСТАКРА́ТЫЯ** (гр. aristokratia) — 1) вышэйшае саслоўе пануючага класа, дваранства, радавітая знаць; 2) *перан.* прывілеяваная частка якой-н. сацыяльнай групы (напр. фінансавая а.).

**АРЫСТЫ́ДА** (н.-лац. aristida) — расліна сям. злакавых, пашыраная пераважна ў пустынях і паўпустынях.

**АРЫТМІ́ЧНЫ** (гр. arrythmos) — з парушаным *рытмам*, нерытмічны.

**АРЫТМІ́Я** (гр. arrythmia) — парушэнне нармальнага *рытму* сардэчных скарачэнняў.

**АРЫФЛА́МА** (фр. oriflamme, ад лац. aurum = золата + flamma = полымя) — 1) каралеўскі сцяг у сярэдневяковай Францыі; 2) вялікі сцяг, падвешаны ўпоперак вуліцы паміж будынкамі.

**АРЫФМАМАРФО́З** (ад гр. ariphmos = лік + *-марфоз*) — тып эвалюцыйных ператварэнняў арганізмаў, якія заключаецца ў змене колькасці аднародных органаў, напр. колькасці прамянёў у плаўніках некаторых рыб.

**АРЫФМЕ́ТЫКА** (гр. arithmetike) — раздзел *матэматыкі*, які

займаецца вывучэннем працэйпых уласцівасцей лікаў і дзеянняў над імі.

**АРЫФМО́ГРАФ** (ад гр. arithmos = лік + *-граф*) — лічыльная машына для механічнага выканання арыфметычных дзеянняў з аўтаматычным запісам вылічэнняў.

**АРЫФМО́МЕТР** (ад гр. arithmos = лік + *-метр*) — настольная лічыльная машына для механічнага выканання чатырох арыфметычных дзеянняў.

**А́РЫШТ** (польск. areszt, ад с.-лац. arrestum) — 1) узяцце пад варту, пазбаўленне волі; 2) забарона карыстацца якой-н. маёмасцю паводле рашэння судовых органаў.

**АРЫШТАВА́ЦЬ** (польск. aresztować, ад с.-лац. arrestare) — 1) узяць пад варту, пазбавіць волі; 2) забараніць распараджацца чым-н. паводле рашэння судовых органаў (а. маёмасць).

**А́РЫЯ** (іт. aria = песня) — вакальны твор для голаса ў суправаджэнні аркестра (звычайна частка *оперы, араторыі* ці *кантаты*).

**АРЫЯНІ́ДЫ** (ад. гр. Orion = назва сузор'я ў экватарыяльнай частцы неба) — паток метэораў, *радыянт* якога знаходзіцца ў сузор'і Арыёна.

**АРЫЯ́НІН** (п.-лац. Arianus, ад Arius = імя святара з Александрыі) — прыхільнік *арыянства*.

**АРЫЯ́НСТВА** (ад *арыянін*) — плынь у хрысціянстве, заснаваная ў 4 ст. святаром Арыем з Александрыі; аспрэчвала афіцыйнае вучэнне царквы пра адзіную сутнасць тройцы.

**АРЭАГРА́ФІЯ** (ад гр. Ares = імя бога вайны ў старажытнагрэчаскай міфалогіі + *-графія*) — раздзел планетнай *астраноміі*, які вывучае і апісвае паверхню Марса.

**АРЭА́ДЫ** (гр. Oreiades) — *німфы* гор у антычнай міфалогіі.

**АРЭА́Л** (лац. area = плошча, прастора) — 1) прыродная зона распаўсюджання пэўнага віду раслін, жывёл; 2) вобласць распаўсюджання якой-н. з'явы, карысных выкапняў і г.д. (напр. а. еўрапеоіднай расы, лінгвістычны а.).

**АРЭАЛО́ГІЯ**[1] (ад *арэал*) — раздзел *біягеаграфіі*, які даследуе арэалы асобных *таксонаў* жывых арганізмаў.

**АРЭАЛО́ГІЯ**[2] (ад гр. Ares = імя бога вайны ў старажытнагрэчаскай міфалогіі + *-логія*) — раздзел *планеталогіі*, які вывучае планету Марс.

**АРЭАПА́Г** (ад гр. Areios pagos = узгорак бога вайны Арэса ў Афінах) — 1) вышэйшы судова-палітычны орган у Стараж. Афінах; 2) *перан.* сход аўтарытэтных асоб для вырашэння якіх-н. пытанняў.

**АРЭ́КА** (парт. areka, ад малайск. areca) — *пальма* з буйным перыстым лісцем, пашыраная ў тропіках Азіі; змяшчае ў насенні *алкалоіды*, што дазваляе выкарыстоўваць яго як дамешку да *бетэлю*.

**АРЭ́НА** (лац. arena = пясок) — 1) пакрытая пяском пляцоўка ў цэнтры старажытнарымскага *амфітэатра*, на якой адбываліся баі *гладыятараў*, конныя спаборніцтвы і інш.; 2) круглая пляцоўка ў цырку для выступленняў; 3) *перан.* поле

дзейнасці (напр. літаратурная а., палітычная а.).

**АРЭНАВІ́РУСЫ** (ад лац. arena = пясок + *вірусы*) — група вірусаў жывёл і чалавека, якія маюць тонкія *гранулы*, падобныя да пясчынак, і агульны *антыген*.

**АРЭНАЛІХЕ́НЫ** (ад лац. arena = пясок + гр. leichen = лішайнік) — лішайнікі, якія пасяляюцца пераважна на беднай пясчанай глебе; прадстаўлены родамі *карнікулярыя, кладзіна, кладонія, стэрэакаўлан, цэтрарыя.*

**АРЭНАТАКІ́Я** (ад гр. arren = мужчынскі + tokos = патомства) — разнавіднасць *партэнагенезу*, калі ў патомстве з'яўляюцца толькі самцы.

**АРЭ́НГА** (н.-лац. arenga, ад малайск. arenga) — *пальма* з кронай перыстага лісця, пашыраная ў тропіках Азіі і Аўстраліі; дае сок, што змяшчае многа цукру.

**АРЭ́НДА** (польск. arenda, ад с.-лац. arenda) — 1) наём маёмасці (зямлі, памяшкання і інш.) за пэўную плату на пэўны тэрмін; 2) плата за карыстанне такой маёмасцю.

**АРЭО́Л** (фр. auréole, ад лац. aureolus — пазалочаны) — 1) светлы круг, ззянне вакол сонца, зорак і іншых яркіх прадметаў; 2) німб вакол галавы чалавека як сімвал святасці ў рэлігійным мастацтве; 3) зона паблізу радовішчаў, дзе назіраецца павышаная колькасць рудаўтваральных элементаў або іх спадарожнікаў; 4) *перан.* атмасфера славы, павагі, якая акружае каго-н.

**АРЭО́ЛА** (лац. areola = невялікі пляц) — невялікі афарбаваны кружок вакол груднога саска, язвы і інш.

**АРЭО́МЕТР** (ад гр. araios = рэдкі + *-метр*) — прыбор для вызначэння шчыльнасці вадкасці.

**АРЭФЛЕ́КСІЯ** (ад *а-* + *рэфлексія*) — адсутнасць *рэфлексаў*.

**АРЭЦІ́Р** (фр. arrêter = спыняць) — прыстасаванне ў дакладным вымяральным прыборы для зберажэння яго ад пашкоджанняў у той час, калі прыборам не карыстаюцца.

**АС**$^1$ (фр. as = майстар сваёй справы) — 1) лётчык, які валодае лётным і баявым майстэрствам; 2) *перан.* дасканалы майстар сваёй справы.

**АС**$^2$ (лац. as) — старажытнарымская дробная медная манета, роўная $^1/_{10}$ *дынарыя*.

**АСАМБЛЕ́Я** (фр. assemblée = сход) — агульны сход якой-н. міжнароднай арганізацыі дыпламатычнага, палітычнага і навуковага характару.

**АСАМБЛЯ́Ж** (фр. assemblage) — змешванне вінаматэрыялаў, прыгатаваных з вінаграду, для паляпшэння якасці будучых він.

**АСАНА́НС** (фр. assonance) — паэтычны прыём, заснаваны на супадзенні націскных галосных гукаў у недакладных рыфмах.

**АСАНАРЫЗА́ЦЫЯ** (ад *а-* + лац. sonor, -oris = гук) — меры па змяншэнню шуму або забеспячэнню памяшкання абаронай ад знешняга шуму.

**АСА́ННА** (гр. hosanna, ад ст.-яўр. hōszi' ānnā) — хвалебны вокліч у хрысціянскім і іудзейскім богаслужэнні; с п я в а ц ь   а с а н н у — залішне ўсхваляць.

# А

**АСАРСО́Л** (ад гр. oksys = кіслы + лац. ars = мыш'як + *-ол*) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваюць пры лячэнні сіфілісу, амёбнай дызентэрыі і іншых хвароб.

**АСАРТЫМЕ́НТ** (фр. assortiment) — 1) падбор розных відаў тавараў у магазіне або вырабаў на вытворчым прадпрыемстве; 2) падбор аднародных прадметаў розных сартоў (напр. а. ручак).

**АСАРЦІ́** (фр. assorti = добра падабраны) — спецыяльна падабраная сумесь чаго-н., пераважна аднароднага.

**АСАФЕТЫ́ДА** (лац. asa foetida, ад перс. aza = смала + лац. foetida = смярдзючая) — смалістае рэчыва з рэзкім часночным пахам, якое здабываюць з сярэднеазіяцкай расліны ферулы асафетыды; выкарыстоўваецца ў медыцыне.

**АСАЦЫІ́РАВАЦЬ** (рус. ассоциировать, ад лац. associare = далучаць) — устанаўліваць *асацыяцыю* 3.

**АСАЦЫЯ́ЛЬНЫ** (ад *а-* + *сацыяльны*) — процігрaмадскі, неграмадскі.

**АСАЦЫЯНІ́ЗМ** (ад *асацыяцыя*) — адзін з асноўных кірункаў у *псіхалогіі* 17—19 ст., які зводзіў псіхічныя працэсы, найперш. мысленне, да асацыяцыі ўяўленняў.

**АСАЦЫЯТЫ́ЎНЫ** (ад лац. associare = далучаць) — заснаваны на сувязі, калі ідэя, уяўленне ўзнікае ў памяці дзякуючы падабенству, сумежнасці або процілегласці з іншай ідэяй, уяўленнем.

**АСАЦЫЯ́ЦЫЯ** (с.-лац. associatio = злучэнне) — 1) аб'яднанне асоб, арганізацый, устаноў, прадпрыемстваў аднаго роду дзейнасці (напр. а. медыцынскіх работнікаў); 2) група, спалучэнне, злучэнне чаго-н. (напр. а. малекул, зорная а.); 3) сувязь ідэй, уяўленняў, пры якой адно выклікае ў свядомасці другое дзякуючы іх падабенству, сумежнасці або процілегласці (проціл. *дысацыяцыя* 2).

**АСДЫ́К** (англ. asdic) — гідралакацыйны прыбор для вызначэння месцазнаходжання падводных аб'ектаў.

**АСЕІ́Н** (ад лац. osseus = касцяны) — арганічнае рэчыва касцей і храсткоў.

**АСЕЙСМІ́ЧНЫ** (ад *а-* + *сейсмічны*) — які не паддаецца дзеянню землетрасенняў; а-ая вобласць — тэрыторыя зямнога шара, дзе не бывае землетрасенняў або яны праяўляюцца слаба.

**АСЕКСУА́ЛЬНАСЦЬ** (ад *а-* + *сексуальны*) — 1) адсутнасць палавых прымет; 2) адсутнасць палавой цягі.

**АСЕКТА́ТАРЫ** (лац. assectator = пастаянны спадарожнік) — віды раслін, якія часта прысутнічаюць у *фітацэнозе*, але *дамінантамі* не з'яўляюцца.

**АСЕ́МБЛЕР** (англ. assembler) — агульнапрынятая назва *транслятара з аўтакода*.

**АСЕНІЗА́ЦЫЯ** (ням. Assänisation, ад фр. sain = здаровы) — санітарныя мерапрыемствы па ачышчэнню мясцовасці ад нечыстотаў і адкідаў.

**АСЕ́ПТЫКА** (ад *а-* + гр. septikos = гніласны) — сукупнасць прафілактычных метадаў і прыёмаў, накіраваных на стварэнне безмікроб-

ных умоў каб пазбегнуць заражэння ран (параўн. *антысептыка*).

**АСЕРТАРЫ́ЧНЫ** (лац. assertorius) — сцвярджальны; а - а е с у д ж э н н е — суджэнне, у якім толькі канстатуецца факт, але не выражаецца яго лагічная неабходнасць.

**АСІГНАВА́ЦЬ** (лац. assignare = вызначаць) — выдзяляць грашовыя сродкі на якія-н. патрэбы.

**АСІГНА́ТЫ** (фр. assignats, ад лац. assignare = вызначаць) — папяровыя грошы, выпушчаныя ў Францыі ў час Французскай рэвалюцыі 1789—1794 г.

**АСІГНА́ЦЫЯ** (лац. assignatio = прызначэнне) — папяровы грашовы знак.

**АСІ́ЗЫ** (ад п.-лац. assisae = пасяджэнні) — 1) пасяджэнне каралеўскай рады, а таксама пастановы і распараджэнні караля ў сярэдневяковай Англіі; 2) распараджэнні ўладарных сеньёраў у сярэдневяковай Францыі; 3) выязныя судовыя сесіі ў сучасных Англіі і Францыі.

**АСІМЕТРЫ́ЧНЫ** (ад *асіметрыя*) — несіметрычны, нераўнамерны, непрапарцыянальны.

**АСІМЕТРЫ́Я** (гр. asymmetria) — адсутнасць або парушэнне *сіметрыі*.

**АСІМІЛЯВА́ЦЬ** (лац. assimilare) — 1) прыпадабняць сабе; 2) засвойваць (напр. а. вуглярод паветра).

**АСІМІЛЯ́ТАР** (ад *асіміляцыя*) — 1) той, хто праводзіць асіміляцыю, прымусова навязвае народу чужую мову, культуру; 2) арганізм або частка арганізма, якая *асімілюе* пажыўныя рэчывы.

**АСІМІЛЯ́ЦЫЯ** (лац. assimilatio) — 1) зліццё аднаго народа з другім у выніку засваення ім чужой мовы і культуры і паступовай страты самабытнасці; 2) засваенне раслліннымі і жывёльнымі арганізмамі неабходных для іх развіцця пажыўных рэчываў (параўн. *дысіміляцыя* 1); 3) прыпадабненне гукаў пры вымаўленні (напр. «шшытак» пры напісанні «сшытак»).

**АСІМПТАТЫ́ЧНЫ** (ад *асімптота*) — *мат.* які неабмежавана набліжаецца.

**АСІМПТО́ТА** (гр. asymptotos = які не супадае) — *мат.* прамая, да якой неабмежавана набліжаюцца пункты пэўнай крывой па меры таго, як яны аддаляюцца ў бясконцасць.

**АСІМПТО́ТЫКА** (ад *асімптота*) — *мат.* паводзіны *функцыі* 4 у асобных пунктах, найчасцей пры імкненні *аргумента* 2 або функцыі ў бясконцасць.

**АСІНДЭТО́Н** (гр. asyndeton = бяззлучнікавасць) — стылістычны прыём, пры якім апускаюцца злучнікі паміж граматычна аднароднымі словамі і сказамі, каб надаць выказванню большую выразнасць, сцісласць.

**АСІНЕРГІ́Я** (ад *а-* + гр. synergia = узаемадзеянне) — страта здольнасці аб'ядноўваць асобныя рухі ў складаны рухальны акт (назіраецца пры захворванні мазжачка).

**АСІНХРО́ННЫ** (ад *а-* + *сінхронны*) — не адначасовы, які не супадае ў часе; а. э л е к т р а р у х а в і к — электрарухавік пераменнага току з рознымі частотамі

вярчэння ротара і магнітнага поля статара.

**АСІРЫЯЛО́ГІЯ** (ад н.-лац. Asyria = назва старажытнай дзяржавы ў Пярэдняй Азіі + *-логія*) — навука, якая вывучае гісторыю, літаратуру, мову і пісьменнасць старажытных народаў Месапатаміі — Асірыі і Вавілоніі.

**АСІСТАЛІ́Я** (ад *а-* + гр. systole = скарачэнне) — рэзкае паслабленне скарачэнняў сардэчнай мышцы, якое выклікае разлад дзейнасці сэрца.

**АСІСТЭ́НТ** (лац. assistens, -ntis = прысутны, памагаты) — 1) асоба, якая дапамагае спецыялісту пры выкананні асноўнай работы, напр. памочнік урача пры аперацыі, прафесара ў час чытання лекцыі і інш.; 2) асоба, якая займае малодшую выкладчыцкую пасаду ў вышэйшай навучальнай установе.

**АСІСЦІ́РАВАЦЬ** (лац. assistere) — быць памочнікам пры спецыялісце, выконваць абавязкі *асістэнта* 1.

**АСІФІКА́ЦЫЯ** (ад лац. os, ossis = косць + *-фікацыя*) — акасцяненне.

**АСК** (гр. askos = сумка) — орган размнажэння ў *аскаміцэтаў* у выглядзе сумкі.

**АСКАБО́Л** (н.-лац. ascobolus) — сумчаты грыб сям. аскаболавых, які развіваецца пераважна на конскім гноі.

**АСКАДЭ́СМ** (н.-лац. ascodesmis) — сумчаты грыб сям. аскаболавых, які развіваецца на *экскрэментах* жывёл.

**АСКАМІЦЭ́ТЫ** (н.-лац. ascomycetes, ад гр. askos = сумка + mykes, -etos = грыб) — клас вышэйшых грыбоў, для якога характэрна размнажэнне *спорамі*, што развіваюцца ў *асках*; пашыраны па ўсім зямным шары; пераважна *сапратрофы*, многія — *паразіты* раслін, жывёл і чалавека; сумчатыя грыбы.

**АСКАРБІ́НАВЫ** (ад *а-* + с.-лац. scorbutus = цынга) — звязаны з вітамінам С, нястача якога ў ежы выклікае цынгу (напр. а-ая кіслата).

**АСКАРБІНА́ЗА** (ад *а-* + с.-лац. scorbutus = цынга) — *фермент*, які паскарае акісленне *аскарбінавай* кіслаты (змяшчаецца ў раслінах).

**АСКАРБІНАМЕ́ТРЫЯ** [ад *аскарбін(авы)* + *-метрыя*] — метад колькаснага аналізу, пры якім асноўным *рэагентам* з'яўляецца цітраваны раствор аскарбінавай кіслаты.

**АСКАРЫДО́З** (гр. askaris, -idos = кішачны чарвяк) — глiснае захворванне, выклiканае паразітаваннем у арганізме *аскарыдаў*.

**АСКАРЫ́ДЫ** (н.-лац. ascaridae, ад гр. askarides) — сямейства *гельмінтаў* класа *нематодаў*, паразітуюць у кішэчніку млекакормячых і чалавека.

**АСКАСПО́РА** (н.-лац. ascospora) — сумчаты грыб сям. мучністарасяных, які развіваецца на лісці вішні, слівы, сцёблах бабовых.

**АСКАСФЕ́РА** (н.-лац. ascosphaera) — сумчаты грыб сям. аскасферавых, які паразітуе на лічынках меданоснай пчалы.

**АСКАФА́Н** (н.-лац. ascophanus) — сумчаты грыб сям. аскаболавых, які развіваецца на *субстратах*, багатых перагноем.

**АСКАХІ́ТА** (н.-лац. ascochyta) — недасканалы грыб сям. шаравідкавых, які развіваецца на раслінах сям. бабовых, складанакветных, ружавых, паслёнавых, злакавых, гарбузовых.

**АСКАХІТО́ЗЫ** (ад *аскахіта*) — хваробы раслін, асабліва сям. бабовых, складанакветных, ружавых, паслёнавых, злакавых, гарбузовых, якія выклікае аскахіта.

**АСКЕ́ЗА** (гр. askesis = спосаб жыцця) —спосаб жыцця, які адпавядае патрабаванням *аскетызму* 1.

**АСКЕ́Р** (тур. asker, ад ар. askar = салдат) — турэцкі салдат.

**АСКЕ́Т** (гр. asketes) — 1) рэлігійны падзвіжнік, які знясільвае сябе постам і доўгай малітвай; 2) *перан.* чалавек, які адмаўляецца ад жыццёвых задавальненняў, абмяжоўваецца самым неабходным і вядзе строгі спосаб жыцця.

**АСКЕТЫ́ЗМ** (ад *аскет)* — 1) рэлігійна-этычнае вучэнне, якое прапаведуе падаўленне патрэб чалавека і «ўсмерчванне плоці» для дасягнення маральнай дасканаласці; 2) *перан.* крайняе ўстрыманне, адказ ад жыццёвых даброт.

**АСМАНІ́ЗМ** (ад *асманы*) — шавіністычная ідэалогія і палітычная дактрына турэцкай буржуазіі, якая была накіравана на ператварэнне ўсіх нацыянальнасцей Асманскай імперыі ў адзіную «асманскую нацыю».

**АСМА́НТУС** (н.-лац. osmanthus) — вечназялёная кустовая расліна сям. маслінавых са скурыстым лісцем, пашыраная ў Азіі і Паўн. Амерыцы.

**АСМА́НЫ** [ад тур. Osman (Othman) = імя султана, заснавальніка Асманскай імперыі] — старая назва туркаў.

**АСМАПО́Р** (н.-лац. osmoporus) — губавы *базідыяльны* грыб сям. паліпоравых, які расце на мёртвай драўніне хвойных парод.

**АСМАТА́КСІС** (ад *осмас* + *таксіс*) — перамяшчэнні рухомых аднаклетачных арганізмаў (водарасцяў, прасцейшых) або клетак (*спораў, гамет*) у бок аптымальнага *асматычнага* ціску асяроддзя.

**АСМАТЫ́ЧНЫ** (ад гр. osmos = штуршок, ціснение) — які мае адносіны да *осмасу;* а. ціск — ціск раствору, які перашкаджае пранікненню ў яго растваральніка праз тонкую перапонку, што пакрывае раствор.

**АСМАФО́РЫ** (ад гр. osme = пах + *-фор*) — асобыя залозы ў раслінных кветках, якія выдаюць пах.

**АСМО́МЕТР** (ад *осмас* + *-метр*) — прыбор для вымярэння *асматычнага ціску*.

**АСО́** (фр. assaut = штурм) — трэніровачны бой двух спартсменаў у боксе і фехтаванні.

**АСПАРАГІ́Н** (ад гр. asparagos = спаржа) — арганічнае азоцістае злучэнне, атрыманае ўпершыню са *спаржы*, якое нейтралізуе аміяк, што ўтвараецца ў арганізме пры пераўтварэнні бялкоў.

**АСПАРАГІ́НАВЫ** (ад гр. asparagos = спаржа) — які ўяўляе сабой амінакіслату, што ўваходзіць у склад бялкоў.

**АСПАРА́ГУС** (лац. asparagus, ад гр. asparagos) — тое, што і *спаржа*.

# А

**АСПЕ́КТ** (лац. aspectus = погляд) — 1) пункт погляду, з якога ацэньваецца з'ява, паняцце; 2) знешні выгляд расліннага згуртавання ў залежнасці ад складу раслін і часу года.

**АСПЕРГІ́Л** (н.-лац. aspergillus) — недасканалы грыб сям. маніліевых, які развіваецца ў глебе, на розных субстратах, асабліва на раслінных прадуктах; выкарыстоўваецца для атрымання лімоннай кіслаты, ферментаў, антыбіётыкаў.

**АСПЕРГІЛАТАКСІКО́З** (ад *аспергіл* + *таксікоз*) — атручванне жывёл кормам, пашкоджаным аспергілам.

**АСПЕРГІЛЁЗ** (ад *аспергіл*) — хранічная інфекцыйная хвароба жывёл і чалавека, якая выклікаецца аспергілам.

**АСПЕРМАТЫ́ЗМ** (ад *а-* + *сперма*) — адсутнасць семявывяржэння ў час палавога акта пры захаванні нармальнага семяўтварэння, палавой цягі і *эрэкцыі*.

**АСПЕРМІ́Я** (ад гр. aspermos = пазбаўлены насення) — адсутнасць *сперматазоідаў* у семявай вадкасці.

**А́СПІД**[1] (гр. aspis, -idos) — 1) від ядавітай трапічнай змяі; 2) *перан.* злы, вераломны чалавек.

**А́СПІД**[2] (гр. iaspis, -idos) — слаісты мінерал чорнага колеру, шчыльная разнавіднасць сланцу.

**АСПІДАГАСТРА́ТЫ** (н.-лац. aspidogastrata) — падклас *трэматодаў*, паразіты малюскаў, рыб, паўзуноў.

**АСПІДАГАСТРЫ́ДЫ** (н.-лац. aspidogastridae) — сямейства *гельмінтаў* класа *трэматодаў;* паразіты рыб, малюскаў.

**АСПІДАГАСТРЭ́І** (н.-лац. aspidogastraea) — клас плоскіх чарвей; паразіты малюскаў, рыб, паўзуноў.

**А́СПІДНЫ** (ад гр. iaspis, -idos = яшма) — зроблены з *аспіду*[2]; а. с л а н е ц — тое, што і аспід[2].

**АСПІДЫ́СТРА** (н.-лац. aspidistra) — травяністая расліна сям. лілейных з шырокім лісцем, пашыраная ў Японіі, Кітаі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**АСПІ́ДЫУМ** (н.-лац. aspidium, ад гр. aspidion = маленькі шчыт) — назва некаторых папарацей.

**АСПІРА́НТ** (лац. aspirans, -ntis = які дамагаецца, імкнецца, шукае) — асоба, якая вучыцца ў *аспірантуры.*

**АСПІРАНТУ́РА** (ад *аспірант*) — 1) форма падрыхтоўкі пры вышэйшых навучальных установах або навукова-даследчых установах выкладчыцкіх і навуковых кадраў; 2) час вучобы аспіранта.

**АСПІРА́ТА** (н.-лац. aspiratus = прыдыхальны) — *лінгв.* прыдыхальны зычны гук.

**АСПІРА́ТАР** (ад лац. aspirare = дзьмуць; выдыхаць) — 1) прыбор, з дапамогай якога бяруць пробы паветра, газу, каб вызначыць іх хімічны састаў, запыленасць і інш.; 2) апарат для *аспірацыі* 1; 3) прыбор для *аспірацыі* 2.

**АСПІРА́ЦЫЯ** (лац. aspiratio = дыханне) — 1) абяспыльванне вытворчых памяшканняў шляхам высысання пылу; 2) высысанне вадкасці або паветра з якой-н. хворай поласці цела.

**АСПІРЫ́Н** (фр. aspirine) — тое, што і *ацэтылсаліцылавая кіслата* (гл. *ацэтылсаліцылавы*).

**АСПІЦЫ́ЛІЯ** (н.-лац. aspicilia) — накіпны сумчаты лішайнік сям. аспіцыліевых, які расце на скалістых камяністых пародах, гранітных валунах, кары дрэў.

**АСТАГЕНІ́Я** (ад гр. astos = гараджанін + *-генія*) — *біял.* развіццё *калоніі* 5 шляхам пачкавання.

**АСТАЗІ́РАВАЦЬ** (ад *а-* + гр. stasis = стан) — аслабляць уплыў зямнога *магнетызму* на магнітную стрэлку вымяральнага прыбора.

**АСТА́ЗІЯ** (н.-лац. astasia, ад гр. astasia = няўстойлівасць) — 1) страта здольнасці стаяць, пераважна ў выніку захворвання нервовай сістэмы (*істэрыі* 1); 2) аднаклетачная водарасць сям. эўгленавых, якая пашырана ў паверхневых слаях глею і неглыбокіх вадаёмах.

**АСТА́Т** (н.-лац. astatium, ад гр. astatos = няўстойлівы) — радыеактыўны хімічны элемент, які адносіцца да *галагенаў*.

**АСТАТЫ́ЗМ** (ад гр. astatos = няўстойлівы) — уласцівасць сістэмы аўтаматычнага кіравання даводзіць памылку рэгулявання да нуля пры пастаянным знешнім уздзеянні на дадзеную сістэму.

**АСТАТЫ́ЧНЫ** (ад гр. astatos) — неспакойны, няўстойлівы; а. р э г у л я т а р — аўтаматычны *рэгулятар*, які падтрымлівае адно і тое ж значэнне дадзенай велічыні пры любой велічыні знешняга ўздзеяння на сістэму рэгулявання.

**АСТАЦІ́Н** (н.-лац. astatinum, ад гр. astatos = няўстойлівы) — тое, што і *астат*.

**А́СТМА** (гр. asthma) — прыступы задышкі пры захворванні сэрца або лёгкіх (напр. бранхіяльная а.).

**АСТМАТО́Л** [ад гр. asthmat(ikos) = астматычны + *-ол*] — лекавы *прэпарат*, курыльны парашок, які выкарыстоўваецца пры бранхіяльная *астме*.

**АСТМА́ТЫК** (гр. asthmatikos = астматычны) — хворы на *астму*.

**АСТМАТЫ́ЧНЫ** (гр. asthmatikos) — які мае адносіны да *астмы* (напр. а. бранхіт).

**А́СТРА** (гр. astron = зорка) — травяністая расліна сям. складанакветных з буйнымі кветкамі розных колераў, пашыраная ў Еўразіі і Паўн. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная, лекавая, меданосная.

**АСТРА-** (гр. astron = зорка) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «зорка», «зорны».

**АСТРААРЫЕНТА́ЦЫЯ** (ад *астра-* + *арыентацыя*) — арыентацыя лятальнага апарата па зорках.

**АСТРАБАТА́НІКА** (ад *астра-* + *батаніка*) — раздзел *астрабіялогіі*, які вывучае ўмовы існавання раслліннасці на іншых планетах.

**АСТРАБІЯЛО́ГІЯ** (ад *астра-* + *біялогія*) — навука, якая даследуе праблемы існавання жыцця ў Сусвеце; касмічная біялогія.

**АСТРАБЛЕ́МА** (ад *астра-* + гр. blema = рана) — геалагічная структура старажытнага метэарытнага кратэра на паверхні Зямлі.

**АСТРАГА́Л** (н.-лац. astragalus, ад гр. astragalos) — 1) травяністая расліна сям. бабовых з перыстаскладаным лісцем, пашыраная ва

ўмераных і субтрапічных зонах; 2) дэталь у класічнай архітэктуры ў форме валіка, якая з'ядноўвае калону з *капітэллю*.

**АСТРАГЕАГРА́ФІЯ** (ад *астра-* + *геаграфія*) — навука, якая даследуе прыродныя ўмовы планет Сонечнай сістэмы.

**АСТРАГЕАЛО́ГІЯ** (ад *астра-* + *геалогія*) — раздзел геалогіі, які займаецца вывучэннем будовы планет.

**АСТРАГЛІ́Я** (ад *астра-* + гр. glia = клей) — нервовая тканка, форма *макрагліі*; мае клеткі з тонкімі, радыяльна размешчанымі шматлікімі адросткамі.

**АСТРАГНО́ЗІЯ** (ад *астра-* + *-гнозія*) — веданне зорнага неба, уменне пазнаваць на небе зоркі і сузор'і.

**АСТРАДЫНА́МІКА** (ад *астра-* + *дынаміка*) — навука, якая вывучае рух нябесных целаў пад уплывам сіл, што на іх уздзейнічаюць.

**АСТРАКАДЭ́РМЫ** (н.-лац. ostracodermi) — вымерлыя ніжэйшыя жывёлы падкласа *агнатаў*, існавалі ў *ардовіку* — *дэвоне*.

**АСТРАКАЛАРЫМЕ́ТРЫЯ** (ад *астра-* + *каларыметрыя*) — раздзел практычнай *астрафізікі*, звязаны з вызначэннем колеру нябесных аб'ектаў, галоўным чынам зорак.

**АСТРАКАРЭ́КЦЫЯ** (ад *астра-* + *карэкцыя*) — выпраўленне вуглавога становішча касмічнага лятальнага апарата ў адпаведнасці з арыентаванымі на зоркі прыборамі.

**АСТРАКІ́ЗМ** (гр. ostrakismos) — выгнанне, ганенне (падвергнуць астракізму).

**АСТРАКО́ДЫ** (н.-лац. ostracoda) — падклас ракападобных; насяляюць марскія і прэсныя вадаёмы, з'яўляюцца кормам для рыб; ракушкавыя ракападобныя.

**АСТРАКО́МПАС** (*астра-* + *компас*) — прыбор для арыентацыі па нябесных свяцілах.

**АСТРА́КУМ** (ад гр. ostrakon = чарапок) — сярэдні слой ракавіны *малюскаў*, які складаецца з крышталікаў вапны.

**АСТРАЛА́ТРЫЯ** (ад *астра-* + *-латрыя*) — рэлігійнае пакланенне зоркам і іншым нябесным целам, што было пашырана ў многіх старажытных краінах, асабліва ў Асірыі і Вавілоне.

**АСТРАЛО́ГІЯ** (гр. astrologia) — вучэнне аб сувязі паміж размяшчэннем нябесных свяціл і гістарычнымі падзеямі, лёсам людзей і народаў.

**АСТРА́ЛЬНЫ** (лац. astralis) — зорны (напр. а. свет); а. к у л ь т — культ пакланення нябесным свяцілам у старажытных егіпцян і іншых народаў.

**АСТРАЛЯ́БІЯ** (ад *астра-* + гр. labe = хватанне) — прыбор, які раней выкарыстоўваўся для вызначэння становішча нябесных целаў, а таксама гарызантальных вуглоў пры землямерных работах.

**АСТРАМЕ́ТРЫЯ** (ад *астра-* + *-метрыя*) — раздзел *астраноміі*, які займаецца вызначэннем бачнага месцазнаходжання нябесных целаў і іх змен з часам.

**АСТРАНАВІГА́ЦЫЯ** (ад *астра-* + *навігацыя*) — навука аб ваджэнні лятальных апаратаў і марскіх суднаў, вызначаючы курс па нябесных свяцілах.

**АСТРАНАМІ́ЧНЫ** (ад *астраномія*) — які мае адносіны да астраноміі; а-ая абсерваторыя — навукова-даследчая ўстанова, дзе вывучаюцца нябесныя свяцілы і з'явы, а таксама распрацоўваюцца тэарэтычныя пытанні астраноміі.

**АСТРАНА́ЎТ** (ад *астра-* + *-наут*) — 1) спецыяліст у галіне *астранаўтыкі*; 2) тое, што і *касманаўт*.

**АСТРАНА́ЎТЫКА** (ад *астра-* + *-наўтыка*) — тое, што і *касманаўтыка*.

**АСТРАНЕГАТЫ́Ў** (ад *астра-* + *негатыў*) — фатаграфічны адбітак зорнага неба, атрыманы пры дапамозе *астрографа* або іншага *тэлескопа*.

**АСТРАНІ́М** (ад *астра-* + гр. onyma = імя) — псеўданім у выглядзе якіх-н. друкарскіх знакаў, напр. зорачак.

**АСТРАНО́М** (лац. astronomus, ад гр. astronomos = звязаны з назіраннямі над зоркамі) — спецыяліст у галіне астраноміі.

**АСТРАНО́МІЯ** (гр. astronomia, ад astron = зорка + nomos = закон) — навука пра нябесныя целы, пра Сусвет.

**АСТРА́НЦЫЯ** (н.-лац. astrantia) — травяністая расліна сям. парасонавых з доўгачаранковым лісцем і белымі кветкамі ў парасоніках, пашыраная ў Еўропе і Малой Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная, лекавая, меданосная.

**АСТРАПАЛЯРЫМЕ́ТРЫЯ** (ад *астра-* + *палярыметрыя*) — раздзел *астрафізікі*, які вывучае паводле ступені *палярызацыі* святла нябесных свяцілаў фізічную прыроду іх выпрамянення, склад і шчыльнасць міжзорнага асяроддзя, атмасферы планет і інш.

**АСТРАПУ́НКТЫ** (ад *астра-* + *пункт*) — апорныя пункты геадэзічнай сеткі, геаграфічныя каардынаты якіх вызначаны астранамічнымі метадамі.

**АСТРАСПЕКТРАСКАПІ́Я** (ад *астра-* + *спектраскапія*) — раздзел *астрафізікі*, які займаецца даследаваннем *спектраў* астранамічных аб'ектаў.

**АСТРАСПЕКТРАСКО́П** (ад *астра-* + *спектраскоп*) — прыстасаванне для назірання над *спектрамі* нябесных свяцілаў.

**АСТРАСПЕКТРАФОТАМЕ́ТРЫЯ** (ад *астра-* + *спектрафотаметрыя*) — раздзел практычнай *астрафізікі*, звязаны з вывучэннем размеркавання энергіі ў *спектрах* нябесных целаў.

**АСТРАСПЕКТРО́ГРАФ** (ад *астра-* + *спектрограф*) — прыбор для фатаграфавання *спектраў* нябесных свяцілаў.

**АСТРАСФЕ́РА** (ад *астра-* + *сфера*) — частка *цэнтрасферы*, прамяністая зона *цытаплазмы* вакол клетачнага цэнтра, якая ўтвараецца ў час падзелу клеткі.

**АСТРАФАТАГРА́ФІЯ** (ад *астра-* + *фатаграфія*) — раздзел *астрафізікі*, у якім для астранамічных даследаванняў прымяня-

юць фатаграфаванне нябесных свяцілаў.

**АСТРАФАТАМЕ́ТРЫЯ** (ад *астра-* + *фатаметрыя*) — раздзел *астрафізікі*, які займаецца вымярэннем бляску і паверхневай яркасці нябесных свяцілаў візуальнымі, фатаграфічнымі і фотаэлектрычнымі метадамі.

**АСТРАФАТО́МЕТР** (ад *астра-* + *фатометр*) — прыбор для вымярэння бляску або яркасці нябесных аб'ектаў і светлавых патокаў, якія прыходзяць ад іх.

**АСТРАФІ́ЗІКА** (ад *астра-* + *фізіка*) — раздзел *астраноміі*, які вывучае фізічную прыроду касмічных целаў і працэсы, якія адбываюцца ў іх.

**АСТРАФІЛІ́Т** (ад *астра-* + гр. phyllon = ліст) — рэдкасны мінерал класа *сілікатаў*, сілікат *тытану* залаціста-бурага, бронзава-жоўтага колераў са шкляным бляскам.

**АСТРАФІ́ЧНЫ** (ад *а-* + *страфа*) — не падзелены на строфы, з рознымі спалучэннямі радкоў (пра верш).

**АСТРАХІ́МІЯ** (ад *астра-* + *хімія*) — тое, што і *касмахімія*.

**АСТРАЦЫ́ТЫ** (ад *астра-* + *-цыты*) — зорчатыя клеткі дапаможнай тканкі нервовай сістэмы.

**АСТРО́ГРАФ** (ад *астра-* + *-граф*) — астранамічны прыбор для фатаграфавання нябесных аб'ектаў.

**АСТРО́ІДА** (ад *астра-* + гр. eidos = выгляд) — *мат.* плоская крывая, якая апісваецца пунктам акружнасці, што з сярэдзіны датыкаецца да нерухомай акружнасці з радыусам, большым у чатыры разы, і коціцца па ёй без слізгання.

**АСТРО́ЛАГ** (лац. astrologus) — той, хто займаецца *астралогіяй*, варожыць па зорках.

**АСТЫГМА́Т** (ад *а-* + гр. stigma, -atos = кропка) — фатаграфічны аб'ектыў, у якім не выпраўлены *астыгматызм*.

**АСТЫГМАТЫ́ЗМ** (ад *а-* + гр. stigma, -atos = кропка) — недахоп аптычнай сістэмы або праламляльнай здольнасці вока, які выяўляецца ў тым, што прамяні, выйшаўшы з аднаго пункта, не збіраюцца ў адным фокусе і адбітак атрымліваецца расплывісты.

**АСТЫ́ЛЬБА** (н.-лац. astilbe, ад гр. а- = не + stilbo = ззяю) — травяністая расліна сям. каменяломнікавых з белымі, ружовымі, чырвонымі або фіялетавымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ва Усх. Азіі і Паўн. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**АСТЫНА́ТА** (іт. ostinato = упарты) — *муз.* меладычная або рытмічная фраза, якая многа разоў запар паўтараецца.

**АСТЫ́Т** (ад гр. osteon = косць) — *мед.* запаленне касцявой тканкі.

**АСТЭА-** (гр. osteon = косць) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «косць», «касцявы».

**АСТЭААРТАПАТАЛО́ГІЯ** (ад *астэа-* + гр. arthron = сустаў + *паталогія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае паталагічныя змены ў касцях і суставах.

**АСТЭАБЛА́СТЫ** (ад *астэа-* + *-бласты*) — клеткі, якія ўдзельнічаюць у будове касцявой тканкі.

**АСТЭАГРА́ФІЯ** (ад *астэа-* + *-графія*) — апісанне касцей шкілета.

**АСТЭАДЫСПЛАЗІ́Я** (ад *астэа-* + *дысплазія*) — прыроджанае парушэнне развіцця касцей, якое суправаджаецца іх дэфармацыяй у сувязі з замяшчэннем касцявой тканкі храстковай або фібрознай.

**АСТЭАДЫСТРАФІ́Я** (ад *астэа-* + *дыстрафія*) — змены ў касцявой тканцы ў выніку парушэння ўнутрыкасцявога абмену рэчываў.

**АСТЭАКЛА́СТЫ** (ад *астэа-* + гр. klasis = зламанне) — клетачныя ўтварэнні, якія пры развіцці касцявой тканкі ўдзельнічаюць ў рассысанні асноўнага рэчыва косці.

**АСТЭАЛО́ГІЯ** (ад *астэа-* + *-логія*) — раздзел *анатоміі*, які вывучае форму і структуру касцей ва ўзаемасувязі з іх функцыяй.

**АСТЭАМАЛЯ́ЦЫЯ** (ад *астэа-* + гр. malakia = мяккасць) — размякчэнне і *дэфармацыя* касцей у выніку збяднення арганізма солямі кальцыю, фосфарнай кіслаты і вітамінамі.

**АСТЭАМІЭЛІ́Т** (ад *астэа-* + *міэліт*) — запаленне касцявога мозгу, якое звычайна пашыраецца на ўсе слаі косці.

**АСТЭАПАРО́З** (ад *астэа-* + гр. poros = адтуліна, пора) — разрэджванне касцявога рэчыва пасля пераломаў, пры розных захворваннях.

**АСТЭАПЛА́СТЫКА** (ад *астэа-* + *-пластыка*) — аперацыя па перасадцы касцявой тканкі, каб выправіць дэфекты косці.

**АСТЭАСАРКО́МА** (ад *астэа-* + *саркома*) — саркома касцей жывёл і чалавека.

**АСТЭАСІ́НТЭЗ** (ад *астэа-* + *сінтэз*) — пластычная аперацыя пры лячэнні пераломаў, якая заключаецца ў злучэнні абломкаў касцей.

**АСТЭАСКЛЕРО́З** (ад *астэа-* + *склероз*) — хваравітае ўшчыльненне косці.

**АСТЭАТАМІ́Я** (ад *астэа-* + *-тамія*) — аперацыя рассячэння косці з мэтай выпраўлення *дэфармацый*.

**АСТЭАФІ́Т** (ад *астэа-* + *-фіты*) — розныя па паходжанню і працяканню касцявыя разрастанні.

**АСТЭАХАНДРАПА́ТЫЯ** (ад *астэа-* + гр. chondros = хр989сток + *-патыя*) — захворванне касцей пераважна ў дзіцячым і юнацкім узросце, якое характарызуецца болямі, мясцовай пухлінай і інш.

**АСТЭАХАНДРО́З** (ад *астэа-* + гр. chondros = храсток) — запаленчыя і незапаленчыя хваробы падхрастковага аддзела доўгіх трубчастых касцей шкілета; характарызуецца болямі, абмежаваннем рухаў у суставах.

**АСТЭАЦЫ́ТЫ** (ад *астэа-* + *-цыты*) — клеткі касцявой тканкі, якія ўтвараюцца ў працэсе яе развіцця з *астэабластаў*.

**АСТЭІ́ЗМ** (гр. asteismos = досціп, жарт) — стылістычны прыём выражэння пахвальбы ў форме ганьбавання ці ганьбавання ў форме пахвальбы.

**АСТЭНАПІ́Я** (ад гр. asthenes = слабы + ops = вока) — аслабленне зроку.

**АСТЭНАСФЕ́РА** (ад гр. asthenes = слабы + *сфера*) — слой паніжа-

най цвёрдасці, трываласці і вязкасці ў верхняй частцы *мантыі* Зямлі, якi знаходзіцца на глыбіні каля 100 км пад мацерыкамі і каля 50 км пад дном акіяна.

**АСТЭ́НІК** (гр. asthenikos = кволы, слабы) — 1) чалавек, для якога характэрныя высокі рост, хударлявасць, доўгая шыя, выцягнуты чэрап, вузкі, рэзка акрэслены твар; 2) чалавек, які пакутуе ад *астэніі*.

**АСТЭНІ́ЧНЫ** (гр. asthenikos = кволы, слабы) — які мае адносіны да *астэніка, астэніі*.

**АСТЭНІ́Я** (гр. astheneia = слабасць) — стан агульнай слабасці арганізма; бяссілле.

**АСТЭО́ЛАГ** (ад *астэа-* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *астэалогіі*.

**АСТЭО́МА** (н.-лац. osteoma, ад гр. osteon = косць) — *мед.* дабраякасная пухліна, якая складаецца з касцявой тканкі.

**АСТЭО́Н** (гр. osteon = косць) — структура косці пазваночных жывёл і чалавека, якая складаецца з гаверсавага канала, дзе праходзяць крывяносныя і лімфатычныя сасуды і нервы, і сістэмы касцявых пласцінак, што акружаюць гэты канал.

**АСТЭРАДО́Н** (н.-лац. asterodon) — губавы *базідыяльны* грыб сям. гіменахетавых, які расце на павале, пераважна ў прыкаранёвай частцы ствалоў, на моцна разбуранай вільготнай драўніне.

**АСТЭРАЗО́І** (н.-лац. asterozoa) — падтып ігласкурых; уключае класы марскіх зорак, *афіураў*.

**АСТЭРАФО́РА** (н.-лац. asterophora) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. радоўкавых, які развіваецца на сыраежках і млечніках, іншы раз на гнілых пнях; неядомы.

**АСТЭРО́ІД** (гр. asteroeides = зоркападобны) — адна з малых *планет*, якія кружаць вакол Сонца, галоўным чынам паміж арбітамі Марса і Юпітэра.

**АСТЭРО́МА** (н.-лац. asteroma) — недасканалы грыб сям. шаравідкавых, як развіваецца на лісці пладовых дрэў, выклікае плямістасць.

**АСТЭРЫ́ЗМЫ** (ад гр. aster = зорка) — групы зорак, якія атрымалі асобную ад назвы сузор'я назву, напр. Коўш у Вялікай Мядзведзіцы.

**АСТЭРЫ́НА** (н.-лац. asterina) — сумчаты грыб сям. астэрынавых, які развіваецца на лісці крыпічнікаў, грушанак, парэчак.

**АСТЭРЫ́СК** (гр. asteriskos = зорачка) — друкарскі наборны знак у выглядзе зорачкі, які выкарыстоўваюць для абазначэння спасылак.

**АСТЭ́РЫЯ** (ад гр. aster = зорка) — беспазваночная жывёла класа марскіх зорак тыпу ігласкурых.

**АСТЭРЫ́Я** (іт. osteria) — карчма, закусачная ў Італіі.

**АСТЭРЫЯНЕ́ЛА** (н.-лац. asterionella) — каланіяльная *дыятомавая* водарасць сям. фрагілярыевых, якая трапляецца пераважна ў *планктоне* мораў, некаторыя віды адзначаны ў планктоне азёр, рэк.

**АСТЭРЭАГНО́З** (ад *а-* + гр. stereos = аб'ёмны + gnosis = пазнаванне) — непазнаванне знаёмых прадметаў навобмацак пры паражэнні кары цемяннной часткі галаўнога мозга.

**АСУА́РЫЙ** (н.-лац. ossuarium, ад лац. os, ossis = косць) — сасуд з гліны, каменя або алебастру для захавання касцей нябожчыка ў зораастрыйцаў Сярэд. Азіі, Ірана 5—8 ст.

**АСФАДЭЛІ́НА** (н.-лац. asphodeline) — травяністая расліна сям. лілейных з аблісцелым сцяблом і белымі або жоўтымі кветкамі ў густых гронках, пашыраная ў Міжземнамор'і, Крыме і на Каўказе; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**АСФАДЭ́ЛЬ** (гр. asphodelos) — тое, што і *асфадэліна*.

**АСФА́ЛІЯ** (гр. asphaleia = бяспека, абарона) — палітычная *паліцыя* ў Грэцыі.

**АСФА́ЛЬТ** (гр. asphaltos = горная смала) — 1) чорная смалістая маса, якой пакрываюць дарогі; утворана ў выніку акіслення нафты і выпарэння яе лёгкіх фракцый; 2) дарога, тратуар, пакрытыя такой масай.

**АСФАЛЬТАБЕТО́Н** (ад *асфальт + бетон*) — сумесь асфальту, пяску, шчэбеню, якая выкарыстоўваецца для пакрыцця дарог, аэрадромаў і інш.

**АСФАЛЬТЭ́НЫ** (ад *асфальт*) — састаўныя часткі асфальту, высокамалекулярныя рэчывы, выдзеленыя з нафты, якія ўяўляюць сабой парашкі цёмна-бурага або чорнага колеру.

**АСФІ́КСІЯ** (гр. asphyksia) — удушша, разлад дыхання, выкліканы недахопам кіслароду ў крыві і тканках арганізма.

**АСФРА́ДЫЙ** (н.-лац. osphradium, ад гр. osphrainomai = нюхаю) — чуллівы орган малюскаў, размешчаны ў мантыйнай поласці на шляху цячэння вады да жаберных органаў.

**АСЦЫ́ДЫІ** (н.-лац. ascidiae, ад гр. askidion = мяшочак) — 1) клас марскіх хордавых жывёл падтыпу *тунікатаў*, вядуць сядзячы спосаб жыцця; 2) лісты некаторых раслін, якія маюць форму мяшочкаў.

**АСЦЫЛАГРА́МА** (ад лац. oscillum = ваганне + *-грама*) — крывая, запісаная *асцылографам*, якая паказвае залежнасці з хуткімі зменамі.

**АСЦЫЛАГРА́ФІЯ** (ад лац. oscillum = ваганне + *-графія*) — рэгістрацыя ваганняў электрычных патэнцыялаў у жывых тканках пры дапамозе *асцылографа*.

**АСЦЫЛАСКО́П** (ад лац. oscillum = ваганне + *-скоп*) — прыбор, пры дапамозе якога можна назіраць электрычныя ваганні.

**АСЦЫЛО́ГРАФ** (ад лац. oscillum = ваганне + *-граф*) — прыбор, пры дапамозе якога запісваюць змены электрычных велічынь, напр. напружання.

**АСЦЫЛЯ́ТАР** (ад лац. oscillare = вагацца) — *фіз.* сістэма, здольная вагацца адносна стану раўнавагі (напр. маятнік).

**АСЦЫЛЯТО́РЫЯ** (н.-лац. oscillatoria) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. асцыляторыевых, якая найбольш пашырана ў *планктоне* сажалак і азёр.

**АСЦЫЛЯ́ЦЫЯ** (лац. oscillatio) — *фіз.* хістанне, ваганне.

**АСЦЫ́Т** (гр. askites, ад askos = скураны мех для вадкасці) — паталагічнае намнажэнне вадкасці ў

брушной поласці чалавека і жывёл пры захворванні сэрца, печані; брушная вадзянка.

**АСЬЕ́НДА** (ісп. hacienda) — буйное памесце ў большасці лацінаамерыканскіх краін.

**АСЭ́САР** (лац. assessor = засядацель) — 1) памочнік *прэтара* ў Стараж. Рыме; 2) судовы засядацель у каралеўскай Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім; 3) чыноўнік восьмага класа ў цэнтральных дзяржаўных установах і пры губернскіх праўленнях царскай Расіі (напр. калежскі а.).

**АСЮРЭ́** (фр. assurer = забяспечваць) — друкарская лінейка, пры дапамозе якой утвараецца адбітак у выглядзе некалькіх тонкіх паралельных ліній; выкарыстоўваецца пры друкаванні чэкаў, квітанцый і інш.

**АТ** (лаоск. at) — разменная манета Лаоса, роўная $^1/_{100}$ *кіпа*.

**АТАВІ́ЗМ** (ад лац. atavus = продак) — 1) з'яўленне ў асобных арганізмаў прымет, уласцівых іх далёкім продкам, напр. развіццё ў чалавека хваставога прыдатка; 2) *перан.* перажытак наогул, вяртанне да чаго-н. крайне ўстарэлага.

**АТАДЭКТО́З** (н.-лац. otodectosis) — хранічная інвазійная хвароба сабак, катоў, лісоў, пясцоў і іншых драпежных жывёл, якую выклікаюць кляшчы, што жывуць на ўнутранай паверхні вушной ракавіны.

**АТА́КА** (фр. attaque) — 1) імклівы напад войск на пазіцыі праціўніка (напр. танкавая а.); 2) *перан.* рэзкае абвастрэнне хваробы; 3) *перан.* хуткае і рашучае наступленне (у спрэчцы, гульні і інш.).

**АТАКАВА́ЦЬ** (фр. attaquer) — 1) рабіць імклівы напад на пазіцыі праціўніка; 2) *перан.* весці хуткае і рашучае наступленне (у спрэчцы, гульні і інш.).

**АТАКАМІ́Т** (ад ісп. Atacama = назва правінцыі ў Чылі) — мінерал, гідраксілхларыд медзі травяніста-зялёнага колеру; другарадная руда медзі.

**АТАКСІ́Т** (ад гр. ataksia = бязладдзе) — жалезны *метэарыт*, які змяшчае звыш 13% *нікелю* і складаецца з дробназярністай сумесі мінералаў *камасіту* і *тэніту*.

**АТАКСІ́Я** (гр. ataksia = бязладдзе) — разлад *каардынацыі* рухаў, які назіраецца пры некаторых захворваннях нервовай сістэмы.

**АТАКТАСТЭ́ЛА** (ад гр. ataktos = бязладны + *стэла*) — адзін з тыпаў цэнтральнага цыліндра (стэлы) сцябла раслін; складаецца з мноства прыводных пучкоў, якія размеркаваны на папярочным сячэнні сцябла.

**АТАЛЕ́Я** (н.-лац. attalea) — *пальма* з буйным перыстым лісцем, пашыраная ў тропіках Амерыкі; вырошчваецца як дэкаратыўная.

**АТАЛІ́ТЫ** (ад гр. us, otos = вуха + -літ) — цвёрдыя ўтварэнні, якія з'яўляюцца часткай органа раўнавагі многіх жывёл; змяшчаюцца ў вестыбулярным апараце.

**АТАЛО́ГІЯ** (ад гр.us, otos = вуха + *-логія*) — навука пра хваробы вушэй, іх лячэнне і прафілактыку.

**А́ТАМ** (гр. atomos = непадзельны) — часціца рэчыва, найдрабнейшая частка хімічнага элемента, якая захоўвае яго ўласцівасці; складаецца з дадатна зараджанага

ядра і адмоўна зараджаных *электронаў*.

**АТАМА́НКА** (фр. ottomane, ад тур. Othman = імя султана, заснавальніка Асманскай імперыі) — шырокая мяккая *канапа* з трыма здымнымі падушкамі замест спінкі і з валікамі па краях.

**АТАМА́НЫ** (фр. ottomans, ад тур. Othman = імя султана, заснавальніка Асманскай імперыі) — тое, што і *асманы*.

**АТАМІЗАВА́ЦЬ** (фр. atomiser, ад гр. atomos = непадзельны) — 1) *фіз.* разбіваць на атамы, раздрабняць; 2) *перан.* дробязна аналізаваць.

**АТАМІЗА́ТАР** (ад *атамізаваць*) — прыбор для распылення вадкасці, які выкарыстоўваецца пры *дэзінфекцыі*, пакрыцці паверхні фарбамі, лакамі.

**АТАМІ́ЗМ** (ад гр. atomos = непадзельны) — навуковае ўяўленне пра дыскрэтную будову матэрыі і пра непарыўнасць матэрыі і руху.

**АТАМІ́СТЫКА** (ад гр. atomos = непадзельны) — 1) матэрыялістычнае вучэнне ў антычнай філасофіі, паводле якога матэрыя складаецца з асобных, непадзельных, надзвычай малых рухомых часцінак — атамаў; 2) раздзел *фізікі*, які вывучае будову атама і ўнутрыатамныя працэсы.

**АТАМІФІКА́ЦЫЯ** (ад *атам* + *-фікацыя*) — шырокае ўвядзенне атамнай энергіі ў народную гаспадарку і побыт.

**А́ТАМНЫ** (ад *атам*) — 1) які мае адносіны да атама; 2) які адносіцца да выкарыстання атамнай энергіі.

**АТАНА́ЛЬНАСЦЬ** (ад *а-* + *танальнасць*) — адсутнасць у музыцы ладавай асновы з яе найбольш важнай якасцю — прыцягненнем гукаў да ладавага цэнтра.

**АТАНА́ЛЬНЫ** (ад *а-* + *танальны*) — які мае адносіны да *атанальнасці*.

**АТАНІ́ЧНЫ**[1] (ад *а-* + *тонічны*) — 1) *муз.* бязгучны; 2) *лінгв.* які не мае ўласнага акцэнту.

**АТАНІЧНЫ**[2] (гр. atonikos) — які мае адносіны да *атаніі*.

**АТАНІ́Я** (гр. atonia = расслабленасць, вяласць) — аслабленне пругкасці і эластычнасці тканак арганізма, вяласць мускулаў.

**АТА́РА** (цюрк. otar = паша; гурт авечак) — вялікі гурт авечак; чарада.

**АТАРА́КСІЯ** (гр. ataraksia) — стан душэўнага спакою, да якога, на думку некаторых старажытнагрэчаскіх філосафаў, павінен імкнуцца мудрэц.

**АТАРА́КТЫКІ** (ад гр. ataraktos = спакойны) — заспакаяльныя лекавыя сродкі (напр. *эленіум*).

**АТАРНЕ́Й** (англ. attorney) — паверацы або прадстаўнік іншай асобы ў судзе англамоўных краін.

**АТАРНЕ́Й-ГЕНЕРА́Л** (ад *атарней* + *генерал*) — адна з вышэйшых службовых асоб юстыцыі ў Англіі, ЗША.

**АТАРЭ́Я** (ад гр. us, otos = вуха + rhoia = цячэнне, выцяканне) — гноецячэнне з вуха, сімптом сярэдняга і вонкавага атытаў.

**АТАСКЛЕРО́З** (н.-лац. otosclerosis, ад гр. us, otos = вуха + sclerosis = зацвярдзенне) — хранічная хвароба ўнутранага вуха ў чалавека і

жывёл, якая прыводзіць да глухаты.

**АТАСКО́П** (ад гр. us, otos = вуха + *-скоп*) — медыцынскі інструмент для даследавання вуха; вушное люстэрка.

**АТАТО́ПІКА** (ад гр. us, otos = вуха + topos = месца) — здольнасць вызначаць месцазнаходжанне крыніцы гуку пры аднолькавым слыху абодвума вушамі.

**АТАФО́Н** (ад гр. us, otos = вуха + *=фон*) — апарат для узмацнення слыху ў людзей, якія недачуваюць; слыхавая трубка.

**АТАШЭ́** (фр. attaché) — спецыяліст-кансультант у якой-н. галіне пры пасольстве (напр. ваенны а., гандлёвы а.).

**АТЛА́НТ** (гр. Atlas, -antos = імя міфічнага героя Атланта, якога багі прымусілі трымаць на плячах неба) — 1) мужчынская статуя, якая падтрымлівае перакрыцце будынка, порціка; 2) першы шыйны пазванок у земнаводных, паўзуноў, птушак і млекакормячых.

**АТЛА́НТРАП** (ад лац. Atlas = назва гор у Афрыцы + *-антрап*) — выкапнёвы чалавек, які вызначаецца як від роду *пітэкантрапаў*.

**АТЛАНТЫ́ЗМ** (ад лац. Mare Atlanticum = Атлантычны акіян) — ідэалогія і палітыка цеснага супрацоўніцтва і саюзу краін Зах. Еўропы, ЗША і Канады (што прымыкаюць да Атлантычнага акіяна); найбольш поўнае адлюстраванне знайшла ў дзейнасці Арганізацыі Паўночна-атлантычнага дагавору (НАТО).

**А́ТЛАС** (гр. Atlas, -antos = імя міфічнага героя Атланта, якога багі прымусілі трымаць на плячах неба) — сістэматызаваны зборнік геаграфічных, гістарычных ці іншых карт з тлумачэннямі, а таксама малюнкаў, чарцяжоў, табліц.

**АТЛА́С** (гр. atlas = гладкі) — шаўковая тканіна з гладкім, бліскучым правым бокам.

**АТЛЕ́Т** (гр. athletes) — 1) спартсмен, які займаецца *атлетыкай*; 2) чалавек моцнага складу і вялікай фізічнай сілы.

**АТЛЕТЫ́ЗМ** (фр. athlétisme, ад гр. athleo = змагаюся) — добра развітыя фізічныя якасці спартсмена.

**АТЛЕ́ТЫКА** [гр. athletike (techne) = спартыўнае (майстэрства)] — сістэма гімнастычных практыкаванняў, якія развіваюць сілу, спрыт, вынослівасць; л ё г к а я а. — бег, хадзьба, скачкі, кіданне кап'я, дыска, штурханне ядра і інш.; ц я ж к а я а. — бокс, барацьба, падняцце цяжару.

**АТЛЕТЫ́ЧНЫ** (гр. athletikos) — 1) уласцівы *атлету*, дужы; 2) звязаны з *атлетыкай* (напр. а-ыя практыкаванні).

**АТМАГЕАХІ́МІЯ** (ад гр. atmos = дыханне + *геахімія*) — раздзел геахіміі, які вывучае склад *атмасферы* Зямлі і яго эвалюцыю ў ходзе геалагічнай гісторыі.

**АТМАСФЕ́РА** (ад гр. atmos = дыханне + *сфера*) — 1) газападобная абалонка вакол Зямлі і некаторых іншых планет; 2) пазасістэмная адзінка вымярэння ціску, роўная ціску ртутнага слупа вышынёй 760 мм пры тэмпературы 0°C (1,0332 кг/см$^2$); 3) *перан.* настрой і ўзаемаадносіны ў калектыве (напр. а. дружбы, а. павагі).

**АТМАСФЕ́РЫКІ** (ад *атмасфера*) — радыёхвалі, якія ўтвараюцца ў выніку электрычных разрадаў у атмасферы Зямлі.

**АТМО́МЕТР** (ад гр. atmos = пара, выпарэнне + *-метр*) — прыбор для вымярэння хуткасці выпарэння вады.

**АТО́Л** (англ. atoll, ад мальдыўскага atolu) — каралавы востраў у форме суцэльнага ці разарванага кольца.

**АТО́СА** (літ. atāsaja) — цяж з тоўстага дроту ад аглоблі да пярэдняй восі для выраўноўвання ходу калёс.

**АТРАГЕ́НА** (гр. atragene) — кустовая расліна сям. вярбовых з вузкім лісцем на кароткіх чаранках, пашыраная ў Еўропе, на Каўказе і ў Сярэд. Азіі; на Беларусі расце па берагах рэк, азёр, ручаёў, на забалочаных лугах; жаўталоз.

**АТРАКТА́НТЫ** (ад лац. attrahere = прыцягваць да сябе) — прыродныя або сінтэтычныя рэчывы, якія прываблiваюць жывёл, асабліва насякомых (параўн. *рэпеленты*).

**АТРАКЦЫЁН** ( фр. attraction) — 1) захапляльны нумар цыркавой або эстраднай праграмы; 2) назва забаў у месцах масавых гулянняў (карусель, арэлі і інш.).

**АТРА́КЦЫЯ** (лац. attractio) — 1) пачуццё прыхільнасці аднаго чалавека да другога; 2) адхіленні магнітнай стрэлкі пад уздзеяннем сілы прыцяжэння гор, пакладаў карысных выкапняў і іншых значных мас.

**АТРА́МАНТ** (лац. atramentum) — *уст.* чарніла.

**АТРАПІ́Н** [ад н.-лац. atropa (belladonna) = беладонна] — *алкалоід*, які змяшчаецца ў *беладонне* і іншых раслінах сям. паслёнавых; выкарыстоўваецца ў медыцыне.

**АТРАФІ́Я** (гр. atrophia = завяданне) — 1) страта жыццяздольнасці якога-н. органа, часткі арганізма; 2) *перан.* прытупленне, аслабленне якой-н. уласцівасці, якасці, здольнасці (напр. а. дапытлівасці ў хворага дзіцяці).

**АТРЫБУ́Т** (лац. attributum) — 1) неадʼемная, пастаянная прымета, прыналежнасць чаго-н.; 2) *філас.* неабходная, істотная, неадʼемная ўласцівасць абʼекта (напр. рух — а. матэрыі); 3) *лінгв.* азначэнне.

**АТРЫБУТЫ́ЎНЫ** (ад *атрыбут*) — *лінгв.* азначальны.

**АТРЫБУ́ЦЫЯ** (лац. attridutio = прыпісванне) — вызначэнне сапраўднасці, аўтэнтычнасці мастацкага твора, яго аўтара, месца і часу стварэння.

**А́ТРЫЙ** (лац. atrium) — памяшканне з верхнім святлом у старажытнарымскім жылым доме.

**А́ТРЫУМ** (лац. atrium = пераддзверʼе) — выпінанне покрываў каля трахейнай адтуліны ў насякомых.

**АТРЫ́ХІ** (ад *а-* + гр. triks, -ichos = волас) — *бактэрыі*, пазбаўленыя жгуцікаў.

**А́ТРЫХУМ** (н.-лац. atrichum) — лістасцябловы мох сям. палетрыхавых, які расце ў лісцевых і мяшаных лясах на вільготнай аголенай глебе.

**АТРЫЯ́ЛЬНЫ** (ад лац. atrium = пераддзверʼе) — які мае адносіны

да поласці, куды адкрываюцца жаберныя шчыліны ў ланцэтніка.

**АТРЭЗІ́Я** (ад *а-* + гр. tresis = адтуліна) — адсутнасць або недаразвіццё прыродных адтулін у арганізме.

**АТРЭПСІ́Я** (ад *а-* + гр. threpsis = жыўленне) — цяжкая форма разладу харчавання ў немаўлят.

**АТУНІ́Т** гл. *атэніт.*

**АТЫДЭ́Я** (н.-лац. otidea) — сумчаты грыб сям. пецыцавых, які расце на глебе ў лясах.

**А́ТЫК** (гр. attikos = які паходзіць з Атыкі) — сценка над карнізам, які завяршае збудаванне, найчасцей трыумфальную арку.

**АТЫ́ПІЯ** (ад *а-* + *тып*) — адсутнасць тыповых, характэрных рыс або асаблівасцей у пэўнай рэчы або з'явы; адхіленне ад нармальнага.

**АТЫПО́ВЫ** (ад *а-* + *тып*) — нетыповы, нехарактэрны.

**АТЫРЭО́З** (ад *а-* + гр. thyreos = шчыт) — прыроджанае або набытае выпадзенне *функцыі* шчытападобнай залозы.

**АТЫ́Т** (ад гр. us, otos = вуха) — запаленне слізістай абалонкі вуха.

**АТЫЦЫ́ЗМ** (гр. attikismos) — 1) вытанчанасць і вобразнасць мовы, якія былі ўласцівы жыхарам Атыкі ў часы росквіту іх культуры; 2) кірунак у старажытнагрэчаскай літаратуры 1 ст. да н. э., які імкнуўся да рэстаўрацыі мовы і стылю класічных пісьменнікаў.

**АТЫЦЮ́Д** (фр. attitide = пастава) — адна з асноўных пастаў у класічным танцы, пры якой раўнавага захоўваецца на адной назе, а другая нага ўзнята і адведзена назад у сагнутым становішчы.

**АТЫ́ЧНЫ** (гр. attikos) — які мае адносіны да *атыцызму*; а - а я  с о л ь — трапны жарт.

**АТЫЯ́ТР** (ад *атыятрыя*) — спецыяліст у галіне атыятрыі.

**АТЫЯТРЫ́Я** (ад гр. us, otos = вуха + *-ятрыя*) — раздзел *отарыналарынгалогіі*, які вывучае вушныя хваробы і іх лячэнне.

**АТЭІ́ЗМ** (фр. athéisme, ад гр. a- = не + theos = бог) — нявер'е ў існаванне бога і іншых звышнатуральных сіл, адмаўленне рэлігіі.

**АТЭІ́СТ** (ням. Atheist, ад гр. a- = не + theos = бог) — паслядоўнік *атэізму.*

**АТЭКА́ТЫ** (н.-лац. athecata) — падатрад марскіх *кнідарыяў*; утвараюць кусцістыя калоніі на дне, водарасцях, палях.

**АТЭЛА́НА** (лац. atellana) — від народнага імправізацыйнага тэатра ў Стараж. Рыме з пастаяннымі тыпамі-маскамі.

**АТЭЛЕКТА́З** (ад гр. ateles = няпоўны + ektasis = расцягванне) — ападзенне лёгачнай тканкі пры адсутнасці ў *альвеолах* паветра.

**АТЭ́ЛІЯ** (н.-лац. athelia) — губавы *базідыяльны* грыб сям. картыцыевых, які расце ў лясах на кары і павале лісцевых і хвойных парод, лясным подсціле.

**АТЭ́ЛЬ, ГАТЭ́ЛЬ** (фр. hôtel) — гасцініца (звычайна пры назвах замежных гасцініц).

**АТЭЛЬЕ́** (фр. atelier) — 1) майстэрня для пашыву адзення, абутку, рамонту бытавой тэхнікі; 2) майстэрня мастака, скульптара, фатографа; 3) павільён кінастудыі.

**А ТЭ́МПА** (іт. a tempo) — *муз.* у ранейшым *тэмпе*, вярнуцца ў час выканання музычнага твора для папярэдняга тэмпу.

**АТЭНІ́Т, АТУНІ́Т** (ад фр. Autun = назва мясцовасці ў Францыі) — мінерал класа *фасфатаў* зялёнага, зеленавата-жоўтага колеру, радыеактыўны; з'яўляецца сыравінай для атрымання урану.

**АТЭНУА́ЦЫЯ** (лац. attenuatio = змяншэнне) — штучнае стойкае аслабленне *вірулентнасці* патагенных мікраарганізмаў, якія захоўваюць здольнасць выклікаць імунітэт; выкарыстоўваюцца пры вырабе вакцын супраць туберкулёзу, воспы і інш.

**АТЭНЭ́УМ** (лац. athenaeum, ад гр. athenaion = храм багіні Афіны ў Стараж. Грэцыі) — 1) першая вышэйшая навучальная ўстанова, адкрытая ў Стараж. Рыме ў 135 г.; 2) сярэдняя школа ў Францыі ў перыяд Вялікай французскай рэвалюцыі 1789—1794 г.

**АТЭНЮА́ТАР** (ад фр. atténuer = аслабляць) — прыбор, які дае магчымасць паніжаць электрычнае напружанне або магутнасць у пэўную колькасць разоў.

**АТЭ́Р** (н.-лац. Aterian = назва мясцовасці ў Алжыры) — археалагічная культура сярэдняга *палеаліту* ў Паўн. Афрыцы (каля 30—19 тыс. гадоў назад).

**АТЭРАМАТО́З** (ад *атэрома*) — адкладанне ў артэрыях тлушчавай масы з крышталямі *халестэрыну* і солямі вапняку, напр. пры *атэрасклерозе*.

**АТЭРАСКЛЕРО́З** (ад гр. athere = кашка + *склероз*) — захворванне сардэчна-сасудзістай сістэмы, пры якім у артэрыях адкладваецца *халестэрын* і разрастаецца злучальная тканка, што пагаршае забеспячэнне крывёй органаў.

**АТЭРО́МА** (гр. atheroma) — *кіста* сальнай залозы скуры.

**АТЭРТРА́Л** (англ. otter trawl) — рыбалоўная сетка, якая цягнецца за суднам на доўгім стальным тросе.

**АТЭРЫ́НЫ** (н.-лац. atherina) — род марскіх рыб атрада атэрынападобных; жывуць у Чорным, Азоўскім, Каспійскім, Міжземным морах, маюць прамысловае значэнне.

**АТЭСТАВА́ЦЬ** (лац. attestari = сведчыць) — 1) праводзіць *атэстацыю* 1; 2) даваць характарыстыку, ацэнку каму-н. або чаму-н.

**АТЭСТА́Т** (ням. Attestat, ад лац. attestari = сведчыць) — 1) афіцыйны дакумент аб заканчэнні навучальнай установы, прысваенні вучонага звання і інш. (напр. а. сталасці, а. прафесара); 2) дакумент на права атрымання ваеннаслужачым грашовага, харчовага і іншага забеспячэння; 3) дакумент, які пацвярджае пародзістасць свойскай жывёлы.

**АТЭСТА́ЦЫЯ** (лац. attestatio = сведчанне) 2 1) вызначэнне афіцыйнай камісіяй кваліфікацыі, службовай адпаведнасці работніка пасадзе, якую ён займае; 2) водгук, характарыстыка, ацэнка, якая даецца каму-н. або чаму-н.

**АТЭТО́З** (гр. athetos = пазбаўлены пэўнага становішча) — міжвольнае скарачэнне пальцавых мышцаў у сувязі з захворваннем галаўнога мозга.

# А

**АТЭ́Я** (н.-лац. atheya) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. бідульфіевых, якая трапляецца ў *планктоне* прэсных вадаёмаў.

**АЎЛ** (цюрк. aul) — паселішча ў Сярэд. Азіі і на Паўн. Каўказе.

**АЎГІ́Т** (ад гр. auge = бляск) — мінерал класа *сілікатаў* зеленавата-чорнага колеру са шкляным бляскам.

**АЎГУ́Р** (лац. augur) — 1) старажытнарымскі жрэц, які тлумачыў волю багоў па шчабятанні і палёце птушак; 2) *перан.* той, хто робіць выгляд, што ведае асаблівыя тайны.

**АЎГУСЦІ́НЦЫ** (с.-лац. augustiniani, ад лац. Augustinus = імя раннехрысціянскага багаслова) — члены каталіцкага ордэна, які быў заснаваны ў 13 ст. у Італіі і абапіраўся на вучэнне багаслова Аўгусціна.

**АЎДЫЕ́НЦЫЯ** (лац. audientia = слуханне) — афіцыйны прыём у высокапастаўленай асобы.

**АЎДЫЁВІЗУА́ЛЬНЫ** (ад лац. audio = слухаю + *візуальны*) — заснаваны на адначасовым успрыманні слыхам і зрокам (напр. а-ыя сродкі навучання).

**АЎДЫЁГРАФ** (ад лац. audio = слухаю + *-граф*) — самапісны прыбор для вызначэння дакладнасці слыху.

**АЎДЫЁМЕТР** (ад лац. audio = слухаю + *-метр*) — прыбор для вызначэння вастрыні слыху.

**АЎДЫЁН** (ад лац. audio = слухаю) — адналямпавы рыдыёпрыёмнік, у якім электронная лямпа была *дэтэктарам.*

**АЎДЫ́ТАР** (лац. auditor = слухач) — 1) вучань у некаторых навучальных установах, якога настаўнік прызначае для выслухоўвання ўрокаў іншых вучняў; 2) член царкоўнага суда ў Вялікім княстве Літоўскім, які выконваў функцыі следчага; 3) асоба або фірма, якая правярае стан гаспадарчай дзейнасці акцыянернай кампаніі на аснове кантракта, заключанага з кіраўніцтвам гэтай кампаніі.

**АЎДЫТО́РЫЯ** (лац. auditorium) — 1) памяшканне, прызначанае для чытання лекцый, дакладаў; 2) слухачы лекцыі, даклада.

**АЎДЫФО́Н** (ад лац. audio = слухаю + *-фон*) — 1) слыхавы апарат для асоб са слабым слыхам; 2) апарат для ўлоўлівання на адлегласці гукаў матораў самалётаў, якія набліжаюцца.

**АЎДЫЯЛО́ГІЯ** (ад лац. audio = слухаю + *-логія* ) — раздзел *медыцыны*, які вывучае стан слыху, яго парушэнні, а таксама метады дыягностыкі, прафілактыкі і лячэння гэтых парушэнняў.

**АЎДЫЯМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. audio = слухаю + *-метрыя*) — вымярэнне вастрыні слыху.

**АЎКСАНО́МЕТР** (ад гр. auksano = расту + *-метр*) — прыбор для вызначэння прыросту раслін у даўжыню.

**АЎКСАСПО́РА** (ад гр. aukso = павялічваю + *спора*) — спора палавога размнажэння ў *дыятомавых* водарасцяў.

**АЎКСАТРО́ФЫ** (ад гр. aukso = павялічваю + *-трофы*) — бактэрыі, грыбы, водарасці, якія ў выні-

ку *мутацыі* страцілі здольнасць сінтэзаваць рэчывы, неабходныя для іх росту.

**АЎКСАХРО́МЫ** (ад гр. aukso = павялічваю + chroma = *колер*) — рэчывы, якія паглыбляюць колер арганічных фарбавальнікаў і надаюць ім фарбавальныя ўласцівасці.

**АЎКСІ́НЫ** (ад гр aukso = павялічваю) — група *фітагармонаў*, якія стымулююць рост раслін.

**АЎКУ́БА** (н.-лац. aucuba) — вечназялёная кустовая расліна сям. аўкубавых з бліскучым лісцем і дробнымі бураватымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная ў Паўд. і Паўд.-Усх. Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**АЎКЦЫЁН** (лац. auctio, -onis = павелічэнне) — публічны продаж, пры якім пакупніком становіцца той, хто дае за рэч найбольшую суму.

**АЎЛАЗІ́РА** (н.-лац. aulosira) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. аўлазіравых, якая трапляецца ў стаячай вадзе, балотах і забалочаных вадаёмах сярод іншых водарасцей.

**АЎЛАКАГЕ́Н** (ад. гр. aulaks = баразна + *-ген*) — лінейна-выцягнутая ўпадзіна павышанай рухомасці, абмежаваная вялікімі разломамі, якія рассякаюць фундамент *платформы* (напр. Прыпяцка-Данецкі а.).

**АЎЛАКО́МНІУМ** (н.-лац. aulacomnium) — лістасцяблавы мох сям. аўлакомніевых, які расце на балотах, забалочаных лугах.

**АЎЛО́С** (гр. aulos) — духавы інструмент, падобны да *флейты*, які быў пашыраны ў Стараж. Грэцыі, Стараж. Рыме і краінах Міжземнамор'я.

**А́ЎРА** (гр. aūra = подых ветру) — 1) стан, які папярэднічае прыпадкам *эпілепсіі, істэрыі, мігрэні*; 2) асаблівая атмасфера, настрой, клімат, якія ўтвараюцца вакол асоб або рэчаў, нібыта выпраменьваючыся імі; 3) біяэнергетычная абалонка жывых істот.

**АЎРА́Л** (англ. over all = усе наверх) — 1) тэрміновая работа на судне, у якой удзельнічае ўся каманда; 2) *перан.* неадкладная спешная работа калектыву, выкліканая адсутнасцю планамернасці ў працы.

**АЎРА́Н** (ням. aurin, ад лац. aurum = золата) — травяністая расліна сям. залознікавых з вузкім лісцем і адзіночнымі белымі кветкамі, пашыраная ва ўмераных і халодных зонах на заліўных лугах.

**АЎРО́РА** (лац. Aurora = імя багіні світання ў старажытнарымскай міфалогіі) — паэтычная назва ранішняй зары, золаку.

**АЎРЫ́КУЛА** (лац. auricula = мочка вуха) — 1) мочка вуха; вушная ракавіна; 2) дэкаратыўная расліна, адзін з відаў *прымулы*.

**АЎРЫКУЛЯ́РНЫ** (ад *аўрыкула*) — вушны.

**АЎРЫКУЛЯ́РЫЯ** (н.-лац. auricularia) — *базідыяльны* грыб сям. аўрыкулярыевых, які расце на ламаччы, старых пнях, павале, часам на аслабленых пладовых дрэвах.

**АЎРЫПІГМЕ́НТ** (ад лац. aurum = золата + *пігмент*) — мінерал класа *сульфідаў* залаціста-жоўтага колеру з алмазным бляскам.

# А

**АЎРЫСКА́ЛЬПІЙ** (н.-лац. auriscalpium) — недасканалы грыб сям. яжоўнікавых, пашыраны ў зонах хвойных лясоў па ўсім зямным шары.

**АЎРЭАБАЗІ́ДЫЙ** (н.-лац. aureobasidium) — недасканалы грыб сям. маніліевых, які паразітуе на лёне і іншых раслінах.

**АЎРЭАМІЦЫ́Н** (ад лац. aureus = залаты + *-міцын*) — лекавы прэпарат, *антыбіётык*, які прымяняюць пры лячэнні *пнеўманіі, дызентэрыі* і інш.

**АЎСКУЛЬТА́ЦЫЯ** (лац. auscultatio = выслухванне) — метад даследавання хворых выслухоўваннем гукавых з'яў, якія ўзнікаюць пры рабоце ўнутраных органаў (лёгкіх, сэрца).

**АЎСЛА́УТ** (ням. Auslaut) *лінгв.* пазіцыя гуку або гукаспалучэння ў канцы слова.

**АЎСПІ́ЦЫЙ** (лац. auspicium) — 1) варажба ў старажытных рымлян па палёце і крыках птушак, па нябесных з'явах; выконвалася аўгурамі (гл. *аўгур* 1); 2) *перан.* меркаванні на будучыню.

**АЎСТРАЛАПІТЭ́К** (ад лац. australis = пўднёвы + *-пітэк*) — вымерлая чалавекападобная *малпа*, якая жыла ў пачатку чацвярцічнага перыяду.

**АЎСТРАЛО́РП** [ад англ. Australia = Аўстралія + *арп(інгтон)*] — мяса-яечная парода курэй, выведзеная ў Аўстраліі на аснове арпінгтонаў.

**АЎСТРА́ЛЬНЫ** (лац. australis) — паўднёвы.

**АЎСТЭНІ́Т** [ад англ. W.Roberts-Austen = прозвішча англ. металурга (1843—1902)] — структурная частка жалезавугляводзістых сплаваў, цвёрды раствор вугляроду або легіравальных элементаў у гамажалезе.

**АЎТ** (англ. out = па-за) — 1) становішча ў спартыўных гульнях, калі мяч або шайба выходзіць за межы спартыўнай пляцоўкі; 2) каманда суддзі на рынгу, якая азначае, што баксёр у *накаўце*.

**А́ЎТА** (ісп. auto) — разнавіднасць рэлігійных драматычных прадстаўленняў у сярэдневяковай Іспаніі і Партугаліі.

**АЎТА-** (гр. autos = сам) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «аўтаматычны», «аўтамабільны», «свой, уласны, сама-».

**АЎТААКСІДА́ЦЫЯ** (ад *аўта-* + *аксідацыя*) — самачыннае акісленне рэчываў пры невысокай тэмпературы без уплыву *каталізатара*.

**АЎТААЛЕРГІ́Я** (ад *аўта-* + *алергія*) — павышаная адчувальнасць арганізма да ўласных бялкоў і клетак тканак, якія набылі ўласцівасці *алергенаў*.

**АЎТААМА́ТАР** (ад *аўта-* + *аматар*) — вадзіцель аўтамабіля, які мае пасведчанне шафёра-аматара.

**АЎТААПЕРА́ТАР** (ад *аўта-* + *аператар*) — прыстасаванне для аўтаматычнага рэгулявання вытворчых працэсаў і кіравання імі.

**АЎТАБА́ЗА** (ад *аўта-* + *база*) — транспартнае прадпрыемства па арганізацыі перавозак на аўтамабілях, а таксама месца стаянкі і рамонту аўтамабіляў.

**АЎТАБІЯГРА́ФІЯ** (ад *аўта-* + *біяграфія*) — апісанне свайго жыцця.

**АЎТАБЛАКІРО́ЎКА** (ад *аўта-* + *блакіроўка*) — 1) сістэма аўтаматычнай сігналізацыі для рэгулявання руху паяздоў; 2) аўтаматычнае змяненне рэжыму работы тэхнічнага аб'екта (машыны, апарата і інш.).

**АЎТАВАКЗА́Л** (ад *аўта-* + *вакзал*) — вакзал міжгародніх аўтобусных зносін.

**АЎТАВАКЦЫ́НА** (ад *аўта-* + *вакцына*) — лекавая вакцына, прыгатаваная з мікробаў, якія ўзяты з арганізма таго хворага, для лячэння якога яна выкарыстоўваецца.

**АЎТАГА́МІЯ** (ад *аўта-* + *-гамія*) — самаапыленне і самаапладненне кветкавых раслін, а таксама самаапладненне некаторых аднаклетачных арганізмаў.

**АЎТАГАРА́Ж** (ад *аўта-* + *гараж*) — тое, што і *гараж*.

**АЎТАГЕМАТЭРАПІ́Я** (ад *аўта-* + *гематэрапія*) — выкарыстанне з лекавай мэтай крыві самога хворага.

**АЎТАГЕ́Н** (гр. autogenes = самародны) — спосаб рэзання і зваркі металаў пры дапамозе струменю кіслароду.

**АЎТАГЕНЕ́З** (ад *аўта-* + *-генез*) — агульная назва кірункаў у эвалюцыйным вучэнні, якія разглядаюць гістарычнае развіццё жывой прыроды як працэс, што адбываецца незалежна ад умоў існавання толькі пад уздзеяннем унутраных, нематэрыяльных фактараў (проціл. *эктагенез*).

**АЎТАГЕНЕРА́ТАР** (ад *аўта-* + *генератар*) — генератар, які выпрацоўвае электрычныя (электрамагнітныя) ваганні ў выніку падачы часткі пераменнага напружання па ланцугу адваротнай сувязі.

**АЎТАГЕ́ННЫ** (гр. autogenes = самародны) — 1) *мед.* які ўзнікае ў самім арганізме; 2) які развіўся самастойна; а - а я з в а р к а — зварка, пры якой месцы судакранання металаў плавяцца газакіслародным полымем.

**АЎТАГІПНО́З** (ад *аўта-* + *гіпноз*) — гіпнатычны стан, выкліканы самаўнушэннем, у процілегласць гетэрагіпнозу, выкліканаму ўздзеяннем іншага чалавека; адзін з прыёмаў у аўтагеннай трэніроўцы.

**АЎТАГО́НІЯ** (ад *аўта-* + *-гонія*) — тэорыя ўзнікнення жыцця з неарганічнай *матэрыі*.

**АЎТАГРАВЮ́РА** (ад *аўта-* + *гравюра*) — гравюра, адціснутая з дошкі, гравіраванай самім аўтарам малюнка.

**АЎТАГРА́ФІЯ** (ад *аўта-* + *-графія*) — спосаб падрыхтоўкі літаграфскай друкарскай *формы*, пры якім малюнак, выкананы аўтарам-мастаком на паперы, пераносяць на літаграфскі камень або цынкавую пласцінку.

**АЎТАГРЭ́ЙДЭР** (ад *аўта-* + *грэйдэр*) — самаходны грэйдэр.

**АЎТАДАФЭ́** (парт. auto da fé = *літар.* акт веры) — публічнае спальванне ерэтыкоў і ерэтычных кніг па прысуду інквізіцыі ў сярэднія вякі.

**АЎТАДЗІ́Н** (ад *аўта-* + гр. *dyn(amis)* = сіла) — 1) машына для

пераўтварэння сілы пераменнага току ў сілу пастаяннага току; 2) радыёпрыёмнік з дадатнай зваротнай сувяззю для прыёму тэлеграфных сігналаў і прывядзення ў дзеянне аўтаматычных прыстасаванняў.

**АЎТАДРО́М** (ад *аўта-* + *-дром*) — спецыяльна абсталяваная тэрыторыя для аўтамабільных спаборніцтваў і выпрабавання аўтамабіляў.

**АЎТАДРЫЗІ́НА** (ад *аўта-* + *дрызіна*) — самаходная дрызіна.

**АЎТАДЫДА́КТ** (гр. autodidaktos) — самавучка.

**АЎТАДЫСПЕ́ТЧАР** (ад *аўта-* + *дыспетчар*) — комплексная сістэма, якая забяспечвае аўтаматычнае кіраванне аб'ектам.

**АЎТАЖЫ́Р** (фр. autogire, ад гр. autos = сам + gyros = кола, абарот) — устарэлы лятальны апарат, папярэднік верталёта.

**АЎТАІНСПЕ́КТАР** (ад *аўта-* + *інспектар*) — службовая асоба, якая сочыць за правільнасцю аўтамабільнага руху на дарогах.

**АЎТАІНСПЕ́КЦЫЯ** (ад *аўта-* + *інспекцыя*) — нагляд за правільнасцю аўтамабільнага руху, а таксама дзяржаўны орган, які ажыццяўляе гэты нагляд.

**АЎТАІНТАКСІКА́ЦЫЯ** (ад *аўта-* + *інтаксікацыя*) — атручванне арганізма шкоднымі рэчывамі, што ўтварыліся ў ім; самаатручванне.

**АЎТАІНФЕ́КЦЫЯ** (ад *аўта-* + *інфекцыя*) — самазаражэнне арганізма мікробамі, якія захаваліся ў ім пасля папярэдняй хваробы.

**АЎТАКАЛІМА́ТАР** (ад *аўта-* + *каліматар*) — аптычны прыбор для дакладных вуглавых вымярэнняў.

**АЎТАКАЛІМА́ЦЫЯ** (ад *аўта-* + *калімацыя*) — напрамак светлавых прамянёў, пры якім яны, выходзячы з *каліматара* паралельным пучком, адбіваюцца ад плоскага люстэрка і праходзяць аптычную сістэму ў зваротным напрамку.

**АЎТАКАЛО́НА** (ад *аўта-* + *калона*) — 1) група аўтамабіляў, якія рухаюцца выцягнутай лініяй адзін за адным; 2) прадпрыемства аўтатранспарту.

**АЎТАКА́РЫ** (ад *аўта-* + англ. car = вазок) — самаходны вазок для перавозкі грузаў, багажу.

**АЎТАКАТА́ЛІЗ** (ад *аўта-* + *каталіз*) — паскарэнне хімічнай рэакцыі адным з яе прадуктаў, які выконвае ролю *каталізатара*.

**АЎТАКЕФА́ЛІЯ** (ад *аўта-* + гр. kephale = галава) — незалежная, самакіравальная праваслаўная царква.

**АЎТАКЛА́Ў** (ад. *аўта-* + лац. clavis = ключ) — герметычная пасудзіна, прызначаная для награвання чаго-н. пад высокім ціскам; выкарыстоўваецца ў хімічнай прамысловасці, гідраметалургіі, медыцыне і інш.

**АЎТАКЛУ́Б** (ад *аўта-* + *клуб*) — 1) аб'яднанне спартсменаў і аматараў аўтамабільнага спорту; 2) абсталяваны радыёвузлом, кінаўстаноўкай аўтобус.

**АЎТАКО́Д** (ад *аўта-* + *код*) — мова *праграмавання*, арыентаваная на канкрэтную электронна-вылічальную машыну.

**АЎТАКРА́МА** (ад *аўта-* + *крама*) — аўтобус, прыстасаваны пад пераязны магазін.

**АЎТАКРА́Н** (ад *аўта-* + *кран*) — самаходны грузападымальны кран.

**АЎТАКРА́Т** (гр. autokrates = самаўладны) — правіцель з неабмежаванай уладай; *манарх*, самадзержац.

**АЎТАКРА́ТАР** (гр. autokrator = самадзержац) — частка тытула візантыйскага *імператара* (поўны тытул — васілеўс і аўтакратар рамеяў).

**АЎТАКРА́ТЫЯ** (гр. autokrateia) — форма кiравання, пры якой адной асобе належыць неабмежаваная ўлада ў дзяржаве; *манархія*, самадзяржаўе.

**АЎТАЛІТАГРА́ФІЯ** (ад *аўта-* + *літаграфія*) — літаграфія з малюнка, якую выканаў на камені сам аўтар.

**АЎТАЛО́ГІЯ** (ад *аўта-* + *-логія*) — *лінгв.* ужыванне слоў у іх прамым значэнні.

**АЎТАМАБІЛІ́ЗМ** (ад *аўтамабіль*) — аўтамабільная справа; аўтамабільны спорт.

**АЎТАМАБІ́ЛЬ** (ад *аўта-* + лац. mobilis = рухомы) — машына з рухавіком унутранага згарання для перавозкі пасажыраў, грузаў па бязрэйкавых дарогах (напр. легкавы а., грузавы а.).

**АЎТАМАГІСТРА́ЛЬ** (ад *аўта-* + *магістраль*) — шырокая, з палепшаным пакрыццём шаша для масавага хуткага аўтамабільнага руху.

**АЎТАМАДЭЛІ́ЗМ** (ад *аўтамадэль*) — канструяванне і выраб аўтамадэляў з тэхнічнай або спартыўнай мэтай.

**АЎТАМАРФІ́ЗМ** (ад *аўта-* + *-марфізм*) — *мат.* *ізамарфізм* 2 мноства з самім сабой.

**АЎТАМА́Т** (фр. automate, ад гр. automatos = самарухомы) — 1) апарат, машына, якая выконвае работу па зададзенай праграме без непасрэднага ўдзелу чалавека; 2) від ручной скарастрэльнай зброі.

**АЎТАМАТО́РНЫ** (ад *аўта-* + *матор*) — які мае адносіны да аўтамабільных матораў, іх канструявання і вытворчасці.

**АЎТАМАТРЫ́СА** (фр. automatrice) — чыгуначны пасажырскі або службовы вагон з уласным рухавіком.

**АЎТАМАТЫЗА́ЦЫЯ** (ад гр. automatos = самарухомы) — прымяненне тэхнічных сродкаў, эканаміча-матэматычных метадаў і сістэм кiравання для замены чалавека ў працэсе вытворчасці.

**АЎТАМАТЫ́ЗМ** (гр. automatismos = самачынны) — 1) *псіх.* дзеянні, якія выпрацоўваюцца ў выніку трэніроўкі і ажыццяўляюцца амаль без кантролю свядомасці (навыкі, звычкі); 2) *фізіял.* здольнасць некаторых органаў жывёл (напр. сэрца) выяўляць актыўнасць пад уплывам стымулаў, якія ўзнікаюць у іх саміх.

**АЎТАМА́ТЫКА** (ад гр. automatos = самарухомы) — 1) сукупнасць механізмаў і прыстасаванняў, якія дзейнічаюць без непасрэднага ўдзелу чалавека; 2) галіна навукі і тэхнікі, якая распрацоўвае метады і сродкі *аўтаматызацыі* вытворчых працэсаў.

# А

**АЎТАМАТЫ́ЧНЫ** (ад гр. automatos = самарухомы) — 1) які дзейнічае з дапамогай *аўтамата*; 2) *перан.* міжвольны, машынальны.

**АЎТАМАШЫ́НА** (ад *аўта-* + *машына*) — тое, што і *аўтамабіль*.

**АЎТАМАШЫНІ́СТ** (ад *аўта-* + *машыніст*) — аўтаматычнае прыстасаванне, якое выконвае функцыі машыніста поезда.

**АЎТАМЕТАМАРФІ́ЗМ** (ад *аўта-* + *метамарфізм*) — змена магматычнай горнай пароды пад уплывам рэчываў, якія выдзяляюцца ў час яе ахаладжэння.

**АЎТАМЕ́ТРЫЯ** (ад *аўта-* + *-метрыя*) — раздзел *метралогіі*, які вывучае тэарэтычныя асновы праектавання аўтаматычных вымяральных і кантрольных прыбораў і вымяральных інфармацыйных сістэм.

**АЎТАМЕХАНАХО́РЫЯ** (ад *аўта-* + *механахорыя*) — спосаб распаўсюджання насення самой раслінай.

**АЎТАМІ́КСІС** (ад *аўта-* + *-міксіс*) — зліццё палавых клетак, якія належаць адной і той жа асобіне (пашырана сярод прасцейшых, грыбоў, водарасцей).

**АЎТАМО́РФНЫ** (ад *аўта-* + *-морфны*); а - ы я г л е б ы — глебы, якія фарміруюцца ва ўмовах атмасфернага ўвільгатнення і на працягу вегетатыўнага перыяду не бываюць пераўвільготненымі.

**АЎТАМОТАДРО́М** (ад *аўта-* + *мотадром*) — спецыяльна абсталяваная тэрыторыя для спаборніцтваў і выпрабавання аўтамабіляў і матацыклаў.

**АЎТАМОТАКЛУ́Б** (ад *аўта-* + *мота-* + *клуб*) — грамадская арганізацыя, якая аб'ядноўвае спартсменаў і аматараў аўтамабільнага і матацыклетнага спорту.

**АЎТАМОТАЛАТАРЭ́Я** (ад *аўта-* + *мота-* + *латарэя*) — латарэя, у якой разыгрываюцца аўтамабілі, матацыклы і інш.

**АЎТАМОТАСПО́РТ** (ад *аўта-* + *мота-* + *спорт*) — аўтамабільны і матацыклетны спорт.

**АЎТАМУТАГЕ́НЫ** (ад *аўта-* + *мутагены*) — рэчывы, якія ўтвараюцца ў жывёльных і раслінных клетках у працэсе жыццядзейнасці і выклікаюць спадчынныя змены.

**АЎТАНАМІЗА́ЦЫЯ** (ад *аўтаномія*) — наданне якой-н. частцы дзяржавы аўтаноміі.

**АЎТАНАМІ́СТ** (ад *аўтаномія*) — прыхільнік *аўтаноміі* 1.

**АЎТАНЕЎРЫ́Я** (ад *аўта-* + гр. neuron = нерв) — нармальнае ў адрозненне ад *хіястанеўрыі* становішча нервовых ствалоў у брухаcногіх малюскаў.

**АЎТАНІ́М** (ад *аўта-* + гр. onyma = імя) — сапраўднае імя аўтара, які піша пад псеўданімам.

**АЎТАНО́МІЯ** (гр. autonomia, ад autos = сам + nomos = закон) — 1) права насельніцтва якой-н. часткі дзяржавы самастойна вырашаць справы ўнутранага кіравання; самакіраванне; 2) вызначальнасць якой-н. з'явы ўнутранымі законамі (*гетэраномія*).

**АЎТАНО́МНЫ** (гр. autonomos) — 1) які карыстаецца *аўтаноміяй* 1, мае аўтаномію; 2) які дзейнічае самастойна (напр. а. рэжым станцыі).

**АЎТАПАВІЛЬЁН** (ад *аўта-* + *павільён*) — лёгкі будынак на аўтобусных прыпынках для кароткачасовага знаходжання пасажыраў.

**АЎТАПАЛІГО́Н** (ад *аўта-* + *палігон*) — спецыяльна абсталяваны ўчастак мясцовасці для выпрабаванняў аўтамабіляў.

**АЎТАПА́РК** (ад *аўта-* + *парк*) — месца стаянкі, тэхнічнага абслугоўвання і рамонту аўтамабіляў, а таксама наяўны склад аўтамабільнай тэхнікі.

**АЎТАПАРТРЭ́Т** (ад *аўта-* + *партрэт*) — партрэт мастака, скульптара, выкананы ім самім.

**АЎТАПІЛО́Т** (ад *аўта-* + *пілот*) — прыстасаванне для аўтаматычнага кіравання лятальным апаратам.

**АЎТАПЛА́СТЫКА** (ад *аўта-* + *-пластыка*) — перасаджванне хвораму яго ўласнай тканкі для аднаўлення цэласнасці, формы і функцыі органа (параўн. *аўтатрансплантацыя*).

**АЎТАПНЕЎМАТО́ЛІЗ** (ад *аўта-* + *пнеўматоліз*) — утварэнне ў выніку *крышталізацыі* магматычнай пароды новых мінералаў.

**АЎТАПОЛІПЛАІДЫ́Я** (ад *аўта-* + *поліплаідыя*) — кратнае павелічэнне колькасці набораў *храмасом* у клетках раслін, радзей жывёл аднаго і таго ж віду.

**А́ЎТАР** (лац. auctor) — стваральнік літаратурнага або іншага мастацкага твора, навуковай працы, праекта, вынаходства і інш.

**АЎТАРАДЫЯГРА́МА** (ад *аўта-* + *радыяграма*) — фатаграфічны здымак, атрыманы пры дапамозе *аўтарадыяграфіі*.

**АЎТАРАДЫЯГРА́ФІЯ** (ад *аўта-* + *радыяграфія*) — метад рэгістрацыі размеркавання радыеактыўных рэчываў у аб'екце пры дапамозе накладвання на аб'ект адчувальнай да радыеактыўнага выпрамянення плёнкі.

**АЎТАРА́ЛІ** (ад *аўта-* + *ралі*) — тое, што і *ралі*.

**АЎТАРАМО́НТНЫ** (ад *аўта-* + *рамонт*) — які мае адносіны да рамонту аўтамабіляў.

**АЎТАРАТА́ЦЫЯ** (ад *аўта-* + *ратацыя*) — самапаварочванне самалёта вакол падоўжнай восі; гэтай з'явай тлумачыцца штопар самалёта.

**АЎТАРКІ́Я** (гр. autarkeia = самазадаволенасць) — палітыка эканамічнага адасаблення краіны або асобных яе рэгіёнаў ад эканомікі іншых дзяржаў ці астатніх рэгіёнаў з мэтай стварэння замкнутай гаспадаркі.

**АЎТАРЫЗАВА́НЫ** (ад *аўтарызаваць*) — зроблены са згоды *аўтара*, адобраны ім (пра пераклад твора).

**АЎТАРЫЗАВА́ЦЬ** (фр. autoriser = дазваляць) — даваць згоду на пераклад, інсцэніроўку ці экранізацыю свайго твора.

**АЎТАРЫЗА́ЦЫЯ** (фр. autorisation = дазвол) — выражэнне аўтарам згоды на пераклад, інсцэніроўку ці экранізацыю свайго твора.

**АЎТАРЫТА́РНЫ** (фр. autoritaire = уладны, ад лац. auctoritas = улада) — 1) заснаваны на безагаворачным падпарадкаванні ўладзе (напр. а. рэжым); 2) які імкнецца ўмацаваць сваю ўладу.

# А

**АЎТАРЫТАРЫ́ЗМ** (фр. autoritarisme, ад лац. auctoritas = улада) — антыдэмакратычная сістэма палітычнага ўладарання, якая характарызуецца рэжымам асабістай улады, дыктатарскімі метадамі кіравання.

**АЎТАРЫТЭ́Т** (ням. Autorität, ад лац. auctoritas = уплыў, значнасць) 1) агульнапрызнанае значэнне, уплыў, якімі карыстаецца якая-н. асоба дзякуючы плённай дзейнасці ў пэўнай галіне (у навуцы, мастацтве, палітыцы і г. д.); 2) асоба, якая карыстаецца ўсеагульнай павагай, прызнаннем, мае ўплыў.

**АЎТАРЫТЭ́ТНЫ** (ад *аўтарытэт*) — 1) уплывовы, які заслугоўвае даверу; 2) які не дапускае пярэчанняў, уладны (пра тон, жэст, выгляд).

**АЎТАРЭГУЛЯ́ТАР** (ад *аўта-* + *рэгулятар*) — сукупнасць прыстасаванняў для аўтаматычнага (без удзелу чалавека) рэгулявання.

**АЎТАРЭГУЛЯ́ЦЫЯ** (ад *аўта-* + *рэгуляцыя*) — цыклічны працэс аўтаматычнага падтрымлівання раўнамернага стану ў біялагічных сістэмах.

**АЎТАРЭПРАДУ́КЦЫЯ** (ад *аўта-* + *рэпрадукцыя*) — тое, што і *рэплікацыя*.

**АЎТАРЭФЕРА́Т** (ад *аўта-* + *рэферат*) — кароткі выклад аўтарам сваёй навуковай працы (напр. а. дысертацыі).

**АЎТАРЭФРЫЖЭРА́ТАР** (ад *аўта-* + *рэфрыжэратар*) — аўтамабіль-рэфрыжэратар.

**АЎТАСАЛО́Н** (ад *аўта-* + *салон*) — выстаўка (раздзел выстаўкі), дзе дэманструюцца новыя мадэлі аўтамабіляў.

**АЎТАСЕРАТЭРАПІ́Я** (ад *аўта-* + *launch сератэрапія*) — лячэнне інфекцыйных хвароб увядзеннем хворым сывараткі іх уласнай крыві.

**АЎТАСІ́Н** [ад *аўта-* + *сін(хронны)*] — тое, што і *сельсін*.

**АЎТАСКАПІ́Я** (ад *аўта-* + *-скапія*) — агляд поласці гартані і дыхальных шляхоў без аптычных прыбораў (параўн. *ларынгаскапія*).

**АЎТАСО́МЫ** (ад *аўта-* + *сома*) — усе, акрамя палавых, *храмасомы* ў клетках раздзельнаполых жывёл і раслін.

**АЎТАСПО́РЫ** (ад *аўта-* + *споры) — апланаспоры* ў некаторых хларакокавых водарасцей.

**АЎТАСТА́РТ** (ад *аўта-* + *старт*) — узлёт *планёра* пры дапамозе самаходнай лябёдкі.

**АЎТАСТОП** (ад *аўта-* + *стоп*) — 1) прыстасаванне для аўтаматычнага спынення поезда пры падыходзе яго да закрытага пуцявога сігналу, калі машыніст яго не заўважыў; 2) сістэма арганізаванага выкарыстання турыстамі спадарожнага аўтатранспарту для праезду часткі шляху.

**АЎТАСТРА́ДА** (іт. autostrada) — шырокая шаша, падзеленая на палосы, для масавага і хуткага аўтамабільнага руху.

**АЎТАСТЫЛІ́Я** (ад *аўта-* + гр. stilos = слуп, апора) — тып сучлянення сківічнага апарата з восевым чэрапам (у хімерападобных, дваякадыхаючых, земнаводных, амніётаў).

**АЎТАСТЭРЫ́ЛЬНАСЦЬ** (ад *аўта-* + *стэрыльнасць*) — нязголь-

насць пылку раслін прарастаць на рыльцы песціка сваёй кветкі, другіх кветак раслін таго ж сорту.

**АЎТАСУГЕ́СТЫЯ** (ад *аўта-* + *сугестыя*) — самаўплыў на псіхіку, самаўнушэнне.

**АЎТАСЭ́РВІС** (ад *аўта-* + *сэрвіс*) — тэхнічнае абслугоўванне аўтамабіляў індывідуальнага карыстання.

**АЎТАТАМІ́Я** (ад *аўта-* + *-тамія*) — здольнасць некаторых жывёл пры рэзкім раздражненні адкідваць часткі цела, якія потым узнаўляюцца (напр. яшчаркі адкідваюць хвост, ракі — клюшні, актыніі — шчупальцы).

**АЎТАТО́РМАЗ** (ад *аўта-* + *тормаз*) — тормаз, які аўтаматычна ўступае ў дзеянне пры разрыве поезда.

**АЎТАТРАНСПЛАНТА́ЦЫЯ** (ад *аўта-* + *трасплантацыя*) — перасадка тканак або органаў на іншую частку цела таго самага арганізма (параўн. *аўтапластыка*).

**АЎТАТРАНСФАРМА́ТАР** (ад *аўта-* + *трансфарматар*) — электрычны трансфарматар, у якога абмоткай ніжэйшага напружання з'яўляецца частка абмоткі вышэйшага напружання.

**АЎТАТРАНСФУ́ЗІЯ** (ад *аўта-* + *трансфузія*) — пераліванне хвораму яго ўласнай крыві.

**АЎТАТРАПІ́ЗМ** (ад *аўта-* + *трапізм*) — здольнасць органаў раслін выпрамляцца пасля таго, як перастае дзейнічаць сіла, што выклікала выгін.

**АЎТАТРА́СА** (ад *аўта-* + *траса*) — аўтамабільная траса, шаша.

**АЎТАТРО́Н** (ад *аўта-* + гр. thronos = цэнтр) — сістэма аўтаматычнага кантролю і рэгулявання дакладнай устаноўкі друкарскіх формаў пры друкаванні на *ратацыйных* машынах.

**АЎТАТРО́ФНЫ** (ад *аўта-* + *-трофны*); а-ае возера — возера, вада якога забяспечвае арганізмы, што ў ёй жывуць, пажыўнымі рэчывамі, утворанымі ў сваім вадаёме; а-ыя арганізмы — тое, што і *аўтатрофы* (параўн. *гетэратрофны*).

**АЎТАТРО́ФЫ** (ад *аўта-* + *-трофы*) — арганізмы, якія ствараюць неабходныя для свайго жыцця арганічныя рэчывы з неарганічных у працэсе *фотасінтэзу* або *хемасінтэзу (параўн. гетэратрофы)*.

**АЎТАТРЭ́НІНГ** (ад *аўта-* + *трэнінг*) — спецыяльны трэніровачны рэжым, выпрацаваны пэўнай асобай; саматрэніроўка.

**АЎТАТУРЫ́ЗМ** (ад *аўта-* + *турызм*) — турысцкія падарожжы на аўтамабілях.

**АЎТАТЫ́ПІЯ** (ад *аўта-* + *-тыпія*) — паліграфічны спосаб узнаўлення паўтонавых і шматколерных адлюстраванняў (малюнкаў, фотаздымкаў) сродкамі высокага друку.

**АЎТАФАЗІРО́ЎКА** (ад *аўта-* + *фаза*) — аўтаматычнае падключэнне частаты абарочвання часціцы ў паскаральніку да частаты паскараючага электрычнага поля, якое забяспечвае паскарэнне *электронаў, пратонаў* і іншых зараджаных часціц.

**АЎТАФЕРТЫ́ЛЬНАСЦЬ** (ад *аўта-* + лац. *fertilis* = урадлівы) —

здольнасць раслін даваць пры самаапыленні нармальнае насенне.

**АЎТАФІЛІ́Я** (ад *аўта-* + *-філія*) — *уст.* самалюбаванне.

**АЎТАФРЭТА́Ж** (ад *аўта-* + фр. frettage = змацаванне абручамі) — змацненне гарматных ствалоў напрасоўваннем на іх кольцаў.

**АЎТАХАРЫ́Я** (ад *аўта-* + *-харыя*) — распаўсюджанне насення і спораў пры дапамозе прыстасаванняў самой расліны, без уздзеяння знешніх фактараў (напр. у фасолі лопае стручок).

**АЎТАХО́РЫ** (ад *аўта-* + гр. choreo = прасоўваюся) — расліны, якія распаўсюджваюцца без уздзеяння знешніх фактараў.

**АЎТАХРО́М** (ад *аўта-* + *хром*) — фотапласцінка для каляровага здымка.

**АЎТАХТО́ННЫ** (гр. autochthon) — які ўзнік, зарадзіўся на месцы сучаснага знаходжання (напр. а-ыя арганізмы).

**АЎТАХТО́НЫ** (гр. autochthon = мясцовы, карэнны) — 1) жывёлы або расліны, якія ўзніклі ў працэсе эвалюцыі ў той жа мясцовасці, у якой жывуць і зараз (параўн. *алахтоны* 1); 2) тое, што і *абарыгены* 1; 3) горныя пароды, выходныя матэрыялы якіх вынiклі на месцы іх утварэння.

**АЎТАШТУ́РМАН** (ад *аўта-* + *штурман*) — авіяцыйны прыбор, які аўтаматычна запісвае каардынаты лятальнага апарата, накрэсліваючы яго шлях на карце.

**АЎТАЭКАЛО́ГІЯ, АЎТЭКАЛО́ГІЯ** (ад *аўта-* + *экалогія*) — раздзел экалогіі, які вывучае прыстасавальнасць асобных відаў раслін і жывёл да ўмоў асяроддзя і спосабу жыцця віду (параўн. *сінэкалогія*).

**АЎТАЭКСПРЭ́С** (ад *аўта-* + *экспрэс*) — аўтобус, які рухаецца па маршруце з павышанай хуткасцю, без прыпынкаў або з мінімальнай колькасцю іх.

**АЎТАЭЛЕКТРО́ННЫ** (ад *аўта-* + *электрон*); а - а я  э м і с і я — выпусканне электронаў паверхняй цвёрдых цел і вадкасцей пад уздзеяннем моцнага электрычнага поля.

**АЎТБО́РТ** (англ. outboard, ад out = па-за + board = борт) — падвесны матор, часам і сама лодка з падвесным маторам.

**АЎТБРЫ́ДЗІНГ** (англ. outbreeding, ад out = па-за + breed = спарваць) — скрыжоўванне жывёл або раслін, якія не знаходзяцца ў родпасных адносінах (параўн. *інбрыдзінг*).

**АЎТО́БУС** [ад аўта(мабіль) + (омні)бус] — мнагамесны пасажырскі аўтамабіль.

**АЎТО́ГРАФ** (фр. autographe, ад гр. autos = сам + grapho = пішу) — 1) аўтарскі рукапісны тэкст (напр. а. верша М.Багдановіча); 2) уласнаручны подпіс, надпіс.

**АЎТО́Л** [ад *аўт(амабіль)* + *-ол*] — нафтавае масла для змазкі аўтамабільных і трактарных рухавікоў.

**АЎТО́ЛІЗ** (ад *аўта-* + *-ліз*) — самарастварэнне, распад тканак жывёльнага або расліннага арганізма пад уздзеяннем ферментаў, якія змяшчаюцца ў гэтых жа тканках.

**АЎТО́ПСІЯ** (гр. autopsia) — ускрыццё трупа для вызначэння прычын смерці.

**АЎТРА́ЙТ** (англ. outright = прамы, поўны) — простая тэрміновая валютная здзелка, якая прадугледжвае плацяжы па форвардным курсе ў строга вызначаны тэрмін.

**АЎТРЫ́ГЕР** (англ. outrigger) — 1) лодка з вынаснымі ўключынамі для вёсел, а таксама самі вынасныя ўключыны; 2) дадатковая апора, якая засцерагае ад перакульвання перасовачнае ўстройства, напр. пад'ёмны кран.

**АЎТСА́ЙДЭР** (англ. outsider) — 1) каманда або спартсмен, якія займаюць апошняе месца ў спаборніцтве; 2) прадпрыемства або *кампанія*, якая не ўваходзіць у манапалістычнае аб'яднанне.

**АЎТЫГЕ́ННЫ** (гр. authigenes = мясцовага паходжання); а - ы я м і н е р а л ы — мінералы асадачных горных парод, якія ўтварыліся ў працэсе *седыментацыі* і *літагенезу* на месцы намнажэння (напр. *галіт, сільвін, гіпс, кальцыт, даламіт, кварц, халцэдон*, палявы *шпат* і інш.).

**АЎТЫ́ЗМ** (ад гр. autos = сам, адзін) — хваравіты стан псіхікі чалавека, які характарызуецца паглыбленнем ва ўласныя ўнутраныя перажыванні, імкненнем адасобіцца ад знешняга свету і паступовым адрывам ад рэальнай дзейнасці.

**АЎТЭКАЛО́ГІЯ** гл. *аўтаэкалогія*.

**АЎТЭ́НТЫК** (польск. autentyk < лац. authenticus, ад гр. authentikos = адпаведны) — арыгінал, не копія.

**АЎТЭНТЫ́ЧНЫ** (польск. autentyczny < лац. authenticus, ад гр. authentikos) —дакладны, адпаведны арыгіналу (напр. а. тэкст).

**АФАГІ́Я** (ад *а-* + *-фагія*) — адсутнасць харчавання, характэрная для многіх дарослых насякомых (аваднёў, жукоў-дрывасекаў, некаторых матылькоў) у неспрыяльныя сезоны года, калі яны існуюць за кошт назапашаных у лічыначнай фазе энергетычных рэсурсаў.

**АФА́ЗІЯ** (гр. aphasia) — поўная ці частковая страта мовы ў выніку пашкоджання моўных цэнтраў галаўнога мозга.

**АФАЗМІ́ДЫ** (н.-лац. aphasmida) — тое, што і *адэнафарэі*.

**АФА́КІЯ** (ад *а-* + гр. phakos = сачавіца) — адсутнасць крышталіка ў воку.

**АФАНАМІ́ЦЭС** (н.-лац. aphanomyces) — ніжэйшы грыб сям. сапралегніевых, які развіваецца на раслінных і жывёльных рэштках у глебе і вадзе, паразітуе на вышэйшых раслінах, асабліва на бураках.

**АФАНАТЭ́ЦЭ** (н.-лац. aphanothece) — каланіяльная сіне-зялёная водарасць сям. ·мікрацысцievых, якая пашырана ў вадзе і глебе.

**АФАНАХЕ́ТЭ** (н.-лац. aphanophaete) — ніткаватая зялёная водарасць сям. афанахетавых, якая пасяляецца пераважна на *кладофары*.

**АФАНІЗАМЕНО́Н** (н.-лац. aphanizomenon) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. афанізаменонавых, якая пашырана ў прэсных і саланаватых водах умеранага клімату.

**АФАНІЗІ́Я** (ад гр. aphanizo = знікаю) — адзін з тыпаў знікнення органаў на працягу індывідуальна-

га развіцця арганізма, напр. зубоў у сцерлядзі.

**АФАНІ́ЧНЫ** (ад гр. aphonos = нямы, безгалосы) — бязгучны, сіплы.

**АФАНІ́Я** (гр. aphonia = немата) — страта голасу ў сувязі з захворваннем гартані або паражэннем нервовай сістэмы.

**АФАРТЫ́СТ** (ад *афорт*) — мастак-гравёр, спецыяліст па вырабе афортаў.

**АФАРЫ́ЗМ** (гр. aphorismos) — кароткае выразнае па форме і глыбокае па зместу выслоўе.

**АФАРЫСТЫ́ЧНЫ** (гр. aphoristikos) — уласцівы *афарызму*, напоўнены афарызмамі (напр. а-ая мова).

**АФАТЫ́ЧНЫ** (ад *а-* + гр. phos, photos = святло) — звязаны з глыбіннай зонай марскіх і азёрных вадаёмаў, у якую не пранікае святло.

**АФЕ́КТ** (лац. affectus = душэўнае хваляванне, страсць) — стан моцнага нервовага ўзрушэння і запальчывасці.

**АФЕКТАВА́ЦЬ** (лац. affectare) — паводзіць сябе ненатуральна, манерна.

**АФЕКТА́ЦЫЯ** (лац. affectatio) — штучная ўзрушанасць, перабольшанае і падкрэсленае выражэнне якога-н. пачуцця, настрою.

**АФЕКТЫ́ЎНЫ** (п.-лац. affectivus) — павышана-эмацыянальны.

**АФЕ́ЛІЙ** (ад гр. apo = ад + helios = Сонца) — найбольш аддалены ад Сонца пункт *арбіты* планеты, каметы або штучнага спадарожніка (проціл. *перыгелій*).

**АФЕЛІ́НУС** (лац. aphelinus) — паразітычнае насякомае атрада перапончатакрылых, пашыранае ў Паўд. Амерыцы, якое выкарыстоўваецца для барацьбы са шкоднікам яблыні крывяной тлёй.

**АФЕ́РА** (фр. affaire = справа) — нядобрасумленнае, махлярскае прадпрымальніцтва з мэтай нажывы; сумніўная здзелка.

**АФЕ́РТА** (с.-лац. offerta = ахвяра) — прапанова адной асобы другой асобе заключыць здзелку з дакладным пералікам усіх яе ўмоў.

**АФЕРТО́РЫЙ** (п.-лац. offertorium = прынашэнне) — каталіцкае песнапенне, якое выконваецца ў час абраду прынашэння і асвячэння дароў.

**АФЕРЫ́СТ** (ад *афера*) — той, хто займаецца аферамі; нядобрасумленны дзялок.

**АФЕРЭ́НТ** (лац. offerens, -ntis = які ахвяруе) — асоба, якая выступае з *афертай*.

**АФЕРЭНТА́ЦЫЯ** (ад лац. afferare = прыносіць) — перадача нервовага ўзбуджэння ад перыферыйных чуллівых нейронаў у цэнтральныя.

**АФЕРЭ́НТНЫ** (лац. afferens, -ntis = які прыносіць); а-ыя нервовыя валокны — нервовыя валокны, па якіх узбуджэнне перадаецца ад тканак у цэнтральную нервовую сістэму (параўн. *эферэнтны*).

**АФІДЫІ́ДЫ** (н.-лац. aphidiidae) — сямейства паразітычных перапончатакрылых; выкарыстоўваюцца ў біялагічнай барацьбе з тлямі.

**АФІДЭ́ВІТ** (англ. affidavit) — пісьмовае паказанне пад прысягай у англасаксонскім праве.

**АФІКАЛЬЦЫ́Т** (ад гр. ophis = змяя + *кальцыт*) — метамарфічная горная парода, разнавіднасць *мармуру*.

**АФІКЛЕІ́Д** (ад гр. ophis = змяя + kleis, -idos = ключ) — духавы музычны інструмент, які выглядам нагадвае змяю.

**А́ФІКС** (лац. affixus = прымацаваны) — *лінгв. марфема*, акрамя кораня і канчатка, якая служыць для ўтварэння слоў і для надання ім новага значэння.

**АФІЛІ́Я** (ад *а-* + *-філія*) — адсутнасць лістоў у раслін, звычайна ў выніку *рэдукцыі* 2, напр. у кактусаў, горнага саксаула.

**АФІЛІЯ́ЦЫЯ** (ад англ. affiliate = далучацца, устанаўліваць сувязі) — *псіх.* імкненне чалавека быць сярод людзей; павялічваецца ў час небяспекі.

**АФІНА́Ж** (фр. affinage) — ачышчэнне ад прымесей золата, плаціны, серабра.

**АФІНА́ЦЫЯ** (ад фр. affiner = ачышчаць) — папярэдняе ачышчэнне цукру-пяску ад пабочных дамешак перад *рафінацыяй*.

**АФІНЕ́РНЫ** (фр. affiner = ачышчаць) — *тэх.* ачышчаны ад прымесей.

**АФІНІ́РАВАЦЬ** (фр. affiner = ачышчаць) — рабіць *афінацыю*.

**АФІ́ННЫ** (лац. affinis) — сумежны, суседні; а - а я  г е а м е т р ы я — раздзел *матэматыкі*, які вывучае велічыні і геаметрычныя аб'екты, якія застаюцца нязменнымі пры пераўтварэннях.

**АФІНО́ГРАФ** (ад лац. affinis = сумежны + *-граф*) — прыбор для вычэрчвання плоскай фігуры, якая атрымліваецца з зададзенай фігуры ў выніку *афінных* пераўтварэнняў.

**АФІРМА́ЦЫЯ** (лац. affirmatio) — пацвярджэнне, запэўненне.

**АФІУ́РЫ** (ад гр. ophis = змяя + ura = хвост) — клас беспазваночных жывёл тыпу ігласкурых; пашыраны пераважна ў трапічных морах.

**АФІЦЫ́ДЫ** (ад лац. aphis = тля + *-цыды*) — хімічныя рэчывы для знішчэння тлі.

**АФІЦЫЁЗ** (ням. Offiziös, ад лац. officiosus = паслужлівы) — газета, часопіс, бюлетэнь або іншае друкаванае выданне, якое фармальна не з'яўляецца органам урада, але выражае яго палітыку.

**АФІЦЫЁЗНЫ** (лац. officiosus = паслужлівы) — які фармальна не звязаны з урадам, але на справе праводзіць яго погляды (напр. а-ая газета).

**АФІЦЫ́ЙНЫ** гл. *афіцыяльны*.

**АФІЦЫЯ́Л** (лац. officiallis = урадавы, службовы) — 1) чыноўнік, які загадваў урадавай канцылярыяй у Стараж. Рыме; 2) службовая асоба пры епіскапе, якая ў сярэдневяковы перыяд выконвала царкоўна-судовыя функцыі.

**АФІЦЫЯ́ЛЬНЫ, АФІЦЫ́ЙНЫ** (лац. officialis = урадавы, службовы) — 1) урадавы, службовы (напр. а-ае паведамленне); 2) зроблены па ўстаноўленай форме з захаваннем усіх фармальнасцей (напр. а. прыём); 3) падкрэслена стрыманы (напр. а. тон размовы).

**АФІЦЫЯ́НТ** (ням. Offiziant, ад с.-лац. officians, -ntis = служачы) — работнік рэстарана, кавярні, стало-

вай, які падае стравы наведвальнікам.

**АФІЦЭ́Р** (ням. Offizier) — асоба каманднага саставу арміі і флоту, а таксама міліцыі і паліцыі (ад малодшага лейтэнанта да палкоўніка ўключна).

**АФІ́ША** (фр. affiche) — аб'ява аб спектаклі, канцэрце, лекцыі, якая вывешваецца на відным месцы.

**АФІШЫ́РАВАЦЬ** (фр. afficher) — выстаўляць напаказ, падкрэсліваць што-н. сваімі паводзінамі.

**АФІЯБО́Л** (н.-лац. ophiobolus) — сумчаты грыб сям. плеяспоравых, які развіваецца на адмерлых сцёблах і лісці пераважна травяністых раслін.

**АФІЯЛІ́ТЫ** (ад гр. ophis = змяя + *-літ*) — асноўныя і асадачныя горныя пароды, якія трапляюцца разам.

**АФІЯПАГО́Н** (н.-лац. ophiopogon) — травяністая расліна сям. лілейных з доўгім лісцем і белымі або фіялетавымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная ў Кітаі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**АФІЯСЕМІЁН** (н.-лац. aphyosemion) — рыба атрада карпазубых з вельмі прыгожай афарбоўкай, якая пашырана пераважна ў вадаёмах Афрыкі; на Беларусі гадуецца як акварыумная.

**АФІЯСТО́МА** (н.-лац. ophiostoma) — сумчаты грыб з сям. афіястомавых, які паразітуе на ствалах лісцевых і хвойных дрэў.

**АФІЯХА́РАКС** (н.-лац. aphyocharax) — рыба атрада карпападобных, якая жыве ў вадаёмах басейна ракі Параны; на Беларусі гадуецца як акварыумная.

**АФІЯЦЫ́ТЫУМ** (н.-лац. ophiocytium) — аднаклетачная або каланіяльная жоўта-зялёная водарасць сям. сцыядавых, якая трапляецца ў вадаёмах рознага тыпу.

**АФО́РТ** (фр. eau-forte = азотная кіслата) — від *гравюры* на метале, атрыманай траўленнем азотнай кіслатой папярэдне нанесенага на ім малюнка, а таксама адбітак з такой гравюры.

**АФРО́НТ** (фр. affront) — *уст.* публічная знявага; неспадзяваная непрыемнасць.

**АФРЫКА́АНС** (гал. afrikaans) — бурская мова, адна з дзяржаўных моў Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі, родная галандскай мове.

**АФРЫКА́ТА** (лац. affricata = прыцёртая) — *лінгв.* зычны гук са складанай змычна-шчылінай артыкуляцыяй (напр. ц-тс, ч-тш).

**АФСА́ЙД** (англ. off side = па-за гульнёй) — становішча па-за гульнёй у *футболе, хакеі* і інш.

**АФСЕ́Т** (англ. offset) — спосаб друку, пры якім фарба перадаецца з друкарскай формы на гумавую паверхню, а з яе на паперу.

**АФСЕ́ТНЫ** (ад *афсет*); а. д р у к — тое, што і *афсет*.

**АФТАЛЬМА-** (гр. ophthalmos = вока) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «вочны», «хвароба вачэй».

**АФТАЛЬМАДЫНАМАМЕ́ТРЫЯ** (ад *афтальма-* + *дынамаметрыя*) — вымярэнне артэрыяльнага ціску ў сасудах сеткаватай абалон-

кі вока пры дапамозе спецыяльнага прыбора.

**АФТАЛЬМАЛО́ГІЯ** (ад *афтальма-* + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае хваробы вачэй і распрацоўвае метады іх лячэння.

**АФТАЛЬМАМЕ́ТРЫЯ** (ад *афтальма-* + *-метрыя*) — вымярэнне скрыўленняў аптычнай паверхні вока пры дапамозе *афтальмометра*.

**АФТАЛЬМАПЛЕГІ́Я** (ад *афтальма-* + гр. plege = удар, паражэнне) — адначасовы параліч усіх чэрапнамазгавых нерваў, якія інервуюць вочныя мышцы.

**АФТАЛЬМАРЭА́КЦЫЯ** (ад *афтальма-* + *рэакцыя*) — метад дыягностыкі сапу, туберкулёзу, бруцэлёзу ў жывёл: у адказ на ўвядзенне ў *кан'юнктыву* вока спецыяльнага *антыгена* ў ёй развіваецца характэрны запаленчы працэс.

**АФТАЛЬМАСКАПІ́Я** (ад *афтальма-* + *-скапія*) — метад даследавання вочнага дна чалавека пры дапамозе *афтальмаскопа*.

**АФТАЛЬМАСКО́П** (ад *афтальма-* + *-скоп*) — медыцынскі прыбор у выглядзе спецыяльнага люстэрка або аптычнай сістэмы для агляду дна вока.

**АФТАЛЬМІ́Я** (гр. ophthalmia) — захворванне вока, пераважна запаленчага характару.

**АФТАЛЬМО́ЛАГ** (ад *афтальма-* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *афтальмалогіі*.

**АФТАЛЬМО́МЕТР** (ад *афтальма-* + *- метр*) — прыбор для вымярэння скрыўленняў аптычнай паверхні вока.

**А́ФТЫ** (гр. aphthai) — круглыя ранкі на слізістай абалонцы рота, якія развіваюцца пры некаторых захворваннях.

**АФТЭРШО́КІ** (англ. aftershock) — падземныя штуршкі, якія ідуць за землетрасеннем.

**АФ-ШО́Р** (англ. off shore = *літар*. удалечыні ад берага) — від кампаніі, якая створана або зарэгістравана на тэрыторыі замежнай, галоўным чынам невялікай дзяржавы, і карыстаецца падатковымі льготамі.

**АХАЛІ́Я** (ад *а-* + гр. chole = жоўць) — паталагічны стан, пры якім жоўць не паступае ў дванаццаціперсную кішку.

**АХАНДРЫ́Т** (ад *а-* + *хандрыт*[2] — каменны *метэарыт*, які не змяшчае характэрных для хандрыту круглых мінеральных утварэнняў.

**АХАТЫНІ́ДЫ** (н.-лац. achatinidae) — сямейства *малюскаў*, пашыранае ў трапічных і субтрапічных зонах; шкодзяць сельскагаспадарчым культурам, у прыватнасці пасевам цукровага трыснягу.

**АХВЯ́РА** (ст.-польск. ofiara < чэш. ofěra < с.-в.-ням. opfer, ад с.-лац. offerre = ахвяраваць) — 1) жывая істота або прадмет, прынесеныя як дар бажаству паводле абрадаў некаторых рэлігій; 2) добраахвотная ўступка, адмаўленне, адрачэнне на карысць чаго-н.; 3) *перан*. той, хто пацярпеў або загінуў ад якога-н. няшчасця, стыхійнага бедства, сацыяльнага зла.

**АХВЯРАВА́ЦЬ** (ст.-польск. ofiarowac, ад с.-лац. offerre) — 1) добраахвотна аддаваць, прыносіць у

дар што-н.; 2) адмаўляцца ад каго-н., чаго-н.

**АХІЛІ́Я** ( ад *а-* + гр. chylos = сок) — адсутнасць салянай кіслаты і *пепсіну* ў страўнікавым соку.

**АХІМЕ́НЕС** (н.-лац. achimenes) — травяністая расліна сям. геснерыевых з круглым лісцем і блакітнымі, чырвонымі або ружовымі кветкамі, пашыраная ў трапічнай Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**АХІНЕ́Я** (рус. ахинея, ад гр. athenatos = афінскі) — глупства, бязглуздзіца.

**АХЛАКРА́ТЫЯ** (ад гр. ochlos = натоўп + *-кратыя*) — 1) панаванне «натоўпу» ў старажытнагрэчаскіх вучэннях аб дзяржаве (Платон, Арыстоцель); 2) улада грамадска-палітычных груповак, якія апелююць да папулісцкіх настрояў у найбольш прымітыўных варыянтах.

**А́ХЛІЯ** (н.-лац. achlya) — ніжэйшы грыб сям. сапралегніевых, які развіваецца ў вадаёмах на трупах жывёл, паразітуе на рыбах і жабах.

**А́ХМІСТР** (ст.-польск. ochmistrz < с.-в.-ням. hovemeister ) — адміністрацыйная пасада ў гаспадарках магнатаў і шляхты ў сярэдневяковай Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім; кіраўнік панскага двара.

**АХМІСТРЫ́НЯ** (ад ахмістр) — *уст.* жанчына, якая вяла гаспадарку ў багатым доме; аканомка.

**АХНАНТЭ́С** (н.-лац. achnantes) — аднаклетачная або каланіяльная *дыятомавая* водарасць сям. ахнантавых, якая трапляецца ў прэсных, саланаватых і марскіх вадаёмах.

**АХОЛЕПЛА́ЗМЫ** (н.-лац. acholeplasmataceae) — сямейства мікраарганізмаў класа *мікаплазмаў*, якія пашыраны ў сцёкавых водах, глебе.

**АХОНДРАПЛА́ЗІЯ** (ад *а-* + гр. chondros = храсток + plasis = фармаванне) — прыроджанае адставанне ў росце касцей канечнасцей пры нармальным росце тулава, шыі і галавы.

**АХРАЛЕ́ХІЯ** (н.-лац. ochrolechia) — накіпны сумчаты лішайнік сям. пертузарыевых, які расце на кары дрэў і кустоў, імхах, раслінных рэштках, мёртвай драўніне, зрэдку на камянях.

**АХРАМА́Т** (гр. achromatos = бясколерны) — *аб'ектыў*, у якім выпраўлена храматычная *аберацыя*, як у біноклях, аптычных прыцэлах і інш.

**АХРАМАТАПСІ́Я** (ад гр. achromatos = бясколерны + opsis = зрок) — недахоп зроку, які заключаецца ў няздольнасці адрозніваць колеры (параўн. *дальтанізм*).

**АХРАМАТЫ́ЗМ** (ад гр. achromatos = бясколерны) — здольнасць аптычнай сістэмы не раскладаць светлавога праменя на састаўныя колеры пры пераламленні.

**АХРАМАТЫ́ЧНЫ** (гр. achromatos) — бясколерны, неафарбаваны.

**АХРАМАЦІ́Н** (ад *а-* + *храмацін*) — рэчыва ядра жывёльнай і расліннай клеткі, якое слаба афарбоўваецца пры гісталагічнай апрацоўцы (проціл. *храмацін)*.

**АХРАМІ́Я** (ад *а-* + *-храмія*) — прыроджанае або набытае абясколерванне скуры, напр. пры *альбі-*

*нізме*, пры некаторых захворваннях.

**АХРАПСО́РА** (н.-лац. ochropsora) — *базідыяльны* грыб сям. пукцыніевых, які развіваецца на лісці розных раслін.

**АХТЭРЛЮ́К** (гал. achterluik) — люк для загрузкі судна, а таксама памяшканне ў труме судна для захоўвання правіянту ў бочках або цыстэрнах.

**АХТЭРПІ́К** (гал. achterpiek) — крайні адсек кармавога трума на судне, дзе змяшчаюць баласт, каб пазбегнуць *дыферэнта* судна.

**АХТЭРШТЭ́ВЕНЬ** (гал. achtersteven) — ніжняя кармавая частка судна, якая з'яўляецца прадаўжэннем *кіля* 1.

**АЦЫДАФІЛІ́Н** (ад лац. acidus = кіслы + гр. phileo = люблю) — малако, скващанае з дапамогай асобых бактэрый.

**АЦЫДАФІ́ЛІЯ** (ад лац. acidus = кіслы + *-філія*) — здольнасць клетак і тканак жывёлы або расліны афарбоўвацца кіслымі фарбавальнікамі (параўн. *базафілія*).

**АЦЫДАФІ́ЛЬНЫ** (ад лац. acidus = кіслы + гр. phileo = люблю); а - ы я а р г а н і з м ы — арганізмы, для развіцця якіх неабходна значная кіслотнасць асяроддзя (напр. верас, лубін).

**АЦЫДАФО́БНЫ** (ад лац. acidus = кіслы + гр. phobos = страх); а - ы я а р г а н і з м ы — арганізмы, якія не вытрымліваюць значнай кіслотнасці і развіваюцца толькі ў нейтральным і шчолачным асяроддзі (напр. буракі, фасоля).

**АЦЫДО́З** (ад лац. acidus = кіслы) — намнажэнне ў крыві і тканках арганізма адмоўна зараджаных часцінак (*аніёнаў*) кіслот (параўн. *алкалоз*).

**АЦЫДЫМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. acidus = кіслы + *-метрыя*) — метад вызначэння колькасці кіслаты ў растворах.

**АЦЫКЛІ́ЧНЫ** (ад *а-* + *цыклічны*) — тое, што і *аліфатычны*.

**АЦЫКЛІ́Я** (ад *а-* + гр. kyklos = круг) — размнажэнне выключна ў форме *партэнагенезу*, якое сустракаецца ў некаторых відаў галініставусых ракаў.

**АЦЫЛАВА́ЦЬ** (ад. англ. acyl = кіслотны радыкал) — замяшчаць атамы вадароду ў арганічных злучэннях дапаўняльнікам *карбонавай* кіслаты.

**А́ЦЫНУС** (лац. acinus = ягада, гронка) — 1) канцавы *сакраторны* аддзел альвеалярнай залозы; 2) першасная структурная адзінка лёгкага, якая складаецца з альвеалярных ходаў з *альвеоламі* 2.

**АЦЭЛО́Т** (фр. ocelot, ад індз. ocelot) — вялікая дзікая кошка, якая водзіцца ў Паўд. Амерыцы.

**АЦЭЛЯ́РЫЯ** (н.-лац. acellaria) — ніжэйшы грыб сям. ацэлярыевых, які жыве ў кішэчніку, страўніку або на анальных пласцінках водных і наземных насякомых, ракападобных, мнаганожак, дзе прымацоўваецца асобай клеткай.

**АЦЭРАТЭ́РЫЙ** (н.-лац. aceratherium) — вымерлы бязрогі насарог, які жыў у *палеагене* і *неагене*.

**АЦЭТ-** (лац. acetum = воцат) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «воцатная кіслата».

# А

**АЦЭТАЛЬДЭГІ́Д** (ад *ацэт-* + *альдэгід*) — арганічнае злучэнне, альдэгід воцатнай кіслаты, вадкасць, якая кіпіць пры 20$^0$С; выкарыстоўваецца для вытворчасці воцатнай кіслаты, фармацэўтычных прэпаратаў.

**АЦЭТАМІ́Д** (ад *ацэт-* + *амід*) — арганічнае злучэнне, амід воцатнай кіслаты, цвёрды бясколерны крышталічны прадукт; выкарыстоўваецца як растваральнік, пры вытворчасці скуры, сукна, паперы.

**АЦЭТАНІЛІ́Д** (ад *ацэт-* + *анілін*) — арганічнае злучэнне, бясколернае крышталічнае рэчыва; выкарыстоўваецца як гарачкапанiжальны лекавы сродак і ў сінтэзе фарбавальнікаў.

**АЦЭТАНІТРЫ́Л** (ад *ацэт-* + *нітрыл*) — нітрыл воцатнай кіслаты, бясколерная вадкасць; выкарыстоўваецца як растваральнік для многіх солей мінеральных кіслот.

**АЦЭТА́ТЫ** (ад лац. acetum = воцат) — група арганічных злучэнняў, солі і эфіры воцатнай кіслаты; солі выкарыстоўваюцца як каталізатары, эфіры — як растваральнікі.

**АЦЭТО́Н** (ад лац. acetum = воцат) — арганічнае злучэнне, бясколерная вадкасць, якая з'яўляецца растваральнікам тлушчаў, смолаў і выкарыстоўваецца ў вытворчасці лакаў, выбуховых рэчываў, штучнага шоўку.

**АЦЭТЫ́Л** (ад лац. acetum = воцат) — аднавалентны кіслотны *радыкал*[1] 2, які паходзіць ад воцатнай кіслаты.

**АЦЭТЫЛЕ́Н** (ад *ацэт-* + гр. hyle = рэчыва, сыравіна) — арганічнае злучэнне, бясколерны гаручы газ, які складаецца з вугляроду і вадароду і разам з паветрам утварае выбуховыя сумесі; выкарыстоўваецца для зваркі металаў, атрымання многіх важных сінтэтычных *палімераў*.

**АЦЭТЫЛСАЛІЦЫ́ЛАВЫ** (ад *ацэтыл* + *саліцылавы*); а - а я к і с - л а т а — вытворнае саліцылавай кіслаты, белае крышталічнае рэчыва; процізапаленчы сродак з анальгетычнымі і гарачкапанiжальнымі ўласцівасцямі.

**АЦЭТЫЛХАЛІ́Н** (ад *ацэтыл* + *халін*) — арганічнае злучэнне, воцатнакіслы *эфір* халіну, бясколерны крышталічны прадукт; выкарыстоўваецца ў медыцыне як *медыятар* 3.

**АЦЭТЫЛХЛАРЫ́Д** (ад *ацэтыл* + *хларыд*) — хлорысты ацэтыл, бясколерная вадкасць з рэзкім пахам.

**АЦЭТЫЛЦЭЛЮЛО́ЗА** (ад *ацэтыл* + *цэлюлоза*) — воцатнакіслы эфір цэлюлозы, белая аморфная маса; выкарыстоўваецца для вырабу штучнага валакна, вогнетрывалай кінаплёнкі, лакаў.

**АЦЭФАЛІ́Я** (ад гр. akephalos = без галавы) — прыроджаная адсутнасць галавы ў плода ў выніку *анамаліі* развіцця.

**АШУ́Г** ( цюрк. ašik, ад ар. 'ašiq = закаханы) — народны паэт-спявак і музыкант у каўказскіх народаў.

**АШЭ́ЛЬ** (фр. Acheul = назва мясцовасці ў Францыі) — археалагічная культура ранняга *палеаліту* ў Еўропе, Афрыцы і Азіі.

**АЭ́ДЫ** (гр. aoidos = спявак) — песняры, якія ў пачатковы перыяд развіцця старажытнагрэчаскай лі-

таратуры складалі і выконвалі песні пад акампанемент струннага інструмента.

**АЭРА-** (гр. aer, aeros = паветра) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «авіяцыйны», «паветраны».

**АЭРААТЫ́Т** (ад *аэра-* + *атыт*) — захворванне сярэдняга вуха, якое можа развівацца пры перападах бараметрычнага ціску.

**АЭРАБІЁЗ** (ад *аэра-* + *-біёз*) — жыццё ва ўмовах прысутнасці атмасфернага кіслароду.

**АЭРАБІЁНТЫ** (ад *аэра-* + *біёнты*) — арганізмы, якія насяляюць сушу (параўн. *гідрабіёнты*).

**АЭРАБІЯ́С** (ад *аэра-* + гр. bios = жыццё) — сукупнасць арганізмаў, якія насяляюць сушу (параўн. *гідрабіяс)*.

**АЭРАБІЯСФЕ́РА** (ад *аэра-* + *біясфера*) — прыземны слой *атмасферы* (да вышыні 6—7 км), у якім пастаянна прысутнічаюць жывыя арганізмы і дзе яны пры пэўных умовах здольныя нармальна жыць і размнажацца.

**АЭРАВАКЗА́Л** (ад *аэра-* + *вакзал*) — будынак для абслугоўвання пасажыраў паветранага транспарту.

**АЭРАВІЗУА́ЛЬНЫ** (ад *аэра-* + *візуальны*) — звязаны з назіраннямі, якія праводзяцца з лятальных апаратаў.

**АЭРАГЕЛІЯТЭРАПІ́Я** (ад *аэра-* + *геліятэрапія*) — лячэнне сонечнымі прамянямі і паветрам.

**АЭРАГЕ́ННЫ** (ад *аэра-* + *-генны*) — *мед.* які паходзіць з паветра, перадаецца праз паветра (напр. а-ая інфекцыя).

**АЭРАГРА́ФІЯ** (ад *аэра-* + *-графія*) — спосаб нанясення фарбаў на паперу, тканіну і іншыя прадметы пры дапамозе *аэрографа*.

**АЭРАДРО́М** (ад *аэра-* + *-дром*) — месца стаянкі, узлёту, пасадкі і тэхнічнага абслугоўвання самалётаў.

**АЭРАДЫНА́МІКА** (ад *аэра-* + *дынаміка*) — раздзел *аэрамеханікі*, які вывучае супраціўленне паветра і газаў пры руху розных цел.

**АЭРАЗО́ЛЬ** (ад *аэра-* + *золі*) — безліч найдрабнейшых часцінак якіх-н. рэчываў, распыленых у газах або газападобным асяроддзі (параўн. *арганазолі*, *гідразолі*).

**АЭРАЗОЛЬТЭРАПІ́Я** (ад *аэразолі* + *тэрапія*) — удыханне аэразоляў лекавых рэчываў для прафілактыкі і лячэння захворванняў органаў дыхання.

**АЭРАІОНАТЭРАПІ́Я** (ад *аэра-* + *іонатэрапія*) — лячэнне іанізаваным паветрам, якое змяшчае электрычна зараджаны *аэразоль*.

**АЭРАІАНІЗА́ТАР** (ад *аэра-* + *іанізатар*) — прыбор для *іанізацыі* паветра, які выкарыстоўваецца ў медыцыне.

**АЭРАКЛІМАТАЛО́ГІЯ** (ад *аэра-* + *кліматалогія*) — раздзел кліматалогіі, у якім вывучаюцца кліматычныя ўмовы свободнай атмасферы — *трапасферы* і *стратасферы*.

**АЭРАКЛУ́Б** (ад *аэра-* + *клуб*) — грамадская арганізацыя, якая займаецца прапагандай ведаў па паветраплаванні сярод насельніцтва.

**АЭРАЛІ́Т** (ад *аэра-* + *-літ*) — каменны *метэарыт*.

# А

**АЭРАЛІФТ** (ад *аэра-* + *ліфт*) — тое, што і *эрліфт*.

**АЭРАЛО́ГІЯ** (ад *аэра-* + *логія*) — раздзел *метэаралогіі*, які вывучае фізічныя і дынамічныя працэсы ў высокіх слаях атмасферы.

**АЭРАЛО́ЦЫЯ** (ад *аэра-* + *лоцыя*) — дакладнае апісанне раёна дзеяння авіяцыі або авіялініі, якое змяшчае звесткі пра клімат, ландшафт, арыенціры, аэрадромы.

**АЭРАМАГНІ́ТНЫ** (ад *аэра-* + *магніт*) —звязаны з вывучэннем магнітнага поля Зямлі пры дапамозе лятальных апаратаў (напр. а-ая здымка).

**АЭРАМАГНІТО́МЕТР** (ад *аэра-* + *магнітометр*) — прыбор для даследавання магнітнага поля Зямлі з лятальнага апарата.

**АЭРАМЕ́ТАДЫ** (ад *аэра-* + *метад*) — метады даследаванняў будовы зямной паверхні, верхняга слоя зямной кары, атмасферы, геаграфічнага асяроддзя і прыродных рэсурсаў пры дапамозе лятальных апаратаў.

**АЭРАМЕ́ТРЫЯ** (ад *аэра-* + *метрыя*) — спосабы вымярэння вагі і шчыльнасці газападобных целаў.

**АЭРАМЕХА́НІКА** (ад *аэра-* + *механіка*) — раздзел механікі, які вывучае законы руху і адноснага спакою газаў і змешчаных у іх целаў; падраздзяляецца на *аэрадынаміку* і *аэрастатыку*.

**АЭРАНАВІГА́ЦЫЯ** (ад *аэра-* + *навігацыя*) — навука аб ваджэнні лятальных апаратаў па зададзеным курсе; паветраная навігацыя.

**АЭРАНА́ЎТ** (ад *аэра-* + *-наўт*) — паветраплавальнік.

**АЭРАНА́ЎТЫКА** (ад *аэра-* + *-наўтыка*) — навука аб перамяшчэнні ў паветры на лятальных апаратах; лётная справа.

**АЭРАНО́МІЯ** (ад *аэра-* + *-номія*) — навука аб атамных і малекулярных узаемадзеяннях у высокіх слаях атмасферы.

**АЭРАПЛА́Н** (фр. aéroplane, ад гр. aer = паветра + лац. planum = плоскасць) — *уст.* лятальны апарат, цяжэйшы за паветра; самалёт.

**АЭРАПЛАНКТО́Н** (ад *аэра-* + *планктон*) — сукупнасць умоўна хваробатворных і сапрафітных мікраарганізмаў у *атмасферы*.

**АЭРАПО́НІКА** (ад *аэра-* + *-поніка*) — вырошчванне раслін без глебы ў вільготным паветры (параўн. *гідрапоніка*).

**АЭРАПО́РТ** (ад *аэра-* + *порт*) — вялікі *аэрадром* разам са службовымі будынкамі, прыстасаваннямі, абсталяваннем.

**АЭРА́РЫЙ** (ад гр. aer = паветра) — пляцоўка, прыстасаваная для прыняцця паветраных ваннаў.

**АЭРАСАЛО́Н** (ад *аэра-* + *салон*) — выстаўка, дзе дэманструюцца лятальныя апараты новых мадэляў.

**АЭРАСАЛЯ́РЫЙ** (ад *аэра-* + *салярый*) — пляцоўка, прыстасаваная для прыняцця сонечных і паветраных ваннаў.

**АЭРАСІНУСІ́Т** (ад *аэра-* + *сінусіт*) — запаленне слізістай абалонкі прыдаткавых пазух носа пры перападах бараметрычнага ціску.

**АЭРАСТА́Т** (ад *аэра-* + *-стат*) — лятальны апарат, напоўнены лягчэйшым за паветра газам; паветраны шар.

**АЭРАСТА́ТЫКА** (ад *аэра-* + *статыка*) — раздзел *аэрамеханікі*, які вывучае законы раўнавагі паветра і газаў.

**АЭРАСФЕ́РА** (ад *аэра-* + *сфера*) — сукупнасць наземнай *атмасферы*, глебавага і падглебавага паветра (падземнай *трапасферы*); адна з абалонак Зямлі.

**АЭРАТАКСА́ЦЫЯ** (ад *аэра-* + *таксацыя*) — ацэнка лясоў пры дапамозе аэрафотаздымкі або вокамернай здымкі з самалёта ці верталёта.

**АЭРАТА́КСІС** (ад *аэра-* + *таксісы*) — перамяшчэнне мікраарганізмаў або рухомых клетак мнагаклетачных арганізмаў да крыніцы кіслароду або ад яе.

**АЭРАТА́НК** (ад *аэра-* + *танк*) — *рэзервуар* для ачысткі сцёкавых водаў прадзіманнем паветрам (параўн. *метатанк*).

**АЭРА́ТАР** (ад фр. aeration = аэрацыя, ад гр. aer = паветра) — машына для праветрывання парашковых рэчываў.

**АЭРАТО́П** (ад *аэра-* + гр. topos = месца) — частка прыземнага слоя паветра, састаў і рэжым якога знаходзяцца пад уздзеяннем унутраных кампанентаў экасістэмы і знешніх атмасферных працэсаў.

**АЭРАТО́РЫЯ** [ад *аэра-* + *(тэры)торыя*] — паветраная прастора над аэрадромам і прылеглай да яго мясцовасцю ў радыусе каля 50 км.

**АЭРАТРАПІ́ЗМ** (ад *аэра-* + гр. tropos = паварот) — роставыя рухі каранёў і сцёблаў раслін да крыніцы кіслароду.

**АЭРАТЭРАПІ́Я** (ад *аэра-* + *тэрапія*) — лячэнне паветрам (дазіраваныя паветраныя ванны, прабыванне на адкрытым паветры і інш.).

**АЭРАФА́ГІЯ** (ад *аэра-* + *-фагія*) — глытанне паветра (звычайна ў час яды), залішняя колькасць якога расцягвае страўнік і можа быць прычынай розных недамаганняў.

**АЭРАФАТАГРА́ФІЯ** (ад *аэра-* + *фатаграфія*) — раздзел фатаграфіі, які ахоплівае тэорыю і практыку фатаграфавання мясцовасці з лятальных апаратаў, а таксама фотаздымак, атрыманы такім спосабам.

**АЭРАФІ́ЛЬТР** (ад *аэра-* + *фільтр*) — біялагічны фільтр для ачысткі сцёкавых водаў пры *аэрацыі* 2.

**АЭРАФІ́ТЫ** (ад *аэра-* + *-фіты*) — расліны, якія атрымліваюць пажыўныя рэчывы толькі з паветра.

**АЭРАФЛО́Т** (ад *аэра-* + *флот*) — тое, што і *авіяцыя* 2.

**АЭРАФО́БІЯ** (*аэра-* + *-фобія*) — хваравітая боязь паветра і яго руху, напр. скразняку, ветру і інш.

**АЭРАФО́Н** (ад *аэра-* + *-фон*) — духавы музычны інструмент, у якім крыніцай гуку з'яўляецца дрыжанне слупка паветра (напр. *арган*, *кларнет*, *флейта*).

**АЭРАФОТААПАРА́Т** (ад *аэра-* + *фотаапарат*) — прыбор для фатаграфавання мясцовасці з лятальных апаратаў.

**АЭРАФОТАГРАММЕ́ТРЫЯ** (ад *аэра-* + *фотаграмметрыя*) — раздзел фотаграмметрыі, які распрацоўвае метады вызначэння формаў, памераў і становішча аб'ектаў

# А

на мясцовасці на аснове фотаздымкаў з лятальных апаратаў.

**АЭРАФОТАТАПАГРА́ФІЯ** (ад *аэра-* + *фотатапаграфія*) — раздзел *тапаграфіі*, які распрацоўвае метады стварэння тапаграфічных карт па фотаздымках, што зроблены з лятальных апаратаў.

**АЭРА́ЦЫЯ** (фр. aeration, ад гр. aer = паветра) — 1) насычэнне паветрам, праветрыванне; а. г л е б ы — газаабмен грунтавога паветра з атмасферным; 2) узбагачэнне вады паветрам праз *аэрафільтр*.

**АЭРО́БІКА** (ад гр. aer = паветра + bios = жыццё) — праграма фізічнага аздараўлення на аснове фізічных практыкаванняў пераважна цыклічнага характару (хадзьба, бег, плаванне і інш.).

**АЭРО́БУС** (фр. aerobus) — транспартны самалёт для перавозкі пасажыраў на кароткія і сярэднія адлегласці.

**АЭРО́БЫ** (ад гр. aer = паветра + bios = жыццё) — арганізмы, якія не здольныя жыць без свабоднага кіслароду (параўн. *анаэробы*).

**АЭРО́ГРАФ** (ад *аэра-* + *-граф*) — прыбор для нанясення фарбы на паперу, тканіну і іншыя прадметы шляхам яе распылення сціснутым паветрам.

**АЭРО́МЕТР** (ад *аэра-* + *-метр*) — прыбор, пры дапамозе якога вымяраюць вагу і шчыльнасць газападобных цел.

**АЭРО́Н** (ад гр. aer = паветра) — 1) лекавы процірвотны сродак, які ўжываецца пры марской і паветранай хваробах; 2) лёгкі сплаў алюмінію з меддзю, крэмніем, а часам з прымессю літыю; выкарыстоўваецца ў самалётабудаванні.

**АЭРЭНХІ́МА** (ад гр. aer = паветра + *-энхіма*) — тканка рыхлай будовы, характэрная для вадзяных або плаваючых па паверхні вады раслін.

# Б

**БАА́** (лац. baa) — 1) змяя сям. удававых, якая водзіцца ў лясах трапічнай Амерыкі; 2) жаночы шаль з футра або пёраў, напр. страусавых.

**БААБА́Б** (афр. baobab) — гіганцкае дрэва сям. бамбаксавых, што расце ў афрыканскіх *саваннах*.

**БАБЕЗІЁЗЫ** (ад *бабезііды*) — заразныя хваробы буйной рагатай жывёлы, коней, свіней, авечак і сабак, якія выклікаюцца бабезііджамі.

**БАБЕЗІІ́ДЫ** (н.-лац. babesiidae) — сямейства паразітных прасцейшых атрада *піраплазмідаў*, кровапаразіты пераважна млекакормячых.

**БАБЕ́ЗІЯ** (ад рум. V. Babes = прозвішча рум. вучонага) — прасцейшае сям. *бабезіідаў*, паразітуе ў крыві кароў, коней, свіней, авечак і сабак.

**БАБІ́ЗМ** [ад перс. Bāb = псеўданім Саід Алі Мухамеда, іранскага

рэлігійнага дзеяча (1819—1850) < ар. bāb = вароты (да пазнання боскай праўды)] — грамадска-рэлігійны рух у Персіі ў 19 ст., накіраваны супраць мусульманскага фанатызму, панавання законаў, заснаваных на Каране і Шарыяце.

**БАБІ́НА** (фр. bobine) — барабан або шпуля, на якія намотваюць пражу, ніткі, канаты, дрот, стужкі і інш.

**БАБІРУ́СА** (н.-лац. babyrousa babyrussa, ад малайск. babi = свіння + rusa = алень) — парнакапытная жывёла сям. свіней, якая водзіцца ў балоцістых лясах вострава Цэлебеса і некаторых суседніх астравоў.

**БАБІ́ТЫ** [англ. I. Babbit = прозвішча амер. вынаходцы (1799—1862)] — металічныя сплавы на свінцовай або алавянай аснове з нізкім каэфіцыентам трэння; выкарыстоўваюцца для вырабу падшыпнікаў і рухомых частак машын.

**БАБУВІ́ЗМ** [фр. babouvisme, ад G.Babeuf = прозвішча фр. камуніста-утапіста (1760—1797)] — філасофская тэорыя утапічна-камуністычнага кірунку, распрацаваная ў канцы 18 ст. у Францыі Г. Бабёфам, паводле якой сацыяльнай роўнасці можна дасягнуць шляхам рэвалюцыйнага перавароту сіламі змоўніцкай арганізацыі.

**БАБУВІ́СТЫ** [фр. babouvistes, ад G. Babeuf = прозвішча фр. камуніста-утапіста (1760— 1797)] — прыхільнікі *бабувізму*.

**БАБУІ́Н** (фр. babouin) — малпа роду *павіянаў*, якая водзіцца ў Афрыцы.

**БАВО́ЎНА** (польск. bawełna, ад ням. Baumwolle) — 1) кустовая або травяністая расліна сям. мальвавых з насеннем, пакрытым валакном, пашыраная ў тропіках і субтропіках; 2) ватападобнае валакно гэтай расліны, з якога вырабляецца пража.

**БАГА́Ж** (фр. bagage) — 1) рэчы, упакаваныя для перавозкі поездам, самалётам, параходам, а таксама спосаб адпраўкі рэчаў асобна ад пасажыра; 2) *перан.* запас ведаў, звестак.

**БАГАРА́** (ад перс. bechar = вясна) — непаліўныя землі ў зонах арашальнага земляробства, а таксама пасевы на такіх землях.

**БАГАСО́З** (ад ісп. bagazo = адходы цукровага трыснягу) — прафесіянальнае захворванне лёгкіх у работнікаў, занятых апрацоўкай цукровага трыснягу.

**БАГАТЫ́Р** (ст.-цюрк. bahatur) — 1) казачны асілак, волат; 2) *перан.* вялікай сілы і адвагі чалавек, воін.

**БАГАТЭ́ЛЬ** (фр. bagatelle = *літар.* забаўка) — невялікая музычная п’еса, пераважна для фартэпіяна.

**БАГАУ́ДЫ** ( лац. Bagaudae, ад кельц. baga = барацьба) — удзельнікі паўстання супраць рымскага панавання ў Галіі і Паўн. Іспаніі ў 3—5 ст.

**БАГДЫХА́Н** (манг. bogdochan = святы хан) — *гіст.* тытул кітайскага імператара.

**БАГЕ́МА** (фр. bohème) — 1) асяроддзе матэрыяльна незабяспечанай інтэлігенцыі (мастакоў, артыстаў, музыкантаў, пісьменнікаў) з іх бязладным, легкадумным споса-

# Б

бам жыцця; 2) бязладны быт такога асяроддзя.

**БА́ГЕР** (ням. Bagger, ад гал. bagger = грязь) — землясосны снарад, які выкарыстоўваецца пры паглыбленні дна вадаёмаў, капанні каналаў, здабыванні торфу з балота.

**БАГЕРМА́ЙСТАР** (ням. Baggermeister) — кіраўнік працы на *багеры.*

**БАГЕ́Т** (фр. baguette = палічка) — разьбяная, па-мастацку аздобленая або пафарбаваная, драўляная планка, з якой робяць рамкі, карнізы.

**БА́ГІ** (англ. buggy = кабрыялет) — адна- або двухмесны спартыўны аўтамабіль са здымным адкрытым кузавам і цвёрдай рамай, прызначаны для спаборніцтваў на перасечанай мясцовасці.

**БА́ГІНГ** (ад англ. bug = насякомае, жук) — 1) падслухоўванне з дапамогай электронных сродкаў; 2) устройства мініяцюрных памераў для падслухоўвання, якое тайна манціруецца ў жыллі або адзенні; «жучок».

**БАДА́МІЯ** (н.-лац. badhamia) — слізявік сям. фізаравых, які развіваецца ў лясах на галінках і ствалах засохлых дрэў і асабліва на гнілых пладовых целах губавых і шапкавых грыбоў.

**БАДА́Н** (рус. бадан, ад манг. badan) — травяністая расліна сям. каменяломнікавых з бэзава-чырвонымі кветкамі, пашыраная ў Цэнтр. і Усх. Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**БАДЗЯ́Н** (фр. badiane) — 1) вечназялёнае дрэва сям. бадзянавых, пашыранае ў субтропіках, плады якога даюць алей, што выкарыстоўваецца ў медыцыне, лікёра-гарэлачнай і харчовай прамысловасці; аніс зорчаты; 2) травяністая расліна сям. рутавых, якая змяшчае эфірны алей, што выклікае апёкі; ясенец.

**БАДМЕРЭ́Я** (ням. bodmerei) — грашовая пазыка пад залог судна або грузу.

**БАДМІНТО́Н** (англ. badminton, ад Badminton = назва горада ў Англіі) — спартыўная гульня, у якой з дапамогай ракетак перакідваецца цераз сетку *валан*; 2) камплект прылад для такой гульні.

**БАДО́** [фр. J. Baudot = прозвішча фр. вынаходцы (1845—1903)] — літарадрукавальны тэлеграфны апарат, які дазваляе перадаваць па адным провадзе некалькі тэлеграм адначасова ў абодвух напрамках.

**БАДО́НІ** [іт. G. Bodoni = прозвішча іт. друкара (1740—1813)] — друкарскі *шрыфт*, які вызначаецца мастацкасцю і выразнасцю малюнка.

**БАДРУ́Ш** (фр. boudruche) — газанепранікальная плёнка, прыгатаваная з кішак жывёл, з якой рабілі газавыя *балоны* дырыжабляў.

**БАДЭЛЕІ́Т** (ад англ. Y. Baddeley = прозвішча англ. мінералога + *-літ*) — мінерал, двухвокіс *цырконію*, які з'яўляецца крыніцай для атрымання цырконію.

**БА́ЗА** (фр. base, ад гр. basis = аснова, фундамент) — 1) апорная частка калоны ў збудаванні; 2) аснова, тое галоўнае, на чым грунтуецца, ствараецца што-н. (напр. эканамічная б. краіны); 3) апорны пункт, месца, дзе засяроджаны

якія-н. запасы, ёсць спецыяльныя збудаванні і прыстасаванні для абслугоўвання чаго-н. (напр. ваенная б., турысцкая б.); 4) склад тавараў, матэрыялаў; 5) адлегласць паміж восямі ў транспартных сродках; 6) паказчыкі, якія бяруцца за аснову, тыпавы варыянт, норму.

**БАЗАЛЁМА** (ад лац. basalis = асноўны + *ома*) — эпітэліяльная пухліна скуры чалавека і пазваночных жывёл.

**БАЗА́ЛІІ** (лац. basalis = асноўны, ад гр. basis = аснова) — палачкападобныя асноўныя элементы ўнутранага шкілета парных плаўніковых храстковых рыб.

**БАЗА́ЛЬНЫ** (лац. basalis, ад гр. basis = аснова) — асноўны, які адносіцца да асновы, размешчаны каля асновы або павернуты да яе (напр. б-ае цельца).

**БАЗА́ЛЬТ** (п.-лац. basaltes, ад гр. basanos = пробны камень) —вулканічная горная парода цёмнага колеру, якая складаецца з *плагіяклазу*, *аўгіту* і часта *алівіну*; выкарыстоўваецца як матэрыял для будаўнічых і дарожных работ.

**БАЗАНІ́Т** (гр. basanites, ад basanos = пробны камень) — горная парода чорнага колеру, якая мае базальтавы склад, апрача таго ўтрымлівае *нефелін* або *лейцыт*.

**БАЗА́Р** (цюрк. bazar, ад перс. bāzār) —1) спецыяльна адведзенае месца для гандлю прадуктамі харчавання і таварамі шырокага ўжытку, а таксама сам гэты гандаль; 2) вялікі перадсвяточны або сезонны гандаль спецыяльнымі таварамі, звычайна на адкрытым месцы (напр. кніжны б., навагодні б.); 3) *перан.* бязладная гаворка, крык, шум; птушыны б. — месца на беразе мора, дзе гняздзяцца вялікія масы птушак.

**БАЗАФІЛІ́Я** (ад гр. basis = аснова + *-філія*) — здольнасць клетак і тканак жывёлы або расліны афарбоўвацца асноўнымі фарбавальнікамі (параўн. *ацыдафілія*).

**БАЗАФІ́ЛЫ** (ад гр. basis = аснова + *-філ*) — адна з форм зярністых *лейкацытаў* (*гранулацытаў*), у цытаплазме якіх змяшчаюцца *гранулы* 2, што афарбоўваюцца асноўнымі фарбавальнікамі (параўн. *нейтрафілы*, *эазінафілы*).

**БАЗАФІ́ЛЬНЫ** (ад гр. basis = аснова + phileo = люблю); б-ыя расліны — расліны, якія растуць на шчолачных глебах.

**БАЗЕ́ДАЎ** [ням. K. Basedow = прозвішча ням. ўрача (1799—1854)]; б-ва хвароба — тое, што і *тырэатаксікоз*.

**БАЗІ́ДЫЯ** (н.-лац. basidium, ад гр. basidion = невялікая аснова, фундамент) — орган размнажэння ў *базідыяміцэтаў*, які складаецца звычайна з чатырох аднаклетачных спораў.

**БАЗІДЫЯ́ЛЬНЫ** (с.-лац. basidialis, ад гр. basidion = невялікая аснова, фундамент) — які забяспечаны *базідыяй*; б-ыя грыбы — тое, што і *базідыяміцэты*.

**БАЗІДЫЯМІЦЭ́ТЫ** (н.-лац. basidiomycetes, ад гр. basidion = невялікая аснова, фундамент + mykes, = etos = грыб) — клас вышэйшых грыбоў, для якога характэрна размнажэнне *спорамі*, што развіваюцца ў *базідыях*; пашыраны па ўсім зямным шары; пераважна *сапратрофы*, многія *паразіты* раслін.

# Б

**БАЗІДЫЯСПО́РА** (ад *базідыя* + *спора*) — спора палавога размнажэння базідыяльных грыбоў.

**БАЗІЛІ́К** (фр. basilic, ад гр. basilikos = царскі) — травяністая або кустовая расліна сям. ясноткавых з зубчастым лісцем і ружовымі, белымі або фіялетавымі кветкамі ў гронках, пашыраная ў тропіках і субтропіках; культывуецца як вострапрыпраўная.

**БАЗІ́ЛІКА** [лац. basilica, ад гр. basilike (stoa) = царскі (порцік)] — будынак (як правіла, касцёл) прамавугольнай формы з двума радамі калон унутры.

**БАЗІ́ЛІКІ** (гр. basilicos = царскі) — зборнікі візантыйскага права, складзеныя каля 890 г.

**БАЗІПАДЫ́Т** (ад гр. basis = аснова + podos = нага) — другі членік асноўнай часткі (*протападыта*) двухгаліністай канечнасці ракападобных.

**БАЗІПЕТА́ЛЬНЫ** (ад гр. basis = аснова + лац. petere = накіроўвацца) — накіраваны ад вяршаліны да асновы (пра развіццё бакавых галінак або частак якога-н. органа расліны).

**БА́ЗІС** (гр. basis) — 1) эканамічны лад грамадства ў пэўны перыяд яго развіцця; 2) розніца паміж цаной наяўнага тавару і тавару з пастаўкай на тэрмін; 3) аснова, база; 4) дакладна вымераная на мясцовасці лінія, па якой вызначаюць даўжыню іншых ліній і робяць вылічэнні; 5) *архіт.* апорная частка калоны ў збудаванні.

**БАЗІФІКА́ЦЫЯ** (ад гр. basis = аснова + *-фікацыя*) — 1) прыродны працэс узбагачэння горных парод; 2) працэсператварэння кантынентальнай зямной кары ў акіянічную.

**БАЗО́НЫ** [ад інд. S. Bose = прозвішча інд. фізіка (1894—1974)] — 1) элементарныя часціцы з цэлалікавым *спінам*; 2) элементарныя ўзбуджэнні ў слабаўзбуджальнай мікраскапічнай сістэме.

**БАЗУ́КА** (англ. bazooka) —лёгкая супрацьтанкавая безадкатная гармата, якую абслугоўвае адзін чалавек.

**БАЗУ́НА** (польск. bazuna, ад ням. Pasaune) — кашубскі народны музычны інструмент у выглядзе доўгай трубы.

**БАЗЫЛЬЯ́НЕ** (с.-лац. basiliani) — каталіцкія манахі ўсходняга абраду, якія жывуць паводле статута св. Васіля (Базыля) Вялікага (распрацаваны ў 4 ст.); існуюць з ранняга сярэдневякоўя, у канцы 16 ст. арганізаваны ў уніяцкі ордэн.

**БАЙ** (цюрк. baj) — буйны землеўладальнік у дарэвалюцыйнай Сярэд. Азіі.

**БАЙБА́К** (тат. bajbak) — 1) стэпавая жывёла атрада грызуноў, якая восень і зіму праводзіць у спячцы; стэпавы сурок; 2) *перан.* абібок, гультай.

**БА́ЙКА** (польск. bajka, ад с.-н.-ням. baie) — мяккая, пераважна баваўняная тканіна з прыгладжаным ворсам.

**БАЙКО́Т** [англ. baycott, ад C. Boycott = прозвішча адміністратара маёнтка (1832—1897)] — 1) спосаб палітычнай і эканамічнай барацьбы, калі спыняюцца адносіны з якой-н. асобай, арганізацыяй, дзяржавай; 2) разрыў адносін з

кім-н. як знак незадавальнення яго паводзінамі.

**БАЙРА́К** (цюрк. bajrak) — сухая лагчына, пакрытая расліннасцю, у стэпах і лесастэпах Рускай раўніны.

**БАЙРА́М** (кр.-тат. bairam, тур. bayram) — рэлігійнае свята ў мусульман пасля заканчэння месячнага посту *рамазана*.

**БАЙРАНІ́ЗМ** [ад англ. D. Byron = прозвішча англ. паэта (1788—1824)] — літаратурная плынь пач. 19 ст., якая ўзнікла пад уздзеяннем творчасці Байрана і характарызавалася рамантычным індывідуалізмам, расчараванасцю ў жыцці.

**БАЙСКА́ЎТ** (англ. boy-scout, ад boy = хлопчык + scout = разведчык) — член скаўцкай арганізацыі хлопчыкаў (гл. *скаўтызм*).

**БАЙСТРУ́К** (польск. bajstruk, ад с.-н.-ням. bastard < лац. bastardus) — пазашлюбнае дзіця (параўн. *бенкарт*).

**БАЙТ** (англ. byte) — адзінка колькасці інфармацыі, якая ў электронна-вылічальнай машыне апрацоўваецца як адно цэлае.

**БАК**[1] (фр. bac) — вялікая металічная пасудзіна для вадкасцей.

**БАК**[2] (гал. bak = ночвы) — насавая частка верхняй палубы судна.

**БАКА́Ж** (фр. bocage = гай) — культурны *ландшафт* з чаргаваннем невялікіх палёў і лугоў з лясньмі палосамі, астраўкамі гаёў і садоў.

**БАКА́Л** (фр. bocal) — пасудзіна ў форме вялікай чаркі для віна.

**БАКАЛА́ЎР** (с.-лац. baccalaureus) — 1) першая вучоная ступень у сярэдневяковых універсітэтах Еўропы, а зараз у многіх краінах; 2) выпускнік сярэдняй школы ў Францыі.

**БАКАЛЕ́Я** (тур. bakalie, ад ар. bakkāl = гандляр харчовымі таварамі) — некаторыя харчовыя тавары: чай, цукар, кава, мука, крупы, сушаныя фрукты і інш.

**БАКА́Н** (цюрк. bakam) — барвовая лакавая *фарба*.

**БАКАРА́**[1] (фр. baccarat, ад Baccarat = назва французскага горада) — каштоўны гатунак хрусталю.

**БАКАРА́**[2] (фр. baccara) — род азартнай картачнай гульні, папулярнай у Францыі і Італіі.

**БАКА́С** (фр. bécasse) — балотная птушка атрада сеўцападобных з доўгай тонкай дзюбай; аб'ект спартыўнага палявання.

**БАКА́ЎТ** (гал. pokhout) — вечназялёнае трапічнае дрэва сям. парналіставых з вельмі цвёрдай драўнінай, якое расце ў Цэнтр. і Паўд. Амерыцы; жалезнае дрэва.

**БАКБО́РТ** (ням. Backbord) — левы *борт* судна.

**БАКЕЛІ́Т** [ад бельг. L. Baekeland = прозвішча бельг. хіміка (1863—1944)] — штучная смала, якая выкарыстоўваецца ў фанернай і іншых галінах вытворчасці.

**БА́КЕН** (гал. baken) — паплавок на якары, які ўстанаўліваецца на водных шляхах для абазначэння *фарватэра* і месцаў, небяспечных для плавання суднаў.

**БАКЕНБА́РДЫ** (ням. Backenbart, ад Backe = шчака + Bart = барада) — частка барады ад скроняў уздоўж шчок пры выгаленым падбародку.

# Б

**БАКЛА́ГА**, гл. *біклага*.

**БАКЛАЖА́Н** (перс. baklažan) — агародная расліна сям. паслёнавых, пашыраная пераважна ў тропіках і субтропіках, а таксама мясісты плод гэтай расліны сіняга або фіялетавага колеру; вырошчваецца на поўдні Беларусі.

**БАКО́ПА** (н.-лац. bacopa) — травяністая расліна сям. залознікавых з мясістым лісцем на тоўстым сцябле, пашыраная ў балоцістых вадаёмах Паўд. і Цэнтр. Амерыкі; на Беларусі вядома як акварыумная.

**БАКО́Р** [ад *ба(дэліт)* + *кар(унд)*] — вогнетрывалы матэрыял з высокім змяшчэннем двухвокісу *цырконію* і гліназёму; выкарыстоўваецца для кладкі шклоплавільных печаў.

**БАКСЁР** (англ. boxer) — 1) спартсмен, які займаецца *боксам*; 2) парода службовых сабак, у якіх круглая галова, кароткая морда, жоўтая поўсць.

**БАКСІ́Т** (фр. beauxite, ад Beaux = назва мясцовасці на поўдні Францыі) — асадачная горная парода, якая складаецца з гідравокіслаў алюмінію і вокіслаў жалеза з рознымі дамешкамі; алюмініевая руда.

**БАКТРЫТАІДЭ́І** (н.-лац. bactritoidea) — надатрад вымерлых *малюскаў* класа галаваногіх, якія існавалі ў *ардовіку* — пермі.

**БАКТРЫЯ́Н** (ад цюрк. Baktria = назва старажытнай вобласці ў Сярэд. Азіі) — двухгорбы вярблюд, які ў дзікім стане водзіцца ў пустынях і сухіх стэпах Азіі і Афрыкі.

**БАКТЭРО́ІДЫ** (ад *бактэрыі* + *-оід*) — разнавіднасць клубеньчыкавых бактэрый; развіваюцца на каранях бабовых раслін.

**БАКТЭРЫЁЗ** (н.-лац. bacteriosis, ад гр. bakteria = палачка) — хвароба раслін, якая выклікаецца *бактэрыямі*.

**БАКТЭРЫЁЛАГ** (ад *бактэрыі* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *бактэрыялогіі*.

**БАКТЭРЫЁЛІЗ** (ад *бактэрыі* + *-ліз*) — разбурэнне бактэрый у арганізме, які праяўляе ўстойлівасць і не ўспрымае іх.

**БАКТЭРЫЗА́ЦЫЯ** (ад *бактэрыі*) — падвяржэнне чаго-н. уздзеянню бактэрый (напр. б. малака).

**БАКТЭ́РЫІ** (гр. bakterion = палачка) — мікраскапічныя, пераважна аднаклетачныя арганізмы, якія паводле структуры клеткі належаць да *пракарыётаў*, размнажаюцца дзяленнем; маюць палачкападобную, шарападобную або звілістую форму; пашыраны ў глебе, вадзе, паветры, у арганізмах жывёл і чалавека.

**БАКТЭРЫУРЫ́Я** (ад *бактэрыі* + *-урыя*) — выдзяленне бактэрый з мачой пры некаторых інфекцыйных захворваннях.

**БАКТЭРЫЦЫ́ДНЫ** (ад *бактэрыцыды*) — здольны забіваць *бактэрыі* і іншыя мікраарганізмы (напр. б-ая лямпа).

**БАКТЭРЫЦЫ́ДЫ** (ад *бактэрыі* + *-цыды*) — рэчывы, здольныя знішчаць бактэрыі і іншыя мікраарганізмы.

**БАКТЭРЫЯЛАГІ́ЧНЫ** (ад *бактэрыялогія*) — 1) які мае адносіны

да бактэрыялогіі; 2) звязаны з прымяненнем хваробатворных бактэрый як зброі.

**БАКТЭРЫЯЛІЗІ́НЫ** (ад *бактэрыі* + гр. lysis = распад) — рэчывы біялагічнага паходжання (антыцелы), здольныя разбураць хваробатворныя бактэрыі ў арганізме.

**БАКТЭРЫЯЛО́ГІЯ** (ад *бактэрыі* + *-логія*) — раздзел *мікрабіялогіі*, які вывучае бактэрыі.

**БАКТЭРЫЯ́ЛЬНЫ** (ад *бактэрыі*) — 1) які мае адносіны да бактэрый, выклікаецца бактэрыямі (напр. б-ая інфекцыя); 2) які вырабляецца з дапамогай бактэрый (напр. б-ыя ўгнаенні).

**БАКТЭРЫЯМІ́Я** (ад *бактэрыі* + *-емія*) — наяўнасць бактэрый у крыві ў сувязі з некаторымі інфекцыйнымі захворваннямі.

**БАКТЭРЫЯСКАПІ́Я** (ад *бактэрыі* + *-скапія*) — метад даследавання бактэрый пры дапамозе мікраскопа.

**БАКТЭРЫЯСТА́З** (ад *бактэрыі* + *-стаз*) — поўная затрымка росту і размнажэння бактэрый пад уплывам неспрыяльных фізічных або хімічных фактараў.

**БАКТЭРЫЯСТАТЫ́ЧНЫ** (ад *бактэрыі* + *статычны*) — які затрымлівае рост і размнажэнне бактэрый (аб рэчывах, якія выклікаюць *бактэрыястаз).*

**БАКТЭРЫЯТРАПІ́НЫ** (ад *бактэрыі* + гр. trope = паварот, перамена) —антыцелы, якія ўтвараюцца ў сываратцы крыві чалавека і жывёл пры інфекцыйных захворваннях і ўзмацняюць *фагацытоз*.

**БАКТЭРЫЯТРАФІ́ЗМ** (ад *бактэрыі* + гр. trophe = ежа, засваенне) — узаемна карысныя адносіны паміж каранямі раслін і бактэрыямі: форма жыўлення вышэйшых раслін.

**БАКТЭРЫЯТЭРАПІ́Я** (ад *бактэрыі* + *тэрапія*) — метад лячэння, заснаваны на ўвядзенні ў арганізм аслабленых або мёртвых хваробатворных бактэрый ці процібактэрыяльных ядаў.

**БАКТЭРЫЯФА́ГІ** (ад *бактэрыі* + *фагі*) — вірусы, здольныя разбураць і паглынаць бактэрыі.

**БАКТЭРЫЯФА́ГІЯ** (ад *бактэрыі* + *-фагія*) — працэс разбурэння бактэрый *бактэрыяфагамі*.

**БАКТЭРЫЯХЛАРАФІ́ЛЫ** (ад *бактэрыі* + *хларафіл*) — зялёныя *пігменты* пурпурных і зялёных бактэрый, якія абумоўліваюць працэс *фотасінтэзу*.

**БА́КХІЙ** (гр. bakchios = вакхічны) — трохскладовая стапа ў антычным вершаскладанні, якая мае адзін кароткі і два доўгія склады.

**БАКШТА́Г** (гал. bakstag) — 1) курс паруснага судна пры спадарожна-бакавым ветры; 2) *трос* для замацавання на судне мачтаў, комінаў і інш.

**БАКШТО́Ў** (гал. bakstouw) — канат або *трос*, які выпускаецца з кармы для буксіравання суднаў, прывязвання спушчаных на ваду шлюпак і інш.

**БАКШТЭ́ЙН** (ням. Backstein = *літар.* абпаленая цэгла) — гатунак галандскага сыру.

**БАКШЫ́Ш** (тур. bachšyš, ад перс. bächšiš) — *уст.* хабар; гасцінец, чаявыя.

**БАЛ** (фр. balle = шар) — 1) адзінка вымярэння сілы якой-н. фізіч-

най з'явы, напр. ветру, землетрасення; 2) лічбавая ацэнка поспехаў (у школе, спорце).

**БАЛАБА́Н** (кр.-тат. balaban) — драпежная птушка сям. сакаліных.

**БАЛАГА́Н** (рус. балаган, ад перс. bālāhānä = верхні пакой, балкон) — 1) часовы будынак з дошак, фанеры, парусіны для выступлення самадзейных артыстаў, кірмашовага гандлю; 2) даўні народны вандроўны тэатр; 3) *перан.* што-н. несур'ёзнае, штукарскае, шумнае.

**БАЛА́ДА** (фр. ballade) — 1) ліра-эпічны вершаваны твор з легендарным ці гістарычным зместам; 2) музычны твор эпічнага характару для голасу або інструмента.

**БАЛАНЕ́Т** (фр. ballonnet) — гумавы пузыр унутры *аэрастата*, напоўнены ў сваю чаргу газам, што валодае пад'ёмнай сілай.

**БАЛАНІ́Т** (ад гр. balanos = галоўка палавога члена) — запаленне скурных покрываў галоўкі палавога члена.

**БАЛА́НС** (фр. balance = *літар.* вагі) — 1) раўнавага, ураўнаважванне; 2) суадносіны ўзаемазвязаных паказчыкаў якой-н. дзейнасці, працэсу, напр. вытворчасці і спажывання, увозу і вывазу тавараў, прыходу і расходу вады; 3) параўнальны вынік прыходу і расходу пры завяршэнні разлікаў, а таксама зводная ведамасць разлікаў; 4) бярвенні аднолькавай даўжыні, якія ідуць на выраб цэлюлозы; 5) дэталь гадзіннікавага механізма ў выглядзе кольца з папярочкай, якая з'яўляецца рэгулятарам ходу.

**БАЛАНСАВА́ЦЬ** (фр. balancer) — 1) захоўваць раўнавагу пры дапамозе руху цела; 2) ураўнаважваць суадносіны звязаных паміж сабой бакоў дзейнасці; 3) падводзіць бухгалтарскі баланс.

**БАЛА́НСЕРЫ** (англ. balancers, ад фр. balance = вагі) — органы прымацавання і апоры ў лічынак большасці хвастатых земнаводных.

**БАЛАНСЁР** (ад *баланс*) — цыркавы артыст, які балансуе на канаце.

**БАЛАНСІ́Р** (фр. balancier = карамысел) — 1) рычаг у машыне, які перадае рух ад адной часткі да другой, а таксама рэгулятар у механізме гадзінніка, які замяняе маятнік (*баланс* 5); 2) доўгі шэст, пры дапамозе якога акрабат захоўвае раўнавагу на канаце.

**БАЛАНСО́ГРАФ** (ад *баланс* + *-граф*) — прыбор для рэгістрацыі змен радыяцыйнага балансу зямной паверхні.

**БАЛАНТЫДЫЁЗ** (ад *балантыдый*) — хвароба чалавека і жывёл, якая выклікаецца балантыдыем.

**БАЛАНТЫ́ДЫЙ** (н.-лац. balantidium) — прасцейшае класа *інфузорый*, якое паразітуе ў арганізме чалавека і жывёл.

**БАЛА́СТ** (англ. ballast) — 1) спецыяльны груз для забеспячэння правільнай асадкі і ўстойлівасці судна, для рэгулявання вышыні палёту аэрастата; 2) верхні слой чыгуначнага палатна з шчэбеню, гравію, які надае ўстойлівасць рэйкавай каляі; 3) *перан.* тое, што з'яўляецца лішнім, непатрэбным.

**БАЛАСТЭ́Р** (ад *баласт*) — машына для пакрыцця баластам чыгуначнага палатна.

**БАЛА́ТА** (ісп. balata) — згуслы сок *манілкары*, блізкі па складу і ўласцівасцях да *гутаперчы*.

**БАЛАЦІ́РАВАЦЬ** (ням. ballotieren < фр. ballotter, ад ballotte = невялікі шар) — галасаваць, рашаць падачай галасоў якое-н. пытанне (першапачаткова — шляхам апускання ў урну шароў).

**БАЛАЦІРО́ЎКА** (ад *балаціраваць*) — галасаванне шляхам апускання ў урну бюлетэняў.

**БАЛДАХІ́Н** (іт. baldacchino) — пышны полаг на слупках пераважна з тканіны над ложкам, тронам, царкоўным алтаром і інш.

**БАЛЕРО́** (ісп. balero) — 1) іспанскі народны танец, а таксама музыка ў рытме гэтага танца; 2) кароткая безрукаўка як частка нацыянальнага іспанскага адзення.

**БАЛЕРЫ́НА** (іт. ballerina) — артыстка *балета*[1], танцоўшчыца.

**БАЛЕ́Т**[1] (фр. ballet < іт. balleto, ад ballo = баль) — 1) від тэатральнага мастацтва, змест якога раскрываецца ў танцавальна-музычных вобразах; 2) спектакль з танцаў і мімічных рухаў, якія суправаджаюцца музыкай; 3) калектыў артыстаў, якія выконваюць балетны спектакль.

**БАЛЕ́Т**[2] (н.-лац. boletus) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. балетавых, які расце на глебе ў лясах; адзін з відаў — баравік.

**БАЛЕТАМА́Н** (ад *балет* + *-ман*) — заўзяты аматар *балета*[1].

**БАЛЕТАМА́НІЯ** (ад *балет* + *манія*) — незвычайнае захапленне *балетам*[1].

**БАЛЕТМА́ЙСТАР** (ням. Ballettmeister) — пастаноўшчык *балетаў*, харэаграфічных мініяцюр, танцаў.

**БАЛЕТО́ПС** (н.-лац. boletopsis) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. балетопсідных, які расце на перагнойнай глебе ў верасова- і імшысталішайнікавых хвойніках; ядомы.

**БАЛЕ́Я** (польск. balia, ад с.-н.-ням. balje) — вялікая нізкая пасудзіна з клёпак для мыцця бялізны і купання.

**БАЛІВА́Р** [ісп. bolivar, ад S. Bolivar = прозвішча кіраўніка барацьбы народаў Лац. Амерыкі за незалежнасць у пач. 19 ст. (1783—1830)] — 1) грашовая адзінка Венесуэлы, роўная 100 *сантымам*; 2) мужчынскі капялюш з шырокімі палямі.

**БАЛІВІЯ́НА** [ісп. boliviano, ад S. Bolivar = прозвішча кіраўніка барацьбы народаў Лац. Амерыкі за незалежнасць у пач. 19 ст. (1783—1830)] — грашовая адзінка Балівіі, роўная 100 *сентава*.

**БАЛІ́Д** (фр. bolide, ад гр. bolis, -idos = кінутае кап'ё) — вялікі яркі *метэор* з доўгім вогненным хвастом.

**БАЛІ́СТА** (лац. ballista, ад гр. ballo = кідаю) — 1) старажытная ваенная асадная машына для кідання камянёў, бярвенняў, бочак з запаленай смалой і інш.; 2) расліна з марфалагічнымі прыстасаваннямі, якія перашкаджаюць самаадвольнаму асыпанню дыяспораў.

**БАЛІСТАКАРДЫЯГРА́МА** (ад *баліста* + *кардыяграма*) — запіс механічных рухаў цела чалавека, атрыманы ў выніку даследавання скарачэнняў сэрца метадам *балістакардыяграфіі*.

# Б

**БАЛІСТАКАРДЫЯГРА́ФІЯ** (ад *баліста* + *кардыяграфія*) — метад графічнай рэгістрацыі механічных рухаў цела чалавека, якія адбываюцца пры скарачэннях сэрца.

**БАЛІ́СТЫКА** (ням. Ballistik, ад лац. ballista = баліста) — навука аб руху артылерыйскіх снарадаў, мінаў, куляў пры стральбе.

**БАЛІСТЫ́Т** (ад лац. ballista = кідальная машына) — бяздымны нітрагліцэрынавы порах.

**БАЛІСТЫ́ЧНЫ** (ад *балістыка*) — звязаны з балістыкай (напр. б-ая ракета, б-ая траекторыя).

**БАЛІФА́НТЭС** (н.-лац. bolyphantes) — павук сям. *лініфіідаў*, які жыве ў лясах, лоўчыя сеткі будуе паміж сцёбламі і лістамі раслін невысока над зямлёй.

**БАЛКО́Н** (фр. balcon) — пляцоўка з парэнчамі на знешнім баку сцяны дома, злучаная дзвярамі з унутраным памяшканнем на ўзроўні другога паверха і вышэй; 2) месцы для гледачоў у сярэдніх і вышэйшых ярусах тэатра.

**БАЛО́МЕТР** (ад гр. bole = прамень + *-метр*) — прыбор для вымярэння энергіі выпрамянення ў шырокім дыяпазоне даўжыні хваляў.

**БАЛО́Н** (фр. ballon) — 1) закрытая шкляная ці металічная пасудзіна для газаў або вадкасцей; 2) тое, што і *камера* 3; 3) абалонка аэрастата, дырыжабля, якая напаўняецца газам.

**БАЛО́НКА** (ад іт. Bologna = назва італьянскага горада) — парода маленькіх хатніх сабачак з доўгай мяккай шэрсцю.

**БАЛО́ННЯ** (іт. Bologna = назва італьянскага горада) — капронавая плашчовая тканіна з аднабаковым непрамакальным пакрыццём, а таксама плашч або куртка з такой тканіны.

**БАЛТЫСФЕ́РА** (н.-лац. baltisphaeridium) — выкапнёвая аднаклетачная водарасць падгрупы *акантамарфітаў*, якая трапляецца на Беларусі ў адкладах *палеазою — мезазою*.

**БАЛШТЫ́ХЕЛЬ** (ад ням. Ball = мяч + Stichel = разец) — гравёрны інструмент з паўкруглым лязом.

**БАЛЫ́К** (цюрк. balyk = рыба) — прасоленая і правяленая або правэнджаная спінная частка чырвонай рыбы.

**БАЛЬ** (фр. bal) — 1) вечар з танцамі і вясёлымі забавамі; 2) багаты званы абед; застольнае ўрачыстае гулянне.

**БАЛЬБІ́ТЫЙ** (н.-лац. bolbitius) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. бальбітыевых, які расце на ўгноенай глебе ў лясах; неядомы.

**БАЛЬБО́А** (ісп. balboa) — грашовая адзінка Панамы, роўная 100 *сентэсіма*.

**БАЛЬВЕ́РК** (ням. Bollwerk = апора) — тонкая падпорная сценка, якая перашкаджае спаўзанню грунту ў месцы сутыкнення яго з вадой.

**БАЛЬЗА́М** (лац. balsamum, ад гр. balsamon = пахучая жывіца) — 1) густы пахучы сок некаторых раслін, які мае ў сваім складзе смолы, эфірны алей; выкарыстоўваецца ў медыцыне і парфумерыі; 2) пахучая настойка на лекавых травах; 3)

*перан.* тое, што прыносіць заспакаенне.

**БАЛЬЗАМАВА́ЦЬ** (ад *бальзам*) — насычаць труп асобымі рэчывамі, каб прадухіліць ад гніення.

**БАЛЬЗАМІ́НА** (н.-лац. balsamina, ад гр. balsamine) — травяністая расліна сям. бальзамінавых з зубчастым лісцем і яркімі ружовымі кветкамі, пашыраная ў тропіках і субтропіках; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**БАЛЬЗАМІ́РАВАЦЬ** (ням. balsamieren) — тое, што і *бальзамаваць.*

**БАЛЬІ́** (фр. bailli) — каралеўскі чыноўнік, які кіраваў судова-адміністрацыйнай акругай у сярэдневяковай Францыі.

**БАЛЬНЕАГРА́ФІЯ** (ад лац. balneum = лазня, купанне + *-графія*) — раздзел *курарталогіі*, які займаецца апісаннем *курортаў*.

**БАЛЬНЕАЛО́ГІЯ** (ад лац. balneum = лазня, купанне + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае хімічны склад і лячэбнае ўздзеянне мінеральных водаў і гразяў.

**БАЛЬНЕАТЭРАПІ́Я** (ад лац. balneum = лазня, купанне + *тэрапія*) — лячэнне мінеральнымі водамі і гразямі.

**БАЛЬНЕАТЭ́ХНІКА** (ад лац. balneum = лазня, купанне + *тэхніка*) — галіна санітарнай тэхнікі, якая займаецца стварэннем неабходных умоў для выкарыстання мінеральных водаў і гразяў у лячэбна-прафілактычных мэтах.

**БАЛЬНЕО́ЛАГ** (ад лац. balneum = лазня, купанне + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *бальнеалогіі*.

**БАЛЬСО́НЫ** (ісп. bolsón = мяшок) — западзіны ў міжгорных пустынях Паўн. Амерыкі.

**БАЛЮСТРА́ДА** (фр. balustrade) —парэнчы з фігурнымі слупкамі на лесвіцах, тэрасах, балконах.

**БАЛЯ́СА** (польск. balas, ад іт. balaustro) — точаны фігурны слупок парэнчаў.

**БАМАЛО́Х** (гр. bomolochos) — блазен, прастадушны хітрун у старажытнагрэчаскай камедыі.

**БАМБА́Ж** (фр. bombage) — уздуцце кансервавай банкі ў сувязі з размнажэннем у кансервах мікраарганізмаў і ўтварэннем газаў.

**БАМБА́КС** (н.-лац. bombax) — высокае лістападнае дрэва сям. бамбаксавых, пашыранае ў лясах трапічнай Азіі.

**БАМБА́РДА** (фр. bombarde) —1) буйнакаліберная гармата 14—16 ст., якая страляла каменнымі ядрамі; 2) *уст.* двухмачтавае транспартнае судна з марцірамі для кідання бомбаў; 3) басовая труба ў *аргане*.

**БАМБАРДЗІ́Р** (ням. Bombardier, ад фр. bombardier) — 1) салдацкі чын у артылерыйскіх часцях арміі царскай Расіі; 2) званне ў «пацешных» войсках Пятра I; 3) жук сям. жужаляў, які пры самаабароне выкідвае з свайго цела едкую вадкасць; 4) ігрок, які часта забівае галы (у футболе, хакеі).

**БАМБАРДЗІРАВА́ЦЬ** (ням. bombardieren, ад фр. bombarder) — скідваць бомбы з самалёта, каб паразіць цэль.

# Б

**БАМБУЗІ́НА** (н.-лац. bambusina) — ніткаватая зялёная водарасць сям. дэсмідыевых, адзін від якой трапляецца на Беларусі.

**БАМБУ́К** (фр. bambou, ад малайск. bambu) — расліна сям. злакавых з дрывяністым, вузлаватым, пустым усярэдзіне сцяблом, пашыраная ў тропіках і субтропіках.

**БА́МІЯ** (тур. bamya) — травяністая расліна сям. мальвавых з доўгачаранковым лісцем і жоўтымі адзіночнымі кветкамі, пашыраная ў тропіках і субтропіках; дае грубае валакно і ядомыя плады.

**БАМО́НД** (фр. beau monde) — *уст.* «вышэйшы свет», «вышэйшыя» арыстакратычныя колы.

**БА́МПЕР** (англ. bumper, ад bump = сутыкацца) — аўтамабільны *буфер*.

**БАН** (серб. ban, ад тур. bajan = багаты) — 1) уладар вобласці ў старажытнай Харватыі; 2) кіраўнік аўтаномнай Харватыі ў 1939—1941 гг.

**БАНАЛІТЭ́Т** (фр. banalité, ад banal = які належыць сеньёру) — права *сеньёра* ў феадальнай Зах. Еўропе прымушаць сялян карыстацца за пэўную плату млыном, пякарняй, вінаградным прэсам і г.д.

**БАНА́ЛЬНАСЦЬ** (ад фр. banal = шаблонны) — 1) агульнавядомая думка; 2) тое, што і *штамп* 3.

**БАНА́ЛЬНЫ** (фр. banal) — шаблонны, збіты, пазбаўлены арыгінальнасці ў сувязі з частым ужываннем (напр. б. выраз).

**БАНА́Н** (парт. banan, ад афр. banam) — травяністая расліна сям. бананавых, пашыраная ў тропіках і субтропіках, а таксама мучністы салодкі плод гэтай расліны.

**БАНАПАРТЫ́ЗМ** (фр. bonapartisme) — 1) палітычны кірунак у Францыі ў 19 ст., які выступаў за аднаўленне дынастыі Банапартаў; 2) форма дыктатуры, калі ўрад, апіраючыся на ваенную сілу і лавіруючы паміж класамі, імкнецца выдаць сябе за надкласавую ўладу.

**БАНАПАРТЫ́СТ** (фр. bonapartiste) — прыхільнік панавання дынастыі Банапартаў у Францыі ў 19 ст.

**БАНА́ТКА** (укр. банатка, ад рум. Banat = назва вобласці ў Румыніі) — гатунак пшаніцы.

**БАНБАНЬЕ́РКА** (фр. bonbonniere, ад bonbon = цукерка) — *уст.* прыгожа аздобленая скрыначка для цукерак або парфумерыі.

**БАНВІВА́Н** (фр. bon vivant = той, хто добра жыве) — *уст.* асоба, якая любіць жыць сабе на пацеху; гуляка.

**БА́НДА** (іт. banda) — 1) група злачынцаў, разбойнікаў; 2) медны духавы аркестр, які ў некаторых операх суправаджае дзеянне на сцэне або за сцэнай, зрэдку ўводзіцца ў сімфанічны аркестр як дадатковы ансамбль.

**БАНДА́Ж** (фр. bandage) — 1) тугая павязка для падтрымання сценак жывата або іншых частак цела ў патрэбным становішчы; 2) стальны вобад на колах паравозаў, частках машын для павелічэння іх трываласці.

**БАНДАКРА́ТЫЯ** (ад *банда* + *-кратыя*) — 1) панаванне ў грамадстве крымінальных, мафіёзных элементаў, якія выкарыстоўваюць

уладу ў карыслівых мэтах; 2) мафіёзная група, якая карыстаецца неабмежаванай уладай.

**БАНДВА́ГЕН** (ням. Bandwagen, ад Band = вяроўка + Wagen = вазок) — канатная ваганетка, якая рухаецца па рэйках і выкарыстоўваецца ў адкрытых горных распрацоўках для транспарціроўкі пароды ад экскаватара да адвалу.

**БА́НДЖА** (англ. banjo) — струнны шчыпковы музычны інструмент амерыканскіх неграў.

**БАНДУ́РА** (укр. бандура, ад гр. pandura) — украінскі шматструнны шчыпковы музычны інструмент.

**БАНДЫ́Т** (іт. bandito) — удзельнік *банды*, узброены рабаўнік, разбойнік.

**БАНДЫТЫ́ЗМ** (ад *бандыт*) — злачынная дзейнасць, звязаная з удзелам у грабежніцкіх *бандах*, забойствах, узброеных нападах.

**БАНДЭРО́ЛЬ** (фр. banderole) — 1) невялікае паштовае адпраўленне (кнігі, газеты, часопісы і інш.) у папяровай абгортцы; 2) ярлык на тавары, які сведчыць, што пошлінныя зборы за гэты тавар заплачаны.

**БАНДЭРЫЛЬЕ́РА** (ісп. banderillero) — пешы баец з быком, які кідае ў яго *бандэрылы*.

**БАНДЭРЫ́ЛЬЯ** (ісп. banderilla) — невялікае ўпрыгожанае стужкамі кап'ё, якое выкарыстоўваецца ў час *карыдаў*.

**БА́НІ** (рум. bani) — разменная манета Румыніі, роўная 1/100 *лея*.

**БАНІ́СТЫКА** (фр. bonistique) — дапаможная навуковая дысцыпліна, якая вывучае папяровыя грашовыя знакі і *боны* як гістарычныя дакументы.

**БАНІТАВА́ННЕ** (ад лац. bonitas = дабраякаснасць) — ацэнка сельскагаспадарчых якасцей жывёл і раслін для іх прадукцыйнага выкарыстання.

**БАНІТЭ́Т** (ням. Bonität, ад лац. bonitas = дабраякаснасць) — 1) паказчык прадукцыйнасці лесу; 2) паказчык якасці паляўнічых угоддзяў.

**БАНІФІКА́ЦЫЯ** (фр. bonification, ад лац. bonificare = паляпшаць) — 1) надбаўка да цаны тавараў, якасць якіх вышэйшая, чым вызначана дагаворам; 2) вяртанне падаткаў, узятых з экспартных тавараў, з мэтай павышэння іх канкурэнтаздольнасці.

**БАНІЦЫРО́ЎКА** (ням. bonitieren, ад лац. bonitas = дабраякаснасць) — параўнальная ацэнка якасці глебы па яе найважнейшых аграномічных уласцівасцях.

**БАНК** (фр. banque, ад іт. banco = лаўка) — 1) установа, дзе ажыццяўляюцца грашовыя аперацыі, аперацыі з золатам, замежнай валютай і іншыя функцыі; б. даддзеных — сукупнасць інфармацыі, сканцэнтраванай у пэўным месцы, дзе яна даступна для калектыўнага карыстання; 2) сума грошай, пастаўленая на кон у картачнай гульні.

**БА́НКА**[1] (гал. bank) — 1) падводная водмель, узвышэнне ў адным месцы марскога дна; 2) папярочная лаўка на вёсельным судне для весляроў і пасажыраў.

**БА́НКА**[2] (іт. banco = лаўка) — курс, па якім банк прадае і купляе каштоўныя паперы.

# Б

**БАНКАБРО́Ш** (фр. banc á broches) — машына, якая выкарыстоўваецца ў бавоўнапрадзільнай вытворчасці для падрыхтоўкі паўфабрыкату для пражы.

**БАНКА́РТ** гл. *бенкарт*.

**БАНКЕ́Т**[1] (фр. banquet, ад іт. banchetto) — публічны ўрачысты абед або вячэра з нагоды чаго-н. або ў гонар каго-н.

**БАНКЕ́Т**[2] (фр. banguette) — 1) невысокі земляны насып для засцярогі чыгункі або гідратэхнічнага збудавання ад размывання вадой; 2) невысокі насып каля ўмацаванага вала для зручнасці стральбы з вінтовак; 3) пляцоўка на судне для размяшчэння компасаў, дальнамераў і інш.

**БАНКІ́Р** (фр. banquier, ад іт. banchiere) — буйны *акцыянер* або ўладальнік *банка.*

**БАНКНО́ТЫ** (англ. banknotes) — папяровыя грошы, якія ўжываюцца замест металічных і павінны забяспечвацца золатам і іншымі каштоўнымі металамі.

**БАНКРУ́Т** (фр. banqueroute = банкруцтва < іт. bancarotta, ад banco = лаўка + rotto = зламаны) — 1) збяднелы неплацежаздольны даўжнік (асоба, прадпрыемства, арганізацыя); 2) *пе́ран.* чалавек, які пацярпеў крах у сваёй дзейнасці або поўную няўдачу ў асабістым жыцці.

**БАНКРУ́ЦТВА** (фр. banqueroute < іт. bancarotta, ад banco = лаўка + rotto = зламаны) — 1) страта даўгавой плацежаздольнасці ў сувязі з разарэннем даўжніка; 2) *перан.* правал у ідэйнай, палітычнай дзейнасці якой-н. асобы або арганізацыі.

**БАНТ** (польск. bant, ад ням. Band) — звязка са стужкі ў выглядзе вузла і дзвюх свабодна выпушчаных петляў.

**БАНТО́Н** (фр. bon ton = добры тон, добрыя манеры) — свецкая пачцівасць, далікатнасць у абыходжанні.

**БА́НТЭНГ** (англ. banteng, ад малайск. banteng) — парнакапытная жывёла сям. пустарогіх, якая водзіцца ў лясах паўвострава Індакітай і на астравах Малайскага архіпелага; дзікі бык.

**БАНЬЯ́Н** (хіндзі banijā) — дрэва сям. тутавых са шматлікім паветраным карэннем, пашыранае ў Індыі; фікус бенгальскі.

**БАПТЫ́ЗМ** (ад гр. baptizo = хрышчу) — рэлігійная плынь у хрысціянстве, якая прапаведуе хрышчэнне ў сталым узросце і адмаўляе некаторыя абрады і догматы хрысціянскай царквы.

**БАПТЫ́СТ** (лац. baptista, ад гр. baptistes = хрысціцель) — паслядоўнік *баптызму.*

**БАПТЫСТЭ́РЫЙ** (гр. baptisterion) — культавае памяшканне, дзе праводзяць хрышчэнне.

**БАР**[1] (англ. bar) — 1) невялікі *рэстаран*, у якім наведвальнікаў абслугоўваюць за стойкай; 2) невялікі *буфет* або аддзяленне ў серванце, шафе для вінаў.

**БАР**[2] (гр. baros = цяжар) — пазасістэмная адзінка вымярэння ціску, роўная $10^5$ *ньютанаў* на $м^2$.

**БАР**[3] (англ. bar) — рабочая частка ўрубавай машыны (або горна-

га камбайна), якая ўгрызаецца ў пароду.

**БАР**[4] (фр. barre) — падводная пясчаная наносная мель, якая ўтварылася ў моры перад вусцем ракі, а таксама вузкая выцягнутая паўз бераг наносная палоса сушы.

**БАРА-** (гр. baros = цяжар) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «ціск».

**БАРААПАРА́Т** (ад *бара-* + *апарат*) — апарат для лячэння шляхам змянення ціску паветра ў параўнанні з атмасферным.

**БАРАГРА́МА** (ад *бара-* + *-грама*) — крывая запісу *барографа*.

**БАРАДЫНЕ́ЛА** (н.-лац. borodinella) — аднаклетачная або каланіяльная зялёная водарасць сям. хларасарцынавых, якая пашырана на глебе.

**БАРА́Ж** (фр. barrage) — 1) загарода ў паветры з прывязаных стальнымі тросамі аэрастатаў, якая перашкаджае палёту самалётаў праціўніка; 2) сукупнасць сродкаў загароды супраць надводных і падводных караблёў; 3) падпорная сценка на горных участках чыгункі для аховы яе ад размыву.

**БАРАЖЫ́РАВАЦЬ** (ад фр. barrage = перашкода, загарода) — патруляваць на самалётах над пэўным раёнам для аховы аб'ектаў ад авіяцыі праціўніка.

**БАРАЗО́Н** [ад *бор* + *аз(от)*] — спалучэнне бору з азотам, крышталічнае рэчыва, блізкае па цвёрдасці да алмаза; выкарыстоўваецца пры механічнай апрацоўцы паверхні металаў, шкла і пры вырабе тэрмаўстойлівых ізалятараў.

**БА́РАК** (польск. bark) — тое, што і *ворчык*.

**БАРА́К** (фр. barraque) — будыніна, звычайна дашчаная, для часовага жылля.

**БАРАКА́МЕРА** (ад *бара-* + *камера*) — герметычная камера, у якой штучна змяньваецца ціск паветра, што дазваляе праводзіць выпрабаванні метэаралагічных прыбораў і правяраць уплыў атмасферных змен на арганізм чалавека.

**БАРАКЛІ́ННАСЦЬ** (ад *бара-* + гр. klino = нахіляю) — стан атмасферы, пры якім яе шчыльнасць вызначаецца ціскам і тэмпературай (параўн. *баратропнасць*).

**БАРАКУ́ДА** (ісп. barracuda) — драпежная рыба атрада кефалепадобных, якая водзіцца ў трапічных і субтрапічных морах Атлантычнага, Індыйскага і Ціхага акіянаў.

**БАРАНЕ́Т** (англ. baronet, ад фр. baron = барон) — дваранскі тытул у Англіі, сярэдні паміж вышэйшым і ніжэйшым дваранствам.

**БАРА́НКАСЫ** (ісп. barrancoso = няроўны, з паглыбленнямі) — глыбокія баразны на схілах вулкана, утвораныя пад уздзеяннем вады.

**БАРАНТА́** (цюрк. baranta) — сярэднеазіяцкі звычай самавольнага захопу жывёлы або іншай маёмасці, каб прымусіць уладальніка задаволіць пэўныя прэтэнзіі.

**БАРАРЭЦЭ́ПТАРЫ** (ад *бара-* + *рэцэптары*) — рэцэптары, якія рэгулююць узровень крывянога ціску; размешчаны ў сценках крывяносных сасудаў.

# Б

**БАРАСКО́П** (ад *бара-* + *-скоп*) — прыбор для выяўлення змен ціску паветра.

**БАРАСТА́Т** (ад *бара-* + *-стат*) — аўтаматычны прыбор для падтрымлівання ў невялікіх халадзільных камерах патрэбнага ціску.

**БАРАТРА́ЎМА** (ад *бара-* + *траўма*) — пашкоджанне органа слыху пры рэзкай змене атмасфернага ціску.

**БАРАТРО́ПНАСЦЬ** (ад *бара-* + гр. trope = змена) — стан атмасферы, пры якім яе шчыльнасць вызначаецца толькі ціскам (параўн. *бараклінаасць*).

**БАРА́ТРЫЯ** (англ. barratry) — *юр.* наўмысныя дзеянні капітана або каманды, каб прычыніць шкоду судну або грузу.

**БАРА́ТЫ** (ад н.-лац. borum = бор) — група *мінералаў*, якія з'яўляюцца солямі розных борных кіслот.

**БАРАТЭРАПІ́Я** (ад *бара-* + *тэрапія*) — выкарыстанне з лячэбнай мэтай паніжанага або павышанага атмасфернага ціску.

**БАРАТЭРМО́ГРАФ** (ад *бара-* + *тэрмограф*) — самапісны прыбор для рэгістрацыі атмасфернага ціску і тэмпературы паветра.

**БАРАХО́РЫЯ** (ад *бара-* + *-хорыя*) — ападанне пладоў і насення пад уздзеяннем сілы цяжару без удзелу іншых фактараў.

**БАРАЦЫКЛАНО́МЕТР** (ад *бара* + *цыклон* + *- метр*) — прыбор, які паказвае набліжэнне цыклону і яго напрамак.

**БАРАЦЫ́Т** (ад с.-лац. borax = салетра) — мінерал групы *баратаў*, двайная соль хлорыстага і борнакіслага магнію белага колеру з шараватым, жаўтаватым або зеленаватым адценнем; выкарыстоўваецца для прыгатавання розных прэпаратаў.

**БА́РБА** (лац. barba = барада) — завіток штрыха *клішэ* або *штампа*.

**БАРБАКА́Н** (с.-лац. barbacana) — падкovападобная прысадзістая вежа без даху перад уваходнай брамай, якая прызначалася для дадатковага ўзмацнення і абароны галоўнага ўезду ў сярэдневяковы замак.

**БАРБАМІ́Л** [ад *барб(ітураты)* + гр. amylon = крухмал] — снатворны сродак з групы барбітуратаў.

**БАРБАРЫ́С** (ар. barbāris) — кустовая расліна сям. барбарысавых з калючкамі і дробнымі жоўтымі кветкамі ў гронках, пашыраная пераважна ва ўмераных зонах, а таксама прадаўгаватыя кіслыя чырвоныя ягады гэтай расліны.

**БАРБАТАВА́ЦЬ** (ад фр. barbotage = перамешванне) — прапускаць газ або пару праз слой вадкасці пад ціскам.

**БАРБАЦЁР** (фр. barboter = *літар.* валтузіцца ў вадзе, у гразі) — прыстасаванне ў выглядзе трубаў з маленькімі адтулінамі для прадзімання газу (паветра) ці пары праз слой вадкасці; выкарыстоўваецца ў хімічнай прамысловасці.

**БАРБАЦІ́Н** (фр. barbotine) — 1) сумесь белай гліны, пяску і фарбы для нанясення ляпных упрыгожанняў на керамічныя вырабы перад іх абпальваннем; 2) ваза з расфарбаванымі пукатымі кветкамі і лісцем.

**БАРБЕ́Т** (фр. barbette) — 1) насыпная пляцоўка за бруствером для размяшчэння гарматы; 2) ахоўная бранявая сценка на борце ваеннага карабля, за якой размяшчаюцца артылерыйскія ўстаноўкі.

**БАРБІЛАФО́ЗІЯ** (н.-лац. barbilophozia) — пячоначны мох сям. лафозіевых, які расце на камянях, кары дрэў, вільготнай глебе.

**БАРБІТА́Л** [ад *барбіт(ураты)*] — заспакойлівы і снатворны сродак з групы барбітуратаў.

**БАРБІТА́Л-НА́ТРЫЙ** (ад *барбітал* + *натрый*) — тое, што і *мединал*.

**БАРБІТУРА́ТЫ** (ад іт. barbabietola = бурак + urea = мачавіна) — група лекавых рэчываў, вытворныя барбітуравай кіслаты, якія з'яўляюцца снатворнымі і наркатычнымі сродкамі.

**БА́РБУЛА** (н.-лац. barbula) — ліс-тасцябловы мох сям. трыхастомавых, які расце на глеістай або пясчанай глебе, гнілой драўніне, камянях.

**БА́РВА** (польск. barwa, ад с.-в.-ням. varwe) — 1) колер, афарбоўка, фарба; 2) чырвань, густа-чырвоны колер; 3) *гіст.* форменнае адзенне (мундзір, ліўрэя) у Вялікім княстве Літоўскім.

**БАРГО́УТ** (гал. barghout) — патоўшчаны пояс знешняй абшыўкі драўлянага судна для ўзмацнення яго.

**БАРД** (кельц. bard) — 1) паэт-спявак у старажытных кельтаў; 2) аўтар і выканаўца аўтарскай песні; 3) *перан.* паэт.

**БАРДЗЮ́Р** (фр. bordure, ад bord = край, мяжа) — 1) шляк, які абрамляе край тканіны, шпалераў і інш.; 2) паласа дэкаратыўных раслін з боку плошчы, пляцоўкі, тратуара.

**БАРДО́** (фр. bordeaux, ад Bordeaux = назва французскага горада) — 1) гатунак чырвонага віна; 2) цёмна-чырвоны колер.

**БАРДЭРО́** (фр. bordereau) — 1) выпіс з бухгалтарскіх дакументаў, рахункаў; 2) вопіс каштоўных папер, якія высылаюцца.

**БАР'Е́Р** (фр. barrière) — невысокая перагародка, якая закрывае свабодны праход куды-н.; 2) перашкода, якую трэба пераадолець пры спаборніцтве ў бегу, скачках і інш.; 3) наогул перашкода для чаго-н. (напр. гукавы б., цеплавы б.); 4) *перан.* тое, што перашкаджае дзейнасці (напр. ведамасны б., псіхалагічны б.).

**БА́РЖА** (англ. barge, ад фр. barge) — пласкадоннае грузавое судна, якое звычайна буксіруецца.

**БАРК** (гал. bark) — вялікае парусное марское судна, у якога на задняй мачце косыя парусы, а на астатніх прамыя.

**БА́РКА** (іт. barca) — пласкадоннае рачное грузавое судна без палубы, якое буксіруецца.

**БАРКАРО́ЛА** (іт. barcarola, ад barca = лодка) — 1) тое, што і *гандальера* 1; 2) вакальны або інструментальны твор у стылі песні венецыянскіх лодачнікаў (*гандальераў*) з лірычнай мелодыяй, музычным суправаджэннем, у якім чуецца плёскат хваляў.

**БАРКА́С** (гал. barkas) — 1) самаходнае судна невялікіх памераў

для перавозак у порце; 2) вялікая вёславая лодка, шлюпка.

**БАРКЕНЦІ́НА** (англ. barquentine) — марское грузавое судна з трыма і больш мачтамі, з якіх пярэдняя мае рэі.

**БАРЛЕ́Я** (н.-лац. barlea) —сумчаты грыб сям. пецыцавых, які расце на глебе, раслінных рэштках у лясах.

**БАРМЕ́Н** (англ. barman) — уладальнік ці служачы *бара*, які падае спіртныя напіткі за стойкай.

**БАРН** (англ. barn) — *фіз.* адзінка вымярэння эфектыўнага папярочнага сячэння атамных ядзер.

**БАРНЕО́Л** (ад малайск. Borneo = назва вострава Малайскага архіпелага) — арганічнае злучэнне, бясколернае крышталічнае рэчыва, з якога атрымліваюць *камфару*.

**БАРНІ́Т** [ад ням. J. Born = прозвішча аўстр. мінералога (1742—1791)] — багатая медная руда, сульфід медзі і жалеза.

**БАРО́ГРАФ** (ад гр. baros = цяжар + *-граф*) — прыбор, які сам запісвае змены атмасфернага ціску.

**БАРО́КА** (іт. barocco = *літар.* мудрагелісты) — стыль у еўрапейскай культуры канца 16 — сярэдзіны 18 ст., які вызначаўся ў мастацтве пышнасцю формаў, багаццем колераў і дэкаратыўных дэталяў, у літаратуры ўскладненасцю, метафарычнасцю, нагрувашчваннем у творах рытарычных фігур; найбольшае пашырэнне атрымаў у архітэктуры, дзе характэрнымі асаблівасцямі яго была грандыёзнасць, масіўнасць будынкаў, фрэскавая размалёўка, дэкаратыўная лепка.

**БАРО́МЕТР** (ад гр. baros = цяжар + *-метр*) — 1) прыбор для вымярэння атмасфернага ціску, прадказання надвор'я; 2) *перан.* паказчык якіх-н. змен, стану чаго-н.

**БАРО́Н** (фр. baron, ад с.-лац. baro, -onis) — дваранскі тытул, ніжэйшы за графскі.

**БАРС** (цюрк. bars) — тое, што і *леапард*.

**БАРСУ́К** (цюрк. borsuk) — драпежны пушны звер сям. куніцавых з вострай мордай і доўгай грубай шэрсцю.

**БАРТАЛІНІ́Т** [ад дацк. T. Bartolin = прозвішча дацк. анатама (1616—1680)] — запаленне барталінавых залоз каля ўваходу ў похву.

**БАРТРА́МІЯ** (н.-лац. bartramia) — лістасцяблавы мох сям. бартраміевых, які трапляецца на ўзлесках на глебе, гнілой драўніне, камянях.

**БА́РТЭР** (англ. barter) — натуральны абмен аднаго тавару або паслугі на другі тавар або паслугу; абменны гандаль.

**БА́РТЭРНЫ** (ад *бартэр*); б. г а н д а л ь — тое, што і *бартэр*; б-а я з д з е л к а — безвалютны, але ацэнены і збалансаваны абмен таварамі, які афармляецца адным дагаворам (кантрактам).

**БАРХА́Н** (цюрк. barchan) — наносны пясчаны ўзгорак дугападобнай формы ў пустынях, стэпах.

**БАРЫ-** (гр. barys = цяжкі) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «ціск».

**БАРЫБА́Л** (індз. baribal) — мядзведзь з гладкай доўгай шэрсцю

чорнай або рыжай масці, які водзіцца ў лясах Паўн. Амерыкі.

**БАРЫ́ДЫ** (ад н.-лац. borum) — злучэнні бору з металамі; выкарыстоўваюцца ў радыёэлектроніцы, машынабудаванні, прыборабудаванні.

**БАРЫЁНЫ** (ад *бары-* + *іон*) — элементарныя часціцы (*нуклоны*, *гіпероны*) з паўцэлым *спінам* і масай, не меншай за масу *пратона*.

**БА́РЫЙ** (лац. barium, ад гр. barys = цяжкі) — хімічны элемент, мяккі метал серабрыстага колеру.

**БАРЫКА́ДА** (фр. barricade, ад barrique = бочка) — загарода ўпоперак вуліцы з розных падручных прадметаў (бярвення, камянёў, скрынак, мяшкоў з пяском і інш), якая выкарыстоўваецца ў час вулічных баёў; п а  д р у г і  б о к  б а р ы к а д — у лагеры праціўніка.

**БАРЫ́ЛА** (польск. baryła, ад іт. barile) — заднёная з двух бакоў невялікая бочачка для напіткаў (віна, алею, піва).

**БАРЫ́ЛЬ** (ісп. barril = бочка) — мера ёмістасці вадкасцей у шэрагу краін Лац. Амерыкі, роўная 76 або 96 л.

**БА́РЫСТЭР** (англ. barrister) — званне *адваката* ў Англіі.

**БАРЫСФЕ́РА** (ад *бары* + *сфера*) — ядро Зямлі, гіпатэтычна акрэсленая цэнтральная частка Зямлі, пабудаваная з мас вялікай шчыльнасці.

**БАРЫ́Т** (н.-лац. baritium, ад лац. barium = барый, ад гр. barys = цяжкі) — мінерал класа *сульфатаў* белага або шэрага колеру са шкляным бляскам; выкарыстоўваецца для вырабу бялілаў, эмаляў, а таксама ў папяровай, гумавай вытворчасці і ў медыцыне.

**БАРЫТО́Н** (іт. baritono) — 1) мужчынскі голас, сярэдні паміж *басам* і *тэнарам*, а таксама спявак з такім голасам; 2) медны духавы музычны інструмент баса-барытоннага *дыяпазону* і *тэмбру*.

**БАРЫЦЭ́НТР** (ад *бары-* + *цэнтр*) — 1) цэнтр цяжару геаметрычнай фігуры або цела; 2) цэнтр масы сістэмы Зямля — Месяц, размешчаны на адлегласці 4800 км ад цэнтра Зямлі ў напрамку Месяца.

**БАРЫ́ЧНЫ** [ад *бары-* + *(метр)ычны*] — звязаны з атмасферным ціскам.

**БАРЫ́Ш** (цюрк. baryš) — пачастунак пасля куплі-продажу, заключэння здзелкі; 2) прыбытак, выгада ад якой-н. гандлёвай здзелкі.

**БАРЭА́ЛЬНЫ** (лац. borealis, ад гр. boreas = паўночны); б - а е  ц а р с т в а — таксанамічная адзінка фларыстычнага раянавання Зямлі, якая займае ўмераную зону Паўн. паўшар'я.

**БАРЭ́Ж** (фр. barége, ад Baréges = назва горада ў Пірэнеях) — лёгкая празрыстая тканіна з баваўнянай, шаўковай або шарсцяной пражы.

**БАРЭ́Й** (гр. Boreas = імя старажытнагрэчаскага міфалагічнага бога паўночнага ветру) — *паэт.* парывісты халодны вецер.

**БАРЭ́ЛЬ** (англ. barrel = бочка) — мера ёмістасці і аб'ёму сыпкіх і вадкіх рэчываў у ЗША, Англіі і некаторых іншых краінах, роўная для сыпкіх рэчываў 163,65 л, для вадкіх рэчываў 159 л.

**БАРЭЛЬЕ́Ф** (фр. bas-relief = *літар.* нізкі рэльеф) — від скульптуры, у якой фігура выступае на плоскай паверхні менш чым на палавіну сваёй таўшчыні.

**БАРЭ́ТКІ** (фр. barrette) — жаночыя туфлі са шнуркамі або на гузіках.

**БАРЭ́ТЭР** (англ. barretter) — *стабілізатар* сілы току, прылада ў выглядзе запоўненага вадародам шклянога балона, унутры якога змешчаны тонкі жалезны дрот; выкарыстоўваецца ў радыёэлектронных прыборах.

**БАС** (іт. basso = *літар.* нізкі) — 1) самы нізкі мужчынскі голас, а таксама спявак з такім голасам; 2) духавы або струнны музычны інструмент нізкага *рэгістра*; 3) *мн.* струны або клавішы музычнага інструмента, якія адзываюцца нізкім гукам.

**БАСАНО́ВА** (парт. bossa nova = новае захапленне) — 1) лацінаамерыканскі танцавальны рытм, які лёг у аснову многіх музычных твораў; 2) парны бальны танец, падобны на *самбу*[3].

**БАСЕ́ЙН** (фр. bassin) — 1) штучны вадаём; 2) тэрыторыя, якая ахоплівае мора, возера, раку разам з прытокамі; 3) месца залягання горных парод (напр. Данецкі вугальны б.).

**БАСЕТГО́РН** (ням. Bassethorn) — альтавая разнавіднасць *кларнета*.

**БАСКА́К** (цюрк. baskak) — прадстаўнік ханскай улады і зборшчык даніны ў падначаленых народаў у перыяд татара-мангольскага нашэсця.

**БАСКЕРВІ́ЛЬ** (англ. baskerville, ад J. Baskerville = прозвішча англ. друкара 18 ст.) — друкарскі *шрыфт* выразнага малюнку, які выкарыстоўваецца пераважна для кніжнага набору.

**БАСКЕ́Т** (фр. bosquet, ад іт. boschetto = лясок, гаёк) — група роўна падстрыжаных дрэў ці кустоў, якія высаджаны ў парку, садзе або на іх межах.

**БАСКЕТБО́Л** (англ. basket-ball, ад basket = кошык + ball = мяч) — спартыўная камандная гульня з мячом, які закідаюць рукамі ў падвешанае кольца з сеткай.

**БА́СМА** (цюрк. basma) — раслінная фарба для валасоў.

**БАСМА́** (цюрк. basma) — 1) пласцінка з партрэтам хана, якая ў час татара-мангольскага нашэсця выдавалася як вярыцельная грамата; 2) тонкія лісты з золата, серабра або медзі з выціснутымі малюнкамі, якія даўней выкарыстоўваліся як упрыгожанні.

**БАСМА́Ч** (цюрк. basmak = рабіць налёт) — удзельнік узброенага нацыянальна-дэмакратычнага руху ў Сярэд. Азіі ў 1917—1926 гг.

**БАСО́Н** (ад фр. passement = тасьма) — узорныя плеценыя вырабы (шнуры, тасьма, аблямоўка) для ўпрыгожання адзення, аздаблення мэблі.

**БА́СТА** (іт. basta) — хопіць, даволі!

**БАСТАВА́ЦЬ** (рус. бастовать, ад іт. basta = даволі) — арганізавана спыняць работу, патрабуючы ад прадпрымальнікаў або ўрада задавальнення эканамічных ці палітычных патрабаванняў.

**БАСТАНА́ДА** (ісп. bastonada) — пакаранне ўдарамі кіем па пятах і спіне, якое прымянялася даўней у некаторых краінах.

**БАСТА́РД** (с.-лац. bastardus) — 1) гібрыд ад міжвідавых і міжродавых скрыжоўванняў жывёл; 2) пазашлюбны сын знатнай асобы (караля, герцага) у сярэдневяковай Зах. Еўропе.

**БАСТНЕЗІ́Т** (ад ням. Bastnez = назва мясцовасці ў Швейцарыі) — мінерал класа *карбанатаў* жоўтага, шэрага, карычневага колеру або бясколерны са шкляным бляскам.

**БАСТО́Н** (англ. Boston = назва горада ў ЗША) — 1) высакаякасная тонкая баваўняная тканіна для касцюмаў; 2) танец павольнага тэмпу; 3) карцёжная гульня.

**БАСТР** (ням. Baster) — жоўты цукровы пясок нізкай якасці, які звычайна вяртаюць на перапрацоўку.

**БАСТЫЁН** (фр. bastion) — пяцівугольнае ўмацаванне ў выглядзе выступу сцяны ў даўнейшых крэпасцях для вядзення бакавога агню.

**БАСТЫ́ЛІЯ** (фр. Bastille, ад ст.-фр. bastir = будаваць) — 1) умацаваны замак у перыяд сярэдневякоўя; 2) крэпасць і адначасова турма ў Парыжы 14—18 ст.; як сімвал *абсалютызму* была 14 ліпеня 1789 г. ўзята штурмам народам, што з'явілася пачаткам Французскай рэвалюцыі 1789—1794 гг.

**БАСТЭ́Я** (іт. bastea) — паўкруглае каменнае збудаванне для абстрэлу падыходаў да крэпасці.

**БАСУРМА́Н** (цюрк. busurman, ад musulman = мусульманін) — 1) *уст.* чалавек іншай веры, іншаземец; 2) *лаянк.* несумленны чалавек.

**БАСЭТГО́РН** (ням. Bassetthorn, ад іт. basso = нізкі + ням. Horn = рог) — духавы музычны інструмент, разнавіднасць *кларнета*.

**БАСЭ́ТЛЯ** (польск. basetla < ням. Bassettel, ад іт. bassetto) — народны смычковы музычны інструмент нізкага *рэгістра*, блізкі да *віяланчэлі*.

**БАТАЛЁР** (фр. batailleur) — асоба на ваенным судне, якая загадвае харчовым і рэчавым забеспячэннем.

**БАТАЛІ́СТ** (іт. battaglista, ад battaglia = бой, бітва) — мастак, творчасць якога прысвечана ваеннай тэматыцы.

**БАТАЛІ́Т** (ад гр. bathos = глыбіня + *-літ*) — буйны масіў гранатоідных горных парод, які ўтварыўся ў зямной кары на вялікай глыбіні.

**БАТА́ЛІЯ** (фр. bataille, ад іт. battaglia = бой, бітва) — 1) *уст.* бітва, бой; 2) *перан.* бурная сварка, бойка.

**БАТАЛЬЁН** (фр. bataillon, ад іт. battaglione) = вайсковае падраздзяленне з некалькіх рот, якое ўваходзіць у склад палка.

**БАТА́ЛЬНЫ** (ад іт. battaglia = бой, бітва) — які адлюстроўвае ваенныя сцэны, баявыя дзеянні; б. ж а н р — жанр выяўленчага мастацтва, прысвечаны ваеннай тэматыцы.

**БАТА́Н** (фр. battant) — механізм ткацкага варштата, які накіроўвае

рух чаўнака, што ўводзіць уток у аснову.

**БАТАНІЗАВА́ЦЬ** (ням. botanisieren = збіраць расліны, ад гр. botane = трава) — збіраць расліны з мэтай іх вывучэння; гербарызаваць.

**БАТАНІЗІ́РКА** (ад ням. botanisieren = збіраць расліны, ад гр. botane = трава) — спецыяльная каробка для раслін, якія збіраюць у час батанічных экскурсій.

**БАТА́НІК** (ад *батаніка*) — спецыяліст у галіне батанікі.

**БАТА́НІКА** [гр. botanike (techne) = навука аб раслінах] — навука, якая вывучае расліны.

**БАТАПО́РТ** (ад гр. bathos = глыбіня + англ. port = праход) — прыстасаванне ў выглядзе плывучай воданепранікальнай скрыні для закрывання сухога шлюза.

**БАТАРЭ́Я** (фр. batterie) — 1) артылерыйскае падраздзяленне з некалькіх гармат; 2) злучэнне некалькіх аднатыпных прыбораў, крыніц энергіі ў адну сістэму (напр. радыятарная б., сонечная б.).

**БАТА́Т** (ісп. batata) — расліна сям. павоевых, клубні якой багатыя на крухмал і цукар; салодкая бульба.

**БАТАХРО́МНЫ** (ад *батахромы*) — б. э ф е к т — змена афарбоўкі арганічных злучэнняў пры змяненні іх хімічнай будовы ў бок паглыблення колеру — пераход ад жоўтага праз аранжавы, чырвоны, фіялетавы, сіні да зялёнага колеру (параўн. *гіпсахромны).*

**БАТАХРО́МЫ** (ад гр. bathos = глыбіня +chroma = колер) — атамныя групы, прысутнасць якіх у малекулах фарбавальнікаў паглыбляе колер і мяняе ў паслядоўнасці: бясколерны — жоўты — аранжавы — чырвоны — фіялетавы — сіні — блакітны — зялёны — чорны.

**БАТДЭ́К** (англ. boot-deck) — палуба пасажырскага судна, на якой размешчаны выратавальныя шлюпкі.

**БАТЛЕ́ЙКА** (польск. betlejka, ад Betleem = польская назва горада Віфлеема) — пашыраны і папулярны ў мінулыя часы на Беларусі перасоўны лялечны тэатр; з канца 1980-х гадоў робяцца спробы адрадзіць паказы батлейкі.

**БАТМАГЕНЕ́З** (ад гр. bathmos = ступень + *-генез*) — эвалюцыйная канцэпцыя, паводле якой у аснове прагрэсіўнага развіцця жывых арганізмаў ляжыць унутранае імкненне да самаўдасканалення.

**БАТМА́Н** (фр. battement = стуканне, біццё) — 1) група рухаў у класічным танцы; 2) удар зброяй па зброі праціўніка пры фехтаванні.

**БАТО́МЕТР** (ад гр. bathos = глыбіня + *-метр*) — прыбор, пры дапамозе якога бяруцца пробы вады з розных глыбіняў вадаёма.

**БАТО́Н** (фр. bâton = палка) — 1) белы хлеб прадаўгаватай формы; 2) прадукт харчавання акруглай прадаўгаватай формы.

**БАТРАКА́РЫУМ** (н.-лац. bothrocaryum) — дрэвавая або кустовая расліна сям. кізілавых, часта з гарызантальна распасцёртымі галінамі, пашыраная ва Усх. Азіі, на востраве Тайвань і ў Паўн. Амерыцы; вырошчваецца як дэкаратыўная на Чарнаморскім узбярэжжы Каўказа.

**БАТРАКЕФА́ЛІЯ** (ад гр. bathron = уступ + kephale = галава) — анамальная форма чэрапа, калі патыліца выпінаецца ўступамі.

**БАТРАХАЗА́ЎРЫ** (ад гр. batrachos = жаба + *-заўр*) — падклас вымерлых земнаводных (напр. *лантаназух*, *сеймурыя*), якія спалучалі прыметы *амфібій* і *рэптылій*; жылі ў *палеазоі*.

**БАТРАХАЛО́ГІЯ** (ад гр. batrachos = жаба + *-логія*) — раздзел *заалогіі*, які вывучае земнаводных.

**БАТРАХАСПЕ́РМУМ** (н.-лац. ba-trachospermum) — ніткаватая чырвоная водарасць сям. батрахаспермавых, якая трапляецца ў багатай кіслародам вадзе.

**БАТРЫДЫЁПСІС** (н.-лац. botrydiopsis) — аднаклетачная жоўта-зялёная водарасць сям. плеўрахлоравых, якая пашырана ў *планктоне* азёр, рэк, вадасховішчаў, сажалак, каналаў, у глебе, на камянях.

**БАТРЫ́ДЫІ** (ад гр. botrys = гронка + eidos = выгляд) — органы фіксацыі ў некаторых стужачных чарвей, якія ўяўляюць сабой падоўжаныя зашчамляльныя апараты.

**БАТРЫ́ДЫУМ** (н.-лац. botrydium) — аднаклетачная жоўта-зялёная водарасць сям. батрыдыевых, якая трапляецца на глініста-глеістых адкладах берагоў розных вадаёмаў, на дне сажалак, якія высыхаюць, на вільготных глебах.

**БАТРЫЕКО́КУС** (н.-лац. batryococcus) — каланіяльная зялёная водарасць сям. дыктыясферыевых, якая пашырана ўсюды ў чыстай або слаба забруджанай вадзе.

**БАТРЫЯМІКО́З** (ад гр. botrys = гронка + *мікозы*) — хранічная інфекцыйная хвароба коней, радзей буйной рагатай жывёлы, авечак, свіней з групы мікозаў, узбуджальнік якой мікраскапічны грыбок; характарызуецца пухлінападобным разрастаннем злучальнай тканкі.

**БАТРЫЯСПО́РЫЙ** (н.-лац. botryosporium) — недасканалы грыб сям. маніліевых, які развіваецца ў глебе на розных раслінных субстратах.

**БАТРЫЯСФЕ́РЫЯ** (н.-лац. batryosphaeria) — сумчаты грыб сям. батрыясферавых, які развіваецца на травяністых і дрэвавых раслінах.

**БАТРЫЯТЫ́НІЯ** (н.-лац. batryotinia) — сумчаты грыб сям. склератыніевых, які развіваецца на многіх раслінах.

**БАТУЛІ́ЗМ** (н.-лац. botulismus, ад лац. botulus = каўбаса) — вострая інфекцыйная хвароба ў выніку атручвання прадуктамі (каўбасой, вяндлінай, рыбай, кансервамі), заражанымі спораўтваральнымі палачкападобнымі *бактэрыямі* і іх *таксінамі*.

**БАТУ́Т** (фр. batoude, ад іт. battuta = *літар.* удар) — гімнастычны снарад для скачкоў у выглядзе нацягнутай гарызантальна капронавай або металічнай сеткі, якая спружыніць.

**БАТУ́ТА** (іт. battuta = *літар.* удар) — палачка *дырыжора*.

**БАТФО́РТЫ** (фр. bottes fortes) — кавалерыйскія боты з высокімі пашыранымі ўверсе халявамі.

# Б

**БАТЫ-** (гр. bathys = глыбокі) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «глыбінны».

**БАТЫБІЁНТЫ** (ад *баты-* + *біёнты*) — марскія арганізмы, якія жывуць на глыбінях звыш 500 м.

**БАТЫГРА́МА** (ад *баты-* + *-грама*) — крывая суадносін розных глыбіняў вадаёма (возера, мора).

**БА́ТЫК** (малайск. batik) — шматколерная тканіна ў народаў Інданезіі.

**БАТЫМЕ́ТРЫЯ** (ад *баты-* + *-метрыя*) — раздзел *гідраметрыі*, які займаецца вымярэннем водных глыбіняў.

**БАТЫПЕЛАГІЯ́ЛЬ** (ад *баты-* + *пелагіяль*) — адна з зон Сусветнага акіяна, якая ахоплівае тоўшчу вады ад 200 да 1500 м, куды пранікае нязначная колькасць сонечных прамянёў.

**БАТЫПЛА́Н** (ад *баты-* + *-план*) — несамаходны аднамесны апарат для вывучэння марскіх глыбіняў, здольны манеўраваць у гарызантальным і вертыкальным напрамку.

**БАТЫСКА́Ф** (ад *баты-* + *-скаф*) — самаходны апарат для глыбакаводных даследаванняў.

**БАТЫ́СТ** (фр. batiste) — тонкая паўпразрыстая тканіна з ільняной або бавоўнянай пражы, звычайна падвергнутай *мерсерызацыі*.

**БАТЫСФЕ́РА** (ад *баты-* + *сфера*) — стальная камера сферычнай формы, якая спускаецца на тросе для даследавання раслціннасці і жывёльнага свету на вялікай глыбіні.

**БАТЫТЭРМО́ГРАФ** (ад *баты-* + *тэрмограф*) — прыбор для вымярэння і запісу тэмпературы вады на розных глыбінях акіянаў і мораў у час руху судна.

**БАТЫФАТО́МЕТР** (ад *баты-* + *фатометр*) — прыбор для вымярэння інтэнсіўнасці асвятлення ў вадзе на вялікіх глыбінях.

**БАТЫЯ́ЛЬ** (ад гр. bathys = глыбокі) — зона марскіх глыбіняў ад 200 да 2000 м.

**БАТЫЯ́ЛЬНЫ** (ад *батыяль*) — які датычыць марскіх адкладаў, што залягаюць на глыбіні 200—2000 м; б-ая зона — тое, што і *батыяль*.

**БА́ТЭНСЫ** (англ. battens) — дошкі шырынёй 10—20 см і таўшчынёй 5—10 см.

**БАТЭРФЛЯ́Й** (англ. butterfly) — спосаб спартыўнага плавання на грудзях, пры якім грабок робіцца адначасовым вынасам абедзвюх рук на паверхню вады.

**БАУ́Л** (іт. baule) — падарожны куфэрак круглаватай формы.

**БА́ЎЭР** (ням. Bauer) — нямецкі селянін-землеўласнік.

**БА́ФТЫНГ** (англ. buffeting) — трасенне самалёта пры аднясенні паветраных віхроў ад крыла на хваставое апярэнне.

**БАХТАРМА́** (цюрк. bachtarma) — адваротны бок выдубленай шкуры.

**БАХУ́Р** (ст.-яўр. bachur = хлопец) — 1) маленькі тоўсценькі хлопчык, карапуз; 2) пазашлюбнае дзіця; 3) *гіст.* назва маладога яўрэя на Беларусі ў 16—17 ст.

**БАХЧА́** (тур. bahča, ад перс. bachče = садзік) — поле, на якім растуць гарбузы, кавуны, дыні.

**БАХШЫ́** (цюрк. bagšy) — 1) народны спявак, музыкант, паэт у народаў Сярэд. Азіі; 2) шаман у некаторых цюркскіх народаў.

**БАЦА́НІЯ** (н.-лац. bazzania) — пячоначны мох сям. лепідозіевых, які трапляецца на вільготнай глебе ў ценістых лясах, радзей на гнілой драўніне.

**БАЦЫ́ДЫЯ** (н.-лац. bacidia) — накіпны сумчаты лішайнік сям. лецыдзеевых, які расце на кары дрэў, раслінных рэштках, радзей на камянях, глебе.

**БАЦЫЛІСПО́РА** (н.-лац. bacillispora) — недасканалы грыб сям. маніліевых, які развіваецца на лісці розных дрэвавых парод (вольхі, вярбы і інш.) у вадзе.

**БАЦЫ́ЛЫ** (лац. bacillum = палачка) — палачкападобныя *бактэрыі*, сярод якіх большасць з'яўляецца ўзбуджальнікамі інфекцыйных хвароб.

**БАЦЫЛЯ́РЫЯ** (н.-лац. bacillaria) — каланіяльная *дыятомавая* водарасць сям. ніцшыевых, якая пашырана ў *бентасе* і *планктоне* мораў, саланавата-прэсных вадаёмаў.

**БАШЛЫ́К** (цюрк. bašlyk) — суконны *капюшон* з доўгімі канцамі, які надзяваецца на шапку ў непагоду.

**БАШМА́К** (рус. башмак, ад цюрк. bašmak) — асобы від тормаза ў выглядзе клінападобнай калодкі, якая падкладваецца пад колы вагонаў, каб спыніць іх рух.

**БАШТА́Н** (укр. баштан, ад тур.-перс. bostān = агарод) — тое, што і *бахча*.

**БАШЫБУЗУ́К** (тур. bašybozuk) — 1) салдат нерэгулярных турэцкіх войск у 18—19 ст.; 2) *пе-ран.* грубы, бязлітасны, жорсткі чалавек.

**БАЯДЭ́РА** (парт. bailadeira) — індыйская храмавая танцоўшчыца, якая за плату выступае і ў рэстаранах, прыватных дамах.

**БАЯНЕ́Т** (фр. baionnette = штык, ад Bayonne = назва горада ў Францыі) — 1) злучэнне дэталяў, пры якім адна дэталь з прораззю насаджваецца на іншую дэталь з выступам; 2) першапачатковая назва штыка, вынайдзенага ў сярэдзіне 17 ст. у Францыі.

**БЕАМІ́ЦЭС** (н.-лац. baeomyces) — накіпны лішайнік сям. беаміцэтавых, які расце на гліністай і тарфяной глебе, гнілой драўніне.

**БЕАТЫФІКА́ЦЫЯ** (с.-лац. beatificatio, ад лац. beatus = блажэнны + facere = рабіць) — акт залічэння каталіка ў лік блажэнных, які выконвае рымскі папа.

**БЕГЕМО́Т** (ням. Behemoth, ад ст.-яўр. behēmōth) — буйная млекакормячая жывёла атрада парнакапытных, якая жыве ў рэках і азёрах Афрыкі.

**БЕГЕТРЫ́Я** (ісп. behetría) — вольная сялянская абшчына ў сярэдневяковай Іспаніі.

**БЕГІНА́Ж** (фр. béguinage) — пасёлак накшталт манастыра з келлямі для адзінокіх жанчын у Бельгіі і Нідэрландах.

# Б

**БЕДЛА́М** (англ. bedlam) — 1) лонданская псіхічная бальніца; 2) *перан.* неразбярыха, шум, вэрхал.

**БЕ́ДЛЕНД** (англ. bad lands = *літар.* дрэнныя землі) — рэзка расчлянёны *рэльеф* пустынных і паўпустынных раёнаў з заблытанай сеткай яроў і вузкіх грабянёў, што робіць яго непрыгодным для земляробства.

**БЕДУІ́НЫ** (ар. badauin = жыхары пустыні) — вандроўныя і паўвандроўныя арабы-жывёлаводы Аравійскага паўвострава і Паўн. Афрыкі (параўн. *фелахі*).

**БЕДЭ́КЕР** [ням. K.Baedeker = прозвішча ням. кнігавыдаўца (1801—1859)] — назва даведнікаў па розных краінах для турыстаў на нямецкай і іншых мовах, якія выдаюцца ў Германіі.

**БЕЗАА́РЫ** (перс. bezoari) — утварэнні са шчыльна збітай шэрсці жывёл або валокнаў раслін, якія часам выяўляюць у страўніках жвачных жывёл.

**БЕЗЭ́** (фр. baiser = пацалунак) — піражнае з узбітых яечных бялкоў і цукру.

**БЕЙ** (тур. bey = князь) — тытул феадальнай знаці або службовых асоб у некаторых краінах Блізкага і Сярэд. Усходу.

**БЕ́ЙДЭВІНД** (гал. bij de wind) — курс паруснага судна пры сустрэчна-бакавым ветры.

**БЕ́ЙЛІФ** (англ. bailiff) — памочнік *шэрыфа* ў англамоўных краінах.

**БЕЙНІ́Т** [ад англ. E.Bain = прозвішча амер. металурга (1891—1978)] — структурная састаўляючая сталі, якая ўтвараецца ў выніку так званага прамежкавага пераатварэння *аўстэніту*.

**БЕЙСБО́Л** (англ. baseball, ад base = нізавы + ball = мяч) — спартыўная камандная гульня з мячом і бітай, якая нагадвае лапту.

**БЕЙТ** (ар. bejt) — двухрадковая вершаваная страфа ў паэзіі народаў Блізкага і Сярэд. Усходу, якая звычайна змяшчае закончаную думку.

**БЕЙШЛО́Т** (гал. bijslot) — грэбля ў вярхоўі суднаходнай ракі са шлюзамі для выпускання вады.

**БЕК**[1] (цюрк. beg) — 1) тытул феадальнай знаці ў цюркскіх народаў; 2) форма ветлівага звароту ў некаторых цюркскіх народаў (адпавядае паняццю «пан»).

**БЕК**[2] (англ. back = задні) — *уст.* гулец абароннай лініі ў спартыўных гульнях з мячом або шайбай.

**БЕКА́Р** (фр. bécarre) — нотны знак, які адмяняе дзеянне папярэдняга *дыеза* ці *бемоля* і аднаўляе асноўнае значэнне ноты.

**БЕКЕРЭ́ЛЬ** [фр. A.Becquerel = прозвішча фр. фізіка (1852—1908)] — адзінка актыўнасці *нукліда* ў радыеактыўнай крыніцы; у Міжнароднай сістэме адзінак (СІ) роўная актыўнасці нукліда, пры якой за 1с адбываецца адзін акт радыеактыўнага распаду.

**БЕКЕ́ША** (польск. bekiesza < венг. bekeš, ад Bekeš = прозвішча С.Баторыя) — мужчынскае паліто са зборкамі ў таліі.

**БЕКМА́НІЯ** (н.-лац. beckmannia, ад ням. J.Beckmann = прозвішча ням. батаніка) — травяністая расліна сям. злакавых з лінейным лісцем і дробнымі кветкамі ў коласа-

падобных мяцёлках, пашыраная пераважна ва ўмераных зонах на заліўных лугах.

**БЕКМЕ́С** (тур. bäkmäz) — канцэнтраваны вінаградны сок.

**БЕКО́Н** (англ. bacon) — правэнджаная або прасоленая свініна асобага прыгатавання.

**БЕКРО́С** (англ. backcross, ад back = зноў + cross = скрыжоўваць) — скрыжоўванне *гібрыда* першага пакалення з адной з бацькоўскіх форм.

**БЕ́КХЕНД** (англ. back-hand, ад back = ззаду + hand = рука) — удар злева пры гульні ў *тэніс*.

**БЕЛ** [англ. A.Bell = прозвішча амер. вынаходцы (1847—1922)] — лагарыфмічная адзінка адносін дзвюх фізічных велічынь (энергій, магутнасцей, токаў і інш.).

**БЕЛАДО́ННА** (іт. belladonna = *літар.* прыгожая дама) — травяністая расліна сям. паслёнавых з чорнымі ягадамі, пашыраная ў Еўропе і Малой Азіі; дае *атрапін*; красаўка.

**БЕЛАЛГІ́Н** [ад *бел(адонна)* + *(ан)альгін*] — лекавы праціспазматычны, болесуцішальны і праціяксіслотны прэпарат пры захворваннях страўнікава-кішачнага тракту.

**БЕЛАМКА́НДА** (н.-лац. belamcanda) — травяністая расліна сям. касачовых з вузкім лісцем і буйнымі чырванавата-бурымі кветкамі, пашыраная ў Японіі, Кітаі, Індыі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**БЕЛАНІ́ДЫЙ** (н.-лац. belonidium) — сумчаты грыб сям. гіялосцыфавых, які развіваецца на адмерлых сцёблах травяністых раслін.

**БЕЛАПЕРО́НА** (н.-лац. beloperone) — вечназялёная паўкустовая расліна сям. акантавых з яйцападобным лісцем і сабранымі ў коласападобныя суквецці кветкамі, пашыраная ў Мексіцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**БЕЛАТАМІНА́Л** [ад *бела(донна)* + *(эрга)тамін* + *(фенабарбіт)ал*] — лекавы *прэпарат*, які выкарыстоўваецца пры бяссонніцы, клімактэрычных неўрозах і інш.

**БЕЛЕМНІ́ТЫ** (н.-лац. belemnitidae, ад гр. belemnon = баявая сякера) — атрад вымерлых галаваногіх *малюскаў*, жылі ў *карбоне* — *палеагене*.

**БЕЛЕТРЫ́СТ** (ад фр. belles-lettres = прыгожая славеснасць) — аўтар апавядальных мастацкіх твораў.

**БЕЛЕТРЫ́СТЫКА** (ад фр. belles-lettres = прыгожая славеснасць) — 1) мастацкая проза; 2) апавядальная літаратура займальнага характару.

**БЕЛЬВЕДЭ́Р** (іт. belvedere = *літар.* прыгожы від) — 1) невялікая вежа над будынкам або асобная *альтанка* на ўзвышаным месцы, адкуль адкрываецца від на ваколіцу; 2) назва, якая замацавалася за некаторымі палацамі (напр. у Варшаве, Ватыкане, Празе, Вене).

**БЕЛЬКА́НТА** (іт. bel canto = *літар.* прыгожы спеў) — стыль вакальнага выканання, характэрны для італьянскага опернага мастацтва, які вызначаецца вольным валоданнем усімі рэгістрамі голасу, лёгкасцю і прыгажосцю гучання.

**БЕ́ЛЬТЫНГ** (англ. belting = прывадны пас) — вельмі моцная тэхнічная тканіна палатнянага перапляцення, якая выкарыстоўваецца для вырабу прывадных пасаў, канвеерных стужак і інш.

**БЕЛЬЭТА́Ж** (фр. bel-étage = прыгожы паверх) — 1) першы над *партэрам* ярус у тэатры; 2) другі, парадны паверх палаца, асабняка.

**БЕМО́ЛЬ** (фр. bémol, ад іт. bemolle) — нотны знак, які азначае паніжэнне ноты на паўтона (параўн. *дыез*).

**БЕ́НДЗІ** (англ. bandy) — прынятая ў міжнароднай спартыўнай тэрміналогіі назва *хакея* з мячом на лёдзе.

**БЕНЕДЫКЦІ́Н** (с.-лац. benedictin) — гатунак французскага лікёру.

**БЕНЕДЫКЦІ́НЦЫ** (с.-лац. benedictini) — члены каталіцкага манаскага ордэна, заснаванага каля 530 г. Бенедыктам Нурсійскім у Італіі.

**БЕНЕФІ́С** (фр. bénéfice = прыбытак, карысць; перавага) — 1) *спектакль* у гонар аднаго з яго ўдзельнікаў як выражэнне прызнання заслуг артыста; 2) *уст.* спектакль, збор з якога ішоў на карысць аднаго з удзельнікаў.

**БЕНЕФІ́ЦЫЙ** (лац. beneficium = дабрадзейства) — 1) падатковая або якая-н. іншая ільгота, якая давалася ў Стараж. Рыме; 2) зямельнае ўладанне, якое ў перыяд сярэдневякоўя давалася каралём або буйным феадалам *васалу* за нясенне ваеннай або адміністрацыйнай службы; 3) даходная касцельная пасада.

**БЕНЕФІЦЫЯ́НТ** (ад фр. bénéfice = прыбытак, карысць; перавага) — артыст, у гонар якога даецца *бенефіс*.

**БЕНЕФІ́ЦЫЯР** (англ. beneficiary) — 1) асоба, якая атрымлівае даходы ад сваёй маёмасці пры перадачы яе другой асобе на даверпай падставе (пры здачы ў арэнду, наём); 2) той, хто атрымлівае грошы паводле акрэдытыва або страхавога полісу.

**БЕНЗАІ́Л** (ад с.-лац. benzoe = духмяны сок) — арганічнае злучэнне, бясколерная вадкасць, якая выкарыстоўваецца ў вытворчасці *палімераў*.

**БЕНЗАІЛХЛАРЫ́Д** (ад *бензаіл* + *хларыд*) — хлорысты бензаіл, які выкарыстоўваецца ў вытворчасці перакісу бензаілу і сінтэтычных фарбавальнікаў.

**БЕНЗАІ́Н** (ад с.-лац. benzoe = духмяны сок) — арганічнае злучэнне, бясколерныя крышталі, упершыню знойдзеныя ў *бензоі*.

**БЕНЗАЛО́Н** (ад *бензол*) — валакно, выробленае на аснове полівінілавага спірту-полікрылнітрылу.

**БЕНЗАЛЬДЭГІ́Д** [ад *бенз(ол)* + *альдэгід*] — арганічнае злучэнне, бясколернае масляністае рэчыва з пахам горкага міндалю; выкарыстоўваецца пры вырабе пахучых рэчываў, фарбавальнікаў.

**БЕНЗАНА́Л** (ад *бензол*) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца пры лячэнні розных формаў *эпілепсіі*.

**БЕНЗАНАФТО́Л** (ад *бензол* + *нафтол*) — арганічнае злучэнне, белы крышталічны парашок; выкарыстоўваецца як дэзінфіцырую-

чы прэпарат пры захворванні органаў стрававання.

**БЕНЗАФІ́ЛЬТР** (ад *бензін* + *фільтр*) — прыбор для фільтравання бензіну.

**БЕНЗАЦЫСТЭ́РНА** (ад *бензін* + *цыстэрна*) — цыстэрна для захоўвання і перавозкі бензіну; вагон або аўтамашына з такой цыстэрнай.

**БЕ́НЗЕЛЬ** (гал. bendsel = *літар.* завязка) — *мар.* перавязванне двух тросаў тонкім тросам або *лінем*.

**БЕНЗІДЫ́Н** [ад с.-лац. benzoe = духмяны сок + гр. dyn(amoo) = узмацняю] — арганічнае злучэнне, бясколерныя крышталі, якія цямнеюць на святле і паветры; выкарыстоўваецца для вырабу фарбавальнікаў.

**БЕНЗІ́Л** (ад с.-лац. benzoe = духмяны сок) — прасцейшы спірт araматычнага рада, бясколерная вадкасць з прыемным пахам.

**БЕНЗІЛПЕНІЦЫЛІ́Н** (ад *бензіл* + *пеніцылін*) — *антыбіётык*, які выкарыстоўваецца пры запаленчых працэсах.

**БЕНЗІЛХЛАРЫ́Д** (ад *бензіл* + *хларыд*) — арганічнае злучэнне, бясколерная вадкасць з рэзкім пахам; выкарыстоўваецца для атрымання бензілавага спірту.

**БЕНЗІ́Н** (фр. benzine, ад с.-лац. benzoe = духмяны сок) — бясколерная гаручая вадкасць, якая атрымліваецца пры перагонцы нафты.

**БЕНЗО́Й** (с.-лац. benzoe = духмяны сок) — смала стыраксавага дрэва, якое расце ў Паўд.-Зах. Азіі і на Малайскіх астравах.

**БЕНЗО́ЙНЫ** (ад *бензой*) — які мае адносіны да бензою (напр. б-ая кіслата, б-ая смала).

**БЕНЗО́Л** (фр. benzol, ад с.-лац. benzoe = духмяны сок) — арганічнае злучэнне, бясколерная гаручая вадкасць, якая атрымліваецца пры перагонцы каменнага вугалю і нафты.

**БЕНІТАІ́Т** (ад англ. San-Benita = назва акругі ў штаце Каліфорнія ЗША) — мінерал, тытанасілікат барыю белага, сіняга колеру або бясколерны; выкарыстоўваецца як паўкаштоўны камень.

**БЕНКАІ́Н** [ад *бен(зол)* + *(ка)каін*] — болесуцішальны лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца ў стаматалагічнай практыцы.

**БЕНКА́РТ, БАНКА́РТ** (ст.-польск. bękart, ад с.-в.-ням. benchart) — назва пазашлюбнага дзіцяці на Беларусі ў 16 — першай пал. 19 ст. (параўн. *байструк*).

**БЕНТАЗУ́Х** (ад гр. benthos = глыбіня + suchos = кракадзіл) — вымерлае земнаводнае падкласа *лабірынтадонтаў*, якое вяло прыдонны спосаб жыцця; вядома з адкладаў *трыясу*.

**БЕ́НТАЛЬ** (англ. benthal, ад гр. benthos = глыбіня) — дно вадаёма і прыдонны слой вады, заселеныя арганізмамі.

**БЕНТАНІ́Т** (ад англ. Benton = назва мясцовасці ў ЗША) — разнавіднасць адбельвальных глін, якая складаецца ў асноўным з *монтмарыланіту*.

**БЕ́НТАС** (гр. benthos = глыбіня) — сукупнасць арганізмаў, якія насяляюць дно вадаёмаў.

# Б

**БЕНУА́Р** (фр. baignoire) — тэатральныя ложы на ўзроўні *партэра*.

**БЕНЧ** (англ. bench) — марская або азёрная *тэраса*, створаная *абразіяй* 1 у карэнных пародах ля асновы *кліфа*.

**БЕНЯТЫ́ТЫ** [н.-лац. bennettitopsida, ад I.Bennett = прозвішча англ. батаніка (1801—1876)] — клас вымерлых дрэвападобных раслін аддзела голанасенных, блізкіх да сучасных сагаўнікавых, якія існавалі ў пермі — меле.

**БЕРА́РДЫУС** (н.-лац. berardius) — кіт сям. дзюбарылых цёмнабурай афарбоўкі, пашыраны ў Ціхім акіяне.

**БЕРАЎНІ́Т** (ад чэш. Beraun = назва радовішча ў Чэхіі) — мінерал чырвона-бурага, радзей цёмна-зялёнага колеру са шкляным бляскам.

**БЕРБЕРЫ́Н** (фр. berbérine, ад с.-лац. berberis = барбарыс < ар. barbāris) — *алкалоід*, які змяшчаецца ў лісцях барбарыса і некаторых іншых раслін; выкарыстоўваецца ў медыцыне як жаўцягонны сродак.

**БЕРГАМА́СКА** (іт. bergamasca, ад Bergamo = назва горада ў Італіі) — старадаўні італьянскі танец.

**БЕРГАМО́Т** (іт. bergamotta) — 1) вечназялёнае пладовае дрэва сям. рутавых, пашыранае ў Міжземнамор'і, Грузіі, з пладоў якога здабываюць эфірны алей; 2) сорт груш з яблыкападобнымі сакавітымі пладамі.

**БЕРГ-КАЛЕ́ГІЯ** (ад ням. Berg = гара + *калегія*) — орган кіравання горнай справай у Расіі ў 18 ст.

**БЕРГШЛЯ́Г** (ням. Bergschlag, ад Berg = гара + Schlag = удар) — хуткае, з трэскам, адскокванне кавалкаў горных парод ад сцен глыбокіх вырабатак.

**БЕ́РГШРУНД** (ням. Bergschrund, ад Berg = гара + Schrund = трэшчына) — падгорная трэшчына ў вобласці жыўлення горнага ледніка.

**БЕРГШТРЫХІ́** (ням. Bergstriche, ад Berg = гара + Strich = рыса) — кароткія рыскі на тапаграфічнай карце, якія праводзяцца перпендыкулярна да гарызанталяў і паказваюць напрамак уніз на схіле.

**БЕРЖАРЭ́ТА** (фр. bergerette = *літар.* маленькая пастушка) — старадаўняя французская танцавальная песенька пастаральнага характару.

**Б'ЕРКАНДЭ́РА** (н.-лац. bjerkandera) — губавы *базідыяльны* грыб сям. паліпоравых, які расце ў лясах на адмерлай драўніне, ствалах жывых дрэў, выклікае белую гніль.

**БЕ́РКЛІЙ** (англ. Berkeley = назва горада ў Каліфорніі) — штучна атрыманы радыеактыўны хімічны элемент сям. *актыноідаў*.

**БЕРКЛІЯ́НСТВА** [ад англ. G.Berkeley = прозвішча англ. філосафа (1685—1753)] — разнавіднасць суб'ектыўнага ідэалізму, прадстаўнікі якога адмаўлялі існаванне матэрыяльнага свету і сцвярджалі, што рэчы ўяўляюць сабой толькі сукупнасць адчуванняў.

**БЕ́РКУТ** (цюрк. bürküt) — драпежная птушка сям. ястрабіных;

выкарыстоўваецца для палявання на лісоў і зайцоў.

**БЕ́РКШЫРЫ** (англ. Berkshire = назва графства ў Англіі) — парода скараспелых свіней, выведзеная ў Англіі ў 18 ст.

**БЕРЛІ́НА** (ад Berlin = назва горада ў Германіі) — крытае рачное судна для перавозкі тавараў.

**БЕ́РМА** (ням. Berme) — уступ на адхоне плаціны, чыгуначнага насыпу, які робіцца для таго, каб надаць адхону большую ўстойлівасць.

**БЕРМУ́ДЫ** (англ. Bermuda = Бермудскія астравы) — штаны да калена, свабодныя, з загладжанай складкай, звычайна з адваротамі.

**БЕРНАРДЗІ́НЦЫ** (с.-лац. bernardini) — манахі каталіцкага ордэна, заснаванага ў 15 ст. пры касцёле святога Бернардзіна ў Кракаве; мелі больш строгі статут, чым *францысканцы*.

**БЕРСАЛЬЕ́РЫ** (іт. bersaglière, ад bersaglio = мішэнь, цэль) — стралковыя часці італьянскай арміі, раней — пяхотныя, зараз — самакатныя і матацыклетныя.

**БЕРСЕ́З** (фр. berçeuse, ад bercer = гойдаць, калыхаць) — *муз.* калыханка, вакальны або інструментальны твор у рытме калыханкі.

**БЕРТАЛЕ́ТАЎ** [ад фр. C.Berthollet = прозвішча фр. хіміка (1748—1822)]; б - а  с о л ь — хларат калію; выкарыстоўваецца пры вырабе запалак, выбуховых рэчываў, у медыцыне.

**БЕРТАЛІ́ДЫ** [ад фр. C.Berthollet = прозвішча фр. хіміка (1748—1822)] — хімічныя злучэнні пераменнага складу (параўн. *дальтаніды*).

**БЕРТРАНДЫ́Т** (ад фр. E.Bertrand = прозвішча фр. мінералога) — мінерал класа *сілікатаў*, бясколерны, белы, радзей светла-ружовы і светла-жоўты са шкляным бляскам; руда *берылію*.

**БЕ́РЫ-БЕ́РЫ** (ад інд. beri = слабасць) — захворванне, выклікане адсутнасцю ў ежы вітаміна B.

**БЕРЫКАО́БА** (груз. berikaoba) — грузінскі імправізаваны народны тэатр масак.

**БЕРЫ́Л** (гр. beryllos) — мінерал класа *сілікатаў* жоўта-зялёнага, зеленавата-блакітнага або ружовага колеру; празрысты б. — каштоўны камень (гл. *аквамарын, ізумруд*).

**БЕРЫЛІ́ДЫ** (ад *берылій*) — злучэнні берылію з іншымі металамі; выкарыстоўваюцца ў авія- і ракетабудаванні, у электратэхніцы і інш.

**БЕРЫЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *берылій*) — насычэнне берыліем паверхневага слою вырабаў са сталі і іншых сплаваў для надання ім большай цвёрдасці і вогнетрываласці.

**БЕРЫ́ЛІЙ** (н.-лац. beryllium, ад гр. beryllos = берыл) — хімічны *элемент*, лёгкі светла-шэры метал.

**БЕРЭ́ЙТАР** (ням. Bereiter) — 1) спецыяліст, які аб'язджае коней, вучыць верхавой яздзе; 2) памочнік дрэсіроўшчыка коней у цырку.

**БЕРЭ́Т** (фр. béret) — круглы мужчынскі і жаночы галаўны ўбор без казырка.

**БЕ́СА** (фр. baisse) — *экан.* паніжэнне курсу біржавых папер.

# Б

**БЕСАЛО́Л** [ад *бе(ладонна) + салол*] — лекавы прэпарат, які прымяняюць пры захворваннях страўнікава-кішачнага тракту, цыстытах і інш.

**БЕСЕМЕ́Р** [англ. H.Bessemer = прозвішча англ. інжынера (1813—1898)] — сталь, атрыманая з вадкага чыгуну шляхам прадзімання яго паветрам у *канвертары*.

**БЕСЕМЕРАВА́ЦЬ** (ад *бесемер*) — атрымліваць сталь з вадкага чыгуну шляхам прадзімання яго паветрам у *канвертары*.

**БЕСТ** (перс. best) — заснаванае на даўнім звычаі права недатыкальнасці некаторых месцаў у Іране (мячэцей, дамоў вышэйшага духавенства, іншаземных пасольстваў), адкуль чалавек, якога праследуе ўлада, не можа быць узяты сілай.

**БЕСТСЕ́ЛЕР** (англ. bestseller, ад best = лепшы + sell = прадавацца) — ходкая, выдадзеная вялікім тыражом кніга на сенсацыйную тэму або ходкі тавар у шэрагу замежных краін, асабліва ў ЗША і Англіі.

**БЕСТЫЯ́РЫЙ** (с.-лац. bestiarium, ад лац. bestiarius = звярыны) — сярэдневяковыя творы, у якіх апісвалі звяроў, даючы ім алегарычнае тлумачэнне.

**БЕТАІ́Н** (ад лац. beta = бурак) — арганічнае азоцістае злучэнне, бясколернае крышталічнае рэчыва, якое змяшчаецца ў цукровых бураках і многіх іншых раслінах.

**БЕТАНІ́Т** (ад *бетон*) — штучны камень, зроблены з бетону.

**БЕТО́Н** (фр. béton) — будаўнічы матэрыял, атрыманы з сумесі раўнамерна размеркаванага ўшчыльненай цэментнай масы з пяском і шчэбенем.

**БЕТУЛІ́Н** (н.-лац. betulina, ад лац. betula = бяроза) — 1) бярозавая жывіца; 2) белы фарбавальнік, які змяшчаецца ў клетках бярозавай кары.

**БЕТЭ́ЛЬ** (парт. betel, ад тамільск. vettila) — 1) трапічная кустовая расліна сям. перцавых з пякучым на смак лісцем; 2) сумесь для жавання з лістоў гэтай расліны, насення пальмы арэкі, тытуню і вапны.

**Б'ЕФ** (фр. bief) — участак ракі або канала паміж дзвюма плацінамі, двума шлюзамі.

**БЕФСТРО́ГАНАЎ** (рус. бефстроганов, ад фр. boeuf = ялавічына + рус. Строганов = прозвішча) — мясная страва з невялікіх кавалачкаў струганага мяса ў падліве.

**БЕФУНГІ́Н** (ад лац. fungus = грыб) — лекавы прэпарат, які прымяняюць як сімптаматычны сродак пры лячэнні злаякасных пухлін.

**БЕШАМЕ́ЛЬ** (фр. béchamelle, ад L.Béchamel = прозвішча кухара пры двары Людовіка XIV) — густая падліва з яец, малака, мукі для мясных і рыбных страў.

**БЕШБАРМА́К** (цюрк. bešbarmak) — страва з крышанага мяса, звычайна бараніны, з наварам мукі, круп у народаў Сярэд. Азіі.

**БЕШМЕ́Т** (тат. bišmet) — верхняя мужчынская вопратка ў татараў і каўказскіх народаў.

**БЁМІТ** (ад ням. I.Böhm = прозвішча ням. мінералога) — мінерал класа вокіслаў і гідравокіслаў, мо-

нагідрат алюмінію, бясколерны або белы са шкляным бляскам; уваходзіць у склад баксітаў.

**БІ-** (лац. bis = двойчы) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на падваенне таго, што выражана другой часткай.

**БІБЕЛЬДРУ́К** [ням. Bibeldruck (papier)] — высокаякасная непразрыстая друкарская папера, якая па тонкасці набліжаецца да папяроснай.

**БІБЛІЁГРАФ** (ад *бібліяграфія*) — спецыяліст у галіне бібліяграфіі.

**БІ́БЛІЯ** (лац. biblia, ад гр. biblia = кнігі) — старажытны помнік пісьменнасці, зборнік твораў іудзейскай (Стары запавет) і хрысціянскай (Стары і Новы запаветы) рэлігій, дзе выкладзены асновы веравучэння.

**БІБЛІЯГРА́ФІЯ** (ад гр. biblion = кніга + *-графія*) — 1) навука аб складанні даведнікаў па літаратуры і апісанні кніг; 2) спіс літаратуры па якім-н. прадмеце, пытанні; 3) аддзел у перыядычных выданнях, прысвечаны кароткаму агляду кніг, што выйшлі з друку.

**БІБЛІЯЛО́ГІЯ** (ад гр. biblion = кніга + *-логія*) — навука пра кнігу як з'яву культуры і прадмет вытворчасці; кнігазнаўства.

**БІБЛІЯМА́Н** (ад *бібліяманія*) — чалавек, які захапляецца збіраннем кніг.

**БІБЛІЯМА́НІЯ** (ад гр. biblion = кніга + *манія*) — захапленне збіраннем кніг, галоўным чынам старадрукаў і рэдкіх выданняў.

**БІБЛІЯТА́Ф** (ад гр. biblion = кніга + taphos = магіла) — «магільшчык кніг» — жартаўлівая назва ўласніка бібліятэкі, які не дазваляе іншым карыстацца ёю.

**БІБЛІЯТЭ́КА** (лац. bibliotheca, ад гр. bibliotheke) — 1) установа, якая збірае, захоўвае і выдае кнігі чытачам; 2) набор кніг, прызначаных для пэўнай групы чытачоў (напр. б. агранома, б. настаўніка); 3) набор кніг, якія знаходзяцца ў чыім-н. прыватным карыстанні.

**БІБЛІЯФІ́Л** (ад гр. biblion = кніга + *-філ*) — аматар, знаўца, збіральнік рэдкіх выданняў кніг.

**БІБЛІЯФІ́ЛЬСТВА** (ад *бібліяфіл*) — збіранне і вывучэнне рэдкіх і каштоўных выданняў.

**БІБО́П** (англ. bebop) — стыль т.зв. сучаснага *джаза*, які склаўся на пач. 1940-х гадоў у ЗША.

**БІБУ́ЛА** (польск. bibuła, ад лац. bibulus = які прагна п'е) — 1) порыстая папера, здольная ўбіраць і прапускаць вадкасць; прамакатка; 2) тонкая белая або каляровая папера, прызначаная для ўпрыгожвання або ўпакоўкі.

**БІВА́К** (ням. Biwack) — стаянка войска па-за населеным пунктам; войска на прывале; 2) стаянка альпіністаў, турыстаў.

**БІВАЛЕ́НТЫ** (ад *бі-* + лац. valens, -ntis = моцны) — пары з'яднаных паміж сабой гамалагічных *храмасом*, якія ўтвараюцца пры дзяленні клетачнага ядра.

**БІГ** (ням. Biege = выгін) — рубчык на кардоне або абгортачнай паперы, дзякуючы якому вокладка лягчэй раскрываецца, а папера згінаецца.

**БІГА́МІЯ** (ад *бі-* + *-гамія*) — двайшлюбнасць, дваяжэнства.

# Б

**БІГАРА́ДЫЯ** (фр. bigarade = горкі апельсін) — тое, што і *памяранец*.

**БІ́ГАС** (польск. bigos, ад ням. Beiguss) — страва з кіслай і свежай капусты, тушанай з рознымі гатункамі мяса і прыправамі.

**БІГЕМІНІ́Я** (ад *бі-* + лац. geminus = падвойны, парны) — від *арытміі* сэрца, пры якім *экстрасісталія* наступае праз кожную нармальную *сісталу*.

**БІГ-БІ́ЗНЕС** (англ. big business) — вялікая камерцыйная справа, маштабная гандлёвая здзелка, буйное прадпрымальніцтва.

**БІГУДЗІ́** (фр. bigoudi) — металічныя, пластмасавыя або гумавыя трубачкі, на якія накручваюць валасы, каб надаць ім хвалістасць.

**БІДЭ́** (фр. bidet) — пасудзіна, ракавіна для падмывання.

**БІДЭРМЕ́ЕР** [ням. Biedermeier, ад Biedermaier = сатырычны персанаж, сімвал нямецкага мешчаніна, выведзены ў паэтычных творах Л.Эйхродта (1827—1892)] — стылявы кірунак у нямецкім і аўстрыйскім мастацтве першай пал. 19 ст., які адлюстроўваў побыт мяшчанства.

**БІЕНА́ЛЕ** (іт. biennale) — назва мастацкіх выставак, якія адбываюцца рэгулярна раз у два гады.

**БІЁГРАФ** (ад *бія-* + *-граф*) — складальнік чыёй-н. *біяграфіі*.

**-БІЁЗ** (гр. biosis = жыццё) — другая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «жыццё», «жыццёвы працэс».

**БІЁЛАГ** (ад *бія-* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *біялогіі*.

**БІЁМ** (англ. biome, ад гр. bios = жыццё) — сукупнасць раслінных і жывёльных арганізмаў, якія насяляюць пэўны экалагічны аднародны абшар, напр. еўразійскую тундру або канадскія лясы.

**БІЁНІКА** [ад *бія(логія)* + *(электро)ніка*] — навука, якая вывучае будову жывых арганізмаў, каб ствараць машыны, якія па сваіх дадзеных набліжаюцца да характарыстык гэтых арганізмаў.

**БІЁНТЫ** (гр. bion, -ntos = які жыве) — арганізмы, якія ў ходзе эвалюцыі прыстасаваліся да пражывання ў пэўным асяроддзі (*біятопе*).

**БІЁТА** (гр. biote = жыццё) — 1) сукупнасць раслін і жывёл, аб'яднаных агульнай вобласцю распаўсюджання; 2) тое, што і *платыкладус*.

**БІЖУТЭ́РЫЯ** (фр. bijouterie = гандаль ювелірнымі вырабамі) — жаночыя ўпрыгожанні (брошкі, пацеркі, пярсцёнкі і інш.) з некаштоўных камянёў і металаў.

**БІЗА́НЬ** (гал. bezaan) — ніжні косы парус на *бізань-мачце*.

**БІЗА́НЬ-ВА́НТЫ** (ад *бізань* + *ванты*) — *мар.* снасці на парусным судне, пры дапамозе якіх мацуецца *бізань-мачта*.

**БІЗА́НЬ-МА́ЧТА** (ад *бізань* + *мачта*) — *мар.* задняя мачта на парусным судне.

**БІ́ЗНЕС** (англ. business) — 1) камерцыйная, біржавая або прадпрымальніцкая дзейнасць, накіраваная на атрыманне прыбытку; 2) дзелавое жыццё, эканамічная дзейнасць наогул у адрозненне ад іншых сфер жыццядзейнасці (куль-

туры, палітыкі, адукацыі і інш.); 3) *перан.* спрытная афера як крыніца ўзбагачэння, нажывы.

**БІЗНЕСМЕ́Н** (англ. businessman) — дзялок, прадпрымальнік, камерсант.

**БІ́ЗНЕС-ПЛАН** (ад *бізнес* + *план*) — дакумент з абгрунтаваннем запланаванай камерцыйнай дзейнасці фірмы на пэўны перыяд.

**БІЗО́Н** (фр. bison, ад лац. bison) — паўночнаамерыканскі дзікі бык атрада парнакапытных.

**БІЗО́НІЯ** (ад *бі-* + *зона*) — назва амерыканскай і англійскай акупацыйных зон у Германіі 1946—1949 гг. пасля іх сепаратнага аб'яднання.

**БІЗУ́Н** [польск. bizun, ад венг. bizony = так, сапраўды (словы, якія паўтараў той, каго лупцавалі)] — 1) плецены з раменных палосак арапнік або вітая з ільну, канапель тоўстая пуга; 2) *перан.* сімвал грубай сілы, прымусу.

**БІКАМЕРАЛІ́ЗМ** (фр. bicamérisme) — двухпалатная структура *парламента* ў некаторых краінах.

**БІКАРБАНА́ТЫ** (ад *бі-* + *карбанаты*) — тое, што і *гідракарбанаты*.

**БІКАЭ́КА** (н.-лац. bicoeca) — аднаклетачная водарасць сям. бікаэкавых, якая пашырана ў морах і прэсных вадаёмах.

**БІКВАДРА́Т** (ад *бі-* + *квадрат*) — *мат.* чацвёртая ступень.

**БІКВАДРА́ТНЫ** (ад *бі-* + *квадратны*) — чацвёртай ступені; б - а е ў р а ў н е н н е — прыватны выпадак ураўнення чацвёртай ступені, рашэнне якога зводзіцца да рашэння квадратнага ўраўнення падстаноўкай $y = x^2$.

**БІКІ́НІ** (англ. Bikini = назва вострава ў Ціхім акіяне) — вельмі адкрыты купальны жаночы касцюм.

**БІКЛА́ГА, БАКЛА́ГА** (тат. baklak) — невялікая драўляная ці металічная дарожная пасудзіна для вады, якую носяць на рэмені.

**БІКС** (ням. bixen = браць з сабой) — металічная скрынка, у якой стэрылізуюць (змясціўшы ў *аўтаклаў*) і захоўваюць стэрыльны перавязачны матэрыял, аперацыйную бялізну.

**БІЛАБІЯ́ЛЬНЫ** (ад *бі-* + *лабіяльны*) — *лінгв.* губна-губны зычны гук (напр. б, п, м).

**БІЛАТЭРА́ЛЬНАСЦЬ** (ад *білатэральны*) — *сіметрыя* ў арганізмаў, цела якіх можна ўяўна падзяліць на аднолькавыя правую і левую палавіны.

**БІЛАТЭРА́ЛЬНЫ** (ад *бі-* + лац. lateralis = бакавы) — двухбаковы.

**БІЛЕ́Т** (фр. billet) — 1) дакумент на права праезду, уваходу, карыстання чым-н.; 2) дакумент, які сведчыць аб прыналежнасці да якой-н. арганізацыі або пра адносіны да якіх-н. абавязкаў (напр. прафсаюзны б., ваенны б.); 3) картка з пытаннямі на экзаменах.

**БІЛЕЦЁР** (фр. billeteur) — службовая асоба, якая кантралюе наяўнасць білетаў у кіно, тэатрах, на транспарце і г.д.

**БІЛІВЕРДЗІ́Н** (ад лац. bilis = жоўць + фр. vert, verd = зялёны) — адзін з асноўных *пігментаў* жоўці чалавека і драпежных жывёл, які мае зялёны колер.

# Б

**БІЛІГНО́СТ** (ад лац. bilis = жоўць + гр. gnostes = знаўца) — кантраснае рэчыва, якое выкарыстоўваюць пры рэнтгеналагічных даследаваннях жоўцевых шляхоў і жоўцевага пузыра.

**БІЛІНГВІ́ЗМ** (ад лац. bilinguis = двухмоўны) — валоданне і папераменнае карыстанне асобай або калектывам дзвюма мовамі; двухмоўе (напр. беларуска-рускі б. на Беларусі, французска-англійскі б. у Канадзе).

**БІЛІНГВІСТЫ́ЧНЫ** (лац. bilinguis) — двухмоўны.

**БІЛІНЕ́ЙНЫ** (ад *бі-* + *лінія*) — двухлінейны.

**БІЛІРУБІ́Н** (н.-лац. bilirubinum, ад лац. bilis = жоўць + ruber = чырвоны) — адзін з жоўцевых *пігментаў* чалавека і драпежных жывёл, які надае жоўці залацістую афарбоўку.

**БІЛІРУБІНЕМІ́Я** (ад *білірубін* + *-емія*) — наяўнасць павышанай колькасці білірубіну ў крыві, што заўважаецца пры захворваннях печані.

**БІЛІРУБІНУРЫ́Я** (ад *білірубін* + *-урыя*) — наяўнасць павышанай колькасці білірубіну ў мачы, што заўважаецца пры механічнай жаўтусе.

**БІЛІТРА́СТ** [ад лац. bilis = жоўць + *(кан)траст*] — кантраснае рэчыва, якое змяшчае ёд; выкарыстоўваецца пры рэнтгеналагічных даследаваннях жоўцевага пузыра і жоўцевых шляхоў.

**БІЛО́Н** (фр. billon) — 1) нізкапробнае серабро, якое ідзе на чаканку разменнай манеты; 2) непаўнацэнная разменная манета.

**БІЛЬ** (англ. bill) — праект закона, унесенага ўрадам або членам парламента ў ЗША, Англіі і некаторых іншых краінах.

**БІЛЬБАКЕ́** (фр. bilboquet) — гульня прывязаным да палачкі шарыкам, які падкідаецца і ловіцца на канец палачкі або ў сподачак.

**БІЛЬГАРЦЫЁЗ** (ад ням. T.Bilharz = прозвішча ням. урача 19 ст.) — захворванне мачавых шляхоў і кішэчніка, выкліканае глістамі *трэматодамі*.

**БІЛЬДАПАРА́Т** (ням. Bildapparat) — устарэлая назва *фотатэлеграфа*.

**БІЛЬЁН** (фр. billion) — лік, роўны *мільярду* (у нямецкай сістэме падліку — тысячы мільярдаў).

**БІЛЬЯ́РД** (фр. billard) — гульня шарамі і спецыяльным кіем на стале з бартамі і некалькімі адтулінамі (лузамі), а таксама стол для гэтай гульні.

**БІМАЛЕКУЛЯ́РНЫ** (ад *бі-* + *малекула*) — звязаны з аднастадыйнай хімічнай рэакцыяй, у элементарным акце якой удзельнічаюць дзве часціцы.

**БІМЕТА́Л** (ад *бі-* + *метал*) — металічны матэрыял з двух слаёў розных металаў або сплаваў (напр. сталі і алюмінію, алюмінію і тытану); выкарыстоўваецца ў электра- і радыётэхніцы, прыборабудаванні і інш.

**БІМЕТАЛІ́ЗМ** (ад *бі-* + *металы*) — грашовая сістэма, пры якой у якасці плацежнага сродку выкарыстоўваюцца адначасова два металы — золата і серабро.

**БІМЕТАСАМАТО́З** (ад *бі-* + *метасаматоз*) — працэс замяшчэн-

ня адных горных парод другімі са зменай хімічнага складу, што адбываецца пры ўзаемадзеянні дзвюх парод пры ўдзеле постмагматычных раствораў.

**БІ́МСЫ** (англ. beams) — папярочныя бэлькі ў корпусе судна, якія падтрымліваюць палубу.

**БІНАКУЛЯ́РНЫ** (фр. binoculaire) — 1) які ажыццяўляецца двума вокамі; б. з р о к — звычайнае бачанне абодвума вокамі; 2) прызначаны для двух вачэй; б. м і к р а с к о п — мікраскоп з двума *акулярамі*.

**БІНАМІНА́ЛЬНЫ** (ад *бі-* + *намінальны*) — які мае два імені, дзве назвы, як напр. у батанічнай і заалагічнай тэрміналогіі.

**БІНАМІЯ́ЛЬНЫ** (ад *біном*) — які належыць да бінома; б - ы я к а а ф і ц ы е н т ы — каафіцыенты ў раскладанні бінома Ньютана.

**БІНАРМА́ЛЬ** (ад *бі-* + *нармаль*) — *мат.* нармаль крывой, перпендыкулярная да яе галоўнай нармалі.

**БІНА́РНЫ** (лац. binarius = двайны) — 1) які складаецца з дзвюх частак, двух кампанентаў, напр. сплаў з двух металаў або металу і неметалу; 2) двайчны (у сістэме злічэння, калі ўсе лікі запісваюцца пры дапамозе дзвюх лічбаў).

**БІНАЎРА́ЛЬНЫ** (ад лац. bini = два + auris = вуха); б. э ф е к т — здольнасць чалавека і вышэйшых жывёл вызначаць напрамак, адкуль прыходзіць гук, абумоўленая тым, што да абодвух вушэй гукі прыходзяць неадначасова і неаднолькавымі па сіле.

**БІНО́КЛЬ** (фр. binocle, ад лац. bini = два + oculum = вока) — аптычная прылада з дзвюх паралельна злучаных трубак для разглядвання аддаленых прадметаў.

**БІНО́М** (ад *бі-* + гр. nome = частка) — сума або рознасць двух алгебраічных выразаў, двухчлен; б. Н ь ю т а н а — формула, якая ўяўляе сабой ступень некаторага двухчлена ў выглядзе сумы (параўн. *маном, паліном*).

**БІНО́МЕН** (ад *бі-* + лац. nomen = імя) — прынятая ў біялагічнай наменклатуры двайная назва асноўнай таксанамічнай (гл. *таксаномія*) катэгорыі — віду.

**БІНТ** (ням. Binde) — марлевая стужка, якая ўжываецца для перавязкі ран, пераломаў і інш.

**БІНУКЛЕА́РЫЯ** (н.-лац. binuclearia) — ніткаватая зялёная водарасць сям. улотрыксавых, якая трапляецца ў саланавата-прэсных водах.

**БІПАЛІ́ДЫ** (ад *бі-* + гр. polis, -idos = горад-дзяржава) — тое, што і *біпатрыды*.

**БІПАЛЯ́РНАСЦЬ** (ад *біпалярны*) — геаграфічнае пашырэнне жывых арганізмаў адзінага віду ў халодных і ўмераных шыротах абодвух паўшар'яў (напр. акулы, кіты, коцікі, сардзіны і інш.) і іх адсутнасць у трапічным поясе.

**БІПАЛЯ́РНЫ** (ад *бі-* + *палярны*) — двухполюсны; б - ы я к а а р д ы н а т ы — лікі, якія вызначаюць становішча пункта адносна двух выбраных пунктаў, што называюцца *полюсамі*.

**БІПАТРЫ́ДЫ** (ад *бі-* + гр. patris, -idos = бацькаўшчына) — асобы,

якія адначасова маюць грамадзянства дзвюх або больш дзяржаў.

**БІПЕДАЛІ́ЗМ** (ад *бі-* + лац. pes, pedis = нага) — двухногі спосаб перамяшчэння, характэрны для чалавека, птушак і некаторых жывёл.

**БІПІНА́РЫЯ** (ад *бі-* + лац. pinna = пяро, плаўнік) — двухбакова-сіметрычная лічынка марскіх зорак.

**БІПЛА́Н** (фр. biplan, ад лац. bis = двойчы + planum = плоскасць) — самалёт з дзвюма плоскасцямі крылаў, размешчанымі паралельна адна над другой па абодва бакі *фюзеляжа* (параўн. *манаплан, трыплан*).

**БІПРЫ́ЗМА** (ад *бі-* + *прызма*) — прызма, склееная з дзвюх прызмаў іх асновамі.

**БІ́РЖА** (рус. биржа, ад ням. Börse) — установа, дзе заключаюцца фінансавыя і гандлёвыя здзелкі; ф о н д а в а я б. — рынак каштоўных папер; в а л ю т н а я б. — установа, дзе ажыццяўляецца купля-продаж *валюты*; б. п р а ц ы — пасрэдніцкая ўстанова па найму рабочых.

**БІРУЗА́** (рус. бирюза, ад цюрк. piruzä < перс. pīrōzä) — каштоўны камень блакітнага або зеленаватага колеру.

**БІС** (фр. bis, ад лац. bis = двойчы) — выгук, якім просяць артыста паўтарыць толькі што выкананы ім нумар праграмы.

**БІСЕГМЕНТА́ЦЫЯ** (ад *бі-* + *сегментацыя*) — двухбаковая сегментацыя цела арганізма.

**БІСЕКСУАЛІ́ЗМ** (ад *бі-* + *сексуалізм*) — 1) тое, што і *гермафрадытызм*; 2) палавая цяга як да асоб процілеглага полу, так і ўласнага.

**БІСЕКСУА́ЛЬНЫ** (ад *бі-* + *сексуальны*) — 1) двухполы; 2) які мае палавую цягу да прадстаўнікоў абодвух полаў.

**БІСЕ́КТАР** (лац. bisector = які раздзяляе надвае) — 1) плоскасць, у якой ляжыць рабро двухграннага вугла і якая дзеліць гэты вугал на дзве аднолькавыя часткі; 2) інструмент, які дзеліць вугал папалам.

**БІСЕКТРЫ́СА** (фр. bissectrice, ад лац. bissectrix, -icis = якая рассякае папалам) — прамая лінія, якая праходзіць праз вяршыню вугла і дзеліць яго папалам.

**БІ́СЕР** (ар. busr = пацеркі) — дробныя рознакаляровыя шкляныя або металічныя пацеркі для вышывання, упрыгожвання.

**БІСІНО́З** (ад гр. byssos = бавоўна + *-ноз*) — прафесійнае захворванне лёгкіх (гл. *пнеўмаканіёзы*), якое развіваецца ў сувязі з удыханнем бавоўнянага пылу.

**БІСКВІ́Т** (фр. biscuit) — 1) высокакаларыйнае пульхнае печыва з цеста, у якое пакладзена многа жаўткоў і бялковай пены; 2) не пакрыты палівай *фарфор*.

**БІ́СКУП** (польск. biskup < ст.-в.-ням. biscof, ад гр. episkopos) — вышэйшае духоўнае званне ў каталікоў (параўн. *епіскап*).

**БІСМАЛІ́Т** (ад гр. bysma = корак + *-літ*) — *інтрузія* 2 канічнай або цыліндрычнай формы, што дасягае паверхні Зямлі ці заканчваецца ў тоўшчы асадачных парод, паднімаючы іх у выглядзе купала.

**БІСТР** (фр. bistre) — цёмна-карычневая акварэльная *фарба*.

**БІСТРО́** (фр. bistro, ад рус. быстро = хутка) — невялікі *рэстаран, бар* з піўвом і закускамі.

**БІСУЛЬФА́ТЫ** (ад *бі-* + *сульфаты*) — тое, што і *гідрасульфаты*.

**БІСУЛЬФІ́ТЫ** (ад *бі-* + *сульфіты*) — тое, што і *гідрасульфіты*.

**БІ́СУС** (гр. byssos = тонкая пража) — прадукт выдзялення бісусавай залозы многіх пласцініставжабравых *малюскаў*.

**БІТ** [англ. bit, ад bi(nary) = дваісты + (digi)t = знак, лічба] — адзінка вымярэння колькасці інфармацыі ў двайчнай сістэме злічэння; адпавядае інфармацыі, якую атрымліваюць пры ажыццяўленні адной з дзвюх роўнаверагодных падзей.

**БІТАНА́ЛЬНАСЦЬ** (ад *бі-* + *танальнасць*) — адначасовае выкарыстанне дзвюх танальнасцей у розных галасах таго самага музычнага твора.

**БІТАНА́ЛЬНЫ** (ад *бі-* + *танальны*) — скампанаваны ў дзвюх *танальнасцях*.

**БІТЛ** (англ. beatl, ад beat = біць) — удзельнік *бітлза*.

**БІТЛЗ** (англ. beatles, ад beat = біць) — англійскі маладзёжны вакальна-інструментальны квартэт 60-х гадоў 20 ст., а таксама ўтвораны на яго ўзор ансамбль у Зах. Еўропе і Амерыцы.

**БІ́ТНІК** (англ. beat = біць, разбіваць) — удзельнік стыхійнага анархічна-бунтарскага руху моладзі ў ЗША, Англіі і іншых краінах у 50—60-х гг. 20 ст., якая выражала пратэст супраць рэчаіснасці парушэннем нормаў супольнага жыцця людзей.

**БІТО́Н** (фр. bidon) — высокая цыліндрычная пасудзіна з накрыўкай для вадкасцей.

**БІТУМІНІЗА́ЦЫЯ** (ад *бітумы*) — 1) запаўненне трэшчын у грунтах і горных пародах расплаўленымі прыроднымі бітумамі; 2) разбурэнне арганічных рэчываў, у выніку якога ў іх павялічваецца колькасць вугляроду і ўтвараюцца *парафіны* і *нафтэны*.

**БІТУМІНО́ЗНЫ** (лац. bituminosus = смаляны) — які ўтрымлівае ў сабе *бітумы* (напр. б. торф).

**БІТУ́МЫ** (лац. bitumen = горная смала) — прыродныя або штучныя цвёрдыя, вадкія і газападобныя смалістыя рэчывы ці прадукты іх перапрацоўкі.

**БІТЫ́НІЯ** (н.-лац. bithynia) — прэснаводны *малюск* сям. гідробій, які ўдзельнічае ў біялагічным ачышчэнні вадаёмаў.

**БІ́ТЭНГ** (гал. beting) — вертыкальная тумба на палубе судна, вакол якой наматаны якарны ланцуг, каб паменшыць хуткасць яго руху пры апусканні якара.

**БІФАКА́ЛЬНЫ** (ад *бі-* + *фокус*) — які мае два фокусы; б - ы я а к у л я р ы — акуляры, у якіх верхняя частка шкельцаў дазваляе бачыць далёкія прадметы, а ніжняя служыць для чытання.

**БІФІДАБАКТЭ́РЫІ** (ад лац. bifidus = падзелены на дзве часткі + *бактэрыі*) — група *актынаміцэтаў*, складаюць да 80—90% кішачнай флоры дзяцей і маладняку сельскагаспадарчых жывёл у перыяд малочнага выкормлівання.

# Б

**БІФІЛЯ́Р** (ад *бі-* + лац. filum = нітка) — электрычны праваднік, складзены ў дзве столкі.

**БІФІЛЯ́РНЫ** (ад *біфіляр*) — які складаецца з дзвюх нітак або дратоў; б-ая абмотка — абмотка электраапаратаў або прыбораў складзеным у дзве столкі правадніком.

**БІФО́РЫУМ** (н.-лац. biforium, ад лац. biforis = двухдзверны) — двухчасткавае аркаднае акно або арачны праём, характэрныя для архітэктуры раманскага і гатычнага стыляў.

**БІФУРКА́ЦЫЯ** (лац. bifurcatio = раздваенне) — 1) раздзяленне ракі на дзве пратокі, якія ўпадаюць у розныя басейны; 2) падзел трубчастага органа на дзве галіны, напр. трахеі на дзве бронхі; 3) падзел старшых класаў сярэдняй школы на два патокі, напрамкі ў навучанні, напр. на гуманітарны і матэматычны (параўн. *поліфуркацыя*).

**БІФШТЭ́КС** (англ. beef-steaks = кавалачкі ялавічыны) — кавалак абсмажанай ялавічыны з сярэдняй часткі хрыбта тушы.

**БІХЕВІЯРЫ́ЗМ** (англ. behaviourism, ад behaviour = паводзіны) — кірунак у амерыканскай псіхалогіі, які лічыць прадметам псіхалогіі паводзіны.

**БІХРАМАТАМЕ́ТРЫЯ** (ад *біхраматы* + *-метрыя*) — метад колькаснага аналізу, пры якім асноўным *рэагентам* з'яўляецца цітраваны раствор біхрамату калію.

**БІХРАМА́ТЫ** (ад *бі-* + *храматы*) — тое, што і *дыхраматы*.

**БІЦЫЛІ́Н** [ад *бі-* + *(пені)цылін)*] — антыбіётык, які ўжываецца для лячэння рэўматызму і некаторых іншых хвароб.

**БІ́ЦЭПС** (лац. biceps = двухгаловы) — мышца паміж плячом і локцем, якая згінае руку.

**БІЯ-** (гр. bios = жыццё) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «жыццё», «жыццёвыя працэсы», «біялагічны».

**БІЯАКУ́СТЫКА** (ад *бія-* + *акустыка*) — раздзел *біялогіі*, які вывучае гукі, што выдаюць жывёлы, і гукавыя зносіны жывёл.

**БІЯАРГАНІ́ЧНЫ** (ад *бія-* + *арганічны*) — звязаны з арганічнымі злучэннямі, якія ўдзельнічаюць у біялагічных працэсах.

**БІЯАРЫЕНТА́ЦЫЯ** (ад *бія-* + *арыентацыя*) — здольнасць арганізмаў вызначаць сваё становішча ў прасторы.

**БІЯАСТРАНА́ЎТЫКА** (ад *бія-* + *астранаўтыка*) — тое, што і *біякасманаўтыка*.

**БІЯБІБЛІЯГРА́ФІЯ** (ад *бія-* + *бібліяграфія*) — бібліяграфія, у якой інфармацыя пра друкаваныя творы падаецца разам з біяграфічнымі звесткамі пра аўтараў.

**БІЯГАРЫЗО́НТ** (ад *бія-* + *гарызонт*) — функцыянальнае падраздзяленне ярусаў у *біяцэнозах*.

**БІЯГЕАГРА́ФІЯ** (ад *бія-* + *геаграфія*) — навука, якая вывучае заканамернасці пашырэння і размеркавання жывых арганізмаў на зямным шары.

**БІЯГЕАСФЕ́РА** (ад *бія-* + *геасфера*) — абалонка зямнога шара,

у якой сканцэнтравана жывое рэчыва планеты.

**БІЯГЕАХІ́МІЯ** (ад *бія-* + *геахімія*) — раздзел геахіміі, які вывучае хімічныя працэсы ў *біясферы*.

**БІЯГЕАЦЭНАЛО́ГІЯ** (ад *біягеацэноз* + *-логія*) — навука, якая вывучае біягеацэноз.

**БІЯГЕАЦЭНО́З** (ад *бія-* + гр. ge = зямля + *цэноз*) — сукупнасць раслінных, жывёльных і мікраскапічных арганізмаў разам з участкам зямной паверхні, які яны займаюць і з якім звязаны абменам рэчываў і энергіі.

**БІЯГЕ́ЛЬ** (ад *бія-* + лац. gelo = застываю) — студзінападобная або цвёрдая структураваная калоідная сістэма біялагічнага паходжання з вадкім дысперсійным асяроддзем; разнавіднасць *геляў*.

**БІЯГЕЛЬМІ́НТЫ** (ад *бія-* + *гельмінты*) — паразітычныя чэрві, якія на стадыі лічынкі жывуць у жывёльным арганізме, а ў дарослым стане — у целе чалавека або другой жывёлы (параўн. *геагельмінты*).

**БІЯГЕНАСФЕ́РА** (ад *бія-* + гр. genos = нараджэнне + *сфера*) — сфера ўзнікнення жыцця — абалонка на планетах, у межах якой ствараюцца ўмовы, спрыяльныя для развіцця вышэйшых формаў матэрыі.

**БІЯГЕНЕ́З** (ад *бія-* + *-генез*) — 1) утварэнне арганічных злучэнняў жывымі арганізмамі; 2) тэорыя ўзнікнення жыцця на Зямлі, паводле якой мяркуецца, што зародкі жывых істот былі занесены на Зямлю з іншых нябесных целаў (параўн. *абіягенез*).

**БІЯГЕНЕТЫ́ЧНЫ** (ад *бія-* + *генетычны*) — падпарадкаваны закону паўтарэння ў індывідуальным развіцці арганізма галоўных этапаў гістарычнага развіцця ўсяго рода продкаў (напр. б. закон).

**БІЯГЕ́ННЫ** (ад *бія-* + *-генны*) — які стымулюе развіццё жывых арганізмаў (напр. б-ыя элементы).

**БІЯГЕ́РМ** (ад *бія-* + гр. herma = падводная скала) — выступ марскога дна, утвораны рэшткамі вымерлых арганізмаў.

**БІЯГІДРААКУ́СТЫКА** (ад *бія-* + *гідраакустыка*) — раздзел *біяакустыкі*, які вывучае гукі, што ўтвараюцца воднымі арганізмамі.

**БІЯГЛІ́ФЫ** (ад *бія-* + гр. glyphe = паглыбленне, ямка) — выкапнёвыя сляды жыццядзейнасці арганізмаў на паверхні або ўнутры асадачных парод.

**БІЯГРА́МА** (ад *бія-* + *-грама*) — графічнае (дыяграмнае) адлюстраванне зменлівасці ў часе якой-н. біялагічнай сістэмы (асобіны, папуляцыі, віды, біяцэнозы).

**БІЯГРА́ФІЯ** (ад *бія-* + *-графія*) — 1) апісанне чыйго-н. жыцця; 2) чыё-н. жыццё (напр. выпадак з біяграфіі); 3) *перан.* гісторыя якіх-н. прадметаў, з'яў, падзей.

**БІЯДО́ЗА** (ад *бія-* + *доза*) — працягласць ультрафіялетавага апрамянення скуры, неабходная для ўзнікнення слабой, але ясна акрэсленай *эрытэмы*.

**БІЯДЫНА́МІКА** (ад *бія-* + *дынаміка*) — раздзел *фізіялогіі*, які вывучае жыццядзейнасць і функцыі арганізмаў.

**БІЯДЭГРАДА́ЦЫЯ** (ад *бія-* + *дэградацыя*) — працэс раскладан-

ня матэрыялаў, рэчываў або аб'ектаў у навакольным асяроддзі пад уздзеяннем жывых арганізмаў (пераважна мікраарганізмаў).

**БІЯДЭ́РМ** (ад *бія-* + *-дэрма*) — слой, плёнка, якая складаецца з жывых арганізмаў (бактэрыі, грыбы, сіне-зялёныя водарасці), што жывуць і кормяцца на паверхні целаў іншых жывых арганізмаў (на падводных частках раслін, рыбах).

**БІЯДЭСТРУ́КТАРЫ** (ад *бія-* + *дэструктары*) — тое, што і *біярэдуцэнты*.

**БІЯЗО́НА** (ад *бія-* + *зона*) — сукупнасць геалагічных адкладаў, у якой сустракаецца якая-н. адна сістэматызаваная група выкапнёвых арганізмаў (від, род, сям'я).

**БІЯІНДЫКА́ТАРЫ** (ад *бія-* + *індыкатары*) — арганізмы, наяўнасць якіх або інтэнсіўнае развіццё служыць паказчыкам пэўных прыродных працэсаў або наяўнасці некаторых рэчываў.

**БІЯІНДЫКА́ЦЫЯ** (ад *бія-* + *індыкацыя*) — сістэма ацэнкі стану і ўласцівасцей *экасістэм* па наяўнасці (адсутнасці) у ёй тых ці іншых арганізмаў.

**БІЯІНЖЫНЕ́РЫЯ** (ад *бія-* + фр. ingénier = праяўляць вынаходлівасць) — навука аб канструяванні і праектаванні тэхнічных прыбораў, робатаў, маніпулятараў, якія выконваюць біялагічныя функцыі ва ўмовах нармальнай жыццядзейнасці арганізма.

**БІЯІНФАРМА́ЦЫЯ** (ад *бія-* + *інфармацыя*) — гіпатэтычна магчымая інфармацыя пры дапамозе біятокаў галаўнога мозга.

**БІЯКАМУНІКА́ЦЫЯ** (ад *бія-* + *камунікацыя*) — сувязі паміж асобінамі аднаго або розных відаў жывёл пры дапамозе пэўных сігналаў.

**БІЯКАРО́ЗІЯ** (ад *бія-* + *карозія*) — карозія металаў, выкліканая мікраарганізмамі.

**БІЯКАСМАНА́ЎТЫКА** (ад *бія-* + *касманаўтыка*) — галіна навукі, якая вывучае захаванне арганізмаў у міжпланетнай прасторы ў час касмічных палётаў і магчымасці іх прыстасавання да касмічных умоў.

**БІЯКАТА́ЛІЗ** (ад *бія-* + *каталіз*) — паскарэнне або запавольванне хімічных рэакцый, якія адбываюцца ў арганізме пры ўдзеле *ферментаў*.

**БІЯКАТАЛІЗА́ТАРЫ** (ад *бія-* + *каталізатары*) — рэчывы, у асноўным *ферменты*, наяўнасць якіх паскарае або запавольвае ўласцівыя жывой матэрыі хімічныя працэсы.

**БІЯКІБЕРНЕ́ТЫКА** (ад *бія-* + *кібернетыка*) — кірунак кібернетыкі, які вывучае законы зберажэння, перапрацоўкі і перадачы інфармацыі ў біялагічных сістэмах.

**БІЯКЛІ́МАТ** (ад *бія-* + *клімат*) — кліматычныя ўмовы, якія разам з іншымі фактарамі асяроддзя вызначаюць існаванне, размнажэнне і развіццё жывых арганізмаў.

**БІЯКЛІМАТАЛО́ГІЯ** (ад *бія-* + *кліматалогія*) — раздзел кліматалогіі, які даследуе ўплыў *клімату* на жыццё, здароўе і дзейнасць чалавека, развіццё жывёл і раслін.

**БІЯКО́МПЛЕКС** (ад *бія-* + *комплекс*) — расліннае і жывёльнае асяроддзе, якое ствараецца на бор-

це касмічнага карабля для надзейнай сістэмы жыццезабеспячэння.

**БІЯКРЫМІНАЛО́ГІЯ** (ад *бія-* + *крыміналогія*) — напрамак у крыміналогіі, які тлумачыць злачыннасць біялагічнымі фактарамі, напр. прыроджанай схільнасцю некаторых асоб да злачыннай дзейнасці.

**БІЯКРЭ́М** (ад *бія-* + *крэм*) — касметычны крэм, у складзе якога ёсць *біястымулятары*.

**БІЯ́КС** (ад *бі-* + лац. axis = вось) — ферытавы элемент (гл. *ферыт* 2) у некаторых запамінальных устройствах электронна-вылічальных машын.

**БІЯЛАГІ́ЗМ** (ад *біялогія*) — напрамак у *сацыялогіі*, які тлумачыць грамадскія працэсы біялагічнымі з'явамі.

**БІЯЛАКА́ЦЫЯ** (ад *бія-* + *лакацыя*) — здольнасць жывёл вызначаць становішча якога-н. аб'екта адносна саміх сябе або сваё месцазнаходжанне ў прасторы.

**БІЯЛІ́ТЫ** (ад *бія-* + *-літ*) — горныя пароды, якія складаюцца пераважна з рэштак жывёл і раслін, а таксама прадуктаў іх жыццядзейнасці (напр. вугаль, мел, вапняк).

**БІЯЛО́ГІЯ** (ад *бія-* + *-логія*) — сукупнасць навук аб жывой прыродзе (падраздзяляецца на *батаніку, заалогію, антрапалогію* і *мікрабіялогію*).

**БІЯЛЮМІНЕСЦЭ́НЦЫЯ** (ад *бія-* + *люмінесцэнцыя*) — свячэнне многіх мікраарганізмаў, грыбоў і беспазваночных жывёл, звязанае з працэсамі іх жыццядзейнасці.

**БІЯМА́СА** (ад *бія-* + *маса*) — колькасць рэчыва жывых арганізмаў на адзінку паверхні сушы ці аб'ёму вады.

**БІЯМЕ́ТРЫЯ** (ад *бія-* + *-метрыя*) — раздзел *біялогіі*, які займаецца апрацоўкай дадзеных біялагічнага даследавання метадамі матэматычнай статыстыкі.

**БІЯМЕТЭАРАЛО́ГІЯ** (ад *бія-* + *метэаралогія*) — раздзел метэаралогіі, які вывучае ўплыў надвор'я на жывыя арганізмы.

**БІЯМЕХА́НІКА** (ад *бія-* + *механіка*) — раздзел *біяфізікі*, які вывучае развіццё, будову і дзейнасць рухальнага апарату жывёл і чалавека.

**БІЯМІЦЫ́Н** (ад *бія-* + *-міцын*) — антыбіётык, які ўжываецца пры пнеўманіі, дызентэрыі, сыпным тыфе і некаторых іншых хваробах.

**БІЯМО́РФА** (ад *бія-* + гр. morphe = форма) — жыццёвая *форма*.

**БІЯМУРА́ЦЫЯ** (ад *бія-* + лац. murus = сцяна) — разнавіднасць *імурацыі*, калі арганізм замуроўваецца іншым арганізмам і гіне.

**БІЯНАВІГА́ЦЫЯ** (ад *бія-* + *навігацыя*) — здольнасць жывёл выбіраць напрамак руху пры рэгулярных сезонных *міграцыях*.

**БІЯ́НДРЫЯ** (ад *бі-* + *-андрыя*) — двуяжэнства.

**БІЯНО́МІЯ** (ад *бія-* + гр. nomos = звычай, закон) — раздзел *біялогіі*, які вывучае агульныя праблемы *сістэматыкі*, заканамернасці відаўтварэння і фарміравання ў працэсе *эвалюцыі* вышэйшых сістэматычных груп.

**БІЯО́ПТЫКА** (ад *бія-* + *оптыка*) — раздзел *біялогіі*, які вывучае сукупнасць з'яў, звязаных з

выкарыстаннем жывымі арганізмамі святла для арыентацыі.

**БІЯПАЛІМЕ́РЫ** (ад *бія-* + *палімеры*) — высокамалекулярныя прыродныя злучэнні, якія з'яўляюцца структурнай асновай усіх жывых арганізмаў і выконваюць важную ролю ў працэсах жыццядзейнасці.

**БІЯПАТЭНЦЫЯ́Л** (ад *бія-* + *патэнцыял*) — электрычнае напружанне, якое ўзнікае ў органах, тканках і клетках жывёльных і раслінных арганізмаў у працэсе іх жыццядзейнасці.

**БІЯПРЭПАРА́Т** (ад *бія-* + *прэпарат*) — біялагічны прэпарат для прафілактычнага або лячэбнага ўвядзення ў арганізм і дыягнастычных даследаванняў.

**БІЯПСІ́Я** (ад *бія-* + гр. opsis = разгляд) — узяцце невялікай колькасці тканкі ў хворага для лабараторнага даследавання, каб вызначыць характар захворвання.

**БІЯРЫТМАЛО́ГІЯ** (ад *біярытмы* + *-логія*) — навука, якая вывучае цыклічныя працэсы ў біялагічных сістэмах.

**БІЯРЫ́ТМЫ** (ад *бія-* + *рытм*) — сутачныя або сезонныя ваганні інтэнсіўнасці ў характары тых ці іншых біялагічных працэсаў і з'яў, якія даюць арганізмам магчымасць прыстасоўвацца да цыклічных змен акаляючага асяроддзя.

**БІЯРЭДУЦЭ́НТЫ** (ад *бія-* + лац. reducens, -ntis = які вяртае, аднаўляе) — арганізмы, якія мінералізуюць арганічнае рэчыва — раскладаюць яго на больш простыя неарганічныя злучэнні (пераважна грыбы, бактэрыі).

**БІЯРЭХАЛАКА́ЦЫЯ** (ад *бія-* + *рэхалакацыя*) — выпрамяненне і ўспрыманне жывёламі высокачастотных гукавых сігналаў з мэтай выяўлення аб'ектаў у прасторы; адзін са спосабаў арыентацыі жывёл.

**БІЯСАЦЫЯЛО́ГІЯ** (ад *бія-* + *сацыялогія*) — 1) сінонім *біяцэналогіі* ў многіх еўрапейскіх краінах; 2) канцэпцыя, якая тлумачыць сацыяльныя і палітычныя працэсы зыходзячы з біялагічных фактараў, зведзеных да паняцця аб *расе*.

**БІЯСІ́НТЭЗ** (ад *бія-* + *сінтэз*) — працэс утварэння арганічных злучэнняў у жывых арганізмах або ў штучных умовах пад дзеяннем ферментаў.

**БІЯСТАБІЛІЗА́ТАР** (ад *бія-* + *стабілізатар*) — установка для перапрацоўкі арганічных адходаў сельскай гаспадаркі на *кампост*.

**БІЯСТА́НЦЫЯ** (ад *бія-* + *станцыя*) — навукова-даследчая ўстанова, дзе праводзіцца стацыянарнае вывучэнне раслін і жывёл у прыродных умовах.

**БІЯСТРАТЫГРАФІ́ЧНЫ** (ад *біястратыграфія*); б-ая зона — слаі зямной кары, у кожным з якіх змяшчаецца пэўны комплекс скамянелых рэшткаў вымерлых арганізмаў, характэрны толькі для дадзенага слоя.

**БІЯСТРАТЫГРА́ФІЯ** (ад *бія-* + *стратыграфія*) — раздзел стратыграфіі, які вывучае гісторыю жывых арганізмаў у пэўныя геалагічныя эры і перыяды на падставе скамянелых арганічных рэшткаў у слаях зямной кары.

**БІЯСТРО́М** (ад *бія-* + гр. stroma = насціл) — утварэнне ў выглядзе лінзы або пласта на дне мора з рэштхаў арганізмаў.

**БІЯСТЫМУЛЯ́ТАРЫ** (ад *бія-* + *стымулятары*) — рэчывы, якія стымулююць розныя праяўленні жыццядзейнасці арганізма.

**БІЯСТЭ́ЛЫ** (ад *бія-* + *стэла*) — вертыкальныя нагрувашчванні *біястромаў* або лінз арганічных вапнякоў у выглядзе слупоў або *штокаў* 2, якія ўтвараюцца на прыўзнятых участках дна вадаёмаў ад працяглага нарастання арганізмаў на адным месцы.

**БІЯСФЕ́РА** (ад *бія-* + *сфера*) — вобласць распаўсюджання жыцця на зямным шары.

**БІЯСФЕРАЛО́ГІЯ** (ад *біясфера* + *-логія*) — навука пра ўзнікненне, эвалюцыю, структуру і механізмы функцыянавання біясферы.

**БІЯТАРЭ́ЛА** (н.-лац. biatorella) — сумчаты грыб сям. акараспоравых, якія развіваецца на пашкоджаных галінках і ствалах хвойных дрэў.

**БІЯТЛАНІ́СТ** (ад *біятлон*) — спартсмен, які займаецца біятлонам.

**БІЯТЛО́Н** (ад *бі-* + гр. athlon = змаганне, барацьба) — спартыўныя спаборніцтвы, дзе лыжная гонка спалучаецца са стральбой з вінтоўкі на некалькіх агнявых рубяжах.

**БІЯТО́НУС** (ад *бія-* + *тонус*) — прыродны стан напружання, характэрны для ўсяго жывога.

**БІЯТО́П** (ад *бія-* + *-топы*) — участак зямной паверхні з аднатыпнымі ўмовамі асяроддзя, населены *біяцэнозам* (напр. асаковае балота, заліўны луг, бярозавы гай).

**БІЯТО́РА** (н.-лац. biatora) — накіпны сумчаты лішайнік сям. лецыдзеевых, які расце на кары дрэў, балотах, тарфяной глебе, валунах.

**БІЯТРАНСФАРМА́ЦЫЯ** (ад *бія-* + *трансфармацыя*) — 1) змена спадчынных уласцівасцей бактэрыяльнай клеткі ў выніку пранікнення ў яе чужароднай ДНК; 2) пераўтварэнне энергіі сонечнай радыяцыі, якая ўлоўліваецца зялёнымі раслінамі, у іншыя віды; 3) біяхімічнае пераўтварэнне ядаў, што пранiклі ў арганізм, у менш таксічныя рэчывы або больш таксічныя злучэнні, чым зыходнае рэчыва.

**БІЯТРАФІ́Я** (ад *бія-* + *-трафія*) — харчаванне адных арганізмаў (*біятрофаў*) біямасай іншых арганізмаў.

**БІЯТРО́Н** (ад *бія-* + *-трон*) — камера з штучным кліматам для лячэння гіпертаніі і іншых хвароб.

**БІЯТРО́ФЫ** (ад *бія-* + *-трофы*) — арганізмы, якія жывяцца іншымі жывымі арганізмамі.

**БІЯТЫ́Н** (ад гр. biote = жыццё) — вітамін H, які ўваходзіць у склад *ферментаў*, што рэгулююць бялковы і тлушчавы абмен; змяшчаецца ў памідорах, дражджах, яечным жаўтку, печані, малацэ.

**БІЯТЫ́П** (ад *бія-* + *тып*) — сукупнасць арганізмаў у межах *папуляцыі*, якія характарызуюцца аднолькавым *генатыпам* і блізкім *фенатыпам* (напр. *клон* у раслін).

**БІЯТЫ́Т** [фр. biotite, ад J.Biot = прозвішча фр. фізіка (1774—1862)] — мінерал класа *сілікатаў*,

жалезіста-магнезіяльная слюда жоўтага, бурага або чорнага колеру; выкарыстоўваецца як электраізаляцыйны матэрыял.

**БІЯТЫ́ЧНЫ** (гр. biotikos = які датычыць жыцця) — які адносіцца да жывых элементаў дадзенага асяроддзя; б-ыя фактары — сукупнасць уплываў, якія аказвае на арганізмы жыццядзейнасць іншых арганізмаў.

**БІЯТЭЛЕМЕТРЫ́Я** (ад *бія-* + *тэлеметрыя*) — спосаб даследавання біялагічных з'яў і вымярэння біялагічных паказчыкаў арганізмаў (напр. пульсу, тэмпературы, крывянога ціску ў касманаўтаў, спартсменаў) на адлегласці, шляхам выкарыстання *тэлемеханікі*.

**БІЯТЭХНАЛО́ГІЯ** (ад *бія-* + *тэхналогія*) — сукупнасць метадаў і прыёмаў атрымання карысных чалавеку прадуктаў пры дапамозе жывых *агентаў* 4.

**БІЯТЭ́ХНІКА** (ад *бія-* + *тэхніка*) — комплекс мерапрыемстваў па забеспячэнні гадоўлі ў прыродных умовах дзікіх жывёл і паляпшэнні іх прадукцыйных уласцівасцей.

**БІЯТЭХНІ́Я** (ад *бія-* + гр. techne = майстэрства, умельства) — раздзел паляўніцтвазнаўства, які распрацоўвае комплекс мерапрыемстваў па забеспячэнні гадоўлі ў прыродных умовах дзікіх жывёл і паляпшэнні іх прадукцыйных уласцівасцей.

**БІЯФА́БРЫКА** (ад *бія-* + *фабрыка*) — прадпрыемства па вырабу *біяпрэпаратаў*.

**БІЯФЕНАЛО́ГІЯ** (ад *бія-* + *феналогія*) — навука аб перыядычных з'явах у жыцці пэўнай групы або нават аднаго віду арганізмаў, звязаных са зменамі пораў года.

**БІЯФІ́ЗІКА** (ад *бія-* + *фізіка*) — навука, якая вывучае фізічныя і фізіка-хімічныя працэсы ў жывых арганізмах.

**БІЯФІ́ЛЫ** (ад *бія-* + *-філ*) — хімічныя элементы і рэчывы, здольныя акумулявацца ў жывых арганізмах у значна большых колькасцях, чым у навакольным асяроддзі.

**БІЯФІ́ЛЬТР** (ад *бія-* + *фільтр*) — збудаванне для біялагічнай ачысткі сцёкавых водаў.

**БІЯФІЛЬТРА́ЦЫЯ** (ад *бія-* + *фільтрацыя*) — фільтрацыя вады жывёламі, напр. пласціністажабравымі малюскамі.

**БІЯХАРЫЁН** (ад *бія-* + *харыён*) — структурная частка *экасістэмы*; цэнтр актыўнасці арганізмаў у *біятопе*.

**БІЯХІ́МІЯ** (ад *бія-* + *хімія*) — навука, якая вывучае хімічныя працэсы ў жывых арганізмах.

**БІЯХО́Р** (ад *бія-* + гр. chora = прастор) — частка *біясферы*, якая ўключае групу падобных *біятыпаў* і ўваходзіць у пэўны *біяцыкл* (напр. біяхоры пустынь, лясоў, стэпаў і інш. аб'ядноўваюцца ў біяцыкл сушы).

**БІЯХРО́Н** (ад *бія-* + гр. chronos = час) — адрэзак геалагічнага часу, на працягу якога адбыліся адкладанні *біязоны*.

**БІЯЦЫ́КЛ** (ад *бія-* + *цыкл*) — самая буйная адзінка расчлянення *біясферы* (суша, мора, унутраныя вадаёмы); падраздзяляецца на *біяхоры*.

**БІЯЦЭНАГЕНЕ́З** (ад *біяцэноз* + *-генез*) — гістарычны працэс фарміравання і развіцця біяцэнозаў.

**БІЯЦЭНАЛО́ГІЯ** (ад *біяцэноз* + *-логія*) — раздзел *экалогіі*, які вывучае біяцэнозы, іх будову, развіццё, узаемаадносіны з навакольным асяроддзем і інш.

**БІЯЦЭНАМЕ́ТРЫЯ** (ад *біяцэноз* + *-метрыя*) — раздзел *біяцэналогіі*, які даследуе метады вывучэння розных параметраў і ўласцівасцей біяцэнозаў і *экасістэм*.

**БІЯЦЭНО́З** (ад *бія-* + *-цэноз*) — сукупнасць раслін і жывёл, якія насяляюць тэрыторыю з аднолькавымі ўмовамі існавання, напр. возера, луг, балота.

**БІЯЭЛЕКТРО́НІКА** (ад *бія-* + *электроніка*) — 1) раздзел *тэхнікі*, які вывучае выкарыстанне электронікі ў біялогіі і медыцыне; 2) раздзел біялагічнай *фізікі*, які вывучае электронныя працэсы ў біялагічных аб'ектаў.

**БІЯЭЛЕКТРЫ́ЧНЫ** (ад *бія-* + *электрычны*) — звязаны з электрычнымі патэнцыяламі ў тканках і клетках жывых арганізмаў.

**БІЯЭНЕРГЕ́ТЫКА** (ад *бія-* + *энергетыка*) — навука, якая вывучае механізмы пераўтварэння энергіі ў працэсах жыццядзейнасці арганізмаў.

**БЛА́ЗІЯ** (н.-лац. blasia) — пячоначны мох сям. блазіевых, які расце на вільготнай глебе, каля дарог, у канавах, кар'ерах.

**БЛАКА́ДА** (англ. blockade) — 1) акружэнне войск праціўніка (горада, крэпасці) для знішчэння ці палонення; 2) *перан.* сістэма мерапрыемстваў, накіраваных на ізаляцыю якой-н. дзяржавы, каб прымусіць яе выканаць пэўныя ўмовы, патрабаванні (напр. эканамічная б.); 3) выключэнне функцыі якога-н. органа або сістэмы ў арганізме.

**БЛАКА́Ж** (фр. blocage, ад bloquer = перакрыць доступ) — спосаб абароны ў *боксе*.

**БЛАКГА́УЗ** (ням. Blockhaus) — палявое ўмацаванне з байніцамі, якое прыстасавана для самастойнай кругавой абароны.

**БЛАКІРАВА́ЦЬ** (ням. blockieren, ад фр. bloquer) — 1) ажыццяўляць ваенную (эканамічную, палітычную) блакаду; 2) загароджваць шлях; 3) памяншаць чыю-н. актыўнасць (напр. б. хакеіста).

**БЛАКІРА́ТАР** (ад англ. block = замыкаць) — прыстасаванне, якое дае магчымасць выкарыстоўваць розныя тэлефонныя апараты на адной лініі.

**БЛАКІРО́ЎКА** (ад *блакіраваць*) — 1) рэгуляванне руху цягнікоў на перагонах пры дапамозе спецыяльных прыстасаванняў (*семафораў* і інш.), а таксама сістэма такіх прыстасаванняў; 2) сістэма блокаў якога-н. механізма; 3) электрамеханічная сістэма, якая прадугледжвае бяспеку персаналу пры абслугоўванні электрычных устройстваў.

**БЛАКІ́Т** (польск. błękit, ад с.-в.-ням. blanc-heit) — 1) светла-сіні колер; 2) *перан.* чыстае яснае неба.

**БЛАКНО́Т** (фр. bloc-notes) — сшытак з адрыўнымі лістамі для нататак.

**БЛАНДЗІ́Н** (фр. blondin) — мужчына са светлымі валасамі.

# Б

**БЛАНК** (фр. blanc = белы) — ліст паперы з часткова надрукаваным тэкстам і пропускамі для дапісвання патрэбных звестак.

**БЛАНКЕ́ТНЫ** (ад ням. Blankett = бланк); б - а я  н о р м а — прававая норма, якая дазваляе дзяржаўным органам, службовым асобам самастойна вызначаць правілы паводзін, забароны і г.д.

**БЛАНКІ́ЗМ** [ад фр. L.Blanqui = прозвішча фр. рэвалюцыянера (1805—1881)] — палітычная плынь у французскім сацыялістычным руху 19 ст., прыхільнікі якой лічылі, што капіталізм можна звергнуць не шляхам класавай барацьбы, а праз захоп улады групай змоўшчыкаў.

**БЛАНМАНЖЭ́** (фр. blanc-manger = белая ежа) — жэле са смятанкі або міндальнага малака.

**БЛАНФІ́КС** (фр. blanc-fixe) — мінеральная фарба з сярністакіслага *барыю*, якая выкарыстоўваецца як напаўняльнік пры вырабе паперы.

**БЛАНШЫ́РАВАЦЬ** (фр. blanchir = мыць, бяліць, абліваць кіпенем) — 1) абварваць ці апрацоўваць параю садавіну, гародніну і іншыя прадукты перад кансерваваннем; 2) знімаць з ніжняга боку скуры рэшткі падскурнай клятчаткі (у дубільнай справе).

**БЛАСТА-** (гр. blastos = зародак, парастак) — першая састаўная частка складаных слоў — біялагічных і медыцынскіх тэрмінаў, якая паказвае на сувязь з зародкам.

**БЛАСТАГЕНЕ́З** (ад *бласта-* + *-генез*) — індывідуальнае развіццё мнагаклетачнага жывога арганізма пры бясполым размнажэнні.

**БЛАСТАДЫ́СК** (ад *бласта-* + *дыск*) — група клетак, размешчаных у выглядзе дыска на *анімальным* полюсе яйцаклеткі пры яе няпоўным драбленні.

**БЛАСТАДЭ́РМА** (ад *бласта-* + *-дэрма*) — сукупнасць клетак, якія ўтвараюць сценку *бластулы*.

**БЛАСТАЗО́ІДЫ** (ад *бласта-* + гр. zoon = жывёла + *-оід*) — дачэрнія асобіны, якія ўтвараюцца ў некаторых многавусікавых кальчацоў пры пачкаванні.

**БЛАСТАІДЭ́І** (н.-лац. blastoidea, ад гр. blastos = парастак + eidos = выгляд) — клас вымерлых беспазваночных жывёл тыпу ігласкурых, панцыр якіх нагадваў бутонападобны келіх; існавалі ў морах *палеазою*.

**БЛАСТАКІНЕ́З** (ад *бласта-* + *-кінез*) — згінанне зародка некаторых членістаногіх і малюскаў у працэсе эмбрыянальнага развіцця.

**БЛАСТАКЛА́ДЫЯ** (н.-лац. blastocladia) — ніжэйшы грыб сям. бластакладыевых, які развіваецца на раслінных рэштках, што плаваюць у вадзе.

**БЛАСТАМЕ́РЫ** (ад *бласта-* + *-мер*) — клеткі, якія ўтвараюцца пры драбленні яйцаклеткі жывёл і чалавека.

**БЛАСТАМІКО́З** (н.-лац. blastomycosis, ад гр. blastos = парастак + mykes = грыб) — хвароба скуры і ўнутраных органаў жывёл і чалавека, якая выклікаецца *бластаміцэтамі*.

**БЛАСТАМІЦЭ́ТЫ** (ад *бласта-* + *-міцэты*) — група дражджавых грыбоў, некаторыя віды якіх выклікаюць хваробы людзей і жывёл.

**БЛАСТАПО́Р** (ад *бласта-* + *-пор*) — адтуліна, якая злучае ўнутраную поласць зародка жывёльнага арганізма на стадыі *гаструлы* са знешнім асяроддзем.

**БЛАСТАЦЫ́СТА** (ад *бласта-* + *цыста*) — стадыя развіцця зародка мнагаклетачных жывёл і чалавека, якая наступае ў выніку дзялення аплодненай яйцаклеткі.

**БЛАСТАЦЭ́ЛЬ** (ад *бласта-* + гр. koilos = полы) — поласць паміж *бластамерамі* зародка мнагаклетачных жывёл і чалавека на стадыі *бластулы* (параўн. *гастрацэль*).

**БЛАСТО́МА** (ад *бласта-* + *-ома*) — тое, што і *неаплазія*.

**БЛАСТОМАГЕНЕ́З** (ад *бластома* + *-генез*) — тое, што і *анкагенез*.

**БЛА́СТУЛА** (ад гр. blastos = парастак) — стадыя развіцця зародка мнагаклетачных жывёл і чалавека (наступная за *морулай*), на якой зародак уяўляе сабой аднаслойны пузырок.

**БЛАСТУЛЯ́ЦЫЯ** (ад *бластула*) — завяршальная частка перыяду драблення яйца мнагаклетачных жывёльных арганізмаў, на працягу якой утвараецца *бластула*.

**-БЛАСТЫ** (гр. blastos = парастак) — другая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «зародак».

**БЛАСТЭ́МА** (гр. blastema = завязь) — 1) частка жывой тканкі, здольная ўтвараць новыя асобіны (пры бясполым размнажэнні); 2) намнажэнне аднародных клетак на паверхні раны пасля ампутацыі органа або яго часткі.

**БЛАСТЭ́НІЯ** (н.-лац. blastenia) — накіпны сумчаты лішайнік сям. целасхіставых, які расце на кары старых дрэў, пераважна лісцевых.

**БЛАСТЭ́Я** (ад гр. blaste = парастак) — гіпатэтычная аднаслойная форма першай стадыі эвалюцыйнага развіцця арганізма, якая будовай нагадвае *бластулу*.

**БЛЕ́ЙВАС** (ст.-польск. blejwas, ад ням. Bleiwejss) — свінцовыя бялілы.

**БЛЕ́К-РОТ** (англ. black rot = чорная гніль) — грыбковая хвароба вінаграду.

**БЛЕНАРЭ́Я** (ад гр. blennos = слізь + rheo = цяку) — *мед.* запаленне слізістай абалонкі вока, выклікане *ганакокам*.

**БЛЕ́НДА** (ням. Blende) — 1) прыстасаванне ў выглядзе цыліндра або конуса, якое надзяваецца на пярэднюю частку апраравы аб'ектыва, каб прадухіліць пранікненне ў яго бакавых прамянёў сонца; 2) ліхтар для асвятлення рудніка.

**БЛЕ́НКЕР** (англ. blinker, ад blink = мігацець) — 1) прыстасаванне на тэлефонным *камутатары*, пры дапамозе якога абанент выклікае тэлефаністку; 2) чыгуначны аўтаматычны сігнальны прыбор на камутатарах блакіровачных сістэм.

**БЛЕФ** (англ. bluff) — 1) прыём пры гульні ў *покер*, калі гулец стараецца выклікаць у партнёраў уражанне, што яго карты мацнейшыя, чым у сапраўднасці; 2) выдумка, падман з мэтай запалохаць або стварыць перабольшанае ўяўленне аб сваіх магчымасцях.

# Б

**БЛЕФАРАПЛА́СТ** (ад гр. blepharon = павека + *-пласт*) — тое, што і *кінетабласт*.

**БЛЕФАРАСПА́ЗМА** (ад гр. blepharon = павека + *спазма*) — сутаргавае скарачэнне кругавой мышцы вока.

**БЛЕФАРАСТО́МА** (н.-лац. blepharoctoma) — пячоначны мох сям. блефарастомавых, які трапляецца ў цяністых лясах на гнілаватай драўніне.

**БЛЕФАРЫ́Т** (ад гр. blepharon = павека) — запаленне павекаў.

**БЛІК** (ням. Blick) — 1) светлая пляма, водбліск на гладкай паверхні (напр. сонечныя блікі); 2) злітак серабра, які змяшчае 2—3% свінцу; блікавае серабро.

**БЛІНДА́Ж** (фр. blindage) — земляное збудаванне са сценамі і пакрыццём з дрэва, жалезабетону для ўкрыцця жывой сілы ад мін, снарадаў.

**БЛІНК-КАМПАРА́ТАР** (ад англ. blink = мігцець + *кампаратар*) — прыбор для параўнання дзвюх фатаграфій аднаго і таго ж участка неба, якія атрыманы ў розны час адным *тэлескопам*.

**БЛІНТ** (ням. blind = сляпы) — плоскае бясколернае ціcненне на кніжных вокладках, якое робіцца гарачым прэсам.

**БЛІ́СМУС** (н.-лац. blysmus) — травяністая расліна сям. асаковых з плоскім лісцем, пашыраная на вільготных лугах у Еўразіі, Паўн. Амерыцы, Паўн. Афрыцы.

**БЛІСТР** [англ. blister (coopper)] — неачышчаная медзь, якая змяшчае 1,5—2% прымесяў.

**БЛІ́СТЭР** (англ. blister = пузыр) — 1) купалападобны выступ з празрыстай пластмасы на *фюзеляжы* самалёта для паляпшэння агляду і размяшчэння зброі і прыцэльных прыстасаванняў; 2) супрацьмінная патаўшчэнне корпуса карабля.

**БЛІЦ** (ням. Blitz = бліскавіца) — 1) лямпа для імгненнай моцнай успышкі святла пры фатаграфаванні; 2) праведзеная ў тэмпе партыя шахматнай гульні.

**БЛІЦА́РД** (англ. blizzard) — назва ў ЗША і Англіі мяцеліцы, якая суправаджаецца моцным ветрам і нізкай тэмпературай паветра.

**БЛІЦКРЫ́Г** (ням. Blitzkrieg) — тэорыя маланкавай вайны, разлічаная на хуткую перамогу, як частка ваеннай дактрыны, што была створана нямецкімі мілітарыстамі ў пач. 20 ст.

**БЛІЦТУРНІ́Р** (ад ням. Blitz = бліскавіца + *турнір*) — шахматны турнір, у якім на кожную партыю даецца максімальна абмежаваны час.

**БЛОК**[1] (англ. block) — аб'яднанне дзяржаў, партый, груповак для дасягнення агульнай мэты.

**БЛОК**[2] (англ. block) — 1) прыстасаванне для пад'ёму грузаў у выглядзе кола з выемкай па акружнасці і перакінутым цераз яго канатам; 2) вузел машыны з некалькіх аднолькавых элементаў; 3) штучна зробленая з бетоннай сумесі будаўнічая пліта; 4) комплекс будынкаў, якія маюць адпаведнае прызначэнне, а таксама частка якой-н. пабудовы; 5) сшытыя лісты кнігі, падрыхтаваныя для пераплёту.

**БЛОК-АПАРА́Т** (ад *блок* + *апарат*) — апарат для рэгулявання руху паяздоў на чыгуначных перагонах і станцыях.

**БЛОК-ДЫЯГРА́МА** (ад *блок* + *дыяграма*) — перспектыўны малюнак участка зямной паверхні разам з яго геалагічным разрэзам.

**БЛО́КІНГ-ГЕНЕРА́ТАР** (ад англ. blocking = замыканне + *генератар*) — адналямпавы генератар з трансфарматарнай зваротнай сувяззю, прызначаны для стварэння электрычных імпульсаў малой працягласці, якія перыядычна паўтараюцца.

**БЛОК-КАНТА́КТ** (ад *блок* + *кантакт*) — кантакт электрычнага апарата, які перамыкае кола кіравання або сігналізацыі.

**БЛОК-КАНТА́КТАР** (ад *блок* + *кантактар*) — сукупнасць некалькіх груп *блок-кантактаў*.

**БЛОКПО́СТ** (ад *блок* + *пост*) — чыгуначны раздзельны пункт, забяспечаны спецыяльнай апаратурай, адкуль кіруюць семафорамі і святлафорамі.

**БЛОК-СЕ́КЦЫЯ** (ад *блок* + *секцыя*) — закончаны для блакіроўкі аб'ёмна-планіровачны элемент (частка) збудавання.

**БЛОК-СУПАЛІМЕ́РЫ** (ад *блок* + *супалімеры*) — супалімеры, у макрамалекулах якіх працяглыя ўчасткі са звёнаў аднаго тыпу (блокі) чаргуюцца з блокамі са звёнаў другога тыпу.

**БЛОК-СХЕ́МА** (ад *блок* + *схема*) — схема прылады, апарата, машыны, дзе асобныя састаўныя вузлы (блокі) маюць выгляд прамавугольнікаў, а сувязь паміж імі паказана лініямі са стрэлкамі.

**БЛО́КШЫЎ** (англ. block-ship) — корпус старога судна, з якога знята абсталяванне і якое прызначана для плывучага складу або жылля.

**БЛУ́ЗА** (фр. blouse) — мужчынская рабочая верхняя кашуля.

**БЛУ́ЗКА** (польск. bluzka, ад фр. blouse) — жаночая кофтачка з лёгкай тканіны.

**БЛЮВА́Л** (англ. blue whale) — блакітны кіт, самая буйная жывёла на Зямлі.

**БЛЮЗ** (англ. blues, ад blue devils = меланхолія, журба) — 1) песня або танец амерыканскіх неграў, якія выконваюцца ў павольным тэмпе; 2) форма джазавай музыкі (гл. *джаз*) у рытме і манеры выканання гэтай песні (танца).

**БЛЮЗНЕ́Р** (польск. bluźnierz) — чалавек, які ганьбіць, зневажае бога, святых, догматы веры або што-н. дарагое, паважанае.

**БЛЮ́ЗНІЦЬ** (польск. bluźnić) — 1) зневажаць бога, святых, догматы веры або што-н. дарагое, паважанае; 2) *разм.* гаварыць глупства; 3) гаварыць у сне, у забыцці, трызніць.

**БЛЮМ** (англ. bloom) — стальная загатоўка, атрыманая са зліткаў пракаткай на *блюмінгу*.

**БЛЮ́МІНГ** (англ. blooming) — пракатны стан для абцiскання стальных зліткаў вялікага папярочнага сячэння масай да 12 т і больш у блюмы.

**БЛЮ́МІНГ-СЛЯ́БІНГ** (ад *блюмінг* + *слябінг*) — камбінаваны пракатны стан для абцiскання буй-

ных (да 40 т) стальных зліткаў у *блюмы* і *слябы*.

**БЛЯ́ХА** (польск. blacha, ад ням. Blech) — 1) тонкае ліставое жалеза; 2) тонкі ліст жалеза з загнутымі краямі для выпякання чаго-н.; 3) знак у выглядзе металічнай пласцінкі з нумарам або надпісам як сведчанне аб службовых абавязках таго, хто яго носіць (напр. б. насільшчыка).

**БО́БСЛЕЙ** (англ. bob-sleigh) — 1) спартыўныя суцэльнаметалічныя сані з рулявым кіраваннем для скараснога спуску з гор па спецыяльна падрыхтаванай трасе; 2) скарасны спуск з гор на такіх санях.

**БО́ГХЕД** (англ. boghead, ад Boghead = назва мястэчка ў Шатландыі) — разнавіднасць выкапнёвага вугалю, што ўтварыўся з водарасцяў; выкарыстоўваецца для атрымання вадкага паліва і змазачных рэчываў.

**БОД** [фр. J.Baudot = прозвішча фр. вынаходцы (1845—1903)] — адзінка вымярэння хуткасці тэлеграфавання, роўная колькасці элементарных электрычных сігналаў, што перадаюцца па лініі сувязі за 1 секунду.

**БОЙ** (англ. boy) — хлапчук-слуга ў англамоўных краінах.

**БО́ЙГА** (н.-лац. boiga) — змяя сям. вужовых, якая пашырана ў Паўд. Азіі, трапічнай Афрыцы і Аўстраліі; жыве на дрэвах і кустах, радзей на зямлі; адзін від сустракаецца ў Сярэд. Азіі.

**БО́ЙЛЕР** (англ. boiler) — апарат для падагравання вады парай, якая праходзіць па трубах унутры рэзервуара.

**БО́КА** (іт. bocca = рот) — адтуліна на дне кратэра або на схіле вулкана, праз якую адбываюцца слабыя вывяржэнні.

**БОКС**[1] (англ. box = *літар.* удар) — від спорту, кулачны бой па асобых правілах у спецыяльных мяккіх пальчатках.

**БОКС**[2] (англ. box = скрынка) — 1) герметычная або ізаляваная камера для работы з мікраарганізмамі, радыеактыўнымі рэчывамі і інш.; 2) адгароджаная частка памяшкання ў лячэбных установах для ізаляванага ўтрымання хворага; 3) металічная каробка, праз якую тэлефонны кабель уваходзіць у кабельную скрынку.

**БО́ЛА** (ісп. bola = шар) — кідальная паляўнічая зброя індзейцаў Паўд. Амерыкі ў выглядзе рэменя з 2—3 канцамі, да якіх прымацаваны каменныя або касцяныя шары.

**БОЛТ** (с.-н.-ням. bolt) — 1) металічны стрыжань з галоўкай на адным канцы, а на другім з разьбой, на якую накручваецца гайка; 2) жалезны прут для замыкання аканіц і дзвярэй; просва.

**БО́МБА** (іт. bomba) — 1) адзін з асноўных відаў авіяцыйных боепрыпасаў, забяспечаны выбуховым рэчывам, запальным саставам, ядзерным або тэрмаядзерным зарадам; 2) марскі боепрыпас для знішчэння падводных лодак, якарных і донных мінаў, іншых падводных аб'ектаў; 3) устарэлая назва артылерыйскага асколачна-фугаснага снарада масай больш за 16 кг; 4) асколачны снарад для стральбы з бамбамётаў у першую сусветную вайну; 5) саматужны

снарад, зроблены для дыверсійных і тэрарыстычных мэтаў.

**БОН** (гал. boom = бервяно) — 1) плывучая загарода з бярвенняў, сетак для абароны гаваней, партоў ад пранікнення караблёў, мін, тарпед праціўніка; 2) плывучы прычал для малых суднаў.

**БО́НЗА** (яп. bond-zu = добры настаўнік) — 1) будыйскі святар і манах у краінах Азіі; 2) *перан.* надзьмуты, ганарысты чыноўнік.

**БО́ННА** (фр. bonne = нянька) — выхавальніца дзяцей у дваранскіх і буржуазных сем'ях царскай Расіі.

**БО́НУС** (лац. bonus = добры) — *камерц.* 1) дадатковая ўзнагарода, прэмія; 2) дадатковая скідка, якую робіць прадавец пакупніку ў адпаведнасці з умовамі здзелкі.

**БО́НЫ** (фр. bons) — 1) крэдытныя дакументы, уладальнік якіх мае права атрымаць адзначаную ў іх суму ў пэўны час ад пэўнай установы; 2) папяровыя грошы, якія страцілі плацёжную сілу і маюць цікавасць толькі для калекцыянераў (гл. *банiстыка*).

**БОР**[1] (н.-лац. borum, ад с.-лац. borax = салетра) — хімічны элемент, шаравата-чорнае рэчыва, якое ў крышталічным і аморфным станах уваходзіць у склад некаторых мінералаў.

**БОР**[2] (ням. Bohr) — стальны маленькі свердзел, якім карыстаюцца ў зубаўрачэбнай практыцы.

**БО́РА** (іт. bora, ад гр. boreas = паўночны вецер) — халодны моцны парывісты вецер, які дзьме з гор на марскім узбярэжжы.

**БО́РГЕС** (ням. Borgis, ад фр. bourgeois) — друкарскі *шрыфт*, сярэдні паміж *корпусам* і *петытам*; *кегель* яго роўны 9 *пунктам* (каля 3,38 мм).

**БОРМАШЫ́НА** (ням. Bohrmaschine) — зубалячэбны апарат, якім прыводзіцца ў рух *бор*[2].

**БОРТ**[1] (ням. Bord) — 1) бакавая сценка карабля, машыны і інш.; 2) край адзежыны, на якім знаходзяцца гузікі або петлі.

**БОРТ**[2] (гал. boort) — дробнакрышталічны *алмаз* у выглядзе зросткаў няправільнай формы, непрыдатных для агранкі; выкарыстоўваецца ў свідравальнай тэхніцы.

**БОРТЖУРНА́Л** (ад *борт* + *журнал*) — журнал, які вядзецца ў час палёту на самалёце, касмічным караблі.

**БОРТІНЖЫНЕ́Р** (ад *борт* + *інжынер*) — член *экіпажа* самалёта, касмічнага карабля, адказны за стан і работу матораў, абсталявання, апаратаў і прыбораў.

**БОРТМЕХА́НІК** (ад *борт* + *механік*) — член *экіпажа* самалёта, верталёта, дырыжабля, які наладжвае работу матораў.

**БОРТРАДЫ́СТ** (ад *борт* + *радыст*) — член *экіпажа* самалёта, які падтрымлівае сувязь з зямлёй і адказвае за стан работы радыёапаратуры.

**БО́РЦЫЯ** (н.-лац. borzia) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. асцыляторыевых, якая трапляецца ў старыцах р. Прыпяць.

**БОРШТА́НГА** (ням. Bohrstange) — металарэзны інструмент у выглядзе валіка з разцамі для расточкі адтулін.

# Б

**БОС** (англ. boss) — 1) кіраўнік фірмы, прадпрыемства; 2) заправіла партыі, арганізацыі.

**БОТ** (гал. boot) — невялікае парусная, вёсельнае або маторнае судна для перавозак, рыбалоўнага промыслу і інш.

**БО́ТРЫП** (ад гр. botrys = гронка) — органы фіксацыі ў стужачных чарвей, якія ўяўляюць сабой прысмоктвальныя шчыліны.

**БО́ТРЫТЫС** (н.-лац. botrytis) — недасканалы грыб сям. маніліевых, які развіваецца на жывых раслінах, іх рэштках, у глебе.

**БО́ТЫ** (польск. boty, ад фр. bottes) — абутак з высокімі халявамі.

**БО́ЎЛІНГ** (англ. bowling) — спартыўная разнавіднасць *кегляў* 2.

**БО́ХАН** (польск. bochen, ад с.-в.-ням. vochenze) — выпечаны хлеб пераважна круглай формы.

**БО́ЦМАН** (гал. bootsman) — званне малодшага каманднага саставу на караблі, якому падпарадкавана каманда па гаспадарчых работах.

**БРА** (фр. bras = рука) — насценны свяцільнік.

**БРАБАНСО́НЫ** (фр. brabançonne, ад Brabant = назва мясцовасці ў Бельгіі) — парода вялікіх коней-цяжкавозаў, выведзеная ў Бельгіі.

**БРА́ВА** (іт. bravo) — вокліч, які азначае захапленне, пахвалу, адабрэнне.

**БРАВА́ДА** (фр. bravade) — паказная храбрасць, дзёрзкая бязмэтная выхадка.

**БРАВА́ЛІЯ** (н.-лац. browallia) — травяністая расліна сям. паслёнавых з блакітнымі або белымі кветкамі, пашыраная ў Цэнтр. і Паўд. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**БРАВІ́РАВАЦЬ** (фр. braver) — пагарджаць чым-н. дзеля паказной храбрасці, рысавацца, выхваляцца сваёй сілай, спрытам і г.д.

**БРАВІ́СІМА** (іт. bravissimo) — вокліч, які азначае найвышэйшую ступень захаплення, пахвалы, адабрэння.

**БРАВУ́РНЫ** (фр. bravoure = храбрасць) — шумны, бадзёры, ажыўлены (напр. б. марш).

**БРА́ВЫ** (фр. brave) — мужны з выгляду, маладзецкі; удалы.

**БРАДЗО́Т** (нарв. bratsot, ад brad = раптоўны + sott = хвароба) — інфекцыйная хвароба авечак, якая паражае іх унутраныя органы і прыводзіць да гібелі.

**БРАДЫКАРДЫ́Я** (ад гр. bradys = павольны + *-кардыя*) — *мед.* запаволены рытм сардэчных скарачэнняў.

**БРАДЫКІНЕЗІ́Я** (ад гр. bradys = павольны + *-кінезія*) — запавольванне актыўных і ўзгодненых рухаў чалавека або пазваночных жывёл, якое можа суправаджацца значным павышэннем мышачнага *тонусу*.

**БРАДЫТЭЛІ́Я** (ад гр. bradys = павольны + telos = завяршэнне, вынік) — павольны тэмп эвалюцыйнага працэсу, уласцівы некаторым групам арганізмаў, напр. пласціністажабравым малюскам (параўн. *гартэлія*, *тахітэлія*).

**БРАЗЕ́НІЯ** (н.-лац. brasenia) — водная расліна сям. кабомбавых парадку гарлачыкавых, пашыра-

ная ў Азіі, Аўстраліі, Афрыцы і Паўн. Амерыцы.

**БРА́ЙЛЕЎСКІ** [ад фр. L.Braille = прозвішча фр. тыфлапедагога (1809—1852)]; б. ш р ы ф т — рэльефна-кропкавы шрыфт для сляпых, распрацаваны Л.Брайлем.

**БРАК** (польск. brak, ад ням. Brack) — 1) недабраякасны тавар, прадметы вытворчасці, якія маюць тую ці іншую загану; 2) нястача, недахоп чаго-н.

**БРАКАВА́ЦЬ** (польск. brakować) — 1) прызнаваць непрыгодным, недабраякасным; 2) неставаць, не хапаць, быць у недастатковай колькасці.

**БРАКАНІ́ДЫ** (н.-лац. braconidae) — сямейства насякомых атрада перапончатакрылых; знешнія і ўнутраныя *паразіты* лічынак іншых насякомых; некаторыя віды выкарыстоўваюцца для біялагічнай барацьбы са шкоднікамі сельскагаспадарчых культур.

**БРАКАНЬЕ́Р** (фр. braconnier) — той, хто займаецца паляваннем або рыбнай лоўляй у недазволеным месцы, у забароненыя тэрміны ці забароненымі спосабамі.

**БРАКА́Т** (ням. Brokat = парча, ад іт. brocatto, ад лац. brocchus = выпуклы) — шаўковая тканіна, затканая або вышытая золатам ці серабром.

**БРАКЕРА́Ж** (англ. brokerage) — праверка адпаведнасці якасці тавару і яго афармлення ўмовам здзелкі або прынятым стандартам.

**БРАКІ́ЗМ** (ад іт. D.Brocci = прозвішча іт. геолага і палеантолага) — біялагічная тэорыя, паводле якой старэнне і выміранне відаў жывёл або раслін адбываецца па аналогіі з жыццём і смерцю асобіны.

**БРАКО́ЛІ** (іт. broccolo) — падвід каляровай капусты.

**БРА́МА** (польск. brama, ад ням. Brame) — крытыя зверху вароты, якія закрываюць уваход на тэрыторыю завода, двара і інш.

**БРАМА́ТЫ** (гр. broma, -atos = жыўнасць) — солі бромістай кіслаты.

**БРАМЕ́ЛІЯ** (н.-лац. bromelia) — расліна сям. ананасавых з ядомымі пладамі, пашыраная ў тропіках і субтропіках Амерыкі.

**БРАМІ́ДЫ** (ад *бром* + гр. eidos = выгляд) — злучэнні брому з іншымі хімічнымі элементамі; выкарыстоўваюцца ў медыцыне і фатаграфіі.

**БРАМІ́НЫ** (санскр. brahmana) — тое, што і *брахманы*.

**БРАМ-РЭ́ЯЯ** (гал. bramra) — трэцяя знізу *рэя* на мачце паруснага судна.

**БРА́МСЕЛЬ** (гал. bramzeil) — парус трэцяга яруса паруснага судна.

**БРАМ-СТЭ́НЬГА** (гал. bramsteng) — верхняя частка мачты на парусным судне.

**БРАНДВА́ХТА** (гал. brandwacht) — 1) вартавое судна на рэйдзе, якое рэгулюе рух караблёў і сочыць за выкананнем суднаходных правілаў; 2) пост на беразе або судне для назірання за пажарнай бяспекай у раёне порта; 3) дапаможнае судна землечарпальнага каравана, якое служыць жыллём для экіпажаў суднаў, што ўваходзяць у гэты караван.

# Б

**БРАНДМАЁР** (ням. Brandmajor) — начальнік усіх пажарных каманд горада ў царскай Расіі.

**БРАНДМА́ЙСТАР** (ням. Brandmeister) — начальнік пажарнай каманды горада ў царскай Расіі.

**БРАНДМА́ЎЭР** (ням. Brandmauer) — капітальная глухая вогнетрывалая сцяна, якая ў супрацьпажарных мэтах падзяляе сумежныя пабудовы або часткі аднаго будынка.

**БРАНДСПО́ЙТ** (гал. brandspuit) — 1) пераносная пажарная *помпа*; 2) металічны наканечнік на пажарным рукаве для накіроўвання воднага струменю пры тушэнні пажару.

**БРА́НДЭР** (ням. Brander) — 1) судна, нагружанае выбуховымі або лёгказапальнымі рэчывамі, якое прызначалася даўней для падпальвання непрыяцельскіх суднаў; 2) судна, якое затапляецца пры ўваходзе ў гавань, бухту, каб загарадзіць уваход у яе.

**БРАНЕРЫ́Т** [ад англ. J.Branner = прозвішча амер. геолага (1850—1922)] — мінерал, уранавая, торыевая і іншыя солі тытанавых кіслот; руда урану.

**БРАНЗАВА́ЦЬ** (ад *бронза*) — 1) пакрываць паверхню металічных вырабаў тонкім слоем бронзы; 2) афарбоўваць пад бронзу.

**БРАНЗАЛЕ́Т** (польск. branzoleta, ад фр. bracelet) — упрыгожанне ў выглядзе вялікага кольца з высакародных металаў, слановай косці, якое носяць на руцэ вышэй кісці.

**БРАНЛЬ** (фр. branle = калыханне) — старафранцузскі народны танец, які выконваўся ў павольным тэмпе; папярэднік пазнейшай бальнай формы танца.

**БРАНТАЗА́ЎР** (ад гр. bronte = гром, пярун + *-заўр*) — буйны *дыназаўр* юрскага перыяду з групы *заўраподаў*, які жыў у Паўн. Амерыцы.

**БРАНТАТЭ́РЫЙ** (ад гр. bronte = гром, пярун + -тэрый) — групы буйных млекакормячых атрада няпарнакапытных са своеасаблівымі касцявымі нарасцямі на чэрапе (*тытанатэрый, эмбалатэрый* і інш.), якія жылі ў *палеагене*.

**БРА́НТКА** (польск. brandka, brantka, ад ням. Brandröhre) — брамка ў стрэльбе, *штыфт*, на які надзяецца пістон.

**БРАНТЫ́ДЫ** (ад гр. bronte = гром + eidos = выгляд) — нізкія грома-падобныя гукі, якія часта можна пачуць у раёнах актыўнай сейсмічнай дзейнасці.

**БРАНХАГРА́ФІЯ** (ад *бронхі* + *-графія*) — метад рэнтгеналагічнага даследавання *трахеі* і *бронхаў* пасля ўвядзення ў іх кантраснага рэчыва.

**БРАНХАСКО́П** (ад *бронхі* + *-скоп*) — прыбор для даследавання *трахеі* і бронхаў, які ўводзіцца ў арганізм праз рот і гартань.

**БРАНХІЁЛЫ** (ад *бронхі*) — самыя дробныя разгалінаванні бронхаў.

**БРАНХІ́Т** (н.-лац. bronchitis, ад гр. bronchos = дыхальнае горла) — запаленне *бронхаў* з паражэннем іх слізістай абалонкі.

**БРАНХІЯ́ЛЬНЫ** (ад *бронхі*) — які мае адносіны да бронхаў.

**БРАНХІЯМІКО́З** (ад гр. branchia = жабры + *мікозы*) — грыбковая

хвароба рыб, якая прыводзіць да разбурэння жабраў.

**БРАНХІЯСТЭГІ́Т** (ад гр. branchia = жабры + stege = страха) — парная бакавая складка галавагруднага шчыта ў ракападобных.

**БРАС**[1] (гал. bras) — снасць на марскім судне, якая прымацоўваецца да канцоў *рэі* і служыць для вярчэння яе ў гарызантальнай плоскасці.

**БРАС**[2] (фр. brasse) — стыль плавання на грудзях, пры якім рукі рухаюцца пад вадой.

**БРА́ЎНІНГ** [англ. browning, ад J.Browning = прозвішча амер. канструктара (1855—1926)] — аўтаматычны пісталет асобай сістэмы.

**БРАЎНІ́Т** (ад ням. M.Braun = прозвішча ням. вучонага 19 ст.) — мінерал з групы складаных вокіслаў, які крышталізуецца ў квадратнай сістэме; сустракаецца ў выглядзе суцэльных зярністых агрэгатаў чорнага колеру з матавым бляскам.

**БРАХІ-** (гр. brachys = кароткі) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «кароткі».

**БРАХІАНТЫКЛІНА́ЛЬ** (ад *брахі- + антыкліналь*) — кароткая антыклінальная складка пластоў горных парод.

**БРАХІГО́БІУС** (н.-лац. brachigobius) — рыба атрада акунепадобных, якая пашырана ў трапічных вадаёмах, часцей у саланаватай вадзе вусцяў рэк; на Беларусі гадуецца як акварыумная.

**БРАХІ́КАЛАН** (ад *брахі-* + гр. kolon = радок) — верш або частка верша, напісаная кароткімі радкамі з аднаскладовага слова або слоў, у якіх колькасць складоў не выходзіць за межы адной стапы.

**БРАХІЛЕМІ́ДЫ** (н.-лац. brachilaemidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *трэматодаў*, кішачныя паразіты млекакормячых і птушак.

**БРАХІМО́РФНАСЦЬ** (ад *брахіморфны*) — тып *прапорцый* цела чалавека, які характарызуецца шырокім тулавам і кароткімі канечнасцямі.

**БРАХІМО́РФНЫ** (ад *брахі-* + *-морфны*) — якому ўласціва *брахіморфнасць* (пра тып чалавека).

**БРАХІСІНКЛІНА́ЛЬ** (ад *брахі-* + *сінкліналь*) — кароткая сінклінальная складка пластоў горных парод.

**БРАХІСТАХРО́НА** (ад гр. brachistos = самы кароткі + chronos = час) — *мат.* крывая спуску, па якой цела пад дзеяннем пэўных сіл як найхутчэй пройдзе з верхняга пункта ў ніжні; з'яўляецца *цыклоідай*.

**БРАХІТЭ́ЦЫУМ** (н.-лац. brachythecium) — лістасцябловы мох сям. брахітэцыевых, які расце ў лясах на глебе, гнілой драўніне, камлях дрэў, камянях.

**БРАХІЦЭФА́Л** (ад *брахі-* + *-цэфал*) — *антр.* чалавек з кароткай галавой (параўн. *даліхацэфал, мезацэфал*).

**БРАХІЦЭФА́ЛІЯ** (ад *брахі-* + *-цэфалія*) — *антр.* форма галавы, у якой падоўжанае вымярэнне толькі нязначна перавышае папярочнае; кароткагаловасць (параўн. *даліхацэфалія, мезацэфалія*).

**БРАХІЯЗА́ЎР** (ад гр. brachion = плячо + -заўр) — гіганцкі *дына-*

*заўр* юрскага перыяду з групы *заўраподаў*, меў доўгія пярэднія канечнасці і доўгую шыю.

**БРАХІЯЛЯ́РЫЯ** (лац. brachiolum = ручка, ад гр. brachion = рука) — лічынка некаторых марскіх зорак.

**БРАХІЯПО́ДЫ** (ад гр. brachion = плячо + *-поды*) — тып беспазваночных жывёл; водныя, пераважна марскія прымацаваныя формы; плечаногія.

**БРАХМАНІ́ЗМ** (ад санскр. brāhmana = брахман) — старажытнаіндыйская рэлігія, якая ўзнікла ў 10—9 ст. да н.э. і прызнавала каставасць і веру ў вандраванне душаў.

**БРАХМА́НЫ** (санскр. brāhmana) — першая з чатырох *варн* у Стараж. Індыі, да якой належалі жрацы *брахманізму*.

**БРАШАНТЫ́Т** (ад фр. A.Brochant = прозвішча фр. мінералога 19 ст.) — мінерал класа *сульфатаў*, які трапляецца ў выглядзе крышталічных скарыначак з украпленнямі дробных ігольчатых крышталікаў цёмна-зялёнага колеру і ў выглядзе парашковых мас.

**БРА́ШПІЛЬ** (гал. braadspil) — лябёдка на судне для спуску і падымання якара.

**БРАШУ́РА** (фр. brochure) — невялікая кніжачка з мяккай вокладкай (у міжнароднай практыцы ад 5 да 48 старонак).

**БРАШУРАВА́ЦЬ** (фр. brocher) — співаць або змацоўваць аркушы ў кнізе, *брашуры*, часопісе ў адпаведнасці з нумарацыяй.

**БРО́ВАР** (польск. browar, ад с.-н.-ням. bruwer) — піваварны або вінакурны завод у мінулым.

**БРО́ЙЛЕР** (англ. broiler, ад broil = смажыць, пячы) — кураня ва ўзросце 60 сутак, якое важыць 1,4—1,6 кг.

**БРО́КЕР** (англ. broker) — асоба або *фірма*, якая спецыялізуецца на пасрэдніцкіх біржавых аперацыях за плату ў форме пэўнага працэнта ад сумы здзелкі (параўн. *маклер*).

**БРОМ** (н.-лац. bromum, ад гр. bromos = дрэнны пах) — хімічны элемент з групы *галагенаў*, цёмна-чырвоная едкая вадкасць; выкарыстоўваецца ў медыцыне і фатаграфіі.

**БРОМАТАМЕ́ТРЫЯ** (ад *браматы* + *-метрыя*) — метад колькаснага аналізу, пры якім асноўным *рэагентам* з'яўляецца цітраваны раствор брамату калію.

**БРОМАЦЭТО́Н** (ад *бром* + *ацэтон*) — арганічнае злучэнне, сумесь ацэтону з бромам, бясколерная вадкасць з слёзатачывымі і атрутнымі ўласцівасцямі.

**БРОМІНДЫ́ГА** (ад *бром* + *індыга*) — бромзамешчаны індыга, кубавы фарбавальнік яркіх тонаў ад чырвона-фіялетавага да зеленавата-сіняга колеру; выкарыстоўваецца для фарбавання баваўняных і віскозных тканін.

**БРОМКАМФАРА́** (ад *бром* + *камфара*) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца пры павышанай нервовай узбудлівасці, неўрастэніі, неўрозах сэрца і інш.

**БРО́НЗА** (фр. bronze) — 1) сплаў на аснове медзі, у якім дабаўкамі з'яўляюцца волава, алюміній, берылій, крэмній, свінец, хром і іншыя элементы, за выключэннем цынку і нікелю; 2) мастацкія выра-

бы з такога сплаву; 3) *перан.* колер, падобны да колеру бронзы.

**БРОНЗАГРАФІ́Т** (ад *бронза* + *графіт*) — сіаваты антыфрыкцыйны матэрыял, спечаны на аснове алавяністай бронзы і графіту; выкарыстоўваецца на выраб падшыпнікаў слізгання.

**БРОНХААДЭНІ́Т** (ад *бронхі* + *адэніт*) — запаленне *лімфатычных* вузлоў, што прылягаюць да бронхаў.

**БРОНХАГРА́ФІЯ** (ад *бронхі* + *-графія*) — кантрастны метад даследавання бронхаў.

**БРОНХАПНЕЎМАНІ́Я** (ад *бронхі* + *пнеўманія*) — запаленне лёгкіх з паражэннем дробных бронхаў.

**БРОНХАСКАПІ́Я** (ад *бронхі* + *-скапія*) — метад даследавання трахеі і бронхаў пры дапамозе *бранхаскопа*.

**БРОНХАЭКТА́З** (ад *бронхі* + гр. ektasis = расцяжэнне) — нераўнамернае расшырэнне бронхаў у выніку хранічнага *бранхіту*, запалення лёгкіх і інш.

**БРОНХАЭКТАЗІ́Я** (ад *бронхі* + гр. ektasis = расцяжэнне) — хранічнае захворванне, звязанае з расшырэннем бронхаў.

**БРО́НХІ** (гр. bronchos = горла) — адгалінаванні дыхальнага горла ў лёгкіх.

**БРО́ЎНАЎСКІ** [ад англ. R.Brown = прозвішча англ. батаніка (1773—1858)]; б. р у х — хаатычны рух дробных часцінак, завіслых у вадкасці ці газе; абумоўлены сутыкненнем часцінак з малекуламі навакольнага асяроддзя.

**БРО́ШКА** (фр. broche) — упрыгожанне на шпільцы для прыколвання на жаночай вопратцы.

**БРУ́ДЭР** (англ. brooder, ад brood = выседжваць куранят) — апарат для абагравання выведзеных у інкубатары птушанят свойскіх птушак.

**БРУДЭРА́ЦЫЯ** (ад *брудэр*) — вырошчванне птушынага маладняку ў *брудэргаўзе*.

**БРУДЭРГА́ЎЗ** (ад *брудэр* + англ. house = будынак) — памяшканне для абагравання выведзеных у інкубатары птушанят свойскіх птушак.

**БРУДЭРША́ФТ** (ням. Brüderschaft = братэрства); п і ц ь н а б. — замацоўваць сяброўства па застольнаму звычаю, паводле якога двое ўдзельнікаў адначасова п'юць свае чаркі, цалуюцца і пераходзяць на «ты».

**БРУК** (польск. bruk, ад ням. Brucke) — вымашчаная камянямі дарога, вуліца.

**БРУКІ́Т** [ад англ. K.Brooke = прозвішча англ. мінералога (1771—1857)] — мінерал класа вокіслаў і гідравокіслаў жоўтага, бурага або чорнага колеру, які з'яўляецца сыравінай для атрымання *ферытытану*.

**БРУЛЬЁН** (фр. brouillon = *літар.* чарнавік) — першы накід чарцяжа або малюнка.

**БРУ́МЕР** (фр. brumaire, ад brume = густая імгла) — другі месяц года (з 22—24 кастрычніка да 20—22 лістапада) паводле французскага рэспубліканскага календара, які дзейнічаў у 1793—1805 гг.

# Б

**БРУНЕ́РА** (н.-лац. brunera) — травяністая расліна сям. бурачнікавых з аблісцелым сцяблом і блакітнымі кветкамі, пашыраная на Каўказе, у Сібіры і Іране; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**БРУНЕ́Т** (фр. brunet) — мужчына з цёмнымі або чорнымі валасамі.

**БРУНФЕ́ЛЬЗІЯ** (н.-лац. brunfelsia) — вечназялёная кустовая расліна сям. паслёнавых з буйнымі блакітнымі кветкамі, пашыраная ў Бразіліі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**БРУНХО́РСТЫЯ** (н.-лац. brunchorstia) — недасканалы грыб сям. танкастромавых, якія развіваецца на ігліцы і парастках хвойных дрэў.

**БРУНЭ́ЛЬКА** (польск. brunelka, ад лац. prunella) — травяністая расліна сям. ясноткавых з прадаўгаватым чаранковым лісцем і цёмна-сінімі або фіялетавымі кветкамі ў суквеццях, якая расце на незабалочаных лугах, у лясах, па берагах рэк, каля жылля; чарнагалоў.

**БРУСАНЕ́ТЫЯ** (н.-лац. broussonetia) — дрэвавая або кустовая расліна сям. тутавых, пашыраная ва Усх. Азіі і Палінезіі; з кары асобных відаў выпрабляецца папера, некаторыя віды вырошчваюцца як дэкаратыўныя.

**БРУСІ́Т** [ад англ. A.Bruce = прозвішча амер. мінералога (памёр у 1818 г.)] — мінерал класа вокіслаў і гідравокіслаў белага або зеленаватага колеру, празрысты; з'яўляецца сыравінай для атрымання *магнію*.

**БРУ́СТВЕР** (ням. Brustwehr = *літар.* абарона грудзей) — земляны насып па краі акопа, прызначаны для аховы салдат і гармат ад варожага агню.

**БРУ́ТА** (іт. brutto = грубы) — вага тавару з *тарай* 2; ц а н а б. — цана тавару без скідак; д а х о д б. — валавы даход без выліку расходаў (параўн. *нета*).

**БРУТАЛІ́ЗМ** (ад англ. brutal = грубы) — кірунак у *архітэктуры*, прадстаўнікі якога імкнуцца падкрэсліць важкасць архітэктурных формаў.

**БРУТА́ЛЬНЫ** (лац. brutalis) — грубы, жорсткі.

**БРУЦЭЛЁЗ** (ад *бруцэлы*) — інфекцыйна-алергічная хвароба чалавека і жывёл, якая выклікаецца *бруцэламі*.

**БРУЦЭ́ЛЫ** [н.-лац. brucella, ад англ. D.Bruce = прозвішча англ. бактэрыёлага (1855—1931)] — род дробных шара- або палачкападобных бактэрый, якія выклікаюць *бруцэлёз*.

**БРЫГ** (англ. brig, ад іт. brigantino = брыганціна) — *марское* двухмачтавае ваеннае ці гандлёвае парусное судна 18—19 ст.

**БРЫГА́ДА** (фр. brigade, ад іт. brigata = таварыства) — 1) вайсковае злучэнне з некалькіх батальёнаў (дывізіёнаў) або палкоў; 2) тактычнае злучэнне некалькіх аднатыпных ваенных караблёў пад камандаваннем аднаго *флагмана* 2; 3) група работнікаў, якая сумесна выконвае вытворчае заданне (напр. будаўнічая б., паляводчая б.).

**БРЫГАДЗІ́Р** (ням. Brigadier, ад фр. brigadier) — 1) кіраўнік вытворчай *брыгады*; 2) унтэр-афіцэр у некаторых родах войск, а таксама ў жандармерыі Францыі; 3) ваенны чын у Расіі ў 18 ст., сярэдні паміж палкоўнікам і генералам.

**БРЫГАДЭНФЮ́РЭР** (ням. Brigadenführer) — званне ў СС у фашысцкай Германіі, якое адпавядала званню генерал-маёра.

**БРЫГАНЦІ́НА** (фр. brigantine, ад іт. brigantino) — невялікі *брыг*, ваенны або пірацкі.

**БРЫДЖ** (англ. bridge) — карцёжная гульня.

**БРЫДЖДЭ́К** (англ. bridge-deck, ад bridge = мосцік + deck = палуба) — верхняя палуба грамадзянскіх суднаў, дзе размешчаны штурманская і рулявая рубкі.

**БРЫ́ДЖЫ** (англ. breeches) — штаны асобага крою, вузкія ўніз ад калена, прызначаныя для верхавой язды.

**БРЫ́ДЭЛЬ** (англ. bridle = аброць) — ланцуг для ўтрымання судна на рэйдзе, прымацаваны адным канцом да якара, а другім да плывучай бочкі.

**БРЫ́ДЭР** (англ. breeder = *літар.* вытворца) — разнавіднасць рэактара-размнажальніка.

**БРЫЁНІЯ** (н.-лац. bryonia, ад гр. bryonia) — травяністая расліна сям. гарбузовых з паўзучымі сцёбламі і зеленавата-жоўтымі кветкамі, пашыраная ў Еўразіі і Афрыцы; пярэступ.

**БРЫЁПСІДЫ** (н.-лац. bryopsida) — клас споравых раслін аддзела мохападобных, які ўключае 14 тысяч відаў сфагнавых, андрэевых і брыевых імхоў; ліcтасцябловыя імхі.

**БРЫЁШ** (фр. brioche) — здобная булачка пэўнай формы.

**БРЫЖЫ́** (польск. bryże, ад ст.-в.-ням. brize) — зборкі, складкі ў форме веера.

**БРЫЖЭ́ЙКА** (ад *брыжы*) — складка брушыны, якой унутрыбрушныя органы прымацоўваюцца да задняй сценкі брушной поласці.

**БРЫЗ** (фр. brise) — вецер, які днём дзьме з воднай паверхні на сушу, а ноччу — з сушы на водную паверхню; на Беларусі адзначаецца на многіх азёрах і вадасховішчах.

**БРЫЗА́НТНЫ** (фр. brisant = які драбіць) — разрыўны, здольны драбіць прадметы пры выбуху (напр. б. снарад).

**БРЫЗЕ́НТ** (рус. брезент, ад гал. presenning) — тоўстая непрамакальная парусіна; выкарыстоўваецца для вырабу палатак, чахлоў, тэнтаў і інш.

**БРЫЗІНГІ́ДЫ** (н.-лац. brisingidae) — сямейства глыбакаводных марскіх зорак.

**БРЫІ́ДЫ** (н.-лац. bryidae, ад гр. bryon = мох) — падклас ліcтасцябловых імхоў; пашыраны па ўсім зямным шары; уплываюць на ўзнаўленне і стан дрэвастою, хмызнякоў, травяністых раслін, садзейнічаюць торфаўтварэнню; брыевыя імхі.

**БРЫКЕ́Т** (фр. briquette, ад brique = цагліна) — спрасаваны ў выглядзе цагліны, пліткі дробны матэрыял (напр. тарфяны б.).

**БРЫЛЬ** (польск. bryl, ад іт. ombrello = парасон) — 1) казырок

летняй шапкі; 2) капялюш (з палямі).

**БРЫЛЬЯ́НТ** (фр. briliant = *літар.* бліскучы) — штучна агранёны і адшліфаваны *алмаз*.

**БРЫЛЬЯНЦІ́Н** (фр. brillantine) — касметычны сродак для валасоў, які надае ім бляск.

**БРЫ́НДЫЗІ** (іт. brindisi) — застольная песня ў італьянскай *оперы*.

**БРЫ́НЗА** (ад рум. brinză) — сыр з авечага малака.

**БРЫ́СТАЛЬ** (англ. Bristol = назва англ. горада) — *кардон*, атрыманы склейваннем аркушаў паперы высокіх гатункаў.

**БРЫТАЛІ́Т** (ад гр. brithys = цяжкі + *-літ*) — мінерал класа *сілікатаў*, афарбаваны нераўнамерна, часта занальна, ад блакітна-шэрага да чырвона-бурага колеру, бывае жоўты.

**БРЫ́УМ** (н.-лац. bryum) — лістасцябловы мох сям. брыевых, расце на палях, каля дарог, па берагах рэк, адхонах канаў, на стрэхах, камянях, сценах.

**БРЫ́ФІНГ** (англ. briefing = інструктаж) — кароткая нарада прадстаўнікоў друку, на якой спецыяльна ўпаўнаважанымі асобамі паведамляецца пазіцыя ўрада па пэўным пытанні.

**БРЫ́ЧКА** (польск. bryczka < ням. Birutsche, ад лац. birota = двухколка) — лёгкі выязны вазок з верхам, плеценым з лазы або абцягнутым скурай.

**БРЫЯЛО́ГІЯ** (ад гр. bryon = мох + *-логія*) — раздзел *батанікі*, які вывучае мохападобныя расліны.

**БРЫЯЭРЫТРАФІ́ЛУМ** (н.-лац. bryoerythrophyllum) — лістасцябловы мох сям. трыхастомавых, які трапляецца на глебе і камянях у лясах.

**БРЭ́ВЕ** [лац. breve = кароткае (пісьмо)] — кароткае пасланне рымскага папы з распараджэннем па другарадных царкоўных пытаннях.

**БРЭГЕ́Т** [фр. A.Bréguet = прозвішча фр. гадзіннікавага майстра (1747—1823)] — гадзіннік асобай канструкцыі, які адбіваў гадзіны і долі гадзін і паказваў лічбы месяца.

**БРЭЙД-ВЫ́МПЕЛ** (гал. breedwimpel) — ваенна-марскі *флаг* паменшанага памеру, які ўзнімаецца на *грот-мачце*, калі на караблі прысутнічае камандзір злучэння.

**БРЭЙДЛЕ́РЫЯ** (н.-лац. breidleria) — лістасцябловы мох сям. гіпнавых, які расце на вільготных лугах, балотах, на глебе ў лясах.

**БРЭЙН-ДРЭ́ЙН** (англ. brain-drain, ад brain = мозг + drain = уцечка) — адток спецыялістаў, вучоных, інтэлектуалаў з краін, дзе адносна нізкі ўзровень жыцця, у краіны з больш высокім узроўнем; «уцечка мазгоў».

**БРЭЙН-РЫ́НГ** (ад англ. brain = мозг + ring = арэна барацьбы) — тэлевізійная гульня-спаборніцтва, пераможцам у якой становіцца той чалавек або каманда, якія выяўляюць больш шырокую эрудыцыю і хуткасць рэакцыі ў адказах на пытанні вядучага.

**БРЭЙНШТО́РМ** (англ. brainstorm = бліскучая ідэя) — метад прапановы творчых ідэй у працэсе рас-

працоўкі навуковай або тэхнічнай праблемы.

**БРЭКВА́ТЭР** (англ. breakwater, ад break = разбіваць + water = вада) — каменная загарода для абароны марской гавані ад хваль; хвалярэз.

**БРЭ́КЧЫЯ** (іт. breccia) — сцэментаваная абломкавая горная парода (вулканічная, тэктанічная або асадачная).

**БРЭЛО́К** (фр. breloque) — упрыгожанне, падвеска на ланцужку кішэннага гадзінніка, бранзалета і інш.; бірулька.

**БРЭ́МІЯ** (н.-лац. bremia) — ніжэйшы грыб сям. пераноспоравых, які развіваецца на многіх раслінах сям. складанакветных.

**БРЭ́МСБЕРГ** (ням. Bremsberg, ад Bremse = тормаз + Berg = гара) — падземная нахільная горная выработка з прыстасаваннямі для спуску ў ваганетках або канвеерам карысных выкапняў на размешчаны ніжэй гарызонт *шахты*.

**БРЭ́НЗЛІ** гл. *фрэнзлі*.

**БРЭЦЁР** (фр. bretteur, ад brette = шпага) — *уст.* чалавек, які шукае прычыну, каб змагацца на дуэлі; дуэлянт, скандаліст.

**БРЭШ** (фр. brèche) — 1) пралом у сцяне, корпусе карабля, зроблены снарадам, мінай і інш.; 2) разрыў, парушэнне цэласнасці чаго-н.; 3) *перан.* страта (напр. б. у бюджэце).

**БУБО́Н** (гр. bubon = пахвіна) — запаленне лімфатычных вузлоў, пераважна пахвінных і шыйных.

**БУВА́РДЫЯ** (н.-лац. bouvardia) — кустовая або травяністая расліна сям. марэнавых з цэласным супраціўным лісцем, пашыраная пераважна ў Мексіцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**БУГА́Й** (тур. buga) — 1) самец буйной рагатай жывёлы, бык; 2) начная балотная птушка сям. чаплевых, самец якой вясной, апусціўшы дзюбу ў ваду, утварае гукі, падобныя да рову быка (народныя назвы: вадзяны бык, гібейла, бухала).

**БУ́ГЕЛЬ** (ням. Bügel = дуга) — 1) жалезнае кольца, надзетае на верхні канец палі для засцярогі яе ад разбурэння пры забіванні; 2) металічнае кольца на мачце карабля для мацавання снасцей; 3) частка токапрыёмніка ў трамваі, тралейбусе, электрапоездзе, якая слізгае па кантактным провадзе.

**БУ́ГІ-ВУ́ГІ** (англ. boogie-woogie) — 1) стыль джазавай музыкі; 2) амерыканскі парны бальны танец свабоднай кампазіцыі, эмацыянальна напружаны па характару, з умерана хуткім тэмпам; узнік у канцы 30-х гг. 20 ст.

**БУГЛАСО́ІД** (н.-лац. buglossoides) — травяністая расліна сям. бурачнікавых з шэра-зялёным лісцем і дробнымі белаватымі кветкамі, пашыраная ў розных кліматычных зонах; пустазелле.

**БУ́ДА**[1] (польск. buda, ад с.-в.-ням. būde, buode) — 1) верх, пакрыццё брычкі, карэты; 2) крытая дарожная павозка; 3) шалаш, будан; 3) прадпрыемства са спецыяльна абсталяванай печчу для смалакурэння, гонкі дзёгцю, выпальвання драўніннага вугалю, вытворчасці попелу, паташу; былі пашыраны ў Вялікім княстве Літоўскім.

# Б

**БУ́ДА**[2] (санскр. Buddcha = імя легендарнага заснавальніка *будызму* Сідхартхі Гаутамы) — істота, якая паводле будыйскай рэлігіі дасягнула найвышэйшай дасканаласці.

**БУДАВА́ЦЬ** (польск. budować, ад с.-в.-ням. būden) — 1) ставіць, мураваць, рубіць дом, узводзіць будынак; рабіць, майстраваць, ляпіць (гняздо); 2) выраблянь, выпускаць (машыны, механізмы); 3) *перан.* ствараць, тварыць; 4) вычэрчваць геаметрычную фігуру (напр. б. квадрат).

**БУДЗІ́РАВАЦЬ** (фр. bouder) — *уст.* выяўляць незадаволенасць, злавацца.

**БУДЛЕ́Я** (н.-лац. buddleia) — кустовая расліна сям. будлеевых з ланцэтным лісцем і ліловымі або фіялетавымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная ў тропіках і субтропіках; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**БУДУА́Р** (фр. boudoir, ад bouder = злавацца) — маленькая гасціная багатай жанчыны для прыёму найбольш блізкіх знаёмых.

**БУДЫ́ЗМ** (фр. bouddhisme, ад санскр. Buddcha = імя легендарнага заснавальніка гэтай рэлігіі Сідхартхі Гаутамы) — адна з сусветных рэлігій (нараўне з *хрысціянствам* і *ісламам*), якая ўзнікла ў 6 ст. да н.э. у Індыі і пашырылася ў Тыбеце, Манголіі, Індакітаі, Кітаі, Бірме, Японіі.

**БУДЫ́НАК** (польск. budynek, ад с.-в.-ням. būding) — жылое, гаспадарчае або адміністрацыйнае збудаванне.

**БУДЫ́СТ** (ад *будызм*) — паслядоўнік будызму.

**БУ́ЕР** (гал. boeier) — 1) спецыяльная лёгкая лодка на каньках з рулём і парусам для катання па лёдзе; 2) *уст.* невялікае аднамачтавае пласкадоннае паруснае судна для ўстаноўкі буёў і швартоўных бочак.

**БУЕРЫ́СТ** (ад *буер*) — спартсмен, які займаецца буерным спортам.

**БУЖ** (фр. bougie) — медыцынскі інструмент у выглядзе металічнага стрыжня або гумавай трубкі для даследавання трубчастых органаў чалавека.

**БУЗА́** (тур. buzä, ад перс. būzä) — 1) лёгкае хмельнае піцво з проса, грэчкі, ячменю, пашыранае галоўным чынам у Крыме і на Каўказе; 2) рэшткі вадкасці, падонкі; 3) адклады на дне вадаёмаў (рэк, сажалак, азёр) з найдрабнейшых часцінак мінеральных і арганічных рэчываў.

**БУЙ** (гал. boei) — плывучы знак (паплавок) на рацэ, на возеры, у бухце для абазначэння мелі, небяспечных месцаў, падводных камянёў і інш.

**БУ́ЙРЭП** (гал. boeireep) — трос, які ўтрымлівае *буй* на якары.

**БУКАНЬЕ́РЫ** (фр. boucaniers < ісп. bucaneros, ад buque = карабель) — тое, што і *флібусцьеры*.

**БУ́КЕР** (англ. bucker) — шматкорпусны плуг для паверхневай апрацоўкі глебы.

**БУКЕ́Т** (фр. bouquet) — 1) прыгожа складзеныя ў пучок кветкі; 2) сукупнасць пахавых і смакавых уласцівасцей чаго-н. (напр. б. чаю, б. віна).

**БУКІНІ́СТ** (фр. bouquiniste, ад bouquin = старадаўняя кніга) — спецыяліст кніжнага гандлю, які займаецца купляй і продажам твораў друку, што былі ў карыстанні.

**БУКЛЕ́** (фр. boucle) — гладзевая тканіна з няроўнай вузлаватай паверхняй, якая выкарыстоўваецца ў асноўным для шыцця жаночых паліто і касцюмаў.

**БУКЛЕ́Т** (фр. bouclette = кольца) — рэкламнае, даведачнае або дзіцячае выданне, надрукаванае на адным аркушы паперы і складзенае ў выглядзе гармоніка.

**БУ́КЛІ** (фр. boucles) — *уст.* завітыя кольцамі пасмы валасоў, локаны.

**БУКМЕ́КЕР** (англ. book-maker, ад book = запісваць + maker = агент) — асоба, якая збірае і запісвае грашовыя стаўкі на конных скачках.

**БУКО́ЛІКА** (гр. bukolikos = пастаральны, вясковы) — жанр антычнай паэзіі, якая паказвала побыт пастухоў, ідэалізавала вясковае жыццё; разнавіднасці буколікі — *ідылія, пастараль, эклога.*

**БУКС** (лац. buxus) — тое, што і *самшыт.*

**БУ́КСА** (ням. Büchse) — металічная каробка з падшыпнікам, які перадае ціск вагона, паравоза на вось кола.

**БУКСАВА́ЦЬ** (польск. buksować, ад ням. bugsieren) — круціцца, слізгаючы і не рухаючыся з месца (пра колы аўтамашыны, паравоза).

**БУКСБА́УМІЯ** (н.-лац. buxbaumia) — лістасцябловы мох сям. буксбауміевых, які трапляецца пераважна ў светлых хваёвых лясах.

**БУКСІ́Р** (рус. буксир, ад гал. boegseeren = цягнуць) — 1) трос, пры дапамозе якога адно судна можа цягнуць другое або машына машыну; 2) судна, прызначанае для перацягвання несамаходных суднаў, плытоў; у з я ц ь  н а  б. — аказаць дапамогу ў выкананні чаго-н.

**БУКСІ́РАВАЦЬ** (рус. буксировать, ад гал. boegseeren) — цягнуць за сабой на тросе судна, плыт, аўтамашыну і інш.

**БУКЦЫ́НУМ** (лац. buccinum) — *малюск* класа бруханогіх, які жыве пераважна ў халодных і ўмераных водах.

**БУ́ЛА** (лац. bulla = шарык) — віслая металічная пячатка, якая ў сярэдневякоўі змацоўвала папскі, імператарскі, каралеўскі, княжацкі дакумент, а таксама назва адпаведнага дакумента.

**БУЛАНЖЫ́ЗМ** [ад фр. G.Boulanger = прозвішча фр. генерала (1837—1891)] — шавіністычны рух у Францыі ў канцы 80-х гадоў 19 ст., накіраваны на ўстанаўленне ваеннай дыктатуры.

**БУЛАНЖЭРЫ́Т** [фр. boulangerite, ад S.Boulanger = прозвішча фр. мінералога (памёр у 1849 г.)] — мінерал класа складаных сульфідаў з металічным бляскам; руда свінцу.

**БУЛА́НЫ** (цюрк. bulan) — светла-жоўты з чорнай грывай і чорным хвастом (пра масць коней).

**БУЛА́Т** (цюрк. bulat, ад перс. pūlād = сталь) — 1) вугляродзістая сталь, якая вызначаецца высокай цвёрдасцю, пругкасцю, вязкасцю, зносастойкасцю, своеасаблівай

структурай і ўзорыстасцю паверхні; 2) *гіст.* клінок (меч, шабля, кінжал) з такой сталі.

**БУЛГА́РЫЯ** (н.-лац. bulgaria) — сумчаты грыб сям. гелоцыевых, які развіваецца на адмерлых ствалах дуба.

**БУЛЕ́** (гр. bule = рада) — дзяржаўная рада ў старажытных Афінах і іншых старажытнагрэчаскіх гарадах-полісах.

**БУЛЕНГРЫ́Н** (англ. bowling-green = паляна для гульняў у шары) — рэгулярны ўчастак парку, заняты *газонам*, разнавіднасць *партэра* 2.

**БУЛЁН** (фр. bouillon) — 1) бульбяны суп, заскварaны салам з цыбуляй; 2) нічым не запраўлены мясны адвар.

**БУЛІМІ́Я** (гр. bulimia) — няўтольны голад, які суправаджаецца слабасцю, болем у падлыжачнай вобласці; назіраецца пры эндакрынных і некаторых іншых хваробах.

**БУЛІ́Т** (англ. bullet = куля) — штрафны ўдар з ходу па варотах праціўніка пры гульні ў хакей з шайбай.

**БУ́ЛКА** (польск. bułka, ад іт. boule = круглы хлеб) — 1) невялікі хлеб з пшанічнай мукі; белы хлеб; 2) тое, што і *бохан*.

**БУЛЬ** [фр. A.Boulle = прозвішча прыдворнага фр. сталяра (1642—1732)] — стыль французскай мэблі 17—18 ст., які вызначаўся прастатой формы і наяўнасцю інкрустацыі з іншых гатункаў дрэва, медзі, бронзы, слановай косці.

**БУ́ЛЬБА** (польск. bulba, ад ням. Bolle = клубень, цыбуліна або лац. bulbus = цыбуліна) — 1) агародная расліна сям. паслёнавых; 2) падземныя клубні гэтай расліны, якія выкарыстоўваюцца як харч, корм і сыравіна.

**БУЛЬБАХЕ́ТЭ** (н.-лац. bulbochaete) — ніткаватая зялёная водарасць сям. эдагоніевых, пераважна *эпіфіт* на іншых водарасцях і водных раслінах.

**БУЛЬВА́Р** (фр. boulevard = першапачаткова гарадскі вал) — шырокая, абсаджаная дрэвамі *алея* пасярэдзіне вуліцы, уздоўж берага мора і г.д.

**БУЛЬВА́РНЫ** (ад *бульвар*) — 1) які мае адносіны да бульвара; 2) *перан.* разлічаны на абывацельскі, мяшчанскі густ, пошлы (напр. б-ая літаратура, б-ая прэса).

**БУЛЬДЗЕНЕ́Ж** (фр. boule de neige = *літар.* камяк снегу) — садовая форма каліны звычайнай, суквецці якой нагадваюць снегавыя шары.

**БУЛЬДО́Г** (англ. bulldog, ад bull = бык + dog = сабака) — парода сабак з тоўстай тупой мордай, шырокімі грудзямі і кароткімі лапамі (напр. англійскі б.).

**БУЛЬДО́ЗЕР** (англ. bulldozer) — 1) землярыйна-транспартная машына (трактар або цягач) з адвалам, прызначаная для зразання, перасоўвання і разраўноўвання грунту; 2) гарызантальны прэс для гнуцця ў штампах сартавога і паласавога пракату.

**БУЛЬТЭР'Е́Р** [ад *буль(дог)* + *тэр'ер*] — парода свойскіх сабак гарманічнага целаскладу, выведзеная ў Вялікабрытаніі скрыжаваннем англійскага бульдога з тэр'ерам.

**БУМ**[1] (англ. boom) — 1) паскораны рост вытворчасці, цэн і іншых эканамічных паказчыкаў; 2) *перан.* штучна ўзнятая шуміха вакол чаго-н. (напр. газетны б.).

**БУМ**[2] (шв. bom = брус) — гімнастычны снарад для практыкаванняў у раўнавазе ў выглядзе гарызантальнага бруса на дзвюх стойках; бервяно.

**БУМЕРА́НГ** (англ. boomerang, ад аўстрал. boomerang) — кідальная зброя аўстралійцаў у форме серпавіднай завостранай палкі, якая ў выпадку промаху вяртаецца да кідальніка.

**БУМІЛЕРЫЁПСІС** (н.-лац. bumilleriopsis) — аднаклетачная жоўта-зялёная водарасць сям. сцыядавых, якая трапляецца ў глебах.

**БУМІЛЕ́РЫЯ** (н.-лац. bumilleria) — ніткаватая жоўта-зялёная водарасць сям. гетэротрыксавых, якая трапляецца ў глебах, азёрах.

**БУ́НА** (ням. Buhne = перамычка) — *дамба*, высунутая ад берага ў бок мора або ракі для аховы берага або гідратэхнічнага збудавання ад размывання.

**БУ́НГАЛА** (англ. bungalow, ад інд. bangla) — лёгкая загарадная пабудова з *верандамі* ў трапічных краінах, пераважна ў Індыі, Малайі.

**БУНД** (ідыш Bund = саюз) — сацыял-дэмакратычная арганізацыя «Усеагульны яўрэйскі рабочы саюз у Літве, Польшчы і Расіі» (1897—1921); аб'ядноўвала яўрэйскіх рамеснікаў Літвы, Беларусі, Польшчы.

**БУНДЭСБА́НК** (ням. Bundesbank) — афіцыйная назва цэнтральнага *эмісійнага* банка ў Германіі (параўн. *рэйхсбанк*).

**БУНДЭСВЕ́Р** (ням. Bundeswehr, ад Bund = саюз + Wehr = абарона) — узброеныя сілы Германіі (параўн. *вермахт, рэйхсвер*).

**БУНДЭСГЕРЫ́ХТ** (ням. Bundesgericht) — федэральны суд у Германіі.

**БУНДЭСРА́Т** (ням. Bundesrat, ад Bund = саюз + Rat = рада) — верхняя палата парламента ў Германіі.

**БУНДЭСТА́Г** (ням. Bundestag, ад Bund = саюз + Tag = дзень) — ніжняя палата парламента ў Германіі.

**БУ́НКЕР** (ням. Bunker, ад англ. bunker) — 1) спецыяльна абсталяваная скрыня для часовага трымання сыпкіх рэчываў, матэрыялаў (напр. б. камбайна); 2) жалезабетоннае падземнае сховішча, умацаванне; 3) памяшканне на судне, дзе захоўваецца цвёрдае паліва.

**БУНТ** (польск. bunt, ад ням. Bund = звязак) — 1) стыхійнае паўстанне, мяцеж; 2) *перан.* пратэст, абурэнне; 3) *уст.* звязак, кіпа; стос.

**БУНТАВА́ЦЬ** (польск. buntować, ад ням. Bund = звязак) — 1) падымаць бунт, удзельнічаць у бунце; 2) *перан.* выказваць крайнюю незадаволенасць, пратэставаць.

**БУНЧУ́К** (кр.-тат. bunčuk) — 1) доўгае дрэўка з шарам або завостраным верхнім канцом, з пасмамі конскіх валасоў і кутасамі наверсе як сімвал улады ўкраінскіх і польскіх гетманаў, казацкіх атаманаў у 16—18 ст.; 2) шумны музычны інструмент у некаторых ваенных аркестрах, упрыгожаны конскім хвастом.

**БУР** (ням. Bohrer) — інструмент для свідравання шчылін у грунце, горнай пародзе.

**БУРА́КС** (с.-лац. borax, ад ар. būrag) — борнакіслы *натрый*, бясколернае рэчыва ў выглядзе крышталікаў, якія лёгка раствараюцца ў вадзе; выкарыстоўваецца ў медыцыне, тэхніцы і сельскай гаспадарцы.

**БУРА́Н** (цюрк. buran) — моцная бура, завея, завіруха.

**БУРА́Т** (іт. buratto = сіта) — машына з сітам для прасейвання сыпкіх матэрыялаў (рэчываў); выкарыстоўваецца ў мукамольнай, хлебапякарнай, керамічнай прамысловасці.

**БУРБО́Н** (фр. Bourbon = прадстаўнік каралеўскай дынастыі Бурбонаў) — грубы, недасведчаны, уладны чалавек.

**БУРГ** (ням. Burg) — умацаваны замак у Зах. Еўропе перыяду сярэдневякоўя.

**БУРГАМІ́СТР** (с.-в.-ням. bürgemeister) — 1) выбарная асоба, якая ўзначальвала мясцовае самакіраванне ў сярэдневяковых гарадах, дзе дзейнічала магдэбургскае права, у т. л. і ў гарадах Вялікага княства Літоўскага; 2) кіраўнік гарадской управы ў некаторых краінах Зах. Еўропы (Германіі, Бельгіі і інш.).

**БУРГГРА́Ф** (ням. Burggraf) — кіраўнік горада ў сярэдневяковай Германіі.

**БУРДА́** (тат. burda = мутны напітак) — дрэнна прыгатаванае, нясмачнае пітво або рэдкая (вадкая) ежа; баланда.

**БУРДЗЮ́К** (цюрк. burduk) — скураны мяшок для захоўвання вады, віна, кумысу ў некаторых народаў Усходу, Каўказа, Сярэд. Азіі і Сібіры.

**БУРДО́Н** (фр. bourdon = *літар.* густы бас) — 1) бесперапынны, нязменны па вышыні гук адкрытых струн шчыпковых і смычковых музычных інструментаў; 2) размешчаныя па-за *грыфам* адкрытыя струны шчыпковых і смычковых музычных інструментаў; 3) басавы *рэгістр* аргана.

**БУРЖУА́** (фр. bourgeois) — прадстаўнік класа *буржуазіі*.

**БУРЖУАЗІ́Я** (фр. bourgeoisie, ад лац. burgus = умацаваны горад) — 1) саслоўе гараджан у феадальным грамадстве; 2) пануючы клас капіталістычнага грамадства, які валодае сродкамі вытворчасці.

**БУ́РКА** (цюрк. bür, bürk = маршчыніцца, закрывацца) — 1) шырокая і доўгая вопратка з даматканага сукна з башлыком, якая надзяваецца паверх кажуха; 2) накідка з тонкага лямцу, якой карыстаюцца коннікі на Каўказе.

**БУРЛА́К** (рус. бурлак) — наёмны рабочы, які даўней уваходзіў у арцель, што перамяшчала рачныя судны ўручную пры дапамозе канатаў і вёслаў; у 17—19 ст. бурлацтва на Беларусі было самастойным і адыходным промыслам.

**БУРЛЕ́СКА** (фр. burlesque, ад іт. burlesco = жартаўлівы) — 1) жанр камічнай, парадыйнай паэзіі; 2) музыкальная п'еса жартоўнага, часам грубавата-камічнага або вычварнага, капрызнага характару, звычайна вытрыманая ў хуткім тэмпе.

**БУРМІ́СТР** (польск. burmistrz, ад ням. Bürgermeister) — 1) тое, што і *бургамістр*1; 2) стараста, прызначаны памешчыкам, у часы прыгону.

**БУРНАНІ́Т** [ад фр. J.Bournon = прозвішча фр. мінералога (1751—1825)] — мінерал падкласа складаных сульфідаў бледна-шэрага колеру або бясколерны; руда свінцу, медзі, сурмы.

**БУРНО́С** (фр. bournous, ад ар. burnus = шырокі плашч) — 1) доўгі ваўняны плашч арабаў белага колеру з капюшонам; 2) даўгаполая з шырокімі рукавамі вопратка беларускіх жанчын з саматканага сукна, якую апраналі ў халоднае надвор'е як святочную замест світкі ці кажуха.

**БУ́РСА** (с.-лац. bursa = сумка) — 1) інтэрнат для бедных студэнтаў пры сярэдневяковых універсітэтах, а таксама мужчынскае духоўнае вучылішча з інтэрнатам у царскай Расіі; 2) *анат.* слізістая сумка.

**БУРСА́РЫЯ** (н.-лац. bursaria) — прасцейшае атрада рознараснічных *інфузорый*; пашырана ў *планктоне* і глеі невялікіх чыстых прэснаводных вадаёмаў.

**БУРСІ́Т** (ад *бурса* 2) — запаленне слізістых сумак суставаў.

**БУРТ** (польск. burt, ад ням. Bord = край, борт) — доўгі капец бульбы, агародніны, сіласу і інш.

**БУРУНДУ́К** (тат. burunduk) — маленькі паласаты, падобны на вавёрку грызун, які жыве ў норах.

**БУРХА́Н** (манг. burchan) — будыйскі ідал у веруючых манголаў, буратаў і калмыкаў.

**БУРШ** (ням. Bursch) — студэнт-старшакурснік у Германіі, які належыць да адной са студэнцкіх *карпарацый* 1.

**БУРШТЫ́Н** (польск. bursztyn, ад с.-н.-ням. bornstēn) — выкапнёвая акамянелая празрыстая смала хвойных дрэў жоўтага або карычневага колеру розных адценняў; ужываецца для вырабу аздоб.

**БУ́РЫ** (цюрк. bur, ад перс. bōr) — шаравата-карычневы.

**БУРЫМЕ́** (фр. bouts rimés = рыфмаваныя заканчэнні) — верш на зададзеныя рыфмы.

**БУРЭ́** (фр. bourrée) — старадаўні французскі імклівы народны *танец*, які ў 18 ст. стаў адным з папулярных еўрапейскіх танцаў.

**БУРЭ́Т** (фр. bourrette, ад bourrer = набіваць) — кароткія шаўковыя валокны, якія выкарыстоўваюць для атрымання нізкасортных ніток.

**БУСА́К** (польск. bosak, ад ням. Bootshacken) — доўгі шост з металічным вастрыём і круком на канцы; багор.

**БУСІДО́** (яп. busido = шлях воіна) — кодэкс паводзін *самураяў* у сярэдневяковай Японіі.

**БУСО́ЛЬ** (фр. boussole, ад іт. bussola = компас) — 1) геадэзічны інструмент для вымярэння гарызантальных вуглоў на мясцовасці; 2) артылерыйскі прыбор, які ўяўляе сабой спалучэнне компаса з вугламерным кругам і аптычным прыборам.

**БУСТРАФЕДО́Н** (гр. bustrophedon, ад bus = бык + strepho = паварочваю) — спосаб пісьма, пры якім парныя радкі пісалі справа

налева, а няпарныя злева направа; выкарыстоўваўся ў крыцкім, хецкім, паўднёвааравійскім, этрускім і грэчаскім пісьме.

**БУ́СТЭР** (англ. booster, ад boost = падвышаць) — прыстасаванне для павелічэння магутнасці або хуткасці машыны, механізма ў момант асабліва вялікіх нагрузак (напр. стартавы паскаральнік у ракетнай тэхніцы).

**БУТА́ДА** (фр. boutade) — 1) *уст.* дзівацтва, выхадка; 2) інструментальная *фантазія*.

**БУТАДЫЕ́Н** (ад *бутан*) — арганічнае злучэнне, ненасычаны вуглевадарод аліфатычнага рада, бясколерны газ з характэрным пахам, які атрымліваюць з этылавага спірту, *бутану, бутылену*; выкарыстоўваецца для атрымання сінтэтычнага каўчуку.

**БУТА́Н** (гр. boutyron = масла, тлушч) — арганічнае злучэнне, насычаны вуглевадарод аліфатычнага рада, газ без колеру і паху, які змяшчаецца ў прыродных газах і прадуктах нафтавай перапрацоўкі; выкарыстоўваецца як паліва і для атрымання *бутадыену*.

**БУТАНО́Л** [ад *бутан* + *(алкаг)оль*] — арганічнае злучэнне *аліфатычнага* рада, бясколерная вадкасць, якая выкарыстоўваецца як растваральнік лакаў, тармазная вадкасць, у вытворчасці *пластыфікатараў*.

**БУТАНЬЕ́РКА** (фр. boutonnière = пятліца) — кветка або букецік кветак, якія прышпільваюцца да жаночай сукенкі або мацуюцца ў пятліцы пінжака.

**БУТА́РА** (лац. butarium = бочка) — прыстасаванне для прамывання пяску пры здабыванні золата, плаціны, алмазаў і інш.

**БУТАФО́Р** (іт. buttafuori = памочнік рэжысёра) — служачы тэатра, адказны за *бутафорыю*, а таксама майстар, які яе вырабляе.

**БУТАФО́РЫЯ** (іт. buttafuori = памочнік рэжысёра) — 1) абсталяванне для спектакля (мэбля, пасуда, зброя і інш.), а таксама штучныя прадметы, якія выстаўляюцца на вітрынах магазінаў замест сапраўдных; 2) *перан.* нешта паказное, фальшывае.

**БУТЛЕ́ГЕР** (англ. bootlegger) — асоба, якая займаецца забароненым увозам і продажам спіртных напіткаў.

**БУ́ТЛЯ** (польск. butla, ад фр. bouteille) — вялікая *бутэлька*.

**БУТО́Н** (фр. bouton) — пупышка расліны, якая распускаецца ў кветку.

**БУТЫ́К** (фр. boutique = магазін) — сучасны модны магазін-салон, які прапануе асабліва элегантнае, пашытае ў малых серыях дарагое адзенне.

**БУТЫ́Л** (ад лац. butyrum = масла) — аднавалентны *радыкал* бутану, бясколерная вадкасць; выкарыстоўваецца як растваральнік лакаў.

**БУТЫ́ЛАВЫ** (ад *бутыл*); б. с п і р т — тое, што і *бутанол*.

**БУТЫЛАЦЭТА́ТЫ** (ад *бутыл* + *ацэтаты*) — арганічныя рэчывы, складаныя эфіры воцатнай кіслаты і бутылавых спіртоў; выкарыстоўваюцца як растваральнікі лакафарбавых матэрыялаў.

**БУТЫЛЕ́Н** (ад *бутыл*) — арганічнае злучэнне *аліфатычнага* ра-

да, газ з характэрным пахам, які змяшчаецца ў прадуктах нафтаперапрацоўкі; выкарыстоўваецца для атрымання *бутадыену*, маторнага паліва, змазачнага масла.

**БУТЫЛКАЎЧУ́К** (ад *бутыл* + *каўчук*) — сінтэтычны *палімер*, прадукт полімерызацыі *ізабутылену* з невялікай колькасцю *ізапрэну*; выкарыстоўваецца ў вытворчасці аўтамабільных камер, электраізаляцыйных матэрыялаў і інш.

**БУТЫРА́ТЫ** (ад гр. butyron = масла) — арганічныя злучэнні, солі і эфіры маслянай кіслаты; выкарыстоўваюцца як духмяныя рэчывы з фруктовым і кветкавым пахам.

**БУТЫРО́МЕТР** (ад гр. butyron = масла + *-метр*) — прыбор для вызначэння колькасці тлушчу ў малацэ.

**БУТЭ́ЛЬКА** (польск. butelka, ад фр. bouteille) — шкляная пасудзіна звычайна цыліндрычнай формы з вузкім горлам.

**БУТЭ́Н** (англ. butene) — тое, што і *бутылен*.

**БУТЭНІ́Н** (ад англ. butene = бутылен) — тое, што і *вінілацэтылен*.

**БУТЭРБРО́Д** (ням. Butterbrot = хлеб з маслам) — скібка хлеба з маслам, сырам, каўбасой і інш.

**БУФ** (іт. buffo = смешны) — камічны, забаўны; о п е р а - б у ф — камічная *опера*.

**БУФАДЫЕНАЛІ́ДЫ** (ад лац. bufo = жаба + ды- + *эналіды*) — група стэроідных злучэнняў раслiннага і жывёльнага паходжання, якія валодаюць кардыятанічным дзеяннем; у выглядзе *гліказідаў* змяшчаюцца ў раслінах сям. лілейных і казяльцовых, у свабодным або звязаным выглядзе — у ядзе скурных залоз некаторых жаб.

**БУФАНА́ДА** (іт. buffonata = жарт) — 1) прыём, які выкарыстоўваецца ў цырку, на эстрадзе, у тэатры — камічнае перабольшванне для павелічэння эфекту; 2) *перан.* недарэчнае, недасціпнае, грубае штукарства.

**БУ́ФЕР** (англ. buffer) — прыстасаванне ў паравозе, вагоне, аўтамабілі і інш. для паслаблення сілы ўдару, штуршка пры сутыкненні.

**БУ́ФЕРНЫ** (ад *буфер*) — 1) які мае адносіны да буфера; 2) *перан.* прамежкавы, які паслабляе сутыкненне варожых бакоў; б - а я д з я р ж а в а — звычайна слабая ў ваенных і палітычных адносінах краіна, якая знаходзіцца паміж тэрыторыямі або сферамі ўплыву вялікіх дзяржаў.

**БУФЕ́Т** (фр. buffet) — 1) месца для продажу закусак, напіткаў ва ўстановах, у тэатрах, на вакзалах, а таксама асобная стойка ў сталовых, рэстаранах; 2) шафа для пасуды, сталовай бялізны, закусак, напіткаў.

**БУФО́Н** (фр. bouffon, ад іт. buffone) — 1) акцёр, які выконвае камічныя ролі ў аперэтках і вадэвілях; 2) *перан.* жартаўнік, штукар.

**БУФТА́ЛЬМ** (ад гр. bus = бык + ophthalmos = вока) — паталагічнае павелічэнне вочнага яблыка; бычынае вока.

**БУ́ФЫ** (ад фр. bouffer = надзімацца) — пышныя зборкі ў верхняй частцы рукава.

# Б

**БУХГА́ЛТАР** (ням. Buchhalter) — спецыяліст па грашовых разліках ва ўстанове, на прадпрыемстве.

**БУХГАЛТЭ́РЫЯ** (ад ням. Buch = кніга + halten = трымаць) — 1) падліковы аддзел ва ўстанове, на прадпрыемстве, у арганізацыі; 2) вядзенне грашовага ўліку.

**БУ́ХТА**[1] (ням. Bucht) — 1) невялікі марскі заліў, прыгодны для стаянкі суднаў; 2) глыбокае месца ў рэчцы.

**БУ́ХТА**[2] (гал. bocht) — вялікі скрутак дроту, каната.

**БУ́ЦЫ** (англ. boots) — чаравікі з шыпамі на падэшвах для гульні ў *футбол.*

**БУЦЭФА́Л**[1] (гр. Bukephalos = клічка дзікага каня, утаймаванага Аляксандрам Македонскім) — *перан.* наравісты конь.

**БУЦЭФА́Л**[2] (н.-лац. bucephalus) — *гельмінт* падкласа *гастэрастаматаў*; паразітуе ў кішэчніку судака, шчупака і іншых прэснаводных драпежных рыб.

**БУЧ** (літ. bùčias) — рыбалоўная снасць, сплеценая з лазовых дубцоў або з драніцы ў выглядзе вузкага круглага каша з лейкападобным уваходам; верша, нерат.

**БУЧА́РДА** (фр. boucharde) — металічны малаток з пірамідальнымі зубцамі, якім карыстаюцца каменябойцы і скульптары.

**БУ́ШАЛЬ** (англ. bushel) — мера ёмістасці вадкіх і сыпкіх рэчываў у Англіі, ЗША і некаторых іншых краінах (каля 36 л).

**БУШЛА́Т** (рус. бушлат, ад ням. Buscherum = рыбацкая блуза) — 1) суконная матроская куртка; 2) салдацкая куртка на ваце.

**БУШПРЫ́Т** (англ. bowsprit, гал. boegspriet) — гарызантальны або нахільны брус, які выступае перад *фарштэўнем* судна і служыць для вынясення ўперад насавых парусоў.

**БУЭ́ЛІЯ** (н.-лац. buellia) — накіпны сумчаты лішайнік сям. фісцыевых, які расце на кары дрэў, апрацаванай драўніне, раслінных рэштках, глебе.

**БЭЖ** (польск. beż, ад фр. beige) — светла-карычневы з жаўтаватым адценнем колер.

**БЭ́ЖАВЫ** (ад *бэж*) — светла-карычневы з жаўтаватым адценнем.

**БЭ́ЙСІК** [англ. basic, ад b(eginnes) = для тых, хто пачынае + a(ll-purpose) = універсальны + s(ymbolic) = сімвалічны + i(nstruction) = вучэбны + c(ode) = код] — самая простая інфармацыйная мова праграмавання, створаная спецыяльна для навучання рабоце на ЭВМ.

**БЭ́ЙСІК-І́НГЛІШ** (англ. basic English = базавая англійская мова) — спрошчаная англійская мова, якая складаецца з 850 слоў, а таксама некалькіх граматычных правіл; была створана для місіянерскіх мэт як міжнародная дапаможная мова, апрацавана англійскім вучоным Ч.Орданам.

**БЭКВАРДЭ́ЙШН** (англ. backwardation) — сітуацыя, пры якой цэны на наяўны тавар вышэйшыя, чым каціроўкі па здзелках на тэрмін, а цэны на тавар з бліжэйшымі тэрмінамі пастаўкі вышэйшыя, чым на тавар з аддаленымі тэрмінамі пастаўкі (проціл. *кантанга*).

**БЭ́ЛЬКА** (польск. belka, ад ням. Balken) — драўляны або жалезабе-

тонны брус, які служыць для падтрымкі столі, падлогі.

**БЭ́РА** (польск. bera, ад фр. beurre = масляны) — сорт позняй грушы, якая прыносіць буйныя жоўтыя салодкія плады, а таксама плод гэтай грушы.

**БЭ́СЦІЦЬ** (польск. bestwić, ад лац. bestia = звер) — 1) брудзіць, псаваць, даводзіць да непрыгоднасці (напр. б. вопратку); 2) лаяць, зневажаць, ганьбіць.

**БЭ́ТА** (гр. beta) — 1) назва другой літары грэчаскага алфавіта; 2) абазначэнне стану рэчыва пры высокай тэмпературы або пры радыеактыўным распадзе.

**БЭ́ТА-ДЭФЕКТАСКАПІ́Я** (ад *бэта* + *дэфектаскапія*) — метад выяўлення *дэфектаў* у тонкіх металічных вырабах (напр. з фольгі) шляхам прасвечвання іх бэта-праменямі.

**БЭ́ТА-РАДЫЕАКТЫ́ЎНАСЦЬ** (ад *бэта* + *радыеактыўнасць*) — ператварэнне атамных ядзер *ізатопаў* адных хімічных элементаў у іншыя ў выніку пасылання бэта-часціц.

**БЭ́ТА-СПЕКТРАСКАПІ́Я** (ад *бэта* + *спектраскапія*) — раздзел ядзернай фізікі, які даследуе *спектры* бэта-часціц.

**БЭ́ТА-СПЕКТРО́МЕТР** (ад *бэта* + *спектрометр*) — прыбор для даследавання *спектра* бэта-часціц.

**БЭТАТРО́Н** (ад *бэта* + *-трон*) — прыбор для паскарэння электронаў віхравым электрычным полем.

**БЭ́ТА-ТЭРАПІ́Я** (ад *бэта* + *тэрапія*) — лячэбнае выкарыстанне электронаў, якія выпрамяняюцца пры бэта-распадзе.

**БЮВА́Р** (фр. buvard) — папка для захоўвання паштовай паперы, канвертаў, карэспандэнцыі і інш.

**БЮВЕ́Т** (фр. buvette = прылавак) — збудаванне над мінеральнай крыніцай, адкуль непасрэдна бяруць ваду для піцця.

**БЮГЕЛЬГО́РНЫ** (ням. Bügelhorn, ад фр. bugle = сігнальны ражок + ням. Horn = рог) — сямейства духавых мундштучных музычных інструментаў розных памераў і дыяпазону.

**БЮДЖЭ́Т** (фр. budget) — разлік прыходаў і расходаў дзяржавы, прадпрыемства, установы, сям'і на пэўны тэрмін.

**БЮ́КСЫ** (ням. Buchse = банка) — шкляныя тонкасценныя шкляначкі з прышлiфаванай накрыўкай, якія выкарыстоўваюцца ў аналітычнай практыцы для ўзважвання проб і высушвання.

**БЮЛЕТЭ́НЬ** (фр. bulletin, ад іт. bulletino = запіска, лісток) — 1) кароткае паведамленне ў друку аб якой-н. падзеі (напр. б. з'езда); 2) перыядычнае выданне якой-н. установы (напр. Бюлетэнь Інстытута беларускай культуры); 3) лісток для галасавання; 4) лісток часовай непрацаздольнасці хворага.

**БЮРАКРА́Т** (фр. bureaucrate, ад bureau = бюро + kratos = улада) — 1) прадстаўнік *бюракратыі*; 2) службовая асоба, якая пры выкананні сваіх абавязкаў асноўнае значэнне надае форме, а не сутнасці справы; фармаліст.

**БЮРАКРАТЫ́ЗМ** (фр. bureaucratisme) — 1) канцыляршчына, папяровая валакіта, фармальныя адно-

сіны да справы; 2) тое, што і *бюракратыя*1.

**БЮРАКРА́ТЫЯ** (фр. bureaucratie) — 1) сістэма кіравання, пры якой асноўную ролю выконвае адміністрацыйны апарат, далёкі ад інтарэсаў народа; 2) чыноўніцтва.

**БЮРАКРО́НІМ** [ад *бюракр(атыя)* + гр. onyma = імя] — слова або выраз, якія часта ўжываюцца сродкамі масавай інфармацыі і з'яўляюцца адлюстраваннем унітарнага мыслення і беднасці мовы.

**БЮ́РГЕР** (ням. Bürger) — 1) гараджанін у сярэдневяковай Еўропе; 2) *перан.* абывацель, мешчанін.

**БЮРО́** (фр. bureau) — 1) кіруючая або распарадчая частка некаторых органаў, устаноў, арганізацый, а таксама пасяджэнне яе складу (напр. Бюро Аддзялення гуманітарных навук Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі); 2) назва некаторых устаноў, кантор (напр. канструктарскае б., б. даведак); 3) пісьмовы стол з шуфлядамі для захоўвання папер.

**БЮРЭ́ТКА** (фр. burette) — шкляная трубка з дзяленнямі для адмервання пэўнай колькасці вадкасці.

**БЮСТ** (фр. buste) — 1) скульптурная выява чалавека да пояса (галавы і верхняй часткі цела); 2) жаночыя грудзі.

**БЮСТГА́ЛЬТАР** (ням. Büstenhalter) — жаночы ліфчык для падтрымання бюста; станік.

**БЯГО́НІЯ** [н.-лац. begonia, ад фр. Bègon = прозвішча фр. аматара батанікі (1638—1710)] — травяністая расліна сям. бягоніевых з пярэстым лісцем і яркімі кветкамі, пашыраная ў тропіках і субтропіках; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**БЯДО́ЦЫЯ** (н.-лац. bedotia) — рыба атрада кефалепадобных, якая водзіцца ў вадаёмах вострава Мадагаскар; на Беларусі гадуецца як акварыумная.

**БЯЗЬ** (тур. bäz, ад ар. bäzz) — баваўняная тканіна палатнянага перапляцення.

**БЯРДА́НКА** (ад англ. K.Berdan = прозвішча амер. канструктара) — адназарадная стрэльба, якая была на ўзбраенні еўрапейскіх армій у канцы 19 ст.

**БЯРДЫ́Ш** (польск. berdysz, ад с.-лац. barducium) — старадаўняя зброя ў выглядзе сякеры ў форме паўмесяца на доўгім дрэўку.

# В

**ВА-БА́НК** (фр. va banque) — стаўка ў азартнай картачнай гульні, роўная ўсяму банку; *перан.* і с ц і в а - б а н к — ісці на рызыку, дзейнічаць, рызыкуючы ўсім.

**ВАГА́** (польск. waga, ад ст.-в.-ням. wâga) — 1) цяжар якога-н. цела, які вызначаецца ўзважваннем; у д з е л ь н а я в. — адносіны вагі цела пры тэмпературы 0 °С да

вагі роўнага аб'ёму вады пры тэмпературы 4 $^{o}$C; 2) важкасць якога-н. прадмета; 3) сістэма мер для вызначэння цяжару; 4) прылада для ўзважвання; 5) *перан.* значэнне, сіла, уплыў.

**ВАГАНЕ́ТКА** (фр. wagonnet) — невялікі вагон для перавозкі грузаў па вузкакалейных або падвесных дарогах.

**ВАГА́НТЫ** (лац. vagans, -ntis = які блукае) — вандроўныя акцёры (студэнты, беглыя манахі) у сярэдневяковай Зах. Еўропе, якія былі аўтарамі і выканаўцамі вершаў, песень, прадстаўленняў пераважна сатырычнага характару.

**ВАГЕЗІ́Т** (ад фр. Vosges = назва гор у Францыі) — магматычная жыльная горная парода, вапнякова-шчолачны гранітоідны *лампрафір*.

**ВАГІ́НА** (лац. vagina = похва) — трубкападобнае звужэнне жаночых палавых пратокаў, якое заканчваецца *вульвай* або похвай.

**ВАГІНІ́ЗМ** (ад *вагіна*) — сутаргавае скарачэнне мышцаў похвы і тазавага дна, спазма мышцаў сцёгнаў, што перашкаджаюць правядзенню палавога акта; разнавіднасць сексуальнай дысфункцыі.

**ВАГІНІ́Т** (ад *вагіна*) — запаленне сценак похвы ў жанчын, якое выклікаецца мікробамі або хімічнымі ці механічнымі раздражняльнікамі.

**ВАГО́Н** (фр. wagon, ад англ. waggon = павозка) — транспартны сродак (самаходны або несамаходны) для перавозкі пасажыраў і грузаў па рэйкавых дарогах.

**ВАГРА́НКА** (рус. вагранка, ад ням. Wagrain = назва мясцовасці ў Аўстрыі) — печ шахтавага тыпу для плаўлення чыгуну і каляровых металаў.

**ВАД** (англ. wad) — мінерал групы *псіламелану*, сумесь зямлістых і сажыстых агрэгатаў аксідаў і гідраксідаў марганцу чорнага або цёмна-карычневага колеру; руда марганцу, кобальту і нікелю.

**ВА́ДЗІ** (ар. wādi) — сухія даліны ў пустынях Аравіі і Паўн. Афрыкі, якія ў час дажджу напаўняюцца вадой.

**ВАДО́ЗНЫ** (лац. vadosus = неглыбокі); в - ы я   в о д ы — падземныя воды атмасфернага паходжання або ўтвораныя ў межах зямной кары.

**ВАДЭВІ́ЛЬ** (фр. vaudeville) — кароткая жартоўная п'еса з песнямі-куплетамі, рамансамі і танцамі.

**ВАДЭМЕ́КУМ** (лац. vade mecum = ідзі са мной) — кішэнная даведачная кніжка, даведнік.

**ВА́ЕР** (англ. wire) — стальны трос для буксіравання *трала*.

**ВА́ЗА** (фр. vase, ад лац. vas = пасудзіна) — пасудзіна з рознага матэрыялу (керамічная, шкляная, металічная) і рознай формы для кветак, садавіны, цукерак або проста дэкаратыўнага прызначэння.

**ВАЗАДЫЛЯТА́ТАРЫ** (ад лац. vas = сасуд + dilatare = расшыраць) — сасударасшыральныя нервовыя валокны (параўн. *вазаканстрыктары*).

**ВАЗАКАНСТРЫ́КТАРЫ** (ад лац. vas = сасуд + constrictio = сцягванне) — сасудазвужальныя

нервовыя валокны (параўн. *вазадылятатары*).

**ВАЗАМАТО́РЫ** (ад лац. vas = сасуд + motor = які прыводзіць у рух) — сасударухальныя нервовыя валокны (*вазадылятатары* і *вазаканстрыктары*), якія перадаюць нервовыя імпульсы ад цэнтральнай нервовай сістэмы да мускулатуры крывяносных сасудаў.

**ВАЗАПРЭСІ́Н** (ад лац. vas = сасуд + pressare = ціснуць) — 1) гармон задняй часткі *гіпофіза*, які выклікае звужэнне крывяносных сасудаў, павышэнне крывянога ціску, памяншае выдзяленне мачы ныркамі; 2) прэпарат гэтага гармону.

**ВАЗЕЛІ́Н** [фр. vaseline, ад ням. Was(ser) = вада + гр. elaion = аліўкавы алей] — аднародная сумесь цяжкага нафтавага масла і цвёрдых вуглевадародаў (парафіну, цэрэзіну, петралатуму), мазепадобная белая маса; выкарыстоўваецца ў медыцыне (аснова мазяў), электратэхніцы і інш.

**ВАЗО́Н** (польск. wazon < іт. vaso, ад лац. vas = пасудзіна) — 1) дэкаратыўная пакаёвая расліна; 2) пасудзіна разам з дэкаратыўнай пакаёвай раслінай.

**ВА́ЙШЬІ** (санскр. vaišja) — трэцяя з чатырох *варн* у Стараж. Індыі, да якой належалі купцы, земляробы, жывёлаводы, некаторыя рамеснікі.

**ВА́ЙЯ** (гр. baion = пальмавая галінка) — расчлянёны, падобны на галінку ліст папараці.

**ВАКА́БУЛА** (лац. vocabulum = слова) — 1) іншамоўнае слова з перакладам на родную мову; 2) загаловак слоўнікавага артыкула.

**ВАКАБУЛЯ́РЫЙ** (лац. vocabularium = слоўнік) — кароткі слоўнік да хрэстаматыі або асобных раздзелаў падручніка.

**ВАКА́Л** (фр. vocal, ад лац. vocalis = гучны) — вакальнае мастацтва, спевы.

**ВАКАЛІГРА́МА** (ад лац. vocalis = гучны + *-грама*) — графічны паказ амплітудна-частотна-часавых характарыстык гуку.

**ВАКАЛІ́З** (фр. vocalise, ад лац. vocalis = гучны) — практыкаванне для голасу без слоў, якое выконваецца на адных галосных гуках; музычны твор для спеваў без слоў.

**ВАКАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. vocalis = гучны) — 1) спевы на адных галосных гуках; 2) *лінгв.* набыццё зычным гукам складаўтваральных асаблівасцей.

**ВАКАЛІ́ЗМ** (ад лац. vocalis = гучны) — сістэма галосных гукаў якой-н. мовы (параўн. *кансанантызм*).

**ВАКАЛІСКАПІ́Я** (ад лац. vocalis = гучны + *-скапія*) — распазнаванне голасу, выдзяленне прымет, якія вызначаюць галасавы тракт таго, хто гаворыць, шляхам ідэнтыфікацыі *вакалiграм*.

**ВАКАЛІ́СТ** (ад *вакал*) — 1) спецыяліст у галіне вакальнага мастацтва; 2) спявак-прафесіянал.

**ВАКА́ЛЬНЫ** (лац. vocalis = гучны) — які адносіцца да выканання голасам, прызначаны для спеваў; галасавы, пеўчы.

**ВАКА́НСІЯ** (ст.-польск. wakancyja, ад с.-лац. vacantia) — незанятая пасада ва ўстанове.

**ВАКА́НТНЫ** (ад *вакансія*) — свабодны, нікім не заняты (напр. в-ая пасада).

**ВАКА́Т** (лац. vacat = які пустуе, вольны) — старонка кнігі, на якой няма тэксту або ілюстрацый (напр. адварот тытульнага ліста, шмуцтытула).

**ВАКАТЫ́Ў** [лац. (casus) vocativus] — *лінгв.* клічны склон.

**ВАКА́ЦЫІ** (лац. vacatio = вызваленне) — *уст.* тое, што і *канікулы.*

**ВАКЗА́Л** (англ. Vauxhall = забаўляльная ўстанова каля Лондана ў 17 ст.) — будынак для пасажыраў і службовага персаналу на чыгуначнай станцыі, на прыстані і інш.

**ВАКЛЮ́ЗЫ** (фр. Vaucluse = назва крыніцы ў басейне ракі Рона ў Францыі) — крыніцы ў карставых зонах з вялікім расходам (*дэбітам*) вады.

**ВАКО́ДЭР** (англ. vocoder, ад voice = голас + code = код) — від тэлефоннай сувязі з перадачай інфармацыі ў закадзіраваным выглядзе.

**ВА́КСА** (ням. Wachs = воск) — мазь з воску, сажы і тлушчу для скуранога абутку.

**ВАКУО́ЛІ** (фр. vacuole, ад лац. vacuus = пусты) — невялікія поласці ў клетках жывёльных і раслінных арганізмаў, напоўненыя клетачным сокам.

**ВА́КУУМ** (лац. vacuum = пустата) — 1) разрэджаны стан газаў у закрытым прыборы або пасудзіне; беспаветраная прастора; 2) *перан.* адсутнасць жыцця, высокіх імкненняў і інтарэсаў.

**ВА́КУУМ-АПАРА́Т** (ад *вакуум* + *апарат*) — 1) апарат, праз які аўтаматычна падаецца вадкае паліва ў карбюратар; 2) апарат для выпарвання, прасушкі і фільтрацыі рэчываў пад ціскам, ніжэйшым за атмасферны.

**ВА́КУУМ-КА́МЕРА** (ад *вакуум* + *камера*) — камера, куды змяшчаецца які-н. матэрыял, каб выдаліць з яго паветра, газ, ваду.

**ВАКУУММЕ́ТР** [ад *вакуум* + *(мано)метр*] — прыбор для вымярэння ціску разрэджаных газаў.

**ВАКУУММЕ́ТРЫЯ** (ад *вакуум* + *-метрыя*) — раздзел *фізікі*, які займаецца вымярэннем ціску разрэджаных газаў.

**ВА́КУУМ-ФІ́ЛЬТР** (ад *вакуум* + *фільтр*) — апарат для фільтравання, дзеянне якога заснавана на стварэнні вакуумнай помпай рознасці ціскаў па абодва бакі фільтравальнага матэрыялу.

**ВА́КУУМ-ЭКСТРА́КТАР** (ад *вакуум* + *экстрактар*) — прылада для выцягвання плода ў час родаў.

**ВА́КУУМ-ЭКСТРА́КЦЫЯ** (ад *вакуум* + *экстракцыя*) — аперацыя выцягвання плода ў час родаў *вакуум-экстрактарам.*

**ВА́КУФ, ВАКФ** (ар. vakuf) — маёмасць, якая ў мусульманскіх краінах выдзяляецца дзяржавай або асобай на рэлігійныя ці дабрачынныя мэты.

**ВАКХАНА́ЛІЯ** (лац. bacchanalia, ад гр. Bakchos = адно з імён бога вінаградарства і вінаробства Дыяніса) — 1) свята ў гонар Дыяніса (Вакха) у Стараж. Грэцыі і Рыме; 2) *перан.* разгульнае баляванне; *оргія* 2.

**ВАКХА́НКА** (лац. bacchans, -ntis = які святкуе ў гонар бога Вакха) — 1) жрыца бога Вакха, а так-

сама ўдзельніца *вакханаліі* 1; 2) *перан.* страсная, палкая жанчына.

**ВАКЦЫ́НА** (фр. vaccine, ад лац. vaccinus = каровін) — медыцынскі прэпарат для прафілактычных і лячэбных прывівак супраць розных хвароб (напр. супрацьтыфозная в.).

**ВАКЦЫНАТЭРАПІ́Я** (ад *вакцына* + *тэрапія*) — метад лячэння некаторых інфекцыйных хвароб увядзеннем вакцыны (параўн. *вакцынацыя*).

**ВАКЦЫНА́ЦЫЯ** (ад лац. vaccinus = каровін) — прымяненне *вакцыны* для папярэджвання інфекцыйнай хваробы шляхам стварэння *імунітэту* (параўн. *вакцынатэрапія*).

**ВАЛАКАРДЗІ́Н** [ад *валя(р'ян)* + лац. cor, -rdis = сэрца] — лекавы прэпарат, заспакаяльны і процістазматычны сродак.

**ВАЛА́Н** (фр. volant) — 1) шарык з апярэннем для гульні ў *бадмінтон*; 2) тое, што і *бадмінтон* 1; 3) прышыўная палоска тканіны ў выглядзе брыжоў на сукенцы, спадніцы, блузцы.

**ВАЛАНЕ́Я** (ад гр. balanos = жолуд) — чашачка жалудоў некаторых відаў дубоў, у якой змяшчаецца многа дубільных рэчываў (*танідаў*).

**ВАЛАНСЬЕ́Н** (фр. Valenciennes = назва горада ў Францыі) — тонкія карункі асобага пляцення.

**ВАЛАНЦЁР** (фр. volontaire) — асоба, якая добраахвотна паступіла на вайсковую службу; добраахвотнік (у Англіі, Францыі, Італіі і некаторых іншых краінах).

**ВАЛАПЮ́К** (ад англ. world = свет + speak = размаўляць) — 1) штучная міжнародная мова, якую стварыў у 1879 г. Й.Шлеер; 2) *перан.* набор незразумелых слоў, тарабаршчына.

**ВАЛАРЫЗА́ЦЫЯ** (фр. valorisation) — павышэнне цаны тавару або курсу папяровых грошай пры дапамозе дзяржаўных мерапрыемстваў; 2) тое, што і *рэвальвацыя*.

**ВАЛГА́ЛА, ВАЛЬХА́ЛА** (ням. Walhalla, ад ст.-сканд. Valhöll = палац забітых) — паводле старажытнаскандынаўскай міфалогіі, палац бога Одзіна, дзе знайшлі прыстанак душы забітых воінаў.

**ВАЛЕЙБАЛІ́СТ** (ад *валейбол*) — ігрок у валейбол.

**ВАЛЕЙБО́Л** (англ. volley-ball, ад volley = адбіваць на ляту + ball = мяч) — спартыўная гульня з перакіданнем мяча цераз сетку ад адной каманды да другой.

**ВАЛЕ́НТНАСЦЬ** (ад лац. valentia = сіла) — уласцівасць атама аднаго элемента далучаць да сябе пэўную колькасць атамаў другога элемента; 2) *лінгв.* здольнасць слоў спалучацца з пэўнымі іншымі словамі.

**ВАЛЕ́НТНЫ** (лац. valens, -ntis) — здольны далучаць да сябе атамы другога хімічнага элемента.

**ВАЛЕР'ЯНЕ́ЛА** (н.-лац. valerianella) — травяністая расліна сям. валяр'янавых з ланцэтным лісцем і дробнымі блакітнавата-белымі кветкамі, пашыраная ў Еўропе і Паўн. Амерыцы; на Беларусі расце ў пасевах.

# В

**ВАЛЕ́Т** (фр. valet) — чацвёртая па старшынству ігральная карта, малодшая за *даму* 4.

**ВАЛЁР** (фр. valeur = *літар.* каштоўнасць) — адценне тону ў межах аднаго колеру.

**ВА́ЛІ** (тур. vali, ад ар. vali) — 1) правіцель *вілаету* ў Турцыі; 2) генерал-губернатар у Іране.

**ВАЛІДО́Л** (ад лац. validus = моцны + *-ол*) — лекавы прэпарат, здольны расшыраць сасуды і заспакойваць нервовую сістэму.

**ВАЛІ́ЗА** (фр. valise) — 1) паштовы мяшок дыпламатычнага кур'ера; 2) *уст.* тое, што і *чамадан*.

**ВАЛІ́Н** (англ. valine) — адна з жыццёва неабходных амінакіслот, якая ўваходзіць у склад бялкоў і ўплывае на рост, функцыяніраванне нервовай сістэмы.

**ВАЛІСНЕ́РЫЯ** [н.-лац. vallisneria, ад іт. A.Vallisnieri = прозвішча іт. батаніка (памёр у 1730 г.)] — падводная травяністая расліна сям. жабнікавых са стужкападобным ярка-зялёным лісцем, пашыраная ў прэсных вадаёмах трапічных і субтрапічных зон; на Беларусі вядома як акварыумная.

**ВАЛО́НІЯ** (н.-лац. valonia) — 1) зялёная водарасць класа сіфонавых, якая пашырана ў трапічных морах; 2) від наземных бруханогіх *малюскаў*, якія пашыраны ў Еўропе, Азіі і Паўн. Амерыцы.

**ВАЛТО́РНА** (ням. Waldhorn = паляўнічы рог) — медны духавы музычны інструмент у выглядзе спіральна сагнутай трубы з шырокім раструбам.

**ВАЛЬВАРЫЕ́ЛА** (н.-лац. volvariella) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. мухаморавых, які расце на ўгноенай глебе, мёртвай драўніне; некаторыя віды ядомыя.

**ВАЛЬВА́ТЫ** (н.-лац. valvatidae) — сямейства прэснаводных пярэднежаберных *малюскаў* класа бруханогіх; кормяцца рэшткамі раслін і жывёл.

**ВАЛЬВА́ЦЫЯ** (фр. évaluation = ацэнка) — вызначэнне каштоўнасці іншаземнай *валюты* ў грашовай адзінцы пэўнай дзяржавы не па яе наміналу, а па вазе змешчанага ў ёй валютнага металу (золата, серабра).

**ВАЛЬВЕ́НТЫ** (лац. volvens, -ntis = які абвівае) — жыгучыя клеткі ў некаторых кішачнаполасцевых.

**ВАЛЬВО́КС** (н.-лац. volvox, ад лац. volvere = закручваць) — каланіяльная зялёная водарасць сям. вальвоксавых, якая пашырана ў сажалках, старыцах, мелкаводных азёрах.

**ВАЛЬДМА́ЙСТАР** (ад ням. Wald = лес + Meister = майстар) — чыноўнік у Расійскай імперыі, які загадваў казённымі лясамі.

**ВАЛЬДШНЭ́П** (ням. Waldschnepfe) — птушка атрада сеўцападобных, якая жыве ў лясах, дзе ёсць ручаі, балоты; аб'ект спартыўнага палявання; слонка.

**ВАЛЬДЭ́НСЫ** (п.-лац. valdenses, ад фр. P.Valdo = прозвішча ліёнскага купца 12 ст.) — рэлігійная секта, якая ўзнікла ў канцы 12 ст. на поўдні Францыі і прапаведавала адмаўленне ад прыватнай уласнасці, вяртанне да ранняга хрысціянства; некаторыя абшчыны захаваліся (пераважна ў Італіі) і зараз.

# В

**ВАЛЬЕ́РА** (фр. volière) — агароджаная пляцоўка для ўтрымання птушак або звяроў (у запаведніку, заапарку і інш.).

**ВАЛЬКАМЕ́РЫЯ** (ням. Volkameria, ад Volckamer = назва мясцовасці ў Германіі) — дэкаратыўная форма *клерадэндрума* з белымі або блакітнымі пахучымі кветкамі.

**ВАЛЬКІ́РЫІ** (ням. Walküre, ад ст.-сканд. valkyrja = якая выбірае забітых) — ваяўнічыя дзевы-багіні ў старажытнаскандынаўскай *міфалогіі*, якія дапамагалі героям у бітвах і суправаджалі душы забітых у *валгалу*.

**ВА́ЛЬМА** (ням. Walm) — трохвугольны схіл *вальмавага* даху.

**ВА́ЛЬМАВЫ** (ад *вальма*); в. д а х — чатырохсхільны дах над прамавугольнай пабудовай, у якім два схілы па доўгіх баках маюць форму трапецыі, а два схілы па кароткіх баках трохвугольныя.

**ВАЛЬПУ́РГІЕЎ** (ад лац. Valpurgia = імя каталіцкай святой); в - а я н о ч — свята пачатку вясны ў германскай міфалогіі, якое з 8 ст. адзначалася ў ноч на 1-е мая, калі, паводле народнага павер'я, збіраліся ў гарах Гарца ведзьмы і наладжвалі свой «шабаш».

**ВАЛЬС** (фр. valse) — плаўны парны танец трохдольнага памеру, а таксама музычны твор у такім рытме.

**ВА́ЛЬСА** (н.-лац. valsa) — сумчаты грыб сям. вальсавых, які развіваецца на галінках і ствалах лісцевых дрэў і кустоў.

**ВАЛЬС-БАСТО́Н** (ад *вальс* + *бастон*) — амерыканскі бальны танец з шырокім крокам на першую долю такта.

**ВАЛЬТА́Ж** (фр. voltage) — напружанне ў электрычным ланцугу ў *вольтах*.

**ВАЛЬТАМЕ́ТР** (ад *вольт* + *-метр*) — прыбор для вымярэння колькасці электраэнергіі па хімічным дзеянні электрычнага току (па колькасці металу або газу, што выдзяляецца з *электраліту*).

**ВАЛЬТМЕ́ТР** (ад *вольт* + *-метр*) — прыбор для вымярэння напружання паміж двума пунктамі электрычнага ланцуга.

**ВАЛЬТФА́С** (фр. volte-face = паварот твару) — раптоўны паварот тварам да праследаваццеля.

**ВАЛЬТЫЖО́Р** (фр. voltigeur) — 1) коннік, які робіць гімнастычныя практыкаванні ў час язды вярхом; 2) *гіст.* салдат французскай арміі (1804—1871), які вызначаўся спрытнасцю і быў прыгодны да службы і ў пяхоце, і ў конніцы.

**ВАЛЬТЫЖЫ́РАВАЦЬ** (фр. voltiger) — рабіць гімнастычныя практыкаванні ў час язды вярхом.

**ВАЛЬТЫНІ́ЗМ** (ад іт. volta = паварот) — здольнасць многіх груп насякомых даваць ад аднаго да некалькіх пакаленняў у год.

**ВА́ЛЬТЭР** (ням. Walter) — аўтаматычны васьмізарадны пісталет нямецкай фірмы «Вальтэр», якім была ўзброена нямецка-фашысцкая армія.

**ВАЛЬТЭР'Я́НЕЦ** [фр. voltairien, ад Voltaire = псеўданім фр. пісьменніка і філосафа Ф.Аруэ (1694—1778)] — паслядоўнік Вальтэра; вальнадумец.

**ВАЛЬТЭР'Я́НСТВА** (ад *вальтэр'янец*) — рэлігійнае і палітычнае вальнадумства, звязанае з філасофскімі поглядамі Вальтэра.

**ВАЛЬФА́РТАВЫ** (н.-лац. wohlfahrtia, ад Volfart = прозвішча ням. урача); в - а муха — насякомае сям. саркафагідаў, жывароднае, адкладвае лічынкі на раны чалавека і жывёл, выклікаючы *вальфартыёз*.

**ВАЛЬФАРТЫЁЗ** (ад ням. Volfart = прозвішча ням. урача) — хвароба чалавека і жывёл, якую выклікаюць лічынкі *вальфартавай* мухі, адкладзеныя ў ранкі на скуры.

**ВАЛЬФРА́М** (ням. Wolfram, ад Wolf = воўк + Rahm = пена) — хімічны *элемент*, цяжкі тугаплаўкі метал светла-шэрага колеру.

**ВАЛЬФРАМА́ТЫ** (ад *вальфрам*) — солі вальфрамавых кіслот.

**ВАЛЬФРАМІ́Т** (ням. Wolframit) — мінерал класа *вальфраматаў* бура-чорнага або чырванаватага колеру; руда *вальфраму*.

**ВАЛЬХА́ЛА** гл. *валгала*.

**ВАЛЬЦАВА́ЦЬ** (ням. walzen) — пракатваць, плюшчыць, малоць паміж *вальцамі*.

**ВА́ЛЬЦЫ** (ням. Walze) — рабочая частка металаапрацоўчых, драбільных, мукамольных і іншых машын у форме валікаў, якія верцяцца ў процілеглых напрамках і служаць для пракаткі, драблення чаго-н.

**ВАЛЮМАМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. volumen = аб'ём + *-метрыя*) — методыка хімічнага аналізу, якая грунтуецца на вымярэнні аб'ёму патрачанага рэактыву ці выдзеленага або паглынутага газу.

**ВАЛЮМАРЭЦЭ́ПТАРЫ** (ад лац. volumen = аб'ём + *рэцэптары*) — чуллівыя нервовыя заканчэнні ў розных органах і крывяносных сасудах, якія рэагуюць на расцяжэнне іх сценак.

**ВАЛЮМЕ́ТР** (ад лац. volumen = аб'ём + *-метр*) — прыбор для вызначэння аб'ёму матэрыялу (напр. ваты), калі нельга вызначыць яго апусканнем гэтага матэрыялу ў ваду.

**ВАЛЮМІНО́ЗНЫ** (ад лац. volumen = аб'ём, том) — 1) шматтомны; 2) вялікі, аб'ёмны.

**ВАЛЮМІНО́МЕТР** (ад лац. volumen = аб'ём + *-метр*) — тое, што і *валюметр*.

**ВАЛЮМКАНТРО́ЛЬ** (ад фр. volume = аб'ём + *кантроль*) — вымярэнне і рэгуляванне сілы гуку пры электраакустычнай перадачы.

**ВАЛЮНТАРЫ́ЗМ** (ад лац. voluntarius = валявы) — 1) кірунак у філасофіі, які аб'яўляе волю вышэйшым прынцыпам быцця, першаасновай усяго існага; 2) *псіх.* прызнанне волі, а не розуму рашаючым фактарам псіхічнай дзейнасці чалавека; 3) суб'ектывісцкія, самавольныя рашэнні без уліку аб'ектыўных умоў грамадскага жыцця, эканомікі і г.д.

**ВАЛЮ́ТА**[1] (іт. valuta = кошт) — 1) асноўная грашовая адзінка якой-н. краіны (напр. долар у ЗША); цвёрдая в. — валюта, устойлівая ў адносінах да ўласнага наміналу, а таксама да курсаў іншых валют, забяспечаная золатам і іншымі каштоўнасцямі; абарачальная (канвертаваная) в. — валюта, якая бесперашкодна абменьваецца на іншыя

валюты; 2) тып грашовай сістэмы (напр. залатая в.); 3) замежныя грошы, якія маюць хаджэнне на міжнародным рынку.

**ВАЛЮ́ТА**[2] (лац. voluta = завіток, спіраль) — скульптурная аздоба ў выглядзе спіральнага завітка з кружком у цэнтры; частка іанічнай *капітэлі*.

**ВАЛЮЦІ́Н** (ад лац. voluta = завіток, спіраль) — уключэнне, якое змяшчаецца ў *цытаплазме* некаторых мікраарганізмаў і з'яўляецца рэзервам пажыўных рэчываў.

**ВАЛЯР'Я́Н** (н.-лац. valeriana) — травяністая расліна сям. валяр'янавых з падоўжаным лісцем і дробнымі ружаватымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ва ўмераных і халодных зонах; шырока культывуецца як лекавая (народныя назвы: аўрыян, дуброўка, капроўнік, грудоўка).

**ВАМБА́Т** (н.-лац. vombatus) — млекакормячае атрада сумчатых з валікападобным тулавам і кароткай шыяй, пашыранае ў Аўстраліі, Тасманіі; жыве ў лясах, саваннах.

**ВАМПІ́Р** (польск. wampir, ад фр. vampire) — 1) казачны пярэварацень — мярцвяк, які быццам бы ноччу выходзіць з магілы і п'е кроў жывых людзей; 2) вялікая лятучая мыш; 3) *перан.* жорсткі чалавек, эксплуататар-крывасмок.

**ВАМПІРАМО́РФЫ** (н.-лац. vampyromorpha) — атрад галаваногіх *малюскаў*, спалучаюць прыметы будовы, уласцівыя кальмарам і прымітыўным васьміногам; пашыраны ў трапічных і субтрапічных морах на глыбіні 700—1500 м.

**ВАМПІРЫ́ЗМ** (ад *вампір*) — рэдкая палавая ненармальнасць, якая вызначаецца спалучэннем садызму і фетышызму, калі фетышам з'яўляецца кроў партнёра.

**ВА́МПУМ** (індз. wampum, ад wampumpeag = ніткі, на якія нанізаны чарапашкі) — маніста з чарапашак, якое ў індзейцаў Паўн. Амерыкі было ўпрыгожаннем, мела функцыі грошай і пісьма.

**ВАНАДАТАМЕ́ТРЫЯ** (ад *ванадаты* + *-метрыя*) — метад колькаснага аналізу, пры якім асноўным *рэагентам* з'яўляецца цітраваны раствор ванадату *амонію*.

**ВАНАДА́ТЫ** (ад *ванадый*) — група мінералаў, солі ванадыевых кіслот (*ванадыніт, карнатыт* і інш.); з'яўляюцца сыравінай для атрымання ванадыю.

**ВАНА́ДЫЙ** (н.-лац. vanadium, ад ст.-сканд. Vanadis = імя старажытнаскандынаўскай багіні прыгажосці) — хімічны элемент, тугаплаўкі метал светла-шэрага колеру.

**ВАНАДЫНІ́Т** (ад *ванадый*) — мінерал класа *ванадатаў* жоўтага, чырвонага або бурага колеру; руда ванадыю.

**ВАНДАЛІ́ЗМ** (фр. vandalisme, ад лац. Vandali = старажытнагерманскія плямёны, якія ў 455 г. разрабавалі Рым) — няшчаднае разбурэнне, знішчэнне помнікаў культуры, мастацтва.

**ВАНДА́ЛЫ** (лац. Vandali = старажытнагерманскія плямёны, якія ў 455 г. разрабавалі Рым) — разбуральнікі культурна-гістарычных помнікаў, матэрыяльных каштоўнасцей.

**ВАНДРАВА́ЦЬ** (польск. wędrować, ад с.-в.-ням. wandern) — 1) весці неаселы спосаб жыцця, пераязджаць з месца на месца; качаваць (пра плямёны, народы); 2) доўга хадзіць, ездзіць дзе-н.; блукаць, падарожнічаць; 3) пераходзіць ад аднаго ўладальніка да другога на працягу доўгага часу (аб прадметах).

**ВА́НДРУТ** (ням. Wandrute) — дэталь мацавання ў шахце ў выглядзе доўгага бруса, размешчанага ўздоўж вырабаткі.

**ВАНДЭМ'Е́Р** (фр. vendémiaire, ад лац. vindemia = збор вінаграду) — першы месяц (з 22—23 верасня да 21—22 кастрычніка) французскага рэспубліканскага календара, які дзейнічаў у 1793—1805 гг.

**ВАНДЭ́Я** (фр. Vendée = назва дэпартамента ў заходняй Францыі, які ў час Французскай рэвалюцыі 1789—1799 гг. быў цэнтрам контррэвалюцыі) — сімвал контррэвалюцыі.

**ВАНІЛІ́Н** (ад *ваніль*) — пахучае арганічнае рэчыва, якое змяшчаецца ў стручках ванілі або атрымана штучным спосабам.

**ВАНІ́ЛЬ** (фр. vanille) — трапічная расліна сям. ятрышнікавых з пахучымі пладамі, а таксама сушаныя плады гэтай расліны, якія ўжываюцца ў кулінарыі і парфумерыі.

**ВА́ННА** (ням. Wanne) — 1) вялікая прадаўгаватая пасудзіна для купання; 2) працэс купання ў такой пасудзіне; 3) пакой, прызначаны для ванны; 4) лячэбна-прафілактычны сродак (напр. сонечныя ванны).

**ВАНТО́З** (фр. ventôse, ад лац. ventosus = ветраны) — шосты месяц (з 19—21 лютага да 20—21 сакавіка) французскага рэспубліканскага календара, які дзейнічаў у 1793—1805 гг.

**ВАНТРО́БЫ** (польск. wątroby) — унутраныя органы грудной клеткі і жывата.

**ВАНТУ́З** (фр. ventouse, ад лац. ventosus = ветраны) — прыстасаванне для аўтаматычнага выпускання паветра з вадаправодных труб.

**ВА́НТЫ** (гал. want) — снасці, пры дапамозе якіх умацоўваюцца мачты судна з бартоў.

**ВА́ПАР** (лац. vapor = па́ра) — нафтавае масла для змазвання цыліндраў паравых машын.

**ВАПАРЫЗА́ЦЫЯ** (ад лац. vapor = па́ра) — 1) выпарванне, ператварэнне вадкасці ў пару; 2) метад спынення кровацячэння прыпяканнем паверхні тканак гарачай парай.

**ВАПАРЫ́МЕТР** (ад лац. vapor = пара + *-метр*) — прыбор для вызначэння пругкасці пары розных вадкасцей пры пэўных тэмпературах.

**ВАПІ́ЦІ** (індз. wapiti) — млекакормячае сям. аленяў, блізкае да *марала*, якое водзіцца ў лясах Паўн. Амерыкі.

**ВА́РА** (ісп. vara = палка) — мера даўжыні ў многіх краінах Лац. Амерыкі, роўная 80 — 110 см.

**ВАРА́КТАР** [ад англ. var(iable) = зменлівы + act = дзеянне] — тое́, што і *варыкап*.

**ВАРА́Н** (фр. varan, ад ар. varan) — буйная драпежная яшчарка, якая

водзіцца пераважна ў тропіках і субтропіках Усх. паўшар'я.

**ВАРАНІХІ́НІЯ** (н.-лац. woronichinia) — каланіяльная сіне-зялёная водарасць сям. вараніхініевых, якая трапляецца ў *планктоне* прэсных вадаёмаў.

**ВАРА́НТ** (англ. warrant = паўнамоцтва, правамоцтва) — 1) пасведчанне, якое выдаецца таварнымі складамі аб прыняцці тавару на захоўванне; 2) дадатковае пасведчанне, якое выдаецца разам з каштоўнай паперай і дае яе ўладальніку права на дадатковыя льготы па сканчэнні пэўнага тэрміну.

**ВАРА́РЫЯ** (н.-лац. vararia) — губавы *базідыяльны* грыб сям. лахнакладыевых, які расце на драўніне і кары хвойных, зрэдку лісцевых парод.

**ВА́РВАР** (гр. barbaros = чужаземец) — 1) некультурны чалавек (у старажытных грэкаў і рымлян — усякі чужаземец, чужы іх культуры); 2) грубы, жорсткі чалавек.

**ВАРВАРЫ́ЗМ** (гр. barbarismos) — запазычанае ці створанае па ўзору якой-н. іншай мовы слова або выраз, які парушае нормы дадзенай мовы.

**ВАР'ЕТЭ́** (фр. variété = *літар.* разнастайнасць) — эстрадны тэатр лёгкага жанру, у якім аб'яднаны забаўляльныя элементы тэатральнага, музычнага, цыркавога мастацтва.

**ВА́РЗЕА** (парт. várzea = луг, раўніна) — ландшафты высокіх рачных поймаў у басейне Амазонкі.

**ВАР'І́РАВАЦЬ** (лац. variare) — відазмяняць, даваць новыя варыянты, перайначваць.

**ВА́РНА** (санскр. warna = якасць, колер, катэгорыя) — кожная з чатырох саслоўных груп у Стараж. Індыі — *брахманы, кшатрыі, вайшыі, шудры*, — з якіх пазней развіліся *касты*.

**ВА́РТА** (польск. warta, ад ням. Warte) — 1) ахова, каравул; 2) вартаванне, абавязкі па ахове чаго-н.

**ВАРТАВА́ЦЬ** (польск. wartować, ад ням. warten) — 1) ахоўваць каго-н., што-н.; 2) падсцерагаць, чакаць з'яўлення каго-н., чаго-н.

**ВА́РТЫ** (польск. warty, ад ням. wert) — 1) годны чаго-н.; 2) які мае пэўную каштоўнасць.

**ВАРУ́НКІ** (ням. Wahrung) — абставіны, умовы.

**ВАРШТА́Т** (польск. warsztat, ад ням. Werkstatt) — спецыяльная канструкцыя, прыстасаваная для выканання адпаведных работ, напр. ткацкай, сталярскай, слясарнай і інш.

**ВАРЫА́БЕЛЬНЫ** (англ. variable = зменлівы) — 1) здольнасць мець, утвараць *варыянты*; 2) зменлівы, непастаянны, няўстойлівы.

**ВАРЫЕТЭ́Т** (ням. Varietät, ад лац. varietas = разнастайнасць) — сукупнасць асобін аднаго віду, якія адрозніваюцца паміж сабою адной або некалькімі прыметамі.

**ВАРЫЁЛЫ** (лац. variola = воспа) — украпіны ў горнай пародзе ў выглядзе каменных шарыкаў.

**ВАРЫЁМЕТР** (ад лац. varius = розны + *-метр*) — прыбор для вымярэння сіл, якія ўзнікаюць у тых ці іншых працэсах, напр. хуткасці

ўзлёту і зніжэння самалёта (авіяцыйны в.), змен зямнога магнетызму (магнітны в.), змен поля прыцяжэння паблізу паверхні Зямлі (гравітацыйны в.); 2) прылада для плаўнай змены індуктыўнасці (радыётэхнічны в.).

**ВАРЫКА́П** [англ. varicap, ад vari(able) = зменлівы + cap(acity) = ёмістасць] — паўправадніковы прыбор, ёмістасць якога залежыць ад прыкладзенага электрычнага напружання.

**ВАРЫКАЦЭ́ЛЕ** (ад лац. varix = венозны вузел + гр. krele = пухліна) — варыкознае расшырэнне вен семявога канаціка ў чалавека і жывёл.

**ВАРЫКО́ЗНЫ** (ад лац. varix = расшырэнне вены) — *мед.* вузлаваты, з вялікай колькасцю расшырэнняў або патаўшчэнняў (напр. в-ае расшырэнне вен).

**ВАРЫКО́НД** [англ. varicond, ад vari(able) = зменлівы + cond(enser) = кандэнсатар] — *кандэнсатар* з рэзка выражанай нелінейнай залежнасцю ёмістасці ад прыкладзенага электрычнага напружання.

**ВАРЫ́СТАР** [англ. varistor, ад vari(able) = зменлівы + (resi)stor = супраціўленне] — паўправадніковы *рэзістар*, электрычнае супраціўленне якога нелінейна мяняецца ў залежнасці ад напружання.

**ВАРЫЯКАМБІНЕ́КС** (ад лац. vario = змяняю + combino = аб'ядноўваю) — размнажальная капіравальная машына вертыкальнай канструкцыі.

**ВАРЫЯКЛІШО́ГРАФ** (ад лац. vario = змяняю + *клішэ* + *-граф*) — гравіравальная машына з электронным *колеракарэктарам* для прыгатавання клішэ пры шматколерным высокім друку.

**ВАРЫЯЛІ́Т** (ад лац. variola = воспа + *-літ*) — вулканічная горная парода, якая змяшчае шматлікія *варыёлы*.

**ВАРЫЯЛО́ІД** (ад лац. variola = воспа + *-оід*) — лёгкая форма воспы.

**ВАРЫЯ́НТ** (фр. variant, ад лац. varians, -ntis = які змяняецца) — 1) разнавіднасць, відазмяненне, адна з магчымых камбінацый чаго-н.; 2) адна з некалькіх рэдакцый якога-н. твора, афіцыйнага дакумента або іх часткі; 3) адна з магчымых камбінацый у шахматнай ці шашачнай гульні.

**ВАРЫЯ́НТА** (ад *варыянт*) — 1) арганізм жывёлы або расліны, які адхіляецца па пэўнай прымеце ад асноўнага тыпу; 2) кожны член рада лікаў пры статыстычных падліках.

**ВАРЫЯСКАПІ́Я** (ад лац. varius = розны + *-скапія*) — метад здымкі і дэманстравання *варыяфільмаў*.

**ВАРЫЯ́ТАР** (ад лац. variare = змяняць) — *агрэгат* або вузел машыны для плаўнай змены частаты вярчэння.

**ВАРЫЯФІ́ЛЬМ** (ад лац. varius = розны + *фільм*) — фільм, дзе ў адпаведнасці са зместам мяняюцца памеры і канфігурацыя кадраў на экране.

**ВАРЫЯЦЫ́ЙНЫ** (ад *варыяцыя*) — які мае адносіны да варыяцыі; в-ае злічэнне — раздзел матэматыкі, які вывучае *экстрэмумы*, што залежаць ад выбару адной або некалькіх функцый, метадам варыяцый.

# В

**ВАРЫЯ́ЦЫЯ** (лац. variatio = змяненне) — 1) відазмяненне другарадных элементаў чаго-н. пры захаванні асноўнага; 2) варыянт распрацоўкі або паўтарэння асноўнай музычнай тэмы; 3) *мат.* змяненне *функцыі* пры яе *лінеарызацыі*; для звычайных функцый супадае з *дыферэнцыялам*; адно з асноўных паняццяў варыяцыйнага злічэння.

**ВАРЫЯЭКРА́Н** (ад лац. varius = розны + *экран*) — экранны відарыс, які пры кінапраекцыі змяняецца па канфігурацыі і памерах.

**ВАРЭ́К** (фр. varec) — выкінутыя на бераг марскія водарасці.

**ВАР'ЯВА́ЦЬ** (польск. wariować, ад лац. variare = змяняць, рабіць разнастайным) — 1) быць крайне ўзбуджаным, раззлаваным; шалець; 2) раздражняць каго-н., даводзіць да шаленства.

**ВАР'Я́Т** (польск. variat, ад лац. variatus = зменены) — 1) псіхічна хворы чалавек; 2) той, хто дзейнічае безразважна; дзівак.

**ВАСА́Л** (с.-лац. vassallus, ад лац. vassus = слуга) — 1) феадал у сярэдневяковай Зах. Еўропе, які залежаў ад больш буйнога феадала — *сеньёра* або *сюзерэна*; 2) *перан.* падпарадкаваная, залежная дзяржава ці асоба.

**ВАСАЛІТЭ́Т** (фр. vassalité, ад лац. vassus = слуга) — сістэма асабістай залежнасці адных феадалаў (*васалаў*) ад іншых (*сеньёраў* або *сюзерэнаў*) у сярэдневяковай Зах. Еўропе.

**ВАСІЛЕ́ЎС** (гр. basileus) — 1) правадыр племені ў Стараж. Грэцыі; 2) тытул *імператара* ў Візантыі.

**ВАСІЛІ́СК** (гр. basiliskos) — 1) казачнае страшыдла з галавой пеўня, тулавам жабы, хвастом змяі і каронай на галаве, ад позірку якога гіне ўсё жывое; 2) яшчарка з грэбенем на спіне, якая жыве ў трапічнай Амерыцы.

**ВАСКУЛІ́Т** (ад лац. vasculum = сасуд) — *мед.* запаленне сценак дробных крывяносных сасудаў.

**ВА́СПАН** (польск. waćpan) — даўнейшая форма ветлівага звароту; ваша міласць.

**ВАТ** [англ. watt, ад D.Watt = прозвішча англ. інжынера і вынаходцы (1736—1819)] — адзінка вымярэння магутнасці электрычнага току ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ), роўная магутнасці, пры якой за 1 с раўнамерна выконваецца работа ў 1 *джоўль*.

**ВА́ТА** (польск. wata, ад ням. Watte) — пушыстая валакністая маса звычайна з бавоўны, прызначаная для медыцынскіх і бытавых мэтаў.

**ВА́ТМАН** (англ. J.Whatman = прозвішча ўладальніка англ. папяровай фабрыкі 18 ст.) — вышэйшы гатунак паперы для чарчэння і малявання.

**ВАТМЕ́ТР** (ад *ват* + *-метр*) — прыбор для вымярэння магутнасці электрычнага току.

**ВАТ-СЕКУ́НДА** (ад *ват* + *секунда*) — адзінка вымярэння работы электрычнага току, роўная рабоце, якая выконваецца за 1 с пры магутнасці току ў 1 ват.

**ВА́ТЫ** (ням. Watten, ад гал. wadden = прыбярэжныя водмелі) — нізінныя палосы на ўзбярэжжы мора, якія штодзённа затапляюцца ў час прылціваў.

**ВА́ТЭР** (англ. water, ад water-machine = прадзільная машына) — тое, што і *ватэрмашына*.

**ВАТЭРВЕ́ЙС** (англ. waterway, ад water = вада + way = шлях) — тоўстая дошка драўлянага палубнага насцілу ўздоўж борта судна.

**ВАТЭРЖАКЕ́Т** (англ. water-jacket, ад water = вада + jacket = кашуля) — шахтавая печ для выплаўкі медзі, нікелю, свінцу, сценкі якой складзены з пустацелых стальных каробак, што ахалоджваюцца вадой.

**ВАТЭРКЛАЗЕ́Т** (англ. water-closet, ад water = вада + closet = прыбіральня) — *уст.* тое, што і *клазет*.

**ВАТЭРЛІ́НІЯ** (гал. water-lijn, ад water = вада + lijn = лінія) — лінія на бартах судна, якая абазначае ўзровень асадкі яго пры поўнай загрузцы.

**ВАТЭРМАШЫ́НА** (англ. water-machine, ад water = вада + machine = машына) — машына для прадзення бавоўны, ільну, воўны.

**ВАТЭРПАЛІ́СТ** (ад *ватэрпола*) — ігрок у ватэрпола.

**ВАТЭРПА́С** (гал. waterpas) — самы просты прыбор для праверкі гарызантальнасці плоскасцей; выкарыстоўваецца ў будаўнічых і цяслярскіх работах.

**ВАТЭРПО́ЛА** (англ. water-polo) — спартыўная камандная гульня ў мяч на вадзе; воднае пола.

**ВАТЭРПРУ́Ф** (англ. waterproof = воданепранікальнасць) — 1) тканіна, якая не прапускае ваду, а таксама вырабы з яе (адзенне, палаткі); 2) *перан.* жаночае летняе паліто.

**ВА́ЎЧАР** (англ. voucher) — 1) пісьмовая распіска, паручыцельства, гарантыя або рэкамендацыя; 2) *сертыфікат*, які дае права на атрыманне стандартных адукацыйных паслуг; 3) індывідуальны прыватызацыйны чэк; 4) талон, які выкарыстоўваецца для аплаты тавараў і паслуг.

**ВАЎЧАРЫЗА́ЦЫЯ** (ад *ваўчар*) — выдача прыватызацыйных чэкаў.

**ВА́ФЛЯ** (ням. Waffel) — сухое пячэнне з крэмавымі праслойкамі і клятчастым адбіткам на паверхні.

**ВАХАБІ́ТЫ** [ад ар. Muhammad ibn Abd al-Wahhab = імя аравійскага рэлігійнага дзеяча (1703—1787)] — паслядоўнікі рэлігійна-палітычнай плыні ў *ісламе*, якая ўзнікла ў 18 ст. у Цэнтр. Аравіі; выступалі за аб'яднанне аравійскіх плямён у барацьбе супраць турэцкага панавання.

**ВА́ХМІСТР** (ням. Wachtmeister) — воінскае званне ў кавалерыі старой рускай і польскай армій, якое адпавядала сяржанцкаму званню ў пяхоце.

**ВАХТА**[1] (польск. wachta, ад ням. Wacht) — 1) від дзяжурства на судне па ахове яго бяспекі, а таксама частка экіпажа, якая нясе гэта дзяжурства; 2) *перан.* самаадданая праца ў гонар важнай падзеі.

**ВА́ХТА**[2] (фін. vehka) — тое, што і *трыфоль*.

**ВАХЦЁР** (ням. Wächter) — дзяжурны сторاж ва ўстанове, на прадпрыемстве.

**ВАЦІ́Н** (ад *вата*) — трыкатажная тканіна з густым начосам, якая падшываецца пад падкладку для ўцяплення вопраткі.

# В

**ВАЦІ́РАВАЦЬ** (ням. votieren, ад с.-лац. votare) — вырашаць што-н. галасаваннем (у парламенце, на сходзе).

**ВА́ШГЕРД** (ням. Waschherd, ад waschen = прамываць + Herd = пліта) — прасцейшае прыстасаванне для прамыўкі залатаноснага пяску.

**ВАШЫНГТО́НІЯ** (н.-лац. washingtonia, ад Washington = назва штата ў ЗША) — веералістая *пальма* з тоўстым ствалом і вялікай кронай, пашыраная ў ЗША і Мексіцы; вырошчваецца як дэкаратыўная на Чарнаморскім узбярэжжы Каўказа.

**ВАШЭ́РЫЯ** (н.-лац. vaucheria) — ніткаватая жоўта-зялёная водарасць сям. вашэрыевых, якая трапляецца ў прэсных і марскіх вадаёмах, на вільготнай глебе.

**ВАЯ́Ж** (фр. voyage) — *іран.* падарожжа, паездка (звычайна дзелавая, афіцыйная).

**ВАЯЖО́Р** (фр. voyageur) — *іран.* падарожнік.

**ВАЯЖЫ́РАВАЦЬ** (фр. voyager) — *іран.* падарожнічаць.

**ВЕ́БЕР** [ням. W. Weber = прозвішча ням. фізіка (1804—1891)] — адзінка магнітнага патоку ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ).

**ВЕБЕРМЕ́ТР** (ад *вебер* + *-метр*) — прыбор для вымярэння магнітнага патоку.

**ВЕГЕТАРЫЯ́НЕЦ** (ням. Vegetarianer, ад с.-лац. vegetarius = раслінны) — чалавек, які спажывае толькі раслінную і малочную ежу.

**ВЕГЕТАРЫЯ́НСТВА** (англ. vegetarian, ад с.-лац. vegetarius = раслінны) — сістэма харчавання, якая выключае прадукты жывёльнага паходжання.

**ВЕГЕТАТЫ́ЎНЫ** (с.-лац. vegetativus) — які служыць для жыўлення і росту жывёльных і раслінных арганізмаў; в - а я   н е р в о в а я   с і с т э м а — частка нервовай сістэмы, якая рэгулюе абмен рэчываў у арганізме; в - а е   р а з м н а ж э н н е — непалавое размнажэнне, пры якім новы арганізм утвараецца з часткі мацярынскага.

**ВЕГЕТАЦЫ́ЙНЫ** (ад *вегетацыя*) — які мае адносіны да вегетацыі; в.   п е р ы я д — перыяд росту і развіцця расліны.

**ВЕГЕТА́ЦЫЯ** (лац. vegetatio = жыўленне) — рост і жыццядзейнасць расліны.

**ВЕДА́НТА** (санскр. vēdānta = канец, завяршэнне Ведаў) — 1) рэлігійна-філасофскае вучэнне ў Індыі, якое прапаведуе яднанне чалавечай душы з бажаством; 2) старажытнаіндыйскія філасофска-містычныя трактаты, якія змяшчаліся ў канцы *Ведаў*.

**ВЕ́ДЖВУД** [англ. D. Wedgwood = прозвішча англ. кераміка (1730—1795)] — разнавіднасць англійскага фарфору з белымі рэльефнымі фігурамі на каляровым фоне.

**ВЕ́ДЫ** (санскр. vēda = веданне) — старажытныя помнікі індыйскай літаратуры, якія змяшчаюць рэлігійныя гімны, абрадавыя прадпісанні, заклінанні і міфы.

**ВЕДЫ́ЗМ** (ад *веды*) — старажытная рэлігія, заснаваная ў Індыі ў канцы 2 тысячагоддзя да н.э., для якой характэрна абагаўленне сіл прыроды; асновы ведызму выкладзены ў Ведах.

# В

**ВЕ́ЕР** (рус. веер, ад ням. Fächer) — ручное прыстасаванне ў выглядзе складнога паўкруга, якім абмахваюцца ў спёку.

**ВЕЖЭТА́ЛЬ** (фр. végétal = раслінны) — касметычная вадкасць для валасоў.

**ВЕЗІКУЛІ́Т** (ад *везікулы*) — запаленне семявых пузыркоў.

**ВЕЗІ́КУЛЫ** (лац. vesicula) — 1) пухіркі на скуры, высыпка; 2) утварэнні ў арганізме (на лёгкіх, у яечніку і інш.), якія маюць выгляд пузыркоў.

**ВЕЗІ́Р** гл. *візір* 2.

**ВЕЗУВІЯ́Н** (ад іт. Vesuvio = назва вулкана) — мінерал класа *сілікатаў* зеленавата-жоўтага, блакітнага або зялёнага колеру са шкляным бляскам.

**ВЕЙГЕ́ЛА** (н.-лац. veigela) — кустовая расліна сям. бружмелевых з простым лісцем і буйнымі кветкамі розных колераў без паху, пашыраная ва Усх. Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ВЕЙЛАНЕ́ЛЫ** (н.-лац. veilonellaceae) — сямейства *бактэрый*, паразітуюць у ротавай поласці, страўнікава-кішачным тракце і дыхальных шляхах жывёл і чалавека.

**ВЕ́ЙСІЯ** (н.-лац. weisia) — лістасцябловы мох сям. трыхастомавых, які трапляецца на аголеных глебах, уздоўж дарог, па адхонах, канавах.

**ВЕЙСМАНІ́ЗМ** [ад ням. A. Weismann = прозвішча ням. біёлага (1834—1914)] — канцэпцыя спадчыннасці і эвалюцыі жывой прыроды, заснаваная на гіпотэзах, якія прадугадалі сучасныя ўяўленні аб дыскрэтнасці генаў, іх лакалізацыі ў храмасомах і ролі ў *антагенезе*.

**ВЕ́КТАР** (лац. vector = які нясе) — *мат.* 1) адрэзак прамой, які мае пэўнае становішча і напрамак; 2) велічыня, якая характарызуецца памерам і напрамкам і можа быць геаметрычна прадстаўлена ў выглядзе адрэзка.

**ВЕКТАРКАРДЫЯГРА́ФІЯ** (ад *вектар* + *кардыяграфія*) — метад рэгістрацыі і вывучэння электрычных працэсаў, якія ўзнікаюць у сэрцы.

**ВЕКТАРМЕ́ТР** (ад *вектар* + *-метр*) — электрычны прыбор для вымярэння сярэдняга значэння велічыні і фазы пераменнага току або электрычнага напружання.

**ВЕ́КТАРНЫ** (ад *вектар*) — які характарызуецца як вектар або мае адносіны да вектара; в - а е з л і ч э н н е — раздзел *матэматыкі*, які вывучае розныя аперацыі над вектарамі; в - а е п о л е — вобласць прасторы, у кожным пункце якой пракладзены вектар.

**ВЕ́КТАР-ФУ́НКЦЫЯ** (ад *вектар* + *функцыя*) — функцыя, значэнні якой з'яўляюцца вектарамі.

**ВЕЛА-** (лац. velox, -ocis = хуткі) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «веласіпедны».

**ВЕЛАБО́Л** (ад *вела-* + англ. ball = мяч) — спартыўная камандная гульня з мячом на веласіпедах.

**ВЕЛАДРО́М** (ад *вела-* + *-дром*) — спецыяльна абсталяваная пляцоўка для веласіпедных гонак і трэніровак.

# В

**ВЕЛАКА́МЕРА** (ад *вела-* + *камера*) — камера для веласіпеда.

**ВЕЛАКРО́С** (ад *вела-* + *крос*) — веласіпедныя гонкі па перасечанай мясцовасці.

**ВЕЛАРЫ́КША** (ад *вела-* + *рыкша*) — чалавек, які перавозіць пасажыраў на веласіпедзе.

**ВЕЛАСІМЕ́ТР** [ад *веласі(пед)* + *-метр*] — электрамеханічны прыбор для вымярэння хуткасці ваганняў цвёрдых паверхняў у дыяпазоне ультрагукавых частот, выкарыстоўваецца для даследавання ваганняў (*вібрацый*) машын і збудаванняў.

**ВЕЛАСІПЕ́Д** (фр. vélocipède, ад лац. velox, -ocis = хуткі + pes, pedis = нага) — двух- або трохколавая машына для язды, якая прыводзіцца ў рух нагамі пры дапамозе педаляў.

**ВЕЛАСІПЕДЫ́СТ** (ад *веласіпед*) — той, хто едзе на веласіпедзе, хто займаецца веласіпедным спортам.

**ВЕЛАСІ́Т** (лац. velocitas = хуткасць) — нафтавае масла для змазвання механізмаў, што робяць вялікую колькасць абаротаў з невялікай нагрузкай.

**ВЕЛАТРЭ́К** (ад *вела-* + *трэк*) — спецыяльная дарожка для гоначных спаборніцтваў на веласіпедзе.

**ВЕЛАТУ́Р** (ад *вела-* + *тур*) — адзін круг ці этап веласіпедных гонак.

**ВЕЛД** (гал. veld = поле) — плато ў Паўд. Афрыцы, пакрытае злакавай і хмызняковай расліннасцю.

**ВЕЛЕ́НЕВЫ** (ад *велень*) — пергаментны; в - а я п а п е р а — высокагатунковая шчыльная папера, падобная на *пергамент*.

**ВЕЛЕ́НЬ** (фр. vélin) — лепшы сорт пергаменту з цялячай скуры.

**ВЕ́ЛІГЕР** (лац. veliger) — лічынка многіх марскіх *малюскаў*.

**ВЕЛІНГТО́НІЯ** [ад англ. A.Wellington = прозвішча англ. святара (1769—1852)] — тое, што і *секвоядэндрон*.

**ВЕЛІ́ТЫ** (лац. velites) — лёгкаўзброеныя пехацінцы ў Стараж. Рыме.

**ВЕ́ЛУМ** (лац. velum = парус) — орган руху і захоплівання ежы ў *гідрамедуз*, *сіфанафор* і лічынак многіх марскіх *малюскаў*.

**ВЕЛЬБО́Т** (англ. whale-boat) — лёгкая вёславая шлюпка з вострымі носам і кармой, якая выкарыстоўваецца на марскіх промыслах.

**ВЕЛЬВЕ́Т** (англ. velvet = аксаміт) — баваўняная ці сінтэтычная тканіна з густым ворсам, падобная на *аксаміт*.

**ВЕЛЬВЕЦІ́Н** (ад англ. velvet = аксаміт) — мяккая баваўняная тканіна, падобная на *вельвет*, з якой шыюць спартыўнае адзенне.

**ВЕЛЬВІ́ЧЫЯ** [н.-лац. welwitschia, ад ням. F.Welwitsch = прозвішча аўстр. батаніка (1806—1872)] — дрэва-карлік сям. вельвічыевых з двума лістамі даўжынёй да 3 м на кароткім тоўстым ствале, пашыранае ў Паўд. Афрыцы.

**ВЕЛЬЗЕВУ́Л** (ст.-яўр. Beel-zebul) — *кніжн.* валадар пекла, чорт, д'ябал.

**ВЕ́ЛЬСЫ** (англ. wales = рубцы) — дошкі абшыўкі судна, размешчаныя над *ватэрлініяй*; надводны борт.

**ВЕЛЬЦАВА́ЦЬ** (ням. wälzen = качаць, перакочваць) — перапрацоў-

вацъ поліметалічныя адходы металургічнай вытворчасці з мэтай дадатковага атрымання металаў.

**ВЕЛЬШТЭР'ÉР** (ад англ. Wales = Уэльс + *тэр'ер*) — парода паляўнічых сабак з падоўжанай мордай, выведзеная ў 19 ст. у Вялікабрытаніі (Уэльс) для палявання на лісоў і трусоў.

**ВЕЛЮ́Р** (фр. velours) — вышэйшы гатунак драпу, аксаміту, плюшу.

**ВЕЛЯ́РНЫ** (лац. velaris) — заднепаднябенны; в. з ы ч н ы — зычны гук, які ўтвараецца пры падніманні задняй часткі спінкі языка да задняга паднябення (напр. г, к, х).

**ВЕЛЯРЫЗА́ЦЫЯ** (ад лац. velaris = заднепаднябенны) — *лінгв.* дадатковая заднепаднябенная *артыкуляцыя*.

**ВЕ́НА** (лац. vena) — крывяносны сасуд, па якім кроў цячэ ад органаў і тканак да сэрца.

**ВЕНД** (лац. Venedi = назва старажытнага славянскага племені) — комплекс горных парод, які непасрэдна папярэднічае *кембрыю*; змяшчае рэдкіх прадстаўнікоў бесшкілетных арганізмаў.

**ВЕНДЗІ́ТА** (іт. vendita = заезджы двор) — арганізацыя і месца збору *карбанарыяў* у Італіі 19 ст.

**ВЕНДЭ́ТА** (іт. vendetta) — звычай крывавай помсты за забойства сваяка, што існаваў у карсіканцаў і жыхароў вострава Сардзінія.

**ВЕНЕПУ́НКЦЫЯ** (ад *вена* + лац. punctio = укол) — пракол вены полай іголкай для пералівання крыві, увядзення ў вену лекавых раствораў і інш. (параўн. *венесекцыя*).

**ВЕНЕРАЛО́ГІЯ** (ад лац. Venus, -neris = імя старажытнарымскай багіні кахання + *-логія*) — галіна *медыцыны*, якая займаецца вывучэннем і лячэннем *венерычных* хвароб.

**ВЕНЕРО́ЛАГ** (ад *венералогія*) — спецыяліст па *венерычных* хваробах.

**ВЕНЕРЫ́ЧНЫ** (ад лац. Venus, -neris = імя старажытнарымскай багіні кахання); в - ы я х в а р о - б ы — інфекцыйныя хваробы, якія перадаюцца ў асноўным цераз палавыя органы (*сифіліс*, *ганарэя*, *шанкер*).

**ВЕНЕСЕ́КЦЫЯ** (ад *вена* + лац. sectio = рассячэнне) — ускрыццё вены для пералівання крыві, увядзення ў вену лекавых раствораў, калі немагчыма зрабіць *венепункцыю*.

**ВЕ́НЗЕЛЬ** (польск. węzeł = вузел) — узор, утвораны зграбна пераплеценымі пачатковымі літарамі ўласных імён (імя і прозвішча або двух імён).

**ВЕ́НТА** (ісп. venta = заезджы двор) — 1) арганізацыя і месца збораў *карбанарыяў* у Францыі і Іспаніі 19 ст.; 2) карчма ў Іспаніі.

**ВЕНТРА́ЛЬНЫ** (лац. ventralis, ад venter = жывот) — *анат.* брушны, размешчаны на брушной паверхні цела жывёлы або чалавека (пра орган або анатамічнае ўтварэнне); параўн. *дарсальны* 1.

**ВЕНТУ́РЫЯ** (н.-лац. venturia) — сумчаты грыб сям. вентурыевых, які развіваецца на травяністых і дрэвавых раслінах.

# В

**ВЕНТЫЛІ́РАВАЦЬ** (лац. ventilare) — рабіць *вентыляцыю*, праветрываць.

**ВЕ́НТЫЛЬ** (ням. Ventil, ад лац. ventilare = праветрываць) — 1) клапан для рэгуліроўкі выхаду вадкасці, пары або газу ў некаторых механізмах, а таксама паветра ў духавых музычных інструментах; 2) прыстасаванне ў камеры пнеўматычнай шыны, якое дазваляе напампоўваць паветра ў камеру і перашкаджае яго выхаду адтуль; 3) электронны прыбор, які забяспечвае праціканне току толькі ў адным напрамку; выкарыстоўваецца ў выпрамляльных устройствах, у апаратуры аўтаматыкі, радыётэхнікі і радыёэлектронікі.

**ВЕНТЫЛЯ́ТАР** (лац. ventilator = які праветрывае) — устройства для праветрывання памяшканняў, ахаладжэння частак машын і інш.

**ВЕНТЫЛЯ́ЦЫЯ** (лац. ventilatio = праветрыванне) — 1) паветраабмен у памяшканнях, які рэгулюецца; 2) сістэма ўстройстваў, якія ствараюць такі паветраабмен.

**ВЕ́НУЛЫ** (лац. venula = жылка, сасудзік) — самыя дробныя *вены*, якія ўтвараюцца пры зліцці венозных капіляраў.

**ВЕ́НЦЕР** (літ. vénteris) — рыбалоўная прылада ў выглядзе сеткі, нацягнутай на абручы.

**ВЕ́НЧУР** (ад англ. venture = адважвацца, рызыкаваць) — заснаваны на рызыцы разлік, намер, накіраваны на выкарыстанне якіх-н. магчымасцей у пэўных карыслівых мэтах; в. б і з н е с — дробнае прадпрыемства доследнага тыпу, якому ўласціва большая, чым звычайна, ступень рызыкі.

**ВЕ́НЧУРНЫ** (ад *венчур*) — звязаны з рызыкай, рызыкоўны (асабліва ў гандлі і банкаўскай справе); в - ы к а п і т а л — частка грашовых сродкаў, фондаў, якая ўкладваецца ў венчурнае прадпрыемства (фірму); в - а е п р а д п р ы е м с т в а — камерцыйная навукова-тэхнічная арганізацыя, што спецыялізуецца на стварэнні, асваенні ў вытворчасці і ўкараненні новых відаў прадукцыі.

**ВЕРАНА́Л** (н.-лац. veronalum, ад іт. Verona = назва горада ў паўночнай Італіі) — *фарм.* белы крышталічны парашок, нерастваральны, горкі на смак, які ўжываецца ў якасці снатворнага.

**ВЕРА́НДА** (фр. véranda, ад парт. varanda) — адкрытая або зашклёная лёгкая прыбудоўка пры ўваходзе ў дом.

**ВЕРАТРЫ́Н** (ад лац. veratrum = чамярыца) — сумесь *алкалоідаў* з насення чыхальнай травы, белы парашок, які раздражняе слізістую абалонку; выкарыстоўваецца пры лячэнні *неўралгіі* і як сродак супраць насякомых.

**ВЕРБАВА́ЦЬ** (ням. werben = шукаць, дамагацца) — набіраць, наймаць на работу, прыцягваць у якую-н. арганізацыю, да якой-н. справы (напр. в. рабочую сілу).

**ВЕРБА́ЛЬНЫ** (лац. verbalis = слоўны) — 1) вусны, слоўны; в - а я н о т а — дыпламатычная *нота* без подпісу, якая прыраўноўваецца да вуснай заявы; 2) *лінгв.* які адносіцца да дзеяслова, паходзіць ад дзеяслова; дзеяслоўны.

**ВЕРБЕ́НА** (н.-лац. verbena, ад лац. verbena = свяшчэнная галінка) — травяністая расліна сям.

вербенавых з падоўжаным лісцем і дробнымі кветкамі розных колераў у суквеццях, пашыраная пераважна ў тропіках і субтропіках Амерыкі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ВЕ́РБУНКАШ** (венг. verbunkos, ад ням. Werbung = вярбоўка) — стыль венгерскай танцавальнай музыкі канца 18 — першай пал. 19 ст., якому ўласціва чаргаванне напеўных мелодый павольнага тэмпу з музычнымі ўрыўкамі імклівага тэмпу.

**ВЕ́РГЕЛЬД** (ням. Wergeld = цана чалавека) — грашовая *кампенсацыя* за забойства свабоднага чалавека, якая прадугледжвалася юрыдычнымі законамі ранняга феадалізму.

**ВЕ́РДЖЫНЕЛ** (англ. virginal) — клавішны музычны інструмент, англійская разнавіднасць *клавесіна*.

**ВЕРДЫ́КТ** (англ. verdict, ад лац. vere dictum = *літар.* дакладна сказанае) — *юр.* пастанова, прыгавор (пераважна суда прысяжных).

**ВЕРЖЭ́** (фр. vergé) — гатунак паперы, на якой ёсць узор (вадзяныя знакі) у выглядзе буйной прамавугольнай сеткі.

**ВЕ́РКБЛЕЙ** (ням. Werkblei, ад Werk = выраб + Blei = свінец) — свінец з прымессю іншых металаў, які атрымліваецца пры плаўцы свінцовых руд.

**ВЕ́РКБУНД** (ням. Werkbund = вытворчы саюз) — аб'яднанне архітэктараў, майстроў дэкаратыўнага мастацтва і прамыславікоў у шэрагу краін (Германіі, Аўстрыі, Швейцарыі і інш.).

**ВЕ́РКІ** (ням. Werk = умацаванне) — агульная назва розных абарончых збудаванняў у крэпасцях (*бруствераў*, *фортаў* і інш.).

**ВЕРЛІ́БР** (фр. vers libre) — верш без рыфмы, рытм якога ўтвараецца чаргаваннем вершаваных радкоў аднатоннай інтанацыйна-сінтаксічнай структуры; свабодны верш.

**ВЕ́РМАХТ** (ням. Wehrmacht) — узброеныя сілы фашысцкай Германіі 1935—1945 гг. (параўн. *бундэсвер*, *рэйхсвер*).

**ВЕРМІКУЛІ́Т** (фр. vermiculite, ад лац. vermiculus = чарвячок) — мінерал класа *сілікатаў*, водны *алюмасілікат* магнію, кальцыю і жалеза з групы гідраслюд пераважна бурага і жоўтага колераў; выкарыстоўваецца як вогнетрывалы, цепла- і гукаізаляцыйны матэрыял у многіх галінах прамысловасці.

**ВЕРМІКУЛІТАБЕТО́Н** (ад *вермікуліт* + *бетон*) — разнавіднасць лёгкага бетону, у якім напаўняльнікам з'яўляецца ўспучаны вермікуліт; выкарыстоўваецца як цепла- і гукаізаляцыйны матэрыял у панэлях і перакрыццях будынкаў.

**ВЕРМІКУЛЯ́РЫЯ** (н.-лац. vermicularia) — недасканалы грыб сям. туберкулярыевых, які паразітуе на травяністых, кустовых і дрэвавых раслінах.

**ВЕРМІЛЬЁН** (фр. vermillon) — *кінавар* або ярка-чырвоная кінаварная фарба.

**ВЕРМІШЭ́ЛЬ** (фр. vermichel, ад іт. vermicelli = чарвячкі) — гатунак тонкіх макаронаў.

**ВЕ́РМУТ** (ням. Wermut = *літар.* палын) — алкагольны напітак,

прыгатаваны з вінаграднага віна і настою траў.

**ВЕРНІСА́Ж** (фр. vernissage = *літар*. пакрыццё лакам) — урачыстае адкрыццё мастацкай выстаўкі і адначасовае спатканне з аўтарам.

**ВЕРНЬЕ́Р** [фр. vernier, ад P.Vernier = прозвішча фр. вынаходцы (1580—1637)] — 1) тое, што і *ноніус*; 2) прыстасаванне для дакладнай настройкі радыёапаратуры.

**ВЕРО́НІКА** (н.-лац. veronica) — травяністая расліна сям. залознікавых, пашыраная пераважна ва ўмераных і халодных зонах; некаторыя віды вырошчваюцца як дэкаратыўныя.

**ВЕРП** (гал. werp) — дапаможны якар на судне, меншы за асноўны; выкарыстоўваецца пры сцягванні судна з мелі або перамяшчэнні кармы ў іншы бок.

**ВЕРСІФІКА́ТАР** (лац. versificator = вершатворац) — 1) *паэт*, які добра валодае тэхнікай вершаскладання; 2) той, хто піша беззмястоўныя ці бяздарныя вершы.

**ВЕРСІФІКА́ЦЫЯ** (лац. versificatio) — вершаскладанне, уменне складаць вершы, валодаць паэтычнай тэхнікай.

**ВЕ́РСІЯ** (фр. version) — *варыянт*, іншы выклад або тлумачэнне якога-н. факта, падзеі (напр. новая в., апошняя в.).

**ВЕРТЫКА́Л** (лац. verticalis = стромы) — круг нябеснай сферы, які праходзіць праз зеніт і зададзены пункт.

**ВЕРТЫКАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. verticalis = стромы) — давядзенне прадмета (заводскага коміна, ракеты-носьбіта на пускавой сістэме і інш.) да строга вертыкальнага становішча.

**ВЕРТЫКА́ЛЬ** (лац. verticalis = стромы) — прамая, напрамак якой супадае з напрамкам адвеса.

**ВЕРТЫКА́ЛЬНЫ** (лац. verticalis) — стромы, перпендыкулярны лініі гарызонта.

**ВЕРТЫЦЫ́Л** (н.-лац. verticillium) — недасканалы грыб сям. маніліевых, які развіваецца на жывых раслінах і раслінных рэштках.

**ВЕРТЫЦЫЛЁЗ** (ад *вертыцыл*) — хвароба дрэў, якая выклікаецца недасканалым грыбам вертыцылам.

**ВЕ́РТЭКС** (лац. vertex = цэнтр павароту неба) — пункт нябеснай *сферы*, да якога пераважна накіраваны ўласныя рухі зорак.

**ВЕРУКА́РЫЯ** (н.-лац. verrucaria) — накіпны сумчаты лішайнік сям. верукарыевых, які расце на камянях, падмурках, чарапіцавых стрэхах.

**ВЕРФ** (гал. werf) — 1) прадпрыемства, на якім будуюць ці збіраюць судны; 2) памяшканне, дзе будуюць *дырыжаблі*.

**ВЕРШ** (польск. wiersz, ад лац. versus) — 1) невялікі мастацкі твор, напісаны рытмічна арганізаванай, звычайна рыфмаванай мовай; 2) адзінка рытмічна арганізаванай мовы з пэўнай колькасцю стоп, вершаваны радок; 3) рытмізаваная мова.

**ВЕРЫ́ЗМ** (іт. verismo, ад лац. verus = праўдзівы) — рэалістычны кірунак у італьянскай літаратуры і мастацтве канца 19 ст., блізкі да *натуралізму*.

**ВЕРЫТА́ЙПЕР** (ад англ. vary = зменьваць + typer = прыстасаванне для друкавання) — наборна-друкарская машына для стварэння тэксту ў выглядзе адбітка падабраных на зададзены фармат радкоў.

**ВЕРЫФІКА́ЦЫЯ** (с.-лац. verificatio) — 1) праверка сапраўднасці чаго-н.; 2) эмпірычнае пацвярджэнне тэарэтычных палажэнняў навукі.

**ВЕСТ** (ням. West) — 1) захад, заходні напрамак; 2) заходні вецер.

**ВЕСТЫБУЛАМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. vestibulum = сені, уваход + *-метрыя*) — сукупнасць метадычных прыёмаў даследавання дзейнасці *вестыбулярнага* апарата.

**ВЕСТЫБУЛАРЭЦЭ́ПТАРЫ** (ад лац. vestibulum = сені, уваход + *рэцэптар*) — збор раснічастых клетак у паўкружных каналах вестыбулярнага апарата, якія рэагуюць на змены становішча цела або галавы.

**ВЕСТЫБУЛЯ́РНЫ** (ад лац. vestibulum= сені, уваход) — звязаны з раўнавагай; в. а п а р а т — орган пачуцця ў чалавека і пазваночных жывёл, які з'яўляецца часткай унутранага вуха і служыць для каардынацыі рухаў і захавання раўнавагі.

**ВЕСТЫБЮ́ЛЬ** (фр. vestibule, ад лац. vestibulum = сені, уваход) — вялікае памяшканне перад уваходам ва ўнутраныя часткі будынка грамадскага прызначэння (палаца, музея, тэатра, клуба, метро і інш.).

**ВЕСТЭ́ЛА** (н.-лац. westella) — каланіяльная зялёная водарасць сям. дыктыясферыевых, якая трапляецца ў сажалках, азёрах, некаторых рэках.

**ВЕ́СТЭРН** (англ. western = заходні) — фільм, п'еса, аповесць на тэму аб жыцці паўночнаамерыканскіх заходніх штатаў 2-й пал. 19 ст. і аб прыгодах *каўбояў*.

**ВЕ́ТА** (лац. veto = забараняю) — забарона, адмена, прыпыненне дзеяння якога-н. рашэння, пастановы (налажыць в.).

**ВЕТШТЭ́ЙНІНА** (н.-лац. wettsteinina) — сумчаты грыб сям. псеўдасферыевых, які развіваецца на адмерлых сцёблах траў, дрэў і кустоў.

**ВЕТЭРА́Н** (лац. veteranus = стары, дасведчаны) — 1) бывалы, вопытны воін (в. палка); 2) удзельнік вайны ў мінулым (в. вайны); 3) стары заслужаны работнік, дзеяч у якой-н. галіне (в. працы, в. сцэны).

**ВЕТЭРЫНА́Р** (лац. veterinarius = які лечыць жывёлу) — спецыяліст па *ветэрынарыі*.

**ВЕТЭРЫНА́РЫЯ** [п.-лац. (medicina) veterinaria = (лячэнне) жывёл] — 1) навука пра хваробы жывёл і іх лячэнне; 2) лячэнне жывёл.

**ВІБРА-** (лац. vibro = дрыжу, вагаюся) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццем «вібрацыя».

**ВІБРАГРА́МА** (ад *вібра-* + *-грама*) — запіс дрыжання цела, выкананы пры дапамозе *вібрографа*.

**ВІБРАІЗАЛЯ́ЦЫЯ** (ад *вібра-* + *ізаляцыя*) — забеспячэнне пляцін, машын і іншых аб'ектаў ад шкодных механічных ваганняў.

**ВІБРАСКАПІ́Я** (ад *вібра-* + *-скапія*) — даследаванне механічных ваганняў частак машын і кан-

струкцый пры дапамозе *вібраскопа*.

**ВІБРАСКО́П** (ад *вібра-* + *-скоп*) — прыбор для назірання над механічнымі ваганнямі частак машын і канструкцый.

**ВІБРАСТЭ́НД** (ад *вібра-* + *стэнд*) — установка для выпрабавання машын, апаратаў, прыбораў на *вібрацыю*.

**ВІБРА́ТА** (іт. vibrato, ад лац. vibrare = дрыжаць, вагацца) — спосаб выканання пры ігры на струнных музычных інструментах і пры спяванні, калі дрыжанне гуку, голасу дасягаецца дрыжаннем пальца левай рукі на струне або звязак галасавога апарата.

**ВІБРА́ТАР** (ад лац. vibrare = дрыжаць, вагацца) — 1) прылада, прыстасаванне для ўтварэння рытмічных ваганняў; 2) адрэзак праваднікa, па якім цячэ пераменны ток высокай частаты, што ўзбуджае электрамагнітныя ваганні.

**ВІБРАТРО́Н** (ад *вібра-* + *-трон*) — тое, што і *механатрон*.

**ВІБРАТЭРАПІ́Я** (ад *вібра-* + *тэрапія*) — прымяненне механічных ваганняў (*вібрацый*) у лячэбных мэтах; адзін з метадаў *фізіятэрапіі*.

**ВІБРАФО́Н** (ад *вібра-* + *-фон*) — ударны музычны інструмент з двух радоў металічных пласцінак, па якіх ударaюць спецыяльнымі палачкамі, выклікаючы дрыжанне (*вібрацыю*) гуку.

**ВІБРА́ЦЫЯ** (лац. vibratio) — 1) механічныя ваганні пругкіх цел, механізмаў, збудаванняў; 2) ваганні вышыні тону якога-н. гуку (голасу, струны і інш.).

**ВІБРАШТАМПАВА́ННЕ** (ад *вібра-* + *штамп*) — спосаб фармавання зборных жалезабетонных канструкцый і бетонных вырабаў *вібрацыяй* і ціскам *штампа* 1.

**ВІБРО́ГРАФ** (ад *вібра-* + *-граф*) — самапісны прыбор для вычэрчвання крывой, па якой можна меркаваць аб амплітудзе і частаце дрыжання целаў.

**ВІБРО́МЕТР** (ад *вібра-* + *-метр*) — прыбор для вымярэння простых механічных ваганняў і *вібрацыі* машын, мастоў і інш.

**ВІБРЫЁЗ** (ад *вібрыёны*) — інфекцыйная хвароба сельскагаспадарчых жывёл, выкліканая вібрыёнамі.

**ВІБРЫЁНЫ** (фр. vibrion, ад лац. vibrare = дрыжаць, вагацца) — *бактэрыі* ў форме сагнутых палачак або косак, напр. узбуджальнікі халеры.

**ВІБРЫКУЛЯ́РЫЯ** (ад лац. vibrare = дрыжаць) — відазмененая асобіна ў паліморфнай калоніі імшанак.

**ВІБРЫ́РАВАЦЬ** (лац. vibrare) — 1) знаходзіцца ў стане *вібрацыі*; 2) дрыжаць, пераліваццa (пра голас, гукі і інш.).

**ВІБРЫ́СЫ** (н.-лац. vibrissae, ад лац. vibrare = дрыжаць, вагацца) — чуллівыя валаскі на губах, часам на грудзях, лапах або хвасце большасці жывёл, якія служаць дадатковымі органамі дотыку.

**ВІВА́РЫЙ** (лац. vivarium = звярынец) — спецыяльнае памяшканне для ўтрымання паддоследных жывёл; разнавіднасці віварыя — ***інсектарый***, ***тэрарый*** і інш.

**ВІВА́Т** (лац. vivat = няхай жыве) — *брава*, няхай жыве.

**ВІВА́ЧЭ** (іт. vivace) — 1) *муз.* хуткі тэмп, больш хуткі, чым *алегра*, але павольнейшы за *прэста*; 2) музычны твор або яго частка ў такім тэмпе.

**ВІВЕ́РА** (лац. viverra = тхор) — невялікае драпежнае млекакормячае, пашыранае ў Афрыцы і Азіі, якое мае асобыя залозы, што выпрацоўваюць *сакрэт* з мускусным пахам.

**ВІВІПА́РЫЯ** (ад лац. viviparus = жывародны) — спосаб узнаўлення патомства, пры якім зародак развіваецца ў матчыным арганізме, атрымлівае непасрэдна ад яго пажыўныя рэчывы, дзіця або лічынка нараджаецца без абалонак яйца; жыванараджэнне.

**ВІВІСЕ́КЦЫЯ** (ад лац. vivus = жывы + sectio = рассячэнне) — разрэз цела жывых арганізмаў з навуковай мэтай.

**ВІВІЯНІ́Т** (англ. vivianite, ад J.Vivian = прозвішча англ. мінералога 19 ст.) — мінерал класа *фасфатаў*, водны фасфат двухвалентнага жалеза блакітнага або сіняга колеру, які сустракаецца часцей за ўсё ў тарфяніках; выкарыстоўваецца як мінеральны пігмент (сіняя фарба) і мясцовае ўгнаенне.

**ВІГВА́М** (англ. wigwam, ад індз. wikwam = у сваім доме) — купалападобнае жыллё індзейцаў Паўн. Амерыкі на каркасе з тонкіх стваловаў ці жэрдак, накрытых галінкамі, карой, цыноўкамі.

**ВІ́ГІ** (англ. Whigs) — члены палітычнай партыі ў Англіі 17—19 ст., якая выражала інтарэсы гандлёвай і фінансавай буржуазіі і з'явілася папярэдніцай англійскай ліберальнай партыі (параўн. *торы*).

**ВІГІ́ЛЬНАСЦЬ** (ад лац. vigil = пільны, уважлівы) — здольнасць засяродзіць увагу на новых уражаннях, пільнасць, назіральнасць.

**ВІ́ГНА** (н.-лац. vigna) — расліна сям. бабовых з павойнымі або прамастаячымі сцёбламі, пашыраная ў тропіках Афрыкі, Паўд. і Паўд.-Усх. Азіі; харчовая і кармавая.

**ВІГО́НЬ** (фр. vigogne, ад ісп. vicuña) — 1) паўднёваамерыканская млекакормячая жывёла сям. ламаў з тонкай і мяккай поўсцю; 2) воўна гэтай жывёлы; 3) пража з сумесі воўны і бавоўны, а таксама тканіна з гэтай пражы.

**ВІДЫКО́Н** [ад лац. vid(ere) = бачыць + гр. eikon = адлюстраванне] — перадавальная тэлевізійная трубка, якая дзейнічае ў залежнасці ад змены электрычнага супраціўлення фотаадчувальнага слоя пад уплывам святла.

**ВІДЭА-** (лац. video = гляджу, бачу) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на адносіны да адлюстравання электрычных сігналаў на экране электронна-прамянёвай трубкі.

**ВІДЭАГРА́МА** (ад *відэа-* + *-грама*) — запіс *візуальнай* інфармацыі з мэтай яе захавання і пазнейшага ўзнаўлення.

**ВІДЭАІ́МПУЛЬС** (ад *відэа-* + *імпульс*) — электрычны імпульс, звычайна аднапалярны, пастаянная састаўная якога адрозніваецца ад нуля (параўн. *радыёімпульс*); 2) тое, што і *відэасігнал*.

# В

**ВІДЭАКА́МЕРА** (ад *відэа-* + *камера*) — малагабарытная перадавальная тэлевізійная камера, аб'яднаная з касетным відэамагнітафонам для запісу тэлевізійных сігналаў.

**ВІДЭАКЛІ́П** (ад *відэа-* + *кліп*) — тэлевізійны рэкламны ролік — эстрадная поп- або рок-песня, якая суправаджаецца разнастайнымі адлюстраваннямі на экране.

**ВІДЭАМАГНІТАФО́Н** (ад *відэа-* + *магнітафон*) — апарат для запісу на магнітную стужку электрычных сігналаў адлюстравання і гуку з далейшым іх узнаўленнем.

**ВІДЭАМАНІТО́Р** (ад *відэа-* + *манітор*) — прыстасаванне для візуальнага кантролю якасці тэлевізійнага відарыса ў розных пунктах яго перадачы.

**ВІДЭАРЭКО́РДЭР** (англ. videorecorder, ад лац. video = бачу + англ. record = запісваць, рэгістраваць) — прыбор для запісвання перадач тэлебачання на магнітную стужку.

**ВІДЭАСАЛО́Н** (ад *відэа-* + *салон*) — памяшканне, зала для паказу відэафільмаў.

**ВІДЭАСІГНА́Л** (ад *відэа-* + *сігнал*) — электрычны сігнал, прызначаны для стварэння адлюстравання.

**ВІДЭАТЭ́КС** (ад *відэа-* + *тэкс*) — від электрасувязі, які дазваляе карыстальніку атрымліваць на экране тэлевізара (або дысплея) графічную інфармацыю па каналах тэлефоннай сувязі са спецыяльнага банка даных, а таксама выконваць розныя паслугі.

**ВІДЭАТЭЛЕФО́Н** (ад *відэа-* + *тэлефон*) — від сувязі, які дазваляе размаўляючы па тэлефоне бачыць субяседніка на экране свайго апарата.

**ВІДЭАФАНАГРА́МА** (ад *відэа-* + *фанаграма*) — магнітная стужка, кінастужка з гука- і відэазапісам.

**ВІДЭАФІ́ЛЬМ** (ад *відэа-* + *фільм*) — фільм, запісаны на відэамагнітафоннай стужцы, а не на кінаплёнцы.

**ВІДЭАФО́Н** (ад *відэа-* + *-фон*) — тое, што і *відэатэлефон*.

**ВІДЭАЭКРА́Н** (ад *відэа-* + *экран*) — электронна-прамянёвая трубка, якая выкарыстоўваецца ў аўтаматычных картаграфічных сістэмах для атрымання інфармацыі ў графічнай, таблічнай, алфавітна-лічбавай формах.

**ВІДЭ́ЛЕЦ** (польск. widelec) — сталовы прыбор у выглядзе ручкі з доўгімі зубамі для захоплівання кавалкаў ежы.

**ВІЁЛА** (іт. viola) — струнны смычковы музычны інструмент, пашыраны ў сярэднія вякі ў раманскіх краінах; папярэдніца скрыпкі, віяланчэлі.

**ВІЁЛА-БАСТА́РДА** (іт. viola bastarda) — струнны смычковы музычны інструмент, які быў пашыраны ў 16—18 ст. галоўным чынам у Англіі.

**ВІ́ЗА** (фр. visa, ад лац. visus = прагледжаны) — 1) афіцыйная адзнака ў пашпарце аб дазволе на ўезд у дадзеную дзяржаву, праезд або выезд з яе; 2) паметка службовай асобы на дакуменце, якая сведчыць пра яго сапраўднасць або надае яму законную сілу.

**ВІЗАВА́ЦЬ** (фр. viser) — ставіць *візу* на дакуменце.

**ВІЗАВІ́** (фр. vis-à-vis) — 1) твар у твар, адзін насупраць другога (сядзець в.); 2) той, хто знаходзіцца насупраць (мой в.).

**ВІЗАЖЫ́СТ** (ад фр. visage = твар, аблічча) — дызайнер або мастак па *макіяжы*.

**ВІЗІ́Р**[1] (ням. Visier) — 1) прыцэльнае прыстасаванне з вузкай шчылінай; 2) прыстасаванне ў фота- або кінаапараце, каб вызначыць межы кадра; відашукальнік; 3) устройства для візіравання (гл. *візіраваць*) у геадэзічных інструментах (параўн. *дыёптр* 1).

**ВІЗІ́Р**[2], **ВЕЗІ́Р** (тур. wezir, ад ар. väzir) — вышэйшы саноўнік, дзяржаўны саветнік у Турцыі і іншых краінах Блізкага Усходу.

**ВІЗІ́РАВАЦЬ** (ням. visieren) — наводзіць аптычны ці вугламерны прыбор на які-н. пункт.

**ВІЗІ́РКІ** (ад ням. Visier = прыцэл) — прылады для вызначэння змены профілю чыгуначнага палатна.

**ВІЗІ́Т** (фр. visite) — наведванне, пераважна афіцыйнае або ўрачэбнае.

**ВІЗІТА́ЦЫЯ** (лац. visitatio = наведванне) — праверка ваенным суднам дакументаў і грузу на сустрэтым у адкрытым моры судне, якое выклікае падазрэнне.

**ВІЗІЦЁР** (фр. visiteur) — той, хто прыязджае з *візітам*; наведвальнік.

**ВІЗІЯНЕ́Р** (фр. visionnaire, ад лац. visio, -onis = уяўленне, вобраз) — чалавек, які падлягае *галюцынацыям*.

**ВІЗІЯНЕ́РСТВА** (ад *візіянер*) — схільнасць да прывідных, фантастычных уяўленняў, стварэння паветраных замкаў; пражэкцёрства.

**ВІЗО́РЫЙ** (ад лац. visus = зрок) — *палігр.* рухомая драўляная вілка для прыцiскання арыгінала да *тэнакля* і ўказвання на радок, які набіраецца.

**ВІЗУАЛІ́ЗМ** (ад лац. visualis = зрокавы) — прыём у мастацтве, мэта якога — выклікаць зрокавыя ўяўленні (руху паверхні, мігцення, свячэння).

**ВІЗУА́ЛЬНЫ** (лац. visualis = зрокавы) — які праводзіцца простым вокам або пры дапамозе аптычных прылад (в-ыя назіранні).

**ВІ́КА** (н.-лац. vicia) — травяністая расліна сям. бабовых, пашыраная ва ўмераных зонах; расце на лугах, у стэпах, лясах; некаторыя віды высяваюцца на зялёны корм.

**ВІКАНТЭ́СА** (фр. vicomtesse) — жонка або дачка *віконта*.

**ВІКА́РНЫ** (лац. vicarius = які замяшчае) — замяшчальны; в-ы я віды — сістэматычна блізкія віды раслін або жывёл, якія займаюць розныя арэалы ці трапляюцца ў межах аднаго арэала, але ў розных экалагічных умовах (напр. дуб скальны, вядомы на паўднёвым захадзе Беларусі, і дуб звычайны, пашыраны на ўсёй тэрыторыі).

**ВІКА́РЫЙ** (лац. vicarius) — памочнік *архірэя* ў праваслаўнай царкве, прыхадскога святара — у каталіцкай.

**ВІКАРЫЯ́Т** (ад лац. vicarius = які замяшчае) — з'ява, пры якой блізкія віды раслін або жывёл займаюць розныя арэалы ці трапляюцца

ў межах аднаго арэала, але ў розных экалагічных умовах.

**ВІКАСО́Л** [ад *ві(тамін) К* + лац. sol(utio) = раствор] — водараставральны аналаг вітаміну К, лекавы сродак для спынення крывацёку, лячэння жаўтухі, гемарою, прамянёвай хваробы і інш.

**ВІ́КІНГ** (ст.-сканд. vikingr) — старажытнаскандынаўскі марскі воін, удзельнік нападаў на еўрапейскія краіны.

**ВІКО́НТ** (фр. vicomte) — дваранскі тытул у краінах Зах. Еўропы, сярэдні паміж тытуламі *барона* і *графа*.

**ВІКСАЦІ́Н** (ад ням. wichsen = змазваць) — непрамакальная, падобная на цырату; тканіна.

**ВІКТАРЫ́НА** (ад лац. victoria = перамога) — гульня ў адказы на пытанні з розных галін ведаў.

**ВІКТАРЫЯНІ́ЗМ** [ад англ. Victoria = імя англ. каралевы (1837—1901)] — кірунак маралі, які заключаецца ў пурытанска-аскетычных адносінах да палавога жыцця, адмаўленні значэння пачуццёвасці ва ўзаемаадносінах мужчыны і жанчыны.

**ВІКТО́РЫЯ** (лац. victoria = перамога) — 1) *уст.* перамога; 2) старадаўні заходнееўрапейскі сорт слівы; 3) тое, што і *вікторыя-рэгія*.

**ВІКТО́РЫЯ-РЭ́ГІЯ** (лац. victoria regia = каралеўская перамога) — травяністая водная трапічная расліна сям. гарлачыкавых з вялікімі кветкамі і агромністым плаваючым лісцем.

**ВІКТЫМАЛО́ГІЯ** (ад лац. victima = ахвяра + *-логія*) — галіна *крыміналогіі*, якая вывучае псіхалагічныя і маральныя асаблівасці асобы — ахвяры злачынства і любыя формы праяўлення грамадскай паталогіі, у выніку якіх прычыняецца шкода асобе.

**ВІКУ́ННЯ** (ісп. vicuña) — тое, што і *вігонь* 1.

**ВІ́ЛА** (лац. villa) — камфартабельны загарадны дом-асабняк з садам ці паркам.

**ВІЛАЕ́Т** (тур. vilâyet, ад ар. vilija = кіраваць) — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Турцыі, Алжыры, Тунісе.

**ВІЛАНЕ́ЛА** (іт. villanella, ад лац. villanus = сялянскі, вясковы) — 1) неапалітанская песня шматгалосага складу; 2) лірычны верш цвёрдай страфічнай будовы.

**ВІЛА́НЫ** (с.-лац. villani, ад лац. villa = сядзіба, маёнтак) — феадальна-залежныя сяляне ў краінах Зах. Еўропы перыяду сярэднявякоўя.

**ВІЛЕМІ́Т** (ад гал. Willem = імя галандскага караля) — мінерал класа *сілікатаў*, бясколерны, часам зеленаватага або чырванаватага колеру; руда цынку.

**ВІ́ЛІС** (англ. willys, ад J.Willys = прозвішча амер. уладальніка аўтамабільнага прадпрыемства) — легкавая аўтамашына маркі Віліс, выпускалася ў 1943—1963 гг.

**ВІЛТ** (англ. wilt = вянуць) — хвароба раслін, якая выклікаецца грыбамі *вертыцыламі* і *фузарыямі*.

**ВІЛЬЧУ́РА** (польск. wilczura) — воўчае футра ў феадальнай знаці Польшчы і Вялікага княства Літоўскага; апраналі найчасцей у дарогу.

**ВІ́МПЕРГ** (ням. Wimperg) — *архіт.* высокі дэкаратыўны *франтон*, які завяршае парталы і аконныя праёмы гатычных будынкаў.

**ВІ́НА** (санскр. vina) — індыйскі струнны шчыпковы музычны інструмент.

**ВІ́НДА** (польск. winda, ад ням. Winde) — прыстасаванне для падымання грузаў.

**ВІ́НДЗЕЙЛЬ** (ад гал. wind = вецер + zeil = парус) — пераносны нагнятальны *вентылятар* у выглядзе доўгага парусінавага рукава з устаўленымі абручамі, якія служыць для вентыляцыі ўнутраных памяшканняў судна.

**ВІНДРО́ЗА** (ням. Windrose, ад Wind = вецер + Rose = ружа) — дапаможнае прыстасаванне ў выглядзе невялікага мнагалопасцевага ветракола для аўтаматычнай арыентацыі асноўнага кола ветрарухавіка адносна паветранага патоку.

**ВІНДРО́ТАР** (ад англ. wind = вецер + *ротар*) — разнавіднасць ветранога рухавіка.

**ВІНДРО́ЎЭР** (англ. windrower, ад wind = вецер + row = рад) — уборачная машына, якая косіць збажыну, укладвае яе ў рады для далейшага дасыхання і даспявання.

**ВІНДСЁРФІНГ** (англ. windsurfing, ад wind = вецер + surfing = катанне на прыбойнай хвалі) — від воднага спорту, звязаны са слізганнем па хвалях, стоячы на коркавай або пенапластавай дошцы з рухомым парусам.

**ВІНДЫКА́ЦЫЯ** (лац. vindicatio = абарона, ахова) — патрабаванне ўласніка вярнуць яму маёмасць судовым парадкам з чужога незаконнага валодання.

**ВІНЕГРЭ́Т** (фр. vinaigrette = падліва з воцатам) — 1) халодная страва з дробна нарэзанай агародніны, запраўленая воцатам, алеем і іншымі прыправамі; 2) *перан.* сумесь розных паняццяў.

**ВІНЕ́Я** (лац. vinea) — асаднае збудаванне на катках са сценамі і страхой з дошак, пакрытых шкурамі, якое выкарыстоўвалася ў старажытнарымскай арміі.

**ВІНІ́Л** (ням. Vinyl, ад лац. vinum = віно + гр. hyle = аснова) — аднавалентны *радыкал этылену*.

**ВІНІЛАЦЭТА́Т** (ад *вініл* + *ацэтат*) — арганічнае злучэнне, вініլавы *эфір* воцатнай кіслаты, бясколерная вадкасць; выкарыстоўваецца ў вытворчасці пластмас, лакаў, клеяў.

**ВІНІЛАЦЭТЫЛЕ́Н** (ад *вініл* + *ацэтылен*) — арганічнае злучэнне, ненасычаны вуглевадарод, газ, які лёгка ператвараецца ў бясколерную вадкасць; выкарыстоўваецца пры вырабе сінтэтычных каўчукоў, лакаў.

**ВІНІЛБЕНЗО́Л** (ад *вініл* + *бензол*) — тое, што і *стырол*.

**ВІНІЛІ́Н** (ад *вініл*) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца пры *фурункулах*, *карбункулах*, апёках, запаленнях.

**ВІНІЛХЛАРЫ́Д** (ад *вініл* + *хларыд*) — арганічнае злучэнне, бясколерны газ са слабым пахам *хлараформу*; выкарыстоўваецца пры вырабе сінтэтычных смолаў.

**ВІНІПЛА́СТ** [ад *віні(л)* + *-пласт*] — тэрмапластычны матэрыял, аснову якога складае *полі-*

*нілхларыд*; выкарыстоўваецца ў хімічнай прамысловасці, у будаўніцтве.

**ВІНІПО́Р** [ад *віні(л)* + *-пор*] — пластмаса на аснове *полістыролу*.

**ВІ́НКЕЛЬ** (ням. Winkel = вугал) — лінейка ў выглядзе прамавугольнага трохвугольніка для праверкі прамых вуглоў; навугольнік.

**ВІНТ** (польск. gwint, ад ням. Gewinde) — 1) шпень са спіральнай нарэзкай; 2) частка рухавіка самалёта, верталёта, судна ў выглядзе лопасцей, замацаваных на вале (напр. в. самалёта, грабны в.).

**ВІНЦЭТО́КСІКУМ** (н.-лац. vincetoxicum) — травяністая расліна сям. ластаўнёвых з дробнымі белымі кветкамі ў парасоніках, пашыраная ва ўмераных зонах; лекавая і меданосная.

**ВІНЧЭ́СТЭР** (англ. O.Winchester = прозвішча амерыканца, які сканструяваў ружжо ў 1865 г.) — тып паляўнічай стрэльбы; разнавіднасць старадаўняга карабіна.

**ВІНШАВА́ЦЬ** (польск. winszować, ад ням. wünschen) — вітаць каго-н. з выпадку чаго-н. прыемнага, радаснага.

**ВІНЬЕТАВА́ЦЬ** (ад фр. vignette = застаўка) — звужаць пучок светлавых прамянёў у аптычнай сістэме шляхам загароджвання яго краёў *дыяфрагмамі*.

**ВІНЬЕ́ТКА** (фр. vignette, ад vigne = вінаград) — упрыгожанне ў выглядзе невялікага малюнка ў пачатку або ў канцы кнігі, раздзела, у альбоме, на лістку паштовай паперы і інш.

**ВІ́ПЕР** (англ. whipper, ад whip = перакідаць) — прыстасаванне для перакульвання рудных ваганетак.

**ВІПРАТО́КС** (ад лац. vipera = гадзюка + toxicum = атрута) — лекавы прэпарат (мазь) са змяінага яду, які выкарыстоўваецца пры *рэўматызме*, *артрыце* і інш.

**ВІ́РА** (іт. vira = паварочвай) — Падымай! — каманднае слова ў будаўнікоў, партовых грузчыкаў і інш.

**ВІРАГЕНІ́Я** (ад *вірусы* + *-генія*) — форма суіснавання віруса з клеткай, пры якой *геном* віруса ўключаецца ў *храмасому* клеткі.

**ВІРА́Ж** (фр. virage = паварот; змена колеру) — 1) паварот на вялікай хуткасці самалёта, карабля з нахілам набок або паварот па крывой аўтамабіля, матацыкла, веласіпеда; 2) паварот спартыўнай дарожкі з ухілам унутр; 3) хімічны раствор для надання пэўнага колеру фатаграфічным здымкам.

**ВІРА́Ж-ФІКСА́Ж** (ад *віраж* + *фіксаж*) — раствор солей, які надае стойкасць фотаадбітку і змяняе яго колер.

**ВІРАЛЕ́** (фр. virelai, ад virer = кружыцца) — шасцірадковая страфа, інтанацыйна падзеленая на два трохрадкоўі.

**ВІРАМЕ́НТ** (фр. virement = вяртанне) — банкавая аперацыя, звязаная з пералічэннем пэўнай грашовай сумы з бягучага рахунку адной асобы на рахунак другой асобы.

**ВІРГА́ЦЫЯ** (ням. Virgation, ад лац. virga = галінка) — разгалінаванне; в. с к л а д а к — веерападобнае разгалінаванне складак

горных парод, якое назіраецца звычайна на месцы заканчэння горных сістэм.

**ВІРО́ІДЫ** (ад *вірусы* + *-оід*) — вірусападобныя інфекцыйныя *агенты*, якія ўяўляюць сабой нізкамалекулярную адналанцужковую кальцавую рыбануклеінавую кіслату і ў якіх адсутнічае антыгенная актыўнасць; выклікаюць хваробы жывёл і раслін.

**ВІРТУА́ЛЬНЫ** (с.-лац. virtualis) — магчымы, такі, які можа або павінен праявіцца пры пэўных умовах; в-ыя перамяшчэнні — *фіз.* магчымыя перамяшчэнні элементарных часціц; в-ая тэмпература — *метэар.* магчымая тэмпература, якую пры пэўным ціску мела б сухое паветра той жа шчыльнасці, што і вільготнае.

**ВІРТУО́З** (іт. virtuoso = умелы, майстэрскі) — 1) музыкант, які дасканала валодае тэхнікай ігры на інструменце; 2) *перан.* чалавек, які дасягнуў у працы вышэйшай ступені майстэрства.

**ВІРТУО́ЗНЫ** (іт. virtuoso) — 1) майстэрскі, дасканалы (напр. в-ая тэхніка ігры); 2) які патрабуе ўмелага, майстэрскага выканання (напр. в-ая п'еса).

**ВІРУЛЕ́НТНАСЦЬ** (ад *вірулентны*) — хваробатворная ўласцівасць мікробаў.

**ВІРУЛЕ́НТНЫ** (лац. virulentus = ядавіты) — хваробатворны, здольны выклікаць інфекцыйнае захворванне (пра мікробы).

**ВІРУСАЛО́ГІЯ** (ад *вірусы* + *-логія*) — раздзел *мікрабіялогіі*, які вывучае вірусы.

**ВІРУСАСКАПІ́Я** (ад *вірусы* + *-скапія*) — метад мікраскапічнага вывучэння будовы вірусаў.

**ВІРУСО́ЛАГ** (ад *вірусы* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *вірусалогіі*.

**ВІ́РУСЫ** (лац. virus = яд) — найдрабнейшыя арганізмы, здольныя пранікаць у пэўныя жывыя клеткі і размнажацца толькі ўнутры гэтых клетак; узбуджальнікі заразных хвароб чалавека, жывёл і раслін.

**ВІРЫЛІ́ЗМ** (ад лац. virilis = мужчынскі) — з'яўленне ў жанчын другасных мужчынскіх палавых прыкмет, напр. вусоў, барады.

**ВІРЫ́РАВАЦЬ** (фр. virer) — надаваць фатаграфічнаму здымку з дапамогай *віражу* 3 пэўную афарбоўку.

**ВІРЫЯ́ЛЬНЫ** (ад лац. vires = сілы); в-ая тэарэма — тэарэма аб суадносінах кінетычнай і патэнцыяльнай энергій часціц фізічнай сістэмы, якія ўзаемадзейнічаюць паводле пэўнага закону; в-ае ўраўненне стану — ураўненне стану рэальнага газу, у якім ціск газу пададзены па ступенях шчыльнасці газу.

**ВІСКАЗІМЕ́ТР** (ад лац. viscosus = клейкі + *-метр*) — прыбор для вымярэння вязкасці вадкасцей і газаў.

**ВІСКАЗІМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. viscosus = клейкі + *-метрыя*) — сукупнасць метадаў вымярэння вязкасці вадкасцей і газаў.

**ВІСКАЗІ́Н** (ад лац. viscosus = клейкі) — вязкае змазачнае масла, якім змазваюць цыліндры паравых машын.

**ВІ́СКІ** (англ. whisky) — моцны алкагольны напітак, які атрымлі-

ваюць перагонкай зброджанага сусла, прыгатаванага са збожжавай сыравіны.

**ВІСКО́ЗА** (лац. viscosus = клейкі) — 1) студзяністае клейкае цэлюлознае рэчыва, якое выкарыстоўваецца для вырабу штучнага шоўку, розных плёнак і інш.; 2) штучны шоўк.

**ВІ́СМУТ** (ням. Wismut) — 1) хімічны элемент, крохкі серабрыста-шэры з ружовым адценнем метал; выкарыстоўваецца для прыгатавання легкаплаўкіх сплаваў; 2) лякарства, прыгатаванае са злучэння́ў вісмуту.

**ВІСМУЦІ́Н** (ням. Bismutin) — мінерал класа *сульфідаў*, непразрысты, серабрыста-белы з металічным бляскам; вісмутавая руда.

**ВІСТ** (англ. whist) — карцёжная гульня, а таксама пэўная камбінацыя карт пры гульні ў *прэферанс*, *бастон*.

**ВІСЦІ́Н** (ад лац. viscum = клей з ягад амялы) — клейкае рэчыва, прадукт ператварэння клетачных сценак і *цытаплазмы* ў некаторых раслін (напр. у ягадах і кары амялы).

**ВІСЦЭРА́ЛЬНЫ** (ад лац. viscera = вантробы) — які адносіцца да ўнутраных органаў чалавека або жывёл (напр. в-ая мускулатура); параўн. *парыетальны*.

**ВІСЦЭРАПТО́З** (ад лац. viscera = вантробы + *-птоз*) — *мед.* апусканне вантробаў.

**ВІТАЛІ́ЗМ** (фр. vitalisme, ад лац. vitalis = жыццёвы) — плынь у *біялогіі*, якая дапускае наяўнасць у жывых арганізмах асобай нематэрыяльнай жыццёвай сілы.

**ВІТАЛІ́СТ** (фр. vitaliste, ад лац. vitalis = жыццёвы) — паслядоўнік *віталізму*.

**ВІТА́ЛЬНЫ** (лац. vitalis) — *біял.* жыццёвы, які мае адносіны да жыццёвых з'яў (проціл. *летальны*).

**ВІТАМІНАЛО́ГІЯ** (ад *вітаміны* + *-логія*) — навука пра вітаміны, іх будову, пашырэнне ў прыродзе і ролю ў працэсах жыццядзейнасці.

**ВІТАМІНАПРАФІЛА́КТЫКА** (ад *вітаміны* + *прафілактыка*) — выкарыстанне вітамінаў з мэтай папярэдзіць развіццё вітаміннай недастатковасці.

**ВІТАМІНАТЭРАПІ́Я** (ад *вітаміны* + *тэрапія*) — прымяненне вітамінаў з лячэбнай мэтай пры захворваннях, выкліканых недахопам у арганізме вітамінаў.

**ВІТАМІ́НЫ** (ад лац. vita = жыццё + *аміны*) — 1) арганічныя рэчывы, неабходныя для нармальнай жыццядзейнасці арганізма чалавека і жывёл; 2) медыцынскія прэпараты, якія змяшчаюць такія рэчывы.

**ВІТРА́Ж** (фр. vitrage, ад лац. vitrum = шкло) — малюнак або ўзор з каляровага шкла ў вокнах, дзвярах.

**ВІТРАФІ́Р** (ад лац. vitrum = шкло + гр. porphyra = пурпур) — вулканічная горная парода, якая складаецца з вулканічнага шкла з невялікай прымессю іншых мінералаў.

**ВІТРЫ́НА** (фр. vitrine) — 1) спецыяльнае акно ў магазіне для паказу тавараў; 2) зашклёная шафа, скрынка для паказу розных прадметаў, экспанатаў.

**ВІТРЫФІКА́ЦЫЯ** (ад лац. vitrum = шкло + *-фікацыя*) — пераход

вадкасці пры паніжэнні тэмпературы ў шклопадобны стан.

**ВІТЫЛІ́ГА** (лац. vitiligo = лішай) — хранічнае захворванне чалавека, якое праяўляецца ва ўтварэнні на скуры бледных плям.

**ВІТЭЛАГЕНЕ́З** (ад лац. vitellus = жаўток + *-генез*) — *сінтэз* і накапленне жаўтка ў жаночых палавых клетках жывёл і чалавека; забяспечвае жыццё і рост зародка.

**ВІТЭЛАФА́ГІ** (ад лац. vitellus = жаўток + *-фаг*) — клеткі, якія застаюцца ў жаўтку пасля паверхневага драблення яец у насякомых, ракападобных, павукападобных і не ўдзельнічаюць у будове цела будучага зародка.

**ВІТЭРЫ́Т** [ад англ. W.Withering = прозвішча англ. мінералога (1741—1799)] — мінерал класа *карбанатаў*, вуглекіслы *барый* белага або жаўтаватага колеру.

**ВІУЭ́ЛА** (ісп. vihuela) — іспанскі струнны шчыпковы музычны інструмент, падобны да *гітары*.

**ВІЦМУНДЗІ́Р** (ад лац. vice = замест + *мундзір*) — форменны сурдут чыноўнікаў у царскай Расіі.

**ВІЦЫНА́ЛЬ** (лац. vicinalis = суседні, блізкі) — невялікае пірамідальнае ўзвышэнне або зніжэнне на грані крышталя, што ўтвараецца ў час яго росту.

**ВІЦЭ-** (ад лац. vice = узамен, замест) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «намеснік», «памочнік».

**ВІ́ЦЭ-АДМІРА́Л** (ад *віцэ-* + *адмірал*) — воінскае званне ў ваеннамарскім флоце, сярэдняе паміж контр-адміралам і адміралам.

**ВІ́ЦЭ-ГУБЕРНА́ТАР** (ад *віцэ-* + *губернатар*) — намеснік губернатара.

**ВІ́ЦЭ-КА́НЦЛЕР** (ад *віцэ-* + *канцлер*) — намеснік канцлера.

**ВІ́ЦЭ-КО́НСУЛ** (ад *віцэ-* + *консул*) — намеснік консула або кіраўнік самастойнага віцэ-консульства.

**ВІ́ЦЭ-ПРЭЗІДЭ́НТ** (ад *віцэ-* + *прэзідэнт*) — 1) намеснік прэзідэнта ў некаторых краінах, напр. у ЗША; 2) выбарная пасада ў некаторых навуковых і грамадскіх установах і арганізацыях.

**ВІЯДУ́К** (фр. viaduc, ад лац. via = дарога + duco = вяду) — мост цераз цясніну, глыбокі яр, дарогу.

**ВІЯЛАНЧЭ́ЛЬ** (іт. violoncello) — смычковы музычны інструмент баса-тэнаровага *рэгістра* 2, які мае форму вялікай скрыпкі з чатырма струнамі.

**ВІЯЛЕ́НТЫ** (ад лац. violent = нястрымны) — віды, найбольш магутныя па здольнасці ўтвараць згуртаванні або ўкараняцца ў іх (напр. дуб).

**ВО́БЦАС** (польск. obces, ад лац. obcessus = шалёны, у якім сядзіць д'ябал) — стрымгалоў, адразу, хутка.

**ВО́ДАР** (лац. odor = пах) — прыемны пах, духмянасць.

**ВО́ЗНЫ** (ст.-польск. woźny) — службовая асоба ў Польшчы (13—18 ст.) і Вялікім княстве Літоўскім (16—18 ст.), судовы выканаўца.

**ВО́ЙСКІ** (ст.-польск. wojski) — службовая асоба ў Польшчы (13—18 ст.) і Вялікім княстве Літоўскім (16—18 ст.), чыноўнік, які ахоўваў маёнткі шляхціцаў-апалчэнцаў.

# В

**ВОЙТ** (ст.-польск. wojt, ад с.-в.-ням. voget) — 1) асоба, якая ўзначальвала мясцовае (гарадское або сельскае) кіраванне ці самакіраванне на тэрыторыі Германіі, Польшчы, Вялікага княства Літоўскага ў 15—18 ст.; 2) асоба, якая наглядала за працай прыгонных сялян і выкананнем імі павіннасцей; 3) кіраўнік гміны ў Польшчы да 1950 і ў Зах. Беларусі ў 1921—1939 гг.

**ВО́ЛЕНС-НО́ЛЕНС** (ад лац. volens = які жадае + nolens = які не жадае) — *кніжн.* воляй-няволяй, незалежна ад жадання.

**ВОЛЬТ**[1] [іт. A.Volta = прозвішча іт. фізіка (1745—1827)] — асноўная адзінка розніцы электрычных патэнцыялаў (напружання, электрарухальнай сілы) у Міжнароднай сістэме адзінак (СІ), роўная розніцы патэнцыялаў паміж двума пунктамі праваднiка, па якім працякае ток сілай у 1 *ампер*, калі магутнасць роўная 1 *вату*.

**ВОЛЬТ**[2] (фр. volte = паварот) — 1) круты паварот каня пры манежнай яздзе; 2) паварот акрабата, гімнаста на 180°; 3) ухіленне ад удару праціўніка ў час фехтавання.

**ВО́ЛЬТА** (іт. volta) — абазначэнне (дужкамі і лічбамі) у нотах, якое паказвае на паўтарэнне невялікага раздзела музычнага твора кожны раз з новым заканчэннем.

**ВОЛЬТ-АМПЕ́Р** (ад *вольт*[1] + *ампер*) — адзінка напружання пераменнага току, роўная здабытку 1 вольта на 1 ампер.

**ВО́ЛЬФІЯ** (н.-лац. wolfia) — водная травяністая расліна сям. раскавых без каранёў, з дробным лісцем, пашыраная ва ўмераных і трапічных зонах; на Беларусі трапляецца рэдка.

**ВО́ЛЮСТ** (ням. Wollust) — сладастраснае пачуццё, якое ўзнікае ў час палавога акта.

**ВО́НА** (карэйск. von) — грашовая адзінка Карэі, роўная 100 *джонам*.

**ВО́РВАНЬ** (рус. ворвань, ад ст.-шв. narhval) — тлушч, здабыты з марскіх жывёл.

**ВОРС** (перс. vars = волас) — кароткі начос на паверхні некаторых тканін.

**ВО́РЧЫК** (польск. orczyk, ад ням. Ortsheit) — прыналежнасць запрэжкі: палка з жалезным круком пасярэдзіне, за якую зачэпліваюць пастронкі.

**ВО́ТУМ** (лац. votum = жаданне) — падача голасу на выбарах; рашэнне, прынятае галасаваннем; в. д а в е р ' я — пазітыўнае рашэнне парламента аб дзейнасці ўрада ці яго членаў; в. н е д а в е р ' я — негатыўнае рашэнне парламента аб дзейнасці ўрада ці яго членаў.

**ВО́ХРА**, **О́ХРА** (польск. ochra < лац. ochra, ад гр. ochra) — прыродная фарба жоўтага або чырвонага колеру, якая ўяўляе сабой гліны, моцна ўзбагачаныя гідратамі вокіслаў жалеза (*ліманітам*, *гетытам* і інш.).

**ВО́ЦАТ** (польск. ocet, ад лац. acetum) — раствор воцатнай кіслаты, вадкасць з рэзкім кіслым смакам, што ўжываецца для кансервавання прадуктаў, як прыправа ў ежу, а таксама як медыцынскі і касметычны сродак.

**ВУАЛЕ́ТКА** (фр. voilette) — невялікая *вуаль*.

**ВУАЛІ́РАВАЦЬ** (фр. voiler) — наўмысна рабіць што-н. не зусім ясным, выразным.

**ВУА́ЛЬ** (фр. voile) — 1) тонкая празрыстая сетка на жаночым капелюшы, якая часам апускаецца на твар; 2) лёгкая празрыстая тканіна; 3) пацямненне на негатыве, якое зніжае кантрастнасць фотаздымка.

**ВУ́ДЛЕНД** (англ. woodland = лясная мясцовасць) — назва апошняга з трох археалагічна выяўленых перыядаў гісторыі насельніцтва ўсх. раёнаў Паўн. Амерыкі.

**ВУЛКА́Н** (лац. vulcanus = агонь, полымя, ад Vulcanus = імя бога агню ў старажытнарымскай міфалогіі) — гара з кратэрам на вяршыні, праз які час ад часу вывяргаюцца лава, гарачыя газы, попел і абломкі горных парод.

**ВУЛКАНАГЕ́ННЫ** (ад *вулкан* + *-генны*) — звязаны паходжаннем з дзейнасцю вулканаў (напр. в-ыя горныя пароды).

**ВУЛКАНАЛО́ГІЯ** (ад *вулкан* + *-логія*) — раздзел *геалогіі*, які займаецца вывучэннем вулканічных з'яў.

**ВУЛКАНІЗАВА́ЦЬ** (фр. vulcaniser, ад лац. vulcanus = агонь, полымя) — рабіць *вулканізацыю*.

**ВУЛКАНІЗА́Т** (ад лац. vulcanus = агонь, полымя) — тое, што і *гума* 1.

**ВУЛКАНІЗА́ТАР** (фр. vulcanisateur, ад лац. vulcanus = агонь, полымя) — 1) апарат для *вулканізацыі* дробных каўчукавых прадметаў; 2) работнік, які займаецца вулканізацыяй; 3) рэчыва, якое ў злучэнні з каўчуком утварае гуму.

**ВУЛКАНІЗА́ЦЫЯ** (фр. vulcanisation, ад лац. vulcanus = агонь, полымя) — апрацоўка каўчуку серай пры павышанай тэмпературы для атрымання гумы.

**ВУЛКАНІ́ЗМ** (ад лац. vulcanus = агонь, полымя) — сукупнасць працэсаў і з'яў, звязаных з утварэннем і дзейнасцю *вулканаў*.

**ВУЛКАНІ́Т** (ад лац. vulcanus = агонь, полымя) — будаўнічы матэрыял, які ўяўляе сабой сумесь *дыятаміту* або вулканічнага попелу, гашанай вапны і *азбесту*.

**ВУЛКАНО́ЛАГ** (ад *вулкан* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *вулканалогіі*.

**ВУЛКАНФІ́БРА** [ад *вулкан(ізацыя)* + *фібра*] — скурападобны матэрыял, які атрымліваюць шляхам вулканізацыі паперы і іншых валакністых матэрыялаў.

**ВУ́ЛЬВА** (лац. vulva) — 1) уваход у палавую камеру ў некаторых жывёл, куды пры *капуляцыі* ўводзіцца мужчынскі палавы орган; 2) вонкавыя палавыя органы жанчыны.

**ВУЛЬВАВАГІНІ́Т** (ад *вульва* + *вагіна*) — запаленчае захворванне *вульвы* 2 і похвы.

**ВУЛЬВІ́Т** (ад *вульва*) — запаленне *вульвы* 2.

**ВУЛЬГА́РНЫ** (лац. vulgaris = просты, звычайны) — 1) грубы, непрыстойны (напр. в. выраз, в-ыя манеры); 2) спрошчаны да скажэння (напр. в. матэрыялізм).

**ВУЛЬГАРЫЗА́ЦЫЯ** (ад лац. vulgaris = просты, звычайны) — грубае спрашчэнне якога-н. пытання, поглядаў, вучэння, падача яго ў скажоным выглядзе.

# В

**ВУЛЬГАРЫ́ЗМ** (ад лац. vulgaris = просты, звычайны) — грубае, непрыстойнае слова ці выраз, ужытыя ў літаратурнай мове.

**ВУЛЬФЕНІ́Т** [ням. Wulfenit, ад F.Wulfen = прозвішча аўстр. мінералога (1728—1805)] — мінерал класа малібдатаў, малібдат свінцу крышталічнай будовы, пераважна жоўтага колеру; руда свінцу.

**ВУНДЭРКІ́НД** (ням. Wunderkind = *літар.* цуда-дзіця) — дзіця з надзвычайнымі для свайго ўзросту здольнасцямі (часам іранічна).

**ВУ́СТРЫЦЫ** (н.-лац. ostreidae, ад гр. ostreon = чарапашка) — сямейства марскіх *малюскаў* класа двухстворкавых; пашыраны ў Атлантычным акіяне, Міжземным і Чорным морах; прыдатныя для яды.

**ВУХНА́ЛЬ** (польск. hufnal, ад ням. Hufnagel) — плоскі цвік для прыбівання падковы да капыта.

**ВЫ́МПЕЛ** (рус. вымпел, ад гал. wimpel) — 1) вузкі, доўгі, раздвоены на канцы *флаг*, які ўзнімаецца на мачце ваеннага карабля ў час плавання; 2) флажок трохвугольнай формы, які служыць знакам чаго-н.; 3) *футляр* з доўгай яркай стужкай для скідвання з самалёта данясенняў, пісем і інш.

**ВЫ́СПА** (польск. wyspa) — невялікі востраў, часцей пясчаны.

**ВЭ́КСАЛЬ** (ням. Wechsel = *літар.* абмен) — пісьмовае даўгавое абавязацельства ўстаноўленай законам формы, якое выдаецца пазычальнікам (вэксалядаўцам) крэдытору (вэксалетрымальніку) і дае апошняму права патрабаваць ад пазычальніка выплаты ва ўстаноўлены тэрмін пэўнай сумы грошай; від каштоўных папер.

**ВЭ́ЛЮМ** (лац. velum = заслона) — кавалак тонкай празрыстай тканіны, прымацаваны да вянка або жаночага капелюша, як частка шлюбнага (белы) або жалобнага (чорны) убору.

**ВЭ́НДЗІЦЬ** (польск. wędzić) — акурваць дымам мяса, сала, рыбу, каб надаць ім пэўныя смакавыя якасці і засцерагчы ад псавання.

**ВЮРЦЫ́Т** [ад фр. S.Wurtz = прозвішча фр. хіміка (1817—1884)] — мінерал класа сульфідаў, сульфід цынку ад светла-жаўтаватага да цёмна-чырвона-карычневага колеру; руда цынку, іншы раз кадмію.

**ВЯДУ́ТА** (іт. veduta) — жанр выяўленчага мастацтва або канкрэтны твор, які адлюстроўвае від мясцовасці, пейзаж, часцей архітэктурны.

**ВЯЛІ́ГЕР** (ад лац. velum = парус + gero = нясу) — лічынка *малюскаў*.

**ВЯНДЛІ́НА** (польск. wędlina) — вэнджанае мяса.

**ВЯНО́ЗНЫ** (лац. venosus) — які мае адносіны да *вены* або знаходзіцца ў ёй (напр. в-ая кроў).

**ВЯСТА́ЛКА** (лац. Vestalis = які мае адносіны да багіні Весты) — жрыца багіні Весты ў Стараж. Рыме, якая падтрымлівала вечны агонь у яе храме.

**ВЯЧЫ́НЫ** (ад лац. vicinus = сусед) — феадальна-залежныя сяляне ў Малдавіі 16—18 ст.

# Г

**ГААЛЯ́Н** (кіт. kaoliang) — травяністая расліна сям. злакавых, від *сорга* з высокім сцяблом і шырокім лісцем; кітайскае, маньчжурскае проса.

**ГААЦЫ́Н** (н.-лац. opisthocomus hoazin, з індз.) — птушка атрада курападобных з кіпцюрамі на пальцах крыла, што дапамагае ёй лазіць на дрэвах; пашырана ў прырэчных лясах Паўд. Амерыкі.

**ГАБАІ́СТ** (ад *габой*) — музыкант, які іграе на габоі.

**ГАБАРДЗІ́Н** (фр. gabardine) — гатунак шарсцяной тканіны для паліто і касцюмаў.

**ГАБАРЫ́Т** (фр. gabarit) — знешнія абрысы прадмета, будынка, канструкцыі; памер, велічыня чаго-н. (напр. габарыты вагонаў, пакой малых габарытаў).

**ГАБЕЛЕ́Н** (фр. gobelin, ад Gobelin = уласнае імя) — 1) насценны дыван ручной работы з вытканай на ім карцінай, узорам; 2) шчыльная абівачная дэкаратыўная тканіна.

**ГАБІЁН** (фр. gabion, ад іт. gabbione = вялікая клетка) — драцяная клетка, запоўненая камянямі або галькай, для ўмацавання берагоў рэк, аховы мастоў і г.д.

**ГАБІ́Т** (польск. habit, ад лац. habitus = выгляд) — манаская раса.

**ГАБІ́ТУС** (лац. habitus = выгляд) — вонкавы выгляд чалавека, жывёльнага або расліннага арганізма.

**ГАБО́Й** (ням. Hoboe, ад фр. hautbois = высокае дрэва) — 1) духавы язычковы музычны інструмент, па вышыні гуку сярэдні паміж *кларнетам* і *флейтай*; 2) арганны рэгістр язычковай групы.

**ГА́БРА** (іт. gabbro, ад Gabbro = назва горада ў Італіі) — магматычная горная парода цёмнага колеру, якая складаецца з *плагіяклазу* і *піраксену*, выкарыстоўваецца як будаўнічы і абліцовачны матэрыял.

**ГАБРАНЕ́МА** (н.-лац. habronema) — гельмінт класа нематодаў; паразіт непарнакапытных, узбуджальнік *габранемозу*.

**ГАБРАНЕМО́З** (н.-лац. habronemosus) — гельмінтозная хвароба непарнакапытных, узбуджальнікамі якой з'яўляюцца габранемы.

**ГАВА́НА** (ісп. Habana = назва сталіцы Кубы) — 1) гатунак *тытуню*, які выкарыстоўваецца для вырабу гаванскіх цыгар; 2) гаванскія *цыгары*.

**ГА́ВАНЬ** (гал. haven) — прыродная або штучна агароджаная ад хваляў, цячэнняў і ветру прыбярэжная частка воднай прасторы для прычалу і стаянкі суднаў.

**ГАВЕ́НІЯ** (н.-лац. hovenia) — дрэва сям. крушынавых з яйцападобным лісцем і ядомымі пладаножкамі, пашыранае ў Паўд.-Усх. Азіі; культывуецца ў Крыме, на Каўказе і ў Сярэд. Азіі; цукерачнае дрэва.

# Г

**ГАВІЯ́Л** (н.-лац. gavialis, ад інд. gavijāl) — паўзун атрада *кракадзілаў* з вузкім доўгім рылам, які жыве ў рэках на поўдні Азіі.

**ГАВО́РЦЫЯ** (н.-лац. haworthia) — травяністая расліна сям. асфадэлавых з кароткім сцяблом і дробнымі белавата-зялёнымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная ў Паўд. Афрыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ГАВО́Т** (фр. gavotte) — 1) старадаўні французскі *танец*, а таксама музыка да гэтага танца; 2) частка інструментальнай *сюіты*.

**ГАВЭ́НДА** (польск. gawęda = гутарка) — 1) невялікі эпічны *жанр* (паэтычны або празаічны) у польскай літаратуры эпохі рамантызму; 2) размова; плёткі.

**ГАГА́Т** (гр. gagates = чорны бурштын) — разнавіднасць каменнага вугалю, чорнага колеру з матавым бляскам, які добра паліруецца і ідзе на выраб дробных упрыгожанняў (пацерак, муштукоў і інш.).

**ГАДАЛІ́НІЙ** [н.-лац. gadolinium, ад фін. J.Gadolin = прозвішча фін. хіміка і мінералога (1760—1852)] — хімічны элемент, метал серабрыста-белага колеру, які належыць да *лантаноідаў*.

**ГАДАЛІНІ́Т** (ад *гадалініі*) — рэдкі мінерал з групы *сілікатаў* ад светла-шаравата-зялёнага да чорнага колеру са шкляным бляскам.

**ГАДО́ГРАФ** (ад гр. hodos = шлях + *-граф*) — *мат.* крывая лінія, якая з'яўляецца геаметрычным месцам канцоў *вектараў*, што выходзяць з аднаго пункта і раўняюцца розным значэнням некаторага пераменнага вектара.

**ГЕДО́МЕТР** (ад гр. hodos = шлях + *-метр*) — прыбор, якім вымяраюць пройдзены шлях.

**ГАДРАЗА́ЎР** (ад гр. hadros = вялікі + *-заўр*) — качканосы раслінаедны *дыназаўр* мелавога перыяду (гл. *мезазой*), самы буйны з *арнітаподаў*.

**ГА́ДЭС** (гр. Haides = імя старажытнагрэчаскага міфічнага бога падземнага царства) — паводле старажытнагрэчаскай міфалогіі, падземнае царства мёртвых; пекла.

**ГАДЭ́ЦЫЯ** (н.-лац. godetia, ад A.Godet = прозвішча швейц. батаніка 19 ст.) — травяністая расліна сям. скрыпнёвых з махрыстымі кветкамі розных колераў, пашыраная ў Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ГАЗ**[1] (фр. gaz, ад гр. chaos = хаос) — 1) рэчыва, асобныя часцінкі якога слаба звязаны паміж сабой і здольны раўнамерна распаўсюджвацца ў прасторы, у якой яны знаходзяцца; 2) газападобнае паліва; 3) *мн.* баявыя атрутныя газападобныя рэчывы.

**ГАЗ**[2] (фр. gaze) — лёгкая шаўковая празрыстая тканіна.

**ГА́ЗА** (польск. gaza, ад фр. gaz = газ) — гаручая вадкасць, якая атрымліваецца пры перапрацоўцы нафты.

**ГАЗААНАЛІЗА́ТАР** (ад *газ*[1] + *аналізатар*) — прыбор для вызначэння якаснага і колькаснага складу сумесі газаў.

**ГАЗААПАРАТУ́РА** (ад *газ*[1] + *апаратура*) — сукупнасць газавых прыбораў і ўстановак.

# Г

**ГАЗААПЕРА́ТАР** (ад *газ*[1] + *аператар*) — спецыяліст па абслугоўванню газавых установак.

**ГАЗАБАЛО́Н** (ад *газ*[1] + *балон*) — пасудзіна для захоўвання і перавозкі газу.

**ГАЗАБЕТО́Н** (ад *газ*[1] + *бетон*) — лёгкі бетон наздраватай структуры, які атрымліваюць, уводзячы ў бетонную сумесь газаўтваральныя рэчывы.

**ГАЗАВАЛЮМЕ́ТРЫЯ** (ад *газ*[1] + англ. volume = аб'ём + *-метрыя*) — метад колькаснага аналізу, пры якім вызначальны *кампанент* ператвараюць у газападобнае злучэнне і вымяраюць яго аб'ём.

**ГАЗАВА́Т** (ар. gazāvat) — «свяшчэнная вайна» мусульман супраць народаў іншай веры.

**ГАЗАГЕНЕРА́ТАР** (ад *газ*[1] + *генератар*) — апарат для атрымання гаручага газу з цвёрдага або вадкага паліва.

**ГАЗАГІ́ПС** (ад *газ*[1] + *гіпс*) — лёгкі бетон наздраватай структуры, падрыхтаваны з будаўнічага гіпсу, газаўтваральных сумесей і вады.

**ГАЗАДЫ́ЗЕЛЬ** (ад *газ*[1] + *дызель*) — рухавік унутранага згарання, які дзейнічае на газападобным паліве па цыклу нямецкага вынаходцы Р.Дызеля.

**ГАЗАКА́МЕРА** (ад *газ*[1] + *камера*) — спецыяльнае памяшканне, прызначанае для акурвання сярністым ангідрыдам жывёл пры каросце, вашывасці.

**ГАЗАЛІ́Н** (фр. gazoline, ад gaz + лац. oleum = алей) — вадкі прадукт перагонкі нафты, які выкарыстоўваецца ў якасці паліва для рухавікоў унутранага згарання.

**ГАЗАМАТО́Р** (ад *газ*[1] + *матор*) — рухавік, які выкарыстоўвае цеплавую энергію газу, што спальваецца ў камеры згарання.

**ГАЗАМЕ́ТР** (ад *газ*[1] + *-метр*) — лабараторны прыбор для збірання, захоўвання і вымярэння аб'ёмаў розных газаў.

**ГАЗАТРО́Н** (ад *газ*[1] + *-трон*) — двухэлектронны іонны прыбор, напоўнены інертным газам або парай ртуці, які служыць для ператварэння пераменнага электрычнага току ў пастаянны.

**ГАЗАТУРБІ́НА** (ад *газ*[1] + *турбіна*) — турбіна, у якой газ у камеры згарання ператвараецца ў механічную работу.

**ГАЗА́ЦЫЯ** (ад *газ*[1]) — тое, што і *фумігацыя*.

**ГАЗГО́ЛЬДЭР** (англ. gasholder) — металічны *рэзервуар* для захоўвання газу і рэгулявання яго падачы ў газаправодную сетку.

**ГАЗЕ́ЛЬ**[1] (перс. gazal, ад ар. ghazāl) — вершаваная форма ў лірычнай паэзіі народаў Блізкага і Сярэд. Усходу, якая складаецца з двухрадкоўяў (не больш як 12) з пастаяннай рыфмай на канцы кожнага з іх.

**ГАЗЕ́ЛЬ**[2] (фр. gazelle, ад ар. ghazēl) — горная каза з групы *антылопаў*, стройная і імклівая ў бегу, якая пашырана ў Афрыцы і Азіі.

**ГАЗЕ́ТА** (іт. gazzetta) — перыядычнае, звычайна штодзённае, друкаванае выданне, у якім змяшчаюцца матэрыялы пра бягучыя падзеі.

# Г

**ГА́ЗІ** (ар. gazi, ад gaza = ваяваць) — 1) удзельнік *газавату*; 2) ганаровы тытул военачальнікаў у многіх мусульманскіх краінах.

**ГАЗІФІКАВА́ЦЬ** (ад *газ*[1] + лац. facere = рабіць) — 1) ператвараць цвёрдае ці вадкае паліва ў гаручы газ; 2) забяспечваць прадпрыемствы і жылыя раёны газам як палівам.

**ГАЗІФІКА́ТАР** (ад *газ*[1] + лац. facere = рабіць) — апарат для захавання вадкага кіслароду (азоту, вадароду і інш.), ператварэння яго ў газ.

**ГАЗІФІКА́ЦЫЯ** (ад *газ*[1] + *-фікацыя*) — 1) ператварэнне цвёрдага ці вадкага паліва ў гаручы газ; 2) забеспячэнне прадпрыемстваў і жылых раёнаў газавым палівам.

**ГАЗЛІ́ФТ** (ад *газ*[1] + *ліфт*) — прыстасаванне для пад'ёму вадкасці сціснутым паветрам, якое змешваецца з ёю, напр. нафты і вады з буравых свідравін.

**ГАЗО́ЙЛЬ** (ад *газ*[1] + англ. oil = алей) — *фракцыя* 2 нафты, якая выкарыстоўваецца як паліва для дызеляў і як сыравіна для каталітычнага *крэкінгу*.

**ГАЗО́Н** (фр. gazon) — пляцоўка ў садзе, скверы, парку з роўна падстрыжанай сеянай травой і кветкамі.

**ГАЗЫ́Р** (тур. hazir, ад ар. hazīr = гатовы, прыгатаваны) — адно з патронных гнёзд, нашытых радамі на грудной частцы чэркескі.

**ГАЙДАМА́К** (укр. гайдамак, ад тур. haydamak = нападаць) — 1) украінскі *казак*, удзельнік вызваленчага руху на Украіне супраць польскай шляхты ў 17—18 ст.; 2) салдат контррэвалюцыйных войск у час грамадзянскай вайны на Украіне.

**ГАЙДРО́П** (англ. guide-rope) — 1) *мар.* канец сталёвага троса, які дапамагае ўтрымліваць прыдонную частку трала на зададзенай глыбіні; 2) канат, які скідаецца з дырыжабля або аэрастата для тармажэння пры спуску.

**ГАЙДУ́К** (польск. hajduk, ад венг. hajdúk = пехацінцы) — 1) паўстанец-партызан на Балканах і ў Венгрыі ў перыяд турэцкага панавання (15—19 ст.); 2) выязны лакей памешчыка ў часы прыгону.

**ГАЙЛА́РДЫЯ** (н.-лац. gaillardia) — травяністая расліна сям. складанакветных з авальным лісцем і жоўтымі або цёмна-бардовымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ГАЙМАРЫ́Т** [ад англ. N.Highmore = прозвішча англ. анатама (1613—1685)] — запаленне слізістай абалонкі гаймаравай паласці носа.

**ГАЙО́ТЫ** [ад англ. A.Guyot = прозвішча амер. географа і геолага (1807—1884)] — ізаляваныя плоскавяршынныя падводныя горы вулканічнага паходжання.

**ГАК** (польск. hak, ад ням. Haken) — жалезны крук для падвешвання, трымання або зачэплівання чаго-н. (напр. зачэп у багры, шып у падкове).

**ГАКАБО́РТ** (гал. hakkebord) — верхняя закругленая частка кармы карабля.

**ГАЛ** [ад іт. G.Galilei = прозвішча іт. фізіка і астранома (1564—

1642)] — адзінка паскарэння ў СГС сістэме адзінак, роўная 1 см/с$^2$.

**ГА́ЛА** (фр. gala) — урачыстае відовішча; банкет з удзелам афіцыйных асоб.

**ГАЛА́-** (гр. hals, halos = соль) — першая састаўная частка складаных слоў, якая па значэнні адпавядае слову «соль».

**ГАЛАБАКТЭ́РЫІ** (ад *гала-* + *бактэрыі*) — сямейства бактэрый; жывуць у салёных вадаёмах, саланчаковых глебах, развіваюцца ў расолах, салёнай рыбе і мясе.

**ГАЛАБІЁНТЫ** (ад *гала-* + *біёнты*) — арганізмы, якія насяляюць салёныя азёры.

**ГА́ЛАВЫ** (ад лац. galla = чарнільны арэшак); г - а я  к і с л а т а — арганічнае злучэнне, бясколернае крышталічнае рэчыва, якое выкарыстоўваецца для сінтэзу фарбавальнікаў; г - ы я  ф а р б а в а л ь н і к і — сінтэтычныя фарбавальнікі, вытворныя галавай кіслаты.

**ГАЛА́ГА** (фр. galago, з афр. моў) — млекакормячае падатрада паўмалп, якое жыве ў трапічных лясах Афрыкі.

**ГАЛАГА́МІЯ** (ад гр. holos = увесь + *-гамія*) — найпрасцейшы тып палавога працэсу ў аднаклетачных раслінных арганізмаў, пры якім зліваюцца цэлыя арганізмы.

**ГАЛАГЕНАГІДРЫ́ДЫ** (ад *галагены* + *гідрыды*) — вытворныя кіслот, у якіх ОН-групы замешчаны атамамі *галагенаў*.

**ГАЛАГЕНЕ́З**[1] (ад гр. holos = увесь + *-генез*) — тэорыя *эвалюцыі*, паводле якой кожны від у межах свайго арэала падзяляецца на два віды, прычым адзін развіваецца паскорана, а другі замаруджана.

**ГАЛАГЕНЕ́З**[2] (ад *гала-* + *-генез*) — сукупнасць працэсаў у насычаных растворах салёных азёр або лагун, у выніку якіх крышталізуюцца солі.

**ГАЛАГЕНІ́ДЫ** (ад *галагены* + гр. eidos = выгляд) — злучэнні галагенаў з іншымі элементамі (гл. *браміды*, *ёдыды*, *фтарыды*, *хларыды*); трапляюцца ў выглядзе мінералаў.

**ГАЛАГЕ́НЫ** (ад *гала-* + *-ген*) — хімічныя элементы (фтор, хлор, бром, ёд і астат), якія пры злучэнні з металамі даюць солі.

**ГАЛАГРА́МА** (ад гр. holos = увесь + *-грама*) — малюнак, атрыманы метадам *галаграфіі*.

**ГАЛАГРА́ФІЯ** (ад гр. holos = увесь + *-графія*) — спосаб атрымання аб'ёмнага відарыса прадмета, заснаваны на *інтэрферэнцыі* двух прамянёў святла, адзін з якіх ідзе непасрэдна ад лазера, а другі асвятляе прадмет, адбіўшыся ад люстэрка.

**ГАЛАЗО́ЙНЫ** (ад гр. holos = увесь, цэлы + zoon = жывёла) — звязаны з харчаваннем шляхам захопу цвёрдых часцінак ежы ўнутр цела, што ўласціва пераважна для аднаклетачных жывёл.

**ГАЛАКЛІ́Н** (ад *гала-* + гр. kline = ложа) — слой вады ў акіяне з рэзка выражаным вертыкальным *градыентам* салёнасці.

**ГАЛАКРЫ́НАВЫ** (ад гр. holos = увесь + krino = выдзяляю); г - ы я  з а л о з ы — залозы, у якіх усё змесціва функцыянальных клетак

ператвараецца ў *сакрэт*², напр. сальныя залозы (параўн. *апакрынны*, *меракрынавы*).

**ГАЛАКТАЗАМІ́Н** (ад *галактоза* + *аміны*) — амінацукар, вытворнае галактозы.

**ГАЛАКТА́НЫ** (ад гр. gala, galaktos = малако) — складаныя *поліцукрыды*, якія змяшчаюцца ў раслінных тканках як структурныя элементы клетачных абалонак, а таксама ў тканках жывёл.

**ГАЛАКТО́ЗА** (ад гр. gala, galaktos = малако) — арганічнае злучэнне, адзін з простых цукроў (*монацукрыдаў*), які з'яўляецца састаўной часткай *лактозы*.

**ГАЛАКТО́МЕТР** (ад гр. gala, galaktos = малако + *-метр*) — тое, што і *лактометр*.

**ГАЛА́КТЫКА** (гр. galaktikos = малочны) — зорная сістэма; н а ш а г. — зорная сістэма, у якую ўваходзіць Сонца.

**ГАЛАЛІ́Т** (ад гр. gala = малако + *-літ*) — *пластмаса* з сумесі *казеіну*, мачавіны і *пластыфікатару*, апрацаванай фармалінам; выкарыстоўваецца для вырабу гузікаў, грабянёў і інш.

**ГАЛАМА́НІЯ** (ад лац. Gallus = гал + *-манія*) — цяга да ўсяго французскага.

**ГАЛАМО́РФНЫ** (ад гр. holos = увесь + *-морфны*); г - а я ф у н к ц ы я — *функцыя*, якая можа быць прадстаўлена на пэўным участку плоскасці радам ступеней.

**ГАЛАНТАРЭ́Я** (фр. galantérie = ветлівасць) — гандлёвая назва дробных прыналежнасцей убору (гальштукі, пальчаткі, стужкі, запінкі, гузікі і інш.).

**ГАЛА́НТНЫ** (фр. galant) — вельмі ветлівы, далікатны, выхаваны (г. чалавек).

**ГАЛАПЕ́ДЫЯ** (н.-лац. holopedia) — каланіяльная сіне-зялёная водарасць сям. галапедыевых; трапляецца ў стаячых і павольных водах, радзей у азёрах.

**ГАЛАПЕЛІ́ТЫ** (ад *гала-* + гр. pelos = гліна) — глiністыя і мергелістыя пароды, якія маюць у сабе да 30% растваральных солей (саляная гліна, саляны мергель і інш.) і карбанаты, *ангідрыт*, палявыя шпаты, *кварц* і інш.

**ГАЛА́РКТЫКА** (ад гр. holos = увесь + *Арктыка*) — адна з фларыстычных і заагеаграфічных абласцей сушы, якая займае нетрапічную частку Паўн. паўшар'я.

**ГАЛАРКТЫ́ЧНЫ** (ад гр. holos = увесь + *арктычны*); г - а е ф л а р ы с т ы ч н а е ц а р с т в а — тое, што і *галарктыка*.

**ГАЛАТУ́РЫІ** (гр. holothuria) — клас марскіх беспазваночных жывёл тыпу ігласкурых; марскія агуркі.

**ГАЛАФА́НЫ** (ад гр. holos = увесь + phanos = светлы, яскравы) — каўпакі асвятляльных прыбораў, зробленыя з празрыстага шкла.

**ГАЛАФІ́ЛЫ** (ад *гала-* + *-філ*) — водныя арганізмы, якія прыстасаваліся да жыцця ў асяроддзі з павышанай салёнасцю (параўн. *галафобы*).

**ГАЛАФІ́ЛЬНЫ** (ад *галафілы*); г - ы я а р г а н і з м ы — тое, што і *галафілы*.

**ГАЛАФІ́ТЫ** (ад *гала-* + *-фіты*) — расліны, якія растуць на засоленым грунце (параўн. *глікафіты*).

**ГАЛАФЛАВІ́Н** (ад лац. galla = чарнільны арэшак + flavus = жоўты) — пратраўны фарбавальнік, які выкарыстоўваецца для фарбавання шарсцяных тканін у жоўты колер.

**ГАЛАФО́БНЫ** (ад *галафобы*); г-ыя арганізмы — тое, што і *галафобы*.

**ГАЛАФО́БЫ** (ад *гала-* + *-фоб*) — водныя арганізмы, якія не вытрымліваюць павялічанай салёнасці асяроддзя (параўн. *галафілы*).

**ГАЛАЦЫКЛІ́Я** (ад гр. holos = увесь + *цыкл*) — цыкл развіцця, пры якім чаргуюцца двухполае і партэнагенетычнае (гл. *партэнагенез*) пакаленні.

**ГАЛАЦЭ́Н** (ад гр. holos = увесь + *-цэн*) — сучасны перыяд геалагічнай гісторыі Зямлі, які з'яўляецца другім, верхнім падраздзяленнем *антрапагену*.

**ГАЛГО́ФА** (гр. Golgotha = узгорак паблізу Іерусаліма, дзе, паводле біблейскіх паданняў, праводзілася пакаранне і дзе быў распяты Хрыстос, ад арам. gulgulta = чэрап) — *перан.* месца пакарання, сімвал падзвіжніцтва і маральных пакут.

**ГАЛЕА́С** (гал. galeas) — парусна-вёславы ваенны карабель 16—17 ст. у еўрапейскіх флотах.

**ГАЛЕ́ГА** (іт. galega) — травяністая расліна сям. бабовых са складаным лісцем і сіне-фіялетавымі кветкамі ў гронках, пашыраная ў Еўразіі; выкарыстоўваецца як кармавая і лекавая; казлятнік.

**ГАЛЕ́НАЎ** [ад лац. C.Galenus = прозвішча старажытнарымскага ўрача (129—201)]; г-ы прэпараты — лекавыя сродкі, якія атрымліваюць шляхам спецыяльнай апрацоўкі раслiннай і жывёльнай сыравіны.

**ГАЛЕНІ́Т** (ад лац. galena = свінцовая руда) — мінерал класа *сульфідаў* шэрага колеру з металічным бляскам; свінцовая руда.

**ГАЛЕНКІНІО́ПСІС** (н.-лац. golenkiniopsis) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. мікрактыніевых, якая трапляецца ў сажалках, азёрах і вадасховішчах.

**ГАЛЕНКІ́НІЯ** (н.-лац. golenkinia) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. мікрактыніевых, якая трапляецца ў *планктоне* сажалак, азёр, рэк.

**ГАЛЕ́РА** (іт. galera) — старадаўняе драўлянае вёславае ваеннае судна, на якім у Зах. Еўропе веслярамі былі нявольнікі, часта катаржнікі; саслаць на галеры — саслаць на катаргу.

**ГАЛЕРЭ́Я** (фр. galerie) — 1) вузкі крыты праход, які злучае дзве асобныя часткі будынка, а. таксама доўгі балкон уздоўж сцяны дома; 2) падземны ход у ваенных збудаваннях або шахтах; 3) верхні ярус у тэатры, цырку; 4) спецыяльна прыстасаванае памяшканне, музей для выстаўкі мастацкіх твораў (карцінная г.); 5) *перан.* рад, шэраг (напр. г. літаратурных вобразаў).

**ГАЛЕ́ТА** (фр. galette) — прэснае пячэнне звычайна слаістай структуры, якое здольна замяняць хлеб і доўга захоўваць свае якасці; выкарыстоўваецца ў паходных умовах.

**ГАЛЁРКА** (рус. галёрка, ад фр. galerie = галерэя) — тое, што і *галерэя* 3.

# Г

**ГАЛЁШ** гл. *галош*.

**ГА́ЛІЙ** (н.-лац. gallium, ад лац. Gallia = Францыя) — хімічны элемент, рэдкі метал серабрыста-белага колеру.

**ГАЛІКА́НСТВА** (ад лац. gallicanus = гальскі) — рэлігійна-палітычны рух, прыхільнікі якога дабіваліся аўтаноміі французскай каталіцкай царквы ад папства (13—18 ст.).

**ГАЛІМЕ́ТР** (ад гр. hals, halos = соль + *-метр*) — прыбор для вымярэння канцэнтрацыі раствораў кухоннай солі.

**ГА́ЛІНГ** (нарв. halling) — нарвежскі народны мужчынскі танец.

**ГАЛІНЗО́ГА** (н.-лац. galinsoga) — травяністая расліна сям. астравых з зубчастым лісцем і жоўтымі кветкамі, пашыраная ў розных кліматычных зонах; шкоднае пустазелле.

**ГАЛІПО́Т** (фр. galipot) — смала хвойных дрэў, якая выцякае са шчыліны кары і застывае на паверхні; выкарыстоўваецца для прыгатавання лакаў.

**ГАЛІ́Т** (ад гр. hals = соль + *-літ*) — мінерал класа *хларыдаў*, бясколерны, празрысты, са шкляным бляскам; выкарыстоўваецца ў харчовай, керамічнай, скураной прамысловасці, медыцыне, сельскай гаспадарцы і інш.; каменная соль.

**ГАЛІФЭ́** [фр. G.Galiffe = прозвішча фр. генерала (1830—1909)] — штаны спецыяльнага крою, якія абцягваюць калені і расшыраюцца ўгору.

**ГАЛІЦЫ́ЗМ** (фр. gallicisme, ад лац. Gallicus = гальскі) — слова ці выраз, запазычаныя з французскай мовы.

**ГАЛІЯ́РДЫ** (ст.-фр. goliards) — вандроўныя акцёры (*ваганты*) у сярэдневяковай Францыі, якія былі аўтарамі і выканаўцамі сатырычных, любоўных, застольных песень, пародый на царкву і інш.

**ГАЛІЯ́Ф** (гр. Goliaph = імя біблейскага волата, якога перамог пастух Давід) — 1) бясхвостая земнаводная жывёліна сям. жаб, якая зрэдку трапляецца ў Цэнтр. Афрыцы; 2) жук сям. пласцініставусых, пашыраны ў лясах трапічнай Афрыкі.

**ГАЛКІ́ПЕР** (англ. goalkeeper, ад goal = вароты + keeper = сторож) — варатар у *футболе*, *хакеі*, *рэгбі*, *ватэрпола*.

**ГАЛМЕ́Й** (ням. Galmei, ад с.-лац. calamina) — мінерал, шчыльная, дробназярністая разнавіднасць *каламіну*.

**ГАЛМЕ́ЙНЫ** (ад *галмей*); г-ыя расліны — расліны, якія растуць на глебах, багатых цынкам.

**ГАЛО́** (фр. halo, ад гр. halos = круг) — аптычная з'ява ў форме каляровага бліскучага круга вакол Сонца або Месяца, якая ўтвараецца ў выніку пераламлення святла ў ледзяных крышталіках верхніх слаёў атмасферы.

**ГАЛОІДАФІ́ТЫ** (ад *галоіды* + *-фіты*) — расліны, якія растуць на саланчаковых глебах.

**ГАЛО́ІДЫ** (*гала-* + *-оід*) — тое, што і *галагены*.

**ГАЛО́Н** (англ. gallon) — мера аб'ёму (ёмістасці) вадкіх і сыпкіх

рэчываў у Англіі, ЗША і некаторых іншых краінах (1/8 *бушаля*).

**ГАЛО́П** (фр. galop) — 1) бег, пры якім конь ідзе наўскач; з м е с ц а ў г. — адразу, не марудзячы; 2) імклівы бальны танец 19 ст.

**ГАЛО́Ш**, **ГАЛЁШ** (фр. galoche) — гумавы абутак, які надзяваецца на боты, чаравікі, валёнкі для засцярогі іх ад гразі, вады; *перан.* с е с ц і ў г. — пацярпець няўдачу.

**ГАЛС** ( гал. hals) — 1) напрамак руху паруснага судна адносна ветру; 2) снасць паруснага судна, якая ўтрымлівае ніжні пярэдні вугал паруса; 3) адрэзак шляху судна ад павароту да павароту.

**ГАЛУАЗІ́Т** [ад бельг. O. d'Halloy = прозвішча бельг. геолага (1783—1875)] — мінерал класа *сілікатаў* белага колеру з жаўтаватым, бурым і іншымі адценнямі; выкарыстоўваецца ў керамічнай прамысловасці.

**ГАЛУ́Н**[1] (фр. galon) — тое, што і *пазумент*.

**ГАЛУ́Н**[2], **ГАЛЬІ́Н** (ст.-польск. halun < с.-в.-ням. alūn, ад лац. alumen) — падвойная сернакіслая соль *алюмінію*, *марганцу* і інш., якая ў крышталічным выглядзе выкарыстоўваецца ў тэхніцы, а таксама для спынення крывацёку пры парэзах.

**ГАЛУ́РГІЯ** (ад гр. hals = соль + ergon = работа) — галіна хімічнай *тэхналогіі*, якая распрацоўвае спосабы атрымання солей з прыродных ці штучна прыгатаваных водных раствораў.

**ГА́ЛФВІНД** (гал. halfwind) — курс паруснага судна, пры якім яго падоўжная вось перпендыкулярная напрамку ветру.

**ГАЛЦЭ́ЛЬ** (ням. Hohlkehle = выемка) — 1) акругленне знешніх і ўнутраных вуглоў у вырабах; 2) вузкая планка, якая прыкрывае шчыліны ў стыках злучэнняў, напр. дэталяў мэблі; 3) сталярны інструмент для выстругвання на брусках жолабаў, валікаў.

**ГА́ЛЫ** (лац. galla = чарнільны арэшак) — паталагічныя новаўтварэнні на органах раслін, якія ўзнікаюць у выніку пашкоджання расліны бактэрыямі, грыбамі, насякомымі, кляшчамі, чарвякамі.

**ГАЛЬІ́Н** гл. *галун*[2].

**ГАЛЬВА́НА** [ад іт. L.Galvani = прозвішча іт. фізіка (1737—1798)] — меднае друкарскае *клішэ*, выкананае гальванічным спосабам.

**ГАЛЬВАНА-** [ад іт. L.Galvani = прозвішча іт. фізіка (1737—1798)] — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «гальванічны».

**ГАЛЬВАНАГЛІ́ФІЯ** (ад *гальвана-* + гр. glyphe = разьбярства) — спосаб атрымання рэльефных адлюстраванняў пры дапамозе *гальванапластыкі*.

**ГАЛЬВАНАДЫЯТЭРМІ́Я** (ад *гальвана-* + *дыятэрмія*) — адначасовае прымяненне з лячэбнай мэтай *гальванізацыі* і *дыятэрміі*.

**ГАЛЬВАНАІОНАТЭРАПІ́Я** (ад *гальвана-* + *іонатэрапія*) — тое, што і *іонтафарэз*.

**ГАЛЬВАНАКА́ЎСТЫКА** (ад *гальвана-* + *каўстыка*) — 1) прыпя-

канне тканак цела металічнымі наканечнікамі, разагрэтымі электрычным токам, напр. пры выдаленні паліпаў; 2) траўленне малюнка на метале электрычным токам.

**ГАЛЬВАНАКА́ЎТЭР** (ад *гальвана-* + *каўтэр*) — металічны наканечнік для прыпякання тканак арганізма электрычным токам, які выкарыстоўваецца ў медыцынскай практыцы.

**ГАЛЬВАНАКЛІШЭ́** (ад *гальвана-* + *клішэ*) — падрыхтаваная гальванапластычным спосабам *копія* з драўлянага або штрыхавога цынкавага клішэ для друкавання вялікіх тыражоў.

**ГАЛЬВАНАМАГНІ́ТНЫ** (ад *гальвана-* + *магнітны*) — звязаны са зменамі электрычных уласцівасцей металаў і паўправаднікоў, у якіх працякае ток, пад уплывам знешняга магнітнага поля.

**ГАЛЬВАНАПЛА́СТЫКА** (ад *гальвана-* + *пластыка*) — атрыманне металічных копій вырабаў электралітычным спосабам; выкарыстоўваецца пры вырабе друкарскіх матрыц, грампласцінак і інш.

**ГАЛЬВАНАСКО́П** (ад *гальвана-* + *-скоп*) — прыбор для выяўлення пастаяннага электрычнага току ў ланцугу і вызначэння яго напрамку.

**ГАЛЬВАНАСТЭ́ГІЯ** (ад *гальвана-* + гр. stege = пакрыццё) — пакрыццё металічных прадметаў тонкім слоем іншага металу пры дапамозе *электролізу*, каб засцерагчы іх ад *карозіі*.

**ГАЛЬВАНАСТЭРЭАТЫ́П** (ад *гальвана-* + *стэрэатып*) — друкарская форма (стэрэатып), падрыхтаваная спосабам *гальванапластыкі*.

**ГАЛЬВАНАСТЭРЭАТЫ́ПІЯ** (ад *гальвана-* + *стэрэатыпія*) — спосаб вырабу друкарскіх форм (*стэрэатыпаў*) метадам *гальванапластыкі*.

**ГАЛЬВАНАТА́КСІС** (ад *гальвана-* + *таксісы*) — актыўны рух *інфузорый*, некаторых зялёных водарасцяў, мікробаў, арыентаваны электрычным токам, што прапускаецца праз вадкасць, дзе яны знаходзяцца; разнавіднасць *электратаксісу*.

**ГАЛЬВАНАТРАПІ́ЗМ** (ад *гальвана-* + *трапізм*) — выгінанне органаў раслін пад уплывам пастаяннага электрычнага току.

**ГАЛЬВАНАТЭРАПІ́Я** (ад *гальвана-* + *тэрапія*) — выкарыстанне пастаяннага электрычнага току нізкага напружання з лячэбнай мэтай.

**ГАЛЬВАНАТЭРМІ́Я** (ад *гальвана-* + *-тэрмія*) — тое, што і *гальванакаўстыка*.

**ГАЛЬВАНАТЭ́ХНІКА** (ад *гальвана-* + *тэхніка*) — раздзел прыкладной *электрахіміі*, які займаецца пытаннямі асядання металаў з раствораў іх солей пад уздзеяннем электрычнага току на паверхню металічных і неметалічных вырабаў.

**ГАЛЬВАНІЗА́ЦЫЯ** [ад іт. L.Galvani = прозвішча іт. фізіка (1737—1798)] — выкарыстанне пастаяннага электрычнага току з тэхнічнай або медыцынскай мэтай.

**ГАЛЬВАНІ́ЧНЫ** [ад іт. L.Galvani = прозвішча іт. фізіка (1737—1798)] — 1) які выклікае электры-

чны ток або датычыць яго; г. элемент — хімічная крыніца электрычнага току; 2) які мае адносіны да *гальванізацыі* (напр. г-ыя працэдуры).

**ГАЛЬВАНО́МЕТР** (ад *гальвана-* + *-метр*) — высокаадчувальны прыбор для вымярэння слабага электрычнага току і напружання або малой колькасці электрычнасці.

**ГАЛЬМІРО́ЛІЗ** (ад гр. halmyros = салёны + *-ліз*) — падводнае выветрыванне марскіх адкладаў пад уплывам працэсаў растварэння, акіслення і інш.

**ГАЛЬТО́НІЯ** (н.-лац. galtonia) — травяністая расліна сям. лілейных з доўгім лісцем і белымі кветкамі ў гронках, пашыраная ў Паўд. Афрыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ГАЛЬТЭ́РЫ** (гр. halteres = гіра, гантэль) — рэдукаваныя заднія крылы ў двухкрылых або пярэднія ў вееракрылых насякомых.

**ГА́ЛЬШТУК** (ст.-польск. halsztuk, ад ням. Halstuch) — прадмет убору ў выглядзе палоскі тканіны, якая завязваецца пад каўняром сарочкі вузлом або бантам.

**ГАЛЬЮ́Н** (гал. galjoen) — прыбіральня на судне.

**ГАЛЬЯ́РДА** (іт. gagliarda, фр. gaillarde = весела, жвава) — старадаўні танец раманскага паходжання.

**ГАЛЮЦЫНАГЕ́НЫ** (ад *галюцынацыя* + *-ген*) — рэчывы, здольныя выклікаць у людзей галюцынацыі; прымяняюцца пры дыягностыцы псіхічных захворванняў.

**ГАЛЮЦЫНА́ЦЫЯ** (лац. hallucinatio = трызненне) — падман зроку, слыху або нюху ў выніку расстройства дзейнасці мозга; уяўнае адчуванне таго, чаго ў сапраўднасці няма.

**ГАЛЯРЫ́НА** (н.-лац. galerina) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. павуціннікавых, які расце ў лясах на глебе сярод сфагнавага і зялёнага моху, на замшэлай драўніне; некаторыя віды ядомыя.

**ГА́МА**[1] (фр. gamme, ад гр. gamma = трэцяя літара грэчаскага алфавіта) — 1) паслядоўны рад музычных гукаў, які павышаецца або паніжаецца ў межах адной ці некалькіх *актаў* (напр. мажорная г.); 2) *перан.* характар суадносін аднародных, але разнастайных па зменлівасці з'яў, якасцей (напр. г. фарбаў, г. пачуццяў).

**ГА́МА**[2] (гр. gamma = трэцяя літара грэчаскага алфавіта) — 1) пазасістэмная адзінка масы; 2) стотысячная доля *эрстэда*; 3) паказальнік на сувязь з гама-выпрамяненнем у складаных словах.

**ГАМА-** гл. *гома-*.

**ГА́МА-АПАРА́Т** (ад *гама* + *апарат*) — апарат з радыеактыўнымі ізатопамі, якія з'яўляюцца крыніцай выпрамянення.

**ГА́МА-АСТРАНО́МІЯ** (ад *гама* + *астраномія*) — раздзел пазаамасфернай астраноміі, які даследуе нябесныя целы, што выпускаюць гама-прамяні.

**ГАМАВА́ЦЬ** (польск. hamować, ад с.-в.-ням. hamen) — 1) тармазіць, затрымліваць; 2) стрымліваць.

**ГАМАГА́МІЯ** (ад *гама-* + *-гамія*) — 1) адначасовае даспяванне на адной і той жа расліне

мужчынскіх і жаночых органаў, дзякуючы чаму магчыма самаапыленне (параўн. *дыхагамія*); 2) перадача нашчадкам прадстаўнікамі мужчынскага і жаночага полу аднолькавых камбінацый генаў (параўн. *гетэрагамія*).

**ГАМАГЕНА́Т** (ад гр. homogenes = аднародны) — *суспензія* раздробленай тканкі жывёліны або расліны ў растворы.

**ГАМАГЕ́ННЫ** (гр. homogenes = аднародны) — аднародны па саставу, уласцівасцях, паходжанню, напр. г. слой вады (проціл. *гетэрагенны*).

**ГА́МА-ГЛАБУЛІ́НЫ** (ад *гама*$^2$ + *глабуліны*) — *фракцыя* 2 сыраватквых бялкоў-глабулінаў крыві, якая змяшчае антыцелы супраць узбуджальнікаў розных хвароб.

**ГАМА́ДА** (ар. hamada) — тып камяністай пустыні ў Сахары.

**ГАМАДО́НТНАСЦЬ** (ад *гама-* + гр. odus, odontos = зуб) — раўназубасць (параўн. *гетэрадонтнасць*).

**ГАМАДРЫ́Л** (ад гр. hamadryas = дрэвавая німфа) — буйная малпа з роду *павіянаў*, якая водзіцца ў Афрыцы і на Аравійскім паўвостраве.

**ГА́МА-ДЭФЕКТАСКАПІ́Я** (ад *гама* + *дэфектаскапія*) — сукупнасць метадаў выяўлення ўнутраных дэфектаў матэрыялаў і вырабаў пры дапамозе *гама-апарата*.

**ГАМАЗІ́ДЫ** (н.-лац. gamasoidea) — сямейства кляшчоў атрада паразітаформных з прадаўгавата-круглаватым, пляскатым целам, укрытым хіцінавымі шчыткамі даўжынёй 0,3—4 мм, якое ў сусветнай фауне налічвае каля 4 тысяч відаў; многія — паразіты паўзуноў, птушак, млекакормячых і чалавека.

**ГАМА́К** (фр. hamac, ад ісп. hamaca) — падвесная сетка для адпачынку, сну на свежым паветры.

**ГА́МА-КАРАТА́Ж** (ад *гама*$^2$ + *каратаж*) — метад даследавання геалагічнага разрэзу свідравін на аснове радыеактыўнага выпрамянення горных парод.

**ГА́МА-КВАНТ** (ад *гама*$^2$ + *квант*) — *порцыя* энергіі гама-выпрамянення.

**ГАМАЛАГІ́ЧНЫ** (ад *гамалогія*) — які мае аднолькавыя адносіны да чаго-н., падобны; г - ы я р а д ы — групы арганічных злучэнняў з аднолькавымі хімічнымі ўласцівасцямі і падобнай будовай; г - ы я о р г а н ы — органы жывёл і раслін, якія маюць у асноўным аднолькавую будову, але выконваюць розныя функцыі (напр. рука чалавека і крыло птушкі); параўн. *аналагічны* 2.

**ГАМАЛАТЭ́ЦЫУМ** (н.-лац. homalothecium) — лістасцябловы мох сям. брахітэцыевых, які трапляецца на ствалах шыракалістых дрэў, дранкавых стрэхах, камянях.

**ГАМА́ЛІЯ** (н.-лац. homalia) — лістасцябловы мох сям. некеравых, які трапляецца ў шыракалістых і мяшаных лясах каля асновы ствалоў дрэў, на камянях.

**ГАМАЛО́ГІЯ** (гр. homologia = аднаведнасць) — падобнасць органаў, якія маюць аднолькавую будову, але выконваюць у розных жывёл і раслін розныя функцыі (параўн. *аналогія* 3).

**ГАМАМА́ЛІУМ** (н.-лац. homomallium) — лістасцябловы мох сям. гіпнавых, які трапляецца на заціененых валунах і ствалах дрэў.

**ГАМАМЕ́ЛІС** (н.-лац. hamamelis, ад гр. hama = аднвчасова + melon = плод) — кустовая або дрэвавая расліна сям. гамамелідавых з зубчастым лісцем і ярка-жоўтымі кветкамі ў гронках, пашыраная ў Паўн. Амерыцы, Японіі, Кітаі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная і лекавая.

**ГА́МА-МЕ́ТАД** (ад *гама*$^2$ + *метад*) — метад разведвання карысных выкапняў, які грунтуецца на вымярэнні інтэнсіўнасці выпрамянення прыродных радыеактыўных элементаў, што змяшчаюцца ў горных пародах.

**ГАМАНО́МІЯ** (ад *гама-* + *-номія*) — выпадак *гамалогіі*, размяшчэнне падобных частак арганізма вакол яго папярочнай восі.

**ГАМАПА́ЎЗА** (ад *гама-* + *паўза*) — пераходны слой паміж *гамасферай* і *гетэрасферай* на вышыні каля 100 км.

**ГАМАПЛА́ЗІЯ** (ад *гама-* + гр. plasis = ляпіць) — падобная будова органаў, якая развіваецца ў розных груп жывёл пад уплывам прыстасавання да аднолькавых умоў існавання.

**ГАМАПЛА́СТЫКА** (ад *гама-* + *пластыка*) — перасадка тканак або органаў ад аднаго прадстаўніка якога-н. біялагічнага віду другому, напр. скуры ад аднаго чалавека другому, нырак, рагавіцы (параўн. *гетэрапластыка*).

**ГА́МА-СПЕКТРАСКАПІ́Я** (ад *гама*$^2$ + *спектраскапія*) — раздзел ядзернай спектраскапіі, у якім даследуецца энергетычны склад гама-прамянёў.

**ГА́МА-СПЕКТРО́МЕТР** (ад *гама*$^2$ + *спектрометр*) — прыбор для вымярэння даўжыні хваляў або энергіі і інтэнсіўнасці гама-прамянёў.

**ГАМАСФЕ́РА** (ад *гама-* + *сфера*) — ніжнія слаі *атмасферы* да 100 км (параўн. *гетэрасфера*).

**ГАМАТЫПІ́Я** (ад *гама-* + *-тыпія*) — падобнасць у будове органаў, што сіметрычна размешчаны па баках цела (напр. правай і левай рукі).

**ГА́МА-ТЭРАПІ́Я** (ад *гама*$^2$ + *тэрапія*) — сукупнасць метадаў лячэння гама-выпрамяненнем радыеактыўных *ізатопаў*, напр. злаякасных утварэнняў.

**ГАМАТЭ́ЦЫЯ** (ад *гама-* + гр. thetos = размешчаны) — *мат.* пераўтварэнне, пры якім кожнаму пункту плоскасці адпавядае іншы пункт, што ляжыць на прамой, якая злучае дадзены пункт з якім-н. фіксаваным пунктам (цэнтрам гаматэцыі).

**ГАМАФО́НІЯ** (гр. homophonia) — від многагалосся, пры якім галасы падзяляюцца на галоўны і суправаджальны (параўн. *гетэрафонія*, *поліфанія*).

**ГА́МА-ФУ́НКЦЫЯ** (ад *гама-* + *функцыя*) — функцыя, якая абагульняе паняцце *фактарыяла* на выпадак любых значэнняў *x*.

**ГАМА́ШЫ** (ням. Gamasche, ад фр. gamache) — мужчынскія чаравікі, першапачаткова з гумавымі ўстаўкамі па баках, без шнуроўкі.

# Г

**ГА́МА-ЭКВІВАЛЕ́НТ** (ад *гама*$^2$ + *эквівалент*) — колькасць *радыю*, якая пры ідэнтычных умовах вымярэння стварае такую ж магутнасць дозы гама-выпрамянення, як і дадзены радыеактыўны прэпарат.

**ГАМАЯТЭ́РМНЫ** (ад гр. homoios = падобны, аднолькавы + *-тэрмны*); г - ы я ж ы в ё л ы — група жывёл з пастаяннай, устойлівай тэмпературай цела, якая амаль не залежыць ад хістанняў тэмпературы знешняга асяроддзя; цеплакроўныя жывёлы (параўн. *пайкілатэрмны*).

**ГА́МБА** (іт. gamba) — распаўсюджаная назва тэнаравай *віёлы* (віёлы да гамба).

**ГАМБА́НГ** (інданез. gambang) — інданезійскі ўдарны музычны інструмент.

**ГАМБІ́Р** (н.-лац. gambir, ад малайск. gambir) — пахучы *экстракт* 1, прыгатаваны з пэўнага сорту акацыі, якая расце ў Індыі і на Цэйлоне; выкарыстоўваецца ў медыцыне і для вырабу шкур.

**ГАМБІ́Т** (фр. gambit, ад іт. dare il gambetto = зрабіць падножку) — пачатак шахматнай партыі, у якой ахвяруюць пешку ці фігуру для забеспячэння пазіцыйнай і тактычнай перавагі (ферзевы г.).

**ГАМБУ́ЗІЯ** (лац. gambusia) — дробная жывародзячая рыба атрада карпазубых, якая знішчае лічынкі малярыйнага камара; пашырана ў вадаёмах Паўн. Амерыкі, акліматызавана ў раёнах пашырэння малярыі, напр. на Каўказе, у Сярэд. Азіі; часам разводзіцца ў акварыумах.

**ГА́МБУРГЕР** (англ. hamburger) — мяккая цёплая булачка, пракладзеная пасярэдзіне біфштэксам і агароднінай.

**ГАМЕА-** гл. *гомеа-*.

**ГАМЕАМЕ́РЫЯ** (гр. homoiomereia, ад homoios = падобны + meros = частка) — тэрмін старажытнагрэчаскай філасофіі, які абазначае самую дробную неразбуральную часцінку, а таксама целы, якія складаюцца з мноства аднародных такіх часцінак.

**ГАМЕАМО́РФІЯ** (ад *гамеа-* + гр. morphe = выгляд, форма) — значнае падабенства прадстаўнікоў дзвюх або некалькіх груп арганічнага свету, не звязаных паміж сабой непасрэдным сваяцтвам; прыватны выпадак *канвергенцыі* 2.

**ГАМЕАПА́Т** (ад *гамеа-* + *-пат*) — урач, які пры лячэнні выкарыстоўвае метад *гамеапатыі* (параўн. *алапат*).

**ГАМЕАПАТЫ́ЧНЫ** (ад *гамеапатыя*) — які мае адносіны да гамеапатыі; г - ы я р а с л і н ы — расліны, якія выкарыстоўваюцца ў гамеапатыі.

**ГАМЕАПА́ТЫЯ** (ад *гамеа-* + *-патыя*) — метад лячэння хваробы малымі дозамі таго лякарства, якое ў вялікіх дозах выклікае ў здаровага чалавека з'явы, падобныя на сімптомы самой хваробы (параўн. *алапатыя*).

**ГАМЕАСТА́З** (ад *гамеа-* + *-стаз*) — адноснае пастаянства фізіка-хімічных і біялагічных уласцівасцей унутранага асяроддзя арганізма чалавека і жывёл (напр. пастаянства складу крыві, тэмпературы цела).

**ГАМЕАСТА́Т** (ад *гамеа-* + *-стат*) — кібернетычная сістэма, якая мадэлюе здольнасць жывых арганізмаў падтрымліваць некаторыя велічыні (напр. тэмпературу цела) у фізіялагічна дапушчальных межах.

**ГАМЕЛА́Н** (ад яв. gamel = стукаць) — інданезійскі нацыянальны аркестр.

**ГАМЕО́ЗІС** (гр. homaiosis = падобнасць) — змяненне органа або часткі цела, якое робіць яго падобным да адпаведных органаў у арганізмах роднасных груп; часта сустракаецца ў насякомых.

**ГАМЕО́ТРЫКС** (н.-лац. homoeothrix) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. гамеотрыксавых, пашыраная ў прэсных стаячых і цякучых водах, у слізі іншых водарасцей.

**ГАМЕРЫ́ЧНЫ** (фр. homérique, ад гр. Homer = імя старажытнагрэчаскага паэта) — вялізны, незвычайных памераў або сілы; г. с м е х — нястрымны, грамавы смех, падобны на той, якім, паводле «Іліяды» Гамера, смяяліся на сваіх гулянках алімпійскія багі.

**ГАМЕ́ТА** (гр. gametes = муж) — рухомая палавая клетка жывёльных і раслінных арганізмаў.

**ГАМЕТАГА́МІЯ** (ад *гамета* + *-гамія*) — зліццё дзвюх адметных па полу гамет.

**ГАМЕТАГАНІ́Я** (ад *гамета* + *-ганія*) — палавое размнажэнне ў прасцейшых.

**ГАМЕТАГЕНЕ́З** (ад *гамета* + *-генез*) — працэс фарміравання і развіцця гамет у жывёл і раслін (гл. *аагенез* і *сперматагенез*).

**ГАМЕТАГЕНІ́Я** (ад *гамета* + *-генія*) — тое, што і *гаметагенез*.

**ГАМЕТА́НГІЙ** (ад *гамета* + гр. angeion = сасуд) — 1) орган у водарасцяў і грыбоў, у якім утвараюцца рухомыя палавыя клеткі (гаметы); 2) шматядзерныя клеткі ў некаторых грыбоў, змесціва якіх зліваецца пры палавым працэсе.

**ГАМЕТАФІ́Т** (ад *гамета* + *-фіты*) — палавое пакаленне ў раслін, якое чаргуецца з бясполым (*спарафітам*).

**ГАМЕТАЦЫ́ТЫ** (ад *гамета* + *-цыты*) — няспелыя палавыя клеткі ў прасцейшых, якія ўтвараюцца пры *гаметаганіі*.

**ГАМІЛЕ́ТЫКА** (гр. homiletikos = уменне гаварыць з людзьмі) — раздзел багаслоўя, у якім разглядаюцца тэарэтычныя і практычныя пытанні царкоўных пропаведзяў.

**ГАМІНДА́Н** (кіт. homindan = нацыянальная партыя) — палітычная партыя ў Кітаі, заснаваная ў 1912 г. Сунь Ят-сенам; вяла нацыянальна-вызваленчую барацьбу, з 1927 г. была кіруючай партыяй краіны; улада яе звергнута ў 1949 г.

**ГАМІНІ́ДЫ** (н.-лац. hominidae, ад лац. homo, -minis = чалавек) — сямейства атрада *прыматаў*, якое ўключае як выкапнёвых (*пітэкантрапа*, *неандэртальца* і інш.), так і сучасных людзей.

**-ГАМІЯ** (гр. gamos = шлюб) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццем «шлюб».

**ГАМЛЕТЫ́ЗМ** (ад англ. Hamlet = імя персанажа трагедыі У.Шэкспіра «Гамлет») — бясконцыя ра-

зважанні, меркаванні, няздольнасць намерыцца на які-н. учынак.

**ГАМО́З** (ад фр. gomme = камедзь) — хвароба раслін, якая выклікаецца неспрыяльнымі ўмовамі асяроддзя, раненнямі, насякомымі і мікраарганізмамі.

**ГАМО́НЫ** (ад гр. gamos = шлюб) — рэчывы, якія выдзяляюцца палавымі клеткамі і рэгулююць працэс апладнення.

**ГАМУ́НКУЛУС** (с.-лац. homunculus = чалавечак) — чалавечая істота, якую, на думку натуралістаў сярэдневякоўя, быццам можна атрымаць штучным шляхам.

**ГАМФАКА́РПУС** (н.-лац. gomphocarpus, ад гр. gomphos = цвік + karpos = плод) — паўкуст сям. ластаўневых, які пашыраны ў Афрыцы, сустракаецца як заносны на Каўказе, у Сярэд. Азіі.

**ГАМФАНЕ́МА** (н.-лац. gomphonema) — аднаклетачная або каланіяльная дыятомавая водарасць сям. гамфацымбелавых, якая трапляецца на дне і сярод абрастанняў у вадаёмах featherрознага тыпу.

**ГАМФАСФЕ́РЫЯ** (н.-лац. gomphosphaeria) — каланіяльная сіне-зялёная водарасць сям. гамфасферыевых, якая пашырана ў планктоне, радзей на вільготных скалах.

**ГАМФАЦЫМБЕ́ЛА** (н.-лац. gomphocymbella) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. гамфацымбелавых, якая трапляецца ў прэсных вадаёмах.

**ГАМФРЭ́НА** (н.-лац. gomphrena) — травяністая расліна сям. амарантавых з падоўжаным шэрым лісцем і дробнымі кветкамі белага або ружовага колеру ў суквеццях, пашыраная ў розных кліматычных зонах; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ГАМЭ́РНЯ** (польск. hamernia, ад с.-в.-ням. hamer = кузня) — 1) *уст.* кузня, металаапрацоўчая майстэрня; 2) *перан.* вялікае няўтульнае памяшканне; месца шумных збораў.

**ГАНАБЛА́СТЫ** (ад гр. ganos = бляск + *бласты*) — тое, што і *адамантабласты*.

**ГАНАДАТРАПІ́НЫ** (ад *ганады* + гр. tropos = напрамак) — *гармоны*, якія выпрацоўваюцца пярэдняй часткай *гіпофіза* і ўплываюць на развіццё і функцыю палавых залоз жывёл і чалавека.

**ГАНАДАТРО́ПНЫ** (ад *ганады* + *-тропны*); г - н ы я  г а р м о н ы — тое, што і *ганадатрапіны*.

**ГАНА́ДЫ** (ад гр. gone = семя) — палавыя залозы, органы, у якіх утвараюцца палавыя прадукты ў жывёл і чалавека.

**ГАНАДЭ́РМА** (н.-лац. ganoderma) — губавы *базідыяльны* грыб сям. ганадэрмавых, які расце на лесапавале, пнях, іншы раз на жывых ствалах дрэў, выклікае белую гніль.

**ГАНАЗО́ІДЫ** (ад гр. gone = семя + zoon = жывёла + *-оід*) — палавыя асобіны ў паліморфнай калоніі *сіфанафораў*, пабудаваныя па тыпу *медузоідаў* і *ганафораў* марскіх *гідроідаў*.

**ГА́НАК** (польск. ganek, ад ням. Gang) — лёгкая, звычайна крытая прыбудоўка з прыступкамі перад уваходам у будынак.

**ГАНАКО́К** (н.-лац. gonococcus, ад гр. gonos = семя + kokkos = зерне) — *мікроб*, які выклікае *ганарэю*; адносіцца да *дыплакокаў*.

**ГАНАМЕРЫ́Я** (ад гр. gone = семя + *-мерыя*) — парушэнне працэсу апладнення ў ніжэйшых ракаў.

**ГАНАПО́ДЫ** (ад гр. gone = семя + *-поды*) — палавыя ножкі (знешні палавы апарат) многіх членістаногіх.

**ГАНАПО́ДЫІ** (ад гр. gone = семя + *-подыі*) — змененыя ногі некаторых членістаногіх і плаўнікі рыб, якія прымаюць удзел у *капуляцыі*.

**ГАНАПО́Р** (ад гр. gone = семя + *-пор*) — палавая адтуліна ў членістаногіх.

**ГАНАПО́ФІЗЫ** (ад гр. gone = семя + apophysis = адростак) — палавыя адросткі, якія ўтвараюць у самак насякомых яйцаклад.

**ГАНАРА́НТ** (лац. honorans, -ntis) — асоба, якая паручаецца за плацеж па вэксалю.

**ГАНАРА́Р** (лац. honorarium = узнагароджанне, ганаровы дар) — плата, грашовае ўзнагароджанне, якое атрымліваюць аўтары за свае творы.

**ГАНАРА́Т** (лац. honoratus = паважаны) — вэксалядавец, за плацеж па вэксалю якога паручыўся *ганарант*.

**ГАНАРЭ́Я** (н.-лац. gonorrhoea, ад гр. gonos = семя + rheo = цяку) — заразная венерычная хвароба, якая характарызуецца гнойным запаленнем мочаспускальнага канала; выклікаецца *ганакокам*.

**ГАНАТАЗІГО́Н** (н.-лац. gonatozygon) — ніткаватая зялёная водарасць сям. ганатазігавых, якая трапляецца ў *планктоне* тарфяных вадаёмаў і абрастаннях, рэках, лужынах, сфагнавых балотах.

**ГАНАТО́МЫ** (ад гр. gone = семя + tome = адрэзак) — сегментаваныя ўчасткі бакавой *мезадэрмы* ў зародкаў хордавых жывёл і чалавека.

**ГАНАТРАФІ́ЧНЫ** (гр. gone = семя + trophe = харчаванне) — звязаны з чаргаваннем прыёму ежы і яйцакладкі ў многіх крывасосных членістаногіх (камароў, маскітаў, кляшчоў).

**ГАНАТЭ́КА** (ад гр. gone = семя + *-тэка*) — утварэнне ў паліморфнай калоніі марскіх *гідроідаў*.

**ГАНАФО́Р** (ад гр. gone = семя + *-фор*) — відазмененая палавая асобіна (*медузоід*) калоніі марскіх кішачнаполасцевых жывёл падкласа *гідроідных*.

**ГАНВЕ́ДЫ** (венг. honvédek — *літар.* абаронцы бацькаўшчыны) — назва венгерскай пяхоты ў сярэдні вякі, а ў 19—20 ст. (да 1949 г.) — усёй венгерскай арміі.

**ГАНГАРЫ́ЗМ** (ісп. gongorismo) — арыстакратычная школа ў іспанскай паэзіі 17 ст., для якой былі характэрны бессюжэтнасць, ускладненасць паэтычнай мовы.

**ГА́НГЛІЙ** (гр. ganglion = пухліна) — 1) вузел нервовых клетак і валокнаў, акружаны злучальнатканкавай абалонкай; 2) невялікая пухліна са студзяністым змесцівам (*кіста*), якая развілася з сустаўнай сумкі.

**ГАНГРАЗІ́РА** (н.-лац. gongrosira) — ніткаватая зялёная водарасць сям. трэнтэполіевых, якая трапляецца ў вадзе, глебе.

# Г

**ГАНГРЭ́НА** (лац. gangraena, ад гр. gangraina) — амярцвенне і загніванне тканак, органа або часткі арганізма (напр. г. ног).

**ГА́НГСТЭР** (англ. gangster, ад gang = шайка) — член бандыцкай арганізацыі, які робіць бізнес незаконнымі сродкамі — забойствамі, грабяжом, подкупам, запалохваннем.

**ГАНГСТЭРЫ́ЗМ** (ад *гангстэр*) — арганізаваная злачыннасць, адна з формаў бізнесу; бандытызм.

**ГА́НДАЛЬ** (польск. handel, ад ням. Handel) — гаспадарчая дзейнасць па куплі і продажы тавараў (напр. дзяржаўны г., прыватны г.).

**ГАНДАЛЬЕ́Р** (іт. gondoliere) — вясляр на *гандоле*.

**ГАНДАЛЬЕ́РА** (іт. gondoliera, ад gondola = гандола) — 1) лірычная песня венецыянскіх *гандальераў*, 2) інструментальная п'еса ў характары *баркаролы* 2.

**ГАНДБАЛІ́СТ** (ад *гандбол*) — спартсмен, які гуляе ў гандбол.

**ГАНДБО́Л** (англ. handball, ад hand = рука + ball = мяч) — камандная спартыўная гульня, у якой гульцы імкнуцца рукамі закінуць мяч у вароты праціўніка; ручны мяч.

**ГАНДЗІ́ЗМ** [ад інд. M.Gandhi = прозвішча ідэолага нацыянальна-вызваленчага руху ў Індыі (1869—1948)] — сацыяльна-палітычная і рэлігійна-філасофская *дактрына*, якая ўзнікла ў перыяд барацьбы Індыі за незалежнасць у 20—40 гг. 20 ст.

**ГАНДЛЯВА́ЦЬ** (польск. handlować, ад ням. handeln) — 1) весці *гандаль*, прадаваць і купляць тавары; 2) займацца гандлем як прафесіяй; 3) *перан.* пaступацца чымн. вы̆сакародным дзеля нажывы (напр. г. сумленнем).

**ГАНДЛЯ́Р** (польск. handlarz, ад ням. Handler) — 1) той, хто займаецца *гандлем*; 2) *перан.* беспрынцыповы чалавек, які гандлюе сваім сумленнем, талентам, пераканаңнямі.

**ГАНДО́ЛА** (іт. gondola) — 1) венецыянская аднавёславая лодка з каютай і фігурнымі носам і кармой; 2) кош для пасажыраў паветранага шара, кабіна для людзей, прыбораў у *аэрастаце*, *дырыжаблі*.

**ГАНДШПУ́Г** (гал. handspug) — драўляны або металічны рычаг для перасоўвання грузаў на судне.

**ГАНДЫКА́П** (англ. handicap) — 1) спартыўныя спаборніцтвы, пры якіх слабейшаму праціўніку для ўраўнаважання шанцаў на поспех аддаецца перавага ва ўмовах, напр. змяншэнне дыстанцыі, нагрузкі; 2) скачкі, у якіх удзельнічаюць коні розных узростаў і вартасцей.

**ГА́НЗА** (с.-в.-ням. hanse = таварыства) — гандлёвы і палітычны саюз паўночнанямецкіх гарадоў у 14—16 ст.

**ГАНЗЕНУ́ЛА** (н.-лац. hansenula) — сумчаты грыб сям. цукраміцэтавых, які развіваецца ў глебе, на цукразмяшчальных і збродженых *субстратах*.

**ГАНІ́ДЫІ** (ад гр. gone = семя + -idion = памяншальны суфікс) — 1) зялёныя або сіне-зялёныя водарасці, што ўваходзяць у склад лішайнікаў; 2) органы размнажэння ў выглядзе нерухомых клетак

у сіне-зялёных водарасцей; 3) рухомыя споры ніткаватых бактэрый.

**ГАНІЁМЕТР** (ад гр. gonia = вугал + *-метр*) — 1) прыбор для вымярэння вуглоў паміж гранямі крышталёў; 2) прыстасаванне для вымярэння электрычным спосабам накіраванасці антэны радыёпеленгатара, каб вызначыць напрамак, адкуль паступаюць радыёсігналы; 3) *антр.* прыбор для вымярэння вуглоў на галаве або чэрапе.

**ГАНІ́Т** (ад гр. gony = калена) — запаленне каленнага сустава.

**ГАНІЯ** гл. *-гонія*.

**ГАНІЯМЕ́ТРЫЯ** (ад гр. gonia = вугал + *-метрыя*) — раздзел *трыганаметрыі*, у якім вывучаюцца спосабы вымярэння вуглоў, уласцівасці трыганаметрычных функцый і суадносіны паміж імі.

**ГАНІЯНЕ́МА** (н.-лац.gonionemus) — кішачнаполасцевая жывёла (*медуза*) падкласа гідроідных, якая жыве ў Японскім моры каля Курыльскіх астравоў.

**ГАНІЯТЫ́ТЫ** (н.-лац. goniatitidae, ад гр. gonia = вугал) — група вымерлых *малюскаў* класа галаваногіх з ракавінай у выглядзе плоскай спіралі або конуса; былі пашыраны ў морах *палеазою*.

**ГАНІЯХЛО́РЫС** (н.-лац. goniochloris) — аднаклетачная жоўтазялёная водарасць сям. плеўрахлоравых, якая трапляецца ў *планктоне* невялікіх вадаёмаў, канавах, лужынах, старыцах, балотах, сажалках, рэках з павольным цячэннем.

**ГАНО́ІДЫ** (ад гр. ganos = бляск + *-оід*) — група касцявых рыб з лускою ў выглядзе бліскучых ромбікаў (асятры, бялуга, калуга, амія, лапатаносы і інш.).

**ГАНСВУ́РСТ** (ням. Hanswurst) — 1) блазен у нямецкім народным тэатры; 2) персанаж лялечнага нямецкага тэатра.

**ГАНТА́ЛЬ** (с.-в.-ням. gant-nagel) — цвік, якім прыбіваюць *гонту*.

**ГАНТЭ́ЛЬ** (ням. Hantel) — гімнастычная гіра з двух чыгунных шароў, злучаных кароткай ручкай.

**ГАПА́К** (укр. *гопак*) — украінскі народны танец, а таксама музыка да яго.

**ГАПАЛАСІФО́Н** (н.-лац. hapalosiphon) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. стыганемавых, пашыраная пераважна ў вадаёмах.

**ГАПАЛО́ПІЛ** (н.-лац. hapalopilus) — губавы *базідыяльны* грыб сям. паліпоравых, які расце ў лясах на ствалах, лесапавале і пнях хвойных і лісцевых парод.

**ГАПКАЛІ́Т** (англ. hopcalite) — сумесь вокіслаў *марганцу* і медзі, а таксама серабра і *кобальту*, якая паскарае акісленне атрутнага вокіслу вугляроду кіслародам паветра і ператварае яго ў неатрутны вуглекіслы газ.

**ГАПЛАДРА́СУС** (н.-лац. haplodrassus) — павук сям. *гнафазідаў*, які жыве пад карой дрэў у хваёвых лясах, трапляецца пад камянямі, у моху.

**ГАПЛАІДЫ́Я** (ад *гаплоід*) — наяўнасць у клетках адзінарнага набору *храмасом*.

**ГАПЛАКАРЫ́ДЫ** (н.-лац. hoplocarida) — падатрад вышэйшых ракападобных; пашыраны ў морах.

# Г

**ГАПЛАЛО́ГІЯ** (ад гр. haploos = просты + *-логія*) — спрашчэнне структуры слова шляхам пропуску аднаго з двух суседніх складоў (напр. мінералогія < мінералалогія).

**ГАПЛАСПАРЫ́ДЫІ** (ад гр. haploos — просты + *спора* + -idion = памяншальны суфікс) — арганізмы, якія належаць да тыпу прасцейшых; паразітуюць у тканках некаторых жывёл і чалавека.

**ГАПЛАСТЭ́ЛЬ** (ад гр. haploos = просты + stele = слуп) — самы просты тып будовы асявога цыліндра сцябла раслін, які сустракаецца ў выкапнёвых раслін і некаторых папарацепадобных.

**ГАПЛАСТЭМАНІ́Я** (ад гр. haploos = адзіночны, просты + stemon = аснова тканкі) — наяўнасць аднаго кола тычынак у кветцы.

**ГАПЛАФА́ЗА** (ад гр. haploos = просты + *фаза*) — частка жыццёвага цыкла асобіны, калі клетачнае ядро змяшчае адзінарную (гаплоідную) колькасць *храмасом*.

**ГАПЛІ́ТЫ** (гр. hoplitai) — цяжкаўзброеныя пехацінцы ў Старaж. Грэцыі.

**ГАПЛО́ІД** (ад гр. haploos = адзіночны, просты + *-оід*) — арганізм, які мае ў клетках адзінарны (паменшаны ўдвая ў параўнанні з мацярынскім арганізмам) набор *храмасом*.

**ГАПЛО́НТ** (ад гр. haploos = адзіночны, просты + on = істота) — арганізм, у якога ўсе клеткі змяшчаюць гаплоідны набор *храмасом*, а дыплоідная толькі *зігота*.

**ГАПТАГЛАБІ́Н** (ад гр. hapto = прымацоўваю + лац. globus = шар) — складаны бялок сывараткі крыві чалавека.

**ГАПТАТРАПІ́ЗМ** (ад гр. hapto = датыкаюся + *трапізмы*) — з'ява згінання расліннага органа ў адказ на раздражненне дотыкам (напр. раслін з павойным сцяблом).

**ГАПТЫ́ЧНЫ** (гр. haptikos = датыкальны) — хапальны; г - ы я р э а к ц ы і — хапальныя рэакцыі, якія часцей за ўсё назіраюцца ў немаўлят.

**ГАПТЭ́НЫ** (ад гр. hapto = прымацоўваю) — рэчывы, якія не валодаюць антыгеннымі ўласцівасцямі і набываюць іх у злучэнні з бялкамі.

**ГАРА́Ж** (фр. garage) — пабудова для стаянкі і рамонту аўтатранспарту.

**ГАРА́Л** (н.-лац. goral) — парнакапытная жывёла сям. пустарогіх, пашыраная ў Гімалаях, Усх. Тыбеце, Паўд.-Усх. Кітаі, на Карэйскім паўвостраве і ў Усурыйскім краі; аб'ект палявання.

**ГАРА́НТ** (фр. garant) — дзяржава, установа або асоба, якая дае *гарантыю* ў чым-н.; паручыцель.

**ГАРАНТАВА́ЦЬ** (фр. garantir) — даваць *гарантыю* ў чым-н.; забяспечваць што-н.

**ГАРА́НТЫЯ** (фр. garantie) — 1) зарука, запэўненне ў чым-н.; 2) дакумент, які дае права бясплатна рамантаваць набытую рэч на працягу пэўнага тэрміну; 3) умова, якая забяспечвае поспех чаго-н. (напр. загартоўка арганізма — г. здароўя).

**ГАРАСКО́П** (гр. horoskopos = які назірае час) — табліца размяшчэння планет і зорак у пэўны момант

часу, якая выкарыстоўваецца для прадказанняў лёсу чалавека.

**ГАРАТЭЛІ́Я** (ад гр. hora = час + telos = ажыццяўленне) — звычайны сярэдні тэмп *эвалюцыі*, уласцівы многім групам арганізмаў, напр. бруханогім малюскам (параўн. *брадытэлія*, *тахітэлія*).

**ГАРБА́Р** (польск. garbarz, ад с.-в.ням. gerwer) — той, хто займаецца апрацоўкай і вырабам шкур.

**ГАРБА́ТА** (польск. herbata, ад лац. herba = зелле + н.-лац. thea < кіт. tē = высушаныя лісты раслін сям. чайных) — тое, што і *чай*.

**ГАРБУ́З** (кр.-тат., тур. karpuz) — агародная расліна сям. гарбузовых з паўзучым сцяблом, пашыраная ў розных кліматычных зонах, а таксама буйны круглы або авальны плод гэтай расліны.

**ГАРВІ́ЗМ** [ад англ. M.Garwey = прозвішча ідэолага нацыяналістычнага руху ў ЗША (1887—1940)] — буржуазна-нацыяналістычны рух у ЗША пач. 20 ст. за перасяленне неграў у Афрыку.

**ГА́РДА** (фр. garde) — металічная пласцінка выпуклай формы на дзяржанні шпагі, рапіры або дужка на дзяржанні шаблі для абароны рукі ад ранення ў час фехтавання і ў паядынку.

**ГАРДЗІ́НА** (ням. Gardine) — занавеска на ўсё акно.

**ГАРДЭІФО́РМЕ** (н.-лац. hordeiforme) — разнавіднасць цвёрдай пшаніцы з чырвоным асцістым коласам і белым зернем.

**ГАРДЭМАРЫ́Н** (фр. gardemarine = марская гвардыя) — званне выхаванцаў старэйшых рот марскога кадэцкага корпуса, а таксама чын (ніжэйшы за мічмана) у ваенна-марскім флоце Расіі ў 1716—1917 гг.

**ГАРДЭНІ́Т** (ад англ. harden = загартоўваць) — разнавіднасць структуры загартаванай сталі — *мартэнсіту*.

**ГАРДЭ́НІЯ** (н.-лац. gardenia, ад англ. Garden = прозвішча амер. батаніка 18 ст.) — вечназялёная кустовая расліна сям. марэнавых з духмянымі белымі кветкамі, пашыраная ў тропіках і субтропіках Азіі і Афрыкі.

**ГАРДЭРО́Б** (фр. garderobe) — 1) месца ў грамадскім будынку для захоўвання верхняга адзення; раздзявальня; 2) шафа для адзення; 3) увесь набор адзення аднаго чалавека (напр. г. артысткі).

**ГАРЖЭ́ТКА** (фр. gorgette) — прадмет жаночага туалету ў выглядзе палоскі футра ці цэлай шкуркі звярка, якую носяць замест каўняра.

**ГАРМАГО́НІІ** (ад гр. hormos = ланцуг + *-гонія*) — мнагаклетачныя часткі, якія адчляняюцца ад ніткі або на якія распадаюцца ніткі сіне-зялёных водарасцяў.

**ГА́РМАЛА** (н.-лац. harmala, ад ар. charmal) — травяністая расліна сям. парналіставых, атрутная, якая пашырана ў паўднёвых раёнах Еўропы, Зах. Сібіры, Сярэд. Азіі; з яе насення робіцца фарба для шарсцяных і шаўковых тканін.

**ГАРМАНА́ЛЬНЫ** (ад *гармон*) — які з'яўляецца гармонам, змяшчае ў сабе гармон.

**ГАРМАНІЗАВА́ЦЬ** (фр. harmoniser, ад гр. harmonia = гармонія) — дапоўніць мелодыю акордным су-

праваджэннем па правілах *гармоніі*.

**ГАРМАНІЗА́ЦЫЯ** (ад *гарманізаваць*) — стварэнне *гарманічнага* суправаджэння да мелодыі.

**ГАРМАНІ́РАВАЦЬ** (ад гр. harmonia = гармонія) — быць сугучным, адпавядаць чаму-н.

**ГАРМАНІ́ЧНЫ** (гр. harmonikos) — 1) заснаваны на прынцыпах *гармоніі* (напр. г. рад); 2) стройны, мілагучны, зладжаны (напр. г. верш); 3) раўнамерны, рытмічны (напр. г-ыя ваганні).

**ГАРМАНО́ІДЫ** (ад *гармон* + *-оід*) — біялагічна актыўныя рэчывы, якія ўздзейнічаюць на многія фізіялагічныя працэсы ў арганізме як гармоны, але ўтвараюцца не ў залозах унутранай *сакрэцыі*, а ў іншых органах і тканках (напр. *сакрацін*, *гістамін*).

**ГАРМА́ТА** (польск. harmata, ад лац. armata) — артылерыйская зброя (марціра, гаўбіца і інш.) (напр. зенітная г.); с т р а л я ц ь з г а р м а т п а в е р а б ' я х — траціць многа сіл на дробязныя справы.

**ГАРМАТА́Н** (ісп. harmatán, з афр. моў) — сухі гарачы паўн.-ўсх. вецер на Гвінейскім узбярэжжы Афрыкі, што дзьме зімой.

**ГАРМАТЫ́ЛА** (н.-лац. hormotila) — каланіяльная зялёная водарасць сям. гарматылавых, якая трапляецца на вільготных скалах, у слізі іншых водарасцей, на падводных прадметах у стаячых вадаёмах.

**ГАРМІ́ДЫУМ** (н.-лац. hormidium) — ніткаватая зялёная водарасць сям. улотрыксавых; вядома некалькі прэснаводных, паветраных, глебавых відаў.

**ГАРМОНАТЭРАПІ́Я** (ад *гармоны* + *тэрапія*) — метад лячэння прэпаратамі, якія змяшчаюць гармоны.

**ГАРМО́НІК** (гр. harmonikos = гарманічны) — музычны інструмент, які складаецца са злучаных расцяжнымі рухомымі мяхамі дзвюх *дэк* з *клавіятурай*.

**ГАРМО́НІУМ** (ням. Harmonium) — тое, што і *фісгармонія*.

**ГАРМО́НІЯ** (гр. harmonia = сувязь, сугучнасць, зладжанасць) — 1) мілагучнасць, зладжанасць, прыемнасць гучання; 2) суразмернасць, узаемная адпаведнасць асобных якасцей, прадметаў, частак цэлага (напр. г. інтарэсаў); 3) аддзел тэорыі музыкі пра будову акордаў.

**ГАРМО́НЫ** (гр. hormon = які рухае) — біялагічна актыўныя рэчывы, якія выдзяляюць у кроў залозы ўнутранай *сакрэцыі*; аказваюць мэтанакіраваны ўплыў на дзейнасць іншых органаў і тканак.

**ГАРМСІ́ЛЬ** (тадж. harmsel) — сухі гарачы вецер, які дзьме летам з поўдня ў перадгор'ях Капетдага і Зах. Цянь-Шаня.

**ГА́РНА** (санскр. harna) — парнакапытная жывёла сям. пустарогіх, якая пашырана на раўнінах Індыі.

**ГА́РНЕЦ** (польск. garniec) — мера сыпкіх рэчываў, што прымянялася на Беларусі да ўвядзення метрычнай сістэмы мер (3,28 л), а таксама пасудзіна такой ёмістасці.

**ГАРНІЕРЫ́Т** [фр. garnierite, ад J.Garnier = прозвішча фр. геолага (1839—1904)] — мінерал класа

*сілікатаў* зеленавата-жоўтага або зялёнага колеру; нікелевая руда.

**ГАРНІЗО́Н** (фр. garnison) — вайсковыя часці, размешчаныя ў якім-н. населеным пункце, крэпасці або ўмацаваным раёне.

**ГАРНІ́Р** (фр. garnir = упрыгожваць) — дабаўка да мясных і рыбных страў (агародніна, каша і інш.).

**ГАРНІСА́Ж** (фр. garnissage) — цвёрды засцерагальны слой матэрыялаў, які ўтвараецца на ўнутранай паверхні сценак некаторых металургічных *агрэгатаў* у час іх інтэнсіўнага ахаладжэння.

**ГАРНІТУ́Р** (фр. garniture) — 1) камплект, поўны набор прадметаў пэўнага прызначэння (напр. г. мэблі); 2) тое, што і *касцюм* 1.

**ГАРНІТУ́РА** (ням. Garnitur, ад фр. garniture) — камплект друкарскіх шрыфтоў аднаго малюнка, але розных памераў і абрысаў.

**ГАРО́ТА** (ісп. garrote, ад garra = лапа, кіпцюр) — прылада катавання ў сярэдневяковай Іспаніі і Партугаліі ў выглядзе абруча, які надзяваўся на шыю і сцягваўся вінтом.

**ГАРПАГО́Н** (фр. garpagon, ад Garpagon = імя персанажа камедыі Ж.-Б.Мальера «Скупы») — *перан.* скнара.

**ГАРПАКТЫЦЫ́ДЫ** (н.-лац. harpacticoida) — атрад весланогіх ракападобных; пашыраны ў морах і прэсных вадаёмах; служаць ежай для многіх рыб.

**ГА́РПІУС** (гал. harpius) — цёмны гатунак *каніфолі*.

**ГА́РПІЯ** (гр. Harpyia = *літар.* выкрадальніца) — 1) крылатая пачвара ў жаночым вобліку, дэман буры і смерці ў старажытнагрэчаскай міфалогіі; 2) буйная драпежная птушка сям. ястрабіных, якая водзіцца ў Паўд. Амерыцы; 3) лятучая мыш, пашыраная ў Індыі і на Малайскім архіпелагу; 4) *перан.* злая, сварлівая жанчына.

**ГАРПУ́Н** (гал. harpoen) — 1) кап'ё на доўгім тросе для палявання на буйных марскіх жывёл і рыб; 2) страла з разрыўным наканечнікам для палявання на буйных марскіх жывёл, напр. на кітоў (прымяняецца спецыяльная гарпунная гармата).

**ГАРСА́Ж** гл. *карсаж*.

**ГАРСО́Н** (фр. garcon = *літар.* хлопчык) — *афіцыянт* рэстарана або кафэ, а таксама пасыльны пры атэлі ў Францыі.

**ГАРСЭ́Т** (польск. gorset, ад фр. corset) — 1) шырокі пругкі пояс, які носяць пад сукенкай для надання стройнасці фігуры; 2) частка беларускага народнага жаночага касцюма ў выглядзе безрукаўкі; 3) *бандаж*, які носяць на верхняй частцы тулава пры скрыўленні пазваночніка.

**ГАРТ** (польск. hart, ад ням. hart = цвёрды) — 1) цвёрдасць, трываласць, якую набывае метал пасля моцнага награвання і раптоўнага ахаладжэння; 2) *перан.* стойкасць, якая набываецца ў барацьбе з цяжкасцямі, выпрабаваннямі; 3) тое, што і *гартблей*.

**ГАРТАВА́ЦЬ** (польск. hartować, ад ням. harten) — 1) надаваць цвёрдасць, трываласць металу шляхам моцнага награвання і раптоўнага ахаладжэння; 2) *перан.* выхоўваць стойкасць, вы-

нослівасць, здольнасць пераносіць цяжкасці.

**ГАРТБЛЕ́Й** (ням. Hartblei = *літар.* цвёрды свінец) — сплаў свінцу і сурмы, які атрымліваецца як пабочны прадукт пры плаўленні свінцовых руд; выкарыстоўваецца для адліўкі друкарскіх шрыфтоў.

**ГАРТЭ́НЗІЯ** (лац. hortensis = садовы) — травяністая або кустовая расліна сям. каменяломнікавых з буйнымі суквеццямі розных колераў, пашыраная ва Усх. Азіі, Гімалаях, Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ГАРУ́А** (ісп. garúa) — густы туман на ціхаакіянскім узбярэжжы Паўд. Амерыкі, выкліканы ўплывам халоднага Перуанскага цячэння.

**ГА́РУС** (польск. harus < ням. Harras, ад фр. Arras = назва фр. горада) — 1) баваўняная тканіна палатнянага перапляцення з двухбаковай набіўкай; 2) кручаная каляровая шарсцяная пража для вышывання, вязання і вырабу грубых тканін.

**ГАРУ́СПІКІ** (лац. haruspex, ад этруск. harus = вантробы + лац. specere = назіраць) — жрацы ў Стараж. Рыме, якія варажылі па вантробах ахвярных жывёл і тлумачылі з'явы прыроды.

**ГАРЦАВА́ЦЬ** (польск. harcować, ад ст.-чэш. harcovati) — 1) па-маладзецку ездзіць вярхом, красуючыся спрытнай пасадкай; 2) гульліва бегчы, падбрыкваючы, або падскокваць на месцы (пра каня).

**ГАРЦЫ́НІЯ** (н.-лац. garcinia, ад Garcin = прозвішча фр. батаніка) — вечназялёная дрэвавая або кустовая расліна сям. клюзіевых, пашыраная ў тропіках Азіі і Афрыкі.

**ГАРШНЭ́П** (ням. Haarschnepfe = бакас) — невялікая балотная птушка атрада сеўцападобных; аб'ект спартыўнага палявання.

**ГАРЫ́ГА** (фр. garrigue, ад праванс. garriga = пустка) — зараснікі нізкарослых вечназялёных кустоў, карлікавых пальм і засухаўстойлівых траў на камяністых участках узбярэжжа Міжземнамор'я.

**ГАРЫЗАНТА́ЛЬ** (ад *гарызонт*) — 1) прамая лінія, паралельная плоскасці гарызонта; 2) лінія, якая злучае на карце пункты мясцовасці, размешчаныя на аднолькавай вышыні над узроўнем мора.

**ГАРЫЗАНТА́ЛЬНЫ** (ад *гарызонт*) — паралельны лініі гарызонта.

**ГАРЫЗО́НТ** (гр. horizon, -ntos = які абмяжоўвае) — 1) лінія ўяўнага судакранання неба з зямной або воднай паверхняй; з н і к н у ц ь з г а р ы з о н т а — перастаць з'яўляцца дзе-н.; 2) уся бачная навокал зямная паверхня; далягляд; 3) вялікі круг нябеснай сферы, плоскасць якога перпендыкулярная да вертыкальнай лініі ў месцы назірання; 4) *перан.* круг магчымасцей, перспектыва (напр. адкрыць новыя гарызонты ў навуцы); 5) *перан.* сума ведаў, кругагляд чалавека (чалавек з шырокім гарызонтам); 6) узровень вады ў рацэ, возеры, глебе; 7) пласт адкладанняў горных парод, які ўмоўна вылучаецца па якой-н. прымеце (колеры, складзе, наяўнасці руд і інш.); 8) сукупнасць горных выра-

батак, размешчаных на адным узроўні.

**ГАРЫ́ЛА** (англ. gorilla, з афр. моў) — самая буйная чалавекападобная *малпа*, якая водзіцца ў экватарыяльнай Афрыцы.

**ГАРЭЛЬЕ́Ф** (фр. haut-rélief = *літар.* высокі рэльеф) — від скульптуры, у якой фігура выступае на плоскай паверхні больш як на палавіну свайго аб'ёму.

**ГАРЭ́М** (тур. harem, ад ар. harām = забароненае месца) — 1) жаночая палавіна дома ў *мусульман*; 2) жонкі і наложніцы багатага мусульманіна; 3) група самак вакол аднаго самца ў перыяд спаравання ў палігамных жывёл.

**ГАСКАНА́ДА** (фр. gasconnade, ад Gascogne = назва фр. правінцыі) — абазначэнне выхваляння, пахвальбы ў французскай літаратуры.

**ГАСПІТАЛІ́ЗМ** (ад лац. hospitalis = гасцінны) — сіндром паталогіі дзіцячага псіхічнага і асобаснага развіцця як вынік аддзялення дзіцяці ад маці і яго ранняй інстытуалізацыі.

**ГАСТАРБА́ЙТАР** (ням. Gastarbeiter = рабочы-эмігрант) — замежны рабочы, які прыцягваецца на працу прамыслова развітымі краінамі, пераважна са слабаразвітых краін.

**ГАСТРА-** (гр. gaster, -tros = страўнік) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на адносіны да страўніка.

**ГАСТРАВАСКУЛЯ́РНЫ** (ад *гастра-* + лац. vasculum = сасуд) — які адносіцца да стрававальнай сістэмы ў *медуз* і грэбнявікоў.

**ГАСТРАЗО́ІДЫ** (ад *гастра-* + гр. zoon = жывёліна + *-оід*) — асобіны ў калоніях кішачнаполасцевых жывёл падкласа *сіфанафораў*, якія выконваюць функцыю стрававання.

**ГАСТРАІНТЭСТЫНА́ЛЬНЫ** (ад *гастра-* + лац. intestinum = кішка); г - ы я гармоны — група біялагічна актыўных рэчываў пептыднай (гл. *пептыды*) прыроды, якія выпрацоўваюцца ў слізістай абалонцы страўнікава-кішачнага тракта пазваночных і ўдзельнічаюць у рэгуляванні дзейнасці стрававальнай сістэмы.

**ГАСТРАЛГІ́Я** (ад *гастра-* + гр. algos = боль) — схваткападобныя болі ў вобласці страўніка галоўным чынам пры яго захворваннях, *неўрозах*.

**ГАСТРАЛЁР** (ад *гастролі*) — 1) артыст, які прыехаў на *гастролі*; 2) *перан.* чалавек, які часта мяняе месца работы.

**ГАСТРАНО́М** (фр. gastronome, ад гр. gaster, -tros = страўнік + nomos = закон) — 1) прадуктовы магазін; 2) тое, што і *гурман*.

**ГАСТРАНО́МІЯ** (фр. gastronomie, ад гр. gastronomia) — 1) харчовыя прадукты высакаякаснага прыгатавання (напр. рыбная г.); 2) тонкае веданне кулінарнага майстэрства.

**ГАСТРАПО́ДЫ** (н.-лац. gastropoda, ад гр. gaster, -tros = страўнік + pus, podos = нага) — клас *малюскаў*, арганізмы з асіметрычным целам, укрытым ракавінай, якое складаецца з галавы, вантробнага мяшка, нагі; пашыраны ў морах, прэсных водах і на сушы; бруханогія.

# Г

**ГАСТРАПО́Р** (ад *гастра-* + *-пор*) — тое, што і *бластапор*.

**ГАСТРАПТО́З** (ад *гастра-* + *-птоз*) — апусканне страўніка, якое адбываецца пры рэзкім схудненні, паўторнай цяжарнасці.

**ГАСТРАСКАПІ́Я** (ад *гастра-* + *-скапія*) — метад даследавання страўніка пры дапамозе *гастраскопа*.

**ГАСТРАСКО́П** (ад *гастра-* + *-скоп*) — прыбор для абследавання слізістай абалонкі страўніка; уводзіцца праз рот і стрававод.

**ГАСТРАСТАМІ́Я** (ад *гастра-* + гр. stoma = рот, пічыліна) — аперацыя накладання штучнай знешняй страўнікавай *фістулы* 3, якая праводзіцца пры непраходнасці стрававода.

**ГАСТРАТРЫ́ХІ** (н.-лац. gastrotricha, да гр. gaster, -tros = страўнік + trichion = валасок) — клас *нематгельмінтаў*, чэрві з бутэлькападобным целам даўжынёй 0,05—1,5 мм, якія плаваюць у вадзе з дапамогай дзвюх падоўжаных палос раснічак на бруху; жывуць у морах і прэсных вадаёмах; брухараснічныя чэрві.

**ГАСТРАФІЛЁЗ** (ад *гастрафілы*) — хвароба стрававальнага тракту няпарнакапытных жывёл, якая выклікаецца гастрафіламі.

**ГАСТРАФІ́ЛЫ** (ад *гастра-* + *-філ*) — лічынкі страўнікавых аваднёў.

**ГАСТРАЦЭ́ЛЬ** (ад *гастра-* + гр. koilos = пусты) — поласць, якая ўтвараецца ў зародка мнагаклетачных жывёл і чалавека на стадыі *гаструлы* (параўн. *бластацэль*).

**ГАСТРАЭНТЭРАКАЛІ́Т** (ад *гастра-* + *энтэракаліт*) — вострае або хранічнае запаленне страўнікава-кішачнага тракту жывёл і чалавека.

**ГАСТРАЭНТЭРАЛО́ГІЯ** (ад *гастра-* + *энтэра-* + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае будову і функцыі органаў стрававання, іх хваробы, а таксама метады прафілактыкі і лячэння гэтых хвароб.

**ГАСТРАЭНТЭРО́ЛАГ** (ад *гастраэнтэралогія*) — спецыяліст у галіне *гастраэнтэралогіі*.

**ГАСТРАЭНТЭРЫ́Т** (ад *гастра-* + *энтэрыт*) — запаленчае захворванне слізістай абалонкі страўніка і тонкіх кішак.

**ГАСТРО́ЛІ** (ням. Gastrolle, ад Gast = госць + Rolle = роля) — выступленне артыста або мастацкага калектыву (тэатра, ансамбля, аркестра, хору і інш.) у іншым горадзе, краіне.

**ГА́СТРУЛА** (лац. gastrula, ад гр. gaster, -tros = страўнік) — стадыя развіцця зародка мнагаклетачных жывёл і чалавека (наступная за *бластулай*), на якой зародак мае двухслойную сценку і *гастрацэль* з *бластапорам*.

**ГАСТРУЛЯ́ЦЫЯ** (ад *гаструла*) — працэс развіцця гаструлы.

**ГАСТРЫ́Н** (ад гр. gaster, -tros = страўнік) — *гармон* страўніка, які выпрацоўваецца ў слізістай абалонцы страўніка пад уздзеяннем хімічных і механічных раздражняльнікаў.

**ГАСТРЫ́Т** (н.-лац. gastritis, ад гр. gaster, -tros = страўнік) — запаленчае захворванне слізістай абалонкі страўніка (востры г., хранічны г.).

**ГАСТРЭ́Я** (лац. gastreum = пузаты, ад gaster, -tros = страўнік) — гіпатэтычная форма першасных мнагаклетачных, якая нагадвае *гаструлу*.

**ГАСТЫНГСІ́Т** (ад англ. Hastings = назва радовішча ў Канадзе) — мінерал, манаклінны кальцыевы *амфібол* сінявата-зялёнага або чорнага колеру са шкляным бляскам.

**ГАСТЭРАМІЦЭ́ТЫ** (н.-лац. gasteromycetes) — група *базідыяльных* грыбоў падкласа *холабазідыяміцэтаў* з замкнёнымі пладовымі целамі; пашыраны па ўсім зямным шары; пераважна *сапратрофы*, некаторыя — *паразіты* раслін.

**ГАСТЭРАСТАМА́ТЫ** (н.-лац. gasterostomata) — падклас *трэматодаў*, паразітуюць у стрававальным тракце рыб і земнаводных; брухаротыя смактуны.

**ГАСТЭ́РЫЯ** (н.-лац. gasteria) — травяністая расліна сям. лілейных з кароткім сцяблом, барадаўчатым лісцем і ружавата-зялёнымі кветкамі, пашыраная ў Паўд. Афрыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ГАТУ́НАК** (польск. gatunek, ад ням. Gattung) — 1) разрад, катэгорыя якога-н. тавару па якасці; сорт; 2) разнавіднасць якога-н. тавару (напр. цукеркі розных гатункаў).

**ГАТЫ́ЧНЫ** (фр. gothique, ад ням. Got = гот) — які мае адносіны да *готыкі*, уласцівы готыцы; г. с т ы л ь — тое, што і *готыка*; г. ш р ы ф т — друкарскі лацінскі шрыфт з вуглаватымі формамі, у адрозненне ад закругленай *антыквы*.

**ГАТЭ́РЫЯ** (палінез. hatteria) — адзіны сучасны прадстаўнік паўзуноў атрада дзюбагаловых, які захаваўся на пясчаных астравах Новай Зеландыі.

**ГАЎ́Р** (хіндзі gaur, ад санскр. gaura) — буйная парнакапытная жывёла сям. бычыных, пашыраная ў горных лясах Індастана і Індакітая.

**ГА́УС** [ням. C.Gauss = прозвішча ням. матэматыка (1777—1855)] — адзінка магнітнай *індукцыі* ў СГС сістэме адзінак, роўная $10^4$ *вебера* на 1 $м^2$.

**ГА́УЧА** (ісп. gaucho) — 1) этнічная група, якая склалася ў 16—17 ст. ад шлюбаў іспанцаў з індзейскімі жанчынамі Аргенціны; 2) наёмны пастух у некаторых краінах Лац. Амерыкі ў 18 ст.; 3) песня аргенцінскіх сялян-жывёлаводаў.

**ГА́УЧ-ПРЭС** (англ. gauge-press, ад gauge = выціскаць) — *прэс* для выціскання вады з папяровага палатна, калі яно рухаецца ў сетачнай частцы папяровай машыны.

**ГА́ЎБІЦА** (ням. Haubitze) — гармата для навеснай стральбы па закрытых цэлях (*калібрам* ад 100 мм і вышэй); параўн. *марціра*.

**ГАЎДЭА́МУС** (лац. gaudeamus = радуймася) — назва сярэдневяковай студэнцкай песні на лацінскай мове.

**ГАЎЛЯ́ЙТАР** (ням. Gauleiter) — вярхоўны правіцель вобласці, акупіраванай нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**ГАЎПТВА́ХТА** (ням. Hauptwache) — 1) памяшканне для ўтрымання пад арыштам ваеннаслужа-

чых; 2) каравульнае памяшканне ў крэпасці, горадзе (17—19 ст.).

**ГАЎСТО́РЫІ** (ад лац. haustor = які п'е, глытае) — 1) клетачныя або тканкавыя ўтварэнні раслін, пры дапамозе якіх яны ўсмоктваюць пажыўныя рэчывы з акаляючага асяроддзя; 2) прысоскі, якімі расліна-паразіт прымацоўваецца да расліны-гаспадара і праз якія яна здабывае пажыўныя рэчывы.

**ГА́ФЕЛЬ** (гал. gaffel) — 1) драўляны брус, прымацаваны адным канцом да верхняй часткі мачты, а другім падвешаны пад вуглом да яе, каб было зручней мацаваць косы парус; 2) частка ствала ясеня або клёна, з якой вырабляюць фанеру.

**ГА́ФНІЙ** (н.-лац. hafnium, ад Hafnia = лацінская назва Капенгагена) — хімічны элемент, серабрыста-шэры метал, спадарожнік *цырконію*.

**ГАФРЫРАВА́ЦЬ** (фр. gaufrer = выціскаць узор) — рабіць на якім-н. матэрыяле (тканіне, паперы, блясе і інш.) хвалістыя паралельныя складкі.

**ГАФРЭ́** (ад фр. gaufrer = выціскаць узор) — рады паралельных складак на чым-н., пераважна на тканіне.

**ГАФТ** (польск. haft, ад с.-в.-ням. haft = вузел) — від ажурнай вышыўкі.

**ГАФТАВА́ЦЬ** (польск. haftować, ад ням. heften) — вышываць ажурныя ўзоры на тканіне.

**ГА́ФЫ** (ням. Haff = лагуна, возера) — затокі ў вусцях некаторых рэк паўднёвага ўзбярэжжа Балтыйскага мора, аддзеленыя ад мора астравамі або вузкімі пясчанымі косамі.

**ГА́ШПІЛЬ** (ням. Haspel = матавіла, калаўрот) — драўляны або бетонны бак з мешалкай для прамывання, змякчэння і дублення шкур.

**ГАШЫ́Ш** (ар. hašiš) — наркатычны сродак, які атрымліваюць з індыйскіх канапель.

**ГАШЫШЫ́ЗМ** (ад *гашыш*) — від *наркаманіі*, які заключаецца ў хваравітай цязе да гашышу.

**ГАШЭ́ТКА** (фр. gachette) — кручок у агнястрэльнай зброі для спуску ўзведзенага курка.

**ГАЯ́Л** (хіндзі hajal) — прыручаная форма *гаура*; разводзяць у Індыі.

**ГАЯ́РДЫЯ** (н.-лац. gaiardia, ад Gajar = прозвішча фр. батаніка) — травяністая расліна сям. складанакветных з кветкамі розных колераў, пашыраная пераважна ў Паўн. Амерыцы.

**ГВАЗДЗІ́К** (ст.-польск. gwoździk) — травяністая расліна сям. гваздзіковых з пахучымі кветкамі чырвонага, ружовага або белага колеру, пашыраная пераважна ў Еўразіі і Паўн. Афрыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная і лекавая.

**ГВАЗДЗІ́КА** (ад *гваздзік*) — высушаныя *бутоны* кветак гваздзіковага дрэва, якія выкарыстоўваюцца як прыправа.

**ГВАЛТ** (польск. gwałt, ад с.-в.-ням. gewalt) — 1) насілле, здзек; 2) крык, лямант; 3) від феадальнай павіннасці ў Вялікім княстве Літоўскім.

**ГВА́РДЫЯ** (польск. gwardia, ад іт. guardia) — 1) лепшая, адборная

частка войска; 2) асобыя фарміраванні для вайсковых або паліцэйскіх мэт у некаторых краінах; 3) *перан.* выпрабаваная частка якой-н. сацыяльнай групы, грамадскай арганізацыі.

**ГВАЮ́ЛА** (ісп. guayule, з індз.) — вечназялёная кустовая расліна сям. складанакветных з жоўтымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў Мексіцы; дае каўчук.

**ГВАЯ́К** (ісп. guayaco, з індз.) — тое, што і *бакаут*.

**ГВАЯ́КАВЫ** (ад *гваяк*) — які мае адносіны да гваяка (напр. г-ая смала).

**ГВАЯКО́Л** (ад *гваяк*) — арганічнае злучэнне *араматычнага* рада, метылавы эфір *піракатэхіну*, які змяшчаецца ў букавым дзёгці, гваякавай смале і інш.; выкарыстоўваецца ў медыцыне.

**ГВЕ́ЛЬФЫ** (іт. Guelfi) — палітычная групоўка ў Італіі ў 12—15 ст., якая змагалася супраць намаганняў імператараў «Свяшчэннай Рымскай імперыі» і іх прыхільнікаў *гібелінаў* зацвердзіць уладу на Апенінскім паўвостраве; выражала інтарэсы *папаланаў*.

**ГЕА-** (гр. ge = Зямля) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «звязаны з Зямлёй, з навукай аб Зямлі».

**ГЕААКУ́СТЫКА** (ад *геа-* + *акустыка*) — навука, якая даследуе гукавыя, інфрагукавыя і ультрагукавыя з'явы ў зямной кары.

**ГЕААНТЫКЛІНА́ЛЬ** (ад *геа-* + *антыкліналь*) — горны масіў, які ўтвараецца ў межах геасінклінальнай (гл. *геасінкліналь*) вобласці.

**ГЕАБАТА́НІКА** (ад *геа-* + *батаніка*) — раздзел батанікі, які вывучае пашырэнне і размеркаванне раслін на паверхні Зямлі ў залежнасці ад клімату, асаблівасцей глебы, рэльефу і інш.

**ГЕАБІЁНТЫ** (ад *геа-* + *біёнты*) — пастаянныя насельнікі глебы (дажджавыя чэрві, першаснабяскрылыя насякомыя і інш.).

**ГЕАГЕЛЬМІ́НТЫ** (ад *геа-* + *гельмінты*) — група паразітычных чарвей чалавека і жывёл, якія развіваюцца без удзелу прамежкавых гаспадароў непасрэдна ў грунце, гноі і іншых субстратах (параўн. *біягельмінты*).

**ГЕАГІГІЕ́НА** (ад *геа-* + *гігіена*) — навука, якая вывучае змены ў жывой і нежывой прыродзе як вынік дзейнасці чалавека на Зямлі.

**ГЕАГЛО́С** (н.-лац. geoglossum) — сумчаты грыб сям. геаглосавых, які трапляецца на балотах і на глебе ў вільготных лясах.

**ГЕАГНО́ЗІЯ** (ад *геа-* + *-гнозія*) — назва *геалогіі* ў канцы 18 — першай пал. 19 ст.

**ГЕАГРА́ФІЯ** (гр. geographia = землеапісанне) — 1) навука аб прыродных умовах Зямлі, аб размеркаванні на ёй насельніцтва і эканамічных рэсурсаў (напр. фізічная г., эканамічная г.); 2) апісанне пашыранасці чаго-н. на зямной паверхні або ў якой-н. мясцовасці (напр. г. земляробства, г. лёгкай прамысловасці).

**ГЕАДЫ́МЕТР** (ад *геа-* + гр. daio = раздзяляю + *-метр*) — прыбор для вымярэння адлегласці, заснаваны на вымярэнні часу прахо-

джання светлавога *імпульса* 2 ад прыбора да аб'екта.

**ГЕАДЫНА́МІКА** (ад *геа-* + *дынаміка*) — навука аб глыбінных сілах і працэсах, якія ўзнікаюць пры эвалюцыі планеты Зямля; раздзел геафізікі.

**ГЕАДЭЗІ́СТ** (ад *геадэзія*) — спецыяліст у галіне геадэзіі.

**ГЕАДЭ́ЗІЯ** (гр. geodaisia = падзел зямлі) — навука аб формах Зямлі, вымярэнні і паказе яе на пла́нах і картах.

**ГЕАКАРО́НА** (ад *геа-* + *карона*) — знешняя абалонка *атмасферы* Зямлі, якая складаецца ў асноўным з атамарнага вадароду.

**ГЕАКА́РПІЯ** (ад *геа-* + гр. karpos = плод) — спосаб распаўсюджання пладоў, калі завязь пасля апладнення паглыбляецца ў грунт, дзе і развіваецца плод.

**ГЕАКРАТЫ́ЧНЫ** (ад *геакратыя*) — які садзейнічае значнаму расшырэнню плошчы сушы; г - ы я п е р ы я д ы — перыяды ў геалагічнай гісторыі Зямлі, калі адбывалася значнае расшырэнне плошчы сушы, абумоўленае падняццем зямной кары (проціл. *таласакратычны*).

**ГЕАКРА́ТЫЯ** (ад *геа-* + гр. kratos = сіла, моц) — улада прыроды (Зямлі) над чалавецтвам; філасофская канцэпцыя фаталістаў.

**ГЕАКРЫЯЛО́ГІЯ** (ад *геа-* + *крыялогія*) — навука аб мёрзлых горных пародах, іх паходжанні, гісторыі развіцця, умовах існавання, будове, працэсах і з'явах, якія ў іх адбываюцца.

**ГЕАКСЕ́НЫ** (ад *геа-* + гр. ksenos = чужы) — жывёлы, якія выкарыстоўваюць глебу для часовага прытулку (напр. грызуны, тараканавыя).

**ГЕАЛО́ГІЯ** (ад *геа-* + *-логія*) — навука аб саставе, будове і гісторыі зямной кары і Зямлі, заканамернасцях утварэння і пашырэння горных парод, мінералаў, падземных водаў і радовішчаў карысных выкапняў.

**ГЕАМАГНЕТЫ́ЗМ** (ад *геа-* + *магнетызм*) — магнітнае поле Зямлі і калязямной касмічнай прасторы.

**ГЕАМАГНІТАФО́Н** (ад *геа-* + *магнітафон*) — *геафон*, які ўзмацняе і рэгіструе цяжкаўлоўныя гукавыя хвалі ў падземных горных вырабатках.

**ГЕАМАРФАЛО́ГІЯ** (ад *геа-* + *марфалогія*) — навука, якая вывучае рэльеф паверхні Зямлі, яго паходжанне, гісторыю развіцця і гаспадарчае выкарыстанне.

**ГЕАМЕРЫ́ДА** (ад *геа-* + гр. meris, -idos = частка) — жывое пакрыва, сукупнасць усіх жывых арганізмаў, якія насяляюць Зямлю.

**ГЕАМЕ́ТРЫЯ** (гр. geometria = мeранне зямлі) — раздзел *матэматыкі* аб прасторавых формах і законах іх вымярэння; э л е м е н т а р н а я г. — частка геаметрыі, якая вывучае ўласцівасці самых простых форм; н а ч а р т а л ь н а я г. — частка геаметрыі, якая вывучае адлюстраванне прасторавых форм на плоскасці.

**ГЕАМЕХА́НІКА** (ад *геа-* + *механіка*) — навука аб механічным стане зямной кары і працэсах, якія адбываюцца ў ёй пад уздзеяннем прыродных фізічных фактараў.

**ГЕАМО́РЫ** (гр. geomoroi, ад ge = зямля + meiromai = атрымліваю сваю частку) — землеўладальнікі ў Стараж. Грэцыі.

**ГЕАПАЛІ́ТЫКА** (ад *геа-* + *палітыка*) — плынь у *сацыялогіі*, паводле якой пашырэнне геаграфічнага асяроддзя з'яўляецца рашаючым фактарам развіцця грамадства; выкарыстоўвалася нямецкім фашызмам для абгрунтавання захопніцкай палітыкі.

**ГЕАПАТЭНЦЫЯ́Л** (ад *геа-* + *патэнцыял*) — патэнцыял сілы цяжару.

**ГЕАРЫФТАГЕНА́ЛЬ** (ад *геа-* + англ. rift = цясніна + гр. gennao = нараджаю) — адзін з асноўных тэктанічна рухомых структурных элементаў зямной кары, які адпавядае асявым часткам сярэднеакіянскіх хрыбтоў і ўпадзінам тыпу Чырвонага мора, Адэнскага і Каліфарнійскага заліваў.

**ГЕАСІНКЛІНА́ЛЬ** (ад *геа-* + *сінкліналь*) — выцягнуты ўчастак зямной кары, які характарызуецца інтэнсіўнымі тэктанічнымі рухамі, працэсамі гораўтварэння, вулканізму (параўн. *платформа* 3).

**ГЕАСІСТЭ́МЫ** (ад *геа-* + *сістэма*) — прыродныя сістэмы розных узроўняў, якія ахопліваюць узаемазвязаныя часткі *літасферы, гідрасферы, біясферы* і *атмасферы*.

**ГЕАСТРАТЭ́ГІЯ** (ад *геа-* + *стратэгія*) — разгляд значэння прыроднага асяроддзя ў дачыненні да праблемы экалагічнага, эканоміка-палітычнага дабрабыту, пераважна ў міжнародным маштабе.

**ГЕАСТРАФІ́ЧНЫ** (ад *геа-* + гр. strophe = паварот); г. в е ц е р — раўнамерны просталінейны гарызантальны рух паветра, які вызначаецца раўнавагай паміж сілай *барычнага градыента* і адхільнай сілай вярчэння Зямлі; прыватны выпадак *градыентнага* ветру.

**ГЕАСФЕ́РЫ** (ад *геа-* + *сфера*) — розныя па хімічных уласцівасцях і шчыльнасці канцэнтрычныя абалонкі, з якіх складаецца Зямля (*магнітасфера, атмасфера, гідрасфера, літасфера, мантыя*, ядро).

**ГЕАТАПАЛО́ГІЯ** (ад *геа-* + гр. topos = месца + *-логія*) — кірунак у ландшафтазнаўстве, які вывучае падраздзяленні геаграфічнай абалонкі ніжэйшых таксанамічных рангаў; прыкладна ў межах *фацыі* і *біягеацэнозу*.

**ГЕАТРАПІ́ЗМ** (ад *геа-* + *трапізм*) — здольнасць раслін рэагаваць на зямное прыцяжэнне.

**ГЕАТРЫХО́З** (ад *геа-* + гр. thriks, -ichos = волас) — хранічная інфекцыйная хвароба жывёл і чалавека, якая выклікаецца прамянёвымі грыбкамі; характарызуецца пашкоджаннем скуры, слізістай абалонкі рота, глотачных міндалін, бронхаў, лёгкіх, кішэчніка.

**ГЕАТЭКТО́НІКА** (ад *геа-* + *тэктоніка*) — тое, што і *тэктоніка* 1.

**ГЕАТЭКТУ́РА** (ад *геа-* + лац. tectura = пакрыццё) — тое, што і *мегарэльеф*.

**ГЕАТЭРМА́ЛЬНЫ** (ад *геа-* + гр. therme = цяпло) — звязаны з унутраным цяплом Зямлі і яго выкарыстаннем (напр. г-ая станцыя).

**ГЕАТЭ́РМІКА** (ад *геа-* + гр. therme = цяпло) — тое, што і *геатэрмія*.

# Г

**ГЕАТЭРМІ́Я** (ад *геа-* + *-тэрмія*) — раздзел *геафізікі*, які вывучае цеплавы стан зямной кары і Зямлі ў цэлым.

**ГЕАТЭХНАЛО́ГІЯ** (ад *геа-* + *тэхналогія*) — метады здабывання карысных выкапняў праз буравыя свідравіны шляхам выкарыстання цеплавых, хімічных, фізіка-хімічных, біяхімічных і мікрабіялагічных працэсаў.

**ГЕАТЭХНІ́Я** (ад *геа-* + гр. techne = мастацтва, майстэрства, уменне) — прыродазнаўча-тэхнічная дысцыпліна, якая распрацоўвае прынцыпы і метады рацыянальнага ўмяшання ў прыродныя працэсы для наладжвання аптымальнага ўзаемадзеяння паміж грамадствам і прыродай.

**ГЕАФІ́ЗІКА** (ад *геа-* + *фізіка*) — навука аб фізічных працэсах у цвёрдай, вадкай і газападобнай абалонках зямнога шара.

**ГЕАФІ́ЛЫ** (ад *геа-* + *-філ*) — арганізмы, частка цыкла развіцця якіх абавязкова праходзіць у глебе (саранчовыя, жукі, камары-даўганожкі і інш.).

**ГЕАФІ́ТЫ** (ад *геа-* + *-фіты*) — травяністыя расліны, у якіх органы вегетатыўнага аднаўлення развіваюцца ў глебе (напр. бульба, цыбуля і інш.); належаць да *крыптафітаў*.

**ГЕАФЛЕКСУ́РА** (ад *геа-* + *флексура*) — круты выгін горных абшараў, выяўлены ў *рэльефе* як вялікі ўступ значнай працягласці.

**ГЕАФО́Н** (ад *геа-* + *-фон*) — прыбор для ўлоўлівання гукавых хваляў, якія пашыраюцца ў верхніх слаях зямной кары; выкарыстоўваецца ў час геолагаразведачных работ, у ваеннай справе і інш.

**ГЕАХІ́МІЯ** (ад *геа-* + *хімія*) — навука аб хімічным саставе Зямлі і законах размеркавання і спалучэння хімічных элементаў у зямной кары.

**ГЕАХО́РА** (ад *геа-* + гр. chora = прастор) — геаграфічны *ландшафт*.

**ГЕАХРАНАЛО́ГІЯ** (ад *геа-* + *храналогія*) — раздзел гістарычнай *геалогіі*, які вывучае храналагічную паслядоўнасць фарміравання і ўзрост горных парод.

**ГЕАЦЭНТРЫ́ЗМ** (ад *геа-* + *цэнтр*) — абвергнутае навукай уяўленне, што ў цэнтры Сусвету знаходзіцца Зямля, а вакол яе рухаюцца Сонца і ўсе іншыя нябесныя свяцілы (параўн. *геліяцэнтрызм*).

**ГЕАЦЭНТРЫ́ЧНЫ** (ад *геа-* + *цэнтр*) — заснаваны на прызнанні Зямлі цэнтрам планетнай сістэмы (г-ая сістэма свету); параўн. *геліяцэнтрычны*.

**ГЕАЭКВІВАЛЕ́НТНАСЦЬ** (ад *геа-* + *эквівалентнасць*) — суадносіны культурнага ландшафту, які стварае чалавек, з прыродным ландшафтам, што існаваў на гэтым месцы, паводле складу і масы рэчываў, інтэнсіўнасці працэсаў абмену і іншых экалагічных, ландшафтных і энергетычных паказчыках.

**ГЕАЭНЕРГЕ́ТЫКА** (ад *геа-* + *энергетыка*) — галіна энергетыкі, звязаная з выкарыстаннем глыбіннага цяпла зямной кары.

**ГЕБЕЛО́МА** (н.-лац. hebeloma) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям.

павуціннікавых, які расце на глебе ў лясах, парках, на лугах; неядомы.

**ГЕБЕФРЭНІ́Я** (ад гр. hebe = маладосць + phren = розум) — псіхічнае захворванне, адна з форм юнацкай *шызафрэніі*, якая развіваецца ў перыяд палавога даспявання.

**ГЕБРАІ́ЗМ** (ад гр. hebraios = яўрэй) — слова або выраз, запазычаныя са старажытнаяўрэйскай мовы.

**ГЕБРАІ́СТЫКА** (ад гр. hebraios = яўрэй) — комплекс філалагічных дысцыплін, якія даследуюць старажытнаяўрэйскую мову, гісторыю, пісьменнасць, культуру.

**ГЕВЕ́Я** (н.-лац. hevea, ад індз. hjewe) — вечназялёнае дрэва сям. малачаевых, пашыранае ў тропіках Амерыкі і Азіі; дае каўчук.

**ГЕГЕЛЬЯ́НСТВА** [ад ням. G.Hegel = прозвішча ням. філосафа (1770—1831)] — філасофскае вучэнне Гегеля і яго паслядоўнікаў, паводле якога быццё тоеснае мысленню, але не суб'ектыўнаму, а абсалютнаму, што развіваецца дыялектычна (па трыядзе тэзіс — антытэзіс — сінтэз), у ходзе чаго складаецца ўся гісторыя Сусвету.

**ГЕГЕМАНІ́ЗМ** (ад *гегемонія*) — палітыка, заснаваная на імкненні да сусветнага панавання над іншымі краінамі і народамі.

**ГЕГЕМО́Н** (гр. hegemon = правадыр) — кіруючая сіла чаго-н., кіраўнік, правадыр.

**ГЕГЕМО́НІЯ** (гр. hegemonia = панаванне) — кіруючая роля, першынство якога-н. класа, дзяржавы ў адносінах да іншых класаў, дзяржаў.

**ГЕДАНІ́ЗМ** (ад гр. hedone = асалода) — філасофска-этычнае вучэнне, якое сцвярджае, што вышэйшым ідэалам, мэтай жыцця з'яўляецца асалода, уцеха; першапачаткова развівалася *кірэнаікамі*.

**ГЕДАНІ́Я** (ад гр. hedone = асалода) — пачуццё ўзнёсласці, прыемнага самаадчування.

**ГЕДВІ́ГІЯ** (н.-лац. hedwigia) — лістасцябловы мох сям. гедвігіевых, які расце на сухіх і асветленых сілікатных валунах.

**ГЕДЫ́СТЫ** [ад фр. J.Guesde = прозвішча фр. палітычнага дзеяча (1845—1922)] — палітычная плынь у французскім рабочым руху ў канцы 19 — пач. 20 ст., якая стала ядром французскай Рабочай партыі.

**ГЕЕ́НА** (гр. geenna, ад ст.-яўр. gehinnom = пекла) — *кніжн.* пекла.

**ГЕЕ́СТ** (ням. Geest) — бедная на расліннасць пясчаная мясцовасць на ўзбярэжжы Паўночнага і Балтыйскага мораў.

**ГЕЗЕ́НК** (ням. Gesenk) — вертыкальная падземная горная выработка, у якой няма непасрэднага выхаду на паверхню; служыць для пад'ёму грузаў, вентыляцыі і інш.

**ГЕ́ЙЗЕР** (ісл. geysir) — гарачая крыніца вулканічнага паходжання, з якой час ад часу б'е фантан.

**ГЕЙЗЕРЫ́Т** (фр. geysérite) — мінерал, белы або шараваты апал, а таксама туфападобная апалавая парода, што ўтвараецца ў выніку выпадзення крэменязёму з *гейзераў*.

# Г

**ГЕЙМ** (англ. game = гульня) — пэўны лік ачкоў у некаторых гульнях, напр. у *тэнісе*; частка спартыўнай гульні ў тэніс (параўн. *тайм*).

**ГЕЙТАНАГА́МІЯ** (ад гр. geiton = сусед + *-гамія*) — апыленне кветкі пылком іншай кветкі той жа расліны; суседняе апыленне (параўн. *ксенагамія*).

**ГЕ́ЙХЕРА** (н.-лац. heuchera) — травяністая расліна сям. каменяломнікавых з акруглым лісцем у разетцы і дробнымі рознакаляровымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная ў Паўн. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ГЕ́ЙША** (яп. gejsia) — прафесіянальная спявачка і танцоўшчыца ў чайных дамах Японіі.

**ГЕКАТО́МБА** (гр. hekatombe) — 1) ахвярапрынашэнне ў Стараж. Грэцыі (першапачаткова са 100 быкоў); 2) *перан.* вялізныя ахвяры вайны, тэрору, эпідэміі.

**ГЕ́КЕЛЬФАН** [ад ням. W.Heckel = прозвішча ням. музычнага майстра (1836—1909) + гр. phone = гук] — духавы музычны інструмет, барытонавы *габой*.

**ГЕКЗА́МЕТР** (гр. heksametron) — шасцістопны дактылічны вершаваны памер з пастаяннай цэзурай, які склаўся ў антычнай паэзіі.

**ГЕКІСТАТЭ́РМЫ** (ад гр. hekistos = найменшы + *-тэрмы*) — расліны халоднага клімату.

**ГЕКО́НЫ** (н.-лац. gekkonidae, ад малайск. geko) — сямейства яшчарак з будовай пальцаў, прыстасаванай да поўзання па гладкіх сценах; пашыраны пераважна ў тропіках і субтропіках.

**ГЕКСА-** (гр. heks = шэсць) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па значэнні слову «шэсць».

**ГЕКСАГАНА́ЛЬНЫ** (ад *гексагон*) — шасцівугольны.

**ГЕКСАГЕ́Н** [ад *гекса-* + н.-лац. (oxy)gen(ium) = кісларод] — выбуховае рэчыва, бясколерны крышталічны парашок, які выкарыстоўваюць у капсулях-дэтанатарах.

**ГЕКСАГО́Н** (гр. heksagonos = шасцівугольны) — шасцівугольнік.

**ГЕКСАЗАМІ́НЫ** (ад *гексозы* + *аміны*) — вытворныя простых цукроў, якія належаць да *амінацукроў*.

**ГЕКСАЗА́НЫ** (ад *гексозы*) — *поліцукрыды*, малекулы якіх пабудаваны з вялікай колькасці гексозных дадаткаў (*крухмал, глікаген* і інш.).

**ГЕКСАКІНА́ЗА** (ад *гекса-* + *кіназы*) — *фермент* групы *кіназаў*, які змяшчаецца ў жывёльных тканках, у клубнях бульбы.

**ГЕКСАМЕТЫЛЕНДЫЯМІ́Н** (ад *гекса-* + *метылен* + *дыямін*) — арганічнае злучэнне, бясколернае крышталічнае рэчыва са слабым аміячным пахам; выкарыстоўваецца для сінтэзу поліамідаў, поліурэтанаў.

**ГЕКСАМЕТЫЛЕНТЭТРАМІ́Н** (ад *гекса-* + *метылен* + гр. tetras = чатыры + *аміны*) — тое, што і *уратрапін*.

**ГЕКСА́Н** (ад гр. heks = шэсць) — насычаны вуглевадарод, які змяшчае ў малекуле шэсць атамаў

вугляроду, бясколерная вадкасць; выкарыстоўваецца як растваральнік.

**ГЕКСАПЛО́ІД** (ад гр. heks = шэсць + aploos = просты + *-оід*) — клетка або асобіна, якая мае шэсць поўных набораў храмасом.

**ГЕКСАФЕРЫ́ТЫ** (ад *гекса-* + *ферыты*) — ферыты з *гексаганальнай* крышталічнай структурай.

**ГЕКСАХЛАРА́Н** (ад *гекса-* + *хлор*) — арганічнае рэчыва, моцны яд для знішчэння насякомых — шкоднікаў сельскагаспадарчых культур.

**ГЕКСАХЛОРБЕНЗО́Л** (ад *гекса-* + *хлорбензол*) — ядахімікат, які прымяняюць для пратраўлівання насення сельскагаспадарчых культур супраць узбуджальнікаў хвароб.

**ГЕКСАХЛОРБУТАДЫЕ́Н** (ад *гекса-* + *хлор* + *бутадыен*) — ядахімікат, які выкарыстоўваецца для барацьбы з *філаксерай* у грунце.

**ГЕКСАХЛОРЭТА́Н** (ад *гекса-* + *хлор* + *этан*) — хімічны прэпарат, які выкарыстоўваецца ў медыцыне для лячэння *гельмінтозаў*, а таксама ў хімічнай прамысловасці для вырабу пластмас, як дымаўтваральнік і інш.

**ГЕКСАХО́РД** (гр. heksachordos = шасціструнны) — шасціступеньчаты музычны гукарад.

**ГЕКСАЭ́ДР** (гр. heksaedros = шасціграпны) — замкнуты шасцігранпік (напр. пяцівугольная піраміда); правільны гексаэдр — куб.

**ГЕКСАЭДРЫ́Т** (ад *гексаэдр*) — жалезны *метэарыт*, у структуры якога пераважаюць крышталі шасціграннай формы *(гексаэдры)*.

**ГЕКСЕНА́Л** (ад гр. heks = шэсць) — лекавы прэпарат, *наркотык*, які выкарыстоўваецца для ўнутрывеннага наркозу і як супрацьсутаргавы сродак.

**ГЕКСІ́ТЫ** (ад гр. heks = шэсць) — шасціатамныя *спірты*, бясколерныя крышталічныя рэчывы, салодкія на смак, якія змяшчаюцца ў раслінах, пладах, водарасцях.

**ГЕКСО́Д** [ад гр. heks = шэсць + *(электр)од*] — электронная лямпа з шасцю *электродамі (анод, катод* і 4 сеткі), якая выкарыстоўваецца ў радыётэхніцы для пераўтварэння частаты ваганняў.

**ГЕКСОЗАФАСФА́ТЫ** (ад *гексозы* + *фасфаты*) — складаныя *эфіры*, утвораныя з гексозаў і фосфарнай кіслаты, якія з'яўляюцца прамежкавымі прадуктамі вугляводнага абмену ў чалавека, жывёл і мікраарганізмаў.

**ГЕКСО́ЗЫ** [ад гр. heks = шэсць + *(глюк)оза*] — вугляводы групы *монацукрыдаў*, якія змяшчаюць 6 атамаў вугляроду (напр. *глюкоза, фруктоза*) і знаходзяцца ў арганізме чалавека, жывёл і раслін у вольным стане і ў складзе *поліцукрыдаў*.

**ГЕКСО́НІЙ** (ад гр. heks = шэсць) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца для лячэння сасудзістых спазм, пры гіпертанічнай хваробе.

**ГЕКТА-** (ад гр. hekaton = сто) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «сто», «у сто разоў».

**ГЕКТАВА́Т** (ад *гекта-* + *ват*) — адзінка вымярэння магутнасці

электрычнага току, роўная 100 ватам.

**ГЕКТАГРА́М** (ад *гекта-* + *грам*) — адзінка масы або вагі ў метрычнай сістэме мер, роўная 100 грамам.

**ГЕКТАГРА́ФІЯ** (ад *гекта-* + *-графія*) — спосабы атрымання копій тэксту і ілюстрацый пры дапамозе *гектографа*.

**ГЕКТАКО́ТЫЛЬ** (ад *гекта-* + гр. kotyle = прысоска) — шчупальца галаваногіх *малюскаў*, якое выконвае функцыю капулятыўнага органа.

**ГЕКТАЛІ́ТР** (ад *гекта-* + *літр*) — мера вадкасцей або сыпкіх рэчываў у метрычнай сістэме мер, роўная 100 літрам.

**ГЕКТАМЕ́ТР** (ад *гекта-* + *метр*) — мера даўжыні ў метрычнай сістэме мер, роўная 100 метрам.

**ГЕКТАП'Е́ЗА** (ад *гекта-* + *п'еза*) — адзінка ціску, роўная ціску 100 *стэнаў* на 1 $м^2$.

**ГЕКТА́Р** (ад *гекта-* + *ар*) — мера плошчы ў метрычнай сістэме мер, роўная 100 арам, або 10 000 $м^2$.

**ГЕКТО́ГРАФ** (ад *гекта-* + *-граф*) — спрошчаны друкарскі апарат для атрымання копій з надрукаванага або напісанага тэксту і ілюстрацый.

**ГЕЛАБІЁНТЫ** (ад гр. helos = балота + *біёнты*) — жывыя арганізмы, што насяляюць балоты (напр. *гелафіты*).

**ГАЛАЗІНАСПО́РА** (н.-лац. gelasinospora) — сумчаты грыб сям. сардарыевых, які развіваецца на глебе, гноі.

**ГЕЛАФІ́ТЫ** (ад гр. helos = балота + *-фіты*) — балотныя расліны (напр. асокі, шальнік трыпутнікавы і інш.); гл. *гіграфіты*.

**ГЕЛАФО́РА** (н.-лац. helophora) — павук сям. *лініфіідаў*, які жыве ў мяшаных і лісцевых лясах, на глебе і травяністых раслінах.

**ГЕЛЕ́НІУМ** (н.-лац. helenium) — травяністая расліна сям. астравых з ланцэтным чаргаваным лісцем і жоўтымі або чырванаватымі кветкамі ў суквеццях, пашыраныя ў Паўн. і Цэнтр. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ГЕЛЕПО́ЛЬ** (гр. helepolis, ад helein = браць + polis = горад) — перасоўная шматпавярховая драўляная вежа, якая ў старажытнасці выкарыстоўвалася пры асадзе крэпасцей.

**ГЕ́ЛЕР** (чэш. haléř, ням. Heller) — 1) разменная манета Чэхаславакіі, роўная $^1/_{100}$ *кроны*; 2) разменная манета Германіі (13—19 ст.), Аўстра-Венгрыі (1892—1918), Аўстрыі (1918—1924).

**ГЕЛЕ́РТЭР** (ням. Gelehrter) — *кніжн.* вучоны з чыста кніжнымі, адарванымі ад жыцця і практычнай дзейнасці ведамі; схаласт, начотчык.

**ГЕ́ЛІ** (ад лац. gelo = застываю) — дысперсныя сістэмы, якія ўтвараюцца ў *калоідных* растворах пры паступовай *каагуляцыі* (напр. жэлацінавы студзень, сталярны клей).

**ГЕЛІАКТЫ́ЧНЫ** (гр. heliakos) — сонечны; г. у с х о д — усход зоркі ў праменнях ранішняй зары, незадоўга да ўсходу Сонца.

**ГЕЛІЕ́Я** (гр. heliaia) — суд прысяжных у Стараж. Афінах.

**ГЕЛІЁГРАФ** (ад гр. helios = сонца + *-граф*) — 1) аўтаматычны апарат для запісу працягласці сонечнага свячэння; 2) *тэлескоп* з фотаапаратам, прызначаны для фатаграфавання Сонца.

**ГЕЛІЁМЕТР** (ад гр. helios = сонца + *-метр*) — астранамічны інструмент для вымярэння бачных дыяметраў нябесных свяцілаў, а таксама невялікіх вуглоў на нябеснай сферы.

**ГЕ́ЛІЙ** (гр. helios = сонца) — хімічны *элемент*, самы лёгкі пасля вадароду інертны газ без колеру і паху.

**ГЕЛІКАБАЗІ́ДЫЙ** (н.-лац. helicobasidium) — *базідыяльны* грыб сям. аўрыкулярыевых, які развіваецца на гнілой драўніне, на каранях многіх кармавых і агародных культур.

**ГЕЛІКАНІ́ДЫ** (н.-лац. heliconidae) — сямейства матылькоў з яркім малюнкам на чорных крылах; пашыраны пераважна ў тропіках Паўд. Амерыкі.

**ГЕЛІКАПРЫЁН** (ад гр. heliks, -ikos = спіраль + prion = піла) — выкапнёвая акулападобная рыба, якая была пашырана ў *палеазоі*.

**ГЕЛІКАПТЭ́Р** (ад гр. heliks, -ikos = спіраль + *-птэр*) — устарэлая назва верталёта.

**ГЕЛІКАСТЫ́Л** (н.-лац. helicostylum) — ніжэйшы грыб сям. тамнідыевых, які развіваецца ў глебе і на экскрэментах жывёл.

**ГЕЛІКО́ІД** (ад гр. heliks, -ikos = спіраль + *-оід*) — *мат.* паверхня, апісаная крывою, якая паварочваецца вакол нерухомай восі з нязменнай вуглавой хуткасцю і адначасова перамяшчаецца ўздоўж восі абароту з пастаяннай хуткасцю.

**ГЕЛІКО́Н** (гр. helikon) — медны басовы духавы музычны інструмент.

**ГЕЛІЦЫ́ДЫ** ( н.-лац. helicidae) — сямейства наземных *малюскаў*, пашыраны ў лясах Еўропы, Малой Азіі, Паўн. Афрыкі.

**ГЕЛІЯ-** (гр. helios = Сонца) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «сонца», «сонечны».

**ГЕЛІЯБІЁНТЫ** (ад *гелія-* + *біёнты*) — віды расліннага і жывёльнага свету, якія аддаюць перавагу месцам, асветленым сонечным святлом *(геліяфілы, геліяфіты)*.

**ГЕЛІЯБІЯЛО́ГІЯ** (ад *гелія-* + *біялогія*) — раздзел *біяфізікі*, які вывучае ўплыў змен актыўнасці Сонца на зямныя арганізмы.

**ГЕЛІЯГЕАФІ́ЗІКА** (ад *гелія-* + *геафізіка*) — навука, якая вывучае ўплыў працэсаў, што адбываюцца на Сонцы, на геафізічныя з'явы.

**ГЕЛІЯГРАВЮ́РА** (ад *гелія-* + *гравюра*) — спосаб узнаўлення малюнкаў, пры якім друкарская форма рыхтуецца з прымяненнем фатаграфічнага і хімічнага працэсаў.

**ГЕЛІЯГРА́МА** (ад *гелія-* + *-грама*) — адбітак Сонца, атрыманы пры дапамозе *геліёграфа*.

**ГЕЛІЯГРАФІ́ЧНЫ** (ад *гелія-* + гр. grapho = пішу) — звязаны з апісаннем Сонца; г-ы-я к а а р д ы н а т ы — велічыні, пры дапамозе якіх вызначаюць размяшчэнне пунктаў на паверхні Сонца.

**ГЕЛІЯГРА́ФІЯ** (ад *гелія-* + *-графія*) — спосаб атрымання фатагра-

фій Сонца пры дапамозе *геліёграфа*.

**ГЕЛІЯДО́Р** (ад *гелія-* + фр. doré = залацісты) — мінерал, празрыстая жоўтая разнавіднасць *берылу*.

**ГЕЛІЯКАНЦЭНТРА́ТАР** (ад *гелія-* + лац. con = з, разам + centrum = асяроддзе) — устройства для *канцэнтрацыі* прамяністай энергіі Сонца, якое складаецца з сістэмы ўвагнутых люстэркаў або збіральных лінз.

**ГЕЛІЯЛІТЫ́ДЫ** (н.-лац. heliolitoidea) — падклас вымерлых каланіяльных беспазваночных жывёл класа каралавых паліпаў; жылі ў сярэднім *ардовіку* — сярэднім *дэвоне*.

**ГЕЛІЯМІЦЫ́Н** (ад *гелія-* + *-міцын*) — лекавы прэпарат, *антыбіётык*, які выкарыстоўваецца для лячэння інфіцыраваных ран, *піядэрміі* і інш.

**ГЕЛІЯСКО́П** (ад *гелія-* + *-скоп*) — *тэлескоп* для візуальнага вывучэння паверхні Сонца.

**ГЕЛІЯСТА́НЦЫЯ** (ад *гелія-* + *станцыя*) — электрычная сілавая станцыя, якая працуе ад энергіі сонечных прамянёў.

**ГЕЛІЯСТА́Т** (ад *гелія-* + *-стат*) — астранамічны прыбор, у якім пры дапамозе гадзіннікавага механізма люстэркі паварочваюцца так, што адбітыя ад іх сонечныя прамяні захоўваюць нязменны кірунак.

**ГЕЛІЯТА́КСІС** (ад *гелія-* + *таксісы*) — рухальная рэакцыя раслінных і прасцейшых жывёльных арганізмаў у адказ на дзеянне сонечнага святла; разнавіднасць *фататтаксісу*.

**ГЕЛІЯТРАПІ́ЗМ** (ад *гелія-* + *трапізм*) — уласцівасць раслін рэагаваць рухам, паваротам на дзеянне сонечнага святла (гл. таксама *фотатрапізм*).

**ГЕЛІЯТРАПІ́Н** (ад *геліятроп*) — арганічнае злучэнне, бясколернае крышталічнае рэчыва з пахам геліятропа; выкарыстоўваецца ў парфумерыі.

**ГЕЛІЯТРО́П** (ад *гелія-* + *-тропы*) — 1) дэкаратыўная расліна сям. агурочнікавых з ліловымі або белымі пахучымі кветкамі; 2) мінерал зялёнага колеру з чырвонымі крапінкамі, разнавіднасць *халцэдону*; служыць матэрыялам для дробных мастацкіх вырабаў; 3) парашок для фарбавання тканін у фіялетавы колер; 4) геадэзічны інструмент для дакладнага вымярэння гарызантальных вуглоў.

**ГЕЛІЯТЭРАПІ́Я** (ад *гелія-* + *тэрапія*) — лячэнне сонечным апраменьваннем.

**ГЕЛІЯТЭ́РМЫ** (ад *гелія-* + *-тэрмы*) — прыродныя або штучна створаныя адкрытыя басейны хларыдных натрыевых водаў з тэмпературай 38—40 °C, якія выкарыстоўваюцца з лячэбнай мэтай.

**ГЕЛІЯТЭ́ХНІКА** (ад *гелія-* + *тэхніка*) — галіна тэхнікі, якая займаецца пераўтварэннем сонечнай энергіі ў іншыя віды энергіі.

**ГЕЛІЯФА́НУС** (н.-лац. heliophanus) — павук сям. скакуноў, які жыве ў разнатраўі на ўзлесках.

**ГЕЛІЯФІ́ЗІКА** (ад *гелія-* + *фізіка*) — раздзел *астрафізікі*, які вывучае з'явы, што адбываюцца на паверхні Сонца.

**ГЕЛІЯФІ́ЛЫ** (ад *геліяфіл* + *-філ*) — святлалюбныя віды жывых арганізмаў, напр. расліны з групы *геліяфітаў*.

**ГЕЛІЯФІ́ЛЬНЫ** (ад *геліяфілы*) — які любіць сонца; г - ы я р а с л і н ы — святлалюбныя расліны (параўн. *геліяфобны*).

**ГЕЛІЯФІ́ТЫ** (ад *геліяфі-* + *-фіты*) — расліны, якія патрабуюць для свайго развіцця вялікую колькасць святла.

**ГЕЛІЯФО́БНЫ** (ад *геліяфі-* + гр. phobos = страх) — які баіцца святла; г - ы я р а с л і н ы — ценялюбныя расліны (параўн. *геліяфільны*).

**ГЕЛІЯХІ́МІЯ** (ад *геліяфі-* + *хімія*) — навука, якая вывучае хімічныя працэсы на Сонцы.

**ГЕЛІЯЦЭНТРЫ́ЗМ** (ад *геліяфі-* + *цэнтрызм*) — тэорыя будовы сонечнай сістэмы, створаная Капернікам, паводле якой усе планеты рухаюцца вакол Сонца (параўн. *геацэнтрызм*).

**ГЕЛІЯЦЭНТРЫ́ЧНЫ** (ад *геліяфі-* + *цэнтр*) — заснаваны на прызнанні Сонца цэнтрам планетнай сістэмы (г-ая сістэма свету); параўн. *геацэнтрычны*.

**ГЕЛІЯЭНЕРГЕ́ТЫКА** (ад *геліяфі-* + *энергетыка*) — галіна энергетыкі, якая распрацоўвае метады эксплуатацыі энергіі сонечнага выпрамянення для прамысловых і бытавых патрэб.

**ГЕЛО́ДЫУМ** (н.-лац. helodium) — лістасцябловы мох сям. брыевых, які трапляецца на балотах.

**ГЕЛО́ЦЫЙ** (н.-лац. helotium) — сумчаты грыб сям. гелоцыевых, які расце на апалым лісці, адмерлых сцёблах раслін.

**ГЕЛЬВІ́Н** (ад лац. helvus = бурштынава-жоўты) — мінерал класа *сілікатаў* жоўтага, чырвона-бурага колеру; руда *берылію*.

**ГЕЛЬМІТАГЕАГРА́ФІЯ** (ад *гельмінты* + *геаграфія*) — раздзел *гельмінталогіі*, які вывучае пашырэнне гельмінтаў на зямным шары.

**ГЕЛЬМІНТАЗААНО́ЗЫ** (ад *гельмінты* + *заанозы*) — група *гельмінтозаў*, узбуджальнікі якіх могуць паразітаваць і ў чалавеку, і ў жывёлах.

**ГЕЛЬМІНТАЛО́ГІЯ** (ад *гельмінты* + *-логія*) — навука аб чарвяхпаразітах (гельмінтах) і хваробах *(гельмінтозах)*, якія яны выклікаюць у чалавека, жывёл і раслін.

**ГЕЛЬМІНТАСПАРЫЁЗЫ** (ад *гельмінтаспорый*) — хваробы раслін, якія выклікае гельмінтаспорый.

**ГЕЛЬМІНТАСПО́РЫЙ** (н.-лац. helminthosporium, ад гр. helmins, -nthos = чарвяк + spora = семя) — недасканалы грыб сям. дэмацыевых, які развіваецца на кары, лісці, сухіх галінках і сцёблах дрэвавых і травяністых раслін.

**ГЕЛЬМІНТО́ЗЫ** (гр. helmins, -nthos = чарвяк) — хваробы чалавека, жывёл і раслін, якія выклікаюцца *гельмінтамі*.

**ГЕЛЬМІ́НТЫ** (гр. helmins, -nthos = чарвяк) — чэрві, якія паразітуюць у арганізме чалавека, жывёл і раслін, выклікаючы *гельмінтозы*.

**ГЕ́ЛЬМПАРТ** (англ. helmport, ад helm = стырно + port = адтуліна) — адтуліна ў кармавой частцы

корпуса судна, праз якую праходзіць вось руля.

**ГЕЛЬ-ФІЛЬТРА́ЦЫЯ** (ад *гелі* + *фільтрацыя*) — раздзяленне сумесі малекул паводле іх памеру пры дапамозе порыстых палімераў шляхам фільтрацыі на храматаграфічных калонках.

**ГЕЛЬ-ХРАМАТАГРА́ФІЯ** (ад *гелі* + *храматаграфія*) — тое, што і *гель-фільтрацыя*.

**ГЕМ** (гр. haima = кроў) — небялковая частка *гемаглабіну*, жалезазмяшчальнае злучэнне, якое пры акісленні ператвараецца ў *гемацін*.

**ГЕ́МА** (лац. gemma) — каштоўны камень з выразаным на ім надпісам або малюнкам *(інталія, камея)*; выкарыстоўваўся даўней як пячатка, амулет, упрыгожанне.

**ГЕМА-** (гр. haima = кроў) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «кроў».

**ГЕМАГЛАБІ́Н** (ад *гема-* + лац. globus = шар) — складаны бялок, жалезазмяшчальны *пігмент* крыві чалавека, пазваночных і некаторых беспазваночных жывёл, які надае ёй чырвоны колер і служыць пераносчыкам кіслароду ва ўсе тканкі арганізма; складаецца з бялковай часткі *(глабіну)* і небялковай *(гема)*.

**ГЕМАГЛАБІНАМЕ́ТР** (ад *гемаглабін* + *-метр*) — тое, што і *гемометр*.

**ГЕМАГЛАБІНАПА́ТЫЯ** (ад *гемаглабін* + *-патыя*) — хваравіты стан чалавека, абумоўлены наяўнасцю ў *эрытрацытах* аднаго або некалькіх паталагічных гемаглабінаў.

**ГЕМАГЛАБІНО́З** (ад *гемаглабін*) — тое, што і *гемаглабінапатыя*.

**ГЕМАГЛАБІНУРЫ́Я** (ад *гемаглабін* + *-урыя*) — з'яўленне гемаглабіну ў мачы ў выніку ўнутрысасуднага *гемолізу* (параўн. *гемаглабінэмія*).

**ГЕМАГЛАБІНЭМІ́Я** (ад *гемаглабін* + *-эмія*) — павышанае змяшчэнне гемаглабіну ў плазме крыві ў выніку ўнутрысасуднага *гемолізу* (параўн. *гемаглабінурыя*).

**ГЕМАГЛЮЦІНА́ЦЫЯ** (ад *гем* + *аглюцінацыя*) — працэс склейвання і асядання *эрытрацытаў* крыві, якія выклікаецца бактэрыямі, вірусамі.

**ГЕМАГЛЮЦІНІ́НЫ** (ад *гем* + *аглюцініны*) — антыцелы, якія здольны выклікаць склейванне *(аглюцінацыю) эрытрацытаў*.

**ГЕМАГРА́МА** (ад *гема-* + *-грама*) — схематычны запіс колькаснага і якаснага даследавання крыві.

**ГЕМАДЫНА́МІКА** (ад *гема-* + *дынаміка*) — цыркуляцыя крыві па сасудах, кровазварот.

**ГЕМАДЫНАМО́МЕТР** (ад *гема-* + *дынамометр*) — апарат для вызначэння крывянога ціску.

**ГЕМАДЫЯ́ЛІЗ** (ад *гема-* + *дыяліз*) — метад ачышчэння крыві пры захворванні нырак апаратам штучнай ныркі.

**ГЕМАЛІЗІ́НЫ** (ад *гемоліз*) — рэчывы, якія выклікаюць гемоліз (напр. *сапаніны*).

**ГЕМАЛІ́МФА** (ад *гема-* + *лімфа*) — вадкасць, якая цыркулюе ў сасудах і міжклетачных прасторах жывёл з незамкнутай крываноснай

сістэмай (членістаногіх, малюскаў) і пераносіць у арганізме кісларод, вуглекіслату, пажыўныя рэчывы і прадукты выдзялення.

**ГЕМАЛІТЫ́ЧНЫ** (ад *гема-* + гр. lysis = распад, растварэнне) — звязаны са з'явай *гемолізу* (напр. г-ыя атруты, г-ая хвароба нованароджаных).

**ГЕМАЛО́ГІЯ** (ад *гема-* + *-логія*) — навука аб каштоўных і вырабных камянях.

**ГЕМАНГІЁМА** (ад *гем* + *ангіёма)* — дабраякасная пухліна, якая развіваецца з крывяносных сасудаў.

**ГЕМА́НТУС** (н.-лац. haemanthus) — цыбульная травяністая расліна сям. амарылісавых з падоўжаным лісцем і белымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў тропіках і субтропіках Афрыкі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ГЕМАНХО́З** (ад *гемонхус*) — глісная хвароба, якую выклікае гемонхус.

**ГЕМАПАРАЗІ́ТЫ** (ад *гема-* + *паразіты*) — тое, што і *гематазоі*.

**ГЕМАПАЭ́З** (ад *гема-* + гр. poiesis = утварэнне) — утварэнне, развіццё і дасяванне клетак крыві.

**ГЕМАПРАТЭІ́ДЫ** (ад *гема-* + *пратэіды*) — складаныя бялкі, якія змяшчаюць у якасці небялковага кампанента *гем*.

**ГЕМАПРАТЭ́УС** (ад *гема-* + гр. protos = першы) — кровапаразіт тыпу прасцейшых, які выклікае захворванне птушак, яшчарак, змей.

**ГЕМАРАГІ́ЧНЫ** (гр. haimorrhages = кроватачывы) — які суправаджаецца крывацёкам; г. д ы я т э з — група захворванняў, якія суправаджаюцца крывацёкамі (напр. *гемафілія*).

**ГЕМАРАГІ́Я** (гр. haimorrhagia) — выцяканне крыві з сасудаў чалавека і жывёл у сувязі з парушэннем цэласці іх сценак; крывацёк.

**ГЕМАРО́Й** (гр. haimorrois = крывацёк) — хвароба застою крыві ў прамой кішцы, якая суправаджаецца расшырэннем вен і крывацёкам.

**ГЕМАРТРО́З** (ад *гем* + гр. arthron = сустаў) — кровазліццё ў поласць сустава пры траўме або некаторых захворваннях (*гемафіліі*, цынзе).

**ГЕМАСПАРЫДЫЁЗЫ** (ад *гемаспарыдыі*) — хваробы пазваночных жывёл, якія выклікаюцца гемаспарыдыямі.

**ГЕМАСПАРЫ́ДЫІ** (ад *гема-* + гр. spora = семя + -idion = памяншальны суфікс) — атрад прасцейшых класа *спаравікоў*, паразітуюць у крыві пазваночных жывёл і чалавека, выклікаючы захворванні.

**ГЕМАСПЕРМІ́Я** (ад *гема-* + *сперма*) — з'яўленне крыві *(эрытрацытаў)* у сперме, якая пры гэтым набывае чырвоны або «ржавы» колер.

**ГЕМАСТА́З** (ад *гема-* + *-стаз*) — 1) спыненне руху крыві ў сасудах; 2) спыненне крывацёку.

**ГЕМАТА-** (гр. haima, -atos = кроў) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «кроў».

**ГЕМАТАГЕ́Н** (ад *гемата-* + *-ген*) — лякарства ад малакроўя і заняпаду сіл; у склад яго ўваходзіць *гемаглабін*.

# Г

**ГЕМАТАЗО́І** (ад *гемата-* + гр. zoon = асобіна) — аднаклетачныя арганізмы, якія паразітуюць у крыві пазваночных жывёл і чалавека і выклікаюць інфекцыйныя захворванні (малярыю, піраплазму і інш.).

**ГЕМАТАКО́КУС** (н.-лац. haematococcus) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. хламідаманадавых, якая трапляецца ў капаных сажалках, на голых гранітных і бетанаваных збудаваннях у штучных басейнах, на вільготнай глебе, у лужынах.

**ГЕМАТАКРЫ́Т** (ад *гемата-* + гр. krites = які вызначае) — прыбор для вызначэння суадносін крывяных цельцаў і плазмы ў крыві.

**ГЕМАТАКСІЛІ́Н** (ад *гемата-* + гр. ksylon = драўніна) — сіні і сіне-чорны фарбавальнік, які здабываецца з драўніны *кампеша*; выкарыстоўваецца ў мікраскапічнай тэхніцы для фарбавання раслінных і жывёльных клетак.

**ГЕМАТАКСІ́НЫ** (ад *гема-* + *таксіны*) — рэчывы мікробнага, расліннага або жывёльнага паходжання, якія парушаюць абалонкі *эрытрацытаў* крыві і выклікаюць іх *гемоліз*.

**ГЕМАТАЛО́ГІЯ** (ад *гемата-* + *-логія*) — навука аб саставе, уласцівасцях і хваробах крыві.

**ГЕМАТАМІЕЛІ́Я** (ад *гемата-* + гр. myelos = спінны мозг) — кровазліццё ў спінны мозг.

**ГЕМАТАПАРФІРЫ́Н** (ад *гемата-* + *парфірын*) — *пігмент* пурпурнага колеру, які ў нязначнай колькасці змяшчаецца ў мачы здаровага чалавека, а пры атручванні свінцом, анеміях і хваробах печані выдзяляецца ў вялікай колькасці.

**ГЕМАТАПАЭ́З** (ад *гемата-* + гр. poiesis = утварэнне) — працэс утварэння, развіцця і даспявання клетак крыві ў чалавека і жывёл.

**ГЕМАТАПСІ́Я** *(ад гемата* + гр. opsis = вока) — кровазліццё ў вока, якое адбываецца часцей за ўсё пры траўмах.

**ГЕМАТАХРО́М** (ад *гемата-* + *-хром*) — чырвонае рэчыва, якое змяшчаецца ў тлушчавых кроплях клетак зялёных водарасцей у раствораным стане.

**ГЕМАТАЦЭ́ЛЕ** (ад *гемата-* + гр. kele = пухліна) — скапленне крыві пераважна паміж лісткамі яечка, якое адбываецца звычайна пры траўмах.

**ГЕМАТО́ЛАГ** (ад *гемата-* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *гематалогіі*.

**ГЕМАТО́МА** (ад *гемата-* + *-ома*) — накапленне крыві ў якой-н. поласці арганізма ў сувязі з яе прылівам пры траўмах, парушэнні цэласці крывяносных сасудаў.

**ГЕМАТО́РАКС** (ад *гема-* + гр. thoraks = грудзі) — накапленне крыві ў поласці плеўры, якое адбываецца пры траўмах лёгкіх або пры некаторых захворваннях (раку лёгкіх, туберкулёзе і інш.).

**ГЕМАТРАНСФУ́ЗІЯ** (ад *гема-* + *трансфузія*) — пераліванне крыві.

**ГЕМАТРАНСФУЗІЯЛО́ГІЯ** (ад *гематрансфузія* + *-логія*) — раздзел *гематалогіі*, які вывучае спосабы пералівання крыві і яе састаўных частак.

**ГЕМАТУРЫ́Я** (ад *гемата-* + *-урыя*) — выдзяленне крыві з ма-

чой, якое назіраецца пры захворваннях органаў мачавой сістэмы, хваробах крыві, некаторых інфекцыйных захворваннях, траўмах.

**ГЕМАТЫ́Т** (гр. haimatites = крывавы) — мінерал класа вокіслаў і гідравокіслаў чорнага або вішнёва-чырвонага колеру; жалезная руда.

**ГЕМАТЭРАПІ́Я** (ад *гема-* + *тэрапія*) — метад лячэння ўвядзеннем хвораму крыві (уласнай ці донарскай), а таксама прэпаратаў, прыгатаваных з крыві, напр. *гематагену*.

**ГЕМАФІЛІ́Я** (ад *гема-*+ *-філія*) — спадчыннае захворванне, якое характарызуецца схільнасцю да крывацёкаў з прычыны паніжэння здольнасці крыві згусаць.

**ГЕМАЦІ́Н** (ад гр. haima, -atos = кроў) — жалезазмяшчальны *пігмент* крыві, прадукт акіслення *гема*.

**ГЕМАЦЫТАБЛА́СТЫ** (ад *гемацыты* + *-бласты*) — клеткі крыватворных органаў чалавека і пазваночных жывёл, з якіх утвараюцца *эрытрацыты* і *лейкацыты*.

**ГЕМАЦЫ́ТЫ** (ад *гема-* + *-цыты*) — клетачныя элементы крыві *(эрытрацыты, лейкацыты, трамбацыты, амёбацыты)*.

**ГЕМАЦЫЯНІ́Н** (ад *гема-* + гр. kyanos = цёмна-сіні) — дыхальны *пігмент* гемалімфы малюскаў, вышэйшых ракападобных і некаторых павукападобных, які забяспечвае транспартаванне кіслароду ў арганізме.

**ГЕМЕЛАЛО́ГІЯ** (ад лац. gemellus = парны + *-логія*) — галіна *біялогіі* і медыцыны, якая вывучае паходжанне блізнят і аналізуе іх падабенства і адрозненні з пункту погляду генетыкі, марфалогіі, фізіялогіі і псіхалогіі.

**ГЕМЕРАЛО́ПІЯ** (ад гр. hemera = дзень + alaos = сляпы + ops, opos = зрок) — разлад зроку, які характарызуецца зніжэннем светлавой адчувальнасці; назіраецца пры некаторых захворваннях вачэй, недахопе вітаміну А ў арганізме; курыная слепата.

**ГЕМЕРАФІ́ЛЫ** (ад гр. hemera = дзень + *-філ*) — віды жывёл і раслін, якія жывуць пераважна ў згуртаваннях культурных раслін *(аграбіяцэнозах)*.

**ГЕМЕРАФО́БЫ** (ад гр. hemera = дзень + *-фоб*) — віды жывёл і раслін, якія пазбягаюць згуртаванняў культурных раслін.

**ГЕМІ-** (гр. hemi- = паў-) — прэфікс, які азначае «напалавіну, напалову».

**ГЕМІАНАПСІ́Я** (ад *гемі-* + гр. an = без + opsis = зрок) — выпадзенне ў кожным воку палавіны поля зроку, што назіраецца пры арганічных захворваннях нервовай сістэмы, кровазліцці ў мозг, траўмах і інш.

**ГЕМІАНЕСТЭЗІ́Я** (ад *гемі-* + *анестэзія*) — страта адчувальнасці на адной палавіне цела, якая з'яўляецца ў выніку парушэння праводнасці адчувальных нерваў.

**ГЕМІАПІ́Я** (ад *гемі-* + гр. ops = вока) — захаванне палавіны зроку ў воку пры *геміанапсіі*.

**ГЕМІАРТРО́З** (ад *гемі-* + гр. arthron = сустаў) — пераходнае ад неперарыўнага да перарыўнага

сустава злучэнне касцей (напр. лоннае злучэнне).

**ГЕМІАСКАМІЦЭ́ТЫ** (н.-лац. hemiascomycetidae) — падклас *аскаміцэтаў*, для якога характэрна фарміраванне *аскаў* непасрэдна на *міцэліі*; пашыраны па ўсім зямным шары; пераважна *сапратрофы*, некаторыя — *паразіты* раслін, жывёл і чалавека; галасумчатыя грыбы.

**ГЕМІАТРАФІ́Я** (ад *гемі-* + *атрафія*) — атрафія палавіны органа або цела пры некаторых захворваннях (напр. г. твару).

**ГЕМІГІЛЕ́Я** (ад *гемі-* + гр. hyle = лес) — вільготны вечназялёны або змешаны лес на чырвона-бурых, жаўтазёмных і чырваназёмных глебах у субтрапічных і часткова ў трапічных і ўмераных зонах.

**ГЕМІЗІГО́ТА** (ад *гемі-* + *зігота*) — дыплоідны арганізм, у якога ёсць толькі адна доза пэўных генаў.

**ГЕМІЗІГО́ТНАСЦЬ** (ад *гемізігота*) — наяўнасць адзінарнага набору генаў у гаплоідных арганізмах.

**ГЕМІКРАНІ́Я** (ад *гемі-* + гр. kranion = чэрап) — тое, што і *мігрэнь*.

**ГЕМІКРУСТА́ЦЭІ** (ад *гемі-* + лац. crustata = малюскі, якія маюць панцыр) — клас вымерлых прымітыўных членістаногіх, якія былі пашыраны ў *палеазоі*.

**ГЕМІКРЫПТАФІ́ТЫ** (ад *гемі-* + *крыптафіты*) — расліны, у якіх пупышкі аднаўлення зімуюць на ўзроўні глебы, а надземныя часткі адміраюць (напр. фіялка, віка, многія шматгадовыя травы).

**ГЕМІКСЕРАФІ́ТЫ** (ад *гемі-* + *ксерафіты*) — расліны засушлівых мясцін, якія не пераносяць працяглага абязводжвання і маюць карані, што дасягаюць грунтавых вод.

**ГЕМІМАРФІ́Т** (ад *гемі-* + гр. morphe = выгляд) — тое, што і *каламін*.

**ГЕМІМЕРЫ́ДЫ** (н.-лац. hemimerida) — атрад насякомых, якія з'яўляюцца *эктапаразітамі* грызуноў; пашыраны ў экватарыяльнай Афрыцы.

**ГЕМІМЕТАБАЛІ́ЗМ** (ад *гемі-* + *метабалізм*) — няпоўнае пераўтварэнне пры развіцці, уласцівае часцей нізкаарганізаваным групам жывёл.

**ГЕМІМЕТАБАЛІ́Я** (ад *гемі-* + *метабалія*) — тое, што і *геміметабалізм*.

**ГЕМІМЕТАМАРФО́ЗА** (ад *гемі-* + *метамарфоза*) — тое, што і *геміметабалізм*.

**ГЕМІ́Н** (ад гр. haima = кроў) — салянакіслы *гемацін*, рэчыва, якое ўтвараецца пры ўздзеянні салянай кіслаты на *гемаглабін* крыві; вызначэнне на гемін выкарыстоўваецца ў судовай практыцы.

**ГЕМІНА́ТЫ** (ад лац. geminare = падвойваць) — *лінгв.* падоўжаныя зычныя.

**ГЕМІНЕ́ЛА** (н.-лац. geminella) — ніткаватая зялёная водарасць сям. улотрыксавых, якая трапляецца ў *планктоне* прэсных вадаёмаў.

**ГЕМІПАРЭ́З** (ад *гемі-* + гр. paresis = аслабленне) — аднабаковы няпоўны параліч мышцаў, які ўзнікае пры паражэннях галаўнога мозга.

**ГЕМІПЛЕГІ́Я** (ад *гемі-* + гр. plege = удар) — параліч правай або левай палавіны цела, напр. пасля *інсульту*, пры пухлінах мозгу і інш.

**ГЕМІСФЕ́РА** (ад *гемі-* + *сфера*) — 1) зямное або нябеснае паўшар'е; 2) *анат.* паўшар'е галаўнога мозга.

**ГЕМІЦЫКЛІ́ЧНЫ** (ад *гемі-* + гр. kyklos = круг); г-ая кветка — кветка, у якой адны часткі размешчаны па спіралі, іншыя кругамі (напр. у ворлікаў).

**ГЕМІЦЭЛЮЛО́ЗЫ** (ад *гемі-* + *цэлюлоза*) — група высокамалекулярных вугляводаў расліннага паходжання.

**ГЕ́МЛАК** (англ. hemlock) — вечназялёнае хвойнае дрэва сям. сасновых, пашыранае ў Паўн. Амерыцы.

**ГЕМО́ЛІЗ** (ад *гема-* + *-ліз*) — працэс распаду *эрытрацытаў* крыві чалавека і жывёл і выхаду з іх *гемаглабіну* ў крывяную плазму, што найбольш часта адбываецца пры атручванні хімічнымі рэчывамі (напр. *гематаксінамі*).

**ГЕМО́МЕТР** [ад *гема(глабін)* + *-метр*] — прыбор для вызначэння колькасці гемаглабіну ў крыві.

**ГЕМО́НХУС** (н.-лац. haemonchus) — *гельмінт* класа *нематодаў*, паразіт маладняку авечак, узбуджальнік *геманхозу*.

**ГЕМПШЫ́РЫ** (ад англ. Hempshire = назва графства ў Англіі) — парода мяса-воўнавых авец, выведзеная ў 19 ст. ў Англіі.

**ГЕ́МУЛЫ** (лац. gemmula, ад gemma = пупышка) — унутраныя пупышкі большасці прэснаводных і некаторых марскіх губак, якія служаць для размнажэння.

**ГЕМЭРЫТРЫ́Н** (ад *гем* + гр. erythros = чырвоны) — рэчывы, якія афарбоўваюць кроў кольчатых чарвей у ружовы колер.

**ГЕН** (гр. genos = род, паходжанне) — адзінка спадчыннага рэчыва, з дапамогай якога прыметы і ўласцівасці бацькоў перадаюцца нашчадкам; знаходзіцца ў храмасомах клетачнага ядра.

**ГЕН** (гр. genos = род, паходжанне) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццямі «паходжанне», «утварэнне».

**ГЕНАГЕАГРА́ФІЯ** (ад *ген* + *геаграфія*) — сумежны з *генетыкай* і *біягеаграфіяй* кірунак даследаванняў, які выяўляе геаграфічнае пашырэнне і частоты *алеляў*, што вызначаюць асноўныя прыметы і ўласцівасці ў межах усяго або часткі арэала пэўнага віду арганізмаў.

**ГЕНАКО́ПІЯ** (ад *ген* + *копія*) — спадчыннае змяненне *фенатыпу* арганізма, якое знешне падобна да другога спадчыннага змянення, але абумоўлена іншымі генамі (параўн. *фенакопія*).

**ГЕНАНЕ́МА** (ад *ген* + гр. nema = нітка) — доўгая бакавая малекула, якая з'яўляецца асновай *храмасомы* і носьбітам спадчыннай інфармацыі.

**ГЕНАТЫ́П** (ад *ген* + *тып*) — спадчынная канстытуцыя арганізма, сукупнасць усіх яго генаў.

**ГЕНАТЭІ́ЗМ** (ад гр. heis, henos = адзін, адзіны + theos = бог) — пераходная паміж *політэізмам* і *манатэізмам* форма рэлігійных вера-

ванняў, якая прызнае існаванне многіх багоў на чале з адным галоўным богам.

**ГЕНАФО́НД** (ад *ген* + *фонд*) — сукупнасць усіх генаў адной *папуляцыі* арганізмаў.

**ГЕНАЦЫ́Д** (ад *ген* + *-цыд*) — знішчэнне асобных груп насельніцтва па расавых, нацыянальных, этнічных, палітычных або рэлігійных матывах; арганічна звязана з фашызмам, расізмам і аналагічнымі рэакцыйнымі тэорыямі.

**ГЕНДЭРСО́НІЯ** (н.-лац. hendersonia) — недасканалы грыб сям. сфероідных, які развіваецца на траве, кустах, сухіх галінках пладовых дрэў.

**ГЕНЕАЛАГІ́ЧНЫ** (гр. genealogikos) — які мае адносіны да *генеалогіі* (напр. г-ая табліца, г-ая класіфікацыя моў).

**ГЕНЕАЛО́ГІЯ** (гр. genealogia) — 1) дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая вывучае паходжанне і сваяцкія сувязі гістарычных асоб, родаў; 2) гісторыя чыйго-н. роду, радаслоўная (напр. г. К.Каганца); 3) паходжанне жывёльных або раслінных родаў.

**ГЕНЕАНО́МІЯ** (ад гр. genos, -neos = род + *-номія*) — раздзел *сацыялогіі*, які вывучае паходжанне і развіццё форм шлюбу і сям'і.

**-ГЕНЕЗ** (гр. genesis = паходжанне) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццем «звязаны з працэсам паходжання, узнікнення».

**ГЕ́НЕЗІС** (гр. genesis) — паходжанне, працэс узнікнення і развіцця якой-н. з'явы.

**ГЕНЕРА́Л** (ням. General, ад лац. generalis = агульны, галоўны) — 1) воінскае званне вышэйшага каманднага саставу арміі, старшае за званне палкоўніка; 2) *гіст.* судовы выканаўца ў Вялікім княстве Літоўскім; галоўны *возны*; 3) тытул кіраўніка ордэна *езуітаў*, а таксама некаторых іншых каталіцкіх манаскіх ордэнаў.

**ГЕНЕРА́Л-АДМІРА́Л** (ад *генерал* + *адмірал*) — вышэйшы ваенна-марскі чын у Расіі 18—19 ст.

**ГЕНЕРА́Л-АД'ЮТА́НТ** (ад *генерал* + *ад'ютант*) — 1) ад'ютант у генеральскім званні пры імператары або фельдмаршале ў Расіі 18 ст.; 2) ганаровае званне вышэйшых афіцэраў у свіце расійскага імператара ў 1908—1917 гг.

**ГЕНЕРА́Л-АНШЭ́Ф** (фр. général en chef = галоўнакамандуючы) — генеральскае званне ў рускай арміі 18 ст.

**ГЕНЕРА́Л-БАС** (ням. Generalbass, ад іт. basso generale = лічбавы бас) — даўні спосаб лічбавага абазначэння ў нотным пісьме акордаў, калі лічбы ставіліся пад самай нізкай басовай партыяй.

**ГЕНЕРА́Л-ГУБЕРНА́ТАР** (ад *генерал* + *губернатар*) — 1) вышэйшая службовая асоба мясцовай адміністрацыі ў Расіі ў 1703—1917 гг.; 2) кіраўнік каланіяльнай адміністрацыі ў былых калоніях і дамініёнах Вялікабрытаніі, Францыі і іншых каланіяльных дзяржаў; 3) вышэйшы прадстаўнік англійскага караля ў краінах, якія раней былі брытанскімі дамініёнамі.

**ГЕНЕРАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. generalis = агульны, галоўны) — 1) абагульненне, лагічны пераход ад

прыватнага да агульнага; падпарадкаванне прыватных з'яў агульнаму прынцыпу; 2) пашырэнне хваробатворнага працэсу па ўсім арганізме або органе.

**ГЕНАРАЛІ́СІМУС** (лац. generalissimus = самы галоўны) — самае высокае воінскае званне ў шэрагу дзяржаў.

**ГЕНЕРАЛІТЭ́Т** (ням. Generalität, ад лац. generalis = агульны, галоўны) — вышэйшы камандны састаў арміі; генералы.

**ГЕНЕРА́Л-КВАТЭРМА́ЙСТАР** (ад *генерал* + *кватэрмайстар*) — штабная пасада ў некаторых арміях (Англіі, Германіі і інш.).

**ГЕНЕРА́Л-ЛЕЙТЭНА́НТ** (ад *генерал* + *лейтэнант*) — другое па старшынству генеральскае званне ў арміях некаторых дзяржаў, у т. л. і ў Рэспубліцы Беларусь.

**ГЕНЕРА́Л-МАЁР** (ад *генерал* + *маёр*) — першае па старшынству генеральскае званне ў арміях некаторых дзяржаў, у т. л. і ў Рэспубліцы Беларусь.

**ГЕНЕРА́Л-ПРАКУРО́Р** (ад *генерал* + *пракурор*) — вышэйшы ўрадавы чыноўнік царскай Расіі, які наглядаў за законнасцю дзейнасці дзяржаўнага апарату і ўзначальваў Сенат.

**ГЕНЕРА́Л-ФЕЛЬДМА́РШАЛ** (ад *генерал* + *фельдмаршал*) — вышэйшае воінскае званне ў арміі царскай Расіі і некаторых сучасных замежных арміях.

**ГЕНЕРА́ЛЬНЫ** (польск. generalny, ад лац. generalis = агульны, галоўны) — 1) галоўны, асноўны, вядучы (напр. г. план, г. сакратар); 2) усеагульны, грунтоўны (напр. г-ая ўборка); г-ая рэпетыцыя — апошняя рэпетыцыя перад спектаклем, канцэртам.

**ГЕНЕРА́ТАР** (лац. generator = вытворца) — апарат, машына для выпрацоўкі якога-н. энергетычнага прадукту (напр. гаручага газу з цвёрдага або вадкага паліва), атрымання пэўнага віду энергіі (напр. электрычнай з механічнай), стварэння электра-магнітных, светлавых, гукавых сігналаў і імпульсаў (напр. г. пераменнага току, г. сігналаў, аптычны г.).

**ГЕНЕРА́ТАРНЫ** (ад *генератар*) — які мае адносіны да генератара (напр. г-ая лямпа, г. газ).

**ГЕНЕРАТЫ́ЎНЫ** (лац. generativus, ад generare = нараджаць, ствараць) — які служыць для размнажэння; г-ыя клеткі — палавыя клеткі.

**ГЕНЕРА́ЦЫЯ** (лац. generatio = нараджэнне) —1) члены аднаго роду або аднаго віду жывёл, раслін, аднолькава аддаленых у родных адносінах ад агульных продкаў; пакаленне; 2) узнаўленне, вытворчасць (напр. г. электрычнай энергіі).

**ГЕНЕРЫ́РАВАЦЬ** (лац. generare = нараджаць, ствараць) — выклікаць з'яўленне, утварэнне чаго-н. (напр. г. электрычныя ваганні).

**ГЕНЕ́ТА** (н.-лац. genetta) — драпежная жывёла сям. віверавых з доўгім гібкім целам, пакрытым грубай поўсцю; пашырана ў саваннах і трапічных лясах Афрыкі, у Паўд.-Зах. Еўропе і ў заходняй частцы Аравійскага паўвострава.

**ГЕНЕ́ТЫК** (ад *генетыка*) — спецыяліст у галіне генетыкі.

**ГЕНЕ́ТЫКА** (гр. genetikos = звязаны з нараджэннем, паходжаннем) — навука аб законах спадчыннасці і зменлівасці арганізмаў і метадах кіравання імі.

**ГЕНЕТЫ́ЧНЫ** (гр. genetikos) — які ўказвае на паходжанне, развіццё; г. к о д — сістэма зашыфроўкі спадчыннай інфармацыі ў малекулах нуклеінавых кіслот; г. м е т а д — спосаб даследавання з'яў, які грунтуецца на аналізе іх *генезісу* і развіцця.

**ГЕ́НІЙ** (лац. genius) — 1) звышнатуральная істота ў рымскай міфалогіі, якая быццам ахоўвае чалавека на працягу ўсяго жыцця; пазней — наогул добры або злы дух; д о б р ы г. — той, хто аказвае на каго-н. дабратворны ўплыў; з л ы г. — той, хто прыносіць каму-н. зло; 2) чалавек, якому ўласціва найвышэйшая ступень творчай даравітасці, таленавітасці.

**ГЕНІТА́ЛІІ** (с.-лац. genitalia, ад лац. genitalis = дзетародны) — палавыя органы жывёл і чалавека.

**ГЕНІТА́ЛЬНЫ** (лац. genitalis) — палавы, дзетародны.

**ГЕНІТЫ́Ў** [лац. (casus) genitivus] — *лінгв.* родны склон.

**-ГЕНІЯ** (гр. genos = паходжанне) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццямі «паходжанне», «утварэнне».

**ГЕНІЯ́ЛЬНАСЦЬ** (ад *геніяльны*) — найвышэйшая ступень творчай адоранасці і развіцця здольнасцей чалавека.

**ГЕНІЯ́ЛЬНЫ** (лац. genialis = прыемны, мілы) — 1) выключна адораны, таленавіты (напр. г. кампазітар); 2) уласцівы *генію*, творча дасканалы (напр. г-ая думка, г. твор).

**-ГЕННЫ** (гр. genes = які нараджаецца, народжаны) — другая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «звязаны з паходжаннем».

**ГЕНО́М** (ням. Genom, ад гр. genos = род, паходжанне) — сукупнасць *генаў* у адзінарным *(гаплоідным)* наборы *храмасом* дадзенай жывёльнай або раслінай клеткі (параўн. *плазмон*).

**ГЕ́НРЫ** [ад англ. J.Henry = прозвішча амер. фізіка (1797—1878)] — адзінка індуктыўнасці ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ), роўная індуктыўнасці такога электрычнага контуру, у якім скорасць змены току ў 1 *ампер* за 1 с выклікае эрс самаіндукцыі ў 1 *вольт*.

**ГЕНТГЕЛЬВІ́Н** (ад бельг. Gent = назва горада ў Бельгіі + *гельвін*) — рэдкі мінерал групы гельвіну, бясколерны ці блекла-жоўты са шкляным бляскам.

**ГЕНТЫ́ЛЬНЫ** (лац. gentilis) — родавы.

**ГЕ́НТЭКС** (англ. Gentex, ад Generalized Teletype Exchange Service) — міжнародная тэлеграфная сетка агульнага карыстання, абсталяваная аўтаматычнымі тэлеграфнымі станцыямі прамых злучэнняў.

**ГЕНУІ́ННЫ** (лац. genuinus = прыроджаны, першасны) — які належыць да прыроджаных захворванняў і *анамалій* развіцця арганізма (напр. г-ая эпілепсія).

**ГЕНЦЫЯ́НА** (лац. gentiana) — травяністая расліна сям. гарычка-

вых з ярка-сінімі кветкамі, характэрная для альпійскіх і субальпійскіх лугоў; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная і лекавая.

**ГЕО́ГРАФ** (ад *геаграфія*) — спецыяліст у галіне геаграфіі.

**ГЕО́ІД** (ад *геа-* + *-оід*) — фігура, якую ўтварыла б паверхня Сусветнага акіяна, не парушаная прылівамі, цячэннямі, уяўна працягненая ўнутры мацерыкоў.

**ГЕО́ЛАГ** (ад *геа-* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *геалогіі*.

**ГЕО́МЕТР** (гр. geometres) — спецыяліст у галіне *геаметрыі*.

**ГЕО́РГІКІ** (гр. georgikos = сельскагаспадарчы) — эпічныя творы антычнай паэзіі, якія апявалі вясковае жыццё, побыт, прыроду, працу.

**ГЕПА́РД** (фр. guépard) — буйная драпежная жывёла сям. кашачых, якая водзіцца ў Азіі і Афрыцы.

**ГЕПАРЫ́Н** (ад гр. hepar = печань) — рэчыва, якое перашкаджае згусанню крыві (змяшчаецца ў печані лёгкіх, нырках, мышцах).

**ГЕПАТАГЕ́ННЫ** (ад гр. hepar, -atos = печань + *-генны*) — які адносіцца да печані.

**ГЕПАТАПТО́З** (ад гр. hepar, -atos = печань + *-птоз*) — апусканне печані (пры вертыкальным становішчы хворага).

**ГЕПАТАЦЫ́ТЫ** (ад гр. hepar, -atos = печань + *-цыты*) — жалезістыя клеткі печані, якія ўваходзяць у склад пячоначнай долькі.

**ГЕПАТЫ́Т** (ад гр. hepar, -atos = печань) — хвароба печані запаленчага або дыстрафічнага характару; хвароба Боткіна.

**ГЕПТА-** (гр. hepta = сем) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па значэнні слову «сем».

**ГЕПТАГО́Н** (ад *гепта-* + гр. gonia = вугал) — сямівугольнік.

**ГЕПТА́МЕТР** (гр. heptametros = сямістопны) — *літ.* сямістопны верш.

**ГЕПТА́Н** (ад гр. hepta = сем) — арганічнае злучэнне, насычаны вуглевадарод *аліфатычнага* рада, бясколерная рухомая вадкасць са слабым пахам; прымяняецца як *эталон* для вызначэння дэтанацыйнай стойкасці маторнага паліва.

**ГЕПТА́РХІЯ** (ад *гепта-* + гр. arche = улада, панаванне) — умоўны тэрмін, уведзены англійскімі гісторыкамі 16 ст. для абазначэння перыяду гісторыі Англіі з канца 6 да 9 ст., калі адсутнічала палітычнае адзінства краіны.

**ГЕПТАТО́НІКА** (ад *гепта-* + *тоніка*) — тое, што і *дыятоніка*.

**ГЕПТАХЛО́Р** (ад *гепта-* + *хлор*) — комплексны ядахімікат, які выкарыстоўваецца для перадпасяўной апрацоўкі насення сельскагаспадарчых культур.

**ГЕПТАХО́РД** (ад *гепта-* + *-хорд*) — 1) сяміступеньчаты музычны гукарад; 2) сяміструнная *ліра*.

**ГЕПТА́ЭДР** (ад *гепта-* + *-эдр*) — цела, абмежаванае сямю многавугольнікамі.

**ГЕПТО́Д** [ад *гепта-* + *(электр)-од*] — электронная лямпа з сямю электродамі (*анодам, катодам* і пяццю сеткамі).

# Г

**ГЕПТЫЛРЭЗАРЦЫ́Н** (ад *гепта-* + *рэзарцын*) — лекавы процігліставы сродак.

**ГЕРАГІГІЕ́НА** (ад гр. geron = стары чалавек + *гігіена*) — раздзел *геранталогіі*, які вывучае ўплыў фактараў асяроддзя (сацыяльных, бытавых, прыродных) і ладу жыцця на хуткасць і характар старэння чалавека.

**ГЕРАЗА́ЎРЫ** (н.-лац. gerrhosauridae) — сямейства яшчарак з пакрытым буйной рагавой лускай целам даўжынёй да 50 см; пашыраны ў пустынях і саваннах Афрыкі.

**ГЕРАІЗА́ЦЫЯ** (ад *герой*) — надзяленне каго-н. або чаго-н. гераічнымі рысамі (напр. г. працы ў мастацкай творчасці).

**ГЕРАІ́ЗМ** (фр. héroïsme, ад гр. heros = герой) — праяўленне мужнасці, стойкасці, самаадданасці ў імя высокай мэты.

**ГЕРАІ́Н** (фр. héroïne) — *наркотык* моцнага дзеяння, болесуцішальны; прыгнечвае цэнтральную нервовую сістэму.

**ГЕРАІ́ЧНЫ** (гр. heroikos) — 1) здольны на подзвіг (напр. г. народ); 2) звязаны з праяўленнем геройства (напр. г. учынак); 3) крайні, які патрабуе надзвычайнага напружання (напр. г-ыя намаганні); 4) які мае адносіны да герояў старажытнасці (напр. г. эпас).

**ГЕРА́ЛЬДЫКА** (фр. héraldique, ад с.-лац. heraldus = вяшчальнік) — дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая займаецца вывучэннем *гербаў*.

**ГЕРАНТАКРА́ТЫЯ** (ад гр. geron, -ntos = стары чалавек + *-кратыя*) — уяўная ранняя форма арганізацыі грамадства, пры якой улада нібыта належала старэйшым.

**ГЕРАНТАЛО́ГІЯ** (ад гр. geron, -ntos = стары + *-логія*) — раздзел біялогіі і медыцыны, які вывучае працэс старэння жывых арганізмаў, у т.л. чалавека; уключае *герыятрыю, герагігіену* і *герантапсіхалогію*.

**ГЕРАНТАМАРФО́З** (ад гр. geron, -ntos = стары + *-марфоз*) — *эвалюцыя* шляхам змен, якія вынікаюць на позніх стадыях развіцця арганізма; з'ява, блізкая да *анабаліі*.

**ГЕРАНТАПСІХАЛО́ГІЯ** (ад гр. geron, -ntos = стары + *псіхалогія*) — раздзел *геранталогіі*, які выкарыстоўвае агульнапсіхалагічныя сродкі і методыкі для вывучэння асаблівасцей псіхікі і паводзін асоб пажылога і старога ўзросту.

**ГЕРАНТАФІЛІ́Я** (ад гр. geron, -ntos = стары + *-філія*) — разнавіднасць палавой ненармальнасці, палавая цяга да асоб старэчага ўзросту.

**ГЕРАНТО́ЛАГ** (ад гр. geron, -ntos = стары + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *геранталогіі*.

**ГЕРА́НЬ** (н.-лац. geranium, ад гр. geranion = журавель) — травяністая расліна сям. гераніевых з пахучым лісцем і яркімі ліловымі або пурпуровымі кветкамі ў парасоніках, пашыраная пераважна ва ўмераных зонах; дэкаратыўная, лекавая і меданосная.

**ГЕРАТО́Н** (ад гр. geron = стары + tonos = напружанне) — лекавы вітамінны прэпарат, які змяшчае

10—12 вітамінаў і нармалізуе абменныя працэсы ў арганізме.

**ГЕРБ** (польск. herb, ад ням. Erbe = спадчына) — распазнавальны знак дзяржавы, горада, дваранскага роду, які змяшчаецца на флагах, манетах, пячатках, некаторых дакументах і г.д.

**ГЕРБА́РЫЙ** (лац. gerbarium = травяны) — калекцыя засушаных і размешчаных у пэўнай сістэме раслін.

**ГЕРБІЦЫ́ДЫ** (ад лац. herba = трава + *-цыды*) — хімічныя рэчывы для барацьбы з пустазеллем.

**ГЕРД** (ням. Herd = пліта) — прыстасаванне ў выглядзе нахіленай плоскасці для прамывання глеістых і зярністых руд.

**ГЕРКО́Н** [ад *гер(метычны) кан(такт)*] — пераключальнік са спружыннымі кантактамі з *ферамагнітнага* матэрыялу, змешчанымі ў герметызаваны шкляны балон, якія стыкаюцца пад уплывам магнітнага поля.

**ГЕРКУЛЕ́С** (лац. Hercules = лацінская назва старажытнагрэчаскага міфічнага героя-асілка Геракла) — 1) *перан.* асілак, атлет; 2) аўсяныя крупы спецыяльнага прыгатавання; 3) жук сям. пласцініставусых чорнага колеру, пашыраны ў Цэнтр. і Паўд. Амерыцы.

**ГЕРЛСКА́ЎТ** (ад англ. girl = дзяўчынка + scout = разведчык) — член скаўцкай арганізацыі дзяўчынак (гл. *скаўтызм*).

**ГЕ́РМА** (гр. hermes) — чатырохгранны слуп, які завяршаецца скульптурнай выявай галавы.

**ГЕРМАНАФІ́Л** (ад лац. Germanus = немец = *-філ*) — той, хто мае цягу, прыхільнасць да ўсяго нямецкага.

**ГЕРМАНАФО́Б** (ад лац. Germanus = немец + *-фоб*) — праціўнік, ненавіснік усяго нямецкага.

**ГЕРМАНІ́ЗМ** (ад лац. Germanus = немец) — слова або выраз, запазычаны з германскіх моў, пераважна з нямецкай.

**ГЕРМА́НІЙ** (н.-лац. germanium, ад лац. Germania = Германія) — хімічны элемент, цвёрдае рэчыва шэра-белага колеру з металічным бляскам; выкарыстоўваецца як паўправаднік у радыё- і электратэхніцы.

**ГЕРМАНІ́СТЫКА** (ад лац. Germanus = немец) — 1) комплекс навук, якія вывучаюць мову, літаратуру, гісторыю, матэрыяльную і духоўную культуру германамоўных народаў; 2) частка мовазнаўства, якая даследуе германскія мовы.

**ГЕРМАФРАДЫ́Т** (гр. Hermaphroditos = імя сына Гермеса і Афрадыты, зрошчанага па волі старажытнагрэчаскіх багоў з німфай Салмакідай) — арганізм, часцей жывёльны, які мае прыкметы абодвух полаў.

**ГЕРМАФРАДЫТЫ́ЗМ** (ад *гермафрадыт*) — наяўнасць прыкмет мужчынскага і жаночага полу ў адназе арганізма; двухполавасць.

**ГЕРМЕНЕ́ЎТЫКА** (гр. hermeneutikos = які датычыць тлумачэння) — тэорыя тлумачэння цяжкіх для разумення тэкстаў, перш за ўсё старажытных рукапісаў і старадрукаў (параўн. *экзегетыка* 1).

**ГЕРМЕТЫЗА́ЦЫЯ** (ад егіп. Hermes = імя легендарнага егіп.

мудраца, якому, між іншым, прыпісвалі ўменне закрываць пасуду) — забеспячэнне непранікальнасці вытворчых памяшканняў і абсталявання для вадкасцей і газаў.

**ГЕРМЕ́ТЫКІ** (ад *герметычны*) — вадкія, вязкацякучыя ці пастападобныя кампазіцыі на аснове палімераў ці алігамераў, здольныя забяспечваць непранікальнасць (герметычнасць) стыкаў, швоў, злучэнняў розных канструкцый за кошт высокай адгезіі да матэрыялаў.

**ГЕРМЕТЫ́ЧНЫ** (с.-лац. hermeticus, ад егіп. Hermes = імя легендарнага егіп. мудраца) — які шчыльна закрыты і не прапускае вадкасці і паветра (напр. г-ая пасуда, г-ая печ).

**ГЕРМІНАТЫ́ЎНЫ** (лац. germinativus, ад germen = зародак) — зародкавы.

**ГЕРО́ІКА** (гр. heroikos = гераічны) — гераічны змест, гераічны бок чаго-н.

**ГЕРОІКАМІ́ЧНЫ** [ад *гераі(чны)* + *камічны*] — *літ.* прадстаўлены ў форме гераічнай паэмы, хоць сам па сабе дробязны.

**ГЕРО́Й** (гр. heros) — 1) храбры чалавек, які здзейсніў подзвіг; 2) галоўная дзеючая асоба літаратурнага твора; 3) чалавек, які ўвасабляе тыповыя рысы свайго часу, эпохі, асяроддзя; 4) той, хто нечым вылучыўся, звярнуў на сябе ўвагу (г. дня).

**ГЕРО́ЛЬД** (ням. Herold) — вяшчальнік пры двары караля або феадальнага правіцеля, распарадчык на рыцарскіх турнірах у сярэдневяковай Зах. Еўропе.

**ГЕРОЛЬДМА́ЙСТАР** (ад *герольд* + *майстар*) — службовая асоба ў Расіі ў 1722—1917 гг., якая ўзначальвала герольдыю.

**ГЕРО́ЛЬДЫЯ** (ад *герольд*) — ведамства ў Расіі ў 1722—1917 гг. па справах аб тытулах і дваранскіх прывілеях.

**ГЕРО́НТ** (гр. geron, -ntos = стары чалавек) — член рады старэйшын *(герусіі)* у Стараж. Грэцыі.

**ГЕ́РПЕС** (гр. herpes = лішай) — група інфекцыйных вірусных захворванняў, якія характарызуюцца высыпкай дробных пухіркоў на скуры.

**ГЕРПЕСВІ́РУСЫ** (ад *герпес* + *вірусы*) — буйныя вірусы, якія змяшчаюць *дэзаксірыбануклеінавую* кіслату; размнажаюцца ў клетачных ядрах пазваночных, узбуджаюць інфекцыйныя захворванні жывёл і чалавека.

**ГЕРПЕТАЛО́ГІЯ** (ад гр. herpeton = паўзун + *-логія*) — раздзел *заалогіі*, які вывучае паўзуноў і земнаводных.

**ГЕРПЕТАФА́ЎНА** (ад гр. herpeton = паўзун + *фауна*) — сукупнасць відаў земнаводных і паўзуноў, якія насяляюць пэўную тэрыторыю або жылі ў пэўны гістарычны перыяд Зямлі.

**ГЕРУ́НДЫЙ** (лац. gerundium) — *лінгв.* трыванне аддзеяслоўнага назоўніка ў лацінскай і некаторых іншых мовах.

**ГЕРУНДЫ́Ў** (лац. gerundivum) — *лінгв.* дзеепрыметнік будучага часу залежнага стану ў лацінскай мове.

**ГЕРУ́СІЯ** (гр. gerusia, ад geron = стары чалавек) — рада старэйшын

у старажытнагрэчаскіх гарадах-дзяржавах.

**ГЕРЦ** [ням. H.Hertz = прозвішча ням. фізіка (1857—1894)] — адзінка вымярэння частаты ваганняў.

**ГЕ́РЦАГ** (ням. Herzog) — 1) выбарны правадыр племені ў старажытных германцаў; 2) буйнейшы тэрытарыяльны ўладальнік у сярэдневяковай Зах. Еўропе; 3) адзін з вышэйшых дваранскіх тытулаў у Зах. Еўропе.

**ГЕРЫ́ЛЬЯ** (ісп. guerilla, памянш. ад guerra = вайна) — назва партызанскай вайны ў Іспаніі і Лац. Амерыцы.

**ГЕРЫЛЬЯ́СЫ** (ісп. guerillas, мн. ад guerilla = партызанская вайна) — удзельнікі *герыльі*.

**ГЕРЫ́ЦЫЙ** (н.-лац. hericium) — базідыяльны грыб сям. яжовікавых, які расце на ламаччы і пнях лісцевых парод (асабліва бярозы).

**ГЕРЫЯТРЫ́Я** (ад гр. geron = стары чалавек + *-ятрыя*) — раздзел *геранталогіі*, які вывучае асаблівасці захворванняў людзей старэчага веку і распрацоўвае метады лячэння і папярэджання іх.

**ГЕРЭФО́РДЫ** (ад англ. Herefordshire = назва графства ў Англіі) — парода буйной рагатай жывёлы мяснога напрамку, якая выведзена ў Англіі ў 18 ст.

**ГЕСПЕРО́РНІС** (ад гр. hespera = вечар, захад + ornis = птушка) — вымерлая зубастая птушка, якая жыла ў *мезазоі*; вяла плаваючы спосаб жыцця, не лятала.

**ГЕСТА́ПА** (ням. Gestapo, ад Geheime Staats Polizei = тайная дзяржаўная паліцыя) — тайная паліцыя ў гітлераўскай Германіі, якая жорстка распраўлялася са сваімі ахвярамі.

**ГЕ́ТА** (іт. ghetto) — гарадскія кварталы ў сярэдневяковай Еўропе і ў некаторых сучасных краінах, адведзеныя для прымусовага пасялення людзей пэўнай расы, нацыі, рэлігіі.

**ГЕ́ТМАН** (польск. hetman < чэш. hejtman, ад с.-в.-ням. houbetman) — 1) камандуючы войскамі ў Вялікім княстве Літоўскім і Польшчы (16—18 ст.); 2) начальнік казацкага войска на Украіне (16—17 ст.).

**ГЕ́ТРЫ** (фр. guêtres) — цёплае адзенне для ног, якое надзяваецца паверх абутку і закрывае нагу да калена або да шчыкалаткі.

**ГЕ́ТЭР** (англ. getter) — рэчыва, якое ўводзяць у электронную лямпу, каб выдаліць рэшткі газу; паглынальнік газу.

**ГЕТЭ́РА** (гр. hetaira = *літар.* сяброўка, палюбоўніца) — 1) адукаваная незамужняя жанчына ў Стараж. Грэцыі, якая вяла свабодны, незалежны спосаб жыцця; 2) *кніжн.* жанчына лёгкіх паводзін.

**ГЕТЭРА-** (гр. heteros = іншы) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «іншы», «другі».

**ГЕТЭРААЛЕЛІ́ЗМ** (ад *гетэра-* + *алель*) — існаванне *гена* ў дзвюх і больш формах (параўн. *гомаалелізм*).

**ГЕТЭРАА́ТАМЫ** (ад *гетэра-* + *атамы*) — усе атамы (акрамя атамаў вугляроду), якія ўваходзяць у склад арганічных злучэнняў.

**ГЕТЭРААЎКСІ́Н** (ад *гетэра-* + *аўксіны*) — хімічнае рэчыва высо-

кай фізіялагічнай актыўнасці, якое ўтвараецца ў раслінах і ўплывае на іх рост.

**ГЕТЭРАБАЗІДЫЯМІЦЭ́ТЫ** (н.-лац. heterobasidiomycetidae) — падклас *базідыяміцэтаў*, для якога характэрны складаныя, шматклетачныя *базідыі*; пашыраны па ўсім зямным шары; пераважна *сапратрофы*, некаторыя — *паразіты* раслін.

**ГЕТЭРАБАТМІ́Я** (ад *гетэра-* + гр. bathmos = ступень) — неаднолькавы ўзровень спецыялізацыі розных органаў, набыты ў працэсе іх эвалюцыі.

**ГЕТЭРАГАЛІ́ННЫ** (ад *гетэра-* + гр. hals = соль); г-ы-я а р г а н і з м ы — водныя арганізмы, здольныя існаваць у асяроддзі рознай салёнасці (параўн. *гомагалінны*).

**ГЕТЭРАГАМЕ́ТНАСЦЬ** (ад *гетэра-* + *гаметы*) — генетычная нераўнацэннасць гамет аднаго з полаў, якая заключаецца ў тым, што яны змяшчаюць неаднолькавыя палавыя храмасомы (параўн. *гомагаметнасць*).

**ГЕТЭРАГАМЕ́ТЫ** (ад *гетэра-* + *гаметы*) — тое, што і *анізагаметы*.

**ГЕТЭРАГА́МІЯ** (ад *гетэра-* + *-гамія*) — 1) тып палавога працэсу, пры якім *гаметы*, што зліваюцца, адрозніваюцца знешнім выглядам (параўн. *аагамія*); 2) перадача нашчадкам па мужчынскай лініі іншых *генаў* ці іх камбінацый, чым па жаночай (параўн. *гамагамія*).

**ГЕТЭРАГЕНЕ́З** (ад *гетэра-* + *-генез*) — 1) змена спосабаў размнажэння ў арганізмаў на працягу двух або больш пакаленняў; 2) раптоўнае з'яўленне асобін, якія моцна адрозніваюцца шэрагам прымет ад бацькоўскіх форм.

**ГЕТЭРАГЕНІЗА́ЦЫЯ** (ад гр. heterogenes = разнародны) — стварэнне ў сплавах неаднароднай структуры з дзвюх або некалькіх фаз, што маюць розныя крышталічныя рашоткі (параўн. *гомагенізацыя*).

**ГЕТЭРАГЕ́ННЫ** (ад *гетэра-* + *-генны*) — які складаецца з неаднолькавых, разнародных частак, напр. г. слой вады (проціл. *гамагенны*).

**ГЕТЭРАГО́НІЯ** (ад *гетэра-* + *-гонія*) — адна з формаў чаргавання пакаленняў у беспазваночных жывёл, пры якой раздзельнаполыя пакаленні змяняюцца *гермафрадытамі* або на змену пакаленням з апладнёных яец прыходзяць пакаленні, што развіваюцца з неапладнёных яец.

**ГЕТЭРАДАНТЫ́ЗМ** (ад *гетэра-* + гр. odus, odontos = зуб) — дыферэнцыраванне формы зубоў ад канічных шыпоў рознай даўжыні, аднародных па форме, да зубоў рознага тыпу або класа.

**ГЕТЭРАДЗІ́Н** (ад *гетэра-* + гр. dynamis = сіла) — маламагутны высокачастотны *генератар* электрычных ваганняў; выкарыстоўваецца ў радыётэхніцы.

**ГЕТЭРАДО́НТНАСЦЬ** (ад *гетэра-* + гр. odus, odontos = зуб) — розназубасць (параўн. *гамадонтнасць*).

**ГЕТЭРАЗІГО́ТА** (ад *гетэра-* + *зігота*) — клетка або арганізм, якія маюць у спадчынным наборы розныя формы таго ці іншага *гена* (параўн. *гомазігота*).

**ГЕТЭРАЗІГО́ТНАСЦЬ** (ад *гетэразігота*) — уласцівы якому-н. арганізму стан, пры якім яго гамалагічныя *храмасомы* маюць розныя формы *(алелі)* таго ці іншага *гена* або адрозніваюцца ўзаемаразмяшчэннем генаў (параўн. *гомазіготнасць*).

**ГЕТЭРАКА́РПІЯ** (ад *гетэра-* + гр. karpos = плод) — утварэнне ў аднаго і таго ж віду кветкавых раслін пладоў, якія распаўсюджваюцца рознымі спосабамі (напр. у *календулы* — жывёламі і ветрам).

**ГЕТЭРАКАРЫЁН** (ад *гетэра-* + гр. karyon = арэх, ядро) — клетка, якая мае два або больш ядзер, што адрозніваюцца спадчыннымі (генетычнымі) уласцівасцямі (напр. у грыбоў).

**ГЕТЭРАКЛІ́ЗІЯ** (ад *гетэра-* + гр. klino = нахіляю, адмяняю) — *лінгв.* скланенне слова па змешанаму тыпу.

**ГЕТЭРАКО́КУС** (н.-лац. heterococcus) — ніткаватая жоўта-зялёная водарасць сям. гетэраклоніевых, якая трапляецца пераважна ў глебе.

**ГЕТЭРАМАРФІ́ЗМ** (ад *гетэра-* + *-марфізм*) — працэс утварэння з адной *магмы* пры неаднолькавых умовах горных парод з розным мінералагічным, але аднолькавым хімічным саставам.

**ГЕТЭРАМАРФІ́Т** (ад *гетэра-* + гр. morphe = форма) — мінерал класа *сульфідаў* чорнага колеру з металічным бляскам.

**ГЕТЭРАМАРФО́З** (ад *гетэра-* + *-марфоз*) — утварэнне пры *рэгенерацыі* ў жывёл замест страчанага органа зусім іншага органа (напр. у ракападобных замест вачэй вырастаюць ногі або вусікі).

**ГЕТЭРАНІ́МНЫ** (ад *гетэра-* + гр. onyma = імя) — рознаіменны.

**ГЕТЭРАНО́МІЯ** (ад *гетэра-* + *-номія*) — вызначальнасць якой-н. з'явы чужымі ёй знешнімі законамі (проціл. *аўтаномія* 2).

**ГЕТЭРАНТЭ́РА** (н.-лац. heteranthere) — расліна сям. пантадэрыевых з цёмна-зялёным лісцем і дробнымі жоўтымі кветкамі, пашыраная ў вадаёмах Амерыкі і Афрыкі; на Беларусі зрэдку культывуецца ў акварыумах.

**ГЕТЭРАПАЛЯ́РНЫ** (ад *гетэра-* + *палярны*) — які мае адносіны да хімічнай сувязі, што суправаджаецца перацягваннем электроннай пары адным з *атамаў* і наступным сцягваннем утвораных *іонаў*.

**ГЕТЭРАПЕ́ДЫЯ** (н.-лац. heteropedia) — ніткаватая жоўта-зялёная водарасць сям. гетэраклоніевых, якая трапляецца ў глебе, старыцах.

**ГЕТЭРАПЛАІДЫ́Я** (ад *гетэра-* + гр. ploos = кратны + eidos = выгляд) — тое, што і *анеўплаідыя*.

**ГЕТЭРАПЛА́СТЫКА** (ад *гетэра-* + *пластыка*) — перасадка тканак або органаў ад прадстаўнікоў іншых біялагічных відаў, у прыватнасці — ад жывёл чалавеку (параўн. *гамапластыка*).

**ГЕТЭРАРА́БДУС** (н.-лац. heterorhabdus) — рыба атрада карпападобных, якая водзіцца ў рэках Амазонка і Такантыне; на Беларусі гадуецца як акварыумная.

**ГЕТЭРАСЕКСУАЛІ́ЗМ** (ад *гетэра-* + *сексуалізм*) — 1) палавая цяга да асобы іншага полу (параўн. *гомасексуалізм*); 2) з'яўлен-

не прымет, уласцівых іншаму полу.

**ГЕТЭРАСПАРЫ́Я** (ад *гетэра-* + гр. spora = семя) — утварэнне *спораў* рознага памеру ў некаторых вышэйшых раслін; разнаспаравасць.

**ГЕТЭРАСТРУКТУ́РА** (ад *гетэра-* + *структура*) — камбінацыя некалькіх кантактаў, якая выкарыстоўваецца ў паўправадніковых лазерах, святлавыпрамяняльных дыёдах і інш.

**ГЕТЭРАСТЫЛІ́Я** (ад *гетэра-* + гр. stylos = слуп) — неаднолькавая даўжыня слупкоў і тычынкавых нітак у кветак аднаго віду раслін, напр. у грэчкі, незабудкі (параўн. *гомастылія*).

**ГЕТЭРАСФЕ́РА** (ад *гетэра-* + *сфера*) — атмасферныя слаі, размешчаныя вышэй за 100 км, дзе састаў паветра змяняецца з вышынёй у выніку *дысацыяцыі* малекул пад уздзеяннем ультрафіялетавых прамянёў (параўн. *гамасфера*).

**ГЕТЭРАТАЛІ́ЗМ** (ад *гетэра-* + гр. thallos = галінка, парастак) — раздзельнаполасць у ніжэйшых раслін, якая выяўляецца ў фізіялагічным і генетычным падзеле полаў без знешніх адрозненняў (параўн. *гаматалізм*).

**ГЕТЭРАТО́ПІЯ** (ад *гетэра-* + гр. topos = месца) — змена месца фарміравання органа ў жывёл у працэсе іх індывідуальнага развіцця (напр. зубоў на паднябенні).

**ГЕТЭРАТРАНСПЛАНТА́ЦЫЯ** (ад *гетэра-* + *трансплантацыя*) — перасадка тканак або органаў прадстаўніку іншага біялагічнага віду (параўн. *алатрансплантацыя, ксенатрансплантацыя*).

**ГЕТЭРАТРАФІ́Я** (ад *гетэра-* + *-трафія*) — жыўленне арганізмаў гатовымі арганічнымі рэчывамі.

**ГЕТЭРАТРО́ФНЫ** (ад *гетэра-* + *-трофны*) — які жывіцца гатовымі арганічнымі рэчывамі; г - ы я а р г а н і з м ы — тое, што і *гетэратрофы* (параўн. *аўтатрофны*).

**ГЕТЭРАТРО́ФЫ** (ад *гетэра-* + *-трофы*) — арганізмы, якія жывяцца гатовымі арганічнымі рэчывамі (параўн. *аўтатрофы*).

**ГЕТЭРАТЭ́РМНЫ** (ад *гетэра-* + *-тэрмны*); г - ы я ж ы в ё л ы — група жывёл, у якіх перыяды пастаяннай тэмпературы цела змяняюцца перыядамі значных яе ваганняў у залежнасці ад змен тэмпературы знешняга асяроддзя (напр. вожык, барсук, хамяк).

**ГЕТЭРАФА́ЗІЯ** (ад *гетэра-* + гр. phasis = маўленне) — разлад мовы, пры якім адны словы або гукі ўжываюцца замест іншых.

**ГЕТЭРАФІЛІ́Я** (ад *гетэра-* + гр. phyllon = ліст) — наяўнасць у лістоў рознай формы на адной расліне.

**ГЕТЭРАФО́НІЯ** (ад *гетэра-* + *-фонія*) — від многагалосся, калі пры выкананні мелодыі адзін або некалькі галасоў адыходзяць ад асноўнага напеву (параўн. *гамафонія, поліфанія*).

**ГЕТЭРАФРА́ЗІЯ** (ад *гетэра-* + гр. phrasis = выраз) — тое, што і *гетэрафазія*.

**ГЕТЭРАХРАМАСО́МА** (ад *гетэра-* + *храмасома*) — храмасома, якая марфалагічна адрозніваецца ад свайго гамолага (гл. *гамалогія*), напр. палавая храмасома.

**ГЕТЭРАХРАМАЦІ́Н** (ад *гетэра-* + *храмацін*) — рэчыва *храмасом*, якое захоўвае кампактную структуру ў ядры, што знаходзіцца ў спакоі, і ў працэсе клетачнага дзялення.

**ГЕТЭРАХРАНІ́Я** (ад *гетэра-* + гр. chronos = час) — несвоечасовасць, адхіленне ў часе.

**ГЕТЭРАЦЫКЛІ́ЧНЫ** (ад *гетэра-* + *цыклічны*); г - ы я з л у ч э н н і — арганічныя злучэнні з цыклічнай (кальцавой) будовай, у склад цыкла якіх уваходзяць, акрамя атамаў вугляроду, атамы іншых элементаў (азоту, кіслароду, серы і інш.).

**ГЕТЭРАЦЫ́СТЫ** (ад *гетэра-* + гр. kystis = пузыр) — буйныя жоўтыя клеткі ў водарасцей, пазбаўленыя жывога змесціва.

**ГЕТЭРО́ЗІС** (гр. heterosis = пераўтварэнне) — павышаная жыццяздольнасць і прадукцыйнасць першага пакалення *гібрыдаў* у параўнанні з бацькоўскімі формамі раслін або жывёл.

**ГЕТЭРО́ТРЫКС** (н.-лац. heterothrix) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. гетэротрыксавых, якая трапляецца пераважна ў глебах, зрэдку ў азёрах.

**ГЕТЭ́РЫІ** (гр. hetaireia) — 1) палітычныя групы грамадзян у Стараж. Грэцыі; 2) тайныя таварыствы ў Грэцыі 18 — пач. 19 ст., мэтай якіх было вызваленне краіны ад турэцкага панавання.

**ГЕШТАЛЬТПСІХАЛО́ГІЯ** (ад ням. Gestalt = цэласная форма, вобраз, структура + *псіхалогія*) — кірунак у замежнай псіхалогіі, які лічыць першаснымі і вызначальнымі элементамі *псіхікі* суб'ектыўныя псіхічныя структуры *(гештальты)*.

**ГЕШЭ́ФТ** (ням. Geschäft) — спекуляцыйная, выгадная здзелка.

**ГЕЯКА́ЛІКС** (н.-лац. geocalix) — пячоначны мох сям. гарпантавых, які трапляецца ў цяністых месцах па берагах рэк і ручаёў, на гнілой драўніне.

**ГЕЯПІ́КСІС** (н.-лац. geopyxis) — сумчаты грыб сям. пецыцавых, які развіваецца на рэштках драўніны ў глебе.

**ГЁЗЫ** (гал. geuzen, ад фр. gueux = жабракі) — члены Саюза дваран, якія ў гады Нідэрландскай рэвалюцыі 16 ст. змагаліся супраць іспанскай тыраніі, пазней народныя паўстанцы, якія выступалі супраць іспанскіх каланізатараў.

**ГЁРЛС** (англ. girls = дзяўчаты) — група дзяўчат, якая выступае з танцавальнымі нумарамі на эстрадзе, галоўным чынам у *мюзік-холе*, *кабарэ*.

**ГЁТЫТ** [ням. Goethit, ад J.Goethe = прозвішча ням. паэта і даследчыка прыроды (1749—1832)] — мінерал класа вокіслаў і гідравокіслаў чорна-бурага, чырвона-бурага, жоўтага колеру; жалезная руда.

**ГЗЫМС** (польск. gzyms, ад ням. Gesims) — тое, што і *карніз* 2.

**ГІБЕЛІ́НЫ** (іт. ghibellini) — палітычная групоўка ў Італіі ў 12—15 ст., якая падтрымлівала прэтэнзіі германскіх імператараў на ўладу на Апенінскім паўвостраве; змагалася з папствам і *гвельфамі*, выражала інтарэсы *нобіляў* 2.

# Г

**ГІБЕ́РА** (н.-лац. gibbera) — сумчаты грыб сям. вентурыевых, які развіваецца на галінках брусніц.

**ГІБЕ́РНА** (ст.-польск. hiberna, ад лац. hiberna = зімовыя кватэры) — 1) зімовыя кватэры войска ў Стараж. Рыме; 2) павіннасць зімовага ўтрымання войска і забеспячэння яго харчам, якую неслі жыхары дзяржаўных і царкоўных уладанняў у Рэчы Паспалітай.

**ГІБЕРНА́ЦЫЯ** (лац. hibernatio = зімовая спячка) — замаруджанне жыццядзейнасці, напр. зімовая спячка жывёл.

**ГІБЕРЭЛІ́НЫ** (ад лац. gibberella = назва грыба, які паразітуе на рысе) — гармоны з групы дытэрпеноідных кіслот, якія стымулююць рост і паскараюць квітненне раслін.

**ГІБІ́СК** (н.-лац. hibiscus) —дрэвавая, кустовая або травяністая расліна сям. мальвавых з пальчаталопасцевым лісцем і буйнымі жоўтымі кветкамі, пашыраная ў тропіках і субтропіках; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ГІБО́Н** (англ. gibbon) — самая малая чалавекападобная *малпа* з вельмі доўгімі пярэднімі канечнасцямі; жыве ў Пауд.-Усх. Азіі і на Малайскіх астравах.

**ГІБРЫ́Д** (лац. hibrida, ад гр. hybris, -idos = кровазмяшэнне) — жывёліна або расліна, выведзеная шляхам *гібрыдызацыі* (напр. г. вішні і чарэшні).

**ГІБРЫДО́МА** (ад *гібрыд* + *-ома*) — клетачны гібрыд, які атрымліваецца зліццём нармальнай антыцелаўтваральнай клеткі (*лімфацыта)* і пухліннай клеткі.

**ГІБРЫДЫЗА́ЦЫЯ** (ад *гібрыд*) — скрыжаванне розных відаў раслін або жывёл, каб атрымаць лепшыя па якасці сарты, віды, пароды (напр. вегетатыўная г.); часта суправаджаецца *гетэрозісам.*

**ГІБСІ́Т** [ад англ. G.Gibbs = прозвішча амер. мінеролага (1776—1833)] — мінерал класа гідравокіслаў белага колеру з рознымі адценнямі са шкляным бляскам; выкарыстоўваецца для атрымання алюмінію.

**ГІГ** (англ. gig) — шасці- або васьмівёславая карабельная шлюпка з нізкімі бартамі.

**ГІГА́НТ** (гр. gigas, -antos) — 1) чалавек, жывёліна або расліна незвычайна вялікага росту; волат, велікан (напр. слон-г., дуб-г.); 2) вялікае і важнае па значэнні прадпрыемства (завод-г.); 3) *перан.* чалавек, які вызначаецца значнымі дасягненнямі ў якой-н. галіне дзейнасці (г. думкі).

**ГІГАНТАГРА́ФІЯ** (ад *гігант* + *-графія*) — спосаб прыгатавання рэпрадукцый з павялічанымі растравымі пунктамі; выкарыстоўваецца пры друкаванні плакатаў.

**ГІГАНТАЗА́ЎР** (ад *гігант* + *-заўр*) — велічэзны выкапнёвы паўзун з групы *дыназаўраў.*

**ГІГАНТАМА́НІЯ** (ад *гігант* + *манія*) — неапраўданае імкненне да грандыёзнага, вялізнага (напр. г. у архітэктуры).

**ГІГАНТАПІТЭ́К** (ад *гігант* + *-пітэк*) — вымерлая буйная чалавекападобная *малпа*, якая жыла ў сярэдзіне *антрапагену.*

**ГІГАНТАСТРА́КІ** (ад *гігант* + гр. ostrakon = шкарлупіна) — тое, што і *эўрыптэрыды*.

**ГІГАНТЫ́ЗМ** (ад *гігант*) — празмерны рост чалавека, жывёліны або асобных частак іх цела ў выніку парушэння дзейнасці залоз унутранай *сакрэцыі*.

**ГІГІЕ́НА** (гр. hygieinos = здаровы; лекавы) — 1) раздзел *медыцыны*, які вывучае ўплыў умоў жыцця і працы на здароўе чалавека і распрацоўвае меры прафілактыкі захворванняў; 2) практычныя мерапрыемствы, якія садзейнічаюць захаванню здароўя (г. працы, г. жылля).

**ГІГРА-** (гр. hygros = вільготны) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «вільгаць», «вільготны».

**ГІГРААМБЛІСТЭ́ГІУМ** (н.-лац. hygroamblystegium) —лістасцябловы мох сям. амблістэгіевых, які трапляецца ў вадзе і каля вады на камянях, каранях дрэў і драўніне.

**ГІГРАБІЁНТЫ** (ад *гігра-* + *біёнты*) — арганізмы (пераважна вельмі дробныя), жыццё якіх звязана з капілярнай глебавай вадой.

**ГІГРАГІ́ПНУМ** (н.-лац. hygrohypnum) — лістасцябловы мох сям. амблістэгіевых, які трапляецца на камянях у вадзе.

**ГІГРАМАРФІ́ЗМ** (ад *гігра-* + *-марфізм*) — прыстасаванасць групы раслін дзякуючы своеасаблівай будове расці ва ўмовах павышанай вільготнасці.

**ГІГРАМЕ́ТРЫЯ** (ад *гігра-* + *-метрыя*) — сукупнасць метадаў вымярэння вільготнасці паветра.

**ГІГРАСКАПІ́ЧНЫ** (ад *гігра-* + гр. skopeo = гляджу) — здольны лёгка паглынаць вільгаць (напр. г-ая вата).

**ГІГРАСКО́П** (ад *гігра-* + *-скоп*) — прыбор, які прыблізна паказвае змену вільготнасці паветра.

**ГІГРАСТА́Т** (ад *гігра-* + *-стат*) — прыбор, у якім падтрымліваецца нязменная вільготнасць.

**ГІГРАТО́ПЫ** (ад *гігра-* + гр. topos = месца) — месцы росту *(экатопы)*, якія адрозніваюцца ўмовамі ўвільгатнення субстрату.

**ГІГРАТЭРМО́ГРАФ** (ад *гігра-* + *тэрмограф*) — самапісны метэаралагічны прыбор, у якім спалучаюцца *гідрограф* і тэрмограф.

**ГІГРАФАРО́ПС** (н.-лац. hygrophoropsis) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. свінухавых, які расце ў лясах на гнілой драўніне і каля пнёў; лісічка несапраўдная.

**ГІГРАФІ́ЛЫ** (ад *гігра-* + *-філ*) — жывёлы, прыстасаваныя да жыцця ва ўмовах павышанай вільготнасці (дажджавыя чэрві, макрыцы і інш.).

**ГІГРАФІ́ТЫ** (ад *гігра-* + *-фіты*) — расліны, якія растуць у месцах павышанай вільготнасці, напр. *гелафіты* (параўн. *ксерафіты, мезафіты*).

**ГІГРАФО́БЫ** (ад *гігра-* + *-фоб*) — наземныя арганізмы, не прыстасаваныя да існавання ва ўмовах павышанай вільготнасці асяроддзя.

**ГІГРАФО́Р** (н.-лац. hygrophorus) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. гіграфоравых, які расце на ґлебе ў лісцевых і хвойных лясах; ядомы.

# Г

**ГІГРО́ГРАФ** (ад *гігра-* + *-граф*) — самапісны прыбор для бесперапыннай рэгістрацыі ваганняў адноснай вільготнасці паветра.

**ГІГРО́МЕТР** (ад *гігра-* + *-метр*) — прыбор для вымярэння вільготнасці паветра.

**ГІГРО́ФІЛА** (н.-лац. hygrophila) — водная травяністая або кустовая расліна сям. акантавых з тоўстым сцяблом і доўгім вузкім лісцем, пашыраная ў тропіках; на Беларусі вядома як акварыумная.

**ГІГРО́ЦЫБЕ** (н.-лац. hygrocybe) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. гіграфоравых, які расце на глебе сярод травы па берагах рэк, на ўзлесках, лугах, выганах; ёсць ядомыя і ядавітыя віды.

**ГІД** (фр. guide) — 1) экскурсавод-праваднік пры групе турыстаў, які знаёміць іх з выдатнымі мясцінамі горада, краю; 2) даведнік для падарожнікаў і турыстаў з указаннем славутых мясцін; 3) дапаможная візуальная аптычная труба на *тэлескопе*.

**ГІДА́ЛЬГА** гл. *ідальга*.

**ГІДАТАФІ́ТЫ** (ад гр. hydor, -datos = вада + *-фіты*) — водныя расліны, якія поўнасцю або большай сваёй часткай растуць у вадзе (напр. раска, *элодэя* і інш.); параўн. *гідрафіты*.

**ГІДАТО́ДЫ** (ад гр. hydor, -datos = вада + hodos = шлях, дарога) — залозы ў *эпідэрмісе* раслін, якія выдзяляюць вільгаць з унутранай часткі ліста на паверхню, г. зн. ажыццяўляюць *гутацыю*.

**ГІ́ДЖРА, ХІ́ДЖРА** (ар. hidžra) — мусульманскае летазлічэнне, якое бярэ пачатак з 622 г.

**ГІДНЕ́ЛУМ** (н.-лац. hydnellum) — *базідыяльны* грыб сям. яжоўнікавых, які расце на глебе ў хваёвых, лісцевых і мяшаных лясах; яжоўнік.

**ГІДНО́ТРЫЯ** (н.-лац. hydnotria) — сумчаты грыб сям. псеўдатруфелевых, які расце на глебе ў хвойных і лісцевых лясах.

**ГІ́ДНУМ** (н.-лац. hydnum) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. яжоўнікавых, які расце на глебе ў хваёвых і мяшаных лясах; ядомы ў маладым узросце; пеўнік.

**ГІ́ДРА** (гр. hydra = вадзяная змяя) — 1) дзевяцігаловая змяя ў старажытнагрэчаскай *міфалогіі*, у яе на месцы адсечаных галоў вырасталі новыя; 2) дробная кішачнаполасцевая жывёліна падкласа гідроідных са шчупальцамі вакол рота, пашыраная ў прэсных вадаёмах.

**ГІДРА-** (ад гр. hydor = вада) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «вада», «водны», «вадзяны».

**ГІДРААВІЯ́ЦЫЯ** (ад *гідра-* + *авіяцыя*) — авіяцыя, аснашчаная гідрасамалётамі.

**ГІДРААГРЭГА́Т** (ад *гідра-* + *агрэгат*) — агрэгат, які складаецца з *гідратурбіны* і *гідрагенератара*.

**ГІДРААКУМУЛЯ́ЦЫЯ** (ад *гідра-* + *акумуляцыя*) — назапашванне *гідраэнергіі* шляхам стварэння запасаў вады ў вадасховішчах верхняга *б'ефа*.

**ГІДРААКУ́СТЫКА** (ад *гідра-* + *акустыка*) — раздзел акустыкі, які вывучае распаўсюджанне гуку ў

вадзе; мае важнае значэнне для *гідралакацыі*.

**ГІДРААЎТАМА́Т** (ад *гідра-* + *аўтамат*) — аўтаматычная прылада, у якой вадзяны напор выкарыстоўваецца для сціскання або разрэджвання паветра, а таксама паветра — для паднімання вады.

**ГІДРААЎТАМА́ТЫКА** (ад *гідрааўтамат*) — комплекс тэхнічных сродкаў для стварэння сістэм аўтаматычнага кіравання аб'ектамі і тэхналагічнымі працэсамі з дапамогай рабочай вадкасці пад ціскам.

**ГІДРААЭРАДРО́М** (ад *гідра-* + *аэрадром*) — аэрадром для гідрасамалётаў на ўчастку воднай паверхні з прылеглай да яго берагавой паласой.

**ГІДРААЭРАМЕХА́НІКА** (ад *гідра-* + *аэрамеханіка*) — раздзел *механікі*, які вывучае раўнавагу і рух вадкіх і газападобных асяроддзяў, а таксама іх узаемадзеянне паміж сабою і з цвёрдымі целамі.

**ГІДРАБАРАЦЫ́Т** (ад *гідра-* + *бsuccessfulрацыт*) — мінерал, водны барат кальцыю і магнію, бясколерны або белы са шкляным бляскам.

**ГІДРАБІЁЛАГ** (ад *гідра-* + *біёлаг*) — спецыяліст у галіне *гідрабіялогіі*.

**ГІДРАБІЁНІКА** (ад *гідра-* + *біёніка*) — раздзел біёнікі, які вывучае асаблівасці жывёл, што жывуць у вадзе, каб ствараць тэхнічныя прыстасаванні для работы ў водным асяроддзі.

**ГІДРАБІЁНТЫ** (ад *гідра-* + *біёнты*) — арганізмы, якія жывуць у вадзе (параўн. *аэрабіёнты*).

**ГІДРАБІЯЛО́ГІЯ** (ад *гідра-* + *біялогія*) — навука, якая вывучае жыццё водных арганізмаў у іх узаемадзеянні паміж сабой і навакольным асяроддзем.

**ГІДРАБІ́ЯС** (ад *гідра-* + гр. bios = жыццё) — сукупнасць арганізмаў, якія насяляюць вадаёмы (параўн. *аэрабіяс*).

**ГІДРАБІЯСФЕ́РА** (ад *гідра-* + *біясфера*) — частка біясферы ў межах *гідрасферы*, якую насяляюць водныя арганізмы.

**ГІДРАБЛО́К** (ад *гідра-* + *блок*) — *гідраагрэгат* з прыстасаваннямі для падводу і адводу вады.

**ГІДРАБУ́Р** (ад *гідра-* + *бур*) — прыстасаванне для ўтварэння струменем вады, што падаецца пад высокім ціскам, ямак пад пасадку саджанцаў вінаграду.

**ГІДРАБУ́ФЕР** (ад *гідра-* + *буфер*) — гідраўлічнае прыстасаванне, якое прымае падпоры і іншыя канструкцыі, што адкідваюцца ад стартуючай ракеты-носьбіта.

**ГІДРАГЕАЛО́ГІЯ** (ад *гідра-* + *геалогія*) — навука аб падземных водах, іх паходжанні, руху, фізічных уласцівасцях, хімічным саставе, заканамернасцях распаўсюджання.

**ГІДРАГЕАХІ́МІЯ** (ад *гідра-* + *геахімія*) — раздзел *гідрагеалогіі*, які вывучае хімічны састаў *гідрасферы* і геахімічныя працэсы, што працякаюць у ёй.

**ГІДРАГЕ́Н** (н.-лац. hydrogenium, ад гр. hydor = вада + genos = паходжанне) — лацінская назва вадароду, калі ён удзельнічае ў хімічных працэсах.

**ГІДРАГЕНЕ́З** (ад *гідра-* + *-генез*) — сукупнасць геахімічных і

мінералагічных пераўтварэнняў, выкліканых прасочваннем вады па трэшчынах з паверхні ў зямную кару.

**ГІДРАГЕНЕРА́ТАР** (ад *гідра-* + *генератар*) — генератар, які пераўтварае атрыманую ад *гідратурбіны* энергію руху вады ў электрычную энергію.

**ГІДРАГЕНІЗА́ЦЫЯ** (ад *гідраген*) — далучэнне вадароду да хімічных элементаў або злучэнняў; гідрыраванне (напр. г. вугалю, г. алею); проціл. *дэгідрагенізацыя*.

**ГІДРАГЕНСУЛЬФА́ТЫ** (ад *гідраген* + *сульфаты*) — тое, што і *гідрасульфаты*.

**ГІДРАГЕНСУЛЬФІ́ТЫ** (ад *гідраген* + *сульфіты*) — тое, што і *гідрасульфіты*.

**ГІДРАГЕО́ЛАГ** (ад *гідра-* + *геолаг*) — спецыяліст у галіне *гідрагеалогіі*.

**ГІДРАГРА́ФІЯ** (ад *гідра-* + *-графія*) — раздзел *гідралогіі*, які займаецца вывучэннем, апісаннем і нанясеннем на карту водных аб'ектаў зямной паверхні (рэк, азёр, мораў, балот і інш.).

**ГІДРАДАМКРА́Т** (ад *гідра-* + *дамкрат*) — гідраўлічны механізм для паднімання цяжкіх прадметаў, напр. *вертыкалізацыі* ракетносьбітаў.

**ГІДРАДЫКЦЫЁН** (н.-лац. hydrodiction) — каланіяльная зялёная водарасць сям. гідрадыкцыевых, якая трапляецца ў стаячых і павольна цякучых водах, багатых азоцістымі злучэннямі.

**ГІДРАДЫНА́МІКА** (ад *гідра-* + *дынаміка*) — раздзел *гідрамеханікі*, які вывучае рух несціскальнай вадкасці і яе ўзаемадзеянне з цвёрдымі целамі.

**ГІДРАДЭНІ́Т** (ад гр. hidros = пот + *адэніт*) — гнойнае запаленне потавых залоз, часцей падпахавых, якое выклікаецца *стафілакокам*.

**ГІДРАЗІ́Н** [ад *гідр(аген)* + *аз(от)*] — хімічнае злучэнне вадароду з азотам, бясколерная вадкасць, якая дыміцца на паветры; выкарыстоўваецца для вырабу пластмас, як элемент рэактыўнага паліва і інш.

**ГІДРАЗО́І** (н.-лац. hydrozoa) — клас водных кішачнаполасцевых жывёл тыпу *кнідарый*, асобіны якога маюць форму *паліпа* або *медузы*; уключае падкласы *гідроідных* і *сіфанафораў*.

**ГІДРАЗО́ЛІ** (ад *гідра-* + *золі*) — золі, у якіх часцінкі рэчыва размеркаваны ў вадзе (параўн. *арганазолі, аэразолі*).

**ГІДРАІЗАБА́ТЫ** (ад *гідра-* + *ізабаты*) — *ізалініі* глыбінь люстэрка падземных водаў ад зямной паверхні.

**ГІДРАІЗАГІ́ПСЫ** (ад *гідра-* + *ізагіпсы*) — *ізалініі* адзнак люстэрка падземных водаў адносна ўмоўнай нулявой паверхні.

**ГІДРАІЗАЛЯ́ЦЫЯ** (ад *гідра-* + *ізаляцыя*) — забеспячэнне будаўнічых канструкцый ад пранікнення вады, а будаўнічых матэрыялаў ад уздзеяння хімічна агрэсіўных вадкасцей, сцёкавых водаў і інш.

**ГІДРАІЗАП'Е́ЗЫ** (ад *гідра-* + *іза-* + гр. piezo = націскаю) — *ізалініі* напору артэзіянскіх водаў.

**ГІДРАІЗАТЭ́РМЫ** (ад *гідра-* + *ізатэрмы*) — *ізалініі* тэмпературы вады ў тоўшчы горных парод.

**ГІДРАІНТЭГРА́ТАР** (ад *гідра-* + *інтэгратар*) — вылічальная машына, дзеянне якой заснавана на матэматычнай аналогіі даследуемых працэсаў і гідраўлічных з'яў.

**ГІДРАКАДО́Н** (ад *гідра-* + гр. kodia = макаўка) — лекавы *прэпарат*, які выкарыстоўваецца як сродак супраць кашлю пры захворваннях лёгкіх і верхніх дыхальных шляхоў.

**ГІДРАКАМБІНЕЗО́Н** (ад *гідра-* + *камбінезон*) — касцюм вадалаза, які засцерагае ад пераахаладжэння і траўмаў.

**ГІДРАКАМПРЭ́САР** (ад *гідра-* + *кампрэсар*) — гідраўлічны кампрэсар, які сціскае газы пры дапамозе вадкасці.

**ГІДРАКАНА́Л** (ад *гідра-* + *канал*) — канал, дзе выпрабоўваюцца мадэлі караблёў, лодак, гідрасамалётаў і інш.

**ГІДРАКАРА́ЛЫ** (н.-лац. hydrocorallia) — атрад марскіх кішачнапаласцевых жывёл падкласа *гідроідных*; утвараюць вапняковыя *калоніі* жоўтага, ружовага, чырвонага або фіялетавага колеру, якія трывала прырастаюць да скал або камянёў.

**ГІДРАКАРБАНА́ТЫ** [ад *гідра(ген)* + *карбанаты*] — кіслыя солі вугальнай кіслаты; выкарыстоўваюцца ў медыцыне і хлебапячэнні.

**ГІДРАКАРТЫЗО́Н** (ад *гідра-* + *картызон*) — адзін з *гармонаў* кары наднырачных залоз, які ўдзельнічае ў рэгуляцыі вугляводнага абмену ў арганізме, праяўляе супрацьзапаленчае і супрацьалергічнае (гл. *алергія*) дзеянне.

**ГІДРАКАРЫ́НЕ** (н.-лац. hydrocoryne) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. гідракарынавых, якая трапляецца ў стаячых водах на водных раслінах.

**ГІДРАКАСЦЮ́М** (ад *гідра-* + *касцюм*) — тое, што і *гідракамбінезон*.

**ГІДРАКІНЕ́ТЫКА** (ад *гідра-* + *кінетыка*) — раздзел *гідрадынамікі*, які вывучае рух вадкасці з улікам сіл, якія на яе ўздзейнічаюць.

**ГІДРАКО́ЛЕУС** (н.-лац. hydrocoleus) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. шызотрыксавых, якая трапляецца пераважна ў морах, радзей у прэсных водах.

**ГІДРАКРАТЫ́ЧНЫ** (ад *гідра-* + гр. kratos = сіла) — які садзейнічае значнаму расшырэнню плошчы мора, напр. г-ыя рухі зямной кары.

**ГІДРАКРЭ́КІНГ** (ад *гідра-* + *крэкінг*) — каталітычная перапрацоўка высокакіпячых нафтавых фракцый, мазуту ці гудрону для атрымання бензіну, дызельнага і ракетнага паліва, змазачных масел і інш.

**ГІДРАКСІ́ДЫ** (ад *гідра-* + *аксіды*) — неарганічныя злучэнні металаў з вадой, якія сустракаюцца ў прыродзе ў выглядзе мінералаў (напр. гідраліт, брусіт); гідравокіслы.

**ГІДРАКСІ́Л** [ад *гідра(ген)* + *аксі(ген)*] — аднавалентная група OH, якая ўваходзіць у склад многіх хімічных злучэнняў, напр. вады, спіртоў; гідраксільная група.

Г

**ГІДРАКСІЛА́ЗЫ** (ад *гідраксіл*) — ферменты класа аксідарэдуктазаў, якія ўдзельнічаюць у акісленні прамежкавых прадуктаў абмену стэроідных гармонаў.

**ГІДРАКСІЛАМІ́Н** (ад *гідраксіл* + *амін*) — бясколернае крышталічнае рэчыва, гідраксільнае вытворнае *аманіяку*, якое выкарыстоўваецца пры арганічных сінтэзах.

**ГІДРАЛА́ЗЫ** (ад гр. hydor = вада) — клас *ферментаў*, якія запавольваюць або паскараюць працэсы гідралітычнага (гл. *гідроліз*) расшчаплення складаных арганічных рэчываў у арганізмах.

**ГІДРАЛАКАЛІ́Т** (ад *гідра-* + *лакаліт*) — мярзлотная форма рэльефу ў выглядзе купалападобнага ўзвышэння з ледзяным ядром.

**ГІДРАЛАКА́ТАР** (ад *гідра-* + *лакатар*) — гідраакустычны прыбор для вызначэння месцазнаходжання падводных аб'ектаў пры дапамозе гукавых сігналаў.

**ГІДРАЛАКА́ЦЫЯ** (ад *гідра-* + *лакацыя*) — вызначэнне месцазнаходжання падводных аб'ектаў пры дапамозе *гідралакатара*.

**ГІДРАЛІ́МФА** (ад *гідра-* + *лімфа*) — вадкасць, якая цыркулюе ў каналах кішачна-сасудзістай сістэмы некаторых кішачнаполасцевых жывёл, забяспечваючы клеткі пажыўнымі рэчывамі і выводзячы прадукты абмену.

**ГІДРАЛО́ГІЯ** (ад *гідра-* + *-логія*) — навука, якая вывучае *гідрасферу* Зямлі, а таксама працэсы, што адбываюцца ў ёй.

**ГІДРАМАНІТО́Р** (ад *гідра-* + *манітор*) — *апарат*, які прымяняецца для размывання горных парод і грунту магутным струменем вады; асноўны сродак *гідрамеханізацыі*.

**ГІДРАМАСА́Ж** (ад *гідра-* + *масаж*) — масаж пад вадой з лячэбнай або прафілактычнай мэтай.

**ГІДРАМЕДУ́ЗА** (ад *гідра-* + *медуза*) — 1) медузоідная асобіна некаторых кішачнаполасцевых жывёл падкласа *гідроідных*; 2) паўзун сям. змеяшыйных чарапах, пашыраны ў прэсных вадаёмах Паўд. Амерыкі.

**ГІДРАМЕЛІЯРА́ЦЫЯ** (ад *гідра-* + *меліярацыя*) — паляпшэнне воднага балансу зямель шляхам іх асушэння або абваднення.

**ГІДРАМЕТАЛУРГІ́Я** (ад *гідра-* + *металургія*) — здабыванне металаў з руд і прамысловых адходаў пры дапамозе водных раствораў пэўных рэчываў.

**ГІДРАМЕ́ТРЫЯ** (ад *гідра-* + *-метрыя*) — раздзел *гідралогіі*, які вывучае ўласцівасці цякучых вод (хуткасць, глыбіню і інш.) і спосабы вымярэння гэтых уласцівасцей.

**ГІДРАМЕТЭАРАЛО́ГІЯ** (ад *гідра-* + *метэаралогія*) — навука, якая вывучае кругаабарот вады ў *атмасферы*.

**ГІДРАМЕТЭАСТА́НЦЫЯ** (ад *гідра-* + *метэастанцыя*) — метэастанцыя, прызначаная для абслугоўвання суднаходства шляхам складання карт надвор'я і прагнозаў надвор'я (параўн. *авіяметэастанцыя*).

**ГІДРАМЕТЭО́РЫ** (ад *гідра-* + *метэоры*) — ападкі (туман, раса, іней і інш.), якія выдзяляюцца з атмасферы на зямную паверхню.

**ГІДРАМЕХАНІЗА́ЦЫЯ** (ад *гідра- + механізацыя*) — спосаб правядзення земляных і горных работ механізмамі, якія выкарыстоўваюць энергію напорнага воднага струменя.

**ГІДРАМЕХА́НІКА** (ад *гідра- + механіка*) — раздзел механікі, які вывучае законы руху *(гідрадынаміка)* і раўнавагі *(гідрастатыка)* вадкасцей і газаў і іх узаемадзеянне з цвёрдымі целамі.

**ГІДРАМО́ДУЛЬ** (ад *гідра- + модуль*) — 1) паказчык расходу вады на адзінку плошчы за пэўны прамежак часу; 2) шчыт з выразам арэўнай формы для вымярэння сярэдніх расходаў вады ракі.

**ГІДРАМУ́ФТА** (ад *гідра- + муфта*) — *гідраўлічны* механізм, які перадае вярчальны рух; выкарыстоўваецца ў транспартных і пад'ёмных машынах.

**ГІДРАНА́ЎТ** (ад *гідра- + -наўт*) — тое, што і *акванаўт*.

**ГІДРА́НГІЯ** (н.-лац. hydrangea) — тое, што і *гартэнзія*.

**ГІДРАНЕФРО́З** (ад *гідра-* + гр. nephros = нырка) — захворванне нырак чалавека або жывёліны, якое характарызуецца расцяжэннем ныручных чашачак і лаханкі з наступным адміраннем тканак ныркі.

**ГІДРАНІ́МІКА** (ад *гідра-* + гр. onyma = імя, назва) — раздзел мовазнаўства, які вывучае *гідронімы* і *гідранімію*.

**ГІДРАНІ́МІЯ** (ад *гідра-* + гр. onyma = імя, назва) — *лінгв.* сукупнасць *гідронімаў*.

**ГІДРА́НТ** (ад гр. hydor = вада) — водаразборная калонка або кран, якія ўстанаўліваюцца на водаразборнай лініі для палівання вуліц, тушэння пажараў і інш.

**ГІДРА́НТЫ** (ад гр. hydor = вада) — тое, што і *гідрапаліпы*.

**ГІДРАО́ПТЫКА** (ад *гідра- + оптыка*) — раздзел оптыкі, які вывучае распаўсюджванне святла ў водным асяроддзі.

**ГІДРАПАЛІ́ПЫ** (ад *гідра- + паліпы*) — паліпоідная стадыя ў жыццёвым цыкле кішачнаполасцевых жывёл падкласа *гідроідных*.

**ГІДРАПА́РК** (ад *гідра- + парк*) — парк, адметны перавагай вадаёмаў, якія з'яўляюцца базай для арганізацыі водных відаў спорту і адпачынку, кампазіцыйнай асновай архітэктурна-планіровачнай і ландшафтнай арганізацыі.

**ГІДРАПА́ТЫЯ** (ад *гідра- + -патыя*) — тое, што і *гідратэрапія*.

**ГІДРАПЕДАЛО́ГІЯ** (ад *гідра- + педалогія*) — навука аб формах і заканамернасцях руху вады ў грунце.

**ГІДРАПЕРЫ́Т** (ад *гідра-* + гр. pyr = агонь) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца як сродак для дэзінфекцыі пры запаленні слізістых абалонак, у гінекалогіі.

**ГІДРАПЛА́Н** (ад *гідра- + -план*) — самалёт, прыстасаваны для пасадкі на ваду і ўзлёту з вады; гідрасамалёт.

**ГІДРАПО́НІКА** (ад *гідра- + -поніка*) — вырошчванне раслін на штучных заменніках глебы з выкарыстаннем водных раствораў пажыўных рэчываў (параўн. *аэрапоніка*).

**ГІДРАПО́ННЫ** (ад *гідра-* + гр. ponos = работа); г - ы я  к у л ь -

т у р ы — расліны, якія вырошчваюцца спосабамі *гідрапоніці*.

**ГІДРАПУ́ЛЬТ** (ад *гідра-* + *пульт*) — *апарат* для распырсквання вадкасці пад ціскам; выкарыстоўваецца пры паліванні раслін, фарбаванні сцен, дэзінфекцыі памяшканняў і інш.

**ГІДРАРГІЛІ́Т** (ад *гідра* + гр. orgillos = гліна) — тое, што і *гібсіт*.

**ГІДРАРТРО́З** (ад *гідра-* + *артроз*) — *мед.* збіранне вадкасці ў поласці сустава.

**ГІДРАСА́ЛЬПІНКС** (ад *гідра-* + гр. salpinks = труба) — запаленчае захворванне матачнай трубы са збіраннем у яе прасвеце серознай вадкасці.

**ГІДРАСЕПАРА́ТАР** (ад *гідра-* + *сепаратар*) — *апарат* для ўзбагачэння карысных выкапняў (каменнага вугалю, руды) пры дапамозе струменя вады.

**ГІДРАСІСТЭ́МА** (ад *гідра-* + *сістэма*) — сістэма гідраўлічных механізмаў машыны.

**ГІДРАСТА́НЦЫЯ** (ад *гідра-* + *станцыя*) — тое, што і *гідраэлектрастанцыя*.

**ГІДРАСТА́Т** (ад *гідра-* + *-стат*) — *апарат*, які спускаюць з судна на тросе для падводных работ і даследаванняў (у адрозненне ад *батыскафа* самастойна не перамяшчаецца).

**ГІДРАСТА́ТЫКА** (ад *гідра-* + *статыка*) — раздзел *гідрамеханікі*, які вывучае законы раўнавагі вадкасцей і апушчаных у іх цел.

**ГІДРАСУЛЬФА́ТЫ** (ад *гідра-* + *сульфаты*) — кіслыя солі сернай кіслаты; выкарыстоўваюцца для выбельвання тканін, дублення шкур і інш.

**ГІДРАСУЛЬФІ́ДЫ** (ад *гідра-* + *сульфіды*) — кіслыя солі серавадароднай кіслаты.

**ГІДРАСУЛЬФІ́ТЫ** (ад *гідра-* + *сульфіты*) — кіслыя солі сярністай кіслаты; выкарыстоўваюцца ў фатаграфіі, цэлюлознай прамысловасці і інш.

**ГІДРАСФЕ́РА** (ад *гідра-* + *сфера*) — водная абалонка зямнога шара, сукупнасць вод Зямлі (акіяны, моры, азёры, рэкі, падземныя воды, леднікі).

**ГІДРА́СЦІС** (н.-лац. hydrastis, ад гр. hydor = вада) — травяністая расліна сям. казяльцовых, пашыраная ў Паўн. Амерыцы і Усх. Азіі; карэнне яе змяшчае *алкалоіды*, што выкарыстоўваюцца ў медыцыне як кровасцьпяняльны сродак.

**ГІДРАТА́КСІС** (ад *гідра-* + *таксісы*) — перасоўванне аднаклетачных і каланіяльных раслін і некаторых жывёл у бок большай або меншай вільготнасці (напр. лічынкі некаторых насякомых пры высыханні глебы пранікаюць у глыбейшыя яе слаі).

**ГІДРАТА́ЦЫЯ** (ад гр. hydor = вада) — далучэнне вады да розных рэчываў (проціл. *дэгідратацыя*).

**ГІДРАТО́РАКС** (ад *гідра-* + *торакс*) — збіранне вадкасці *(транссудату)* у поласці *плеўры*, якое ўзнікае пры сардэчных і ныркавых захворваннях.

**ГІДРАТО́РФ** (ад *гідра-* + *торф*) — торф, здабыты размываннем яго залежаў струменем вады пад высокім ціскам.

**ГІДРАТРА́НСПАРТ** (ад *гідра-* + *транспарт*) — перамяшчэнне па трубапровадзе сыпкіх і раздробненых цел сілай цякучай вады.

**ГІДРАТРАНСФАРМА́ТАР** (ад *гідра-* + *трансфарматар*) — гідрадынамічная перадача, пры якой адбываецца бесступеньчатая рэгуліроўка вярчэння вала; выкарыстоўваецца ў трансмісіях аўтамабіляў, цеплавозаў і інш.

**ГІДРАТРАПІ́ЗМ** (ад *гідра-* + *трапізм*) — здольнасць растучых органаў раслін выгінацца пад уплывам нераўнамернага размеркавання вільгаці ў навакольным асяроддзі.

**ГІДРАТУРБІ́НА** (ад *гідра-* + *турбіна*) — турбіна, якая прыводзіцца ў рух сілай патоку вады; вадзяная турбіна.

**ГІДРАТЦЭЛЮЛО́ЗА** (ад *гідраты* + *цэлюлоза*) — структурная *мадыфікацыя* цэлюлозы, цвёрдае рэчыва белага колеру, з якога складаецца *цэлафан*.

**ГІДРА́ТЫ** (ад гр. hydor = вада) — хімічныя злучэнні, якія змяшчаюць у сабе малекулы вады.

**ГІДРАТЫПІ́Я** (ад *гідра-* + *-тыпія*) — фатаграфічны метад вырабу каляровых адбіткаў пры дапамозе водараставаральных фарбавальнікаў.

**ГІДРАТЭ́КА** (ад *гідра-* + *-тэка*) — шкілетны бакальчык вакол *гідранта* марскіх *гідроідаў*, у які пры раздражненні можа ўцягвацца венчык шчупальцаў.

**ГІДРАТЭРАПІ́Я** (ад *гідра-* + *тэрапія*) — прымяненне вады з лячэбнай мэтай у выглядзе ваннаў, душаў, абліванняў, абціранняў; водалячэнне.

**ГІДРАТЭРМА́ЛЬНЫ** (ад *гідра-* + гр. therme = цяпло); г - ы я р а д о в і ш ч ы — радовішчы карысных выкапняў, якія ўтварыліся ў выніку адкладвання мінералаў з *гідратэрмаў*.

**ГІДРАТЭ́РМЫ** (ад *гідра-* + *-тэрмы*) — гарачыя водныя растворы ў нетрах Зямлі, якія ўтвараюцца ў працэсе застывання магмы, выдалення вады з мінералаў у час перакрышталізацыі іх і інш.

**ГІДРАТЭ́ХНІКА** (ад *гідра-* + *тэхніка*) — навука аб выкарыстанні водных рэсурсаў у гаспадарцы і барацьбе са шкодным дзеяннем воднай стыхіі, а таксама галіна тэхнікі, якая займаецца ўзвядзеннем плацін, дамб, каналаў, вадасховішчаў і г.д.

**ГІДРА́ЎЛАС** (ад *гідра-* + гр. aulos = трубка, флейта) — старажытны музычны інструмент, папярэднік сучаснага аргана, у якім напор паступаючага з трубы паветра забяспечваўся ціскам слупа вады.

**ГІДРА́ЎЛІКА** (гр. hydraulikos = вадзяны) — навука аб законах раўнавагі і руху вадкасцей і спосабах практычнага прымянення гэтых законаў.

**ГІДРАЎЛІ́ЧНЫ** (ад *гідраўліка*) — 1) які дзейнічае пры дапамозе напору, ціску вадкасці (напр. г. прэс); 2) які мае адносіны да гідраўлікі (напр. г-ае даследаванне).

**ГІДРАФІ́ЗІКА** (ад *гідра-* + *фізіка*) — раздзел *геафізікі*, які вывучае фізічныя працэсы, што адбываюцца ў *гідрасферы*.

# Г

**ГІДРАФІЛІ́Я** (ад *гідра-* + *-філія*) — апыленне некаторых водных раслін пры дапамозе вады.

**ГІДРАФІ́ЛЬНАСЦЬ** (ад *гідра-* + гр. phileo = люблю) — здольнасць рэчываў, матэрыялаў змочвацца вадой.

**ГІДРАФІ́ЛЬНЫ** (ад *гідра-* + гр. phileo = люблю); г-ы-я р а с л і н ы — водныя расліны, прыстасаваныя да перакрыжаванага апылення пад вадой (напр. рагалíснік апушчаны, наяда гнуткая).

**ГІДРАФІ́ТЫ** (ад *гідра-* + *-фіты*) — водныя расліны, у якіх у вадзе знаходзіцца толькі ніжняя частка (напр. рыс, чарот азёрны); параўн. *гідатафіты*.

**ГІДРАФЛО́Т** (ад *гідра-* + *флот*) — паветраны флот, які складаецца з гідрасамалётаў.

**ГІДРАФО́БІЯ** (ад *гідра-* + *-фобія*) — вадабоязь; вірускае захворванне ад укусу шалёнага сабакі, ваўка, ката.

**ГІДРАФО́БНАСЦЬ** (ад *гідра-* + гр. phobos = страх) — няздольнасць некаторых рэчываў, матэрыялаў змочвацца вадой (напр. парафінаў, тлушчаў, некаторых пластмас).

**ГІДРАФО́Н** (ад *гідра-* + *-фон*) — прыбор для прыёму гукавых хваляў, якія ўзнікаюць і распаўсюджваюцца ў вадзе.

**ГІДРАФО́РМІНГ** (ад *гідра-* + англ. forming = фармаванне) — адзін з відаў *рыформінгу* 1.

**ГІДРАФТА́ЛЬМ** (ад *гідра-* + гр. ophthalmos = вока) — павелічэнне вочнага яблыка ў выніку павышэння ўнутрывочнага ціску пры прыроджанай *глаўкоме*.

**ГІДРАХАРЫ́Я** (ад *гідра-* + *-харыя*) — распаўсюджванне насення і пладоў раслін воднымі цячэннямі; характэрна для многіх балотных і водных раслін, водарасцяў і некаторых грыбоў.

**ГІДРАХІ́МІЯ** (ад *гідра-* + *хімія*) — навука аб хімічным складзе водаў, якія ўтвараюць *гідрасферу*, і метадах іх даследавання.

**ГІДРАХІНО́Н** (ад *гідра-* + *хінон*) — арганічнае злучэнне класа *фенолаў*, бясколерны крышталічны прадукт, які выкарыстоўваецца ў фатаграфіі, сінтэзе арганічных фарбавальнікаў і інш.

**ГІДРАХНЕ́ЛЫ** (н.-лац. hydrachnellae) — надсямейства акарыформных кляшчоў, якія пашыраны ўсюды ў прэсных вадаёмах.

**ГІДРАХО́РЫ** (ад *гідра-* + гр. choreo = распаўсюджваюся) — расліны, насенне і плады якіх распаўсюджваюцца вадой.

**ГІДРАЦЫКЛО́Н** (ад *гідра-* + *цыклон*) — *апарат* для раздзялення ў водным асяроддзі часцінак рознай масы.

**ГІДРАЦЫЛІ́НДР** (ад *гідра-* + *цыліндр*) — гідраўлічны рухавік, які служыць для прыводу ў дзеянне механізма станкоў, рабочых органаў будаўнічых, дарожных, сельскагаспадарчых машын.

**ГІДРАЦЭ́ЛЕ** (ад *гідра-* + гр. kele = уздуцце) — збіранне вадкасці ў абалонках яечка пры мясцовых запаленчых працэсах, пры агульнай вадзянцы або прыроджанае.

**ГІДРАЦЭ́ЛЬ** (ад *гідра-* + гр. koiloma = поласць) — адна з частак другаснай поласці цела ў ігла-

скурых, з якой утвараецца амбулакрыльная сістэма.

**ГІДРАЦЭФА́ЛІЯ** (ад *гідра-* + *-цэфалія*) — збіранне спіннамазгавой вадкасці ў поласці чэрапа; галаўная вадзянка.

**ГІДРАША́ХТА** (ад *гідра-* + *шахта*) — прадпрыемства горнай прамысловасці, дзе здабычу каменнага вугалю або іншых карысных выкапняў праводзяць з прымяненнем *гідрамеханізацыі*.

**ГІДРАЭКСТРУ́ЗІЯ** (ад *гідра-* + *экструзія*) — апрацоўка матэрыялаў ціскам, які ствараецца пры дапамозе спецыяльных кампрэсараў вадкасцю.

**ГІДРАЭЛЕВА́ТАР** (ад *гідра-* + *элеватар*) — водаструменная *помпа* для пад'ёму і перамяшчэння па трубаправодзе вадкасцей і разрэджанага грунту.

**ГІДРАЭЛЕКТРАСТА́НЦЫЯ** (ад *гідра-* + *электрастанцыя*) — электрастанцыя, якая выпрацоўвае электраэнергію, выкарыстоўваючы сілу падаючай вады.

**ГІДРАЭЛЕКТРЫ́ЧНЫ** (ад *гідра-* + *электрычны*) — звязаны з электрычнасцю, што атрымліваецца шляхам пераўтварэння энергіі рухомай вады (напр. г-ая станцыя).

**ГІДРАЭНЕРГЕ́ТЫКА** (ад *гідра-* + *энергетыка*) — галіна энергетыкі, звязаная з выкарыстаннем энергіі вады для выпрацоўкі электраэнергіі на гідраэлектрычных станцыях.

**ГІДРО́ГРАФ** (ад *гідра-* + *-граф*) — 1) спецыяліст у галіне *гідраграфіі*; 2) *графік* змены расходу вады ў рацэ за пэўны час, напр. за сезон або за год.

**ГІДРО́ІДНЫЯ** (ад гр. hydra = вадзяная змяя + *-оід*) — падклас водных кішачнаполасцевых жывёл класа *гідразояў*, аб'ядноўвае як адзіночных *паліпаў* і *медуз*, так і калоніі паліпаў; жывуць пераважна ў акіянах і морах; на Беларусі трапляецца адзін від — *гідра*.

**ГІДРО́ІДЫ** (ад *гідра-* + *-оід*) — прадаўгаватыя вузкія клеткі з тонкімі, скошанымі перагародкамі, па якіх вада рухаецца ў расліне.

**ГІДРО́КС** [ад *гідр(аген)* + *акс(іген)*] — спосаб выбуху без полымя, заснаваны на імгненнай рэакцыі ўнутры патрона.

**ГІДРО́Л** (ням. Hydrol) — адходы крухмальнай вытворчасці.

**ГІДРО́ЛАГ** (ад *гідра-* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *гідралогіі*.

**ГІДРО́ЛІЗ** (ад *гідра-* + *-ліз*) — рэакцыя абменнага ўзаемадзеяння паміж вадой і іншымі злучэннямі; мае вялікае значэнне ў страваванні і ў працэсах унутрыклетачнага абмену; выкарыстоўваецца ў хімічнай прамысловасці, у вытворчасці палімераў, мыла, гліцэрыны і інш.

**ГІДРО́МЕТР** (ад *гідра-* + *-метр*) — прыбор для вызначэння ўзроўню вады ў водным басейне, а таксама скорасці цячэння вады.

**ГІДРО́НІМЫ** (ад *гідра-* + гр. onyma = імя, назва) — уласныя назвы водных аб'ектаў (рэк, азёр, мораў і г.д.).

**ГІДРЫ́ДЫ** [ад *гідр(аген)* + гр. eidos = выгляд] — злучэнні вада-

роду з іншымі хімічнымі элементамі.

**ГІДРЫ́ЛА** (н.-лац. hydrilla) — водная травяністая расліна сям. жабнікавых з доўгім ніткападобным сцяблом і дробназубчастым лісцем, пашыраная ў Еўразіі, Афрыцы і Аўстраліі.

**ГІДРЫ́Я** (гр. hydria, ад hydor = вада) — пасудзіна з трыма ручкамі для нашэння вады, пашыраная ў Стараж. Грэцыі.

**ГІДРЭМІ́Я** (ад *гідра-* + *-эмія*) — павышанае ўтрыманне вады ў крыві, разрэджванне крыві, якое заўважаецца пры хваробах нырак, *асцыце*, пры некаторых формах *анемій*.

**ГІЕ́НА** (лац. hyaena, ад гр. hyaina) — драпежная млекакормячая жывёла, якая водзіцца ў гарачых краінах і корміцца пераважна мерцвячынай.

**ГІК** (гал. gijk) — гарызантальная бэлька, прымацаваная адным канцом да ніжняй часткі мачты, для расцягвання ніжняга краю паруса.

**ГІКО́РЫ** (англ. hickory, ад індз. pohikeri) — тое, што і *карыя*.

**ГІЛАЗАІ́ЗМ** (ад гр. hyle = рэчыва + zoe = жыццё) — філасофскі погляд, паводле якога здольнасць адчуваць нібыта ўласціва ўсёй *матэрыі*.

**ГІЛАКО́МІУМ** (н.-лац. hylocomium) — лістасцябловы мох сям. гілакоміевых, які з'яўляецца кампанентам наглебавага покрыва лясоў.

**ГІЛЕМАРФІ́ЗМ** (ад гр. hyle = рэчыва + *-марфізм*) — філасофскі тэрмін для абазначэння вучэння Арыстоцеля аб *форме* і *матэрыі* як асноўных прынцыпах быцця.

**ГІЛЕ́Я** (гр. hylaios = лясны) — вечназялёныя лясы вільготных тропікаў.

**ГІ́ЛЬБЕРТ** [англ. W.Gilbert = прозвішча англ. фізіка (1544—1603)] — адзінка магнітарухальнай сілы і розніцы магнітных патэнцыялаў у СГС сістэме адзінак.

**ГІ́ЛЬДЫЯ** (польск. gildia, ад ням. Gilde = таварыства) — 1) аб'яднанне купцоў або рамеснікаў у сярэдневяковай Еўропе, якое абараняла інтарэсы сваіх членаў; 2) адзін з трох маёмасных разрадаў купецтва ў царскай Расіі (напр. купец першай гільдыі).

**ГІЛЬЁШ** (фр. guilloche) — 1) малюнак з камбінацыі крывых пераплеценых ліній на банкнотах і каштоўных паперах, які робіць больш цяжкай іх падробку; 2) машына для адціскання такіх малюнкаў.

**ГІ́ЛЬЗА** (ням. Hülse) — 1) металічная трубка з капсулем, якая служыць абалонкай зарада для агнястрэльнай зброі; 2) пустацелая зменная цыліндрычная ўстаўка поршневых цеплавых рухавікоў; 3) папяровая трубка папяросы.

**ГІЛЬЯЦІ́НА** [фр. guillotine, ад J.Guillotin = прозвішча фр. урача (1738—1814)] — прыстасаванне для адсячэння галавы асуджаным на смерць, уведзенае ў Францыі ў час Французскай рэвалюцыі ў 1792 г.

**ГІЛЬЯШЫ́РАВАЦЬ** (фр. guillocher) — гравіраваць на паверхні металу або каменя сетку крывых пераплеценых ліній, напр. на формах для друкавання грашовых знакаў.

**ГІМЕНАГА́СТЭР** (н.-лац. hymenogaster) — *базідыяльны* грыб сям. гіменагастравых, якi расце на глебе ў лясах, асабліва лісцевых.

**ГІМЕНАЛЕПІДЫДО́ЗЫ** (ад *гіменалепідыды*) — глісныя хваробы птушак, млекакормячых і чалавека, якія выклікаюцца гіменалепідыдамі.

**ГІМЕНАЛЕПІДЫ́ДЫ** (н.-лац. hymenolepididae) — сямейства *гельмінтаў* класа *цэстодаў*, паразіты птушак, млекакормячых і чалавека.

**ГІМЕНАМІЦЭ́ТЫ** (н.-лац. hymenomycetiidae) — група *базідыяльных* грыбоў падкласа *холабазідыяміцэтаў* з пладовымі целамі на шматгадовым *міцэліі*; пашыраны па ўсім зямным шары, пераважна *сапратрофы*, многія — *паразіты* раслін.

**ГІМЕНАПТЭ́РЫ** (ад гр. hymen = плеўка, перапонка + *-птэр*) — перапончатакрылыя насякомыя (восы, пчолы, мурашкі і інш.).

**ГІМЕНАСТО́МУМ** (н.-лац. hymenostomum) — лістасцябловы мох сям. трыхастомавых, якi трапляецца на аголенай глебе на ўзлесках, адхонах канаў, палях.

**ГІМЕНАСЦЫ́Ф** (н.-лац. hymenoscyphus) — сумчаты грыб сям. гелоцыевых, якi развіваецца на адмерлых сцёблах травяністых раслін, леташнім лісці, кары дрэў.

**ГІМЕНАФО́Р** (ад гр. hymen = плеўка, скурка + *-фор*) — паверхня пладовых цел грыбоў, на якой размешчаны *гіменій*.

**ГІМЕНАХЕ́ТА** (н.-лац. hymenochaete) — губавы *базідыяльны* грыб сям. гіменахетавых, якi расце на лесапавале і сухастоі ў розных лясах, на высечках, каля дарог; ёсць ядомыя і ядавітыя віды.

**ГІМЕНЕ́Й** (гр. Hymenaios = імя бога шлюбу ў старажытнагрэчаскай міфалогіі) — 1) юнак з факелам і вясельным вэлюмам у руках у антычным мастацтве; *перан.* повязі Гіменея — шлюб; 2) вясельная харавая песня ў старажытнагрэчаскай лірыцы.

**ГІМЕ́НІЙ** (ад гр. hymen = плеўка, скурка) — слой спараносных клетак у пладовых целах многіх грыбоў.

**ГІМН** (лац. hymnus, ад гр. hymnos) — 1) урачыстая хвалебная песня ў гонар багоў і герояў у Стараж. Грэцыі; 2) урачыстая песня як сімвал дзяржавы; 3) увогуле хвалебная песня або музычны твор у гонар чаго-н. (напр. г. чалавеку працы, г. жыццю).

**ГІМНАДЫ́НІУМ** (н.-лац. gymnodinium) — аднаклетачная *пірафітавая* водарасць сям. гімнадыніевых, якая пашырана ў *планктоне* вадаёмаў рознага тыпу, асабліва ў невялікіх са стаячай вадой.

**ГІМНА́ЗІЯ** (польск. gimnazjum, ад гр. gymnasion) — агульнаадукацыйная сярэдняя навучальная ўстанова звычайна гуманітарнафілалагічнага кірунку (напр. жаночая г., класічная г.).

**ГІМНАКАЛЕ́Я** (н.-лац. gymnocolea) — пячоначны мох сям. лафозіевых; расце на алігатрофных балотах, па берагах азёр.

**ГІМНАПІ́Л** (н.-лац. gymnopilus) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. павуціннікавых, якія расце ў лясах на адмерлай драўніне хвойных парод; неядомы.

# Г

**ГІМНА́СІЙ** (гр. gymnasion) — навучальна-выхаваўчая ўстанова для юнакоў у Стараж. Грэцыі, дзе вывучалі палітыку, філасофію, літаратуру і адначасова займаліся гімнастыкай.

**ГІМНАСПАРА́НГІЙ** (н.-лац. gymnosporangium) — *базідыяльны* грыб сям. пункцыніевых, які развіваецца на лісці грушы, яблыні, рабіны, глогу.

**ГІМНА́СТ** (гр. gymnastes) — 1) спартсмен, які займаецца гімнастыкай (спартыўнай, мастацкай); 2) артыст, які валодае цыркавым гімнастычным майстэрствам.

**ГІМНА́СТЫКА** (гр. gymnastike) — 1) комплекс фізічных практыкаванняў, якія садзейнічаюць агульнаму развіццю арганізма; 2) від спорту, які ўключае складаныя фізічныя і некаторыя іншыя практыкаванні (напр. спартыўная г., мастацкая г.); 3) від цыркавога мастацтва, дэманстрацыя складаных практыкаванняў на спецыяльных снарадах, замацаваных на *манежы* (напр. паветраная г.).

**ГІМНЕ́ТЫ** (гр. gymneteia) — лёгкаўзброеныя пехацінцы ў Стараж. Грэцыі.

**ГІНА-, ГІНЕКА-** (гр. gyne, -naikos = жанчына) — першая састаўная частка складаных слоў, якая ўказвае на адносіны да жаночага полу.

**ГІНАГЕНЕ́З** (ад *гіна-* + *-генез*) — форма размнажэння, пры якой пасля пранікнення *спермія* ў яйцаклетку іх ядры не зліваюцца і ў развіцці ўдзельнічае толькі ядро яйцаклеткі (проціл. *андрагенез*).

**ГІНАНДРАМАРФІ́ЗМ** (ад *гіна-* + гр. aner, andros = мужчына + *-марфізм*) — ненармальнае спалучэнне прыкмет абодвух полаў у асобіны; найбольш часта сустракаецца ў насякомых.

**ГІНА́НДРЫ** (ад *гіна-* + гр. aner, andros = мужчына) — жанчыны, якія вызначаюцца мужчынскімі другаснымі палавымі прыкметамі (валасы на твары, вузкі таз і інш.).

**ГІНА́НДРЫЯ** (ад *гіна-* + *-андрыя*) — *біял.* знешняе падабенства самцоў да самак.

**ГІНАТРЭЗІ́Я** (ад *гіна-* + *атрэзія*) — парушэнне праходнасці палавога канала ў жанчын, абумоўленае анамаліямі развіцця похвы.

**ГІНАФО́Р** (ад *гіна-* + *-фор*) — верхняя частка кветаложа паміж *андрацэем* і *гінецэем*, што мае выгляд ножкі з размешчанымі на канцы песцікамі.

**ГІНГІВІ́Т** (ад лац. gingiva = дзясна) — запаленне слізістай абалонкі дзясен пры *карыесе* зубоў, інфекцыйных захворваннях, авітамінозах і інш.

**ГІНЕКА-** гл. *гіна-*.

**ГІНЕКАКРА́ТЫЯ** (ад *гінека-* + *-кратыя*) — тое, што і *матрыярхат*.

**ГІНЕКАЛО́ГІЯ** (ад *гінека-* + *-логія*) — навука, якая вывучае асаблівасці жаночага арганізма, захворванне жаночых палавых органаў і іх лячэнне.

**ГІНЕКАМАСТЫ́Я** (ад *гінека-* + гр. mastos = грудзі) — празмернае павелічэнне ў мужчын малочных залоз як адна з прыкмет *фемінізацыі 1*.

**ГІНЕКАФО́РНЫ** (ад *гінека-* + гр. phoros = які нясе) — які адносіцца да брушной складкі цела

самца крывянога смактуна, дзе змяшчаецца самка.

**ГІНЕКЕ́Й** (гр. gynaikeios = жаночы) — 1) жаночая палавіна ў старажытнагрэчаскім доме; 2) дзяржаўная або прыватная майстэрня ў позняй Рымскай імперыі і Візантыі, дзе працавалі жанчыны і мужчыны-рабы.

**ГІНЕКО́ЛАГ** (ад *гінека-* + *-лаг*) — урач па жаночых хваробах, спецыяліст у галіне *гінекалогіі.*

**ГІНЕЦЭ́Й** (гр. gynaikeios = жаночы) — сукупнасць пладалісцікаў у кветцы, якія ўтвараюць адзін або некалькі песцікаў — жаночых органаў кветкі.

**ГІНЕ́Я** (англ. guinea) — англійская залатая манета 17—18 ст., роўная 21 шылінгу.

**-ГІНІЯ** (гр. gyne = жанчына) — другая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае прыналежнасць да жаночага полу.

**ГІ́НКГА** (яп. hinkho, ад кіт. inhinh = серабрысты абрыкос) — дрэва сям. гінкгавых, пашыранае ва Усх. Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўнае.

**ГІНТЭРЛА́НД** (ням. Hinterland, ад hinter = за + Land = мясцовасць) — 2) раён, які прымыкае да прамысловага або гандлёвага цэнтра; 2) *уст.* прылеглая да заваяванай каланіяльнай тэрыторыі вобласць, на якую дадзеная дзяржава прад'яўляе свае правы.

**ГІНЬЁЛЬ** (фр. guignol, ад Guignol = імя персанажа французскага лялечнага тэатра) — п'еса, спектакль, сцэнічны прыём, заснаваныя на паказе жахаў, забойстваў, *катаванняў*.

**ГІНЬЯ́РДЫЯ** (н.-лац. guignardia) — сумчаты грыб сям. батрыясферыевых, які развіваецца на адмерлым лісці вольхі, на пшаніцы, ячмені, жыце.

**ГІО́ІДЫ** (лац. hyoideus = пад'язычны) — ніжнія парныя косці пад'язычнай дугі ў рыб.

**ГІПА-** (гр. hypo = унізе, знізу; пад) — прыстаўка, якая паказвае на змяншэнне чаго-н. у параўнанні з нормай.

**ГІПАБІЁЗ** (ад *гіпа-* + *-біёз*) — стан паніжанай жыццядзейнасці арганізмаў.

**ГІПАБІЯСФЕ́РА** (ад *гіпа-* + *біясфера*) — слой літасферы глыбінёй 5—6 км, у які жывыя арганізмы трапляюць выпадкова, існуюць часова, але не могуць нармальна жыць і размнажацца (ніжні аналаг *парабіясферы).*

**ГІПАВАЛЮМІ́Я** (ад *гіпа-* + лац. volumen = аб'ём) — тое, што і *алігаспермія.*

**ГІПАВІТАМІНО́З** (ад *гіпа-* + *вітаміны*) — захворванне, выклікане недастатковым забеспячэннем арганізма вітамінамі (параўн. *авітаміноз, гіпервітаміноз*).

**ГІПАГАЛАКТЫ́Я** (ад *гіпа-* + гр. gala, -laktos = малако) — памяншэнне выдзялення малака малочнымі залозамі пры няправільным харчаванні кормячай маці, а таксама пры інфекцыйных захворваннях, мастытах і іншых хваробах.

**ГІПАГАНАДЫ́ЗМ** (ад *гіпа-* + *ганады*) — паталагічны стан чалавека, які абумоўлены зніжанай сакрэцыяй палавых гармонаў і характарызуецца слабым развіццём па-

лавых органаў і другасных палавых прыкмет.

**ГІПАГАСТРУРЫ́ДЫ** (н.-лац. hypogastruridae) — сямейства насякомых атрада нагахвостак; шкодзяць шампіньёнам.

**ГІПАГЕ́Й** (гр. hypogeion = падземны) — падземныя збудаванні, галоўным чынам высечаныя ў скале, для калектыўных пахаванняў; адносяцца да эпохі *неаліту*.

**ГІПАГЕНЕ́ЗІЯ** (ад *гіпа-* + гр. genesis = паходжанне) — тое, што і *гіпаплазія*.

**ГІПАГЕНІТАЛІ́ЗМ** (ад *гіпа-* + *геніталіі*) — тое, што і *гіпаганадызм*.

**ГІПАГЕ́ННЫ** (ад *гіпа-* + *-генны*); г-ае радовішча — паклады карысных выкапняў, якія ўзніклі ў глыбінных частках Зямлі (параўн. *гіпергенны*).

**ГІПАГІ́МНІЯ** (н.-лац. hypogymnia) — ліставаты сумчаты лішайнік сям. гіпагімніевых, які расце на ствалах і галінках пераважна лісцевых дрэў, часам на глебе.

**ГІПАГЛІКЕМІ́Я** (ад *гіпа-* + *глікемія*) — паніжаная колькасць цукру ў крыві (параўн. *гіперглікемія*).

**ГІПАДЫНАМІ́Я** (ад *гіпа-* + гр. dynamis = сіла) — зніжэнне мышачных намаганняў, што трацяцца на ўтрыманне позы, перамяшчэнне цела ў прасторы, фізічную работу (параўн. *гіпердынамія*).

**ГІПАДЭ́РМА** (ад *гіпа-* + *-дэрма*) — 1) слой *эпітэлію* ў членістаногіх жывёл, які ляжыць непасрэдна пад хіцінавым покрывам; 2) слой клетак, размешчаных пад *эпідэрмісам* многіх вышэйшых раслін.

**ГІПАДЭРМАТО́З** (ад *гіпа-* + *дэрматоз*) — хвароба буйной рагатай жывёлы, выкліканая лічынкамі падскурных аваднёў, якая суправаджаецца запаленчымі працэсамі ў паражоных тканках і органах.

**ГІПАКА́МП** (лац. hippocampus) — звіліна паўшар'я галаўнога мозга, размешчаная ў аснове скроневай долі.

**ГІПАКАПНІ́Я** (ад *гіпа-* + гр. kapnos = дым) — змяншэнне колькасці і паніжэнне парцыяльнага ціску двухвокіслу вугляроду ў артэрыяльнай крыві (параўн. *гіперкапнія*).

**ГІПАКА́УСТ** (ад *гіпа-* + гр. kaustos = нагрэты) — абагравальная сістэма пад падлогай або ў сценах тэрм (лазняў) і дамоў Стараж. Грэцыі і Рыма ў выглядзе каналаў і труб, па якіх праводзілася нагрэтае паветра.

**ГІПАКІНЕ́З** (ад *гіпа-* + *-кінез*) — зніжэнне адвольных рухаў па сіле і аб'ёму ў выніку захворвання мышц або нервовай сістэмы (параўн. *гіперкінез*).

**ГІПАКІНЕЗІ́Я** (ад *гіпа-* + *-кінезія*) — вымушанае змяншэнне аб'ёму адвольных рухаў у сувязі з характарам працоўнай дзейнасці; малая рухомасць.

**ГІПАКО́ТЫЛЬ** (ад *гіпа-* + гр. kotyle = паглыбленне) — частка сцябла паміж коранем і месцам прымацавання семядолей.

**ГІПАКРЫ́ЗІЯ** (гр. hypokrisis = прытворства, гульня) — крывадушнасць, двудушнасць, прытворства.

**ГІПАКРЫ́Т** (гр. hypokrites = акцёр) — *уст.* ханжа, крывадушнік.

**ГІПАКРЭ́Я** (н.-лац. hypocrea) — сумчаты грыб сям. гіпакрэйных, які развіваецца на драўніне, рэштках травяністых раслін.

**ГІПАКСАНЦІ́Н** (ад *гіпа-* + гр. ksanthos = залаціста-жоўты) — прамежкавы прадукт абмену *нуклеапратэідаў*.

**ГІПАКСЕМІ́Я** [ад *гіпа-* + *аксі(ген)* + *-емія*] — паніжаная колькасць кіслароду ў крыві; бывае пры парушэннях кровазвароту, захворваннях лёгкіх і інш., прыводзіць да *гіпаксіі*.

**ГІПАКСІЛО́Н** (н.-лац. hypoxylon) — сумчаты грыб сям. ксілярыевых, які трапляецца на галінках лісцевых дрэў і кустоў, пнях.

**ГІПАКСІ́Я** [ад *гіпа-* + *аксі(ген)*] — паніжаная колькасць кіслароду ў тканках арганізма; кіслароднае галаданне.

**ГІПАЛІМНІЁН** (ад *гіпа-* + гр. limnion = азярцо) — тоўшча вады ў глыбокіх вадаёмах, у межах якой тэмпература мала змяняецца на працягу года.

**ГІПАЛО́ГІЯ, ІПАЛО́ГІЯ** (ад гр. hippos = конь + *-логія*) — навука аб конях і спосабах паляпшэння конегадоўлі.

**ГІПАМАРФО́З** (ад *гіпа-* + *-марфоз*) — 1) спрашчэнне арганізацыі арганізмаў у працэсе эвалюцыі (напр. *неатэнія* хвастатых амфібій); 2) рэдукцыя органа або яго часткі ў працэсе эвалюцыі.

**ГІПАМЕНАРЭ́Я** (ад *гіпа-* + *аменарэя*) — аслабленне менструальнага цыкла.

**ГІПАМІ́ЦЭС** (н.-лац. hypomyces) — сумчаты грыб сям. гіпаміцэтавых, які паразітуе на апеньцы восеньскай, шампіньёнах, сыраежках, млечніках.

**ГІПА́НТЫЙ** (ад *гіпа-* + гр. anthos = кветка) — кветкавая трубка рознай формы і велічыні, утвораная ў выніку зрастання тканак.

**ГІПАПАРАТЫРЭО́З** (ад *гіпа-* + гр. para = каля + *тырэоз*) — разлад кальцыевага абмену ў арганізме, выкліканы недастатковай дзейнасцю шчытападобных залоз (параўн. *гіперпаратырэоз*).

**ГІПАПАТА́М** (гр. hippopotamos = *літар.* рачны конь) — тое, што і *бегемот*.

**ГІПАПІТУІТАРЫ́ЗМ** [ад *гіпа-* + лац. (glandula) pituitaria = гіпофіз] — недастатковасць функцыі *гіпофіза* пры яго захворваннях (параўн. *гіперпітуітарызм*).

**ГІПАПЛАЗІ́Я** (ад *гіпа-* + гр. plasis = утварэнне) — недаразвіццё тканкі, органа, часткі цела або арганізма ў цэлым, якое ўзнікае ў час парушэння ўнутрывантробнага развіцця плада (параўн. *аплазія, гіперплазія*).

**ГІПА́РХ** (гр. hipparchos) — начальнік конніцы ў Стараж. Грэцыі.

**ГІПАРЫЁН** (н.-лац. hipparion, ад гр. hippos = конь + Areion = імя хутканогага каня ў старажытнагрэчаскай міфалогіі) — вымерлы трохпальцы конь, які быў пашыраны ў *неагене* (параўн. *анхітэрый, палеатэрый*).

**ГІПАСАКРЭ́ЦЫЯ** (ад *гіпа-* + *сакрэцыя*) — недастатковае выдзяленне *сакрэту*[2] якой-н. залозай, звязанае з паніжанай функцыя-

нальнай актыўнасцю залозы (параўн. *гіперсакрэцыя*).

**ГІПАСЕКСУА́ЛЬНАСЦЬ** (ад *гіпа-* + *сексуальнасць*) — зніжэнне сексуальнай схільнасці пры адсутнасці якіх-н. адхіленняў у здароўі чалавека (параўн. *гіперсексуальнасць*).

**ГІПАСМІ́Я** (ад *гіпа-* + гр. osme = пах, нюх) — зніжэнне нюху ў выніку парушэння насавога дыхання, запаленні слізістых абалонак поласці носа і інш.

**ГІПАСПАДЫ́Я** (ад *гіпа-* + гр. spao = адрываю) — прыроджанае недаразвіццё мочавыдзяляльнага канала, пры якім яго вонкавая адтуліна адкрываецца на ніжняй паверхні палавога члена.

**ГІПАСПЕРМІ́Я** (ад *гіпа-* + *сперма*) — тое, што і *алігаспермія*.

**ГІПАСТА́З** (ад *гіпа-* + *-стаз*) — застой крыві ў ніжніх частках цела, які назіраецца ў хворых з аслабленай сардэчнай дзейнасцю.

**ГІПАСТАЗАВА́ЦЬ** (ад гр. hypostasis = сутнасць) — *філас.* прыпісваць адцягненым паняццям самастойнае існаванне, напр. разглядаць мысленне, волю як самастойныя аб'екты.

**ГІПАСТО́М** (ад *гіпа-* + гр. stoma = рот) — вырост хабатка ў кляшчоў, абсаджаны кручочкамі, які служыць для прымацавання кляшча да жывёлы і дапамагае ссаць кроў.

**ГІПАСТРА́КУМ** (ад *гіпа-* + гр. ostrakon = чарапок) — ніжні слой ракавіны *малюскаў*, які складаецца з перламутру.

**ГІПАСТЫ́ЛЬ** (гр. hypostylos = які падтрымліваецца калонамі) — прасторнае крытае памяшканне, столь якога абапіраецца на калоны.

**ГІПАСУЛЬФІ́Т** (ад *гіпа-* + *сульфіт*) — *тыясульфат* натрыю, бясколернае рэчыва; выкарыстоўваецца ў фатаграфіі, тэкстыльнай прамысловасці, медыцыне.

**ГІПАТА́КСІС** (ад *гіпа-* + гр. taksis = размяшчэнне) — *лінгв.* падпарадкаванне (сказаў).

**ГІПАТАЛА́МУС** (ад *гіпа-* + *таламус*) — аддзел галаўнога мозга, размешчаны пад зрокавымі буграмі, у якім знаходзяцца цэнтры вегетатыўнай нервовай сістэмы.

**ГІПАТАНІ́ЧНЫ** (ад *гіпатанія*) — які мае паніжаны ціск; г. р а с т в о р — раствор, асматычны ціск якога ніжэйшы, чым у клетках жывёльных і раслінных арганізмаў (параўн. *гіпертанічны* 1).

**ГІПАТАНІ́Я** (ад *гіпа-* + *-танія*) — паніжэнне крывянога ціску (параўн. *гіпертанія* 1).

**ГІПАТРАФІ́Я** (ад *гіпа-* + *-трафія*) — змяншэнне аб'ёму органа, выкліканае хранічным разладам харчавання (параўн. *гіпертрафія* 1).

**ГІПАТРАХО́ІДА** (ад *гіпа-* + *трахоіда*) — *мат.* замкнутая крывая, якую апісвае знешні або ўнутраны пункт круга, што коціцца без слізгання па ўнутраным баку акружнасці вялікага радыуса.

**ГІПАТЫРЭО́З** (ад *гіпа-* + *тырэоз*) — недастатковасць функцыі шчытападобнай залозы; у рэзка выражанай форме прыводзіць да *мікседэмы* (параўн. *гіпертырэоз*).

**ГІПАТЫЯЗІ́Д** (ад *гіпа-* + гр. theion = сера + лац. acidus = вос-

тры, едкі) — лекавы *прэпарат*, які выкарыстоўваецца пры *цырозах* печані, *нефрозах, нефрытах*, гіпертанічнай хваробе.

**ГІПАТЭНЗІ́ЎНЫ** (ад *гіпа-* + лац. tensio = напружанне) — які зніжае артэрыяльны ціск (напр. г-ыя сродкі ў *фармакалогіі*).

**ГІПАТЭ́НЗІЯ** (ад *гіпа-* + лац. tensio = напружанне) — тое, што і *гіпатанія*, але часцей ужываецца для абазначэння паніжэння артэрыяльнага крывяного ціску (параўн. *гіпертэнзія*).

**ГІПАТЭНУ́ЗА** (гр. hypoteinusa) — *мат.* старана прамавугольнага трохвугольніка, якая ляжыць насупраць прамога вугла.

**ГІПАТЭРМІ́Я** (ад *гіпа-* + *-тэрмія*) — паніжэнне тэмпературы цела чалавека або цеплакроўных жывёл за яе фізіялагічныя граніцы; штучнае ахаладжэнне арганізма або асобных яго частак з лячэбнай мэтай (параўн. *гіпертэрмія*).

**ГІПАТЭТЫ́ЧНЫ** (гр. hypotetikos) — заснаваны на *гіпотэзе*; мяркуемы (напр. г-ае сцвярджэнне).

**ГІПАФА́РЫНКС** (ад *гіпа-* + гр. pharynks = глотка) — 1) выпучванне склератызаванай сценкі ротавай паласці насякомых; 2) ніжні аддзел глоткі ў пазваночных.

**ГІПАФУ́НКЦЫЯ** (ад *гіпа-* + *функцыя*) — недастатковая дзейнасць якога-н. органа, тканкі, сістэмы, што прыводзіць да парушэння жыццядзейнасці арганізма (проціл. *гіперфункцыя*).

**ГІПАХЕ́РЫС** (н.-лац. hypochoeris) — травяністая расліна сям. складанакветных з дробным лісцем і жоўтымі кветкамі, пашыраная пераважна ў Міжземнамор'і; на Беларусі трапляецца рэдка.

**ГІПАХЛАРЫ́ТЫ** (ад *гіпа-* + *хларыты*) — солі хларнавацістай кіслаты; выкарыстоўваюцца для адбельвання тканін і дэзінфекцыі.

**ГІПАХО́РДА** (ад *гіпа-* + *хорда*) — цяж клетак мезадэрмальнага (гл. *мезадэрма*) паходжання ў зародкаў большасці пазваночных (за выключэннем млекакормячых) на ранніх стадыях развіцця.

**ГІПАХРАМІ́Я** (ад *гіпа-* + *-храмія*) — змяншэнне інтэнсіўнасці паглынання святла фарбавальнікам пад уздзеяннем розных фактараў (параўн. *гіперхрамія*).

**ГІПАЦЫКЛО́ІДА** (ад *гіпа-* + *цыклоіда*) — плоская крывая, якую апісвае пункт акружнасці, што коціцца без слізгання ўнутры іншай, нерухомай акружнасці.

**ГІПАЦЭ́НТР** (ад *гіпа-* + *цэнтр*) — цэнтральны пункт ачага землетрасення ў нетрах Зямлі.

**ГІПЕА́СТРУМ** (н.-лац hippeastrum) — цыбульная травяністая расліна сям. амарылісавых з буйнымі лейкападобнымі кветкамі рознай афарбоўкі, пашыраная ў тропіках і субтропіках Амерыкі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ГІПЕР-** (гр. hyper = над, звыш) — прыстаўка, якая паказвае на перавышэнне чаго-н. у параўнанні з нормай.

**ГІПЕРАКСІ́Я** [ад *гіпер-* + *аксі(ген)*] — павелічэнне колькасці кіслароду ў тканках, звязанае з дыханнем чыстым кіслародам на працягу працяглага часу.

# Г

**ГІПЕРАСМІ́Я** (ад *гіпер-* + гр. osme = пах) — хваравітае абвастрэнне нюху пры некаторых захворваннях цэнтральнай нервовай сістэмы.

**ГІПЕРБАЗІ́ТЫ** (ад *гіпер-* + гр. basis = аснова) — горныя пароды вулканічнага паходжання, з нязначным утрыманнем крэменекіслаты.

**ГІПЕ́РБАЛА** (гр. hyperbole = перабольшанне) — 1) *літ.* стылістычная фігура, заснаваная на значным перабольшанні пры апісанні прадмета або з'явы для ўзмацнення выразнасці выказвання; 2) *мат.* крывая лінія з ліку канічных сячэнняў.

**ГІПЕРБАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *гіпербала*) — выкарыстанне гіпербалы як мастацкага прыёму; перабольшанне.

**ГІПЕРБАЛО́ІД** (ад *гіпербала* + *-оід*) — *мат.* паверхня, якая ўтвараецца вярчэннем гіпербалы вакол прамой, што спалучае фокусы гіпербалы.

**ГІПЕРБАРЭ́І** (гр. hyperboreos = які жыве за Барэем, на Крайняй Поўначы) — *перан.* жыхары Крайняй Поўначы.

**ГІПЕ́РБАТАН** (гр. hyperbaton = перастаноўка) — стылістычная фігура, у якой парушана ўсталяваная сінтаксічная паслядоўнасць слоў, што непасрэдна звязаны з тэкстам (гл. таксама *інверсія* 1).

**ГІПЕРВІТАМІНО́З** (ад *гіпер-* + *вітаміны*) — атручванне, выклікане прыёмам павышаных доз вітамінаў (параўн. *авітаміноз, гіпавітаміноз*).

**ГІПЕРГЕНЕ́З** (ад *гіпер-* + *-генез*) — сукупнасць працэсаў хімічнага і фізічнагаператварэння мінеральнага рэчыва ў верхніх частках зямной кары і на яе паверхні пад уздзеяннем *атмасферы, гідрасферы* і жывых арганізмаў.

**ГІПЕРГЕ́ННЫ** (ад *гіпер-* + *-генны*); г - а е м е с ц а н а р а д ж э н н е — паклады карысных выкапняў, якія ўзніклі каля зямной паверхні ў выніку *гіпергенезу* (параўн. *гіпагенны).*

**ГІПЕРГІДРО́З** (ад *гіпер-* + гр. hidros = пот) — агульнае або мясцовае павышэнне потавыдзялення.

**ГІПЕРГІ́Я** (ад *гіпа-* + гр. ergon = праца, дзеянне) — слабая супраціўляльнасць арганізма хваробатворным *агентам* знешняга асяроддзя.

**ГІПЕРГЛІКЕМІ́Я** (ад *гіпер-* + *глікемія*) — павышаная колькасць цукру ў крыві (параўн. *гіпаглікемія*).

**ГІПЕРДАКТЫЛІ́ЧНЫ** (ад *гіпер-* + *дактыль*); г - а я р ы ф м а — рыфма, у якой пасля апошняга націскнога склада ідуць тры і больш ненаціскных складоў.

**ГІПЕРДАКТЫЛІ́Я** (ад *гіпер-* + гр. daktylos = палец) — павялічаная супраць нормы колькасць пальцаў, якая была ўласціва *іхтыязаўрам* (параўн. таксама *гіперфалангія*).

**ГІПЕРДЫНАМІ́Я** (ад *гіпер-* + гр. dynamis = сіла) — самае высокае напружанне арганізма (параўн. *гіпадынамія*).

**ГІПЕРІНФЛЯ́ЦЫЯ** (ад *гіпер-* + *інфляцыя*) — звышінфляцыя, паве-

лічэнне ў краіне ў незвычайных, велізарных памерах масы папяровых грошай і вельмі хуткі рост цэн, што вядзе да абясцэньвання грашовай адзінкі, парушэння нармальных гаспадарчых сувязей і катастрафічнага зніжэння ўзроўню жыцця працоўных.

**ГІПЕРКАПНІ́Я** (ад *гіпер-* + гр. kapnos = дым) — павелічэнне колькасці і павышэнне парцыяльнага ціску двухвокісу вугляроду ў артэрыяльнай крыві (параўн. *гіпакапнія*).

**ГІПЕРКЕРАТО́З** (ад *гіпер-* + гр. keras, -atos = рог) — празмернае патаўшчэнне рагавога слоя скуры чалавека ў выніку працяглага ціску, трэння і іншых прычын.

**ГІПЕРКІНЕ́З** (ад *гіпер-* + *-кінез*) — празмерныя міжвольныя рухі пры арганічных і функцыянальных парушэннях нервовай сістэмы (параўн. *гіпакінез*).

**ГІПЕРКО́МПЛЕКСНЫ** (ад *гіпер-* + *комплексны*) — звязаны з лікам, які з'яўляецца лінейнай камбінацыяй больш як дзвюх адзінак.

**ГІПЕРКРЫТЫЦЫ́ЗМ** (ад *гіпер-* + *крытыцызм*) — прэтэнцыёзны крытыцызм.

**ГІПЕРМАРФО́З** (ад *гіпер-* + *-марфоз*) — тып філагенетычнага развіцця, які вядзе да парушэння ўзаемаадносін арганізма з асяроддзем у сувязі з *гіпертрафіяй* пэўных органаў.

**ГІПЕРМЕТАМАРФО́ЗА** (ад *гіпер-* + *метамарфоза*) — асобны выпадак *метамарфозы* некаторых паразітычных насякомых, калі лічынка праходзіць некалькі стадый, якія адрозніваюцца паміж сабой марфалагічна і біялагічна.

**ГІПЕРМЕТРАПІ́Я** (ад *гіпер-* + гр. metron = мера + ops, opos = вока) — дальназоркасць.

**ГІПЕРНЕФРО́МА** (ад *гіпер-* + гр. nephros = нырка + *-ома*) — пухліна, якая развіваецца з клетак кары наднырачнай залозы.

**ГІПЕРО́НЫ** [ад *гіпер-* + *(элект)рон*] — няўстойлівыя элементарныя часціцы, маса якіх большая за масу *нейтрона*.

**ГІПЕРПАЛЯРЫЗА́ЦЫЯ** (ад *гіпер-* + *палярызацыя*) — павелічэнне розніцы патэнцыялаў на паверхневых мембранах нервовых і мышачных клетак пры памяншэнні іх пранікальнасці для іонаў натрыю і калію.

**ГІПЕРПАРАТЫРЭО́З** (ад *гіпер-* + гр. para = каля + *тырэоз*) — захворванне чалавека або жывёл, выкліканае павышанай функцыяй прышчытападобных залоз (параўн. *гіпапаратырэоз*).

**ГІПЕРПІТУІТАРЫ́ЗМ** [ад *гіпер-* + лац. (grandula) pituitaria = гіпофіз] — павышэнне функцыі *гіпофіза*, якое прыводзіць да разладу росту і развіцця арганізма (*гігантызму, акрамегаліі* і інш.); параўн. *гіпапітуітарызм*.

**ГІПЕРПЛАЗІ́Я** (ад *гіпер-* + гр. plasis = утварэнне) — празмернае разрастанне тканкі жывёльнага або расліннага арганізма ў выніку паталагічнага размнажэння клетак; разнавіднасць *гіпертрафіі* (параўн. *аплазія, гіпаплазія*).

**ГІПЕРРЭАЛІ́ЗМ** (англ. hyperrealism, ад гр. hyper = над, звыш + англ. realism = рэалізм) — плынь у

амерыканскім і заходнееўрапейскім мастацтве 70-х гг. 20 ст., якая выяўляла сябе як разнавіднасць *натуралізму*.

**ГІПЕРСАКРЭ́ЦЫЯ** (ад *гіпер-* + *сакрэцыя*) — празмернае выдзяленне *сакрэту*[2] якой-н. залозай, звязанае з павышанай функцыянальнай актыўнасцю залозы (параўн. *гіпасакрэцыя*).

**ГІПЕРСЕКСУА́ЛЬНАСЦЬ** (ад *гіпер-* + *сексуальнасць*) — значна павышаная палавая схільнасць.

**ГІПЕРСЕНСІБІЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *гіпер-* + *сенсібілізацыя*) — павышэнне адчувальнасці да святла фотаматэрыялу шляхам прамывання яго ў вадзе або спецыяльных растворах.

**ГІПЕРСО́МНІЯ** (ад *гіпер-* + лац. somnus = сон) — павышаная санлівасць як вынік парушэння рэгуляцыі сну і адпачынку пры арганічных парушэннях нервовай сістэмы і некаторых саматычных захворваннях.

**ГІПЕРСО́НІК** (ад *гіпер-* + лац. sonus = гук) — звышгукавы самалёт, скорасць якога складае некалькі тысяч кіламетраў у гадзіну.

**ГІПЕРСТЭ́Н** (ад *гіпер-* + гр. sthenos = моцнасць) — пародаўтваральны мінерал класа сілікатаў з групы рамбічных *піраксенаў* цёмна-бурага колеру.

**ГІПЕРТАНІ́ЧНЫ** (ад *гіпертанія*) — 1) які мае павышаны ціск; г. р а с т в о р — раствор, асматычны ціск якога вышэйшы, чым у клетках жывёльных і раслінных арганізмаў (параўн. *гіпатанічны*); 2) які мае адносіны да *гіпертаніі* 2 (г-ая хвароба).

**ГІПЕРТАНІ́Я** (ад *гіпер-* + *-танія*) — 1) павышэнне крывяногa ціску (параўн. *гіпатанія*); 2) хвароба, якая выражаецца ў павышэнні крывяного ціску ў артэрыяльных сасудах.

**ГІПЕРТРАФІ́Я** (ад *гіпер-* + *-трафія*) — 1) павелічэнне аб'ёму якога-н. органа ці тканкі цела ў выніку змянення іх функцыі або хваробы (параўн. *гіпатрафія*); 2) *перан.* празмернае развіццё чаго-н. (напр. г. чуллівасці).

**ГІПЕРТРЫХО́З** (ад *гіпер-* + гр. thriks, -ichos = волас) — празмернае развіццё валасянога покрыва на ўчастках скуры, звычайна вольных ад валасоў, напр. на твары ў жанчын або на спіне ў мужчын; валасатасць.

**ГІПЕРТЫРЭО́З** (ад *гіпер-* + *тырэоз*) — павышэнне функцыі шчытападобнай залозы, якое назіраецца пры некаторых захворваннях (*тырэатаксікозе*) і фізіялагічных станах, напр. пры цяжарнасці, клімаксе і інш. (параўн. *гіпатырэоз*).

**ГІПЕРТЭЛІ́Я** (ад *гіпер-* + гр. telos = мяжа) — тое, што і *гіпермарфоз*.

**ГІПЕРТЭНЗІ́Н** (ад *гіпер-* + лац. tensus = напружаны) — тое, што і *ангіятэнзін*.

**ГІПЕРТЭНЗІ́Я** (ад *гіпер-* + лац. tensio = напружанне) — тое, што і *гіпертанія*, але часцей ужываецца для абазначэння павышэння артэрыяльнага крывяного ціску (параўн. *гіпатэнзія*).

**ГІПЕРТЭРМІ́Я** (ад *гіпер-* + *-тэрмія*) — перагграванне арганізма; штучнае павышэнне тэмпературы цела, абумоўленае знешнімі

фізічнымі фактарамі (параўн. *гіпатэрмія*).

**ГІПЕРУРБАНІЗА́ЦЫЯ** (ад *гіпер-* + *урбанізацыя*) — канцэнтрацыя насельніцтва у буйных гарадах і гарадскіх *агламерацыях*, калі люднасць настолькі вялікая, што дадатныя бакі урбанізацыі засланяюцца сур'ёзнымі недахопамі (пагаршэнне экалагічных умоў, транспартная напружанасць і г. д.).

**ГІПЕРФАЛАНГІ́Я** (ад *гіпер-* + гр. phalanks, -ngos = сустаў пальца) — павялічаная супраць нормы колькасць *фаланг* у пальцах, уласцівая некаторым марскім паваночным, напр. *іхтыязаўрам, плезіязаўрам*, кітападобным (параўн. таксама *гіпердактылія*).

**ГІПЕРФРАГМЕ́НТЫ** (ад *гіпер-* + *фрагмент*) — часцінкі атамнага ядра, якія ўзнікаюць у час ядзернай рэакцыі пры высокіх энергіях і змяшчаюць побач з *нуклонамі* яшчэ і *гіперон* пэўнага тыпу.

**ГІПЕРФУ́НКЦЫЯ** (ад *гіпер-* + *функцыя*) — празмерная дзейнасць якога-н. органа, тканкі, сістэмы, што прыводзіць да парушэння жыццядзейнасці арганізма (процілл. *гіпафункцыя*).

**ГІПЕРХРАМІ́Я** (ад *гіпер-* + *-храмія*) — павелічэнне інтэнсіўнасці ўбірання святла фарбавальнікам пад уздзеяннем розных фактараў (параўн. *гіпахрамія*).

**ГІПЕРЭМІ́Я** (ад *гіпер-* + *-эмія*) — прыліў крыві да якога-н. органа або часткі цела.

**ГІПЕРЭСТЭЗІ́Я** (ад *гіпер-* + гр. aisthesis = адчуванне) — павышаная адчувальнасць скуры да звычайных знешніх раздражняльнікаў (параўн. *гіпестэзія*).

**ГІПЕСТЭЗІ́Я** (ад *гіпа-* + гр. aisthesis = адчуванне) — паніжаная адчувальнасць скуры да звычайных знешніх раздражняльнікаў (параўн. *гіперэстэзія*).

**ГІПНАЛО́ГІЯ** (ад *гіпноз* + *-логія*) — навука аб *гіпнозе*.

**ГІПНАПЕ́ДЫЯ** (ад гр. hypnos = сон + *-педыя*) — навучанне ў час сну.

**ГІПНАТЫЗАВА́ЦЬ** (фр. hypnotiser, ад гр. hypnos = сон) — 1) выклікаць *гіпноз* шляхам унушэння; 2) *перан.* расслабляць чыю-н. волю, браць пад свой уплыў.

**ГІПНАТЫ́ЗМ** (фр. hypnotisme, ад гр. hypnos = сон) — сукупнасць з'яў, якія ўзнікаюць пры *гіпнозе*.

**ГІПНАТЫ́ЧНЫ** (гр. hypnotikos) — 1) які мае адносіны да *гіпнозу* (напр. г. сон); 2) *перан.* здольны моцна ўздзейнічаць на каго-н. (напр. г-ая сіла музыкі).

**ГІПНАТЭРАПІ́Я** (ад *гіпноз* + *тэрапія*) — тэрапія, якая ажыццяўляецца метадам *гіпнатычнага* ўздзеяння.

**ГІПНО́З** (фр. hypnose, ад hypnos = сон) — 1) стан, падобны на сон, які выклікаецца ўнушэннем і суправаджаецца падпарадкаваннем волі спячага таму, хто ўсыпляе; *перан.* сіла ўплыву, уздзеяння, уласцівая каму-н.

**ГІПНО́ЛАГ** (ад *гіпноз* + *-лаг*) — спецыяліст па *гіпнозу*, урач, які лечыць гіпнозам.

**ГІ́ПНУМ** (н.-лац. hypnum) — лістасцябловы мох сям. гіпнавых, які расце ў лясах на гнілой драўніне, глебе, камянях.

# Г

**ГІПО́МА** (н.-лац. hypoma) — павук сям. павукоў-пігмеяў, які жыве на высокай траве і кустах.

**ГІПО́ПУС** (гр. hypopos = які мае знізу ногі) — асобая стадыя *німфы* ў свірнавых кляшчоў, здольная ўпадаць пры неспрыяльных умовах у стан спакою.

**ГІПО́ТЭЗА** (гр. hypothesis = меркаванне) — 1) навуковае меркаванне, пэўнасць якога яшчэ не даказана доследным шляхам; 2) усякае меркаванне, дапушчэнне, здагадка.

**ГІПО́ФІЗ** (гр. hypophysis = адростак) — залоза ўнутранай *сакрэцыі* ў пазваночных жывёл і чалавека, размешчаная пад галаўным мозгам, якая ўплывае на рост і развіццё арганізма; ніжні мазгавы прыдатак.

**ГІПС** (гр. gypsos = мел, гліна) — 1) мінерал класа *сульфатаў*, вапністае рэчыва белага колеру, якое выкарыстоўваецца ў будаўніцтве, лепцы і медыцыне; 2) скульптурны злепак з гэтага рэчыва; 3) хірургічная павязка з гэтага рэчыва.

**ГІПСАБЕТО́Н** (ад *гіпс* + *бетон*) — бетон на аснове гіпсавых вяжучых матэрыялаў.

**ГІПСАМЕ́ТР** (ад гр. hypsos + вышыня + *-метр*) — тое, што і *гіпсатэрмометр*.

**ГІПСАМЕ́ТРЫЯ** (ад гр. hypsos = вышыня + *-метрыя*) — раздзел *геадэзіі*, які займаецца вызначэннем вышыні мясцовасці і абазначэннем на геаграфічных картах рэльефу зямной паверхні пры дапамозе гарызанталей.

**ГІПСАСІ́НГА** (н.-лац. hypsosinga) — павук-крыжавік, які трапляецца на лясных палянах, па берагах азёр.

**ГІПСАТЭРМО́МЕТР** (ад гр. hypsos = вышыня + *тэрмометр*) — прыбор для вызначэння вышыні пункта над узроўнем мора па тэмпературы кіпення вады, што залежыць ад атмасфернага ціску.

**ГІПСАХРО́МНЫ** (ад гр. hypsos = вышыня + chroma = колер); г. э ф е к т — змена афарбоўкі арганічных злучэнняў пры змяненні іх хімічнай будовы ў бок павышэння колеру — пераход ад зялёнага праз сіні, фіялетавы, чырвоны, аранжавы да жоўтага колеру (параўн. *батахромны*).

**ГІПУРА́ЛІІ** (ад *гіпа-* + гр. ura = хвост) — расшыраныя асцістыя адросткі апошніх хваставых пазванкоў касцістых рыб, якія падтрымліваюць прамяні хваставога плаўніка.

**ГІПУРЫ́ТЫ** (ад гр. hippuris = які мае конскі хвост) — гіганцкія марскія *малюскі* класа двухстворкавых з канічнай ракавінай, падобнай да хваста каня, якія існавалі ў мезазоі.

**ГІПЮ́Р** (фр. guipure) — карункі з выпухлым узорам.

**ГІРА-** (гр. gyros = кола, круг) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «кругавы рух».

**ГІРАА́ЗІМУТ** (ад *гіра-* + *азімут*) — прыбор для вызначэння вуглоў змены курсу і вуглоў павароту аб'екта вакол вертыкальнай восі.

**ГІРААРБІ́ТА** (ад *гіра-* + *арбіта*) — гіраскапічны прыбор для вызначэння вугла адхілення ад

плоскасці арбіты штучнага спадарожніка Зямлі.

**ГІРААРБІТА́НТ** (ад *гіра-* + *арбіта*) — тое, што і *гіраарбіта*.

**ГІРААРЫЕНТА́ТАР** (ад *гіра-* + лац. oriens, -ntis = Усход) — гіраскапічны прыбор для вызначэння месца размяшчэння аб'екта і *параметраў* яго руху; выкарыстоўваецца ў авіяцыі, касманаўтыцы, мараплаванні.

**ГІРАБІНАРМА́ЛЬ** (ад *гіра-* + *бінармаль*) — тое, што і *гіраарбіта*.

**ГІРАВЕРТЫКА́ЛЬ** (ад *гіра-* + *вертыкаль*) — прыбор для вызначэння напрамку сапраўднай вертыкалі або плоскасці гарызонта, а таксама вуглоў нахілу аб'екта да гэтай плоскасці.

**ГІРАГАРЫЗО́НТ** (ад *гіра-* + *гарызонт*) — тое, што і *гіравертыкаль*.

**ГІРАДАКТЫЛІ́ДЫ** (н.-лац. gyrodactylidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *манагеней; эктапаразіты* прэснаводных рыб.

**ГІРАДО́Н** (н.-лац. gyrodon) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. балетавых, які расце на глебе ў лясах; адзін з відаў — падалешнік.

**ГІРАДЭ́МПФЕР** (ад *гіра-* + *дэмпфер*) — гіраскапічны прыбор для змяншэння вуглавых адхіленняў аптычнай восі кіназдымальнага апарата пры здымках з рухомых аб'ектаў (аўтамашыны, катэра).

**ГІРАКАТЫЛІ́ДЫ** (н.-лац. gyrocotylida) — клас плоскіх чарвей; арганізмы з прадаўгаватым целам даўжынёй ад 2 да 20 см з пярэдняй прысоскай і задняй разеткападобнай мацавальнай лейкай; паразіты глыбакаводных рыб.

**ГІРАКО́МПАС** (ад *гіра-* + *компас*) — компас, у якім ролю магнітнай стрэлкі выконвае *гіраскоп*.

**ГІРАМАГНІ́ТНЫ** (ад *гіра-* + *магнітны*); г - а я ч а с т а т а — частата вярчэння па акружнасці зараджанай часцінкі ў іанізаваным газе вакол сілавых ліній пастаяннага магнітнага поля; г - ы я з ' я в ы — магнітамеханічныя з'явы ў ферамагнетыках, якія паказваюць на існаванне сувязі паміж магнітнымі і механічнымі момантамі электронаў у атамах і атамаў у цэлым.

**ГІРАПО́Р** (н.-лац. gyroporus) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. балетавых, які расце на глебе ў лясах; адзін з відаў — сіняк.

**ГІРАСІ́ГМА** (н.-лац. gyrisigma) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. навікулавых, якая пашырана ў *бентасе* прэсных, саланаватых і марскіх вадаёмаў.

**ГІРАСКО́П** (ад *гіра-* + *-скоп*) — махавік прыбора (ваўчок) на свабоднай восі вярчэння, які захоўвае нязменнае становішча пры ўсякім змяненні становішча самога прыбора.

**ГІРАСТАБІЛІЗА́ТАР** (ад *гіра-* + *стабілізатар*) — гіраскапічнае прыстасаванне для *стабілізацыі* аб'ектаў або прылад, а таксама для вызначэння іх вуглавых адхіленняў.

**ГІРАСТА́Т** (ад *гіра-* + *-стат*) — тое, што і *гіраскоп*.

**ГІРА́ТАР** (англ. gyrator, ад гр. gyros = круг) — высокачастотны прыбор, у якім змена фаз электрамагнітных хваляў, што пашыраюц-

ца ў процілеглых напрамках, адрозніваецца на 180°.

**ГІРАТАХО́МЕТР** (ад *гіра-* + *тахометр*) — гіраскапічнае прыстасаванне для вызначэння вуглавой хуткасці аб'екта, дзе ўстаноўлена гэта прыстасаванне.

**ГІРАТЭАДАЛІ́Т** (ад *гіра-* + *тэадаліт*) — гіраскапічнае візірнае прыстасаванне для арыентацыі пры пракладцы шахт і тунэляў.

**ГІРЛЯ́НДА** (іт. ghirlanda) — 1) сплеценыя ў выглядзе стужкі кветкі і зелень; 2) *архіт.* арнамент, узор у выглядзе перапляценняў кветак і зеляніны.

**ГІРНЕЁЛА** (н.-лац. hirneola) — *базідыяльны* грыб сям. аўрыкулярыевых, які развіваецца на адмерлых галінках і пнях лісцевых парод.

**ГІРО́БУС** [ад *гіра-* + *(омні)бус*] — транспартны сродак для перавозкі пасажыраў на кароткія адлегласці, які рухаецца за кошт кінетычнай энергіі, што накапляецца ў махавіку.

**ГІ́РСА** (літ. girsa) — пустазелле сям. злакавых; каласоўнік.

**ГІРСУТЫ́ЗМ** (ад лац. hirsutis = валасаты) — мужчынскі тып валасянога покрыва ў жанчын, пераважна як праяўленне *вірылізму*.

**ГІРУДАТЭРАПІ́Я** (ад лац. hirudo = п'яўка + *тэрапія*) — лячэбнае выкарыстанне медыцынскіх п'явак.

**ГІРУДЗІ́Н** (ад лац. hirudo, -dinis = п'яўка) — рэчыва, якое знаходзіцца ў слінных залозах медыцынскай п'яўкі і пры ўвядзенні ў чалавечы арганізм перашкаджае згусанню крыві.

**ГІРШФЕ́ЛЬДЫЯ** (н.-лац. hirschfeldia) — травяністая расліна сям. капуставых з ліраподобным лісцем і бледна-жоўтымі кветкамі, пашыраная пераважна ў Міжземнамор'і; на Беларусі заносная, пустазелле.

**ГІСТА-** (гр. histos = тканка) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «тканка жывёльнага арганізма».

**ГІСТАГЕНЕ́З** (ад *гіста-* + *-генез*) — сукупнасць працэсаў, якія забяспечваюць узнікненне, існаванне і аднаўленне тканак жывёльных арганізмаў.

**ГІСТАГЕ́ННЫ** (ад *гіста-* + *-генны*) — які паходзіць з тканкі, тканкавы.

**ГІСТАГРА́МА** (ад гр. histos = слуп +*-грама*) — графічны паказ статыстычных размеркаванняў якой-н. велічыні па колькаснай прымеце.

**ГІСТАЛІЗА́ТЫ** (ад *гіста-* + *лізаты*) — тое, што і *лізаты* 1.

**ГІСТАЛО́ГІЯ** (ад *гіста-* + *-логія*) — навука пра будову, развіццё і функцыі тканак чалавека і жывёл; уключае *гістафізіялогію* і *гістахімію*.

**ГІСТАМІ́Н** (ад *гіста-* + *аміны*) — тканкавы *гармон*, які належыць да біягенных амінаў і мае моцнае біялагічнае дзеянне.

**ГІСТАПАТАЛО́ГІЯ** (ад *гіста-* + *паталогія*) — раздзел паталагічнай *анатоміі*, які вывучае мікраскапічныя працэсы, што адбываюцца ў тканках пры розных захворваннях.

**ГІСТАПРАТЭ́КТАРЫ** (ад *гіста-* + *пратэктар*) — лекавыя прэпараты, якія зніжаюць пашкоджанне

слізістай страўніка фізічнымі і хімічнымі фактарамі.

**ГІСТАРЫЁГРАФ** (ад *гісторыя* + *-граф*) — 1) спецыяліст у галіне *гістарыяграфіі*; 2) *уст.* тое, што і *гісторык*.

**ГІСТАРЫ́ЗМ** (ад гр. historikos = гістарычны) — 1) дыялектычны прынцып вывучэння і ацэнкі прадметаў і з'яў у працэсе іх узнікнення і развіцця ў канкрэтна гістарычных умовах; 2) слова, што выйшла з паўсядзённага ўжытку ў сувязі са знікненнем рэаліі або паняцця, якое яно абазначала.

**ГІСТАРЫ́ЧНЫ** (гр. historikos) — 1) які належыць да *гісторыі*, важны з пункту погляду ролі, якую выконваў ці выконвае ў развіцці жыцця грамадства або прыроды (напр. г. працэс, г-ая падзея); 2) які рэальна існаваў, не выдуманы (напр. г. факт); 3) звязаны з пэўным этапам у развіцці грамадства, не вечны, пераходны (напр. г-ая катэгорыя); 4) які адносіцца да часу, ад якога захаваліся рэчавыя помнікі (напр. г-ая пара жыцця народа); 5) які апіраецца на гісторыю як на метад пазнання, даследавання, вывучае з'явы ў іх паслядоўным развіцці; 6) які апісвае людзей або падзеі мінулага (напр. г. раман).

**ГІСТАРЫЯГРА́ФІЯ** (ад *гісторыя* + *-графія*) — 1) гісторыя гістарычнай навукі ў цэлым, а таксама сукупнасць даследаванняў, прысвечаных вывучэнню пэўнага гістарычнага перыяду ці распрацоўцы пэўнай гістарычнай тэмы; 2) навуковая дысцыпліна, якая вывучае гісторыю гістарычнай навукі.

**ГІСТАФІЗІЯЛО́ГІЯ** (ад *гіста-* + *фізіялогія*) — раздзел *гісталогіі*, які вывучае механізмы функцый тканак і іх комплексаў у жывёльным арганізме.

**ГІСТАХІ́МІЯ** (ад *гіста-* + *хімія*) — раздзел *гісталогіі*, які вывучае хімічныя ўласцівасці тканак жывёл і раслін.

**ГІСТО́ЛАГ** (ад *гіста-* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *гісталогіі*.

**ГІСТО́ЛІЗ** (ад *гіста-* + *-ліз*) — разбурэнне тканак арганізма *ферментамі* тканкавага або бактэрыяльнага паходжання.

**ГІСТО́НЫ** (ад гр. histos = тканка) — група простых бялкоў (*пратэінаў*), якія змяшчаюцца ў ядрах большасці клетак жывёл і раслін.

**ГІСТО́РЫК** (лац. historicus, ад гр. historikos) — 1) спецыяліст па *гісторыі*; 2) выкладчык гісторыі.

**ГІСТО́РЫЯ** (лац. historia, ад гр. historia) — 1) працэс развіцця прыроды і грамадства; 2) навука аб развіцці чалавечага грамадства (напр. г. Беларусі); 3) навука, якая вывучае паслядоўнае развіццё якой-н. галіны ведаў (напр. г. літаратуры, г. тэатра); 4) апавяданне (напр. забаўная г.); 5) здарэнне, выпадак (напр. непрыемная г.).

**ГІСТРЫЁН** (лац. histrio, -onis = акцёр) — 1) вандроўны *камедыянт* у Стараж. Рыме; 2) вандроўны спявак, музыкант, акцёр, акрабат у сярэдневяковай Еўропе (параўн. *жанглёр* 1, *шпільман*).

**ГІСТЫДЗІ́Н** (ад гр. histos = тканка + eidos = выгляд) — амінакіслата, якая ўваходзіць у склад большасці бялкоў; у арганізме сінтэзу-

ецца з *адэніну* і *глютацыёну*, пры распадзе ўтварае *гістамін*.

**ГІСТЫЯЦЫ́ТЫ** (ад гр. histos = тканка + *-цыты*) — клеткі злучальнай тканкі ў пазваночных жывёл і чалавека, якія выконваюць абарончую функцыю ў арганізме, ператвараючыся пры запаленчай рэакцыі арганізма ў *макрафагі*.

**ГІСТЭРАГРА́ФІЙ** (н.-лац. hysterographium) — сумчаты грыб сям. гістэрыевых, які развіваецца на галінках ясеня.

**ГІСТЭРАЛО́ГІЯ** (ад гр. hystera = пасля + *-логія*) — тое, што і *гістэран-пратэран*.

**ГІ́СТЭРАН-ПРА́ТЭРАН** (ад гр. hysteron = згодна + proteron = раней, перад) — стылістычны прыём, калі парушаецца лагічная паслядоўнасць з'яў, што апісваюцца.

**ГІСТЭРАСКАПІ́Я** (ад гр. hystera = матка + *-скапія*) — *мед.* метад абследавання ўнутранай поласці маткі пры дапамозе *гістэраскопа*.

**ГІСТЭРАСКО́П** (ад гр. hystera = матка + *-скоп*) — медыцынская прылада для агляду ўнутранай поласці маткі.

**ГІСТЭРЭ́ЗІС** (гр. hysteresis = адставанне) — *фіз.* адставанне ў часе рэакцыі цела ад знешняга ўздзеяння, што выклікае яе; адрозніваюць г. магнітны, дыэлектрычны, пругкі, тэрмамагнітны і інш.

**ГІТ** (англ. heat) — 1) *сп.* прабег каня на кароткую дыстанцыю; м ё р т в ы г. — прыход коней да фінішу адначасова — галава да галавы; 2) адзіночны забег ці заезд на пэўную дыстанцыю (у лёгкай атлетыцы, мота- і веласпорце).

**ГІ́ТАВЫ** (гал. geitouw) — снасці рухомага *такелажу* судна, прызначаныя для згортвання парусоў падцягваннем іх да мачты або рэі.

**ГІТА́РА** (ісп. guitarra, ад гр. kithara) — струнны шчыпковы музычны інструмент з доўгім грыфам.

**ГІФАЛО́МА** (н.-лац. hypholoma) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. страфарыевых, які расце на пнях, дрэвах, зрэдку на глебе ў лясах, парках; неядомы.

**ГІФАМІЦЭ́ТЫ** (ад гр. hyphe = тканка + *-міцэты*) — група недасканалых грыбоў класа *дэйтэраміцэтаў*, якая размнажаецца *канідыямі* і выклікае многія хваробы ў раслін і жывёл, прыносячы значныя страты сельскай і лясной гаспадарцы.

**ГІ́ФЫ** (гр. hyphe = тканіна, павуціна) — ніткападобныя ўтварэнні, якія ўтвараюць грыбніцу (*міцэлій*) і пладовыя целы грыбоў.

**ГІ́ЦАЛЬ** (польск. hycel, ад ням. дыял. hitzel) — нягоднік, мучыцель (даўней — жывадзёр, скуралуп).

**ГІ́ЦІЯ** (шв. gyttja = глей, ціна) — азёрныя адклады з рэшткаў мікраарганізмаў, раслін і мінеральных рэчываў.

**ГІ́ЧКА** (англ. gig) — тое, што і *гіг*.

**ГІЯЛАПЛА́ЗМА** (ад гр. healos = шкло + *плазма*) — частка *цытаплазмы* жывёльных і раслінных клетак, якая акружае ядро і змяшчае прадукты ўнутрыклетачнага *метабалізму*.

**ГІЯЛАРАФІ́ДЫУМ** (н.-лац. hyaloraphidium) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. аацысціевых,

якая пашырана ў *планктоне* прэсных і саланаватых вадаёмаў.

**ГІЯЛАТЭ́КА** (н.-лац. hyalotheca) — ніткаватая зялёная водарасць сям. касмарыевых, якая засяляе стаячыя *дыстрофныя* вадаёмы.

**ГІЯЛЕ́КТА** (н.-лац. gualecta) — накіпны лішайнік сям. гіялектавых; пашыраны па ўсім зямным шары; на Беларусі трапляецца адзін від на кары лісцевых дрэў, на старых пнях.

**ГІЯЛІ́НАВЫ** (гр. hyalinos) — шклопадобны, празрысты (напр. г. храсток).

**ГІЯЛІНО́З** (ад гр. hyalos = шкло) — змена тканак арганізма, якая характарызуецца з'яўленнем па-за клеткамі тканак аднародных паўпразрыстых шчыльных бялковых мас; назіраецца пры некаторых хваробах, напр. *калагенозах*.

**ГІЯЛІ́Т** (ад гр. hyalos = шкло + *-літ*) — мінерал класа *сілікатаў*, празрыстая разнавіднасць *апалу*.

**ГІЯЛО́БРЫЯН** (н.-лац. hyalobryon) — аднаклетачная або каланіяльная залацістая водарасць сям. лепахраманадавых, якая пашырана пераважна ў чыстых водах.

**ГІЯЛУРАНІДА́ЗА** [ад гр. hyalos = шкло + uron = мача + *(дыяст)азы*] — *фермент*, які каталізуе гідроліз *гіялуронавай* кіслаты.

**ГІЯЛУРО́НАВЫ** (ад гр. hyalos = шкло + uron = мача); г-ая кіслата — *поліцукрыд*, які ўваходзіць у склад пазаклетачнага асноўнага рэчыва злучальнай тканкі пазваночных жывёл; змяшчаецца ў клетачных абалонках, шклопадобным целе вока і інш.

**ГІЯМАНДЫБУЛЯ́РЭ** (ад лац. hio = разяўляю рот + *мандыбулы*) — верхнія парныя косці пад'язычнай дугі ў рыб і іншых пазваночных.

**ГІЯСТЫЛІ́Я** (ад лац. hio = разяўляю рот + гр. stylos = слупок) — тып сучлянення сківічнага апарата з восевым чэрапам у большасці рыб.

**ГІЯСЦЫЯМІ́Н** (ад гр. hyoskyamos = блёкат) — *алкалоід*, які змяшчаецца ў блёкаце і іншых раслінах сям. паслёнавых; выкарыстоўваецца ў медыцыне.

**ГІЯ́ТУС** (лац. hiatus = шчыліна) — *лінгв.* збег двух або некалькіх галосных гукаў у адным слове або на мяжы слоў.

**ГІЯЦЫ́НТ** (лац. hyacinthus, ад гр. hyakinthos) — 1) травяністая расліна сям. лілейных з прадаўгаватым лісцем і пахучымі кветкамі; 2) мінерал, каштоўны камень жоўтага, чырвонага або ружовага колеру.

**ГЛАБА́ЛЬНЫ** (фр. global, ад лац. globus = шар) — усеагульны, усеабдымны, сусветны (напр. г. падыход, г-ае рашэнне); г - а я р а - к е т а — ракета, здольная данесці баявы зарад у любы пункт зямнога шара.

**ГЛАБІГЕРЫ́НЫ** (ад лац. globus = шар + gerere = насіць) — група прасцейшых жывёл атрада *фамініфераў*, сустракаюцца ў *планктоне* пераважна цёплых мораў; іх вапняковыя ракавіны ўтвараюць асноўную частку акіянскага глею.

**ГЛАБІ́Н** (ад лац. globus = шар) — бялковая часта *гемаглабіну*.

**ГЛАБО́ІДНЫ** (ад лац. globus = шар + -оід); г - а я п е р а д а -

ч а — зубчата-вінтавая перадача, разнавіднасць чарвячнай перадачы, у якой чарвяк мае ўвагнутую форму.

**ГЛАБО́ІДЫ** (ад лац. globus = шар + *-оід*) — уключэнні ў алейранавыя зерні многіх раслін; маюць выгляд шарападобных або гронкападобных цельцаў.

**ГЛАБУЛІ́НЫ** (ад лац. globulus = шарык) — найбольш пашыраная ў прыродзе група простых жывёльных і раслінных бялкоў (*пратэінаў*).

**ГЛАБУЛЯ́РНЫ** (фр. globulaire, ад лац. globulus = шарык) — шарападобны.

**ГЛАДЫЁЛУС** (лац. gladiolus = невялікі меч) — клубнецыбульная травяністая расліна сям. касачовых з мечападобным лісцем і буйнымі кветкамі розных колераў у коласападобных суквеццях; пашырана ў Еўразіі, Афрыцы; дэкаратыўная; шпажнік.

**ГЛАДЫЯ́ТАР** (лац. gladiator) — спецыяльна абучаны раб ці ваеннапалонны, які ў старажытнарымскі перыяд выкарыстоўваўся для ўзброенай барацьбы на арэне цырка.

**ГЛАЗЕ́Т** (ад фр. glacé = глянцаваны) — парча з каляровай шаўковай асновай і вытканымі на ёй залатымі або сярэбранымі ўзорамі.

**ГЛАЗУ́РА** (польск. glazura, ад ням. Glasur) — 1) шклопадобны сплаў для пакрыцця керамічных вырабаў; паліва; 2) застылы слой цукровага сіропу на мучных вырабах.

**ГЛАЗУРАВА́ЦЬ** (ням. glasieren) — пакрываць *глазурай*.

**ГЛАКЕНШПІ́ЛЬ** (ням. Glockenspiel, ад Glocke = званочак + Spiel = ігра) — ударны музычны інструмент, гукі якога імітуюць званочкі.

**ГЛАКСІ́НІЯ** (н.-лац. gloxinia, ад P.Gloxin = прозвішча ням. батаніка 18 ст.) — травяністая расліна сям. геснерыевых з апушаным лісцем і буйнымі кветкамі розных колераў, пашыраная ў Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ГЛАМЕРУЛАНЕФРЫ́Т** (ад лац. glomus, -meris = клубок + *нефрыт*) — тое, што і *нефрыт*.

**ГЛАМЕРЭ́ЛА** (н.-лац. glomerella) — сумчаты грыб сям. дыяпортавых, які развіваецца на пладах яблыні, грушы, струках фасолі.

**ГЛА́НДА** (фр. glande, ад лац. glans, -ndis = жолуд) — тое, што і *міндаліна* 2.

**ГЛАРЫФІКА́ЦЫЯ** (лац. glorificatio = прадстаўленне) — узвялічванне, узнясенне, усхваленне, спяванне дыфірамбаў.

**ГЛАСАЛА́ЛІЯ** (ад гр. glossa = мова + lalia = балбатня, пустаслоўе) — 1) уласцівае культу некаторых рэлігійных *сект* выкрыкванне ў стане экстазу бязглуздых слоў, якое ўспрымаецца сектантамі як «богавяшчанне»; 2) *мед.* разлад маўлення.

**ГЛАСАЛГІ́Я** (ад гр. glossa = мова + algos = боль) — боль, паколванне, аняменне ў языку, якое часам распаўсюджваецца на губу, дзясны, шчокі, паднябенне, глотку.

**ГЛАСАПТЭ́РЫС** (ад гр. glossa = язык + pteris = папараць) — вымерлая расліна класа насенных па-

парацей аддзела голанасенных, якая існавала ў *палеазоі*.

**ГЛАСА́РЫЙ** (лац. glossarium) — тлумачальны слоўнік малавядомых і ўстарэлых слоў да якога-н. тэксту, звычайна старажытнага.

**ГЛАСА́ТАР** (с.-лац. glossator) — 1) тлумачальнік малавядомых і ўстарэлых слоў і выразаў, якія сустракаюцца ў якім-н. юрыдычным помніку; 2) асоба, якая тлумачыць законы або судовыя рашэнні.

**ГЛАСЕМА́ТЫКА** (ад гр. glossa = мова + sema = знак) — лінгвістычная тэорыя, якая арыентуецца на схематызаванае апісанне моўнай структуры і абстрагуецца ад канкрэтна-гукавога і канкрэтна-семантычнага аспектаў мовы.

**ГЛА́СІС** (фр. glacis) — ахоўны земляны насып перад знешнім ровам крэпасці або ўмацавання, нахілены ў бок праціўніка.

**ГЛАСІ́Т** (ад гр. glossa = язык) — запаленне языка ў чалавека, выкліканае *стаматытам*, захворваннямі крыві, *авітамінозамі*.

**ГЛАТАГО́НІЯ** (ад гр. glotta = мова + *-гонія*) — 1) паходжанне мовы; 2) раздзел мовазнаўства, які вывучае паходжанне і развіццё мовы.

**ГЛАТАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад гр. glotta = гартань) — спосаб вымаўлення гукаў мовы, пры якім у якасці актыўнага органа, што стварае перашкоду паветранаму струменю, выступае гартань.

**ГЛАТАЛО́ГІЯ** (ад гр. glotta = мова + *-логія*) — *лінгвістыка*, мовазнаўства, навука аб мове.

**ГЛА́ЎБЕРАЎ** [ад ням. I.Glauber = прозвішча ням. хіміка (1604—1670)]; г - а  с о л ь — тое, што і *мірабіліт*.

**ГЛАЎКАНІ́Т** (ад гр. glaukos = блакітна-зялёны) — мінерал класа *сілікатаў* зялёнага колеру; выкарыстоўваецца як мінеральная фарба, як калійнае ўгнаенне і для змякчэння жорсткасці вады.

**ГЛАЎКАФА́Н** (ад гр. glaukos = блакітна-зялёны + phaino = паказваюся) — мінерал класа сілікатаў, групы *амфіболаў* цёмна-сіняга колеру, які трапляецца пераважна ў метамарфізаваных сланцах.

**ГЛАЎКАЦЫ́СЦІС** (н.-лац. glaucocystis) — аднаклетачная або каланіяльная зялёная водарасць сям. аацысціевых, якая пашырана ў азёрах.

**ГЛАЎКО́МА** (гр. glaukoma = бяльмо) — хвароба вачэй, пры якой павышаецца ўнутраны ціск і зніжаецца зрок.

**ГЛАХІ́ДЫЙ** (ад гр. glochis = наканечнік стралы) — лічынка некаторых прэснаводных пласцініставжабравых *малюскаў*.

**ГЛЕ́БА** (лац. gleba = грудка зямлі) — 1) верхні пласт зямлі, на якім расце расліннасць; 2) *перан.* аснова, апора.

**ГЛЕ́ЗЕР** (англ. glazer) — тое, што і *каландр*.

**ГЛЕЙ** (англ. gley) — 1) слой глебы светлай афарбоўкі, які ўтварыўся пад уплывам жыццядзейнасці анаэробных бактэрый; 2) адклады на дне вадаёмаў, у склад якіх уваходзяць найдрабнейшыя часцінкі мінеральных і арганічных рэчываў.

**ГЛЕЙКО́МЕТР** (ад гр. gleukos = салодкае віно + *-метр*) — прыбор

для вызначэння колькасці цукру ў вінах.

**ГЛЕНАДЫ́НІУМ** (н.-лац. glenodinium) — аднаклетачная *пірафітавая* водарасць сям. перыдыніевых, якая пашырана ў *планктоне* прэсных, саланаватых і марскіх вадаёмаў.

**ГЛЕ́ТЧАР** (ням. Gletscher, ад лац. glacies = лёд) — ляднік.

**ГЛЕЯКА́ПСА** (н.-лац. gloeocapsa) — аднаклетачная або каланіяльная сіне-зялёная водарасць сям. глеякапсавых, якая пашырана ў вадаёмах і на сушы.

**ГЛЕЯПО́Р** (н.-лац. gloeoporus) — губавы *базідыяльны* грыб сям. порыевых, які расце ў лясах на гнілых ствалах, пнях, ламаччы, кары ліставых і хвойных парод.

**ГЛЕЯСПО́РЫЙ** (н.-лац. gloeosporium) — недасканалы грыб сям. меланконіевых, які развіваецца на лісці парэчак, канюшыне, семечкавых і костачкавых пладовых культурах.

**ГЛЕЯТРЫ́ХІЯ** (н.-лац. gloeotrichia) — каланіяльная сіне-зялёная водарасць сям. рывулярыевых, якая трапляецца пераважна ў стаячых прэсных водах.

**ГЛЕЯТЭ́НІУМ** (н.-лац. gloeotaenium) — каланіяльная зялёная водарасць сям. аацысціевых, якая трапляецца ў азёрах, рэках, сажалках, сустракаецца ў глебе.

**ГЛЕЯФІ́Л** (н.-лац. gleophyllum) — губавы *базідыяльны* грыб сям. порыевых, які расце ў лясах на пнях, ламаччы.

**ГЛЁТ** (ням. Glätte) — тэхнічная назва вокісу свінцу.

**ГЛІЁМА** (ад гр. glia = клей + *-ома*) — пухліна, якая развіваецца ў галаўным, радзей спінным, мозгу з элементаў *нейрагліі*.

**ГЛІКА-** (гр. glykys = салодкі) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на адносіны да цукроў.

**ГЛІКААЛКАЛО́ІДЫ** (ад *гліка-* + *алкалоіды*) — група алкалоідаў, якія змяшчаюць цукар.

**ГЛІКАГЕ́Н** (ад *гліка-* + *-ген*) — жывёльны *крухмал*, які ўтвараецца з цукру крыві ў печані і мышцах.

**ГЛІКАГЕНО́ЛІЗ** (ад *глікаген* + *-ліз*) — працэс анаэробнага ферментатыўнага распаду глікагену ў тканках.

**ГЛІКАЗІДА́ЗЫ** (ад *гліказіды*) — ферменты класа *гідралазаў*, якія каталізуюць гідралітычнае (гл. *гідроліз*) расшчапленне гліказідаў.

**ГЛІКАЗІ́ДЫ** (ад гр. glykys = салодкі + eidos = выгляд) — арганічныя рэчывы, малекулы якіх складаюцца з вугляводу і невугляводнага кампанента (аглікону); змяшчаюцца ў жывёльных і раслінных арганізмах, адыгрываючы важную ролю ў працэсах абмену рэчываў.

**ГЛІКАЗУРЫ́Я** (ад гр. glykys = салодкі + *-урыя*) — выдзяленне цукру з мачой; назіраецца пры цукровым *дыябеце*, нервовых хваробах, цяжарнасці, а таксама пры празмерным ужыванні цукру.

**ГЛІКАКО́Л** (ад *гліка-* + гр. kolla = клей) — тое, што і *гліцын*.

**ГЛІКАЛІПІ́ДЫ** (ад *гліка-* + гр. lipos = тлушч) — тлушчападобныя рэчывы, якія змяшчаюць вугляводы; з'яўляюцца структурнымі элементамі клетачных мембран.

**ГЛІКАПРАТЭІ́ДЫ** (ад *гліка-* + *пратэіды*) — складаныя бялкі, якія змяшчаюць вугляводныя кампаненты (напр. *імунаглабуліны, мукоіды, муцыны*).

**ГЛІКАФІ́ТЫ** (ад *гліка-* + *-фіты*) — расліны незасоленых глеб і прэсных вадаёмаў (параўн. *галафіты*).

**ГЛІКЕМІ́Я** (ад *гліка-* + *-емія*) — наяўнасць цукру ў крыві.

**ГЛІКО́ЛІЗ** (ад *гліка-* + *-ліз*) — працэс расшчаплення вугляводаў пры адсутнасці кіслароду пад дзеяннем ферментаў у арганізме чалавека і жывёл.

**ГЛІКО́ЛЬ** [ад *гліка-* + *(алкаг)оль*] — двухатамны спірт, бясколерная вадкасць, без паху, салодкая на смак; выкарыстоўваецца як растваральнік, для ахаладжэння рухавікоў і інш.

**ГЛІНТ** (эст. glint) — круты абрыў *плато*, размешчанага ўздоўж паўднёвага берага Фінскага заліва да Ладажскага возера.

**ГЛІНТВЕ́ЙН** (ад ням. glühender Wein = гарачае віно) — гарачы напітак з чырвонага віна з цукрам і вострымі прыправамі.

**ГЛІПТ** (гр. glyptos = выразаны, пакрыты разьбой) — каштоўны камень з мастацкім разьблёным узорам.

**ГЛІПТАДО́НТЫ** (ад гр. glyptos = выразаны, пакрыты разьбой + *-адонт*) — вымерлыя млекакормячыя атрада непаўназубых, блізкія да браняносцаў; жылі ў *кайназоі*.

**ГЛІПТАТЭ́КА** (ад гр. glyptos = выразаны, пакрыты разьбой + *-тэка*) — 1) калекцыя *гліптаў*, 2) збор скульптурных твораў.

**ГЛІ́ПТЫКА** (гр. glyptikos = разьбярскі) — майстэрства мастацкай разьбы на каштоўных камянях.

**ГЛІСА́ДА** (фр. glissade) — прамалінейная *траекторыя* зніжэння самалёта, верталёта, планёра.

**ГЛІСА́НДА** (іт. glissando, ад фр. glisser — слізгаць) — прыём ігры на музычным інструменце — хуткі прабег пальцам па клавішах або смычком па струнах.

**ГЛІ́СЕР** (фр. glisseur) — лёгкае быстраходнае марское судна, якое пры вялікай скорасці слізгаціць па воднай паверхні і дае малую асадку.

**ГЛІСІ́РАВАЦЬ** (фр. glisser) — хутка слізгацець па воднай паверхні (пра рух *глісера*, гідрасамалёта).

**ГЛІФТА́ЛІ** [ад *глі(цэрына)* + *(на)фт(а)* + *ал(ей)*] — сінтэтычныя смолы, якія атрымліваюць на аснове *гліцэрыны* і *фталевай* кіслаты.

**ГЛІЦЫ́Н** (ад гр. glykys = салодкі) — амінакіслата, якая ўваходзіць у склад многіх бялкоў, напр. *казеіну, жэлаціну*.

**ГЛІЦЫ́НІЯ** (ад гр. glykys = салодкі) — павойная расліна сям. бабовых з пахучымі кветкамі, пашыраная ва Усх. Азіі; вырошчваецца як дэкаратыўная ў Крыме, на Каўказе.

**ГЛІЦЭРАЛЬДЭГІ́Д** (ад гр. glykeros = салодкі + *альдэгід*) — трохвугляродны цукар (*альдоза*), які мае асіметрычны атам вугляроду.

**ГЛІЦЭРЫ́ДЫ** (ад гр. glykeros = салодкі + eidos = выгляд) — складаныя эфіры *гліцэрыны* і арганічных або мінеральных кіслот, якія

з'яўляюцца састаўной часткай тлушчаў раслiннага i жывёльнага паходжання.

**ГЛIЦЭРЫ́НА** (польск. gliceryna < ням. Glyzerin , ад гр. glykeros = салодкi) — арганiчнае злучэнне, трохатамны спiрт *алiфатычнага* рада, бясколерная масляністая вадкасць, якая атрымлiваецца з тлушчаў i выкарыстоўваецца для тэхнiчных, медыцынскiх, касметычных мэт.

**ГЛIЦЭРЫНАФАСФА́ТЫ** (ад *глiцэрына* + *фасфаты*) — солi глiцэрынафасфатнай кiслаты, якiя выкарыстоўваюцца ў медыцыне.

**ГЛÍЯ** (гр. glia = клей) — тое, што i *нейраглiя*.

**ГЛО́БУЛЫ** (лац. globulus = шарык) — 1) *астр.* невялiкiя цёмныя ўтварэннi ўнутры светлых туманнасцей Млечнага шляху; 2) *хiм.* калоiдныя часцiнкi сферычнай формы або макрамалекулы, згорнутыя ў клубок.

**ГЛО́БУС** (лац. globus = шар) — картаграфаваная мадэль зямнога шара (або iншай планеты), якая верцiцца на вертыкальнай падстаўцы; н я б е с н ы г. — аб'ёмнае адлюстраванне нябеснай сферы.

**ГЛО́РЫЯ** (лац. gloria = арэол) — каляровыя кругi вакол ценю прадмета, калi цень падае на хмару або згустак туману (у гарах або пры палёце самалёта).

**ГЛО́СА** (лац. glossa, ад гр. glossa = мова, гаворка) — тлумачэнне незразумелага слова або выразу, якое даецца на палях або ў самiм тэксце старажытных помнiкаў.

**ГЛОТАГЕНЕ́З** (ад гр. glotta = мова + -генез) — 1) паходжанне чалавечай гукавой мовы; 2) паходжанне мовы асобных этнасаў (напр. г. славян).

**ГЛОТАХРАНАЛО́ГIЯ** (ад гр. glotta = мова + *храналогiя*) — 1) методыка вызначэння часу ўтварэння роднасных моў, якая грунтуецца на падлiках працэнтных суадносiн агульных элементаў у iх асноўным слоўнiку; 2) раздзел гiстарычнай *лексiкалогii*, якi выкарыстоўвае гэту методыку.

**ГЛЮКАГЕНЕ́З** [ад *глюко(за)* + *-генез*] — працэс утварэння глюкозы ў арганiзме не з *глiкагену*, а з iншых рэчываў.

**ГЛЮКАГО́Н** (ад гр. glykys = салодкi + *-гон*) — *гармон* чалавека i жывёл, якi выпрацоўваецца падстраўнiкавай залозай i ўдзельнiчае ў рэгуляцыi вугляводнага абмену ў арганiзме.

**ГЛЮКАЗАМÍН** (ад *глюкоза* + *амiн*) — амiнацукар, вытворнае глюкозы, у малекуле якой гiдраксiльная група другога атама вугляроду замешчана амiнагрупай.

**ГЛЮКАЗÍДЫ** (ад *глюкоза*) — рэчывы, малекулы якiх складаюцца з глюкозы i якога-н. iншага арганiчнага злучэння; пашыраны ў жывёльных i раслiнных арганiзмах.

**ГЛЮКАЗУРЫ́Я** [ад *глюко(за)* + *-урыя*] — павышаная наяўнасць глюкозы ў мачы.

**ГЛЮКАКАРТЫКО́IДЫ** [ад *глюко(за)* + лац. cortex = кары + *-оiд*] — лекавыя прэпараты кары наднырачнiкаў.

**ГЛЮКАНЕАГЕНЕ́З** [ад *глюко(за)* + *неа-* + *-генез*] —бiяхiмiч-

ны працэс утварэння глюкозы з невугляводных папярэднікаў.

**ГЛЮКАПРАТЭІ́ДЫ** [ад *глюко(за)* + *пратэіды*] — складаныя бялкі ў арганізме чалавека, жывёл і раслін, якія змяшчаюць вугляводы.

**ГЛЮКО́ЗА** (ад гр. glykys = салодкі) — арганічнае злучэнне класа *монацукрыдаў*, салодкае рэчыва ў пладах раслін; вінаградны цукар.

**ГЛЮКОЗАФАСФА́ТЫ** (ад *глюкоза* + *фасфаты*) — злучэнні глюкозы з адным або двума астаткамі артафосфарнай кіслаты.

**ГЛЮКО́НАВЫ** (ад гр. glykys = салодкі); г-ая кіслата — цукровая кіслата, якая ўтвараецца пры акісленні альдэгіднай (гл. *альдэгіды*) групы *глюкозы*.

**ГЛЮКУРО́НАВЫ** (ад гр. glykys = салодкі + uron = мача); г-ая кіслата — аднаасноўная арганічная кіслата, якая ўтвараецца пры акісленні *глюкозы*.

**ГЛЮО́НЫ** (ад англ. glue = клей) — электрычна нейтральныя часціцы з нулявой масай спакою і *спінам*.

**ГЛЮТАМІ́Н** [ад лац. glut(en) = клей + *аміны*] — амінакіслата, якая ўваходзіць у склад раслінных і жывёльных бялкоў і выконвае важную ролю ў азоцістым абмене.

**ГЛЮТАМІ́НАВЫ** (ад *глютамін*); г-ая кіслата — тое, што і *глютамін*.

**ГЛЮТАМІНА́ЗА** [ад лац. glut(en) = клей + *аміны*] — *фермент* з групы *дэзаміназаў*, які каталізуе *гідроліз* і *сінтэз глютаміну*, выконвае вялікую ролю ў азоцістым абмене жывёльных і раслінных арганізмаў.

**ГЛЮТАЦЫЁН** [ад *глюта(мін)* + *цы(стэін)*] — *пептыд*, які складаецца з рэштак *глютамінавай* кіслаты, цыстэіну і *гліцыну*, змяшчаецца ва ўсіх жывых арганізмах і выконвае важную ролю ў акісляльных рэакцыях.

**ГЛЮТЭЛІ́НЫ** (ад лац. gluten = клей) — простыя бялкі насення злакаў і зялёных частак раслін.

**ГЛЮЦІ́Н** (лац. gluten, -tinis = клей) — клей жывёльнага паходжання, які вываршваюць з храсткоў, сухажылля і інш.

**ГЛЮЦІНА́НТЫ** (лац. glutinantes — якія склейваюць) — спецыялізаваныя жыгучыя клеткі ў кішачнаполасцевых.

**ГЛЯДЫ́ЧЫЯ** [н.-лац. gleditsia, ад I.Gleditsch — прозвішча ням. батаніка (1714—1796)] — лістападнае дрэва сям. бабовых з калючкамі і падоўжаным лісцем, пашыранае ў тропіках і субтропіках; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўнае.

**ГЛЯ́НЕЦ** (ням. Glanz) — 1) бляск начышчанай, палакіраванай або адпаліраванай паверхні; 2) *перан.* беззаганны выгляд; знешняя культурнасць.

**ГЛЯНЦГО́ЛЬД** (ням. Glanzgold, ад Glanz = бляск + Gold = золата) — вязкая бурая вадкасць, у якой ёсць золата; выкарыстоўваецца для роспісу на фарфоры.

**ГЛЯНЦЗІ́ЛЬБЕР** (ням. Glanzsilber, ад Glanz = бляск + Silber = срэбра) — рэчыва, якое змяшчае *плаціну* або *паладый*; выкарыстоўваецца для жывапісу на фарфоры.

# Г

**ГЛЯСЭ́** (фр. glacé = ледзяны) — 1) замарожаны; к а в а  г. — чорная *кава* з марожаным; 2) тонкая шаўковая бліскучая тканіна.

**ГЛЯЦЫЁЛАГ** (ад лац. glacies = лёд + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *гляцыялогіі*.

**ГЛЯЦЫЯДЫСЛАКА́ЦЫЯ** (ад лац. glacies = лёд + *дыслакацыя*) — *дэфармацыя* горных парод, якія ўтвараюць ложа ледніка пад уздзеяннем яго вагі і руху.

**ГЛЯЦЫЯДЫЯПІ́Р** (ад лац. glacies = лёд + гр. diapeiro = пранізваю) — антыклінальная складка, якая ўзнікла пад ледніковым уздзеяннем у выніку ўкаранення адных парод у другія.

**ГЛЯЦЫЯІЗАСТАЗІ́Я** (ад лац. glacies = лёд + *ізастазія*) — вертыкальныя рухі зямной кары пад ледніковай нагрузкай.

**ГЛЯЦЫЯКА́РСТ** (ад лац. glacies = лёд + *карст*) — з'явы, якія суправаджаюць раставанне нерухомага лёду і ўзнікненне пры гэтым розных форм рэльефу і парушэнняў у заляганні горных парод.

**ГЛЯЦЫЯ́Л** (лац. glacialis = ледзяны) — адрэзак часу на працягу *антрапагену*, які характарызуецца значным пахаладаннем клімату і насоўваннем ледніковага покрыва на раўніны ў сярэдніх шыротах; ледніковая эпоха.

**ГЛЯЦЫЯЛО́ГІЯ** (ад лац. glacies = лёд + *-логія*) — навука, якая вывучае паходжанне, фізічныя ўласцівасці, развіццё, геаграфічнае пашырэнне ледгікоў і магчымасці іх гаспадарчага выкарыстання.

**ГЛЯЦЫЯ́ЛЬНЫ** (лац. glacialis = ледзяны) — які адносіцца да лёду, асабліва да ледгікоў.

**ГЛЯЦЫЯСФЕ́РА** (ад лац. glacies = лёд + *сфера*) — сезонная абалонка з снегу і лёдавага покрыва ў палярных шыротах.

**ГЛЯЦЫЯТЭКТО́НІКА** (ад лац. glacies = лёд + *тэктоніка*) — раздзел *геалогіі*, які вывучае экзатэктанічныя структуры і працэсы, абумоўленыя ледніковай дзейнасцю (*гляцыядыслакацыю* і *гляцыяізастазію*).

**ГМАХ** (польск. gmach, ад с.-в.-ням. gemach) — збудаванне вялікіх памераў.

**ГМІ́НА** (польск. gmina, ад ням. Gemeine) — самая дробная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Польшчы (мела пашырэнне і ў Зах. Беларусі ў 1921—1939 гг.), а таксама адміністрацыйны цэнтр такой адзінкі.

**ГНАМО́НІЯ** (н.-лац. gnomonia) — сумчаты грыб сям. гнамоніевых, які развіваецца на лісці пладовых дрэў і кустоў.

**ГНАСЕАЛО́ГІЯ** (ад гр. gnosis = веданне + *-логія*) — тэорыя пазнання, раздзел *філасофіі*, які вывучае формы і метады навуковага пазнання.

**ГНАСТЫЦЫ́ЗМ** (ад гр. gnostikos = пазнавальны) — плынь ранняга *хрысціянства*, у аснове якой ляжала вучэнне пра «гносіс» як асаблівае пазнанне, быццам бы здольнае раскрыць таямніцы жыцця.

**ГНАТАНА́РЫЙ** (н.-лац. gnathonarium) — павук сям. павукоў-пігмеяў; на Беларусі сустракаецца ў Віцебскай вобласці.

**ГНАТАСО́МА** (ад гр. gnathos = сківіца + *сома*) — пярэдні ўчастак цела ў кляшчоў, які мае складаную будову.

**ГНАТАСТАМУЛІ́ДЫ** (н.-лац. gnathostomulida) — атрад плоскіх чарвей класа *турбелярый*; жывуць у вільготным пяску марскіх узбярэжжаў.

**ГНАФАЗІ́ДЫ** (н.-лац. gnaphosidae) — сямейства павукоў з укрытым пёрыстымі валаскамі целам і доўгімі моцнымі нагамі, якое ў сусветнай фауне налічвае больш за 1250 відаў; жывуць пад камянямі, у моху, лясным подсціле, пад карой.

**ГНАФА́ЛІУМ** (н.-лац. gnaphalium) — травяністая расліна сям. складанакветных з фіялетавымі, белымі або ружовымі кветкамі, пашыраная ў розных кліматычных зонах; сухацветнік.

**ГНАФО́ЗА** (н.-лац. gnaphosa) — павук сям. *гнафазідаў*, які жыве пад камянямі.

**ГНЕЙС** (ням. Gneis) — горная парода, якая складаецца з палявога шпату, кварцу, каляровых мінералаў і інш.

**ГНЕЙСАГРАНІ́Т** (ад *гнейс* + *граніт*) — тое, што і *гранітагнейс*.

**ГНЕТАПСІ́ДЫ** (н.-лац. gnetopsida) — клас дрэвавых, кустовых раслін або ліян аддзела голанасенных з супраціўным цэльным лісцем.

**ГНЕ́ТУМ** (н.-лац. gnetum, ад малайск. gnemon) — ліяна класа *гнетапсідаў* з шырокім лісцем, пашыраная ў тропіках; дае грубае валакно, ядомае насенне, алей.

**-ГНОЗІЯ** (гр. gnosis = пазнанне, веды) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «веды», «веданне».

**ГНОМ** (ням. Gnom, ад н.-лац. gnomus) — 1) пачварны *карлік* у заходнееўрапейскай міфалогіі, які быццам бы ахоўвае падземныя скарбы; 2) *перан.* тое, што і *карлік* 1.

**ГНО́МА** (гр. gnome = думка) — кароткі выраз павучальнага характару ў форме верша або рытмізаванай прозы; вершаваны афарызм.

**ГНО́МАН** (гр. gnomon) — старажытны астранамічны інструмент, які складаецца з вертыкальнага стрыжня на гарызантальнай пляцоўцы; зараз выкарыстоўваецца толькі як сонечны гадзіннік.

**ГНО́СТЫК** (лац. gnosticus, ад гр. gnostikos = пазнавальны) — паслядоўнік *гнастыцызму*.

**ГНОТАБІЁТЫ** (ад гр. gnotos = бачны + *біёта*) — жывёлы, вырашчаныя ва ўмовах поўнай стэрыльнасці, свабодныя ад мікраарганізмаў, вірусаў і макрапаразітаў; выкарыстоўваюцца для эксперыментальнай работы.

**ГНОТАБІЯЛО́ГІЯ** (ад гр. gnotos = бачны + *біялогія*) — галіна эксперыментальнай біялогіі, якая займаецца атрыманнем і вырошчваннем лабараторных жывёл, у арганізме якіх зусім адсутнічаюць мікраарганізмы, *гельмінты*, членістаногія.

**ГНУ** (фр. gnou, з афр. моў) — парнакапытная жывёла з групы антылоп, пашыраная на раўнінах Усх. і Паўд. Афрыкі.

# Г

**ГО́БЕЛЬ** (ням. Hobel = рубанак) — інструмент для абрэзкі ўручную кніжнага блока.

**ГО́БІ** (манг. hobi) — паласа пустынь і паўпустынь у Цэнтр. Азіі.

**ГОЛ** (англ. goal) — 1) забіты або прапушчаны ў вароты мяч (шайба); 2) ачко, якое залічваецца камандзе за забітыя ў чужыя вароты мяч або шайбу.

**ГОЛАМЕТАБАЛІ́Я** (ад гр. holos = увесь + *метабалія*) — тып паслязародкавага развіцця насякомых (жукоў, сеткакрылых, двухкрылых), пры якім з яйца выходзіць лічынка, не падобная на дарослае насякомае.

**ГОЛАМЕТАМАРФО́ЗА** (ад гр. holos = увесь + *метамарфоза*) — тое, што і *голаметабалія*.

**ГО́ЛЬМІЙ** (н.-лац. holmium, ад Holmia = Стакгольм, назва шведскага горада) — хімічны элемент сям. *лантаноідаў*, рэдкі метал.

**ГОЛЬФ** (англ. golf) — гульня ў мяч, які клюшкамі стараюцца заганяць у ямкі-лункі праз рад перашкод.

**ГОМА-, ГАМА-** (гр. homos = роўны, аднолькавы) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «падобны», «роўны».

**ГОМААЛЕЛІ́ЗМ** (ад *гома-* + *алелізм*) — існаванне гена ў дзвюх або больш формах (*алелях*), што ўяўляюць сабой відазмяненні аднаго і таго ж яго ўчастка (параўн. *гетэраалелізм*).

**ГОМАГАЛІ́ННАСЦЬ** (ад *гомагалінны*) — аднароднае размеркаванне салёнасці марской вады на глыбіні.

**ГОМАГАЛІ́ННЫ** (ад *гома-* + гр. halinos = салёны); г - ы я а р г а н і з м ы — водныя арганізмы, здольныя існаваць толькі ва ўмовах пэўнай салёнасці навакольнага асяроддзя (параўн. *гетэрагалінны*).

**ГОМАГАМЕ́ТНАСЦЬ** (ад *гома-* + *гаметы*) — генетычная раўнацэннасць гамет жаночага або мужчынскага полу па тыпу палавой *храмасомы*, якую мае кожная гамета дадзенага полу (параўн. *гетэрагаметнасць*).

**ГОМАГЕНА́Т** (ад *гома-* + *ген*) — аднародная суспензія здробненай да субклетачных элементаў біялагічнай тканкі.

**ГОМАГЕНІЗА́ТАР** (ад гр. homogenes = аднародны) — апарат для атрымання аднародных сумесей, а таксама *эмульсій* 1.

**ГОМАГЕНІЗА́ЦЫЯ** (ад гр. homogenes = аднародны) — наданне аднароднай будовы і саставу металам, сплавам, растворам, эмульсіям і інш. (параўн. *гетэрагенізацыя*).

**ГОМАДЫНАМІ́Я** (ад *гома-* + гр. dynamis = сіла) — падобнасць органаў або іх частак, размешчаных паслядоўна па падоўжанай восі цела жывёл.

**ГОМАЗІГО́ТА** (ад *гома-* + *зігота*) — арганізм, які ўтварыўся ў выніку злучэння дзвюх *гамет* з аднолькавым генетычным складам (параўн. *гетэразігота*).

**ГОМАЗІГО́ТНАСЦЬ** (ад *гомазігота*) — аднароднасць спадчыннай асновы арганізма, якая паходзіць ад бацькоў, падобных па той

ці іншай спадчыннай прымеце (параўн. *гетэразіготнасць*).

**ГОМАЙАЛО́ГІЯ** (ад гр. homoios = падобны + *-логія*) — марфалагічная або фізіялагічная падобнасць органаў або прыкмет у жывёл аддаленых сістэматычных груп.

**ГОМАЙАСМАТЫ́ЧНЫ** (ад гр. homoios = падобны + *асматычны*) — які мае пастаянны ціск; г - ы я ж ы в ё л ы — водныя жывёлы, здольныя захоўваць прыблізна аднолькавы асматычны ціск крыві і тканкавай вадкасці, які не адпавядае асматычнаму ціску знешняга асяроддзя (параўн. *пайкіласматычны*).

**ГОМАЙАТЭ́РМНЫ** (ад гр. homoios = падобны, аднолькавы + therme = цяпло) — які мае пастаянную тэмпературу; г - ы я ж ы - в ё л ы — жывёлы, якія маюць пастаянную, нязменную тэмпературу цела, што амаль не залежыць ад тэмпературы знешняга асяроддзя.

**ГОМАЛАГРАФІ́ЧНЫ** (ад гр. homologia = адпаведнасць + grapho = пішу); г - ы я п р а е к ц ы і — праекцыі, якія правільна перадаюць суадносіны плоскасцей.

**ГОМАМАРФІ́ЗМ** (ад *гома-* + *-марфізм*) — *мат.* адназначнае пераатварэнне алгебраічнай сукупнасці ў іншую, падобную сукупнасць.

**ГОМАСЕКСУАЛІ́ЗМ** (ад *гома-* + лац. sexualis = палавы) — ненатуральная палавая цяга да асоб свайго полу (параўн. *гетэрасексуалізм*).

**ГОМАСТЫЛІ́Я** (ад *гома-* + гр. stylos = слуп) — аднолькавая даўжыня слупкоў і тычынкавых нітак у кветках усіх раслін аднаго віду (параўн. *гетэрастылія*).

**ГОМАТАЛІ́ЗМ** (ад *гома-* + гр. thallos = галінка, парастак) — двухполасць у некаторых водарасцяў, грыбоў (параўн. *гетэраталізм*).

**ГОМАТРАНСПЛАНТА́ЦЫЯ** (ад *гома-* + *трансплантацыя*) — тое, што і *алатрансплантацыя*.

**ГОМАТЭРМІ́Я** (ад *гома-* + *-тэрмія*) — пашырэнне аднолькавай тэмпературы па глыбіні вадаёма (возера, вадасховішча), звязанае з ветравым перамешваннем паверхневых слаёў вады з ніжнімі.

**ГОМАЦЭНТРЫ́ЧНЫ** (ад *гома-* + *цэнтр*); г. п у ч о к — пучок светлавых прамянёў, у якім самі прамяні (або іх працяг) перасякаюцца ў адным пункце.

**ГОМЕА-, ГАМЕА-** (гр. homoios = падобны, аднолькавы) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «падобны», «аднолькавы».

**ГОМЕАМАРФІ́ЗМ** (ад гр. homoiomorphos = з такой жа формай) — узаемна адназначнае непарыўнае адлюстраванне адной тапалагічнай прасторы ў іншай, для якой павернутае адлюстраванне таксама непарыўнае.

**ГОМЕАПАЛЯ́РНЫ** (ад *гомеа-* + гр. polos = вось, паварот); г - а е з л у ч э н н е — хімічнае злучэнне, утворанае электроннай парай, агульнай для атамаў, якія спалучаюцца.

**ГО́МРУЛЬ** (англ. Home Rule = самакіраванне) — праграма *аўтаноміі* Ірландыі ў сістэме Брытанскай

імперыі, высунутая ў 70-я гады 19 ст.

**ГО́МСТЭД** (англ. homestead) — зямельны надзел, які атрымліваў грамадзянін ЗША ў 19 ст. паводле *гомстэд-акта*.

**ГО́МСТЭД-АКТ** (ад *гомстэд* + *акт*) — закон аб зямельных надзелах у ЗША, прыняты ў маі 1862 г. у ходзе грамадзянскай вайны 1861—1865 гг.

**ГОМФ** (гр. gomphos = цвік) — орган прымацавання *талома* ліставатых лішайнікаў да субстрата.

**ГОН** (гр. gonia = вугал) — тое, што і *град*.

**-ГОН**[1] (гр. gonos = паходжанне) — другая састаўная частка складаных слоў, якая ўказвае на сувязь з нараджэннем, паходжаннем.

**-ГОН**[2] (гр. gonia = вугал) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «вугал».

**ГО́НАР** (польск. honor, ад лац. honor) — 1) пачуццё грамадскай або асабістай годнасці; тое, што выклікае павагу; 2) павага, слава; 3) перавялічанае ўяўленне аб сваёй годнасці; фанабэрыстасць; з б і ц ь г. — прымусіць каго-н. не задавацца.

**ГОНГ** (англ. gong, ад малайск. gong) — 1) ударны музычны інструмент у выглядзе металічнага дыска з загнутымі краямі; 2) гукавы сігнал, які падаецца ўдарамі ў кавалак металу, рэйку, а таксама самі гэтыя прадметы.

**ГО́НІУМ** (н.-лац. gonium) — каланіяльная зялёная водарасць сям. вальвоксавых, якая трапляецца ў сажалках, азёрах, рэках.

**-ГОНІЯ, -ГАНІЯ** (гр. gone = нараджэнне, зараджэнне) — другая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «звязаны з нараджэннем, паходжаннем».

**ГО́НТА** (польск. gont, ад с.-в.-ням. gant) — дахавы матэрыял у выглядзе драўляных дошчачак з падоўжнымі пазамі з аднаго боку.

**ГОНФАЛАНЬЕ́Р** (іт. gonfaloniere) — 1) службовая асоба ў гарадах-рэспубліках Італіі ў 13—15 ст., якая ўзначальвала апалчэнне гарадскога квартала; 2) начальнік атрада, які ахоўваў урад Фларэнцыі з 13 ст., а ў 15—18 ст. быў галавой гарадскога *магістрата*.

**ГО́РДЗЕНЬ** (гал. gording) — трос з круком на канцы для падымання грузаў або нацягвання парусоў на судне.

**ГО́РЖА** (фр. gorge) — *уст.* тылавая частка ўмацавання або звернуты ў тыл выхад з умацавання.

**ГОРН** (ням. Horn = рог) — медны духавы музычны інструмент для падачы сігналаў.

**ГОРНБЛЕНДЫ́Т** (ад ням. Horn = рог + Blende = покрыва) — крышталічная горная парода, якая складаецца амаль цалкам з рагавой субстанцыі; адрозніваецца ад *амфібаліту* структурай.

**ГОРСТ** (ням. Horst = гняздо) — участак зямной кары, абмежаваны тэктанічнымі разрывамі і крыху прыўзняты над суседнімі ўчасткамі, якія аселі (параўн. *грабен*).

**ГОСПІТАЛЬЕ́РЫ** (фр. hospitaliers) — члены каталіцкага ду́хоўна-рыцарскага *ордэна*, заснаванага

ў Палесціне ў 12 ст. у перыяд крыжовых паходаў.

**ГО́ТЫКА** (іт. gotiko = гоцкі, ад ням. Got = гот) — архітэктурны стыль позняга еўрапейскага сярэдневякоўя (12—16 ст.), які характарызаваўся лёгкасцю высокіх спічастых збудаванняў, зграбнасцю разнастайнай каменнай разьбы, вітражамі.

**ГОФМА́ЙСТАР** (ням. Hofmeister) — прыдворная пасада ў сярэдневяковай Германіі, а ў 18 — пач. 20 ст. прыдворны чын у Расіі.

**ГОФМА́КЛЕР** (ням. Hofmakler) — галоўны *маклер* на фондавай або таварнай біржы.

**ГОФМА́РШАЛ** (ням. Hofmarschall) — прыдворная пасада ў сярэдневяковай Германіі, а пазней прыдворны тытул у радзе манархічных краін.

**ГОФР** (фр. gaufre = *літар.* вафля) — тонкія металічныя, азбестацэментныя, фанерныя і іншыя лісты са складкаватай хвалепадобнай паверхняй; выкарыстоўваюцца ў будаўніцтве, машынабудаванні.

**ГОХУА́** (кіт. го-хуа) — традыцыйная школа кітайскага жывапісу вадзянымі фарбамі на шаўковых і каляровых скрутках.

**ГРАБА́Р** (польск. grabarz, ад с.-в.-ням. grabaere) — землякоп.

**ГРА́БЕН** (ням. Graben = роў, канава) — участак зямной кары, абмежаваны тэктанічнымі разрывамі і крыху апушчаны адносна суседніх участкаў (параўн. *горст*).

**ГРАБШТЫ́ХЕЛЬ** (ням. Grabstichel) — разец для гравіравання самых тонкіх ліній.

**ГРА́ВЕ** (іт. grave) — павольны музычны *тэмп* патэтычнага характару.

**ГРАВЕЛІ́Т** (ад *гравій* + *-літ*) — сцэментаваны *гравій*.

**ГРАВЁР** (фр. graveur) — 1) спецыяліст па гравіраванню; 2) жук сям. караедаў, шкоднік хвойных дрэў.

**ГРА́ВІЙ** (фр. gravier) — абломачная горная парода ў выглядзе дробных каменьчыкаў; выкарыстоўваецца ў будаўнічых, дарожных работах.

**ГРАВІМЕ́ТР** (ад лац. gravis = цяжкі + *-метр*) — прыбор для вымярэння паскарэння сілы цяжару.

**ГРАВІМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. gravis = цяжкі + *-метрыя*) — раздзел *геафізікі*, які вывучае размеркаванне паскарэння сілы цяжару на зямную паверхню.

**ГРАВІРАВА́ЦЬ** (ням. gravieren, ад фр. graver = вырэзваць) — рабіць малюнак або надпіс, выразаючы іх на цвёрдым матэрыяле (метале, дрэве, шкле і інш.).

**ГРА́ВІС** (лац. gravis = цяжкі) — 1) тон складоў у старажытнагрэчаскай мове, які характарызуецца адсутнасцю павышэння голасу; супрацьпастаўляецца *акуту*; 2) від націску ў шведскай мове; 3) дыякрытычны знак (ʹ), які абазначае ў французскай графіцы ступень адкрытасці галосных.

**ГРАВІТА́ЦЫЯ** (ад лац. gravitas, -atis = цяжар) — *фіз.* сусветнае прыцягненне; уласцівасць узаемапрыцяжэння цел.

**ГРАВІТО́Н** (ад лац. gravitas = цяжар) — гіпатэтычны *квант* граві-

тацыйнага поля, аналагічны *фатону*.

**ГРАВЮ́РА** (фр. gravure) — малюнак, выразаны на цвёрдым матэрыяле (метале, дрэве, шкле), а таксама адбітак такога малюнка на паперы.

**ГРАД** (лац. gradus = крок, ступень) — адзінка вымярэння плоскага вугла ў метрычнай сістэме мер 18 ст., роўная сотай частцы прамога вугла.

**ГРАДА́ЦЫЯ** (лац. gradatio = паступовае павышэнне, узмацненне) — 1) паслядоўнасць, паступовасць пераходу ад аднаго да другога, размеркаванне аднародных прадметаў, паняццяў па ступені якасці або па колькасці; 2) стылістычная фігура, якая заключаецца ў тым, што ў вершаваных радках групуюцца словы ці выразы з узмацненнем (*клімакс* 2) або аслабленнем (*антыклімакс*) іх эмацыянальнага і сэнсавага зместу.

**ГРАДЗІ́РАВАЦЬ** (ням. gradieren) — выпарваць ваду з салянага раствору ў *градзірнях*.

**ГРАДЗІ́РНЯ** (ад ням. gradieren = згушчаць саляны раствор) — 1) спецыяльнае збудаванне для згушчэння саляных раствораў выпарэннем вады; 2) збудаванне ў выглядзе вежы для ахаладжэння вады атмасферным паветрам.

**ГРАДУІ́РАВАЦЬ** (ням. graduieren, ад лац. gradus = ступень) — наносіць дзяленні на які-н. вымяральны прыбор.

**ГРА́ДУС** (лац. gradus = ступень) — 1) адзінка вымярэння вугла або дугі, роўная 1/90 прамога вугла або адпаведна 1/360 акружнасці; 2) адзінка вымярэння тэмпературы (розная па розных тэмпературных шкалах — Цэльсія, Кельвіна, Рэамюра, Фарэнгейта); 3) адзінка вымярэння працэнтнай насычанасці спіртам некаторых напіткаў.

**ГРАДЫЕ́НТ** (лац. gradiens, -ntis = які крочыць) — 1) *фіз.* мера павелічэння або змяншэння ў прасторы якой-н. фізічнай велічыні пры перамяшчэнні на адзінку даўжыні; 2) *мат. вектар*, які паказвае напрамак найхутчэйшага ўзрастання пэўнай *функцыі* 4.

**ГРАДЫЕНТАМЕ́ТР** (ад *градыент* + *-метр*) — гравітацыйны прыбор для вымярэння гарызантальных кампанентаў градыента сілы цяжару.

**ГРАДЫЕ́НТНЫ** (лац. gradiens, -ntis = які крочыць); г. в е ц е р — раўнамерны гарызантальны рух паветра пры адсутнасці сілы трэння.

**ГРАМ** (фр. gramme, ад лац. gramma < гр. gramma = дробная мера вагі) — асноўная мера масы ў СГС сістэме адзінак, роўная тысячнай долі кілаграма, або вазе 1 см$^{3}$ вады пры тэмпературы 4°С.

**-ГРАМА** (гр. gramma = запіс) — другая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «запіс», «графічнае адлюстраванне».

**ГРАМАМЕ́ТР** (ад *грам* + *-метр*) — дынамометр для вымярэння невялікіх намаганняў у розных прыборах і механічных сістэмах.

**ГРА́МАТА** (гр. grammata = чытанне і пісьмо) — 1) уменне чытаць і пісаць; пачатковыя звесткі з якой-н. галіны ведаў (напр. музычная г.); 2) афіцыйны пісьмовы дакумент, які засведчвае што-н.; 3) пісьмовы

дакумент, пасланне як помнік старажытнай усходнеславянскай (у т.л. і старабеларускай) пісьменнасці.

**ГРАМАТАЛО́ГІЯ** (ад гр. gramma, -atos = літара, знак + *-логія*) — навука аб пісьменнасці.

**ГРАМ-А́ТАМ** (ад *грам* + *атам*) — колькасць грамаў хімічнага элемента, роўная яго атамнай масе.

**ГРАМА́ТЫКА** (гр. grammatike) — 1) раздзел мовазнаўства, які вывучае сістэму моўных формаў (*марфалогія*), сродкі і спосабы іх спалучэння ў сказе (*сінтаксіс*); 2) сукупнасць правіл словазмянення і спалучэння слоў у сказы, уласцівая якой-н. мове, а таксама кніга, у якой змешчаны гэтыя правілы (напр. нарматыўная г., школьная г.).

**ГРАМАТЫКАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *граматыка*) — абстрагаванне слова або выразу ад канкрэтнага лексічнага зместу.

**ГРАМАФО́Н** (ад гр. gramma = літара, запіс + *-фон*) — апарат з рупарам для праігрывання пласцінак з гукавым запісам на іх.

**ГРАМЕ́МА** (ад гр. gramma = рыса, мяжа) — *лінгв.* элементарная адзінка граматычнага значэння.

**ГРАМІЦЫДЗІ́Н** (ад дацк. Gram = прозвішча дацкага вучонага + лац. caedere = забіваць) — лекавы прэпарат, *антыбіётык*, які прымяняецца пры лячэнні гнойных ран.

**ГРАМ-МАЛЕ́КУЛА** (ад *грам* + *малекула*) — колькасць грамаў рэчыва, роўная яго малекулярнай масе.

**ГРАМ-ЭКВІВАЛЕ́НТ** (ад *грам* + *эквівалент*) — колькасць грамаў хімічнага элемента або злучэння, роўная масе іх хімічных эквівалентаў.

**ГРАН** (лац. granum = зерне) — 1) адзінка аптэкарскай вагі або вагі каштоўных металаў і камянёў, роўная 62,2 мг (у Англіі яна складае 64,8 мг); 2) *перан.* мізэрная велічыня.

**ГРАНАДЫЯРЫ́Т** (ад лац. granum = зерне + *дыярыт*) — магматычная горная парода, якая складаецца ў асноўным з палявых шпатаў і кварцу, а таксама з рагавой субстанцыі, біятыту і інш.; выкарыстоўваецца як абліцовачны камень і друз.

**ГРАНАЗА́Н** (ад лац. granum = зерне + sanus = здаровы) — ртутна-арганічны прэпарат для пратручвання насення перад пасевам.

**ГРАНА́Т**[1] (польск. granat, ад лац. granatus = зярністы) — дрэвавая або кустовая расліна сям. гранатавых з ярка-чырвонымі кветкамі, пашыраная ў субтропіках Азіі, а таксама буйны плод гэтай расліны з вялікай колькасцю зярнят.

**ГРАНА́Т**[2] (польск. granat, ад лац. granatus = зярністы) — мінерал класа *сілікатаў*, каштоўны камень, звычайна цёмна-чырвонага колеру; разнавіднасці гранату — *альмандзін, андрадыт, грасуляр, дэмантоід, піроп* і інш.

**ГРАНА́ТА** (іт. granata, ад лац. granatus = зярністы) — разрыўны артылерыйскі або ручны снарад (напр. асколачная г., процітанкавая г.).

**ГРАНД** (ісп. grande, ад лац. grandis = вялікі, важны) — спадчыннае званне вышэйшага дваранства ў Іспаніі (адменена ў 1931 г.).

# Г

**ГРАНДЫЁЗНЫ** (іт. grandioso, ад лац. grandis = вялікі, важны) — 1) велізарны, велічэзны, велічны (напр. г. палац, г-ае відовішча); 2) незвычайны па сваіх маштабах, размаху (напр. г-ае будаўніцтва).

**ГРАНІ́Т** (іт. granito, ад лац. granum = зерне) — цвёрдая горная парода зярністай будовы, якая складаецца з палявых *шпатаў*, *кварцу*, слюды і інш.; выкарыстоўваецца як будаўнічы матэрыял, для вырабу скульптур і інш.

**ГРАНІ́ТАГНЕ́ЙС** (ад *граніт* + *гнейс*) — поўнакрышталічная метамарфічная горная парода, паводле саставу блізкая да граніту; выкарыстоўваецца як будаўнічы і абліцовачны матэрыял.

**ГРАНІТЫЗА́ЦЫЯ** (ад *граніт*) — сукупнасць працэсаў у зямной кары, у выніку якіх цвёрдыя горныя пароды рознага паходжання ператвараюцца ў граніты.

**ГРАН-ПА́** (фр. grand pas) — танцавальная форма ў балеце, якая складаецца з некалькіх частак, аб'яднаных агульным зместам.

**ГРАН-ПРЫ́** (фр. grand prix = вялікі прыз) — самая высокая ўзнагарода на некаторых музычных конкурсах, кінафестывалях, выстаўках.

**ГРАНТ** (англ. grant = падарунак, ахвяраванне) — 1) мэтавыя сродкі ў грашовай або матэрыяльнай форме, якія даюцца дзяржавай фізічным і юрыдычным асобам на конкурснай аснове для правядзення навуковых даследаванняў, а таксама *датацыя* творчым калектывам, спартыўным камандам і інш. з дзяржаўнага або мясцовага бюджэту; 2) стыпендыя, якая выплачваецца студэнтам і навучэнцам з дзяржаўнага або мясцовага бюджэту; 3) аднаразовае выдзяленне грашовай сумы або падараванне абсталявання, памяшкання (звычайна з асабістых сродкаў) культурным, навуковым і іншым установам і арганізацыям.

**ГРА́НУЛА** (лац. granulum = зярнятка) — 1) цвёрды камячок якога-н. рэчыва ў форме зерня (напр. *суперфасфату*); 2) зярністае ўключэнне ў *цытаплазме* жывёльнай або раслiннай клеткі; 3) адно з утварэнняў зярністай формы на паверхні Сонца.

**ГРАНУЛАМЕ́ТРЫЯ** (ад *гранула* + *-метрыя*) — вызначэнне працэнтнай колькасці розных па велічыні зерняў у горных пародах, грунтах і штучных матэрыялах.

**ГРАНУЛАЦЫ́ТЫ** (ад *гранула* + *-цыты*) — *лейкацыты (базафілы, нейтрафілы, эазінафілы)*, у цытаплазме якіх змяшчаюцца бялковыя гранулы (параўн. *агранулацыты*).

**ГРАНУЛЁЗА** (фр. granulose) — растваральная састаўная частка *крухмалу*.

**ГРАНУЛЁМА** (ад лац. granulum = зярнятка + *-ома*) — запаленчае разрастанне тканкі ў чалавека і жывёл пры розных інфекцыйных хваробах (напр. *туберкулёзе, сіфілісе*), а таксама калі ў арганізм трапляюць іншародныя целы (асколкі снарада, кулі і інш.).

**ГРАНУЛІ́ТЫ** (ад лац. granulum = зярнятка + *-літ*) — група выбуховых рэчываў прасцейшага складу, у якіх *гранулы* аміячнай салетры прамочаны вадкім палівам і апудраны дрэўнай мукой.

**ГРАНУЛЯВА́ЦЬ** (ад лац. granulum = зярнятка) — надаваць якому-н. рэчыву форму зярнят, невялічкіх камячкоў.

**ГРАНУЛЯ́ЦЫЯ** (ад лац. granulum = зярнятка) — 1) наданне якому-н. рэчыву формы зярнят, невялічкіх камячкоў; 2) новая тканка, якая разрастаецца пры загойванні раны і часта мае зярністы выгляд; 3) *астр.* бачная зярністасць сонечнай паверхні.

**ГРАПТАЛІ́ТЫ** (ад гр. graptos = напісаны + *-літ*) — вымерлыя марскія каланіяльныя арганізмы, якія належалі да паўхордавых; вялі свабодны або прымацаваны спосаб жыцця; жылі ў *палеазоі*.

**ГРАСГЕ́ЙМІЯ** (н.-лац. grossheimia) — травяністая расліна сям. складанакветных з аблісцелымі, апушанымі сцёбламі і ярка-жоўтымі кветкамі, пашыраная на Каўказе, у Малой Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ГРАСІ́РАВАЦЬ** (фр. grasseyer) — вымаўляць гук «р» на французскі манер, картавіць.

**ГРАСУЛЯ́Р** (п.-лац. grossularia = агрэст) — мінерал класа *сілікатаў, гранат* [2] жаўтаватага колеру; празрыстая разнавіднасць з'яўляецца каштоўным каменем.

**ГРАТ** (ням. Grat = рабро) — лішкі металу, што застаюцца на краях вырабаў пасля якога-н. працэсу апрацоўкі.

**ГРАТА́Ж** (фр. grattage, ад gratter = скрэбці) — спосаб падрыхтоўкі малюнка пракрэсліваннем ліній пры дапамозе вострага інструмента на залітай тушшу паперы або кардоне.

**ГРАТУА́Р** (фр. grattoir, ад gratter = скрэбці) — сталёвы інструмент у выглядзе кароткага клінка на ручцы, які выкарыстоўваецца гравёрамі і мастакамі для зняцця няроўнасцей на метале, гіпсе, лішняй фарбы на паперы і інш.

**ГРАТЫФІКА́ЦЫЯ** (лац. gratificatio = паслуга) — грашовае ўзнагароджанне, заахвочванне; у гандлёвым абароце стымулюе выкананне агентамі, брокерамі пэўных дзеянняў або ўскладзеных на іх абавязкаў.

**ГРАТЭ́СК** (фр. grotesque, іт. grottesca) — 1) мастацкі прыём, заснаваны на кантрастным спалучэнні рэальнага і фантастычнага, перавялічанага і зменшанага, трагічнага і камічнага, а таксама літаратурны ці мастацкі твор, у якім выкарыстаны такі прыём; 2) друкарскі шрыфт з раўнамернай таўшчынёй штрыхоў.

**ГРАЎВА́КА** (ад ням. grau = сыры + Wacke = разнавіднасць горнай пароды) — горная парода шэрага, чорнага, зялёнага колеру, якая складаецца з дробных кавалкаў асадачных, метамарфічных і вулканічных парод, пераважна сцэментаваных.

**ГРАФ**[1] (польск. graf, ад ням. Graf) — дваранскі тытул у Зах. Еўропе і дарэвалюцыйнай Расіі.

**ГРАФ**[2] (гр. grapho = пішу) — матэматычная сістэма аб'ектаў і сувязей, якія спалучаюць пэўныя пары гэтых аб'ектаў, а таксама графічнае адлюстраванне гэтай сукупнасці.

**-ГРАФ** (гр. grapho = пішу) — другая састаўная частка складаных

слоў, якая абазначае асобу, што піша, або прыбор, што запісвае.

**ГРАФА́** (гр. graphe = рыса, лінія) — 1) паласа або слупок паміж дзвюма вертыкальнымі лініямі ў табліцах, канторскіх кнігах, класных журналах і інш.; 2) раздзел тэксту; *рубрыка* 2.

**ГРАФА-** (гр. grapho = пішу) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «які адносіцца да пісьма, почырку, чарчэння».

**ГРАФАЛО́ГІЯ** (ад *графа-* +*-логія*) — вучэнне аб почырку, даследаванне яго з пункту погляду адлюстравання ў ім характару і псіхічнага стану таго, хто піша.

**ГРАФАМА́Н** (ад *графа-* + *-ман*) — чалавек, ахоплены *графаманіяй*.

**ГРАФАМА́НІЯ** (ад *графа-* + *манія*) — цяга да пісання літаратурных твораў у асоб, пазбаўленых таленту.

**ГРАФАМЕ́ТРЫЯ** (ад *графа-* + *-метрыя*) — раздзел крыміналістычнай тэхнікі, які вывучае почырк, распрацоўвае методыку *ідэнтыфікацыі* (вызначэння) асобы па яе рукапісах.

**ГРАФАСПА́ЗМА** (ад *графа-* + *спазма*) — сутарга, якая ўзнікае ў пальцах пры спробе пісаць, выкліканая захворваннем нервовай сістэмы.

**ГРАФАСТА́ТЫКА** (ад *графа-* + *статыка*) — раздзел *механікі*, які разглядае спосабы рашэння задач, што датычаць раўнавагі сіл, пры дапамозе графічнага метаду.

**ГРАФЕКО́Н** (ад *графа-* + гр. eikon = адлюстраванне) — *кінескоп* з двума накіраванымі пучкамі электронаў, адзін з якіх запісвае тэлевізійнае або радыёлакцыйнае адлюстраванне, а другі счытвае яго.

**ГРАФЕ́МА** (ад гр. graphe = рыса, лінія) — *лінгв.* мінімальная адзінка пісьмовай мовы, якая адпавядае *фанеме* або яе варыянту ці паслядоўнасці фанем у вуснай мове.

**ГРАФІЁЗ** (ад *графій*) — хвароба дрэў сям. вязавых, якая выклікаецца грыбамі *цэратацысціс* і *графій.*

**ГРА́ФІЙ** (н.-лац. graphium) — недасканалы грыб сям. сцілбацыевых, які паразітуе на галінках маліны, зерні проса, лісці вяза і іншых раслін.

**ГРА́ФІК** (гр. graphikos = начэрчаны) — 1) схема, якая пры дапамозе крывых ліній паказвае стан, развіццё чаго-н.; 2) каляндарны план работ з дакладнымі паказчыкамі норм (напр. г. выпуску прадукцыі); 3) *мат.* крывая на плоскасці, якая паказвае залежнасць *функцыі* 4 ад *аргумента* 2.

**ГРА́ФІКА** (гр. graphike = жывапіс) — 1) від выяўленчага мастацтва, заснаваны на стварэнні малюнка лініямі і штрыхамі, а таксама твор, выкананы такім чынам; 2) сістэма знакаў для перадачы гукавога складу мовы.

**ГРАФІ́Н** (ад іт. caraffina) — шкляная пасудзіна з вузкім доўгім горлам.

**ГРА́ФІС** (н.-лац. graphis) — накіпны сумчаты лішайнік сям. графідавых, які расце на гладкай кары ліісцевых дрэў.

**ГРАФІ́Т** (ням. Graphit, ад гр. grapho = пішу) — 1) мінерал чорнага колеру, самая ўстойлівая раз-

навіднасць вугляроду; выкарыстоўваецца для вырабу карандашоў, фарбаў, змазачных матэрыялаў; 2) стрыжань унутры карандаша з гэтага мінералу.

**ГРАФІ́ТА** (іт. graffito) — тое, што і *сграфіта*.

**ГРАФІТАПЛА́СТЫ** (ад *графіт* + *-пласт*) — пластмасы, якія змягчаюць у якасці напаўняльніка графіт.

**ГРАФІТЫЗА́ЦЫЯ** (ад *графіт*) — утварэнне графіту ў металічных сплавах, дзе вуглярод змягчаецца ў выглядзе нястойкіх *карбідаў*.

**ГРАФІ́ЦІ** (іт. graffiti) — старажытныя надпісы бытавога або культавага зместу, надрапаныя на сценах будынкаў, прадметах бытавога прызначэння і інш.

**ГРАФІ́ЧНЫ** (гр. graphikos) — 1) які мае адносіны да *графікі* (напр. г-ае мастацтва); 2) выражаны пры дапамозе графіка, чарцяжа (напр. г. метад рашэння задачы).

**-ГРАФІЯ** (гр. grapho = пішу) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццямі «запісванне», «адлюстраванне».

**ГРАФО́ЛАГ** (ад *графа-* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *графалогіі*.

**ГРАФТСУПАЛІМЕ́РЫ** (ад англ. graft = прывіўка + *супалімеры*) — супалімеры, *макрамалекулы* якіх маюць разгалінаваную будову.

**ГРА́ЦІС** (лац. gratis) — бясплатна, дармова (найчасцей пра экзэмпляр кнігі, які выдаецца без грашовай аплаты).

**ГРАЦЫЁЗА** (ісп. gracioso = дасціпны) — традыцыйны камічны слуга ў іспанскай драматургіі 17 ст., у так званай камедыі плашча і шпагі.

**ГРАЦЫЁЗНЫ** (іт. grazioso, ад лац. gratia = мілавіднасць, прывабнасць) — 1) поўны *грацыі* 1, прыгожы ў позах, зграбны; 2) стройны па форме, вытанчана прыгожы (пра творы мастацтва).

**ГРА́ЦЫЯ** (лац. gratia = мілавіднасць, прывабнасць) — 1) зграбнасць рухаў, прыгажосць позы; 2) шырокі эластычны жаночы пояс, які ахоплівае торс і падтрымлівае грудзі; 3) *паэт.* прыгажуня.

**ГРОГ** (англ. grog) — напітак, прыгатаваны з рому або каньяку з цукрам і гарачай вадой.

**ГРОС** (ням. Gross) — *уст.* мера лічэння, роўная 12 *тузінаў* (144 штукі).

**ГРО́СБУХ** (ням. Grossbuch) — бухгалтарская кніга, якая дае зводку ўсіх рахункаў і прыходна-расходных аперацый.

**ГРОСМА́ЙСТАР** (ням. Grossmeister) — 1) вышэйшае шахматна-спартыўнае званне; 2) галава каталіцкага духоўна-рыцарскага ордэна.

**ГРОСФА́ТЭР** (ням. Grossvater = дзядуля) — старадаўні нямецкі танец, які суправаджаецца спевамі; быў пашыраны ў 17—19 ст.

**ГРОТ**[1] (фр. grotte) — 1) неглыбокая скляпеністая пячора з шырокім уваходам, натуральная або штучная; 2) паркавае збудаванне ў выглядзе пячоры.

**ГРОТ**[2] (гал. groot = вялікі) — ніжні парус на *грот-мачце*.

**ГРОТ-МА́ЧТА** (гал. grote mast) — сярэдняя, самая высокая *мачта* на парусным судне.

# Г

**ГРОШ** (польск. grosz < чэш. groš, ад с.-лац. grossus) — 1) даўнейшая дробная манета ў Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім рознай вартасці ў розныя часы; 2) *мн.* грошы; 3) сучасная разменная манета ў Польшчы, роўная 1/100 *злотага*.

**ГРУ́БЕР** (англ. grubber) — устарэлая назва *культыватара* для глыбокага рыхлення глебы.

**ГРУ́БКА** (польск. grubka, ад с.-в.-ням. gruobe) — невялікая пакаёвая печ, звычайна для абагрэву.

**ГРУМ** (англ. groom) — слуга, які суправаджае вярхом конніка, а таксама хлопчык-лакей.

**ГРУ́МІНГ** (ад англ. groom = чысціць каня) — камфортныя паводзіны млекакормячых, якія выражаюцца ў доглядзе футра і адрасаваны іншай асобіне.

**ГРУНДШТРЫХІ́** (ням. Grundstrich = тлустая рыска) — вертыкальныя *штрыхі* літар, якія з'яўляюцца асновай большасці знакаў.

**ГРУ́НДЭР** (ням. Gründer) — асоба, якая з'яўляецца заснавальнікам акцыянернага таварыства ў спекуляцыйных мэтах.

**ГРУНКО́ЛЬ** (ням. Grünkohl, ад grün = зялёны + Kohl = капуста) — сарты ліставой капусты з зялёным лісцем.

**ГРУНТ** (польск. grunt, ад с.-в.-ням. grunt) — 1) верхні пласт зямлі, глеба; 2) зямная паверхня наогул (напр. цвёрды г., пясчаны г.); 3) дно вадаёма (донны г.); 4) слой рэчыва, які наносіцца на палатно будучай карціны для надання паверхні гладкасці, патрэбнага колеру і інш.; 5) *перан.* тое галоўнае, на чым засноўваецца што-н. (траціць г. пад нагамі).

**ГРУНТВА́ГА** (ад *грунт* + *вага*) — тое, што і *ватэрпас*.

**ГРУНТО́ВЫ** (гал. grondtouw) — *мар.* парусінавыя стужкі або тросы, якія ахопліваюць падвешаную шлюпку і ахоўваюць яе ад разгойдвання.

**ГРУНТО́ЎНЫ** (польск. gruntowny) — 1) трывалы, глыбокі (напр. г-ыя веды); 2) які характарызуецца сур'ёзнасцю, глыбінёй, падрабязнасцю, абгрунтаваны (напр. г. артыкул).

**ГРУ́ПА** (ням. Gruppe) — 1) некалькі асоб, прадметаў, жывёл, якія знаходзяцца разам, побач (напр. г. коннікаў, г. дамоў); 2) скульптура або фатаграфічны здымак некалькіх асоб; 3) сукупнасць прадметаў, з'яў, рэчываў з агульнай прыметай, уласцівасцю (г. крыві); 4) сукупнасць асоб, звязаных агульнай мэтай, ідэяй, працай.

**ГРУПЕНФЮ́РЭР** (ням. Gruppenführer) — званне ў СС у фашысцкай Германіі, якое адпавядала званню генерал-лейтэнант.

**ГРУПЕ́ТА** (іт. gruppetto, памянш. ад gruppo = група) — *муз.* меладычнае ўпрыгожанне з 4—5 нот, якое ўтвараецца чаргаваннем асноўнага гуку з суседнімі верхнім і ніжнім дапаможнымі гукамі (гл. *мелізмы*).

**ГРУ́ЦА** (польск. gruca, ад ням. Grütze) — ячменныя крупы, а таксама каша з гэтых круп.

**ГРЫВУА́ЗНЫ** (фр. grivois) — гуллівы; легкадумны, не зусім прыстойны.

**ГРЫГАРЫЯ́НСКІ** [лац. Gregorianus, ад Gregorius = імя папы Грыгорыя XIII (1502—1585)] — звязаны з сістэмай летазлічэння, якую ўвёў папа Грыгорый XIII (гл. *каляндар* 2).

**ГРЫ́ДЛІК** (ад англ. grid = сетка + leak = ток) — вялікае супраціўленне ў спалучэнні з невялікім пастаянным *кандэнсатарам* у коле сеткі электроннай лямпы.

**ГРЫЗА́ЙЛЬ** (фр. grisaille, ад gris = шэры) — дэкаратыўны жывапіс, выкананы адценнямі аднаго колеру, звычайна шэрага або карычневага.

**ГРЫЗЕ́ТКА** (фр. grisette) — тып гарадской дзяўчыны (швачкі, майстрыхі) легкадумных паводзін у французскай літаратуры.

**ГРЫ́ЗЛІ** (англ. grizzly) — буры мядзведзь, які водзіцца на Алясцы і ў заходніх раёнах Канады.

**ГРЫЗО́Н** (н.-лац. grison) — драпежны звярок сям. куніц з шэрай спіной і белымі палосамі па баках, пашыраны ў Паўд. Амерыцы; аб'ект палявання.

**ГРЫЛАБЛАТЫ́ДЫ** (н.-лац. gryllobattida) — атрад насякомых з няпоўным пераўтварэннем (змяшчаюць прыметы тараканавых, прамакрылых і інш.); трапляюцца ў Канадзе, на Далёкім Усходзе.

**ГРЫЛЬ** (фр. griller = смажыць) — шафа з газавым або электрычным генератарам для засмажвання кавалкаў мяса, птушыных тушак на рашотках або ражнах.

**ГРЫЛЬЯ́Ж** (фр. grillage = смажанне) — сорт цукерак з падсмажанымі арэхамі і міндалем.

**ГРЫМ** (фр. grime = забаўны стары) — 1) неабходны для выканання ролі выгляд, які надаецца твару акцёра з дапамогай спецыяльных фарбаў, наклеек і інш.; 2) сродкі, перш за ўсё касметычныя, якія выкарыстоўваюцца для падкрэслівання або змянення рыс твару.

**ГРЫМА́СА** (фр. grimace) — наўмыснае або міжвольнае скрыўленне рысаў твару; міна (строіць грымасы).

**ГРЫМЁР** (фр. grimer = падмалёўваць твар) — работнік тэатра, які *грыміруе* артыстаў.

**ГРЫ́МІ** [н.-лац. (hyphessobrycon) griemi] = рыба атрада карпападобных, якая пашырана ў вадаёмах Бразіліі; на Беларусі гадуецца як акварыумная.

**ГРЫМІРАВА́ЦЬ** (фр. grimer = падмалёўваць твар) — 1) накладваць *грым*, каб надаць акцёру патрэбны для яго ролі выгляд; 2) надаваць каму-н. з дапамогай грыму аблічча каго-н. (напр. г. пад рыбака).

**ГРЫ́МІЯ** (н.-лац. grimmia) — лістасцябловы мох сям. грыміевых, які расце на валунах.

**ГРЫНБЕ́КЕРЫ** (англ. greenbackers, ад greenbacks = *літар.* зялёныя спінкі) — удзельнікі фермерскага руху ў ЗША ў першыя дзесяцігоддзі пасля грамадзянскай вайны 1861—1865 гг., якія выступалі супраць скасавання папяровых грошай зялёнага колеру (грынбекаў).

**ГРЫП** (фр. gripре) — вострая вірусная хвароба эпідэмічнага характару, галоўнымі рысамі якой

з'яўляюцца запаленне дыхальных шляхоў і гарачка.

**ГРЫФ**[1] (лац. gryphus, ад гр. gryps) — буйная драпежная птушка сям. ястрабіных, якая гнездзіцца на скалах, адзіночных дрэвах і жывіцца мерцвячынай.

**ГРЫФ**[2] (ням. Griff) — 1) доўгая, вузкая частка струнных музычных інструментаў, да якой у час ігры прыціскаюць струны; 2) дзяржанне шаблі, шашкі і іншай халоднай зброі; 3) стальны прут атлетычнай штангі, на які надзяваюцца шары, дыскі.

**ГРЫФ**[3] (фр. griffe) — афіцыйны надпіс або штамп на дакуменце, бланку, які вызначае спецыфіку іх выкарыстання (напр. дакумент з грыфам «Сакрэтна», бланк з грыфам установы).

**ГРЫ́ФАЛА** (н.-лац. grifola) — губавы *базідыяльны* грыб сям. скутыгеравых, які расце каля ствалоў дрэў, пнёў пераважна лісцевых парод, зрэдку непасрэдна на драўніне; ядомы.

**ГРЫФАНА́Ж** (фр. griffonnage) — эскізы імправізацыйнага характару, найбольш пашыраныя пры маляванні пяром і ў *афорце*.

**ГРЫ́ФЕЛЬ** (ням. Griffel) — палачка з асобай пароды сланцу для пісання на аспіднай (грыфельнай) дошцы.

**ГРЫФО́Н** (фр. griffon) — 1) даўгашэрсны сабака з пароды выжлаў; 2) крылаты леў з арлінай галавой у антычнай міфалогіі.

**ГРЭГАРЫ́НЫ** (н.-лац. gregarinida, ад лац. gregarius = просты, звычайны) — атрад прасцейшых класа *спаравікоў*, паразітуюць у кішэчніку і поласці цела кольчатых чарвей і насякомых.

**ГРЭ́ЖА** (фр. grège, ад іт. greggio = неапрацаваны, сыры) — шоўк-сырэц з нітак, разматаных з *коканаў*.

**ГРЭЙ** [англ. S.Gray = прозвішча англ. вучонага (1670—1736)] — адзінка паглынутай дозы выпрамянення, роўная энергіі ў 1 *джоўль* выпрамянення, перададзенага масе абпрамененага рэчыва ў 1 кг.

**ГРЭ́ЙДЭР** (англ. grader) — 1) спецыяльная машына для выраўнівання палатна грунтавых дарог, планіроўкі адхонаў, пракладкі каналаў і інш.; 2) грэйдэрная дарога.

**ГРЭ́ЙДЭР-ЭЛЕВА́ТАР** (ад *грэйдэр* + *элеватар*) — грэйдэр з канвеерам для падачы зрэзанага грунту ў адвал або на транспартны сродак.

**ГРЭ́ЙЗЕН** (ням. Greisen) — горная парода, якая складаецца з кварцу і светлых слюд.

**ГРЭ́ЙНДЖЭРЫ** (англ. grangers, ад grange = ферма) — удзельнікі фермерскага руху ў ЗША ў першыя дзесяцігоддзі пасля грамадзянскай вайны 1861—1865 гг., якія выступалі за паляпшэнне становішча амерыканскіх фермераў шляхам заканадаўчых рэформ.

**ГРЭЙПФРУ́Т** (англ. grapefruit) — вечназялёнае цытрусавае дрэва сям. рутавых, пашыранае ў субтропіках, а таксама гаркавата-салодкі пахучы плод гэтага дрэва круглай або авальнай формы.

**ГРЭ́ЙФЕР** (ням. Greifer) — 1) чарпак пад'ёмнага крана, які складаецца з некалькіх створак, што механічна раскрываюцца і закрываюцца пры пагрузцы зямлі, вуга-

лю, металалому і інш.; 2) прыстасаванне ў апаратах і машынах для захоплівання прадмета, які апрацоўваецца.

**ГРЭ́НА** (фр. graine = *літар.* семя, зерне) — яйцы матыля шаўкапрада, з якіх развіваюцца вусені, што даюць шаўкавічныя коканы.

**ГРЭНАДЗЁР** (фр. grenadier, ад grenade = граната) — 1) гранатамётчык у еўрапейскіх арміях 17—18 ст.; 2) салдат адборных пяхотных і кавалерыйскіх часцей у арміях еўрапейскіх дзяржаў 18—20 ст., у т. л. і ў пешай гвардыі Вялікага княства Літоўскага.

**ГРЭНА́Ж** (фр. grainage) — атрыманне *грэны* на племянных шаўкаводчых станцыях.

**ГРЭФ'Е́** (фр. grefier) — службовая асоба пры парламенце або судзе ў Францыі і Бельгіі, якая складае афіцыйныя справаздачы, рэдагуе дакументы і г. д.

**ГУА́НА** (ісп. guano, ад індз. huanu) — сухі памёт марскіх птушак, які выкарыстоўваецца як угнаенне.

**ГУАНА́КА** (ісп. guanaco, ад індз. huanacu) — жывёла сям. вярблюдавых, якая водзіцца ў высакагорных раёнах Андаў; продак свойскай *ламы*.

**ГУАНІДЫ́Н** (ад *гуана* + гр. eidos = выгляд) — бясколерныя *гіграскапічныя* крышталі, якія выкарыстоўваюцца для атрымання лекавых і выбуховых рэчываў, іонаабменных смолаў.

**ГУАНІ́Н** (ад *гуана*) — арганічнае злучэнне, якое змяшчаецца ва ўсіх жывых клетках у складзе *нуклеінавых* кіслот.

**ГУАРА́НІ** (ісп. guarani) — грашовая адзінка Парагвая, роўная 100 *сентыма*.

**ГУА́Ш** (фр. gouache, ад іт. guazzo = вадзяная фарба) — фарба з тонка расцёртых пігментаў з прымессю клею і бялілаў, а таксама жывапіс гэтымі фарбамі.

**ГУАЯ́ВА** (н.-лац. guaiava < ісп. guayaba, з індз.) — вечназялёнае дрэва сям. міртавых, пашыранае ў тропіках, а таксама кісла-салодкі сакаўны пахучы плод гэтага дрэва.

**ГУБЕРНА́ТАР** (польск. gubernator, ад лац. gubernator = правіцель) — 1) начальнік асноўнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі, напр. губерні ў Расійскай імперыі, штата ў ЗША; 2) пасада кіраўнікоў некаторых абласных адміністрацый у Расійскай Федэрацыі.

**ГУБЕ́РНЯ** (рус. губерния, ад лац. gubernare = кіраваць) — асноўная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Расіі (з 1708 г.) і ў СССР да 1929 г.

**ГУВЕРНА́НТКА** (фр. gouvernante) — выхавальніца дзяцей у дваранскіх і буржуазных сем'ях, звычайна іншаземка.

**ГУВЕРНЁР** (фр. gouverneur) — выхавальнік дзяцей у дваранскіх і буржуазных сем'ях, звычайна іншаземец.

**ГУГЕНО́ТЫ** (фр. huguenots) — прыхільнікі *кальвінізму* ў Францыі ў 16—18 ст., якія праследаваліся каталіцкай царквой і ўрадам.

**ГУДАЕ́РА** (н.-лац. goodyera, ад D. Goodyer = прозвішча англ. батаніка) — травяністая расліна сям. ятрышнікавых з вострым лісцем і

дробнымі белымі пахучымі кветкамі, пашыраная пераважна ў халодных і ўмераных зонах; на Беларусі трапляецца рэдка.

**ГУ́ДВІЛ** (англ. goodwill) — умоўная вартасць дзелавых сувязей фірмы, грашовая ацэнка прэстыжу гандлёвай маркі, кіраўнічых, арганізацыйных і тэхнічных рэсурсаў.

**ГУДРАНА́ТАР** (ад фр. goudron) — ручная, аўтамабільная або прычэпная машына для транспарціроўкі і размеркавання *бітумаў* пры пабудове і рамонце аўтамабільных дарог.

**ГУДРО́Н** (фр. goudron) — чорнае смалістае рэчыва, астатак ад перагонкі нафты, які выкарыстоўваецца як паліва і для вырабу змазачнага масла.

**ГУ́ЗІК** (польск. guzik) — 1) металічная, касцяная або пластмасавая зашпілька на адзенні, абутку ў форме кружка; 2) усё тое, што нагадвае па форме гэту зашпільку (напр. г. гармоніка).

**ГУ́ЛЬДЭН** (ням. Gulden) — 1) грашовая адзінка Нідэрландаў, роўная 100 *цэнтам*[1]; 2) залатая, пасля сярэбраная манета ў Германіі і некаторых суседніх з ёю дзяржавах у 14—19 ст.

**ГУЛЯ́МЫ** (ар. gulam = юнак, раб) — 1) рабы ў мусульманскіх краінах перыяду сярэдневякоўя; 2) пастаянная конная гвардыя ў арабскім *халіфаце* 9 ст.; 3) радавыя воіны феадальнага апалчэння ў Асманскай імперыі ў сярэднія вякі.

**ГУЛЯ́Ш** (венг. hulas) — страва з кавалачкаў тушанага мяса ў соусе з прыправамі.

**ГУ́МА**[1] (польск. guma, ад лац. gummi = камедзь) — эластычны матэрыял, які атрымліваюць вулканізацыяй каўчуку; выкарыстоўваецца ў тэхніцы, сельскай гаспадарцы, будаўніцтве, медыцыне, побыце.

**ГУ́МА**[2] (лац. gummi = камедзь) — пухлінападобнае разрастанне тканак розных органаў, характэрнае для позніх перыядаў *сіфілісу*.

**ГУМАЛІ́ТЫ** (ад *гума* + *-літ*) — выкапнёвыя вуглі, прадукты пераўтварэння рэштак вышэйшых раслін у балотных умовах.

**ГУМАЛЯ́СТЫКА** (польск. gumelastyka) — *уст.* гума, рызіна.

**ГУМАНІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. humanus = чалавечны) — распаўсюджанне прынцыпаў *гуманізму*.

**ГУМАНІ́ЗМ** (ад лац. humanus = чалавечны) — 1) любоў да людзей, павага да чалавечай годнасці; 2) прагрэсіўны рух эпохі Адраджэння, які абвясціў прынцып свабоднага развіцця асобы, выступіў за вызваленне чалавека ад улады феадалізму і каталіцызму.

**ГУМАНІ́СТ** (ад лац. humanus = чалавечны) — 1) чалавек, прасякнуты ідэямі *гуманізму*; 2) прадстаўнік гуманізму эпохі Адраджэння.

**ГУМАНІТА́РНЫ** (фр. humanitaire, ад лац. humanitas = чалавечая прырода, адукаванасць) — 1) які адносіцца да чалавечага грамадства, да чалавека; г-ае правы — нормы міжнароднага права, накіраваныя на абарону правоў і свабод чалавека; 2) звязаны з грамадскімі навукамі, якія вывучаюць гісторыю і культуру чалавецтва

(напр. г-ая адукацыя); 3) прасякнуты духам *гуманізму, гуманны* (напр. г-ае мастацтва).

**ГУМА́ННЫ** (ад лац. humanus = чалавечны) — чулы, дабрачынны, чалавечны, прасякнуты павагай да людзей (г-ыя адносіны).

**ГУ́МАР** (польск. humor, ад лац. humor = вільгаць як адна з арганічных сіл, што паводле даўнейшых уяўленняў вызначалі характар, тэмперамент чалавека) — 1) лёгкая незласлівая насмешка; 2) мастацкі прыём у творах літаратуры і мастацтва, заснаваны на паказе чаго-н. у камічнай, дабрадушна-смешнай форме (сатыра і г.).

**ГУМАРА́ЛЬНЫ** (ад лац. humor = вільгаць як адна з арганічных сіл, што паводле даўнейшых уяўленняў вызначалі характар, тэмперамент чалавека) — звязаны з вадкасцямі арганізма — кроўю, лімфай, тканкавай вадкасцю.

**ГУМАРЫ́СТ** (англ. humorist, ад лац. humor = вільгаць) — 1) аўтар або выканаўца гумарыстычных твораў; 2) чалавек, схільны да *гумару* 1.

**ГУМАРЫ́СТЫКА** (фр. humoristique, ад лац. humor = вільгаць) — 1) сукупнасць гумарыстычных мастацкіх твораў; 2) *перан.* што-н. смешнае, камічнае.

**ГУМАРЫСТЫ́ЧНЫ** (ад *гумарыст*) — які змяшчае ў сабе гумар; уласцівы гумару, гумарысту.

**ГУМА́РЫЯ** (н.-лац. humaria) — сумчаты грыб сям. піранэмавых, які трапляецца на глебе, раслінных рэштках; *экскрэментах* жывёл.

**ГУМАРЭ́СКА** (ням. Humoreske, ад лац. humor = вільгаць) — невялікі літаратурны або музычны твор жартоўнага характару.

**ГУ́МІ** (лац. gummi, ад гр. kommi = камедзь, клей) — густы сок з кары некаторых дрэў, які выкарыстоўваецца ў якасці клею; камедзь.

**ГУМІАРА́БІК** (ад лац. gummi = камедзь + arabicus = арабскі) — смала трапічных акацый, якая лёгка растварaецца ў вадзе і выкарыстоўваецца ў медыцыне, тэкстыльнай прамысловасці і інш.

**ГУМІГУ́Т** (ад лац. gummi = камедзь + gutta = кропля) — млечны сок некаторых трапічных дрэў, які выкарыстоўваецца ў тэхніцы, жывапісе, медыцыне.

**ГУМІ́ДНЫ** (лац. humidus) — вільготны (напр. г. клімат).

**ГУМІКАПА́Л** (ад лац. gummi = камедзь + *капал*) — смала, якая выкарыстоўваецца для вырабу лакаў.

**ГУМІЛА́К** (ад лац. gummi = камедзь + *лак*) — смалістае рэчыва, якое ўтвараецца на галлі некаторых трапічных раслін; служыць для вырабу ізаляцыйных лакаў, сургучу і інш.

**ГУМІ́НАВЫ** (ад лац. humus, humi = зямля, глеба); г-ыя кіслоты — арганічныя злучэнні, высокамалекулярныя аморфныя рэчывы, якія выкарыстоўваюцца пры вырабе свінцовых *акумулятараў*, як стымулятары росту раслін, састаўныя часткі ўгнаенняў.

**ГУМІ́Т** (ад лац. gummi = камедзь) — мінеральнае ўтварэнне жоўтага або аранжава-чырвонага колеру, якое ўзнікае ў выніку разбурэння *ураніту* або іншых мінералаў, што змяшчаюць *уран*.

# Г

**ГУМІФІКА́ЦЫЯ** (ад *гумус* + *-фікацыя*) — працэс утварэння перагною ў глебе.

**ГУМО́З** (фр. gommose, ад лац. gummi = камедзь) — хвароба раслін, якая заключаецца ў моцным выдзяленні *гумі, камедзі*.

**ГУМО́ЗА** (фр. gommose, ад лац. gummi = камедзь) — ліпкі каляровы пластыр, які выкарыстоўваецца для *грыму*.

**ГУ́МУС** (лац. humus = зямля, глеба) — састаўная частка глебы, якая ўтварылася з рэшткаў жывёльных і раслінных арганізмаў; перагной.

**ГУ́НТЭР** (англ. hunter) — дужы верхавы конь, які ў Англіі і Ірландыі выкарыстоўваецца для спартыўнага палявання і скачак з перашкодамі (*стыпль-чэзаў*).

**ГУ́ПІ** (англ. guppy) — рыба атрада карпазубых, якая жыве ў прэсных водах Паўд. Амерыкі; разводзіцца ў акварыумах.

**ГУРА́МІ** (малайск. gurami) — рыба атрада акунепадобных, якая жыве ў прэсных водах Паўд. і Паўд.-Усх. Азіі і Афрыкі; разводзіцца ў акварыумах.

**ГУРД** (фр. gourde) — грашовая адзінка Гаіці, роўная 100 *сентыма*.

**ГУРМА́Н** (фр. gourmand) — аматар і знаток далікатных страў.

**ГУРТ**[1] (польск. hurt, ад с.-в.-ням. hurt) — 1) група, натоўп людзей; 2) статак жывёлы, чарада птушак; 3) група аднародных прадметаў (напр. г. хмар, г. дрэў).

**ГУРТ**[2] (ням. Gurt = пояс) — 1) тое, што і *нервюра* 1; 2) рабро чаканнай манеты.

**ГУ́РЫІ** (перс. churi, ад ар. chur = чарнавокія) — згодна з *каранам*, вечна маладыя прыгажуні, якія жывуць у раі і ўпрыгожваюць там жыццё праведнікаў.

**ГУСА́Р** (польск. husar, ад венг. huszár) — салдат лёгкай кавалерыі венгерскай (з 15 ст.), а пазней і іншых еўрапейскіх армій, у т. л. армій Польшчы, Вялікага княства Літоўскага, царскай Расіі.

**ГУСІ́ТЫ** [ад чэш. J.Hus = прозвішча чэш. рэлігійнага рэфарматара (каля 1371—1415)] — паслядоўнікі Яна Гуса, ідэолага нацыянальнавызваленчага і антыкаталіцкага руху ў Чэхіі ў 15 ст.

**ГУСТ** (польск. gust, ад лац. gustus) — 1) адчуванне і разуменне прыгожага (напр. літаратурны г., мастацкі г.); 2) схільнасць, любоў да чаго-н.; 3) манера, стыль; н е п а г у с т у — не да спадобы, не па душы.

**ГУ́ТА** (польск. huta, ад ням. Hutte) — даўнейшая плавільня, шклозавод.

**ГУТАЛІ́Н** (ад ням. gut = добры) — тое, што і *вакса*.

**ГУТАПЕ́РЧА** (англ. guttapercha, ад малайск. getah = жывіца + pertja = гатунак дрэва) — пластычнае арганічнае рэчыва, блізкае па сваіх уласцівасцях да каўчуку, якое атрымліваюць з зацвярдзелага соку некаторых раслін; выкарыстоўваецца ў тэхніцы і медыцыне.

**ГУТА́ЦЫЯ** (ад лац. gutta = кропля) — выдзяленне раслінамі кропель вады праз спецыяльныя вусцейкі (*гідатоды*), што назіраецца ў цёплае і вільготнае надвор'е.

**ГУ́ТЫ** (лац. gutta = кропля) — упрыгожанні ў выглядзе дробных усечаных конусаў або цыліндраў пад *трыгліфамі* і над трыгліфамі і *метопамі* ў будынках дарычнага *ордэра*.

**ГУ́ФА** (ням. Hufe) — 1) зямельны надзел селяніна ў сярэдневяковай Германіі; 2) нямецкая зямельная мера, роўная 30 *акрам*.

**ГЭ́БЕЛЬ** (польск. hebel, ад ням. дыялектнага hebel) — сталярны інструмент у выглядзе калодкі з клінам і шырокім лязом для стругання дошак.

**ГЮВЕ́Ч** (тур. qüveć) — 1) страва са смажанага мяса з гароднінай; 2) кансерваваная гародніна з мясам.

**ГЮЙС** (гал. geus) — флаг, які паднімаюць на ваенных караблях у час стаянкі на якары.

**ГЮРЗА́** (рус. гюрза, ад перс. gurza) — ядавітая змяя сям. гадзюкавых даўжынёй да 1,5 метра, якая пашырана ў Паўн. Афрыцы і Паўд.-Зах. Азіі, трапляецца ў Закаўказзі і Сярэд. Азіі.

**ГЯУ́Р** (тур. gāur, gāvur, ад ар. kāfir) — пагардлівая назва іншаверца ў *мусульман*.

# Д

**ДА́А** (кіт. dao = шлях, закон, прынцып) — паняцце старажытнакітайскай філасофіі, якое абазначала ў тэорыі пазнання заканамернасць прыроды, у этыцы — сэнс жыццёвага шляху чалавека, этычную норму, у логіцы — падставу, аснову, аргумент.

**ДААСІ́ЗМ** (ад *даа*) — 1) адзін з кірункаў старажытнакітайскай філасофіі, паводле якога прырода і жыццё людзей падпарадкаваны не волі неба, а закону, які існуе па-за свядомасцю чалавека; 2) адна з кітайскіх рэлігій, якая ўзнікла ў 2 ст. да н. э.

**ДАВЕНЕІ́ДЫ** (н.-лац. davaineidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *цэстодаў*, кішэчныя паразіты свойскіх і дзікіх курападобных птушак.

**ДА́ГА** (іт. daga) — кароткая шабля для рукапашнага бою ў сярэдневяковай Зах. Еўропе, Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім.

**ДАГАРЭ́СА** (іт. dogaressa) — жонка *дожа*.

**ДАГЕРАТЫ́П** [фр. daguerréotype, ад L.Daguerre = прозвішча фр. вынаходцы фатаграфіі (1787—1851) + гр. typos = адбітак] — фатаграфічны здымак, атрыманы метадам *дагератыпії*.

**ДАГЕРАТЫ́ПІЯ** [фр. daguerréotypie, ад L.Daguerre = прозвішча фр. вынаходцы фатаграфіі (1787—1851) + гр. typos = адбітак] — першы тэхнічна распрацаваны спосаб фатаграфавання на металічную пласцінку, пакрытую слоем ёдзістага серабра, прапанаваны Л. Дагерам у 30-я гг. 19 ст.

**ДАГМАТЫ́ЗМ** (ад гр. dogma, -atos = думка, вучэнне) — некрытычнае мысленне (*догмамі*), сляпая вера ў нязменнасць тых або ін-

шых палажэнняў, прызнанне іх за бясспрэчную ісціну.

**ДАГМА́ТЫК** (гр. dogmatikos = дагматычны) — чалавек, які мысліць *догмамі.*

**ДАГМА́ТЫКА** (гр. dogmatikos = дагматычны) — сістэмны выклад *догматаў* якой-н. рэлігіі.

**ДАГМАТЫ́ЧНЫ** (гр. dogmatikos) — 1) заснаваны на *догмах*; 2) уласцівы *дагматыку*; бяздоказны, катэгарычны; 3) адцягнены, абстрактны, схематычны; 4) які адносіцца да *дагматыкі* (напр. д-ае багаслоўе).

**ДАДАІ́ЗМ** (фр. dadaïsme, ад dada = «конік» (дзіцячы лепет)] — мадэрнісцкі кірунак у літаратуры і мастацтве Зах. Еўропы пач. 20 ст., які вызначаўся нігілізмам, наўмысным прымітывізмам, антыэстэтызмам; даў пачатак *сюррэалізму* і *экспрэсіянізму.*

**ДАДЭКАГО́Н** (ад гр. dodeka = дванаццаць + *-гон*) — дванаццацівугольнік.

**ДАДЭКАФО́НІЯ** (ад гр. dodeka = дванаццаць + *-фонія*) — метад музычнай *кампазіцыі*, заснаваны на адмаўленні ладавых сувязей паміж гукамі (гл. *атанальнасць*) і сцвярджэнні абсалютнай роўнасці ўсіх 12 тонаў *храматычнай* гамы.

**ДАДЭКА́ЭДР** (ад гр. dodeka = дванаццаць + *-эдр*) — дванаццаціграннік.

**ДАЗА́ТАР** (ад *доза*) — прыстасаванне для аўтаматычнага адмервання сыпкіх, вадкіх і газападобных рэчываў.

**ДАЗІМЕ́ТР** (ад гр. dosis = порцыя + *-метр*) — прыбор для вызначэння *дозы* радыеактыўнага выпрамянення.

**ДАЗІМЕ́ТРЫЯ** (ад гр. dosis = порцыя + *-метрыя*) — галіна прыкладной ядзернай фізікі, што вывучае велічыню ўздзеяння радыеактыўных выпрамяненняў на розныя аб'екты.

**ДАЗІСЦЫ́ФА** (н.-лац. dasyscyphus) — сумчаты грыб сям. гіяласцыфавых, які трапляецца на гнілых сцёблах маліны, апалым лісці,ігліцы.

**ДАЙДЖЭ́СТ** (англ. digest = *літар.* кароткі выклад) — 1) выданне, якое змяшчае адаптаваны выклад мастацкага твора; 2) перыядычнае выданне, якое перадрукоўвае (часта скарочана) матэрыялы з іншых выданняў; 3) скарочаны варыянт любой кнігі ў перыядычным друку.

**ДА́ЙКА** (англ. dike = *літар.* перагародка, каменная сцяна) — пластападобнае магматычнае цела (*інтрузія*), абмежаванае паралельнымі плоскасцямі.

**ДАЙМ** (англ. dime) — сярэбраная, а з 1965 г. медна-нікелевая манета ЗША, роўная 1/10 *долара*, або 10 *цэнтам.*

**ДА́ЙНА** (літ. daina) — агульная назва розных відаў літоўскіх народных песень.

**ДАЙРА́** (цюрк. dajra) — сярэднеазіяцкі музычны інструмент тыпу бубна.

**ДАЙХА́РДАЎЦЫ** (ад англ. diehard = стойкі, нязломны) — назва найбольш рэакцыйнай часткі англійскай партыі *кансерватараў* 2; цвердалобыя.

**ДА-КА́ПА** (іт. da capo = зноў, спачатку) — знак у нотным пісьме, які прапануе паўтарыць п'есу спачатку.

**ДАКЕ́МБРЫЙ** (ад *кембрый*) — найбольш старажытны перыяд геалагічнай гісторыі Зямлі, а таксама пласты горных парод, якія ўтварыліся ў той час (гл. таксама *архей, венд, пратэразой, рыфей*).

**ДАКЛЯРАВА́ЦЬ** (польск. deklarować, ад лац. declarare) — паабяцаць зрабіць што-н., аднесціся пэўным чынам да каго-н., чаго-н.

**ДАКРО́Н** (англ. dacron) — разнавіднасць сінтэтычнага валакна, падобнага да *лаўсану*, якое вырабляецца ў ЗША.

**ДАКРЫМІ́ЦЕС** (н.-лац. dacrymyces) — *базідыяльны* грыб сям. дакрыміцыевых, які развіваецца на ламаччы і пнях, апрацаванай драўніне.

**ДАКРЫЯАДЭНІ́Т** (ад гр. dakryon = сляза + aden = залоза) — запаленне слёзнай залозы вока.

**ДАКРЫЯЦЫСТЫ́Т** (ад гр. dakryon = сляза + kystis = пухір) — запаленне слёзнага мяшка вока.

**ДАКСО́ГРАФЫ** (ад гр. doksa = думка, погляд + *-граф*) — старажытнагрэчаскія аўтары, якія ў сваіх творах выкладалі погляды філосафаў.

**ДАКТАРА́ЛЬНЫ** (фр. doctoral, ад лац. doctoralis = уласцівы настаўніку, вучонаму) — педантычна павучальны, катэгарычны (напр. д. тон).

**ДАКТАРА́НТ** (с.-лац. doctorans, -ntis) — асоба, якая рыхтуе да абароны доктарскую *дысертацыю*.

**ДАКТАРАНТУ́РА** (ад *дактарант*) — падрыхтоўка, якую праходзяць дактаранты; сістэма такой падрыхтоўкі спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі.

**ДАКТАРА́Т** (с.-лац. doctoratus, ад лац. doctor = настаўнік) — экзамен на вучоную ступень *доктара* ў навучальных установах Зах. Еўропы.

**ДАКТРЫ́НА** (лац. doctrina = навука) — сістэматызаванае вучэнне (звычайна філасофскае, палітычнае, ідэалагічнае), звязная канцэпцыя, сукупнасць тэарэтычных ці палітычных прынцыпаў (напр. дзяржаўная д., ваенная д.).

**ДАКТРЫНЁР** (фр. doctrinaire, ад лац. doctrina = навука) — той, хто слепа, некрытычна прытрымліваецца якой-н. устарэлай *дактрыны, догмы*, завучаных формул і правіл; схаласт, начотчык.

**ДАКТЫЛА-** (гр. daktylos = палец) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «звязаны з пальцамі, які адносіцца да пальцаў».

**ДАКТЫЛАГІРЫ́ДЫ** (н.-лац. daktylogyridae) — сямейства *гельмінтаў* класа *манагеней*, паразіты прэснаводных і марскіх рыб.

**ДАКТЫЛАГРА́МА** (ад *дактыла-* + *-грама*) — адбітак, утвораны прыцісканнем пальцаў рук, пакрытых адпаведным рэчывам, да паверхні паперы з мэтай устанаўлення асобы.

**ДАКТЫЛАГРА́ФІЯ** (ад *дактыла-* + *-графія*) — тэхніка пісьма на друкарскай машынцы.

**ДАКТЫЛАЗО́ІДЫ** (ад *дактыла-* + гр. zoon = жывая істота + *-оід*) — відазмененыя асобіны каланіяль-

ных гідроідных *паліпаў*, якія выконваюць функцыі абароны, захопу ежы або прыняцця раздражненняў.

**ДАКТЫЛАКАКО́ПСІС** (н.-лац. dactylococcopsis) — аднаклетачная або каланіяльная сіне-зялёная водарасць сям. какабактрэйных, якая пашырана ў *планктоне* стаячых вадаёмаў, радзей на сушы.

**ДАКТЫЛАЛО́ГІЯ** (ад *дактыла-* + *-логія*) — спосаб размовы глуханямых пры дапамозе пальцаў рук; ручная азбука.

**ДАКТЫЛАСКАПІ́Я** (ад *дактыла-* + *-скапія*) — раздзел *крыміналістыкі*, які вывучае будову ўзораў скуры рук з мэтай *ідэнтыфікацыі* асобы.

**ДАКТЫЛІ́Т** (ад гр. daktylos = палец) — запаленне пальца, выкліканае спецыфічнай інфекцыяй, напр. пры *сіфілісе* (параўн. *панарыцый*).

**ДА́КТЫЛЬ** (гр. daktylos = палец) — трохскладовая вершаваная стапа з націскам на першым складзе.

**ДАКТЫЛЯ́РЫЯ** (н.-лац. dactylaria) — недасканалы грыб сям. маніліевых, драпежны грыб, які выкарыстоўваецца ў барацьбе з *патагеннымі* глебавымі нематодамі.

**ДАКУМЕ́НТ** (лац. documentum = доказ, сведчанне) — 1) дзелавая папера, якая пацвярджае права на што-н., служыць доказам чаго-н.; 2) пасведчанне асобы (пашпарт і інш.); 3) пісьмовы акт, твор, грамата, малюнак, здымак, які мае значэнне гістарычнага сведчання (архіўныя дакументы).

**ДАКУМЕНТА́ЛЬНЫ** (польск. dokumentalny, ад лац. documentum = доказ, сведчанне) — 1) які мае адносіны да *дакумента* (напр. д. матэрыял); 2) заснаваны на дакументах, на жыццёвых фактах (д. фільм); 3) уласцівы дакументам (д-ая дакладнасць).

**ДАКУМЕНТА́ЦЫЯ** (ад лац. documentum = доказ, сведчанне) — 1) сукупнасць *дакументаў*, прысвечаных якому-н. пытанню; 2) абгрунтаванне чаго-н. пры дапамозе дакументаў.

**ДАЛА́Й-ЛА́МА** [ад манг. dalai = акіян (мудрасці) + *лама*] — вярхоўная ўрадавая і духоўная асоба ў Тыбеце (гл. *ламаізм*).

**ДАЛАМА́Н** (тур. dolaman) — кароткі вайсковы плашч венгерскага пакрою, падшыты футрам.

**ДАЛАМІ́Т** [фр. dolomite, ад D.Dolomieu = прозвішча фр. мінералога (1750—1801)] — *мінерал* класа карбанатаў шаравата-белага колеру, які складаецца з вугляkіслых солей кальцыю і магнію; выкарыстоўваецца ў металургіі, шкляной прамысловасці і інш.

**ДАЛЕРЫ́Т** (ад гр. doleros = падманлівы) — магматычная горная парода асноўнага саставу, дробна- і сярэднезярністы *базальт*, складзены ў асноўным з *плагіяклазу* і *піраксену*, часам з *алівінам*.

**ДАЛІКА́ТНЫ** (польск. delikatny, ад лац. delicatus) — 1) ветлівы ў абыходжанні з людзьмі, ласкавы, уважлівы (д. чалавек); 2) які патрабуе тактоўных адносін (д-ае пытанне); 3) кволы; выпеставаны (д-ыя пальцы); 4) тонкі, мяккі, прыемны навобмацак (д-ая тканіна); 5) *перан.* прыемны на пах, смак, гучанне (д-ыя духі, д-ыя стравы, д-ая мелодыя).

**ДАЛІКАТЭ́С** (фр. délicatesse) — рэдкая, прыемная на смак, пах страва.

**ДАЛІХАМО́РФНАСЦЬ** (ад *даліхаморфны*) — тып прапорцый цела чалавека, які характарызуецца вузкім тулавам і доўгімі канечнасцямі.

**ДАЛІХАМО́РФНЫ** (ад гр. dolichos = доўгі + *-морфны*) — які характарызуецца вузкім тулавам і доўгімі канечнасцямі (пра тып цела чалавека).

**ДАЛІХАТЭ́КА** (н.-лац. dolichotheca) — лістасцяблові мох сям. плагіятэцыевых, які трапляецца на драўніне, што гніе.

**ДАЛІХАЦЭФА́Л** (н.-лац. dolichocephalus, ад гр. dolichos = доўгі + kephale) — чалавек з доўгай галавой (параўн. *брахіцэфал, мезацэфал*).

**ДАЛІХАЦЭФА́ЛІЯ** (н.-лац. dolichocephalia, ад гр. dolichos = доўгі + kephale = галава) — форма чэрапа, у якім падоўжанае вымярэнне значна перавышае папярочнае; доўгагаловасць (параўн. *брахіцэфалія, мезацэфалія*).

**ДАЛЬДЫ́НІЯ** (н.-лац. daldinia) — сумчаты грыб сям. ксілярыевых, які трапляецца на ствалах бярозы, вольхі, дуба і іншых дрэў лісцевых парод.

**ДАЛЬМЕ́НЫ** (фр. dolmens) — старажытныя пахавальныя збудаванні (*мегаліты*) з вялікіх каменных пліт, пастаўленых вертыкальна і накрытых адной гарызантальнай.

**ДАЛЬТАНІ́ДЫ** [ад англ. J.Dalton = прозвішча англ. хіміка і фізіка (1766—1844)] — хімічныя злучэнні пастаяннага саставу (параўн. *берталіды*).

**ДАЛЬТАНІ́ЗМ** [ад англ. J.Dalton = прозвішча англ. фізіка і хіміка (1766—1844)] — асаблівасць зроку, якая выражаецца ў нздольнасці адрозніваць некаторыя колеры, пераважна чырвоны і зялёны (параўн. *ахраматапсія*).

**ДА́ЛЬТАН-ПЛАН** (ад англ. Dalton = назва горада ў ЗША + *план*) — сістэма арганізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу ў школе, які грунтуецца на прынцыпе індывідуальнага навучання.

**ДАЛЬТО́НІК** (ад *дальтанізм*) — чалавек, які хварэе на дальтанізм.

**ДА́МА** (фр. dame) — 1) замужняя жанчына ў адрозненне ад дзяўчыны, раней жанчына з багатага або інтэлігентнага асяроддзя (свецкая д.); 2) ветлівы зварот да жанчыны (пераважна ў афіцыйных выступленнях); 3) жанчына, якая танцуе ў пары з кавалерам; 4) трэцяя па старшынству ігральная карта з малюнкам жанчыны, малодшая за караля.

**ДАМА́РА** (малайск. damar = жывіца) — смала некаторых трапічных дрэў, якая выкарыстоўваецца для вырабу празрыстых лакаў, *лінолеуму* і пластыраў.

**ДА́МБА** (рус. дамба, ад гал. dam) — штучны насып для затрымання вады пры разліве, у вадасховішчы, для змянення цячэння ракі і інш.

**ДАМЕ́Н** (фр. domaine, ад лац. dominium = валоданне) — 1) спадчыннае зямельнае ўладанне феадала ў сярэдневяковай Зах. Еўропе; 2) *фіз.* невялікі ўчастак у рэчыве,

які адрозніваецца фізічнымі ўласцівасцямі ад астатняга рэчыва.

**ДАМЕСТЫКА́ЦЫЯ** (ад лац. domesticus = дамашні) — прыручэнне дзікіх жывёл.

**ДАМІНАВА́ЦЬ, ДАМІНІ́РАВАЦЬ** (лац. dominari) — 1) пераважаць, панаваць, быць асноўным; 2) узвышацца над навакольнай мясцовасцю.

**ДАМІНА́НТА** (лац. dominans, -ntis = пануючы) — 1) дамінуючая ідэя, асноўная прымета або важнейшая састаўная частка чаго-н.; 2) пераважная сістэма нервовых цэнтраў, якая вызначае характар рэакцыі арганізма на раздражняльнікі; 3) *муз.* пятая ступень дыятанічнай гамы, а таксама акорд, пабудаваны на гэтай ступені гукараду.

**ДАМІНА́НТНЫ** (лац. dominans, -ntis) — пануючы; д - ы я  в і - д ы — тое, што і *дамінанты*; д - ы я  п р ы м е т ы — прыметы аднаго з бацькоў, якія пераважаюць у нашчадкаў.

**ДАМІНА́НТЫ** (лац. dominans, -ntis = пануючы) — віды раслін, якія колькасна пануюць у *фітацэнозах*.

**ДАМІНА́Т** (лац. dominatus = панаванне, адзінаўладдзе) — неабмежаваная рабаўладальніцкая *манархія*, якая ўстанавілася ў Рымскай імперыі ў канцы 3 ст.

**ДАМІНІЁН** (англ. dominion, ад лац. dominium = валоданне) — дзяржава ў складзе Брытанскай імперыі (да 1947 г.), якая прызнавала ўладу англійскага караля — Канада (з 1867 г.), Аўстралійскі Саюз (з 1901 г.), Новая Зеландыя (з 1907 г.) і інш.

**ДАМІНІКА́НЦЫ** (с.-лац. Dominicani, ад Dominicus = імя іспанскага манаха) — каталіцкі манаскі ордэн, заснаваны ў 1215 г. манахам Дамінікам для барацьбы супраць ерасей.

**ДАМІНІ́РАВАЦЬ** гл. *дамінаваць*.

**ДАМІНІ́ЦЫЙ** (лац. dominicium) — 1) месца плацяжу па вэксалю, якое ўказваецца пры яго прад'яўленні крэдытору; 2) юрыдычны адрас асобы.

**ДАМІНО́** (іт. domino, ад лац. dominus = пан) — 1) маскарадны касцюм у выглядзе шырокага плашча або накідкі з капюшонам (пераважна чорнага колеру); 2) настольная гульня ў касцяныя (або пластмасавыя) пласцінкі з нанесенымі на іх вочкамі, а таксама сам набор гэтых пласцінак для гульні.

**ДАМІЦЫ́ЛІЙ** (лац. domicilium = прытулак) — месца пастаяннага або пераважнага прабывання юрыдычна значнай асобы або арганізацыі.

**ДАМКРА́Т** (рус. домкрат, ад гал. dommekracht) — механізм для пад'ёму грузаў (аўтамабіляў, вагонаў, паравозаў і інш.) на невялікую вышыню.

**ДА́МНА** (лац. damnum = шкода) — 1) плата, якую патрабуюць банкі ад кліентаў за інкасіраванне (гл. *інкасіраваць*) *вэксаляў, канасаментаў* і іншых дакументаў; 2) страты, якія панёс уладальнік каштоўных папер, прадаўшы іх па курсу, ніжэйшым за намінал.

**ДАМНІФІКА́ЦЫЯ** (ад лац. damnum = шкода + *-фікацыя*) — пацярпенне шкоды, страта маёмасці.

**ДАНАРЫ́Т** (ад ням. Donar = імя міфалагічнага германскага бога буры) — выбуховы матэрыял, сумесь *амонію, нітрагліцэрыны* і іншых рэчываў.

**ДАНА́ТАР** (лац. donator = дарыльшчык) — 1) характэрная для мастацтва сярэдневякоўя і эпохі Адраджэння выява будаўніка храма або заказчыка твора жывапісу; 2) рэчыва, якое служыць для атрымання з яго іншага рэчыва або матэрыялу (напр. вада з'яўляецца данатарам вугляроду).

**ДАНАТЫ́СТЫ** (с.-лац. donatista, ад Donat = імя карфагенскага епіскапа) — удзельнікі рэлігійнага руху ў Паўн. Афрыцы 4—5 ст., накіраванага супраць афіцыйнай хрысціянскай царквы і рымскага панавання.

**ДАНЖО́Н** (фр. donjon) — галоўная вежа ў сярэдневяковым замку, якая служыла месцам апошняй абароны і ўкрыццём пры нападзе ворага.

**ДА́НІО** (н.-лац. danio) — рыба атрада карпападобных, якая водзіцца ў прэсных вадаёмах Паўн. і Паўд.-Усх. Азіі; гадуецца ў акварыумах.

**ДАНСА́НТНАСЦЬ** (ад фр. dansant = танцавальны) — танцавальнасць, сукупнасць фармальных якасцей музыкі, якія робяць яе зручнай для танца і выяўляюць танец.

**ДА́НСІНГ** (англ. dancing) — спецыяльнае месца для танцаў у рэстаране або кавярні (у замежных краінах).

**ДА́НСІНГ-ХОЛ** (англ. dancing hall) — танцавальная зала.

**ДАНТЫ́СТ** (фр. dentiste, ад лац. dens, -ntis = зуб) — зубны ўрач з сярэдняй адукацыяй; зубны тэхнік (параўн. *стаматолаг*).

**ДАРАТЭА́НТУС** (н.-лац. dorotheanthus) — травяністая расліна сям. аізаонавых з вузкім мясістым лісцем і адзіночнымі белымі, ружовымі або аранжавымі кветкамі, пашыраная ў Паўд. Афрыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ДАРАШАВА́ТЫ** (польск. dereszowaty, ад венг. deres) — шэрай масці з прымессю іншых колераў (пра коней).

**ДАРВІНІ́ЗМ** [ад англ. C.Darwin = прозвішча англ. біёлага (1809—1882)] — вучэнне аб эвалюцыйным развіцці жывых арганізмаў на Зямлі шляхам натуральнага адбору.

**ДАРВІНІ́СТ** (ад *дарвінізм*) — паслядоўнік дарвінізму.

**ДАРЛІНГТО́НІЯ** (н.-лац. darlingtonia) — кветкавая насякомаедная расліна сям. сарацэніевых, якая пашырана ў Паўн. Амерыцы; расце на балоцістых глебах.

**ДАРЛЮ́КА** (н.-лац. darluca) — недасканалы грыб сям. сферапсідавых, які развіваецца на розных раслінах.

**ДАРМЕ́З** (фр. dormeuse) — *уст.* дарожная карэта са спальнымі месцамі.

**ДАРНАВА́ЦЬ** (ад *дорн*) — 1) утвараць адтуліны ў нагрэтым злітку для атрымання загатоўкі трубы; 2) апрацоўваць адтуліны для павышэння дакладнасці іх формы і памеру, памяншэння шурпатасці і ўмацавання паверхневага слоя.

# Д

**ДАРО́НІКУМ** (н.-лац. doronicum) — травяністая расліна сям. складанакветных з акруглым лісцем і жоўтымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў гарах умераных зон Еўропы, Азіі, Паўн. Афрыкі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ДАРСА́ЛЬНЫ** (лац. dorsalis, ад dorsum = спіна) — 1) *анат.* спінны, размешчаны на спіннай паверхні цела жывёлы або чалавека (напр. д. плаўнік); параўн. *вентральны*; 2) павернуты да перыферыі раслiннага арганізма, напр. ніжні бок ліста; 3) *лінгв.* зычны (гук), пры ўтварэнні якога спінка языка датыкаецца да паднябення і *альвеолаў*.

**ДАРСАНВАЛІЗА́ЦЫЯ** [ад фр. J. d'Arsonval = прозвішча фр. фізіёлага (1851—1940)] — метад *электратэрапіі*, заснаваны на прымяненні імпульснага току высокай частаты малой сілы і высокага напружання, для лячэння неўрозаў, мясцовых парушэнняў жыўлення тканак.

**ДАРТУА́Р** (фр. dortoir) — *уст.* агульная спальня для вучняў у закрытай навучальнай установе.

**ДАРЫ́ЧНЫ** (гр. dorikos); д. о р д э р — архітэктурны ордэр, які склаўся ў дарыйскіх абласцях Стараж. Грэцыі; вызначаецца адсутнасцю базы ў калон, простай формай капітэлі, а таксама наяўнасцю *трыгліфаў* і *метопаў* у *фрызе* (параўн. *іанічны, карынфскі*).

**ДАСЬЕ́** (фр. dossier) — сукупнасць дакументаў, матэрыялаў, якія адносяцца да якой-н. справы, асобы, а таксама папка з такімі дакументамі.

**ДА́ТА** (польск. data, ад лац. datum) — 1) дакладны каляндарны час (год, месяц, дзень) якой-н. падзеі, здарэння; 2) памета на дакуменце пра час яго напісання.

**ДАТАВА́ЦЬ** (польск. datować, ад фр. dater) — 1) абазначаць дату на чым-н. (напр. д. заяву); 2) вызначаць час, калі адбылася якая-н. падзея.

**ДАТАЛІ́Т** (ад гр. dateomai = дзялю + *-літ*) — мінерал класа *сілікатаў*, празрысты, бясколерны, часам зеленаваты або жаўтаваты, які з'яўляецца сыравінай для атрымання *бору*.

**ДАТАСКО́П** (ад лац. data = дадзеныя + *-скоп*) — электронная фотанаборная машына з праграмным кіраваннем.

**ДАТА́ЦЫЯ** (польск. dotacja, ад с.-лац. dotatio = дар) — дзяржаўная грашовая дапамога прадпрыемствам, установам для пакрыцця якіх-н. выдаткаў; даплата, матэрыяльная дапамога.

**ДАТЫЁРА** (н.-лац. dathiora) — сумчаты грыб сям. датыёравых, якi развіваецца на адмерлых галінках рабіны.

**ДАТЫ́Ў** [лац. (casus) dativus] — *лінгв.* давальны склон.

**ДАТЫХІ́ЗА** (н.-лац. dothichiza) — недасканалы грыб сям.эксцыполавых, якія трапляецца на іглiцы і парастках хвоі.

**ДАЎСАНІ́Т** [ад англ. G.Dowson = прозвішча канадскага геолага (1849—1901)] — аўтагенны нізкатэмпературны мінерал з групы двайных *карбанатаў* алюмінію з аднавалентнымі металамі, бясколерны, са шкляным бляскам.

**ДАФІ́Н** (фр. dauphin) — *тытул* наследніка трону ў Францыі (з 14 ст. да 1830 г.).

**ДА́ФНІС** (гр. Daphnis = імя міфічнага грэчаскага пастуха, складальніка песень) — *перан.* вельмі прыгожы юнак.

**ДА́ФНІЯ** (н.-лац. daphnia, ад гр. daphne = лаўр) — прэснаводны рачок падатрада галінавусых; вадзяная блыха.

**ДАХ** (польск. dach, ад с.-в.-ням. dach) — 1) верхняя частка будынка, якая пакрывае яго; 2) жыллё, прытулак (мець свой д.).

**ДАХА́** (рус. доха, ад калм. dacha) — шуба з футравымі верхам і падкладкай.

**ДАЦА́Н** (манг. dacan) — ламаісцкі храм, манастыр (гл. *ламаізм*).

**ДАЦЗЫБА́О** (кіт. daczybao = *літар.* газета вялікіх іерогліфаў) — насценныя рукапісныя газеты ў Кітаі, якія атрымалі распаўсюджанне ў 50—70 гг. 20 ст.

**ДАЦІ́СКА** (н.-лац. datisca, ад гр. dateisthai = раздзяляць) — травяністая расліна сям. дацiскавых з буйнымі няпарнаперыстымі лістамі і сабранымі ў гронкі дробнымі кветкамі, пашыраная на Каўказе і ў Сярэд. Азіі.

**ДАЦЫ́Т** (ад лац. Dacia = рымская правінцыя на тэрыторыі сучаснай Румыніі) — эфузіўная горная парода, складзеная са шклістай або часткова раскрышталізаванай асноўнай масы і парфіравых украпванняў (*плагіяклазу, біятыту, кварцу* і інш.).

**ДАЦЭ́НТ** (лац. docens, -ntis = той, хто вучыць) — вучонае званне і пасада выкладчыка вышэйшай навучальнай установы (ніжэйшае за прафесара).

**ДАШНА́КІ** (арм. dasnakcutjun = яднанне, саюз) — члены армянскай нацыянальнай партыі, якая ўзнікла ў канцы 19 ст.

**ДЖАДЗІДЫ́ЗМ** (ад ар. džadid = новы) — культурна-рэфарматарскі, асветны і грамадска-палітычны рух мусульман Паволжа, Крыма і Сярэд. Азіі ў канцы 19 — пач. 20 ст.

**ДЖАЗ** (англ. jazz) — 1) від прафесійнай, пераважна танцавальнай музыкі з характэрнай для яе калектыўнай імправізацыйнасцю, што зарадзіўся ў ЗША на мяжы 19 — 20 ст. на аснове сінтэзу еўрапейскай і афрыканскай музычных культур; 2) аркестр з духавых, ударных і шумавых інструментаў для выканання такой музыкі.

**ДЖАЗ-АРКЕ́СТР** (ад *джаз* + *аркестр*) — тое, што і *джаз* 2.

**ДЖАЗ-БА́НД** (англ. jazz-band) — тое, што і *джаз* 1.

**ДЖАЗ-РОК** (англ. jazz-rock) — адзін з кірункаў *джаза*, які вылучыўся ў канцы 1960-х г. у выніку спалучэння некаторых формаў сучаснага джаза і джазавых аранжыровак з элементамі рокавай рытмікі і інструментоўкі.

**ДЖАЙНІ́ЗМ** (ад інд. Džina = імя легендарнага богачалавека, які нібыта паказаў чалавецтву шлях да выратавання) — рэлігійна-філасофскае вучэнне, якое ўзнікла ў 6 ст. да н. э. у Індыі і прапаведуе адказ ад прычынення шкоды любым жывым істотам.

**ДЖО́БЕР** (англ. jobber) — біржавы *маклер*, камісіянер, які ажыц-

цяўляе аперацыі за ўласны кошт, уступае ў здзелкі з *брокерамі* і іншымі дзелавымі людзьмі.

**ДЖО́ГІНГ** (ад англ. joy = рухацца, падскокваць) — павольны бег, бег для здароўя.

**ДЖО́КЕР** (англ. joker = *літар.* жартаўнік) — дадатковая карта ў калодзе, якая можа замяніць любую іншую карту ў час картачнай гульні.

**ДЖОЛТ** (англ. jolt) — кароткі прамы ўдар у тулава ў *боксе*.

**ДЖОН** (карэйск. dzon) — разменная манета Карэі, роўная 1/100 *воны*.

**ДЖОН-БУ́ЛЬ** (англ. John Bull = Джон-бык) — іранічная назва англійскага буржуа, якая падкрэслівае яго ўпартасць, карыслівасць, абмежаванасць, дробязнасць.

**ДЖО́НКА** (малайск. djong) — грузавое драўлянае парусное судна з шырокімі і высока прыўзнятымі кармой і носам; распаўсюджаны ў Паўд.-Усх. Азіі.

**ДЖО́ЎЛЬ** [англ. J.Joule = прозвішча англ. фізіка (1818—1889)] — адзінка вымярэння работы, энергіі і колькасці цеплыні ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ), роўная рабоце сілы ў 1 ньютан, якая перамяшчае цела на 1 м у напрамку дзеяння сілы.

**ДЖУГАРА́** (хіндзі jugara) — від *сорга*, пашыраны як хлебная і кармавая расліна ў тропіках і субтропіках, а таксама зерне гэтай расліны.

**ДЖУ́НГЛІ** (англ. jungle, ад хіндзі jangal) — трапічныя цяжкапраходныя балоцістыя лясы.

**ДЖУ́НТА** (іт. giunta) — выканаўчы орган мясцовай улады ў Італіі.

**ДЖУТ**[1] (англ. jute, ад бенг. jūt) — травяністая расліна сям. ліпавых з цэласным лісцем і дробнымі кветкамі, пашыраная ў тропіках і субтропіках; дае валакно, якое ідзе на выраб грубай тканіны, дываноў, вяровак і інш.

**ДЖУТ**[2] (манг. dzud) — масавая гібель жывёлы ад бяскорміцы ў мясцовасцях з круглагадавой пашай у сувязі з абледзяненнем пашы.

**ДЖЫ́ГА** (англ. jig) — тое, што і *жыга* 2.

**ДЖЫ́ГЕР** (англ. jigger) — ролікавы апарат для фарбавання тканіны.

**ДЖЫГІ́Т** (цюрк. džigit) — умелы, спрытны, адважны яздок на кані.

**ДЖЫМКРАУ́ІЗМ** (англ. jimcrowizm, ад Jim Crow = пагардлівая назва неграў у ЗША) — сістэма расісцкіх прыёмаў, накіраваная на *сегрэгацыю* негрыцянскага насельніцтва.

**ДЖЫН**[1] (ар. dzinn = дух) — злы або добры дух у арабскай міфалогіі; в ы п у с ц і ц ь   д ж ы н а   з   б у т э л ь к і — даць свабоду злым сілам.

**ДЖЫН**[2] (англ. gin) — гарэлка, прыгатаваная шляхам перагонкі хлебнага спірту з ядлаўцовымі ягадамі.

**ДЖЫ́НГА** (англ. jingo) — назва англійскіх ваяўнічых *шавіністаў*.

**ДЖЫНГАІ́ЗМ** (англ. jingoism) — крайне шавіністычныя погляды.

**ДЖЫ́НСЫ** (англ. jeans) — вузкія штаны з моцнай бавоўнянай тканіны, прашытыя каляровымі ніткамі.

**ДЖЫП** (англ. jeep) — марка легкавых і грузапасажырскіх аўтамабіляў павышанай праходнасці, што выпускаюцца ў ЗША з 1963 г.

**ДЖЫ́У-ДЖЫ́ЦУ** (яп. dzudzucu) — японская сістэма прыёмаў самаабароны і нападзення без зброі (элементы гэтай барацьбы выкарыстоўваюцца ў *дзюдо*).

**ДЖЫХА́Д** (ар. džihad = *літар*. намаганне) — тое, што і *газават*.

**ДЖЭЙРА́Н** (цюрк. džejran) — парнакапытная жывёла роду *газелей*, пашыраная ў пустынная і паўпустынных мясцовасцях Азіі.

**ДЖЭМ** (англ. jam) — густое варэнне з фруктаў або ягад у выглядзе жэлепадобнай масы.

**ДЖЭ́МПЕР** (англ. jumper) — вязаная кофта без каўняра, якая надзяваецца праз галаву.

**ДЖЭМСАНІЕ́ЛА** (н.-лац. jamesoniella) — пячоначны мох сям. германіевых, які трапляецца ў заціненых месцах на драўніне, якая гніе, глебе, камянях, каранях дрэў.

**ДЖЭНТЛЬМЕ́Н** (англ. gentleman = *літар*. высакародны чалавек) — 1) чалавек, які строга прытрымліваецца свецкіх правіл паводзін (у Вялікабрытаніі і іншых англамоўных краінах); 2) чалавек, які вызначаецца сваёй выхаванасцю ў паводзінах, далікатнасцю і зграбнасцю адзення.

**ДЖЭ́НТРЫ** (англ. gentry) — 1) дробнапамеснае дваранства ў Англіі ў 16—17 ст., якое перабудавала сваю гаспадарку на капіталістычны лад; 2) пашыранае ў еўрапейскай навуковай літаратуры абазначэнне кітайскага феадальнага саслоўя шэньшы.

**ДЖЭ́РСІ́** (англ. jersey, ад Jersey = назва вострава ў праліве Ла-Манш) — шарсцяная або шаўковая трыкатажная тканіна, а таксама адзенне з такой тканіны.

**ДЖЭРЫМЕ́НДЭРЫНГ** [англ. gerrymandering, ад E.Gerry = прозвішча амер. губернатара + (sala)mander = саламандра] — метад утварэння выбарчых акруг, калі ў акрузі ўваходзіць розная колькасць выбаршчыкаў, чым парушаецца прынцып роўнага прадстаўніцтва.

**ДЖЭСПІЛІ́ТЫ** (ад англ. jasper = яшма + *-літ*) — жалезістыя *кварцыты*, якія складаюцца з магнетыта-гематытавых і кварцавых праслоек.

**ДЗАЙБА́ЦУ** (яп. dzajbacu) — *манаполіі* і фінансавая *алігархія* Японіі, якія пануюць у эканоміцы краіны.

**ДЗА́НІ** (іт. zanni = блазен) — вобраз слугі ў італьянскім тэатры камедыі масак.

**ДЗЕ́ЛЬКВА, ЗЕ́ЛЬКВА** (н.-лац. zelkova) — дрэва сям. ільмавых, пашыранае на востраве Крыт, у Кітаі, Японіі і Карэі; драўніна высока цэніцца ў будаўніцтве.

**ДЗЕРЭ́Н** (манг. dzeren) — капытная жывёла роду *газелей*, пашыраная пераважна ў Цэнтр. Азіі.

**ДЗІ́ДА** (польск. dzida, ад тур. džida) — старажытная зброя ў выглядзе доўгага дрэўка з вострым металічным наканечнікам; піка.

**ДЗІРВА́Н** (літ. dirvónas) — верхні слой глебы, густа зарослы травой; пласт, выразаны з гэтага слоя.

**ДЗІ́ТРЫХУМ** (н.-лац. ditrichum) — лістасцябловы мох сям.

дзітрыхавых, які трапляецца на пясчанай і глеістай глебах, па абочынах дарог, адхонах канаў.

**ДЗЮ́БЕЛЬ** (ням. Dübel = шып) — металічны або пластмасавы стрыжань, які адным канцом забіваецца ў сцяну, а ў другім канцы мае адтуліну з разьбой, куды ўвінчваецца шруба; выкарыстоўваецца для прымацоўвання электрычных правадоў, карнізаў для штор, кніжных паліц і інш.

**ДЗЮГО́НЬ** (фр. dugong) — марское млекакормячае атрада сірэнавых, якое водзіцца ў прыбярэжных водах Індыйскага акіяна.

**ДЗЮДАІ́СТ** (ад *дзюдо*) — спартсмен, які займаецца дзюдо.

**ДЗЮДО́** (яп. dziudo = майстэрства спрыту) — від спартыўнай барацьбы, заснаванай на японскай сістэме самаабароны без зброі.

**ДЗЮ́ЗА** (ням. Düse) — *уст.* сапло для распырсквання вадкасці.

**ДЗЮ́КЕР** (ням. Düker, ад лац. ducere = весці) — вадаправод, пракладзены пад рэчышчам ракі або канала, па схілах і дне яра, пад дарогай і інш.

**ДЗЮ́НА** (ням. Düne) — пясчаны пагорак, нанесены ветрам на марскім узбярэжжы; выдма.

**ДЗЮРА́БЛЬ** (фр. durable = моцны, стойкі) — сорт азімай пшаніцы.

**ДЗЮРАЛЮМІ́НІЙ, ДЗЮРА́ЛЬ** (ад лац. durus = цвёрды + *алюміній*) — лёгкі і трывалы сплаў алюмінію і медзі з прымессю марганцу, магнію, крэмнію і іншых хімічных элементаў.

**ДЗЮРО́МЕТР** (ад лац. durus = цвёрды + *-метр*) — прыбор для вызначэння цвёрдасці розных матэрыялаў.

**ДЗЮРУТО́ЛЬ** (ад фр. dur = цвёрды + лац. oleum = алей) — цвёрды какосавы алей; выкарыстоўваецца ў мылаварэнні.

**ДЗЮ́РЭН** (ад лац. durus = цвёрды) — шчыльная матавая састаўная частка выкапнёвага вугалю, якая залягае слаямі ў яго пластах.

**ДЗЮШАНЕ́Я** (н.-лац. duchesnea) — травяністая расліна сям. ружавых з жоўтымі адзіночнымі кветкамі, пашыраная ва Усх. Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ДЗЮШЭ́С** (фр. duchesse = *літар.* князёўна) — 1) сорт дэсертных груш з сакавітай салодкай мякаццю; 2) цукеркі з грушавай начынкай; 3) бліскучая тканіна тыпу атласу.

**ДЗЯК** (ад гр. diakonos = служка) — 1) ніжэйшы царкоўны служыцель у праваслаўнай царкве; псаломшчык; 2) пісец у Стараж. Русі, а ў 14—17 ст. службовая асоба ў дзяржаўных установах Вялікага княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы.

**ДЗЯ́КАВАЦЬ** (польск. dziękować, ад ням. danken) — выказваць удзячнасць, падзяку.

**ДЗЯ́КЛА** (літ. dúuoklė) — падатак збожжам за землекарыстанне ў Вялікім княстве Літоўскім 15—16 ст.

**ДО** (лац. do) — першы гук музычнай *гамы*, а таксама *нота*, якая абазначае гэты гук.

**ДО́БЕРМАН** (ням. Dobermann = прозвішча гадавальніка сабак) — тое, што і *доберман-пінчэр*.

**ДО́БЕРМАН-ПІ́НЧЭР** (ад *доберман* + *пінчэр*) — парода службо-

вых сабак з клінападобнай галавой і кароткай, густой, бліскучай поўсцю.

**ДОГ** (англ. dog = сабака) — парода службовых буйных сабак з кароткай поўсцю, тупой мордай і моцнымі сківіцамі.

**ДО́ГМА** (гр. dogma) — палажэнне, сцверджанне, якое прымаецца на веру як непахісная ісціна, што прызнаецца бяспрэчнай без доказаў.

**ДО́ГМАТ** (гр. dogma, -atos) — 1) асноўнае палажэнне ў рэлігійным веравучэнні, якое прымаецца на веру і не падлягае крытыцы; 2) тое, што і *догма*.

**ДОЖ** (іт. doge, ад лац. dux = правадыр) — *тытул* правіцеля Венецыянскай і Генуэзскай рэспублік да канца 18 ст.

**ДО́ЗА** (фр. dose < с.-лац. dosis, ад гр. dosis = порцыя, прыём) — 1) дакладна адмераная колькасць, норма чаго-н. (напр. д. лякарства, д. радыеактыўнага апрамянення); 2) *пepaн.* некаторая частка чаго-н. (напр. д. іроніі).

**ДО́ЙЛІД** (літ. dailide) — будаўнік; архітэктар, зодчы.

**ДО́ЙНА** (рум. doina) — 1) народная лірычная песня румын і малдаван; 2) музычны твор для інструментальнага аркестра ў стылі гэтай песні.

**ДОК** (гал. dok, англ. dock) — 1) партовае збудаванне для рамонту, а часам і пабудовы суднаў; 2) штучны партовы басейн з затворам, прызначаны для стаянкі суднаў пад пагрузкай-разгрузкай у месцах з вялікімі прыліўна-адліўнымі ваганнямі ўзроўню мора; 3) зборна-разборнае збудаванне для тэхнічнага абслугоўвання вялікіх лятальных апаратаў (пераважна дырыжабляў).

**ДО́КЕР** (англ. docker) — партовы грузчык, рабочы *дока*, верфі ў некаторых краінах.

**ДО́КТАР** (лац. doctor) — 1) вышэйшая вучоная ступень, якая прысуджаецца асобам, што абаранілі доктарскую дысертацыю; 2) урач.

**ДО́ЛАР** (англ. dollar, ад ням. Taler = талер) — грашовая адзінка ЗША, Канады, Мексікі, Аўстраліі, Лібарыі, Радэзіі і некаторых іншых краін, роўная 100 *цэнтам*.

**ДО́ЛІХАС** (н.-лац. Dolichos) — травяністая расліна сям. бабовых, пашыраная ў тропіках і субтропіках Азіі і Афрыкі; некаторыя віды культывуюцца як харчовыя і кармавыя.

**ДО́ЛЬЧЭ** (іт. dolce) — *муз.* пяшчотна.

**ДО́МБРА** (казах. dombra) — казахскі народны струнны музычны інструмент з корпусам акруглай формы.

**ДО́МРА** (цюрк. domra) — шчыпковы музычны інструмент з чатырма струнамі, падобны на *мандаліну*.

**ДОН** (ісп. don, іт. don, ад лац. dominus = пан) — 1) ветлівы зварот да мужчыны ў Іспаніі і іспанамоўных краінах; 2) ганаровы тытул духавенства і дваран у Італіі.

**ДО́НАР** (англ. donar, ад лац. donare = дарыць, ахвяраваць) — 1) чалавек, у якога бяруць кроў для пераліванне ці які-н. орган для перасадкі хвораму (*рэцыпіенту* 1); 2)

# Д

*фіз.* дэфект крышталічнай рашоткі паўправадніка (напр. дамешкавы атам), здольны аддаваць электроны ў зону праводнасці.

**ДОНГ** (в'етн. dong) — грашовая адзінка В'етнама, роўная 100 *су*.

**ДОНЖУА́Н** (фр. Don-Juan, ад ісп. Don Juan = персанаж многіх твораў літаратуры і мастацтва) — шукальнік любоўных прыгод, спакуснік жанчын.

**ДО́НКА** (англ. donkey-engine = дапаможны рухавік) — поршневы паравы насос на судне.

**ДОНКІХО́Т** [ісп. Don Quijote = герой рамана ісп. пісьменніка Сервантэса (1547—1616)] — наіўны летуценнік, фантазёр, які марна змагаецца за высокія, але неажыццявімыя ідэалы.

**ДО́ННА** (іт. donna, ад лац. domina = пані) — ветлівы зварот да жанчын у Італіі.

**ДО́НЬЯ** (ісп. doña = пані) — ветлівы зварот да жанчын у Іспаніі і іншых іспанамоўных краінах.

**ДОПЕЛЬЕНДБО́Л** (ад ням. doppelend = двухканцовы + англ. ball = мяч) — спартыўны снарад для трэніроўкі ў боксе ў выглядзе мяча, што вісіць на доўгай спружыне і адцягнены знізу вяроўкай.

**ДО́ПЕЛЬ-ЦЭ́НТНЕР** (ням. Doppelzentner = двайны цэнтнер) — мера вагі ў Германіі, Даніі, Венгрыі, роўная 100 кг.

**ДО́ПІНГ** (англ. doping, ад dope = даваць наркотыкі) — сродкі, якія штучна ўзбадзёрваюць арганізм, стымулююць на кароткі час фізічную і нервовую дзейнасць; выкарыстоўваюцца ў ветэрынарыі, а часам і ў спорце, што забаронена міжнароднымі спартыўнымі арганізацыямі.

**ДОРН** (ням. Dorn = калючка) — 1) парожні або суцэльны цыліндр, на якім праводзіцца зборка, склейванне або *вулканізацыя* гумавых вырабаў; 2) стрыжань з загартаванай сталі для прашывання адтулін у нагрэтым стальным злітку; 3) апраўка з прыстасаваннем для ўтрымлівання насаджанага прадмета.

**ДОРСАВЕНТРА́ЛЬНЫ** [ад *дарса(льны)* = *вентральны*] — *анат.* спінна-брушны (пра орган цела жывёлы або чалавека).

**ДРАБА́НТ** (польск. drabant, ад ням. Drabant — 1) целаахоўнік пры знатнай асобе ў сярэдневяковай Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім; 2) салдат кавалергардскай роты ў арміі Пятра I; 3) афіцэрскі дзяншчык у казацкіх войсках.

**ДРА́ГА** (фр. drague, ад англ. drag) — 1) плывучая землечарпальная машына, прызначаная для паглыблення дна рэк і азёр, а таксама для распрацоўкі рассыпных залежаў золата і плаціны; 2) спецыяльная сетка для здабывання з дна глыбокіх вадаёмаў жывёл і раслін.

**ДРАГАМА́Н** (фр. dragoman, ад ар. targumān) — перакладчык пры дыпламатычных і консульскіх прадстаўніцтвах, пераважна ў краінах Усходу.

**ДРАГІ́РАВАЦЬ** (фр. draguer) —1) паглыбляць дно ракі або возера пры дапамозе *драгі*; 2) здабываць што-н. пры дапамозе драгі.

**ДРАГІ́СТ** (фр. droguiste, ад drogue = лекі) — гандляр аптэчнымі і хі-

мічнымі таварамі ў Францыі і некаторых іншых краінах.

**ДРАГЛА́ЙН** (англ. dragline) — *экскаватар* з падвешаным на канатах каўшом, а таксама коўш такога экскаватара.

**ДРАГУ́Н** (ст.-польск. dragun, ад фр. dragon) — кавалерыст у большасці еўрапейскіх армій 17—19 ст., у т. л. і ў складзе войска Вялікага княства Літоўскага (17—18 ст.), здольны весці бой і ў пешым страі.

**ДРАЖЭ́** (фр. dragée) — 1) дробныя цукеркі круглай формы; 2) медыцынскія пілюлі і вітаміны ў форме такіх цукерак.

**ДРАЗАФІ́ЛА** (н.-лац. drosophila, ад гр. drosos = раса, вільгаць + phileo = люблю) — двухкрылае насякомае сям. пладовых мушак; жывіцца прадуктамі гніення садавіны і агародніны; выкарыстоўваецца для генетычных даследаванняў.

**ДРА́ІЦЬ** (гал. draaien = круціць) — 1) чысціць, мыць (напр. д. палубу); 2) націраць да бляску (напр. д. чаравікі).

**ДРАЙВ** (англ. drive) — моцны і нізкі адбіўны ўдар па мячы пры гульні ў *тэніс*.

**ДРАКАНІ́ДЫ** (да гр. drakon = змей + eidos = выгляд) — паток метэорных часцінак, *радыянт* якіх знаходзіцца ў сузор'і Дракона.

**ДРАКО́Н** (гр. drakon = змей) — 1) *міф.* казачнае страшыдла ў выглядзе крылатага змея; 2) лятаючая яшчарка сям. *агамаў*, якая жыве на дрэвах у некаторых трапічных краінах; 3) рыба атрада карпападобных, якая пашырана ў вадаёмах Венесуэлы і вострава Трынідад; на Беларусі гадуецца ў акварыумах.

**ДРА́МА** (гр. drama = дзеянне) — 1) адзін з трох асноўных родаў літаратуры (побач з *эпасам* і *лірыкай*); 2) літаратурны твор сур'ёзнага зместу ў форме дыялога, прызначаны для пастаноўкі на сцэне; 3) *перан.* падзея, якая прыносіць душэўныя пакуты (напр. сямейная д.).

**ДРАМАДЭ́Р** (фр. dromadaire, ад гр. dromas, -ados = які хутка бяжыць) — аднагорбы вярблюд, пашыраны ў пустынях і сухіх стэпах Азіі і Афрыкі.

**ДРАМАМА́НІЯ** (ад гр. dromos = шлях + *манія*) — неадольнае імкненне да бязмэтнага блукання, перамены месцаў, валацужніцтва.

**ДРАМАТУ́РГ** (фр. dramaturge, ад гр. dramaturgos) — пісьменнік, які піша *драматычныя* творы.

**ДРАМАТУРГІ́Я** (гр. dramaturgia) — 1) тэорыя пабудовы драматычных твораў; 2) драматургічнае мастацтва; майстэрства стварэння *драмы*; 3) сукупнасць *драматычных* твораў якога-н. пісьменніка, народа, эпохі.

**ДРАМАТЫЗАВА́ЦЬ** (польск. dramatyzować, ад гр. dramatidzo = апрацоўваю ў форме драмы) — 1) надаваць якому-н. твору *драматычную* форму; 2) узмацняць *драматызм*, напружанасць чаго-н. (напр. д. адносіны, д. ролю).

**ДРАМАТЫЗА́ЦЫЯ** (ад гр. dramatidzo = апрацоўваю ў форме драмы) — 1) наданне літаратурнаму тэксту формы *драмы*; 2) узмацненне *драматызму*, напружанасці чаго-н. (напр. д. падзей).

Д

**ДРАМАТЫ́ЗМ** (рус. драматизм, ад гр. drama = справа, дзеянне) — 1) напружанасць дзеяння, вастрыня канфлікту ў літаратурным творы; 2) крайняя напружанасць становішча, якой-н. сітуацыі, падзеі.

**ДРАМАТЫ́ЧНЫ** (гр. dramatikos) — 1) які мае адносіны да *драмы* як да літаратурнага твора; 2) поўны *драматызму*, напружанасці (напр. д. выпадак, д. момант).

**ДРАП** (фр. drap = сукно) — тоўстая шарсцяная або паўшарсцяная тканіна, з якой шыюць верхняе адзенне.

**ДРАПАРНА́ЛЬДЫЯ** (н.-лац. draparnaldia) — ніткаватая зялёная водарасць сям. хетафоравых, якая пашырана ў прыбярэжнай палосе азёр, праточных халодных водаў, расце на розных субстратах.

**ДРАП-ВЕЛЮ́Р** (ад *драп* + *велюр*) — тоўстая шарсцяная або паўшарсцяная тканіна з варсістай паверхняй, з якой шыюць верхняе адзенне.

**ДРАПІРАВА́ЦЬ** (ням. drapieren, ад фр. draper) — абіваць, упрыгожваць што-н. тканінай, сабранай у складкі (напр. д. сцены салона).

**ДРАПІРО́ЎКА** (фр. draperie) — размяшчэнне і агульны характар складак адзення або тканіны; выкарыстоўваецца ў афармленні інтэр'ераў грамадскіх і жылых будынкаў, тэатральна-дэкаратыўным і выяўленчым мастацтве.

**ДРАПРЫ́** (фр. draperie) — парцьера, занавеска з тканіны, сабранай у складкі.

**ДРАСЕЛІ́РАВАЦЬ** (ням. drosseln = душыць) — паніжаць ціск газу (вадкасці) у месцах праходжання яго праз звужэнні ў трубе або праз порыстую перагародку.

**ДРАСО́ДЭС** (н.-лац. drassodes) — павук сям. *гнафазідаў*, які жыве пад камянямі, у лясным подсціле.

**ДРАТАВА́ЦЬ** (польск. tratować, ад ням. treten) — таптаць, вытоптваць.

**ДРА́ТВА** (польск. dratwa, ад с.-в.-ням. drāt) — тоўстая прасмоленая або навошчаная нітка для шыцця абутку і іншых скураных вырабаў.

**ДРА́ТХААР** (ад ням. Draht = дрот + Haar = волас) — парода шарсткапшэрсных нямецкіх лягавых сабак рознай масці з кароткай поўсцю.

**ДРА́ХМА** (гр. drachme) — 1) сярэбраная, радзей залатая ці медная, манета ў Стараж. Грэцыі, а таксама сучасная грэчаская грашовая адзінка, роўная 100 *лептам*; 2) адзінка аптэкарскай вагі, роўная 3,732 г, якая ўжывалася да ўвядзення метрычнай сістэмы мер; 3) мера ёмістасці ў ЗША, роўная 3,6966 $см^3$.

**ДРАЦЭ́НА** (н.-лац. dracaena, ад гр. drakaina = смок) — дрэвападобная або кустовая расліна сям. агававых са стракатым лісцем і дробнымі белымі або жоўтымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная ў тропіках і субтропіках; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ДРАШЭЁЗ** (ад *драшэя*) — глісная хвароба няпарнакапытных, якая выклікаецца драшэяй.

**ДРАШЭ́Я** (н.-лац. drascheia) — *гельмінт* класа *нематодаў*, паразітуе ў прасветах страўнікавых залоз няпарнакапытных; лічынкі мо-

гуць лакалізавацца ў скуры і лёгкіх.

**-ДРОМ** (гр. dromos = месца для бегу) — другая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае месца для спаборніцтваў, выпрабаванняў, запуску лятальных апаратаў.

**ДРО́МАС** (гр. dromos = шлях) — крыты калідор, які вядзе ў пахавальную камеру пад курганом; праход у склеп, высечаны ў скале.

**ДРОМЕАГНАТЫ́ЗМ** (ад лац. dromaeus = назва атрада птушак + гр. gnathos = сківіца) — від будовы паднябення ў птушак, калі косці нерухома зрошчаны паміж сабой (характэрны для страусаў, ківі, нанду).

**ДРО́СЕЛЬ** (ням. Drossel) — 1) шпуля індуктыўнасці для рэгулявання сілы току ў электрычным ланцугу; 2) клапан для рэгулявання ціску і расходу вадкасці, пары або газу ў трубаправодах.

**ДРОТ** (ст.-польск. drot, ад ням. Draht) — выраб з металу ў выглядзе тоўстай гібкай ніці.

**ДРУ́ЗА** (ням. Druse = шчотка) — 1) група крышталёў, якія зрасліся ў аснове; 2) крышталі *аксалату* кальцыю ў клетках многіх раслін.

**ДРУІ́ДЫ** (лац. druides) — жрацы ў старажытных кельтаў.

**ДРУІДЫ́ЗМ** (фр. druidisme, ад лац. druides = жрацы) — рэлігія старажытных кельтаў, заснаваная на ўшанаванні прыроды і ахвяра-прынашэнні ў лясах.

**ДРУК** (польск. druk, ад ням. Druck) — 1) друкаванне кніг; выдавецкая справа (напр. органы друку); 2) знешні выгляд друкаванага тэксту (напр. уборысты д.); 3) сукупнасць друкаваных твораў (напр. перыядычны д.).

**ДРУКАВА́ЦЬ** (польск. drukować, ад ням. drucken) — 1) з дапамогай спецыяльных прыстасаванняў адціскаць на паперы якія-н. знакі (літары, лічбы, чарцяжы, малюнкі і інш.), выдаваць такім спосабам у свет; 2) змяшчаць у друку.

**ДРУКА́Р** (польск. drukarz, ад ням. Druck = друк) — работнік друкарскай справы; паліграфіст.

**ДРУКА́РНЯ** (польск. drukarnia) — прадпрыемства, у якім друкуюцца кнігі, газеты і іншыя выданні.

**ДРУ́МЛІНЫ** (англ. drumlins) — выцягнутыя ўзгоркі, утвораныя марэннымі адкладамі (гл. *марэна*).

**ДРУШЛЯ́К** (польск. durszlak, ад с.-в.-ням. durchslac) — кухонны коўш з невялікімі дзірачкамі для працэджвання або праціранне харчовых прадуктаў.

**ДРЫ́БЛІНГ** (англ. dribbling) — вядзенне мяча або *шайбы* іграком.

**ДРЫЗІ́НА** [ням. Draisine, ад K.Drais = прозвішча ням. вынаходцы (1785—1851)] — невялікая чыгуначная платформа або ваганетка, якая прыводзіцца ў рух уручную або рухавіком; выкарыстоўваецца для перавозкі людзей і грузаў на невялікую адлегласць.

**ДРЫЛЬ** (польск. dryl, ад ням. Drill) — прылада для пракручвання дзірак у метале, дрэве і інш.

**ДРЫЛЯВА́ЦЬ** (польск. drylować, ад ням. drillen) — пракручваць дзіркі ў метале, дрэве і інш. з дапамогай *дрыля*.

# Д

**ДРЫ́ФТЭР** (англ. drifter, ад drift = дрэйфаваць) — марское рыбапрамысловае судна, аснашчанае плывучымі сеткамі, здольнымі захопліваць рыб, якія да іх дакранаюцца.

**ДРЫЯ́ДА** (гр. dryas, -ados) — 1) паводле старажытнагрэчаскай міфалогіі, лясная *німфа*, заступніца дрэў; 2) вечназялёная тундравая расліна сям. ружавых; курапатчына трава.

**ДРЫЯПІТЭ́К** (ад гр. drys, dryos = дрэва + *-пітэк*) — выкапнёвая чалавекападобная малпа, якая, магчыма, была продкам *шымпанзе, гарылы* і чалавека.

**ДРЫЯ́С** (н.-лац. dryas, ад гр. dryas = курапатчына трава) — фазы паазёрскага позналедніковага пахаладання (ранні, сярэдні і позні д.).

**ДРЭ́ГСТЭР** (англ. dragster) — гоначны *аўтамабіль* лёгкай канструкцыі з магутным рухавіком.

**ДРЭДНО́УТ** (англ. dreadnought = *літар.* бясстрашны) — буйны браняносец з магутнай артылерыяй, папярэднік сучаснага лінкора.

**ДРЭЙСЕ́НЫ** (н.-лац. dreissena) — сямейства *малюскаў* класа двухстворкавых, якія жывуць пераважна ў прэсных вадаёмах, а таксама ў Каспійскім, Аральскім, Азоўскім морах.

**ДРЭ́ЙФ** (рус. дрэйф, ад гал. drijven = плаваць) — 1) адхіленне судна ад курсу пад уздзеяннем ветру або цячэння; 2) рух ільдоў, суднаў, выкліканы ветрам, цячэннем; л е г ч ы ў д. — расставіць парусы судна так, каб яны не ўплывалі на яго рух; 3) павольнае перамяшчэнне мацерыкоў у гарызантальным напрамку.

**ДРЭЙФАВА́ЦЬ** (рус. дрейфовать, ад гал. drijven) — 1) рухацца пад уздзеяннем ветру або цячэння (пра лёд, судна); 2) манеўруючы парусамі, заставацца прыблізна на адным месцы.

**ДРЭ́ЙФІЦЬ** (рус. дрейфить, ад гал. drijven = плаваць) — *разм.* адступаць перад цяжкасцямі, небяспекай; баяцца, губляцца.

**ДРЭК** (гал. dreg) — невялікі якар на грабных суднах.

**ДРЭ́НА** (англ. drain) — падземны штучны вадасцёк (труба) для асушэння грунту.

**ДРЭНА́Ж** (англ. drainage, ад drain = труба) — 1) асушэнне грунту з дапамогай сістэмы каналаў, труб; 2) вывядзенне з раны гною, вадкасці з дапамогай спецыяльнай трубкі.

**ДРЭ́НЧЭР** (англ. drencher, ад drench = змочваць) — насадка-распырсквальнік на трубах процілажарнай вадаправоднай сеткі.

**ДРЭПАНАКЛА́ДУС** (н.-лац. drepanocladus) — лістасцябловы мох сям. амблістэгіевых, які расце на балотах, у вадаёмах, на вільготнай глебе, пнях у лясах.

**ДРЭСІРАВА́ЦЬ** (фр. dresser) — 1) вучыць жывёл выконваць якія-н. дзеянні; 2) *перан.* муштраваць каго-н.

**ДУ́А** (лац. duo = два) — старадаўняя назва інструментальнага *дуэта*.

**ДУАДЭНА́ЛЬНЫ** (ад лац. duodeni = па дванаццаць) — *анат.* дванаццаціперсны; які датычыць дванаццаціперснай кішкі.

**ДУАДЭНІ́Т** (ад лац. duodeni = па дванаццаць) — запаленне дванаццаціперснай кішкі.

**ДУАДЭ́ЦЫМА** (лац. duodecima = дванаццатая) — *муз.* 1) дванаццатая ступень дыятанічнай *гамы*; 2) інтэрвал паміж першай і дванаццатай ступенямі гамы.

**ДУАДЭЦЫМА́ЛЬНЫ** (лац. duodecimus) — дванаццаты (напр. д-ая сістэма злічэння).

**ДУАЕ́Н** (фр. doyen = старшыня) — асоба, якая ўзначальвае дыпламатычны *корпус* 5 у якой-н. краіне.

**ДУАЛІ́ЗМ** (ад лац. dualis = двaісты) — 1) філасофскае вучэнне, якое лічыць пачаткам быцця дзве незалежныя асновы — матэрыю і дух, спрабуючы спалучыць *матэрыялізм з ідэалізмам* (параўн. *манізм, плюралізм* 1); 2) двaістасць, раздвоенасць чаго-н.

**ДУАЛІСТЫ́ЧНЫ** (ад лац. dualis = двaісты) — 1) які мае адносіны да *дуалізму*; 2) двaісты, раздвоены.

**ДУА́ЛЬ-КА́РТА** (ад лац. duo = два + *карта*) — адзін з носьбітаў інфармацыі ў аўтаматызаваных сістэмах кіравання; камбінаваны дакумент з тэкстам і дзіркамі, як у *перфакарце*.

**ДУА́НТ** (ад лац. duo = два) — паскаральнае прыстасаванне *цыклатрона* і *фазатрона*.

**ДУАПО́ЛІЯ** (ад лац. duo = два + гр. poleo = прадаю) — эканамічная сітуацыя, пры якой канкурыруюць два пастаўшчыкі пэўнага тавару, не звязаныя паміж сабой манапалістычным пагадненнем аб цэнах, рынках збыту, квотах і інш.

**ДУАПСО́НІЯ** (ад лац. duo = два + psonia) —эканамічная сітуацыя, пры якой канкурыруюць два пакупнікі аднаго і таго ж тавару.

**ДУБАЛЬТО́ВЫ** (польск. dubeltowy, ад с.-н.-ням. dubbelt) — які складаецца з двух аднародных або падобных прадметаў, частак; падвойны (напр. д-ыя рамы).

**ДУБАЛЬТО́ЎКА** (польск. dubeltówka, ад с.-н.-ням. dubbelt) — паляўнічая стрэльба з двума ствaламі.

**ДУБЛЕ́Т** (фр. doublet, ад double = падвойны) — 1) другі экзэмпляр якой-н. рэчы ў калекцыі, музеі, бібліятэцы і г.д.; 2) падроблены каштоўны камень, у якім сапраўдны з'яўляецца толькі верхняя частка; 3) адначасовы выстрал з абодвух ствалоў дубальтоўкі; 4) *фіз.* пара блізка размешчаных спектральных ліній.

**ДУБЛЁР** (фр. doubleur) — 1) той, хто паралельна з кім-н. выконвае адну і тую ж работу і ў патрэбны момант можа замяніць яго (напр. д. касманаўта, д.-шафёр); 2) акцёр, які замяняе асноўнага выканаўцу ролі, а таксама кінаакцёр, які ўдзельнічае ў дубліраванні кінафільма; 3) другі састаў спартыўнай каманды, які з'яўляецца рэзервам для асноўнага саставу.

**ДУБЛІКА́Т** (ад лац. dublicatus = падвоены) — 1) другі *экзэмпляр* якога-н. дакумента, які мае аднолькавую сілу з арыгіналам; 2) дадатковы экзэмпляр часткі рукапісу, які рыхтуецца да набору асобна.

**ДУБЛІ́РАВАЦЬ** (фр. doubler) — 1) выконваць паралельна з кім-н. аднолькавую работу; рабіць тое ж

самае ў другі раз; 2) замяняць асноўнага выканаўцу якой-н. ролі (у тэатры, кіно); 3) замяняць мову кінафільма іншай мовай (д. фільм).

**ДУБЛО́Н** (фр. doublon, ад ісп. doblon, ад doble = падвойны) — даўнейшая іспанская залатая манета, роўная двум *пістолям*[2] 1, якая чаканілася ў 16—19 ст.

**ДУБЛЬ** (фр. double = падвойны) — 1) паўтарэнне, варыянт, другі экземпляр чаго-н. (напр. кінакадраў пры здымцы фільма); 2) другая, запасная каманда на спартыўных спаборніцтвах.

**ДУБЛЯ́Ж** (фр. doublage = падваенне) — замена моўнай часткі *кінафільма* перакладам на іншую мову.

**ДУБЭ́ЛЬТ** (польск. dubelt, ад с.-н.-ням. dubbelt) — падвойная рама, падвойныя дзверы.

**ДУВА́Н** (цюрк. duvan) — 1) здабыча і яе дзяльба; 2) адкрытае падвышанае месца.

**ДУДУ́К** (тур. düdük) — духавы драўляны музычны інструмент у выглядзе трубкі з 9 адтулінамі, пашыраны ў народаў Каўказа.

**ДУК** (гал. doek) — тоўстая тканіна тыпу парусіны.

**ДУКА́Т** (іт. ducato) — даўнейшая сярэбраная, затым залатая манета, якая з'явілася ў 13 ст. у Венецыі, а пасля чаканілася ў многіх краінах Еўропы; на тэрыторыі Беларусі ў 14—16 ст. найбольш пашыраны быў венгерскі д.

**ДУКТЫЛО́МЕТР** (ад лац. ductilis = цягучы + *-метр*) — прыбор для вызначэння цягучасці асфальту, смалы, фарбы і іншых матэрыялаў.

**ДУЛЬЦЫ́Н** (ад лац. dulcis = салодкі) — рэчыва, якое па салодкасці ў 200 разоў пераўзыходзіць цукар; выкарыстоўваецца ў дыетычных харчовых вырабах.

**ДУЛЬЦЫНЕ́Я** (ісп. Dulcinea = паэтычнае імя, якім герой Сервантэса Дон Кіхот называў сялянку Альдонсу, абраную ім у якасці «дамы сэрца») — *іран.* любімая жанчына.

**ДУЛЬЦЫФІКА́ЦЫЯ** (ад лац. dulcis = салодкі + *-фікацыя*) — падсалоджванне чаго-н.

**ДУ́ЛЯ** (польск. dula) — летні сорт груш з вялікімі салодкімі пладамі, а таксама плод гэтай групы.

**ДУМ-ДУМ** (інд. Dum-Dum = назва прадмесця Калькуты) — разрыўная куля з крыжападобным надрэзам, якая наносіць цяжкія раненні.

**ДУ́МПЕР** (англ. dumper) — самазвальная машына для перавозкі сыпкіх рэчываў на кароткія адлегласці.

**ДУМПКА́Р** (англ. dump-car) — вагон, які сам разгружаецца, маючы для гэтага спецыяльнае пнеўматычнае прыстасаванне.

**ДУНІ́Т** (ад англ. Dun = назва гары ў Новай Зеландыі) — магматычная горная парода, якая складаецца пераважна з *алівіну*, выкарыстоўваецца для вырабу вогнетрывалых матэрыялаў.

**ДУНСТ** (ням. Dunst = чад, пара) — 1) самы дробны калібр шроту; 2) прамежкавы прадукт паміж крупамі і мукой.

**ДУО́ЛЬ** (ад лац. duo = два) — двухдольная рытмічная фігура ў музыцы.

**ДУ́ПЛЕКС** (лац. duplex = падвойны) — 1) двухбаковая сувязь па аднаму праваду адначасова ў абодвух напрамках; 2) здвоеная машына для часання лёну; 3) друкаванне двума фарбамі з аднакаляровага арыгінала.

**ДУ́ПЛЕКС-АЎТАТЫ́ПІЯ** (ад *дуплекс* + *аўтатыпія*) — двухфарбавая *рэпрадукцыя* з аднакаляровага паўтонавага адлюстравання (напр. чорна-белай фатаграфіі, у якой адна фарба каляровая, а другая чорная або шэрая).

**ДУ́ПЛЕКС-ПРАЦЭ́С** (ад *дуплекс* + *працэс*) — вытворчасць сталі паслядоўна ў двух сталеплавільных *агрэгатах* (напр. канвертар — дугавая печ), што дазваляе больш эфектыўна выкарыстоўваць магчымасці кожнага з іх.

**ДУПЛЕ́Т** (фр. doublet) — 1) тое, што і *дублет* 3; 2) у час більярднай гульні ўдар шаром у другі шар, які, стукнуўшыся аб борт і адскочыўшы ад яго, трапляе ў лузу.

**ДУПЛІКА́ЦЫЯ** (лац. duplicatio = падваенне) — змяненне *храмасомы*, пры якім адзін з яе ўчасткаў прадстаўлены два або больш разоў; узнікае пры *кросінгаверы*.

**ДУР** (лац. durus = цвёрды) — тое, што і *мажор* 1 (проціл. *моль*[1]).

**ДУ́РА** (ісп. duro = цвёрды) — старадаўняя іспанская сярэбраная *манета*, роўная 20 *рэалам*[1], якая чаканілася ў 13—19 ст.

**ДУРАЛЮМІ́Н** [ад лац. durus = цвёрды + *алюмін(ій)*] — тое, што і *дзюралюміній*.

**ДУРБА́Р** (перс. durbar) — 1) рада знаці пры манарху, а таксама ўрачысты прыём у мусульманскіх краінах перыяду сярэдневякоўя; 2) шахскі двор у Іране 20 ст.

**ДУРО́МЕТР** (ад лац. durus = цвёрды + *-метр*) — тое, што і *дзюрометр*.

**ДУ́РРА** (ар. dhurah) — трапічная хлебная расліна сям. злакавых, від *сорга*.

**ДУСТ** (англ. dust = пыл) — хімічнае рэчыва ў выглядзе парашку, якое выкарыстоўваецца для знішчэння шкодных насякомых.

**ДУТА́Р** (перс. dotar) — шчыпковы музычны інструмент з дзвюма струнамі на доўгім грыфе, пашыраны ў таджыкаў, туркменаў, узбекаў.

**ДУУМВІРА́Т** (лац. duumviratus) — супольнае кіраванне *дуумвіраў* у старажытнарымскіх калоніях і гарадах.

**ДУУМВІ́РЫ** (лац. duumviri, ад duo = два + vir = муж) — дзве вышэйшыя службовыя асобы ў калоніях і гарадах Стараж. Рыма.

**ДУХА́Н** (ар. dukkan) — невялікі рэстаран, шынок на Каўказе і Блізкім Усходзе.

**ДУ́ЧЭ** (іт. duce = правадыр) — тытул фашысцкага дыктатара Б.Мусаліні ў Італіі.

**ДУЧЭ́НТА** (іт. ducento = дзвесце) — перыяд у гісторыі італьянскай культуры, які паклаў пачатак мастацтву *Протарэнесансу*, характарызаваўся ростам рэалістычных тэндэнцый у межах сярэдневяковага мастацтва.

**ДУШ** (фр. douche, ад іт. doccia = вадасцёкавая труба) — 1) прыстасаванне для аблівання цела тонкімі вадзянымі струменямі; 2) гігіенічная і лячэбная водная працэду-

ра, якая заключаецца ва ўздзеянні на цела чалавека струменяў вады рознай тэмпературы і ціску.

**ДУЭЛІ́СТ** (фр. dueliste) — тое, што і *дуэлянт*.

**ДУЭ́ЛЬ** (фр. duel, ад лац. duellum = вайна) — 1) паядынак з выкарыстаннем зброі паміж дзвюма асобамі па выкліку адной з іх на пэўных умовах як спосаб абароны гонару (прымяняўся ў дваранскім грамадстве); 2) *перан.* спаборніцтва, барацьба двух бакоў (напр. артылерыйская д., славесная д.).

**ДУЭЛЯ́НТ** (ням. Duellant) — удзельнік *дуэлі*; ахвотнік да дуэлей.

**ДУЭ́ННЯ** (ісп. dueña = гаспадыня, пані) — *уст.* апякунка, выхавальніца маладой жанчыны-дваранкі ў Іспаніі.

**ДУЭ́Т** (іт. duetto, ад лац. duo = два) — 1) музычны твор або эпізод у оперы, араторыі і інш. для двух выканаўцаў (спевакоў, музыкантаў) з самастойнымі партыямі ў кожнага; 2) выкананне двума галасамі або двума інструментамі музычнага твора, а таксама самі выканаўцы; 3) удзельнікі парнага спартыўнага выступлення.

**ДЫ-** (гр. di-, ад dis = двойчы) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «падвойны», «двойчы».

**ДЫАЛЕФІ́НЫ** (ад *ды-* + *алефіны*) — ненасычаныя вуглевадароды з дзвюма падвойнымі сувязямі ў малекуле; дыенавыя вуглевадароды.

**ДЫАМАФО́С** (ад *ды-* + *амафос*) — канцэнтраванае фосфарнаазотнае мінеральнае ўгнаенне, а таксама падкормка для жвачных жывёл.

**ДЫАМІ́Д** (ад *ды-* + *амід*) — тое, што і *гідразін*.

**ДЫАПСІ́ДЫ** (н.-лац. diapsida) — клас паўзуноў, у які ўваходзяць *лепідазаўры* і *архазаўры*.

**ДЫВАКЦЫ́НЫ** (ад *ды-* + *вакцыны*) — камбінацыя дзвюх вакцын з мэтай *імунізацыі* супраць дзвюх *інфекцый*.

**ДЫВА́Н**[1] (тур. dīvān < ар. dīvān, ад перс. divān) — 1) выраб з варсістай узорыстай тканіны для пакрыцця падлогі, упрыгожвання сцен; 2) *перан.* тое, што пакрывае зямлю суцэльным слоем (напр. д. травы); 3) савет саноўнікаў пры султане ў сярэдневяковай Турцыі, а таксама ўрадавая ўстанова ў некаторых сучасных краінах мусульманскага Усходу.

**ДЫВА́Н**[2] (перс. divan = запіс, кніга) — зборнік лірычных вершаў у літаратурах Блізкага і Сярэд. Усходу.

**ДЫВЕРГЕ́НТЫ** (лац. divergens, -ntis = які адхіляецца) — варыянты *фанемы*, якія ўтварыліся ў выніку яе расчлянення.

**ДЫВЕРГЕ́НЦЫЯ** (лац. divergentia) — 1) разыходжанне прымет арганізмаў у працэсе іх *эвалюцыі*, якое прыводзіць да ўзнікнення новых відаў (параўн. *канвергенцыя* 1); 2) *анат.* разыходжанне зрокавых восей вачэй ад сярэдняй лініі цела (параўн. *канвергенцыя* 2); 3) *лінгв.* ператварэнне адной фанемы ў дзве розныя (параўн. *канвергенцыя* 3); 4) *мат.* лік, які характарызуе змяненне вектарнага патоку ў пэўным пункце.

**ДЫВЕРСА́НТ** (ням. Diversant) — той, хто праводзіць *дыверсію* 1, займаецца дыверсіямі.

**ДЫВЕРСІФІКА́ЦЫЯ** (ад лац. diversus = розны + *-фікацыя*) — 1) адначасовае развіццё многіх, не звязаных паміж сабой відаў вытворчасці, расшырэнне асартыменту вырабаў у маштабе дзяржавы, галіны, рэгіёна, прадпрыемства; 2) *лінгв.* разнастайнасць лексічнага складу ў тэксце як паказчык культуры мовы.

**ДЫВЕ́РСІЯ** (ням. Diversion, ад лац. diversio = адхіленне) — 1) накіраванае на паслабленне дзяржавы дзеянне падрыўнога характару з боку агентаў іншай дзяржавы або класава варожых арганізацый, што выражаецца ў вывядзенні са строю аб'екта ваеннага або гаспадарчага значэння; 2) ваенная аперацыя, якая праводзіцца, каб адцягнуць увагу праціўніка ад месца нанясення галоўнага ўдару; 3) *перан.* правакацыйная прапаганда сродкамі масавай інфармацыі з мэтай дэзарыентацыі насельніцтва пэўнай краіны.

**ДЫВЕРТЫ́КУЛ** (лац. diverticulum = дарога ўбок, адхіленне) — прыроджанае або набытае выпучванне сценкі полага або трубчастага органа (стрававода, кішэчніка, мачавога пузыра).

**ДЫВЕРТЫСМЕ́НТ** (фр. divertissement = забава) — 1) невялікі эстрадна-музычны дадатак да спектакля; 2) устаўныя танцавальныя нумары ў оперы і балеце, не звязаныя з сюжэтам; 3) лёгкая, часам віртуозная музычная п'еса тыпу *папуры*, *варыяцыі* 2.

**ДЫВІДЭ́НД** (лац. dividendum = тое, што належыць падзяліць) — частка прыбытку акцыянернага таварыства, якая штогодна размяркоўваецца паміж акцыянерамі прапарцыянальна ўкладзенаму імі капіталу.

**ДЫВІ́ЗАР** (лац. divisor = раздзяляльнік) — *аўтатрансфарматар*, у якім напружанне паміж канцамі яго абмоткі дзеліцца на некалькі аднолькавых частак.

**ДЫВІЗІЁН** (фр. division, ад лац. divisio = дзяленне) — 1) асноўнае тактычнае і агнявое падраздзяленне ў ракетных войсках і артылерыі сучасных армій (уключае 2—4 батарэі); 2) злучэнне аднатыпных караблёў ніжэйшых рангаў (напр. д. мінаносцаў).

**ДЫВІ́ЗІЯ** (лац. divisio = дзяленне) — буйное вайсковае злучэнне з некалькіх палкоў або брыгад у розных відах узброеных сіл (напр. пяхотная д., танкавая д., зенітная д.).

**ДЫВІЗІЯНІ́ЗМ** (ад фр. division = раздзяленне) — тое, што і *пуантылізм* 1.

**ДЫВІЗО́РЫЙ** (ад *ды-* + *візорый*) — тое, што і *візорый*.

**ДЫВІНІ́Л** (ад *ды-* + *вініл*) — тое, што і *бутадыен*.

**ДЫ́ГЕРЫ** (англ. diggers = *літар.* капальнікі) — прадстаўнікі сялянскага руху ў перыяд Англійскай рэвалюцыі 17 ст., якія абвясцілі праграму стварэння бяскласавага грамадства.

**ДЫГЕ́СТЫ** (лац. digesta, ад digerere = размяшчаць у парадку) — сістэматызаваныя праваевыя зборнікі ўрыўкаў з твораў рымскіх юрыстаў у асноўным па пытаннях

прыватнага права, складзеныя ў 6 ст. у Візантыі пры імператары Юстыніяне; як і *інстытуцыі* 1, мелі сілу закона.

**ДЫГЕ́СТЫЯ** (лац. digestio = раздзяленне) — змесціва цукру ў чым-н., выражанае ў працэнтах; цукрыстасць.

**ДЫГІСЕ́Т** (ням. Digiset) — фотанаборная машына з электроннапрамянёвай трубкай і электронным запамінальным устройствам.

**ДЫГІТА́ЙЗЕР** (англ. digitizer) — перыферыйная прылада ЭВМ для ўводу графічнай інфармацыі з неферамагнітных носьбітаў (карты і планы мясцовасці, чарцяжы, графікі і інш.).

**ДЫГІТА́ЛІС** (н.-лац. digitalis) — травяністая расліна сям. залознікавых з буйнымі чырвонымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў Еўразіі і Паўн. Афрыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная; наперстаўка.

**ДЫГІТАНІ́Н** (ад лац. digitalis = наперстаўка) — паверхневаактыўнае арганічнае рэчыва, якое належыць да *сапанінаў*, выкарыстоўваецца пры выдзяленні *ферментаў*.

**ДЫГЛІКО́ЛЬ** (ад *ды-* + *гліколь*) — тое, што і *дыэтыленгліколь*.

**ДЫГРА́МА** (ад *ды-* + *-грама*) — сукупнасць двух знакаў, якая ўжываецца для перадачы на пісьме аднаго гуку.

**ДЫГРА́Ф** (ад *ды-* + *-граф*) — пісьмовы знак з дзвюх літар, які ўжываецца для перадачы на пісьме пэўнага гуку.

**ДЫГРЭ́СІЯ** (лац. digressio) — 1) адхіленне, адступленне ад чаго-н., напр. ад тэмы ў літаратурным творы; 2) пагаршэнне стану прыродных комплексаў (пераважна ў зонах адпачынку, прыгарадных лясах) пад уплывам інтэнсіўнага іх выкарыстання.

**ДЫДАДЭКА́ЭДР** (ад *ды-* + *дадэкаэдр*) — простая форма кубічнай сістэмы ў *крышталяграфіі*, асобная форма крышталёў *пірыту*.

**ДЫДАКТАГЕНІ́Я** [ад *дыдакт(ыка)* + -генія] — негатыўны псіхічны стан вучня, выкліканы парушэннем педагагічнага такту з боку выхавальніка (настаўніка, трэнера); выяўляецца ў *фрустрацыі*, страху, прыгнечаным настроі і інш.

**ДЫДАКТЫ́ЗМ** (ад гр. didaktikos = павучальны) — павучальнасць.

**ДЫДА́КТЫК** (ад *дыдактыка*) — спецыяліст у галіне дыдактыкі.

**ДЫДА́КТЫКА** (гр. didaktikos = павучальны) — раздзел *педагогікі*, у якім разглядаюцца метады і формы навучання і выхавання.

**ДЫДАКТЫ́ЧНЫ** (гр. didaktikos) — 1) павучальны; 2) які мае адносіны да *дыдактыкі*.

**ДЫДА́СКАЛ** (гр. didaskalos) — настаўнік у Стараж. Грэцыі і Візантыі, а таксама ў некаторых брацкіх школах на Беларусі і ў Маскоўскай дзяржаве ў 17 ст.

**ДЫДРА́ХМА** (гр. didrachmon) — грэчаская манета вартасцю ў дзве *драхмы*.

**ДЫДЫМАГЕ́НЕС** (н.-лац. didymogenes) — каланіяльная зялёная водарасць сям. анкістрадэсмавых, якая пашырана ў *планктоне* некаторых прэсных вадаёмаў.

**ДЫДЫМАЦЫ́СЦІС** (н.-лац. didymocystis) — каланіяльная зя-

лёная водарасць сям. сцэнадэсмавых, якая пашырана ў *планктоне* прэсных вадаёмаў.

**ДЫДЫМЕ́ЛА** (н.-лац. didymella) — сумчаты грыб сям. мікасферэлавых, які развіваецца на злаках, агурках, гаросе.

**ДЫЕ́З** (фр. diese, ад гр. diesis = паўтон) — нотны знак, які абазначае павышэнне *ноты* на паўтона (параўн. *бемоль*).

**ДЫЕ́ТА**[1] (лац. diaeta, ад гр. diaita = спосаб жыцця, рэжым) — спецыяльна падабраны па колькасці, хімічным складзе, каларыйнасці і кулінарнай апрацоўцы рацыён харчавання.

**ДЫЕ́ТА**[2] (ад лац. dies = дзень) — утрыманне, якое атрымліваюць *дэпутаты* парламентаў некаторых краін.

**ДЫЕТАЛО́ГІЯ** (ад *дыета*[1] + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае прынцыпы харчавання пры розных захворваннях.

**ДЫЕТАТЭРАПІ́Я** (ад *дыета*[1] + *тэрапія*) — лячэнне дыетай, шляхам падбору пэўных прадуктаў харчавання; лячэбнае харчаванне.

**ДЫЕТО́ЛАГ** (ад *дыета*[1] +*-лаг*) — спецыяліст у галіне *дыеталогіі*.

**ДЫЕТЭ́ТЫКА** (лац. diaetetica, ад гр. diaita = спосаб жыцця, рэжым) — тое, што і *дыеталогія*.

**ДЫЁД** [ад *ды-* + *(электр)од*] — электронная лямпа з двума электродамі, а таксама адпаведны ёй паўправадніковы прыбор.

**ДЫЁПТР** (гр. dioptra) — 1) прыстасаванне для візіравання (гл. *візіраваць*) у прасцейшых геадэзічных інструментах (напр. у бусолі); параўн. *візір*[1] 3; 2) прыстасаванне для павелічэння дакладнасці прыцэльвання на вінтоўцы; 3) невялікая адтуліна ў відашукальніку (*візіры*[1] 2) фотаапарата, праз якую вядзецца назіранне пры выбары кадра.

**ДЫЁПТРЫКА** (гр. dioptrike) — раздзел *оптыкі*, які вывучае пераламленне святла пры пераходзе з аднаго празрыстага асяроддзя ў другое.

**ДЫЗ-** гл. *дыс-*.

**ДЫЗА́ЖЫО** (іт. disaggio) — адхіленне ў бок зніжэння рыначнага курсу грашовых знакаў, вэксаляў і іншых каштоўных папер ад іх намінальнай вартасці (параўн. *ажыо*, *лат* 1).

**ДЫЗА́ЙН** (англ. design = праект, чарцёж, малюнак) — мастацкае праектаванне эстэтычнага выгляду прамысловых вырабаў, прадметнага асяроддзя і інш.

**ДЫЗА́ЙНЕР** (англ. designer) — мастак-канструктар, спецыяліст па мастацкім праектаванні эстэтычнага выгляду прамысловых вырабаў, афармленні інтэр'ераў прамысловых аб'ектаў, грамадскіх будынкаў, жылля.

**ДЫЗАРТРЫ́Я** (ад *дыз-* + гр. arthroo = расчляняць) — разлад членараздзельнай мовы.

**ДЫЗАСАЦЫЯ́ЦЫЯ** (ад *дыз-* + *асацыяцыя*) — *псіх.* распад асацыяцыі на яе састаўныя элементы.

**ДЫ́ЗЕЛЬ** [ад ням. R. Diesel = прозвішча ням. інжынера (1858—1913] — рухавік унутранага згарання, які працуе на вадкім паліве.

**ДЫ́ЗЕЛЬ-ГЕНЕРА́ТАР** (ад *дызель* + *генератар*) — электрычны

генератар, які прыводзіцца ў рух дызелем.

**ДЫ́ЗЕЛЬ-КА́ПАР** (ад *дызель* + *капар*) — канструкцыя для забівання паляў, якая прыводзіцца ў рух дызелем.

**ДЫ́ЗЕЛЬ-МАТО́Р** (ад *дызель* + *матор*) — матор дызельнага тыпу.

**ДЫЗЕНТЭРЫ́Я** (ням. Dysenterie, ад гр. dysenteria) — вострае інфекцыйнае захворванне кішэчніка; крывавы панос.

**ДЫЗЛЕ́ПТЫКІ** (ад *дыз-* + гр. leptos = лёгкі) — тое, што і *галюцынагены*.

**ДЫЗО́СМІЯ** (ад *дыз-* + гр. osme = пах, нюх) — парушэнне пачуцця нюху.

**ДЫЗРУПТЫ́ЎНЫ** (лац. disruptus = разарваны); д. а д б о р — адна з форм штучнага адбору, пры якім унутры *папуляцыі* ўзнікае палімарфізм, г.зн. некалькі форм, кожная з якіх можа даць пачатак новаму віду.

**ДЫЗУРЫ́Я** (гр. dysuria, ад dis- = раз- + uron = мача) — парушэнне мочаспускання.

**ДЫЗ'ЮНКТЫ́ЎНЫ** (лац. disiunctivus) — раздзяляльны; д - а е с у д ж э н н е — лагічнае суджэнне тыпу «А ёсць або Б, або В, або Г» (параўн. *катэгарычны)*.

**ДЫЗ'Ю́НКЦЫЯ** (лац. disiunctio) — лагічная аперацыя, якая ўтварае складанае выказванне шляхам аб'яднання двух выказванняў пры дапамозе лагічнага злучніка «або».

**ДЫКАІ́Н** [ад *ды-* *(ка)каін*] — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца як болесуцішальны сродак.

**ДЫКАРЫЁН** (ад *ды-* + гр. karyon = ядро) — пара зближаных гаплоідных (гл. *гаплоід*) ядзер у адной клетцы, якая ўтвараецца пры палавым працэсе *аскаміцэтаў* і *базідыяміцэтаў*.

**ДЫКРАНАВЕ́ЙСІЯ** (н.-лац. dicranoweisia) — лістасцябловы мох сям. дыкранавых, які расце каля асновы ствалоў дрэў, на камянях, дранкавых стрэхах.

**ДЫКРАНАДО́НЦЫУМ** (н.-лац. dicranodontium) — лістасцябловы мох сям. дыкранавых, які расце на драўніне, што гніе, тарфяністай глебе і камянях.

**ДЫКРАНЕ́ЛА** (н.-лац. dicranella) — лістасцябловы мох сям. дыкранавых, які расце на глебавых агаленнях.

**ДЫКРА́НУМ** (н.-лац. dicranum) — лістасцябловы мох. сям. дыкранавых, які з'яўляецца кампанентам наглебавага покрыва балот, хвойных лясоў.

**ДЫКРАЦЭЛІЁЗ** (ад *дыкрацэліідзы*) — глісная хвароба свойскіх і дзікіх жывёл, зрэдку чалавека, якая выклікаецца дыкрацэліідамі.

**ДЫКРАЦЭЛІІ́ДЫ** (н.-лац. discrocoeliidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *трэматодаў*, паразітуюць у жоўцевых пратоках і пузыры, пратоках падстраўнікавай залозы млекакормячых, птушак, паўзуноў, спарадычна ў чалавека.

**ДЫКСІКРА́Т** [англ. dixiecrat, ад Dixie = гутарковая назва поўдня ЗША + (demo)crat = дэмакрат] — прадстаўнік паўднёвых штатаў у правым крыле дэмакратычнай партыі ЗША.

**ДЫ́КСІЛЕНД** (англ. dixieland, ад Dixie-land = *літар.* краіна Дыксі, гутарковая назва поўдня ЗША) —

назва амерыканскіх джазавых ансамбляў, якія ўзніклі ў Новым Арлеане ў 1915 г.

**ДЫКТАВА́ЦЬ** (польск. dyktować, ад лац. dictare) — 1) вымаўляць, зачытваць што-н. уголас так, каб слухачы запісвалі; 2) загадваць, прапаноўваць што-н. для безагаворачнага выканання (напр. д. умовы).

**ДЫКТА́НТ** (ад лац. dictare = дыктаваць) — вучэбная або праверачная пісьмовая работа па правапісу, што ўяўляе сабой запісванне тэксту пад дыктоўку з далейшым аналізам правільнасці яго напісання.

**ДЫ́КТАР** (лац. dictor = той, хто гаворыць) — супрацоўнік радыё або тэлебачання, які чытае тэкст перад мікрафонам для перадачы ў эфір.

**ДЫКТА́Т** (ням. Diktat, ад лац. dictatum = тое, што прадыктавана) — палітыка навязвання сваіх умоў, патрабаванняў моцнай краінай больш слабой краіне; 2) несправядлівае пагадненне, дагавор, абавязацельства, навязаныя адной дзяржавай другой супраць яе волі.

**ДЫКТА́ТАР** (лац. dictator) — 1) службовая асоба ў Стараж. Рыме, якая прызначалася сенатам у выпадку знешняй або ўнутранай небяспекі для дзяржавы і мела неабмежаваныя паўнамоцтвы; 2) правіцель краіны, які карыстаецца неабмежаванай уладай; 3) *перан.* асоба, якая ігнаруе калегіяльнасць, вядзе сябе ўладна і нецярпіма ў адносінах да падначаленых.

**ДЫКТАТУ́РА** (лац. dictatura) — 1) паўнамоцтвы, улада дыктатара ў Стараж. Рыме; 2) нічым не абмежаваная ўлада, якая абапіраецца на сілу пануючага класа; 3) спосаб ажыццяўлення дзяржаўнай улады, палітычны рэжым (напр. ваенная д.).

**ДЫКТАФО́Н** (ад лац. dictare = дыктаваць + *-фон*) — апарат для запісу на магнітную стужку вуснай мовы з мэтай узнаўлення яе пры неабходнасці.

**ДЫКТЫ́НА** (н.-лац. dictyna) — павук сям. дыктынавых, які жыве ў разнатраўі на ўзлесках, у забалочаных месцах.

**ДЫКТЫЯКАЎЛЁЗЫ** (ад *дыктыякаўліды*) — глісныя хваробы свойскіх і дзікіх траваедных, якія выклікаюцца дыктыякаўлідамі.

**ДЫКТЫЯКАЎЛІ́ДЫ** (н.-лац. dictyocaulidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *нематодаў*, паразітуюць у трахеях і бронхах траваедных жывёл.

**ДЫКТЫЯСО́МА** (ад гр. diktyon = сетка + *сома*) — *біял.* адзін са структурных элементаў клеткі.

**ДЫКТЫЯСТЭ́ЛА** (ад гр. diktyon = сетка + *стэла*) — адзін з тыпаў цэнтральнага цыліндра сцябла вышэйшых раслін; мае сеткаватую структуру (напр. у папарацей).

**ДЫКТЫЯСФЕ́РЫУМ** (н.-лац. dictyosphaerium) — каланіяльная зялёная водарасць сям. дыктыясферыевых, якая пашырана ў вадаёмах рознага тыпу, а таксама ў глебе.

**ДЫКТЫЯХЛАРЭ́ЛА** (н.-лац. dictyochlorella) — каланіяльная зялёная водарасць сям. пальмелавых, якая трапляецца ў *планктоне* азёр.

**ДЫ́КЦЫЯ** (лац. dictio) — вымаўленне; выразнасць у вымаўленні слоў і складоў.

# Д

**ДЫЛАТАМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. dilatatio = расшырэнне + *-метрыя*) — сукупнасць метадаў вымярэння цеплавога расшырэння целаў.

**ДЫЛАТА́ЦЫЯ** (лац. dilatatio = расшырэнне) — *мед.* расшырэнне, расцяжэнне (напр. д. жалудачкаў сэрца).

**ДЫЛАТО́ГРАФ** [ад лац. dilata(tio) = расшырэнне + *-граф*] — прыбор для аўтаматычнага запісвання змены аб'ёму якога-н. цела.

**ДЫЛАТО́МЕТР** [ад лац. dilata(tio) = расшырэнне + *-метр*] — прыбор для вызначэння змен у аб'ёме цвёрдых цел і вадкасцей пры награванні.

**ДЫЛЕ́МА** (гр. dilemma) — 1) *лог.* суджэнне або вывад з двума ўзаемавыключальнымі палажэннямі, з якіх неабходна выбраць адно, бо трэцяе немагчыма; 2) *перан.* цяжкі выбар паміж дзвюма магчымасцямі.

**ДЫ́ЛЕНЫ** (англ. deal-ends) — рэшткі ад распілоўвання піламатэрыялаў на экспартныя дошкі *(дыльсы)*; выкарыстоўваюцца ў тарнай, мэблевай і іншых галінах дрэваапрацоўчай прамысловасці.

**ДЫ́ЛЕР** (англ. dealer = гандляр) — 1) юрыдычная або фізічная асоба, якая з'яўляецца членам фондавай біржы і выконвае аперацыі з каштоўнымі паперамі за свой кошт; 2) супрацоўнік банка, які займаецца аперацыямі з валютай, дэпазітамі, каштоўнымі паперамі; 3) асоба або фірма, якая перапрадае тавары, часцей за ўсё ад свайго імя.

**ДЫЛЕТА́НТ** (фр. dilettante, ад іт. dilettante) — той, хто займаецца мастацтвам або навукай без спецыяльнай падрыхтоўкі, хто мае павярхоўнае знаёмства з якой-н. галіной ведаў.

**ДЫЛЕТАНТЫ́ЗМ** (фр. dilettantisme) — павярхоўны, без належнай падрыхтоўкі занятак якой-н. навукай, мастацтвам або іншай справай.

**ДЫЛІЖА́НС** (фр. diligence, ад лац. diligens = хуткі) — мнагамесная карэта для перавозкі пасажыраў і пошты ў еўрапейскіх краінах да пашырэння чыгуначных і аўтамабільных зносін.

**ДЫ́ЛІНГ** (англ. dealing) — памяшканне, у якім супрацоўнікі банка або кампаніі (*дылеры*) ажыццяўляюць здзелкі з валютай, дэпазітамі, каштоўнымі паперамі, золатам з дапамогай тэлефонаў, тэлексаў, факсаў і іншай тэхнікі.

**ДЫЛО́ГІЯ** (гр. dilogia = паўтарэнне) — два раманы або драматычныя творы аднаго аўтара, звязаныя адзінствам задумы і пераемнасцю сюжэта.

**ДЫ́ЛЬСЫ** (англ. deals) — дошкі пэўных памераў, прызначаныя для *экспарту*.

**ДЫЛЮ́ВІЙ** (лац. diluvium = патоп) — эпоха ў гісторыі Зямлі, калі было моцнае абледзяненне Паўночнага паўшар'я.

**ДЫ́ЛЯ** (польск. dyl, ад ням. Diele) — тоўстая дошка.

**ДЫМАРФАКО́КУС** (н.-лац. dimorphococcus) — каланіяльная зялёная водарасць сям. дыктыясферыевых, якая пашырана ў прэсных вадаёмах.

**ДЫМАРФА́НТ** (ад гр. dimorphos = які мае дзве формы) — дрэва сям. араліевых, пашыранае ў

Цэнтр. і Паўд.-Усх. Азіі; дае каштоўную драўніну.

**ДЫМАРФАТЭ́КА** (н.-лац. dimorphotheca) — травяністая або паўкустовая расліна сям. складанакветных з падоўжаным апушаным лісцем і ярка-аранжавымі або белымі кветкамі ў буйных суквеццях, пашыраная ў Паўд. Афрыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ДЫМАРФІ́ЗМ** (ад *ды-* + *-марфізм*) — 1) здольнасць некаторых рэчываў існаваць у дзвюх розных крышталічных формах; прыватны выпадак *полімарфізму* 1; 2) наяўнасць у аднаго віду жывёл ці раслін дзвюх розных формаў (напр. самцоў і самак, мужчынскіх і жаночых суквеццяў кукурузы); разнавіднасць *полімарфізму* 2.

**ДЫМЕТЫЛАМІ́Н** (ад *ды-* + *метыламін*) — другасны *амін* аліфатычнага рада, бясколерны газ з рэзкім непрыемным пахам; выкарыстоўваецца ў вытворчасці паскаральнікаў вулканізацыі, лекаў, гербіцыдаў, мыйных сродкаў і інш.

**ДЫМЕТЫЛАНІЛІ́Н** (ад *ды-* + *метыл* + *анілін*) — трацічны *амін*, жоўтая вадкасць з дзягцярным пахам; выкарыстоўваецца ў вытворчасці фарбавальнікаў, выбуховых рэчываў, як праявіцель для каляровай фатаграфіі.

**ДЫМЕТЫЛАМІНАБЕНЗО́Л** (ад *ды-* + *метыл* + *амінабензол*) — тое, што і *дыметыланілін*.

**ДЫМЕТЫЛБЕНЗО́Л** (ад *ды-* + *метылбензол*) — тое, што і *ксілол*.

**ДЫМЕТЫЛГІДРАЗІ́Н** (ад *ды-* + *метыл* + *гідразін*) — арганічнае злучэнне, вытворнае гідразіну; выкарыстоўваецца як гаручае ракетнага паліва.

**ДЫМІНУЭ́НДА** (іт. diminuendo = змяншаючы) — *муз.* аслабленне сілы гуку, паступовы пераход ад моцнага гучання да ціхага (параўн. *крэшчэнда*).

**ДЫ́НА** (ад гр. dynamis = сіла) — адзінка вымярэння сілы ў СГС сістэме адзінак, роўная сіле, якая надае масе ў 1 г паскарэнне 1 см/с$^2$.

**ДЫНАЗА́ЎРЫ** (ад гр. deinos = страшны + *-заўр*) — самая шматлікая група вымерлых паўзуноў падкласа *архазаўраў* (*анкілазаўры*, *арнітаподы*, *заўраподы*, *карназаўры*, *стэгазаўры*, *цэлуразаўры*, *цэратапсы*), якія жылі ў *мезазоі*; некаторыя дасягалі гіганцкіх памераў.

**ДЫНА́МА** (англ. dynamo, ад гр. dynamis = сіла, моц) — машына для выпрацоўкі пастаяннага электрычнага току.

**ДЫНАМА-** (гр. dynamis = сіла) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на дачыненне да сілы, энергіі.

**ДЫНАМАГРА́МА** (ад *дынама-* + *-грама*) — графік змянення нагрузкі ў пункце падвесу насосных штанг у залежнасці ад іх перамяшчэння пры эксплуатацыі нафтавых свідравін.

**ДЫНАМАКАРДЫЯГРА́ФІЯ** (ад *дынама-* + *кардыяграфія*) — метад даследавання механічных праяўленняў сардэчнай дзейнасці, заснаваны на рэгістрацыі перамяшчэнняў цэнтра цяжару груднай клеткі ў выніку сардэчнай кінематыкі і руху крыві ў буйных сасудах.

**ДЫНА́МА-МАШЫ́НА** (ад *дынама* + *машына*) — устарэлая назва

электрычнага *генератара* пастаяннага току.

**ДЫНАМАМЕТАМАРФІ́ЗМ** (ад *дынама-* + *метамарфізм*) — пераўтварэнне горных парод у нетрах зямной кары пад уплывам высокага ціску.

**ДЫНАМАМЕ́ТРЫЯ** (ад *дынама-* + *-метрыя*) — вымярэнне велічыні механічнай сілы пры дапамозе спецыяльных прыбораў (*дынамометраў).*

**ДЫНАМІ́ЗМ** (ад гр. dynamis = сіла) — уласцівасць *дынамічнага*, насычанасць дзеяннем.

**ДЫНА́МІК** (гр. dynamikos = моцны) — электрадынамічны гучнагаварыцель.

**ДЫНА́МІКА** (гр. dynamikos = моцны) — 1) рух цел пад уздзеяннем знешніх сіл; 2) раздзел *механікі*, які вывучае законы руху цел, выкліканага ўздзеяннем знешніх сіл; 3) ход развіцця, змянення якой-н. з'явы; 4) наяўнасць руху, дзеяння ў чым-н.

**ДЫНАМІ́Т** (фр. dynamite, ад гр. dynamis = сіла, моц) — выбуховае рэчыва, асноўнай састаўной часткай якога з'яўляецца *нітрагліцэрына*.

**ДЫНАМІ́ЧНЫ** (гр. dynamikos) — 1) багаты рухам, дзеяннем, унутранай сілай; 2) звязаны з рухам, з дзеяннем сілы.

**ДЫНАМО́ГРАФ** (ад *дынама-* + *-граф*) — прыбор для аўтаматычнага запісвання вымярэнняў велічыні механічнай сілы.

**ДЫНАМО́МЕТР** (ад *дынама-* + *-метр*) — прыбор для вымярэння велічыні механічнай сілы, напр. сілы ціску ў прасах, сілы цягі ў лакаматывах, аўтамашынах, сілы розных мышачных груп чалавека; сілометр.

**ДЫНА́Р** (ар. dinār, ад лац. denarius) — 1) старажытная арабская залатая манета; 2) грашовая адзінка Алжыра, Ірака (роўная 1000 *філсам*), Іарданіі, Кувейта (роўная 10 *дырхемам*) і некаторых іншых краін; 3) разменная манета Ірана, роўная $^1/_{100}$ *рыяла*.

**ДЫНА́РЫЙ** гл. *дэнарый*.

**ДЫ́НАС** (ад англ. Craing-y-Dinas = назва скалы ў Уэльсе) — вогнетрывалая цэгла, у складзе якой не менш 93 % крэменязёму; выкарыстоўваецца пры пабудове плавільных печаў.

**ДЫНА́СТЫЯ** (фр. dynastie, ад гр. dynasteia = улада) — 1) манархі з аднаго і таго ж роду, якія паслядоўна змянялі адзін аднаго на троне (напр. д. Раманавых); 2) *перан.* прадстаўнікі некалькіх пакаленняў аднаго роду, якія прысвяцілі сябе пэўнай галіне дзейнасці (напр. д. будаўнікоў).

**ДЫНАТРО́Н** (ад гр. dynamis = сіла + *-трон*) — электронная лямпа, якая ўзмацняе сігналы дзякуючы выбіванню з анода другасных электронаў.

**ДЫНАТЭ́РЫЙ** (ад гр. deinos = страшны, жахлівы + *-тэрый*) — вымерлае слонападобнае млекакормячае, якое існавала ў сярэдзіне *кайназою*.

**ДЫНАЦЭРА́ТЫ** (н.-лац. dinocerata, ад гр. deinos = страшны + keras, -atos = рог) — група млекакормячых *палеагенавага* перыяду, якая спалучала прыметы старажытных драпежнікаў і архаічных капытных.

**ДЫНАЦЭФА́ЛЫ** ( ад гр. deinos = страшны + цэфал) — група вымерлых паўзуноў атрада *тэрапсідаў*, якія жылі ў канцы *палеазою*.

**ДЫ́НГА** (англ. dingo) — драпежнік сям. воўчых, які водзіцца ў Аўстраліі; некаторыя вучоныя разглядаюць д. як падвід здзічэлага свойскага сабакі.

**ДЫ́НЕР-ТЭА́ТР** (англ. dinnertheater, ад dinner = абед + theater = тэатр) — тэатр за вячэрай; рэстаран, дзе ў час вячэры і пасля яе адбываюцца тэатральныя прадстаўленні для гасцей, якія сядзяць за сталамі.

**ДЫ́НГІ** (англ. dinghy) — маленькі гоначны *швербот*.

**ДЫНІТРАБЕНЗО́Л** (ад *ды-* + *нітрабензол*) — арганічнае злучэнне, цвёрдае крышталічнае рэчыва; выкарыстоўваецца для вырабу выбуховых рэчываў.

**ДЫНІТРАНАФТАЛІ́Н** [ад *ды-* + *нітра(ген)* + *нафталін*] — арганічнае злучэнне, якое выкарыстоўваецца ў вытворчасці некаторых фарбавальнікаў і выбуховых рэчываў.

**ДЫНІТРАТАЛУО́Л** (ад *ды-* + *нітраталуол*) — арганічнае злучэнне, якое выкарыстоўваецца пры вырабе выбуховых рэчываў.

**ДЫНІТРАХЛОРБЕНЗО́Л** [ад *ды-* + *нітра(ген)* + *хлорбензол*] — арганічнае злучэнне, жоўтае крышталічнае рэчыва; выкарыстоўваецца пры вырабе фарбавальнікаў.

**ДЫНО́БРЫЯН** (н.-лац. dynobryon) — аднаклетачная або каланіяльная залацістая водарасць сям. ахраманадавых, якая пашырана пераважна ў чыстых вадаёмах.

**ДЫНО́Д** (ад *ды-* + *анод*) — *электрод* у фотаэлектронным памнажальніку для павелічэння электроннага патоку ў выніку дынатроннага эфекту.

**ДЫНО́РНІС** (ад гр. deinos = страшны + ornis = птушка) — буйная, да трох метраў вышыні, бегаючая птушка, якая жыла ў Новай Зеландыі і была знішчана на працягу двух апошніх стагоддзяў.

**ДЫО́Л** [ад *ды-* + *(алкаг)оль*] — тое, што і *гліколь*.

**ДЫПАЭ́НА** (н.-лац. dipoena) — павук сям. цянётнікаў, які жыве ў хваёвых і мяшаных лясах, на маладых хвоях і елках.

**ДЫПЕПТЫДА́ЗЫ** (ад *ды-* + *пептыдазы*) — *ферменты*, якія каталізуюць гідралітычнае расшчапленне *дыпептыдаў* на свабодныя амінакіслоты.

**ДЫПЕПТЫ́ДЫ** (ад *ды-* + *пептыды*) — тое, што і *пептыды*.

**ДЫППРАМІ́ДА** (ад *ды-* + *пірамі-да*) — шматграннік, утвораны дзюма перамідамі, якія як быццам злучаны асновамі.

**ДЫПЛА-** (гр. diploos = двайны, падвойны) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «двайны», «падвойны».

**ДЫПЛАДО́К** (ад гр. diploos = двайны + dokos = бэлька) = гіганцкі дыназаўр *юрскага* перыяду з групы *заўраподаў*, які жыў у Паўн. Амерыцы; меў двайныя ніжнія адросткі пазванкоў.

**ДЫПЛАДЫЁЗЫ** (ад *дыпладыя*) — хваробы раслін, якія выклікаюцца паразітычнымі грыбамі дыпладыя.

# Д

**ДЫПЛАДЫ́Я** (н.-лац. diplodia) — недасканалы грыб сям. шаравідкавых, які развіваецца на сцёблах канапель, на адмерлых травяністых і дрэвавых раслінах.

**ДЫПЛАКО́КІ** (ад *дыпла-* + *кокі*) — шарападобныя *бактэрыі*, якія размяшчаюцца парамі і з'яўляюцца ўзбуджальнікамі *ганарэі*, крупознага запалення лёгкіх і іншых хвароб.

**ДЫПЛАМА́НТ** (ад *дыплом*) — 1) студэнт, які выконвае дыпломную работу; 2) удзельнік конкурсу, узнагароджаны *дыпломам* 2.

**ДЫПЛАМА́Т** (фр. diplomate) — 1) службовая асоба, упаўнаважаная ўрадам для афіцыйных зносін з прадстаўнікамі замежных дзяржаў; 2) *перан.* чалавек, які дабіваецца сваёй мэты тонкімі і ўмелымі адносінамі з людзьмі.

**ДЫПЛАМА́ТЫКА** (фр. diplomatique) — раздзел крыніцазнаўства, які вывучае паходжанне, структуру і змест гістарычных дакументаў.

**ДЫПЛАМА́ТЫЯ** (фр. diplomatie) — 1) дзейнасць урада па ажыццяўленню міжнароднай палітыкі; 2) сукупнасць прыёмаў, якія выкарыстоўваюцца ў зносінах з замежнымі дзяржавамі; 3) *перан.* тонкі разлік, лоўкасць і спрыт у дзеяннях, накіраваных на дасягненне якой н.-мэты.

**ДЫПЛАПІ́Я** (ад *дыпла-* + ops = вока) — разлад зроку, які выражаецца ў падваенні бачных прадметаў.

**ДЫПЛАСПАНДЫЛІ́Я** (ад *дыпла-* + гр. spondylos = пазванок) — развіццё ў ніжэйшых хрыбетных двух анатамічных элементаў пазванкоў — пярэдніх і задніх дуг або цел.

**ДЫПЛАСТАМАТО́ЗЫ** (ад *дыпластаматыды*) — глісныя хваробы рыб, якія выклікаюцца лічынкамі дыпластаматыдаў.

**ДЫПЛАСТАМАТЫ́ДЫ** (н.-лац. diplostomatidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *трэматодаў*, паразіты рыб.

**ДЫПЛАСТЭМАНІ́Я** (ад *дыпла-* + гр. stemon = аснова тканкі) — самы папырапы тып будовы кветкі, які характарызуецца наяўнасцю двух колаў тычынак.

**ДЫПЛАСХІ́СТЭС** (н.-лац. diploschistes) — накіпны сумчаты лішайнік сям. тэлатрэмавых, які трапляецца на глебе, камянях, імхах і раслінных рэштках.

**ДЫПЛАФА́ЗА** (ад *дыпла-* + *фаза*) — фаза жыццёвага цыклу асобіны з двайным наборам *храмасом* у ядрах клетак.

**ДЫПЛЕ́ЎРУЛА** (ад *ды-* + гр. pleura = бок) — ранняя лічынкавая фаза ігласкурых з выразна выражанай *білатэральнай* сіметрыяй.

**ДЫПЛО́ІД** (ад *дыпла-* + *-оід*) — арганізм, клеткі цела якога маюць па два поўных наборы гамалагічных *храмасом*.

**ДЫПЛО́ІДНАСЦЬ** (ад *дыплоід*) — наяўнасць у ядры расліннай або жывёльнай клеткі парнага набору *храмасом*.

**ДЫПЛО́М** (польск. dyplom < лац. diploma, ад гр. diploma = ліст, складзены ўдвая) — 1) дакумент аб заканчэнні вышэйшай або сярэдняй спецыяльнай навучальнай установы, а таксама аб прысу-

джэнні вучонай ступені; 2) пасведчанне, якое выдаецца за дасягненні, поспехі ў чым-н. (напр. д. конкурсу скрыпачоў); 3) дыпломная работа студэнта.

**ДЫПЛО́НЕІС** (н.-лац. diploneis) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. навікулавых, якая пашырана на дне вадаёмаў і сярод абрастанняў.

**ДЫПЛО́НТ** (ад *дыпла-* + гр. on = істота) — арганізм, усе клеткі якога, акрамя *гамет*, дыплоідныя (гл. *дыплоіднасць*).

**ДЫПЛО́Т** (гал. dieplood) — ручны *лот* для вымярэння марскіх глыбінь да 200 м.

**ДЫПО́ДЫЯ** (гр. dipodia = двухногасць, ад di(s) = двойчы + pus, podos = нага) — спалучэнне дзвюх стоп у ямбе або харэі, пры якім адна з іх мае больш моцны рытмічны націск.

**ДЫПО́ЛЬ** (ад *ды-* + гр. polos = полюс) — 1) сукупнасць двух электрычных зарадаў, роўных па велічыні і процілеглых па знаку; 2) *антэна* ў выглядзе двух сіметрычных праваднікоў.

**ДЫПРАЗІ́Н** (ад *ды-* + гр. prasinos = зялёны) — лекавы *прэпарат*, процівалергічны сродак.

**ДЫПСАМА́НІЯ** (ад гр. dipsa = смага + *манія*) — перыядычны запой.

**ДЫПТА́НК** (англ. deep-tank = глыбокая цыстэрна) — *цыстэрна* на транспартных суднах для вадзяного *баласту* ці вадкага паліва.

**ДЫ́ПТЫХ** (гр. diptychos = падвойны) — 1) складная, пакрытая воскам дошчачка для пісьма ў старажытных грэкаў і рымлян; 2) двухстворкавы складзень з жывапісным малюнкам на кожнай створцы; 3) кампазіцыя з дзвюх карцін, звязаных адзінай задумай; 4) музычны цыкл з дзвюх п'ес.

**ДЫПТЭРАЛО́ГІЯ** (ад *дыптэры* + *-логія*) — раздзел *энтамалогіі*, які вывучае двухкрылых насякомых (*дыптэраў*).

**ДЫПТЭ́РЫ** (ад *ды-* + *-птэр*) — атрад насякомых, у якіх развіта толькі сярэдняя пара крылаў (напр. мухі, камары).

**ДЫРХЕ́М, ДЫРХА́М** (ар. dirham, ад гр. drachme = драхма) — 1) старажытная арабская сярэбраная манета; 2) разменная манета Іарданіі і Кувейта, роўная $^1/_{10}$ *дынара*; 3) грашовая адзінка Марока, роўная 100 *сантымам*.

**ДЫРЫЖА́БЛЬ** (фр. dirigeable = *літар.* кіроўны) — паветраплавальны апарат сігарападобнай абцякаемай формы з авіяцыйным рухавіком і корпусам, напоўненым газам.

**ДЫРЫЖО́Р** (рус. дирижёр, ад фр. diriger = кіраваць) — асоба са спецыяльнай музычнай адукацыяй, якая кіруе хорам, аркестрам, оперным ці балетным спектаклем.

**ДЫРЫЖЫ́РАВАЦЬ** (рус. дирижировать, ад фр. diriger = кіраваць) — кіраваць хорам, аркестрам, оперным ці балетным спектаклем.

**ДЫРЭ́КТ** (англ. direct = прамы) — прамы ўдар у боксе.

**ДЫРЭКТАГРА́ФІЯ** (ад лац. directus = прамы + *-графія*) — спосаб прыгатавання *кліша* непасрэдным здыманнем на цынкавыя або

медныя пласціны з наступным траўленнем іх.

**ДЫРЭКТАПЛА́Т** (ад лац. directus = прамы + ням. platt = плоскі) — разнавіднасць капіравальнай размножвальнай машыны з *талерам* і рухомымі планкамі.

**ДЫРЭ́КТАР** (с.-лац. director) — кіраўнік прадпрыемства, установы.

**ДЫРЭКТАРА́Т** (ад *дырэктар*) — калегія дырэктараў якога-н. буйнога прадпрыемства, ведамства на чале з галоўным дырэктарам.

**ДЫРЭКТО́РЫЯ** (фр. Directoire, ад с.-лац. directorium = кіраўніцтва) — калегія кіраўнікоў некаторых дзяржаў у пэўныя гістарычныя моманты, напр. урад Французскай рэспублікі ў 1795—1799 гг.

**ДЫРЭКТРЫ́СА** (фр. directrice, ад лац. directrix = якая накіроўвае) — 1) *мат.* прамая лінія, якая характарызуецца тым, што адносіны адлегласцей любога пункта дадзенага канічнага сячэння ад гэтай прамой і ад дадзенага пункта ёсць велічыня пастаянная; 2) *ваен.* пэўны напрамак, сектар на артылерыйскім палігоне, падрыхтаваны для стральбы.

**ДЫРЭКТЫ́ВА** (фр. directive, ад с.-лац. directivus = накіраваны) — распараджэнне, кіруючае ўказанне вышэйстаячага органа ніжэйстаячаму або кіраўніка ўстановы падначаленаму.

**ДЫРЭКЦЫЁН** (фр. direction, ад лац. directio = кірунак) — 1) дадатковы нотны стан у аркестравай партыі першай скрыпкі, фартэпіяна або акардэона, на якім запісаны асноўны матэрыял іншых партый з указаннем, калі ім уступаць; 2) скарочаная партытура невялікіх твораў (маршаў, вальсаў і інш.), прызначаных для выканання духавым аркестрам.

**ДЫРЭ́КЦЫЯ** (польск. dyrekcja, ад лац. directio = кірунак) — кіруючы орган прадпрыемства, установы на чале з *дырэктарам.*

**ДЫС-, ДЫЗ-** (лац. dis-, гр. dys- = раз-, не-) — прыстаўка, якая абазначае парушэнне, разлад, страту чаго-н.; адпавядае па значэнні прыстаўкам раз-, не-.

**ДЫСАГО́НІЯ** (ад гр.dissos = падвойны + goneia = зараджэнне) — здольнасць некаторых грэбнявікоў размнажацца палавым спосабам у лічынкавай стадыі, а затым у дарослым стане.

**ДЫСАЛЮ́ЦЫЯ** (лац. dossolutio = раскладанне) — раскладанне, растварэнне цвёрдых цел.

**ДЫСАНА́НС** (фр. dissonance, ад лац.dissonans = які па-рознаму гучыць) — 1) *муз.* адначасовае спалучэнне тонаў рэзкага, няўзгодненага гучання (проціл. *кансананс* 1); 2) *перан.* адсутнасць у чым-н. гармоніі, разлад, няўзгодненасць.

**ДЫСАЦЫЯ́ЦЫЯ** (лац. dissociatio = раз'яднанне) — 1) распад малекул на састаўныя часткі (атамы, радыкалы, іоны); 2) парушэнне звязнасці псіхічных працэсаў (проціл. *асацыяцыя* 3).

**ДЫСБАКТЭРЫЁЗ** (ад *дыс-* + *бактэрыі*) — якасная змена бактэрыяльнай *мікрафлоры* арганізма, галоўным чынам кішэчніка.

**ДЫСБАЛА́НС** (ад *дыс-* + *баланс*) — неўраўнаважанасць вяр-

чальных дэталей машыны адносна восі.

**ДЫСГАРМО́НІЯ** ( ад *дыс-* + *гармонія*) — 1) адсутнасць або парушэнне музычнай гармоніі, немілагучнасць; 2) *перан.* разлад, разыходжанне чаго-н. з чым-н.

**ДЫСГЕНІТАЛІ́ЗМ** (ад *дыс-* + лац. qenitalis = дзетародны, палавы) — агульная назва парушэнняў развіцця палавых органаў, пры якіх яны маюць празмерна вялікія ці малыя памеры.

**ДЫСГІДРО́З** (ад *дыс-* + гр. hidros = пот) — утварэнне дробных пухіркоў на далонях і падэшвах, часцей летам.

**ДЫСЕ́КТАР** (ад лац. dissecare = рассякаць) — перадавальная тэлевізійная трубка, у якой аптычнае адлюстраванне ператвараецца ў электрычны сігнал.

**ДЫСЕМІНА́ЦЫЯ** (лац. disseminatio = рассейванне) — распаўсюджанне *мікробаў* або пухлінных клетак з першаснага ачага па крывяносных і лімфатычных сасудах арганізма.

**ДЫСЕ́НТЭРЫ** (англ. dissenters, ад лац. dissentere = не згаджацца) — асобы ў Англіі 16—17 ст., якія адышлі ад пануючай царквы.

**ДЫСЕПІМЕ́НТ** (ад лац. dissaepio = разгароджваць) — *біял.* двухслойная ўнутраная перагародка паміж *сегментамі*, утвораная *перытанеальным эпітэліем.*

**ДЫСЕРТА́НТ** (лац. dissertans, -ntis = які разглядае, даследуе) — той, хто публічна абараняе *дысертацыю* для атрымання вучонай ступені.

**ДЫСЕРТА́ЦЫЯ** (лац. dissertatio = разважанне, даследаванне) — наву́ковая праца, якая публічна абараняецца аўтарам для атрымання вучонай ступені.

**ДЫСІДЭ́НТ** (лац. dissidens, -ntis = нязгодны) — 1) той, хто не прызнае пануючага ў краіне веравызнання (там, дзе асноўнай рэлігіяй з'яўляецца *каталіцызм* або *пратэстантызм*); 2) палітычны іншадумец.

**ДЫСІМІЛЯ́ЦЫЯ** (лац. dissimilatio = распадабненне) — 1) распад складаных арганічных рэчываў у працэсе жыццядзейнасці раслінных і жывёльных арганізмаў (параўн. *асіміляцыя* 2); 2) *лінгв.* распадабненне гукаў пры вымаўленні (напр. «канбайн» пры напісанні «камбайн»).

**ДЫСІМУЛЯ́ЦЫЯ** (лац. dissimulatio = утойванне) — утойванне хваробы або асобных яе прымет.

**ДЫСІПАТЫ́ЎНЫ** (ад лац. dissipatus = раскіданы) — звязаны са стратамі механічнай энергіі, частка якой пераўтвараецца ў іншыя віды энергіі.

**ДЫСІПА́ЦЫЯ** (лац. dissipatio) — 1) пераход часткі энергіі ўпарадкаванага руху ў энергію неўпарадкаванага руху; 2) паступовае рассейванне атмасферы Зямлі і іншых планет у касмічную прастору.

**ДЫСК** (фр. disque, ад гр. diskos) — 1) плоскі круглы прадмет, напр. дэталь якой-н. машыны, апарата або спартыўны снарад (напр. д. электрапілы, д. тэлефона, д. для кідання); 2) бачны з Зямлі абрыс Сонца, Месяца; 3) магазін ручнога кулямёта, аўтамата, у якім змя-

шчаюцца патроны; 4) грамафонная пласцінка.

**ДЫСКАБО́Л** (гр. diskobolos, ад diskos = дыск + ballo = кідаю) — *сп.* кідальнік *дыска* 1.

**ДЫСКАГРА́ФІЯ** (ад *дыск* + *-графія*) — складанне простых і расшыраных *каталогаў* грамафонных пласцінак, іх паказчыкаў.

**ДЫСКАКАТЭЛЁЗ** (ад *дыскакатэліды*) — глісная хвароба рыб, якая выклікаецца лічынкамі дыскакатэлідаў.

**ДЫСКАКАТЭЛІ́ДЫ** (н.-лац. discocotylidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *монагеней*; паразіты прэснаводных рыб.

**ДЫСКАМЕДУ́ЗЫ** (н.-лац. discomedusae) — атрад марскіх кішачнаполасцевых жывёл класа сцыфоідных; у некаторых відаў паліпоіднае пакаленне страчана.

**ДЫСКАМІЦЭ́ТЫ** (н.-лац. discomycetiidae) — група сумчатых грыбоў падкласа *эўаскаміцэтаў* з пладовымі целамі *апатэцыямі*; пашыраны па ўсім зямным шары; пераважна *сапратрофы*, некаторыя — *паразіты* раслін.

**ДЫСКАМФО́РТ** (ад *дыс-* + *камфорт*) — адсутнасць умоў, неабходных для нармальнай жыццядзейнасці людзей, выканання пэўнай работы.

**ДЫ́СКАНТ** (п.-лац. discantus) — 1) высокі дзіцячы голас, а таксама спявак з такім голасам; 2) падгалосак пад асноўным голасам у беларускіх і ўкраінскіх народных песнях.

**ДЫСКАРДА́НТНЫ** (ад лац. discordare = не адпавядаць) — непадобны па якой-н. генетычнай прымеце (напр. д-ыя блізняты); параўн. *канкардантны*.

**ДЫСКАТЭ́КА** (фр. discothèque, ад гр. diskos = дыск + theke = сховішча) — збор грамафонных пласцінак (*дыскаў*); 2) маладзёжная танцавальна-забаўляльная ўстанова, дзе музыка і танцы суправаджаюцца, як правіла каментарыямі *дыск-жакея*.

**ДЫСКА́УНТЭР** (англ. discounter) — магазін у прамыслова развітых краінах, які гандлюе таварамі працяглага карыстання (халадзільнікамі, тэлевізарамі, відэатэхнікай і інш.) па зніжаных цэнах без прадстаўлення якіх-н. дадатковых паслуг.

**ДЫСКАФІ́Л** (ад *дыск* + *-філ*) — збіральнік грамафонных пласцінак (*дыскаў*).

**ДЫСКВАЛІФІКА́ЦЫЯ** (ад *дыс-* + *кваліфікацыя*) — пазбаўленне кваліфікацыі, права займаць якуюн. пасаду, выконваць абавязкі, удзельнічаць у спартыўных спаборніцтвах і г. д. з-за неадпаведнасці прафесіянальным умовам або правілам (параўн. *дэкваліфікацыя*).

**ДЫСКЕ́ТА** (англ. diskette) — тонкі гнуткі пластмасавы дыск, пакрыты магнітным слоем з аднаго ці абодвух бакоў, носьбіт інфармацыі ў персанальных ЭВМ.

**ДЫСК-ЖАКЕ́Й** (ад *дыск* + *жакей*) — вядучы праграмы ў дыскатэцы.

**ДЫСКО́ЗІЯ** (н.-лац. discosia) — недасканалы грыб сям. лептастромавых, які паразітуе на лісці пладовых, дрэвавых і травяністых раслін.

**ДЫСКО́НТ** (англ. discount) — 1) крэдытная аперацыя куплі банкам *вэксаляў* да заканчэння іх тэрміну, а таксама працэнт, які ўтрымліваюць пры гэтай аперацыі; 2) скідка з цаны тавару, валюты ў біржавых і валютных здзелках.

**ДЫСКРЫМІНА́НТ** (лац. discriminans, -ntis = які а́дрознівае) — *мат.* выраз, які складаецца з каэфіцыентаў ураўнення і ператвараецца ў нуль толькі ў тым выпадку, калі сярод каранёў ураўнення ёсць роўныя.

**ДЫСКРЫМІНА́ТАР** (ад лац. discriminare = адрозніваць) — радыёэлектроннае ўстройства, у якім адбываецца параўнанне аднаго з параметраў электрычнага сігнала (напр. амплітуды, фазы) з аналагічным параметрам стандартнага сігнала.

**ДЫСКРЫМІНА́ЦЫЯ** (лац. discriminatio = адрозненне) — 1) абмежаванне ў правах, пазбаўленне раўнапраўнага становішча якой-н. дзяржавы або групы насельніцтва (напр. расавая д.); 2) *мед.* здольнасць асобна ўспрымаць два аднолькавыя раздражненні, якія ўздейнічаюць адначасова ў размешчаных блізка пунктах скуры.

**ДЫСКРЭДЫТАВА́ЦЬ** (фр. discréditer) — падрываць давер'е да каго-н., чаго-н., ставіць пад сумненне, прыніжаць чый-н. аўтарытэт.

**ДЫСКРЭДЫТА́ЦЫЯ** (фр. discréditation) — падрыў давер'я да каго-н., чаго-н., прыніжэнне чыйгон. аўтарытэту.

**ДЫСКРЭ́ТНЫ** (лац. discretus) — перарыўны, які складаецца з асобных частак; д - а я  в е л і ч ы н я — велічыня, паміж асобнымі значэннямі якой заключаны толькі канечны лік іншых яе значэнняў.

**ДЫСКРЭТЫЗА́ЦЫЯ** (ад лац. discretus = раздзелены) — ператварэнне неперарыўнай велічыні ў *дыскрэтную*.

**ДЫСКРЭЦЫ́ЙНЫ** (фр. discrétionnaire, ад лац. discretio = адрозненне) — які залежыць ад асабістага меркавання; д - а я  ў л а д а — права службовай асобы або дзяржаўнага органа дзейнічаць паводле свайго меркавання.

**ДЫСКРЭ́ЦЫЯ** (лац. discretio) — вырашэнне службовай асобай або дзяржаўным органам якога-н. пытання паводле ўласнага меркавання.

**ДЫСКУРСІ́ЎНЫ** (с.-лац. discursivus, ад лац. discursus = меркаванне) — які робіцца шляхам лагічных вывадаў, разумовы (проціл. *інтуітыўны*).

**ДЫСКУСІ́РАВАЦЬ** (ад *дыскусія*) — тое, што і *дыскуціраваць*.

**ДЫСКУ́СІЯ** (фр. discussion, ад лац. discussio = даследаванне, абмеркаванне) — абмеркаванне якой-н. праблемы, спрэчнага пытання на сходзе, у друку, у прыватнай размове.

**ДЫСКУЦІ́РАВАЦЬ** (ням. diskutieren, ад лац. discutere = даследаваць, абмяркоўваць) — весці *дыскусію*, абмяркоўваць якое-н. спрэчнае пытанне.

**ДЫСЛАКА́ЛЬНЫ** (ад *дыс-* + *лакальны*) — д.  ш л ю б — звычай раздзельнага пражывання мужа і жонкі, кожнага з уласнымі сваякамі, у перыяд пераходу ад *матрыярхату* да *патрыярхату*.

# Д

**ДЫСЛАКА́ЦЫЯ** (фр. dislocation, ад лац. dis = раз + locatio = змяшчэнне) — 1) размяшчэнне ўзброеных сіл або ваенных аб'ектаў на тэрыторыі якой-н. краіны; 2) зрушэнне пластоў зямной кары; 3) зрушэнне касцей пры пераломах.

**ДЫСЛАЛІ́Я** (ад *дыс-* + гр. lalia = размова) — разлад мовы, які выяўляецца ў парушэнні вымаўлення гукаў; косназыкасць.

**ДЫСМАРФАМА́НІЯ** (ад *дыс-* + *марфа-* + *манія*) — псіхічнае расстройства, якое выяўляецца хваравітай упэўненасцю ў наяўнасці выдуманай фізічнай заганы.

**ДЫСМАРФАФАБІ́Я** (ад *дыс-* + *марфа-* + *-фобія*) — назойлівы неўратычны страх, звязаны з рэальнай або ўяўнай фізічнай заганай; у адрозненне ад дысмарфаманіі працякае звычайна без цяжкіх псіхічных расстройстваў.

**ДЫСМЕНАРЭ́Я** (ад *дыс-* + гр. men = месяц + rheo = цяку) — парушэнне *менструацый*.

**ДЫСМІКРАБІЁЗ** (ад *дыс-* + *мікра-* + *-біёз*) — тое, што і *дысбактэрыёз*.

**ДЫСПАЗІТЫ́ЎНАСЦЬ** (ад *дыспазітыўны*) — права ўдзельнікаў дагавора або судовага працэсу дзейнічаць паводле свайго меркавання.

**ДЫСПАЗІТЫ́ЎНЫ** (п.-лац. dispositivus = які распараджаецца) — *юр.* які дапускае выбар (проціл. *імператыўны* 2).

**ДЫСПАЗІ́ЦЫЯ** (лац. dispositio = размяшчэнне) — 1) план размяшчэння войск для вядзення бою або караблёў на месцы стаянкі ці ў атрадным плаванні; 2) пісьмовы загад войскам на бой або на марш у рускай арміі 18—19 ст.; 3) састаўная частка прававой нормы, якая вызначае абавязкі ўдзельнікаў судовага працэсу.

**ДЫСПАНЕ́НТ** (лац. disponens, -ntis = які размяшчае, размяркоўвае) — 1) упаўнаважаны ў справах фірмы; 2) асоба, якая мае свабодныя сумы на рахунках у *камісіянераў* або *карэспандэнтаў* банка.

**ДЫСПАНІ́РАВАЦЬ** (лац. disponere = размяшчаць, размяркоўваць) — распараджацца свабоднымі сумамі на рахунках у *камісіянераў* або карэспандэнтаў банка.

**ДЫСПАНСЕ́Р** (фр. dispensaire, ад лац. dispensare = размяркоўваць) — медыцынская ўстанова, якая займаецца ранім выяўленнем і лячэннем хворых, ажыццяўленнем санітарна-аздараўленчых мерапрыемстваў (напр. процітуберкулёзны д.).

**ДЫСПАНСЕРЫЗА́ЦЫЯ** (ад *дыспансер*) — сістэма мерапрыемстваў па аказанні лячэбна-прафілактычнай дапамогі насельніцтву.

**ДЫСПАРА́ТНЫ** (лац. disparatus) — несумяшчальны.

**ДЫ́СПАЧ** (англ. dispatch = хуткасць) — *прэмія* за датэрміновую пагрузку або разгрузку судна.

**ДЫСПА́ША** (фр. dispache) — вылічэнне страт пры аварыі судна і размеркаванне іх паміж арганізатарамі рэйса.

**ДЫСПАШЭ́Р** (фр. dispacheur) — афіцыйны *эксперт*, які праводзіць *дыспашу*.

**ДЫСПЕНСА́ЦЫЯ** (лац. dispensatio = рэгуляванне) — індывідуальнае вызваленне дадзенай асобы ад

дзеяння пэўнага царкоўнага правіла або абяцання.

**ДЫСПЕПСІ́Я** (гр. dispepsia) — парушэнне нармальнай дзейнасці страўніка і кішэчніка ў дзяцей першага года жыцця.

**ДЫСПЕРГАВА́ЦЬ** (лац. dispergere = рассейваць, рассыпаць) — раздрабняць цвёрдыя або вадкія целы ў якім-н. асяроддзі, у выніку чаго ўтвараюцца парашкі, *суспензіі*, *эмульсіі*.

**ДЫСПЕ́РСІЯ** (лац. dispersio = рассейванне) — раскладанне, раздзяленне, рассейванне (напр. д. святла, д. мінеральных солей у глебе).

**ДЫСПЕ́РСНЫ** (лац.dispersus) — раздроблены, рассеяны; д - а я с і с т э м а — фізіка-хімічная сістэма, у якой адна з састаўных частак у выглядзе дробных часцінак размеркавана ў аднародным асяроддзі.

**ДЫСПЕ́ТЧАР** (англ. dispatcher) — работнік, які рэгулюе рух транспарту або ход работы прадпрыемства з аднаго цэнтральнага пункта пры дапамозе сродкаў сувязі.

**ДЫСПЕТЧАРЫЗА́ЦЫЯ** (ад *дыспетчар*) — цэнтралізацыя апаратыўнага кантролю і кіравання вытворчымі, транспартнымі, тэхналагічнымі і іншымі працэсамі, заснаваная на прымяненні сучасных сродкаў перадачы і апрацоўкі інфармацыі.

**ДЫСПЛАЗІ́Я** (ад *дыс-* + гр. plasis = утварэнне) — няправільнае развіццё органаў або частак цела.

**ДЫСПЛЕ́Й** (англ. display = паказваць, узнаўляць) — прыбор для візуальнага адлюстравання алфавітна-лічбавай і графічнай інфармацыі ў дыялогавым рэжыме работы чалавека з ЭВМ; уваходзіць у склад персанальнай ЭВМ або далучаецца да яе з дапамогай ліній сувязі.

**ДЫСПНО́Э** (ад *дыс-* + гр. pnoe = дыханне) — цяжкае дыханне, задышка (параўн. *апноэ*).

**ДЫСПО́РА** (н.-лац. dispora) — каланіяльная зялёная водарасць сям. кокаміксавых, якая трапляецца ў прэсных водах.

**ДЫСПРАПО́ЦЫЯ** (ад *дыс-* + *прапорцыя*) — адсутнасць прапарцыянальнасці, суразмернасці, неадпаведнасць паміж часткамі цэлага.

**ДЫСПРО́ЗІЙ** (н.-лац. disprosium, ад гр. dysprositos = цяжкадаступны) — хімічны элемент, рэдказямельны метал сям. *лантаноідаў*, выкарыстоўваецца як кампанент спецыяльных магнітных сплаваў.

**ДЫ́СПУТ** (польск. dysputa, ад лац. disputare = разважаць, спрачацца) — публічная спрэчка па навуковых, літаратурных і іншых пытаннях грамадскага значэння.

**ДЫСПУТАВА́ЦЬ** (лац. disputare = разважаць, спрачацца) — весці *дыспут*, удзельнічаць у спрэчцы па навуковых, літаратурных і іншых важных у грамадскіх адносінах пытаннях.

**ДЫСПУТА́НТ** (лац. disputans, -ntis) — удзельнік *дыспуту*.

**ДЫСТА́ЛЬНЫ** (ад лац. distare = знаходзіцца на адлегласці) — самы аддалены ад сярэдняй плоскасці цела (пра частку цела, орган); проціл. *таксімальны*.

# Д

**ДЫСТА́НЦЫЯ** (лац. distantia) — 1) адлегласць, прамежак паміж чым-н.; 2) адлегласць па глыбіні паміж вайскоўцамі, вайсковымі падраздзяленнямі ў страі, а таксама паміж машынамі, самалётамі, караблямі ў баявым парадку (параўн. *інтэрвал* 3); 3) *сп.* адлегласць паміж стартам і фінішам, паміж баксёрамі на рынгу і інш.; 4) участак адміністрацыйна-тэхнічнага падзелу чыгуначнага, шашэйнага, воднага пуці.

**ДЫСТО́РЗІЯ** (лац. distorsio = скрыўленне) — расцяжэнне звязак сустава або іх пашкоджанне.

**ДЫСТО́РСІЯ** (лац. distorsio = скрыўленне) — скажэнне адлюстравання, атрыманага пры дапамозе лінзы або аптычнай сістэмы, з-за рознага лінейнага павелічэння розных яго частак; разнавіднасць *аберацыі*.

**ДЫСТРАФІ́Я** (ад *дыс-* + *-трафія*) — парушэнне жыўлення тканак, органаў або арганізма ў цэлым, якое прыводзіць да паталагічных змен.

**ДЫСТРО́ФНЫ** (ад *дыс-* + *-трофны*); д ы я а з ё р ы — вадаёмы з малым утрыманнем пажыўных рэчываў.

**ДЫСТРЫБУТЫ́ЎНЫ** (лац. distributivus) — які мае адносіны да *дыстрыбуцыі*; д. а н а л і з — метад лінгвістычнага даследавання, пры якім класіфікацыю моўных адзінак праводзяць у кантэксце.

**ДЫСТРЫБУ́ЦЫЯ** (лац. distributio) — размеркаванне моўных адзінак, сукупнасць фанем, марфем, лексем, якія ствараюць кантэкст.

**ДЫСТРЫБ'Ю́ТАР** (англ. distributor) — незалежны аптовы пасрэднік, які займаецца закупкай прадукцыі з мэтай продажу рознічным фірмам і магазінам, а таксама прамысловым прадпрыемствам, кааператывам, майстэрням для канчатковага спажывання.

**ДЫ́СТРЫКТ** (англ. district, ад лац. districtus = выцягнуты) — 1) адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў складзе дэпартамента, створаная на тэрыторыі былых паветаў Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губерняў у час заняцця іх французскімі войскамі ў вайну 1812 г.; 2) ніжэйшая адміністрацыйная адзінка судовай або выбарчай акругі ў некаторых краінах (напр. у ЗША, Вялікабрытаніі).

**ДЫСТРЭ́С-СІНДРО́М** (ад *дыстрэс* + *сіндром*) — хвароба нованароджаных у першыя гадзіны жыцця, якая праяўляецца цяжкімі дыхальнымі расстройствамі.

**ДЫСТЫЛЯВА́ЦЬ** (лац. distillare = сцякаць кроплямі) — ачышчаць перагонкай, раздзяляць вадкія сумесі на фракцыі.

**ДЫСТЫЛЯ́Т** (лац. distillatus = сцэджаны) — вадкі прадукт перагонкі.

**ДЫСТЫЛЯ́ТАР** (ад лац. distillare = сцякаць кроплямі) — прыбор для *дыстыляцыі*.

**ДЫСТЫЛЯ́ЦЫЯ** (лац. disillatio = сцяканне кроплямі) — перагонка, раздзяленне вадкіх сумесей на фракцыі рознага саставу.

**ДЫСТЫМІ́Я** (ад *дыс-* + гр. thymos = настрой) — прыгнечаны, сумны настрой.

**ДЫСТЫ́НКЦЫЯ** (лац. distinctio = адрозніванне) — пазнавальны акт, у працэсе якога фіксуецца адрозненне паміж прадметамі рэальнасці або элементамі свядомасці (адчуваннямі, уяўленнямі і г.д.).

**ДЫ́СТЫХ** (гр. distichon) — *страфа* з двух вершаў; двухрадкоўе.

**ДЫСТЭ́Н** (ад *ды-* + *стэн*) — тое, што і *кіяніт*.

**ДЫСУГА́З** (ад фр. dissous = раствораны + *газ*) — ацэтылен, раствораны пад ціскам у *ацэтоне*; выкарыстоўваецца пры газавай зварцы.

**ДЫСФА́ГІЯ** (ад *дыс-* + *-фагія*) — разлад акту глытання ў чалавека і жывёл, выкліканы пухліннымі або запаленчымі працэсамі ў глотцы.

**ДЫСФАНІ́Я** (ад *дыс-* + *-фанія*) — расстройства голасу пры захворваннях гартані, перанапружанні галасавога апарата.

**ДЫСФАРЫ́Я** (гр. disphoreo = цяжка пераношу) — расстройства настрою, выкліканае некаторымі псіхічнымі захворваннямі, якое характарызуецца злосна-тужлівым станам, схільнасцю да агрэсіі.

**ДЫСФАТЫ́ЧНЫ** (ад *дыс-* + гр. photos = святло); д - а я з о н а — адна з зон Сусветнага акіяна, якая ахоплівае тоўшчу вады ад 200 да 1500 м, куды пранікае нязначная колькасць сонечных прамянёў.

**ДЫСФУ́НКЦЫЯ** (ад *дыс-* + *функцыя*) — парушэнне, разлад функцый органа або арганізма.

**ДЫСЦЫ́НА** (н.-лац. discina) — сумчаты грыб сям. пецыцавых, які трапляецца на глебе ў хваёвых лясах.

**ДЫСЦЫПЛІ́НА** (лац. disciplina = вучэнне, навучанне) — 1) цвёрда ўстаноўлены парадак паводзін, абавязковы для ўсіх членаў калектыву; 2) вытрымка, прывычка да строгага парадку; 3) асобная галіна якой-н. навукі; вучэбны прадмет (напр. тэхнічныя дысцыпліны).

**ДЫСЦЫПЛІНА́РНЫ** (ад *дысцыпліна*) — які мае адносіны да дысцыпліны 1; звязаны з парушэннем дысцыпліны.

**ДЫСЦЫ́Т** (ад гр. diskos = дыск) — паражэнне міжпазванковых *дыскаў*, з болямі, часам з дэфармацыяй пазваночніка.

**ДЫУРЭ́З** (н.-лац. diuresis, ад гр. diureo = выдзяляю мачу) — выдзяленне мачы.

**ДЫУРЭ́ТЫКІ** (гр. diuretikos) — мачагонныя сродкі.

**ДЫУРЭТЫ́ЧНЫ** (гр. diuretikos) — мачагонны.

**ДЫУРЭЦІ́Н** (н.-лац. diuretinum, ад гр. diuretikos = мачагонны) — лекавы *прэпарат*, белы парашок саладкавата-салёнага смаку, які ўжываецца як мачагонны сродак.

**ДЫФАЗІЯ́СТР** (н.-лац. diphasiastrum) — расліна сям. дзеразовых з доўгім сцяблом, укрытым лускападобным лісцем, пашыраная ў розных кліматычных зонах; лекавая і фарбавальная.

**ДЫФАМА́ЦЫЯ** (лац. diffamatio = ганьбаванне) — выказванне ў сродках масавай інфармацыі сапраўдных або лжывых звестак, якія ганьбяць гонар і годнасць грамадзяніна або ўстановы, арганізацыі.

# Д

**ДЫФАСГЕ́Н** (ад *ды-* + *фасген*) — бясколернае масляністае атрутнае рэчыва з рэзкім удушлівым пахам, падобным да паху прэлага сена.

**ДЫФЕНБА́ХІЯ** (н.-лац. dieffenbachia) — травяністая расліна сям. ароідных з буйным цёмна-зялёным лісцем, пашыраная ў тропіках Амерыкі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ДЫФЕНІ́Л** (ад *ды-* + *феніл*) — араматычны вуглевадарод, бясколернае крышталічнае рэчыва; выкарыстоўваецца як высокатэмпературны цепланосьбіт.

**ДЫФЕНІЛАМІ́Н** (ад *дыфеніл* + *амін*) — араматычны другасны амін; выкарыстоўваецца ў вытворчасці азафарбавальнікаў, як стабілізатар пораху і пластмас.

**ДЫФЕРЭ́НТ** (лац. differens, -ntis = розніца) — 1) *мар.* вугал нахілу судна, выкліканы розніцай асадкі носа і кармы; 2) *камерц.* розніца ў цане на тавар пры заказе і пры атрыманні яго.

**ДЫФЕРЭНТО́МЕТР** (ад лац. differens, -ntis = розніца + *-метр*) — прыбор для вызначэння *дыферэнта* судна.

**ДЫФЕРЭНЦЫ́РАВАЦЬ** (ад лац. differentia = розніца, адрозненне) — 1) размяжоўваць, вылучаць разнародныя элементы; 2) *мат.* знаходзіць *дыферэнцыял*.

**ДЫФЕРЭНЦЫЯ́Л** (ад лац. differentia = розніца, адрозненне) — 1) *мат.* адвольнае прырашчэнне незалежнай пераменнай велічыні; 2) *тэх.* зубчасты механізм, пры дапамозе якога перадаецца рух ад аднаго вала двум валам, што верцяцца з рознай хуткасцю.

**ДЫФЕРЭНЦЫЯ́ЛЬНЫ** (ад лац. differentia = розніца, адрозненне) — 1) неаднолькавы, розны пры розных умовах; 2) які мае адносіны да *дыферэнцыяла* 1; д-ыя ўраўненні — ураўненні, у якіх невядомая функцыя звязана з *дыферэнцыяламі* 1 і незалежнымі пераменнымі; 3) *лінгв.* адрознівальны; д-ыя прыметы — прыметы, якія выкарыстоўваюцца для адрознення гукавых адзінак.

**ДЫФЕРЭНЦЫЯ́ТАР** (ад лац. differentia = розніца, адрозненне) — прыстасаванне для пераўтварэння ўваходнага ўздзеяння ў сігнал, які характарызуе скорасць змянення ўваходнай велічыні (з'яўляецца яе вытворнай); выкарыстоўваецца ў вылічальных прыстасаваннях, сістэмах аўтаматычнага рэгулявання і інш.

**ДЫФЕРЭНЦЫЯ́ЦЫЯ** (фр. différentiation, ад лац. differentia = розніца, адрозненне) — 1) расслаенне, расчляненне чаго-н. на асобныя разнародныя часткі, формы і ступені; 2) *біял.* дзяленне клетак і тканак раслінных і жывёльных арганізмаў, відаў на асобныя папуляцыі, а таксама дзяленне полу.

**ДЫФІЛАБАТРЫЁЗ** (ад *дыфілабатрыіды*) — глісная хвароба жывёл і чалавека, якая выклікаецца дыфілабатрыідамі.

**ДЫФІЛАБАТРЫІ́ДЫ** (н.-лац. diphyllobothriidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *цэстодаў*; кішачныя паразіты жывёл, зрэдку чалавека.

**ДЫФІРА́МБ** (гр. dithyrambos) — 1) урачыстая песня ў старажытнагрэчаскай літаратуры ў гонар бога Дыяніса, пазней — літаратурная

форма, блізкая да гімна і оды; 2) *перан.* перабольшаная пахвала, непамернае ўсхваленне.

**ДЫФРА́КЦЫЯ** (лац. diffractio = разломванне) — адхіленне хваляў (светлавых, гукавых) пры сутыкненні з сустрэчнымі перашкодамі.

**ДЫФТО́НГ** (гр. diphthongos) — спалучэнне двух галосных гукаў у адным складзе.

**ДЫФТЭРО́ІДЫ** (ад *дыфтэрыя* + *-оід*) — *бактэрыі*, падобныя на дыфтэрыйныя палачкі.

**ДЫФТЭРЫ́Т** (гр. diphtheritis = скурны) — тое, што і *дыфтэрыя*.

**ДЫФТЭРЫ́Я** (фр. diphtérie, ад гр. diphtherion = скурка, плеўка) — заразная хвароба, пераважна дзіцячая, з паражэннем зева, слізістых абалонак носа, гартані.

**ДЫФУ́ЗАР** (лац. diffusor) — 1) апарат для здабывання каштоўных рэчываў з сумесей; 2) расшыраная частка трубы (канала), у якой адбываецца запавольванне руху вадкасці або газу і ўзрастанне ціску; 3) узмацняльнік гуку канічнай формы ў бязрупарных гучнагаварыцелях; 4) прыстасаванне да фотаапарата або фотапавелічальніка, прызначанае для паніжэння рэзкасці выявы.

**ДЫФУ́ЗІЯ** (лац. diffusio = распаўсюджванне, расцяканне) — узаемнае пранікненне рэчываў у выніку цеплавога перамяшчэння часціц гэтых рэчываў (малекул, атамаў і інш.).

**ДЫФУНДЗІ́РАВАЦЬ** (лац. diffundere) — пранікаць шляхам *дыфузіі*.

**ДЫХАГА́МІЯ** (ад гр. dicha = асобна + *-гамія*) — неадначасовае высняванне тычынак і рыльцаў песцікаў у адной кветцы; сустракаецца ў формах *пратэрагінія* і *пратэрандрыя* (параўн. *гамагамія*).

**ДЫХАДО́НЦЫУМ** (н.-лац. dichodontium) — лістасцябловы мох сям. дыкрынавых, які трапляецца на вільготнай глебе ў лясах.

**ДЫХА́ЗІЙ** (гр. dichazo = раздзяляю надвое) — суквецце, у якога ад галоўнай восі адыходзяць дзве бакавыя восі, што перарастаюць галоўную.

**ДЫХАСТЫ́ЛІС** (н.-лац. dichostylis) — травяністая расліна сям. асаковых з вузкім лісцем, пашыраная пераважна ў тропіках і субтропіках; на Беларусі трапляецца рэдка па берагах рэк і азёр.

**ДЫХАТАМІ́ЧНЫ** (гр. dichotomos) — разгалінаваны, раздзелены па прынцыпу *дыхатаміі*.

**ДЫХАТАМІ́Я** (гр. dichotomia) — 1) дзяленне цэлага на дзве часткі, потым кожнай часткі зноў на дзве і г. д. (параўн. *трыхатамія*); 2) тып разгалінавання раслін, пры якім кожная галінка дзеліцца на дзве новыя.

**ДЫХЛОРЭТА́Н** (ад *ды-* + *хлор* + *этан*) — арганічнае злучэнне, бясколерная вадкасць, якая выкарыстоўваецца як растваральнік і як сыравіна ў вытворчасці сінтэтычнага каўчуку.

**ДЫХРАІ́ЗМ** (ад гр. dichroos = двухколерны) — двухколернасць, уласцівасць некаторых крышталёў выяўляць розную афарбоўку ў залежнасці ад таго, у якім напрамку іх разглядаць; разнавіднасць *плеахраізму*.

# Д

**ДЫХРАІ́Т** (ад гр. dichroos = двухколерны) — мінерал, разнавіднасць *кардыерыту*.

**ДЫХРАМА́ТЫ** (ад *ды-* + *хараматы*) — солі дыхромавай кіслаты, моцныя акісляльнікі; выкарыстоўваюцца як кампаненты выбуховых рэчываў, дубільнікі ў гарбарнай прамысловасці і інш.

**ДЫХРАМАТЫ́ЧНЫ** (ад *ды-* + гр. chroma = колер) — двухколерны.

**ДЫЦУКРЫ́ДЫ** (ад *ды-* + *цукрыды*) — клас арганічных злучэнняў, крышталічныя вугляводы, малекулы якіх складаюцца з дзвюх рэштак *монацукрыдаў* (напр. *лактоза*, *цукроза*).

**ДЫЦЫНАДО́НТЫ** (ад *ды-* + гр. kyon, kynos = сабака + *-адонт*) — група вымерлых паўзуноў атрада *тэрапсідаў*, у верхняй сківіцы якіх былі два буйныя клыкавідныя зубы; жылі ў канцы *палеазою* — пач. *мезазою*.

**ДЫЦЫЯМІ́ДЫ** (н.-лац. dicyemida) — клас беспазваночных жывёл тыпу *мезазояў*, паразіты марскіх беспазваночных.

**ДЫЦЭ́ЛЮЛА** (н.-лац. dicellula) — каланіяльная зялёная водарасць сям. мікрактыніевых, якая трапляецца ў *планктоне* прэсных вадаёмаў.

**ДЫЦЭ́НТРА** (н.-лац. dicentra) — травяністая расліна сям. дымніцавых з перыста-раздзельным лісцем і ярка-ружовымі з белай сярэдзінай кветкамі, якая пашырана ва Усх. Азіі і Паўн. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ДЫ́ШАЛЬ** (польск. dyszel, ад с.-в.-ням. dīhsel) — 1) тоўстая аглобля, прымацаваная да пярэдняй восі ў параконнай павозцы; 2) жалезны выгнуты прут у плузе, да пярэдняга канца якога прымацоўваецца ворчык.

**ДЫЭ́ДР** (ад *ды-* + *-эдр*) — двухграневая простая форма крышталёў з двайной воссю сіметрыі; выкарыстоўваецца ў крышталяграфіі.

**ДЫЭЛЕ́КТРЫКІ** [англ. dielectric, ад. гр. di(a) = праз + англ. electric = электрычны] — рэчывы, якія характарызуюцца малой электраправоднасцю, напр. шкло, фаянс, слюда.

**ДЫЭТЫЛАМІ́Н** (ад *ды-* + *этыл* + *аміны*) — бясколернае лятучае рэчыва з аміячным пахам; выкарыстоўваецца як стымулятар сардэчнай дзейнасці, для атрымання паскаральнікаў *вулканізацыі* каўчуку.

**ДЫЭТЫЛЕНГЛІКО́ЛЬ** (ад *ды-* + *этыленгліколь*) — густая бясколерная вадкасць, растваральнік маслаў, нітрацэлюлозы, фенольных смол.

**ДЫЯ-** (гр. dia = праз) — *прэфікс*, які абазначае пранікненне, раздзяленне, узаемасувязь, узмацненне, завершанасць.

**ДЫЯБА́З** (фр. diabase, ад гр. diabasis = пераход, пераправа) — горная парода даўняга вулканічнага паходжання, падобная на *базальт*; выкарыстоўваецца як будаўнічы матэрыял.

**ДЫЯБЕ́Т** (гр. diabetes) — хваробы, якія суправаджаюцца выдзяленнем вялікай колькасці мачы; ц у к р о в ы д. — хвароба, якая

характырызуецца павелічэннем узроўню цукру ў крыві і ў мачы.

**ДЫЯБЕ́ТЫК** (ад гр. diabetes = дыябет) — хворы на *дыябет*.

**ДЫЯГАНА́ЛЬ**[1] (лац. diagonalis, ад гр. diagonios = які ідзе ад вугла да вугла) — *мат.* прамая лінія, якая злучае два несумежныя вуглы многавугольніка або дзве вяршыні шматгранніка, што ляжаць не ў адной плоскасці; п а д ы я г а н а л і — наўскасяк.

**ДЫЯГАНА́ЛЬ**[2] (англ. diagonal < лац. diagonalis, ад гр. diagonis = які ідзе ад вугла да вугла) — шчыльная бавоўняная або шарсцяная тканіна з косымі рубчыкамі.

**ДЫЯГАНА́ЛЬНЫ** (лац. diagonalis, ад гр. diagonios = які ідзе ад вугла да вугла) — які мае адносіны да *дыяганалі* 1.

**ДЫЯГЕНЕ́З** (гр. diagenesis = пераараджэнне) — ператварэнне рыхлых адкладаў на дне басейнаў у асадачныя горныя пароды.

**ДЫЯ́ГНАЗ** (гр. diagnosis = распазнаванне) — 1) вызначэнне хваробы на падставе абследавання хворага; 2) *біял.* навуковае апісанне асноўных прымет, якія характарызуюць пэўную сістэматычную групу (від, род і г. д.) раслін або жывёл.

**ДЫЯГНАСТЫ́ЧНЫ** (гр. diagnostikos = здольны распазнаваць) — які мае адносіны да *дыягназу*, да *дыягностыкі*.

**ДЫЯГНО́СТЫК** (гр. diagnostikos = здольны распазнаваць) — урач, які ставіць *дыягназ*.

**ДЫЯГНО́СТЫКА** (гр. diagnostikos = здольны распазнаваць) — 1) раздзел медыцыны, які вывучае метады і прынцыпы пастаноўкі *дыягназу* 1; 2) працэс пастаноўкі дыягназу; 3) выяўленне і вывучэнне прымет, якія характарызуюць стан машын, прыбораў, тэхнічных сістэм, каб прадухіліць парушэнні нармальнага рэжыму іх работы.

**ДЫЯГРА́МА** (гр. diagramma = малюнак, фігура) — графічны малюнак, які наглядна паказвае суадносіны якіх-н. велічынь (напр. д. росту будаўніцтва).

**ДЫЯ́ДА** (ад гр. dyo = два) — *мат.* разнавіднасць *тэнзара*.

**ДЫЯДО́ХІ** (гр. diadochos = пераемнік) — палкаводцы Аляксандра Македонскага, якія пасля яго смерці падзялілі паміж сабой створаную ім імперыю.

**ДЫЯДЭ́МА** (гр. diadema) — 1) галаўная павязка, упрыгожаная каштоўнымі камянямі, як адзнака дзяржаўнай або духоўнай улады ў старажытнасці і ў сярэднія вякі; 2) жаночае галаўное ўпрыгожанне ў выглядзе невялікай адкрытай кароны.

**ДЫЯЗАГРА́ФІЯ** [ад гр. di(s) = двойчы + *азо(т)* + *-графія*] — сукупнасць метадаў праяўлення адбіткаў пры дапамозе прадуктаў узаемадзеяння амінаў з азоцістай кіслатой, якія распадаюцца пад уплывам святла.

**ДЫЯЗАТЫ́ПІЯ** [ад гр. di(s) = двойчы + *азо(т)* + *-тыпія*] — спосаб тэхнічнага фотакапіравання з пазітыва на спецыяльнай паперы, пакрытай святлоадчувальным слоем на аснове злучэнняў амінаў з азоцістай кіслатой; выкарыстоўваецца для размножвання тэхнічнай дакументацыі.

# Д

**ДЫЯ́КАН** (гр. diakonos) — ніжэйшае духоўнае званне, памочнік святара пры адпраўленні царкоўнай службы.

**ДЫЯКА́НТАС** (н.-лац. diacanthos) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. хларакокавых, якая трапляецца ў прэсных вадаёмах.

**ДЫЯКІНЕ́З** (ад *дыя-* + *-кінез*) — *біял.* завяршальная стадыя першай фазы падзелу ядра.

**ДЫЯКРЫ́ТЫКІ** (гр. diakritikos = адрознівальны) — надрадковыя, падрадковыя або сярэднерадковыя знакі, па якіх адрозніваюцца гукі, абазначаныя адной літарай.

**ДЫЯКРЫТЫ́ЧНЫ** (гр. diakritikos) — адрознівальны; д ы я з н а к і — тое, што і *дыякрытыкі*.

**ДЫЯЛЕ́КТ** (гр. dialektos) — разнавіднасць агульнанароднай (нацыянальнай) мовы, на якой гавораць насельніцтва якой-н. мясцовасці, тэрыторыі.

**ДЫЯЛЕКТАГРА́ФІЯ** (ад *дыялект* + *-графія*) — картаграфаванне гаворак якой-н. мовы.

**ДЫЯЛЕКТАЛО́ГІЯ** (ад *дыялект* + *-логія*) — раздзел мовазнаўства, які вывучае мясцовыя гаворкі, дыялекты.

**ДЫЯЛЕКТО́ЛАГ** (ад *дыялект* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *дыялекталогіі*.

**ДЫЯЛЕКТЫ́ЗМ** (ад *дыялект*) — слова або выраз у літаратурнай мове, узяты з якога-н. дыялекту.

**ДЫЯЛЕ́КТЫК** (гр. dialektikos) — 1) паслядоўнік *дыялектычнай* філасофіі, які прымяняе дыялектычны метад; 2) *уст.* асоба, якая добра валодае *дыялектыкай* 3.

**ДЫЯЛЕ́КТЫКА** [гр. dialektike (techne) = майстэрства весці размову, спрэчку] — 1) навука пра найбольш агульныя законы руху і развіцця прыроды, чалавечага грамадства і мыслення, навуковы метад пазнання з'яў прыроды і грамадства ў іх вечным руху і зменах шляхам ускрыцця ўнутраных супярэчнасцей і барацьбы процілегласцей, якія прыводзяць да скачкападобнага пераходу з адной якасці ў другую; 2) працэс развіцця чаго-н. ва ўсёй разнастайнасці яго формаў; 3) *уст.* уменне спрачацца, прымяняць лагічныя довады ў спрэчках.

**ДЫЯЛЕКТЫ́ЧНЫ** (гр. dialektikos) — які звязаны з *дыялектыкай*, заснаваны на законах дыялектыкі; д. м а т э р ы я л і з м — філасофія *марксізму*, якая дае матэрыялістычнае тлумачэнне свету, спосабаў яго пазнання і ператварэння на аснове раскрыцця агульных законаў яго развіцця.

**ДЫЯ́ЛІЗ** (гр.dialysis = раздзяленне) — вызваленне калоідных раствораў і раствораў высокамалекулярных рэчываў ад раствораных у іх солей і іншых нізкамалекулярных рэчываў; прымяняецца ў прамысловасці, медыцыне, фізіка-хімічных і біялагічных даследаваннях.

**ДЫЯЛО́Г** (гр. dialogos) — 1) размова паміж дзвюма або некалькімі асобамі; 2) частка літаратурнага твора ў выглядзе размовы дзеючых асоб; літаратурны твор, напісаны ў форме размовы.

**ДЫЯМАГНЕТЫ́ЗМ** (ад *дыя-* + *магнетызм*) — уласцівасць нека-

торых рэчываў адштурхвацца (а не прыцягвацца) полюсамі магнітаў.

**ДЫЯМАГНЕ́ТЫК** (ад *дыя-* + гр. magnetes = магнетычны) — рэчыва, здольнае намагнічвацца пад дзеяннем знешняга магнітнага поля насустрач напрамку поля.

**ДЫЯМАФО́С** [ад гр. di(s) = двойчы + *амафос*] — складанае канцэнтраванае азотна-фосфарнае мінеральнае ўгнаенне.

**ДЫЯМЕ́НТ** (с.-лац. diamentum, ад гр. adamas, -antos) — 1) тое, што і *брыльянт*; 2) друкарскі ***шрыфт***, ***кегель*** якога роўны 4 ***пунктам*** (каля 1,5 мм).

**ДЫЯ́МЕТР** (гр. diametros = папярочнік) — 1) адрэзак прамой, які злучае два пункты акружнасці і праходзіць праз яе цэнтр; 2) папярочнік любога цела, плошчы, прасторы (напр. д. трубы).

**ДЫЯМЕТРА́ЛЬНЫ** (лац. diametralis, ад гр. diametros = папярочнік) — 1) які дзеліць папалам па лініі *дыяметра*; 2) ***перан.*** поўны, крайні.

**ДЫЯМІ́НЫ** [ад гр. di(s) = двойчы + *аміны*] — вугляводы, у якіх два атамы кіслароду замешчаны амінагрупамі.

**ДЫЯНЕ́Я** (н.-лац. dionaea) — травяністая насякомаедная расліна сям. расянкавых; пашырана на Атлантычным узбярэжжы Паўн. Амерыкі.

**ДЫЯНІ́СІІ** (гр. dionysia, ад Dionysios = імя бога вінаградарства і вінаробства ў старажытнагрэчаскай міфалогіі) — святы ў гонар бога Дыяніса ў Старaж. Грэцыі.

**ДЫЯНО́ЙЯ** (гр. dianoia) — здольнасць мыслення, розум; мудрасць (у старажытнагрэчаскай філасофіі).

**ДЫЯПАЗІТЫ́Ў** (ад *дыя-* + лац. positivus = дадатны) — фатаграфічны здымак на шкле або празрыстай плёнцы для праекцыйнага апарата (*дыяпраектара*, *дыяскопа*).

**ДЫЯПАЗО́Н** [гр. diapason (chordon) = праз усе (струны)] — 1) гукавы аб'ём (інтэрвал паміж самым нізкім і высокім гукамі), даступны якому-н. музычнаму інструменту або чалавечаму голасу (напр. д. скрыпкі); 2) ***перан.*** аб'ём, ахоп ведаў, інтарэсаў і інш. (напр. шырокі д. ведаў, творчы д. артыста).

**ДЫЯПА́ЎЗА** (гр. diapausis = перапынак) — стан адноснага спакою ў жывёл, які характарызуецца прыпыненнем росту і развіцця, а таксама рэзкім запавольваннем абмену рэчываў.

**ДЫЯПЕДЭ́З** (гр. diapedesis = прасочванне) — пранікненне клетачных элементаў крыві (***эрытрацытаў***, ***лейкацытаў***) праз непашкоджаную сценку крывяносных сасудаў; назіраецца пры запаленчай рэакцыі тканак, што акружаюць сасуды.

**ДЫЯПІ́Р** (гр. diapeiro = пранізваю) — антыклінальная складка, утвораная ў выніку выдаўлівання пластычных асадачных горных парод больш цвёрдай тоўшчай, што ляжала над імі.

**ДЫЯПІРЫ́ЗМ** (ад гр. diapeiro = пранізваю) — працэс выдаўлівання пластычных асадачных горных парод (солей, гліны і інш.) больш

цвёрдай тоўшчай, што ляжыць над імі.

**ДЫЯПО́РТЭ** (н.-лац. diaporthe) — сумчаты грыб сям. дыяпортавых, якія развіваецца на галінках пладовых дрэў і кустоў.

**ДЫЯПРАЕ́КТАР** (ад *дыя-* + *праектар*) — праекцыйны ліхтар для паказу *дыяпазітываў*.

**ДЫЯПРЫ́НТ** (ад *дыя-* + англ. print = адбітак) — спосаб прыгатавання капіравальных *форм* для афсетнага друку.

**ДЫЯПСІ́Д** (ад *ды-* + гр. opsis = выгляд) — мінерал, манаклінны *піраксен* белага, зялёнага, сіняга колеру са шкляным бляскам; празрыстыя разнавіднасці выкарыстоўваюцца як каштоўныя камяні.

**ДЫЯПТА́З** (ад *дыя-* + гр. optazo = бачу) — мінерал падкласа кальцавых сілікатаў, водны сілікат медзі ізумрудна-зялёнага колеру; празрыстыя крышталі выкарыстоўваюцца ў ювелірнай справе.

**ДЫЯПТРЫ́МЕТР** (ад *дыяптрыя* + *-метр*) — прыбор для вымярэння заломнай сілы аптычнага шкла.

**ДЫЯПТРЫ́ЧНЫ** (гр. dioptrikos) — звязаны со светлавымі з'явамі, што адбываюцца ў розных празрыстых асяроддзях (напр. д. тэлескоп).

**ДЫЯПТРЫ́Я** (гр. dioptreia = назіранне, вымярэнне) — адзінка вымярэння аптычнай сілы лінзы або сістэмы лінзаў.

**ДЫЯРА́МА** (ад *дыя-* + гр. horama = карціна, відовішча) — 1) карціна вялікіх памераў з аб'ёмным пярэднім планам—макетамі будынкаў, дрэў, фігур і інш.; 2) карціна, напісаная з абодвух бакоў празрыстага матэрыялу і спецыяльна асветленая для стварэння ўражання аб'ёмнасці.

**ДЫЯРВІ́ЛА** (н.-лац. diervilla) — кустовая расліна сям. бружмелевых з бліскучым лісцем і зеленавата-жоўтымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная ў Паўн. Амерыцы і Усх. Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ДЫЯРТРО́З** (гр. diarthrosis = расчляненне) — *анат.* сустаў, рухомае злучэнне касцей паміж сабой (параўн. *сінартроз*).

**ДЫЯРЫ́Т** (фр. diorite, ад гр. diorizo = размяжоўваю) — глыбінная магматычная горная парода зеленавата-шэрага колеру; складзеная з *плагіяклазаў* і цёмных *сілікатаў*, выкарыстоўваецца ў будаўніцтве.

**ДЫЯ́РЫУШ** (лац. diarium = дзённік) — жанр гістарычна-дакументальнай прозы ў старажытнай беларускай літаратуры, у якім падзеі жыцця пададзены ў храналагічнай паслядоўнасці праз суб'ектыўнае ўспрыняцце пэўнай асобы.

**ДЫЯРЭ́ЗА** (гр. diairesis = падзеленасць) — замена ў стапе доўгага склада двума кароткімі (у метрычным вершаскладанні); парушэнне граматычнай формы слова для захавання вершаванага памеру (у сілаба-танічным вершаскладанні).

**ДЫЯРЭ́Я** (гр. doarreo = сцякаю) — *мед.* разлад дзейнасці кішэчніка ў чалавека і жывёл; панос.

**ДЫЯСКАРЭ́Я** (н.-лац. dioscorea) — травяністая расліна сям. смілаксавых, пашыраная ў тропіках і субтропіках; некаторыя віды культывуюцца дзеля ядомых клубняў.

**ДЫЯСКО́П** (ад *дыя-* + *-скоп*) — оптыка-механічны прыбор для праецыравання з павелічэннем відарысаў празрыстых арыгіналаў (*дыяпазітываў*, *дыяфільмаў*) на экран.

**ДЫЯ́СПАРА** (гр. diaspora = рассейванне) — сукупнасць прадстаўнікоў якога-н. народа, якія жывуць за межамі бацькаўшчыны ў новым раёне пасялення.

**ДЫЯСПО́Р** (гр. diaspora = рассейванне) — мінерал падкласа гідравокіслаў жаўтавата-бурага, светлафіялетавага або зеленавата-шэрага колеру; састаўная частка *баксіту*.

**ДЫЯСПО́РА** (гр. diaspora = рассейванне) — частка расліны, якая натуральна аддзяляецца і служыць для размнажэння (спора, семя, плод, клубень і інш.).

**ДЫЯСТА́ЗЫ** (гр. diastasis = раз'яднанне) — 1) тое, што і *амілазы*; 2) разыходжанні касцей у суставе з-за памнажэння ў ім вадкасці.

**ДЫЯ́СТАЛА** (гр. diastole = расшырэнне) — рытмічнае расслабленне мышцы сэрца; разам з *сісталай* (скарачэннем мышцы сэрца) складае цыкл сардэчнай дзейнасці.

**ДЫЯСТРАФІ́ЗМ** (ад гр. diastrophe = скрыўленне) — сукупнасць рухаў зямной кары, якія абумоўліваюць змены ў пачатковых формах залягання горных парод; тэктанічныя рухі.

**ДЫЯСТЭ́МЫ** (гр. diastema = прамежак) — прамежкі паміж зубамі ў млекакормячых, якія ўтвараюцца пры знікненні некаторых зубоў.

**ДЫЯСТЭРЭАІЗАМЕ́РЫ** (ад *дыя-* + *стэрэаізамеры*) — тое, што і *дыястэрэамеры*.

**ДЫЯСТЭРЭАМЕ́РЫ** [ад *дыя-* + *стэрэа(іза)меры*] — *ізамеры*, якія адрозніваюцца паміж сабой канфігурацыяй двух або некалькіх элементаў *асіметрыі* і не адносяцца адзін да аднаго як прадмет да яго люстэркавага адлюстравання.

**ДЫЯТАМЕ́І** (н.-лац. diatomeae, ад гр. diatome = рассячэнне папалам) — аддзел водарасцей; аднаклетачныя або каланіяльныя арганізмы са знешняй абалонкай з дзвюх крэменязёмных створак, для якіх характэрна размнажэнне бясполае (*зааспорамі*) і палавое (*ізагамія*, *анізагамія*, *аагамія*); пашыраны ва ўсіх тыпах водаў; дыятомавыя водарасці.

**ДЫЯТАМІ́Т** (ад *дыятамеі*) — крамяністая горная парода, якая складаецца пераважна з мікраскапічных панцыраў дыятамей.

**ДЫЯТАНІ́ЧНЫ** (гр. diatonikos) — *муз.* размешчаны паслядоўна ад адной ступені ладу да другой (напр. д-ая гама).

**ДЫЯТО́МА** (н.-лац. diatoma) — каланіяльная *дыятомавая* водарасць сям. фрагілярыевых, якая пашырана ў *планктоне*, *глеі* і сярод абрастанняў на розных субстратах.

**ДЫЯТО́МАВЫ** (гр. diatomos) — падзелены папалам; д-ыя водарасці — тое, што і *дыятамеі*; д-ая флора — сукупнасць відаў выкапнёвых дыятамей пэўнага геалагічнага прамежку часу або знойдзеных у пэўных геалагічных адкладах.

# Д

**ДЫЯТО́НІКА** (гр. diatonikos = які пераходзіць ад тону да тону) — сістэма музычных гукаў, якая ўтвараецца паслядоўнасцю асноўных сямі ступеней ладу (параўн. *храматызм* 2).

**ДЫЯТРАПІ́ЗМ** (ад *дыя-* + *трапізм*) — выгінанне органаў раслін, пры якім яны імкнуцца заняць становішча, перпендыкулярнае напрамку дзеяння раздражняльніка.

**ДЫЯТРЫ́БА** (гр. diatribe = размова) — рэзкая, прыдзірлівая крытыка з нападкамі асабістага характару.

**ДЫЯТРЭ́МА** (гр. diatrema = адтуліна) — вулканічнае жарало ў форме вертыкальнай трубкі, што расшыраецца ўверсе.

**ДЫЯТЫ́П** (ад *дыя-* + *-тып*) — фотанаборная машына з паўаўтаматычнай устаноўкай шрыфтавога шаблону з аўтаматычным перасоўваннем фотаматэрыялу.

**ДЫЯТЭ́З** (гр. diathesis) — схільнасць арганізма да некаторых захворванняў, напр. да праяўленняў *алергіі*.

**ДЫЯТЭРМАКААГУЛЯ́ЦЫЯ** (ад *дыятэрмія* + *каагуляцыя*) — тое, што і *электракаагуляцыя*.

**ДЫЯТЭРМІ́Я** (ад гр. diathermaino = праграванне) — праграванне тканак і органаў цела электрычным токам высокай частаты з лячэбнымі мэтамі.

**ДЫЯФА́Н** (гр. diaphanes = празрысты) — матавы *фарфор* без палівы.

**ДЫЯФАНАСКАПІ́Я** (ад гр. diaphanes = празрысты + *-скапія*) — прасвечванне прыдаткавых пазух носа, а таксама вочных яблыкаў для вызначэння іх стану.

**ДЫЯФАНАСКО́П** (ад гр. diaphanes = празрысты + *-скоп*) — 1) прыбор для *дыяфанаскапіі*; 2) прыбор для вызначэння мучністасці зерня.

**ДЫЯФА́НІЯ** (гр. diaphaneia = празрыстасць) — празрыстая выява на шкле, утвораная спосабам *дэкалькаманіі*.

**ДЫЯФАНІ́Я** (гр. diaphonia) — тое, што і *дысананс* 1.

**ДЫЯФАНО́МЕТР** (ад гр. diaphaneia = празрыстасць + *-метр*) — прыбор для вызначэння ступені празрыстасці рэчываў.

**ДЫЯФІ́З** (гр. diaphysis) — *анат.* сярэдняя частка доўгай трубчастай косці (паміж двума *эпіфізамі*).

**ДЫЯФІ́ЛЬМ** (ад *дыя-* + *фільм*) — серыя чорна-белых або каляровых *дыяпазітываў* на кінаплёнцы, аб'яднаных агульным сюжэтам і літаратурным тэкстам.

**ДЫЯФО́Н** (ад *дыя-* + *-фон*) — акустычны апарат, які прымяняецца на маяках для сігналізацыі ў час туману.

**ДЫЯФРА́ГМА** (гр. diaphragma = перагародка) — 1) мышачная перагародка, якая аддзяляе грудную поласць ад брушной (у млекакормячых жывёл і чалавека); 2) прыстасаванне для змянення дыяметра дзеючай адтуліны ў фота- ці кінааб'ектыве; 3) вертыкальная сценка ў целе земляных і каменenакідных плацін для забеспячэння іх воданепранікальнасці; 4) кальцавая перагародка ў трубаправодзе для стварэння перападу ціску, каб вызначыць расход вадкасці, газу.

**ДЫЯФРАГМАВА́ЦЬ** (ад *дыяфрагма*) — змяняць *дыяметр* дзеючай адтуліны аб'ектыва з дапамогай *дыяфрагмы* 2.

**ДЫЯФТАРЭ́З** (ад гр. diaphtora = разбурэнне) — паўторны, рэгрэсіўны *метамарфізм* горных парод.

**ДЫЯХРАНІ́Я** (ад *дыя-* + гр. chronos = час) — гістарычная паслядоўнасць у развіцці моўных з'яў (параўн. *сінхранія* 2).

ДЭ- (лац. de = з, ад) — прыстаўка, якая абазначае аддзяленне, выдаленне, адмену, спыненне чаго-н. або адваротнае дзеянне ці паніжэнне, спад.

**ДЭАНТАЛО́ГІЯ** (ад гр. deon, -ntos = патрэбнае, належнае + *-логія*) — 1) прафесіянальная этыка медыцынскіх работнікаў, прынцыпы іх паводзін у адносінах да хворых; 2) раздзел *этыкі*, у якім вывучаюцца праблемы абавязку і абавязковага.

**ДЭАЭРА́ТАР** (ад *дэ-* + гр. aer = паветра) — устройства для выдалення газаў з вадкасці тэрмічным або хімічным метадамі.

**ДЭАЭРА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *аэрацыя*) — выдаленне з вадкасці растворaных у ёй газаў (кісларoду, вуглекіслаты і інш.).

**ДЭБА́Й** [гал. P. Debye = прозвішча гал. фізіка (1884—1966)] — адзінка дыпольнага моманту малекул.

**ДЭБАЛА́НС** (ад *дэ-* + *баланс*) — тое, што і *дысбаланс*.

**ДЭБАРДЗІ́РАВАЦЬ** (фр. déborder) — *уст.* расцягваць баявую лінію так, каб войскі маглі ахопліваць размяшчэнне праціўніка з флангаў.

**ДЭБАРКАДЭ́Р** (фр. débarcadère) — 1) плывучая прыстань для рачных суднаў; 2) *уст.* тое, што і *платформа* 1.

**ДЭБАТАВА́ЦЬ** (ням. debattieren) — абмяркоўваць што-н., весці *дэбаты*.

**ДЭБА́ТЫ** (фр. débats) — спрэчкі, абмен думкамі па якіх-н. пытаннях на сходзе, пасяджэнні.

**ДЭБАШЫ́Р** (фр. débaucheur) — той, хто ўчыняе *дэбошы*; буян, скандаліст.

**ДЭБЕНТУ́РА** (ад лац. debere = быць вінаватым) — пасведчанне, выдадзенае таможняй аб вяртанні мыта.

**ДЭ́БЕТ** (лац. debet = ён вінаваты) — левы бок бухгалтарскага балансу; у рахунках *актыву* 2 змяшчае прыходную частку, а ў рахунках *пасіву* 2 расходную (параўн. *крэдыт*).

**ДЭБІ́Л** (лац. debillis = кволы, слабы) — чалавек з лёгкай формай прыроджанай псіхічнай непаўнацэннасці, разумовай адсталасці.

**ДЭБІ́ЛЬНАСЦЬ** (ад *дэбільны*) — псіхічная недаразвітасць, адносна лёгкая ступень разумовай адсталасці (*алігафрэніі*); параўн. *ідыятыя*, *імбецыльнасць*.

**ДЭБІ́ЛЬНЫ** (лац. debilis = кволы, слабы) — псіхічна недаразвіты, які характарызуецца *дэбільнасцю*.

**ДЭБІ́Т** (фр. débit = збыт, расход) — колькасць вады, нафты або газу, якая паступае з прыроднай ці штучнай крыніцы за адзінку часу.

**ДЭБІТО́Р** (лац. debitor = абавязаны) — даўжнік прадпрыемства, установы, арганізацыі (параўн. *крэдытор*).

# Д

**ДЭБЛАКІ́РАВАЦЬ** (ад *дэ-* + *блакіраваць*) — знімаць *блакаду* 1.

**ДЭБО́Ш** (рус. дебош, ад фр. débauche) — скандал з шумам і бойкай (учыніць д.).

**ДЭБУРБА́Ж** (фр. débourbage) — адстойванне вінаграднага сусла перад браджэннем пры вырабе белых вінаградных він.

**ДЭБУРБЕ́Р** (фр. debourber = ачышчаць ад бруду) — апарат для выдалення з вінаграднага сусла зерняў і скуркі вінаграду.

**ДЭБУШЫ́РАВАЦЬ** (фр. déboucher) — *уст.* навязваць раптоўны бой непрыяцелю ў неспадзяваным для яго месцы.

**ДЭБЮ́Т** (фр. début) — 1) першае выступленне артыста на сцэне, а таксама першае публічнае выступленне наогул (напр. д. спявачкі, літаратурны д.); 2) пачатак шахматнай або шашачнай партыі (параўн. *мітэльшпіль*, *эндшпіль*).

**ДЭБЮТАВА́ЦЬ** (фр. débuter) — упершыню выступаць на сцэне або ў якой-н. галіне дзейнасці.

**ДЭБЮТА́НТ** (фр. débutant) — той, хто ўпершыню публічна выступае на сцэне або ў якой-н. галіне дзейнасці.

**ДЭВАЛЬВА́ЦЫЯ** (ням. Devalvation, ад лац. de = з, ад + valvere = мець значэнне) — афіцыяльнае паніжэнне залатога забеспячэння грашовай адзінкі краіны або паніжэнне яе курсу ў адносінах да *валют* іншых краін (проціл. *рэвальвацыя*).

**ДЭВАНА́ГАРЫ** (санскр. devanagari) — складовае пісьмо многіх сучасных індыйскіх моў.

**ДЭВАСТА́ЦЫЯ** (лац. devastatio = спусташэнне, знішчэнне) — комплекс мерапрыемстваў па знішчэнню ўзбуджальнікаў інвазійных і інфекцыйных хвароб чалавека, жывёл і раслін у геаграфічнай або гаспадарчай зоне.

**ДЭВІЁМЕТР** (ад лац. devio = сыходжу з дарогі + *-метр*) — прыбор для вымярэння *дэвіяцыі* частаты, якім кантралюецца якасць радыё- і тэлевізійных сігналаў.

**ДЭВІ́З** (фр. devise) — 1) кароткая фраза, у якой выражаецца кіруючая ідэя паводзін або дзейнасці; 2) слова або выраз, якія аўтар ставіць на творы замест свайго імя на закрытым конкурсе.

**ДЭВІ́ЗЫ** (фр. devises) — плацежныя сродкі (*вэксалі*, *чэкі*, *акрэдытывы* і інш.), выражаныя ў замежнай валюце для міжнародных разлікаў.

**ДЭВІЯ́ЦЫЯ** (лац. deviatio = адхіленне) — 1) адхіленне стрэлкі компаса ад лініі магнітнага мерыдыяна пад уздзеяннем вялікіх мас жалеза; 2) адхіленне ад патрэбнага напрамку руху самалёта, судна, артылерыйскага снарада і інш. пад уплывам якіх-н. прычын; 3) *біял.* разнавіднасць *філэмбрыягенезу*, пры якой змена ў развіцці органа адбываецца на сярэдніх стадыях яго фарміравання і прыводзіць да змен яго будовы ў дарослым арганізме (параўн. *анабалія*, *архалаксіс*).

**ДЭВО́Н** (англ. Devon = назва англійскага графства) — чацвёрты па парадку перыяд *палеазойскай* эры ў гісторыі Зямлі, які пачаўся 410 млн. гадоў назад і цягнуўся каля 60 млн. гадоў.

**ДЭВО́НСКІ** (ад *дэвон*); д. п е р ы я д — тое, што і *дэвон*.

**ДЭГАЖЭ́** (фр. dégagé) — від атакі пры фехтаванні, у час якой рапіра або шпага таго, хто атакуе, адводзіцца ад зброі праціўніка, каб зрабіць укол па найкарацейшай лініі.

**ДЭГАЗА́ТАР** (ад *дэ-* + *газ*) — 1) апарат для *дэгазацыі*; 2) рэчыва, якое абясшкоджвае газ; 3) той, хто робіць дэгазацыю.

**ДЭГАЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *газ*) — 1) абясшкоджванне мясцовасці, рэчаў, заражаных атрутнымі рэчывамі; 2) тое, што і *дэаэрацыя*.

**ДЭГЕЛЬМІНТЫЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *гельмінты*) — комплекс лячэбна-прафілактычных мерапрыемстваў па вызваленню ад глістоў чалавека, жывёл, навакольнага асяроддзя, раздзел *дэвастацыі*.

**ДЭГЕНЕРА́Т** (лац. degeneratus) — чалавек з адзнакамі біялагічнага і псіхічнага выраджэння.

**ДЭГЕНЕРАТЫ́ЎНЫ** (лац. degenerativus) — які мае адзнакі выраджэння, *дэгенерацыі*.

**ДЭГЕНЕРА́ЦЫЯ** (лац. degeneratio) — 1) пагаршэнне біялагічных і псіхічных адзнак арганізма; выраджэнне; 2) разбурэнне тканак і органаў жывёльных арганізмаў у працэсе *антагенезу* (напр. знікненне хваста пры ператварэнні апалоніка ў жабу) або шляхам *рэдукцыі* 2; 3) *мед.* змены ў клетках і тканках у сувязі з парушэннем абмену рэчываў (гл. *дыстрафія*).

**ДЭГЕНЕРЫ́РАВАЦЬ** (лац. degenerare) — выраджацца.

**ДЭГЕРАІЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *гераізацыя*) — свядомы адыход ад гераічнага пафасу і гераічных вобразаў у мастацкай творчасці.

**ДЭГІДРАГЕНА́ЗЫ** (ад *дэ-* + *гідраген*) — *ферменты*, якія каталізуюць акісляльна-аднаўленчыя рэакцыі, адшчапляючы вадарод ад арганічнага рэчыва.

**ДЭГІДРАГЕНІЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *гідрагенізацыя*) — адшчапленне вадароду ад малекул хімічных злучэнняў.

**ДЭГІДРА́ЗЫ** (ад *дэ-* + гр. hydor = вада) — *ферменты*, якія запавольваюць або паскараюць рэакцыі адшчаплення вады ад арганічных рэчываў у арганізмах.

**ДЭГІДРА́ТАР** (ад *дэ-* + гр. hydor = вада) — апарат для выдалення вады з халадзільных і іншых прыстасаванняў.

**ДЭГІДРАТА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *гідратацыя*) — адшчапленне вады ад якога-н. рэчыва.

**ДЭГЛЯЦЫЯ́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + лац. glacies = лёд) — адступленне леднікоў.

**ДЭГРА́** (фр. degras, ад лац. de = з, ад + фр. gras = тлусты) — тлушчавы матэрыял, які выкарыстоўваецца ў скураной вытворчасці.

**ДЭГРАДА́ЦЫЯ** (п.-лац. degradatio = знішчэнне) — паступовае пагаршэнне, страта ранейшых добрых якасцей, заняпад (напр. д-ыя глебы, д-ыя культуры).

**ДЭГРАДЗІ́РАВАЦЬ** (п.-лац. degradare) — паступова страчваць былыя добрыя якасці; прыходзіць у заняпад.

**ДЭГРЭ́СІЯ** (лац. degressio) — 1) спуск, падзенне; 2) прапарцыянальнае ападаткаванне са зніжэн-

нем працэнтнай стаўкі для меншых даходаў.

**ДЭГУМАВА́ЦЬ** (ад *дэ-* + лац. gummi = камедзь, клей) — выдаляць клей з натуральнага шоўку кіпячэннем у растворы мыла.

**ДЭГУМАНІЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *гуманізацыя*) — пазбаўленне гуманістычнага пачатку, гуманістычнай сутнасці; страта светапогляду, заснаванага на справядлівасці, павагі да асобы, увагі да індывідуальных уласцівасцей чалавека.

**ДЭГУСТАВА́ЦЬ** (лац. degustare) — рабіць *дэгустацыю*.

**ДЭГУСТА́ТАР** (лац. degustator) — спецыяліст па *дэгустацыі*.

**ДЭГУСТА́ЦЫЯ** (лац. degustatio) — ацэнка якасці харчовых прадуктаў (віна, чаю і інш.) арганалептычным спосабам (органамі зроку, нюху, смаку).

**ДЭДА́ЛЕЯ** (н.-лац. daedalea) — губавы *базідыяльны* грыб сям. порыевых, які трапляецца на пнях, драўніне лісцевых парод дрэў.

**ДЭ́ДВЕЙТ** (англ. deadweight) — поўная грузапад'ёмнасць судна, якая ўключае сумарную вагу грузаў, пасажыраў, экіпажа, паліва, вады і іншых неабходных для плавання запасаў.

**ДЭДРАМАТЫЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *драматызацыя*) — адмаўленне ад драматычнай пабудовы сюжэта ў мастацкім творы і замена яго хранікальным апісаннем.

**ДЭДУКТЫ́ЎНЫ** (ад *дэдукцыя*) — які карыстаецца метадам дэдукцыі, заснаваны на дэдукцыі.

**ДЭДУ́КЦЫЯ** (лац. deductio = вывядзенне) — спосаб разважання, пры якім новае палажэнне выводзіцца чыста лагічным шляхам на аснове папярэдніх; разважанне ад агульнага да прыватнага (параўн. *індукцыя* 1).

**ДЭДУЦЫ́РАВАЦЬ** (рус. дедуцировать, ад лац. deducere) — выводзіць заключэнне шляхам *дэдукцыі*.

**ДЭДЫКА́ЦЫЯ** (лац. dedicatio = прысвячэнне) — 1) надпіс на кнізе, фатаграфіі або іншым прадмеце, які сведчыць, што дадзеная рэч даецца ў падарунак каму-н. 2) паведамленне аўтара ў пачатку твора, што ён прысвячае гэты твор якой-н. асобе.

**ДЭДЫФЕРЭНЦЫЯ́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *дыферэнцыяцыя*) — спрашчэнне структуры клетак, звязанае са стратай імі прымет спецыялізацыі.

**ДЭДЭРО́Н** [ням. Dederon, ад ням. DDR (Deutsche Demokratische Republik) = Германская Дэмакратычная Рэспубліка] — штучнае валакно, падобнае на капрон, а таксама тканіна з гэтага валакна.

**ДЭЗ-** (фр. dés-, ад лац. dis- = раз-) — прыстаўка, якая абазначае выдаленне, знішчэнне, спыненне або адсутнасць чаго-н.

**ДЭЗАБІЛЬЕ́** (фр. déshabillé) — 1) лёгкае дамашняе адзенне (пераважна жаночае), якое звычайна не надзяваюць пры чужых людзях; 2) становішча, калі чалавека засталі не зусім апранутым.

**ДЭЗАВУІ́РАВАЦЬ** (фр. désavouer) — заяўляць аб нязгодзе з дзеяннямі даверанай асобы або аб пазбаўленні яе права дзейнічаць у далейшым ад імя даверніка (напр. д. пасла).

**ДЭЗАДАРА́НТ** (ад *дэз-* + лац. odor = пах) — сродак для *дэзадарацыі*.

**ДЭЗАДАРА́ТАР** (ад *дэз-* + лац. odor = пах) — прылада для *дэзадарацыі*.

**ДЭЗАДАРА́ЦЫЯ** (ад *дэз-* + лац. odoratio = нюх, пах) — знішчэнне дрэннага паху з дапамогай хімічных рэчываў (*дэзадарантаў*).

**ДЭЗАКАРЫДЫЗА́ЦЫЯ** (ад *дэз-* + гр. akari = клешч) — комплекс мерапрыемстваў па знішчэнню кляшчоў і іх зародкаў.

**ДЭЗАКСІДА́ЦЫЯ** (ад *дэз-* + *аксідацыя*) — адніманне кіслароду, раскісленне.

**ДЭЗАКТЫВА́ЦЫЯ** (ад *дэз-* + *актывацыя*) — выдаленне радыеактыўных рэчываў з аб'ектаў знешняга асяроддзя (вады, збудаванняў, адзення, прадуктаў і інш.).

**ДЭЗАМІНАВА́ЦЬ** (ад *дэз-* + *аміны*) — адшчапляць або замяшчаць *амінагрупы* ў арганічных злучэннях.

**ДЭЗАМІНА́ЗЫ** (ад *дэз-* + *аміны*) — *ферменты*, якія каталізуюць гідралітычныя адшчапленні *аміяку* ад арганічных рэчываў.

**ДЭЗАРГАНІЗАВА́ЦЬ** (фр. désorganiser) — унесці беспарадак у што-н., парушыць дысцыпліну, арганізаванасць (напр. д. работу).

**ДЭЗАРГАНІЗА́ТАР** (фр. désorganisateur) — асоба, якая парушае парадак, дысцыпліну, уносіць *дэзарганізацыю*.

**ДЭЗАРГАНІЗА́ЦЫЯ** (фр. désorganisation) — разлад *арганізацыі*, парушэнне парадку, дысцыпліны, арганізаванасці (напр. д. вытворчасці).

**ДЭЗАРЫЕНТАВА́ЦЬ** (фр. désorienter) — няправільна арыентаваць, уводзіць у зман (напр. д. працаўніка).

**ДЭЗАРЫЕНТА́ЦЫЯ** (фр. désorientation) — 1) страта правільнай *арыентацыі*, правільнага ўяўлення аб часе і прасторы; 2) увядзенне ў зман каго-н. шляхам памылковай, няправільнай інфармацыі.

**ДЭЗЕРЦІ́Р** (фр. déserteur) — 1) той, хто ўцёк з ваеннай службы або ўхіліўся ад прызыву ў армію; 2) *перан.* асоба, якая ўхілілася ад выканання службовых або грамадскіх абавязкаў.

**ДЭЗЕРЦІ́РАВАЦЬ** (ням. desertieren, ад фр. deserter) — ухіляцца ад воінскага абавязку, уцякаць з ваеннай службы.

**ДЭЗІДЭРА́ТЫ** (лац. desideratum = жаданне) — прадметы, неабходныя для папаўнення калекцыі, бібліятэкі, гербарыя і інш.

**ДЭЗІНВА́ЗІЯ** (ад *дэз-* + *інвазія*) — комплекс мерапрыемстваў па знішчэнню ў навакольным асяроддзі зародкавых і лічынкавых форм узбуджальнікаў інвазійных хвароб жывёл, чалавека і раслін.

**ДЭЗІНСЕ́КЦЫЯ** (ад *дэз-* + лац. insectum = насякомае) — комплекс мерапрыемстваў па знішчэнню шкодных насякомых — пераносчыкаў хвароб (камароў, мух, вошай, кляшчоў і інш.) і сельскагаспадарчых шкоднікаў.

**ДЭЗІНТЭГРА́ТАР** (ад *дэз-* + *інтэгратар*) — машына для драблення і перамешвання сыпкіх рэчываў (зямлі, солі, руды і інш.).

# Д

**ДЭЗІНТЭГРА́ЦЫЯ** (ад *дэз-* + *інтэграцыя*) — распадзенне, расчляненне цэлага на састаўныя часткі.

**ДЭЗІНФАРМАВА́ЦЬ** (ад *дэз-* + *інфармаваць*) — распаўсюджваць *дэзінфамацыю.*

**ДЭЗІНФАРМА́ЦЫЯ** (ад *дэз-* + *інфармацыя*) — распаўсюджванне заведама ілжывых звестак з мэтай увесці каго-н. у зман.

**ДЭЗІНФЕ́КЦЫЯ** (ад *дэз-* + *інфекцыя*) — знішчэнне заразных мікробаў спецыяльнымі сродкамі; абеззаражванне.

**ДЭЗІНФЛЯ́ЦЫЯ** (ад *дэз-* + *інфляцыя*) — зніжэнне тэмпаў росту інфляцыі або яе поўнае спыненне.

**ДЭЗОКСІРЫБАНУКЛЕІ́НАВЫ** (ад *дэзоксірыбоза* + *нуклеінавы*); д-а я кіслата — рэчыва з групы нуклеінавых кіслот, якое змяшчае дэзоксірыбозу і з'яўляецца састаўной часткай рэчыва клетачнага ядра, захоўваючы і перадаючы спадчынна генетычную інфармацыю аб будове, развіцці і індывідуальных прыкметах кожнага арганізма.

**ДЭЗОКСІРЫБО́ЗА** (н.-лац. desoxyriboza) — адзін з *монацукрыдаў,* які ўваходзіць у склад *дэзоксірыбануклеінавых* кіслот.

**ДЭЗУРБАНІЗА́ЦЫЯ** (ад *дэз-* + *урбанізацыя*) — працэс рассялення гарадскога насельніцтва ў сельскую мясцовасць.

**ДЭЗУРБАНІ́ЗМ** (ад *дэз-* + *урбанізм*) — кірунак у горадабудаўніцтве 20 ст., які супрацьпастаўляе буйным гарадам свабоднае рассяленне сярод вясковай прыроды.

**ДЭІАНІЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *іанізацыя*) — знікненне *іонаў* у газе пасля спынення знешняга ўздзеяння, якое прыводзіць да іанізацыі.

**ДЭІДЭАЛАГІЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *ідэалогія*) — вызваленне ад ідэалогіі, змяншэнне яе ролі ў жыцці грамадства.

**ДЭІ́ЗМ** (н.-лац. deismus, ад лац. deus = бог) — рэлігійна-філасофскае вучэнне, якое лічыць бога тварцом свету, але адмаўляе яго ўмяшанне ў жыццё прыроды і грамадства (параўн. *пантэізм, тэізм*).

**ДЭІ́СТ** (ад *дэізм*) — паслядоўнік дэізму.

**ДЭ́ІСУС** (гр. deesis = маленне) — *кампазіцыя* ў старажытнарускім мастацтве, якая ўключае выяву Хрыста пасярэдзіне і павернутых да яго ў малітоўных позах Багародзіцы і Іаана Прадцечы.

**ДЭЙ** (тур. dayi) — 1) ганаровае званне ў янычарскіх войсках; 2) *тытул* правіцеля Алжыра ў 1671—1830 гг.

**ДЭ́ЙДВУД** (англ. deadwood) — насавая або кармавая падводная частка судна ў месцы спалучэння *кіля* з *фарштэўнем* або *ахтэрштэўнем.*

**ДЭ́ЙКСІС** (гр. deiksis = указанне) — спасылка на асоб, прадметы або падзеі, якія маюць тыя ці іншыя адносіны да гаворчай асобы або моманту размовы.

**ДЭЙТАЛА́КС** (ад гр. deuteros = другі + allaksis = абмен) — карэлятыўнае змяненне органа ў працэсе *эвалюцыі* ў выніку прыстасавання яго да іншых органаў.

**ДЭЙТАМЕРЫ́Т** (ад гр. deuteros = другі + meros — частка) — задняя частка цела *грэгарын.*

**ДЭЙТАПЛА́ЗМА** (ад гр. deuteros = другі + plasma = вылепленае, аформленае) — пажыўныя рэчывы (ліпіды, бялкі і інш.), якія змяшчаюцца ў яйцаклетцы жывёл і чалавека ў выглядзе зерняў або пласцінак, што часам зліваюцца ў суцэльную жаўтковую масу.

**ДЭЙТАЦЭРЭ́БРУМ** (ад гр. deuteros = другі + лац. cerebrum = мозг) — сярэдні ўчастак галаўнога мозгу ў членістаногіх.

**ДЭЙТРО́Н** (ад гр. deuteros = другі) — ядро атама *дэйтэрыю*, якое складаецца з аднаго *пратона* і аднаго *нейтрона*.

**ДЭЙТЭРАМІЦЭ́ТЫ** (н.-лац. deuteromycetes, ад гр. deuteros = другі + mykes, -etos = грыб) — клас вышэйшых грыбоў, для якога характэрна размнажэнне вегетатыўным спосабам і *канідыямі*; пашыраны па ўсім зямным шары; пераважна *сапратрофы*, ёсць *паразіты*; недасканалыя грыбы.

**ДЭЙТЭРАТАКІ́Я** (ад гр. deuteros = другі + tokos = роды) — прыватны выпадак *партэнагенезу*, пры якім нашчадкі атрымліваюцца абодвух полаў.

**ДЭЙТЭ́РЫЙ** (н.-лац. deuterium, ад гр. deuteros = другі) — цяжкі *ізатоп* вадароду, які мае атамную масу 2, выкарыстоўваецца як запавольнік нейтронаў у ядзерных рэактарах і як ядзернае паліва.

**ДЭ́ЙЦЫЯ** (н.-лац. deutzia) — кустовая расліна сям. гідрангіевых з падоўжаным лісцем і белымі або ружовымі кветкамі ў гронках або мяцёлках, пашыраная ва Усх. і Паўд. -Усх. Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ДЭК** (англ. deck) — навясная палуба на пасажырскіх суднах.

**ДЭ́КА** [1] (ням. Decke = накрыўка, века) — 1) частка корпуса струнных інструментаў, якая служыць для ўзмацнення гуку; 2) падбарабанная або надбарабанная частка малатарні; 3) пакрыццё носа і кармы лодкі, якое засцерагае яе ад залівання вадой.

**ДЭ́КА** [2] (польск. deka, ад dekagram = дэкаграм) — тое, што і *дэкаграм*.

**ДЭКА-** (гр. deka = дзесяць) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «дзесяць».

**ДЭКАВІ́ЛЬКА** (ад англ. Decauville = прозвішча англ. інжынера) — 1) пераносная вузкакалейная жалезная дарога на промыслах; 2) ваганетка, якая выкарыстоўваецца на пераноснай вузкакалейнай жалезнай дарозе ў горным і лясным промыслах.

**ДЭКАГО́Н** (ад *дэка-* + *-гон*) — дзесяцівугольнік.

**ДЭКАГРА́М** (ад *дэка-* + *грам*) — метрычная мера вагі, роўная 10 грамам.

**ДЭКА́ДА** (гр. dekas, -ados = дзесятак) — 1) перыяд часу ў дзесяць сутак (напр. трэцяя д. снежня); 2) дзесяцідзённы прамежак часу, прысвечаны якой-н. важнай грамадскай падзеі, мастацтву (напр. д. беларускага мастацтва).

**ДЭКАДА́НС** (фр. décadence) — 1) заняпад, культурны *рэгрэс*; 2) тое, што і *дэкадэнцтва*.

**ДЭКАДЗІ́РАВАЦЬ** (ад *дэ-* + *кадзіраваць*) — расшыфроўваць *код*

якой-н. зашыфраванай інфармацыі.

**ДЭКАДЭ́НТ** (фр. décadent = які падае) — прадстаўнік, прыхільнік *дэкадэнцтва*.

**ДЭКАДЭ́НЦТВА** (фр. décadence = занепад) — агульная назва крызісных, упадніцкіх з'яў у культуры канца 19—пач. 20 ст., што праяўляліся ў выражэнні безнадзейнасці, непрымання жыцця, індывідуалізму.

**ДЭКАЛАНІЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *каланізацыя*) — працэс ліквідацыі *каланіялізму*.

**ДЭКАЛАРА́ЦЫЯ** (лац. decoloratio) — абясколерванне.

**ДЭКАЛІ́Н** [ад *дэка-* + (*нафта)лін*] — арганічнае злучэнне, бясколерная пахучая вадкасць, якая з'яўляецца прадуктам разбаўлення нафталіну; выкарыстоўваецца як растваральнік многіх рэчываў.

**ДЭКАЛІ́ТР** (ад *дэка-* + *літр*) — метрычная мера вадкасці, роўная 10 літрам.

**ДЭКАЛО́Г** (ад *дэка-* + *-лог*) — дзесяць старазапаветных рэлігійна-маральных запаведзей у Біблії.

**ДЭКАЛЬКАВА́ЦЬ** (ням. dekalkieren) — пераводзіць малюнак пры дапамозе *дэкалькаманіі*.

**ДЭКАЛЬКАМА́НІЯ** (фр. décalcomanie) — 1) спосаб паліграфічнага пераносу каляровых малюнкаў на паперу, шкло, фарфор і іншыя матэрыялы; 2) малюнак, зроблены такім спосабам (параўн. *дыяфанія*).

**ДЭКАЛЬТЭ́** (фр. décolleté) — глыбокі выраз у верхняй частцы жаночага адзення.

**ДЭКАЛЬЦЫНА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + лац. calx, calcis = вапна) — знікненне солей *кальцыю* з касцявой тканкі пры некаторых захворваннях.

**ДЭКАМЕ́ТР** (ад *дэка-* +*метр*) — метрычная мера даўжыні, роўная 10 метрам.

**ДЭКАМПАЗЁР** (фр. décomposer = раствараць, драбіць) — апарат для вылучэння крышталічнага гідраксіду алюмінію з раствору *алюмінатаў*.

**ДЭКАМПЕНСА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *кампенсацыя*) — парушэнне дзейнасці якога-н. органа або ўсяго арганізма ў сувязі з аслабленнем прыстасавальных механізмаў.

**ДЭКАМПРЭ́САР** (ад *дэ-* + *кампрэсар*) — прыстасаванне для змяншэння ціску (*кампрэсіі*) у цыліндры пры запуску рухавіка ўнутранага згарання або пры яго выключэнні.

**ДЭКАМПРЭ́СІЯ** (ад *дэ-* + *кампрэсія*) — 1) паступовае змяншэнне ціску, які дзейнічае на вадалазаў пры пад'ёме іх з глыбіні; 2) хваравіты стан, які ўзнікае ад рэзкага паніжэння ціску навакольнага паветра.

**ДЭКА́Н** (ням. Dekan, ад лац. decanus = дзесятнік) — 1) кіраўнік *факультэта* ў вышэйшай навучальнай установе; 2) старшы ксёндз, які назірае над некалькімі прыходамі; 3) тое, што і *дуаен*.

**ДЭКАНА́Т** (ням. Dekanat, ад с.-лац. decanatus) — кіраўніцтва *факультэта* на чале з дэканам, а таксама памяшканне, дзе яно знаходзіцца.

**ДЭКАНТА́ЦЫЯ** (фр. décantation, ад decanter = зліваць, сцэджваць) — зліванне вадкасці з асадку пасля адстойвання або цэнтрыфугавання.

**ДЭКАПІ́РАВАЦЬ** (фр. décaper = ачышчаць металы) — выдаляць плёнку вокіслаў з паверхні металічных вырабаў траўленнем слабым растворам кіслаты ці цыяніду перад *гальванастэгіяй*.

**ДЭКАПІТА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + лац. caput, -pitis = галава) — 1) адчляненне галавы ў жывёл у час фізіялагічных і біяхімічных доследаў; 2) выдаленне пункта росту сцябла ў раслін.

**ДЭКАПО́ДЫ** (ад *дэка-* + *-поды*) — 1) дзесяціногія ракападобныя (*крэветка*, *краб*, *амар*, *лангуст*); 2) атрад марскіх драпежных галаваногіх малюскаў (*цэфалаподаў*) з мешкападобным целам і размешчанымі на галаве дзесяцю шчупальцамі (*сепія*, *кальмар*); параўн. *актаподы*.

**ДЭКАРАВА́ЦЬ, ДЭКАРЫ́РАВАЦЬ** (фр. décorer, ад лац. decorare) — прыгожа афармляць што-н., напр. будынак, памяшканне.

**ДЭКАРА́ТАР** (фр. décorateur, ад лац. decorare = упрыгожваць) — 1) мастак, які піша *дэкарацыі*; 2) спецыяліст па афармленні будынкаў, паркаў і інш. (напр. садоўнік-д.).

**ДЭКАРАТЫ́ЎНЫ** (фр. décoratif, ад лац. decorare = упрыгожваць) — 1) эфектны, маляўнічы, прызначаны для ўпрыгожвання (напр. д-ыя расліны, д-ае афармленне); 2) *перан.* ненатуральны, штучны; паказны.

**ДЭКАРА́ЦЫЯ** (фр. décoration, ад с.-лац. decoratio) — 1) мастацкае афармленне сцэны для паказу месца і абставін тэатральнага дзеяння; 2) *перан.* што-н. паказное, штучнае, што служыць для прыкрыцця недахопаў, непрывабнай сутнасці чаго-н.

**ДЭКАРБАКСІЛАВА́ЦЬ** (ад *дэ-* + *карбаксіл*) — адшчапляць двухвокісел вугляроду ад карбаксільнай групы (гл. *карбаксіл*) *карбонавых* кіслот.

**ДЭКАРБАКСІЛА́ЗЫ** (ад *дэ-* + *карбаксіл*) — *ферменты*, якія каталізуюць адшчапленне двухвокіслу вугляроду ад карбаксільнай групы (гл. *карбаксіл*) амінакіслот або кетакіслот.

**ДЭКАРБАКСІЛА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *карбаксіл*) — хімічная *рэакцыя*, якая заключаецца ў адшчапленні двухвокіслу вугляроду ад карбаксільнай групы (гл. *карбаксіл*) *карбонавых* кіслот.

**ДЭКАРБАНІЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *карбанізацыя*) — вызваленне якога-н. матэрыялу ад вугляроду, напр. д. чыгуну пры вырабе з яго жалеза і сталі.

**ДЭКАРТЫКА́ТАР** (ад с.-лац. decorticare = абдзіраць кару) — машына для *дэкартыкацыі* 1.

**ДЭКАРТЫКА́ЦЫЯ** (с.-лац. decorticatio = абдзіранне кары) — 1) механічны спосаб аддзялення лубяной часткі лёну, канапель і іншых прадзільных раслін ад драўніны; 2) выдаленне кары вялікіх паўшар'яў галаўнога мозгу, якое прымяняецца ў эксперыментальнай фізіялогіі.

# Д

**ДЭКАРТЭЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *картэлізацыя*) — ліквідацыя *картэля*; пазбаўленне чаго-н. прымет, характару картэля.

**ДЭКАРЫ́РАВАЦЬ** гл. *дэкараваць.*

**ДЭКАТО́НА** (ад *дэка-* + *тона*) — метрычная мера вагі, роўная 10 тонам.

**ДЭКАТРО́Н** (ад *дэка-* + *-трон*) — іонны прыбор для пераключэння электрычных ланцугоў; выкарыстоўваецца ў вылічальнай тэхніцы.

**ДЭКАЦІ́РАВАЦЬ** (фр. décatir = знішчаць бляск) — апрацоўваць шарсцяную тканіну парай або гарачай вадой для паляпшэння яе якасці.

**ДЭКА́ЭДР** (ад *дэка-* + *-эдр*) — дзесяціграннік.

**ДЭКВАЛІФІКАВА́ЦЬ** (ад дэ- + *кваліфікаваць*) — пазбаўляць *кваліфікацыі.*

**ДЭКВАЛІФІКА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *кваліфікацыя*) — страта кваліфікацыі, прафесіянальных ведаў, навыкаў (параўн. *дыскваліфікацыя*).

**ДЭ́КЕЛЬ** (ням. Deckel = пакрышка) — эластычная пакрышка на друкарскім *цыліндры* 1 або *тыглі* 2, якая прыціскае паперу да ўсіх элементаў друкарскай формы.

**ДЭКЛАМАВА́ЦЬ** (лац. declamare) — 1) выразна чытаць мастацкія творы на памяць; 2) *перан.* гаварыць узнёсла, з пафасам.

**ДЭКЛАМА́ТАР** (лац. declamator) — чалавек, які валодае майстэрствам *дэкламацыі.*

**ДЭКЛАМА́ЦЫЯ** (лац. declamatio = выпрацоўка красамоўства) — 1) выразнае чытанне мастацкіх твораў на памяць; 2) *перан.* штучна ўзнёслая манера гаварыць.

**ДЭКЛАРАВА́ЦЬ** (лац. declarare = заяўляць, аб'яўляць) — афіцыйна абвяшчаць, выступаць з *дэкларацыяй* (напр. д. свабоду і роўнасць).

**ДЭКЛАРАТЫ́ЎНЫ** (лац. declarativus) — які мае форму *дэкларацыі;* урачысты (напр. д-ыя абяцанні).

**ДЭКЛАРА́ЦЫЯ** (лац. declaratio = заява, аб'ява) — 1) урачыстая праграмная ўрадавая заява, абвяшчэнне ўрадам або арганізацыяй якіх-н. палітычных прынцыпаў, а таксама дакумент, у якім яны выкладзены; 2) заява падаткаплацельшчыка і некаторых катэгорый дзяржаўных служачых пра характар і памер даходаў, маёмаснае становішча; 3) дакумент, які прыкладаецца да грашовых і каштоўных пакетаў, што пасылаюцца поштай за межы краіны; 4) заява мытні ад асобы, якая перасякае граніцу, пра наяўнасць і колькасць у яе рэчаў, каштоўнасцей, валюты.

**ДЭКЛАСАВА́НЫ** (фр. déclassé) — які страціў сувязь са сваім *класам*, не ўдзельнічае ў грамадскай вытворчасці, апусціўся ў маральных адносінах.

**ДЭКЛАСАВА́ЦЦА** (фр. déclassé) — станавіцца *дэкласаваным.*

**ДЭКЛАСАВА́ЦЬ** (фр. déclassé) — зрабіць *дэкласаваным.*

**ДЭКЛІНА́ТАР** (ад лац. declinare = адводзіць убок) — прыбор для вызначэння магнітнага адхілення.

**ДЭКЛІНА́ЦЫЯ** (лац. declinatio) — *фіз.* адхіленне магнітнай стрэлкі ад геаграфічнага мерыдыяна; магнітнае схіленне.

**ДЭКЛІНО́МЕТР** [ад *дэкліна(цыя)* + *-метр*] — прыбор для вымярэння змен магнітнага схілення.

**ДЭКО́ДЭР** (англ. decode = расшыфроўваць, ад лац. de = ад, з + codex = кніга) — 1) інфармацыйнае ўстройства для расшыфроўкі лічбавых кадзіраваных дадзеных; 2) пераключальнае ўстройства ў каляровых тэлевізарах для пераўтварэння відэасігналаў з адной тэлесістэмы ў другую.

**ДЭКО́КТ** (лац. decoctus = прыгатаваны) — адвар з лекавых раслін.

**ДЭКО́Р** (фр. décor, ад лац. decorare = упрыгожваць) — сукупнасць дэкаратыўных элементаў у архітэктуры.

**ДЭКО́РТ** (ням. Dekort) — скідка з цаны тавару за датэрміновую яго аплату або больш нізкую якасць у параўнанні з умовамі здзелкі.

**ДЭКО́РУМ** (лац. decorum = прыстойнасць) — знешняя прыстойнасць, адпаведныя займаемай пасадзе абставіны.

**ДЭКРЭМЕ́НТ** (лац. decrementum = змяншэнне) — 1) *фіз.* колькасная характарыстыка аслаблення згасаючых ваганняў; 2) *фізіял.* паступовае затуханне хвалі нервовага ўзбуджэння пры яе пашырэнні па нерву, уласцівае для беспазваночных жывёл.

**ДЭКРЭ́Т** (фр. décret, ад лац. decretum) — пастанова ўрада, якая мае сілу закона; указ, закон (напр. д. аб зямлі, д. аб ахове помнікаў).

**ДЭКРЭТАВА́ЦЬ** (фр. décréter, ад лац. decretum = дэкрэт) — устанаўліваць што-н. *дэкрэтам*.

**ДЭКРЭТА́Л** (с.-лац. decretale, ад лац. decretalis = які датычыць дэкрэта) — папскі статут.

**ДЭКРЭТА́ЛІІ** (ад лац. decretalis = які датычыць дэкрэта) — 1) пастановы рымскіх пап у выглядзе пасланняў па пытаннях царкоўнага кананічнага права; 2) сярэдневяковыя зборнікі законаў і інш. прававых актаў.

**ДЭКРЭШЧЭ́НДА** (іт. decrescendo = змяншаючы) — тое, што і *дымінуэнда*.

**ДЭКСТРАКАРДЫ́Я** (ад лац. dexter, -tri = правы + *-кардыя*) — прыроджаная *анамалія* становішча сэрца, пры якой большая частка сэрца размешчана ў грудной клетцы з правага боку.

**ДЭКСТРА́Н** (англ. dextran, ад лац. dexter = правы) — арганічнае злучэнне класа *поліцукрыдаў*, утворанае рэшткамі глюкозы; выкарыстоўваецца як замяняльнік плазмы крыві, а таксама ў харчовай, тэкстыльнай і папяровай прамысловасці.

**ДЭКСТРО́ЗА** (ад лац. dexter = правы) — тое, што і *глюкоза*.

**ДЭКСТРЫ́НЫ** (фр. dextrine, ад лац. dexter = правы) — арганічныя злучэнні класа *поліцукрыдаў*, прадукты гідролізу крухмалу; выкарыстоўваюцца ў тэкстыльнай, паліграфічнай і абутковай прамысловасці ў якасці клейкага рэчыва.

**ДЭКУВЕ́Р** (фр. découvert = непакрыты) — розніца паміж ацэнкай маёмасці і страхавой сумай, што пакідаецца на рызыку страхавальніка.

**ДЭКУРЫЁНЫ** (лац. decuriones) — вышэйшае саслоўнае італійскіх і

# Д

правінцыяльных гарадоў Рымскай імперыі.

**ДЭЛАБІЯЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *-лабіялізацыя*) — адсутнасць акруглення губ пры вымаўленні губных галосных.

**ДЭЛАМІНА́ЦЫЯ** (ад лац. delaminare = дзяліць на слаі) — адзін з шляхоў утварэння *гаструлы*, пры якім клеткі зародка дзеляцца ў напрамку, паралельным яго паверхні.

**ДЭЛАФАНДЫЁЗ** (н.-лац. delafondiosis)— глісная хвароба коней, якая выклікаецца лічынкамі *дэлафандыі*.

**ДЭЛАФА́НДЫЯ** (н.-лац. delafondia) — *гельмінт* класа *нематадаў*, паразіт коней, мулаў, зебраў.

**ДЭЛЕГАВА́ЦЬ** (лац. delegare) — накіроўваць каго-н. у якасці прадстаўніка на з'езд, канферэнцыю і г.д.

**ДЭЛЕГА́Т** (лац. delegatus) — прадстаўнік якога-н. калектыву, арганізацыі, дзяржавы, выбраны для ўдзелу ў рабоце з'езда, канферэнцыі, перагаворах і інш.

**ДЭЛЕГА́ЦЫЯ** (лац. delegatio) — група асоб, выбраных або ўпаўнаважаных якім-н. калектывам, арганізацыяй, дзяржавай у якасці прадстаўнікоў на з'езд, канферэнцыю, перагаворы і інш.

**ДЭЛЕ́ЦЫЯ** (лац. deletio = знішчэнне) — страта аднаго з унутраных участкаў *храмасомы*.

**ДЭЛІБА́Ш** (тур. delibaš, ад deli = дзікі, смелы + baš = галава) — 1) ахоўнік *пашы* ў султанскай Турцыі; 2) *перан.* адважны воін, ліхі коннік.

**ДЭЛІ́КТ** (лац. delictum) — *юр.* правапарушэнне, правіннасць.

**ДЭЛІМІТА́ЦЫЯ** (лац. delimitatio) — вызначэнне дзяржаўнай граніцы з дакладным апісаннем яе праходжання і фіксацыяй на карце ў адпаведнасці з дагаворам, заключаным з суседняй дзяржавай.

**ДЭЛІНКВЕ́НТ** (лац. delinquens, -ntis = які робіць правіннасць) — правапарушальнік (у англа-амерыканскім праве).

**ДЭЛІ́РЫЙ** (лац. delirium = вар'яцтва) — расстройства прытомнасці з *галюцынацыямі* пры некаторых інфекцыйных хваробах, атручэннях, запаленнях галаўнога мозга і інш.; трызненне.

**ДЭЛЬ** (ням. Delle = паглыбленне) — пласкадонная лінейна выцягнутая лагчына без пастаяннага вадацёку; утвараецца ў выніку дзеяння талых і дажджавых вод.

**ДЭЛЬКРЭ́ДЭРЭ** (ням. Delkredere, ад іт. del credere = на веру) — паручальніцтва *камісіянера* перад *камітэнтам* за выкананне здзелкі, заключанай з трэцяй асобай.

**ДЭ́ЛЬТА** (гр. delta = назва чацвёртай літары грэчаскага алфавіта, якая мае форму трохвугольніка) — вусце ракі з наноснай раўнінай, разрэзанай шматлікімі рукавамі і пратокамі (назва паходзіць ад дэльты Ніла, падобнай на грэчаскую літару).

**ДЭЛЬТАПЛА́Н** (ад гр. delta = назва чацвёртай літары грэчаскага алфавіта, якая мае форму трохвугольніка + *-план*) — безматорны лятальны апарат з мяккім купалам на трохвугольным каркасе для спартыўнага планіравання.

**ДЭЛЬТАПЛАНЕРЫ́ЗМ** [ад *дэльта(план) + планерызм*] — тэорыя і практыка кіравання *дэльтапланамі*.

**ДЭ́ЛЬТА-ФУ́НКЦЫЯ** (ад гр. delta = назва чацвёртай літары грэчаскага алфавіта + *функцыя*) — сімвал, што прымяняецца ў матэматычнай фізіцы пры рашэнні задач, у якія ўваходзяць сканцэнтраваныя велічыні (нагрузка, зарад і інш.).

**ДЭЛЬФІ́Н** (н.-лац. delphinus, ад гр. delphis, -inos) — 1) марская млекакормячая жывёла сям. дэльфінавых падатрада зубатых кітоў; 2) спосаб спартыўнага плавання, разнавіднасць *батэрфляю*.

**ДЭЛЬФІНА́РЫЙ** (ад *дэльфін*) — *акіянарый* для развядзення дэльфінаў з мэтай іх вывучэння, дрэсіроўкі і паказвання наведвальнікам.

**ДЭЛЬФІ́НІЙ** (н.-лац. delphinium, ад гр. delphinion) — травяністая расліна сям. казяльцовых з сінімі, блакітнымі або фіялетавымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ва ўмераных зонах; асобныя віды вырошчваюцца як дэкаратыўныя.

**ДЭЛЬФІНО́ЛАГ** (ад *дэльфін* + *-лаг*) — спецыяліст па вывучэнню дэльфінаў.

**ДЭЛЮ́ВІЙ** (лац. deluvium) — адклады на схілах гор прадуктаў выветрывання горных парод (гліны, пяску і інш.).

**ДЭМАБІЛІЗАВА́ЦЬ** (фр. démobiliser) — правесці *дэмабілізацыю* 1.

**ДЭМАБІЛІЗА́ЦЫЯ** (фр. démobilisation) — 1) звальненне з вайсковай службы ў запас; 2) перавод узброеных сіл і народнай гаспадаркі з ваеннага становішча на мірнае; 3) *перан.* аслабленне актыўнасці, гатоўнасць да выканання якіх-н. задач.

**ДЭМАГО́Г** (гр. demagogos) — палітык, які для дасягнення сваіх мэт карыстаецца *дэмагогіяй* 1.

**ДЭМАГО́ГІЯ** (гр. demagogia) — 1) падман народных мас прывабнымі, але лжывымі абяцаннямі для дасягнення сваіх мэт; 2) пустыя мнагаслоўныя разважанні (напр. разводзіць дэмагогію).

**ДЭМАГРА́ФІЯ** (ад гр. demos = народ + *-графія*) — навука, якая даследуе склад, колькасць, заканамернасці ўзнаўлення насельніцтва ў іх грамадска-гістарычнай абумоўленасці; звязана са *статыстыкай* 2.

**ДЭМАДУЛЯ́ТАР** (ад *дэ-* + *мадулятар*) — апарат для правядзення *дэмадуляцыі*.

**ДЭМАДУЛЯ́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *мадуляцыя*) — выдзяленне нізкачастотных ваганняў з высокачастотных мадуляваных ваганняў.

**ДЭМАКРА́Т** (ад гр. demos- народ + *-крат*) — 1) прыхільнік *дэмакратыі*; 2) член дэмакратычнай партыі; 3) той, хто вядзе просты спосаб жыцця.

**ДЭМАКРАТЫЗА́ЦЫЯ** (ад *дэмакратыя*) — укараненне прынцыпаў дэмакратыі, перабудова дзяржавы, грамадства на *дэмакратычных* асновах.

**ДЭМАКРАТЫ́ЗМ** (ад *дэмакратыя*) — 1) прызнанне і ажыццяўленне дэмакратыі; 2) народнасць, прастата.

**ДЭМАКРАТЫ́ЧНЫ** (гр. demokratikos) — 1) заснаваны на *дэмакратыі*; 2) просты, народны.

# Д

**ДЭМАКРА́ТЫЯ** (гр. demokratia) — 1) форма дзяржавы, заснаваная на прызнанні народа крыніцай улады; 2) прынцып арганізацыі дзейнасці калектыву, заснаваны на раўнапраўным удзеле ўсіх яго членаў.

**ДЭ́МАН** (гр. daimon = бажаство, дух) — злы дух, нячыстая сіла, д'ябал у хрысціянскай *міфалогіі*.

**ДЭМАНАЛО́ГІЯ** (ад *дэман* + *-логія*) — вучэнне аб нячыстай сіле, злых духах, дэманах у радзе рэлігій.

**ДЭМАНЕТЫЗА́ЦЫЯ** (фр. démonétisation) — пазбаўленне *манеты* функцыі грошай, зняцце яе з абароту ў афіцыйным парадку.

**ДЭМАНІ́ЗМ** (ад *дэман*) — вера ў існаванне злых духаў, уласцівасць дэманічнага.

**ДЭМАНСТРАВА́ЦЬ** (лац. demonstrare) — 1) прымаць удзел у *дэманстрацыі* 1; 2) паказваць што-н. публічна, наглядным спосабам (напр. д. дасягненні); 3) знарок падкрэсліваць, выстаўляць напаказ што-н. (напр. д. сваю зацікаўленасць).

**ДЭМАНСТРА́НТ** (лац. demonstrans, -ntis) — удзельнік *дэманстрацыі* 1.

**ДЭМАНСТРА́ТАР** (лац. demonstrator) — той, хто паказвае, *дэманструе* што-н.

**ДЭМАНСТРАТЫ́ЎНЫ** (лац. demonstrativus = паказальны) — 1) які выражае нязгоду з чым-н., пратэст сураць чаго-н.; задзірлівы, знарок падкрэслены (напр. д-ыя паводзіны, д. выхад са сходу); 2) які адцягвае ўвагу праціўніка ад рэальнага становішча ва ўмовах ваенных дзеянняў.

**ДЭМАНСТРА́ЦЫЯ** (лац. demonstratio = паказванне) — 1) масавае шэсце для выражэння грамадска-палітычных настрояў, патрабаванняў; 2) публічны, наглядны паказ чаго-н. (напр. д. кінафільма, д. дасягненняў); 3) паводзіны, учынкі, якія падкрэслена выражаюць пратэст, нязгоду з чым-н. (напр. д. непрыязнасці); 4) дзеянні пагрозлівага характару з боку якой-н. дзяржавы, каб уздзейнічаць на іншую дзяржаву (напр. сканцэнтраванне флоту каля граніц гэтай дзяржавы); 5) ваенная аперацыя з мэтай адцягнуць увагу праціўніка ад месца галоўнага ўдару.

**ДЭМАНТА́Ж** (фр. démontage) — разборка машын, станкоў, абсталявання для рамонту або перамяшчэння на новае месца (напр. д. электрастанцыі).

**ДЭМАНТО́ІД** (ад ням. Demant = алмаз + *-оід*) — мінерал класа *сілікатаў*, *гранат*[2] зялёнага колеру; празрыстая разнавіднасць з'яўляецца каштоўным каменем.

**ДЭМАНЦІ́РАВАЦЬ** (фр. démonter) — рабіць *дэмантаж*.

**ДЭМАРАЛІЗАВА́ЦЬ** (фр. démoraliser) — выклікаць *дэмаралізацыю*[2].

**ДЭМАРАЛІЗА́ЦЫЯ** (фр. démoralisation) — 1) маральнае разлажэнне; 2) упадак духу, дысцыпліны (напр. д. войск праціўніка).

**ДЭМАРКАЦЫ́ЙНЫ** (ад *дэмаркацыя*) — прыгранічны, размежавальны (напр. д-ая лінія).

**ДЭМАРКА́ЦЫЯ** (фр. démarcation) — 1) устанаўленне і абазна-

чэнне на мясцовасці граніцы паміж сумежнымі дзяржавамі; 2) *мед.* адмежаванне амярцвелых участкаў тканкі ад здаровых.

**ДЭМАРКЕ́ТЫНГ** (ад *дэ-* + *маркетынг*) — від маркетынгу, накіраваны на памяншэнне попыту на тавары або паслугі, які не можа быць задаволены з-за недастатковага ўзроўню вытворчых магчымасцей, абмежаванасці таварных рэсурсаў і сыравіны.

**ДЭМА́РШ** (фр. démarche) — дыпламатычнае выступленне ў форме *ноты*, *мемарандума*, заявы, адрасаванае ўраду якой-н. дзяржавы з мэтай выразіць пратэст, перасцярогу, дамагчыся ўступак і інш.

**ДЭ́МАС** (гр. demos) — народ, непрывілеяваныя слаі насельніцтва ў класавым грамадстве.

**ДЭМАСКАВА́ЦЬ, ДЭМАСКІРАВА́ЦЬ** (фр. démasquer) — парушаць *маскіроўку*, раскрываючы што-н. перад праціўнікам (напр. д. ваенны аб'ект).

**ДЭМАСКО́ПІЯ** (ад гр. demos = народ + skopia = аглядаць) — 1) вывучэнне грамадскай думкі; метад выяўлення думак, пазіцый насельніцтва і груп людзей шляхам вуснага або пісьмовага апытвання; 2) аналіз і дыягназ эканамічнай, адміністратыўнай і палітычнай сітуацыі ў дзяржаве.

**ДЭМЕ́НЦЫЯ** (лац. dementia = шаленства) — прыдуркаватасць, якая ўзнікае ў чалавека ў выніку паражэння галаўнога мозгу пры *атэрасклерозе*, *эпілепсіі* і інш. (параўн. *алігафрэнія*).

**ДЭ́МЕРЭДЖ** (англ. demurrage) — *штраф* за прастой судна ў час пагрузкі звыш абумоўленага дагаворам тэрміну.

**ДЭМІКАТО́Н** (фр. demicoton) — тоўстая бавоўняная тканіна, якая ўжывалася ў 19 ст.

**ДЭМІЛІТАРЫЗАВА́ЦЬ** (фр. démilitariser) — праводзіць *дэмілітарызацыю*, раззбраенне якой-н. дзяржавы.

**ДЭМІЛІТАРЫЗА́ЦЫЯ** (фр. démilitarisation) — поўнае або частковае раззбраенне якой-н. дзяржавы, забарона ёй мець рэгулярную армію, ваенную прамысловасць.

**ДЭМІМО́НД** (фр. demi-monde = паўсвет) — асяроддзе *какотак*, палюбоўніц багачоў, якія манерамі і спосабам жыцця стараюцца браць прыклад з *арыстакратыі*.

**ДЭМІСЕЗО́ННЫ** (ад фр. demisaison = пераходная пара года) — прыгодны для нашэння вясной і восенню (напр. д. абутак).

**ДЭМІУ́РГ** (гр. demiurgos) — 1) свабодны рамеснік, майстар, мастак у Стараж. Грэцыі; 2) *кніжн.* тварэц, стваральная сіла.

**ДЭМІФІЗА́ЦЫЯ** (ад дэ- + *міф*) — развянчанне міфа.

**ДЭМО́ГРАФ** (ад гр. demos = народ + *-граф*) — спецыяліст у галіне *дэмаграфіі*.

**ДЭ́МПІНГ** (англ. dumping = *літар.* скідванне) — продаж тавараў на замежным рынку па зніжаных цэнах з мэтай выцяснення канкурэнтаў.

**ДЭ́МПФЕР** (ням. Dämpfer) — прыстасаванне для гашэння механічных ваганняў, якія ўзнікаюць у машынах і прыборах у час работы.

# Д

**ДЭМПФІ́РАВАЦЬ** (ням. dämpfen = глушыць) — гасіць ваганні ў механічных, электрычных і іншых сістэмах шляхам рассейвання *энергіі*.

**ДЭМУЛЬТЫПЛІКА́ТАР** (ад *дэ-* + лац. multiplicator = які павялічвае) — *механізм*, які дае магчымасць павялічыць цягавае намаганне аўтамабіля за кошт памяншэння хуткасці руху.

**ДЭМУНІЦЫПАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *муніцыпалізацыя*) — скасаванне муніцыпалізацыі, вяртанне ўласнікам забранай у іх маёмасці.

**ДЭМУТА́ЦЫЯ** (лац. demutatio) — аднаўленне прыроднага расліннага покрыву.

**ДЭМЭКАЛО́ГІЯ** [ад *дэм(акратызм)* + *экалогія*] — папуляцыйная экалогія.

**ДЭНАМІНА́ЦЫЯ** (лац. denominatio = перайменаванне) — змяненне намінальнай вартасці грашовых знакаў для ўпарадкавання грашовага абарачэння і спрашчэння разлікаў.

**ДЭНАНСАВА́ЦЬ** (фр. dénoncer) — заяўляць аб спыненні дзеяння, скасаванні міжнароднага дагавору.

**ДЭНАНСА́ЦЫЯ** (фр. dénonciation) — заява якой-н. дзяржавы аб скасаванні міжнароднага дагавору.

**ДЭНА́РЫЙ, ДЫНА́РЫЙ** (лац. denarius) — 1) старажытнарымская сярэбраная манета, роўная 10 асам[2]; 2) сярэбраная манета германскіх дзяржаў у 5—8 ст., якая імітавала рымскі д.; 3) сярэбраная манета дзяржаў Зах. Еўропы ў 8—12 ст.; на тэрыторыі Беларусі абарачалася ў 11 ст.; 4) сярэбраная, потым білонная манета Вялікага княства Літоўскага ў 14—17 ст.

**ДЭНАТА́Т** (лац. denotatus = вызначаны) — аб'ект; тое, што можна абазначыць пэўнай назвай.

**ДЭНАТУРАВА́ЦЬ** (ад н.-лац. denaturatus = скажоны) — рабіць *дэнатурацыю*.

**ДЭНАТУРАЛІЗАВА́ЦЬ** (ад *дэ-* + *натуралізаваць*) — пазбаўляць грамадзянства (падданства).

**ДЭНАТУРАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *натуралізацыя*) — 1) страта грамадзянінам падданства той ці іншай дзяржавы; 2) аднаўленне таварна-грашовых адносін дзяржавы.

**ДЭНАТУРА́Т** (н.-лац. denaturatus = скажоны) — *спірт*, прызначаны для тэхнічных мэт, змяшчае атрутныя або непрыемныя на смак рэчывы, якія робяць яго непрыгодным для піцця.

**ДЭНАТУРА́ЦЫЯ** (фр. dénaturation) — змяненне ўласцівасцей бялку пад уздзеяннем якіх-н. рэчываў з мэтай тэхнічнага выкарыстання; д. с п і р т у — дабаўленне ў спірт атрутных або непрыемных на смак рэчываў, каб зрабіць яго непрыгодным для піцця.

**ДЭНАЦЫФІКА́ЦЫЯ** [ад *дэ-* + *нацызм* + *-фікацыя*] — выкараненне нацызму ў Германіі пасля другой сусветнай вайны.

**ДЭНАЦЫЯНАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *нацыяналізацыя*) — 1) зварот раней нацыяналізаванай маёмасці былым яе гаспадарам; 2) страта нацыянальных асаблівасцей (мовы, культуры і інш.).

**ДЭ́НДЗІ** (англ. dandy) — элегантна апрануты свецкі чалавек.

**ДЭНДРА-** (гр. dendron = дрэва) — першая састаўная частка складаных слоў, якая па значэнню адпавядае слову «дрэва».

**ДЭНДРАБІЁНТЫ** (ад *дэндра-* + *біёнты*) — арганізмы-насельнікі дрэвавага яруса раслiннасці (птушкі, многія насякомыя, павукападобныя і іншыя групы беспазваночных).

**ДЭНДРАГРА́МА** (ад *дэндра-* + *-грама*) — графічнае адлюстраванне ў двухмернай праекцыі ступені падабенства аб'ектаў.

**ДЭНДРАДО́ХІЙ** (н.-лац. dendrodochium) — недасканалы грыб сям. туберкулярыевых, які развіваецца на саломе і ржышчы зерневых і злакавых траў.

**ДЭНДРАКЛІМАТАЛО́ГІЯ** (ад *дэндра-* + *кліматалогія*) — вывучэнне заканамернасцей утварэння гадавых слаёў дрэвавых парод для ўстанаўлення *клімату* ў мінулыя геалагічныя эпохі.

**ДЭНДРАЛО́ГІЯ** (ад *дэндра-* + *-логія*) — раздзел *батанікі*, які вывучае дрэвы і кустовыя расліны.

**ДЭНДРАМЕ́ТРЫЯ** (ад *дэндра-* + *-метрыя*) — частка лясной *таксацыі*, вызначэнне запасу драўніны ў лясах, аб'ёму лесаматэрыялаў, якія нарыхтоўваюцца; якасная ацэнка лесу.

**-ДЭНДРАН** гл. *-дэндрон.*

**ДЭНДРАНТЭ́МА** (н.-лац. dendranthema) — травяністая расліна сям. складанакветных з ружовымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў Кітаі, Японіі, Карэі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ДЭНДРАПА́РК** (ад *дэндра-* + *парк*) — вялікі парк, у якім вырошчваюць дрэўныя і кустовыя расліны.

**ДЭНДРА́РЫЙ** (ад гр. dendron = дрэва) — батанічны сад, дзе ў адкрытым грунце вырошчваюцца розныя віды дрэў і кустоў.

**ДЭНДРАФО́МА** (н.-лац. dendrophoma) — недасканалы грыб сям. шаравідкавых, які развіваецца на травяністых раслінах.

**ДЭНДРАХРАНАЛО́ГІЯ** (ад *дэндра-* + *храналогія*) — вучэнне аб заканамернасцях утварэння гадавых слаёў дрэвавых парод, на аснове якога можна вызначыць узрост археалагічных знаходак.

**ДЭНДРО́ІДНЫ** (ад гр. dendron = дрэва + *-оід*) — дрэвападобны, які галініцца, як дрэва.

**ДЭНДРО́ЛАГ** (ад гр. dendron = дрэва + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *дэндралогіі*.

**-ДЭНДРОН, -ДЭНДРАН** (гр. dendron = дрэва) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «дрэва», «дрэвападобны».

**ДЭНДРЫ́ТЫ** (гр. dendrites = які адносіцца да дрэва) — 1) незакончаныя ў развіцці крышталі дрэвападобнай формы; 2) чуллівыя, звычайна разгалінаваныя адросткі нервовай клеткі.

**ДЭНЗАМЕ́ТР** (ад лац. densus = густы, шчыльны + *-метр*) — апарат для вызначэння паветрапранікальнасці паперы.

**ДЭНІТРЫФІКА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *нітрыфікацыя*) — біяхімічны працэс распаду азоцістых злучэнняў (*нітратаў*) з выдзяленнем свабоднага *азоту*.

# Д

**ДЭНСІМЕ́ТР** (ад лац. densus, densi = густы, шчыльны + *-метр*) — *апарат* для вызначэння адноснай шчыльнасці вадкасцей і цвёрдых целаў.

**ДЭНСІМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. densus, densi = густы, шчыльны + *-метрыя*) — сукупнасць метадаў вымярэння адноснай шчыльнасці вадкасцей і цвёрдых целаў.

**ДЭНСІТАМЕ́ТР** (ад лац. densitas = гушчыня, шчыльнасць + *-метр*) — прыбор для вызначэння аптычнай шчыльнасці праяўленых фотаматэрыялаў.

**ДЭНСІТАМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. densitas = гушчыня, шчыльнасць + *-метрыя*) — раздзел *сенсітаметрыі*, які займаецца вымярэннем паглынання і рассейвання святла праяўленымі фотаматэрыяламі.

**ДЭНТА́ЛЬНЫ** (лац. dentalis) — зубны (напр. д. зычны гук).

**ДЭНТЫ́КУЛА** (н.-лац. denticula) — аднаклетачная або каланіяльная *дыятомавая* водарасць сям. эпітэміевых, якая пашырана ў азёрах, сажалках, канавах, ручаях і іншых вадаёмах сярод абрастанняў.

**ДЭНТЫ́КУЛЫ** (лац. denticulus = зубец) — *архіт.* рад невялікіх дэкаратыўных прамавугольных выступаў на карнізе ў іанічным ордэры, карынфскім ордэры і адным з варыянтаў рымска-дарычнага ордэра; сухарыкі.

**ДЭНУДА́ЦЫЯ** (лац. denudatio = агаленне) — сукупнасць працэсаў разбурэння горных парод вадой, ветрам, леднікамі і перанос прадуктаў разбурэння на больш нізкія ўчасткі зямной паверхні.

**ДЭНУНЦЫЯ́ТАР** (лац. denuntiator) — даносчык.

**ДЭНУНЦЫЯ́ЦЫЯ** (лац. denuntiatio) — данос.

**ДЭНЦІ́Н** (ад лац. dens, -ntis = зуб) — моцнае косцепадобнае рэчыва, якое складае асноўную масу зуба.

**ДЭНЦІЯТРЫ́Я** (ад лац. dens, -ntis = зуб + *-ятрыя*) — вучэнне аб хваробах зубоў і метадах іх лячэння.

**ДЭНЬЕ́** (фр. denier) — 1) даўнейшая французская манета, роўная 1/240 *ліўра*; выйшла з абарачэння ў пач. 19 ст.; 2) *уст.* мера тонкасці шаўковага валакна, якая вызначалася адносінамі вагі валакна да яго даўжыні; заменена *тэксам*.

**ДЭПАЗІ́Т** (лац. depositum = рэч, аддадзеная на зберажэнне) — грошы або каштоўныя паперы, якія ўносяцца на зберажэнне ў крэдытную ўстанову (банк, натарыяльную кантору) з правам атрымаць іх назад.

**ДЭПАЗІ́ТАР** (лац. depositor) — 1) уладальнік *дэпазіту*; 2) тое, што і *дэпанент* 2.

**ДЭПАЗІТА́РЫЙ** (фр. dépositaire, ад лац. depositum = рэч, аддадзеная на зберажэнне) — 1) фізічная або юрыдычная асоба, якой давераны *дэпазіты*; 2) дзяржава або міжнародная арганізацыя, якія захоўваюць арыгінальны тэкст міжнароднага дагавору.

**ДЭПАЛАТАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *палаталізацыя*) — *лінгв.* страта мяккасці зычнымі гукамі.

**ДЭПАЛЯРЫЗА́ТАР** (ад *дэ-* + *палярызатар*) — дадатковае рэчыва, якое ўводзяць у *гальванічны* эле-

мент для *дэпалярызацыі* яго электродаў.

**ДЭПАЛЯРЫЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *палярызацыя*) — змяншэнне ступені палярызацыі.

**ДЭПАНЕ́НТ** (лац. deponens, -ntis = які адкладвае) — 1) тое, што і *дэпазітар* 1; 2) асоба, якой належыць грашовая сума, не выплачаная прадпрыемствам або ўстановай ва ўстаноўлены тэрмін.

**ДЭПАНІ́РАВАЦЬ** (лац. deponere) — 1) уносіць на *дэпазіт*; 2) перадаваць на захаванне (напр. д. ратыфікацыйныя граматы).

**ДЭПАПУЛЯ́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *папуляцыя*) — памяншэнне колькасці папуляцыі віду жывых арганізмаў пад уплывам прыродных або антрапагенных фактараў.

**ДЭПАРТАВА́ЦЬ** (лац. deportare = вывозіць, высылаць) — выдаляць з краіны.

**ДЭПАРТА́МЕНТ** (фр. département) — 1) асноўная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Францыі; 2) аддзел вышэйшай адміністрацыйнай або судовай установы ў Расійскай імперыі і шэрагу іншых краін; 3) назва ведамства, міністэрства ў некаторых дзяржавах; д з я р ж а ў н ы д. — міністэрства замежных спраў ЗША.

**ДЭПАРТАЦЫ́Я** (лац. deportatio = вываз) — прымусовае выдварэнне непажаданай асобы за межы дзяржавы.

**ДЭПАТРЫЯТЫЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + гр. patria = радзіма) — 1) адмаўленне ад любові да радзімы, страта прывязанасці да яе; 2) ідэйны рух, накіраваны супраць патрыятычнага выхавання.

**ДЭПЕРСАНАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *персона*) — захворванне псіхікі, якое характарызуецца пачуццём адчужэння ўласных думак, эмоцый, дзеянняў.

**ДЭПЕ́ША** (фр. dépêche) — 1) спешнае данясенне (дыпламатычнае, ваеннае і інш.); 2) *уст.* тое, што і *тэлеграма*.

**ДЭПІГМЕНТА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *пігментацыя*) — страта скурай нармальнай афарбоўкі, абумоўленая знікненнем *пігменту*.

**ДЭПІЛЯ́ЦЫЯ** (ад лац. depilare = пазбаўляць валасоў) — тое, што і *эпіляцыя*.

**ДЭПО́** (фр. dépót) — 1) будынак для стаянкі і рамонту паравозаў, вагонаў і інш. (напр. трамвайнае д.); 2) будынак для пажарных машын (пажарнае д.); 3) *уст.* склад; 4) *фізіял.* накапляльнік; д. к р ы в і — органы чалавека і жывёл (селязёнка, печань, скура), у якіх можа знаходзіцца значная колькасць крыві, што выключана з агульнай цыркуляцыі і можа ўключацца ў яе пры інтэнсіўнай фізічнай працы, недахопе кіслароду і інш.

**ДЭПОЛІМЕРЫЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *полімерызацыя*) — працэс распаду *палімера*.

**ДЭПО́РТ** (фр. déport) — скупка каштоўных папер з адначасовым продажам іх на пэўны тэрмін па ніжэйшаму курсу з мэтай *спекуляцыі*.

**ДЭПРЭСА́НТЫ** (ад лац. depressio = прыгнечанне) — 1) рэчывы, якія пры выбіральнай *флатацыі* адных мінералаў перашкаджаюць флатацыі іншых; 2) лекавыя рэчывы, якія прымяняюць пры псіхічнай

узбуджанасці (параўн. *антыдэпрэсанты*).

**ДЭПРЭСІ́РАВАЦЬ** (ад лац. depressio = прыгнечанне) — перашкаджаць *флатацыі* мінералаў пры дапамозе *дэпрэсантаў*.

**ДЭПРЭ́СІЯ**[1] (лац. depressio = прыгнечанне) — 1) прыгнечаны псіхічны стан чалавека; 2) *біял.* рэзкае паніжэнне колькасці асобін папуляцыі або віду; 3) прамысловы і гаспадарчы застой у краіне.

**ДЭПРЭ́СІЯ**[2] (лац. depressio = паніжэнне, паглыбленне) — участак зямной паверхні, які ляжыць ніжэй узроўню мора (параўн. *крыптадэпрэсія*).

**ДЭПУТА́Т** (лац. deputatus = пасланы) — асоба, выбраная членам прадстаўнічага органа ўлады.

**ДЭПУТА́ЦЫЯ** (п.-лац. deputatio) — група ўпаўнаважаных або выбраных асоб, якая дзейнічае па даручэнні якога-н. калектыву, арганізацыі.

**ДЭРАГА́ЦЫЯ** (лац. derogatio) — частковая адмена старога закона.

**ДЭРАТЫЗА́ЦЫЯ** (фр. dératisation, ад лац. de = з, ад + фр. rat = пацук) — знішчэнне шкодных грызуноў (мышэй, пацукоў і інш.), якія псуюць пасевы, харчовыя прадукты, тару, пераносяць узбуджальнікаў інфекцыйных хвароб чалавека і жывёл, хімічнымі, біялагічнымі і механічнымі метадамі.

**ДЭ́РАШ** (польск. deresz, ад венг. deres) — конь шэрай масці з прымессю іншага колеру.

**ДЭ́РБІ** (англ. derby, ад E. Derby = прозвішча англ. лорда) — спаборніцтвы для трохгадовых скакавых і чатырохгадовых рысістых коней; упершыню праведзены ў Англіі ў 1778 г. лордам Дэрбі.

**ДЭ́РВІШ** (кр.-тат. därviš, ад перс. därviš = жабрак) — мусульманскі манах, які вядзе аскетычны спосаб жыцця.

**ДЭ́РМА** (гр. derma = скура) — злучальна-тканкавая частка скуры ў пазваночных жывёл і ў чалавека, якая знаходзіцца пад *эпідэрмісам*.

**-ДЭРМА** (гр. derma = скура) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццямі «скура», «абалонка», «плеўка».

**ДЭРМАГЕ́НІЗ** (н.-лац. dermogenys) — рыба атрада сарганападобных, якая водзіцца ў вадаёмах Інданезіі, Паўд. Індыі, Малакскага паўвострава; на Беларусі гадуецца як акварыумная.

**ДЭРМАГРАФІ́ЗМ** (ад *дэрма* + гр. grapho = пішу) — змена афарбоўкі скуры чалавека пры яе механічным раздражненні.

**ДЭРМАТА-** (гр. derma, -atos = скура) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «які адносіцца да скуры, да скурных хвароб».

**ДЭРМАТАГЕ́Н** (ад *дэрмата-* + *-ген*) — знешні шчыльны пласт клетак утваральнай тканкі ў растучых кончыках каранёў і сцёблаў раслін.

**ДЭРМАТАГЛІ́ФІКА** (ад *дэрмата-* + гр. glypho = выразаю, гравірую) — навука, якая вывучае скурныя малюнкі далоняў і падэшваў; дадзеныя выкарыстоўваюцца ў *крыміналістыцы*, *антрапалогіі*, *медыцыне*.

**ДЭРМАТАЗААНО́ЗЫ** (ад *дэрмата-* + гр. zoon = жывёла) — хваробы скуры ў жывёл і чалавека, якія выклікаюцца жывёльнымі *паразітамі*.

**ДЭРМАТАКАРПО́Н** (н.-лац. dermatocarpon) — ліставаты сумчаты лішайнік сям. верукарыевых, які трапляецца на сухіх і часова залітых вадой камянях.

**ДЭРМАТАКРА́НІУМ** (ад *дэрмата-* + с.-лац. cranium, ад гр. kranion = чэрап) — касцявое покрыва галавы пазваночных, утворанае скурнымі па паходжанню касцямі, што акружаюць звонку чэрап.

**ДЭРМАТАЛО́ГІЯ** (ад *дэрмата-* + *-логія*) — раздзел медыцыны, які вывучае будову, функцыі і хваробы скуры.

**ДЭРМАТАМІКО́ЗЫ** (ад *дэрмата-* + *мікозы*) — хваробы скуры (парша, стрыгучы лішай і інш.), якія выклікаюцца *дэрматаміцэтамі*.

**ДЭРМАТАМІЦЭ́ТЫ** (ад *дэрмата-* + *-міцэты*) — група мікраскапічных грыбкоў, якія паразітуюць у скуры чалавека і жывёл.

**ДЭРМАТАМІЯЗІ́Т** (ад *дэрмата-* + гр. mys, myos = мышца) — *калагеноз* з паражэннем скуры, мышцаў, нерваў, а таксама сэрца, нырак і інш.

**ДЭРМАТАФІ́ТЫІ** (ад *дэрмата-* + гр. phyton = расліна) — грыбковыя хваробы скуры, валасоў і ногцяў жывёл і чалавека, якія выклікаюцца патагеннымі грыбамі.

**ДЭРМАТО́ЗЫ** (гр. derma, -atos = скура) — хваробы скуры і яе прыдаткаў (валасоў, ногцяў).

**ДЭРМАТО́Л** (ад гр. derma, -atos = скура + *-ол*) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца пры запаленчых захворваннях скуры і слізістых абалонак.

**ДЭРМАТО́ЛАГ** (ад *дэрмата-* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *дэрматалогіі*.

**ДЭРМАТО́М** (ад *дэрма* + гр. tome = адрэзак) — зачатак злучальнатканкавай часткі скуры (*дэрмы*) у зародках хордавых жывёл і чалавека.

**ДЭРМАТЫ́Т** (ад гр. derma, -atos = скура) — запаленне скуры, выкліканае ўздзеяннем на яе механічных, фізічных або хімічных *агентаў*.

**ДЭРМАЦІ́Н** (фр. dermatine, ад гр. derma, -atos = скура) — штучная скура, тканіна з нітрацэлюлозным (гл. *нітрацэлюлоза*) пакрыццём для абіўкі мэблі, пераплёту кніг і інш.

**ДЭРМАЦЫ́БЕ** (н.-лац. dermocybe) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. павуціннікавых, які расце ў лясах на глебе, часам на драўніне; неядомы.

**ДЭРМО́ІД** (ад *дэрма* + -оід) — *мед.* пухліна, якая змяшчае тлушчападобнае рэчыва з прымессю валасоў.

**ДЭРЫВА́Т** (лац. derivatus = адведзены) — 1) вытворнае ад чаго-н. пярвічнага, прадукт чаго-н.; 2) *лінгв.* новае слова, утворанае ад слова-асновы.

**ДЭРЫВА́ТАР** (ад лац. derivatio = адвядзенне, адхіленне) — прыстасаванне для пабудовы датычных і нармалей у асобных пунктах крывых; выкарыстоўваецца пры чар-

чэнні складаных геаметрычных фігур.

**ДЭРЫВА́ЦЫЯ** (лац. derivatio = адвядзенне, адхіленне) — 1) бакавое адхіленне снарадаў і куль нарезной зброі ад плоскасці стральбы; 2) адвод вады з ракі, вадасховішча ці іншага вадаёма ў бакавы канал для суднаходства, энергетыкі або ірыгацыі; 3) *лінгв.* утварэнне новых слоў ад слова-асновы.

**ДЭ́РЫК** (англ. derrick) — грузападымальны кран з паваротнай стралой.

**ДЭРЭАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *рэалізацыя*) — псіхічнае расстройства ў выглядзе перажывання адчужэння рэальнага свету, калі навакольнае ўспрымаецца аддаленым, бясколерным, нежыццёвым.

**ДЭСАЛЬВАТА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *сальватацыя*) — з'ява, процілеглая *сальватацыі*.

**ДЭСА́НТ** (фр. descente = *літар.* апусканне, высадка) — 1) высадка войск з самалётаў або караблёў на тэрыторыю праціўніка; 2) войскі, прызначаныя для высадкі або высаджаныя на тэрыторыю праціўніка для баявых дзеянняў (напр. марскі д., паветраны д.).

**ДЭ́САНЬ** (польск. deseń, ад фр. dessin = малюнак) —*уст.* узор.

**ДЭСЕГРЭГА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *сегрэгацыя*) — адмена сегрэгацыі, ліквідацыя заканадаўства, якое падзяляе насельніцтва паводле расавых адзнак.

**ДЭСЕЛЕРО́МЕТР** (ад *дэ-* лац. celero = паскараю + *-метр*) — прыбор для вымярэння памяншэння хуткасці транспартнай машыны за адзінку часу.

**ДЭСЕНСІБІЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *сенсібілізацыя*) — 1) змяншэнне адчувальнасці арганізма да паўторнага ўвядзення хімічных рэчываў, што выклікаюць алергію; 2) змяншэнне святлаадчувальнасці фатаграфічнага матэрыялу.

**ДЭСЕ́РТ** (фр. dessert) — салодкія стравы, цукеркі, фрукты, якія падаюцца ў канцы абеду.

**ДЭСІГНА́Т** (лац. designatus = азначаны) — прадмет думкі, які адпавядае выражэнню.

**ДЭСІКА́НТЫ** (ад лац. desiccare = высушваць) — хімічныя рэчывы, якія выкарыстоўваюцца для *дэсікацыі*.

**ДЭСІКА́ЦЫЯ** (лац. desiccatio) — перадуборачнае высушванне сцёблаў і лісця раслін з мэтай паскарэння іх выспявання; праводзіцца *дэсікантамі*.

**ДЭСІЛІКА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + лац. silex, -licis = крэмень) — 1) працэс выветрывання горных парод, звязаны з растварэннем і вынясеннем крэменязёму; 2) збядненне *магмы* крэменязёмам.

**ДЭСІНХРАНІЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *сінхранізацыя*) — замяшчэнне сінхронных высокаамплітудных патэнцыялаў на *электраэнцэфалаграме* больш хуткімі і нізкаамплітуднымі.

**ДЭСКВАМА́ЦЫЯ** (лац. desquamatio, ад desquamare = знімаць луску) — 1) *мед.* злушчванне клетак *эпітэлію* з паверхні органаў і тканак (лушчэнне скуры); 2) злушчванне паверхневага слою горных парод у выніку рэзкіх змен тэмпературы.

**ДЭСКРЫ́ПТАР** (п.-лац. descriptor, ад лац. describere = апісваць) — лексічная адзінка (слова, словазлучэнне) інфармацыйна-пошукавай мовы, што адпавядае пэўнаму паняццю.

**ДЭСКРЫПТЫ́ЎНЫ** (лац. descriptivus = апісальны) — *лінгв.* які апісвае сінхронны стан мовы па зададзенай праграме *дыстрыбутыўным* метадам.

**ДЭСКРЫ́ПЦЫЯ** (лац. descriptio = апісанне) — моўная канструкцыя, якая замяняе ўласную або агульную назву прадмета.

**ДЭСКУРЭ́НІЯ** (н.-лац. descurainia) — травяністая расліна сям. крыжакветных з перыста-рассечаным лісцем і бледна-жоўтымі кветкамі ў гронках, пашыраная ў Еўразіі і Амерыцы на палях, лугах, ля дарог.

**ДЭСМАГЕ́Н** (ад гр. desmos = звязка + *-ген*) — тое, што і *пракамбій*.

**ДЭСМАГО́НІУМ** (н.-лац. desmogonium) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. эўноцыевых, якая пашырана пераважна ў тропіках.

**ДЭСМАЛА́ЗЫ** (ад гр. desmos = звязка) — *ферменты*, якія расшчапляюць арганічныя злучэнні шляхам разрыву сувязей паміж атамамі вугляроду.

**ДЭСМАЛО́ГІЯ** (ад гр. desmos = звязка + *-логія*) — раздзел *анатоміі*, які вывучае суставы і звязкі шкілета.

**ДЭСМАСО́МЫ** (ад гр. desmos = звязка + *сома*) — паверхневыя структуры, якія садзейнічаюць злучэнню клетак у жывёл.

**ДЭСМАТРА́КТУМ** (н.-лац. desmatractum) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. трэўбарыевых, якая трапляецца ў сажалках і рэках.

**ДЭСМАТРАПІ́Я** (ад гр. desmos = звязка + *-трапія*) — тое, што і *таўтамерыя*.

**ДЭСМІ́ДЫУМ** (н.-лац. desmidium) — ніткаватая зялёная водарасць сям. касмарыевых, якая пашырана пераважна ў сфагнавых і дыстрофных вадаёмах.

**ДЭСМО́ЛІЗ** (ад гр. desmos = звязка + *-ліз*) — сукупнасць працэсаў расшчаплення арганічных злучэнняў у тканках пад уплывам *дэсмалазаў*.

**ДЭСМУРГІ́Я** (ад гр. desmos = звязка + ergon = справа) — раздзел *хірургіі*, які вывучае метады накладання павязак.

**ДЭСО́РБЦЫЯ** (да *дэ-* + *сорбцыя*) — *хім.* выдаленне паглынутых рэчываў з паверхні *адсарбентаў*.

**ДЭ́СПАТ** (с.-лац. despotus, ад гр. despotes) — 1) жорсткі самадзяржаўны правіцель з неабмежаванай уладай у старажытных рабаўладальніцкіх дзяржавах Усходу, у балканскіх краінах перыяду сярэдневякоўя; 2) *перан.* жорсткі чалавек, тыран.

**ДЭСПАТЫ́ЗМ** (ад *дэспат*) — 1) тое, што *дэспатыя* 1; 2) *перан.* самавольства ў адносінах да акружаючых; самадурства, тыранства.

**ДЭСПАТЫ́Я** (с.-лац. despotia, ад гр. despoteia) — 1) форма самадзяржаўнай улады, неабмежаваная *манархія* на чале з *дэспатам* 1; 2)

дзяржава, у якой устаноўлена такая ўлада; 3) тое, што і *дэспатызм* 2.

**ДЭСПЕРА́ЦЫЯ** (лац. desperatio) — адчай, роспач.

**ДЭСТАБІЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *стабілізацыя*) — парушэнне прывычнага способу жыцця, раўнамернасці і пастаянства якіх-н. працэсаў, велічынь, уласцівасцей і г. д.; дзеянне, накіраванае супраць парадку.

**ДЭСТРУ́КТАРЫ** (лац. destructor = разбуральнік) — тое, што і *рэдуцэнты*.

**ДЭСТРУ́КЦЫЯ** (лац. destructio) — 1) парушэнне або разбурэнне нармальнай структуры чаго-н. (напр. д. палімераў, д. ландшафтаў); 2) *філас.* высвятленне асноў філасофскіх палажэнняў (адно з цэнтральных паняццяў фундаментальнай анталогіі М.Хайдэгера).

**ДЭСУБЛІМА́ЦЫЯ** (ад дэ- + *сублімацыя*) — пераход газападобнага рэчыва непасрэдна ў цвёрды стан, абмінаючы вадкі (напр. ператварэнне вадзяной пары ў атмасферы непасрэдна ў лёд, снег).

**ДЭСУЛЬФІТА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *сульфітацыя*) — ачышчэнне кансерваванай плодаагароднінай сыравіны ад сярністай кіслаты, што выкарыстоўвалася пры сульфітацыі.

**ДЭСУЛЬФУРА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + лац. sulphur = сера) — выдаленне серы з расплаўленага металу (чыгуну, сталі) пры дабаўленні спецыяльных рэчываў.

**ДЭСЦЭНДЭ́НТ** (лац. descendens, -ntis = зыходны) — *уст.* нашчадак.

**ДЭСЮДЭПО́РТ** (фр. dessus de porte = над дзвярамі) — *пано,* размешчанае над дзвярамі.

**ДЭТАЛІЗАВА́ЦЬ** (фр. détailler) — распрацоўваць у *дэталях*, удакладняць (напр. д. схему).

**ДЭТАЛІМЕ́ТРЫЯ** (ад *дэталь* + *-метрыя*) — раздзел *сенсітаметрыі*, звязаны з фатаграфічным выяўленнем адлюстраванняў дробных дэталей, якія адрозніваюцца адна ад адной яскравасцю.

**ДЭТА́ЛЬ** (фр. détail) — 1) састаўная частка машыны, механізма, якая не можа быць разабрана на іншыя, больш дробныя часткі (напр. д. самалёта); 2) прыватны факт, драбніца; 3) красамоўная падрабязнасць літаратурнага твора.

**ДЭТА́ЛЬНЫ** (фр. détaillé) — падрабязны, з усімі *дэталямі*.

**ДЭТАНАВА́ЦЬ**[1] (польск. detonować, ад лац. detonare = загрымець) — узрывацца ў выніку *дэтанацыі.*

**ДЭТАНАВА́ЦЬ**[2] (фр. détonner) — адхіляцца ад правільнага *тону* ў музыцы або спевах, фальшывіць.

**ДЭТАНА́ТАР** (ад лац. detonare = загрымець) — 1) выбуховае рэчыва, здольнае сваім выбухам выклікаць *дэтанацыю* іншага рэчыва; 2) капсуль, запал, які служыць для ўзрыву асноўнага зарада ў боепрыпасах.

**ДЭТАНА́ЦЫЯ** (фр. détonation, ад лац. detonare = загрымець) — 1) хуткі хімічны працэс, які суправаджаецца выдзяленнем цяпла і скорасць распаўсюджання якога большая за скорасць гуку ў дадзеным рэчыве; 2) імгненнае загаранне вы-

буховага рэчыва, выклiканае выбухам другога рэчыва.

**ДЭТА́НДЭР** (ад фр. détendre = аслабляць) — 1) машына для ахаладжэння газу спосабам яго расшырэння з адначасовым выкананнем знешняй работы; 2) клапан, памяншальнiк цiску пары.

**ДЭТАНО́МЕТР** [ад *дэтана(цыя)* + *-метр*] — прыбор, якi паказвае, што ў рухавiку ўнутранага згарання адбываецца дэтанацыя.

**ДЭТА́НТ** (фр. détente = разрадка, аслабленне) — разрадка мiжнароднай напружанасцi.

**ДЭТАШЭ́** (фр. détaché = аддзелены) — здабыванне кожнага гуку асобна плаўным рухам смычка ў час iгры на музычных iнструментах.

**ДЭТРЫ́Т** (лац. detritus = сцёрты) — 1) *мед.* прадукт распаду амярцвелых тканак (напр. воспенны д.); 2) арганiчнае рэчыва, якое складаецца з частак вымерлых раслiнных i жывёльных арганiзмаў; 3) груда абломкаў горных парод, што складаюцца са шкiлетаў жывёл.

**ДЭТРЫТАФА́ГI** (ад *дэтрыт* + *фагi*) — водныя жывёлы, якiя кормяцца *дэтрытам* 2.

**ДЭТЭ́КТАР** (лац. detector = адкрывальнiк) — 1) вузел у радыёпрыёмнiку для пераўтварэння ваганняў высокай частаты ў ваганнi нiзкай (гукавой) частаты; 2) *фiз.* прыбор для выяўлення радыеактыўнага або цеплавога выпрамянення, а таксама альфа-, бэта-, гама-часцiц, нейтронаў, пратонаў.

**ДЭТЭКТАФО́Н** (англ. detectaphone) — 1) апарат са скрытым *мiкрафонам* для падслухоўвання размоў.

**ДЭТЭКТЫ́РАВАЦЬ** (ад лац. detector = якi адкрывае) — пераўтвараць электрычныя ваганнi ў ваганнi меншай частаты або пастаянны ток.

**ДЭТЭКТЫ́Ў** (лац. detective) — 1) *агент* вышукной палiцыi, якi вядзе расследаванне крымiнальных спраў; 2) лiтаратурны твор або кiнафiльм, у якiм расказваецца аб прыгодах сышчыкаў, шпiёнаў.

**ДЭТЭРГЕ́НТЫ** (англ. detergent, ад лац. detergere = ачышчаць) — паверхнева-актыўныя сiнтэтычныя рэчывы, якiя выкарыстоўваюцца ў прамысловасцi i быце як мыйныя сродкi i *эмульгатары*.

**ДЭТЭРМIНАВА́ЦЬ** (лац. determinare) — акрэслiваць, вызначаць.

**ДЭТЭРМIНА́НТ** (лац. determinans, -ntis = якi вызначае) — выраз, якi складаецца з элементаў *матрыцы* 2 i служыць для рашэння лiнейных сiстэм ураўненняў.

**ДЭТЭРМIНА́НТА** (лац. determinans, -ntis = якi вызначае) — прычына, якая вызначае ўзнiкненне з'явы.

**ДЭТЭРМIНАТЫ́Ў** (ад лац. determinare = вызначаць) — *лiнгв.* старажытны элемент суфiксальнага тыпу, якi цесна зросся з коранем слова.

**ДЭТЭРМIНА́ЦЫЯ** (лац. determinatio = вызначэнне) — узнiкненне якаснай своеасаблiвасцi памiж часткамi зародка на раннiх стадыях яго развiцця.

**ДЭТЭРМIНÍЗМ** (ад лац. determinare = вызначаць) — фiласофская канцэпцыя, якая прызнае аб'ектыўную заканамернасць i прычын-

ную залежнасць усіх з'яў прыроды і грамадства (проціл. *індэтэрмінізм*).

**ДЭТЭРЫЯРА́ЦЫЯ** (ад лац. deterior = горшы) — *уст.* псаванне, пагаршэнне.

**ДЭЎТЭРАГАНІ́СТ** (гр. deuteragonistes = другі акцёр) — другі з трох акцёраў у старажытнагрэчаскім тэатры, выканаўца негалоўнай ролі (параўн. *пратаганіст*, *трытаганіст*).

**ДЭ-ФА́КТА** (лац. de facto) — фактычна, сапраўды (проціл. *дэ-юрэ*).

**ДЭФАЛІЯ́НТЫ** (ад *дэ-* + лац. folium = ліст) — хімічныя рэчывы, якія выклікаюць ападанне лісця з раслін.

**ДЭФАЛІЯ́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + лац. folium = ліст) — апрацоўка раслін *дэфаліянтамі*, каб палегчыць механізаваную ўборку ўраджаю (напр. бавоўніку); абязлісценне.

**ДЭФАРМАВА́ЦЬ** (лац. deformare) — змяняць форму якога-н. цела, уздзейнічаючы на яго (напр. д. метал).

**ДЭФАРМА́ЦЫЯ** (лац. deformatio) — змяненне формы і памераў цела пад уздзеяннем знешніх сіл (напр. д. пазваночніка).

**ДЭФАСФАРА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *фосфар*) — выдаленне фосфару з расплаўленага металу (чыгуну, сталі) акісленнем.

**ДЭФЕКА́Т** (лац. defaecatus = выдалены) — адходы цукровай вытворчасці, што змяшчаюць вапну.

**ДЭФЕКА́ТАР** (ад лац. defaecare = ачышчаць) — апарат для *дэфекацыі* 3.

**ДЭФЕКА́ЦЫЯ** (лац. defaecatio) — 1) ачышчэнне ад бруду; 2) вывядзенне з арганізма праз анальную адтуліну калавых мас; 3) ачышчэнне бурковага соку ад прымесей пры вырабе цукру.

**ДЭФЕ́КТ** (лац. defectus) — загана, недахоп; д. м а с ы — памяншэнне масы пры злучэнні свабодных элементарных часціц (пратонаў, нейтронаў і інш.) у адзіную сістэму, напр. атамнае ядро.

**ДЭФЕКТАЛО́ГІЯ** (ад *дэфект* + *-логія*) — навука, якая вывучае заканамернасці і асаблівасці развіцця дзяцей з фізічнымі і псіхічнымі недахопамі і пытанні іх навучання і выхавання.

**ДЭФЕКТАСКАПІ́Я** (ад *дэфект* + *-скапія*) — сукупнасць метадаў выяўлення ўнутраных дэфектаў матэрыялаў і вырабаў.

**ДЭФЕКТАСКО́П** (ад *дэфект* + *-скоп*) — прыбор для выяўлення ўнутраных дэфектаў матэрыялаў і вырабаў.

**ДЭФЕКТО́ЛАГ** (ад *дэфект* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *дэфекталогіі*.

**ДЭФЕКТЫ́ЎНЫ** (лац. defectivus) — з фізічнымі і псіхічнымі недахопамі; ненармальны (напр. *д-ае дзіця*).

**ДЭФЕНЗІ́ВА**[1] (фр. défensive) — *уст.* абаронная *тактыка* ў вайне.

**ДЭФЕНЗІ́ВА**[2] (польск. defensywa, ад фр. défensive) — ахоўная паліцыя ў Польшчы (1918—1939), якая вяла барацьбу з рэвалюцыйным рухам.

**ДЭФЕРЫЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + лац. ferrum = жалеза) — ачышчэнне вады ад солей жалеза, каб зрабіць яе прыгоднай для піцця і вытворчых мэт.

**ДЭФЕРЭ́НТ** (лац. déferens, -ntis = які нясе) — дапаможная акружнасць, якая прымянялася ў геацэнтрычнай сістэме свету Пталамея для тлумачэння руху планет.

**ДЭФЕТЫ́ЗМ** (фр. défaitisme) — нявер'е ў поспех якой-н. справы.

**ДЭФІБРА́ТАР** (ад *дэфібрацыя*) — тое, што і *дэфібрэр*.

**ДЭФІБРА́ЦЫЯ** (ад фр. défibrer = вылучаць валакно) — працэс раздраблення драўніны ў валакністую масу ў цэлюлозна-папяровай вытворчасці.

**ДЭФІБРЫЛЯ́ТАР** (ад *дэ-* + лац. fibrilla = валаконца) — апарат, прызначаны для спынення *фібрыляцыі* сардэчнай мышцы ўздзеяннем на яе кароткачасовым электрычным токам.

**ДЭФІБРЫЛЯ́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + лац. fibrilla = валаконца) — пабуджэнне сэрца да нармальнай дзейнасці пры дапамозе *дэфібрылятара*.

**ДЭФІБРЫ́РАВАЦЬ** (фр. défibrer = вылучаць валакно) — ператвараць драўніну ў валакністую масу.

**ДЭФІБРЭ́Р** (фр. défibreur) — машына для *дэфібрацыі*.

**ДЭФІЛЕ́** (фр. défile) — цясніна або вузкі, цесны праход (горнае д.).

**ДЭФІЛІ́РАВАЦЬ** (фр. défiler = праходзіць чарадой) — 1) урачыста праходзіць (на парадах, дэманстрацыях); 2) хадзіць туды-сюды, прагульвацца.

**ДЭФІНІТЫ́Ў** (лац. definitivus — вызначальны) — форма бухгалтарскага ўліку, заснаванага на *картатэцы*.

**ДЭФІНІТЫ́ЎНЫ** (лац. definitivus = вызначальны) — канчатковы; д-ыя органы — пастаянныя органы дарослай жывёліны ў адрозненне ад часовых лічынкавых і зародкавых органаў; д. гаспадар — жывёла, у якой паразіт дасягае палавой спеласці і размнажаецца.

**ДЭФІНІ́ЦЫЯ** (лац. definitio) — кароткае азначэнне асноўнага зместу якога-н. паняцця, якое ўлічвае ўсе істотныя прыметы прадмета, з'явы.

**ДЭФІ́С** (рус. дефис < ням. Divis, ад лац. divisio = раздзел) — кароткая злучальная рыска паміж двума словамі або знак пераносу слова ці яго скарачэння (напр. бела-ружовы, сон-ца, б-ка).

**ДЭФІЦЫ́Т** (лац. deficit = нестае) — 1) недахоп чаго-н., нястача (напр. д. тавараў); 2) недахоп, страта як вынік перавышэння расходаў над даходамі (бюджэтны д.); 3) што-н., чаго няма ў дастатковай колькасці (напр. чарга за дэфіцытам).

**ДЭФЛАГРА́ЦЫЯ** (лац. deflagratio) — павольнае згаранне выбуховага рэчыва ў зараднай камеры або пры няправільным вядзенні падрыўных работ.

**ДЭФЛАРА́НТЫ** (ад *дэ-* + *флора*) — хімічныя рэчывы, якія выкарыстоўваюць для знішчэння кветак раслін з мэтаю папярэджання іх плоданашэння.

**ДЭФЛАРА́ЦЫЯ** (п.-лац. defloratio = зрыванне кветак) — пазбаўленне нявіннасці, парушэнне цэласнасці дзявоцкай плявы.

**ДЭФЛЕГМА́ТАР** (ад дэ- + *флегма*) — апарат для *дэфлегмацыі*.

**ДЭФЛЕГМА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *флегма*) — частковая кандэнсацыя сумесей пары і газаў з утварэннем

флегмы, што дае магчымасць узбагачаць іх нізкакіпячымі кампанентамі.

**ДЭФЛЕ́КТАР** (лац. deflectare = адхіляць, адводзіць) — 1) прыстасаванне для змянення напрамку патоку газу, вадкасці, гукавых хваляў і г. д. 2) выцяжное ўстройства на вентыляцыйнай шахце або коміне, якое працуе пад уздзеяннем ветру.

**ДЭФЛЯ́ТАР** (лац. deflator) — індэкс цэн, які выкарыстоўваецца пры пераразліку цэнавых паказчыкаў у цэнах пэўнага года, каб улічыць уплыў *інфляцыі*.

**ДЭФЛЯ́ЦЫЯ** (лац. deflatio = здзіманне) — 1) змяншэнне колькасці папяровых грошай, выпушчаных у перыяд *інфляцыі*, каб павысіць іх пакупную здольнасць; 2) выдзіманне і шліфаванне горных парод мінеральнымі часцінкамі з дапамогай ветру.

**ДЭФО́МЕТР** [ад *дэфа(рмацыя)* + *-метр*] — прыбор для выяўлення пластаэластычных уласцівасцей *каўчуку* і гумовых сумесей.

**ДЭФРАСТА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + англ. frost = мароз) — размарожванне харчовых прадуктаў (мяса, рыбы і інш.).

**ДЭФРО́СТЭР** (англ. defroster) — 1) камера ў халадзільніку, якая мае ацяпленне і ўзмоцненую цыркуляцыю паветра (для захавання яец, фруктаў і інш.); 2) прыстасаванне для абдзімання цёплым паветрам ветравага шкла аўтамабіля, каб не абмярзала.

**ДЭХКА́НІН** (ад цюрк. dihqan = вясковы) — селянін у Сярэд. Азіі.

**ДЭХЛАРАВА́ЦЬ** (ад *дэ-* + *хлор*) — 1) праводзіць *дэхларацыю* 1; 2) праводзіць *дэхларацыю* 2.

**ДЭХЛАРА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *хлор*) — 1) выдаленне хлору з арганічных злучэнняў, якія змяшчаюць у сабе хлор; 2) ачышчэнне вадаправоднай вады ад хлору, дзе ён застаецца пасля хларавання.

**ДЭЦЫ-** (лац. decem = дзесяць) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае дзесятую долю меры, што названа ў другой частцы.

**ДЭЦЫБЕ́Л** (ад *дэцы-* + *бел*) — лагарыфмічная адзінка адносін энергіі, сілы ў радыётэхніцы, электратэхніцы, акустыцы, роўная 1/10 бела.

**ДЭЦЫГРА́М** (ад *дэцы-* + *грам*) — адзінка вагі, роўная 1/10 грама.

**ДЭЦЫЛІ́ТР** (ад *дэцы-* + *літр*) — мера ёмістасці, роўная 1/10 літра.

**ДЭЦЫ́МА** (лац. decima = дзесятая) — 1) інтэрвал паміж першай і дзесятай ступенямі дыятанічнай *гамы*[1] 1; 2) дзесятая ступень дыятанічнай гамы; 3) *страфа* з дзесяці радкоў.

**ДЭЦЫМА́ЛЬНЫ** (лац. decimalis) — дзесятковы; д - а я с і с т э м а — метрычная сістэма; д - а я в а г а — дзесятковая вага.

**ДЭЦЫМА́ЦЫЯ** (п.-лац. decimatio) — пакаранне смерцю кожнага дзесятага, калі не знойдзены вінаваты (старажытны спосаб расправы, які пазней адрадзілі гітлераўцы).

**ДЭЦЫМЕ́ТР** (ад *дэцы-* + *метр*) — адзінка даўжыні, роўная 1/10 метра.

**ДЭЦЫМО́ЛЬ** (ад лац. decima = дзесятая) — рытмічная фігура з дзесяці гукаў (*нот*) роўнай працягласці.

**ДЭЦЭМВІРА́Т** (лац. decemviratus) — група старажытнарымскіх *дэцэмвіраў* у час выканання спецыяльнага дзяржаўнага даручэння; пасада дэцэмвіра.

**ДЭЦЭМВІ́РЫ** (лац. decemviri) — калегія з дзесяці чалавек, якую ў Стараж. Рыме выбіралі для выканання спецыяльных дзяржаўных даручэнняў.

**ДЭЦЭНТРАЛІЗАВА́ЦЬ** (ад *дэ-* + *цэнтралізаваць*) — праводзіць *дэцэнтралізацыю*.

**ДЭЦЭНТРАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *цэнтралізацыя*) — 1) сістэма кіравання, пры якой частка функцый цэнтральнай улады пераходзіць да мясцовых органаў; 2) адмена цэнтралізацыі.

**ДЭЦЭНТРА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *цэнтр*) — неадпаведнасць восей аптычных элементаў *катадыяптрычнай* сістэмы.

**ДЭЦЭРЭБРА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + лац. cerebrum = мозг) — метад даследавання рэфлекторнай дзейнасці прадаўгаватага і спіннога мозгу пры ізаляцыі іх ад уплыву кары вялікіх паўшар'яў пераразаннем ствалавай часткі галаўнога мозга.

**ДЭШЫФРАВА́ЦЬ** (фр. déchiffrer) — разбіраць напісанае *шыфрам*, тайнопісам або невядомым алфавітам.

**ДЭШЫФРА́ТАР** (ад фр. déchiffrer = разбіраць) — устройства для аўтаматычнага дэшыфравання паведамлення, якое перадаецца ўмоўнымі сігналамі (*кодам*, *шыфрам*); кодапераўтваральнік.

**ДЭЭМУЛЬСА́ТАР** (ад *дэ-* + *эмульсія*) — установка для аддзялення нафты ад вады.

**ДЭЭМУЛЬСА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *эмульсія*) — разбурэнне эмульсіі.

**ДЭЭСКАЛА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *эскалацыя*) — звужэнне маштабаў, змяншэнне, паслабленне чаго-н.; спыненне эскалацыі.

**ДЭЭТНІЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *этнас*) — страта нацыянальна-спецыфічнага ў культуры, мове і побыце этнасу; згортванне або выцясненне нацыянальных формаў грамадскага жыцця.

**ДЭЭТЫМАЛАГІЗА́ЦЫЯ** (ад *дэ-* + *этымалогія*) — страта словам першапачатковых этымалагічных сувязей, страта ў свядомасці носьбітаў мовы сэнсавай сувязі дадзенага слова з утваральнай асновай.

**ДЭ-Ю́РЭ** (лац. de jure) — юрыдычна, на падставе закона, фармальна (проціл. *дэ-факта*).

**Д'ЯБАЛ** (польск. diabeł < ст.-чэш. diabel < лац. diabolus, ад гр. diabolos) — злы дух, чорт, сатана ў рэлігійных уяўленнях.

# Е

**ЕВАНГЕЛІ́СТ** (гр. euangelistes) — 1) аўтар адной з чатырох кананічных частак *евангелля*; 2) член евангелічнай абшчыны або секты.

# Е

**ЕВА́НГЕЛЛЕ** (гр. euangelion = *літар.* добрая вестка) — 1) раннехрысціянскія творы аб «зямным жыцці» Ісуса Хрыста, якія падзяляюцца на кананічныя (Марка, Матфея, Лукі, Іаана), уключаныя царквою ў склад Новага запавета, і апакрыфічныя; 2) *перан.* твор, у якім змяшчаюцца асноўныя прынцыпы чаго-н.

**Е́ГЕР** (ням. Jäger) — 1) прафесіянальны паляўнічы, які кіруе паляваннем; 2) служачы запаведніка, які даглядае і вывучае жывёл і птушак, што там разводзяцца; 3) салдат асобых стралковых (егерскіх) палкоў у некаторых еўрапейскіх арміях у 18—19 ст.

**ЕГЕРМА́ЙСТАР** (ням. Jägermeister) — начальнік над прыдворнымі *егерамі.*

**ЕГІПТАЛО́ГІЯ** (ад гр. Aigyptos + *-логія*) — комплексная навука, якая вывучае мову, гісторыю, культуру Стараж. Егіпта.

**Е́ДНАСЦЬ** (польск. jedność) — 1) адзінства, згуртаванасць; 2) агульнасць, супольнасць.

**ЕЗУІ́Т** (с.-лац. iesuita, ад лац. Jesus = Ісус) — 1) член манаскага каталіцкага ордэна «Таварыства Ісуса», заснаванага ў 1534 г. для барацьбы з *Рэфармацыяй* і абароны папства; 2) *перан.* хітры, крывадушны чалавек, здольны на ўсякую подласць.

**ЕКЦЕ́ННЯ** (гр. ekteneia = шчырасць) — частка праваслаўнага набажэнства.

**-ЕМІЯ** гл. *-эмія.*

**ЕПА́РХІЯ** (гр. eparchia) — царкоўна-адміністрацыйная тэрытарыяльная адзінка ў праваслаўнай, каталіцкай і англіканскай цэрквах.

**ЕПІ́СКАП** (гр. episkopos) — вышэйшае духоўнае званне ў праваслаўнай царкве (параўн. *біскуп*).

**ЕПІСКАПА́ЛЬНЫ** (лац. episcopalis, ад гр. episkopos = епіскап) — які належыць *епіскапу.*

**ЕПІСКАПА́Т** (лац. episcopatus, ад гр. episkopos = епіскап) — 1) улада *епіскапа*; 2) епіскапы дадзенай царкоўнай акругі, дадзенага краю.

**ЕПІТРАХІ́ЛЬ** (гр. epitrachelion) — частка абрадавага адзення праваслаўнага святара, якая носіцца на шыі і мае выгляд доўгага палотнішча з крыжамі.

**ЕПІТЫ́М'Я** (гр. epitimia) — пакаранне ў выглядзе посту, доўгіх малітваў, якое накладаецца царквой на таго, хто парушае рэлігійныя нормы.

**Е́РАСЬ** (гр. hairesis) — 1) рэлігійная плынь, варожая догматам пануючай рэлігіі; 2) *перан.* адступленне ад агульнапрынятых правіл, палажэнняў; 3) *перан.* бязглуздзіца, лухта (несці е.).

**ЕРАТЫ́К** (гр. hairetikos) — 1) адступнік ад догматаў пануючай рэлігіі, паслядоўнік *ерасі*; 2) *перан.* той, хто адступае ад агульнапрынятых правіл, палажэнняў.

**ЕСАЎ́Л** (тат. jasoul) — 1) казацкі чын пасля *гетмана* ў 16—17 ст.; 2) афіцэрскі чын у казацкіх войсках царскай арміі, які адпавядаў чыну *капітана* ў пяхоце і *ротмістра* ў кавалерыі.

**ЕЎГЕ́НІКА** (англ. eugenics, ад гр. eugenes = добрага паходжання) — кірунак у *генетыцы*, які распра-

цоўвае праблемы паляпшэння біялагічных уласцівасцей чалавека.

**Е́ЎНУХ** (гр. eunuchos = ахоўнік ложа) — кастрыраваны наглядчык за жанчынамі ў *гарэме*.

**ЕЎНУХАІДЫ́ЗМ** (ад *еўнух* + гр. eidos = выгляд) — захворванне, абумоўленае прыроджанай або набытай недастатковасцю палавых залоз або недастатковасцю выдзялення *гіпофізам* ганадатропнага гармона.

**ЕЎПАТРЫ́ДЫ** (гр.eupatrides) — родавая знаць у Старaж. Афінах.

**ЕЎРАДО́ЛАРЫ** (англ. Eurodollar) — часовыя свабодныя рэсурсы ў доларах ЗША, пакладзеныя арганізацыямі і прыватнымі асобамі ў еўрапейскія банкі, якія выкарыстоўваюць іх для прадастаўлення крэдытаў.

**ЕЎРАКА́РД** (англ. Eurocard) — міжнародная крэдытная картка з правам карыстання ёй у любой краіне, якая з'яўляецца ўдзельніцай еўрапейскай банкаўскай сістэмы.

**ЕЎРАКО́СМАС** (ад лац. Europa + *космас*) — аб'яднанне прамысловых прадпрыемстваў 11 краін Еўропы, створанае ў 1961 г. для развіцця касмічнай тэхнікі і касманаўтыкі.

**ЕЎРАПЕО́ІД** (ад лац. Europa + *-оід*) — прадстаўнік расы, для якой характэрна светлая скура, мяккія валасы, вузкі выступаючы нос, тонкія губы.

**ЕЎРОПАЦЭНТРЫ́ЗМ** (ад лац. Europa + *цэнтрызм*) — прынцып і пазіцыя, паводле якіх падзеі ў свеце разглядаюцца і ацэньваюцца з еўрапейскага пункту гледжання.

**ЕЎРО́ПІЙ** (н.-лац. europium, ад лац. Europa = Еўропа) — хімічны элемент з сям. *лантаноідаў*, рэдказямельны метал серабрыста-белага колеру; выкарыстоўваецца як паглынальнік нейтронаў у ядзернай тэхніцы, актыватар люмінафораў у каляровым тэлебачанні.

**ЕЎРЫО́ПІС** (н.-лац. euryopis) — павук сям. цянётнікаў, які трапляецца ў фауне Беларусі.

**ЕЎСТА́ХІЕЎ** (ад іт. Eustachio = прозвішча іт. ўрача-анатама 16 ст.); е - а я т р у б а — канал, які злучае сярэдняе вуха з насаглоткай.

**ЕЎХАРЫ́СТЫЯ** (гр. eucharistia) — прычашчэнне, адно з сямі хрысціянскіх таінстваў.

**ЕШЫБО́Т** (яўр. jeszibot chochme = сядзіба мудрасці) — *уст.* яўрэйская духоўная *семінарыя*.

# Ё

**ЁГ** (санскр. yōga = засяроджанне, сузіранне) — паслядоўнік *ёгі*.

**ЁГА** (санскр. yōga = засяроджанне, сузіранне) — вучэнне аб метадах і прыёмах кіравання *псіхікай* і *псіхафізіялогіяй* чалавека як аснова старажытнаіндыйскіх рэлігійна-філасофскіх сістэм; сцвярджае,

што шляхам дыхальных, фізічных і маральных трэніровак можна выйсці з-пад улады пачуццяў і законаў прыроды.

**ЁГАТЭРАПІ́Я** (ад *ёга* + *тэрапія*) — лячэнне хвароб і папярэджванне іх метадамі ёгі.

**ЁД** (н.-лац. iodium, ад гр. iodes = іржавы) — 1) хімічны элемент з групы *галагенаў*, рэчыва ў выглядзе цёмна-шэрых крышталёў, якое здабываецца галоўным чынам з марскіх водарасцяў; выкарыстоўваецца ў медыцыне, фатаграфіі, тэхніцы; 2) спіртавы раствор гэтага рэчыва, прызначаны для медыцынскіх мэт.

**ЁДАМЕ́ТРЫЯ** (ад *ёд* + *-метрыя*) — метад колькаснага аналізу, што грунтуецца на рэакцыях акіслення, асноўным *рэагентам* якіх з'яўляецца ёд.

**ЁДАФО́РМ** (фр. iodoforme) — лячэбны прэпарат, арганічнае злучэнне *ёду* ў выглядзе крышталічнага жоўтага парашку; выкарыстоўваецца як антысептычны сродак.

**ЁДЛЬ** (ням. Jodel) — жанр народных песень у альпійскіх горцаў.

**ЁДЫ́ДЫ** (ад *ёд*) — злучэнні ёду з іншымі элементамі; выкарыстоўваюцца ў медыцыне, фатаграфіі і інш.

**ЁМЕНРЫ** (англ. yeomanry) — 1) лейб-гвардыя англійскага караля; 2) даўнейшая англійская добраахвотная тэрытарыяльная конніца, што складалася з дваран і землеўласнікаў.

**ЁМЕНЫ** (англ. yeomen) — заможнае і сярэдняе сялянства ў Англіі 14—18 ст., залежнае ад буйных землеўласнікаў, пазней — арандатары, дробныя землеўласнікі.

**ЁТ** (гр. iota = ёта) — *лінгв.* нескладовы шчылінны сярэднеязычны *санант*, які прымыкае да папярэдняга гука і ў транскрыпцыі абазначаецца знакам «J».

**ЁТА** (гр. iota) — літара грэчаскага алфавіта (I), якая абазначае гук «і»; н і  н а  ё т у — ані, ніколькі.

**ЁТА́ЦЫЯ** (ад *ёт*) — *лінгв.* з'яўленне зычнага гука *ёт* у пачатку слова перад галосным або ў сярэдзіне слова паміж галоснымі гукамі.

**ЁЎНЯ** (літ. jáuja) — будыніна з печкай для прасушвання снапоў перад малацьбой (звычайна пад тым жа дахам, што і ток).

# Ж

**ЖАБО́** (фр. jabot) — 1) карункавая зборчатая абшыўка вакол каўняра і на грудзях мужчынскай кашулі, модная ў 18 ст.; 2) высокі каўнер мужчынскай кашулі, які закрываў ніжнія часткі шчок; быў пашыраны ў 19 ст.; 3) аздоба з карункаў або лёгкай тканіны ў зборках на грудзях каўняра жаночай блузкі, сукенкі.

**ЖАБРАВА́ЦЬ** (ст.-польск. żebrować, ад ст.-в. ням. seffr) — збіраць міласціну.

**ЖАБРА́К** (польск. żebrak, ад ст.-в.ням. seffr) — той, хто *жабруе*, жыве з міласціны.

**ЖАВЕ́ЛЬ** (фр. javel, ад eau de Javelle = вада Жавеля, мясціны пад Парыжам) — хлорысты раствор, едкая зеленавата-жоўтая вадкасць, якая выкарыстоўваецца для адбельвання тканін.

**ЖАГНА́ЦЬ** (польск. żegnać, ад ням. segnen) — 1) хрысціць крыжам каго-н., што-н.; 2) благаслаўляць.

**ЖАДЭІ́Т** (фр. jadeite) — мінерал, які належыць да групы манаклінных піраксенаў, сілікат натрыю і алюмінію зялёнага, белага ці карычневага колеру; каштоўны вырабны камень.

**ЖАК** (польск. żak < с.-в.-ням. sac, ад лац. saccus) — рыбалоўная прылада — нерат з двума крыламі.

**ЖАКА́РД** [фр. J. Jacquard = прозвішча фр. вынаходцы (1752—1834)] — тканіна з вельмі складаным буйнаўзорыстым малюнкам, вытканая на спецыяльнай (жакардавай) машыне.

**ЖАКЕ́Й** (англ. jockey) — 1) прафесіянальны яздок на конных скачках; 2) спецыяліст па трэнінгу коней-скакуноў; 3) артыст цырка, які выконвае на неасядланым кані акрабатычныя трукі.

**ЖАКЕ́РЫЯ** (фр. Jacquerie, ад Jacques Bonhomme = Жак-Прасцяк, зняважлівая мянушка, якою дваране называлі сялян) — антыфеадальнае сялянскае паўстанне ў Францыі ў 1358 г.

**ЖАКЕ́Т** (фр. jaquette) — верхняя жаночая вопратка, карацейшая за паліто.

**ЖАКО́** (фр. jacquot) — шэры афрыканскі *папугай* з ярка-чырвоным хвастом.

**ЖАКО́Б** (фр. Jacob = прозвішча сям'і французскіх майстроў мастацкай мэблі 18—пач. 19 ст.) — стыль мэблі чырвонага дрэва з накладнымі бронзавымі або латуннымі аздобамі.

**ЖАЛАНЁРЫ** (фр. jalonneur = *літар.* расстаноўшчык вех) — салдаты ў царскай арміі, якія на вучэнні або на парадзе расстаўляліся па лініі пастраення і руху войск; лінейныя (гл. *лінейны* 4).

**ЖАЛО́Н** (фр. jalon = вяха) — вяха, пры дапамозе якой вызначаюць напрамак у час землямерных работ.

**ЖАЛЮЗІ́** (фр. jalousie) — 1) аконныя шторы з вузкіх драўляных пласцінак на шнурах, якія выкарыстоўваюцца для рэгулявання светлавой і паветранай плыні; 2) металічныя вентыляцыйныя рашоткі, якія ўстанаўліваюцца на пражэктарах, самалётах і інш.

**ЖАНГЛЁР** (фр. jongleur) — 1) вандроўны спявак, музыкант, акцёр, акрабат у сярэдневяковай Францыі (параўн. *гістрыён* 2, *шпільман*); 2) цыркавы артыст, які спрытна падкідвае і ловіць адначасова некалькі прадметаў; 3) *перан.* той, хто спрытна, адвольна абыходзіцца з фактамі, словамі і інш.

**ЖАНГЛІ́РАВАЦЬ** (фр. jongler) — 1) падкідваць і спрытна лавіць на ляту адначасова некалькі прадметаў; 2) *перан.* спрытна, ад-

вольна абыходзіцца з фактамі, словамі і інш.

**ЖАНДА́Р** (фр. gendarme = паліцэйскі салдат) — паліцэйскі, які знаходзіўся на службе ў *жандармерыі.*

**ЖАНДАРМЕ́РЫЯ** (фр. gendarmerie) — спецыяльнае паліцэйскае войска ў многіх еўрапейскіх краінах 19— пач. 20 ст.; выконвала функцыі вышукной і палітычнай паліцыі.

**ЖАНКІ́ЛЬ** (фр. jonquille) — від *нарцыса* з дробнымі пахучымі кветкамі, які вырошчваецца як дэкаратыўная расліна.

**ЖАНР** (фр. genre) — 1) гістарычна выпрацаванае ўнутранае падраздзяленне ва ўсіх відах мастацтва з уласцівымі яму мастацкімі асаблівасцямі, напр. у літаратуры — *раман*, *паэма*, *камедыя* і інш., у музыцы — *сімфонія*, *кантата*, песня і інш., у выяўленчым мастацтве — *партрэт*, *пейзаж*, *нацюрморт* і інш. 2) жывапіс на бытавыя сюжэты.

**ЖАНРЫ́СТ** (ад *жанр*) — мастак, які займаецца жывапісам на бытавыя тэмы, спецыяліст па *жанру* 2.

**ЖАНТЫ́ЛЬНЫ** (фр. gentil) — *уст.* манерны, какетлівы; спешчаны.

**ЖАРГАНІ́ЗМ** (ад *жаргон*) — слова або выраз любога жаргону, якія выкарыстоўваюцца за яго межамі (толькі ў гутарковай мове і мастацкай літаратуры).

**ЖАРГО́Н** (фр. jargon) — мова якой-н. сацыяльнай групы людзей, насычаная словамі і выразамі, уласцівымі толькі для дадзенай групы і незразумелымі для ўсіх астатніх (напр. акцёрскі ж., марскі ж.).

**ЖАРДЫНЬЕ́РКА** (фр. jardinière, ад jardin = сад) — прыгожа аформленая карзінка або скрынка для вырошчвання пакаёвых кветак.

**ЖАРТ** (польск. żart, ад с.-в.-ням. schërz) — 1) востры дасціпны выраз; н е н а ж а р т — вельмі сур'ёзна; 2) невялікая камічная п'еса, звычайна бытавога характару.

**ЖАРТАВА́ЦЬ** (польск. żartować, ад żart = жарт) — 1) гаварыць штон. несур'ёзна, смехам, для пацехі; 2) насміхацца, кпіць; 3) недаацэньваць чаго-н. (напр. ж. з агнём, ж. з хваробай).

**ЖАЎНЕ́Р** (польск. żolnierz, ад с.-в.-ням. soldnaere) — салдат польскай арміі, а ў 14—17 ст. і арміі Вялікага княства Літоўскага.

**ЖВАКА-ГА́ЛС** (гал. zwak-hals) — прымацаваны да корпуса судна кавалак ланцуга з круком, да якога прымацоўваецца якарны ланцуг.

**ЖОК** (рум. joc, ад лац. iocus = жарт) — малдаўскі народны танец.

**ЖУІ́Р** (фр. jouir) — *уст.* чалавек, які шукае ў жыцці толькі асалоды, уцехі.

**ЖУПА́Н** (польск. żupan < іт. giuppone, ад ар. džubba) — старадаўняе верхняе мужчынскае адзенне з каляровага сукна са стаячым каўняром і вузкімі рукавамі, якое насіла польская, беларуская і ўкраінская шляхта.

**ЖУРНА́Л** (фр. journal) — кніга або сшытак для перыядычнага запісу падзей, здарэнняў, для ўліку паспяховасці вучняў (напр. ж. дзяжурства, класны ж.).

**ЖУРНАЛІ́СТ** (рус. журналист, ад фр. journal = журнал) — прафесіянальны літаратурны работнік газет, часопісаў, радыё, тэлебачання.

**ЖУРНАЛІ́СТЫКА** (ад *журналіст*) — 1) від творчай дзейнасці грамадскага кірунку па зборы, апрацоўцы і распаўсюджванні актуальных паведамленняў і звестак праз сродкі масавай інфармацыі — друк, радыё, тэлебачанне, кіно і інш.; 2) навука пра ролю і месца сродкаў масавай інфармацыі ў жыцці грамадства, пра формы і метады журналісцкай дзейнасці.

**ЖУРФІ́КС** (фр. jour fixe = пэўны дзень) — *уст.* дзень тыдня, вызначаны для прыёму гасцей.

**ЖУРЫ́** (фр. jury) — 1) група спецыялістаў-экспертаў на конкурсе, спаборніцтве, выстаўцы, якая вызначае ступень майстэрства ўдзельнікаў і прысуджае прэміі і ўзнагароды; 2) калегія прысяжных (непрафесіянальных суддзяў), якія ўдзельнічаюць у разглядзе крымінальных і грамадзянскіх спраў у Францыі, Вялікабрытаніі, ЗША і некаторых іншых краінах.

**ЖЫ́ГА** (фр. gigue, ад англ. jig) — 1) сярэдневяковы смычковы музычны інструмент; 2) даўні англійскі парны танец кельцкага паходжання, які з 17 ст. стаў салонным; 3) заключная частка *сюіты*.

**ЖЫКЛЁР** (фр. gicleur) — дэталь з калібраванай адтулінай для дазіроўкі расходавання вадкасці або газу.

**ЖЫРАБА́НК** (ад іт. giro = абарот + *банк*) — банк, які здзяйсняе безнаяўныя разлікі паміж сваімі кліентамі.

**ЖЫРАКО́МПАС** (ад гр. gyros = кола, круг + *компас*) — тое, што і *гіракомпас*.

**ЖЫРАНДО́ЛЬ** (фр. girandole) — 1) *уст.* фігурны падсвечнік для некалькіх свечак; 2) *фантан* з некалькімі струменямі.

**ЖЫРАНДЫ́СТ** (ад *жыронда*) — член *жыронды*.

**ЖЫРА́НТ** (ням. Girant, ад іт. girante) — тое, што і *індасант*.

**ЖЫРАСКО́П** (ад гр. gyros = кола, круг + *-скоп*) — тое, што і *гіраскоп*.

**ЖЫРА́Т** (ням. Girat, ад іт. giratario) — тое, што і *індасат*.

**ЖЫРА́ФА** (фр. girafe, ад ар. zurafa) — плямістая жвачная жывёла атрада парнакапытных з доўгай шыяй і доўгімі нагамі, якая пашырана ў Афрыцы.

**ЖЫРО́** (іт. giro) — 1) тое, што і *індасамент*; 2) від безнаяўных разлікаў у краінах Захаду (жыраразлікі) праз разліковыя чэкі.

**ЖЫРО́БУС** [ад гр. gyros = кола, круг + (*омні*)*бус*] — тое, што і *гіробус*.

**ЖЫРО́НДА** (фр. Gironde = вобласць у Францыі) — палітычная групоўка ў перыяд Французскай рэвалюцыі 1789—1799 гг., якая перайшла на бок контррэвалюцыі.

**ЖЭЛАЦІ́Н**, **ЖЭЛАЦІ́НА** (фр. gélatine, ад лац. gelatus = застылы) — бялковае рэчыва жывёльнага паходжання, раствор якога пры ахаладжэнні пераходзіць у студзяністы стан; выкарыстоўваецца ў кулінарыі, фатаграфіі, тэхніцы.

**ЖЭЛЕ́** (фр. gelée) — салодкая студзяністая страва з фруктова-ягад-

# Ж

ных сокаў, малака і іншых прадуктаў з дабаўленнем *жэлаціну*.

**ЖЭ́МЧУГ** (ст.-цюрк. jenčū, ад кіт. čen-ču) — каштоўнае перламутравае рэчыва ў форме зярнят белага, ружовага, жоўтага, радзей чорнага колеру, якое здабываецца з ракавін некаторых малюскаў.

**ЖЭН-ПРЭМ'Е́Р** (фр. jeune premier) — *амплуа* акцёра, які выконвае ролі маладых закаханых.

**ЖЭНЬ** (кіт. žen = чалавек) — *філас.* асноўная кітайская канфуцыянская дабрачыннасць; любоў да чалавека, дабрата і справядлівасць.

**ЖЭНЬШЭ́НЬ** (кіт. žen-žen = корань жыцця) — від *панакса* з доўгачаранковым лісцем і дробнымі зеленавата-белымі кветкамі, пашыраны ва Усх. Азіі, карэнне якога высока цэніцца як лячэбны сродак; на Беларусі вырошчваецца аматарамі.

**ЖЭО́ДА** (фр. géode) — мінеральнае ўтварэнне акруглай формы ў пустотах горных парод.

**ЖЭРА́РДЫЯ** (н.-лац. sherardia) — травяністая расліна сям. марэнавых з востраканцовым лісцем і ярка-ліловымі кветкамі, пашыраная пераважна ў Міжземнамор'і, Азіі, Паўн. Амерыцы; на Беларусі вельмі рэдкая, заносная.

**ЖЭРМІНА́ЛЬ** (фр. germinal, ад лац. germen = парастак) — сёмы месяц (з 21—22 сакавіка да 19—20 красавіка) французскага рэспубліканскага календара, які дзейнічаў у 1793—1805 гг.

**ЖЭСТ** (фр. geste) — 1) рух рукі, галавы для пацвярджэння сказанага, падачы якіх-н. знакаў, сігналаў; 2) *перан.* учынак, зроблены з якой-н. паказной мэтай (напр. ж. ветлівасці).

**ЖЭСТЫКУЛЯВА́ЦЬ** (фр. gesticuler) — рабіць рухі рукамі, ківаць галавой для пацвярджэння сказанага або падачы якіх-н. сігналаў.

**ЖЭСТЫКУЛЯ́ЦЫЯ** (лац. gesticulatio) — манера жэстыкуляваць, выкананне жэстаў.

**ЖЭТО́Н** (фр. jeton) — 1) металічны значок, які паказвае на прыналежнасць да якой-н. арганізацыі або выдаецца на памяць аб якой-н. падзеі; 2) металічны або пластмасавы кружок, які дае права на атрыманне чаго-н., замяняе манету (напр. для аплаты праезду ў метро).

**ЖЭТЭ́** (фр. jeter = кідаць) — рух з кідком нагі ў класічным танцы.

# З

**ЗАА-** гл. *зоа-*.

**ЗААБЕ́НТАС** (ад *заа-* + *бентас*) — сукупнасць жывёл, якія насяляюць дно марскіх і прэсных вадаёмаў.

**ЗААГЛЕ́Я** (ад *заа-* + гр. gloios = клей) — скапленне бактэрый (пераважна водных), якія выдзяляюць слізь або маюць слізістыя капсулы.

**ЗААЛА́ТРЫЯ** (ад *заа-* + *-латрыя*) — сукупнасць абрадаў і вераванняў, звязаных з рэлігійным культам жывёл; была пашырана ў Стараж. Егіпце, Індыі і іншых краінах.

**ЗААЛО́ГІЯ** (ад заа- + *-логія*) — навука, якая вывучае жывёльны свет.

**ЗААМА́СА** (ад *заа-* + *маса*) — сумарная маса ўсіх жывёл або іх часткі ў любым згуртаванні (*біяцэнозе*, *аграцэнозе*, *экасістэме*).

**ЗААНО́ЗЫ** (ад *заа-* + *-ноз*) — інфекцыйныя хваробы жывёл (чума, бруцэлёз, сап і інш.), якімі могуць заражацца людзі.

**ЗААСПО́РЫ** (ад *заа-* + *споры*) — клеткі водарасцей і прасцейшых грыбоў, якія здольны рухацца ў вадзе пры дапамозе жгуцікаў і служаць для бясполага размнажэння.

**ЗААТЭ́ХНІК** (ад *заатэхніка*) — спецыяліст у галіне *заатэхніі*.

**ЗААТЭ́ХНІКА** (ад *заа-* + *тэхніка*) — тое, што і *заатэхнія*.

**ЗААТЭ́ХНІЯ** (ад *заа-* + гр. techne = майстэрства) — навука аб развядзенні, гадоўлі і правільным выкарыстанні сельскагаспадарчых жывёл.

**ЗААФА́ГІ** (ад *заа-* + *-фаг*) — арганізмы, якія жывяцца толькі жывёльнай ежай.

**ЗААФЕ́РМА** (ад *заа-* + *ферма*) — жывёлагадоўчая ферма.

**ЗААФІ́ЛІЯ** (ад *заа-* + *-філія*) — 1) разнавіднасць палавой ненармальнасці, пры якой палавая цяга накіравана на жывёл; 2) перакрыжаванае апыленне раслін з дапамогай *жывёл, звычайна насякомых*, іншы раз — птушак (калібры) і млекакормячых.

**ЗААХО́РЫ** (ад *заа-* + гр. choreo = распаўсюджваюся) — расліны, насенне і плады якіх разносяцца жывёламі.

**ЗААХО́РЫЯ** (ад *заа-* + *-хорыя*) — распаўсюджанне насення і пладоў раслін жывёламі, за цела якіх яны чапляюцца або выдзяляюцца з *экскрэментамі*.

**ЗААЦЫ́ДЫ** (ад *заа-* + *-цыды*) — хімічныя рэчывы для барацьбы са шкоднымі пазваночнымі жывёламі, гал. ч. з грызунамі (*радэнтыцыды*) і птушкамі (*авіяцыды*).

**ЗАДЫЯ́К** [ гр. zodiakos (kyklos) = звярыны (круг)] — дванаццаць сузор'яў, праз якія Сонца праходзіць свой бачны шлях на працягу года; з н а к і  з а д ы я к а — абазначэнні 12 сузор'яў, якія размешчаны ўздоўж *эклiптыкі* і названы пераважна імёнамі жывёл (Рак, Леў, Скарпіён і інш.).

**ЗАІ́Л** [гр. Zoilos = прозвішча старажытнагрэчаскага філосафа і крытыка (4 ст. да. н.э.)] — *уст.* злосны, прыдзірлівы крытык.

**ЗА́ЛА**, **ЗАЛ** (ням. Saal) — 1) вялікае памяшканне для мнагалюдных сходаў, якіх-н. заняткаў і інш. (напр. актавая з.); 2) прасторны пакой у кватэры, прызначаны для прыёму гасцей.

**ЗАЛП** (рус. залп, ад ням. Salve) — адначасовы выстрал з некалькіх гармат, мінамётаў, ракетных і рэактыўных пускавых установак, тарпедных апаратаў, стралковай і іншай зброі.

**ЗА́ЛЬБАНД** (ням. Salband) — абалонка мінеральнай жылы, якая ад-

дзяляе жылу ад горных парод, што яе акружаюць.

**ЗА́МАК** (польск. zamek < чэш. zamek) — 1) сярэдневяковая крэпасць, умацаванае жыллё феадала (напр. Навагрудскі з., Крэўскі з.); 2) вялікі панскі палац.

**ЗА́МША, ЗАМШ** (ст.-польск. zamsza, zamsz, ад с.-в.-ням. saemisch leder) — мяккая, спецыяльна апрацаваная шкура аленя, лася, авечкі з аксамітнай паверхняй.

**ЗАНА́ЛЬНЫ** (ад *зона*) — які мае адносіны да пэўнай зоны, характэрны ёй (напр. з-ая раслінасць, з. турнір).

**ЗАНДЗІ́РАВАЦЬ** (фр. sonder) — 1) даследаваць пры дапамозе *зонда* (напр. з. рану); 2) *перан.* папярэдне выясняць якое-н. пытанне; разведваць, распытваць.

**ЗА́НДРЫ** (ісл. sandr, ад sand = пясок) — раўніны, утвораныя каля краёў марэнных град старажытных леднікоў талымі водамі.

**ЗАО́ІД** (ад *заа-* + *-оід*) — асобіна *калоніі* ў каланіяльных арганізмаў.

**ЗАО́ЛАГ** (ад *заа-* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *заалогіі*.

**ЗАРАПТЭ́РЫ** (н.-лац. zoraptera) — атрад насякомых з няпоўным пераўтварэннем (сумяшчаюць прыметы тараканавых і тэрмітаў); жывуць у лясным подсціле, гнілой драўніне, пад карой.

**-ЗАЎР** (гр. sauros = яшчарка) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на прыналежнасць да выкапнёвых паўзуноў.

**ЗАЎРАЛО́Ф** (ад гр. sauros = яшчарка + lophos = грэбень) — раслінаедны *дыназаўр* падатрада *арнітаподаў* з моцна развітым гарпунападобным грэбенем чэрапа, які жыў у мелавы перыяд (гл. *мезазой*).

**ЗАЎРАПО́ДЫ** (ад гр. sauros = яшчарка + *-поды*) — група чатырохногіх раслінаедных *дыназаўраў* юрскага і мелавога перыядаў (гл. *мезазой*) з тазам і канечнасцямі такога ж тыпу, як і ў *рэптылій*; тыповыя прадстаўнікі — *антарктазаўр*, *брантазаўр*, *брахіязаўр*, *дыпладок*.

**ЗАЎРАПТЭРЫ́ГІІ** (н.-лац. sauropterygia) — атрад вымерлых водных драпежных паўзуноў, якія жылі ў *трыясе*.

**ЗАЯ́ДЛЫ** (польск. zajadły) — 1) які надта прыахвоціўся да чаго-н.; заўзяты (напр. з. танцор); 2) які вядзецца, выконваецца з асаблівай упартасцю, напорыстасцю; зацяты (напр. з-ая барацьба); 3) злосны, задзірысты (напр. з. чалавек).

**ЗБРО́Я** (польск. zbroja) — 1) прылада, рэч для нападу ці абароны (напр. халодная з., агнястрэльная з.); 2) *перан.* сродак, спосаб для дасягнення, здзяйснення чаго-н. (напр. друк — магутная з.).

**ЗБРУ́Я** (польск. zbroja, zbrój) — прадметы і прыналежнасці для запрагання або сядлання коней; вупраж.

**ЗДРА́ДА** (польск. zdrada) — пераход на бок ворага; парушэнне вернасці каму-н., (напр. з. радзіме, з. ідэалам).

**ЗЕБО́ІД** (ад *зебу* + *-оід*) — *гібрыд* буйной рагатай жывёлы і зебу.

**ЗЕ́БРА** (парт. zebra) — дзікі афрыканскі конь з паласатай афарбоўкай цела.

**ЗЕБРО́ІД** (ад *зебра* + *-оід*) — *гібрыд* каня або асла і зебры.

**ЗЕ́БУ** (фр. zébu, ад тыбецк. zeba) — свойская буйная рагатая жывёла з невялікім тлушчавым гарбом на карку, якая пашырана ў Азіі, Афрыцы і Паўд. Амерыцы.

**ЗЕ́ІН** (ад лац. zea = кукуруза) — бялок раслiннага паходжання.

**ЗЕЙГЕРАВА́ЦЬ** (ням. seigern) — раздзяляць цвёрдыя сплавы на састаўныя часткі, улічваючы рознасць тэмператур плаўлення.

**ЗЕЛО́ТЭС** (н.-лац. zelotes) — павук сям. *гнафазідаў*, які жыве пераважна ў хваёвых лясах у моху і подсціле.

**ЗЕ́ЛЬКВА** гл. *дзелька*.

**ЗЕН** (яп. zen) — японскі культ думкі і цела, разнавіднасць *будызму*, якая культывуе ўнутраную дысцыпліну, паглыбленне ў сябе і самасузіранне.

**ЗЕНЗУ́БЕЛЬ** (ням. Simshobel, ад Sims = карніз + Hobel = гэбель) — рубанак для стругання фасонных паверхняў.

**ЗЕНІ́Т** [фр. zénith, ад ар. samt (urrás) = дарога галавы] — 1) *астр.* пункт перасячэння нябеснай сферы з вертыкальнай лініяй, праведзенай уверх ад плоскасці гарызонта (проціл. *надзір*); 2) *перан.* вышэйшая ступень, вяршыня развіцця чаго-н. (напр. з. славы).

**ЗЕНІ́Т-ТЕЛЕСКО́П** (ад *зеніт* + *тэлескоп*) — астранамічны інструмент для вымярэння малых зенітных адлегласцей або малых розніц зенітных адлегласцей зорак з мэтай вызначэння шыраты месца назірання.

**ЗЕНКАВА́ЦЬ** (ням. senken = паглыбляць) — апрацоўваць дэталі для атрымання канічных і цыліндрычных паглыбленняў, апорных плоскасцей вакол адтулін.

**ЗЕ́НКЕР** (ням. Senker) — металарэзны інструмент для апрацоўкі адтулін у дэталях.

**ЗЕФІ́Р** (фр. zéphyr, ад гр. zephyros = заходні вецер) — 1) *паэт.* цёплы лёгкі ветрык; 2) баваўняная тканіна для бялізны; 3) сорт лёгкай фруктовай пасцілы круглай формы; 4) род матылькоў.

**ЗІ́БЕНБУНД** (ням. Siebenbund) — палітычны саюз сямі швейцарскіх кантонаў у 1830—1840-я гг., заснаваны з мэтай узмацнення цэнтралізацыі дзяржавы і дэмакратызацыі яе палітычнага ладу (параўн. *зондэрбунд*).

**ЗІГАГА́МІЯ** (ад гр. zygon = пара, двое + *-гамія*) — тып палавога працэсу ў ніжэйшых грыбоў (*зігаміцэтаў*) і зялёных водарасцей (*кан'югатаў*).

**ЗІГАМІЦЭ́ТЫ** (н.-лац. zygomycetes, ад гр. zygon = пара, двое + mykes, -etos = грыб) — клас ніжэйшых грыбоў, для якога характэрна размнажэнне ў выніку *зігагаміі*; пашыраны па ўсім зямным шары; пераважна *сапратрофы*, ёсць *паразіты*; зігаміцэтавыя грыбы.

**ЗІГАМО́РФНЫ** (ад гр. zygon = пара, двое + *-морфны*) — які мае дзве формы; з - а я к в е т к а — кветка, праз якую можна правесці толькі адну плоскасць сіметрыі, што дзеліць кветку на дзве роўныя часткі, напр. кветка анюціных вочак (параўн. *актынаморфны*).

# З

**ЗІГАСПО́РА** (ад гр. zygon = пара, двое +*спора*) — спора, якая ўтвараецца ў выніку зліцця дзвюх аднолькавых па знешняму выгляду палавых клетак у некаторых водарасцяў і грыбоў.

**ЗІГЕ́ЛА** (н.-лац. zygiella) — павук сям. кругапрадаў, які трапляецца на кары і пад карой дрэў.

**ЗІГЗА́Г** (фр. zigzag, ад ням. Zickzack) — 1) ломаная лінія; тое, што мае форму ломанай лініі (напр. з. маланкі, барана-з.); 2) *перан.* рэзкае адхіленне ад асноўнага напрамку ў палітыцы, дзейнасці, быце (напр. з. лёсу).

**ЗІГМАШЫ́НА** (ням. Siekenmaschine) — ролікавая машына для згібання ліставога металу, утварэння на ім выступаў і паглыбленняў.

**ЗІГНЕ́МА** (н.-лац. zygnema) — ніткаватая зялёная водарасць сям. зігнемавых, якая пашырана ў прэсных вадаёмах.

**ЗІГО́ТА** (гр. zygotos = злучаны) — клетка, якая ўтвараецца ў выніку зліцця дзвюх палавых клетак (*гамет*) у працэсе апладнення жывёл і раслін.

**ЗІЗІ́ФУС** (н.-лац. zizyphus) — дрэвавая або кустовая расліна сям. крушынавых з яйцападобным лісцем і вострымі парнымі шыпамі, пашыраная ў тропіках і субтропіках; некаторыя віды культывуюцца дзеля буйных салодкіх ядомых пладоў.

**ЗІЛЬБЕРГЛЁТ** (ням. Silberglätte) — *глёт*, які атрымліваюць пры выплаўленні серабра з *веркблею*.

**ЗІЛЬБЕРГРО́Ш** (ням. Silbergroschen) — даўняя пруская сярэбраная манета.

**ЗІМАГЕ́НЫ** (ад гр. zyme = закваска + *-ген*) — тое, што і *праферменты*.

**ЗІМА́ЗА** (ад гр. zyme = закваска) — сукупнасць *ферментаў* спіртавога браджэння, якія выдзяляюцца дражджамі і садзейнічаюць ператварэнню цукру ў спірт.

**ЗІМАЛО́ГІЯ** (ад гр. zyme = закваска + *-логія*) — раздзел *хіміі*, які вывучае працэсы браджэння арганічных рэчываў.

**ЗІНГШПІ́ЛЬ** (ням. Singspiel, ад singen = спяваць + Spiel = гульня) — нямецкая камічная опера, у якой спевы і танцы чаргуюцца з размоўнымі *дыялогамі*.

**ЗІНДЖА́НТРАП** (ад ар. Zindž = назва Усх. Афрыкі + *-антрап*) — выкапнёвая чалавекападобная малпа, якая адносіцца да *аўстралапітэкаў*, рэшткі яе знойдзены ва Усх. Афрыцы.

**ЗІПУ́Н** (цюрк. zybun) — старадаўняя верхняя сялянская вопратка ў выглядзе *кафтана* з даматканага сукна.

**ЗЛОТ**, **ЗЛО́ТЫ** (польск. złoty) — грашовая адзінка ў Польшчы, роўная 100 *грошам*.

**ЗОА-**, **ЗАА-** (гр. zoon = жывёла) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «заалагічны» або паказвае на адносіны да жывёльнага свету.

**ЗОААНТРАПАНО́ЗЫ** (ад *зоа-* + *антрапанозы*) — тое, што і *антрапазаанозы*.

**ЗОАВЕТЭРЫНА́РНЫ** (ад *зоа-* + лац. veterinarius = жывёльны) — які датычыць гадоўлі, лячэння і выкарыстання жывёл.

**ЗОАГАНІ́ДЫІ** (ад *зоа-* + *ганідыі*) — клеткі некаторых водарасцяў і грыбоў, здольныя рухацца ў вадзе пры дапамозе жгуцікаў.

**ЗОАГЕАГРА́ФІЯ** (ад *зоа-* + *геаграфія*) — навука, якая вывучае размеркаванне, размяшчэнне жывёл на зямным шары.

**ЗОАГЕО́ГРАФ** (ад *зоа-* + *географ*) — спецыяліст у галіне *зоагеаграфіі*.

**ЗОАГІГІЕ́НА** (ад *зоа-* + *гігіена*) — навука аб ахове здароўя жывёл.

**ЗОАМАРФІ́ЗМ** (ад *зоа-* + *-марфізм*) — уяўленне багоў у вобразе жывёл у даўніх рэлігіях; папярэднічала, а часам і спадарожнічала *антрапамарфізму*.

**ЗОАМЕЛІЯРА́ЦЫЯ** (ад *зоа-* + *меліярацыя*) — паляпшэнне прыродных і антрапагенных аб'ектаў шляхам выкарыстання абарыгенных або інтрадукаваных відаў жывёл.

**ЗОАПАЛЕАНТАЛО́ГІЯ** (ад *зоа-* + *палеанталогія*) — тое, што і *палеазаалогія*.

**ЗОАПАРАЗІ́ТЫ** (ад *зоа-* + *паразіты*) — жывёлы, якія шматкратна харчуюцца за кошт іншых жывёл, не забіваючы іх, напр. многія прасцейшыя, гельмінты, насякомыя.

**ЗОАПАТАЛО́ГІЯ** (ад *зоа-* + *паталогія*) — навука аб паталагічных працэсах у арганізме жывёл.

**ЗОАПЛАНКТО́Н** (ад *зоа-* + *планктон*) — планктон, які складаецца з жывёльных арганізмаў.

**ЗОАПСІХАЛО́ГІЯ** (ад *зоа-* + *псіхалогія*) — галіна псіхалогіі, якая вывучае псіхіку жывёл.

**ЗОАПСІХО́ЛАГ** (ад *зоа-* + *псіхолаг*) — спецыяліст у галіне *зоапсіхалогіі*.

**ЗОАСПАРА́НГІІ** (ад *зоа-* + *спарангій*) — органы непалавога размнажэння ў некаторых водарасцей і ніжэйшых грыбоў; клеткі, у якіх утвараюцца *заaспоры*.

**ЗОАТАМІ́Я** (ад *зоа-* + *-тамія*) — навука аб будове арганізма жывёл, яго органах і сістэмах.

**ЗОАФЕНАЛО́ГІЯ** (ад *зоа-* + *феналогія*) — навука аб сезонных з'явах у жывёльным свеце, раздзел феналогіі.

**ЗОАХЛАРЭ́ЛА** (ад *зоа-* + *хларэла*) — тое, што і *эндасімбіёз*.

**ЗОАЦЭНО́З** (ад *зоа-* + *-цэноз*) — сукупнасць жывёл, якія ўваходзяць у склад *біяцэнозу*.

**-ЗОЙ** (гр. zoe = жыццё) — другая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з паняццем «жыццё».

**ЗО́ЛІ**[1] (ням. Sol, ад лац. solutio = растварэнне) — вельмі дробныя часцінкі якога-н. рэчыва ў вадкім, цвёрдым або газападобным асяроддзі; адрозніваюць *гідразолі*, *арганазолі* і *аэразолі*.

**ЗО́ЛІ**[2] (ням. Soll = паніжэнне) — невялікія круглаватыя ўпадзінываны глыбінёй да 5 м і дыяметрам да 60 м, якія ўтвараюцца ў выніку прасадкі грунту на месцы пахаванага водна-ледніковымі адкладамі «мёртвага» лёду.

**ЗО́НА** (лац. zona, ад гр. zone = пояс) — прастора, раён, тэрыторыя паміж якімі-н. граніцамі, характарызуецца агульнымі адзнакамі (напр. арктычная з., лясная з., бяз'ядзерная з.).

# З

**ЗОНГ** (англ. song = песня) — від балады, часта парадыйнага, гратэскнага характару з бадзяжніцкай тэматыкай, блізкай да джазавага рытму, якая змягчае вострую сатыру і крытыку грамадства; выконваецца ў выглядзе інтэрмедыі або аўтарскага каментарыя.

**ЗОНД** (фр. sonde) — 1) медыцынскі інструмент ў выглядзе трубачкі, якая ўводзіцца ўнутр арганізма з дыягнастычнай ці лячэбнай мэтай; 2) металічны бур для даследавання падглебы; 3) невялікі паветраны шар з самапісным прыстасаваннем для вывучэння верхніх слаёў атмасферы.

**ЗО́НДЭРБУНД** (ням. Sonderbund = асобы саюз) — палітычны саюз сямі кансерватыўна-каталіцкіх швейцарскіх кантонаў у 1845—1848 гг., які супрацьстаяў імкненню пратэстанцкіх кантонаў да цэнтралізацыі і правядзення ліберальных рэформ (параўн. *зібербунд*).

**ЗО́РА** (н.-лац. zora) — павук сям. *клубіянідаў*, які пашыраны ў лясах.

**ЗОРААСТРЫ́ЗМ** (ад гр. Zoroaster, ад перс. Zaratušira = імя прарока) — рэлігія, якая была пашырана ў старажытнасці і ў перыяд сярэдневякоўя ў краінах Блізкага і Сярэд. Усходу і прапаведавала ідэю барацьбы дабра і зла.

**ЗУА́Ў** (фр. zouave, ад ар. zuaua = назва аднаго з плямён у Алжыры) — 1) салдат французскіх каланіяльных войск, якія фарміраваліся з жыхароў Алжыра; 2) салдат наёмных стралковых часцей у арміі султанскай Турцыі.

**ЗУ́МЕР** (ням. Summer) — электрамагнітны прыбор для падачы гукавых сігналаў; выкарыстоўваецца ў радыётэхніцы, тэлефаніі.

**ЗУМПФ** (ням. Sumpf) — 1)назапашвальная ёмістасць для вады ці гідрасумесі, якія потым перапампоўваюцца землясосам, вуглясосам ці інш.; 2) частка шахтавага ствала, заглыбленая ніжэй самага глыбокага эксплуатацыйнага гарызонту; 3) адстойнік для прамывачнага раствору пры разведвальным бурэнні; 4) заглыбленне ў ніжняй частцы стаяка лінейнай формы.

**ЗУРНА́** (тур. zurna, ад перс. surna) — усходні народны духавы музычны інструмент тыпу *габоя*.

**ЗЫ́ЧЫЦЬ** (польск. życzyć) — 1) жадаць, выказваць каму-н. якія-н. пажаданні; 2) абяцаць, прадказваць што-н.

**ЗЭ́ДАЛЬ** (ст.-польск. zedel, ад с.-в.-ням. sëdel) — услон, пераносная лаўка на ножках.

**ЗЮЙД** (гал. zuiden) — 1) поўдзень, паўднёвы напрамак; 2) паўднёвы вецер.

**ЗЮЙД-ВЕ́СТ** (гал. zuid-west) — 1) паўднёвы захад, паўднёва-заходні напрамак; 2) паўднёва-заходні вецер.

**ЗЮЙДВЕ́СТКА** (гал. zuidwester) — 1) капялюш з непрамакальнай тканіны з шырокімі палямі; 2) шырокі непрамакальны плашч з капюшонам.

**ЗЮЙД-ОСТ** (гал. zuid-oost) — 1) паўднёвы ўсход, паўднёва-ўсходні напрамак; 2) паўднёва-ўсходні вецер.

# I

**ІААНІ́ТЫ** (ад лац. Joannes = імя святога) — тое, што і *госпітальеры*.

**ІАНАЗО́НД** (ад *іон* + *зонд*) — радыётэхнічнае ўстройства для вызначэння вышыняў, дзе адбіваюцца ад *іанасферы* радыёхвалі на пэўных частотах або ў *дыяпазонах* частот.

**ІАНАСФЕ́РА** (ад *іон* + *сфера*) — верхні слой *атмасферы* (ад 80 да 500 км), які ўтрымлівае ў сабе іоны і свабодныя электроны.

**ІАНАФО́Н** (ад *іон* + *-фон*) — *генератар* ультрагукавых ваганняў.

**ІАНІЗАВА́ЦЬ** (ад *іон*) — выклікаць *іанізацыю*, насычаць іонамі (напр. і. газ).

**ІАНІЗА́ТАР** (ад *іанізаваць*) — 1) тое, што выклікае *іанізацыю* (рэнтгенаўскія прамяні, гама-прамяні і інш.); 2) прыбор для іанізацыі (напр. паветра ў памяшканні).

**ІАНІЗА́ЦЫЯ** (ад *іанізаваць*) — утварэнне *іонаў* (напр. і. паветра).

**ІАНІ́ТЫ** (ад *іон*) — рэчывы, здольныя выклікаць абмен іонамі, уплываць на абмен іонаў; іонаабменнікі.

**ІАНІ́ЧНЫ** (гр. ionikos); і. о р д э р — архітэктурны ордэр, які склаўся ў іанічных абласцях Стараж. Грэцыі; вызначаецца наяўнасцю *базы, валюты* на *капітэлі* і *антаблементам* без *метопаў* і *трыгліфаў* (параўн. *дарычны, карынфскі*).

**ІАНО́Л** (ад *іон* + *-ол*) — арганічнае злучэнне, парашок жоўтага колеру, які выкарыстоўваецца як антыакісляльнік пры вырабе харчовых прадуктаў, каўчуку і інш.

**ІБЕ́РЫС** (н.-лац. iberis) — травяністая расліна сям. капуставых з ланцэтным цёмна-зялёным лісцем і белымі кветкамі ў гронках, пашыраная ў Пaўд. Еўропе і Малой Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**І́БІС** (лац. ibis, ад гр. ibis, з егіп.) — птушка атрада буслападобных з доўгімі нагамі і доўгай загнутай дзюбай, якая жыве ў балоцістых месцах трапічнага і ўмеранага паясоў.

**ІБН** (ар. ibn = сын) — кампанент ва ўласным імені перад імем бацькі, які абазначае «сын», «нашчадак», у народаў, што карыстаюцца арабскай мовай.

**ІВАСІ́** (рус. иваси, ад яп. iwasi) — невялікая прамысловая рыба сям. селядцовых, ціхаакіянская сардзіна.

**ІГАПО́** (парт. igapó) — ландшафт нізкіх пойм уздоўж вялікіх рэк у басейне Амазонкі.

**І́ГЛУ** (англ. igloo, ад эскім. igdlu) — купалападобная хаціна з лёду ў канадскіх эскімосаў.

**ІГНАРАВА́ЦЬ** (польск. ignorować, ад лац. ignorare = не ведаць, не прызнаваць) — свядома не звяртаць увагі на каго-н., што-н., пагардліва ставіцца да каго-н., чаго-н. (напр. і. факты).

# І

**ІГНАРА́НЦЫЯ** (лац. ignorantia = няведанне) — недасведчанасць.

**ІГНІМБРЫ́Т** (ад лац. ignis = агонь + imber = лівень) — вулканічная горная парода са сплаўленых абломкаў лавы і попелу з лінзападобнымі ўключэннямі вулканічнага цёмнага шкла.

**ІГНІПУНКТУ́РА** (ад лац. ignis = агонь + punctura = укол) — 1) спосаб лячэння бародавак, мазаляў і некаторых пухлін прыпяканнем распаленым металам; 2) метад кітайскай народнай медыцыны; прыпяканне скуры ў пэўных пунктах тлеючымі палачкамі з сухога пальшу.

**ІГНІТРО́Н** (ад лац. ignis = агонь + *-трон*) — аднаанодны ртутны *вентыль* 3, у якім перыядычнае прапусканне току адбываецца пры дапамозе спецыяльнага электрода; выкарыстоўваецца як выпрамнік пераменнага току.

**І́ГРЭК** (фр. y grec = грэчаскае «і») — 1) назва перадапошняй літары (y) лацінскага алфавіта; 2) *мат.* невядомая велічыня, якая абазначаецца пры вылічэннях гэтай літарай (побач з літарамі x, z).

**ІГУА́НА** (ісп. iguana, з індз.) — буйная яшчарка, якая жыве пераважна на дрэвах у трапічнай частцы Паўд. Амерыкі.

**ІГУАНАДО́НТ** (ад *ігуана* + *-адонт*) — буйны раслінаедны *дыназаўр* падатрада *арнітаподаў*, які жыў у мелавы перыяд (гл. *мезазой*).

**ІГУ́МЕН** (гр. hegoumenos = вядучы, кіраўнік) — настаяцель праваслаўнага мужчынскага манастыра.

**ІГУ́МЕННЯ** (гр. hegoumeni) — настаяцельніца праваслаўнага жаночага манастыра.

**І́ДА** (эсп. ido = нашчадак) — найбольш вядомая разнавіднасць перапрацаванага *эсперанта*.

**І́ДАЛ** (гр. eidolon = малюнак, падабенства) — 1) фігура, статуя, якой пакланяліся язычнікі як богу; 2) *перан.* прадмет абажання або нізкапаклонства.

**ІДА́ЛЬГА, ГІДА́ЛЬГА** (ісп. hidalgo) — дробнамаянтковы рыцар у сярэдневяковай Іспаніі.

**І́ДЫ** (лац. idus) — пятнаццаты дзень сакавіка, мая, ліпеня, кастрычніка і трынаццаты дзень астатніх месяцаў у старажытнарымскім календары.

**ІДЫЁМА** (гр. idioma = своеасаблівы выраз) — устойлівы моўны выраз, значэнне якога не супадае са значэннямі асобных слоў, што яго складаюць (напр. сабаку з'есці — набыць вопыт).

**ІДЫЁТ** (лац. idiota, ад гр. idiotes = невук) — 1) чалавек, хворы на *ідыятыю*; 2) *перан.* дурань, тупіца.

**ІДЫ́ЛІЯ** (гр. eidyllion = карцінка) — 1) жанравая разнавіднасць *буколікі*, паэтычны твор, у якім ідэалізавана абмалёўваецца сельскі быт на ўлонні прыроды; 2) *перан.* мірнае, шчаслівае, гарманічнае жыццё, існаванне пераважна на ўлонні прыроды (напр. і. вясковага жыцця).

**І́ДЫШ** (ням. jüdisch = яўрэйскі) — мова часткі яўрэяў, якія пражываюць у Еўропе, Амерыцы, Паўд. Афрыцы, заснаваная на нямецкіх дыялектах.

**ІДЫЯ-** (гр. idios = свой, уласны) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «свой, уласны», «асобны», «своеасаблівы».

**ІДЫЯАДАПТА́ЦЫЯ** (ад *ідыя-* + *адаптацыя*) — прыстасаванне арганізмаў да пэўнага вузкага кола ўмоў існавання, якія выпрацаваліся ў працэсе *эвалюцыі* (параўн. *арамарфоз*).

**ІДЫЯБЛА́СТЫ** (ад *ідыя-* + *-бласты*) — раслінныя клеткі, якія адрозніваюцца па форме, структуры або змесціву ад астатніх клетак той жа тканкі (напр. камяністыя клеткі плода грушы).

**ІДЫЯГРА́МА** (ад *ідыя-* + *-грама*) — схематычнае адлюстраванне гаплоіднага (гл. *гаплоід*) набору *храмасом* арганізма, якія размяшчаюць у рад адпаведна з іх памерамі.

**ІДЫЯЛЕ́КТ** (ад *ідыя-* + *(дыя)лект*) — індывідуальная мова, моўныя навыкі індывідуума ў пэўны перыяд.

**ІДЫЯМАРФІ́ЗМ** (ад *ідыя-* + *-марфізм*) — здольнасць мінералаў, якія крышталізуюцца ў магме, набываць уласцівыя ім крышталеграфічныя абрысы.

**ІДЫЯМА́ТЫКА** (гр. idiomatikos = асаблівы) — 1) вучэнне аб *ідыёмах*, 2) сукупнасць ідыём якой-н. мовы.

**ІДЫЯМАТЫ́ЧНЫ** (гр. idiomatikos) — які адносіцца да *ідыяматыкі*.

**ІДЫЯПЛА́ЗМА** (ад *ідыя-* + *-плазма*) — сукупнасць структурных *кампанентаў клеткі*, звязаных са зберажэннем і перадачай генетычнай інфармацыі.

**ІДЫЯСІНКРАЗІ́Я** (гр. idiosynkrasia) — павышаная, хваравітая адчувальнасць чалавечага арганізма да пэўных рэчываў; адрозніваецца ад *анафілаксіі* развіццём пасля першага ўвядзення, без папярэдняй *сенсібілізацыі* 1.

**ІДЫЯТЫ́ЗМ** (гр. idiotismos) — 1) тое, што і *ідыятыя*; 2) *перан.* неразумнасць, бязглуздасць.

**ІДЫЯТЫ́П** (ад гр. idios = свой, уласны + *тып*) — сукупнасць спадчынных фактараў асобіны, якая складаецца з *генома, плазмона*, а ў зялёных раслін яшчэ і з *пластома*.

**ІДЫЯТЫ́Я** (гр. idioteia) — псіхічная хвароба, цяжкая форма разумовай адсталасці (*алігафрэніі*); параўн. *дэбільнасць, імбецыльнасць*.

**ІДЫЯФО́НЫ** (ад *ідыя-* + *-фон*) — музычныя ўдарныя інструменты, у якіх гук узнікае праз ваганне ўсяго інструмента (напр. звон, гонг).

**ІДЭАГРА́МА** (ад гр. idea = паняцце + *-грама*) — умоўны знак, які абазначае (у адрозненне ад літары) не гук якой-н. мовы, а цэлае паняцце, напр. кітайскі або егіпецкі іерогліф, матэматычная лічба і знак.

**ІДЭАГРА́ФІЯ** (ад гр. idea = паняцце + *-графія*) — пісьмо пры дапамозе *ідэаграм*, калі знак абазначае цэлае паняцце, напр. кітайскае іерагліфічнае пісьмо, матэматычныя лічбы і знакі.

**ІДЭА́Л** (фр. idéal, ад гр. idea = паняцце) — 1) вышэйшая мэта дзейнасці грамадства, асобы, мяжа ім-

кненняў, жаданняў; 2) дасканалы, найлепшы ўзор (напр. і. чалавека).

**ІДЭАЛІЗАВА́ЦЬ** (фр. idéaliser, ад гр. idea = паняцце) — паказваць каго-н., што-н. лепшым, чым ёсць у сапраўднасці; надзяляць ідэальнымі якасцямі.

**ІДЭАЛІЗА́ЦЫЯ** (фр. idéalisation, ад п.-лац. idealis = ідэальны, ад гр. idea = паняцце) — паказ каго-н., чаго-н. лепшым, чым ёсць у сапраўднасці; надзяленне ідэальнымі якасцямі.

**ІДЭАЛІ́ЗМ** (фр. idéalisme, ад п.-лац. idealis = ідэальны, ад гр. idea = паняцце) — 1) філасофскі кірунак, процілеглы *матэрыялізму*, які асновай усяго існуючага лічыць свядомасць, ідэю, а не матэрыю (напр. суб'ектыўны і.); 2) схільнасць да *ідэалізацыі*, прыхарошванне рэчаіснасці; 3) здольнасць, жаданне бескарысліва служыць якой-н. справе, перавага высокіх маральных ідэалаў над матэрыяльнымі.

**ІДЭАЛІ́СТ** (фр. idéaliste, ад п.-лац. idealis = ідэальны, ад гр. idea = паняцце) — 1) паслядоўнік *ідэалізму* 1; 2) чалавек, схільны *ідэалізаваць*, прыхарошваць рэчаіснасць.

**ІДЭАЛО́ГІЯ** (ад гр. idea = паняцце + *-логія*) — сістэма поглядаў, уяўленняў, ідэй якога-н. грамадства, класа, палітычнай партыі.

**ІДЭА́ЛЬНЫ** (п.-лац. idealis, ад гр. idea = паняцце) — 1) які існуе толькі ў свядомасці, у ідэях і ўяўленнях; 2) які адпавядае паняццю аб *ідэале*; узвышаны (напр. і-ая любоў); 3) вельмі добры, узорны (напр. і-ыя ўмовы).

**ІДЭАМАТО́РНЫ** ( ад гр. idea = ідэя, вобраз + лац. motor = які прыводзіць у рух); і. а к т — з'яўленне нервовых імпульсаў, якія забяспечваюць пэўны рух пры ўяўленні аб гэтым руху.

**ІДЭНТАГРА́ФІЯ** (ад лац. identicus = аднолькавы + *-графія*) — нефатаграфічны, зроблены тушшу або алоўкам *негатыў*.

**ІДЭНТЫФІКАВА́ЦЬ** (с.-лац. identificare = атаясамліваць) — рабіць *ідэнтыфікацыю*.

**ІДЭНТЫФІКА́ЦЫЯ** (ад *ідэнтыфікаваць*) — устанаўленне поўнага супадзення, адпаведнасці аднаго прадмета, з'явы, паняцця другому; атаясамліванне.

**ІДЭНТЫ́ЧНЫ** (с.-лац. identicus) — такі самы, аднолькавы, раўназначны, цалкам адпаведны чаму-н. (напр. і. тэкст).

**ІДЭО́ЛАГ** (ад гр. idea = паняцце + *-лаг*) — прыхільнік, абаронца *ідэалогіі* якога-н. грамадскага класа, групы, кірунку.

**ІДЭФІ́КС** (фр. idée fixe) — апантанасць чалавека неадчэпнай, *маніякальнай* ідэяй.

**ІДЭ́Я** (гр. idea = паняцце) — 1) сукупнасць паняццяў, уяўленняў аб рэчаіснасці ў свядомасці чалавека, якая выражае яго адносіны да навакольнага свету; 2) асноўны, істотны прынцып светапогляду; 3) асноўная думка, задума, якая вызначае змест чаго-н. (напр. і. рамана); 4) намер, план (напр. і. эканамічнага развіцця).

**ІЕГАВІ́СТ** (ад ст.-яўр. Jahwe = імя бога ў юдаізме) — член хрысціянскай *секты*, заснаванай у 1872 г. ў ЗША; прызнаюць адзіным бо-

гам Іегову, адвяргаюць асноўныя хрысціянскія догматы.

**ІЕ́НА** (яп. iena) — грашовая адзінка Японіі, роўная 100 *сенам*.

**ІЕРАДЫЯ́КАН** (гр. hierodiakonos) — манах у сане *дыякана*.

**ІЕРАМАНА́Х** (гр. hieromonachos) — манах у сане святара.

**ІЕРА́РХ** (гр. hierarches) — царкоўна-афіцыйная назва *епіскапа*.

**ІЕРАРХІ́ЧНЫ** (гр. hierarchikos) — які мае адносіны да *іерархіі*, згодны з іерархіяй (напр. і-ая лесвіца).

**ІЕРА́РХІЯ** (гр. hierarchia) — паслядоўнае размяшчэнне пасад, званняў, з'яў ад ніжэйшых да вышэйшых у парадку іх падпарадкаванасці (службовая і-ія).

**ІЕРАТЫ́ЗМ** (ад гр. hieratikos = абрадавы, свяшчэнны) — урачыстая застыласць і абстрактнасць адлюстравання постацей, характэрная галоўным чынам для мастацтва старажытнага свету і сярэдневякоўя.

**ІЕРАТЫ́ЧНЫ** (гр. hieratikos) — свяшчэнны, жрэцкі; і - а е п і с ь - м о — скарапіс, які стварылі егіпцяне на аснове *іерогліфаў* для напісання рэлігійных тэкстаў.

**ІЕРО́ГЛІФЫ** (гр. hieroglyphoi = свяшчэнныя знакі) — 1) фігурныя знакі ў ідэаграфічным пісьме (гл. *ідэаграфія*), якія абазначаюць цэлыя паняцці, словы або склады (напр. старажытнаегіпецкія іерогліфы, кітайскія іерогліфы); 2) *перан.* неразборлівы почырк.

**ІЕРЭ́Й** (гр. hiereus = *літар.* жрэц) — адна з назваў свяшчэнніка ў праваслаўнай царкве.

**ІЕРЭМІЯ́ДА** (ад н.-лац. Jeremias = імя біблейскага прарока) — слёзная, горкая скарга, нараканне.

**ІЗА-** (гр. isos = роўны, аднолькавы) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «роўны», «аднолькавы».

**ІЗААКТА́Н** (ад *іза-* + *актан*) — насычаны вуглевадарод, бясколерная вадкасць з пахам бензіну, якая выкарыстоўваецца для вырабу авіяцыйнага бензіну.

**ІЗААМПЛІТУ́ДЫ** (ад *іза-* + *амплітуда*) — *ізалініі* аднолькавай амплітуды таго або іншага метэаралагічнага элемента (тэмпературы, ціску, вільготнасці паветра і інш.) за пэўны перыяд.

**ІЗААНЕМО́НЫ** (ад *іза-* + гр. anemos = вецер) — *ізалініі* сярэднегадавой хуткасці ветру.

**ІЗААНКІ́Я** (ад *іза-* + гр. onkos = велічыня, цяжар) — адносная пастаяннасць *анкатычнага* ціску плазмы крыві.

**ІЗАА́НТЫ** (ад *іза-* + гр. anthos = кветка) — *ізалініі* тэрмінаў зацвітання якіх-н. раслін.

**ІЗААСМІ́Я** (ад *іза-* + гр. osmos = штуршок) — адносная пастаяннасць *асматычнага* ціску ў вадкіх асяроддзях і тканках арганізма.

**ІЗАА́ТМЫ** (ад *іза-* + гр. atmos = выпарванне) — *ізалініі* выпарвання за пэўны перыяд.

**ІЗАБА́ЗЫ** (ад *іза-* + *база*) — *ізалініі* тэктанічных падніманняў або апусканняў за пэўны перыяд.

**ІЗАБА́РЫ** (ад *іза-* + гр. baros = цяжар, ціск) — 1) *ізалініі* атмасфернага ціску ў пэўны момант; 2) лініі на *дыяграме*, якія паказваюць залежнасць паміж фізічнымі велічы-

нямі пры пастаянным ціску; 3) атамныя ядры розных хімічных элементаў з аднолькавым масавым лікам.

**ІЗАБА́ТЫ** (ад *іза-* + гр. bathos = глыбіня) — *ізалініі* глыбінь вадаёмаў (акіянаў, мораў, азёр і інш.).

**ІЗАБРО́НТЫ** (ад *іза-* + гр. bronte = гром) — *ізалініі* колькасці навальнічных дзён.

**ІЗАБУТА́Н** (ад *іза-* + *бутан*) — арганічнае злучэнне, якое адрозніваецца ад бутану толькі змяшчэннем вугалю і вадароду ў часцінцы.

**ІЗАБУТЫЛЕ́Н** (ад *іза-* + *бутылен*) — арганічнае злучэнне, бясколерны газ, з якога атрымліваюць *ізаактан*, сінтэтычны каўчук, сінтэтычныя смолы.

**ІЗАВЕ́ЛЫ** (ад *іза-* + лац. velox = які хутка рухаецца) — тое, што і *ізаанемоны*.

**ІЗАВЕРЫ́Н** (ад *іза-* + лац. verus = дзейсны) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца для паскарэння родаў і скарачэння мускулатуры маткі ў пасляродавы перыяд.

**ІЗАГАЛІ́НЫ** (ад *іза-* + гр. hals = соль) — *ізалініі* салёнасці вады.

**ІЗАГАМЕ́ТЫ** (ад *іза-* + *гаметы*) — гаметы аднолькавай велічыні, формы і рухомасці.

**ІЗАГА́МІЯ** (ад *іза-* + *-гамія*) — тып палавога працэсу ў ніжэйшых раслін, пры якім палавыя клеткі, што зліваюцца, аднолькавыя па знешняму выгляду і адрозніваюцца толькі фізіялагічнымі ўласцівасцямі.

**ІЗАГАНА́ЛЬНЫ** (ад іза- + гр. gonia = вугал) — *мат.* роўнавугольны.

**ІЗАГЕАТЭ́РМЫ** (ад *іза-* + *геа-* + *-тэрмы*) — *ізалініі* пунктаў зямной кары з аднолькавай тэмпературай на глыбінях, куды не даходзяць гадавыя ваганні тэмпературы.

**ІЗАГІЕ́ТЫ** (ад *іза-* + гр. hyetos = дождж) — *ізалініі* колькасці атмасферных ападкаў за пэўны перыяд.

**ІЗАГІ́ПСЫ** (ад *іза-* + гр. hypsos = вышыня) — *ізалініі* вышыні зямной паверхні над узроўнем мора.

**ІЗАГЛО́СА** (ад *іза-* + *глоса*) — лінія на дыялекталагічнай карце, якая абазначае граніцу пашырэння асобнай моўнай з'явы.

**ІЗАГО́НЫ** (гр. *іза-* + *-гон*) — *ізалініі* арыентацыі пэўнай фізічнай велічыні (напр. у метэаралогіі — напрамак ветру, у астраноміі — сонечнага зацьмення).

**ІЗАГРА́Ф** (ад *іза-* + *-граф*) — мастак-іканапісец.

**ІЗАГРА́ФІЯ** (ад *іза-* + *-графія*) — 1) дакладнае ўзнаўленне якіх-н. пісьмёнаў, рукапісаў, почыркаў і інш.; 2) іканапіс.

**ІЗАДРО́М** (ад *іза-* + *-дром*) — устройства, якое забяспечвае гнуткую зваротную сувязь у аўтаматычных рэгулятарах.

**ІЗАДЫНА́МЫ** (ад *іза-* + гр. dynamis = сіла) — *ізалініі* напружання магнітнага поля Зямлі.

**ІЗАДЭ́НСЫ** (ад *іза-* + лац. densus = шчыльны) — *ізалініі* густаты паветра.

**ІЗАЗІ́МЫ** [ад *іза-* + *(эн)зімы*] — тое, што і *ізаферменты*.

**ІЗАЗО́МА** (ад *іза-* + гр. zoma = пояс) — насякомае атрада перапончатакрылых; шкодзіць зерневым

культурам, травам і пладовым дрэвам.

**ІЗАІО́НІЯ** (ад *іза-* + *іоны*) — адносная пастаяннасць іоннага складу ўнутранага асяроддзя арганізма.

**ІЗАКАТАБА́ЗЫ** (ад *іза-* + гр. katabasis = рух уніз, спуск) — *ізалініі* апускання зямной кары ў працэсе векавых ваганняў.

**ІЗАКЕФА́ЛІЯ** (ад *іза-* + гр. kehpale = галава) — размяшчэнне галоў на адным узроўні ў рэльефах і жывапісе.

**ІЗАКЛІНА́ЛЬ** (ад *іза-* + гр. klino = нахіляю) — складка горных парод, якая характарызуецца паралельным размяшчэннем пластоў.

**ІЗАКЛІ́НЫ** (ад *іза-* + гр. klino = нахіляю) — *ізалініі* велічыні магнітнага схілення.

**ІЗАКО́ЛЫ** (ад *іза-* + гр. kolos = надламаны) — *ізалініі* скажэння вуглоў і плошчаў на геаграфічных картах.

**ІЗАКСІГЕ́НА** (ад *іза-* + *аксіген*) — *ізалінія* змяшчэння кіслароду ў вадаёме.

**ІЗАЛАБА́РЫ** (ад *іза-* + гр. allos = іншы + baros = цяжар) — *ізалініі* змены атмасфернага ціску за пэўную адзінку часу на адну і тую ж велічыню.

**ІЗАЛАГІ́ПСЫ** (ад *іза-* + гр. allos = іншы + hypsos = вышыня) — *ізалініі* змены вышыні ізабарычнай (гл. *ізабары* 1) паверхні за пэўную адзінку часу.

**ІЗАЛАТЭ́РМЫ** (ад *іза-* + гр. allos = іншы + *-тэрмы*) — *ізалініі* змены тэмпературы паветра за пэўную адзінку часу.

**ІЗАЛЕЙЦЫ́Н** (ад *іза-* + *лейцын*) — неабходная для чалавека і жывёл амінакіслата, якая ўваходзіць у склад бялкоў.

**ІЗАЛІ́НІІ** (ад *іза-* + *лінія*) — лініі на геаграфічнай карце, графіку, якія злучаюць пункты з аднолькавымі паказчыкамі якіх-н. фізічных велічынь (ціску, тэмпературы, вільготнасці і інш.).

**ІЗАЛЮ́КСЫ** (ад *іза-* + лац. lux = святло) — *ізалініі* роўнай асветленасці, якая выражана ў люксах.

**ІЗАЛЯВА́ЦЬ** (польск. izolować, ад фр. isoler) — 1) праводзіць *ізаляцыю* 1; 2) праводзіць *ізаляцыю* 2; 3) пакрываць ізаляцыйным матэрыялам (напр. і. электрычны провад).

**ІЗАЛЯ́ТАР** (фр. isolateur) — 1) рэчыва, якое не праводзіць электрычнага току (гл. *дыэлектрык*), цеплыні або не прапускае гукаў; 2) дэталь з ізаляцыйнага рэчыва для замацавання і раз'яднання частак электрычнага абсталявання; 3) адасобленае памяшканне ў бальніцах, санаторыях, інтэрнатах, лагерах для размяшчэння хворых з нераспазнанымі ці заразнымі хваробамі; 4) камера ў турме для аднаго чалавека.

**ІЗАЛЯ́ЦЫЯ** (фр. isolation = адасабленне, раз'яднанне) — 1) адасабленне, аддзяленне каго-н. або чаго-н. ад навакольнага асяроддзя (напр. і. інфекцыйна хворых); 2) змяшчэнне асобна, пазбаўленне кантактаў з кім-н. (напр. і. злачынцаў); 3) раз'яднанне частак электрычнага абсталявання пры дапамозе матэрыялу (рэчыва), які не праводзіць электрычны ток, а таксама сам гэты матэрыял (рэчыва);

4) раз'яднанасць з іншымі, адасобленае становішча (напр. маральная і., палітычная і.).

**ІЗАЛЯЦЫЯНІ́ЗМ** (англ. isolationism, ад фр. isolation = адасабленне, раз'яднанне) — 1) палітыка дзяржаўнай замкнёнасці, адасобленасці; 2) палітычная плынь у ЗША, якая ўзнікла ў 19 ст. і развівалася пад лозунгам неўмяшання ў еўрапейскія справы.

**ІЗАЛЯЦЫЯНІ́СТ** (ад *ізаляцыянізм*) — прыхільнік ізаляцыянізму.

**ІЗАМАРФІ́ЗМ** ( ад *іза-* + *-марфізм*) — 1) здольнасць рэчываў, блізкіх паводле хімічнага саставу, крышталізавацца ў аднолькавых формах; 2) *мат.* наяўнасць узаемаадзначанага адлюстравання дзвюх сукупнасцей, якое захоўвае іх структурныя ўласцівасці.

**ІЗАМАРФІ́Я** (ад *іза-* + гр. morphe = форма) — аднолькавыя марфалагічныя прыкметы ў прадстаўнікоў розных груп арганізмаў, далёкіх з пункту погляду сістэматыкі.

**ІЗАМЕРА́ЗЫ** (ад *ізамеры*) — *ферменты*, якія каталізуюць унутрымалекулярную перабудову, у тым ліку ўзаемапераўтварэнне ізамераў арганічных злучэнняў у жывых клетках.

**ІЗАМЕ́РЫ** (гр. isomeres = роўна падзелены) — хімічныя злучэнні з аднолькавым саставам і малекулярнай масай, але з рознымі фізічнымі і хімічнымі ўласцівасцямі.

**ІЗАМЕРЫЗА́ЦЫЯ** (фр. isomérisation, ад гр. isomeres = роўна падзелены) — ператварэнне аднаго *ізамера* ў другі.

**ІЗАМЕРЫ́Я** (ад *іза-* + *-мерыя*) — з'ява існавання хімічных злучэнняў аднолькавага колькаснага і якаснага саставу, але з рознымі фізічнымі і хімічнымі ўласцівасцямі.

**ІЗАМЕТРА́ЛЫ** (ад *іза-* + гр. ametros = несуразмерны, няправільны) — тое, што і *ізанамалы*.

**ІЗАМЕТРЫ́ЗМ** (ад *іза-* + гр. metron = мера) — суразмернасць паэтычных радкоў неаднолькавага рытмічнага малюнка.

**ІЗАМЕ́ТРЫЯ** (ад *іза-* + *-метрыя*) — захаванне прапорцый органаў і частак цела ў перыяд росту арганізма.

**ІЗАМО́РФНЫ** (ад *іза-* + *-морфны*) — надзелены *ізамарфізмам* 1.

**ІЗАНАМА́ЛЫ** (ад *іза-* + гр. anomalos = няроўны) — *ізалініі* адхіленняў велічыні пэўнага метэаралагічнага элемента (атмасфернага ціску, тэмпературы паветра і інш.) ад значэння, прынятага за норму.

**ІЗАНЕ́ФЫ** (ад *іза-* + гр. nephos = воблака) — *ізалініі* хмарнасці ў дадзены момант або за пэўны перыяд.

**ІЗАНІТРЫ́ЛЫ** (ад *іза-* + *нітрылы*) — тое, што і *ізацыяніды*.

**ІЗАПА́ГІ** (ад *іза-* + гр. pagos = лёд) — *ізалініі* трываласці ледаставу на вадаёмах.

**ІЗАПАХІ́ТЫ** (ад *іза-* + гр. pachys = тоўсты) — *ізалініі* таўшчыні геалагічных адкладаў аднаго ўзросту або складу.

**ІЗАПЕ́КТЫКІ** (ад *іза-* + гр. pektos = зацвярдзелы, замёрзлы) — *ізалініі* дат замярзання вод.

**ІЗАПЕРЫМЕТРЫ́ЧНЫ** (ад *іза-* + *перыметр*) — аднолькавы па перыметру; і-ы я з а д а ч ы — клас задач варыяцыйнага вылічэн-

ня на знаходжанне ўсіх крывых, што маюць аднолькавы перыметр.

**ІЗАПІ́КНЫ** (ад *іза-* + гр. pyknos = шчыльны) — *ізалініі* шчыльнасці марской вады.

**ІЗАПЛА́СТЫКА** (ад *іза-* + *пластыка*) — тое, што і *гамапластыка*.

**ІЗАПЛЕ́ТЫ** (ад *іза-* + гр. plethos = колькасць) — *ізалініі* якой-н. фізічнай велічыні, што адлюстроўваюць яе як функцыю дзвюх пераменных (напр. салёнасць вадаёма ў залежнасці ад глыбіні і аддаленасці ад берага).

**ІЗАПО́РЫ** (ад *іза-* + гр. poros = ход, праход) — *ізалініі* векавых змен састаўляючых зямнога магнетызму.

**ІЗАПРАПАНО́Л** (ад *іза-* + *прапан* + *-ол*) — найпрасцейшы другасны спірт аліфатычнага рада; выкарыстоўваецца ў вытворчасці ацэтону.

**ІЗАПРАПІЛБЕНЗО́Л** (ад *іза-* + *прапіл* + *бензол*) — араматычны вуглевадарод, бясколерная вадкасць з пахам бензолу; выкарыстоўваецца ў вытворчасці фенолу, ацэтону, як растваральнік для лакаў і фарбаў.

**ІЗАПРЭ́Н** [ад *іза-* + *пр(апіл)ен*] — арганічнае злучэнне, ненасычаны вуглевадарод *аліфатычнага* рада, бясколерная, лятучая, гаручая вадкасць; выкарыстоўваецца пры вырабе каўчуку.

**ІЗАПРЭНО́ІДЫ** (ад *ізапрэн* + *-оід*) — група прыродных злучэнняў, якія ўтвараюцца ў жывых клетках з мевалонавай кіслаты.

**ІЗАРА́ХІІ** (ад *іза-* + гр. rhachia = прыліў) — *ізалініі* вышыні марскіх прыліваў.

**ІЗАСЕ́ЙСТЫ** (ад *іза-* + гр. seistos = прыведзены ў ваганне) — *ізалініі* інтэнсіўнасці землетрасенняў.

**ІЗАСІЛАБІ́ЗМ** (ад *іза-* + гр. syllabe — склад) — *літ.* аднолькавая колькасць складоў у вершах.

**ІЗАСПАРЫ́Я** (ад *іза-* + *спора*) — утварэнне ў раслін спораў аднолькавага памеру; раўнаспоравасць.

**ІЗАСПО́РА** (н.-лац. isospora) — род прасцейшых падкласа *какцыдый*; унутрыклетачныя паразіты кішэчніка, узбуджальнікі *какцыдыёзу*.

**ІЗАСТА́ЗІЯ** (ад *іза-* + *-стазія*) — стан раўнавагі зямной кары, пры якім яна нібы плавае на больш шчыльнай падкорнай масе па законах Архімеда.

**ІЗАТА́КІ** (ад *іза-* + гр. teko = растапляю) — *ізалініі* тэрмінаў крыгалому вод сушы.

**ІЗАТАМІ́ДЫ** (н.-лац. isotomidae) — сямейства насякомых атрада нагахвостак; жывяцца расліннымі і жывёльнымі рэшткамі, ёсць шкоднікі раслін.

**ІЗАТАНІ́Я** (ад *іза-* + *-танія*) — 1) аднолькавасць напружання, ціску. 2) тое, што і *ізаасмія*.

**ІЗАТА́ХІ** (ад *іза-* + гр. tachos = хуткасць) — *ізалініі* хуткасцей ветру, воднага цячэння і інш.

**ІЗАТО́НЫ** (ад *іза-* + гр. tonos = напружанне) — атамы розных хімічных элементаў, у ядрах якіх ёсць аднолькавая колькасць *нейтронаў*.

**ІЗАТО́ПЫ** (ад *іза-* + гр. topos = месца) — разнавіднасці атамаў аднаго і таго ж хімічнага элемента, якія маюць аднолькавую коль-

касць *пратонаў*, але розны лік *нейтронаў* і адрозніваюцца масай.

**ІЗАТРАПІ́Я** (ад *іза-* + *-трапія*) — аднолькавасць фізічных уласцівасцей рэчыва (напр. механічных, аптычных, электрычных) па ўсіх яго напрамках (проціл. *анізатрапія* 1).

**ІЗАТРО́ПНЫ** (ад *іза-* + *-тропны*) — які характарызуецца *ізатрапіяй*.

**ІЗАТЭ́РА** (ад *іза-* + гр. theros = лета) — лінія на карце, якая злучае месцы з аднолькавай сярэдняй тэмпературай лета.

**ІЗАТЭРМАБА́ТЫ** (ад *іза-* + гр. therme = цяпло + bathos = глыбіня) — *ізалініі* тэмпературы вады на вертыкальных разрэзах вадаёмаў.

**ІЗАТЭРМІ́ЧНЫ** (ад *іза-* + гр. therme = цеплыня); і. працэс — тэрмадынамічны працэс, які адбываецца пры пастаяннай тэмпературы.

**ІЗАТЭРМІ́Я** (ад *іза-* + *-тэрмія*) — пастаянства тэмпературы цела чалавека або цеплакроўнай жывёліны, якое забяспечваецца фізіялагічнымі механізмамі *тэрмарэгуляцыі*.

**ІЗАТЭ́РМЫ** (ад *іза-* + *-тэрмы*) — 1) *ізалініі* тэмпературы паветра, вады, глебы; 2) лініі на *дыяграме*, якія паказваюць залежнасць паміж фізічнымі велічынямі пры пастаяннай тэмпературы.

**ІЗАТЭ́ЦЫУМ** (н.-лац. isothecium) — брыевы мох сям. лембафіліевых, які пашыраны ў Паўн. паўшар'і; скальны або эпіфітны (гл. *эпіфіты*).

**ІЗАФА́ЗЫ** (ад *іза-* + гр. phasis = з'яўленне) — *ізалініі* найбольшых фаз сонечнага зацьмення.

**ІЗАФЕ́НЫ** (ад *іза-* + гр. phaino = паказваю) — *ізалініі* наступлення або працягласці пэўнай феналагічнай з'явы (гл. *феналогія*), напр. зацвітання якой-н. расліны.

**ІЗАФЕРМЕ́НТЫ** (ад *іза-* + *ферменты*) — ферменты, якія адрозніваюцца па будове, але каталізуюць адну і тую ж рэакцыю.

**ІЗАФЛАВАНО́ІДЫ** (ад *іза-* + *флаваноіды*) — флаваноідныя злучэнні, бакавы фенільны *радыкал*[1] 2 якіх знаходзіцца ў становішчы $C_3$.

**ІЗАФО́ТЫ** (ад *іза-* + гр. phos, -otos = святло) — *ізалініі* яркасці якога-н. аб'екта.

**ІЗАХА́ЗМЫ** (ад *іза-* + гр. chasma = бяздонне) — *ізалініі* паўтаральнасці палярных ззянняў.

**ІЗАХІЁНЫ** (ад *іза-* + гр. chioneos = пакрыты снегам) — *ізалініі* вышыні або трываласці снегавога покрыву.

**ІЗАХІМЕ́НА** (ад *іза-* + гр. cheimon = зіма) — лінія на карце, якая злучае месцы з аднолькавай сярэдняй тэмпературай зімы.

**ІЗАХО́РЫ** (ад *іза-* + гр. chora = прастора, месца) — лініі, якія паказваюць на *дыяфрагме* працэсы, што адбываюцца пры пастаянным аб'ёме.

**ІЗАХРАМАТЫ́ЧНЫ** (ад *іза-* + *храматычны*) — аднолькавага колеру; і-ыя фотаматэрыялы — фотаматэрыялы, аднолькава адчувальныя да розных участкаў аптычнага *спектра*.

**ІЗАХРАНІ́ЗМ** (ад *іза-* + гр. chronos = час) — аднолькавая працяглаць гучання адзінак мовы, напр. адрэзкаў верша (на прынцыпе ізахранізму пабудавана метрычнае вершаскладанне).

**ІЗАХРО́ННЫ** (ад *іза-* + гр. chronos = час) — роўны па працяглацсі ў часе чаму-н. іншаму, аднолькавай працягласці.

**ІЗАХРО́НЫ** (ад *іза-* + гр. chronos = час) — *ізалініі* тэрмінаў наступлення якой-н. геафізічнай або астранамічнай з'явы (напр. сонечнага зацьмення, навальніцы).

**ІЗАЦЫЯНА́ТЫ** (ад *іза-* + *цыян*) — арганічныя рэчывы, якія маюць адну або некалькі ізацыянатных груп, звязаных з арганічным радыкалам; выкарыстоўваюцца для атрымання поліурэтанаў, пестыцыдаў, для апрацоўкі тканін і скуры.

**ІЗАЦЫЯНІ́ДЫ** (ад *іза-* + *цыяніды*) — арганічныя вытворныя ізамернай формы сінільнай кіслаты; выкарыстоўваюцца для атрымання розных злучэнняў, што маюць азот.

**ІЗАЭНЗІ́МЫ** (ад *іза-* + *энзімы*) — тое, што і *ізаферменты*.

**ІЗАЭНТРАПІ́ЧНЫ** (ад *іза-* + *энтрапія*) — звязаны з нязменнасцю энтрапіі; і. п р а ц э с — змена стану фізічнай сістэмы, калі не змяняецца яе энтрапія.

**ІЗІ́ДЫЯ** (н.-лац. isidium, ад гр. Isis = імя багіні ўрадлівасці, вады і ветру ў старажытнаегіпецкай міфалогіі) — орган вегетатыўнага размнажэння некаторых лішайнікаў у выглядзе выцвасту на паверхні слаявішча лішайніка.

**ІЗО́КАЛАН** (гр. isokolon, ад isos = аднолькавы + kolon = ігалка) — стылістычная фігура, пры якой у двух або некалькіх адрэзках мовы члены сказаў размешчаны ў аднолькавым парадку, поўны *паралелізм* 4.

**ІЗУМРУ́Д** (тур. zümrüd < перс. zumurrud, ад гр. smaragdos = смарагд) — мінерал, разнавіднасць *берылу*, каштоўны празрысты камень ярка-зялёнага колеру; выкарыстоўваецца ў ювелірнай справе.

**ІЗЮ́М** (тур. üzüm) — тое, што і *разынкі*.

**ІКАНАГРА́ФІЯ** (гр. eikonographia, ад eikon = выява, вобраз + гр. grapho = пішу) — 1) сістэматычнае вывучэнне і апісанне мастацкіх палотнаў, прысвечаных якой-н. тэме або асобе; 2) строга ўстаноўленыя правілы мастацкага выяўлення пэўнага сюжэта або асобы; 3) сукупнасць мастацкіх палотнаў на адну тэму, сюжэт (напр. і. К. Каліноўскага).

**ІКАНАКЛА́ЗМ** (с.-лац. iconoclasmus, ад гр. eikon = выява, вобраз + klasis = зламанне) — рэлігійны рух у сярэднія вякі, накіраваны супраць хрысціянскага культу абразоў; іканаборства.

**ІКАНАКЛА́СТ** (гр. eikonoklastes) — прадстаўнік *іканаклазму*; іканаборац.

**ІКАНАЛО́ГІЯ** (ад гр. eikon = выява, вобраз + *-логія*) — кірунак у мастацтвазнаўстве 20 ст., які даследуе сюжэты і выяўленчыя матывы ў мастацкім творы для вызначэння яго гісторыка-культурнага сэнсу і выражанага ў ім светапогляду.

# І

**ІКАНАМЕ́ТР** (ад гр. eikon = вывава, вобраз + *-метр*) — відашукальнік фотаапарата ў выглядзе дзвюх сувосевых рамак, адна з якіх замацоўваецца ў плоскасці *аб'ектыва*, а другая ў плоскасці фотаматэрыялу.

**ІКАНАСКО́П** (ад гр. eikon = выява, вобраз + *-скоп*) — тэлевізійная перадавальная электронна-прамянёвая трубка для пераўтварэння аптычнага адлюстравання ў электрычны сігнал.

**ІКАНАСТА́С** (ад *ікона* + гр. stasis = месца стаяння) — упрыгожаная абразамі сценка ў праваслаўнай царкве, якая аддзяляе алтар.

**ІКАНАТЭ́КА** (ад гр. eikon = выява, вобраз + *-тэка*) — калекцыя, збор малюнкаў па пэўнай тэматыцы.

**ІКАСА́ЭДР** (ад гр. eikosi = дваццаць + *-эдр*) — дваццаціграннік, цела, абмежаванае дваццаццю плоскасцямі.

**ІКЕБА́НА** (яп. ikebana) — 1) майстэрства складаць з кветак, раслін букеты, мастацкія кампазіцыі, часам з сімвалічным значэннем, а таксама сам такі букет, кампазіцыя; 2) вазы для гэтых букетаў, кампазіцый.

**ІКО́НА** (с.-гр. eikona, ад гр. eikon — выява, вобраз) — малюнак бога або святога як прадмет рэлігійнага пакланення.

**ІКС** (лац. ix = назва літары x) — 1) назва трэцяй ад канца літары (x) у лацінскім алфавіце; 2) *мат.* невядомая велічыня, якая абазначаецца пры вылічэннях гэтай літарай (побач з літарамі y, z).

**ІКСАДЗІ́ДЫ** (н.-лац. ixodidae) — сямейства кляшчоў атрада паразітаформных з нерасчлянёным целам даўжынёй ад 3 да 25 мм і чатырма парамі ног, якое ў сусветнай фауне налічвае каля 700 відаў; часовыя вонкавыя паразіты млекакормячых, птушак, паўзуноў, земнаводных.

**І́КСІЯ** (н.-лац. ixia, ад гр. iksia) — травяністая расліна сям. касачовых, пашыраная ў Паўд. Афрыцы; некаторыя віды вырошчваюцца як дэкаратыўныя.

**ІКТ** (лац. ictus = удар) —рытмічны націск у вершы, які не заўсёды супадае з граматычным.

**ІКТА́** (ар. ikta = надзел) — умоўнае падараванне зямельнага надзелу феадалу за ваенную ці грамадзянскую службу ў краінах Блізкага і Сярэд. Усходу перыяду сярэдневякоўя.

**ІКТЫДАЗА́ЎРЫ** (ад гр. iktis, -idos = ласіца + *-заўр*) — дробныя, велічынёй з ласіцу, вымерлыя драпежныя звяркі падатрада *тэрыядонтаў*, якія жылі ў *мезазоі*.

**ІЛАГІ́ЧНЫ** (ад лац. il- = не + *лагічны*) — які супярэчыць *логіцы*, недарэчны, неразумны.

**І́ЛЕУС** (гр. eileos) — раптоўная непраходнасць кішэчніка.

**ІЛІМЕРЫЗА́ЦЫЯ** (ад лац. illimere = закідваць ілам) — перамяшчэнне ілістых часцінак глеб у форме водных *суспензій* з верхніх гарызонтаў у ніжнія.

**ІЛІРЫ́ЗМ** (ад гр. illyrioi = ілірыйцы) — грамадска-палітычны і культурны рух 1830—1840-х гг. у Харватыі, Славеніі і іншых паўднёва-славянскіх землях, абумоў-

лены працэсам складвання харвацкай нацыі; ідэолагі руху лічылі паўднёвых славян нашчадкамі старажытных ілірыйцаў.

**ІЛО́ТЫ** (гр. heilotai) — 1) земляробы ў Стараж. Спарце, якія знаходзіліся ў становішчы рабоў; 2) *перан.* бяспраўныя людзі.

**ІЛЬМЕНІ́Т** [рус. ильменит, ад Ильменские горы (на Урале)] — мінерал падкласа складаных вокіслаў, вокісел жалеза і тытану, крышталічны, чорнага колеру.

**ІЛЮ́ВІЙ** (лац. illuvies = глей) — мінеральныя і арганічныя рэчывы, вымытыя вадой з верхніх пластоў грунту і адкладзеныя ў ніжніх.

**ІЛЮЗІЁН** (фр. illusion, ад лац. illusio — падман) — устарэлая назва *кінематографа*.

**ІЛЮ́ЗІЯ** (лац. illusio = падман) — 1) скажонае ўспрыманне рэчаіснасці, прыняцце ўяўнага за сапраўднае (напр. і. цішыні, зрокавая і.); 2) *перан.* надзея, якой не суджана збыцца.

**ІЛЮЗІЯНІ́ЗМ** (фр. illusionnisme, ад лац. illusio = падман) — 1) суб'ектыўна-ідэалістычны светапогляд, паводле якога знешні свет з'яўляецца толькі *ілюзіяй*, падманам пачуццяў; 2) від цыркавога мастацтва, заснаваны на ўменні артыста пры дапамозе спецыяльнай апаратуры ствараць уражанні знікнення або з'яўлення прадметаў.

**ІЛЮЗІЯНІ́СТ** (ад *ілюзіянізм*) — эстрадна-цыркавы артыст, які паказвае складаныя фокусы, часта з прымяненнем спецыяльнай апаратуры.

**ІЛЮЗО́РНЫ** (ад лац. illusorius = падманлівы) — заснаваны на *ілюзіях*, уяўны, несапраўдны.

**ІЛЮМІНАВА́ЦЬ** (польск. iluminować, ад лац. illuminare) — упрыгожваць яркім асвятленнем, агнямі, электрычнымі гірляндамі (напр. і. вуліцы).

**ІЛЮМІНА́ТАР** (лац. illuminator = асвятляльнік) — 1) круглае акно ў борце судна, самалёта, касмічнага карабля; 2) спецыяліст па наладжванню *ілюмінацыі*.

**ІЛЮМІНА́ТЫ** (лац. illuminatus = асветлены, яскравы) — члены тайнай рэлігійна-палітычнай арганізацыі, заснаванай у 1776 г. у Баварыі, якія прапаведавалі замену хрысціянства *дэізмам*.

**ІЛЮМІНА́ЦЫЯ** (лац. illuminatio = асвятленне) — яркае асвятленне вуліц, будынкаў рознакаляровымі агнямі ў сувязі са святам, урачыстасцю.

**ІЛЮСТРАВА́ЦЬ** (польск. ilustrować, ад лац. illustrare = рабіць ясным) — 1) забяспечваць тэкст *ілюстрацыямі*; 2) *перан.* пацвярджаць думкі, выказванні нагляднымі прыкладамі, словамі, жэстамі.

**ІЛЮСТРА́ТАР** (лац. illustrator = які паясняе, адлюстроўвае) — мастак, які робіць малюнкі да тэксту.

**ІЛЮСТРА́ЦЫЯ** (лац. illustratio = выява, жывое апісанне) — 1) малюнак у кнізе, часопісе, які суправаджае тэкст, тлумачыць змест; 2) *перан.* прыклад, які наглядна паказвае, пацвярджае што-н.

**ІМ-** — гл. *ін-*.

**ІМАБІЛІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. immobilis = нерухомы) — 1) *мед.* ства-

рэнне нерухомасці (спакою) пашкоджанай ці хворай частцы цела, каб пазбегнуць паўторнага пашкоджання або з лячэбнай мэтай; 2) *камерц.* ускосныя затраты, звязаныя з фарміраваннем матэрыяльных запасаў.

**ІМА́ГА** (лац. imago = выгляд) — апошняя стадыя індывідуальнага развіцця насякомых.

**ІМАЖЫ́ЗМ** (англ. imagism, ад image = вобраз) — дэкадэнцкая плынь у англійскай і амерыканскай паэзіі пач. 20 ст., якая імкнулася да перадачы суб'ектыўных уражанняў, штучнага аб'яднання метафар і вобразаў.

**ІМАЖЫНІ́ЗМ** (рус. имажинизм < англ. imagism, ад image = вобраз) — дэкадэнцкая фармалістычная плынь у рускай і беларускай паэзіі 1920-х гадоў, якая сцвярджала вызваленне формы, вобраза ад зместу, ідэі.

**ІМАЖЫНІ́СТ** (ад *імажынізм*) — паслядоўнік імажынізму.

**ІМА́М** (тур. imam, ад ар. imam = які знаходзіцца наперадзе) — 1) правіцель мусульманскай дзяржавы, які спалучае ў адной асобе свецкую і духоўную ўладу; 2) духоўны і свецкі кіраўнік мусульманскай абшчыны; 3) кіраўнік багаслужэння ў мячэці.

**ІМАМА́Т** (ад *імам*) — форма мусульманскай *тэакратыі*, дзяржаўнае кіраванне на чале з імамам.

**ІМАНЕ́НТНЫ** (лац. immanes, -ntis) — унутрана ўласцівы якому-н. прадмету, з'яве, працэсу, абумоўлены іх сутнасцю (проціл. *трансцэндэнтны*).

**ІМАРАЛІ́ЗМ** (ад фр. immoral, ад лац. im- = не + moralis = маральны) — тое, што і *амаралізм*.

**ІМАРА́ЛЬНЫ** (фр. immoral, ад лац. im- = не + moralis = маральны) — тое, што і *амаральны*.

**ІМАРТЭ́ЛІ** (фр. immortel = бессмяротны) — травяністыя расліны сям. складанакветных, якія пры засушванні добра захоўваюць натуральную афарбоўку і колер кветак; сухацветы, бессмяротнікі.

**ІМАТРЫКУЛЯВА́ЦЬ** (с.-лац. immatriculare) — *уст.* выконваць *іматрыкуляцыю*.

**ІМАТРЫКУЛЯ́ЦЫЯ** (фр. immatriculation, ад с.-лац. immatriculare = уносіць у спіс) — *уст.* унясенне ў спіс (*матрыкул*).

**ІМАТЭРЫЯЛІ́ЗМ** (ад *ім-* + *матэрыялізм*) — ідэалістычны погляд, які адмаўляе існаванне матэрыі і прызнае толькі існаванне духа.

**ІМБЕЦЫ́ЛЬНАСЦЬ** (ад *імбецыльны*) — псіхічная недаразвітасць, сярэдняя ступень разумовай адсталасці (*алігафрэніі*) паміж *ідыятыяй* і *дэбільнасцю*.

**ІМБЕЦЫ́ЛЬНЫ** (лац. imbecillus) — псіхічна недаразвіты, які характарызуецца *імбецыльнасцю*.

**ІМБІБІ́ЦЫЯ** (ад лац. imbibere = усмоктваць, убіраць у сябе) — насычэнне тканак арганізма рэчывамі, растворанымі ў вадкасці (напр. жоўцевымі *пігментамі* ў час жаўтухі).

**ІМБІ́Р** (польск. imbir < с.-в.-ням. ingebër, imbër, ад лац. zingiber) — 1) травяністая расліна сям. імбірных з двухрадным лісцем, адзіночнымі кветкамі ў суквеццях і мясіс-

тым коранем, багатым на эфірны алей; папырана ў тропіках; 2) прыправа з каранёў гэтай расліны.

**ІМБРЫ́ЧАК** (польск. imbryczek, ад imbryk < тур. ibrik, ад ар. ibrik = збан для вады) — *уст.* чайнік для заваркі чаю.

**ІМЕДЫЯГРА́ФІЯ** (ад п.-лац. immediate = непасрэдна + *-графія*) — спосаб непасрэднай здымкі на адчувальную металічную пласцінку.

**ІМЕЛЬМА́Н** [ням. M. Immelman = прозвішча ням. лётчыка (1890—1916)] — фігура вышэйшага пілатажу, пераварот самалёта цераз крыло ў верхнім пункце мёртвай пятлі.

**ІМЕ́РСІЯ** (лац. immersio = паглыбленне, апусканне) — 1) *астр.* уваход аднаго нябеснага цела ў цень другога; 2) увядзенне кроплі вадкасці паміж аб'ектывам мікраскопа і прадметам, які разглядаецца, для ўзмацнення яркасці і атрымання больш выразнага малюнка.

**ІМІГРАВА́ЦЬ** гл. *імігрыраваць*.

**ІМІГРА́НТ** (лац. immigrans, -ntis = перасяленец) — 1) іншаземец, які прыехаў у якую-н. краіну на пастаяннае жыхарства (параўн. *эмігрант*); 2) жывёла (від, род), якая перасялілася на дадзеную тэрыторыю з іншай, дзе яна ўзнікла і развівалася раней.

**ІМІГРА́ЦЫЯ** (ад лац. immigrare = усяляцца) — уезд на пастаяннае жыхарства ў якую-н. краіну.

**ІМІГРЫ́РАВАЦЬ, ІМІГРАВА́ЦЬ** (лац. immigrare = усяляцца) — прыязджаць у якую-н. краіну на пастаяннае жыхарства.

**І́МІДЖ** (англ. image) — 1) паказ, адлюстраванне; узор; 2) мысленны вобраз, уяўленне; 3) фарміраванне ўстойлівага устойлівага становучага ўражання аб тавары, паслузе прадпрыемства, якое вырабляе або рэалізуе тавар.

**ІМІТАВА́ЦЬ** (польск. imitować, ад лац. imitari) — 1) па-майстэрску пераймаць каго-н., што-н. (напр. і. салаўіны спеў); 2) падрабляць што-н. пад што-н. (напр. і. пад арэх); 3) паўтараць музычны матыў у другім голасе на інтэрвал вышэй або ніжэй.

**ІМІТА́ТАР** (лац. imitator = пераймальнік) — 1) той, хто *імітуе* каго-н., што-н.; 2) артыст, які прафесіянальна займаецца *імітацыяй*.

**ІМІТА́ЦЫЯ** (лац. imitatio) — 1) майстэрскае пераймание каго-н., чаго-н. (напр. і. воўчага голасу); 2) падробка чаго-н. пад што-н. (напр. і. пад чырвонае дрэва); 3) паўтарэнне музычнага матыву (мелодыі) у другім голасе на інтэрвал вышэй або ніжэй.

**ІМПАЗА́НТНЫ** (фр. imposant) — велічны, паважны, які робіць уражанне сваім выглядам (і-ая фігура).

**ІМПАКТЫ́ТЫ** (ад англ. impact = удар, сутыкненне) — асобны клас адносна рэдкіх шклаватых або абломкава-шклаватых горных парод, якія ўтварыліся ў прыпаверхневай зоне зямной кары ў выніку ўдарна-выбуховых працэсаў, што адбываюцца пры падзенні на Зямлю буйных метэарытаў.

**ІМПАНАВА́ЦЬ** (лац. imponere — укладваць) — адпавядаць чыім-н. патрабаванням, густам, настроям; падабацца.

**І́МПАРТ** (англ. import, ад лац. importare = увозіць) — 1) увоз у краіну замежных тавараў для рэа-

лізацыі іх на ўнутраным рынку (проціл. *экспарт* 1); 2) агульная колькасць або агульны кошт тавараў, якія дастаўляюцца ў якую-н. краіну з-за мяжы, а таксама сам дастаўлены тавар.

**ІМПАРТАВА́ЦЬ** (лац. imortare = увозіць) — увозіць у краіну замежныя тавары для рэалізацыі іх на ўнутраным рынку (проціл. *экспартаваць)*.

**ІМПАРЦЁР** (ад лац. importare = увозіць) — краіна, установа або асоба, якія займаюцца *імпартам* 1 (проціл. *экспарцёр)*.

**ІМПАТЭ́НТ** (лац. impotens, -ntis = бяссільны) — чалавек, які пакутуе на *імпатэнцыю* 1.

**ІМПАТЭ́НЦЫЯ** (лац. impotentia = слабасць, бяссілле) — 1) палавое бяссілле; 2) *перан.* няздольнасць да творчай дзейнасці.

**ІМПЕДА́НС** (англ. impedance, ням. Impedanz, ад лац. impedire = перашкаджаць) — 1) поўнае супраціўленне электрычнага ланцуга пераменнаму току, абумоўленае амічным, індуктыўным і ёмістым супраціўленнямі ланцуга; 2) рэактыўнае супраціўленне жывой тканкі пераменнаму току.

**ІМПЕРА́ТАР** (лац. imperator = уладар, палкаводзец) — самы высокі тытул *манарха*.

**ІМПЕРАТЫ́Ў** (лац. imperativus = загадны) — 1) катэгарычнае патрабаванне, загад (напр. маральны і.); 2) *лінгв.* загадны лад дзеяслова.

**ІМПЕРАТЫ́ЎНЫ** (лац. imperativus) — загадны; і. м а н д а т — абавязковы да выканання наказ выбаршчыкаў свайму *дэпутату*, 2) *юр.* які не дапускае выбару (проціл. *дыспазітыўны*).

**ІМПЕРСАНА́ЛЬНЫ** (п.-лац. impersonalis) — *лінгв.* безаасабовы; і. с к а з — безаасабовы сказ.

**ІМПЕРФЕ́КТ** (лац. imperfectus = незакончаны) — прошлы час дзеяслова ў некаторых мовах, які выражае працягласць і незакончанасць дзеяння; прошлы незакончаны час.

**ІМПЕ́РЫЯ** (лац. imperium = улада, дзяржава) — 1) манархічная дзяржава на чале з імператарам; 2) буйная каланіяльная дзяржава; 3) *перан.* буйная манаполія, якая ажыццяўляе кантроль над пэўнай галіной прамысловаці, над якой-н. дзейнасцю.

**ІМПЕРЫЯ́Л** (фр. impérial, ад п.-лац. imperialis = імператарскі) — 1) гатунак сыру ў Францыі і іншых еўрапейскіх краінах; 2) руская залатая манета, якая чаканілася з 1775 г. і была вартасцю 10 рублёў, а пасля 1897 г. да 1917 г. — 15 рублёў; 3) верхні паверх у двухпавярховых дыліжансах, омнібусах.

**ІМПЕРЫЯЛІ́ЗМ** (фр. impérialisme, ад лац. imperium = улада) — 1) гістарычны перыяд, які адзначаецца сусветным дамінаваннем некалькіх вялікіх дзяржаў; 2) вышэйшая стадыя развіцця капіталізму, якая характарызуецца панаваннем буйных манаполій, барацьбой паміж буйнымі дзяржавамі за крыніцы сыравіны і рынкі збыту; 3) дзяржаўная палітыка, накіраваная на завяяванне тэрыторый, калоній, устанаўленне палітычнага або эканамічнага кантролю над іншымі дзяржавамі.

**ІМПЕРЫЯЛІ́СТ** (фр. impérialiste) — асоба, якая праводзіць або падтрымлівае палітыку *імперыялізму*.

**ІМПЕТЫ́ГА** (лац. impetigo, ад impetere = нападаць, паражаць) — інфекцыйнае гнойнае захворванне скуры, выкліканае *стрэптакокамі* і *стафілакокамі*.

**ІМПІ́ЧМЕНТ** (англ. impeachment = асуджэнне, ганьбаванне, абвінавачванне) — асобы парадак і ўстаноўленая працэдура прыцягнення да адказнасці вышэйшых службовых асоб дзяржавы (прэзідэнта, кіраўніка ўрада і інш.).

**ІМПЛАЗІ́ЎНЫ** (лац. implosivus) — *лінгв.* змычны зычны гук, пры вымаўленні якога за змычкай няма выбуху (напр. «абмыць»).

**ІМПЛАНТА́ЦЫЯ** (ад *ім-* + plantatio = саджанне) — 1) тое, што і *трансплантацыя*; 2) укараненне зародка ў слізістую абалонку маткі.

**ІМПЛІКА́ЦЫЯ** (лац. implicatio) — лагічная аперацыя, якая ўтварае складанае выказванне з двух выказванняў пры дапамозе лагічнай звязкі, што адпавядае злучніку «калі..., то».

**ІМПЛІЦЫ́ТНЫ** (лац. implicite) — скрыты, не выказаны яўна, які падразумяваецца (проціл. *эксплліцытны*).

**ІМПЛО́ЗІЯ** (ад лац. im + plaudere = біць, ударыць) — *лінгв.* першая фаза *артыкуляцыі* змычнага зычнага — змыканне.

**ІМПЛЮ́ВІЙ** (лац. impluvium = вадасцёк) — чатырохвугольны неглыбокі басейн у цэнтры *атрыя*, куды праз *камплювій* сцякала са страхі дажджавая вада.

**ІМПО́СТ** (фр. imposte, іт. imposta, ад лац. imponere = укладваць) — *архіт.* верхні камень слупа, сцяны, калоны, які з'яўляецца падпорай аркі або бэлькі.

**ІМПРАВІЗАВА́ЦЬ** (іт. improvvisare, ад лац. improvisus = непрадбачаны) — ствараць што-н. без папярэдняй падрыхтоўкі, на хаду, у час выканання (напр. і. верш).

**ІМПРАВІЗА́ТАР** (фр. improvisateur) — той, хто імправізуе, мае здольнасць *імправізаваць*.

**ІМПРАВІЗА́ЦЫЯ** (фр. improvisation, ад лац. improvisus = непрадбачаны) — 1) стварэнне чаго-н. (напр. верша, музыкі) без папярэдняй падрыхтоўкі, на хаду, у час выканання; 2) літаратурны або музычны твор, створаны ў час выканання, без папярэдняй падрыхтоўкі.

**ІМПРЫ́НТЫНГ** (англ. imprinting) — спецыфічная форма навучання жывёл, фіксацыя ў іх памяці адрознівальных прыкмет аб'ектаў, некаторых прыроджаных актаў паводзін.

**ІМПРЭГНАВА́ЦЬ** (с.-лац. impraegnare = напаўняць) — насычаць розныя тканкі, драўніну *эмульсіямі* або растворамі.

**ІМПРЭГНА́ЦЫЯ** (ад *ім-* + лац. praegnas, -atis = напоўнены) — метад насычэння фіксаванай тканкі жывёл растворам солей серабра, золата, свінцу, осмію для выяўлення іх структуры.

**ІМПРЭСА́РЫО** (іт. impresario) — асоба, якая арганізуе канцэрты,

спектаклі, гастролі, заключае для артыстаў кантракты.

**ІМПРЭ́СІЯ** (лац. impressio) — 1) мімалётнае ўражанне, настрой, перажыванне; 2) кароткі літаратурны твор эмацыянальна-суб'ектыўнага характару.

**ІМПРЭСІЯНІ́ЗМ** (фр. impressionnisme, ад лац. impressio = уражанне) — кірунак у мастацтве і літаратуры апошняй трэці 19 — пач. 20 ст., які адлюстроўваў суб'ектыўныя перажыванні, настроі і ўражанні аўтара, узятыя без сувязі з рэчаіснасцю.

**ІМПРЭСІЯНІ́СТ** (фр. impressionniste) — мастак, музыкант, пісьменнік — паслядоўнік *імпрэсіянізму*.

**І́МПУЛЬС** (лац. impulsus = удар, штуршок) — 1) унутранае пабуджэнне, штуршок да дзеяння (напр. і. да творчасці); 2) мера руху і сілы; электрычны і. — імгненны адзінкавы скачок току або напружання ў электрычным ланцугу; нервовы і. — хваля ўзбуджэнняў, якая распаўсюджваецца па нервовай сістэме.

**ІМПУЛЬСА́ТАР** (ад лац. impulsus = удар, штуршок) — генератар *імпульсаў* пастаяннага току, пры дапамозе якога стымулююцца скарачэнні сардэчнай мышцы.

**ІМПУЛЬСІ́ЎНЫ** (п.-лац. impulsivus = пабуджальны) — 1) які мае адносіны да *імпульсу*, выкліканы ўнутраным пабуджэннем (напр. і-ыя дзеянні дзяцей); 2) схільны дзейнічаць пад уплывам раптоўнага імпульсу (напр. і. чалавек).

**ІМПУЛЬСТЭРАПІ́Я** (ад *імпульс* + *тэрапія*) — прымяненне з лячэбнай мэтай розных фізічных дзеянняў (электрычнага току, ультрагуку, святла і інш.), пры якіх энергія падводзіцца да арганізма ў выглядзе рытмічных порцый.

**ІМПЭ́Т** (польск. impet, ад лац. impetus — парыў, разбег, напор) — 1) разгон, парывістасць, імклівасць (і. руху); 2) *перан.* запал, напорыстасць (напр. юнацкі і.).

**ІМУНА-** (лац. immunis = свабодны ад чаго-н., некрануты) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «імунітэт».

**ІМУНАБІЯЛО́ГІЯ** (ад *імуна-* + *біялогія*) — раздзел біялогіі, які вывучае адпорныя рэакцыі арганізмаў супраць вірусаў, ядаў.

**ІМУНАГЕНЕ́З** (ад *імуна-* + *-генез*) — узнікненне *імунітэту* ў жывёльным або раслінным арганізме.

**ІМУНАГЕНЕ́ТЫКА** (ад *імуна-* + *генетыка*) — раздзел генетыкі, які вывучае фактары перадачы ў спадчыну *імунітэту* 1.

**ІМУНАГЛАБУЛІ́НЫ** (ад *імуна-* + *глабуліны*) — складаныя бялкі з групы *глікапратэідаў*, якія змяшчаюцца ў сываратцы крыві пазваночных жывёл і чалавека і ўдзельнічаюць у стварэнні *імунітэту*.

**ІМУНАДЫЯГНО́СТЫКА** (ад *імуна-* + *дыягностыка*) — метад вызначэння інфекцыйных захворванняў пры дапамозе *імунных* сываратак.

**ІМУНАДЭПРЭСА́НТЫ** (ад *імуна-* + *дэпрэсанты*) — рэчывы, якія паніжаюць *імунітэт* арганізма.

**ІМУНАДЭПРЭ́СІЯ** (ад *імуна-* + *дэпрэсія*) — зніжэнне стойкасці арганізма, звязанае з аслабленнем дзеяння яго прыродных апорных механізмаў.

**ІМУНАЛО́ГІЯ** (ад *імуна-* + *-логія*) — навука аб неўспрымальнасці арганізма да заразных хвароб і атрутных рэчываў.

**ІМУНАМАРФАЛО́ГІЯ** (ад *імуна-* + *марфалогія*) — раздзел *імуналогіі*, які вывучае *анатомію*, *гісталогію* і *паталогію* імуннай сістэмы арганізма.

**ІМУНАПАТАЛО́ГІЯ** (ад *імуна-* + *паталогія*) — раздзел *імуналогіі*, які вывучае працэсы, што ўзнікаюць у выніку шкоднага ўздзеяння на клеткі і тканкі арганізма імуналагічных рэакцый.

**ІМУНАПРАФІЛА́КТЫКА** (ад *імуна-* + *прафілактыка*) — папярэджанне інфекцыйных хвароб жывёл і чалавека стварэннем у арганізме штучнага (набытага) *імунітэту* 1.

**ІМУНАТЭРАПІ́Я** (ад *імуна-* + *тэрапія*) — лячэнне інфекцыйных хвароб *імуннымі* прэпаратамі — *вакцынамі*, сывараткамі (гл. *сератэрапія*), *гама-глабулінамі*.

**ІМУНАХІ́МІЯ** (ад *імуна-* + *хімія*) — раздзел *імуналогіі*, які вывучае хімічныя асновы *імунітэту* 1.

**ІМУНАЦЫ́ТЫ** (ад *імуна-* + *-цыты*) — клеткі, якія ажыццяўляюць *імунны* адказ; у пазваночных утвараюць адзіную функцыянальную (імунную) сістэму.

**ІМУНІЗАВА́ЦЬ** (ад *імунізацыя*) — праводзіць імунізацыю.

**ІМУНІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. immunis = свабодны ад чаго-н.) — стварэнне штучнага *імунітэту* ў чалавека і жывёл супраць заразных хвароб.

**ІМУНІТЭ́Т** (лац. immunitas, -atis = вызваленне ад чаго-н.) — 1) непадатлівасць арганізма якім-н. заразным хваробам (напр. прыроджаны і.); 2) выключнае права не падпарадкоўвацца некаторым законам, якое даецца пэўным асобам (напр. дыпламатычны і.).

**ІМУНО́ЛАГ** (ад *імуна-* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *імуналогіі*.

**ІМУ́ННЫ** (лац. immunis = свабодны ад чаго-н., некрануты) — 1) абаронны, ахоўны (напр. і-ая сыворатка); 2) неўспрымальны да яду, да заражэння чым-н. (і-ая ўласцівасць арганізма).

**ІМУРА́ЦЫЯ** (ад *ім-* + лац. murus = сцяна) — прыжыццёвае замуроўванне арганізмаў, якое вядзе да іх гібелі (адрозніваюць *літамурацыю*, *біямурацыю* і *анахарэтызм*).

**ІМША́** (польск. msza < ст.-чэш. mše, ад ст.-в.-ням. missa < с.-лац. missa) — каталіцкая абедня.

**ІН-, ІМ-** (лац. in-, im- = не, у, да, на) — прэфікс, які абазначае пярэчанне, адсутнасць чаго-н. або пранікненне ў што-н.

**ІНАВА́ЦЫЯ** (лац. innovatio) — 1) новаўвядзенне, абнаўленне; укладванне сродкаў у распрацоўку новай тэхнікі, тэхналогіі, навуковыя даследаванні; 2) *лінгв.* новая з'ява ў мове (напр. лексічная і.).

**ІНАДАПТА́ЦЫЯ** (ад *ін-* + *адаптацыя*) — наяўнасць у асобных груп жывёл такіх прыстасаванняў, якія ў ходзе *эвалюцыі* выяўляюцца

недасканалымі і вядуць да вымірання гэтых груп.

**ІНАЗІ́Т** (ад гр. is, inos = мышца) — арганічнае злучэнне, адзін з вітамінаў групы В, шасціатамны цыклічны *спірт*, які змяшчаецца ў тканках чалавека і большасці жывёл і раслін.

**ІН-АКТА́ВА** (лац. in octavo) — *фармат* кнігі, пры якім старонка складае восьмую частку стандартнага папяровага аркуша.

**ІНАКТЫВА́ЦЫЯ** (ад *ін-* + лац. activus = дзейны) — зніжэнне актыўнасці мікраарганізмаў пад уплывам ферментаў, антыбіётыкаў і інш.

**ІНАКУЛЯ́ЦЫЯ** (лац. inoculatio = прышчэпліванне) — увядзенне жывых мікраарганізмаў у арганізм расліны або жывёлы, а таксама чалавека.

**ІНАЎГУРА́ЦЫЯ** (лац. inauguratio) — урачыстая працэдура ўступлення на пасаду кіраўніка дзяржавы, каранацыі манарха.

**ІНАЦЭРА́МЫ** (н.-лац. inoceramus, ад гр. is, inos = мышца + keramos = шкарлупіна) — выкапнёвыя марскія *малюскі* класа двухстворкавых; якія мелі буйную ракавіну з канцэнтрычнымі складкамі; былі пашыраны ў мезазоі.

**ІНБРЫ́ДЗІНГ** (англ. inbreeding, ад in = у, унутры + breeding = развядзенне) — скрыжоўванне жывёл або раслін, якія знаходзяцца ў блізкародасных адносінах у межах адной папуляцыі арганізмаў (параўн. *аўтбрыдзінг*, *кросбрыдзінг*).

**ІНБРЭ́ДНЫ** (ад *інбрыдзінг*) — атрыманы ў выніку блізкароднаснага скрыжоўвання.

**ІНВАГІНА́ЦЫЯ** (ад *ін-* + лац. vagina = похва) — 1) адзін са спосабаў *гаструляцыі*, калі частка сценкі зародка заварочваецца ў яго поласць і ўтварае ўнутры лісток — першасную *энтадэрму*, 2) *мед.* заходжанне адной кішкі ў другую; адна з форм непраходнасці кішэчніка.

**ІНВА́ЗІЯ** (лац. invasio = напад) — заражэнне чалавека, жывёл і раслін паразітамі жывёльнага паходжання (глістамі, насякомымі і інш.).

**ІНВА́ЙРАНМЕНТ** (англ. environment = акружэнне, наваколле) — від сучаснага мастацтва, які спалучае твор і адначасова мастацкае дзеянне, скіраваныя на арганізацыю прасторы, што дае магчымасць гледачу адчуваць сябе арганічна ўключаным у дзею праз аўдыя-візуальныя, кінетычныя і іншыя сродкі ўздзеяння і сувязі; узнік у ЗША і Еўропе ў 1960-я гады як вынік развіцця *поп-арту* і *постканструктывізму*.

**ІНВАЙРАНМЕНТАЛІ́ЗМ** (англ. environmentalisme, ад environment = акружэнне, наваколле) — кірунак геаграфічнага *дэтэрмінізму*, які адводзіць геаграфічнаму асяроддзю вырашальную ролю ў развіцці грамадства і грамадскай вытворчасці.

**ІНВАЛІ́Д** (лац. invalidus = бяссільны, слабы) — чалавек, які страціў працаздольнасць у выніку ранення, хваробы, калецтва.

**ІНВАЛІ́ДНАСЦЬ** (ад *інвалід*) — працяглая або пастаянная страта

працаздольнасці ці значнае абмежаванне яе.

**ІНВАЛЮ́ТА** (лац. invaluta = абгорнутая) — тое, што і *эвальвента*.

**ІНВАЛЮ́ЦЫЯ** (лац. involutio — згортванне) — 1) рэдукцыя або страта ў эвалюцыі асобных органаў (напр. рэдукцыя адростка сляпой кішкі ў драпежных жывёл); 2) адваротнае развіццё органаў, тканак, клетак (напр. і. маткі ў пасляродавы перыяд); 3) атрафія органаў пры паталогіі і старэнні; 4) дэгенератыўныя змены ў прасцейшых і бактэрый, выкліканыя неспрыяльнымі ўмовамі жыцця; 5) *мат.* такое адлюстраванне некаторай сукупнасці ў сабе, што пры паўторным яго прымяненні кожны элемент вяртаецца на сваё месца.

**ІНВА́Р** (англ. invar, ад лац. invariabilis = нязменны) — сплаў жалеза і нікелю; ужываецца для вырабу дэталяў дакладных вымяральных прыбораў.

**ІНВАРЫЯ́НТ** (н.-лац. invarians, -ntis = які не змяняецца) — 1) велічыня, якая застаецца нязменнай пры тых ці іншых пераўтварэннях, напр. плошча фігуры, вугал паміж дзвюма прамымі; 2) *лінгв.* структурная адзінка мовы (фанема, марфема, лексема і г.д.) у адцягненні ад яе канкрэтных рэалізацый.

**ІНВАРЫЯ́НТНАСЦЬ** (ад *інварыянт*) — нязменнасць, пастаянства пры пераўтварэннях, пры пераходзе да новых умоў (напр. і. фізічных законаў).

**ІНВЕКТЫ́ВА** [лац. invectiva (oratio) = лаянкавая (прамова)] — рэзкае выступленне, выпад супраць каго-н., чаго-н.

**ІНВЕНТА́Р** (п.-лац. inventarium = вопіс) — 1) сукупнасць рэчаў, прылад, якія складаюць маёмасць прадпрыемства, установы, арганізацыі; 2) дакладны спіс гэтай маёмасці; вопіс, рэестр; 3) апісанне феадальных уладанняў у Польшчы, Вялікім княстве Літоўскім, Венгрыі ў 16 — першай пал. 19 ст.

**ІНВЕНТАРЫЗА́ЦЫЯ** (ад п.-лац. inventarium = вопіс) — перыядычная праверка наяўнасці і стану маёмасці прадпрыемства, установы, арганізацыі шляхам падліку, вопісу яе.

**ІНВЕ́НЦЫЯ** (лац. inventio = выдумка) — кароткая музычная п’еса *паліфанічнага* характару, напісаная ў свабоднай імітацыйнай (гл. *імітацыя* 3) форме.

**ІНВЕ́РСАР** (ад лац. inversio = перастаноўка) — механізм, які пераўтварае кругавы рух у прамалінейны.

**ІНВЕ́РСІЯ** (лац. inversio = перастаноўка) — 1) *лінгв.* змяненне звычайнага парадку слоў і словазлучэнняў у сказе для надання фразе пэўнай стылістычнай афарбоўкі; 2) *мат.* парушэнне нармальнага парадку двух элементаў у пастаноўцы; 3) павышэнне тэмпературы паветра ў атмасферы з вышынёй замест звычайнага яе паніжэння; 4) змена напрамку (палярнасці) магнітнага поля Зямлі на адваротны пры адным і тым жа напрамку геамагнітнай восі; 5) *геал.* завяршальная стадыя ў цыкле развіцця *геасінкліналі*, якая адбываецца ў змене апускання зямной кары падняццямі.

**ІНВЕРТАВА́ЦЬ** (лац. invertere = пераўтвараць) — пераўтвараць

пастаянны электрычны ток у пераменны.

**ІНВЕРТА́ЗА** (ад лац. invertere = змяняць) — тое, што і *цукраза*.

**ІНВЕ́РТАР** (ад лац. invertere = пераўтвараць) — прыстасаванне для пераўтварэння пастаяннага электрычнага току ў пераменны.

**ІНВЕ́СТАР** (англ. investor, ад лац. investire = адзяваць) — укладчык, які ажыццяўляе *інвестыцыю*.

**ІНВЕСТЫТУ́РА** (с.-лац. investitura) — 1) акт перадачы зямельнага ўладання феадалу ў сярэдневяковай Зах. Еўропе; 2) зацвярджэнне *біскупа* у духоўным сане.

**ІНВЕСТЫ́ЦЫЯ** (ням. Investition, ад лац. investire = адзяваць) — укладванне капітала ў якое-н. прадпрыемства, асабліва за мяжой, каб атрымаць прыбытак.

**ІНВЕСЦІ́РАВАЦЬ** (ням. investieren, ад лац. investire = адзяваць) — укладваць капітал у якое-н. прадпрыемства, асабліва за мяжой, каб атрымаць прыбытак.

**ІНГАЛЯ́ТАР** (ад лац. inhalare = удыхаць) — 1) апарат для лячэння *інгаляцыяй*; 2) апарат для падачы кіслароду шахцёру, які пацярпеў пры аварыі ў шахце.

**ІНГАЛЯТО́РЫЙ** (ад лац. inhalare = удыхаць) — памяшканне, прызначанае для *інгаляцыі*.

**ІНГАЛЯ́ЦЫЯ** (лац. inhalatio = удыханне) — лячэнне верхніх дыхальных шляхоў удыханнем лекавых рэчываў, распыленых пры дапамозе спецыяльных апаратаў.

**ІНГІБІ́ТАР** (ад лац. inhibire = затрымліваць) — 1) рэчыва, якое замаруджвае хімічныя рэакцыі або спыняе іх; 2) рэчыва, якое паніжае актыўнасць ферментаў у арганізме або тармозіць біялагічныя працэсы.

**ІНГРЭДЫЕ́НТ** (лац. ingrediens, -ntis = які ўваходзіць) — састаўная частка хімічнага злучэння або сумесі.

**ІНГРЭДЫЕ́НТЫ** (лац. ingrediens, -ntis = які ўваходзіць) — віды раслін, што растуць на вольных месцах паміж пастаяннымі кампанентамі раслінная групоўкі (*фітацэнозу*).

**ІНГРЭ́СІЯ** (лац. ingressio = уваходжанне) — пранікненне марскіх вод у паніжэнні рэльефу прыбярэжнай паласы пры павышэнні ўзроўню мора або паніжэнні берага.

**ІНГУМА́ЦЫЯ** (англ. inhumation, ад лац. inhumare = накрываць зямлёй) — пахаванне нябожчыка паводле абраду трупапалажэння ў грунтавой магіле (параўн. *крэмацыя*).

**ІНДАКСІ́Л** [ад *інд(ыга)* + гр. oksys = кіслы] — арганічнае злучэнне, светла-жоўтае крышталічнае рэчыва з непрыемным пахам; выпрацоўваецца ў жывёльным кішэчніку, з'яўляецца важным элементам у сінтэзе індыга.

**ІНДАЛО́ГІЯ** (ад гр. Indos = Інд + *-логія*) — сукупнасць навук, якія вывучаюць гісторыю, эканоміку, мастацтва, мову і літаратуру Індыі.

**ІНДАНТРЭ́Н** [ад *інд(ыга)* + *антра(хінон)*] — сіні антрахінонавы фарбавальнік.

**ІНДАСАМЕ́НТ** (ням. Indossament, іт. indossamento, ад лац. in = на + dorsum = спіна) — перадатачны

надпіс на адвароце *вексаля*, *чэка* і іншых каштоўных папер, які сведчыць аб пераходзе правоў па гэтых дакументах іншай асобе.

**ІНДАСА́НТ** (ням. Indossant, іт. indossante) — асоба, якая робіць на адвароце *вэксаля*, *чэка* або іншай каштоўнай паперы перадатачны надпіс.

**ІНДАСА́Т** (ням. Indossat) — асоба, якой перадаецца *вэксаль*, *чэк* або іншая каштоўная папера праз перадатачны надпіс.

**ІНДАФЕНО́ЛЫ** (ад лац. indicum = сіняя фарба + *фенолы*) — сінтэтычнае злучэнне, якое належыць да кубавых фарбавальнікаў; выкарыстоўваецца ў вытворчасці фарбавальнікаў, у аналітычнай хіміі як *індыкатар* 2.

**ІНДО́Л** [ад *інд(ыга)* + *-ол*] — арганічнае злучэнне *гетэрацыклічнага* рада, бясколернае крышталічнае рэчыва з непрыемным пахам; выкарыстоўваецца для прыгатавання лекавых прэпаратаў, у парфумернай прамысловасці.

**ІНДРЫКАТЭ́РЫІ** (н.-лац. indricotherium) — вымерлыя гіганцкія бязрогія насарогі, якія жылі ў *алігацэне* і раннім *міяцэне*.

**ІНДУ́ЗІЙ** (лац. indusium = верхняя туніка) — плеўка на паверхні ліста папарацей, якая пакрывае *сорусы*.

**ІНДУІ́ЗМ** (ад санскр. hindumata) — рэлігія большасці насельніцтва Індыі, звязаная з культам багоў Вішну і Шывы.

**ІНДУКТА́НС** (фр. inductance) — супраціўленне пераменнага току ў электрычным ланцугу, які складаецца са шпулькі самаіндукцыі; састаўная частка *імпедансу*.

**ІНДУ́КТАР** (лац. inductor = які ўводзіць, пабуджае) — 1) электрамагніт, які ўтварае магнітнае поле ў *генератары* пастаяннага току; 2) электрычная машына з ручным прыводам, якая выпрацоўвае высокае напружанне (напр. тэлефонны і.).

**ІНДУКТАТЭРМІ́Я** (ад лац. inductio = увядзенне, пабуджэнне + *-тэрмія*) — метад электралячэння, пры якім пэўныя ўчасткі цела хворага награваюць дзеяннем электрамагнітнага поля.

**ІНДУКТЫ́ЎНАСЦЬ** (ад *індуктыўны*) — фізічная велічыня, якая характарызуе здольнасць правадніка накопліваць энергію магнітнага поля, калі ў ім працякае электрычны ток.

**ІНДУКТЫ́ЎНЫ** (ад *індукцыя*) — 1) які карыстаецца метадам *індукцыі* 1, заснаваны на індукцыі; 2) які характарызуецца *індуктыўнасцю*.

**ІНДУ́КЦЫЯ** (лац. inductio = увядзенне, пабуджэнне) — 1) спосаб разважання ад асобных прыватных фактаў да агульных вывадаў, абагульненняў (параўн. *дэдукцыя*); 2) узбуджэнне электрычнага току пры руху яго ў магнітным полі або пры змяненні вакол яго магнітнага поля; 3) узаемадзеянне працэсаў узбуджэння і тармажэння ў нервовай сістэме, пры якім узнікненне аднаго працэсу выклікае развіццё другога, процілеглага.

**ІНДУЛЬГЕ́НЦЫЯ** (лац. indulgentia = міласць, спагадлівасць) — грамата на поўнае або частковае адпушчэнне грахоў, якая выдаецца каталіцкай царквой ад імя папы

рымскага за плату або за асобыя заслугі перад царквой.

**ІНДУ́СТРЫЯ** (фр. industrie, ад лац. industria = дзейнасць) — важнейшая галіна народнай гаспадаркі, якая аказвае рашаючае ўздзеянне на ўзровень развіцця вытворчых сіл грамадства; прамысловасць (напр. цяжкая і., лёгкая і.).

**ІНДУСТРЫЯЛІЗА́ЦЫЯ** (ад с.-лац. industrialis = прамысловы) — працэс стварэння буйной машыннай вытворчасці ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, у першую чаргу ў прамысловасці.

**ІНДУСТРЫЯ́ЛЬНЫ** (с.-лац. industrialis = прамысловы) — звязаны з *індустрыяй*, яе развіццём; прамысловы.

**ІНДУЦЫ́РАВАЦЬ** (лац. inducere) — выклікаць выпрамяненне атамаў або малекул уздзеяннем знешняга электрамагнітнага поля.

**ІНДЫВІ́Д** гл. *індывідуум*.

**ІНДЫВІДУАЛІЗА́ЦЫЯ** (фр. individualisation, ад лац. individuum = непадзельнае, асобіна) — працэс стварэння чаго-н. індывідуальнага, своеасаблівага, не падобнага на іншае.

**ІНДЫВІДУАЛІ́ЗМ** (фр. individualisme, ад лац. individuus = непадзельны) — 1) тып светапогляду, у аснове якога ляжыць супрацьпастаўленне асобы (*індывідуума*) грамадству; 2) імкненне да выражэння сваёй асобы, індывідуальнасці ў супрацьпастаўленні сябе калектыву.

**ІНДЫВІДУАЛІ́СТ** (фр. individualiste, ад лац. individuus = непадзельны) — чалавек, які праяўляе *індывідуалізм* у паводзінах, поглядах.

**ІНДЫВІДУА́ЛЬНАСЦЬ** (ад *індывідуальны*) — 1) асаблівасці характару і псіхічнага складу, якія адрозніваюць адзін *індывідуум* ад другога; 2) асоба, індывідуум.

**ІНДЫВІДУА́ЛЬНЫ** (фр. individuel, ад лац. individuum = непадзельнае, асобіна) — 1) уласцівы толькі адной асобе (*індывідууму*), асабісты (напр. і. густ, і. падыход); 2) які знаходзіцца ў асабістым карыстанні, не калектыўны (напр. і. транспарт); 3) асобны, адзінкавы (напр. і. выпадак).

**ІНДЫВІДУА́ЦЫЯ** (лац. individuatio) — выдзяленне адзінкавага і індывідуальнага з агульнага.

**ІНДЫВІ́ДУУМ, ІНДЫВІ́Д** (лац. individuum) — 1) кожны асобна ўзяты жывы арганізм; 2) асобны чалавек сярод іншых людзей.

**ІНДЫ́ГА** (ісп. indigo, ад лац. indicus = індыйскі) — сіняя фарба, якая ў мінулым здабывалася з соку трапічных раслін, а зараз атрымліваецца хімічным спосабам.

**ІНДЫГАКАРМІ́Н** (ад *індыга* + *кармін*) — арганічнае злучэнне, штучны фарбавальнік сіняга колеру; выкарыстоўваецца для прыгатавання чарніла, акварэльнай фарбы і сінькі, а таксама як хімічны *індыкатар*.

**ІНДЫГАФЕ́РА** (ад *індыга* + лац. ferre = несці) — травяністая або кустовая расліна сям. бабовых з няпарнаперыстым лісцем і ружовымі, пурпуровымі або белымі кветкамі ў гронках, пашыраная ў тропіках і субтропіках; дае сіні фарбавальнік індыга.

**ІНДЫГЕНА́Т** (фр. indigénat) — 1) грамадзянства дадзенай дзяржавы; 2) выкарыстанне правоў, прадугледжаных міжнароднымі дагаворамі.

**ІНДЫГО́ІДЫ** (ад *індыга* + *-оід*) — сінтэтычныя фарбавальнікі розных колераў.

**І́НДЫЙ** (н.-лац. indium, ад лац. indicum = сіняя фарба) — хімічны элемент, рэдкі метал серабрыста-белага колеру, мякчэйшы за свінец.

**ІНДЫ́К** (польск. indyk, ад лац. indicus = індыйскі) — вялікая свойская птушка атрада курыных, якая гадуецца на мяса.

**ІНДЫКА́Н** (ад лац. indicus = індыйскі) — 1) рэчыва, якое змяшчаецца ў некаторых раслінах (*індыгаферы* і інш.) і служыць для вырабу сіняй фарбы *індыга*; 2) рэчыва, якое ўтвараецца ў арганізме жывёл з прадуктаў распаду бялку.

**ІНДЫКА́ТАР** (лац. indicator = паказальнік) — 1) прыбор для вымярэння фізічных велічынь (ціску, нагрузкі і інш.), а таксама для адлюстравання ходу працэсаў або стану аб'екта назірання; 2) рэчыва, якое ўводзіцца ў раствор для выяўлення хімічнага працэсу, што адбываецца ў растворы; 3) рэчыва, якое вызначае ступень забруджвання знешняга асяроддзя антрапагеннымі таксікантамі.

**ІНДЫКАТРЫ́СА** (фр. indicatrice = *літар.* якая паказвае) — *мат.* крывая, якая наглядна паказвае змены *вектараў* у прасторы або на плоскасці.

**ІНДЫКАТЫ́Ў** [лац. (modus) indicativus = абвесны (лад)] — *лінгв.* абвесны лад дзеяслова.

**ІНДЫКА́ЦЫЯ** (лац. indicatio) — рэгістрацыя якой-н. інфармацыі на шкале індыкатарнага прыбора, светлавым табло і інш.

**ІНДЫ́КТ** (лац. indictum = аб'яўленае) — адзінка старога царкоўнага летазлічэння, роўная 15 гадам; была ўведзена ў 312 г. візантыйскім імператарам Канстанцінам I.

**ІНДЫКТЫЁН** (ад лац. indictio = абвяшчэнне) — прамежак часу ў 15 гадоў, пасля якога праводзіўся перапіс маёмасці для вызначэння памераў падаткаў у Рымскай імперыі.

**ІНДЫФЕРЭ́НТНЫ** (лац. indifferens, -ntis) — 1) абыякавы, раўнадушны да каго-н., чаго-н. (напр. і. стан, і-ыя адносіны); 2) які не дзейнічае, не рэагуе на знешнія ўмовы (напр. і-ае рэчыва).

**ІНДЫФЕРЭНТЫ́ЗМ** (ад лац. indifferens, -ntis = абыякавы) — абыякавасць, раўнадушнасць.

**ІНДЫХЕНІ́ЗМ** (ісп. indigenismo) — плынь у літаратуры і мастацтве краін Лац. Амерыкі, звязаная з распрацоўкамі тэматыкі, што характарызуе жыццё індзейскага насельніцтва.

**І́НДЭКС** (лац. index) — 1) спіс, пералік чаго-н. (напр. і. тавараў); 2) лічбавы паказчык, які выражае змены якой-н. эканамічнай з'явы (напр. і. цэн); 3) лічбавы або літарны паказчык, які змяшчаецца звычайна ўнізе літары, што ўваходзіць у матэматычны выраз; 4) умоўнае абазначэнне з лічбаў або літар, якое надаецца паштовым аддзя-

леннем, бібліятэчным кніжным раздзелам і інш.

**ІНДЭКСА́ЦЫЯ** (ад *індэкс*) — 1) абазначэнне ва ўказальніку, рэестры, спісе імён, назваў, адрасоў і г.д.; 2) сістэма літарных або лічбавых абазначэнняў — бібліятэчна-бібліяграфічная, паштовая і г.д.; 3) характарыстыка якога-н. дасягнутага ўзроўню, якая вызначаецца шляхам разліку велічынь, што супастаўляецца (напр. і. рэальных даходаў); 4) пераразлік велічыні грашовага змяшчэння ўкладаў, каштоўных папер у залежнасці ад узроўню інфляцыі; 5) *мат.* выкарыстанне лічбавага або літарнага ўказальніка, які стаіць часцей за ўсё ўнізе літары, што ўваходзіць у матэматычнае выражэнне; 6) *метэар.* сістэма лікавай характарыстыкі якога-н. прыроднага працэсу або стану.

**ІНДЭМНІТЭ́Т** (ням. Indemnität, ад лац. indemnitas, -atis = пакрыццё страт) — 1) пакрыццё страт, кампенсацыя (звычайна ў міжнародным праве); 2) звальненне дэпутатаў ад адказнасці за парламенцкую дзейнасць (выступленні, галасаванне і інш.).

**ІНДЭ́НТАР** (ад англ. indent = пакідаць адбітак) — наканечнік, уцісканнем якога вымяраюць цвёрдасць матэрыялаў.

**ІНДЭПЕНДЭ́НТЫ** (англ. independents, ад н.-лац. independens, -ntis = незалежны) — прадстаўнікі рэлігійна-палітычнай групоўкі *пурытан* як аднаго з кірункаў *пратэстантызму* ў перыяд англійскай буржуазнай рэвалюцыі 17 ст.

**ІНДЭТЭРМІНІ́ЗМ** (ад *ін-* + *дэтэрмінізм*) — філасофская канцэпцыя, якая, у процілегласць дэтэрмінізму, адмаўляе ўсеагульную заканамернасць і прычынную залежнасць з'яў прыроды і грамадства і прызнае наяўнасць беспрычыннай выпадковасці.

**ІН'Е́КЦЫЯ** (лац. iniectio = укідванне) — 1) увядзенне лякарства ў тканкі і поласці арганізма шляхам упырсквання; 2) дадатковыя сродкі, якія ўліваюцца ў якую-н. сферу эканамічнага жыцця (інвестыцыі, урадавыя закупкі тавараў і паслуг, экспарт).

**ІНЕРВА́ЦЫЯ** (ад *ін-* + *нервы*) — забяспечанасць якога-н. органа або тканкі нервовымі клеткамі і валокнамі.

**ІНЕ́РТНЫ** (лац. iners, -rtis) — 1) які знаходзіцца ў стане спакою або руху, не падвяргаючыся ўздзеянню якой-н. знешняй сілы (напр. і-ая маса); 2) *перан.* вялы, бяздзейны, безініцыятыўны (напр. і. чалавек).

**ІНЕ́РЦЫЯ** (лац. inertia = нерухомасць, бяздзейнасць) — 1) уласцівасць цела захоўваць стан спакою або раўнамернага прамалінейнага руху, пакуль якая-н. знешняя прычына не выведзе яго з гэтага стану; 2) *перан.* вяласць, бяздзейнасць, коснасць (напр. і. мыслення, і. быту).

**ІНЖЫНЕ́Р** (польск. inżynier, ад фр. ingénieur) — спецыяліст з вышэйшай тэхнічнай адукацыяй (напр. і.-канструктар, горны і.).

**ІНЖЫНЕ́РЫЯ** (ад *інжынер*) — інжынерная справа, творчая тэхнічная дзейнасць.

**ІНЖЫНІ́РЫНГ** (англ. engineering = інжынерная справа) — сфера дзейнасці па распрацоўцы

аб'ектаў прамысловасці, іх інфраструктуры і інш., перш за ўсё ў форме прадастаўлення на камерцыйнай аснове розных інжынерна-кансультацыйных паслуг.

**ІНЖЫ́Р** (кр.-тат. inžir, ад перс. ängir) — 1) пладовае дрэва сям. тутавых, пашыранае ў субтропіках; смакоўніца; 2) салодкі плод гэтага дрэва; ф і г а, с м о к в а.

**ІНЖЭ́КТАР** (фр. injecteur, ад лац. iniectare = укідваць) — 1) струменная *помпа* нагнятання вадкасцей у розныя апараты і рэзервуары; 2) *фіз.* дапаможны паскаральнік зараджаных часціц для ўводу іх у больш магутны (асноўны) паскаральнік.

**ІНЖЭ́КЦЫЯ** (ад *інжэктар*) — 1) увядзенне носьбітаў зарада ў галіну, дзе яны з'яўляюцца неасноўнымі; 2) увод пучка зараджаных часціц у паскаральнік для наступнага іх паскарэння або накаплення; 3) упырскванне паліва ў камеру згарання рухавіка.

**ІНЖЭНЮ́** (фр. ingénu) — уст. *амплуа* актрысы, якая выконвае ролі прастадушных, наіўных дзяўчат.

**ІНІЦЫЯ́ЛЫ** (лац. initialis = пачатковы) — 1) пачатковыя літары імя і імя па бацьку або імя і прозвішча; 2) пачатковыя літары раздзела кнігі або абзаца, як правіла, больш буйныя і аздобленыя ўзорамі.

**ІНІЦЫЯ́ТАР** (фр. initiateur, ад лац. initiator) — асоба, група асоб або арганізацыя, якім належыць пачын у якой-н. справе.

**ІНІЦЫЯТЫ́ВА** (фр. initiative, ад лац. initiare = пачынаць) — 1) самастойны пачын у якой-н. справе, абумоўлены ўнутраным пабуджэннем да дзеяння; 2) вядучая роля ў якіх-н. дзеяннях; 3) здольнасць да самастойных актыўных дзеянняў; прадпрымальнасць.

**ІНІЦЫЯ́ЦЫЯ** (лац. initiatio = выкананне таінства) — 1) пасвячальны абрад у родавым грамадстве, звязаны з пераводам юнакоў і дзяўчат ва ўзроставы клас дарослых мужчын і жанчын; 2) урачыстае прыняцце новага члена ў якую-н. секту.

**І́НІЯ** (н.-лац. inia) — рачны *дэльфін*, які жыве ў рэках і азёрах Паўд. Амерыкі.

**ІНКАГЕРЭ́НЦЫЯ** (ад *ін-* + лац. cohaerentia = унутраная сувязь) — страта паслядоўнасці думкі, тыповае праяўленне *шызафрэніі*.

**ІНКАНГРУЭ́НТНЫ** (лац. incongruens, -ntis = неадпаведны) — неаднолькавы, розны; і. п р а ц э с — працэс, вынікі якога па элементарнаму складу не тоесныя таму, з чаго пачынаецца гэты працэс.

**ІНКАПСУЛЯ́ЦЫЯ** (ад *ін-* + *капсула*) — утварэнне шчыльнай абалонкі са злучальнай тканкі вакол іншародных для арганізма рэчываў.

**ІНКАРВІ́ЛЕЯ** (н.-лац. incarvillea) — травяністая расліна сям. бігноніевых з перыста-рассечаным лісцем і буйнымі ружовымі кветкамі, пашыраная ў Паўд.-Усх. і Цэнтр. Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ІНКАРНА́ЦЫЯ** (лац. inkarnatio = увасабленне) — 1) увасабленне душы ў матэрыяльным целе; 2) ачалавечанне Бога ў некаторых рэлігіях (напр. у хрысціянстве).

# І

**ІНКАРПАРАВА́ЦЬ** (лац. incorporare = далучаць) — выконваць *інкарпарацыю* 1.

**ІНКАРПАРА́ЦЫЯ** (лац. incorporatio) — 1) далучэнне, уключэнне ў свой склад чаго-н. (напр. і. новых раёнаў); 2) сістэматызацыя выдадзеных у розны час законаў па асобных галінах права без унясення змен у іх змест; 3) *лінгв.* спосаб сінтаксічнай сувязі паміж словамі, пры якім галоўны член словазлучэння зліваецца з залежнымі членамі ў фанетыка-марфалагічны комплекс, аналагічны слову.

**ІНКА́СА** (іт. incasso) — аперацыя атрымання банкам грошай па даручэнні *кліента* і залічэння іх на яго банкаўскі рахунак.

**ІНКАСА́ТАР** (ад *інкасацыя*) — службовая асоба, якая займаецца прыёмам і выдачай грошай галоўным чынам па-за ўстановай.

**ІНКАСА́ЦЫЯ** (ад іт. incassare = *літар.* класці ў скрыню) — збор і транспартаванне грошай і каштоўнасцей, якія выконваюцца банкамі па даручэнні кліентаў.

**ІНКАСІ́РАВАЦЬ** (ням. inkassieren, ад іт. incassare = *літар.* класці ў скрыню) — атрымліваць грошы па плацежнаму дакументу і залічаць іх на банкаўскі рахунак.

**ІН-КВА́РТА** (лац. in quarto = у чатыры столкі) — у чацвёртую частку аркуша (пра *фармат* кнігі).

**ІНКВІЗІ́ТАР** (лац. inquisitor = следчы) — 1) член інквізіцыйнага суда; 2) *перан.* жорсткі чалавек, мучыцель.

**ІНКВІЗІ́ЦЫЯ** (лац. inquisitio = вышук, расследаванне) — 1) следчая і судовая арганізацыя, створаная ў 13 ст. каталіцкай царквой для барацьбы са сваімі праціўнікамі, якая дзейнічала шляхам тайнага шпіянажу і жорсткіх катаванняў; існавала да пач. 19 ст.; 2) *перан.* жорсткасць, пакута.

**ІНКВІЛІНІ́ЗМ** (ад лац. inquilinus = арандатар, жылец) — адна з форм міжвідавых узаемаадносін, разнавіднасць *сінайкіі*, калі жывёла-інквілін, пранікаючы ў жыллё іншага віду, звычайна знішчае гаспадара.

**ІНКЛІНАМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. inclinare = нахіляць + *-метрыя*) — вызначэнне вугла нахілу і азімута скрыўлення свідравіны, каб кантраляваць яе тэхнічны стан і атрымліваць неабходныя геалагічныя звесткі.

**ІНКЛІНА́ТАР** (ад лац. inclinare = нахіляць) — прыбор для вымярэння магнітнага схілення.

**ІНКЛІНО́МЕТР** (ад лац. inclinare = нахіляць + *-метр*) — прыбор для вымярэння скрыўлення буравой свідравіны.

**ІНКЛЮЗІ́Ў** (фр. inclusif = які ўключае ў сябе) — *лінгв.* займеннікавыя або дзеяслоўныя формы, якія ўказваюць на тое, што адрасат маўлення ўваходзіць у лік удзельнікаў дзеяння.

**ІНКО́ГНІТА** (іт. incognito, ад лац. incognitus = непазнаны, невядомы) — 1) таемна, скрытна, хаваючы сваё імя (з'явіцца і.); 2) прабыванне пад выдуманым імем (захоўваць сваё і.); 3) асоба, якая ўтойвае сваё сапраўднае імя (сустрэцца з і.).

**ІНКРАСБРЫ́ДЫНГ** (англ. incrossbreeding) — скрыжоўванне дзвюх добра спалучальных *інбрэдных* лі-

ній розных парод жывёл для атрымання высокапрадукцыйнага патомства.

**ІНКРÓСІНГ** (англ. incrossing) — скрыжоўванне дзвюх *інбрэдных* добра спалучальных ліній адной пароды жывёл для атрымання высокапрадукцыйнага патомства.

**ІНКРУСТАВÁЦЬ** (лац. incrustare) — рабіць *інкрустацыю*.

**ІНКРУСТÁЦЫЯ** (лац. incrustatio = пакрыццё чым-н.) — узоры, малюнкі на паверхні якога-н. прадмета з урэзаных у яе кавалачкаў дрэва, косці, перламутру і інш.

**ІНКРЫМІНАВÁЦЬ** (с.-лац. incriminare) — прад'яўляць каму-н. абвінавачванне ў чым-н. (напр. і. пакражу).

**ІНКРЫМІНÁЦЫЯ** (с.-лац. incriminatio) — прад'яўленне каму-н. абвінавачвання ў чым-н.

**ІНКРЭТÓРНЫ** (ад *інкрэты*) — тое, што і *гарманальны*.

**ІНКРЭ́ТЫ** (лац. incretus = выдзелены) — тое, што і *гармоны*.

**ІНКРЭ́ЦЫЯ** (лац. incretio = выдзяленне) — выдзяленне пэўнай групай залоз арганізма чалавека і жывёл асаблівых фізіялагічна актыўных рэчываў (*гармонаў*) непасрэдна ў кроў або лімфу.

**ІНКУБÁТАР** (ад лац. incubare = выседжваць птушанят) — апарат для штучнага вывядзення маладняку сельскагаспадарчых птушак з яец.

**ІНКУБАТÓРЫЙ** (ад лац. incubare = выседжваць птушанят) — спецыяльны будынак, дзе ўстаноўлены і дзейнічаюць *інкубатары*.

**ІНКУБÁЦЫЯ** (лац. incubatio = выседжванне птушанят) — 1) штучнае вывядзенне маладняку сельскагаспадарчых птушак у *інкубатарах*, 2) скрыты перыяд хваробы з моманту заражэння да з'яўлення яе знешніх сімптомаў.

**ІНКУНÁБУЛА** (лац. incunabula = ранняе дзяцінства; першыя крокі; пачатак) — кніга, надрукаваная ў пачатковую пару кнігадрукавання (да 1501 г.), знешне падобная на рукапісную.

**ІНКУРÁБЕЛЬНЫ** (ад *ін-* + лац. curabilis = вылечны) — невылечальны, неахопны.

**ІН-ПЛÁНА** (лац. in plano) — *фармат* выдання ў цэлы разгорнуты аркуш.

**ІНСÁЙД** (англ. inside = унутры) — гулец у футбольнай або хакейнай камандзе, які займае ў лініі нападу становішча паміж крайнім і цэнтральным гульцамі.

**ІНСÁЙДЭР** (англ. insider) — фізічная асоба, якая мае інфармацыю аб справах (стане дзейнасці) фірмы, прадпрыемства (дырэктар, менеджэр, бухгалтар і інш.).

**ІНСÁЙТ** (англ. insight = разуменне) — акт непасрэднага зразумення ў інтуітывістычнай тэорыі пазнання.

**ІНСАЛЯ́ЦЫЯ** (лац. insolatio) — апрамяненне якой-н. паверхні сонечным святлом.

**ІНСЕКВÉНТНЫ** (ад *ін-* + лац. sequens, -ntis = наступны); і - а я д а л і н а — рачная даліна, напрамак якой амаль не залежыць ад тэктанічнай структуры.

**ІНСЕКТÁРЫЙ** (с.-лац. insectarium, ад лац. insectum = насякомае) — памяшканне, дзе ў навуко-

вых мэтах разводзяць насякомых; разнавіднасць *вівaрыя*.

**ІНСЕКТАФУНГІЦЫ́ДЫ** (ад лац. insectum = насякомае + fungus = грыб + *-цыды*) — атрутныя хімічныя *прэпараты*, прызначаныя для знішчэння насякомых і грыбоў-паразітаў.

**ІНСЕКТЫЦЫ́ДЫ** (ад лац. insectum = насякомае + *-цыды*) — 1) хімічныя рэчывы для знішчэння шкодных насякомых; 2) расліны, якія маюць атрутныя для насякомых рэчывы.

**ІНСІ́ГНІІ** (лац. insignia) — знакі вышэйшай улады (*скіпетр*, залатая *дыядэма* і інш.) у рымскіх імператараў; знакі адрознення вышэйшых *магістратаў* 1 у час рэспублікі.

**ІНСІНУА́ТАР** (лац. insinuator = які тайна пралазіць) — той, хто карыстаецца метадам *інсінуацый*; паклёпнік.

**ІНСІНУА́ЦЫЯ** (лац. insinuatio = лісліваць, падлашчванне) — злосная выдумка, паклёп з мэтай зняславіць каго-н.

**ІНСІНУІ́РАВАЦЬ** (лац. insinuare = пралазіць, пракрадвацца) — узводзіць паклёп на каго-н. (гл. *інсінуацыя*).

**ІНСПЕКТАВА́ЦЬ** (лац. inspectare = аглядаць, назіраць) — ажыццяўляць *інспекцыю* 1.

**ІНСПЕ́КТАР** (лац. inspector = наглядальнік) — службовая асоба, якая ажыццяўляе *інспекцыю* 1.

**ІНСПЕ́КЦЫЯ** (лац. inspectio = нагляд) — 1) кантроль за правільнасцю дзеянняў падведамасных органаў і асоб, за выкананнем якіх-н. правіл; 2) кантрольны орган, які сочыць за выкананнем устаноўленых правіл (напр. пажарная і., дарожная і.).

**ІНСПІРАВА́ЦЬ** (лац. inspirare) — 1) усяляць каму-н. пэўныя думкі, погляды, які-н. спосаб дзеяння; 2) нагаворамі, падбухторваннем выклікаць што-н. (напр. і. выступленні).

**ІНСПІРА́ТАР** (лац. inspirator = натхніцель) — той, хто *інспіруе* што-н., падбухторшчык.

**ІНСПІРА́ЦЫЯ** (лац. inspiratio) — 1) падгаворванне, падбухторванне; 2) *мед.* удых, удыханне (параўн. *экспірацыя*).

**ІНСТАЛЯ́ЦЫЯ** (с.-лац. installatio = вылучэнне ва ўрад) — 1) комплекс тэхнічных прыстасаванняў для правядзення электрычнасці, газу, вады ў памяшканні будынка; 2) *уст.* вылучэнне ва ўрад; 3) від мастацтва *поп-арту*, мантаж у прасторы аб'ектаў з рэчавага асяроддзя ці сканструяваных мастаком.

**ІНСТА́НЦЫЯ** (лац. instantia = непасрэдная блізкасць) — ступень, звяно ў супадпарадкаванні дзяржаўных, прафсаюзных, судовых і іншых органаў (напр. вышэйшая і., судовая і.).

**ІНСТРУКТАВА́ЦЬ** (лац. instruere) — даваць кіруючыя ўказанні, *інструкцыі*.

**ІНСТРУ́КТАР** (лац. instructor = арганізатар) — 1) службовая асоба, якая *інструктуе* падведамасныя ўстановы, грамадскія арганізацыі; 2) спецыяліст, які вучыць і дапамагае правільна наладзіць якую-н. справу (напр. і. фізкультуры).

**ІНСТРУКТЫ́ЎНЫ** (фр. instructif, ад лац. instruere = настаўляць) — які змяшчае ў сабе кіруючыя ўказанні, *інструкцыі* (напр. і-ая размова).

**ІНСТРУ́КЦЫЯ** (лац. instructio = наказ, настаўленне) — 1) кіруючыя ўказанні, падрабязныя настаўленні, як выконваць што-н.; 2) правілы карыстання машынай, прыборам, прамысловым вырабам.

**ІНСТРУМЕ́НТ** (лац. instrumentun) — 1) прылада для выканання якой-н. работы, а таксама сукупнасць такіх прылад (напр. слясарны і., хірургічны і.); 2) музычная прылада (напр. духавы і., струнны і.); 3) *перан.* сродак для дасягнення чаго-н. (напр. і. пазнання).

**ІНСТРУМЕНТАЛІ́ЗМ** (англ. instrumentalism, ад с.-лац. instrumentalis = інструментальны) — суб'ектыўна-ідэалістычны філасофскі кірунак (разнавіднасць *прагматызму*), які лічыць свядомасць адным са сродкаў прыстасавання да асяроддзя.

**ІНСТРУМЕНТАЛІ́СТ** (ад *інструменталізм*) — 1) *філас.* паслядоўнік інструменталізму; 2) музыкант, які іграе на якім-н. музычным інструменце.

**ІНСТРУМЕНТА́ЛЬНЫ** (с.-лац. instrumentalis) — 1) які мае адносіны да *інструментаў*, звязаны з іх вырабам (напр. і. склад, і. цэх); 2) які прызначаны для выканання на музычных інструментах або выконваецца імі (напр. і-ая п'еса, і-ая музыка).

**ІНСТРУМЕНТА́РЫЙ** (н.-лац. instrumentarium, ад лац. instrumentum = прылада) — сукупнасць *інструментаў*, якія выкарыстоўваюцца ў пэўнай галіне.

**ІНСТЫГА́ТАР** (ст.-польск. instygator, ад лац. instigator) — 1) галоўны пракурор у Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім (16—18 ст.); 2) судовы ўраднік у Трыбунале каронным (з 1578 г.) і Трыбунале Вялікага княства Літоўскага (з 1581 г.).

**ІНСТЫЛЯ́ЦЫЯ** (лац. instillatio) — *мед.* укапванне лякарстваў.

**ІНСТЫ́НКТ** (лац. instincus = пабуджэнне) — 1) прыроджаная здольнасць жывёльных арганізмаў рабіць бессвядомыя мэтанакіраваныя дзеянні ў адказ на знешнія або ўнутраныя раздражненні (напр. і. самазахавання); 2) *перан.* неўсвядомленая цяга, пачуццё (напр. мацярынскі і.); 3) *перан.* унутранае чуццё, прадчуванне чаго-н. (напр. і. страху).

**ІНСТЫНКТЫВІ́ЗМ** (ад *інстынкт*) — кірунак у *сацыялогіі*, які імкнецца растлумачыць сацыяльныя з'явы і працэсы з дапамогай звяртання да біялагічнай прыроды чалавека.

**ІНСТЫНКТЫ́ЎНЫ** (да *інстынкт*) — абумоўлены інстынктам, адвольны.

**ІНСТЫТУ́Т** (фр. institut, ад лац. institutum = установа, устанаўленне) — 1) навучальная ўстанова, якая дае вышэйшую адукацыю ў пэўнай галіне; 2) сярэдняя навучальная ўстанова закрытага тыпу для жанчын дваранскага паходжання ў дарэвалюцыйнай Расіі; 3) навукова-даследчая ўстанова; 4) сукупнасць норм, якія рэгулююць грамадскія адносіны (напр. і. права).

**ІНСТЫТУ́ЦЫЯ** (лац. institutio = настаўленне) — 1) элементарныя падручнікі старажытнарымскага права, складзеныя ў 6 ст. у Візантыі пры імператары Юстыніяне; як і *дыгесты*, мелі сілу закона; 2) установы, арганізацыі.

**ІНСТЫТУЦЫЯНАЛІ́ЗМ** (ад *інстытуцыі*) — кірунак у правазнаўстве ЗША 20 ст., які лічыць інстытуцыі (сям'ю, партыю, дзяржаву і інш.) асновай разгляду праблем грамадства, дзяржавы і права.

**ІНСУЛІ́Н** (н.-лац. insulinum, ад лац. insula = востраў) — *гармон* падстраўнікавай залозы, які рэгулюе вугляводны абмен у арганізме.

**ІНСУЛІНАТЭРАПІ́Я** (ад *інсулін* + *тэрапія*) — метад лячэння цукровага дыябету, а таксама некаторых псіхічных хвароб прэпаратамі інсуліну.

**ІНСУ́ЛЬТ** (лац. insultus = прыступ, скачок) — *апаплексія* галаўнога мозга, якая суправаджаецца раптоўнай стратай прытомнасці і паралічамі.

**ІНСУЛЯРЫЗА́ЦЫЯ** (ад лац. insula = востраў) — працэс узнікнення ізаляцыі папуляцый ва ўмовах існавання на астравах.

**ІНСУРГЕ́НТ** (лац. insurgens, -ntis = які паўстае) — *уст.* удзельнік узброенага паўстання супраць урада, паўстанец.

**ІНСУРЭ́КЦЫЯ** (лац. insurrectio) — *уст.* узброенае паўстанне.

**ІНСЦЭНІЗА́ЦЫЯ** (ад *ін-* + *сцэна*) — сцэнічная апрацоўка і пастаноўка драматычнага твора на сцэне, артыстычная *інтэрпрэтацыя* драматычнага тэксту на сцэне.

**ІНСЦЭНІ́РАВАЦЬ** (ад *ін-* + *сцэна*) — 1) надаваць літаратурнаму твору сцэнічную форму (напр. і. раман); 2) *перан.* прытворна рабіць што-н. з намерам выдаць яго за сапраўднае (напр. і. вяселле).

**ІНСЦЭНІРО́ЎКА** (ад *інсцэніраваць*) — 1) перапрацоўка апавядальнага (празаічнага ці паэтычнага) твора для сцэны, радыё, тэлебачання; 2) масавае відовішча, якое ўзнаўляе эпізоды гістарычных падзей.

**ІНТАКСІКА́ЦЫЯ** (ад *ін-* + гр. toksikon = яд) — атручванне арганізма ядавітымі рэчывамі (*таксінамі*).

**ІНТА́КТНЫ** (лац. intactus) — непарушны.

**ІНТА́ЛІЯ** (іт. intaglio = разьба) — разьблёны камень з паглыбленым рэльефным адлюстраваннем (параўн. *камея*); гл. таксама *гема*.

**ІНТАНАВА́ЦЬ** (лац. intonare = гучна вымаўляць) — вымаўляць або выконваць што-н. з якой-н. *інтанацыяй*.

**ІНТАНА́ЦЫЯ** (фр. intonation, ад лац. intonare = гучна вымаўляць) — 1) рытміка-меладычны лад мовы, чаргаванне павышэнняў і паніжэнняў тону пры вымаўленні (напр. пытальная і.); 2) манера вымаўлення, якая выражае пачуцці таго, хто гаворыць (напр. раздражнёная і.); 3) ступень дакладнасці перадачы вышыні гукаў пры музычным выкананні (напр. чыстая і.).

**ІНТА́РСІЯ** (іт. intarsio — інкрустацыя) — драўляная *інкрустацыя*.

**ІНТАРЭ́С** (польск. interes, ад с.-лац. interesse) — 1) цяга да чаго-н.,

зацікаўленасць чым-н. (напр. і. да літаратуры); 2) карысць, выгада; патрэбнасць (напр. практычны і.).

**ІНТРАВЕРТЫ́ЎНЫ** (ад лац. intro = унутр + vertere = паварочваць) — павернуты ўнутр; звязаны з псіхалагічнай характарыстыкай асобы, самапаглыбленай на ўнутраны свет думак, перажыванняў.

**ІНТРАГРЭ́СІЯ** (англ. introgression) — *біял.* пранікненне генетычнага матэрыялу аднаго віду пры аддаленай *гібрыдызацыі*.

**ІНТРА́ДА** (парт., ісп. entrada = уступ) — інструментальная п'еса ўрачыстага характару; уступная частка *сюіты*.

**ІНТРАДУ́КЦЫЯ** (лац. introductio = увядзенне) — 1) кароткі ўступ да асноўнай часткі музычнага твора; 2) перасяленне карысных жывёл і раслін у мясцовасці, дзе іх раней не было.

**ІНТРАЕ́КЦЫЯ** (н.-лац. introiectio = укідванне) — уключэнне індывідам у свой унутраны свет поглядаў, матываў і ўстановак іншых людзей.

**ІНТРАЗАНА́ЛЬНАСЦЬ** (ад лац. intra = унутры + *зона*) — пашырэнне пэўнай прыроднай з'явы на асобных участках унутры некалькіх сумежных зон, прыватны выпадак *азанальнасці*.

**ІНТРАЗАНА́ЛЬНЫ** (ад лац. intra = унутры + *занальны*) — які адносіцца да расліннасці, што не ўтварае самастойнай *зоны*, а ўваходзіць у склад занальнай расліннасці.

**ІНТРАМАЛЕКУЛЯ́РНЫ** (ад лац. intra = унутры + *малекулярны*) — унутрымалекулярны; і - а е д з е - я н н е — акісляльна-аднаўляльны працэс, які адбываецца ў малекулах раслін і некаторых жывёл без доступу свабоднага кіслароду, у выніку распічаплення арганічных рэчываў у клетках.

**ІНТРАНІЗА́ЦЫЯ** (ад *ін-* + *трон*) — урачыстае ўзвядзенне на прастол зноў абранага рымскага *папы* або *патрыярха*.

**ІНТРАСКАПІ́Я** (ад лац. intro = унутр + *-скапія*) — візуальнае вывучэнне ўнутранай мікраструктуры непразрыстых рэчываў і матэрыялаў.

**ІНТРАСКО́П** (ад лац. intro = унутр + *-скоп*) — прыбор для правядзення *інтраскапіі*.

**ІНТРАСПЕКТЫ́ЎНЫ** (ад *інтраспекцыя*) — заснаваны на інтраспекцыі (напр. і. метад).

**ІНТРАСПЕ́КЦЫЯ** (лац. introspectio) — метад вывучэння псіхічнага жыцця чалавека саманазіраннем.

**ІНТРО́Н** (англ. intron, ад intervening sequence = прамежкавая паслядоўнасць) — участак гена *эўкарыётаў*, які, як правіла, не нясе генетычнай інфармацыі, што адносіцца да сінтэзу бялку.

**ІНТРУЗІ́Ў** (ад лац. intrusus = ўвапхнуты) — горная парода, якая ўтварылася пры застыванні *магмы* ў тоўшчы зямной кары ва ўмовах высокага ціску.

**ІНТРУЗІ́ЎНЫ** (ад лац. intrusus = увапхнуты) — які мае адносіны да *інтрузіву*.

**ІНТРУ́ЗІЯ** (п.-лац. intrusio = упіхванне) — 1) працэс нагнятання *магмы* ў тоўшчу зямной кары; 2)

геалагічнае цела (*бакаліт, лакаліт* і інш.), складзенае з *інтрузіваў*.

**ІНТРЫ́ГА** (фр. intrigue, ад лац. intricare = заблытваць) — 1) скрытыя непрыстойныя дзеянні з мэтай нашкодзіць каму-н.; нагаворы, падкопы; 2) развіццё дзеяння і спосаб яго арганізацыі ў літаратурным творы пры дапамозе складаных перыпетый; 3) нядоўгая любоўная сувязь.

**ІНТРЫГАВА́ЦЬ** (фр. intriguer) — 1) весці *інтрыгі* 1; 2) узбуджаць цікавасць таямнічасцю, незвычайнасцю, загадкавасцю.

**ІНТРЫГА́Н** (фр. intrigant) — той, хто робіць *інтрыгі*, нагаворшчык.

**ІНТУБА́ЦЫЯ** (ад *ін-* + лац. tuba = труба) — увядзенне ў гартань праз рот спецыяльнай трубкі пры разладзе дыхання.

**ІНТУІТЫВІ́ЗМ** (ад н.-лац. intuitio = інтуіцыя, ад лац. intuitus = прыглядванне) — ідэалістычны кірунак у філасофіі, які абсалютызуе *інтуіцыю* як адзіна верагодны від пазнання.

**ІНТУІТЫ́ЎНЫ** (ад *інтуіцыя*) — заснаваны на інтуіцыі (проціл. *дыскурсіўны*).

**ІНТУІ́ЦЫЯ** (н.-лац. intuitio, ад лац. intuitus = прыглядванне) — неўсвядомленае пачуццё, заснаванае на папярэднім вопыце, якое накіроўвае на правільныя дзеянні; прадбачлівасць, здагадка.

**ІНТУІЦЫЯНІ́ЗМ** (ад *інтуіцыя*) — кірунак у філасофіі матэматыкі, які лічыць інтуіцыю асноўным крытэрыем строгасці матэматычных разважанняў (параўн. *лагістыка* 2).

**ІНТУСУСЦЭ́ПЦЫЯ** (ад лац. intus = унутр + susceptio = прыманне на сябе) — разрастанне абалонак раслінных клетак у выніку ўкаранення новых малекул *цэлюлозы* і *протапекціну* (параўн. *апазіцыя*[2] 2).

**І́НТЫМА** (лац. intimus = унутраны) — унутраная абалонка сценкі крывяносных сасудаў.

**ІНТЫ́МНЫ** (фр. intime, ад лац. intimus = асабісты, унутраны) — 1) глыбока асабісты, патаемны, сардэчны (напр. і-ыя перажыванні); 2) блізкі, прыязны, таварыскі (напр. і-ыя адносіны).

**ІНТЫ́НА** (ад лац. intus = унутры) — унутраная абалонка пылковага зерня насенных раслін.

**ІНТЫФА́ДА** (ар. intifada = вытрасанне) — вызваленчы рух арабаў у Палестыне.

**ІНТЭГРАВА́ЦЬ** (лац. integrare = узнаўляць) — 1) праводзіць *інтэграцыю* 1; 2) *мат.* знаходзіць *інтэграл* пэўнай функцыі.

**ІНТЭГРА́Л** (ад лац. integer = цэлы) — паняцце ў матэматыцы аб цэлай велічыні як суме сваіх бясконца малых частак (неазначальны і., азначальны і.).

**ІНТЭГРА́ЛЬНЫ** (п.-лац. integralis) — 1) які мае адносіны да *інтэграла* (напр. і-ыя ўраўненні); 2) цэласны, адзіны.

**ІНТЭГРА́ТАР** (лац. integrator = які робіць цэлым) — прыбор для вылічэння некаторых інтэгралаў (напр. момантаў інерцыі, плошчаў плоскіх фігур).

**ІНТЭГРА́Ф** [ад *інтэ(грал)* + *-граф*] — прыбор для вычэрчвання *інтэгральнай* крывой па зададзе-

ных *дыферэнцыяльных* ураўненнях.

**ІНТЭГРА́ЦЫЯ** (лац. integratio = узнаўленне) — 1) аб'яднанне ў адно цэлае якіх-н. частак (проціл. *дэзінтэграцыя*); 2) аб'яднанне нацыянальных гаспадарак дзвюх і больш дзяржаў з аднатыповым грамадскім ладам (эканамічная і.); 3) *мат.* знаходжанне *інтэграла* па функцыі ( і. функцыі).

**ІНТЭГРЫ́МЕТР** (ад лац. integer = цэлы + *-метр*) — механічны аналагавы вылічальны прыбор для матэматычнай апрацоўкі графічна зададзеных функцый.

**ІНТЭГУМЕ́НТ** (лац. integumentum = покрыва) — знешняе покрыва цэнтральнай часткі (*нуцэлуса*) насеннага пачатка раслін.

**ІНТЭЛЕ́КТ** (лац. intellectus) — здольнасць чалавека мысліць, разважаць; узровень разумовага развіцця.

**ІНТЭЛЕКТУА́Л** (лац. intellectualis = разумовы) — чалавек з высокаразвітым *інтэлектам*; работнік разумовай працы.

**ІНТЭЛЕКТУАЛІ́ЗМ** (ад лац. intellectualis = разумовы) — кірунак у *філасофіі* і *псіхалогіі*, які абсалютызуе працэсы мыслення, адрываючы іх ад жыццёвай асновы і практыкі.

**ІНТЭЛЕКТУА́ЛЬНЫ** (лац. intellectualis = разумовы) — разумовы, духоўны; з высока развітым *інтэлектам*.

**ІНТЭЛІГЕ́НТ** (лац. intelligens, -ntis = які разумее; ведае) — асоба, якая належыць да *інтэлігенцыі*; чалавек разумовай працы.

**ІНТЭЛІГЕ́НТЫ** (лац. intelligens, -ntis = які разумее, ведае) — 1) уласцівы *інтэлігенту*, *інтэлігенцыі*; 2) адукаваны, культурны.

**ІНТЭЛІГЕ́НЦЫЯ** (с.-лац. intelligentia = разуменне) — сацыяльны слой людзей, які складаюць работнікі разумовай працы са спецыяльнымі ведамі ў розных галінах навукі, тэхнікі і культуры (вучоныя, настаўнікі, урачы, інжынеры, артысты і інш.).

**ІНТЭЛІГІ́БЕЛЬНЫ** (лац. intelligibilis) — 1) пазнавальны толькі розумам, мысленнем; 2) выдуманы, нерэальны, звышнатуральны.

**ІНТЭЛСА́Т** (англ. INTELSAT, ад International Telecommunication Satellites = міжнародныя сувязныя спадарожнікі) — міжнародная арганізацыя па стварэнні і эксплуатацыі глабальнай камерцыйнай спадарожнікавай сувязі.

**ІНТЭНДА́НТ** (фр. intendant = кіраўнік, загадчык) — ваеннаслужачы, які займаецца вайсковай гаспадаркай і забеспячэннем воінскіх часцей і ўстаноў.

**ІНТЭНДЭ́НСІЯ** (ісп. intendencia) — асноўная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў слаба асвоенай частцы Калумбіі.

**ІНТЭНСІ́Ў** (п.-лац. intensivus = напружаны) — *лінгв.* вытворны дзеяслоў са значэннем большай *інтэнсіўнасці* дзеяння, чым выражаецца зыходным дзеясловам.

**ІНТЭНСІ́ЎНАСЦЬ** (ад *інтэнсіўны*) — 1) напружанасць, узмоцненая дзейнасць (напр. і. працы, і. працэсаў абмену рэчываў); 2) гушчыня патоку электрычнай, маг-

нітнай, гукавой, светлавой або іншай энергіі.

**ІНТЭНСІ́ЎНЫ** (п.-лац. intensivus, ад лац. intensio = напружанне) — 1) узмоцнены, напружаны; які дае высокую прадукцыйнасць (напр. і-ае развіццё жывёлагадоўлі); проціл. *экстэнсіўны; 2) перан.* яскравы, насычаны (пра колер).

**ІНТЭНСІФІКА́ЦЫЯ** (фр. intensification, ад п.-лац. intensivus = напружаны + facere = рабіць) — павелічэнне напружанасці, прадукцыйнасці, узмацненне дзейнасці (напр. і. вытворчасці).

**ІНТЭ́НЦЫЯ** (лац. intentio = імкненне) — намер, мэта, напрамак або накіраванасць свядомасці, волі, пачуцця на які-н. прадмет.

**ІНТЭР-** (лац. inter = паміж) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «паміж», «пасярод», «разам».

**ІНТЭРАРЭЦЭ́ПТАРЫ** (ад лац. interior = унутраны + *рэцэптары*) — рэцэптары, якія рэагуюць на змены ва ўнутраным асяроддзі арганізма; размешчаны ў мышцах, унутраных органах, сасудах і г.д. (гл. таксама *пропрыярэцэптары*); параўн. *экстэрарэцэптары*.

**ІНТЭРАРЭЦЭ́ПЦЫЯ** (ад лац. interior = унутраны + *рэцэпцыя*) — успрынятце цэнтральнай нервовай сістэмай імпульсаў, якія перадаюцца ад унутраных органаў *інтэрарэцэптарамі* (параўн. *экстэрарэцэпцыя*).

**ІНТЭРВАКА́ЛЬНЫ** (ад *інтэр-* + *вакальны*) — *лінгв.* які знаходзіцца паміж галоснымі гукамі (напр. і-ыя зычныя).

**ІНТЭРВА́Л** (лац. intervallum) — 1) прамежак, перапынак, адлегласць паміж з'явамі ў часе або пэўнымі пунктамі ў прасторы; 2) *муз.* суадносіны двух тонаў па вышыні, напр. *секунда, тэрцыя, кварта, квінта, секста* і інш.; 3) адлегласць паміж ваеннаслужачымі, вайсковымі падраздзяленнямі і г.д. у шырыню, калі яны павернуты да *фронту* 1 (параўн. *дыстанцыя* 1).

**ІНТЭРВАЛЮ́ТА** (ад *інтэр-* + *валюта*) — грашовыя знакі іншаземных краін, а таксама крэдытныя і плацёжныя дакументы, выражаныя ў іншаземных грашовых адзінках і прынятыя ў міжнародных разліках.

**ІНТЭРВЕ́НТ** (рус. интервент, ад лац. interveniens, -entis) — удзельнік або арганізатар *інтэрвенцыі*, захопнік.

**ІНТЭРВЕ́НЦЫЯ** (лац. interventio) — узброенае ўмяшанне адной ці некалькіх дзяржаў ва ўнутраныя справы другой дзяржавы з мэтай задушэння рэвалюцыі, захопу тэрыторыі, устанаўлення свайго панавання і інш.

**ІНТЭРВ'Ю́** (англ. interview = сустрэча, спатканне) — 1) прызначаная для друку (радыё, тэлебачання) гутарка карэспандэнта з кімн. дзеячам па пытаннях, якія цікавяць грамадскасць; 2) газетны артыкул, які выкладае змест такой гутаркі.

**ІНТЭРВ'ЮЕ́Р** (англ. interviewer) — журналіст, які бярэ ў кагон. *інтэрв'ю*.

**ІНТЭРГЛЯЦЫЯ́Л** (ад *інтэр-* + *гляцыял*) — прамежак часу, які падзяляе дзве суседнія ледніковыя

эпохі *антрапагенавага* перыяду; міжледнікоўе.

**ІНТЭРДЫ́КТ** (лац. interdictum) — 1) загад старажытнарымскага *прэтара*, які дазваляў або забараняў пэўныя дзеянні аднаму з істцоў; 2) забарона адпраўляць набажэнства, якая накладалася рымскім папам на гарады, вобласці, краіны і некаторых асоб у якасці пакарання за невыкананне рашэнняў царквы.

**ІНТЭР'Е́Р** (фр. intérieur = унутраны) — 1) унутраная частка будынка, памяшканне, архітэктурна і пamастацку аформленае; 2) карціна, на якой паказана ўнутраная прастора памяшкання; 3) унутраная будова органаў і тканак жывёлы (параўн. *экстэр'ер*).

**ІНТЭРКАЛУ́МНІЙ** (лац. intercolumnium, ад inter = паміж + columna = калона) — пралёт паміж побач стаячымі калонамі ў ордэрнай архітэктуры.

**ІНТЭРКАЛЯ́РНЫ** (лац. intercalarius = уставачны); і. р о с т — рост раслін у даўжыню шляхам дзялення клетак першаснай *мерыстэмы*, аддаленай ад *апікальнай* і «ўстаўленай» паміж зонамі клетак, дыферэнцыяцыя якіх ужо закончана.

**ІНТЭРКАЛЯ́ЦЫЯ** (лац. intercalatio = устаўка, дабаўка) — з'яўленне новых структур унутры дадзенай біялагічнай сістэмы, напр. інтэркалярны рост у некаторых раслін.

**ІНТЭРКІНЕ́З** (ад *інтэр-* + *-кінез*) — перыяд паміж першым і другім дзяленнямі *меёзу*.

**ІНТЭРКУРЭ́НТНЫ** (лац. intercurrens, -ntis = які дамешваецца) — які выпадкова далучаецца; і. з а х в о р в а н н е — захворванне, якое ўскладняе працяканне іншага захворвання.

**ІНТЭРЛІ́НГВА** (ад *інтэр-* + лац. lingua = мова) — міжнародная дапаможная мова, прапанаваная ў першым варыянце італьянскім матэматыкам Д. Пеана ў 1908 г., а ў другім варыянце — Міжнароднай асацыяцыяй дапаможнай мовы ў 1950 г.

**ІНТЭРЛІНГВІ́СТЫКА** (ад *інтэр-* + *лінгвістыка*) — раздзел мовазнаўства, які вывучае праблемы, звязаныя са стварэннем і функцыяніраваннем штучных моў, як міжнародных тыпу *эсперанта, інтэрлінгва*, так і матэматычных і інфармацыйна-лагічных.

**ІНТЭРЛІ́НІЯ** (ад *інтэр-* + *лінія*) — лінія паміж радкамі кнігі або іншага выдання.

**ІНТЭРЛІНЬЯ́Ж** (фр. interlignage, ад лац. inter = паміж + linea = лінія) — прабел паміж двума радкамі кнігі або іншага выдання.

**ІНТЭРЛЮ́ДЫЯ** (с.-лац. interludium, ад лац. inter = паміж + ludus = гульня) — невялікі ўстаўны ўрывак, які з'яўляецца звязкай паміж асноўнымі часткамі музычнага твора.

**ІНТЭРМЕДЫ́Н** (ад лац. intermedius = прамежкавы) — лекавы *прэпарат*, які прымяняецца пры дэгенератыўных зменах сятчаткі вока, а таксама як сродак, што паляпшае адаптацыю да цемнаты, павышае вастрыню зроку.

**ІНТЭРМЕ́ДЫЯ** (лац. intermedius = прамежкавы) — 1) невялікая займальная п'еска, якая выконвaецца паміж дзеяннямі драматычнага спектакля або оперы; 2) *муз.*

прамежкавы эпізод, які злучае правядзенні тэмы ў *фузе*.

**ІНТЭРМЕТАЛІ́ДЫ** (ад *інтэр-* + *метал*) — хімічныя злучэнні металаў з металамі.

**ІНТЭРМЕ́ЦЦА** (іт. intermezzo, ад лац. intermedius = прамежкавы) — невялікая інструментальная п'еса свабоднай формы, часам самастойны аркестравы нумар у оперы.

**ІНТЭРМІТАВА́ЦЬ** (лац. intermittere = перарываць) — перыядычна перарываць, перамяжоўваць.

**ІНТЭРМІТО́З** (ад *інтэр-* + *мітоз*) — тое, што і *інтэрфаза*.

**ІНТЭРМІТЭ́НЦЫЯ** (лац. intermittentio = перарыванне) — перыядычная змена *дэбіту* крыніц, абумоўленая рытмічнай зменай газавага ціску, што найбольш яскрава праяўляецца ў *гейзерах*.

**ІНТЭ́РН** (лац. internus = унутраны) — асоба, якая праходзіць *інтэрнатуру*.

**ІНТЭРНАЛІ́ЗМ** (ад лац. internus = унутраны) — метадалагічны кірунак у гісторыі і філасофіі, які прызнае рухаючай сілай развіцця навукі ўнутраныя, інтэлектуальныя фактары.

**ІНТЭРНА́Т** (ад лац. internus = унутраны) — 1) памяшканне для сумеснага пражывання людзей, якія вучацца ў адной навучальнай установе або працуюць на адным прадпрыемстве; ш к о л а - і. — школа, у якой дзеці вучацца і жывуць; 2) установа сістэмы сацыяльнага забеспячэння для інвалідаў і састарэлых.

**ІНТЭРНАТУ́РА** (ад лац. internus = унутраны) — адна з форм стажыроўкі ўрачоў-выпускнікоў з мэтай удасканалення ведаў, паглыблення спецыялізацыі.

**ІНТЭРНАЦЫЯНА́Л** (фр. d'Internationale, ад лац. inter = паміж + natio, -onis = народ) — 1) міжнароднае аб'яднанне (напр. Першы І. — першая міжнародная арганізацыя рабочых); 2) міжнародны гімн камуністычных партый.

**ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *інтэр-* + *нацыяналізацыя*) — прызнанне чаго-н. міжнародным, аднолькава даступным для выкарыстання ўсімі дзяржавамі (напр. і. пралівa).

**ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІ́ЗМ** (фр. internationalisme, ад лац. inter = паміж + natio, -onis = народ) — светапогляд, які сцвярджае роўнасць і раўнапраўе ўсіх народаў.

**ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІ́СТ** (ад *інтэрнацыяналізм*) — прыхільнік інтэрнацыяналізму.

**ІНТЭРНАЦЫЯНА́ЛЬНЫ** (п.-лац. internationalis = міжнародны) — 1) міжнародны (і-ыя сувязі); 2) заснаваны на прынцыпах *інтэрнацыяналізму*.

**ІНТЭРНІ́РАВАЦЬ** (фр. interner, ад лац. internus — унутраны) — прымусова затрымліваць (уладамі дзяржаў, што ваююць) і пасяляць у спецыяльных месцах непрыяцельскіх грамадзян, а таксама раззбройваць на сваёй тэрыторыі (уладамі нейтральных дзяржаў) вайсковыя часці дзяржаў, якія знаходзяцца ў стане вайны.

**ІНТЭРНІ́СТ** (ад лац. internus = унутраны) — урач па ўнутраных хваробах (тэрапеўт).

**ІНТЭРНУ́НЦЫЙ** (лац. internuntius = пасрэднік) — дыпламатыч-

ны прадстаўнік Ватыкана, рангам ніжэйшы за *нунцыя*.

**ІНТЭРПАЛІ́РАВАЦЬ, ІНТЭРПАЛЯВА́ЦЬ** (лац. interpolare = паднаўляць, змяняць) — рабіць *інтэрпаляцыю*.

**ІНТЭРПАЛЯ́ТАР** (ад лац. interpolare = паднаўляць, змяняць) — вылічальнае ўстройства для знаходжання каардынатаў пункта, што рухаецца бесперапынна па крывой, зададзенай аналітычна.

**ІНТЭРПАЛЯ́ЦЫЯ** (лац. interpolatio = паднаўленне, змяненне) — 1) *мат.* вызначэнне прамежкавых значэнняў якой-н. зменлівай велічыні па раду суседніх вядомых яе значэнняў (проціл. *экстрапаляцыя* 2); 2) пазнейшая ўстаўка ў якім-н. тэксце, якая не належыць арыгіналу.

**ІНТЭРПЕЛІ́РАВАЦЬ, ІНТЭРПЕЛЯВА́ЦЬ** (лац. interpellere = перапыняць прамову) — уносіць *інтэрпеляцыю*.

**ІНТЭРПЕЛЯ́НТ** (лац. interpellans, -ntis = які перапыняе прамову) — асоба, якая ўносіць *інтэрпеляцыю*.

**ІНТЭРПЕЛЯ́ЦЫЯ** (лац. interpellatio = перапыненне прамовы) — спецыяльны запыт дэпутата парламента да ўрада пра яго дзеянні або дзеянні асобных міністраў, па якім пасля спрэчак прымаецца рашэнне.

**ІНТЭРПО́Л** (фр. interpol, ад Organisation internationale de police criminalle) — міжнародная арганізацыя крымінальнай паліцыі, створаная групай заходніх дзяржаў.

**ІНТЭРПРЭТАВА́ЦЬ** (лац. interpretari) — растлумачваць, раскрываць сэнс чаго-н. (напр. і. закон).

**ІНТЭРПРЭТАСКО́П** (ад лац. interpretari = тлумачыць + *-ско́п*) — прыбор, які дапамагае дэшыфроўваць аэраздымкі.

**ІНТЭРПРЭТА́ЦЫЯ** (лац. interpretatio = растлумачванне) — 1) тлумачэнне, раскрыццё сэнсу чаго-н. (напр. і. тэксту); 2) творчае раскрыццё вобраза або музычнага твора выканаўцам.

**ІНТЭРПУ́НКЦЫЯ** (лац. interpunctio = раздзяленне мовы кропкамі) — 1) вучэнне аб расстаноўцы знакаў прыпынку; 2) тое, што і *пунктуацыя*.

**ІНТЭРСЕ́КС** (ад *інтэр-* + лац. sexus = пол) — арганізм з прыметамі *інтэрсексуальнасці*.

**ІНТЭРСЕКСУА́ЛЬНАСЦЬ** (ад *інтэр-* + *сексуальнасць*) — наяўнасць у чалавека або раздзельнаполавай жывёліны прыкмет абодвух полаў, якія носяць прамежкавы характар; адна з форм *гермафрадытызму*.

**ІНТЭРСЕМІЯТЫ́ЧНЫ** (ад *інтэр-* + гр. semeiotos = пазначаны) — звязаны з рознымі знакавымі сістэмамі; і. п е р а к л а д — тлумачэнне слоўных знакаў знакамі няслоўных знакавых сістэм.

**ІНТЭРСТАДЫЯ́Л** (ад *інтэр-* + *стадыял*) — час пацяплення клімату і значнага скарачэння плошчы ледніка паміж двума стадыяламі на працягу аднаго і таго ж зледзянення ў *антрапагене*; міжстадыял.

**ІНТЭРСТЫ́ЦЫЯ** (лац. interstitium = прамежак) — прамежак паміж ідыяморфнымі (гл. *ідыяморфізм*) састаўнымі часткамі магматычнай пароды.

**ІНТЭРСТЫЦЫЯ́ЛЬНЫ** (ад лац. interstitium = прамежак) — прамежны; і - ы я к л е т к і — клеткі, якія змяшчаюцца ў злучальнай тканцы палавых органаў і забяспечваюць убіранне з крыві цвёрдых часцінак і выдзяленне палавых гармонаў.

**ІНТЭРСТЭЛЯ́РНЫ** (ад *інтэр-* + лац. stella = зорка) — міжзорны.

**ІНТЭРСУБ'ЕКТЫ́ЎНАСЦЬ** (ад *інтэр-* + *суб'ектыўнасць*) — тэрмін у некаторых суб'ектыўна-рэалістычных тэорыях для абазначэння *феноменаў* (з'яў), што не залежаць ад асобнага суб'екта, выходзяць за сферу яго індывідуальнай свядомасці, але не існуюць аб'ектыўна.

**ІНТЭРТЫ́П** (ад *інтэр-* + *-тып*) — наборная радковаадліўная машына, падобная па канструкцыі на *лінатып*.

**ІНТЭРФА́ЗА** (ад *інтэр-* + *фаза*) — стадыя жыццёвага цыкла клеткі паміж двума паслядоўнымі дзяленнямі *мітозу*.

**ІНТЭРФА́КС** (англ. Interfax) — расійскае незалежнае інфармацыйнае агенцтва, заснаванае ў 1989 г.

**ІНТЭРФЕ́ЙС** (англ. interface, ад лац. inter = паміж + англ. face = твар, знешні выгляд) — сістэма уніфікаваных сувязей і сігналаў у вылічальнай тэхніцы, праз якія ўстройствы вылічальнай сістэмы злучаюцца паміж сабой.

**ІНТЭРФЕРО́МЕТР** [ад *інтэрфер(энцыя)* + *-метр*] — аптычны вымяральны прыбор, дзеянне якога заснавана на з'яве інтэрферэнцыі (гл. таксама *мікраінтэрферометр, радыёінтэрферометр*).

**ІНТЭРФЕРО́Н** (ад лац. inter = паміж + ferre = несці) — рэчыва, якое выпрацоўваецца клеткамі пасля кантакту з *вірусам* і робіць іх больш-менш неўспрымальнымі да віруснай інфекцыі.

**ІНТЭРФЕРЭ́НЦЫЯ** (ад *інтэр-* + лац. ferens, -ntis = які нясе, пераносіць) — 1) узаемнае ўзмацненне або аслабленне хваляў (светлавых, гукавых, электрычных) пры іх накладванні адна на другую; 2) з'ява пры заражэнні арганізма рознымі *вірусамі*, калі пад уздзеяннем адных з іх клеткі арганізма выпрацоўваюць *інтэрферон*, што падаўляе развіццё іншых вірусаў; 3) узаемапранікненне моўных элементаў у выніку кантактавання моў.

**ІНТЭРФІ́КС** (ад *інтэр-* + лац. fixus = прымацаваны) — *лінгв.* частка слова, якая служыць для злучэння іншых *марфем*.

**ІНТЭРЦЭ́ПТАР** (лац. interceptor, ад intercipere = перахопліваць, адбіваць) — рухомае прыстасаванне на крыле самалёта перад *элеронам*, якое служыць для паляпшэння ўстойлівасці самалёта ў палёце.

**ІНТЭРЦЭ́СІЯ** (лац. intercessio = *літар.* умяшанне) — 1) права службовых асоб у Стараж. Рыме прыпыняць дзеянні іншых службовых асоб; 2) прыняцце на сябе чужога доўгу, паручальніцтва.

**І́НТЭРЫМ** (лац. interim = між тым) — часовыя распараджэнні часоў *Рэфармацыі*, якія выдаваліся з мэтай спыніць рэлігійныя спрэчкі паміж католікамі і пратэстантамі.

**ІНТЭРЫЯРЫЗА́ЦЫЯ** (фр. interiorisation, ад лац. interior = унутраны) — фарміраванне разумовых

дзеянняў і ўнутранага плана свядомасці праз засваенне індывідам знешніх сувязей з прадметамі і сацыяльных форм зносін.

**ІНУЛІ́Н** (ад лац. inula = дзівасіл) — арганічнае злучэнне, складаны вуглявод расліннага паходжання з групы *поліцукрыдаў*, выкарыстоўваецца для атрымання фруктозы, як заменнік крухмалу і цукру пры цукровым дыябеце.

**ІНФА́ЙТЫНГ** (англ. infighting, ад in = унутр + fight = бой) — бой на блізкай дыстанцыі ў *боксе*.

**ІНФА́НТ** (ісп. infante, ад лац. infans, -ntis = немаўля, дзіця) — *тытул* прынцаў каралеўскага роду ў манархічнай Іспаніі і Партугаліі.

**ІНФА́НТА** (ісп. infanta) — *тытул* прынцэс каралеўскага роду ў манархічнай Іспаніі і Партугаліі.

**ІНФАНТА́ДА** (ісп. infantado) — парода мерыносавых авечак.

**ІНФАНТЫЛІ́ЗМ** (ад лац. infantillis = дзіцячы) — 1) адсталасць у развіцці арганізма, якая праяўляецца ў захаванні ў дарослага чалавека фізічных і псіхічных рыс, уласцівых дзіцячаму ўзросту; 2) *перан.* бестурботнасць, легкадумнасць, якія спалучаюцца з крайнім эгаізмам.

**ІНФАНТЫ́ЛЬНЫ** (лац. infantilis = дзіцячы) — 1) уласцівы дзіцячаму ўзросту, недаразвіты (напр. і. выгляд); 2) *перан.* бестурботны, легкадумны (і. чалавек).

**ІНФАНТЭ́РЫЯ** (іт. infanteria) — *уст.* пяхота, пяхотнае войска; генерал ад інфантэрыі — самы высокі генеральскі чын у пяхотных войсках царскай Расіі.

**ІНФА́РКТ** (лац. infarctus = набіты, напоўнены) — амярцвенне тканак якога-н. органа з-за адсутнасці цёку крыві ў артэрыях пры спазме або закупорцы (напр. і. сардэчнай мышцы).

**ІНФАРМАВА́ЦЬ** (польск. informować, ад лац. informare) — даваць звесткі, *інфармацыю* 1 аб чым-н., азнаямляць з чым-н.

**ІНФАРМАСО́МЫ** (ад лац. informo = фармую + *сома*) — унутрыклетачныя часцінкі, якія ўдзельнічаюць у *біясінтэзе* бялку і складаюцца з *рыбануклеінавай* кіслаты і бялку.

**ІНФАРМА́ТАР** (лац. informator = які паведамляе) — той, хто *інфармуе*, дае *інфармацыю* 1.

**ІНФАРМА́ТЫКА** (рус. информатика, ад лац. informare = паведамляць) — галіна навукі, якая вывучае структуру і агульныя ўласцівасці навуковай *інфармацыі*, а таксама пытанні, звязаныя з яе зборам, захаваннем і выкарыстаннем у розных сферах чалавечай дзейнасці.

**ІНФАРМАТЫ́ЎНЫ** (ад *інфармацыя*) — насычаны інфармацыяй, які добра інфармуе.

**ІНФАРМА́ЦЫЯ** (лац. informatio = паведамленне, растлумачванне) — 1) паведамленне аб становішчы спраў у якой-н. галіне, аб чыёй-н. дзейнасці (напр. газетная і.); 2) сукупнасць якіх-н. звестак, ведаў; 3) звесткі аб навакольным свеце, працэсах, з'явах, падзеях, якія ў ім адбываюцца, што ўспрымаюцца чалавекам і жывымі арганізмамі, зберагаюцца машынамі і іншымі *сістэмамі*.

**ІНФА́УНА** (ад *ін-* + *фауна*) — сукупнасць водных арганізмаў, якія жывуць у донных грунтах вадаёма (параўн. *эпіфауна*).

**ІНФЕ́КЦЫЯ** (лац. infectio) — заражэнне арганізма хваробатворнымі мікробамі.

**ІНФЕРНА́ЛЬНЫ** (лац. infernalis, ад inferna = падземнае царства) — пякельны, падземны.

**ІНФІ́КС** (лац. infixus = устаўлены) — *лінгв. афікс*, устаўлены ў сярэдзіну асновы слова пры словаўтварэнні або словазмяненні.

**ІНФІЛЬТРА́Т** (ад *ін-* + *фільтрат*) — павелічэнне аб'ёмаў тканак у выніку скаплення ў іх клетачных элементаў з прымессю крыві і лімфы (напр. пухлінны і.).

**ІНФІЛЬТРА́ЦЫЯ** (ад *ін-* + *фільтрацыя*) — 1) прасочванне атмасферных і паверхневых водаў праз капілярныя поры ў глебу, горную пароду; 2) пранікненне ў тканкі і клеткі арганізма пабочных рэчываў.

**ІНФІНІТЫ́Ў** (лац. infinitivus) — *лінгв.* неазначальная форма дзеяслова.

**ІНФІЦЫ́РАВАЦЬ** (лац. inficere = заражаць) — уносіць *інфекцыю* ў арганізм, рану і інш.

**ІНФЛЮА́ЦЫЯ** (ад лац. influere = уліванца, пранікаць) — пранікненне паверхневых водаў праз трэшчыны і варонкі ў тоўшчу зямной кары.

**ІНФЛЮЭ́НЦА** (іт. influenza, ад лац. influere = пранікаць) — устарэлая назва *грыпу*.

**ІНФЛЯ́ЦЫЯ** (лац. inflatio = уздуцце) — абясцэньванне папяровых грошай у выніку выпуску іх для абарачэння ў памерах, якія перавышаюць патрэбы тавараздвароту (параўн. *дэфляцыя*).

**ІН-ФО́ЛІО** (лац. in folio = *літар.* у аркуш) — *фармат* кнігі, альбома або іншага выдання, калі старонка складае палавіну стандартнага папяровага аркуша (гл. таксама *фаліянт* 1).

**ІНФРАКО́Н** (ад лац. infra = пад + гр. eikon = малюнак) — перадавальная электронна-прамянёвая трубка з намнажэннем зараду для пераўтварэння нябачных вокам вобразаў у электрычныя сігналы.

**ІНФРАМІКРАБІЯЛО́ГІЯ** (ад лац. infra = пад + *мікрабіялогія*) — тое, што і *вірусалогія*.

**ІНФРАСТРУКТУ́РА** (ад лац. infra = пад + *структура*) — сукупнасць галін і ведаў дзейнасці, якія забяспечваюць нармальнае функцыяніраванне ўсіх сфер эканомікі, як вытворчых, так і невытворчых; сюды ўваходзяць транспарт, сувязь, камунальная гаспадарка, прафесійнае навучанне і інш.

**ІНФУЗО́РЫІ** (н.-лац. infusoria, ад лац. infusus = уліты куды-н., разліты ў чым-н.) — клас найбольш высока арганізаваных прасцейшых (аднаклетачных) жывёл; жывуць у прэсных і салёных водах і вільготнай глебе, многія вядуць паразітычны спосаб жыцця.

**ІНЦІ́НА** (ад лац. Intus = унутры) — унутраны слой абалонкі пылковага зерня (у насенных) ці *мікраспоры* (у споравых раслін).

**ІНЦУ́ХТ** (ням. inzucht, ад in = у + Zucht = развядзенне) — тое, што і *інбрыдзінг* (у раслінаводстве).

**ІНЦУ́ХТ-ДЭПРЭ́СІЯ** (ад *інцухт* + *дэпрэсія*) — зніжэнне жыццёвасці і прадукцыйнасці раслін у выніку шматразовага блізкароднаснага скрыжоўвання.

**ІНЦЫДЭ́НТ** (лац. incident, -ntis = які здараецца) — выпадак, здарэнне (звычайна непрыемнае), непаразуменне, сутычка.

**ІНЦЫ́ЗІЯ** (лац. incisio) — рассяканне тканкі, якое робяць з лячэбнай мэтай (напр. ускрыццё гнайніка); пачатковы этап хірургічнай аперацыі.

**ІНЦЫСТАВА́ННЕ** (ад *ін-* + *цыста*) — працэс утварэння шчыльнай абалонкі (цысты) у аднаклетачных арганізмаў пры неспрыяльных умовах.

**ІНЦЭ́СТ** (лац. incestum) — палавая сувязь паміж блізкімі сваякамі, кровазмяшэнне.

**ІО́Л** (гал. jol) — невялікае двухмачтавае паруснае судна з косымі парусамі.

**ІО́ЛА** (ням. Jolle) — вастраносая спартыўная *яхта*.

**ІО́ЛЬДЫЯ** (н.-лац. yoldia) — марскі *малюск* класа двухстворкавых; жыве на мяккіх ілістых грунтах.

**ІО́Н** (гр. ion = які ідзе) — электрычна зараджаны *атам*, які ўтвараецца ў выніку страты ці набыцця аднаго ці некалькіх электронаў.

**ІОНАЛЮМІНЕСЦЭ́НЦЫЯ** (ад *іон* + *люмінесцэнцыя*) — люмінесцэнцыя, якая ўзбуджаецца пры бамбардзіраванні *люмінафора* іонамі.

**ІОНАТЭРАПІ́Я** (ад *іон* + *тэрапія*) — лячэнне ўвядзеннем у арганізм іонаў пры *аэраіонатэрапіі* або пры дапамозе гальванічнага току (*іонтафарэз*).

**ІОНТАФАРЭ́З** (ад *іон* + гр. phoreo = нясу) — лячэнне ўвядзеннем у арганізм лекавых рэчываў праз скуру пры дапамозе гальванічнага току, што выклікае перамяшчэнне іонаў.

**ІО́Х** (ням. Joch) — старая адзінка зямельнай меры, якая ў Германіі была роўная 56,03 *ара*, у Швейцарыі — 36, у Венгрыі — 43,16 ара.

**ІПАДРО́М** (гр. hippodromos, ад hippos = конь + dromos = месца для бегу) — спецыяльна абсталяванае месца для конных скачак і спаборніцтваў.

**ІПАДЫЯ́КАН** (ад гр. hypo = пад + *дыякан*) — малодшы дыякан пры *архірэі*.

**ІПАЛО́ГІЯ** гл. *гіпалогія*.

**ІПАМЕ́Я** (н.-лац. ipomoea, ад гр. ips, ipos = чарвяк + homoios = падобны) — павойная травяністая або кустовая расліна сям. бярозкавых з буйнымі кветкамі розных колераў у выглядзе званочкаў, пашыраная ў тропіках; некаторыя віды вырошчваюцца як дэкаратыўныя.

**ІПАСТА́СА** (гр. hypostasis = сутнасць, замена) — *літ.* у антычнай метрыцы замена адной стапы другой, з аднолькавым долевым аб'ёмам.

**ІПАСТА́СЬ** (гр. hypostasis = сутнасць) — 1) адна з асоб хрысціянскай тройцы (бог выступае ў трох іпастасях: бог-бацька, бог-сын і бог-дух святы); 2) *перан.* тое, што цесна далучаецца да каго-н., чаго-н. іншага.

# І

**ІПАТЭ́КА** (гр. hypotheke = заклад) — 1) заклад нерухомай маёмасці (пераважна зямлі, будынкаў) для атрымання пазыкі, а таксама пазыка пад заклад маёмасці; 2) пазыковае пасведчанне аб закладзе нерухомай маёмасці, якое выдаецца банкам пазычальніку.

**ІПАХО́НДРЫЯ** (гр. hypochondria) — стан душэўнай прыгнечанасці, які характарызуецца непамерным страхам за сваё здароўе.

**ІПЕКАКУА́НА** (парт. ipecacuanha, з індз.) — кустовая расліна сям. марэнавых, пашыраная пераважна ў Бразіліі, корань якой выкарыстоўваецца ў медыцыне як адхарквальны сродак; ванітоўны корань.

**ІПРЫ́Т** (фр. ypérite, ад Ypres = назва бельгійскага горада) — арганічнае злучэнне, бясколернае маслянiстае рэчыва з гарчычным пахам, якое выклікае нарывы на скуры і агульнае атручэнне арганізма; выкарыстоўваецца як баявое атрутнае рэчыва; гарчычны газ.

**ІРАДЫІ́РАВАЦЬ** (лац. irradiare = ззяць) — распаўсюджвацца за межы непасрэднай крыніцы ўзбуджэння, раздражнення (пра нервовыя працэсы).

**ІРАДЫЯ́ЦЫЯ** (ад лац. irradiare = ззяць) — 1) павелічэнне ў выніку аптычнага падману памераў светлых прадметаў на чорным фоне і, наадварот, памяншэнне памераў цёмных фігур на светлым фоне; 2) распаўсюджанне працэсу ўзбуджэння або тармажэння ў цэнтральнай нервовай сістэме; 3) *мед.* распаўсюджанне болю за межы пашкоджанага месца.

**ІРАНІЗАВА́ЦЬ** (фр. ironiser, ад лац. ironia = іронія) — адносіцца да каго-н., чаго-н. з *іроніяй*; смяяцца, кпіць.

**ІРАЦЫЯНАЛІ́ЗМ** (ад лац. irrationalis = неразумны) — кірунак у філасофіі, які прызнае рэчаіснасць *ірацыянальнай* і адмаўляе навуковае пазнанне прыроды і грамадскага жыцця.

**ІРАЦЫЯНА́ЛЬНЫ** (лац. irrationalis = неразумны) — 1) паводле ідэалістычнай філасофіі — пазбаўлены заканамернасці, а таму недаступны для розуму, невытлумачальны; 2) *мат.* несуразмерны з адзінкай, а таму не здольны быць выражаны ні цэлым, ні дробным *рацыянальным* лікам, напр. квадратны корань з ліку 3 (і. лік).

**І́РБІС** (манг. irbis) — снежны *барс*; водзіцца ў гарах Цэнтр. Азіі.

**ІРГА́** (манг. irgai) — кустовая расліна сям. ружавых са шматлікімі дробнымі белымі кветкамі і ядомымі сакаўнымі ягадамі, пашыраная ў Еўразіі і Паўн. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ІРМАЛО́ГІЙ, ІРМАЛО́Й** (гр. heirmologion) — зборнік *ірмасаў* праваслаўнага богаслужэння.

**І́РМАС** (гр. heirmos = сплячэнне, сувязь) — царкоўнае песнапенне на ўсяночную.

**ІРО́НІЯ** (лац. ironia, ад гр. eironeia = прытворства) — 1) тонкая насмешка, выражаная ў скрытай форме; 2) стылістычны зварот, фраза, у якіх прытворна, з мэтай насмешкі сцвярджаецца супрацьлеглае таму, што думаюць аб сабе або прадмеце.

**ІРПЕКС** (н.-лац. irpex) — губавы *базідыяльны* грыб сям. порыевых, які расце на пнях, мёртвых ствалах дрэў.

**І́РХА** (польск. ircha, ад с.-в.-ням. irch, ад лац. hircus = казёл) — 1) вузкая палоска скуры або аўчыны, якая закладваецца ў шво кажуха, рукавіцы і інш.; 2) палоска аўчыны, якой абшываюць край адзення або абутку для ўпрыгожання; аблямоўка; 3) *гіст.* двухбаковая *замша*.

**ІРЫГА́ТАР** (лац. irrigator) — спецыяліст па *ірыгацыі* 1.

**ІРЫГА́ЦЫЯ** (лац. irrigatio = арашэнне, абвадненне) — 1) штучнае арашэнне палёў пры дапамозе спецыяльных прыстасаванняў; 2) арашэнне ўзбуджанай тканкі, раны лякарствам, мінеральнай вадой і інш.

**ІРЫДАФО́РЫ** (ад гр. iris, -idos = радуга + *-фор*) — тое, што і *ірыдацыты*.

**ІРЫДАЦЫКЛІ́Т** (ад гр. iris, -idos = радуга + *цыкл*) — запаленне радужнай абалонкі і раснічнага цела вока.

**ІРЫДАЦЫ́ТЫ** (ад гр. iris, -idos = радуга + *-цыты*) — пігментныя клеткі ў злучальнатканкавай частцы скуры ніжэйшых пазваночных, асабліва ў рыб, і стромы радужнай абалонкі вока ва ўсіх пазваночных, акрамя млекакормячых.

**ІРЫ́ДЫЙ** (н.-лац. iridium, ад гр. iris, -idos = радуга) — рэдкі ў прыродзе хімічны *элемент*, цяжкі тугаплаўкі метал шаравата-белага колеру, блізкі да плаціны.

**ІРЫДЫЯДЫЯГНО́СТЫКА** (ад гр. iris, -idos = радуга, радужная абалонка + *дыягностыка*) — распазнаванне хвароб у чалавека па стану яго радужнай абалонкі вока, «вочная» дыягностыка.

**ІРЫЗА́ЦЫЯ** (ад гр. iris = радуга) — яскравая вясёлкавая афарбоўка на гранях некаторых мінералаў (напр. лабрадору) пры праходжанні святла, краёў воблакаў, што знаходзяцца перад сонечным дыскам.

**ІРЫ́С** (гр. iris = радуга) — 1) радужная абалонка вока; 2) сорт цукерак у выглядзе плітачак карычневага колеру, якія робяцца з малака, цукру і патакі. 3) суканыя каляровыя ніткі для вышывання, вязання.

**ІРЫ́Т** (гр. iris, -idos = радуга) — запаленне радужнай абалонкі вока.

**ІРЫТА́ЦЫЯ** (лац. irritatio) — узбуджанасць, усхваляванасць, узрушанасць.

**ІРЭА́ЛЬНЫ** (лац. irrealis) — які не існуе ў рэальнасці, нерэальны.

**ІРЭГУЛЯ́РНЫ** (лац. irregularis) — не падпарадкаваны агульным правілам, нерэгулярны (напр. і-ае войска); проціл. *рэгулярны* 2.

**ІРЭДЭНТЫ́ЗМ** (іт. irredentismo, ад irredento = нявызвалены) — грамадска-палітычны рух у Італіі канца 19 — пач. 20 ст. за далучэнне зямель, часткова заселеных італьянцамі, якія не ўвайшлі ў склад Італіі ў час яе ўз'яднання.

**ІРЭЗІ́НЭ** (н.-лац. iresine) — травяністая, радзей кустовая або дрэвавая расліна сям. аксамітнікавых з зеленаватымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў тропіках і субтропіках Амерыкі, Аўстраліі; на

Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ІСЛА́М** (ар. islam = адданне сябе волі алаха) — адна з сусветных рэлігій (нараўне з *хрысціянствам і будызмам*), якая ўзнікла ў 7 ст. у Аравіі і пашырылася ў краінах Сярэд. і Блізкага Усходу, Паўн. Афрыкі, Паўд.-Усх. Азіі; заснавальнікам рэлігіі лічыцца Магамет (гл. *магаметанства, мусульманства*).

**ІСО́П** (н.-лац. hyssopus < гр. hyssopos, ад ст.-яўр. 'ezof) — травяністая або паўкустовая расліна сям. губакветных з духмяным эфіраносным лісцем, пашыраная ў Міжземнамор'і, Малой і Цэнтр. Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная і лекавая.

**ІСТЭ́БЛІШМЭНТ** (англ. establishment, ад establish = засноўваць) — 1) прывілеяваныя групы насельніцтва ў ЗША, Англіі і іншых англамоўных краінах, а таксама высокі ўзровень іх прыбыткаў; 2) трывалае, устойлівае становішча ў грамадстве.

**ІСТЭ́РЫК** (ад *істэрыка*) — чалавек, які пакутуе ад істэрыкі, схільны да істэрыкі.

**ІСТЭ́РЫКА** (гр. hysterikos) — прыпадак *істэрыі*.

**ІСТЭ́РЫЯ** (гр. hystera) — 1) нервовае захворванне, якое праяўляецца ў прыпадках, павышанай зласлівасці, сутаргавым смеху са слязамі; 2) *перан.* нервозная ліхаманкавая дзейнасць (напр. ваенная і.).

**ІТАБІРЫ́Т** (ад ісп. Itabira = назва горада ў Бразіліі) — назва жалезістых кварцытаў у асобных краінах Паўд. Амерыкі.

**ІТАТСІ́** (яп. itatsi) — драпежны звярок сям. куніц, пашыраны ў Японіі; жыве каля вады, жывіцца дробнымі грызунамі, рыбай і птушкамі; аб'ект пушнога промыслу; японскі каланок.

**І́ТРЫЙ** (н.-лац. yttrium, ад Ytterby = назва мясцовасці ў Швецыі) — хімічны элемент, які належыць да групы рэдказямельных элементаў, шэры лёгкі метал; выкарыстоўваецца для легіравання сталі, чыгуну і сплаваў.

**ІТЭРАТЫ́Ў** (лац. iterativum) — *лінгв.* мнагакратны дзеяслоў, які выражае дзеянне, што паўтараецца.

**ІТЭРАТЫ́ЎНЫ** (лац. iterativus) — *лінгв.* шматразовы, мнагакратны (напр. і. дзеяслоў).

**ІТЭРА́ЦЫЯ** (лац. iteratio = паўтарэнне) — вынік прымянення якой-н. матэматычнай аперацыі, які атрымліваецца ў серыі аналагічных аперацый.

**ІТЭ́РБІЙ** (н.-лац. ytterbium, ад Ytterby = назва мясцовасці ў Швецыі) — хімічны элемент сям. *лантаноідаў*, серабрыста-шэры метал; выкарыстоўваецца як газапаглынальнік у электравакуумных прыборах.

**ІУДАІ́ЗМ** (н.-лац. iudaismus, ад лац. iudaicus = яўрэйскі) — рэлігія, пашыраная сярод веруючых яўрэяў; узнікла ў канцы 2 тыс. да н. э.; афіцыяльная рэлігія Ізраіля.

**ІЎРЫ́Т** (ад гр. hebraios = яўрэй) — сучасная мадыфікацыя старажытнаяўрэйскай мовы, якая сфарміравалася на аснове мовы мішнаіцкага перыяду; афіцыйная мова Ізраіля.

**ІХНАЛО́ГІЯ** (ад гр. ichnos = след + *-логія*) — раздзел *палеанталогіі*, які вывучае сляды вымерлых жывёл.

**ІХНЕЎМО́Н** (гр. ichneumon) — 1) від *мангуста*, які водзіцца ў Паўн. Афрыцы і Паўд.-Зах. Еўропе; 2) перапончатакрылае насякомае сям. наезнікаў, якое выкарыстоўваецца для барацьбы са шкоднікамі культурных раслін.

**ІХТЫЁЗ** (н.-лац. ichthyosis , ад гр. ichthys — рыба) — скурная хвароба, звычайна спадчынная, пры якой скура пакрыта цвёрдымі шурпатымі лускавінкамі.

**ІХТЫЁЛ** (ад гр. ichthys = рыба + *-ол*) — густая чырвона-бурая лекавая вадкасць — прадукт перапрацоўкі сланцаў, багатых рэшткамі выкапнёвых рыб.

**ІХТЫЁЛАГ** (ад гр. ichthys, -thyos = рыба + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *іхтыялогіі*.

**ІХТЫО́РНІС** (ад гр. ichthys = рыба + ornis = птушка) — вымерлая зубастая птушка, якая жыла ў *мезазоі*; добра лятала, плавала.

**ІХТЫЯ-** (гр. ichthys, -thyos = рыба) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па значэнню словам «рыба», «рыбін».

**ІХТЫЯДАРУЛІ́ТЫ** (ад *іхтыя-* + гр. dory = кап'ё + *-літ*) — касцявыя шыпы, якія падтрымліваюць плаўнікі або шыпы на галаве ў некаторых рыб (напр. акулавых).

**ІХТЫЯЗА́ЎР** (ад *іхтыя-* + *-заўр*) — вымерлы марскі паўзун з рыбападобным целам даўжынёй *да 12 м, які жыў у мезазоі*.

**ІХТЫЯЛО́ГІЯ** (ад *іхтыя-* + *-логія*) — раздзел *заалогіі*, у якім вывучаюцца рыбы.

**ІХТЫЯСТЭ́ГА** (ад *іхтыя-* + гр. stege = страха) — вымерлае земнаводнае падкласа *лабірынтадонтаў*, якое захоўвала яшчэ прыметы рыб; жыло ў сярэдзіне *палеазою* — пачатку *мезазою*.

**ІХТЫЯТАКСІКО́З** (ад *іхтыя-* + *таксікоз*) — прадуктовае атручванне ў выніку ўжывання ядавітых рыб або недабраякасных рыбных прадуктаў.

**ІХТЫЯФА́Г** (ад *іхтыя-* + *-фаг*) — жывёла, якая харчуецца ў асноўным рыбай.

**ІХТЫЯФА́ЎНА** (ад *іхтыя-* + *фаўна*) — сукупнасць відаў рыб якога-н. вадаёма, геаграфічнага раёна, а таксама сукупнасць рыб, якія існавалі ў той або іншы перыяд гісторыі Зямлі.

**ІХТЫЯФТЫРЫЁЗ** (ад *іхтыяфтырыус*) — інвазійная (гл. *інвазія*) хвароба рыб, якая выклікаецца іхтыяфтырыусам.

**ІХТЫЯФТЫ́РЫУС** (н.-лац. ichthyophthirius) — прасцейшае атрада роўнараснічных *інфузорый*; паразіт рыб прэсных і саланаватых водаў.

**ІХТЫЯЦЫ́ДЫ** (ад *іхтыя-* + *-цыды*) — хімічныя рэчывы, якія выкарыстоўваюцца для знішчэння засмечвальных відаў рыб у невялікіх вадаёмах.

**ІША́К** (рус. ишак, ад азерб. äšäk) — свойскі асёл.

**ІШУРЫ́Я** (ад гр. ischo = затрымліваю + *-урыя*) — затрымка мачы, няздольнасць звальнення мачавога пузыра ад мачы.

# І

**ІШХА́Н** (н.-лац. ischan) — рыба сям. ласасёвых з цёмнымі плямамі на целе, якая водзіцца ў возеры Севан; аб'ект развядзення.

**І́ШЫЯС** (н.-лац. ischias, ад гр. ischias) — *неўралгія* сядалішчнага нерва.

**ІШЭМІ́Я** (ад гр. ischo = затрымліваю + *-эмія*) — малакроўе органа ці асобнага яго ўчастка з-за абмежаванага прытоку крыві пры закупорцы або спазмах *артэрый*.

# Й

**ЙАГУ́РТ** (тур. jogurt) — прадукт з асобым чынам заквашанага малака з фруктовымі дабаўкамі, які па кансістэнцыі нагадвае заварны сметанковы крэм.

**ЙАРКШЫ́РЫ** (англ. Yorkshire = назва графства ў Англіі) — парода скараспелых свіней, якая вызначаецца вялікай вагой і высокай пладавітасцю.

# К

**КА-** (лац. co(n) = з, разам) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «з, разам».

**КА́АБА** (ар. ka'bah, ад ka'b = куб) — *мячэць* у Мецы, пабудаваная ў форме куба, у сцяну якой умураваны «чорны камень», што нібыта ўпаў з неба; служыць месцам паломніцтва мусульман.

**КААГУЛАПА́ТЫЯ** (ад лац. coagulum = згусанне + *-патыя*) — хваравіты стан, які выклікаецца парушэннямі згусання крыві.

**КААГУЛЯ́НТ** (лац. coagulans, -ntis) — 1) хімічнае рэчыва, якое выклікае *каагуляцыю*; 2) лекавае рэчыва, якое садзейнічае згусанню крыві (параўн. *антыкаагулянт*).

**КААГУЛЯ́Т** (лац. coagulatus = зацвярдзелы, згушчаны) — асадак, які ўтвараецца ў *калоідным* растворы пры *каагуляцыі*.

**КААГУЛЯ́ТАР** (лац. coagulator) — апарат для выдзялення *каагуляту* ў *калоідных* растворах.

**КААГУЛЯ́ЦЫЯ** (лац. coagulatio = згортванне, згушчэнне) — згусанне, асяданне часцінак рэчыва ў *калоідным* растворы.

**КААДАПТА́ЦЫЯ** (ад *ка-* + *адаптацыя*) — узаемнае *марфалагічнае і функцыянальнае* прыстасаванне органаў, якое выпрацавалася ў працэсе *эвалюцыі* арганізмаў.

**КААКСІЯ́ЛЬНЫ** (ад *ка-* + лац. axis = вось) — сувосевы; к. к а б е л ь — двухправодны *кабель*, у

якога адзін провад ідзе строга па восі кабеля, а другі аплятае ізаляцыю цэнтральнага праваднiка.

**КАА́ЛА** (аўстрал. koala) — сумчаты мядзведзь, які водзіцца ў эўкаліптавых лясах Усх. Аўстраліі.

**КААЛЕСЦЭ́НЦЫЯ** (ад лац. coalesco = зрастаюся, злучаюся) — зліццё кропель вадкасці або пузыркоў газу пры іх сутыкненні.

**КААЛІ́Н** (кіт. Kao-ling = назва гары) — белая вогнетрывалая гліна, якая выкарыстоўваецца ў фарфора-фаянсавай, папяровай, гумавай і іншых галінах прамысловасці.

**КААЛІНІЗА́ЦЫЯ** (ад *каалін*) — замяшчэнне ў горных пародах *алюмасілікатаў* на *каалініт* пад уплывам водаў, якія змяшчаюць кіслоты.

**КААЛІНІ́Т** (ад *каалін*) — мінерал класа *сілікатаў* белага колеру, састаўная частка большасці глін, асабліва кааліну.

**КААЛІ́ЦЫЯ** (с.-лац. coalitio = аб'яднанне, саюз) — аб'яднанне дзяржаў, партый, грамадскіх груп для дасягнення якой-н. агульнай мэты.

**КААПЕРАВА́ЦЬ** (польск. kooperować, ад лац. co-operari = садзейнічаць) — аб'ядноўваць на прынцыпах *кааперацыі* (напр. к. сельскую гаспадарку).

**КААПЕРА́ТАР** (лац. co-operator = супрацоўнік) — работнік *кааперацыі*, член *кааператыва*.

**КААПЕРАТЫ́Ў** (ням. Kooperative, ад лац. cooperativus = які супрацоўнічае) — 1) калектыўнае вытворчае або гандлёвае аб'яднанне, якое ствараецца на сродкі яго членаў (напр. прамысловы к., жыллёвы к.); 2) кааператыўны магазін.

**КААПЕРА́ЦЫЯ** (лац. cooperatio = супрацоўніцтва) — 1) форма арганізацыі працы, пры якой значная колькасць людзей удзельнічае ў адным або розных, але звязаных паміж сабой працэсах працы; 2) калектыўнае вытворчае або гандлёвае аб'яднанне, якое ствараецца на сродкі яго членаў (напр. сельскагаспадарчая к., спажывецкая к.).

**КААПТАВА́ЦЬ** (лац. co-optare = выбіраць) — праводзіць *кааптацыю*.

**КААПТА́ЦЫЯ** (лац. cooptatio = дадатковае выбранне) — увядзенне ў склад выбарнага органа новых членаў без правядзення дадатковых выбараў.

**КААРДЫНАВА́ЦЬ** (с.-лац. coordinare) — узгадняць, устанаўліваць *каардынацыю* 1 паміж чым-н. (напр. к. работу навукова-даследчых устаноў).

**КААРДЫНА́ТАР** (ад с.-лац. coordinare = узгадняць) — 1) асоба, якая ажыццяўляе каардынацыю чаго-н.; 2) прыбор, які паказвае лётчыку месцазнаходжанне (*каардынаты* 1) самалёта; 3) устройства ва ўпраўляемай ракеце, тарпедзе, якое забяспечвае выяўленне цэлі і навядзенне на яе гэтых снарадаў.

**КААРДЫНАТО́ГРАФ** (ад *каардынаты* + *-граф*) — прыбор для нанясення прамавугольных каардынатаў пунктаў на тапаграфічных картах з каардынатнай сеткай і для нанясення пунктаў па каардынатах на карту.

# К

**КААРДЫНА́ТЫ** (ад *ка-* + лац. ordinatus = упарадкаваны) — 1) велічыні, пры дапамозе якіх вызначаецца месцазнаходжанне якога-н. пункта на плоскасці або ў прасторы (напр. геаграфічныя к.); 2) *перан.* звесткі аб месцазнаходжанні ці месцапражыванні каго-н.

**КААРДЫНА́ЦЫЯ** (с.-лац. coordinatio) — 1) узгадненне, прывядзенне ў адпаведнасць узаемасувязі паміж якімі-н. дзеяннямі, паняццямі, з'явамі; 2) адпаведнасць, узгодненасць дзеянняў, паняццяў, з'яў (напр. дасканалая к. рухаў).

**КАА́ТЫ** (парт. caati, з індз.) — учэпістахвостыя малпы з вельмі доўгімі канечнасцямі, якія жывуць у трапічных лясах Паўд. Амерыкі.

**КААТЫ́НГА** (парт. caatinga, ад індз. caá = лес + tinga = светлы) — трапічная раслiннасць на паўночным усходзе Бразіліі, што складаецца з нізкарослых дрэў і кустоўя.

**КАА́ЦІ** (ісп. coati, з індз.) — драпежнае млекакормячае сям. янотавых, якое пашырана ў лясах Цэнтр. і Паўд. Амерыкі; з'яўляецца шкоднікам зерневых культур.

**КААЦЭРВА́ТЫ** (лац. coacervatus = сабраны) — кроплі, якія ўтвараюцца ў растворы арганічных рэчываў, здольныя канцэнтраваць гэтае рэчыва і павялічвацца.

**КААЦЭРВА́ЦЫЯ** (лац. coacervatio = намнажэнне) — узнікненне ў растворы высокамалекулярных злучэнняў кропель, узбагачаных раствораным рэчывам (*каацэрватаў*).

**КАБАЛА́** [1] (тур. kabala, ад ар. qabālä) — 1) даўгавое абавязацельства ў Вялікім княстве Літоўскім (14—17 ст.); 2) поўная залежнасць ад каго-н., заняволенне (напр. памешчыцкая к.).

**КАБАЛА́** [2] (ст.-яўр. kabbälāh = паданне, традыцыя) — сярэдневяковае містычнае вучэнне ў *іудаізме*, заснаванае на пошуку асновы ўсіх рэчаў у лічбах і літарах.

**КАБАЛАМІ́Н** [ад *кобаль(т)* + *(віт)амін*] — вітамін $B_{12}$, які па структуры блізкі да *гемаглабіну*, але замест жалеза змяшчае кобальт; прысутнічае ў многіх прадуктах жывёльнага паходжання (напр. у печані і нырках буйной рагатай жывёлы); выкарыстоўваецца пры лячэнні малакроўя, нервовых і скурных хвароб і інш.

**КАБА́ЛІСТЫКА** (ад *кабала*[2]) — 1) магічныя ўяўленні і абрады ў яўрэяў, звязаныя з *кабалой*[2]; 2) *перан.* што-н. заблытанае, незразумелае.

**КАБАЛЬЕ́РА** (ісп. coballero) — 1) *тытул* двараніна ў Іспаніі; 2) ветлівы зварот да мужчыны ў іспанамоўных краінах.

**КАБАЛЬТРО́Н** [ад *кобаль(т)* + *-трон*] — 1) прыбор, які выкарыстоўваецца ў медыцыне для глыбокага апрамянення злаякасных пухлін; 2) прыбор для выяўлення *дэфектаў* у металах.

**КАБАЛЬЦІ́Н** (ад *кобальт*) — мінерал класа *сульфідаў* белага, сталёва-шэрага колеру; руда кобальту.

**КАБА́Н** (цюрк. kaban) — 1) самец свінні; парсюк; 2) дзік, вепр.

**КАБАРГА́** (рус. кабарга, ад алт. toorgo) — горная бязрогая жывёла сям. аленевых з мускуснай залозай

на жываце (у самцоў); пашырана ва Усх. і Паўд.-Усх. Азіі.

**КАБАРЭ́** (фр. cabaret) — 1) тэатральнае рэвю-прадстаўленне, у якім спалучаюцца музычныя нумары і сатыра; адбываюцца ў кавярні, бары; 2) рэстаран, дзе даюцца эстрадныя прадстаўленні.

**КАБА́Т** (венг. kabāt, ад перс. käbá) — цёплая жаночая кофта без рукавоў.

**КАБАТА́Ж** (фр. cabotage) — прыбярэжнае суднаходства паміж партамі адной краіны.

**КАБАТЫЕ́ЛА** (н.-лац. cabatiella) — недасканалы грыб сям. меланконіевых, які развіваецца на лісці чорных парэчак, канюшыне.

**КАБАЧО́К** (рус. кабачок, ад цюрк. kabak) — расліна сям. гарбузовых з пладамі пераважна прадаўгаватай формы, а таксама плод гэтай расліны.

**КАБАШО́Н** (фр. cabochon) — каштоўны камень, якому пры шліфоўцы нададзена форма выпуклай з аднаго боку *лінзы*.

**КА́БЕЛЬ** (ням. Kabel, гал. kabel) — электрычны провад з асобай ізаляцыяй для перадачы на вялікую адлегласць электрычнай энергіі або электрычных сігналаў.

**КА́БЕЛЬТАЎ** (гал. kabeltouw) — 1) марская мера даўжыні, роўная 185,2 м; 2) тоўсты марскі пяньковы *канат*.

**КАБЕ́РАЦ** (польск. kobierzec) — дыванок пад ногі.

**КАБЕРНЭ́** (фр. cabernet) — 1) сорт вінаграду з цёмна-сінімі ягадамі; 2) чырвонае віно з такога вінаграду.

**КАБЕСТА́Н** (фр. cabestan) — лябёдка з вертыкальным барабанам, якая выкарыстоўваецца для падцягвання суднаў да берага, падымання якара і інш.

**КАБЕ́Я** (н.-лац. cabaea) — паўкустовая расліна сям. сінюхавых з перыста-складаным лісцем і фіялетавымі кветкамі ў выглядзе званочкаў, пашыраная ў трапічнай Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**КАБІ́НА** (фр. cabine) — невялікае памяшканне спецыяльнага прызначэння (напр. к. для тэлефонных размоў, к. грузавіка).

**КАБІНЕ́Т** (фр. cabinet) — 1) службовае памяшканне ва ўстанове, на прадпрыемстве для адказнага работніка; 2) рабочы пакой у кватэры; 3) памяшканне, абсталяванае для заняткаў, працэдур (у навучальных установах, паліклініках і інш.); 4) урад у некаторых краінах (к. міністраў).

**КАБЛАГРА́МА** (фр. câblogramme) — *тэлеграма*, перададзеная па падводным *кабелі*.

**КАБО́МБА** (н.-лац. cabomba) — водная травяністая расліна сям. кабомбавых з бліскучым ярка-зялёным лісцем, пашыраная ў вадаёмах Амерыкі; на Беларусі культывуецца ў акварыумах.

**КАБРЫЁЛЬ** (фр. cabriole) — 1) фігура парнай *акрабатыкі*, калі адзін *акрабат* выводзіць другога ў стойку на выцягнутых руках, рыўком прапусціўшы яго паміж расстаўленымі нагамі; 2) скачок каня з сагнутымі пярэднімі і выцягнутымі заднімі нагамі; 3) скачок у класічным балетным танцы.

# К

**КАБРЫ́РАВАЦЬ** (фр. cabrer = *лі-тар.* паднімаць на дыбы) — паварочваць самалёт у палёце вакол папярочнай восі, паднімаючы нос самалёта.

**КАБРЫЯЛЕ́Т** (фр. cabriolet) — 1) лёгкі двухколы *экіпаж* 1 з адным сядзеннем без козлаў; 2) кузаў легкавога аўтамабіля з адкідным верхам.

**КАБУ́КІ** (яп. kabuku = адхіляцца) — від класічнага тэатра Японіі, які ўключае музыку, танцы, драму.

**КАБУ́Л** (афг. Kabul = назва сталіцы Афганістана) — востры *соус* з соі і розных спецый для прыправы страў.

**КАБУРА́** (рус. кобура, ад цюрк. kubur = калчан) — 1) *футляр* для пісталета; 2) скураная сумка збоку кавалерыйскага сядла.

**КАБЫ́З, КО́БЫЗ** (казах. kobyz) — казахскі двухструнны смычковы музычны інструмент.

**КА́ВА** (польск. kawa < тур. kahve, ад ар. kahva) — парашок з зярнят кафейнага дрэва, а таксама напітак з гэтага парашка; ч о р н а я к. — моцная кава без малака.

**КАВА́ДЛА** (польск. kowadło) — жалезная падстаўка для коўкі металу.

**КАВА́Л** (тур. kaval) — духавы музычны інструмент тыпу *флейты*, распаўсюджаны ў Балгарыі, Югаславіі, Румыніі.

**КАВА́ЛАК** (польск. kawałek, ад с.-н.-ням. kavele) — частка чаго-н. (напр. к. хлеба).

**КАВАЛЕ́НТНЫ** (ад *ка-* + *валентны*); к-ае з л у ч э н н е — тое, што і *гомеапалярнае* злучэнне.

**КАВАЛЕ́Р** (польск. kawaler, ад іт. cavaliere) — 1) член рыцарскага *ордэна* ў перыяд сярэдневякоўя; 2) дваранскі *тытул* у Іспаніі і Італіі; 3) асоба, узнагароджаная ордэнам; 4) мужчына, які танцуе ў пары з дамай, суправаджае яе на прагулцы і г.д.; 5) нежанаты малады чалавек.

**КАВАЛЕРГА́РД** (рус. кавалергард, ад фр. cavalier = коннік + garde = варта, ахова) — салдат або афіцэр асобага палка гвардзейскай цяжкай кавалерыі ў царскай арміі.

**КАВАЛЕ́РЫЯ** (фр. cavalerie) — конніца, коннае войска; л ё г к а я к. — конніца з лёгкаўзброеных воінаў; ц я ж к а я к. — конніца з цяжкаўзброеных воінаў.

**КАВАЛЬЕ́Р** (фр. cavalier) — насып уздоўж дарогі, канала або канавы.

**КАВАЛЬКА́ДА** (фр. cavalcade) — група коннікаў на прагулцы.

**КАВАРДА́К** (рус. кавардак, ад цюрк. kavyrdak = смажанае мяса) — сумятня, неразбярыха.

**КАВАРЫЯ́НСА** (ад *ка-* + лац. variare = відазмяняць) — статыстычны паказчык у *біяметрыі*, які характарызуе сумесную зменлівасць дзвюх прымет.

**КАВАРЫЯ́НТ** (ад *ка-* + *варыянт*) — лік, алгебраічны выраз, які пры пэўным параттварэнні велічынь, з якімі звязаны, змяняецца па строгіх правілах, пераважна па лінейных законах.

**КАВАРЫЯ́ЦЫЯ** (ад *ка-* + *варыяцыя*) — сумесная зменлівасць дзвюх прымет у *біяметрыі*.

**КАВАСА́КІ** (яп. kavasaki) — тып далёкаўсходняга рыбалавецкага маторна-паруснага судна.

**КАВАЦІ́НА** (іт. cavatina) — невялікая сольная вакальная п'еса лірычнага характару ў *оперы* і *араторыі*.

**КАВЕЛІ́Н** [ад іт. W. Covelli = прозвішча іт. хіміка (1790—1825)] — мінерал класа *сульфідаў* сіняга колеру; медная руда.

**КАВЕРКО́Т** (англ. covercoat) — сорт шарсцяной або паўшарсцяной тканіны для верхняга адзення.

**КАВЕ́РНА** (лац. caverna) — 1) пустата, поласць у горнай пародзе; 2) поласць, якая ўтвараецца ў органах цела ў выніку разбурэння арганічнай тканкі хваробай, напр. у лёгкіх, печані, нырках.

**КАВЕРНАМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. caverna = поласць, пячора + *-метрыя*) — вымярэнні, якія даюць крывую змен *дыяметра* буравой свідравіны з глыбінёй.

**КАВЕРНАТАМІ́Я** (ад лац. caverna = поласць, пячора + *-тамія*) — хірургічная *аперацыя* рассякання *кавернознай* поласці пры захворванні на туберкулёз лёгкіх.

**КАВЕРНО́ЗНЫ** (лац. cavernosus) — які мае *каверны*, з кавернамі (напр. к. вапняк, к-ае лёгкае).

**КАВЕ́РЫНГ** (англ. covering) — водкуп прададзеных раней каштоўных папер, кантрактаў, тавараў для спынення абавязацельстваў па здзелках на тэрмін, заключаных біржавымі спекулянтамі.

**КАВІТА́ЦЫЯ** (ад лац. cavitas, -atis = поласць, яма) — утварэнне пузыркоў у вадкасці ў выніку змяншэння ціску пры яе хуткім руху або пад дзеяннем ультрагуку.

**КАВУ́Н** (тур. kavun) — травяністая расліна сям. гарбузовых з ляжачымі сцёбламі і вялікімі салодкімі сакаўнымі пладамі, пашыраная пераважна ў цёплых зонах, а таксама плод гэтай расліны; на Беларусі вырошчваецца абмежавана.

**КАВЯ́РНЯ** (польск. kawiarnia) — невялікі рэстаран, дзе прадаюць каву, чай, закускі, прахаладжальныя напіткі.

**КАГА́Л** (ст.-яўр. kāhāl = сход) — 1) яўрэйская абшчына ў старажытнай Польшчы, Вялікім княстве Літоўскім, а таксама ў Расійскай імперыі ў 1772—1844 гг.; 2) *перан.* шумны бязладны натоўп, зборышча.

**КАГА́Н** (цюрк. kahan) — *тытул* кіраўніка дзяржавы ў цюркскіх народаў у сярэднія вякі.

**КАГЕ́ЗІЯ** (лац. cohaesus = звязаны) — зліпанне частак цвёрдага цела або вадкасці пры іх кантакце.

**КАГЕРЭ́НТНАСЦЬ** (ад лац. cohaerentia = сувязь) — здольнасць да *інтэрферэнцыі*, якую выяўляюць пры пэўных умовах хвалі, напр. светлавыя, што маюць пастаянную розніцу фаз.

**КАГЕРЭ́НТНЫ** (лац. cohaerens, -ntis) — узаемазвязаны; к - ы я х в а л і — хвалі, здольныя да *інтэрферэнцыі*, г. зн. такія, у якіх не змяняецца ў часе розніца фаз.

**КАГЕ́РЭР** (англ. coherer, ад лац. cohaerere = звязвацца) — прыбор, які ў пачатковы перыяд развіцця радыётэхнікі выкарыстоўваўся як *дэтэктар* радыёхваляў.

# К

**КАГНА́ТЫ** (лац. cognati = сваякі) — асобы ў старажытнарымскім грамадстве, якія знаходзіліся ў кроўным сваяцтве па мужчынскай або жаночай лініі, не падначальваючыся галаве дадзенай сям'і; нараўне з *агнатамі*[1] і маглі выступаць як спадчыннікі.

**КАГО́Р** (фр. cahor, ад Cahors = назва французскага горада) — сорт чырвонага дэсертнага вінаграднага віна.

**КАГО́РТА** (польск. kohorta, ад лац. cohors, -rtis) — 1) атрад войска ў Стараж. Рыме, які складаў дзесятую частку *легіёна*; 2) *перан.* моцна згуртаваная група людзей, аб'яднаных агульнай мэтай.

**КАГУЛЯ́РЫ** (фр. cagoulards, ад cagoule = каптур з выразамі для вачэй і рота) — члены тайнай фашысцкай арганізацыі, якая дзейнічала ў Францыі ў 30-я гады 20 ст.

**КАДАВЕРЫ́Н** (ад лац. cadaver = труп) — арганічнае злучэнне, бясколерная вадкасць моцнага атрутнага дзеяння, якая ўзнікае ў працэсе гніення бялковых цел., напр. мяса.

**КАДАНО́ПСІС** (н.-лац. codonopsis) — травяністая расліна сям. званочкавых з шыроказаланцэтным лісцем і адзіночнымі жаўтаватымі кветкамі, пашыраная пераважна ва Усх. і Цэнтр. Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**КАДА́НС** (фр. cadence) — гарманічны або меладычны абарот, які завяршае музычны твор, падкрэсліваючы яго кампазіцыйную цэласнасць.

**КАДА́СТР** (фр. cadastre, ад с.-лац. catastrum = спіс падаткаплацельшчыкаў) — сістэматызаваны збор звестак аб чым-н., які з'яўляецца асновай для рашэння пэўных народна-гаспадарчых задач, напр. к. зямельны, к. месцанараджэнняў карысных выкапняў.

**КАДЗІ́РАВАЦЬ** (ад *код*) — зашыфроўваць паведамленне пэўнымі ўмоўнымі знакамі (проціл. *дэкадзіраваць*).

**КА́ДМІЙ** (н.-лац. cadmium, ад гр. kadmeia = цынкавая руда) — 1) хімічны *элемент*, серабрыста-белы метал, які знаходзіцца пераважна ў цынкавых рудах; 2) жоўтая *фарба* розных адценняў, якая прымяняецца ў алейным жывапісе, кераміцы і інш.

**КАДО́Н** (ад *код*) — адзінка генетычнага кода, набор з трох *нуклеатыдаў* у інфармацыйнай рыбануклеінавай кіслаце, які вызначае месца дадзенай амінакіслаты ў бялковай малекуле (параўн. *антыкадон*).

**КАДР** (фр. cadre = рама) — 1) асобны здымак на фота- або кінаплёнцы; 2) асобная сцэна або эпізод з кінафільма.

**КА́ДРЫ** (фр. cadres) — 1) пастаянны састаў войск у мірны час (служыць у кадрах); 2) састаў работнікаў якой-н. галіны дзейнасці (напр. тэхнічныя к.).

**КАДРЫ́ЛЯ** (фр. quadrille, ад ісп. cuadrilla) — народны і бальны парны танец з шасці фігур, распаўсюджаны ў многіх еўрапейскіх народаў, а таксама музыка гэтага танца.

**КАДУ́К** (польск. kaduk, ад лац. caducus) — 1) права на атрыманне спадчыны без завяшчання ў даўняй Беларусі (16—17 ст.); 2) чорт, д'ябал; 3) *уст.* тое, што і *эпілепсія*.

**КАДУЦЭ́Й** (лац. caduceus) — 1) жазло бога Меркурыя, абвітае дзвюма змеямі, як сімвал міру ў старажытнарымскай міфалогіі; 2) жазло антычных паслоў як знак недатыкальнасці.

**КА́ДЫЙ** (кр.-тат., тур. kadi, ад ар. qādi) — суддзя ў мусульман, які разглядае справы на аснове мусульманскага права (*шарыяту*) і мясцовага звычаёвага права (*адату*).

**КАДЫ́К** (тат. kadyk = моцны, цвёрды, які выступае) — выпнутая храстковая частка гартані ў мужчын.

**КАДЫКАЛО́ГІЯ** (ад лац. codex, -dicis = кніга + *-логія*) — дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая вывучае гісторыю падрыхтоўкі, склад і лёс рукапіснай кнігі; раздзел кнігазнаўства.

**КАДЫФІКАВА́ЦЬ** (с.-лац. codificare) — 1) зводзіць законы краіны па асобных галінах права ў адзіную сістэму; 2) прыводзіць у пэўную сістэму якія-н. абазначэнні, правілы, палажэнні.

**КАДЫФІКА́ЦЫЯ** (с.-лац. codificatio) — 1) звядзенне законаў краіны па асобных галінах права ў пэўную сістэму (напр. к. законаў аб працы); 2) прывядзенне ў пэўную сістэму сукупнасці якіх-н. абазначэнняў, правіл, палажэнняў.

**КАДЭІ́Н** (н.-лац. codeinum, ад гр. kodeia = макавая галоўка) — алкалоід опію фенантрэнавага рада, вытворнае *марфіну*; выкарыстоўваецца як болепатольны, заспакаяльны сродак і супраць кашлю.

**КАДЭ́НЦЫЯ** (іт. cadenza) — 1) *тое, што і каданс*; 2) віртуозны сольны *эпізод* у інструментальным канцэрце.

**КАДЭ́Т** (фр. cadet) — выхаванец сярэдняй ваенна-навучальнай установы (кадэцкага корпуса) у Расійскай імперыі (1732—1917 гг.).

**КАЁТ** (ісп. coyote, з індз.) — млекакормячая жывёла сям. сабачых, падобная да ваўка, якая водзіцца ў Паўн. Амерыцы; лугавы воўк.

**КАЗА́К** (кр.-тат., тур. kazak = вольны чалавек) — 1) вольны пасяленец з беглых прыгонных сялян на паўднёвых ускраінах Усх. Еўропы ў канцы 15 — пач. 18 ст., пазней (з 18 ст.) прадстаўнік ваеннага саслоўя (жыхар вайсковых абласцей) у Расійскай імперыі; 2) коннік асобых кавалерыйскіх часцей у войску Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Расіі і СССР; 3) ураджэнец былых вайсковых казацкіх абласцей; 4) *перан.* спрытны малады мужчына.

**КАЗАКІ́Н** (фр. casaquin) — *уст.* мужчынскае верхняе адзенне на аплiках, са зборкамі ззаду.

**КАЗА́Н** (цюрк. kazan) — кацёл з круглым дном і шырокім верхам.

**КАЗА́РМА** (іт. caserma) — будынак для размяшчэння асабовага складу воінскай часці.

**КАЗЕІ́Н** (фр. caséine, ад лац. caseus = сыр) — бялковае рэчыва, якое здабываецца з малака, асноўная састаўная частка тварагу, сыру; выкарыстоўваецца для вырабу фарбаў, клею, лаку і інш.

**КАЗЕМА́Т** (фр. casemste) — 1) абарончае збудаванне ў крэпасцях, фортах для ўкрыцця ад бомбаў і снарадаў; 2) браніраванае закрытае памяшканне на караблях для

ўстаноўкі гармат і захавання боепрыпасаў; 3) адзіночная камера ў крэпасці для палітычных зняволеных.

**КАЗЕ́ТКА** (фр. causette) — двухмесная канапка.

**КАЗІНЕ́Т** (ням. Kasinett) — від жоўтай баваўнянай або паўшарсцяной тканіны для верхняга адзення.

**КАЗІНО́** (фр. casino, ад іт. casino) — клуб, ігральны дом з рэстаранам і азартнымі гульнямі (карты, рулетка і інш.).

**КАЗНА́** (рус. казна, ад палавецк. xazna) — 1) фінансавыя рэсурсы дзяржавы, цэнтралізаваныя дзяржаўныя крыніцы фінансаў; грашовыя сродкі якой-н. установы; 2) дзяржава як суб'ект пэўных маёмасных правоў і інтарэсаў; 3) *гіст.* сховішча грошай і каштоўнасцей цароў, князёў, манастыроў і інш., а таксама самі гэтыя каштоўнасці.

**КАЗНАЧЭ́Й** (рус. казначей, ад караім. xaznacy) — 1) хавальнік грошай і каштоўнасцей якой-н. установы, прадпрыемства, арганізацыі; 2) асоба, якая загадвала *казначэйствам* у Расійскай імперыі.

**КАЗНАЧЭ́ЙСТВА** (ад *казначэй*) — дзяржаўны фінансавы орган у шэрагу краін, які складае праект дзяржаўнага бюджэту, забяспечвае яго выкананне, рэгулюе дзяржаўны доўг, праводзіць эмісію (выпуск) дзяржаўных каштоўных папер.

**КАЗУА́ЛЬНЫ** (лац. casualis, ад casus + выпадак) — выпадковы, які не паддаецца абагульненню.

**КАЗУА́Р** (фр. casoar, ад малайск. kasuari) — буйная чорная птушка групы бескілявых з рагавым выростам на галаве і доўгімі трохпальцымі нагамі, якая водзіцца ў лясах Паўн. Аўстраліі і прылеглых астравоў.

**КАЗУАРЫ́НА** (н.-лац. casuarina, ад малайск. kasuari = казуар) — дрэвавая або кустовая расліна сям. казуарынавых з лісцем, якое нагадвае пер'е *казуара*, пашыраная ў Аўстраліі, на Малайскім архіпелагу і ў Індыі.

**КАЗУІ́СТ** (фр. casuiste < ісп. casuista, ад лац. casus = выпадак)— 1) *юрыст*, вопытны ў разборы заблытаных, складаных судовых спраў; 2) *перан.* асоба, якая ўмее адстойваць заблытаныя або фальшывыя палажэнні.

**КАЗУІ́СТЫКА** (фр. casuistique, ад лац. casus = выпадак) — 1) прымяненне агульных артыкулаў закона да розных юрыдычных выпадкаў; 2) прымяненне да асобных выпадкаў агульных дагматычных палажэнняў у сярэдневяковай схаластыцы; 3) *перан.* спрыт пры доказах чаго-н. непраўдзівага, фальшывага; кручкатворства.

**КА́ЗУС** (лац. casus = выпадак) — 1) незвычайны, недарэчны выпадак, здарэнне; 2) складаная судовая справа.

**КА́ЗУС БЕ́ЛІ** (лац. casus belli) — фармальная зачэпка для аб'яўлення вайны.

**КА́ЗУС ФЕ́ДЭРЫС** (лац. casus foederis = выпадак саюза) — вызначаныя міжнародным дагаворам абставіны, пры наступленні якіх дзяржавы павінны выконваць узятыя на сябе абавязацельствы.

**КАІ́К** (тур. kayik) — лёгкая вузкая турэцкая лодка.

**КАІМПЕ́РЫУМ** (ад *ка-* + лац. imperium = улада) — сумеснае панаванне некалькіх дзяржаў над чужой тэрыторыяй, якая атрымлівае асобы міжнародны статус.

**КАІНІ́Т** (ад гр. kainos = новы) — мінерал класа *сульфатаў* жаўтаватага, шаравата-белага колеру з шкляным бляскам; выкарыстоўваецца для вырабу калійных угнаенняў.

**КАІТАФО́БІЯ** (ад *каітус* + *-фобія*) — назойлівая боязь палавога акта; абумоўлена псіхасацыяльнымі фактарамі.

**КАІ́ТУС** (лац. coitus) — палавы акт.

**КАЙДАНЫ́, КАЙДА́НЫ** (тур. kajdāni, ад ар. qajdāni) — 1) жалезныя кольцы, змацаваныя ланцугом, для надзявання на ногі і рукі вязням; 2) *перан.* тое, што звязвае чалавека, пазбаўляе яго волі (напр. к. рабства).

**КА́ЙЗЕР** (ням. Kaiser, ад лац. caesar = цэзар) — *імператар* у «Свяшчэннай Рымскай імперыі» (962—1806 гг.) і Германскай імперыі (1871—1918 гг.).

**КАЙЛО́** (рус. кайло, ад ням. Keil = клін) — ручны інструмент у выглядзе востраканцовага стальнога кліна на драўляным дзяржанні для адколвання кускоў горных парод.

**КАЙМА́** (цюрк. kajma) — паласа па краі якога-н. прадмета, тканіны, якая адрозніваецца колерам, матэрыялам.

**КАЙМА́Н** (ісп. caiman, ад індз. akayuman) — *кракадзіл* з панцырам на спіне і на жываце, які водзіцца ў Цэнтр. і Паўд. Амерыцы.

**КАЙНАЗО́Й** (ад гр. kainos = новы + zoe = жыццё) — самая новая *эра* ў геалагічнай гісторыі Зямлі, якая распачалася 67 мільёнаў гадоў таму назад.

**КАЙНАЗО́ЙСКІ** (ад гр. kainos = новы + zoe = жыццё); к - а я э р а — тое, што і *кайназой.*

**КАЙНАФІ́Т** (ад гр. kainos = новы + *-фіты*) — этап эвалюцыі раслін-нага покрыва Зямлі, які змяніў *мезафіт*.

**КАЙНЭ́** (гр. koine) — агульнанародная мова, што ўзнікла на аснове якога-н. пашыранага *дыялекта* або некалькіх дыялектаў.

**КА́ЙРА** (ад эст. kaur) — марская палярная птушка сям. чысцікавых з чарнавата-бурым апярэннем зверху і белым знізу.

**КАЙРАМО́НЫ** (ад гр. kairos = карысць + hormaino = пабуджаю) — біялагічна актыўныя рэчывы, якія выдзяляюцца арганізмам у навакольнае асяроддзе і прыцягваюць прадстаўнікоў іншых відаў, напр. драпежнікаў або паразітаў.

**КА́ЙСТРА** (польск. tajstra < ням. Tanister, ад лац. canistrum) — дарожная торба, заплечны мяшок.

**КА́ЙТЭН** (яп. kajten = нябесная змена) — японскі добраахвотнік-смяротнік, які кіраваў *тарпедай*; дзейнічалі ў час 2-й сусветнай вайны.

**КАЙФ, КЕЙФ** (ар. käyf) — 1) стан ап'янення; 2) эфект задавальнення ад розных пачуццёвых ураджанняў; прыемная бяздзейнасць і адпачынак.

**КАКА́ВА** (ісп. cacao) — 1) від *тэабромы*, з насення якога робяць шакалад; шакаладнае дрэва; 2) па-

рашок з насення гэтай расліны, а таксама прыгатаваны з яго пажыўны напітак.

**КАКА́ВА-АЛЕ́Й** (ад *какава* + *алей*) — алей з насення какавы, жаўтаватае, прыемнага паху рэчыва; выкарыстоўваецца як аснова для лекавых свечак, мазей, крэмаў, губной памады, а таксама ў кандытарскай прамысловасці.

**КАКАДУ́** (ням. Kakadu, ад гал. kakatoe < малайск. kakatŭa) — *папугай* з доўгім чубам і моцнай дзюбай, пашыраны ў Аўстраліі, Тасманіі і на прылеглых астравах.

**КАКАІ́Н** (ісп. cocaina) — *алкалоід*, наркатычнае рэчыва, якое здабываецца з лісця *кокі*; ужываецца як сродак для суцішэння болю і для ўсыплення.

**КАКАІНІ́ЗМ** (ад *какаін*) — хваравітая цяга да какаіну як наркатычнага сродку.

**КАКАЛІТАФАРЫ́ДЫ** (н.-лац. coccolithophorales) — група мікраскапічных залацістых водарасцяў, пакрытых *какалітамі*, якая пашырана ў морах тропікаў, субтропікаў і ўмераных шырот.

**КАКАЛІ́ТЫ** (ад гр. kokkos = зерне + *-літ*) — выкапнёвыя дробныя вапняковыя пласцінкі са скульптурай у выглядзе рабрынак, якія складалі панцыр *какалітафарыдаў*.

**КАКАМІКО́З** (ад *какаміцэс*) — хвароба раслін, якая выклікаецца паразітычным грыбам какаміцэс.

**КАКАМІ́КСА** (н.-лац. coccomyxa) — аднаклетачная або каланіяльная водарасць сям. анкістрадэсмавых, якая пашырана ў прэсных вадаёмах, трапляецца ў глебе, на кары дрэў.

**КАКАМІ́ЦЭС** (н.-лац. coccomyces) — сумчаты грыб сям. эўфацыдыевых, які развіваецца на лісці вішні, чарэшні, слівы, на раслінных рэштках.

**КАКАФАЦЫ́ДЫЙ** (н.-лац. coccophacidium) — сумчаты грыб сям. псеўдафацыдыевых, які развіваецца на апалых галінках хвоі, зрэдку на жывых дрэвах.

**КАКАФО́НІЯ** (гр. kakophonia = дрэннае гучанне) — негарманічнае спалучэнне гукаў, непрыемнае для слыху.

**КАКЕ́Т** (фр. coquette) — *амплуа* актрысы ў дарэвалюцыйным рускім тэатры, якая выконвала ролі прыгожых маладых жанчын.

**КАКЕ́ТКА** (фр. coquette) — 1) жанчына, якая сваімі паводзінамі, манерамі, туалетамі імкнецца падабацца мужчынам, звярнуць іх увагу; 2) верхняя частка сукенкі, блузкі, да якой на вышыні грудзей прышываецца астатняя частка і рукавы; гестка.

**КАКІ́ЛЬ** (фр. coquille) — металічная форма, у якой адліваюць розныя металічныя вырабы.

**КАКО́НЕІС** (н.-лац. cocconeis) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. ахнантавых, якая пашырана ў прэсных, марскіх і саланаватых водах.

**КАКО́С** (парт. cocos, мн. ад coco) — 1) тое, што і *какосавая* пальма; 2) какосавы арэх, плод какосавай пальмы.

**КАКО́САВЫ** (ад *какос*) — які мае адносіны да какоса; к а я п а л ь м а — дрэва сям. паль-

пальма — дрэва сям. пальмаў пашыранае ў тропіках; дае какосы.

**КАКО́ТКА** (фр. cocotte) — жанчына лёгкіх паводзін, якая жыве на ўтрыманні палюбоўнікаў.

**КАКСАВА́ЦЬ** (ад *кокс*) — ператвараць у кокс.

**КАКСІ́Т** (ад лац. coxa = сцягно) — запаленне тазасцегнавога сустава ў чалавека.

**КА́КТУСЫ** (лац. cactus, ад гр. kaktos) — сямейства травяністых або кустападобных паўднёвых раслін класа двухдольных з бязлістымі сакавітымі зялёнымі сцёбламі, пакрытымі калючкамі, з яркімі кветкамі.

**КАКТЭ́ЙЛЬ** (англ. cocktail = *літар.* пеўнеў хвост) — 1) напітак з сумесі розных спіртных вырабаў (віна, лікёру, каньяку) з цукрам і вострымі прыправамі; 2) безалкагольны напітак з сумесі малака, фруктовага соку, марожанага.

**КАКЦЫ́ДЫ** (н.-лац. coccoidea, ад гр. kokkis, -idos = костачка) — падатрад раўнакрылых насякомых, які аб'ядноўвае чарвяцоў і шчытовак; шкодзяць сельскагаспадарчым культурам і лесу.

**КАКЦЫДЫЁЗ** (ад *какцыдыі*) — хвароба жывёл, часам чалавека, якая выклікаецца какцыдыямі.

**КАКЦЫ́ДЫІ** (н.-лац. coccidiida, ад гр. kokkis, -idos = костачка) — атрад прасцейшых класа спаравікоў; паразітуюць у клетках *эпітэлію* жывёл.

**КА́ЛА** (н.-лац. calla) — дэкаратыўная расліна сям. ароідных з доўгачаранковым шырокім лісцем і дробнымі кветкамі ў суквецці з белым яйцападобным пакрывалам, пашыраная ў Паўд. Афрыцы; выкарыстоўваецца ў кветкаводстве Беларусі.

**КАЛАБАРАЦЫЯНІ́ЗМ** (ад фр. collaboration = супрацоўніцтва) — здрадніцкае супрацоўніцтва з ворагамі сваёй радзімы ў час акупацыі яе фашысцкімі войскамі ў перыяд 2-й сусветнай вайны.

**КАЛАБАРАЦЫЯНІ́СТ** (фр. collaborationniste) — здраднік, які супрацоўнічаў з ворагамі сваёй радзімы ў час акупацыі яе фашысцкімі войскамі ў перыяд 2-й сусветнай вайны.

**КАЛАБО́МА** (гр. koloboma = адрэзаны кавалачак) — *дэфект* тканкі павек або абалонкі вочнага яблыка.

**КАЛАГЕ́Н** (ад гр. kolla = клей + *-ген*) — валакністы бялок, што з'яўляецца асноўнай састаўной часткай тканкі, з якой збудаваны косці, храсткі.

**КАЛАГЕНО́ЗЫ** (ад *калаген*) — хваробы, якія характарызуюцца сістэмным паражэннем злучальнай тканкі, у тым ліку валокнаў, што змяшчаюць калаген.

**КАЛА́ДЫУМ** (н.-лац. caladium) — клубневая расліна сям. ароідных з доўгачаранковым буйным стракатым лісцем і непрыгляднымі кветкамі, пашыраная ў трапічнай Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**КАЛА́Ж** (фр. collage = *літар.* наклейванне) — прыём у вобразатворчым мастацтве, пры якім на пэўную аснову наклейваюць матэрыялы, што адрозніваюцца колерам і фактурай, а таксама твор, выкананы такім прыёмам.

# К

**КАЛАКАГАТЫ́Я** (гр. kalokagathia, ад kalos = прыгожы + agathos = добры) — *гармонія* знешніх і ўнутраных якасцей як ідэал выхавання чалавека ў старажытнагрэчаскай філасофіі.

**КАЛАКВІ́НТ** (гр. kolokynthe = гарбуз) — павойная травяністая расліна сям. гарбузовых, пашыраная ў Міжземнамор'і, жоўтыя ядомыя плады якой маюць слабіцельнае дзеянне.

**КАЛАКСІЛІ́Н** (ад гр. kolla = клей + oksys = кіслы) — няпоўны складаны эфір *цэлюлозы*, цвёрдае аморфнае бясколернае рэчыва; выкарыстоўваецца пры вырабе выбуховых рэчываў, лакаў і інш.

**КАЛА́М** (ар. kalam, ад гр. kalamos = трыснёг) — трысняговая палачка, якая ў народаў Усходу выкарыстоўвалася замест пяра для пісьма.

**КАЛАМБІ́НА** (іт. colombina) — персанаж італьянскай народнай камедыі масак — каханая *арлекіна*.

**КАЛАМБУ́Р** (фр. calembour) — гульня слоў, жарт, заснаваны на камічным абыгрыванні блізкіх па гучанні, але розных па значэнні слоў або словазлучэнняў.

**КАЛАМЕ́ЛЬ** (ад гр. kalos = прыгожы + melas = чорны) — хлорыстая ртуць, белы атрутны парашок, які выкарыстоўваецца ў тэхніцы і медыцыне.

**КАЛАМІ́Н** (с.-лац. calamina, ад ар. kadmeia = цынкавая руда) — мінерал класа *сілікатаў*, бясколерны або шараватага, жоўтага і іншых колераў; руда цынку.

**КАЛАМІ́ТЫ** (н.-лац. calamitacea, ад гр. kalamos = трыснёг) — сямейства вымерлых дрэвападобных членістасцябловых раслін класа хвашчовых, якія існавалі ў *палеазоі*.

**КАЛАНА́ДА** (фр. colonnade) — *архіт.* рад *калон* пад агульным перакрыццём (*аркай, аркадай*) або *антаблементам* у якім-н. збудаванні.

**КАЛАНА́Т** (лац. colonatus) — форма прыгоннай залежнасці сельскага насельніцтва ў Стараж. Рыме і еўрапейскіх краінах перыяду ранняга сярэдневякоўя.

**КАЛА́НДР** (фр. calandre) — прэс для надання тканіне, паперы, гуме гладкасці, глянцавітасці або нанясення на іх цісненнем малюнкаў.

**КАЛАНІ́ДЫ** (н.-лац. calanoida) — атрад весланогіх ракападобных; пашыраны ў *планктоне* марскіх і прэсных вадаёмаў.

**КАЛАНІЗАВА́ЦЬ** (фр. coloniser) — 1) ажыццяўляць *каланізацыю* 1; 2) засяляць незанятыя землі перасяленцамі, *каланістамі*.

**КАЛАНІЗА́ТАР** (фр. colonisateur) — 1) той, хто праводзіць палітыку *каланізацыі* 1; 2) перасяленец, *каланіст*.

**КАЛАНІЗА́ЦЫЯ** (фр. colonisation, ад лац. colonia = пасяленне) — 1) гвалтоўнае ператварэнне якой-н. краіны ў *калонію*; 2) засяленне незанятых зямель перасяленцамі, *каланістамі*.

**КАЛАНІ́СТ** (ням. Kolonist, ад лац. colonia = пасяленне) — жыхар *калоніі* 2.

**КАЛАНІЯЛІ́ЗМ** (фр. colonialisme, ад лац. colonia = пасяленне) —

палітыка імперыялістычных дзяржаў, накіраваная на заняволенне народаў эканамічна слабаразвітых краін.

**КАЛАНІЯ́ЛЬНЫ** (ад *калонія*) — 1) які мае адносіны да калоніі, звязаны з уладаннем калоніямі 5 (напр. к-ая палітыка, к-ая дзяржава); 2) які жыве калоніямі (напр. к-ыя паліпы).

**КАЛАНХО́Э** (н.-лац. kalanchoe) — травяністая расліна сям. таўсцянкавых з сакаўным лісцем і шматлікімі чырвонымі, белымі, ружовымі або аранжавымі кветкамі ў суквецці, пашыраная ў тропіках і субтропіках; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**КАЛАНЧА́** (рус. каланча < цюрк. kalača, ад ар. kal'a = крэпасць) — дазорная вышка пажарнай часці.

**КАЛАПЛА́КА** (н.-лац. caloplaca) — накіпны сумчаты лішайнік сям. целасхіставых, які расце на камянях, дрэвах, драўніне, імхах.

**КАЛА́ПС** (лац. collapsus = які страціў прытомнасць) — 1) раптоўнае моцнае зніжэнне сардэчнай дзейнасці, якое суправаджаецца слабасцю, часам стратай прытомнасці і пагражае смерцю; 2) катастрафічнае сцісканне масіўнай зоркі пад уздзеяннем сіл прыцяжэння (гравітацыйны к.); 3) татальнае разбурэнне важных жыццядзейных сувязей і цэласці якога-н. утварэння або сістэмы, грамадства або дзяржавы; катастрофа, пагібель.

**КАЛАПСА́РЫ** (ад лац. collapsus = які страціў прытомнасць) — «чорныя дзіркі», целы невялікіх памераў са шчыльнасцю рэчыва $10^{14}$—$10^{15}$ г/см$^3$, якія ўтварыліся ў выніку гравітацыйнага (гл. *гравітацыя*) *калапса* масіўнай зоркі.

**КАЛАПСАТЭРАПІ́Я** (ад *калапс* + *тэрапія*) — хірургічныя метады лячэння *туберкулёзу*.

**КАЛАРАТУ́РА** (іт. coloratura) — упрыгожванне вакальнай мелодыі хуткімі, тэхнічна цяжкімі пасажамі, трэлямі, руладамі; здольнасць голасу выконваць іх.

**КАЛАРГО́Л** [ад гр. kolla = клей + лац. arg(entum) = серабро + *-ол*] — лекавы *прэпарат*, які выкарыстоўваецца пры гнойных захворваннях.

**КАЛАРЫЗА́ТАР** (ад лац. calor = цяпло) — частка *цыліндра* ўнутранага згарання, у якой выпарваецца і запальваецца паліва.

**КАЛАРЫЗА́ЦЫЯ** (ад лац. calor = цяпло) — пакрыццё металічных вырабаў алюмініевым слоем, каб засцерагчы іх ад *карозіі*.

**КАЛАРЫ́ЙНАСЦЬ** (ад лац. calor = цяпло) — колькасць *калорый* у чым-н. (напр. к. паліва, к. харчовага прадукту).

**КАЛАРЫ́МЕТР** (ад лац. calor = цяпло + *-метр*) — прыбор для вымярэння колькасці цеплаты (у калорыях), якая вылучаецца або паглынаецца целам.

**КАЛАРЫМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. calor = цяпло + *-метрыя*) — раздзел *фізікі*, які займаецца вымярэннем цеплаёмістасці розных цел.

**КАЛАРЫ́СТ** (фр. coloriste, ад лац. color = колер) — 1) мастак, які ўмела выкарыстоўвае і спалучае *колеры*; 2) майстар па расфарбоўцы тканін.

**КАЛАРЫ́Т** (іт. colorito, ад лац. color = колер) — 1) гарманічнае

# К

спалучэнне *фарбаў*, *колераў* (у карціне, фрэсцы, мазаіцы), якое стварае пэўнае адзінства зместу і формы (напр. светлы к.); 2) *перан.* сукупнасць характэрных рыс, своеасаблівасць чаго-н. (напр. к. эпохі).

**КАЛАРЫ́ФЕР** (фр. calorifère, ад лац. calor = цеплыня + ferre = несці) — прыбор у выглядзе сістэмы труб, па якіх праводзіцца гарачая вада, пара для абагравання памяшканняў.

**КАЛАСА́ЛЬНЫ** (фр. colossal) — надта вялікі, велізарны.

**КАЛАТЭРА́ЛІ** (ад *ка-* + лац. lateralis = бакавы) — *анат.* бакавыя шляхі цячэння крыві ў абход галоўнага крывяноснага ствала (*артэрыі, вены*).

**КАЛАТЭРА́ЛЬНЫ** (ад *ка-* + лац. lateralis = бакавы) — *анат.* бакавы (напр. к. кровазварот).

**КАЛАФО́Н** (гр. kolophon = завяршэнне) — тэкст на апошняй старонцы рукапіснай або старадрукаванай кнігі, у якім змяшчаецца назва кнігі, звесткі аб аўтары, месцы і часе перапісвання або друкавання.

**КАЛА́ЦЫУМ** (н.-лац. colacium)— каланіяльная водарасць сям. калацыевых, якая пашырана пераважна ў прэсных водах.

**КАЛГО́ТКІ** (чэш. kalhoty) — жаночыя ці дзіцячыя панчохі, вывязаныя разам са штанамі.

**КАЛЕАРЫ́ЗА** (ад гр. koleios = ножны + rhiza = корань) — плеўчатая похва, якая агортвае зародкавы корань у злакаў.

**КАЛЕАСПО́РЫЙ** (н.-лац. caleosporium) — *базідыяльны* грыб сям. меламісоравых, які развіваецца на розных раслінах.

**КАЛЕАХЕ́ТЭ** (н.-лац. coleochaete) — пласціністая або ніткаватая зялёная водарасць сям. калеахетавых, якая пасяляецца на падводных раслінах, ракавінах малюскаў, камянях.

**КАЛЕ́ГА** (лац. collega) — асоба аднолькавай з кім-н. прафесіі, спецыяльнасці, таварыш па працы або занятках.

**КАЛЕ́ГІУМ** (лац. collegium = таварыства, супольнасць) — закрытая сярэдняя або вышэйшая навучальная ўстанова ў 16—18 ст. у Зах. Еўропе, Польшчы, Вялікім княстве Літоўскім.

**КАЛЕ́ГІЯ** (лац. collegium = таварыства, супольнасць) — 1) адміністрацыйны, дарадчы або распарадчы орган (напр. к. міністэрства, рэдакцыйная к.); 2) аб'яднанне асоб некаторых прафесій (напр. к. адвакатаў); 3) тое, што і *калегіум*; 4) назва цэнтральных урадавых устаноў у Расіі 18 ст. (напр. ваенная к.).

**КАЛЕГІЯ́ЛЬНАСЦЬ** (ад *калегіяльны*) — прынцып і метад кіравання, якое ажыццяўляецца групай упаўнаважаных асоб (*калегіяй*), кожны з якіх нясе персанальную адказнасць за пэўную сферу дзейнасці.

**КАЛЕГІЯ́ЛЬНЫ** (с.-лац. collegialis) — які ажыццяўляецца сумесна, групай асоб (к-ае кіраўніцтва).

**КАЛЕ́ДЖ** (англ. college) — вышэйшая або сярэдняя навучальная ўстанова ў Вялікабрытаніі, ЗША і некаторых іншых краінах; на Беларусі ствараюцца з 1990 г.

**КАЛЕ́Ж** (фр. collège) — сярэдняя школа ў Францыі, Бельгіі і некаторых іншых краінах.

**КАЛЕЙДАСКО́П** (ад гр. kalos = прыгожы + eidos = выгляд + *-скоп*)— 1) аптычная прылада-цацка, у якой можна наглядаць змену розных каляровых узораў; 2) *перан.* хуткая змена падзей, уражанняў.

**КАЛЕЙДАФО́Н** (ад гр. kalos = прыгожы + eidos = выгляд + *-фон*) — прыбор для даследавання гукавых ваганняў.

**КАЛЕ́КА** (цюрк. kalyk) — чалавек, які страціў якую-н. частку цела або здольнасць валодаць ёю ці наогул мае які-н. фізічны недахоп.

**КАЛЕ́КТАР** (п.-лац. collector = збіральнік) — 1) установа, якая займаецца зборам і размеркаваннем чаго-н. па падведамасных арганізацыях (напр. бібліятэчны к.); 2) шырокі канал або труба для збору і адводу вадкасці або газаў, якія паступаюць з іншых каналаў або труб (каналізацыйны к.); 3) вузел электрычнай машыны, дзе адбываецца ператварэнне пераменнага току ў пастаянны; 4) падземная галерэя, якая пракладваецца пад паверхняй вуліц для ўкладкі кабеляў або труб.

**КАЛЕКТЫВІЗА́ЦЫЯ** (рус. коллективизация, ад лац. collectivus = збіральны) — аграмаджванне; к. с е л ь с к а й г а с п а д а р к і — аб'яднанне дробных сялянскіх гаспадарак у буйныя калектыўныя гаспадаркі.

**КАЛЕКТЫВІ́ЗМ** (рус. коллективизм, ад лац. collectivus = збіральны) — таварыскае супрацоўніцтва, заснаванае на свядомым падпарадкаванні асабістых інтарэсаў грамадскім.

**КАЛЕКТЫ́Ў** (лац. collectivus = збіральны) — аб'яднанне людзей, звязаных сумеснай працай, агульнымі мэтамі і інтарэсамі (напр. к. настаўнікаў, к. мастацкай самадзейнасці).

**КАЛЕКТЫ́ЎНЫ** (лац. collectivus) — 1) уласцівы *калектыву*, агульны, сумесны; 2) прызначаны для калектыву.

**КАЛЕ́КЦЫЯ** (лац. collectio = збіранне) — размешчаныя ў пэўнай сістэме якія-н. аднародныя прадметы, што маюць гістарычную, навуковую, мастацкую цікавасць (напр. к. мінералаў, к. манет).

**КАЛЕКЦЫЯНЕ́Р** (фр. collectionneur, ад лац. collectio = збіранне) — збіральнік *калекцый*.

**КАЛЕКЦЫЯНІ́РАВАЦЬ** (фр. collectionner, ад лац. collectio = збіранне) — збіраць *калекцыю* (напр. к. насякомых).

**КАЛЕ́МА**[1] (парт. calema) — моцны прыбой ля берагоў Гвінейскага заліва.

**КАЛЕ́МА**[2] (н.-лац. collema) — ліставы або накіпны сумчаты лішайнік сям. калемавых, які расце на глебе, камянях, кары лісцевых дрэў.

**КАЛЕМАНІ́Т** [ад англ. Coleman = прозвішча ўладальніка рудніка (1824—1893)] — мінерал, водазмяшчальны *барат* кальцыю, бясколерная крышталічная маса; руда для атрымання *бору*.

**КАЛЕ́НДУЛА** (лац. calendula) — травяністая расліна сям. складанакветных з жоўтымі або аранжавымі кветкамі ў суквеццях, пашы-

раная пераважна ў Міжземнамор'і; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная і лекавая; наготкі.

**КАЛЕ́НДЫ** (лац. calendae) — першы дзень кожнага месяца ў старажытнарымскім *календары*.

**КАЛЕНКО́Р** (фр. calencar) — баваўняная, моцна праклееная тканіна аднаколернай афарбоўкі (напр. пераплёт з каленкору).

**КАЛЕНХІ́МА** (ад гр. kolla = клей + *-энхіма*) — тканка пераважна двухдольных раслін, якая надае трываласць іх органам.

**КАЛЕНЦЫ́ТЫ** (ад гр. kolla = клей + *-цыты*) — асобыя клетачныя элементы ў *мезаглеі* ў губак.

**КАЛЕО́ПТЫЛЬ** (ад гр. koleos = ножны + ptilon = пяро) — першы верхні ліст у злакаў, які мае выгляд згорнутай трубкі з завостраным канцом, што служыць для прабівання глебы.

**КАЛЕО́ПТЭР** (гр. koleopteros = цвёрдакрылы) — самалёт з кальцавым крылом, які ўзлятае вертыкальна.

**КАЛЕСТА́НІЯ** (н.-лац. calestania) — травяністая расліна сям. парасонавых з белымі кветкамі ў парасоніках, пашыраная ва ўмераных зонах Еўразіі; лекавая.

**КАЛЕ́Т** (фр. collet) — 1) шырокі адкладны *каўнер* у сярэдневяковай вопратцы; 2) кароткі вайсковы *мундзір* з белага сукна ў еўрапейскіх арміях 17 — пач. 20 ст. (у прыватнасці насілі *кірасіры*).

**КАЛЕТО́ТРЫХ** (н.-лац. colletotrichum) — недасканалы грыб сям. меланконіевых, які развіваецца на агурках, памідорах, бульбе, фасолі, канюшыне, сырадэлі і іншых вышэйшых раслінах.

**КАЛЁКВІУМ** (лац. colloquium = гутарка) — 1) адна з форм вучэбных заняткаў, гутарка выкладчыка са студэнтамі з мэтай выяўлення іх ведаў; 2) навуковы сход, на якім заслухоўваюцца і абмяркоўваюцца даклады.

**КА́ЛІ** (ар. al-kali = паташ) — *гідрат* вокісу *калію*, цвёрдае *гіграскапічнае* бясколернае рэчыва, якое раз'ядае большасць матэрыялаў, калі яны сутыкаюцца з ім; выкарыстоўваецца ў вытворчасці рэдкага мыла і інш.

**КАЛІ́БІЯ** (н.-лац. collibya) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. радоўкавых, які расце на лясным подсціле, пнях, ламаччы, глебе; некаторыя віды ядомыя.

**КАЛІ́БР** (фр. calibre, ад ар. kālib = форма, выгляд) — 1) *дыяметр* ствала агнястрэльнай зброі; 2) дакладны размер якіх-н. прадметаў вытворчасці (напр. к. цвікоў); 3) *перан.* памер, велічыня, форма чаго-н.; 4) вымяральны інструмент для праверкі памераў, формы вырабаў.

**КАЛІБРАВА́ЦЬ** (фр. calibrer) — 1) вымяраць, правяраць *калібр* чаго-н.; надаваць патрэбны калібр (напр. к. адтуліну, к. патроны); 2) правяраць шкалу дзяленняў вымяральнага прыбора (напр. к. тэрмометр).

**КАЛІБРА́ТАР** (ад *калібр*) — прыбор для настройкі і праверкі сродкаў вымярэння, а таксама для вымярэння параметраў некаторых электрычных мер.

**КАЛІБРО́МЕТР** (ад *калібр* + *-метр*) — інструмент для вымя-

рэння дыяметра дроту або таўшчыні ліставога металу.

**КАЛІ́БРЫ** [ісп. colibri, ад індз. col-ib(a)ri] — вельмі маленькая птушка з прыгожым яркім апярэннем; харчуецца нектарам кветак, насякомымі і павукамі; водзіцца ў Амерыцы.

**КАЛІГРА́Ф** (ад гр. kalos = прыгожы + *-граф*) — чалавек, які валодае майстэрствам пісаць роўным прыгожым почыркам.

**КАЛІГРА́ФІЯ** (гр. kalligraphia, ад kalos = прыгожы + grapho = пішу) — майстэрства пісаць роўным прыгожым почыркам.

**КАЛІДО́Р** (іт. corridore) — 1) праход, які злучае асобныя часткі будынка; 2) *перан.* вузкая, доўгая прастора, якая злучае сабой што-н., праход (напр. горны к., паветраны к.).

**КАЛІЕ́ЛА** (н.-лац. koliella) — аднаклетачная або ніткаватая зялёная водарасць сям. элакатотрыксавых, якая трапляецца ў *планктоне* азёр, рэк, у глебе, на снезе.

**КАЛІ́ЗА** (н.-лац. colisa) — рыба атрада акунепадобных, якая пашырана ў вадаёмах Пауд.-Усх. Азіі.

**КАЛІ́ЗІЯ** (лац. collisio) — 1) вострае сутыкненне супрацьлеглых поглядаў, імкненняў, інтарэсаў (жыццёвая к.); 2) адлюстраванне жыццёвых канфліктаў у мастацкім творы (сюжэтная к.); 3) *юр.* разыходжанне паміж асобнымі законамі адной дзяржавы або супярэчнасць законаў, судовых рашэнняў розных дзяржаў; 4) *геал.* сутыкненне вялізных літасферных пліт або кантынентаў.

**КА́ЛІЙ** (н.-лац. kalium, ад ар. alkali = паташ) — хімічны элемент, шчолачны метал серабрыста-белага колеру; выкарыстоўваецца як матэрыял электродаў у хімічных крыніцах току, як гетэр у вакуумных радыёлямпах і інш.

**КАЛІ́МА** (н.-лац. kallima) — матылёк сям. *німфалідаў* з яркімі плямамі на верхнім баку крылаў, пашыраны ў тропіках Азіі і Афрыкі.

**КАЛІМА́ТАР** (ад лац. collimare, скажонага collineare = накіроўваць па прамой лініі) — 1) аптычная сістэма для атрымання пучкоў паралельных прамянёў; 2) невялікая падзорная труба, у фокусе якой крыжападобна нацягнутыя ніткі.

**КАЛІМА́ЦЫЯ** (ад лац. collimare, скажонага collineare = накіроўваць па прамой лініі) — інструментальная памылка ў аптычных прыборах, якая ўзнікае ў выніку недакладнай перпендыкулярнасці восі абарочвання трубы прыбора да яго аптычнай восі.

**КАЛІМІ́КА** (н.-лац. callimico) — ігрунковая малпа з густым валасяным покрывам, пашыраная ў лясах вярхоўя Амазонкі; валодае багатай мімікай.

**КАЛІНЕА́РНЫ** (ад *ка-* + linea = лінія) — *паралельны* дадзенай прамой *лініі*.

**КАЛІНЕА́ЦЫЯ** (ад *ка-* + лац. linea = лінія) — пераўтварэнне, пры якім пункты адной прамой становяцца пунктамі іншай прамой.

**КАЛІПАГЕ́Я** (н.-лац. calypogeia) — пячоначны мох сям. калі-

пагеевых, які трапляецца на глебе і гнілой драўніне, у сырых месцах.

**КАЛІ́ПСА** (ісп. calypso, ад гр. Kalypso = імя адной з німф у старажытнагрэчаскай міфалогіі) — 1) народная імправізаваная песенна-танцавальная форма вострава Трынідад; 2) парны *танец* эратычнага характару, пашыраны на гэтым востраве.

**КАЛІПТРАГЕ́Н** (ад гр. kalyptra = пакрывала + *-ген*) — утваральная тканка раслін, якая размешчана ў конусе нарастання кораня і дае пачатак каранёваму чахольчыку.

**КАЛІ́Т** (н.-лац. colitis, ад гр. kolon = абадочная кішка) — запаленне слізістай абалонкі тоўстай кішкі.

**КАЛІТА́** (тат. kalta) — 1) вялікі кашалёк, сумка для грошай (у 14—18 ст.); 2) сумка, торба (у народных гаворках).

**КАЛІ́Ф** (ар. chalīfa = спадчыннік, наступнік) — тое, што і *халіф*.

**КАЛІФАРЫ́ДЫ** (н.-лац. calliphoridae) — сямейства насякомых атрада двухкрылых; некаторыя віды — пераносчыкі ўзбуджальнікаў інфекцыйных хвароб чалавека і дамашніх жывёл; сінія мясныя мухі.

**КАЛІФА́Т** (ад *каліф*) — тое, што і *халіфат*.

**КАЛІФО́РНІЙ** (н.-лац. californium, ад англ. California = назва штата ў ЗША) — штучна атрыманы радыеактыўны хімічны элемент, які адносіцца да *актыноідаў*.

**КАЛІ́ЦЫУМ** (н.-лац. calicium) — накіпны сумчаты лішайнік сям. каліцыевых, які трапляецца ў цяністых лясах на кары хвойных і ліставых дрэў, гнілых пнях.

**КАЛІЦЭ́ЛА** (н.-лац. calycella) — сумчаты грыб сям. гелоцыевых, які развіваецца на ствалах паваленых дрэў.

**КАЛІЭРГАНЕ́ЛА** (н.-лац. calliergonella) — лістасцябловы мох сям. амблістэгіевых, які расце на балотах, забалочаных лугах, па берагах рэк і ручаёў, на глебе ў вільготных лясах.

**КАЛІЭРГО́Н** (н.-лац. calliergon) — лістасцябловы мох сям. амблістэгіевых, які расце на балотах, у забалочаных лясах.

**КАЛКА́Н** (тур. kalkan) — рыба атрада камбалападобных, якая водзіцца пераважна ў Чорным і Адрыятычным морах.

**КАЛН** (латыш. kalns) — марэнны ўзгорак, града.

**КАЛО́ДЫЙ** (н.-лац. collodium, ад гр. kollodes = клейкі) — густы клейкі раствор *нітрацэлюлозы* ў сумесі спірту і эфіру; выкарыстоўваецца ў медыцыне і фатаграфіі.

**КАЛО́ІД** (ад гр. kolla = клей + *-оід*) — некрышталізаванае рэчыва (бялок, крухмал, клей і інш.), растворы якога не праходзяць праз жывёльныя і раслінныя перапонкі.

**КАЛО́ІДНЫ** (ад *калоід*) — які мае адносіны да калоіду, з уласцівасцямі калоіду (напр. к. раствор).

**КАЛО́Н**[1] (лац. colonus = земляроб) — 1) арандатар невялікага ўчастка зямлі ў буйнога землеўладальніка ў Стараж. Рыме; 2) прадстаўнік розных катэгорый сялянства (батрак, здольшчык, паўпрыгонны арандатар і інш.) у раманскіх краінах і ў Лац. Амерыцы.

**КАЛО́Н**[2] (ісп. colon) — грашовая адзінка Коста-Рыкі, роўная 100

*сентыма*, і Сальвадора, роўная 100 *сентава*.

**КАЛО́НА** (фр. colonne, ад лац. columna) — 1) збудаванне ў выглядзе слупа, якое служыць апорай ці дэкаратыўна-мастацкім элементам у будынку, а таксама ўзводзіцца як манумент у памяць якой-н. падзеі; 2) воінскі строй, глыбіня якога большая за яго шырыню або роўная ёй; парадак пастраення войск, пры якім падраздзяленні стаяць або рухаюцца адно за адным на пэўнай дыстанцыі; 3) група людзей або машын, трактароў і інш., якія размешчаны або рухаюцца выцягнутай лініяй, адзін за адным (напр. к. дэманстрантаў, к. аўтамашын).

**КАЛО́НЕІС** (н.-лац. caloneis) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. навікулавых, якая пашырана ў прэсных і саланаватых водах.

**КАЛО́НІЯ** (лац. colonia = пасяленне) — 1) краіна, якая гвалтоўна захоплена і эксплуатуецца імперыялістычнай дзяржавай; 2) пасяленне перасяленцаў з іншай краіны, вобласці (напр. грэчаская к. на чарнаморскім узбярэжжы); 3) згуртаванне землякоў у чужым горадзе, чужой краіне; 4) месца жыхарства асоб, паселеных разам з пэўнай мэтай (лячэбнай, выхаваўчай, працоўнай); 5) сукупнасць арганізмаў, якія жывуць злучаныя адзін з адным (напр. к. каралаў).

**КАЛОНТЫ́ТУЛ** (ад фр. colonne = калонка + *тытул*) — загаловачныя звесткі, што змяшчаюцца ў некаторых выданнях над тэкстам старонкі (*прозвішча аўтара, назва* кнігі або часопіса, асобнага артыкула, раздзела і інш.).

**КАЛО́РЫЯ** (ад лац. calor, -loris = цеплыня) — пазасістэмная адзінка вымярэння колькасці цеплыні, роўная 4,1868 *джоўля*.

**КАЛО́С** (гр. kolossos = вялікая статуя) — 1) *статуя*, калона велізарных памераў (напр. к. Радоскі); 2) *перан.* значная ў якой-н. галіне дзейнасці асоба; што-н. велічнае (напр. к. навукі); к. на гліняных нагах — што-н. велічнае з выгляду, але слабае ўнутры, гатовае распасціся.

**КАЛО́ТРЫКС** (н.-лац. calothrix) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. рывулярыевых, якая трапляецца на водных раслінах, на ракавінах *малюскаў*, на камянях у прыбярэжнай зоне, часам у *планктоне* прэсных і марскіх вадаёмаў.

**КАЛО́ТЫ** (н.-лац. calotes) — яшчаркі сям. агамавых з кароткай галавой і доўгімі канечнасцямі і хвастом, пашыраны ў Паўд. і Паўд.-Усх. Азіі, жывуць на дрэвах у лясах.

**КАЛО́ЦЫБЕ** (н.-лац. calocybe) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. радоўкавых, які расце на ламаччы, лясным подсціле, глебе.

**КАЛО́ЦЭРА** (н.-лац. calocera) — *базідыяльны* грыб сям. дакрыміцэвых, які развіваецца на рэштках драўніны, пераважна хвойных парод.

**КАЛУМБА́РЫЙ** (лац. columbarium) — месца для захоўвання урнаў з прахам пасля *крэмацыі*.

**КАЛУМБІ́Т** (ад англ. Columbia = назва акругі ў ЗША) — тое, што і *ніабіт*.

# К

**КА́ЛУС** (лац. callus = тоўстая скура, мазоль) — тканка, якая развіваецца ў месцах пашкоджання органаў раслін, на прывіўках або ў культуры ізаляваных тканак.

**КАЛХІЦЫ́Н** (н.-лац. colchicum, ад гр. kolchikon = пазнацвет) — *алкалоід*, які змяшчаецца ў *колхікуме*; выкарыстоўваецца ў медыцыне.

**КАЛЧАДА́Н** (фр. calcedoine, ад гр. Chalkedon = назва горада ў Малой Азіі) — агульная назва *мінералаў*, якія з'яўляюцца сярністымі, мыш'яковістымі, а таксама сурмяністымі злучэннямі металаў (жалеза, медзі і інш.).

**КАЛЧА́Н** (тат. kalčan) — скураны або драўляны футарал для стрэл.

**КАЛЫ́М** (цюрк. kalym) — 1) выкуп, які ўносіцца жаніхом бацькам нявесты (у народаў Усходу); 2) *перан.* лёгкі пабочны заробак.

**КАЛЬВА́РЫЯ** (ад лац. calva = чэрап) — святое месца ў каталікаў Польшчы, Беларусі і Літвы, куды сцякаліся набожныя, хворыя, калекі, старцы на пакаянне.

**КАЛЬВІ́ЛЬ** (фр. calville, ад Calville = назва мясцовасці ў Нармандыі) — сорт паўднёвай яблыні з вялікімі ружова-жоўтымі яблыкамі, а таксама плод гэтай яблыні.

**КАЛЬВІНІ́ЗМ** [ад фр. J.Calvin = прозвішча фр. тэолага (1509—1564)] — адно з пратэстанцкіх веравучэнняў (гл. *пратэстантызм*), якое ўзнікла ў 16 ст. у Швейцарыі на аснове вучэння Ж.Кальвіна і пашырылася ў Еўропе.

**КАЛЬДЭ́ЗІЯ** (н.-лац. Caldesia) — травяністая расліна сям. шальнікавых з акруглым лісцем у разетках і дробнымі белымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная ў Еўразіі на берагах вадаёмаў і на балотах.

**КАЛЬДЭ́РА** (ісп. caldera = *літар.* вялікі кацёл) — вялікая авальная ўпадзіна вулканічнага паходжання.

**КАЛЬЕ́** (фр. collier, ад лац. collum = шыя) — *каралі* з каштоўных камянёў або іх замяняльнікаў.

**КА́ЛЬКА** (фр. calque = копія) — 1) празрыстая папера або тканіна для зняцця копій з чарцяжоў і малюнкаў; 2) копія чарцяжа або малюнка на такім матэрыяле; 3) *лінгв.* слова або выраз, утвораны па ўзору слова або выразу з іншай мовы (напр. жыццеапісанне — гр. biographia, ад bios = жыццё + grapho = пішу).

**КАЛЬКАВА́ЦЬ** (фр. calquer) — 1) здымаць копію пры дапамозе *калькі* 1; 2) *лінгв.* ствараць *кальку* 3.

**КАЛЬКАХІМІЯГРА́ФІЯ** (ад *калька* + *хімія* + *-графія*) — спосаб прыгатавання без фотаапарата штрыхавых *клішэ*.

**КАЛЬКВІ́ЦЫЯ** (н.-лац. kolkwitzia) — кустовая расліна сям. бружмелевых з апушаным знізу лісцем і ярка-ружовымі кветкамі ў выглядзе званочкаў, пашыраная ў Цэнтр. Кітаі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**КАЛЬКІ́ТЫ** (ад лац. calx, -lcis = вапна) — намнажэнне вуглякіслага *кальцыю* ў месцах выхаду насычаных кальцыем грунтавых вод (у азёрах, балотах, каля крыніц); прэснаводныя вапнавыя адклады.

**КАЛЬКУЛЯ́ТАР** (лац. calculator) — 1) спецыяліст па *калькуля-*

*цыі*; 2) тое, што і *мікракалькулятар*.

**КАЛЬКУЛЯ́ЦЫЯ** (лац. calculatio) — вылічэнне сабекошту, пакупной і прадажнай вартасці тавару.

**КАЛЬКУЛЯВА́ЦЬ** (лац. calculare) — складаць, рабіць *калькуляцыю*.

**КАЛЬКУЛО́ГРАФ** (ад лац. calculo = лічу + *-граф*) — прыбор для вызначэння працягласці міжгародняй тэлефоннай размовы.

**КАЛЬМА́Р** (фр. calmar) — марскі драпежны галаваногі *малюск* атрада *дэкаподаў*; мяса многіх відаў з'яўляецца каштоўным харчовым прадуктам.

**КАЛЬМАТА́Ж** (фр. colmatage, ад лац. colmata = насып) — 1) прыроднае або штучнае асяданне мулу на ўчастку зямлі, у выніку чаго ўтвараецца новы пладаносны слой; 2) прыроднае або штучнае ўмыванне глiністых або мулістых часцінак у поры грунту, што памяншае *фільтрацыю* вады праз сценкі каналаў, вадаёмаў.

**КАЛЬМАТА́ЦЫЯ** (ад фр. colmater = наглейваць) — тое, што і *кальматаж*.

**КАЛЬПАСКАПІ́Я** (ад гр. kolpos = похва + *-скапія*) — метад даследавання жаночых палавых органаў пры дапамозе *кальпаскопа*.

**КАЛЬПАСКО́П** (ад гр. kolpos = похва + *-скоп*) — прыбор для даследавання жаночых палавых органаў, які стварае штучнае асвятленне і павелічэнне ў 20—30 разоў.

**КАЛЬПІ́Т** (ад гр. kolpos = похва) — тое, што і *вагініт*.

**КАЛЬРА́БІ** (ням. Kohlrabi) — разнавіднасць агароднай капусты з патаўшчэннямі на сцябле.

**КАЛЬРА́ЎШЫЯ** (н.-лац. cohlrauschia) — травяністая расліна сям. гваздзіковых з вострым лісцем і ружовымі або чырвона-ліловымі кветкамі ў галоўчатых суквеццях, пашыраная ў Сярэд. Еўропе, Малой Азіі; на Беларусі заносная.

**КАЛЬСО́НЫ** (фр. caleçons) — споднія мужчынскія штаны; споднікі.

**КА́ЛЬЦЫЙ** (н.-лац. calcium, ад лац. calx, -lcis = вапна) — хімічны *элемент*, шчолачны метал серабрыста-белага колеру, які ўваходзіць у састаў вапнякоў, мармуру і інш.

**КАЛЬЦЫ́НА** (ад лац. calx, -lcis = вапна) — сплаў волава з свінцом.

**КАЛЬЦЫНА́ЦЫЯ** (лац. calcinatio) — праграванне мелу, вапняку, соды, солей, руд і іншых рэчываў з мэтай іх акіслення, разлажэння і інш.

**КАЛЬЦЫНО́З** (ад *кальцый* + *-ноз*) — адклады солей кальцыю ў скуры.

**КАЛЬЦЫ́Т** (ад лац. calx, -lcis = вапна) — мінерал класа *карбанатаў*, састаўная частка вапняку, мармуру і інш.; вапнавы шпат.

**КАЛЬЦЫФЕРО́Л** (ад лац. calx, -lcis = вапна + ferre = несці) — арганічнае злучэнне, якое рэгулюе абмен *кальцыю* і *фосфару* ў арганізме (вітамін $Д_2$).

**КАЛЬЦЭАЛЯ́РЫЯ** (ад лац. calceolus = чаравічак) — травяністая або кустовая расліна сям. залознікавых з жоўтымі або пурпуровымі кветкамі, пашыраная пераважна ў

Паўд. і Цэнтр. Амерыцы; некаторыя віды вырошчваюцца як дэкаратыўныя.

**КА́ЛЬЦЭКС** (н.-лац. calcex) — лекавы прэпарат, у склад якога ўваходзяць солі хлорыстага *кальцыю* і *уратрапіну*, выкарыстоўваецца пры прастудных хваробах.

**КАЛЬЦЭФІ́ЛЫ** (ад лац. calx, -lcis = вапна + *-філ*) — расліны, якія добра развіваюцца на багатых *кальцыем* глебах (напр. вятроўнік, лістоўніца); параўн. *кальцэфобы*.

**КАЛЬЦЭФІ́ТЫ** (ад лац. calx, -lcis = вапна + *-фіты*) — расліны, якія растуць на багатых вапнай глебах.

**КАЛЬЦЭФО́БЫ** (ад лац. calx, -lcis = вапна + *-фоб*) — расліны, якія адмоўна рэагуюць на наяўнасць солей *кальцыю* ў глебе (напр. тарфяныя імхі); параўн. *кальцэфілы*.

**КАЛЬЯ́Н** (тур. kalyan, ад перс. kaljān) — курыльная прылада, у якой тытунёвы дым ачышчаецца, праходзячы праз ваду (распаўсюджана ў народаў Усходу).

**КАЛЮ́ВІЙ** (лац. colluvio = нагрувашчванне) — абломкавы матэрыял абвалаў, асыпанняў, што нагрувашчваецца на схілах і каля падножжа гор.

**КАЛЮ́Р** (фр. colure, ад гр. koluros = бясхвосты) — вялікі круг нябеснай сферы, які праходзіць праз полюсы свету і пункты веснавога і асенняга раўнадзенстваў або праз полюсы свету і пункты летняга і зімовага сонцастаянняў.

**КА́ЛЮС** (лац. callus = тоўстая скура, мазоль) — тканкавае новаўтварэнне ў раслін у месцах надрэзаў, трэшчын, якое садзейнічае зажыўленню ран.

**КАЛЯНДА́Р** (лац. calendarium) — 1) даведачная табліца або кніжка, у якой пералічаны ўсе дні года з указаннем святочных і памятных дат (напр. адрыўны к.); 2) сістэма летазлічэння; Ю л і я н с к і к. — летазлічэнне, уведзенае ў 46 г. да н.э. рымскім імператарам Юліем Цэзарам; у ім тры гады па 365 сутак чаргуюцца з высакосным, што мае 366 сутак (высакоснымі лічацца гады, лічбавае выражэнне якіх дзеліцца на 4); стары стыль; Г р ы г а р ы я н с к і к. — летазлічэнне, уведзенае папай Грыгорыем XIII у 1582 г.; у ім лічэнне перасунута на 10 сутак наперад, каб ліквідаваць адставанне ад сонечнага календара, і выключаны з высакосных гады, лічбавае выражэнне якіх заканчваецца на 00, калі дзве першыя лічбы не дзеляцца на 4; новы стыль; Р э с п у б л і к а н с к і к. — каляндар, які дзейнічаў у Францыі ў 1793—1805 гг.; у ім год пачынаўся 22 верасня і складаўся з 12 месяцаў, што насілі назвы, звязаныя са з'явамі прыроды па сезонах; 3) размеркаванне асобных відаў дзейнасці па днях, месяцах (напр. вытворчы к.).

**КАЛЯ́НДРА** (лац. coriandrum) — травяністая расліна сям. парасонавых з дробнымі белымі або ружовымі кветкамі ў парасоніках, пашыраная ў Міжземнамор'і; на Беларусі вырошчваецца як востраприпраўная і лекавая.

**КАЛЯТЭРА́ЛІ** (ад *ка-* + лац. lateralis = бакавы) — *анат.* бакавыя злучэнні паміж сістэмамі дзвюх розных *артэрый* або *вен*.

**КАМАДО́Р** (англ. commodore, ад іт. commodoro) — камандзір злучэння караблёў, які не мае адміральскага звання, у флотах Вялікабрытаніі, ЗША і Нідэрландаў.

**КАМА́НДА** (фр. commande) — 1) кароткі вусны загад камандзіра; 2) узначальванне якой-н. воінскай часці (напр. прыняць каманду над ротай); 3) невялікае вайсковае падраздзяленне, атрад спецыяльнага прызначэння (напр. каравульная к., к. падрыўнікоў); 4) *экіпаж* судна; 5) спартыўны калектыў (напр. баскетбольная к.); 6) спецыяльны двайковы код (прадпісанне, указанне, інструкцыя), які запісаны на машыннай мове дадзенай ЭВМ і вызначае яе дзеянні пры пэўнай аперацыі ў вылічальным працэсе.

**КАМА́НДАВАЦЬ** (рус. командовать, ад фр. commander) — 1) аддаваць *каманду* 1, вымаўляць словы каманды; 2) быць камандзірам якой-н. воінскай часці (напр. к. батальёнам, к. парадам); 3) *перан.* аддаваць распараджэнні.

**КАМА́НДАС** (англ. commandos) — 1) спецыяльныя атрады ва ўзброеных сілах Вялікабрытаніі і некаторых іншых краін, якія прызначаны для разведвальна-дыверсійных дзеянняў; 2) атрады апалчэнцаў у арміі бураў у час англа-бурскай вайны 1899—1902 гг.

**КАМАНДЗІ́Р** (рус. командир, фр. commandeur) — 1) начальнік вайсковай часці, падраздзялення, ваеннага судна і інш.; 2) *перан.* старшы ў якой-н. грамадзянскай групе (напр. к. дружыны, к. будаўнічага атрада).

**КАМАНДЗІРАВА́ЦЬ** (ням. kommandieren) — адпраўляць куды-н. са службовым даручэннем.

**КАМАНДЗІРО́ЎКА** (рус. командировка, ад ням. Kommandierung) — 1) службовае заданне, даручэнне, звязанае з паездкай кудын.; 2) камандзіровачнае пасведчанне.

**КАМАНДЗІ́ТНЫ** (фр. commandite = таварыства на веры) — які мае адносіны да гандлёвага таварыства, члены якога адказваюць па абавязацельствах усёй сваёй маёмасцю, а астатнія ўдзельнікі толькі сваімі ўкладамі.

**КАМАНДО́Р** (фр. commandeur) — 1) вышэйшае званне ў сярэдневяковым рыцарскім *ордэне*; 2) воінскае званне афіцэраў у ваенных флотах некаторых дзяржаў, напр. у Расіі ў 18 — пач. 19 ст., у Польшчы; 3) кіраўнік спартыўнага (аўтамабільнага, матацыклетнага, коннага, лыжнага і інш.) прабегу.

**КАМАРАФІ́ЛУС** (н.-лац. camarophyllus) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. гіграфоравых, які расце на глебе ў лясах, на лугах; некаторыя віды ядомыя.

**КАМАРЫ́ЛЛЯ** (ісп. camarilla) — група прыдворных, якая ў карыслівых мэтах уплывае сваімі інтрыгамі на дзяржаўныя справы.

**КАМАСА́ЦЫЯ** (польск. komasacja, ад ням. Kommassation) — аб'яднанне некалькіх дробных зямельных надзелаў сялян у адно цэлае з мэтай ліквідацыі цераспалосіцы.

**КАМАСІ́Т** (ад гр. kamaks, -akos = кій) — мінерал, які змяшчаецца ў жалезных *метэарытах* і з'яўляец-

ца сумессю крышталічнага жалеза з *нікелем*.

**КАМАТО́ЗНЫ** (ад гр. koma, -atos = сон, драманне) — які знаходзіцца ў санлівым, прыгнечаным стане.

**КАМА́ШЫ** (ням. Kamasche, ад фр. gamache) — *уст.* тое, што і *гамашы*.

**КАМБА́ЙН** (англ. combine) — складаная машына, якая адначасова выконвае некалькі розных аперацый (напр. збожжаўборачны к., горны к.).

**КАМБА́ЙНЕР** (англ. combiner) — *механізатар*, які працуе на збожжаўборачным *камбайне*.

**КА́МБАЛА** (рус. камбала, ад фін. kampala) — прамысловая марская рыба сям. камбалавых са сплюснутым целам і вачамі на адным баку.

**КАМБАТА́НТЫ** (фр. combattant = воін) — асобы ў міжнародным праве, якія ў час вайны ўваходзяць у склад узброеных сіл і непасрэдна прымаюць удзел у ваенных дзеяннях (параўн. *нонкамбатанты*).

**КАМБІ́ЗМ** (англ. cambizm) — стратэгія валютных аперацый, сутнасць якіх заключаецца ў пошуку найбольш эфектыўных метадаў пераводу сродкаў у іншую краіну.

**КА́МБІЙ** (н.-лац. cambium) — тканка ў сцёблах і каранях голанасенных і двухдольных раслін, размешчаная паміж драўнінай і лубам, якая абумоўлівае рост у таўшчыню.

**КАМБІНАВА́ЦЬ** (лац. combinare = звязваць, спалучаць) — 1) злучаць розныя элементы ў пэўных суадносінах, размяшчаць у пэўным парадку (напр. к. фарбы); 2) рабіць, прыдумваць *камбінацыі* 2, 3.

**КАМБІНА́Т** (п.-лац. combinatus = злучаны) — 1) аб'яднанне прамысловых прадпрыемстваў розных галін, у якім прадукцыя аднаго прадпрыемства служыць сыравінай або паўфабрыкатам для другога (напр. цэлюлозна-папяровы к.); 2) аб'яднанне некалькіх прадпрыемстваў мясцовай прамысловасці або прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання; 3) аб'яднанне навучальных устаноў розных ступеней пры якім-н. прадпрыемстве (вучэбна-вытворчы к.).

**КАМБІНА́ТАР** (фр. combinateur) — спрытны дзялок, які дасягае мэты шляхам лоўкіх аперацый, хітрыкаў.

**КАМБІНАТО́РНЫ** (ад лац. combinare = звязваць, спалучаць) — 1) які адносіцца да *камбінаторыкі* (напр. к. аналіз); 2) *лінгв.* пазіцыйны; які залежыць ад пазіцыйнага становішча гукаў і іх артыкуляцыйнага ўзаемадзеяння (гл. *алафон*).

**КАМБІНАТО́РЫКА** (ад лац. combinare = звязваць, спалучаць) — раздзел *матэматыкі*, у якім вывучаюцца магчымыя злучэнні элементаў у зададзеным канечным мностве.

**КАМБІНА́ЦЫЯ** (с.-лац. combinatio = злучэнне) — 1) спалучэнне, узаемазвязанае размяшчэнне чаго-н. (напр. к. лічбаў); 2) *перан.* хітрыкі, загадзя абдуманы *манеўр* для дасягнення якой-н. мэты (спрытная к.); 3) сукупнасць аб'яднаных адной задумай прыёмаў, дзеянняў (напр. футбольная к., шахматная

к.); 4) жаночая сарочка, якую надзяваюць непасрэдна пад сукенку.

**КАМБІНЕЗО́Н** (фр. combinaison) — рабочы касцюм, які складаецца з курткі і штаноў, спытых разам.

**КА́МБІО** (іт. cambio = размен) — *вэксаль*, пазыковы ліст (параўн. *рэкамбіо*).

**КАМБІ́СТ** (іт. cambista = мяняла) — асоба, якая займаецца вэксальнымі аперацыямі і продажам *вэксаляў* і замежных манет.

**КАМБІФО́РМ** (ад *камбій* + *форма*) — элементы лубу (флаэмы) пераважна травяністых раслін, якія ўзнікаюць з клетак пракамбія ці верацёнападобных клетак камбія і захоўваюць характэрную для іх форму.

**КАМБІЯ́ЛЬНЫ** (ад н.-лац. cambium = абмен, змена) — абменны, зменны; к - ы я   к л е т к і — клеткі, якія пастаянна абнаўляюць тканку ў чалавека і жывёл.

**КА́МБРЫК** (англ. cambric, ад Cambrai = назва горада ў Францыі) — тонкае празрыстае палатно, падобнае да *батысту*.

**КА́МБУЗ** (ням. Kambüze, гал. kombuis) — кухня на судне.

**КАМБУСТЫЯЛО́ГІЯ** (ад лац. combustum = апёк + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае апёкавыя хваробы.

**КАМВО́ЛЬНЫ** (ад ням. Kammwolle = чэсаная воўна) — 1) выраблены з тонкай чэсанай шэрсці (к-ыя тканіны); 2) заняты вырабам тонкіх шарсцяных тканін (к. камбінат).

**КАМЕ́ДЗЬ** (гр. kommidion) — густы клейкі сок некаторых дрэў, якія выкарыстоўваецца ў тэкстыльнай прамысловасці, медыцыне і як канцылярскі клей.

**КАМЕДЫЁГРАФ** (ад *камедыя* + *-граф*) — *драматург*, які піша камедыі.

**КАМЕ́ДЫЯ** (лац. comoedia, ад гр. komodia) — 1) драматычны твор з вясёлым, гумарыстычным або сатырычным зместам; 2) *перан.* прытворства, крывадушнае разыгрыванне якой-н. ролі з пэўнай мэтай (ламаць камедыю); 3) *перан.* смешнае здарэнне, прыгода.

**КАМЕДЫЯГРА́ФІЯ** (ад *камедыя* + *-графія*) — 1) камедыйнае пісьменніцкае мастацтва; 2) сукупнасць камедыйных твораў народа, пэўнай эпохі, пісьменніка.

**КАМЕДЫЯ́НТ** (іт. commediante) — 1) даўнейшая назва акцёра; 2) *перан.* крывадушнік, прытворшчык.

**КАМЕ́ЛІЯ** (фр. camélia, ад іт. Camelli = прозвішча іт. натураліста 18 ст.) — вечназялёная дрэвавая або кустовая расліна сям. чайных з буйнымі белымі або чырвонымі кветкамі, пашыраная ў тропіках і субтропіках Азіі; некаторыя віды вырошчваюцца як дэкаратыўныя.

**КАМЕНДА́НТ** (ням. Kommendant, ад лац. commendans, -ntis) — 1) начальнік войск крэпасці або ўмацаванага раёна; 2) вайсковы начальнік, які наглядае за парадкам нясення службы ў *гарнізоне*; 3) асоба, якая наглядае за парадкам перамяшчэння войск і вайсковых грузаў на шляхах зносін (ваенны к.); 4) асоба, якая адказвае за ахову і маёмасць якога-н. грамадскага будынка (напр. к. інтэрната).

# К

**КАМЕНДАТУ́РА** (ням. Kommandantur) — установа, якую ўзначальвае *камендант* гарнізона, а таксама памяшканне гэтай установы.

**КАМЕНДА́ЦЫЯ** (лац. commendatio = даручэнне) — характэрны для перыяду ранняга сярэдневякоўя акт пераходу *васала* ў залежнасць ад *сеньёра*.

**КАМЕНДО́Р** (англ. commander) — матрос-артылерыст у рускім *флоце* (18 ст. — 1917 г.) і флотах некаторых іншых дзяржаў.

**КАМЕНСАЛІ́ЗМ** (ад фр. commensal = сатрапезнік, ад лац. com = сумесна + mensa = стол) — форма сумеснага жыцця жывёл розных відаў, пры якой адзін арганізм жыве за кошт другога, не робячы яму шкоды (напр. рыба-прыліпала на целе акулы); к. больш блізкі да *сімбіёзу*, чым да *паразітызму* 1.

**КАМЕНСА́ЛЫ** (фр. commensal = сатрапезнік) — жывёлы, якія жывуць на целе ці ў поласці цела іншых жывёл, маючы ад гэтага карысць і не робячы шкоды гаспадару.

**КАМЕНТА́РЫЙ** (лац. commentarius) — 1) тлумачэнні, паясненні да якога-н. друкаванага тэксту (напр. к. да твораў К.Чорнага); 2) тлумачэнні і крытычныя заўвагі з выпадку якой-н. падзеі (гістарычнай, палітычнай, спартыўнай і інш.).

**КАМЕНТА́ТАР** (лац. commentator) — той, хто *каменціруе* што-н.; аўтар *каментарыя* (напр. к. па знешнепалітычных пытаннях).

**КАМЕНЦІ́РАВАЦЬ** (лац. commentari) — 1) даваць *каментарый* да якога-н. тэксту (напр. к. вершы М.Багдановіча); 2) абмяркоўваць што-н., рабіць свае заўвагі аб чым-н. (напр. к. спектакль).

**КА́МЕРА** (лац. camera) — 1) памяшканне асобага, спецыяльнага прызначэння (напр. к. для хавання багажу, турэмная к.); 2) закрытая прастора ў якой-н. машыне, прыборы, збудаванні (напр. к. фотаапарата, к. шлюза); 3) унутраная гумавая абалонка пад шынай аўтамабіля, пакрышкай мяча, якая напампоўваецца паветрам.

**КА́МЕРА-АБСКУ́РА** (лац. camera obscura = цёмны пакой) — прататып *фотаапарата* ў выглядзе закрытай скрынкі з невялікай адтулінай у сценцы, якая з'яўляецца аб'ектывам.

**КАМЕРАЛІ́СТЫКА** (ням. Kameralistik, ад п.-лац. camera = казна) — цыкл адміністратыўных і эканамічных дысцыплін, якія ў 17—18 ст. выкладаліся ў універсітэтах Германіі і іншых еўрапейскіх краін з мэтай падрыхтоўкі кіраўнікоў буйных гаспадарак.

**КАМЕРА́ЛЬНЫ** (с.-лац. cameralis = пакаёвы) — які праводзіцца ў кабінеце, лабараторыі; к-ыя работы — апрацоўка матэрыялаў, сабраных у выніку палявых тапаграфічных, геалагічных і іншых даследаванняў; к-ыя навукі — тое, што і *камералістыка*.

**КАМЕРГЕ́Р** (ням. Kammerherr) — прыдворнае званне, на ступень вышэйшае за *камер-юнкера*, у некаторых манархічных дзяржавах.

**КАМЕРДЫ́НЕР** (ням. Kammerdiener) — пакаёвы слуга, *лакей* у буржуазна-дваранскім побыце.

**КА́МЕР-КАЛЕ́ГІЯ** (ням. Kammerkollegium) — заснаваная Пятром I установа, якая ведала дзяржаўнымі даходамі.

**КА́МЕР-ЛАКЕ́Й** (ням. Kammerlackei) — старшы прыдворны *лакей*.

**КА́МЕРНЫ** (ад лац. camera = пакой) — прызначаны для невялікага памяшкання, для абмежаванага кола слухачоў (напр. к-ая музыка, к. аркестр).

**КАМЕРСА́НТ** (фр. commerçant, ад лац. commercium = гандаль) — той, хто займаецца *камерцыяй*.

**КАМЕРТО́Н** (ням. Kammerton) — прылада ў выглядзе стальной вілкі з двума зубцамі, якi пры ўдары дае гук пэўнай вышыні, умоўны *тон* для настройкі музычных інструментаў.

**КА́МЕР-ФРЭЙЛІ́НА** (ням. Kammerfräulein) — прыдворнае званне для дачок саноўнікаў у царскай Расіі.

**КА́МЕР-ФУР'Е́Р** (ням. Kammerfurier) — прыдворны чыноўнік шостага *ранга* ў царскай Расіі.

**КАМЕ́РЦЫЯ** (лац. commercium = гандаль) — дзейнасць, у аснове якой ляжыць ажыццяўленне афіцыяльна дапушчальных гандлёвых аперацый, што прыносяць *камерсанту* прыбытак.

**КАМЕРЫ́СТКА** (іт. camerista) — пакаёўка, служанка пры пані ў буржуазна-дваранскім побыце.

**КА́МЕР-Ю́НКЕР** (ням. Kammerjunker) — малодшае прыдворнае званне ў царскай Расіі і некаторых іншых манархічных дзяржавах.

**КАМЕ́ТА** [лац. cometa, ад гр. kometes (aster) — хвастатая (зорка)] — нябеснае цела ў выглядзе абкружанага туманнай абалонкай яркага ядра са светлай паласой у форме хваста.

**КАМЕТАЛО́ГІЯ** (ад *камета* + *-логія*) — галіна *астраноміі*, якая вывучае рух, будову і развіццё камет.

**КАМЕТО́ЛАГ** (ад *камета* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне *каметалогіі*.

**КАМЕ́Я** (фр. camée, ад іт. cammeo) — разьблёны камень з выпуклым рэльефным адлюстраваннем (параўн. *інталія*); гл. таксама *гема*.

**КАМЗО́Л** (фр. camisole) — кароткая мужчынская куртка без рукавоў, замененая пазней *камізэлькай*.

**КАМІЗА́РЫ** (фр. camisards) — удзельнікі сялянскага антыфеадальнага паўстання на поўдні Францыі ў пач. 18 ст.

**КАМІ́ЗМ** (ад гр. komikos = смешны) — *камічнае*, смешнае ў людзях, здарэннях, сітуацыях.

**КАМІЗЭ́ЛЬКА** (польск. kamizelka, ад фр. camisole) — кароткае мужчынскае адзенне без каўняра і рукавоў, якое надзяваюць пад пінжак.

**КАМІКА́ДЗЕ** (яп. kamikaze = вецер багоў) — 1) лётчык-смяротнік у японскай арміі ў перыяд другой сусветнай вайны, які ішоў на смерць разам з накіраваным на цэль самалётам; 2) *перан.* самаахвярны фанатык-смяротнік.

**КАМІЛА́ЎКА** (гр. kamelaukion) — высокі цыліндрычны галаўны ўбор з аксаміту як знак адрознення ў праваслаўных свяшчэннікаў.

# К

**КАМІЛЬФО́** (фр. comme il faut = *літар.* як належыць) — адпаведнасць правілам свецкай прыстойнасці ў дваранска-буржуазным асяроддзі.

**КАМІ́Н** (ням. Kamin < лац. caminus, ад гр. kaminos = печ) — 1) печ у пакоях з шырокай адкрытай топкай; 2) электрычны або газавы прыбор для абагрэву пакоя.

**КАМІСАВА́ЦЬ** (рус. комиссовать, ад лац. commissio = камісія) — вызваляць на медыцынскай *камісіі* ад ваеннай службы, работы па стану здароўя.

**КАМІСА́Р** (с.-лац. commissarius) — 1) службовая асоба, надзеленая ўрадам якімі-н. спецыяльнымі паўнамоцтвамі (напр. ваенны к.); 2) ураднік са спецыяльнымі абавязкамі на тэрыторыі Беларусі ў 16—17 ст.

**КАМІСА́РЫЯ** (ісп. comisaria) — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Калумбіі.

**КАМІСАРЫЯ́Т** (фр. commissariat) — установа, на чале якой стаіць *камісар* 1 (напр. раённы ваенны к.).

**КАМІ́СІЯ** (польск. komisja, ад лац. commissio) — 1) часовы орган з выбарных або прызначаных асоб са спецыяльнымі задачамі і даручэннямі (напр. выбарчая к., экзаменацыйная к.); 2) орган дзяржаўнага кіравання з пэўнымі функцыямі (дзяржаўная планавая к.); 3) даручэнне купіць або прадаць што-н. з пэўнай аплатай за паслугу (напр. здаць рэчы на к.).

**КАМІСІЯНЕ́Р** (фр. commissionnaire) — асоба, якая выконвае гандлёвыя даручэнні за пэўную плату; пасрэднік у здзелцы за кошт *камітэнта*, але ад свайго імя.

**КАМІСУ́РА** (лац. commissura) — з'яднанне, злучэнне, спайка ў *анатоміі* чалавека і жывёл (напр. з'яднанне губ у кутках рота).

**КАМІСУРАТО́МІЯ** (ад *камісура* + *-томія*) — *аперацыя* раз'яднання зросшыхся створак клапанаў сэрца.

**КАМІТА́Т** (с.-лац. comitatus = вобласць) — найбольш буйная адзінка адміністрацыйна-тэрытарыяльнага дзялення ў Венгрыі.

**КАМІТЭ́НТ** (лац. committens, -ntis = які даручае) — асоба, якая даручае *камісіянеру* заключыць якую-н. здзелку (куплю, продаж і інш.).

**КАМІТЭ́Т** (фр. comité, ад лац. committere = даручаць) — 1) выбарны орган, які кіруе якой-н. работай (напр. прафсаюзны к.); 2) орган дзяржаўнага кіравання з пэўнымі функцыямі (напр. Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па архітэктуры і будаўніцтву).

**КАМІ́ЦЫІ** (лац. comitia) — народныя сходы ў Стараж. Рыме.

**КАМІ́ЧНЫ** (гр. komikos) — 1) вельмі смешны, забаўны (напр. к. выгляд); 2) камедыйны (напр. к. акцёр).

**КАМКА́** (цюрк. kamka, ад перс. kämhā) — шаўковая каляровая тканіна з узорамі.

**КАМКО́РДЭР** [ад англ. cam(era) + (re)corder] — тое, што і *відэакамера*.

**КАМЛО́Т** (фр. camelot) — тканіна з вярблюджай або авечай воўны

часта з прымессю баваўняных ніtак.

**КАМО́ДА** (польск. komoda, ад фр. commode) — невысокая шафа з шуфлядамі для бялізны і розных дробных рэчаў.

**КАМО́РА** (польск. komora, ад лац. camara) — 1) невялікае памяшканне пры хаце для захоўвання запасаў ежы і розных хатніх рэчаў; 2) мытня ў Вялікім княстве Літоўскім, дзе ацэньваўся тавар, які прывозілі купцы і іншыя гандляры, і спаганялася мыта; 3) кантора пры лясніцтве (у 19 — пач. 20 ст.).

**КАМО́РНІК** (польск. komornik, ад komora < лац. camara) — 1) *уст.* спецыяліст па межаванню зямельных надзелаў; 2) *гіст.* прадстаўнік жыхароў Вялікага княства Літоўскага, што не мелі ўласнага двара і зямлі, а наймалі жыллё і зямлю за грошы.

**КАМО́РРА** (іт. camorra) — тайная бандыцкая арганізацыя, якая існавала на поўдні Італіі ў 18—19 ст. (аналагічная *мафіі* 1).

**КАМПАЗІ́ТАР** (лац. compositor = складальнік) — аўтар музычных твораў.

**КАМПАЗІ́ТНЫ** (ад іт. composito = змешаны); к. о р д э р — архітэктурны *ордэр*, у якім схема карынфскай *капітэлі* ўскладнена чатырма іанічнымі *валютамі*, што падтрымліваюць *абак*.

**КАМПАЗІ́ЦЫЯ** (лац. compositio = складанне, спалучэнне) — 1) будова мастацкага твора, абумоўленая яго зместам, характарам, прызначэннем (параўн. *архітэктоніка* 1); 2) мастацкі твор (музычны, жывапісны, скульптурны і інш.), які з'яўляецца арыгінальным спалучэннем асобных частак (напр. скульптурная к.); 3) тэорыя складання музычных твораў (займацца па класу кампазіцыі).

**КАМПА́КТ-ДЫСК** [ад *кампакт(ны)* + *дыск*] — аптычны дыск невялікага дыяметра з інфармацыяй, закадзіраванай у лічбавай форме.

**КАМПА́КТНЫ** (лац. compactus) — 1) сціснуты шчыльна, без прамежкаў (напр. к-ая маса); 2) які займае мала месца пры вялікай змяшчальнасці (напр. к. выклад, к. шрыфт); 3) *перан.* кароткі, сціслы.

**КАМПА́КТУС** (лац. compactus = шчыльны) — сістэма *шаф, стэлажоў* у кнігасховішчах, архівах, што свабодна можа перамяшчацца па пракладзеных на падлозе рэйках.

**КАМПАНАВА́ЦЬ** (лац. componere = складаць) — складаць цэлае з асобных частак (напр. к. нумар часопіса).

**КАМПАНЕ́ЛА** (іт. campanella = званочак) — музычная *п'еса*, якая перадае гучанне званочкаў.

**КАМПАНЕ́НТ** (лац. componens, -ntis) — састаўная частка чаго-н. (напр. к. рэчыва, к. сказа).

**КАМПАНІ́ЛА** (іт. campanile) — званіца ў італьянскай *архітэктуры* перыяду сярэдневякоўя і эпохі Адраджэння ў выглядзе чатырохграннай або круглай вежы, якая стаіць асобна ад храма.

**КАМПА́НІЯ**[1] (польск. kompania, ад фр. compagnie) — 1) гандлёвае або прамысловае аб'яднанне прадпрыемцаў (напр. чыгуначная к., акцыянерная к.); 2) група асоб, якія разам праводзяць вольны час.

**КАМПА́НІЯ**[2] (фр. campagne) — 1) сістэма мерапрыемстваў для вырашэння якой-н. важнай грамадска-палітычнай або гаспадарчай задачы (напр. выбарчая к., пасяўная к.); 2) сукупнасць ваенных дзеянняў, абмежаваных месцам, часам (напр. зімняя к.); 3) перыяд знаходжання карабля ў плаванні.

**КАМПАНЬЁН** (фр. compagnon) — 1) член гандлёвай або прамысловай *кампаніі*[1] 1; 2) той, хто разам з кім-н. удзельнічае ў чым-н.

**КАМПАНЬЁНКА** (фр. compagnonne) — жанчына, якую наймалі ў панскі дом для ўвесялення і суправаджэння дам або дзяўчат.

**КАМПАНЬЯНА́ЖЫ** (фр. compagnonnages, ад compagnon = падмайстар) — арганізацыя ўзаемадапамогі падмайстраў у Францыі 12—18 ст.

**КАМПАРА́ТАР** (лац. comparator) — вымяральны прыбор, які дзейнічае па прынцыпу параўнання велічыні, якая вымяраецца, з эталоннай.

**КАМПАРАТЫВІ́ЗМ** (ад лац. comparativus = параўнальны) — параўнальна-гістарычны метад у мовазнаўстве і літаратуразнаўстве.

**КАМПАРАТЫВІ́СТЫКА** (ад лац. comparativus = параўнальны) — раздзел мовазнаўства, які займаецца параўнальна-гістарычным вывучэннем блізкародных моў.

**КАМПАРАТЫ́Ў** (лац. comparativus = параўнальны) — *лінгв.* граматычная катэгорыя прыметніка і прыслоўя, якая абазначае большую ступень праяўлення прыметы ў параўнанні з той жа прыметай, названай у звычайнай ступені (напр. лепшы, лепш).

**КАМПАРТЫМЕ́НТ** (фр. compartiment) — 1) кампазіцыйны элемент садовай клумбы; 2) *біял.* аддзел (адсек) клеткі, які адасабляецца ад яе астатняй часткі пранікальнай мембранай і характарызуецца спецыфічнымі марфалагічнымі ці біяхімічнымі ўласцівасцямі.

**КАМПАРТЫМЕНТАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *кампартымент*) — раздзяленне клеткі на кампартыменты.

**КАМПАСТАВА́ЦЬ** (ад *кампост*) —ператвараць у кампост.

**КАМПАСЦІ́РАВАЦЬ** (ад фр. composteur = кампосцер) — прабіваць *кампосцерам* які-н. дакумент з мэтай кантролю (напр. к. тралейбусны талон).

**КА́МПАСЫ** (парт. campos = раўніны) — раслінн асць тыпу *саваннаў* у Бразіліі.

**КАМПАТРЫЁТ** (фр. compatriote, ад лац. cum = разам + patria = айчына) — *уст.* суайчыннік.

**КАМПА́ЎНД** (англ. compound = састаўны) — 1) паравая машына з двума цыліндрамі, у якіх пара працуе паслядоўна; 2) сумесь рэчываў, якая не з'яўляецца хімічным злучэннем; 3) ізаляцыйны матэрыял з асфальтавых і парафіністых рэчываў і масел.

**КАМПАЎНДАВА́ЦЬ** (ад англ. compound = састаўны) — змешваць два або некалькі масел, відаў паліва, каб атрымаць спецыяльныя прадукты зададзеных якасцей.

**КАМПЕ́НДЫЮМ, КАМПЕ́НДЫЙ** (лац. compendium = скарачэнне) — сціслы выклад асноўных палажэнняў якой-н. навукі, даследавання.

**КАМПЕНСАВА́ЦЬ** (лац. compensare = ураўнаважваць, ураўноўваць) — пакрываць якія-н. выдаткі, страты.

**КАМПЕНСА́ТАР** (ад лац. compensare = ураўнаважваць, ураўноўваць) — 1) усякі прыбор, прызначаны ўраўнаважваць уздзеянне знешніх фактараў (тэмпературы, ціску, скорасці і інш.) на работу механізмаў; 2) прыбор для ўраўнаважвання зруху фаз току і напружання; 3) прыбор (напр. *патэнцыёметр*), прынцып дзеяння якога заснаваны на параўнанні вымеранай велічыні з аднароднай узорнай велічынёй; 4) тэрмамагнітны жалеза-вугляродзісты сплаў, які выкарыстоўваецца ў электравымяральных прыборах як элемент магнітнай сістэмы для змяншэння ўплыву тэмпературы.

**КАМПЕНСА́ЦЫЯ** (лац. compensatio) — 1) аплата, узнагарода за што-н., пакрыццё якіх-н. выдаткаў, страт (напр. грашовая к. за нявыкарыстаны адпачынак); 2) *мед.* рэакцыя арганізма на пашкоджанне, пакрыццё функцый пашкоджанага органа або тканкі за кошт здаровых органаў і тканак (параўн. *дэкампенсацыя*); 3) *псіх.* аднаўленне парушанай раўнавагі псіхічных і псіхафізіялагічных працэсаў праз стварэнне процілегла накіраванай рэакцыі ці імпульсу.

**КАМПЕ́РЫЯ** (н.-лац. comperia) — травяністая расліна сям. архідных з буйнымі кветкамі, пашыраная ў Турцыі, Іраку, Зах. Іране, Крыме.

**КАМПЕТЭ́НТНЫ** (лац. competens, -ntis = адпаведны, згодны) — 1) які валодае *кампетэнцыяй* 1 (напр. к. вучоны, к-ая думка); 2) які мае пэўныя паўнамоцтвы (напр. к-ая арганізацыя).

**КАМПЕТЭ́НЦЫЯ** (лац. competentia = адпаведнасць, згоднасць) — 1) дасведчанасць, вопытнасць у якой-н. галіне; кваліфікаванасць, аўтарытэтнасць; 2) кола паўнамоцтваў, правоў якой-н. установы, асобы (напр. к. суда).

**КА́МПЕШ** (фр. campêche, ад Campeche = назва горада ў Мексіцы) — дрэва сям. бабовых, пашыранае ў тропіках, якое дае каштоўную драўніну і фарбавальнік; кампешавае дрэва.

**КАМПІЛАБАКТЭРЫЁЗ** (ад лац. compilare = набіць, адлупцаваць + *бактэрыёз*) — тое, што і *вібрыёз*.

**КАМПІЛАДЫ́СКУС** (н.-лац. campylodiscus) — аднаклетачная *дыятомавая* водарасць сям. сурырэлавых, якая трапляецца ў глеі на дне прэсных і марскіх вадаёмаў.

**КАМПІ́ЛІУМ** (н.-лац. campylium) — лістасцяблавы мох сям. амблістэгіевых, які расце на балотах і забалочаных лугах, на глебе ў лясах.

**КАМПІЛЯВА́ЦЬ** (лац. compilare) — займацца *кампіляцыяй* 2.

**КАМПІЛЯ́ТАР** (лац. compilator) — той, хто займаецца *кампіляцыяй* 2, аўтар *кампіляцыі* 1.

**КАМПІЛЯ́ЦЫЯ** (лац. compilatio = крадзеж, аграбленне) — 1) навуковая праца, заснаваная на выкарыстанні чужых думак, без самастойнага даследавання і вывадаў; 2) састаўленне такіх прац.

**КАМПЛАНА́РНЫ** (ад лац. com = разам + planum = плоскасць) — *мат.* к-ыя вектары — *век-*

*тары*, паралельныя адной плоскасці.

**КАМПЛЕКСОНАМЕ́ТРЫЯ** (ад *камплексоны* + *-метрыя*) — хімічны аналіз, заснаваны на ўтварэнні камплексонаў.

**КАМПЛЕКСО́НЫ** (ад лац. complexus = сувязь, ахоп) — група арганічных злучэнняў, амінаполікарбонавыя кіслоты і іх вытворныя (напр. двухнатрыевая соль этылендыямінтэтравоцатнай кіслаты).

**КАМПЛЕ́КТ** (лац. complectus = поўны) — 1) поўны набор прадметаў, якія маюць агульнае прызначэнне і складаюць што-н. цэлае (напр. к. падручнікаў, к. музычных інструментаў); 2) пэўная колькасць асоб, устаноўленая па штату (напр. к. вучняў).

**КАМПЛЕ́КЦЫЯ** (лац. complexio = сувязь, злучэнне) — склад цела чалавека (напр. поўная к., сярэдняя к.).

**КАМПЛЕМЕ́НТ** (лац. complementum = дадатак) — бялковае рэчыва з групы *бактэрыялізінаў*, якое змяшчаецца ў сыраватцы крыві жывёл і чалавека.

**КАМПЛЕМЕНТА́РНЫ** (фр. complémentaire, ад лац. complementum = дадатак) — узаемадапаўняльны; к. г е н ы — дзве незалежныя пары дамінантных *генаў*, якія выяўляюць узаемадапаўняльнае дзеянне на фарміраванне пэўнай прыметы арганізма.

**КАМПЛІКА́ЦЫЯ** (лац. complicatio) — ускладненне, заблытанасць.

**КАМПЛІМЕ́НТ** (фр. compliment) — пахвала каму-н., сказаная з мэтай зрабіць прыемнае.

**КАМПЛО́Т** (фр. complot) — *уст.* змова супраць каго-н.

**КАМПЛЮ́ВІЙ** (лац. compluvium) — прамавугольная адтуліна ў страсе *атрыя* старажытнарымскага жылога дома для сцёку дажджавой вады ў басейн (*імплювій*).

**КАМПО́СТ** (англ. compost, ад лац. compositus = складзены) — арганічнае ўгнаенне з сумесі адкідаў расліннага і жывёльнага паходжання з зямлёй і торфам.

**КАМПО́СЦЕР** (фр. composteur) — прылада для прабівання ўмоўных знакаў кантролю на пасажырскіх білетах і іншых дакументах.

**КАМПО́Т** (фр. compote) — пітво з садавіны і ягад (часцей сушаных), згатаваных у вадзе з цукрам.

**КАМПРАДО́Р** (ісп. comprador = пакупнік) — туземны купец, пасрэднік паміж іншаземным капіталам і ўнутраным рынкам у некаторых залежных краінах Усходу.

**КАМПРАМЕТАВА́ЦЬ** (фр. compromettre) — знеслаўляць каго-н. чым-н., наводзіць цень на яго *рэпутацыю*.

**КАМПРАМЕТА́ЦЫЯ** (ад фр. compromettre = падрываць рэпутацыю) — распаўсюджванне звестак, якія знеслаўляюць каго-н., наводзяць цень на яго *рэпутацыю*.

**КАМПРАМІ́С** (лац. compromissum) — пагадненне на падставе ўзаемных уступак; уступка каму-н. у чым-н.

**КАМПРАЧЫКО́СЫ** (ісп. comprachicos, ад comprar = купляць + chico = дзіця) — злачынцы ў Іспаніі, Англіі і іншых краінах 13—17 ст., якія выкрадалі або куплялі дзяцей, ператваралі іх у фізічных

пачвар і прадавалі ў якасці блазнаў і камедыянтаў у багатыя дамы, цыркавыя балаганы.

**КАМПРЫМА́РЫЁ** (іт. comprimario) — оперны *артыст*, які выконвае другарадныя партыі.

**КАМПРЫМІ́РАВАЦЬ** (лац. comprimere = сціскаць) — падвяргаць газ сцісканню *кампрэсарам* для яго звадкавання з мэтай атрымаць з яго якія-н. рэчывы.

**КАМПРЭ́С** (фр. compresse, ад лац. compressus = сціснуты) — лячэбная павязка на хворае месца з марлі або палатна, змочанага вадой або лекавым растворам (напр. сагравальны к.).

**КАМПРЭ́САР** (лац. compressor = які сціскае) — машына для сціскання паветра, газу, пары.

**КАМПРЭ́СІЯ** (лац. compressio = сцісканне) — сцісканне паветра, газу або гаручай сумесі ў цыліндры рухавіка, паветра ў *кампрэсары*.

**КАМПТАЗО́І** (н.-лац. kamptozoa) — тып *скалецыдаў*, сядзячыя адзіночныя або каланіяльныя арганізмы з чашападобным целам даўжынёй ад 1 мм да 1 см, пашыраныя пераважна ў марскіх водах.

**КАМПТАТЭ́ЦЫУМ** (н.-лац. comptothecium) — лістасцябловы мох сям. брахітэцыевых, які трапляецца на глiністай глебе па сухіх травяністых адхонах.

**КАМПТО́МЕТР** (ад фр. compter = лічыць + *-метр*) — лічыльная машына для арыфметычных дзеянняў над лікамі.

**КАМП'Ю́ТЭР** (англ. computer, ад лац. computare = лічыць, вылічаць) — электронная вылічальная машына.

**КАМП'ЮТЭРЫЗА́ЦЫЯ** (ад *камп'ютэр*) — аснашчэнне народнай гаспадаркі электроннымі вылічальнымі машынамі.

**КАМУ́НА** (фр. commune, ад лац. communis = агульны) — 1) тып гарадскога самакіравання ў сярэдневяковай Еўропе; 2) калектыў людзей, якія аб'ядналіся для сумеснага жыцця і працы пры агульных сродках вытворчасці (напр. сельскагаспадарчая к.); П а р ы ж с к а я К. — рэвалюцыйны ўрад парыжскіх працоўных у 1871 г.; 2) ніжэйшая адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Францыі, Італіі.

**КАМУНАЛІ́ЗМ** (ад англ. communal = агульны, ад лац. communis = агульны) — рэакцыйная палітыка правых колаў у Індыі і некаторых іншых азіяцкіх краінах, накіраваная на распальванне варожасці паміж рознымі рэлігійнымі групамі, кастамі і народнасцямі.

**КАМУНА́ЛЬНЫ** (фр. communal, ад лац. communis = агульны) — які адносіцца да гарадской гаспадаркі (напр. к-ая кватэра, к-ыя паслугі).

**КАМУНА́Р** (фр. communard) — член *камуны* 2.

**КАМУНЕ́РАС** (ісп. comuneros, ад лац. communis = агульны) — 1) паўстанне сярэдневяковых гарадоў Кастыліі ў 16 ст. супраць каралеўскага абсалютызму; 2) удзельнікі антыіспанскага паўстання ў Новай Грэнадзе ў 18 ст.; 3) левая плынь у Іспанскай рэвалюцыі 1820—1823 гг.

# К

**КАМУНІ́ЗМ** (фр. communisme, ад лац. communis = агульны) — паводле вучэння марксізму-ленінізму, грамадска-эканамічная *фармацыя*, заснаваная на грамадскай уласнасці на сродкі вытворчасці, а таксама, у больш вузкім сэнсе, — другая, вышэйшая ў параўнанні з *сацыялізмам*, бяскласавая ступень гэтай фармацыі, пры якой будзе ажыццяўляцца прынцып «ад кожнага па яго здольнасцях, кожнаму — па яго патрэбнасцях».

**КАМУНІКА́БЕЛЬНЫ** (фр. communicable = які аб'ядноўваецца, ад лац. communicare = аб'ядноўваць) — здольны да наладжвання *кантактаў* і сувязей.

**КАМУНІКАТЫ́ЎНЫ** (лац. communicativus) — які мае адносіны да перадачы *інфармацыі* пры дапамозе мовы.

**КАМУНІКА́ЦЫЯ** (лац. communicatio) — 1) шлях транспартных зносін (напр. паветраная к., водная к.); 2) лінія сувязі (напр. *тэлеграф, тэлефон, радыё*); 3) лінія энерга-, газа- або водазабеспячэння; 4) абмен думкамі, перадача *інфармацыі* пры дапамозе мовы.

**КАМУ́НІЯ** (польск. komunia, ад лац. communio = супольнасць) — 1) прычасце, прыняцце асвячонага хлеба і віна; 2) трэцяя частка *імшы* ў касцёле.

**КАМУТА́ТАР** (рус. коммутатор, ад лац. commutare = мяняць, перамяняць) — 1) прыбор для замыкання электрычнага ланцуга або для змянення напрамку току; 2) прыстасаванне для ручнога злучэння тэлефонных ліній.

**КАМУТАТЫ́ЎНЫ** (лац. commutatus = пераменны) — перамяшчальны, звязаны з перамяшчэннямі; *мат.* к. з а к о н — закон, які выражае нязменнасць сумы або выніку пры перастаноўцы складаемых або сумножнікаў.

**КАМУТА́ЦЫЯ** (лац. commutatio = змена) — 1) працэс пераключэння электрычных злучэнняў у *канструкцыях* аўтаматыкі, электраэнергетыкі, электрасувязі і інш.; 2) *лінгв.* метад даследавання, які абапіраецца на тое, што пры зменах у адным плане мовы (напр. у плане выражэння) адбываюцца некаторыя змены ў другім плане (напр. у плане зместу); 3) працэс замены паншчыны і аброку грашовай *рэнтай* у перыяд *феадалізму*.

**КАМУФЛЕ́Т** (фр. camouflet) — 1) *ваен.* падземны разрыў артылерыйскага снарада, міны, авіябомбы; 2) падземны ўзрыў, які спецыяльна робяць для разбурэння падземных пабудоў праціўніка; 3) *перан.* нечаканая непрыемнасць, няўдача.

**КАМУФЛЯ́Ж** (фр. camouflage) — 1) спосаб маскіроўкі, пры якім прадметы, будынкі, ваенная тэхніка фарбуюцца ў плямы рознага колеру; 2) здольнасць некаторых жывёл прымаць афарбоўку прадметаў навакольнага асяроддзя.

**КАМФАРА́, КА́МФАРА, КАМФО́РА** (с.-лац. camphora < гр. kamphora, ад ар. kāfūr) — бясколернае крышталічнае рэчыва з моцным характэрным пахам, якое здабываюць з камфараносных раслін; выкарыстоўваецца ў медыцыне і тэхніцы.

**КАМФАРО́СМА** (ад *камфара* + гр. osme = пах) — травяністая расліна сям. лебядовых, пашыраная ў Паўд. Еўропе і Азіі; дае эфірны алей.

**КАМФАРТА́БЕЛЬНЫ** (англ. comfortable) — утульны, з *камфортам* (напр. к-ая гасцініца).

**КАМФЕ́Н** (ад *камфара*) — вуглевадарод з групы *тэрпенаў*, бясколернае крышталічнае рэчыва з пахам камфары, якое змяшчаецца ў эфірных алеях, шкіпінары; выкарыстоўваецца для атрымання камфары.

**КАМФО́РА** гл. *камфара*.

**КАМФО́РТ** (англ. comfort) — добраўпарадкаванасць і ўтульнасць жылля, грамадскіх устаноў, сродкаў зносін (у аўтамабілях, самалётах і інш.).

**КА́МЫ** (ням. Kamm = *літар.* грэбень) — узгоркі, складзеныя сартаванымі слаістымі пяскамі, галечнікам і гравіем, якія сустракаюцца ў месцах, дзе некалі праходзіў край мацерыковых леднікоў.

**КАМЮНІКЕ́** (фр. communiqué) — афіцыйнае паведамленне, пераважна па пытаннях міжнароднага значэння.

**КАМЯЛІ́НА** (н.-лац. commelina) — травяністая расліна сям. камялінавых з сінімі кветкамі ў суквеццях, пашыраная на Далёкім Усходзе; на Беларусі вырошчваецца ў пакоях.

**КА́НА** (афр. kanna) — самая буйная жывёла з групы *антылоп*, якая пашырана ў Паўд. і Усх. Афрыцы.

**КАНАВА́ЛІЯ** (н.-лац. canavalia) — расліна сям. бабовых, пашыраная ў тропіках і субтропіках Амерыкі і Афрыкі; дае ядомыя бабы.

**КАНАДО́НТЫ** (н.-лац. conodonti, ад гр. konos = конус + odus, odontos = зуб) — рэшткі вымерлых жывёл у выглядзе дробных зубападобных утварэнняў з фосфарна-кіслага *кальцыю*, якія сустракаюцца ў адкладах *палеазою*.

**КАНА́К** (тур. konak) — урадавы будынак, дзяржаўная ўстанова ў *мусульман*.

**КАНА́Л** (іт. canale, ад лац. canalis = труба) — 1) напоўненае вадой штучнае рэчышча для суднаходнай сувязі паміж вадаёмамі, а таксама для водазабеспячэння, арашэння і інш. (напр. Панамскі к., абвадняльны к.); 2) вузкая пустая прастора ўнутры чаго-н. у выглядзе трубы, трубкі (напр. к. ствала гарматы); 3) *пераи.* шлях, сродак для дасягнення чаго-н. (напр. дыпламатычны к.).

**КАНАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. canalis = труба) — 1) сістэма падземных трубаправодаў для выдалення нечыстот (напр. гарадская к.); 2) размеркаванне электрычнай энергіі паміж асобнымі спажыўцамі; к а б е л ь н а я к. — сістэма падземных кабельных ліній сувязі (тэлефон, тэлеграф і інш.).

**КАНАНА́ДА** (фр. canonnade) — моцная бесперапынная стральба з многіх гармат.

**КАНАНЕ́РКА** (фр. canonnière) — невялікі ваенны карабель з артылерыйскім узбраеннем, прызначаны для дзеянняў у прыбярэжных раёнах мора і ў рэках.

**КАНАНІЗА́ЦЫЯ** (с.-лац. canonizatio, ад гр. kanonizo = падпарадкоўваю правілу) — 1) залічэнне каго-н. царквою ў святыя; 2) *перан.* узаконьванне, ператварэнне якога-н. правіла ў абавязковае.

**КАНАНІ́Р** (ням. Kanonier, ад фр. canon = гармата) — радавы салдат-артылерыст ва ўзброеных сілах не-

каторых дзяржаў, напр. у Расіі (18 — пач. 20 ст.), у ФРГ.

**КАНАНІ́ЧНЫ** (лац. canonicus, ад гр. kanon = норма, правіла) — 1) які з'яўляецца *канонам*; прызнаны царквой у якасці свяшчэннага пісання; 2) *перан.* цвёрда ўстаноўлены, прыняты за ўзор.

**КАНА́ПА** (польск. kanapa, ад фр. canapé) — від мяккай мэблі для сядзення і ляжання (са спінкай і падлакотнікамі).

**КАНАРЭ́ЙКА** (рус. канарейка, ад фр. canari) — пеўчая птушка атрада вераб'іных з ярка-жоўтым апярэннем, якая водзіцца на Канарскіх астравах, а ў Еўропе больш вядомая як пакаёвая.

**КАНАСАМЕ́НТ** (фр. connaissement) — дакумент аб прыняцці грузаў, які выдаецца адпраўшчыку пры перавозцы грузу марскім шляхам (параўн. *рэцэпіса*).

**КАНА́Т** (рус. канат, ад н.-гр. kanati) — тоўстая моцная вяроўка з валакна або дроту.

**КАНАТА́ЦЫЯ** (п.-лац. connotatio) — *лінгв.* дадатковае значэнне моўнай адзінкі або *катэгорыі*.

**КАНА́УС** (перс. kanaus) — шаўковая тканіна з палатняным перапляценнем.

**КАНАЦЭФА́ЛУМ** (н.-лац. conocephalum) — пячоначны мох сям. канацэфалавых, які трапляецца па берагах ручаёў, у зацененых месцах, лагчынах.

**КАНВА́** (фр. canevas) — 1) рэдкая сятчатая баваўняная або льняная тканіна, якая служыць асновай пры вышыванні; 2) *перан.* аснова чаго-н. (напр. сюжэтная к. рамана).

**КАНВАІ́Р** (фр. convoyeur = які суправаджае) — 1) узброены чалавек, які суправаджае каго-н. для аховы або прадухілення ўцёкаў; 2) ваенны карабель або самалёт, які суправаджае для аховы асобнае судна ці групу суднаў.

**КАНВАІ́РАВАЦЬ** (фр. convoyer) — суправаджаць *канвоем.*

**КАНВАКА́ЦЫЯ** (польск. konwokacja, ад лац. convocatio) — *сейм*, які склікаўся ў Польшчы 16—18 ст. напярэдадні выбараў караля.

**КАНВАЛЮ́Т** (лац. convolutus = сплецены) — зборнік, складзены з раней самастойных друкаваных твораў ці рукапісаў, пераплеценых у адзін том.

**КАНВЕ́ЕР** (англ. conveyer) — устройства для бесперапыннага перамяшчэння вырабаў пры іх апрацоўцы ад адной аперацыі да другой або для транспарціроўкі грузаў; п а  к а н в е е р ы — ад аднаго да другога.

**КАНВЕЕРЫЗА́ЦЫЯ** (ад *канвеер*) — *механізацыя* вытворчых працэсаў пры дапамозе транспарціровачных устройстваў.

**КАНВЕ́КТАР** (ад лац. convectio = прывоз, прынясенне) — награвальны прыбор у сістэме цэнтральнага ацяплення, у якім цяпло перадаецца па прынцыпу *канвекцыі*.

**КАНВЕ́КЦЫЯ** (лац. convectio = прывоз, прынясенне) — 1) перанос цяпла або электрычных зарадаў струменямі паветра, пары або вадкасці; 2) водаабмен паміж верхнімі і ніжнімі слаямі ў морах і азёрах, выкліканы змяненнем шчыльнасці вады, рознасцю тэмператур і салёнасці.

**КАНВЕ́НТ** (лац. conventus = сход) — выбарны орган з асобымі заканадаўчымі паўнамоцтвамі ў некаторых краінах; н а ц ы я н а л ь н ы к. — вышэйшы заканадаўчы і выканаўчы орган у Францыі ў час Французскай рэвалюцыі 1789—1799 гг.

**КАНВЕ́НЦЫЯ** (лац. conventio = дагавор) — міжнародны дагавор па якім-н. спецыяльным пытанні (напр. к. аб аўтарскім праве, чыгуначная к.).

**КАНВЕНЦЫЯНАЛІ́ЗМ** (ад лац. conventionalis = які грунтуецца на ўмове) — суб'ектыўна-ідэалістычны кірунак у філасофскім тлумачэнні навукі, паводле якога навуковыя тэорыі і паняцці з'яўляюцца не адлюстраваннем аб'ектыўнага свету, а вынікам дамоўленасці паміж вучонымі, умоўнымі правіламі.

**КАНВЕНЦЫЯНА́ЛЬНЫ** (лац. conventionalis = які грунтуецца на ўмове) — умоўны, прыняты.

**КАНВЕРГЕ́НТЫ** (лац. convergens, -ntis = які зближаецца) — элементы адной або некалькіх моў, якія збліжаюцца ў працэсе іх гістарычнага развіцця; мовы, якія збліжаюцца ў выніку непасрэднага ўзаемадзеяння.

**КАНВЕРГЕ́НЦЫЯ** (с.-лац. convergentio) — 1) *біял.* супадзенне якіх-н. уласцівасцей у няродасных арганізмаў у выніку іх прыстасавання да аднолькавых умоў існавання (параўн. *дывергенцыя* 1); 2) *анат.* сыходжанне зрокавых восей вачэй на блізкім прадмеце пры яго разгляданні (параўн. *дывергенцыя* 2); 3) *лінгв.* прыпадабненне элементаў адной або некалькіх моў (параўн. *дывергенцыя* 3); 4) узнікненне ў розных месцах незалежна адна ад другой падобных або аднолькавых культурных з'яў пад уздзеяннем агульных законаў грамадскага развіцця.

**КАНВЕРСАВА́ЦЬ** (фр. converser, ад лац. conversio = змяненне) — падвяргаць *канверсіі.*

**КАНВЕ́РСІЯ** (лац. conversio = пераўтварэнне, змяненне) — 1) перавод прамысловасці і іншых галін эканомікі з вытворчасці ваеннай прадукцыі на вытворчасць грамадзянскай і наадварот; 2) абмен адной *валюты*[1] 3 на другую па пэўнаму валютнаму курсу; 3) змяненне ўмоў выпушчанай раней дзяржаўнай пазыкі, напр. тэрміну яе пагашэння; 4) *фіз.* вылет электрона з атама пры перадачы яму лішняй энергіі атамнага ядра; 5) *лінгв.* утварэнне новага слова ў выніку пераходу дадзенай асновы ў іншую парадыгму скланення.

**КАНВЕ́РТ** (рус. конверт, ад фр. couvert) — 1) пакет з паперы для перасылкі пісьма па пошце; 2) коўдра для грудных дзяцей, пашытая ў форме пакета.

**КАНВЕ́РТАР** (англ. converter, ад лац. convertere = змяняць, ператвараць) — *апарат* для атрымання сталі (*бесемеру*) з вадкага чыгуну шляхам прадзімання яго паветрам або кіслародам, а таксама чарнавой медзі прадзіманнем паветра праз *штэйн*.

**КАНВЕРЦІ́Н** (ад лац. convertere = змяняць, ператвараць) — *фермент*, які прымае ўдзел ва ўтварэнні актыўнага *тромбапласціну*, неабходнага для згусання крыві.

**КАНВЕРЦІПЛА́Н** (ад лац. convertere = змяняць, ператвараць + *-план*) — самалёт, які ў палёце пе-

ратвараецца з апарата вертыкальнага ўзлёту і пасадкі ў апарат гарызантальнага палёту, аб'ядноўваючы ўласцівасці верталёта і самалёта.

**КАНВЕРЦІ́РАВАЦЬ** (лац. convertere = змяняць, ператвараць) — 1) ажыццяўляць *канверсію*; 2) прадзімаць у *канвертары* чыгун або *штэйн*.

**КАНВІСА́РСТВА** (ад польск. konwisarz < ням. Kannengiesser = ліцейшчык) — адліўка з волава ліхтароў, падсвечнікаў, пасуды і інш.

**КАНВО́Й** (фр. convoi = абоз, суправаджэнне) — 1) група ўзброеных людзей, якая суправаджае каго-н. з мэтай аховы або для прадухілення ўцёкаў; 2) група ваенных караблёў, якія ахоўваюць транспартныя і гандлёвыя судны ў час марскіх пераходаў ад нападу ворага.

**КАНВУЛЬСІ́ЎНЫ** (лац. convulsus) — сутаргавы.

**КАНВУ́ЛЬСІЯ** (лац. convulsio) — рэзкае неадвольнае скарачэнне мышц, якое суправаджаецца вострым болем; сутарга.

**КАНГЕНІЯ́ЛЬНЫ** (ад лац. con = разам + genius = дух) — які супадае па духу, складу думак, таленавітасці.

**КАНГІЛІ́ДУМ** (н.-лац. congylidum) — павук сям. павукоў-пігмеяў, які жыве на пустках і ў траве па берагах вадаёмаў.

**КАНГЛАМЕРА́Т** (лац. conglomeratus = сабраны) — 1) бессістэмнае, механічнае злучэнне чаго-н. разнароднага (напр. к. плямён і народаў, к. поглядаў); 2) форма манапалістычнага аб'яднання фірм, кампаній і прадпрыемстваў розных галін з адзіным фінансавым і арганізацыйным кантролем; 3) асадачная горная парода, якая складаецца з разнародных сцэментаваных часцінак.

**КАНГЛАМЕРА́ЦЫЯ** (лац. conglomeratio = збіранне) — 1) працэс утварэння *кангламерату* 2; 2) буйны горад разам з прыгарадамі са шматмільённым насельніцтвам, напр. Токіо, Нью-Йорк, Масква.

**КАНГРУЭ́НТНЫ** (лац. congruens, -ntis = згодны, адпаведны) — які супадае пры накладанні (пра геаметрычныя фігуры).

**КАНГРУЭ́НЦЫЯ** (лац. congruentia = адпаведнасць) — 1) згоднасць, адпаведнасць; 2) супадзенне геаметрычных фігур пры накладанні адной на другую.

**КАНГРЭГА́ЦЫЯ** (лац. congregatio) — 1) сход, арганізацыя; 2) аб'яднанне манаскіх абшчын аднаго *ордэна* 2 у рымска-каталіцкай царкве; 3) адміністрацыйны орган пры рымскім папе, які займаецца пэўным колам пытанняў.

**КАНГРЭГАЦЫЯНАЛІ́СТЫ** (ад лац. congregatio = аб'яднанне, саюз) — 1) прадстаўнікі плыні ў *кальвінізме*, якая ўзнікла ў 16 ст. у Англіі; выступалі за самастойную і незалежную царкоўную абшчыну; 2) члены духоўных *кангрэгацый* 1.

**КАНГРЭ́С** (лац. congressus = сустрэча, сход) — 1) з'езд, нарада звычайна міжнароднага характару; 2) заканадаўчы орган (*парламент*) у ЗША і некаторых іншых краінах.

**КАНГРЭСМЕ́Н** (англ. congressman) — член *кангрэса* 2.

**КАНГРЭ́Ў** (англ. Kongreve = прозвішча англ. канструктара 19 ст.) — рэльефнае цісненне на пе-

раплёце кніг, радзей на шчыльнай паперы.

**КАНДА́К** (гр. kontakion) — кароткая хвалебная песня ў гонар Хрыста, божай маці, святога або царкоўнага свята.

**КАНДАМІ́НІУМ** (с.-лац. condominium) — дзяржаўнае кіраванне якой-н. тэрыторыяй сумесна дзвюма або некалькімі краінамі.

**КАНДАЦЬЕ́Р** (іт. condottiere) — 1) кіраўнік наёмнага вайсковага атрада ў сярэдневяковай Італіі; 2) наёмны ваяка, які служыць таму, хто больш плаціць; 3) *перан.* чалавек, які дзеля выгады гатовы абараняць любую справу.

**КАНДУІ́Т** (фр. conduite = паводзіны) — *журнал* для запісаў звестак аб паводзінах вучняў у навучальных установах царскай Расіі.

**КАНДУКТАМЕ́ТРЫЯ** [ад англ. conducti(vity) = электраправоднасць + *-метрыя*] — электрахімічны *метад* аналізу, які грунтуецца на вымярэнні электраправоднасці раствораў.

**КАНДУ́КТАР** (фр. conducteur, ад лац. conductor = праваднік) — 1) работнік на чыгунцы (радзей у іншым транспарце), які суправаджае цягнік і наглядае за парадкам у ім; 2) прыстасаванне да свідравальных станкоў, якое забяспечвае ўзаемна правільнае размяшчэнне інструмента і вырабу; 3) *горн.* першы рад труб, якія апускаюцца ў свідравіну на пэўную глыбіню.

**КАНДУКТО́МЕТР** [ад англ. conducti(vity) = электраправоднасць + *-метр*] — прыбор для вымярэння электраправоднасці вадкасці або пары.

**КАНДЫ́ДА** (н.-лац. candida, ад лац. candidus = белы) — сумчаты грыб падкласа *геміаскаміцэтаў*, які развіваецца ў глебе, вадаёмах, на раслінах, харчовых прадуктах.

**КАНДЫДАМІКО́З** (ад *кандыда* + *мікозы*) — хвароба чалавека і жывёл, якая выклікаецца дрожджападобнымі грыбкамі роду *кандыда*.

**КАНДЫДА́Т** (лац. candidatus = адзеты ў белае) — 1) той, каго намячаюць выбраць, прызначыць, прыняць куды-н. (напр. к. у дэпутаты); 2) першая вучоная ступень, якая прысуджаецца на падставе абароны дысертацыі (напр. к. філалагічных навук).

**КАНДЫДАТУ́РА** (ад *кандыдат*) — асоба, якую намячаюць для прызначэння на пасаду, абрання ў выбарны орган або для прыёму ў якую-н. арганізацыю.

**КАНДЫЛО́МА** (гр. kondyloma = пухліна) — мясцовае вузлападобнае разрастанне скуры або слізістых абалонак чалавека, якое мае запаленчы характар.

**КАНДЫ́ЛЬ** (гр. kandelon = лампада) — сорт сакаўных крымскіх яблыкаў.

**КАНДЫЛЯ́РТРЫ** (н.-лац. condylarthra, ад гр. kondylos = мышчалка + arthron = сустаў) — атрад вымерлых капытных, знешне падобных на драпежных (напр. *фенакод*), якія жылі ў *палеагене*.

**КАНДЫЛЯРЫЕ́ЛА** (н.-лац. candelariella) — накіпны сумчаты лішайнік сям. леканоравых, які трапляецца на кары лісцевых дрэў, гнілой драўніне, валунах, цэментаваных падмурках.

**КАНДЫ́ТАР** (лац. conditor) — спецыяліст па прыгатаванні салодкіх мучных вырабаў, цукерак і іншых ласункаў.

# К

**КАНДЫ́ЦЫЯ** (лац. condicio = умова, патрабаванне) — норма, якасць, якім павінен адпавядаць той ці іншы тавар, матэрыял (напр. пасяўная к. насення).

**КАНДЫЦЫЯНАЛІ́ЗМ** (ад лац. condicio = умова) — плынь у *фізіялогіі* і *медыцыне*, прадстаўнікі якой адмаўляюць паняцце прычыны, зводзяць яе да комплексу ўмоў, што выклікаюць хваробу.

**КАНДЫЦЫЯНЕ́Р** (фр. conditionneur, ад лац. condicio = умова, патрабаванне) — 1) спецыяльная ўстаноўка для забеспячэння патрэбнай тэмпературы, чысціні і вільготнасці паветра ў памяшканні; 2) апарат для гідратэрмальнай апрацоўкі збожжа, якая павышае яго мукамольныя ўласцівасці і паляпшае якасць мукі.

**КАНДЫЦЫЯНІ́РАВАЦЬ** (фр. conditionner, ад лац. condicere = патрабаваць паводле ўмовы) — прыводзіць у адпаведнасць з пэўнымі нормамі, патрабаваннямі (напр. к. збожжа, к. паветра).

**КАНДЭ́ЛА** (лац. candela = свяча) — асноўная адзінка сілы святла ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ), роўная сіле святла выпраменьвальніка, што мае тэмпературу зацвердзявання плаціны пры нармальным ціску.

**КАНДЭЛЯ́БР** (фр. candelabre) — падсвечнік з разгалінаваннямі для некалькіх свечак або электрычных лямп у выглядзе свечак.

**КАНДЭНСАВА́ЦЬ** (лац. condensare = згушчаць) — 1) ператвараць пару, газ у вадкі стан; 2) згушчаць што-н. (напр. к. малако); 3) назапашваць што-н. (напр. к. энергію).

**КАНДЭ́НСАР** (лац. condensare = згушчаць) — кароткафокусная *лінза* або сістэма лінз, якая выкарыстоўваецца ў аптычным прыборы для канцэнтрацыі светлавога струменя і раўнамернага асвятлення прадмета, што разглядаецца.

**КАНДЭНСА́Т** (лац. condensatus = згушчаны) — прадукт, які атрымліваецца ў выніку кандэнсавання (гл. *кандэнсаваць* 1) газу або пары.

**КАНДЭНСА́ТАР** (ад лац. condensare = згушчаць) — 1) апарат, у якім адпрацаваная пара ахалоджваецца і ператвараецца ў ваду; 2) прыбор для назапашвання электрычнасці.

**КАНДЭНСА́ЦЫЯ** (лац. condensatio) — 1) ператварэнне пары, газу ў вадкі стан; 2) згушчэнне, ушчыльненне чаго-н. (напр. к. малака); 3) назапашванне чаго-н. (напр. к. энергіі).

**КАН'ЕКТУ́РА** (лац. coniectura) — 1) меркаванне, здагадка; 2) выпраўленне або аднаўленне на аснове здагадак сапсаванага, цяжкага для чытання тэксту.

**КАНЕЛЮ́РЫ** (фр. cannelure = паз, жалабок) — *архіт.* вертыкальныя жалабкі на ствале *калоны* або *пілястры* і гарызантальныя на базе калоны іанічнага ордэра.

**КАНЕТА́БЛЬ** (фр. connétable, ад лац. comes stabuli = загадчык стайні) — галоўнакамандуючы французскай арміяй з 12 ст. да 1627 г.

**КАНІБА́Л** (фр. cannibale < ісп. canibal, ад karibal = караіб) — 1) людаед-дзікун; 2) *перан.* надта люты, жорсткі чалавек.

**КАНІБАЛІ́ЗМ** (фр. cannibalisme, ад cannibale = канібал) — 1) людаедства; 2) паяданне жывёламі асобін свайго віду; 3) *перан.* лютасць, жорсткасць, варварства (напр. к. нораваў).

**КАНІ́ДЫІ** (ад гр. konia = пыл + eidos = выгляд) — споры бясполага размнажэння ў многіх грыбоў.

**КАНІКО́НХІІ** (н.-лац. coniconchia) — група вымерлых арганізмаў, якія ўмоўна адносяць да *малюскаў*, рэшткі вядомы ў *палеазойскіх* адкладах.

**КАНІ́КУЛЫ** (польск. kanikuły, ад лац. caniculares = самая гарачая пара года) — перапынак у занятках навучэнцаў, студэнтаў на працяглы час для адпачынку; п а р л а м е н ц к і я к. — перапынак у рабоце парламента.

**КАНІ́СТРА** (англ. canister = бляшанка) — невялікі плоскі бак для бензіну, змазачнага масла.

**КАНІФА́С** (гал. kannefas) — лёгкая бавоўняная тканіна з рэльефным малюнкам, даўней паласатая.

**КАНІФО́ЛЬ** [ад лац. calophonia (resina) = калафанійская смала] — шклопадобнае рэчыва са смалы хваёвых дрэў; выкарыстоўваецца ў прамысловасці, а таксама для націрання смыкоў струнных музычных інструментаў.

**КАНІЦЭ́ЛЬ** (фр. cannetille) — 1) вельмі тонкая залатая або сярэбраная нітка для вышывання; 2) *перан.* нудная, зацяжная справа, валакіта (разводзіць к.).

**КАНІ́ЧНЫ** (гр. konikos) — 1) які мае адносіны да *конуса* (напр. к-ая паверхня); 2) які мае форму конуса (напр. к-ая колба).

**КАНІЯФО́РА** (н.-лац. coniophora) — *базідыяльны* грыб сям. каніяфоравых, які расце на кары, пнях, ламаччы і драўніне лісцевых і хвойных парод дрэў, разбурае драўляныя пабудовы.

**КАНІЯЦЫ́БЕ** (н.-лац. coniocybe) — накіпны сумчаты лішайнік сям. каліцыевых, які расце ў вільготных лясах на аголеных каранях, трэшчынах кары дрэў, імхах, гнілых раслінных рэштках.

**КАНКА́Н** (фр. cancan) — французскі эстрадны *танец* з непрыстойнымі рухамі цела.

**КАНКАРДА́НС** (фр. concordance, ад лац. concordare = згаджацца) — поўны паказальнік слоў з ілюстрацыямі пэўнага літаратурнага тэксту.

**КАНКАРДА́НТНЫ** (лац. concordans, -ntis = які згаджаецца) — сходны па якой-н. генетычнай прымеце (напр. к-ыя блізняты); параўн. *дыскардантны.*

**КАНКАРДА́НЦЫЯ** (лац. concordantia = узгодненасць) — *рэестр* слоў да тэксту з паказам месца кожнага з іх у гэтым тэксце.

**КАНКАРДА́Т** (лац. concordatum = дагавор) — дагавор паміж рымскім папам і ўрадам пэўнай дзяржавы аб становішчы і прывілеях каталіцкай царквы ў гэтай дзяржаве.

**КАНКІ́СТА, КАНКВІ́СТА** (ісп., парт. conquista = заваяванне) — перыяд заваявання іспанцамі і партугальцамі Паўд. і Цэнтр. Амерыкі (канец 15 — першая пал. 16 ст.).

**КАНКІСТАДО́Р, КАНКВІСТАДО́Р** (ісп. conquistodor = заваёўнік) — 1) удзельнік іспанскіх заваёўніцкіх паходаў у Паўд. і Цэнтр. Амерыку ў 15—16 ст.; 2) *перан.* заваёўнік, грабежнік.

**КАНКЛА́Ў** (лац. conclave = зачынены пакой) — савет *кардыналаў*, які выбірае рымскага папу.

# К

**КАНКЛЮДЭ́НТНЫ** (ад лац. concludere = заключаць) — *юр.* накіраваны на заключэнне дагавора; к-ае дзеянне — дзеянне, якое сведчыць аб маўклівай згодзе асобы заключыць дагавор.

**КАНКО́РС** (англ. concourse) — размеркавальная *зала* для пасажыраў на вакзалах, станцыях метрапалітэна.

**КАНКРО́ІД** (ад лац. cancer, cancri = рак + *-оід*) — рак скуры, які развіваецца з паверхневых слаёў *эпітэлію*.

**КАНКРЭМЕ́НТЫ** (лац. concrementum = зрастанне) — шчыльныя ўтварэнні ў арганізме з солей і *калоідных* рэчываў у выніку парушэння абмену рэчываў.

**КАНКРЭ́ТНЫ** (лац. concretus = згушчаны, ушчыльнены) — які рэальна існуе, дакладны, пэўны ў адрозненне ад абстрактнага, адцягненага (напр. к. прадмет, к-ая прапанова).

**КАНКРЭТЫЗАВА́ЦЬ** (фр. concrétiser, ад лац. concretus = згушчаны, ушчыльнены) — даваць канкрэтнае выражэнне чаму-н.; удакладняць што-н. (напр. к. план).

**КАНКРЭТЫЗА́ЦЫЯ** (фр. concrétisation) — 1) выражэнне ў дакладнай, *канкрэтнай* форме; 2) удакладненне чаго-н.; 3) прывядзенне канкрэтнага прыкладу.

**КАНКРЭ́ЦЫЯ** (лац. concretio = згушчэнне) — мінеральнае ўтварэнне акруглай формы ў тоўшчы асадачных горных парод.

**КАНКУБІНА́Т** (лац. concubinatus) — 1) не аформлены юрыдычна шлюб у старажытнарымскай дзяржаве; 2) *перан.* пазашлюбнае сужыццё.

**КАНКУ́Р** (фр. concours, ад лац. concurrare = збягацца, сустракацца) — пераадольванне перашкод у конных спаборніцтвах.

**КАНКУРСА́НТ** (лац. concursans, -ntis = які сустракаецца) — удзельнік *конкурсу*.

**КАНКУРЫ́РАВАЦЬ** (лац. concurrere = бегчы разам) — 1) сапернічаць, змагацца з кім-н. за дасягненне найлепшых вынікаў, пераваг; 2) удзельнічаць у *канкурэнцыі* за найбольшыя прыбыткі.

**КАНКУРЭ́НТ** (лац. concurrens, -ntis = які бяжыць разам) — той, хто *канкурыруе* з кім-н.

**КАНКУРЭ́НЦЫЯ** (с.-лац. concurrentia) — 1) спаборніцтва, барацьба за дасягненне найлепшых вынікаў, пераваг; 2) эканамічная барацьба, саперніцтва паміж разрозненымі вытворцамі прадукцыі за атрыманне найбольшых прыбыткаў.

**КА́ННА** (н.-лац. canna, ад гр. kanna) — травяністая расліна сям. каннавых з вялікімі чырвонымі кветкамі, пашыраная ў тропіках і субтропіках; выкарыстоўваецца ў кветкаводстве Беларусі.

**КАННЕКТЫ́ВЫ** (ад лац. con = з, разам + nectere = вязаць) — *анат.* падоўжныя нервовыя цяжы, якія злучаюць аднайменныя нервовыя вузлы (*гангліі*).

**КАНО́ІД** (гр. konoeides) — *мат.* паверхня, складзеная з паралельных да дадзенай плоскасці прамых, якія перасякаюць дадзеную прамую і дадзеную лінію.

**КАНО́Н** (гр. kanon = норма, правіла) — 1) асноўнае правіла, палажэнне якога-н. кірунку, вучэння (напр. царкоўныя каноны, каноны класіцызму); 2) тое, што з'яўляец-

ца традыцыйнай, абавязковай нормай (напр. тэхнічныя каноны).

**КАНО́НІК** (лац. canonicus, ад гр. kanon = норма, правіла) — член *капітула* ў каталіцкай і англіканскай цэрквах.

**КАНО́ПА** (ад гр. Kanobos = назва старажытнаегіпецкага горада) — сасуд для захавання вантробаў бальзамаванага нябожчыка (у Стараж. Егіпце) або попелу пасля *крэмацыі* (у Этрурыі).

**КАНО́ЦЫБЕ** (н.-лац. conocybe) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. бальбітыевых, які расце на абочынах дарог, сярод травы на апалых галінках.

**КАНО́Э** (англ. canoe, ад ісп. canoa, з індз.) — 1) выдзеўбаны човен паўночнаамерыканскіх індзейцаў; 2) лёгкая спартыўная лодка для аднаго або двух чалавек, у якой грабуць аднадопасцевым вяслом, стоячы на адным калене.

**КАНРЫ́НГІЯ** (н.-лац. conringia) — травяністая расліна сям. крыжакветных з падоўжаным лісцем і бледна-жоўтымі кветкамі з доўгімі ногцікамі, пашыраная ў Еўразіі; на Беларусі заносная.

**КАНСАЛІДАВА́ЦЬ** (лац. consolidare = умацоўваць) — 1) з'ядноўваць, згуртоўваць каго-н., што-н.; 2) ажыццяўляць *кансалідацыю* 2.

**КАНСАЛІДА́ЦЫЯ** (лац. consolidatio) — 1) аб'яднанне асобных людзей, груп, арганізацый, грамадскіх сіл для барацьбы за агульныя мэты; 2) ператварэнне кароткатэрміновых даўгавых абавязацельстваў у доўгатэрміновыя (напр. к. пазык).

**КАНСА́ЛЦІНГ** (англ. consalting = кансультаванне) — 1) парады спецыялістаў, кансультаванне; 2) *экан.* работа спецыяльных кампаній па кансультаванню вытворцаў, гандляроў, пакупнікоў у галіне экспертнай, тэхнічнай і эканамічнай дзейнасці.

**КАНСАМЕ́** (фр. consommé) — від *булёну*.

**КАНСАНА́НС** (фр. consonance, ад лац. consonare = згодна гучаць) — 1) *муз.* адначасовае спалучэнне тонаў стройнага, згоднага гучання (проціл. *дысананс* 1); 2) *літ.* від няпоўнай рыфмы, у якой сугучныя зычныя гукі пры частковай або поўнай разбежцы галосных.

**КАНСАНА́НТ** (лац. consonans, -ntis) — *лінгв.* зычны гук.

**КАНСАНАНТЫ́ЗМ** (ад лац. conconans, -ntis = зычны гук) — сістэма зычных гукаў якой-н. мовы (параўн. *вакалізм*).

**КАНСЕКВЕ́НТНЫ** (лац. consequens, -ntis) — паслядоўны.

**КАНСЕПТЫ́ЗМ** (ісп. conceptismo, ад concepto = паняцце, думка) — адна з дзвюх асноўных школ іспанскага *барока* (разам з *гангарызмам*), паслядоўнікі якой займаліся пошукамі глыбінных і нечаканых сувязей паміж далёкімі прадметамі, з'явамі, паняццямі, імкнуліся да выяўлення парадаксальных заканамернасцей быцця, максімальнай выразнасці і сэнсавай насычанасці выказвання.

**КАНСЕРВАВА́ЦЬ** (лац. conservare = захоўваць) — 1) гатаваць *кансервы* з чаго-н. (напр. к. мяса); 2) захоўваць ад псавання спецыяльнай апрацоўкай або стварэннем адпаведных умоў захавання (напр. к. кроў, к. драўніну); 3) часова прыпыняць развіццё, дзейнасць чаго-н. (напр. к. будаўніцтва).

# K

**КАНСЕРВА́НТ** (лац. conservans, -ntis = які зберагае) — хімічнае рэчыва, якое забяспечвае *кансервацыю* харчовых прадуктаў.

**КАНСЕРВА́ТАР** (лац. conservator = ахавальнік) — 1) чалавек старых, аджыўшых поглядаў, праціўнік новага, прагрэсіўнага; 2) член *кансерватыўнай* партыі.

**КАНСЕРВАТО́РЫЯ** (іт. conservatorio) — вышэйшая музычная навучальная ўстанова, якая рыхтуе выканаўцаў, кампазітараў, музыказнаўцаў.

**КАНСЕРВАТЫ́ЗМ** (фр. conservatisme, ад лац. conservare = ахоўваць, захоўваць) — схільнасць да ўсяго старога, аджыўшага і варожасць да новага, прагрэсіўнага.

**КАНСЕРВАТЫ́ЎНЫ** (лац. conservativus = ахавальны) — прыхільны да старога, аджыўшага, варожы ўсяму новаму, прагрэсіўнаму (напр. к-ыя погляды); к - а я п а р т ы я — палітычная партыя, заснаваная на прынцыпах *кансерватызму*, якая прадстаўляе пераважна інтарэсы буйных уласнікаў (напр. у Вялікабрытаніі).

**КАНСЕРВА́ЦЫЯ** (лац. conservatio) — 1) спецыяльная апрацоўка або стварэнне спецыяльных умоў для засцярогі чаго-н. ад псавання (напр. к. крыві, к. берасцяных грамат); 2) часовае спыненне дзейнасці, развіцця чаго-н. (напр. к. прадпрыемства).

**КАНСЕ́РВЫ** (фр. conserves, ад лац. conservare = ахоўваць, захоўваць) — спецыяльна апрацаваныя харчовыя прадукты, змешчаныя ў наглуха закрытыя бляшанкі або слоікі для засцярогі ад псавання.

**КАНСІГНА́НТ** (лац. consignans, -ntis = які засведчвае) — уладальнік тавару, які прадае яго за мяжу праз пасрэдніцтва *кансігнатара*.

**КАНСІГНА́ТАР** (ад лац. consignare = прыкладваць пячатку) — пасрэднік пры *экспарце* тавараў.

**КАНСІГНА́ЦЫЯ** (лац. consignatio = пісьмовы доказ) — форма камісійнага продажу тавараў за мяжу, калі ўладальнік перадае тавар *кансігнатару* з даручэннем прадаць яго на пэўных умовах.

**КАНСІ́ЛІУМ** (лац. consilium) — нарада ўрачоў для вызначэння характару захворвання і спосабаў яго лячэння.

**КАНСІСТО́МЕТР** [ад *кансіст(энцыя)* + *-метр*] — прыбор для вызначэння кансістэнцыі розных рэчываў.

**КАНСІСТО́РЫЯ** (лац. consistorium = месца збораў) — 1) падначалены *архірэю* калегіяльны епархіяльны орган з царкоўна-адміністрацыйнымі і судовымі функцыямі; 2) нарада *кардыналаў* з удзелам рымскага папы.

**КАНСІСТЭ́НЦЫЯ** (лац. consistentia = састаў) — ступень шчыльнасці, цвёрдасці рэчыва; густата чаго-н. (напр. цвёрдая к., вадкая к.).

**КАНСКРЫ́ПЦЫЯ** (лац. conscriptio = запіс) — спосаб камплектавання арміі ў шэрагу еўрапейскіх дзяржаў на аснове воінскай павіннасці з правам выкупіцца або паставіць на сваё месца іншага.

**КАНСО́ЛІ** (англ. consols, ад consolidated annuities = кансалідаваная рэнта) — *аблігацыі* доўгатэрміновых або бестэрміновых дзяржаўных пазык, выпушчаных у Англіі.

**КАНСО́ЛЬ** (фр. console) — 1) выступ у сцяне для падтрымкі некаторых частак будынка (карніза,

балкона і інш.) або для ўстаноўкі на ім скульптур; 2) падстаўка ў выглядзе калонкі для кветак, лямпы, статуэткі і інш.

**КАНСО́РТ** (англ. consort, ад лац. consors, -rtis = суправіцель) — муж англійскай каралевы, які не з'яўляецца манархам.

**КАНСО́РЦЫУМ** (лац. consortium = саўдзел) — часовае пагадненне паміж прамысловымі фірмамі або банкамі для сумеснага правядзення фінансавых аперацый.

**КАНСО́РЦЫЯ** (лац. consortio = супольнасць) — група відаў жывёл і раслін, больш-менш звязаных з адным з індывідуумаў або з цэлай *папуляцыяй* якога-н. віду жывёл ці раслін.

**КАНСПЕ́КТ** (лац. conspectus = агляд) — кароткі запіс, сціслы выклад зместу кнігі, лекцыі, даклада.

**КАНСПІРАВА́ЦЬ** (лац. conspirare) — прымяняць *канспірацыю*, захоўваць у тайне што-н. (напр. к. дзейнасць).

**КАНСПІРА́ТАР** (с.-лац. conspirator) — той, хто прымяняе *канспірацыю*, захоўвае ў тайне што-н.

**КАНСПІРАТЫ́ЎНЫ** (лац. conspiratus = тайны) — звязаны з *канспірацыяй*, тайны, падпольны.

**КАНСПІРА́ЦЫЯ** (лац. conspiratio) — 1) тайныя метады дзейнасці падпольнай арганізацыі і яе членаў; 2) *перан.* захоўванне тайны.

**КАНСТА́НТА** (лац. constan, -ntis = нязменны, пастаянны) — 1) пастаянная велічыня (у матэматыцы, фізіцы, хіміі); 2) *літ.* асноўны рытмастваральны кампанент, які вызначае рытмічную прыроду верша.

**КАНСТАНТА́Н** (ад лац. constans, -ntis = нязменны, пастаянны) — сплаў медзі з нікелем і прымесямі некаторых іншых элементаў.

**КАНСТА́НТНАСЦЬ** (ад *канстантны*) — *псіх.* адноснае пастаянства ўспрымальных характарыстык аб'екта (яго велічыні, формы, колеру) пры параўнальна шырокім дыяпазоне змены ўмоў успрымання (аддаленасці, ракурсу, асветленасці і інш.).

**КАНСТА́НТНЫ** (лац. constans, -ntis) — пастаянны, нязменны, устойлівы.

**КАНСТАТАВА́ЦЬ** (фр. constater) — адзначаць, пацвярджаць наяўнасць чаго-н. (напр. к. факт).

**КАНСТАТА́ЦЫЯ** (фр. constatation) — адзначэнне, пацвярджэнне наяўнасці чаго-н. (напр. к. факта).

**КАНСТРУ́КТАР** (с.-лац. constructor, ад лац. construere = будаваць) — 1) спецыяліст, які стварае *канструкцыі* машын, збудаванняў, мастоў і іншых аб'ектаў; 2) набор дэталей і матэрыялаў для дзіцячай гульні (складвання розных прадметаў, машын, збудаванняў).

**КАНСТРУКТЫВІ́ЗМ** (ад п.-лац. constructivus = які складае аснову) — фармалістычны кірунак у мастацтве і архітэктуры 20 ст., які адмаўляе ідэйны змест і падмяняе мастацкі вобраз *абстракцыяй* 1.

**КАНСТРУКТЫВІ́СТ** (ад *канструктывізм*) — паслядоўнік канструктывізму.

**КАНСТРУКТЫ́ЎНЫ** (п.-лац. constructivus) — які можна ўзяць за аснову пры выпрацоўцы рашэнняў, вывадаў (напр. к-ая прапанова).

**КАНСТРУ́КЦЫЯ** (лац. constructio) — 1) будова, узаемнае размяшчэнне частак, дэталей якога-н. збудавання, механізма (напр. к.

маста, к. самалёта); 2) збудаванне, механізм складанай будовы (напр. жалезабетонная к.); 3) *лінгв.* спалучэнне слоў у мове (напр. к. сказа).

**КАНСТРУЯВА́ЦЬ** (лац. construere = будаваць) — 1) ствараць *канструкцыю* чаго-н., будаваць механізмы, машыны, збудаванні з выкананнем іх праектаў і разлікаў (напр. к. аўтамабілі); 2) ствараць у пэўным саставе (напр. к. прэзідыум з'езда).

**КАНСТРЫ́КТАР** (ад лац. constrictio = сцяжэнне, звужэнне) — *мускул*, які звужае які-н. прыродны канал у арганізме чалавека і жывёл.

**КАНСТЫТУА́НТА** [фр. (assemblée) constituante = устаноўчы сход] — устаноўчы сход у Францыі з мэтай распрацоўкі або змены *канстытуцыі* 1.

**КАНСТЫТУІ́РАВАЦЬ** (лац. constituere = устанаўліваць) — устанаўліваць, вызначаць склад, змест чаго-н. (напр. к. органы канферэнцыі).

**КАНСТЫТУТЫ́ЎНЫ** (фр. constitutif, ад лац. constitutus = вызначаны) — які складае аснову чаго-н. (напр. к-ыя ферменты).

**КАНСТЫТУ́ЦЫЯ** (лац. constitutio = будова; устанаўленне) — 1) асноўны закон дзяржавы; 2) будова арганізма, склад цела (напр. к. чалавека).

**КАНСТЫТУЦЫЯНАЛІ́ЗМ** (фр. constitutionnalisme, ад лац. constitutio = будова; устанаўленне) — плынь у палітыцы і юрыдычнай навуцы, якая прызнае найлепшай сістэмай кіравання канстытуцыйную *манархію*.

**КАНСТЫТУЦЫЯНА́ЛЬНЫ** (ад лац. constitutio = будова) — які датычыць *канстытуцыі* 2.

**КАНСТЭ́БЛЬ** (англ. constable, ад фр. connetable = канетабль) — ніжэйшы паліцэйскі чын у Англіі і ЗША, а таксама *камендант* крэпасці або палаца ў Англіі.

**КАНСТЭЛЯ́ЦЫЯ** (лац. constellatio) — 1) узаемнае размяшчэнне нябесных свяцілаў, якое служыць падставай для астралагічных прароцтваў; 2) збег абставін.

**КАНСУЛА́Т** (лац. consulatus) — тое, што і *консульства* 2.

**КАНСУЛЬТАВА́ЦЬ** (лац. consultare) — даваць *кансультацыю* 2.

**КАНСУЛЬТА́НТ** (лац. consultans, -ntis = які радзіць) — асоба, якая дае *кансультацыі* па пытаннях сваёй спецыяльнасці.

**КАНСУЛЬТАТЫ́ЎНЫ** (фр. consultatif, ад лац. consultare = радзіць) — дарадчы, з дарадчымі правамі (напр. к. орган).

**КАНСУЛЬТА́ЦЫЯ** (лац. consultatio) — 1) нарада спецыялістаў па якому-н. пытанню (напр. двухбаковыя кансультацыі па міжнародных пытаннях); 2) парада спецыяліста, а таксама дадатковае тлумачэнне навучэнцам праграмнага матэрыялу (напр. к. урача, к. па матэматыцы); 3) установа, якая дапамагае насельніцтву парадамі па якіх-н. пытаннях (напр. юрыдычная к., дзіцячая к.).

**КАНСУМЕ́НТЫ** (ад лац. consumo = спажываю) — арганізмы, якія харчуюцца жывым арганічным рэчывам (напр. драпежныя жывёлы, паразітычныя арганізмы, насякомаедныя расліны).

**КАНСЬЕ́РЖ** (фр. concierge) — *швейцар*, брамнік.

**КАНСЬЮМЕРЫ́ЗМ** (фр. consumerisme) — арганізаваны рух грамадзян і дзяржаўных органаў за расшырэнне правоў і ўплыву пакупнікоў у адносінах да прадаўцоў.

**КАНСЬЯНЕ́РА** (ісп. cancionero) — зборнікі любоўнай і сатырычнай паэзіі ў Іспаніі ў 12—14 ст.

**КАНСЭ́НСУС** (лац. consensus = згода, аднастайнасць) — 1) збег думак; агульная згода па спрэчных пытаннях удзельнікаў канферэнцый, перагавораў, пасяджэнняў і г.д.; 2) форма калегіяльнага прыняцця рашэння, якое ўступае ў сілу толькі тады, калі за яго выказаліся ўсе без выключэння ўдзельнікі галасавання.

**КАНТ** (польск. kant, ад ням. Kante) — 1) рабро, край у чым-н.; 2) аблямоўка па краях або па швах у адзенні ў выглядзе каляровага шнурка.

**КАНТА́БІЛЕ** (іт. cantabile = пявуча) — пявучы характар выканання музычнага твора або яго часткі.

**КАНТАГІЁЗНЫ** (лац. contagiosus) — заразлівы (напр. к-ае захворванне).

**КАНТА́ГІЙ** (лац. contagium = зараза) — узбуджальнік інфекцыйнай хваробы.

**КАНТАДЖЭ́Н** (ад лац. kontego = укрываю) — 1) хаатычная канцэнтрацыя ці групоўка арганізмаў, што склалася ў выніку стыхійнага працэсу масавага высялення жывёл у неўласцівыя для іх мясцовасці (напр. у час стыхійных бедстваў); 2) метад вывучэння распаўсюджанасці віду, заснаваны на атрыманні проб па квадратах і складанні рада градацый шчыльнасці відавога насельніцтва.

**КАНТАКАРЭ́НТ** (іт. conto corrente) — бягучы рахунак, які адкрываецца асобамі, фірмамі, банкамі сваім пастаянным кліентам для ўзаемнага разліку паміж імі.

**КАНТА́КТ** (лац. contactus) — 1) сутыкненне, непасрэдная блізкасць па месцы знаходжання; 2) злучэнне двух праваднікоў у электрычным ланцугу, а таксама месца гэтага злучэння; 3) *перан.* блізкія адносіны, цесная сувязь (напр. літаратурныя кантакты).

**КАНТА́КТАР** (ад лац. contactus = сутыкненне) — электрамагнітны *апарат*, прызначаны для дыстанцыйнага ўключэння, выключэння і пераключэння электрычных ланцугоў.

**КАНТАМІНА́ЦЫЯ** (лац. contaminatio = сутыкненне, змешванне) — 1) змешванне дзвюх або некалькіх з'яў, падзей пры іх апісанні; 2) утварэнне новага слова або словазлучэння шляхам аб'яднання двух блізкіх па значэнні ці гучанні слоў або выразаў.

**КАНТАНА́ЛЬНЫ** (фр. cantonal) — які мае адносіны да *кантона*, звязаны з пэўным кантонам.

**КАНТА́НГА** (англ. contango) — суадносіны цэн, пры якіх цэны па здзелках на тэрмін перавышаюць цэны на наяўны тавар, а цэны на тавар з аддаленымі тэрмінамі пастаўкі вышэйшыя, чым з бліжэйшымі (проціл. *бэквардэйшн*).

**КАНТАНІ́СТ** (ням. Kantonist = навабранец, ад фр. canton = акруга) — 1) *рэкрут* у Прусіі ў 18—19 ст.; 2) салдацкі сын, які з дня нараджэння лічыўся за ваенным ведам-

ствам і рыхтаваўся да ваеннай службы ў ніжэйшай ваеннай школе (у Расіі першай пал. 19 ст.).

**КА́НТАР**[1] (польск. kantar, ад венг. kantár) — аброць без цугляў для прывязвання каня.

**КА́НТАР**[2] (лац. cantor) — 1) пеўчы хору ў каталіцкай царкве; 2) галоўны спявак у сінагозе; 3) настаўнік і дырыжор хору, а таксама арганіст у пратэстанцкай царкве.

**КА́НТАР**[3] (тур. kantar, ад ар. qintar) — 1) адзінка масы ў многіх краінах Блізкага Усходу і Міжземнамор'я (ад 45 да 320 кг); 2) *уст.* разнавіднаць бязмена.

**КАНТАРАФІЛІ́Я** (ад гр. kantharos = жук + *-філія*) — перакрыжаванае апыленне раслін пры дапамозе жукоў.

**КАНТАРЫ́ДА** (гр. kantharis, -idos) — жук сям. нарыўнікаў, пашыраны ў Еўразіі; шкоднік лісцевых дрэў і кустоў; шпанская мушка.

**КАНТАРЫДЗІ́Н** (ад *кантарыда*) — атрутная *субстанцыя*, якая змяшчаецца ў крыві і палавых залозах кантарыды; выкарыстоўваецца для вырабу лекавай мазі.

**КАНТАРЭЛЮ́ЛЯ** (н.-лац. cantharellula) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. радоўкавых, які расце ў імшыстых хваёвых лясах; ядомы; лісічка шэрая пукатая.

**КАНТА́ТА** (іт. cantata) — 1) буйны музычны твор урачыстага, лірыка-эпічнага зместу для хору, саліста і аркестра; 2) урачысты лірычны верш, ода.

**КАНТО́Н** (фр. canton) — 1) адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў некаторых краінах, напр. у Францыі, Бельгіі, Швейцарыі; 2) выбарчая акруга ў Францыі.

**КАНТО́РА** (ням. Kontor) — установа або аддзел прадпрыемства з адміністрацыйна-канцылярскімі функцыямі, а таксама памяшканне такой установы або аддзела.

**КАНТРАБА́НДА** (іт. contrabbando) — 1) тайны правоз або пераноc цераз дзяржаўную граніцу тавараў, валюты, каштоўнасцей, а таксама прадметы, перамешчаныя такім спосабам; 2) *перан.* усё забароннае, што робіцца, прывозіцца або прыносіцца тайна.

**КАНТРАБАНДЫ́СТ** (ісп. contrabandista) — той, хто займаецца *кантрабандай*.

**КАНТРАБА́С** (іт. contrabbasso) — самы вялікі па памеры і нізкі па гучанні смычковы музычны інструмент.

**КАНТРАВЕ́РЗА** (фр. controverse, ад лац. controversia = спрэчка) — спрэчка, супярэчнасць; спрэчнае пытанне.

**КАНТРАГА́ЛС** (ад лац. contra = супраць + *галс*) — галс, процілеглы таму, якім ідзе сустрэчнае судна.

**КАНТРАДЫКТО́РНЫ** (лац. contradictorius = які супярэчыць) — супярэчлівы (напр. к-ыя меркаванні).

**КАНТРАДЫ́КЦЫЯ** (лац. contradictio = супярэчнасць) — лагічна супярэчлівае суджэнне.

**КАНТРА́КТ** (лац. contractus = здзелка) — пісьмовы дагавор, пагадненне, заключанае двума бакамі з узаемнымі абавязацельствамі.

**КАНТРАКТАВА́ЦЬ** (ад *кантракт*) — заключаць кантракт на атрыманне, выкарыстоўванне каго-н., чаго-н.

**КАНТРАКТА́НТ** (фр. contractant, ад лац. contractus = здзелка) — асоба або арганізацыя, якія бяруць на сябе якія-н. абавязацельствы па *кантракту*.

**КАНТРАКТА́ЦЫЯ** (ад *кантрактаваць*) — спосаб нарыхтоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі на аснове дагавораў, якія заключаюцца паміж нарыхтоўчымі арганізацыямі і гаспадарчымі прадпрыемствамі.

**КАНТРАКТУ́РА** (лац. contractura = звужэнне, скарачэнне) — значнае абмежаванне рухомасці ў суставе ў выніку паталагічных працэсаў, якія адбываюцца ў суставе і ў мяккіх тканках, што яго акружаюць.

**КАНТРА́КЦЫЯ** (лац. contractio) — сціскание (напр. тэктанічная к.).

**КАНТРАЛЁР** (фр. controleur) — службовая асоба, якая правярае каго-н., што-н., *кантралюе* чыю-н. дзейнасць (напр. аўтобусны к.).

**КАНТРА́ЛЬТА** (іт. contralto) — 1) самы нізкі жаночы голас; 2) спявак з такім голасам.

**КАНТРАЛЯВА́ЦЬ** (фр. controler) — праводзіць *кантроль*, правяраць, сачыць за правільнасцю дзеяннняў каго-н., чаго-н.

**КАНТРАМА́РКА** (фр. contremarque) — *талон* узамен білета на права ўваходу ў тэатр, цырк і інш.

**КАНТРАПО́СТ** (іт. contraposto) — малюнак фігуры чалавека, у якім становішча адной часткі цела кантрастна процістаўлена становішчу іншай (напр. верхняя частка тулава паказана ў павароце, а ніжняя франтальна).

**КАНТРАПУ́НКТ** (іт. contrappunto) — 1) тое, што і *поліфанія*; 2) *мелодыя*, якая гучыць адначасова з асноўнай мелодыяй; 3) аддзел тэорыі музыкі пра разнавіднасці і правілы поліфаніі.

**КАНТРА́РНЫ** (лац. contrarius) — процілеглы, супраціўны; к - ы я с у д ж э н н і — процілеглыя суджэнні, якія выключаюць адно другога.

**КАНТРА́СТ** (фр. contraste) — 1) рэзка выражаная процілегласць; 2) рэзкая розніца ў яркасці або колеры прадметаў (у фатаграфіі і жывапісе).

**КАНТРАФА́КЦЫЯ** (лац. contrafactio = падробка) — 1) перавыданне чужога твора без згоды аўтара; 2) *уст.* падробка твораў літаратуры, мастацтва; 3) выкарыстанне чужых знакаў на сваіх таварах з мэтай увесці ў зман пакупнікоў і атрымаць даход.

**КАНТРАЦЭ́ПЦЫЯ** [ад *контра-* + лац. (con)ceptio = зачацце] — метады і сродкі пазбягання цяжарнасці.

**КАНТРДА́НС** (фр. contredance, ад англ. country-dance = *літар.* сялянскі танец) — даўнейшы *танец*, які выконваўся чатырма, шасцю або васьмю парамі, а таксама музыка да гэтага танца.

**КАНТРО́ЛЕР** (англ. controller = *літар.* кіраўнік) — прыбор для рэгулявання работы электрарухавіка (у трамваях, тралейбусах, электравозах і інш.).

**КАНТРО́ЛІНГ** (англ. controlling) — улік і кантроль на прадпрыемстве.

**КАНТРО́ЛЬ** (фр. controle) — 1) праверка дзейнасці каго-н., чаго-н.; назіранне з мэтай праверкі; 2)

установа, якая займаецца такой праверкай (напр. дзяржаўны к.).

**КАНТРЫБУ́ЦЫЯ** (лац. contributio) — 1) грашовая сума, якая спаганяецца дзяржавай-пераможцай з пераможанай дзяржавы; 2) грашовыя або натуральныя паборы, якія збіраюцца чужаземным войскам з насельніцтва захопленай ім тэрыторыі.

**КАНТРЭ́ЙЛЕР** [ад *кан(тэйнер)* + англ. trailer = які цягне] — *кантэйнер* на колах для перавозкі грузаў на чыгуначных платформах і па шасэ.

**КАНТУ́ЗІЯ** (лац. contusio = удар) — агульнае пашкоджанне арганізма без парушэння цэласці скуры, напр. пры разрыве бомбы, снарада.

**КА́НТЫ** (лац. cantus = спяванне) — пахвальнае песнапенне ўрачыстага свецкага або царкоўнага зместу.

**КАНТЫЛЕ́НА** (лац. cantilena = спеў) — 1) старадаўняя французская лірыка-эпічная народная песня; 2) плаўная, напеўная *мелодыя*.

**КАНТЫНГЕ́НТ** (лац. contingens, -ntis = які дастаецца на долю) — 1) сукупнасць людзей аднароднай у якіх-н. адносінах групы, катэгорыі (напр. к. вучняў, к. слухачоў музычнага лекторыя); 2) найбольшая колькасць, норма чаго-н., якая ўстанаўліваецца для пэўнай мэты (напр. экспартны к. тавараў).

**КАНТЫНЕ́НТ** (лац. continens, -ntis) — буйны ўчастак сушы, акружаны акіянам; мацярык (напр. Афрыканскі к.).

**КАНТЫНЕНТАЛІ́ЗМ** (ад *кантынентальны*) — палітыка эканамічнага і палітычнага падначалення якіх-н. краін дзяржавай, што пануе на *кантыненце*.

**КАНТЫНЕНТА́ЛЬНЫ** (ад лац. continens, -ntis = кантынент) — які адносіцца да *кантынента*, мацерыковы; к. к л і м а т — *клімат*, які характарызуецца значнымі ваганнямі тэмпературы паветра, невялікай колькасцю ападкаў.

**КАНТЫНУІТЭ́Т** (ад лац. continuitas = бесперапыннасць) — 1) пераемнасць у развіцці права; 2) бесперапыннасць пасяджэнняў *парламента*.

**КАНТЫ́НУУМ** (лац. continuum) — 1) бесперапыннасць, непарыўнасць з'яў, працэсаў; 2) *мат.* непарыўная сукупнасць, напр. сукупнасць усіх пунктаў адрэзка прамой; 3) *фіз.* суцэльнае матэрыяльнае асяроддзе, уласцівасці якога змяняюцца ў прасторы бесперапынна.

**КАНТЫ́ЧКА** (польск. kantyczka, ад лац. canticum = песня) — зборнік каталіцкіх царкоўных песень.

**КАНТЫЯ́НСТВА** [ад ням. I.Kant = прозвішча ням. філосафа (1724—1804)] — ідэалістычны філасофскі кірунак, які сваім вытокам мае вучэнне нямецкага філосафа І.Канта; адмаўляе магчымасць пазнання навакольнага свету (гл. *агнастыцызм*), лічыць прастору, час, прычыннасць, заканамернасць спрадвечнымі формамі нашай свядомасці.

**КАНТЭ́ЙНЕР** (англ. container) — спецыяльная скрыня для перавозкі грузаў без дадатковай упакоўкі, для навуковай апаратуры, напр. на касмічным караблі.

**КАНТЭ́КСТ** (лац. contextus = злучэнне, сувязь) — закончаная ў сэнсавых адносінах частка тэксту,

якая дазваляе ўдакладніць значэнне кожнага слова, што ў яго ўваходзіць.

**КА́НТЭЛЕ** (фін. kantele) — фінскі і карэльскі струнны шчыпковы музычны інструмент, падобны на гуслі.

**КАНТЭ́НТ-АНА́ЛІЗ** (ад англ. content = змест, сутнасць + *аналіз*) — метад выяўлення і ацэнкі спецыфічных характарыстык тэкстаў і іншых носьбітаў інфармацыі.

**КАНТЭСТА́ТАР** (ад лац. contestor = клічу ў сведкі) — святарнаслужыцель або веруючы ў каталіцкай царкве, які не згодны з пунктам погляду рэлігійных вярхоў на сацыяльна-палітычныя пытанні.

**КАНТЭСТА́ЦЫЯ** (ад фр. contester = пярэчыць; сумнявацца) — 1) дыскусія, спрэчка па грамадскіх і мастацкіх праблемах; 2) выражэнне пратэсту, асабліва ў палітычным руху, творчасці, рэлігіі; 3) саперніцтва, конкурс.

**КАНУЛЯ́РЫІ** (ад гр. konus = конус + laros = прыемны) — клас вымерлых кішачнаполасцевых жывёл тыпу *кнідарый* з ракавінай у выглядзе чатырохграннай піраміды, рэшткі якіх трапляюцца ў адкладах *палеазою*.

**КАНУРБА́ЦЫЯ** (ад лац. con = з, разам + urbs = горад) — група блізка размешчаных і цесна звязаных паміж сабой гарадоў; разнавіднасць *агламерацыі* 3.

**КАНУ́ФЕР** (ад перс. käränfi) — травяністая расліна сям. складанакветных, пашыраная пераважна на Каўказе, у Малой Азіі; выкарыстоўваецца ў кулінарыі і для барацьбы са шкоднымі насякомымі.

**КАНФАБУЛЯ́ЦЫЯ** (лац. confabulatio = размова) — парушэнне памяці (разнавіднасць *парамнезіі*), пры якім яе прагалы запаўняюцца фантастычнымі выдумкамі.

**КАНФАКА́ЛЬНЫ** (ад лац. con = з, разам + *фокус*) — які мае агульны фокус (напр. арбіты планет з'яўляюцца канфакальнымі крывымі).

**КА́НФАР** (гр. kantharos) — старажытнагрэчаскі кубак для віна з дзвюма вертыкальнымі ручкамі.

**КАНФАРМА́ЦЫІ** (лац. conformatio) — геаметрычныя формы, якія прымаюць малекулы арганічных злучэнняў пры свабодным вярчэнні асобных фрагментаў малекул вакол простых вугляродных сувязей.

**КАНФАРМІ́ЗМ** (ад лац. conformis = падобны) — прыстасавальніцтва, пасіўнае прыняцце існуючага парадку і пануючых поглядаў, беспрынцыповае прытрымліванне таго, што насаджаецца сілай аўтарытэту.

**КАНФАРМІ́СТ** (англ. conformist, ад лац. conformis = падобны) — прыхільнік *англіканскай* царквы.

**КАНФЕДЭРА́Т** (лац. confoederatus = які ўваходзіць у аб'яднанне) — 1) арганізацыя або дзяржава, якія ўваходзяць у склад *канфедэрацыі* 1; 2) удзельнік канфедэрацыі ў феадальнай Польшчы.

**КАНФЕДЭРА́ТКА** (польск. konfederatka, ад лац. confoederatus = які ўваходзіць у аб'яднанне) — 1) польскі галаўны ўбор у выглядзе чатырохвугольнай шапкі без казырка, якую насілі некалі *канфедэраты*; 2) польская вайсковая шапка з чатырохвугольным верхам.

# К

**КАНФЕДЭРА́ЦЫЯ** (лац. confoederatio) — 1) аб'яднанне, саюз якіх-н. грамадскіх арганізацый або дзяржаў (напр. Усеагульная к. прафсаюзаў у Францыі); 2) часовы саюз шляхты ў Польшчы 16—18 ст., які ствараўся для дасягнення пэўных палітычных мэт.

**КАНФЕКЦЫЁН** (ням. Konfektion, ад лац. confectio = выраб) — *гандаль* гатовым адзеннем, а таксама майстэрня, дзе шыюць адзенне для продажу.

**КАНФЕРА́НС** (фр. conférence) — выступленне на сцэне, звязанае з аб'яўленнем нумароў праграмы эстраднага прадстаўлення, а таксама тэкст такога выступлення.

**КАНФЕРАНСЬЕ́** (фр. conférencier = дакладчык, лектар) — *артыст*, які вядзе канцэртна-эстраднае прадстаўленне, аб'яўляючы нумары праграмы і займаючы гледачоў у перапынках паміж нумарамі.

**КАНФЕРЫ́РАВАЦЬ** (фр. conférer, ад лац. conferre = групаваць) — выконваць абавязкі *канферансье*.

**КАНФЕРЭ́НЦ-ЗА́ЛА** (ням. Konferenzsaal) — *зала* для ўрачыстых сходаў, *канферэнцый*.

**КАНФЕРЭ́НЦЫЯ** (лац. conferentia) — нарада прадстаўнікоў урадаў, грамадскіх, навуковых і іншых арганізацый для абмеркавання пэўных пытанняў.

**КАНФЕ́СІЯ** (лац. confessio) — разнавіднасць якога-н. веравучэння ў спалучэнні з уласцівай яму абраднасцю; веравызнанне.

**КАНФЕСІЯНА́ЛЬНЫ** (лац. confessionalis) — звязаны з веравызнаннем.

**КАНФЕЦІ́** (іт. confetti) — рознакаляровыя папяровыя кружочкі, якімі абсыпаюць адзін аднаго на балях, маскарадах, карнавалах.

**КАНФІГУРА́ЦЫЯ** (лац. configuratio) — 1) абрысы, форма чаго-н. (напр. к. воблакаў); 2) узаемнае размяшчэнне прадметаў або іх частак; 3) *астр.* бачнае становішча планеты на нябеснай *сферы* адносна Сонца (злучэнне, *элангацыя*, *квадратура* 3 і *апазіцыя*[1] 3).

**КАНФІДЭ́НТ** (лац. confidens, -ntis) — тайны агент, агент разведкі.

**КАНФІДЭ́НЦЫЯ** (лац. confidentia) — прыязныя, даверныя адносіны; давер.

**КАНФІДЭНЦЫЯ́ЛЬНЫ** (ад *канфідэнцыя*) — які не падлягае агалашэнню, даверны, сакрэтны (напр. к-ая размова, к. тон).

**КАНФІРМАВА́ЦЬ** (лац. confirmare) — 1) зацвярджаць пастанову, судовы прыгавор; 2) спраўляць абрад *канфірмацыі* 3.

**КАНФІРМА́ЦЫЯ** (лац. confirmatio = зацвярджэнне) — 1) зацвярджэнне судовага прыгавору вышэйшай уладай у некаторых краінах; 2) права рымскага папы зацвярджаць епіскапаў; 3) абрад мірапамазання ў католікаў.

**КАНФІСКАВА́ЦЬ** (лац. confiscare) — забіраць маёмасць, грошы ў карысць дзяржавы.

**КАНФІСКА́Т** (лац. confiscatum) — канфіскаваная рэч.

**КАНФІСКА́ЦЫЯ** (лац. confiscatio) — 1) прымусовае бязвыплатнае адабранне маёмасці, грошай у карысць дзяржавы; 2) забарона карыстацца творамі друку.

**КАНФІЦЮ́Р** (фр. confiture) — разнавіднасць *джэму, жэле* з фруктаў або ягад, звараных з цукрам і жэлейнымі рэчывамі.

**КАНФЛІ́КТ** (лац. conflictus = сутыкненне, барацьба) — 1) рэзкае сутыкненне процілеглых поглядаў, імкненняў, сіл (у прыродзе і грамадстве) (напр. міжнародны к.); 2) супярэчнасць, сутычка супрацьлеглых сіл, пакладзеная ў аснову сюжэта мастацкага твора (напр. к. рамана).

**КАНФЛЮЭ́НЦЫЯ** (п.-лац. confluentia = з'яднанне, зліццё) — 1) сумесны рух двух або некалькіх ледрікоў; 2) зліццё рэк, злучэнне некалькіх струменяў у адзін.

**КАНФО́РКА** (рус. конфорка, ад гал. komfoor = прыстасаванне для раскладвання агню) — круглая адтуліна на кухоннай пліце для кастрыль, скавародак, а таксама кружок, якім закрываюць гэту адтуліну.

**КАНФО́РМНЫ** (лац. conformis) — падобны, адпаведны; к-ае адлюстраванне — адлюстраванне адной паверхні на другую, пры якім захоўваюцца вуглы паміж усімі напрамкамі (напр. адлюстраванне зямной паверхні на карце).

**КАНФРАНТА́ЦЫЯ** (фр. confrontation, англ. confrontation, ад с.-лац. confrontatio) — процiборства, супрацьпастаўленне палітычных прынцыпаў, сацыяльных сістэм.

**КАНФУ́З** (лац. confusus) — няёмкае становішча; стан няёмкасці, збянтэжанасці, сораму.

**КАНФУЦЫЯ́НСТВА** [ад кіт. Kon-fu-tsy = імя старажытнакітайскага філосафа (6 ст. да н.э.)] — сістэма маральна-філасофскіх поглядаў, заснаваная на вучэнні Канфуцыя, якая вызначае ўзаемаадносіны паміж людзьмі і патрабуе пакоры малодшых старэйшым.

**КАНХАСТРА́КІ** (н.-лац. conchostraca) — падатрад жабраногіх ракападобных; дробныя ракі, якія трапляюцца ў вадаёмах, што перасыхаюць.

**КАНХІЯЛО́ГІЯ, КАНХІЛІЯЛО́ГІЯ** (ад гр. konche, -chylion = ракавіна + *-логія*) — раздзел *заалогіі*, які вывучае ракавіны сучасных і вымерлых малюскаў, плечаногіх і іншых жывёл.

**КАНХО́ІДА** (ад гр. konche = ракавіна + *-оід*) — *мат.* плоская крывая, якая атрымліваецца пры павелічэнні або памяншэнні *радыус-вектара* кожнага пункта дадзенай крывой на адзін і той жа адрэзак.

**КАНЦАНЕ́ТА** (іт. canzonetta = песенька) — невялікая *канцона* 3.

**КА́НЦЛЕР** (ням. Kanzler, ад с.-лац. cancellarius) — 1) кіраўнік дзяржаўнай *канцылярыі* ў Вялікім княстве Літоўскім, захавальнік вялікай дзяржаўнай пячаткі, член паноў-рады; 2) вышэйшая службовая асоба ў некаторых краінах; 3) прэм'ер-міністр у Аўстрыі і Германіі.

**КАНЦО́НА** (іт. cancone) — 1) род лірычнага верша ў італьянскай і старафранцузскай паэзіі сярэдніх вякоў; 2) свецкая шматгалосая песня эпохі Адраджэння, блізкая простым складам да народнай; 3) вакальная або інструментальная п'еса з напеўнай мелодыяй.

**КАНЦЫЛЯ́РЫЯ** (с.-лац. cancellaria) — аддзел установы, які займаецца справаводствам, а таксама памяшканне гэтага аддзела.

# К

**КАНЦЫНІ́ЗМ** (ад лац. concinnere = правільна аб'ядноўваць) — кірунак у традыцыйнай *логіцы*, прадстаўнікі якога намагаліся зліць логіку з псіхалогіяй.

**КАНЦЫЯНА́Л** (с.-лац. cantionale, ад лац. cantio = спяванне) — зборнік шматгалосых рэлігійных песнапенняў евангеліцкай царквы для сумеснага выканання царкоўным хорам і абшчынай.

**КА́НЦЭЛІНГ** (англ. cancelling = скасаванне) — крайні тэрмін прыбыцця зафрахтаванага судна ў порт для пагрузкі, пасля якога фрахтавальнік мае права скасаваць *кантракт*.

**КАНЦЭНТРАВА́ЦЬ** (ад лац. con = з + centrum = сярэдзіна) — 1) збіраць, сцягваць, групаваць у адным месцы (напр. к. войскі); 2) *перан.* накіроўваць на што-н. увагу, думкі; 3) насычаць раствор якім-н. рэчывам.

**КАНЦЭНТРА́Т** (н.-лац. concentratus = засяроджаны, сабраны) — 1) гатовы харчовы прадукт у сухім прасаваным выглядзе (напр. к. кашы); 2) корм высокай пажыўнасці для жывёлы; 3) *горн.* прадукт абагачэння карысных выкапняў, прызначаны для далейшай перапрацоўкі.

**КАНЦЭНТРА́ЦЫЯ** (лац. concentratio) — 1) збіранне, засяроджанне ў адным месцы (напр. к. рабочай сілы); 2) ступень насычанасці раствору якім-н. рэчывам (раствор высокай канцэнтрацыі).

**КАНЦЭ́НТРЫ** (ад лац. con = з, разам + *цэнтр*) — 1) кругі рознай велічыні, але з агульным цэнтрам; 2) паслядоўныя ступені ў навучанні, якія звязаны адзінствам зместу, але адрозніваюцца па складанасці і аб'ёме.

**КАНЦЭНТРЫ́ЗМ** (ад *канцэнтры*) — паўтаральнасць вучэбнага матэрыялу праграм ніжэйшай ступені навучання ў праграмах наступных яго ступеней.

**КАНЦЭНТРЫ́ЧНЫ** (ад лац. con = з, разам + *цэнтр*) — 1) які мае агульны цэнтр (напр. к-ыя кругі); 2) заснаваны на *канцэнтрызме* (напр. к-ая сістэма навучання)

**КАНЦЭ́ПТ** (лац. conceptus = думка, паняцце) — галоўная думка, фармуліроўка.

**КАНЦЭПТУАЛІ́ЗМ** (ад с.-лац. conceptualis = паняційны) — кірунак у сярэдневяковым *наміналізме*, які адмаўляў існаванне агульных паняццяў незалежна ад адзінкавых рэчаў, але прызнаваў іх існаванне ў розуме суб'екта.

**КАНЦЭПТУА́ЛЬНЫ** (с.-лац. conceptualis) — які датычыць паняццяў, паняційны.

**КАНЦЭ́ПЦЫЯ** (лац. conceptio) — 1) сістэма поглядаў, спосаб разумення якіх-н. з'яў (напр. к. вучонага); 2) асноўная думка чаго-н. (напр. к. твора).

**КА́НЦЭР** (лац. cancer) — злаякасная пухліна, рак.

**КАНЦЭРАГЕНЕ́З** (ад *канцэр* + *-генез*) — працэс узнікнення і развіцця злаякасных пухлін.

**КАНЦЭРАГЕ́ННЫ** (ад *канцэр* + *-генны*) — здольны выклікаць злаякасныя пухліны (напр. к-ае рэчыва).

**КАНЦЭРАГЕ́НЫ** (ад *канцэр* + *-ген*) — рэчывы, якія садзейнічаюць узнікненню злаякасных пухлін.

**КАНЦЭРАФО́БІЯ** (ад *канцэр* + *-фобія*) — назойлівы страх захварэць ракам.

**КАНЦЭ́РН** (англ. concern) — адна з складаных формаў манапалістычных аб'яднанняў, якая ўключае прадпрыемствы прамысловасці, транспарту, гандлю і банкаўскай сферы.

**КАНЦЭ́РТ** (польск. koncert, ад іт. concerto) — 1) публічнае выкананне музычных і іншых твораў па загадзя складзенай праграме; 2) буйны музычны твор для аднаго інструмента ў суправаджэнні аркестра (напр. к. для скрыпкі).

**КАНЦЭРТА́НТ** (ням. Konzertant, ад іт. concertante) — артыст, які дае *канцэрт* або ўдзельнічае ў канцэрце.

**КАНЦЭРТМА́ЙСТАР** (ням. Konzertmeister) — 1) кіраўнік адной з струнных груп у *аркестры* (скрыпак, альтоў, віяланчэлей); 2) скрыпач-саліст сімфанічнага або опернага аркестра; 3) *піяніст*, які развучвае партыі са спевакамі і акампаніруе ім (параўн. *коррэпетытар*).

**КАНЦЭРЦІ́НА** (іт. concertina) — 1) музычны твор меншых памераў, чым *канцэрт* 2, для саліста з аркестрам; 2) група музычных інструментаў, якая выконвае сола ў канцэрце; 3) музычны інструмент, які мае выгляд шасціграннага гармоніка.

**КАНЦЭ́СІЯ** (лац. concessio = дазвол, уступка) — 1) дагавор аб перадачы замежнай фірме ў эксплуатацыю на пэўны тэрмін прыродных багаццяў, прадпрыемстваў і іншых гаспадарчых аб'ектаў, якія належаць дзяржаве; 2) прадпрыемства, якое арганізавана на аснове такога дагавору.

**КАНЦЭСІЯНЕ́Р** (фр. concessionnaire) — уладальнік *канцэсіі* 2.

**КАНЧУ́К** (укр. канчук, ад кр.-тат. kamčyk) — раменны бізун.

**КАНЬЁН** (ісп. cañon = *літар.* труба) — вузкая глыбокая рачная даліна, дно якой цалкам занята рэчышчам.

**КАНЬЯ́К** (фр. cognac, ад Cognac = назва фр. горада) — моцны алкагольны напітак са спірту, атрыманага перагонкай вінаградных він і вытрыманага ў дубовых бочках.

**КАН'ЮГА́ТЫ** (н.-лац. conjugatophyceae, ад coniugatio = злучэнне) — клас зялёных водарасцяў; пераважна аднаклетачныя арганізмы з ніткаватай будовай слаявішча, для якіх характэрны палавы працэс *кан'югацыя*; жывуць у прэсных вадаёмах, на паверхні глебы ў сырых месцах, на ледніках і высакагор'ях.

**КАН'ЮГА́ЦЫЯ** (лац. coniugatio = злучэнне) — палавы працэс у інфузорый, водарасцяў; 2) папарнае часовае збліжэнне *гамалагічных* храмасом, у час якога паміж імі можа адбывацца абмен гамалагічнымі ўчасткамі.

**КАНЮ́ЛЯ** (фр. canula) — полая трубка для ўвядзення ў арганізм лекавых рэчываў і вывядзення з поласцей органаў і крывяносных сасудаў крыві і сакрэтаў.

**КАН'ЮНКТУ́РА** (с.-лац. coniunctura) — 1) сукупнасць умоў, становішча, абставіны, якія склаліся ў той ці іншай галіне дзейнасці, напр. у палітыцы, эканоміцы, гандлі і інш., уплываюць на ход якіх-н. падзей, спраў (напр. спрыяльная к.); 2) сукупнасць прымет, якія ха-

рактарызуюць стан эканомікі сусветнай гаспадаркі, эканомікі асобных краін ці якой-н. галіны гаспадаркі за пэўны перыяд (месяц, квартал, год).

**КАН'ЮНКТЫ́ВА** (лац. coniunctivus = злучальны) — слізістая абалонка вока, якая пакрывае ўнутраную паверхню павек і пярэднюю частку вочнага яблыка.

**КАН'ЮНКТЫВІ́Т** (ад лац. coniunctivus = злучальны) — запаленне *кан'юнктывы*.

**КАН'ЮНКТЫ́Ў** (лац. coniunctivus = злучальны) — *лінгв.* умоўны лад дзеяслова.

**КАН'Ю́НКЦЫЯ** (лац. coniunctio = сувязь, аб'яднанне) — аперацыя матэматычнай логікі, якая аб'ядноўвае два ці больш выказванняў з дапамогай лагічнай звязкі «і».

**КА́ПА** (польск. kapa, ад с.-лац. cappa) — узорыстае пікейнае пакрывала на ложак.

**КАПА́Л** (ісп. copal) — цвёрдая выкапнёвая смала раслiннага паходжання, якая выкарыстоўваецца для прыгатавання лакаў, лінолеуму і інш.

**КАПАНІ́Р** (фр. caponnière) — фартыфікацыйнае збудаванне, з якога можна весці флангавы або косапрыцэльны агонь у двух процілеглых напрамках.

**КА́ПАР** (ст.-польск. kapar, kafar, ад ням. Keffer) — 1) металічная або драўляная канструкцыя для забівання паляў; 2) тое, што і *капёр*; 2) прыстасаванне для драбнення металічнага лому і адходаў вытворчасці на металургічных заводах.

**КАПАТАВА́ЦЬ** (фр. capoter) — 1) пакрываць *капотам* частку самалёта, аўтамабіля і інш.; 2) перакульвацца праз насавую (маторную) частку пры аварыі (пра самалёт, аўтамабіль).

**КАПАТА́Ж** (фр. capotage) — від аварыі, калі самалёт пры руху па зямлі або аўтамабіль перакульваецца цераз насавую (маторную) частку.

**КАПАЦЫТА́ЦЫЯ** (ад лац. capacitas = здольнасць) — набыццё *сперматазоідамі* млекакормячых здольнасці да пранікнення праз яйцавую абалонку ў яйцо.

**КАПЕ́ІНА** (н.-лац. copeina) — рыба атрада карпападобных, якая пашырана ў вадаёмах Паўд. Амерыкі; на Беларусі гадуецца як акварыумная.

**КАПЕЛА́Н** (польск. kapelan, ад с.-лац. capellanus) — каталіцкі святар пры капліцы або ў арміі.

**КАПЕЛІ́РАВАЦЬ** (фр. coupeller, ням. kapellieren) — аддзяляць золата і серабро ад прымесі іншых металаў шляхам праграваня са свінцом у *капелі*.

**КАПЕ́ЛЬ** (ням. Kapelle) — пасудзіна з порыстых матэрыялаў, у якой *капеліруюць*.

**КАПЕЛЬДЫ́НЕР** (ням. Kapelldiener) — работнік у тэатры, які правярае ўваходныя білеты і сочыць за парадкам.

**КАПЕЛЬМА́ЙСТАР** (ням. Kapellmeister) — кіраўнік хору, аркестра; *дырыжор*.

**КАПЕПО́ДЫ** (н.-лац. copepoda) — падклас ракападобных, якія насяляюць марскія і прэсныя вадаёмы; служаць ежай для многіх рыб; весланогія ракападобныя.

**КА́ПЕР** (гал. kaper) — 1) прыватнаўласніцкае судна, якое з ведама свайго ўрада займалася ў ваенны

час захопам гандлёвых суднаў праціўніка (да 19 ст.); 2) уладальнік такога судна.

**КА́ПЕРС** (н.-лац. capparis, ад гр. kapparis) — 1) кустовая расліна сям. каперсавых з паўзучымі галінамі, пашыраная ў тропіках і субтропіках; 2) *мн.* пупышкі гэтай расліны, якія ў марынаваным выглядзе выкарыстоўваюцца як прыправа.

**КАПЁР** (рус. копёр, ад ням. Käpfer = галава бруса) — збудаванне над шахтай для ўстаноўкі пад'ёмніка.

**КАПІГО́ЛЬД** (англ. copyhold, ад copy = копія + hold = валоданне) — асноўная форма феадальна залежнага сялянскага валодання ў Англіі ў 15—17 ст., на права якога селяніну выдавалі копію з судовага пратакола.

**КАПІГО́ЛЬДЭРЫ** (англ. copyholders) — феадальна залежныя *арандатары* памешчыцкай зямлі ў Англіі ў 15—17 ст. (параўн. *лізгольдэры, фрыгольдэры*).

**КАПІЛІ́ЦЫЙ** (лац. capillitium = валоссе) — сукупнасць ніткападобных валаконцаў у пладовых целах многіх *міксаміцэтаў* і некаторых грыбоў *гастэраміцэтаў.*

**КАПІЛЯРАГРА́ФІЯ** (ад *капіляры* + *-графія*) — графічнае выражэнне капіляраскапічнага (гл. *капіляраскапія*) малюнка.

**КАПІЛЯРАСКАПІ́Я** (ад *капіляры* + *-скапія*) — метад даследавання капіляраў скуры, слізістых абалонак, абалонак мозга з мэтай удакладнення дыягназу хваробы.

**КАПІЛЯ́РНЫ** (лац. capillaris = валасяны) — 1) які мае адносіны да *капіляраў* 1; 2) тонкі (у адносінах да пораў, каналаў, сасудаў).

**КАПІЛЯ́РЫ** (лац. capillaris = валасяны) — 1) трубкі з вузкім унутраным каналам; 2) усякія невялікія вузкія каналы (напр. поры глебы, дрэва); 3) найдрабнейшыя крывяносныя і лімфатычныя сасуды, якія пранізваюць органы і тканкі ў большасці жывёл і чалавека.

**КАПІЛЯРЫМЕ́ТР** (ад *капіляры* + *-метр*) — прыбор для вызначэння паверхневага напору вадкасці шляхам вымярэння вышыні яе паднімання ў капілярных трубках.

**КАПІ́НІІ** (ад лац. copia = мноства)— утварэнні ў калоніі некаторых *гідразояў*, аналагічныя карзінцы.

**КАПІ́Р** [ням. Kopier(schablone)] — дэталь капіравальнага станка, якая перадае рух інструменту, што выконвае пэўную аперацыю.

**КАПІРА́ЙТ** (ад англ. copy = капіраваць + right = права) — аўтарскае права, прававая норма, якая рэгулюе ўзаемаадносіны, звязаныя са стварэннем і выкарыстаннем твораў літаратуры, навукі і мастацтва; для абароны выдавецкіх правоў публікацыя суправаджаецца спецыяльным знакам ©.

**КАПІТА́Л** (ням. Kapital, фр. capital, ад лац. capitalis = галоўны) — 1) вартасць, якая з'яўляецца пры капіталізме сродкам атрымання прыбавачнай вартасці; 2) буйная сума грошай, а таксама нагул багацце, каштоўнасць, скарб.

**КАПІТАЛІЗАВА́ЦЬ** (фр. capitaliser, ад лац. capitalis = галоўны) — праводзіць *капіталізацыю* 1.

**КАПІТАЛІЗА́ЦЫЯ** (фр. capitalisation, ад лац. capitalis = галоўны) — 1) пераход на капіталістычны шлях развіцця; укараненне форм капіталістычнай гаспадаркі;

2) пературэнне прыбавачнай вартасці ў *капітал*.

**КАПІТАЛІ́ЗМ** (ад лац. capitalis = галоўны) — грамадскі лад, пры якім асноўныя сродкі вытворчасці належаць класу *капіталістаў*.

**КАПІТАЛІ́СТ** (фр. capitaliste, ад лац. capitalis = галоўны) — прадстаўнік пануючага класа капіталістычнага грамадства, які валодае *капіталам*.

**КАПІТА́ЛЬ** [ад лац. (scriptura) capitalis] — лацінскае пісьмо вялікімі літарамі, якія характарызуюцца простымі лініямі.

**КАПІТА́ЛЬНЫ** (лац. capitalis = галоўны) — 1) асноўны, галоўны; істотны, карэнны (напр. к-ае будаўніцтва, к. рамонт); 2) грунтоўны, значны, важны (напр. к. твор).

**КАПІТА́Н** (с.-лац. capitaneus, іт. capitano) — 1) самае высокае званне малодшага афіцэра; 2) камандзір судна; 3) кіраўнік спартыўнай каманды (напр. к. футбольнай каманды).

**КАПІТАНАВА́ЦЬ** (фр. capitonner) — абіваць мяккую мэблю скурай, тканінай такім чынам, каб абіўка ўтварала чатырохвугольнік з гузікамі.

**КАПІТА́Н-ЛЕЙТЭНА́НТ** (ад *капітан + лейтэнант*) — афіцэрскае званне ў ваенна-марскім флоце, якое ідзе за званнем старшага лейтэнанта.

**КАПІ́ТУЛ** (лац. capitulum) — 1) *калегія* духоўных асоб пры епіскапе ў каталіцкай і англіканскай царкве; 2) калегія кіруючых асоб манаскага ордэна; 3) установа, якая займалася ўзнагароджваннем ордэнамі ў царскай Расіі.

**КАПІТУЛЯВА́ЦЬ** (лац. capitulare = дамаўляцца) — 1) аб'яўляць *капітуляцыю* 1; 2) *перан.* адмаўляцца ад працягу барацьбы, адступаць перад цяжкасцямі (напр. к. у спрэчцы).

**КАПІТУЛЯ́НТ** (с.-лац. capitulans, -ntis) — той, хто адступае перад цяжкасцямі, адмаўляецца ад цвёрдай лініі ў чым-н.

**КАПІТУЛЯ́РЫІ** (лац. capitularia) — законы і распараджэнні франкскіх каралёў з дынастыі Каралінгаў.

**КАПІТУЛЯ́ЦЫЯ** (н.-лац. capitulatio) — 1) спыненне ваенных дзеянняў і здача пераможцу на прадыктаваных ім умовах; 2) *перан.* адмаўленне ад працягу барацьбы, ад прынцыповай абароны сваіх поглядаў, прызнанне свайго бяссілля ў чым-н. (к. перад цяжкасцямі); 3) нераўнапраўны дагавор, на аснове якога іншаземцам прадастаўляецца рад прывілегій у параўнанні з карэнным насельніцтвам.

**КАПІТЭ́ЛЬ** (лац. capitellum = галоўка) — верхняя частка калоны, або *пілястры*, размешчаная паміж ствалом апоры і гарызантальным перакрыццём (*антаблементам*).

**КАПКА́Н** (цюрк. kapkan) — паляўнічая звералоўная пастка, якая складаецца з дзвюх жалезных дуг і спружыны.

**КАПЛІ́ЦА** (польск. kaplica < ст.-чэш. kaplicé, ад с.-лац. capella) — невялікае хрысціянскае культавае збудаванне без алтара.

**КАПЛУ́Н** (ст.-польск. kapłun, ад чэш. kapún с.-в.-ням. kappūn) — пакладаны певень, якога адкормліваюць на мяса.

**КАПНО́ДЫЙ** (н.-лац. capnodium) — сумчаты грыб сям. капнодыевых, які развіваецца на лісці дуба, ліпы, яблыні, слівы, вішні.

**КАПО́К** (малайск. kapok) — валакно, якое здабываюць з пладоў так званага бавоўнянага дрэва і выкарыстоўваюць для набівання матрацаў, выратавальных кругоў, для гукаізаляцыі і інш.

**КАПО́Т**[1] (фр. capot) — адкідная металічная накрыўка для аховы розных механізмаў ад пылу, вільгаці (напр. к. аўтамабіля).

**КАПО́Т**[2] (польск. kapota, ад фр. capote) — жаночае хатняе адзенне прасторнага пакрою.

**КАПРА́Л** (фр. caporal, ад іт. caporale) — воінскае званне малодшага каманднага саставу ў арміях некаторых краін.

**КАПРАЛАКТА́М** [ад *капро(н)* + лац. lac, lactis = малако + *ам(іны)*] — арганічнае азотазмяшчальнае злучэнне *гетэрацыклічнага* рада; цвёрды крышталічны прадукт, служыць сыравінай для вытворчасці *капрону*.

**КАПРАЛІ́Т** (ад гр. kopros = кал + *-літ*) — акамянелы памёт выкапнёвых пазваночных.

**КАПРАСТА́З** (ад гр. kopros = кал + *-стаз*) — затрымка калавых мас у кішэчніку.

**КАПРАФА́ГІ** (ад гр. kopros = кал + *фагі*) — арганізмы, якія харчуюцца *экскрэментамі* (напр. жук-гнаявік, лічынкі некаторых насякомых).

**КАПРАФІ́ЛЫ** (ад гр. kopros = кал + *-філ*) — грыбы, якія развіваюцца на гноі.

**КАПРО́Н** (рус. капрон, ад лац. capra = каза) — штучнае валакно высокай трываласці з сінтэтычнай поліаміднай смалы, а таксама тканіна з гэтага валакна.

**КАПРЫЁЛЬ** (іт. capriole) — скачок манежнага каня на месцы.

**КАПРЫ́З** (фр. caprice, ад лац. capra = каза) — 1) беспадстаўнае, але настойлівае патрабаванне, недарэчнае жаданне; 2) *перан.* што-н. нечаканае, выпадковае (напр. к. моды, к. надвор'я).

**КАПРЫ́С** (фр. caprice) — тое, што і *капрычыо*.

**КАПРЫФІКА́ЦЫЯ** (лац. caprificatio, ад caprificus = фігавае дрэва) — метад, які забяспечвае апыленне і плоданашэнне культурнага *інжыру*.

**КАПРЫФО́ЛІЙ, КАПРЫФО́ЛЬ** (лац. caprifolium) — павойная кустовая расліна сям. бружмелевых з пахучымі ружовымі або жоўтымі кветкамі, пашыраная ў Паўд. Еўропе і Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**КАПРЫ́ЧЫО** (іт. capriccio = *літар.* капрыз, прыхамаць) — *муз.* інструментальная п'еса свабоднай будовы ў віртуозным стылі.

**КАПСАМЕ́Р** (ад лац. capsa = каробачка + *-мер*) — структурная адзінка *капсіда*, якая складаецца з адной або некалькіх бялковых малекул.

**КА́ПСЕЛЬ** (ням. Kapsel) — вогнетрывалая каробка, прызначаная для абпальвання паліваных керамічных вырабаў з *фарфору* і *фаянсу*.

**КАПСІ́Д** (ад лац. capsa = каробачка) — бялковая абалонка *віруса*, якая ахоўвае нуклеінавую кіслату ад знешніх уздзеянняў.

**КА́ПСУЛА** (лац. capsula = каробачка) — 1) аддзяляльная частка касмічнага лятальнага апарата, якая дасягае паверхні нябеснага

цела; 2) абалонка для вадкіх або парашкападобных лякарстваў, якая прыгатаўляецца з крухмалу, жэлаціну і лёгка растварaецца ў арганізме; 3) *анат.* тонкая абалонка або сумка, якая абвалаквае розныя органы, а таксама і паталагічныя ўтварэнні ў арганізме.

**КАПСУЛАТАМІ́Я** (ад *капсула* + *-тамія*) — тое, што і *артратамія*.

**КА́ПСУЛЬ** (фр. capsule, ад лац. capsula = каробачка) — тонкі металічны каўпачок з выбуховым рэчывам, якое загараецца ад удару і запальвае зарад у патронах, снарадах.

**КАПТАВА́ЦЬ** (фр. capter, ад лац. captare = хапаць, лавіць) — рабіць *каптаж.*

**КАПТА́Ж** (фр. captage, ад лац. captare = хапаць, лавіць) — заключэнне ў трубу, калодзеж або іншае збудаванне падземнай крыніцы вадкасці або газу з мэтай іх найбольш поўнага выкарыстання.

**КАПТА́Л** (ням. Kaptal, ад Kaptalband) — баваўняная або шаўковая стужка з патоўшчаным краем, якая служыць для змацавання кніжных аркушаў.

**КАПТУ́Р**[1] (польск. kaptur, ад чэш. kaptour) — 1) дзіцячы або жаночы галаўны ўбор у выглядзе шапачкі з вушкамі; 2) невялікі дах, навес конусападобнай формы над чым-н.; з к о п т у р а м — вышэй краёў, з верхам.

**КАПТУ́Р**[2] (ст.-польск. kaptur, ад лац. captura) — часовая надзвычайная ўстанова ў сярэдневяковых феадальных дзяржавах, якая дзейнічала ў час бескаралеўя, каб здзяйсняць правасуддзе па найбольш важных пытаннях; на Беларусі вядомы з 1587 г.; каптуровы суд.

**КАПТЭНА́РМУС** (рус. каптенармус, ад фр. capitaine d'armes) — службовая асоба малодшага каманднага саставу ў арміях некаторых краін, якая адказвае за ўлік і выдачу харчавання, абмундзіравання, зброі.

**КАПУЛІ́РАВАЦЬ** (лац. copulare = злучаць) — рабіць прышчэпку чаранком.

**КАПУЛЯ́ЦЫЯ** (лац. copulatio) — палавы працэс у ніжэйшых арганізмаў (грыбоў, водарасцяў).

**КАПУЦЫ́Н** (с.-лац. cappucinus) — 1) член каталіцкага манаскага ордэна, заснаванага ў 1528 г. як адгалінаванне ордэна *францысканцаў* (насіць плашч з капюшонам); 2) малпа з доўгімі валасамі, якая водзіцца ў трапічных лясах Цэнтр. і Паўд. Амерыкі; 3) голуб з пер'ем на шыі накшталт капюшона.

**КАПШУ́К** (тур. kapčuk) — мяшочак для тытуню, які зацягваецца шнурком.

**КАПЭ́ЛА** (польск. kapela, ад с.-лац. capella = капліца) — 1) хор, а таксама ансамбль, інструментальны ці змешаны (са спевакоў і музыкантаў); 2) хор пеўчых; 3) каталіцкая ці англіканская капліца ў выглядзе асобнага збудавання, прыбудоўкі да касцёла або ў самім касцёле.

**КАПЮШО́Н** (фр. capuchon) — адкідны галаўны ўбор, прымацаваны да каўняра верхняга адзення.

**КАПЯЛЮ́Ш** (польск. kapelusz, ад с.-лац. cappellus) — галаўны ўбор з палямі і высокім верхам.

**КАР** (ням. Kar) — чашападобнае паглыбленне каля вяршыні гары,

што ўтвараецца пад уплывам марознага выветрывання.

**КАРАБІ́Н** (фр. carabine) — 1) баявая вінтоўка з кароткім ствалом; 2) паляўнічая вінтоўка, з якой палююць на буйнога звера; 3) спружыновая зашчапка ў ланцужках, лейцах і інш.

**КАРАБІНЕ́Р** (фр. carabinier, іт. carabiniere) — 1) салдат, узброены *карабінам* 1, у арміях Зах. Еўропы ў 17—19 ст.; 2) *жандар* у Італіі.

**КАРАВА́Н** (кр.-тат., тур. karwan, ад перс. kärvān) — 1) група ўючных жывёл, якія перавозяць грузы, людзей у пустынях, стэпах (напр. к. вярблюдаў); 2) *перан.* доўгая чарада аднародных істот, прадметаў, якія рухаюцца ў адным напрамку (напр. к. воблакаў); 3) група суднаў, якія ідуць адно за другім або выконваюць агульную задачу.

**КАРАВА́НІНГ** (англ. caravaning, ад caravan = прычэп, фургон) — перасоўны будынак для аўтатурыстаў.

**КАРАВА́Н-САРА́Й** (ад перс. kärvān = караван + särai = палац) — пастаялы і гандлёвы двор для *караванаў* у краінах Усходу.

**КАРАВЕ́ЛА** (іт. caravella, ад ісп. carabela) — старадаўняе марское паруснае судна са складанай сістэмай парусоў.

**КАРАВУ́Л** (цюрк. karaul) — 1) узброеная *варта* (паставіць к.); 2) нясенне варты (быць у каравуле).

**КАРАГА́НА** (н.-лац. caragana, ад цюрк. karagana) — кустовая расліна сям. бабовых з парнаперыстаскладаным лісцем і жоўтымі кветкамі, пашыраная ва Усх. Еўропе і Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**КАРАГА́Ч** (цюрк. kara agač = чорнае дрэва) — лісцевае дрэва сям. вязавых з шатрападобнай кронай, пашыранае ў Сярэд. Азіі і Закаўказзі.

**КАРАГЕ́Н** (англ. carrageen) — прамысловая назва некалькіх відаў марскіх чырвоных водарасцяў, выкарыстоўваецца ў тэкстыльнай, папяровай, харчовай прамысловасці.

**КАРАГЁЗ** (тур. karagöz = чарнавокі) — персанаж турэцкага народнага тэатра лялек, а таксама назва лялечнага тэатра ў Турцыі.

**КАРА́ЗІЯ** (лац. corrasio = абточванне) — працэс механічнага ўздзеяння на горныя пароды рухомых мас абломачнага матэрыялу, які перамяшчаецца ветрам, вадой, лёдам.

**КАРАЗО́Л** [ад лац. cor = сэрца + ac(idus) = востры + *-ол*] — лекавы *прэпарат*, які стымулюе сардэчнасасудзістую сістэму і дыханне.

**КАРАКА́Л** (фр. caracal, ад тур. karakulah = чорнавухі) — драпежная млекакормячая жывёла сям. кашэчых, пашыраная ў пустынях Афрыкі і Азіі.

**КАРАКО́ІД** (ад гр. koraks = воран + *-оід*) — косць плечавога пояса пазваночных.

**КАРА́КУЛЬ** (цюрк. karakul, ад узб. Karakul = назва аазіса ва Узбекістане) — каштоўнае футра з кучаравай шэрсцю, выробленае са шкурак ягнят асобай пароды авечак.

**КАРАКУ́РТ** (цюрк. karakurt) — ядавіты павук, пашыраны ў Паўн. Афрыцы, Паўд. Еўропе і Сярэд. Азіі.

# К

**КАРА́Л** (лац. corallium, ад гр. karallion) — 1) марская жывёла (*паліп* 1), якая жыве нерухомымі калоніямі на скалах; 2) чырвоны, ружовы або белы камень з вапнавага адкладання гэтай жывёлы.

**КАРА́ЛІ** (польск. korale < лац. corallium, ад гр. korallion) — пацеркі з каралавых або іншых камянёў.

**КАРАМБАЛІ́НА** (ад фр. carambole = карамболь) — 1) більярдная гульня ў пяць шароў; 2) жоўты шар у більярднай гульні.

**КАРАМБО́ЛЬ** (фр. carambole) — 1) більярдная гульня ў тры шары; 2) рыкашэтны ўдар більярднага шара, які адскочыў ад другога шара, па трэцяму; 3) чырвоны шар у більярднай гульні.

**КАРАМЕ́ЛЬ** (фр. caramel) — сорт цвёрдых цукерак, ледзянцовых ці з начынкай, прыгатаваных з цукру і патакі.

**КАРА́Н** (тур. koran, ад ар. qur'ān = чытанне, кніга) — свяшчэнная кніга *ісламa*, у якой змяшчаюцца догматы і палажэнні мусульманскай рэлігіі.

**КАРАНАВА́ЦЬ** (польск. koronować, ад лац. coronare) — праводзіць цырымонію *каранацыі*.

**КАРАНАРА-** (лац. coronarius = вяночны) — першая састаўная частка складаных слоў, што выражае паняцце «які мае адносіны да вянечных артэрый сэрца».

**КАРАНАРАСКЛЕРО́З** (ад *каранара-* + *склероз*) — паражэнне артэрый сэрца, выкліканае часцей за ўсё *атэрасклерозам*.

**КАРАНАРАСПА́ЗМА** (ад *каранара-* + *спазма*) — часовае звужэнне вянечных артэрый сэрца.

**КАРАНАРАТРАМБО́З** (ад *каранара-* + *трамбоз*) — сардэчна-сасудзістае захворванне, якое характарызуецца ўтварэннем *інфаркта* ў мышцы сэрца ў выніку парушэння каранарнага кровазвароту; інфаркт міякарда.

**КАРАНА́РНЫ** (лац. coronarius = вянечны); *анат.* к - ы я  с а с у - д ы — вянечныя сасуды сэрца.

**КАРАНАРЫ́Т** (ад лац. coronarius = вянечны) — запаленне вянечных артэрый сэрца пры *калагенозах* і некаторых іншых хваробах.

**КАРАНА́ЦЫЯ** (польск. koronacja, ад лац. coronatio) — урачыстая цырымонія ўскладання *кароны* на манарха, які ўступіў на трон.

**КАРАНДА́Ш** (рус. карандаш, ад цюрк. kara = чорны + tas = камень) — прылада для пісьма, чарчэння, малявання ў выглядзе тонкай палачкі з графітавым або іншым сардэчнікам.

**КАРАНО́ГРАФ** (ад *карона* + *-граф*) — *тэлескоп* для фатаграфавання сонечнай кароны.

**КАРАНЦІ́Н** (фр. quarantaine) — 1) часовая *ізаляцыя* хворых і асоб, якія мелі з імі зносіны, каб папярэдзіць распаўсюджанне *інфекцыі*; а таксама сукупнасць мерапрыемстваў, накіраваных на яе ліквідацыю; 2) санітарны пункт для агляду людзей,  і грузаў, што прыбылі з мясцовасці, дзе ёсць *эпідэмія*.

**КАРАПА́КС** (фр. carapace, ад ісп. karapacho) — выпуклы верх, шчыт *панцыра* чарапах.

**КАРА́Т** (іт. carato, ад ар. kirāt) — мера вагі каштоўных камянёў, роўная 0,2 г.

**КАРАТА́Ж** (фр. carottage) — геафізічнае даследаванне буравых

свідравін з мэтай выяўлення карысных выкапняў і вывучэння геалагічнай будовы мясцовасці.

**КАРАТЭ́** (яп. karate = *літар.* голымі рукамі) — 1) японская сістэма самаабароны без зброі; 2) від спартыўнай барацьбы, які выкарыстоўвае прыёмы гэтай сістэмы.

**КАРАТЭ́ЛЬ** (ад лац. carota = морква) — сорт скараспелай морквы з кароткім акруглым коранем.

**КАРАЦІ́Н** (рус. каротин, ад лац. carota = морква) — жоўта-аранжавы пігмент з групы *караціноідаў*, які знаходзіцца ў моркве, гарбузах, яечным жаўтку і інш. і служыць для ўтварэння вітаміну А.

**КАРАЦІНО́ІДЫ** (ад *карацін* + *-оід*) — прыродныя фарбавальныя рэчывы (*пігменты*), якія ёсць у тканках вышэйшых раслін, водарасцях, грыбах, бактэрыях і прымаюць удзел у *фотасінтэзе*; да іх належаць *карацін* і *ксантафіл*.

**КАРБА-** (лац. carbo = вугаль) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «злучэнне вугляроду».

**КАРБААНГІДРА́ЗА** (ад *карба-* + *ангідрыд*) — фермент, які паскарае ў арганізмах расшчапленне вугальнай кіслаты на ваду і вуглякіслы газ.

**КАРБАВА́ЦЬ** (польск. karbować, ад с.-в.-ням. kërbe = зарубка) — 1) рабіць на чым-н. зарубкі (напр. к. бярвенні); 2) рабіць складкі, гафрыраваць (напр. к. паперу).

**КАРБАГЕМАГЛАБІ́Н** (ад *карба-* + *гемаглабін*) — нястойкае злучэнне гемаглабіну з вуглякіслым газам у крыві; пераносіць вугальную кіслату, што ўтвараецца ў арганізме, да лёгкіх.

**КАРБАГЕ́Н** [ад *карба-* + *аксі(ген)*] — сумесь вуглякіслага газу з кіслародам; выкарыстоўваецца для ўдыхання пры атручванні як сродак, які ўзмацняе вентыляцыю лёгкіх.

**КАРБАЗО́Л** [ад *карба-* + *аз(от)* + *-ол*] — арганічнае злучэнне, якое ўключае азот, змяшчаецца ў каменнавугальнай смале; выкарыстоўваецца ў вытворчасці фарбавальнікаў, лекавых сродкаў.

**КАРБАКСІГЕМАГЛАБІ́Н** [ад *карба-* + *аксі(ген)* + *гемаглабін*] — маластойкае злучэнне гемаглабіну крыві з чадным газам, не здольнае далучаць кісларод і пераносіць яго ад лёгкіх да тканак, у выніку чаго чалавек атручваецца.

**КАРБАКСІ́Л** [ад *карба-* + *аксі(ген)*] — аднавалентная група атамаў, характэрная для карбонавых кіслот, напр. воцатнай.

**КАРБАКСІЛІЯ́ЗЫ** [ад карба + аксі(ген) + *ліязы*] — тое, што і *дэкарбаксілазы*.

**КАРБАКСІПЕПТЫДА́ЗЫ** [ад *карба-* + *аксі(ген)* + *пептыдазы*] — група ферментаў, якая абумоўлівае ступеньчаты *гідроліз* бялкоў і *поліпептыдаў*.

**КАРБАЛЕ́Н** (ад лац. carbo = вугаль) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца як сродак, які садзейнічае *адсорбцыі*, пры *метэарызме* і *дыспепсіі*.

**КАРБАЛІНЕ́УМ** (ад *карба-* + лац. oleum = алей) — прэпарат, створаны на аснове сланцавай, тарфянай або каменнавугальнай смалы, які выкарыстоўваецца ў выглядзе воднай *эмульсіі* для барацьбы са шкоднікамі садовых культур.

# К

**КАРБАЛІ́Т** (ад *карба-* + *-літ*) — пластмаса, якая атрымліваецца з фармаліну і карболавай кіслаты; выкарыстоўваецца для вырабу электраізалятараў, гузікаў і інш.

**КАРБАМІ́Д** (ад *карба-* + *амід*) — азоцістае арганічнае рэчыва, якое атрымліваюць з двухвокісу вугляроду і аміяку; выкарыстоўваецца для вырабу смол, лекавых прэпаратаў і штучных угнаенняў; мачавіна.

**КАРБАНА́Д** (фр. carbonnade < іт. carbonata, ад лац. carbo = вугаль) — філе маладой свініны, запечанае з часнаком і мускатным арэхам.

**КАРБАНА́ДА** (ісп. carbonado = абвуглены, ад лац. carbo = вугаль) — тонказярністая, часам порыстая разнавіднасць *алмазу*; шырока выкарыстоўваецца ў тэхніцы.

**КАРБАНА́РЫЙ** (іт. carbonaro = *літар.* вугальшчык, ад лац. carbo = вугаль) — член тайнай палітычнай арганізацыі, заснаванай у Італіі ў пачатку 19 ст. для барацьбы супраць чужаземнага прыгнёту, за ўз'яднанне Італіі.

**КАРБАНА́ТЫ** (фр. carbonate, ад лац. carbo, -onis = вугаль) — 1) солі вугальнай кіслаты (напр. сода, паташ); 2) мінералы, якія з'яўляюцца вуглякіслымі солямі розных металаў (напр. *кальцыт, даламіт*).

**КАРБАНАТЫЗА́ЦЫЯ** (ад *карбанаты*) — працэс змены горных парод, які выклікае ўтварэнне карбанатаў кальцыю, магнію, жалеза і іншых металаў.

**КАРБАНАТЫ́ТЫ** (ад *карбанаты*) — горныя пароды, што складаюцца пераважна з карбанатаў.

**КАРБАНІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. carbo, -onis = вугаль) — насычэнне якога-н. раствору вуглякіслым газам (напр. к. піва).

**КАРБАНІ́Л** (ад лац. carbo, -onis = вугаль) — злучэнне металу з вокісам вугляроду, атрутнае рэчыва.

**КАРБАНІ́ЛАВЫ** (ад лац. carbo, -onis = вугаль) — які належыць да вугляроду; к - а я  г р у п а — двухвалентная група, якая складаецца з аднаго атама вугляроду і аднаго атама кіслароду і з'яўляецца састаўной часткай *альдэгідаў* і *кетонаў*.

**КАРБАНІ́Т** (ад лац. carbo, -onis = вугаль) — выбуховае рэчыва, якое складаецца з *нітрагліцэрыны*, аржаной мукі і *салетры*; слабы *дынаміт*.

**КАРБАРУ́НД** [ад *карба-* + *(ка)рунд*] — злучэнне крэмнію з вугляродам, цвёрдае крышталічнае рэчыва, якое выкарыстоўваецца для шліфоўкі сталі, вырабу вогнетрывалых матэрыялаў і інш.

**КАРБА́С** (рус. карбас, ад вепскага karbaz) — вялікая паморская лодка з высокімі бартамі, прызначаная для перавозкі грузаў.

**КАРБАТЭРМІ́Я** (ад *карба-* + *-тэрмія*) — атрыманне металаў з іх злучэнняў з вугляродам або вугляродазмяшчальнымі матэрыяламі пры павышаных тэмпературах.

**КАРБАФО́С** [ад *карба-* + *фос(фар)*] — фосфараарганічны прэпарат для барацьбы са шкоднымі насякомымі.

**КАРБАЦЫКЛІ́ЧНЫ** (ад *карба-* + гр. kyklos = кольца); к - ы я  з л у ч э н н і — арганічныя рэчывы, малекулы якіх маюць *цыклы* (кольцы), пабудаваныя з атамаў вугляроду.

**КАРБІ́ДЫ** (ад *карба-* + гр. eidos = выгляд) — злучэнні металаў і не-

каторых металоідаў з вугляродам (напр. к. жалеза — *цэментыт*, к. крэмнію — *карбарунд*).

**КАРБО́ЛАВЫ** [ад *карба-* + лац. ol(eum) = алей] — які змяшчае ў сабе раствор фенолу; к - а я  к і с л а т а — арганічнае злучэнне *араматычнага* рада, ядавітая вадкасць класа *фенолаў*, выкарыстоўваецца для дэзінфекцыі.

**КАРБО́Н** (ад лац. carbo, -onis = вугаль) — пяты перыяд *палеазою*, які пачаўся каля 350 млн. гадоў таму назад і працягваўся каля 70 млн. гадоў.

**КАРБО́НАВЫ** (ад лац. carbo, -onis = вугаль); к - ы я  к і с л о - т ы — арганічныя злучэнні, якія змяшчаюць карбаксільную групу (напр. бензойная кіслата).

**КАРБУ́НКУЛ** (лац. carbunculus = вугольчык) — 1) *уст.* каштоўны камень чырвонага колеру, чырвоны *гранат*; 2) гнойнае запаленне глыбокіх слаёў скуры і падскурнай клятчаткі.

**КАРБЮРАВА́ЦЬ** (фр. carburer) — праводзіць *карбюрацыю*.

**КАРБЮРА́ТАР** (фр. carburateur) — 1) прыбор у рухавіку ўнутранага згарання для ўтварэння гаручай сумесі; 2) тое, што і *карбюрызатар*.

**КАРБЮРА́ЦЫЯ** (фр. carburation) — прыгатаванне гаручай сумесі з вадкага паліва і паветра ў *карбюратары*.

**КАРБЮРЫЗА́ТАР** (ад лац. carbo = вугаль + urare = паліць) — матэрыял, які служыць для цэментавання (узбагачэння вугляродам) паверхні вырабаў са сталі.

**КАРВАЛА́НТ** (фр. corps volant = лятучы корпус) — *гіст.* рухомае вайсковае злучэнне з конніцы, пяхоты, якая перавозілася на конях, і лёгкай артылерыі для нападу на варожыя тылы і камунікацыі.

**КАРВЕ́Т** (фр. corvette) — 1) ваеннае судна ў парусным флоце 18—19 ст., прызначанае для разведкі; 2) ахоўнае і разведвальнае судна ў англійскім і амерыканскім флотах у час 2-й сусветнай вайны.

**КА́РГА** (ісп. cargo = цяжар, пагрузка) — 1) назва карабельнага грузу пры знешнегандлёвых аперацыях; 2) страхаванне грузаў, якія транспартуюцца на суднах.

**КА́РДА** (фр. carde = воўначасалка) — скураная або з прагумаванай тканіны паласа, усаджаная стальнымі іголкамі для машыннага часання воўны, бавоўны, лёну або для ўтварэння ворсу.

**КАРДАДРО́М** (ад *корда-* + *-дром*) — пляцоўка для правядзення спаборніцтваў і выпрабаванняў авіямадэляў пры дапамозе корды.

**КАРДАІ́ТЫ** (н.-лац. cordaitales, ад Corda = прозвішча аўстр. батаніка) — вымерлыя дрэвавыя голанасенныя расліны з тоўстым ствалом і ланцэтападобным лісцем, якія існавалі ў *палеазоі*.

**КАРДАМІНО́ПСІС** (н.-лац. cardaminopsis) — травяністая расліна сям. крыжакветных з апушаным лісцем і белаватымі або светла-ліловымі кветкамі; расце на сухіх схілах, пустках, у хваёвых лясах і інш.

**КАРДАМО́Н** (гр. kardamomon) — травяністая расліна сям. імбірных, пашыраная ў тропіках, а таксама насенне гэтай расліны, якое ўжываюць як вострую прыправу.

**КАРДА́Н** [іт. cardano, ад G.Cardano = прозвішча іт. матэма-

тыка (1501—1576)] — 1) прыстасаванне для захавання нязменным становішча якога-н. падвешанага цела пры хістанні апор; 2) механізм, які забяспечвае павароты двух валоў пад зменным вуглом (у аўтамабілях, трактарах і інш.).

**КАРДАНА́Ж** (фр. cartonnage) — невялікія вырабы з *кардону* і паперы (каробкі, футляры, цацкі і інш.).

**КАРДА́РЫЯ** (н.-лац. cardaria) — травяністая расліна сям. крыжакветных з дробнымі белымі пахучымі кветкамі ў густых шчытках на верхавінцы сцябла, пашыраная ў Міжземнамор'і і Сярэд. Азіі; на Беларусі заносная.

**КАРДО́Н**[1] (фр. carton, ад іт. cartone) — спецыяльная тоўстая цвёрдая папера (напр. паліграфічны к., абутковы к.).

**КАРДО́Н**[2] (фр. cordon) — 1) дзяржаўная граніца; 2) пагранічны або загараджальны атрад, а таксама месца яго знаходжання; 3) пост аховы лесу, запаведніка (лясны к.).

**КАРДУЛЕГАСТЭРЫ́ДЫ** (н.-лац. cordulegasteridae) — сямейства насякомых атрада стракоз; жывуць каля берагоў рэк і ручаёў.

**КАРДЫЕРЫ́Т** [ад фр. P.Cordier = прозвішча фр. геолага (1777—1861)] — мінерал класа *сілікатаў*, бясколерны або сіняга колеру, каштоўны камень.

**КАРДЫЁ-** гл. *кардыя-*.

**КАРДЫЁГРАФ** (ад *кардыё-* + *-граф*) — прыбор для рэгістрацыі работы сэрца.

**КАРДЫЁІДА** (ад *кардыё-* + eidos = выгляд) — *мат.* крывая, апісаная пунктам акружнасці, якая са знешняга боку дакранаецца да нерухомай акружнасці, калі дыяметры абедзвюх акружнасцей роўныя (па форме нагадвае контур сэрца).

**КАРДЫЁЛАГ** (ад *кардыё-* + *-лаг*) — спецыяліст па *кардыялогіі*.

**КАРДЫЛЬЕ́РА** (ісп. cordillera = хрыбет, горны ланцуг) — выцягнутая ў адным напрамку горная краіна, якая складаецца з хрыбтоў, размешчаных адзін за другім або кулісападобна.

**КАРДЫНА́Л** (польск. kardynał, ад лац. cardinalis = галоўны) — 1) вышэйшы пасля рымскага папы духоўны сан у каталіцкай царкве; 2) пеўчая птушка сям. аўсянкавых з ярка-чырвоным пер'ем, якая водзіцца ў Амерыцы; 3) рыба сям. карпавых, якая водзіцца на поўдні Кітая; на Беларусі вядома як акварыумная.

**КАРДЫНА́ЛЬНЫ** (лац. cardinalis = галоўны) — самы важны, асноўны, істотны (напр. к-ыя змены); к. л і к — матэматычны эквівалент паняцця колькасці (параўн. *ардынальны*).

**КАРДЫ́Т**[1] (ад гр. kardia = сэрца) — агульная назва сардэчных хвароб.

**КАРДЫ́Т**[2] (англ. cordite) — порах на аснове *нітрацэлюлозы*; выкарыстоўваецца для вырабу боепрыпасаў.

**КАРДЫЯ-, КАРДЫЁ-, -КАРДЫЯ** (гр. kardia = сэрца) — першая або другая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «сэрца».

**КАРДЫЯГРА́МА** (ад *кардыя-* + *-грама*) — графічны паказ (крывая) на паперы работы сэрца, зарэгістраваны *кардыёграфам*.

**КАРДЫЯГРА́ФІЯ** (ад *кардыя-* + *-графія*) — графічная рэгістрацыя

работы сэрца з дапамогай *кардыёграфа*.

**КАРДЫЯКРЫ́НУМ** (н.-лац. cardiocrinum) — цыбульная травяністая расліна сям. лілейных з шырокім лісцем і трубчастымі белымі пахучымі кветкамі, якая расце ў вільготных лясах Гімалаяў і ва Усх. Азіі.

**КАРДЫЯЛГІ́Я** (ад *кардыя-* + гр. algos = боль) — боль у вобласці сэрца, якая з'яўляецца праяўленнем *міякардыту, неўрозу* і іншых хвароб.

**КАРДЫЯЛО́ГІЯ** (ад *кардыя-* + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае будову, функцыі, хваробы сардэчна-сасудзістай сістэмы і распрацоўвае метады іх лячэння.

**КАРДЫЯ́ЛЬНЫ** (лац. cardialis) — уваходны; к - ы я з а л о з ы — трубчастыя залозы пазваночных, размешчаныя ў слізістай абалонцы ўваходнага аддзела страўніка; к - ы я ц е л ы — эндакрынныя і нейрагемальныя органы насякомых, якія накапляюць *нейрасакрэты* мозгу і выводзяць іх у *гемалімфу*.

**КАРДЫЯМАНІТО́Р** (ад *кардыя-* + лац. monitor = наглядчык) — прыбор, які выкарыстоўваецца пры аперацыях на сэрцы для кантролю за дзейнасцю сэрца і рэгулявання яго работы.

**КАРДЫЯМІ́Н** (ад *кардыя-* + *аміны*) — лекавы прэпарат, які стымулюе кровазварот і дыханне.

**КАРДЫЯМІЯЦЫ́ТЫ** (ад *кардыя-* + *міяцыт*) — клеткі сардэчнай мышцы (*міякарда*) пазваночных.

**КАРДЫЯПА́ТЫЯ** (ад *кардыя-* + *-патыя*) — хвароба сэрца, звязаная з незапаленчым парушэннем *міякарда*.

**КАРДЫЯРЭЎМАТАЛО́ГІЯ** (ад *кардыя-* + *рэўматалогія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае захворванні сэрца пры *рэўматызме*.

**КАРДЫЯСІГНАЛІЗА́ТАР** (ад *кардыя-* + *сігнал*) — прыбор, пры дапамозе якога прасочваюць на экране *асцылографа* змены *электракардыяграмы* хворага чалавека.

**КАРДЫЯСКЛЕРО́З** (ад *кардыя-* + *склероз*) — захворванне, звязанае з разрастаннем у *міякардзе* злучальнай тканкі.

**КАРДЫЯСКО́П** (ад *кардыя-* + *-скоп*) — прыбор для *візуальнага* назірання за дзейнасцю сэрца.

**КАРДЫЯСПА́ЗМА** (ад гр. kardia = уваход у страўнік + *спазма*) — стойкае функцыянальнае парушэнне праходнасці ніжняга аддзела стрававода.

**КАРДЫЯТАХО́МЕТР** (ад *кардыя-* + *тахометр*) — прыбор для вымярэння частаты пульсавання і работы сэрца.

**КАРДЫЯФО́БІЯ** (ад *кардыя-* + *-фобія*) — назойлівы страх хваробы сэрца.

**КАРДЫЯХІРУ́РГ** (ад *кардыя-* + *хірург*) — спецыяліст у галіне *кардыяхірургіі*.

**КАРДЫЯХІРУРГІ́Я** (ад *кардыя-* + *хірургія*) — лячэнне сэрца пры дапамозе хірургічных аперацый.

**КАРДЫЯЦЫКЛО́ГРАФ** (ад *кардыя-* + *цыкл* + *-граф*) — прыбор для кардыялагічнага абследавання хворых.

**КАРДЭБАЛЕ́Т** (ад фр. corps de ballet) — калектыў артыстаў балета, які выконвае групавыя танцы.

# К

**КАРДЭГА́РДЫЯ** (фр. corps de garde) — тое, што і *гаўптвахта* 2.

**КАРДЭЛЬЕ́РЫ** (фр. cordeliers) — 1) адгалінаванне каталіцкага манаскага ордэна *францысканцаў*; 2) члены аднаго з палітычных клубаў часоў Французскай рэвалюцыі 1789—1799 гг., якія збіраліся ў будынку колішняга манастыра францысканцаў-кардэльераў у Парыжы.

**КАРДЭНАЛІ́ДЫ** (ад гр. cardia = сэрца + *эналіды*) — група кардыятанічных стэроідных *гліказідаў*, якія змяшчаюць пяцічленнае лактоннае кольца з адной двайной сувяззю.

**КАР'Е́Р**[1] (фр. carrière, ад іт. carriere = бег) — самы хуткі бег каня, паскораны галоп; з м е с ц а ў к. — адразу, без замаруджання, без падрыхтоўкі.

**КАР'Е́Р**[2] (фр. carrière = каменяломня) — месца адкрытай распрацоўкі карысных выкапняў, пяску, гліны і інш.

**КАР'Е́РА** (іт. carriera = бег, жыццёвы шлях) — 1) паспяховае прасоўванне наперад у службовай, навуковай або якой-н. іншай дзейнасці; 2) род заняткаў, прафесія (напр. ваенная к.).

**КАР'ЕРЫ́ЗМ** (ад *кар'ера*) — імкненне дасягнуць асабістага поспеху, дабрабыту, выкарыстоўваючы ў карыслівых мэтах грамадскую справу.

**КАР'ЕРЫ́СТ** (ад *кар'ерызм*) — чалавек, які думае пра асабісты поспех, жадае стварыць сабе кар'еру, не зважаючы на інтарэсы іншых.

**КАРКА́С** (фр. carcasse = шкілет) — 1) касцяк якога-н. збудавання, канструкцыі, які складаецца з асобных змацаваных паміж сабой элементаў (напр. к. карабля); 2) дрэва сям. ільмавых, пашыранае на Каўказе, у Крыме і Сярэд. Азіі; цвёрдая драўніна гэтага дрэва ідзе на выраб духавых інструментаў; каменнае дрэва.

**КА́РЛІК** (польск. karlik, ад ням. Kerl = хлопец) — чалавек ненармальна малога росту; 2) *перан.* што-н. вельмі малога памеру (напр. дрэва-к.).

**КА́РЛІНГ** (ням. Karling) — горная вяршыня пірамідальнай, пераважна трохграннай формы.

**КАРЛІ́СТЫ** (ісп. carlista, ад Carlos = Карлас) — прадстаўнікі клерыкальна-абсалютысцкай плыні ў Іспаніі пач. 19 ст., прыхільнікі прэтэндэнта на іспанскі трон дона Карласа Старшага.

**КА́РМА** (санскр. karma) — адно з асноўных паняццяў індыйскай рэлігіі і філасофіі, якое абазначае суму ўчынкаў усякай жывой істоты, што вызначае характар яе новага нараджэння, пераўвасаблення.

**КАРМАЗІ́Н** (польск. karmazyn < іт. carmesino, ад перс. kermez = барвовы) — сукно цёмна-чырвонага колеру, якое мела пашырэнне ў даўняй Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім.

**КАРМАНЬЁЛА** (фр. carmagnole, ад Carmagnole = назва італьянскага горада) — 1) французская народная песня-танец; 2) французская рэвалюцыйная песня, складзеная народам у Парыжы ў 1792 г. у сувязі з падзеннем каралеўскай улады; 3) куртка з вузкімі фалдамі, якую насілі якабінцы.

**КАРМАФІ́ТЫ** (ад гр. kormos = пень + *-фіты*) — расліны, якія маюць сцябло і лісты (большасць ім-

хоў, папаратнікавыя і насенныя расліны); параўн. *талафіты*.

**КАРМЕЛІ́ТЫ** (лац. carmeliti, ад Carmel = назва гары ў Палесціне) — члены каталіцкага манаскага ордэна, заснаванага ў 12 ст. ў Палесціне.

**КАРМІ́Н** (фр. carmin, ад ар. kirmiz = барвовы + лац. minium = кінавар) — ярка-чырвоная фарба, якая здабываецца з насякомага *кашанілі*.

**КАРНАВА́Л** (фр. carnaval, ад іт. carnevale) — масавае народнае гулянне з вулічнымі шэсцямі, тэатралізаванымі гульнямі, танцамі, маскарадамі (напр. навагодні к.).

**КАРНАЗА́ЎРЫ** (ад лац. caro, carnis = мяса + *-заўр*) — драпежныя *дыназаўры* з моцнымі кінжалападобнымі зубамі, якія жылі ў *мезазоі*.

**КАРНАЛІ́Т** [ням. Karnallit, ад R.Carnall = прозвішча ням. геолага (1804—1874) + гр. lithos = камень] — мінерал класа *хларыдаў*, пераважна белага колеру або бясколерны, з якога атрымліваюць калійныя солі, магній.

**КАРНАТЫ́Т** [ад фр. A.Carnot = прозвішча фр. хіміка (1893—1920)] — мінерал класа *фасфатаў* ярка-жоўтага колеру; руда урану, ванадыю.

**КАРНА́ЦЫЯ** (фр. carnation) — жывапісныя прыёмы пры маляванні твару і голага цела чалавека.

**КАРНЕ́ГІЯ** (н.-лац. carnegiea) — дрэвападобная расліна сям. кактусавых, пашыраная ў пустынях Мексікі, ЗША.

**КАРНЕМІЮ́З** (фр. cornemuse, ад corne = рог + ст.-фр. muse = дудка) — французскі духавы музычны інструмент тыпу валынкі.

**КАРНЕО́Л** (с.-лац. carneolus) — мінерал, ружовая або чырвоная разнавіднасць *халцэдону*.

**КАРНЕ́Т**[1] (фр. cornette = сцяг) — першы афіцэрскі чын у кавалерыі дарэвалюцыйнай рускай арміі; адпавядаў падпаручніку ў пяхоце.

**КАРНЕ́Т**[2] (фр. cornet, ад іт. cornetto) — духавы медны музычны інструмент у выглядзе ражка.

**КАРНЕ́Т-А-ПІСТО́Н** (фр. cornet à pistons) — *карнет*[2] з поршневым вентыльным механізмам.

**КАРНЕТЫ́СТ** (фр. cornettiste) — музыкант, які іграе на *карнеце*[2].

**КАРНІ́З** (ням. Karnies) — 1) гарызантальны выступ, які завяршае сцяну будынка або робіцца над вокнамі, дзвярамі; 2) папярочка над акном, дзвярамі для штор, парцьер; 3) вузкі ўступ уздоўж абрывістага схілу гор.

**КАРНІКУЛЯ́РЫЯ** (н.-лац. cornicularia) — кусцісты сумчаты лішайнік сям. усніевых, які трапляецца на неўрадлівых глебах, пясках.

**КАРНІШО́Н** (фр. cornichon) — маленькі, зняты хутка пасля ўтварэння завязі агурок, прызначаны для марынавання.

**КАРО́ЗІЯ** (п.-лац. corrosio = раз'яданне) — 1) разбурэнне металаў пад уздзеяннем асяроддзя (напр. к. жалеза); 2) разбурэнне горных парод пад уздзеяннем вады (напр. к. глебы).

**КАРО́НА** (польск. korona, ад лац. corona) — 1) каштоўны галаўны ўбор — сімвал улады манарха; 2) *перан.* улада манарха (прыняць карону); 3) светлы арэол вакол Сонца, бачны ў час зацьмення.

# К

**КАРО́ННЫ** (ад *карона*) — 1) *уст.* дзяржаўны, урадавы (у манархічных краінах); 2) які найлепш удаецца выканаўцу (напр. к. нумар канцэрта).

**КАРО́ТУС** (н.-лац. carrhotus) — павук сям. скакуноў, які жыве на адкрытых сонечных месцах, на высокай траве, кустах, пад камянямі.

**КАРПАГО́Н** (ад гр. karpos = плод + *-гон*) — жаночы палавы орган чырвоных водарасцяў у выглядзе колбападобнай клеткі, у пашыранай частцы якой развіваецца яйцаклетка.

**КАРПАІДЭ́І** (н.-лац. carpoidea, ад гр. karpos = плод) — вымерлыя прымітыўныя іглаcкурыя з двухбаковасіметрычным панцырам; існавалі ў *палеазоі*.

**КАРПАЛО́ГІЯ** (ад гр. karpos = плод + *-логія*) — раздзел *марфалогіі* 1 раслін, які вывучае плады і насенне.

**КАРПАРА́НТ** (ням. Korporant) — член студэнцкага аб'яднання ў нямецкіх універсітэтах.

**КАРПАРАТЫ́ЎНЫ** (ад *карпарацыя*) — вузкагрупавы, замкнуты ў межах карпарацыі.

**КАРПАРА́ЦЫЯ** (англ. corporation, ад с.-лац. corporatio = аб'яднанне) — 1) група асоб, аб'яднаных агульнымі прафесіянальнымі або саслоўнымі інтарэсамі (напр. радыёвяшчальная к.); 2) форма акцыянернага таварыства.

**КАРПЕ́ЛА** (ад гр. karpos = плод) — відазменены лісток у кветках пакрытанасенных раслін, на якім развіваюцца насенныя зачаткі.

**КАРПУЛЕ́НТНЫ** (лац. corpulentus) — *уст.* які мае прыметы *карпуленцыі*.

**КАРПУЛЕ́НЦЫЯ** (лац. corpulentia) — *уст.* буйны целасклад; паўната, сытасць, тлустасць.

**КАРПУ́СКУЛА** (лац. corpusculum = маленькае цела) — дробная часціца *матэрыі* (*электрон, фатон* і інш.).

**КАРПУСКУЛЯ́РНЫ** (ад *карпускула*) — які мае адносіны да карпускулы або складаецца з карпускул; к - а я т э о р ы я с в я т - л а — тэорыя, паводле якой святло ўяўляе сабой струмень дробных часцінак рэчыва.

**КАРСА́Ж, ГАРСА́Ж** (фр. corsage) — 1) частка жаночага адзення, якая аблягае грудзі, спіну і бакі; 2) пругкі пояс спадніцы і тасьма да яго.

**КАРСА́К** (цюрк. karsak) — драпежная млекакормячая жывёла сям. сабачых, якая пашырана ў стэпах і паўпустынях Паўд.-Усх. Еўропы і Азіі; дробная ліса.

**КАРСА́Р** (іт. corsaro) — *уст.* марскі разбойнік, пірат.

**КАРСТ** (ням. Karst, ад серб. Kras = назва плато ў Сербіі) — комплекс з'яў, якія ўзнікаюць у выніку растварэння горных парод прыроднымі водамі (пячоры, варонкі, катлавіны, яры і інш.); карставыя з'явы.

**КАРТ** (англ. cart) — гоначны мікралітражны *аўтамабіль* з матацыклетным рухавіком і без кузава.

**КА́РТА** (польск. karta < лац. charta, ад гр. chartes) — 1) чарцёж зямной паверхні або зорнага неба (напр. геаграфічная к.); 2) ліст паперы, бланк, які трэба запоўніць спецы-

яльнымі звесткамі (напр. санаторная к.); 3) цвёрды папяровы лісток з умоўнай фігурай, які ў сукупнасці з іншымі лісткамі складае калоду для гульні.

**КАРТАГРА́МА** (ад *карта* + *-грама*) — схематычная карта, на якой графічна паказаны статыстычныя дадзеныя адносна якой-н. з'явы.

**КАРТАГРА́ФІЯ** (ад *карта* + *-графія*) — навука аб складанні геаграфічных карт, а таксама само складанне іх.

**КАРТАДЫЯГРА́МА** (ад *карта* + *-дыяграма*) — схематычная карта, на якой пры дапамозе слупкоў, кругоў, квадратаў паказана сумарная велічыня пэўнай з'явы ў межах тэрытарыяльнай, пераважна адміністрацыйнай адзінкі.

**КАРТАДЭ́РЫЯ** (н.-лац. cortaderia) — травяністая расліна сям. злакавых з шорсткім лісцем і многакветкавымі каласкамі ў густых мяцёлках, пашыраная ў Паўд. Амерыцы і Новай Зеландыі; вырошчваецца як дэкаратыўная ў субтропіках.

**КАРТАМЕ́ТРЫЯ** (ад *карта* + *-метрыя*) — раздзел *картаграфіі*, які вывучае спосабы вымярэння на картах розных геаграфічных аб'ектаў для вызначэння іх плошчы, даўжыні, аб'ёму.

**КАРТАСХЕ́МА** (ад *карта* + *схема*) — спрошчаная, без маштабу і геаграфічнай сеткі карта для ілюстрацыі істотных рыс якой-н. з'явы.

**КАРТАТЭ́КА** (ад *карта* + *-тэка*) — збор картак з якімі-н. даведачнымі матэрыяламі, размешчаных у пэўным парадку, напр. па алфавіту, тэмах, тэрмінах.

**КАРТ-БЛА́НШ** (фр. carte blanche = белы аркуш) — 1) чысты *бланк*, падпісаны асобай, якая дае іншай асобе права запоўніць яго; 2) *перан.* неабмежаванае паўнамоцтва.

**КАРТО́ГРАФ** (ад *карта* + *-граф*) — спецыяліст у галіне *картаграфіі*.

**КАРТУ́З** (с.-н.-ням. kartuse, ад фр. cartouche) — 1) мужчынская шапка з акольшкам і казырком; 2) мяшочак для парахавога снараднага зарада.

**КАРТУЗІЯ́НЦЫ** (лац. carthusiani, ад Carthusia = лацінская назва даліны Шартрэз у Францыі) — члены манаскага ордэна, заснаванага ў 11 ст. у Францыі.

**КАРТУЛЯ́РЫІ** (с.-лац. chartularia, ад лац. charta = грамата) — зборнікі копій грамат, якімі ў перыяд сярэдневякоўя ў Зах. Еўропе юрыдычна афармляліся пераважна зямельныя падараванні на карысць царквы.

**КАРТУ́НА** (польск. kartun, ад ням. Kattun = бавоўна) — *уст.* баваўняная тканіна.

**КАРТУ́Ш** (фр. cartouche, ад іт. cartoccio = скрутак) — скульптурнае або графічнае ўпрыгожанне ў выглядзе дэкаратыўна акаймаванага шчыта або не да канца разгорнутага скрутка з эмблемай, гербам, надпісам і інш.

**КАРТЫЗО́Н** (ад лац. cortex = кара) — гармоны кары наднырачнікаў з групы *кортыкастэроідаў*, прадукт ператварэння ў арганізме другога гармона — *гідракартызону*; выкарыстоўваецца ў медыцыне.

**КАРТЫКА́ЛЬНЫ** (ад лац. cortex, -icis = кара); к-ая рэакцыя — змены ў паверхневым слоі яйца ў адказ на ўздзеянне *сперматазоіда*.

# К

**КА́РТЫНГ** (англ. carting) — спартыўная гонка на аўтамабілях тыпу *карт*, а таксама пляц для такіх гонак.

**КАРТЫ́ЦЫУМ** (н.-лац. carticium) — губавы *базідыяльны* грыб сям. картыцыевых, які пасяляецца на драўніне, на пабудовах з сырога лесаматэрыялу.

**КАРТЭ́Ж** (фр. cortège) — урачыстае шэсце, выезд (напр. вясельны к.).

**КАРТЭЗІЯ́НСТВА** (ад *картэзіянцы*) — філасофскае вучэнне Р.Дэкарта, прадстаўніка *дуалізму*, якое характарызавалася механістычным дэтэрмінізмам, рацыяналізмам і скептыцызмам.

**КАРТЭЗІЯ́НЦЫ** [ад лац. Cartesius = лацінізаваная форма прозвішча фр. філосафа R.Descartes (1596—1650)] — паслядоўнікі *картэзіянства*.

**КАРТЭ́ЛЬ** (фр. cartel, ад іт. cartello) — 1) аб'яднанне прадпрыемстваў якой-н. галіны прамысловасці з мэтай забяспечыць панаванне на рынках збыту; 2) *уст.* пісьмовы выклік на дуэль.

**КА́РТЭР** (англ. carter) — металічная каробка, якая засцерагае рухавік унутранага згарання ад пашкоджання і забруджвання.

**КАРТЭ́РЫЯ** (н.-лац. carteria) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. хламідаманадавых, якая трапляецца ў неглыбокіх прэсных вадаёмах, азёрах.

**КАРТЭ́СЫ** (ісп. cortes) — *парламент* у Іспаніі, а таксама ў Партугаліі да 1911 г.

**КАРУМПІ́РАВАНЫ** (ад *карумпіраваць*) — прасякнуты карупцыяй.

**КАРУМПІ́РАВАЦЬ** (лац. corrumpere) — падкупляць каго-н. грашыма або іншымі матэрыяльнымі дабротамі (гл. *карупцыя*).

**КАРУ́НД** (ням. Korund, ад санскр. kuruvinda = рубін) — вельмі цвёрды мінерал, разнавіднасцямі якога з'яўляюцца *рубін, сапфір, тапаз*.

**КАРУ́НКІ** (ст.-польск. koronki, korunki) — тэкстыльныя ажурнасеткавыя вырабы, у якіх узор утвараецца перапляценнем нітак (ільняных, шаўковых і інш.); выкарыстоўваюцца для аздобы бялізны, адзення.

**КАРУ́ПЦЫЯ** (лац. corruptio) — подкуп, прадажнасць службовых асоб, палітычных дзеячаў і чыноўнікаў дзяржаўнага апарату.

**КАРУСЕ́ЛЬ** (фр. carrousel, ад іт. carosello) — 1) апарат з сядзеннямі ў форме конікаў, экіпажаў, лодак, якія верцяцца вакол сваёй восі і служаць для катання ў парках, на народных гуляннях; 2) від коннага спаборніцтва.

**КАРЦЕ́Ч** (польск. kartacz, ад ням. Kartätsche) — 1) начынены круглымі кулямі артылерыйскі снарад для паражэння жывой сілы праціўніка, а таксама кулі такога снарада; 2) буйны шрот для паляўнічай стрэльбы.

**КАРЦЫНАЛО́ГІЯ** (ад гр. karkinos = рак + *-логія*) — раздзел *заалогіі*, які вывучае ракападобных.

**КАРЦЫНО́МА** (ад гр. karkinos = рак + *-ома*) — злаякасная пухліна (рак), якая развіваецца з эпітэліяльнай тканкі ў чалавека і жывёл.

**КА́РЦЭР** (лац. carcer) — цёмнае і цеснае памяшканне для часовага адзіночнага зняволення (у турмах і інш.).

**КАРШЫКАВІЕ́ЛА** (н.-лац. korschikoviella) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. харацыевых, якая трапляецца ў *планктоне* азёр, рэк, вадасховішчаў.

**КА́РЫ** (цюрк. kara) — 1) карычневы (пра колер вачэй); 2) *уст.* буры, вараны (пра масць каня).

**КАРЫБА́НТЫ** (гр. korybantes) — 1) фрыгійскія жрацы багіні Кібелы, якія суправаджалі рэлігійную службу спевамі і танцамі; 2) камедыйныя акцёры.

**КАРЫ́БУ** (індз. karibu) — паўночнаамерыканскі дзікі алень.

**КАРЫГІ́РАВАЦЬ** (лац. corrigere) — уносіць папраўкі, выпраўляць.

**КАРЫ́ДА**[1] (ісп. corrida) — масавае відовішча, папшыранае ў Іспаніі і некаторых іншых краінах — бой *тарэадора* з быком.

**КАРЫ́ДА**[2] (ісп. corrido) — народная балада на надзённыя тэмы ў краінах Лац. Амерыкі.

**КАРЫЁЗ, КА́РЫЕС** (лац. caries = гніенне) — запаленчы працэс у цвёрдай тканцы касцей, які суправаджаецца гніеннем (напр. к. зубоў); кастаеда.

**КАРЫЁЗНЫ, КА́РЫЕСНЫ** (лац. cariosus = гнілы) — пашкоджаны *карыёзам.*

**КАРЫЁЛ** (н.-лац. coriolus) — губавы *базідыяльны* грыб сям. порыевых, які пасяляецца на мёртвай драўніне, на ламаччы, лесаматэрыялах, выклікае белую гніль драўніны.

**КАРЫЁЛЕЛ** (н.-лац. coriolellus) — губавы *базідыяльны* грыб сям. порыевых, які расце на пнях, адмерлых ствалах, апрацаванай драўніне ў пабудовах, на агародах, мастах.

**КАРЫЁН** (фр. carillon = *літар.* перазвон) — 1) музычная п'еса, якая імітуе перазвон; 2) ударны музычны інструмент, які ўяўляе сабой набор настроеных званоў.

**КАРЫЁТА** (н.-лац. caryota) — расліна сям. пальмавых, пашыраная ў тропіках Азіі і Аўстраліі; дае будаўнічы матэрыял, крухмал, з соку суквеццяў вырабляюць віно.

**КАРЫКАТУ́РА** (іт. caricatura, ад лац. caricare = перагружаць, перабольшваць) — 1) сатырычны паказ з'яў рэчаіснасці ў мастацкай літаратуры, кіно, тэатры, на эстрадзе, а таксама малюнак каго-н., чаго-н. у падкрэслена смешным выглядзе; 2) *перан.* смешнае, недасканалае падабенства да каго-н., чаго-н.

**КАРЫНЕБАКТЭРЫЁЗ** (ад *карынебакатэрыі*) — інфекцыйная хвароба жывёл і чалавека, якая выклікаецца карынебактэрыямі.

**КАРЫНЕБАКТЭ́РЫІ** (ад гр. koryne = булава + *бактэрыі*) — група палачкападобных бактэрый, якія ўтвараюць булавападобныя, кокавыя або слабагалінастыя формы.

**КАРЫНЕ́Й** (н.-лац. coryneum) — недасканалы грыб сям. меланконіевых, які развіваецца на адмерлых галінках дрэвавых парод, на лісці яблыні, грушы, вішні, слівы, дуба, клёна і іншых дрэў.

**КАРЫ́НКА** (фр. corinthe, ад лац. Corinthus < гр. Korinthos = Карынф) — чорны дробны вінаград без костачак.

**КАРЫ́НФСКІ** (гр. korinthos); к. о р д э р — архітэктурны ордэр, які склаўся ў старажытнагрэчаскім горадзе Карынфе; вызначаецца

высокай капітэллю, упрыгожанай стылізаванымі лістамі аканта і завіткамі, што падтрымліваюць вуглы абака.

**КАРЫФЕ́Й** (гр. coryphée, ад гр. koryphaios = правадыр) — выдатны дзеяч у якой-н. галіне дзейнасці (напр. к. навукі, к. сусветнай літаратуры).

**КАРЫФЕ́НА** (н.-лац. coryphaena) — рыба атрада акунепадобных даўжынёй 0,7—2 м, якая пашырана ў верхніх слаях трапічных водаў усіх акіянаў; аб'ект промыслу.

**КА́РЫЯ** (н.-лац. carya, ад гр. karyon = арэх) — дрэва сям. арэхавых, пашыранае ў Паўн. Амерыцы, Цэнтр. і Усх. Азіі; плады некаторых відаў выкарыстоўваюцца ў кандытарскай прамысловасці; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўнае.

**КАРЫЯ-** (гр. karyon = арэх, ядро арэха) — першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае «які адносіцца да клетачнага ядра».

**КАРЫЯГА́МІЯ** (ад *карыя-* + *-гамія*) — зліццё ядзер мужчынскіх і жаночых палавых клетак (*гамет*) у ядро *зіготы* ў працэсе апладнення.

**КАРЫЯГРА́МА** (ад *карыя-* + *-грама*) — графічнае выражэнне *карыятыпа*.

**КАРЫЯКІНЕ́З** (ад *карыя-* + *-кінез*) — тое, што і *мітоз*.

**КАРЫЯЛІ́ЗІС** (ад *карыя-* + гр. lysis = распад) — 1) растварэнне клетачнага ядра; апошні этап *некрабіёзу*, які папярэднічае смерці клеткі; 2) знікненне структуры клетачнага ядра ў перыяд паміж дзвюма фазамі яго падзелу.

**КАРЫЯЛІ́МФА** (ад *карыя-* + *лімфа*) — тое, што і *карыяплазма*.

**КАРЫЯЛО́ГІЯ** (ад *карыя-* + *-логія*) — раздзел *цыталогіі*, які вывучае клетачнае ядро і яго састаўныя элементы (храмасомы, ядзерную абалонку і інш.).

**КАРЫЯПЛА́ЗМА** (ад *карыя-* + *плазма*) — змесціва (*пратаплазма*) ядра жывёльнай або раслінай клеткі (параўн. *цытаплазма*).

**КАРЫЯРА́ХНА** (н.-лац. coriarachne) — павук сям. бакаходаў, які жыве пад карой дрэў, часам пад камянямі на ўскрайку лесу.

**КАРЫЯРЭ́КСІС** (ад *карыя-* + гр. reksis = разрыў) — распад клетачнага ядра на часткі; адзін з прамежкавых этапаў *некрабіёзу*, які папярэднічае гібелі клетак.

**КАРЫЯСІСТЭМА́ТЫКА** (ад *карыя-* + *сістэматыка*) — раздзел сістэматыкі, які вывучае структуры клетачнага ядра ў розных груп арганізмаў.

**КАРЫЯТАКСАНО́МІЯ** (ад *карыя-* + *таксаномія*) — тое, што і *карыясістэматыка*.

**КАРЫЯТЫ́ДА** (гр. karyatis, -idos = карыйская дзяўчына, жрыца храма Артэміды ў Карыі) — *архіт.* скульптурная выява жанчыны, якая служыць апорай перакрыцця ў будынку.

**КАРЫЯТЫ́П** (ад *карыя-* + *тып*) — сукупнасць *храмасом* дыплоіднага набору, характэрнага для клетак дадзенага віду раслінных або жывёльных арганізмаў.

**КАРЭ́** (фр. carré = *літар.* квадрат) — 1) баявое пастраенне пяхоты ў выглядзе чатырохвугольніка, якое прымянялася ў еўрапейскіх арміях 17—19 ст. для адбіцця атак

кавалерыі; 2) *перан.* што-н. у форме чатырохвугольніка (напр. гарлавіна жаночай кашулі).

**КАРЭА́ЛЬНЫ** (ад лац. correus = саўдзельнік) — які датычыць абавязацельства, што ўскладае адказнасць за выкананне яго на ўсіх даўжнікоў разам і на кожнага з іх паасобку.

**КАРЭ́КТАР** (лац. corrector = папраўшчык) — работнік выдавецтва, які займаецца чытаннем і праўкай *карэктуры*.

**КАРЭ́КТНЫ** (ад лац. correctus = папраўлены) — ветлівы, тактоўны (напр. к-ая заўвага, к-ыя паводзіны).

**КАРЭКТУ́РА** (лац. correctura) — 1) выпраўленне памылак у друкарскім наборы; 2) адбітак з друкарскага набору, прызначаны для выпраўлення памылак.

**КАРЭКТЫ́Ў** (фр. correctif, ад лац. correctus = папраўлены) — частковае змяненне чаго-н., папраўка (напр. унесці карэктывы ў план).

**КАРЭКЦІ́РАВАЦЬ** (рус. корректировать, ад лац. correctus = папраўлены) — 1) уносіць папраўкі ў што-н. (напр. к. стральбу); 2) выпраўляць памылкі ў друкарскім наборы (*карэктуры*).

**КАРЭ́КЦЫЯ** (лац. correctio) — выпраўленне, частковае змяненне чаго-н. (напр. к. зроку).

**КАРЭЛО́МЕТР** [ад *карэл(яцыя)* + *-метр*] — прыбор для вымярэння (вылічэння) карэляцыйных функцый выпадковых працэсаў.

**КАРЭЛЯ́Т** (ад лац. con- = разам + relatus = аднесены) — адзін з суадносных, узаемна звязаных паміж сабой членаў *карэляцыі*.

**КАРЭЛЯ́ТАР** (ад с.-лац. correlatio = карэляцыя) — прыбор для аўтаматычнага вылічэння ўзаемнай сувязі незалежных працэсаў.

**КАРЭЛЯТЫ́ЎНЫ** (н.-лац. correlativus) — які знаходзіцца ў *карэляцыі* з чым-н., суадносны (напр. к-ыя пары слоў).

**КАРЭЛЯ́ЦЫЯ** (с.-лац. correlatio) — узаемная сувязь, суадноснасць прадметаў, паняццяў або з'яў.

**КАРЭО́ПСІС** (н.-лац. coreopsis, ад гр. kore = зрэнка + opsis = выгляд) — травяністая расліна сям. складанакветных з жоўтымі, цёмна-пурпуровымі або карычневымі кветкамі ў кошыках, пашыраная ў Паўн. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**КАРЭСПАНДАВА́ЦЬ** (польск. korespondować, ад с.-лац. correspondere = адпавядаць) — 1) адпавядаць чаму-н., суадносіцца з чым-н.; 2) перапісвацца з кім-н.

**КАРЭСПАНДЭ́НТ** (с.-лац. correspondens, -ntis = які адпавядае) — 1) супрацоўнік газеты, часопіса, радыё, тэлебачання, які дасылае ім звесткі пра бягучыя падзеі; 2) асоба, якая вядзе з кім-н. перапіску; 3) асоба або ўстанова (фірма, банк), якая выконвае фінансавыя, камерцыйныя даручэнні для другой асобы або ўстановы (за кошт апошніх).

**КАРЭСПАНДЭ́НЦЫЯ** (с.-лац. correspondentia) — 1) паведамленне, допіс, дасланыя ў газету, часопіс; 2) пісьмы, паштова-тэлеграфныя адпраўленні; 3) перапіска паміж асобамі, установамі.

**КАРЭ́ТА** (польск. kareta, ад іт. carretta) — закрыты чатырохколы конны экіпаж на рысорах.

# К

**КАРЭ́ТКА** (ад іт. carretta = каляска) — рухомая частка некаторых механізмаў, машын, апаратаў (напр. к. пішучай машынкі).

**КАРЭ́ТТА** (н.-лац. caretta) — паўзун атрада марскіх чарапах, які водзіцца ў тропіках і субтропіках.

**КАРЭХІДО́Р** (ісп. corregidor, ад corregir = выпраўляць) — каралеўскі чыноўнік у Іспаніі часоў феадалізму, які выконваў функцыі адміністратара і суддзі ў гарадах і правінцыях.

**КА́СА** (іт. cassa) — 1) установа або аддзяленне ва ўстанове, на прадпрыемстве для прыёму і выдачы грошай (напр. ашчадная к., білетная к.); 2) скрынка, шафа для захоўвання грошай; 3) наяўныя грошы ўстановы, прадпрыемства, арганізацыі; 4) раздзеленая на ячэйкі скрынка са шрыфтам для набору.

**КАСАВА́ЦЬ** (польск. kasować, ад лац. cassare) — 1) закрэсліваць, выкрэсліваць што-н.; 2) *перан.* адмяняць што-н. (напр. к. кантракт).

**КАСА́НДРА** (гр. Kassandra = імя прарочыцы, дачкі траянскага цара Прыяма ў старажытнагрэчаскай міфалогіі) — вечназялёная кустовая расліна сям. верасовых, пашыраная ва ўмераных і халодных зонах Еўразіі і Паўн. Амерыкі; балотны верас.

**КАСА́ЦЫЯ** (с.-лац. cassatio = адмена, знішчэнне) — 1) заява, хадайніцтва аб пераглядзе прыгавору, а таксама перагляд, адмена вышэйшай судовай інстанцыяй прыгавору ніжэйшай (параўн. *апеляцыя* 1); 2) прызнанне выбараў несапраўднымі і адмена іх.

**КАСЕ́КАНС** (н.-лац. cosecans, ад complementi secans = секанс дапаўнення) — *мат.* адна з трыганаметрычных *функцый*, *секанс* дадатковага вугла.

**КАСЕ́ТА** (англ. cassette, фр. cassette, ад іт. cassetta) — 1) святлонепранікальны футляр для захавання святлоадчувальных матэрыялаў (фота- і кінастужак); 2) плоская каробка для магнітафоннай ленты; 3) прыстасаванне, якое забяспечвае аптымальныя ўмовы для захавання і транспарціроўкі розных прыбораў і матэрыялаў.

**КАСІ́ДА** (ар. kasida) — верш панегірычнага, а таксама элегічнага або рэлігійна-павучальнага характару ў арабскай паэзіі.

**КАСІНУСО́ІДА** (ад *косінус* + *-оід*) — графік трыганаметрычнай *функцыі* y = cos x.

**КАСІ́Р** (іт. cassiere) — службовая асоба, якая загадвае *касай*, прымае і выдае грошы, прадае білеты і інш.

**КАСІТЭРЫ́Т** (ад гр. kassiteros = волава) — мінерал класа вокісаў і гідравокісаў цёмна-бурага, чырвонага, чорнага або жоўтага колеру; алавяная руда.

**КА́СІЯ** (лац. cassia, ад гр. kasia) — травяністая расліна сям. бабовых з жоўтымі кветкамі ў гронках, пашыраная ў тропіках і субтропіках, лісце і плады якой выкарыстоўваюцца як слабіцельны сродак.

**КА́СКА**[1] (фр. casque, ад ісп. casco) — металічны шлем для засцярогі галавы (у ваенных, пажарнікаў, будаўнікоў, шахцёраў і інш.).

**КА́СКА**[2] (іт. casco = шлем) — страхаванне перавозачных сродкаў (суднаў, самалётаў, аўтамабіляў, вагонаў, цыстэрн і інш.).

**КАСКА́Д** (фр. cascade, ад іт. cascata) — 1) вадаспад, які падае

ўступамі; 2) асобы цыркавы прыём падзення з каня; 3) *перан.* імклівы паток чаго-н. (напр. к. слоў).

**КАСКАДЗЁР** (фр. cascadeur) — 1) выканаўца цыркавога прыёму падзення з каня (*каскаду* 2); 2) дублёр артыста кіно, які выконвае тэхнічна цяжкія і небяспечныя трукі (бег па стрэхах вагонаў, саскокванне на хаду з каня і г.д.).

**КАСКЕ́ТКА** (фр. casquette) — лёгкі мужчынскі галаўны ўбор з казырком і акольшкам.

**КАСМАГО́НІЯ** (гр. kosmogonia = паходжанне свету) — раздзел *астраноміі*, які вывучае паходжанне і развіццё нябесных целаў і іх сістэм.

**КАСМАГРА́ФІЯ** (гр. kosmographia = апісанне свету) — *уст.* апісанне Сусвету ў кнігах; сукупнасць кароткіх звестак з *астраноміі, метэаралогіі, геаграфіі* і *геалогіі*.

**КАСМАДРО́М** (ад *космас* + *-дром*) — спецыяльна абсталяваная пляцоўка для запуску касмічных караблёў.

**КАСМАКЛА́ДЫУМ** (н.-лац. cosmokladium) — каланіяльная зялёная водарасць сям. касмарыевых, якая трапляецца ў сфагнавых балотах і дыстрофных вадаёмах.

**КАСМАЛО́ГІЯ** (ад *космас* + *-логія*) — вучэнне пра будову і развіццё Сусвету, а таксама раздзел *астраноміі*, прысвечаны гэтаму вучэнню.

**КАСМАНА́ЎТ** (ад *космас* + *-наўт*) — удзельнік палёту ў космас.

**КАСМАНА́ЎТЫКА** (ад *космас* + *-наўтыка*) — 1) сукупнасць галін навукі і тэхнікі, якія забяспечваюць асваенне космасу; 2) палёты ў касмічнай прасторы.

**КАСМАПАЛІ́Т** (гр. kosmopolites = грамадзянін свету) — 1) прыхільнік *касмапалітызму*; асоба, якая адмаўляе сваю прыналежнасць да якой-н. нацыянальнасці; 2) расліна або жывёла, якая жыве па ўсім зямным шары.

**КАСМАПАЛІТЫ́ЗМ** (ад гр. kosmopolites = грамадзянін свету) — *ідэалогія*, якая прапагандуе адмаўленне ад нацыянальнага суверэнітэту, абыякавыя адносіны да радзімы і нацыянальнай культуры.

**КАСМА́РЫУМ** (н.-лац. cosmarium) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. касмарыевых, якая пашырана ў прэсных вадаёмах.

**КАСМАТРО́Н** (ад *космас* + *-трон*) — прыбор для паскарэння руху *іонаў* (*пратонаў*).

**КАСМАФІ́ЗІКА** (ад *космас* + *фізіка*) — тое, што і *астрафізіка*.

**КАСМАХІ́МІЯ** (ад *космас* + *хімія*) — навука, якая вывучае хімічны састаў касмічных целаў і акаляючай іх прасторы, а таксама хімічныя працэсы, што працякаюць у космасе.

**КАСМАЦЭ́НТР** (ад *космас* + *цэнтр*) — цэнтр падрыхтоўкі і правядзення касмічных палётаў.

**КАСМЕТАЛО́ГІЯ** [ад *касметы(ка)* + *-логія*] — раздзел *медыцыны*, які вывучае ўрачэбную і дэкаратыўную касметыку.

**КАСМЕ́ТЫКА** [фр. cosmétique, ад гр. kosmetike (techne) = (майстэрства) упрыгожвання] — 1) вучэнне аб сродках і метадах падтрымання здаровага стану і прыгожага выгляду скуры і валасоў чалавека (напр. лячэбная к., дэкаратыўная к.); 2) сродкі для на-

дання свежасці і прыгажосці твару, целу (пудра, крэм, масаж і інш.).

**КАСМІ́ЧНЫ** (гр. kosmikos = сусветны) — 1) які адносіцца да *космасу*, звязаны з яго асваеннем (напр. к-ая прастора, к-ая ракета); 2) *перан.* велізарны, грандыёзны (к. маштаб).

**КАСО́НЕ** (іт. cassone) — драўляны сундук у сярэдневяковай Італіі, сценкі якога ўпрыгожваліся разьбой, жывапісам.

**КА́СТА** (парт. casta = род, пакаленне, ад лац. castus = чысты) — 1) грамадская група людзей у некаторых краінах Усходу, адасобленая паходжаннем, родам заняткаў і прававым становішчам сваіх членаў (напр. к. жрацоў); 2) *перан.* замкнутая грамадская групоўка, якая ахоўвае свае інтарэсы і адасобленасць (напр. акцёрская к.).

**КАСТАНЬЕ́ТЫ** (ісп. castanetas, ад лац. castanea = каштан) — музычны інструмент з дзвюх драўляных пласцінак, якімі рытмічна пастукваюць у час танца, надзеўшы на пальцы.

**КАСТНЕ́РЫЯ** (н.-лац. kaestneria) — павук сям. *лініфіідаў*, які жыве ва ўвільготненых лясах.

**КАСТО́Р** (гр. kastor = бабёр) — суконная тканіна з густым ворсам.

**КАСТРА́Т** (лац. castratus) — асобіна мужчынскага полу, якой зрабілі *кастрацыю*.

**КАСТРА́ЦЫЯ** (лац. castratio) — выразанне палавых залоз у жывёл і чалавека; лягчанне.

**КАСТРУ́ЛЯ** (рус. кастрюля, ад ням. Kasserolle) — металічная пасудзіна для прыгатавання ежы.

**КАСТРЫ́РАВАЦЬ** (лац. castrare) — рабіць *кастрацыю*; лягчаць.

**КАСТУМБРЫ́ЗМ** (ісп. costumbrisme, ад costumbre = звычай) — кірунак у літаратуры і выяўленчым мастацтве Іспаніі і Лац. Амерыкі 19 ст., заснаваны на паказе народнага быту.

**КАСТЭ́ЛА** (н.-лац. hemigrammus costelo) — рыба атрада карпападобных, якая водзіцца ў вадаёмах Паўд. Амерыкі; вядома як акварыумная.

**КАСТЭЛЯ́Н** (лац. castellanus = які жыве ў крэпасці) — *гіст.* 1) саноўнік высокага рангу ў сярэдневяковай Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім; 2) камендант замка.

**КАСТЭ́Т** (фр. casse-tête, ад casser = разбіваць + tête = галава) — халодная зброя ў выглядзе металічнай пласціны з адтулінамі; надзяваецца на пальцы і заціскаецца ў кулак, каб узмацніць удар.

**КАСХАЛВА́** (ад тур. koz + ар. helvasa) —сорт халвы з грэцкіх арэхаў на мёдзе.

**КАСЦЁЛ** (польск. kościół < чэш. kostel < ст.-в.-ням. kástel, ад лац. castellum) — каталіцкі храм.

**КАСЦЮ́М** (фр. costume) — 1) камплект мужчынскага адзення, які складаецца з пінжака, штаноў і часам камізэлькі, або жаночага — з жакета і спадніцы; 2) адзенне спецыяльнага прызначэння (напр. купальны к.).

**КАСЦЮМЕ́Р** (фр. costumier) — работнік тэатра, які рыхтуе *касцюмы* да спектакля і дапамагае акцёру апранацца.

**КАСЦЮМІ́РАВАЦЬ** (фр. costumier) — апранаць у тэатральны або маскарадны *касцюм*.

**КАТ**[1] (польск. kat) — 1) асоба, якая прыводзіць у выкананне смяротны прыгавор, мучыць на допыце; 2) *перан.* жорсткі мучыцель, прыгнятальнік.

**КАТ**[2] (гал. kat) — 1) разнавіднасць судна ў Даніі; 2) снасць для падымання якара на палубу пасля выцягвання яго з вады.

**КАТА-** (гр. kata = зверху ўніз) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «сыходны рух», «паніжэнне».

**КАТАБАЛІ́ЗМ** (ад гр. katabole = скіданне) — сукупнасць рэакцый абмену рэчываў у арганізме (*метабалізму*), якія суправаджаюцца распадам (*дысіміляцыяй*) складаных арганічных злучэнняў (проціл. *анабалізм*).

**КАТАВА́СІЯ** (гр. katabasion = сыходжанне) — 1) заключная песня ў царкоўным каноне, у час якой абодва кліросы сыходзяцца разам на сярэдзіну царквы; 2) *перан.* беспарадак, мітусня, неразбярыха.

**КАТАВА́ЦЬ** (польск. katować) — 1) моцна біць, мучыць на допыце; 2) *перан.* дакараць, прымушаць пакутаваць.

**КАТАГЕНЕ́З** (ад *ката-* + *-генез*) — 1) кірунак эвалюцыйнага працэсу ў бок спрашчэння будовы і функцыі арганізмаў; 2) змена асадачных горных парод пасля з'яўлення іх у выніку *дыягенезу* даператварэння ў метамарфічныя пароды.

**КАТАГЛЯЦЫЯ́Л** (ад *ката-* + *гляцыял*) — перыяд *дэградацыі* і знікнення ледніка на пэўнай тэрыторыі.

**КАТАДРО́МНЫ** (ад *ката-* + гр. dromos = бег); к - ы я   м і г р а ц ы і — рух рыб з рэк у мора для нераставання (напр. міграцыі рачнога вугра).

**КАТАДЫЯПТРЫ́ЧНЫ** (ад *ката-* + *дыяптрычны*); к - а я   с і с т э м а — аптычная сістэма, якая складаецца з люстэрак і *лінз.*

**КАТАКЛА́З** (гр. kataklasis = пераламленне, рассейванне) — дэфармацыя і раздрабленне мінералаў унутры горнай пароды, выклікаexisting ныя *тэктанічнымі* рухамі.

**КАТАКЛІ́ЗМ** (гр. kataklysmos = паводка, патоп) — раптоўны разбуральны пераварот у прыродзе або грамадстве (напр. вулканічныя катаклізмы, рэвалюцыйны к.).

**КАТАКО́МБЫ** (іт. catacombe, ад лац. catacumba = падземная грабніца) — падзямеллі з вузкімі, доўгімі заблытанымі хадамі, калідорамі; закінутыя каменяломні.

**КАТАЛА́ЗА** (гр. katallasso = змяняю) — *фермент*, які расшчапляе перакіс вадароду на ваду і малекулярны кісларод; абараняе арганізм ад атрутнага ўздзеяння перакісу вадароду, што ўтрымліваецца ў ім.

**КАТАЛЕ́КТЫКА** (гр. katalektikos = усечаны, скарочаны) — раздзел *паэтыкі*, які вывучае канцоўкі верша.

**КАТАЛЕКТЫ́ЧНЫ** (гр. katalektikos) — які датычыць *каталектыкі*, звязаны з ёю; к. в е р ш — верш з усечанай канцоўкай, без аднаго або двух ненаціскных складоў у апошняй стапе.

**КАТАЛЕ́ПСІЯ** (гр. katalepsis = схватванне, авалоданне) — стан поўнай нерухомасці, які ўзнікае ў чалавека пры моцным хваляванні, пад уздзеяннем *гіпнозу*, пры некаторых нервовых і псіхічных хваробах.

**КАТА́ЛІЗ** (гр. katalysis = разбурэнне) — узбуджэнне хімічнай рэакцыі або змяненне яе хуткасці пад уздзеяннем *каталізатараў*.

**КАТАЛІЗА́ТАР** (ад гр. katalysis = разбурэнне) — рэчыва, якое паскарае або запавольвае ход хімічнай рэакцыі, але само застаецца нязменным.

**КАТАЛІКО́С** (гр. katholikos = галоўны, усеагульны) — тытул патрыярхаў армяна-грыгарыянскай і грузінскай праваслаўных цэркваў.

**КАТАЛІТЫ́ЧНЫ** (гр. katalytikos = які садзейнічае разлажэнню) — які мае адносіны да *каталізу*.

**КАТАЛІЦЫ́ЗМ** (с.-лац. catholicismus, ад гр. katholikos = галоўны, усеагульны) — адзін з найбольш пашыраных кірункаў у *хрысціянстве* (побач з праваслаўем і *пратэстантызмам*), які ўзначальвае рымскі папа.

**КАТАЛО́Г** (лац. catalogus, ад гр. katalogos = спіс, пералік) — спіс якіх-н. прадметаў (кніг, карцін, музейных экспанатаў і інш.), складзены ў пэўным парадку (напр. бібліятэчны к.).

**КАТА́ЛЬПА** (англ. catalpa, ад індз. kutulpa = акрыленая галава) — лістападнае дрэва сям. бігноніевых з буйным лісцем, пашыранае ў Японіі, Кітаі і Паўн. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўнае.

**КАТАМАРА́Н** (англ. catamaran, ад тамільск. kattumaran = звязаныя калоды) — 1) парусное або маторнае судна з двух карпусоў, звязаных агульнай палубай, ці з аднаго корпуса з паплаўкамі-балансірамі за бартом; 2) невялікае спартыўнае судна, катэр такой жа формы.

**КАТАМАРФО́З** (ад *ката-* + *-марфоз*) — кірунак эвалюцыйнага працэсу, звязаны са зменай умоў асяроддзя і спрашчэннем агульнай будовы арганізма.

**КАТА́МНЕЗ** (гр. katamnemoneuo = запамінаю) — інфармацыя аб хворым, якая збіраецца пасля заканчэння папярэдняга назірання.

**КАТА́НГЕНС** (н.-лац. cotangens, ад лац. co = разам + tangens = датычны) — *мат.* адна з трыганаметрычных функцый, *тангенс* дадатковага вугла.

**КАТАНІЗА́ЦЫЯ** (ад фр. coton = бавоўна) — перапрацоўка лубянога валакна (ільну, канапель і інш.) у *катанін*.

**КАТАНІ́Н** (фр. cotonnine, ад coton = бавоўна) — бавоўнападобная маса, атрыманая з валокнаў ільну, канапель і інш.

**КАТАПТРЫ́ЧНЫ** (гр. katoptrikos = адбіты ў люстэрку); к. т э л е с к о п — адлюстравальны *тэлескоп*, у якім замест лінз выкарыстоўваюцца металічныя люстэркі.

**КАТАПУ́ЛЬТА** (лац. catapulta, ад гр. katapultes) — 1) тое, што і *баліста* 1; 2) механізм для ўзлёту самалётаў з палубы авіяносца і іншых невялікіх пляцовак; 3) прыстасаванне для аўтаматычнага выкідвання з лятальнага апарата лётчыка з далейшым спускам на парашуце.

**КА́ТАР** (польск. katar, ад гр. katarrhoos = сцяканне) — запаленне слізістай абалонкі якога-н. органа (напр. к. дыхальных шляхоў).

**КАТАРАБІЁНТЫ** (ад гр. katharos = чысты + *біёнты*) — жывёльныя арганізмы, якія жывуць у чыстых халодных водах з вялікай колькасцю растворанага кіслароду.

**КАТАРА́КТ** (гр. katarrhaktes = вадаспад) — 1) вадаспад вялікай шырыні пры невялікай вышыні падзення; 2) прыстасаванне для гашэння ваганняў і аслаблення ўдараў, якія ўзнікаюць у машынах, вагонах і інш.

**КАТАРА́КТА** (гр. katarrhaktes = вадаспад) — памутненне крышталіка вока, якое выклікае аслабленне і страту зроку.

**КАТАРА́ЛЬНЫ** (фр. catarrhal, ад гр. katarrhoos = сцяканне) — які мае адносіны да *катару*, звязаны з катарам (напр. к. кашаль).

**КАТАРА́НТУС** (н.-лац. catharanthus, ад гр. catharos = чысты + anthos = кветка) — вечназялёная паўкустовая расліна сям. кутравых, пашыраная ў тропіках; лекавая.

**КА́ТАРГА** (гр. katergon = галера) — 1) від пакарання за крымінальнае злачынства або палітычную дзейнасць — зняволенне з цяжкай прымусовай працай, а таксама месца такой працы; 2) *перан.* цяжкая праца, невыноснае жыццё.

**КАТАРО́БЫ** (ад гр. katharos = чысты + bius, biontos = які жыве) — тое, што і *катарабіёнты*.

**КА́ТАРСІС** (гр. katharsis = ачышчэнне) — 1) паняцце антычнай эстэтыкі, ачышчэнне эмоцый мастацтвам; 2) адзін з метадаў *псіхатэрапіі* ў псіхааналізе З.Фрэйда.

**КАТА́РЫ** (гр. kataros = чысты) — паслядоўнікі пашыранай у Зах. Еўропе 11—13 ст. *ерасі*, якія прапаведавалі *аскетызм*, не прызнавалі царкоўнай *іерархіі*, выступалі супраць феадальнага прыгнёту.

**КАТАСКО́ПІУМ** (н.-лац. catoscopium) — лістасцябловы мох сям. катаскопіевых, які трапляецца на нізінных балотах.

**КАТА́СТРАФА** (гр. katastrophe = паварот, пераварот) — сітуацыя, якая разгортвае і завяршае *кульмінацыю* дзеяння ў літаратурным творы.

**КАТАСТРАФІ́ЗМ** (фр. catastrophisme, ад гр. katastrophe = пераварот, знішчэнне) — вучэнне, паводле якога развіццё зямной кары і арганічнага свету адбываецца ў выніку перыядычных сусветных геалагічных катастроф і патопаў, што наступаюць пасля працяглага перыяду спакою; тэорыя катастроф.

**КАТАСТРО́ФА** (гр. katastrophe = пераварот, знішчэнне) — раптоўнае бедства, стыхійная падзея з трагічнымі вынікамі (для чалавека, грамадства, прыроды).

**КАТАТО́НІЯ** (ад гр. katatonos = нацягнуты) — нервова-псіхічны разлад, які характарызуецца рухальнымі парушэннямі або ўзбуджанасцю, нечаканымі ўчынкамі і інш.

**КАТАТЭРМАМЕ́ТРЫЯ** (ад *ката-* + *тэрмаметрыя*) — сумарная ацэнка вільготнасці і хуткасці руху паветра па паказаннях *кататэрмометра*.

**КАТАТЭРМО́МЕТР** (ад *ката-* + *тэрмометр*) — спіртавы тэрмометр для вымярэння ахаладжэння, якое выклікаецца паветрам.

**КАТАФА́ЛК** (іт. catafalco) — 1) пахавальная павозка; 2) узвышэнне, падстаўка для труны.

**КАТАФАРЭ́З** (н.-лац. cataphoresis, ад гр. kataphora = скіданне) — рух дадаткова нагружаных калоідных часцінак у напрамку *катода*

пад уздзеяннем электрычнага поля (параўн. *анафарэз, электрафарэз*).

**КАТАФАТЫ́ЧНЫ** (гр. kataphatikos = сцвярджальны); к а я т э а л о г і я — *тэалогія*, якая апісвае бога пры дапамозе пазітыўных атрыбутаў і абазначэнняў (у адрозненне ад *апафатычнай* тэалогіі).

**КАТАФІЛАКСІ́Я** (ад *ката-* + гр. phylaksis = ахова) — паніжаная стойкасць пашкоджаных тканак чалавека і жывёл да дзеяння хваробатворных мікробаў.

**КАТАФРО́НТ** (ад *ката-* + *фронт*) — атмасферны фронт, які характарызуецца сыходным рухам цёплага паветра (проціл. *анафронт*).

**КАТАХРЭ́ЗА** (гр. katachresis = злоўжыванне) — стылістычны прыём спалучэння супярэчлівых, лагічна несумяшчальных паняццяў, што стварае своеасаблівае сэнсавае адзінства (напр. «чырвонае чарніла», «чорнае золата»).

**КАТЛЕ́ТА** (фр. côtelette) — страва з мяснога або рыбнага фаршу (часам з агародніны, кашы), запечанага ў форме прадаўгаватага піражка.

**КАТЛЕ́Я** [н.-лац. cattleva, ад англ. W.Cattley = прозвішча англ. натураліста (памёр у 1832 г.)] — расліна сям. архідных, якая расце на дрэвах і скалах у тропіках Амерыкі; вырошчваецца ў аранжарэях.

**КАТО́Д** (гр. kathodos = шлях уніз) — *фіз. электрод* з адмоўным зарадам (проціл. *анод*).

**КАТОДАЛЮМІНЕСЦЭ́НЦЫЯ** (ад *катод* + *люмінесцэнцыя*) — свячэнне рэчыва (*люмінафораў*) пад дзеяннем катодных прамянёў (струменю электронаў ад катода); выкарыстоўваецца ў *асцылографах*, тэлевізійных трубках і інш.

**КАТО́ЛІК** (лац. catholicus, ад гр. katholikos = усеагульны, галоўны) — той, хто прыняў *каталіцызм* і прытрымліваецца абрадаў каталіцкай царквы.

**КАТО́ПТРЫКА** (гр. katoptrikos = адбіты ў люстэрку) — раздзел *оптыкі*, які вывучае будову адлюстраванняў ад люстраных паверхняў.

**КАТРЭ́Н** (фр. quatrain, ад quatre = чатыры) — страфа з чатырох вершаваных радкоў; чатырохрадкоўе.

**КАТУ́РНЫ** (лац. cothurni, ад гр. kothornoi) — 1) абутак з высокай падэшвай, які надзявалі антычныя акцёры, каб надаць паставе велічнасць; 2) *перан.* пыхлівасць, надзьмутасць.

**КАТЫЁН** (гр. kation = які ідзе ўніз) — дадатна зараджаны *іон*, які ў час *электролізу* рухаецца да адмоўнага электрода (*катода*).

**КАТЫЛАЗА́ЎРЫ** (н.-лац. catylosauria, ад гр. kotyle = чашка + sauros = яшчарка) — атрад прымітыўных вымерлых паўзуноў, якія існавалі ў пермскі перыяд *палеазою* і трыясавы перыяд *мезазою*.

**КАТЫЛЬЁН** (фр. cotillon) — даўнейшы бальны танец, у якім чаргуюцца элементы кадрылі, вальса, мазуркі, полькі, а таксама музыка да гэтага танца.

**КАТЫЛЯ́РЫЯ** (н.-лац. catillaria) — накіпны сумчаты лішайнік сям. лецыдзеевых, які пасяляецца на драўняных і камяністых субстратах.

**КАТЫ́НГІ** (н.-лац. catingidae, з індз.) — сямейства птушак атрада вераб'іных, якія пашыраны ў Паўд. і Цэнтр. Амерыцы.

**КАТЫЯНІ́Т** (ад *катыён*) — *іаніт*, здольны абменьваць сваe дадатна зараджаныя іоны на іоны знешняга асяроддзя.

**КАТЭГАРЫ́ЧНЫ** (лац. categoricus, ад гр. kategorikos = які сцвярджае) — рашучы, безагаворачны (напр. к-ае патрабаванне); к-ае суджэнне — лагічнае суджэнне тыпу «А ёсць Б», у якім адносіны паміж суб'ектам і прэдыкатам не абмяжоўваюцца якімі-н. умовамі (параўн. *дыз'юнктыўны*).

**КАТЭГО́РЫЯ** (лац. categoria, ад гр. kategoria = выказванне, суджэнне) — 1) навуковае паняцце, якое выражае найбольш агульныя і істотныя сувязі з'яў рэчаіснасці (напр. к. прычыннасці); 2) група з'яў, прадметаў або асоб, аб'яднаных агульнымі прыкметамі (напр. узроставая к.).

**КАТЭ́ДЖ** (англ. cottage) — невялікі жылы дом у прыгарадзе, звычайна з мансардай і зямельным участкам.

**КАТЭ́ДЭР-САЦЫЯЛІ́ЗМ** (ням. Katheder-socializmus, ад Katheder = кафедра + Socializmus = сацыялізм) — кірунак у нямецкай палітычнай эканоміі 2-й пал. 19 ст., прадстаўнікі якой прапаведавалі з універсітэцкіх кафедр буржуазны *рэфармізм*.

**КАТЭНА́НЫ** (ад лац. catena = ланцуг) — хімічнае злучэнне з дзвюх або больш цыклічных малекул, звязаных паміж сабой як звёны ланцуга.

**КАТЭНА́РЫЯ** (н.-лац. catenaria) — ніжэйшы грыб сям. бластакладыевых, які развіваецца на раслінных і жывёльных рэштках, паразітуе на беспазваночных жывёлах, водарасцях.

**КАТЭНО́ІД** (ад лац. catena = ланцуг + *-оід*) — *мат.* паверхня, якая ўтвараецца вярчэннем ланцуговай лініі вакол прамой, што з'яўляецца воссю гэтай лініі.

**КАТЭПСІ́НЫ** (ад гр. kathepso = пераварваю) — *ферменты*, якія каталізуюць расшчапленне пептыдаў і бялкоў у клетках і тканках жывых арганізмаў.

**КА́ТЭР** (англ. cutter) — 1) невялікае самаходнае судна для розных мэт (спартыўных, прамысловых, ваенных і інш.); 2) ваенна-марская парусна-грабная шлюпка.

**КАТЭРЫ́Я** (фр. coterie = гурток) — 1) узброены атрад наёмнікаў у сярэдневяковай Еўропе; 2) *уст.* група асоб, якая ставіла перад сабой якія-н. своекарыслівыя мэты.

**КА́ТЭТ** (гр. kathetos = адвес) — *мат.* старана прамавугольнага трохвугольніка, што прылягае да прамога вугла.

**КАТЭТО́МЕТР** (ад гр. kathetos = адвес + *-метр*) — *фіз.* прыбор для вымярэння вертыкальнай адлегласці паміж двума пунктамі.

**КАТЭ́ТЭР** (гр. katheter = зонд) — *мед.* спецыяльная трубка, якая ўводзіцца ў каналы і поласці цела для іх апаражнення, прамывання або з дыягнастычнай мэтай.

**КАТЭХІ́ЗІС** (гр. katechesis = вуснае настаўленне) — рэлігійная кніга, якая змяшчае кароткі выклад хрысціянскага веравучэння ў пытаннях і адказах.

**КАТЭХІ́НЫ** (ад *катэху*) — біялагічна актыўныя рэчывы раслінага паходжання, якія змяшчаюцца пераважна ў чаі, вінаградзе, бабах какавы і рэгулююць пранікальнасць крывяносных капіляраў.

# К

**КАТЭ́ХУ** (н.-лац. catechu, ад малайск. katju) — *экстракт*, які атрымліваюць з акацыі катэху, што расце ў Індыі і Шры Ланка; выкарыстоўваецца як дубільнае рэчыва і тэкстыльны фарбавальнік.

**КАТЭЭЛЕКТРАТО́Н** [ад *кат(од)* + *электратон*] — стан павышанай узбуджанасці на ўчастку, дзе прыкладаюць катод пры прапусканні пастаяннага току па нерву або іншай узбуджальнай тканцы.

**КАУДА́ЛЬНЫ** (ад лац. cauda = хвост) — *анат.* размешчаны на падоўжнай восі цела чалавека або жывёлы бліжэй да хваста (пра які-н. орган; проціл. *краніяльны*).

**КАУДЫ́ЛЬЁ** (ісп. caudillo = правадыр) — 1) афіцыяльны тытул Ф.Франка ў Іспаніі 1939—1975 гг.; 2) *дыктатар* у некаторых краінах Лац. Амерыкі.

**КАУЗАЛГІ́Я** (ад гр. kausis = смыленне + algos = боль) — хваравіты стан чалавека, пры якім адчуваецца нясцерпны боль у месцах паражэння нерваў.

**КАУЗА́ЛЬНЫ** (лац. causalis) — прычынны, абумоўлены прычыннай сувяззю.

**КАУЛЕ́РПА** (н.-лац. caulerpa, ад гр. kaulos = сцябло + herpo = паўзу) — зялёная водарасць класа сіфонавых, якая пашырана ў трапічных і субтрапічных морах.

**КАУЛІФЛО́РЫЯ** (ад лац. caulis – сцябло + flos, floris = кветка) — утварэнне кветак непасрэдна на ствале або на старых галінках раслін; уласціва для абляпіхі, какавы, хурмы і інш.

**КАЎБО́Й** [англ. cowboy, ад cow = карова + boy = юнак] — конны пастух у стэпах Паўн. Амерыкі.

**КАЎЛІ́НІЯ** (н.-лац. caulinia) — падводная травяністая расліна сям. наядавых з ніткападобным гнуткім сцяблом і вузкім лісцем, пашыраная пераважна ў цёплых і ўмерана цёплых зонах; на Беларусі трапляецца рэдка.

**КАЎНЕ́Р** (польск. kołnierz < с.-в.-ням. kolner, ад ст.-фр. collier) — верхняя частка адзення, якая аблягае шыю.

**КАЎПА́К** (тур., кр.-тат. kalpak) — 1) галаўны ўбор конусападобнай, авальнай або іншай формы (напр. к. клоуна, кухарскі к.); 2) накрыўка над чым-н. конусападобнай або акруглай формы (напр. шкляны к.).

**КА́ЎПЕР** [англ. E.Cowper = прозвішча англ. інжынера і вынаходцы (1819—1893)] — апарат для нагрэву паветра, што падаецца ў доменную печ.

**КАЎСТАБІЯЛІ́ТЫ** (ад гр. kaustos = гаручы + *біяліты*) — гаручыя выкапнёвыя горныя пароды арганічнага паходжання (вугаль, гаручыя сланцы, нафта, торф).

**КА́ЎСТЫК** (гр. kaustikos = пякучы) — тэхнічная назва едкіх шчолачаў.

**КА́ЎСТЫКА** (гр. kaustikos = пякучы) — лінія, якая агінае месца схаджэння прамянёў пасля пераламлення іх у лінзе або адбіцця ад люстэрка.

**КАЎСТЫ́ЧНЫ** (гр. kaustikos) — едкі, пякучы; к - а я  с о д а — тэхнічная назва едкага натрыю.

**КА́ЎТЭР** (гр. kauter = распаленае жалеза) — медыцынскі інструмент для прыпякання тканак арганізма.

**КАЎТЭРЫЗА́ЦЫЯ** (ад гр. kauter = распаленае жалеза) — метад ля-

чэбнага разбурэння тканак; прыпяканне.

**КАЎЧУ́К** (англ. caoutchouc, ад індз. kahuczuc) — рэчыва з соку некаторых раслін або штучнага паходжання, якое ўжываюць для вырабу гумы (напр. натуральны к., сінтэтычны к.).

**КАФ** (англ. caf, ад cost and freight = вартасць і фрахт) — від знешнегандлёвага дагавору, калі ў цану тавару ўключаюцца яго вартасць і вартасць марскіх перавозак (*фрахту*) да порта прызначэння.

**КА́ФЕДРА** (гр. kathedra = сядзенне) — 1) аб'яднанне выкладчыкаў аднаго або некалькіх навуковых прадметаў у вышэйшай навучальнай установе; 2) спецыяльнае ўзвышанае месца для прамоўцы, лектара, выкладчыка; 3) узвышэнне, з якога гаворацца пропаведзі ў хрысціянскай царкве.

**КАФЕІ́Н** (ням. Koffein, ад англ. coffee = кава) — рэчыва, якое змяшчаецца ў зярнятах *кофе*, чайным лісці; выкарыстоўваецца ў медыцыне як стымулятар дзейнасці цэнтральнай нервовай сістэмы.

**КАФЕРДА́М** (англ. coffer-dam) — адсек на гандлёвых суднах паміж танкамі і іншымі карабельнымі памяшканнямі.

**КАФЕРМЕ́НТЫ** (ад *ка-* + *ферменты*) — небялковая група малекул некаторых ферментаў, якая прымае ўдзел у ферментатыўных рэакцыях, што адбываюцца ў арганізмах (параўн. *апаферменты*).

**КАФІ́ЗМА** (гр. kaphisma) — назва кожнага з дваццаці раздзелаў, на якія падзелены *псалтыр*.

**КА́ФЛЯ** (польск. kafel, kafla, ад ням. Kachel) — керамічны выраб у выглядзе пліткі для абліцоўкі сцен, печаў і інш.

**КАФТА́Н** (тур., кр.-тат. kaftan, ад перс. kaftan) — даўнейшая верхняя мужчынская і жаночая вопратка з доўгімі поламі.

**КАФЭ́** (фр. café) — тое, што і *кавярня.*

**КАФЭТЭ́РЫЙ** (фр. cafeterie) — кавярня з самаабслугоўваннем.

**КАФЭШАНТА́Н** (фр. cafe chantant = *літар.* кафэ са спевамі) — *кавярня* з эстрадай, дзе выступаюць артысты з песнямі і танцамі лёгкага, часам непрыстойнага характару.

**КАХЕ́КСІЯ** (гр. kacheksia) — стан агульнага знясілення арганізму, які развіваецца пры галаданні або цяжкіх парушэннях абмену рэчываў, хранічных захворваннях.

**КАХІНХІ́НЫ** (фр. Cochinchine = еўрапейская назва Паўд. В'етнама) — парода курэй мяснога напрамку, выведзеная ў Паўд. В'етнаме.

**КАЦІ́РАВАЦЦА** (фр. se coter) — 1) быць у абароце на *біржы*, мець тую або іншую цану (аб каштоўных паперах, таварах, валюце); 2) *перан.* мець тую або іншую ацэнку ў вачах грамадства.

**КАЦІ́РАВАЦЬ** (ням. kotieren, ад фр. coter) — вызначаць біржавую цану (курс) каштоўных папер, тавараў, замежнай валюты.

**КА́ЦЫК** (ісп. cacique, з індз.) — 1) індзейскі правадыр у Цэнтр. Амерыцы да яе заваявання іспанцамі; 2) уплывовы палітык мясцовага маштабу ў некаторых краінах Лац. Амерыкі і ў Іспаніі.

**КА́ЧА** (іт. caccia = *літар.* паляванне, пагоня) — паэтычны і музыч-

ны твор, які ўзнік у Італіі ў 14 ст. і звязаны з адлюстраваннем сцэн палявання.

**КАЧАВА́ЦЬ** (цюрк. köč, köčmek) — весці неаселы спосаб жыцця, пераязджаць з месца на месца.

**КАЧУ́ЧА** (ісп. cachucha) — іспанскі народны танец.

**КАШАЛО́Т** (фр. cachalot, ад парт. cachalote) — буйное марское млекакормячае атрада кітоў.

**КАШАМІ́Р** гл. *кашмір*.

**КАШАНІ́ЛЬ** (фр. cochenille, ад ісп. cochinilla) — агульная назва некалькіх відаў насякомых падатрада *какцыдаў*, з якіх здабываюць чырвоную фарбу *кармін*.

**КАША́РА** (рум. caşara) — загон, агароджанае месца на полі, дзе летам трымаюць авечак, кароў.

**КАШМА́** (цюрк. košma) — посцілка з лямцу, зробленага з авечай воўны (пераважна ў качавых народаў).

**КАШМА́Р** (фр. cauchemar) — 1) цяжкі, жудасны сон; 2) *перан.* што-н. жахлівае, цяжкае, агіднае.

**КАШМІ́Р, КАШАМІ́Р** (фр. cachemire, ад Cachemire = назва штата ў Індыі) — лёгкая ваўняная, напаўваўняная або баваўняная тканіна.

**КАШНЭ́** (фр. cache-nez, ад cacher = хаваць + nez = нос) — шыйная хустка або шалік.

**КАШПО́** (фр. cache-pot, ад cacher = хаваць + pot = гаршчок) — дэкаратыўная ваза, звычайна керамічная, у якую ставяць кветкавы гаршчок.

**КАШТАВА́ЦЬ** (польск. kosztować, ад с.-в.-ням. kosten) — 1) мець тую або іншую грашовую вартасць, цану; абыходзіцца ў якую-н. суму; 2) *перан.* патрабаваць вялікіх намаганняў; 3) спрабаваць на смак; 4) *перан.* зведваць, зазнаваць (напр. к. гора).

**КАШТА́Н** (польск. kasztan < с.-в.-ням. kastāne < лац. castanea, ад гр. kastanon) — дрэва сям. букавых, пашыранае ў субтропіках, якое дае плады ў выглядзе буйнога арэха, а таксама плод гэтага дрэва.

**КАШТАРЫ́С** (польск. kosztorys, ад koszt) — фінансавы дакумент, дзе вызначаецца план прыбыткаў і выдаткаў.

**КАШТО́ЎНАСЦЬ** (ад *каштоўны*) — 1) каштоўная рэч; 2) важнасць, значнасць чаго-н.

**КАШТО́ЎНЫ** (ад *кошт*) — 1) які дорага каштуе, мае вялікую цану (напр. к-ыя камяні); 2) які мае важнае, істотнае значэнне (напр. к-ая прапанова).

**КАШЫРАВА́ЦЬ** (фр. cacher = затуляць) — апрацоўваць механічна кніжны блок.

**КАШЭ́РНЫ** (ад ідыш košer < ст.-яўр. kāšēr = чысты) — дазволены рэлігійнымі законамі для ўжывання ў ежу (у веруючых яўрэяў).

**КАЭВАЛЮ́ЦЫЯ** (ад *ка-* + *эвалюцыя*) — сумесная эвалюцыя розных, але біялагічна цесна звязаных відаў (напр. паразіты і іх гаспадары, драпежнікі і здабыча, апыляльнікі і апыляемыя расліны).

**КАЭНЗІ́МЫ** (ад *ка-* + *энзімы*) — тое, што і *каферменты*.

**КАЭРЦЫТЫМЕ́ТР** (ад лац. coercitio = стрымліванне + *-метр*) — прыбор для вымярэння каэрцытыўнай сілы (гл. *каэрцытыўны*).

**КАЭРЦЫТЫМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. coercitio = стрымліванне + *-метрыя*) — адзін са спосабаў магнітнага кантролю паўфабрыкатаў і вырабаў з ферамагнітных сплаваў, у аснову якога пакладзена вымярэнне іх каэрцытыўнай сілы (гл. *каэрцытыўны*).

**КАЭРЦЫТЫ́ЎНЫ** (ад лац. coercitio = стрымліванне); к а я с і л а — напружанасць магнітнага поля, якая памяншае магнетызм *ферамагнетыка* да нуля.

**КАЭСІ́Т** (ад англ. Coes = прозвішча амер. хіміка) — мінерал з групы *кварцу*, адна з найбольш шчыльных паліморфных мадыфікацый крэменязёму.

**КАЭФІЦЫЕ́НТ** (лац. coefficiens, -ntis = які ўтварае) — 1) лікавы множнік у алгебраічным выразе; 2) велічыня, якая колькасна вызначае якую-н. уласцівасць фізічнага цела (напр. к. цеплаправоднасці).

**КАЮ́К** (тур. kayik) — рачное вёслава-паруснае грузавое судна.

**КАЮ́Р** (ненец. kaoti) — паганяты запрэжаных у нарты сабак або аленяў.

**КАЮ́ТА** (рус. каюта, ад гал. kajuit) — жылое памяшканне для пасажыраў або для каманды на судне.

**КАЮ́Т-КАМПА́НІЯ** (ад *каюта* + *кампанія*) — агульнае памяшканне для каманды судна, якое служыць сталовай, месцам сходаў і адпачынку.

**КАЯ́К** (эскім. kajak) — лёгкая скураная аднамесная лодка з двухлопасцевым вяслом у эскімосаў і іншых народаў Поўначы.

**КВА́ГА** (н.-лац. quagga, з мовы гатэнтотаў) — жывёла сям. конепадобных, якая жыве ў Афрыцы.

**КВАДР** (іт. quagro = квадратны) — камень для кладкі сцен, абчэсаны ў выглядзе паралелепіпеда.

**КВА́ДРА** (польск. kwadra, ад лац. quadra = чатырохвугольнік) — 1) кожная з чатырох фаз Месяца (маладзік, сход, поўня, ветах); 2) *перан.* стадыя, фаза, перыяд (напр. к. жыцця).

**КВАДРА́НТ** (лац. quadrans, -ntis = чвэрць) — 1) плоскі сектар з цэнтральным вуглом у 90°, чацвёртая частка круга; 2) старадаўні вугламерны астранамічны прыбор для вызначэння вышыні нябесных цел; 3) *ваен.* прылада для вертыкальнай наводкі гарматы паводле зададзенага вугла ўзвышэння.

**КВАДРА́Т** (ням. Quadrat, ад лац. quadratus = чатырохвугольны) — 1) роўнастаронні прамавугольнік, а таксама ўсё, што мае такую форму; 2) здабытак ад памнажэння якога-н. ліку на самога сябе.

**КВАДРА́ТНЫ** (ад *квадрат*) — 1) які мае форму квадрата; 2) які мае адносіны да квадрата (напр. к. корань).

**КВАДРАТРЫ́СА** (лац. quadratrix, -icis = якая дзеліць на чатыры часткі) — геаметрычнае месца пунктаў перасячэння прамой, што паварочваецца вакол фіксаванага пункта, і прамой, якая раўнамерна перамяшчаецца паралельна да самой сябе.

**КВАДРАТУ́РА** (лац. quadratura) — 1) велічыня плошчы, якая вылічваецца ў квадратных адзінках (напр. к. пакоя); 2) пабудова квадрата, роўнавялікага дадзенай фігуры; 3) *астр.* адна з *канфігура-*

*цый* 3, такое становішча Сонца, Зямлі і знешняй планеты або Месяца, калі лінія, якая злучае цэнтры Зямлі і Сонца, складае прамы вугал з лініяй цэнтраў Зямлі і планеты або Месяца.

**КВАДРУПО́ЛЬ** (ад лац. quadrum = чатырохвугольнік + *полюс*) — сістэма чатырох электрычных зарадаў, якая складаецца з двух *дыполяў*, электрычныя моманты якіх роўныя па велічыні і процілеглыя па кірунку.

**КВАДРЫ́ВІУМ, КВАДРЫ́ВІЙ** (лац. quadrivium = *літар.* перасячэнне чатырох дарог) — павышаны курс адукацыі ў сярэдневяковай школе, які ішоў услед за *трывіумам* і ўключаў чатыры прадметы — музыку, арыфметыку, геаметрыю, астраномію.

**КВАДРЫ́ГА** (лац. quadriga) — двухколая антычная калясніца, запрэжаная чацвёркай коней у адзін рад..

**КВАДРЫЛЬЁН** (фр. quadrillion)— лік, які запісваецца ў выглядзе адзінкі з 15 нулямі, а ў некаторых краінах (напр. у Англіі, Германіі) — з 24 нулямі.

**КВАДРЫРЭ́МА** (лац. quadriremis, ад quattuor = чатыры + remus = вясло) — баявы карабель у Стараж. Рыме з чатырма радамі вёсел з кожнага борта.

**КВАЗА́Р** (англ. quasar, ад quasi-stellar radiosource = квазізоркавая радыекрыніца) — зоркападобная крыніца касмічнага выпрамянення, якая сілай святла ў многа разоў пераўзыходзіць Сонца.

**КВАЗІ-** (лац. quasi = нібы) — першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па значэнню словам «несапраўдны», «уяўны».

**КВАЗІІЗАТРАПІ́Я** (ад *квазі* + *ізатрапія*) — ізатрапія, якая выяўляецца толькі ў галінах горных парод, што змяшчаюць дастатковую колькасць структурных элементаў, арыентаваных ва ўсіх напрамках.

**КВАЗІ́МПУЛЬС** (ад *квазі-* + *імпульс*) — вектарная велічыня, аналагічная імпульсу, якая характарызуе стан квазічасцінкі ў перыядычных сістэмах.

**КВАЗІМО́ДА** (фр. Quasimodo = персанаж рамана В.Гюго «Сабор Парыжскай Богамацеры») — *перан.* пачварны чалавек.

**КВАЗІО́ПТЫКА** (ад *квазі-* + *оптыка*) — галіна *фізікі*, якая вывучае пашырэнне электрамагнітных хваляў з даўжынёй хвалі, меншай за 1—2 мм, ва ўмовах, калі пашырэнне хваляў падначальваецца законам геаметрычнай оптыкі, але дыфракцыйныя з'явы таксама маюць істотнае значэнне.

**КВАЗІРЫ́НАК** (ад *квазі-* + *рынак*) — сфера таварнага абмену, якая не базіруецца на сапраўдных рынычных адносінах і законах; ілжывы рынак.

**КВАЗІСТАТЫ́ЧНЫ** (ад *квазі-* + *статычны*); к. п р а́ ц э с — працэс у фізічнай або хімічнай сістэме, які працякае настолькі марудна, што стан сістэмы ў любы момант часу можна лічыць раўнаважным.

**КВА́КЕР** (англ. quaker = *літар.* той, хто трасецца) — член хрысціянскай рэлігійнай секты, пашыранай у Англіі і ЗША, якая адмаўляе святарства, прапаведуе пацыфізм.

**КВАЛІМЕ́ТРЫЯ** (ад лац. qualis = які па якасці + *-метрыя*) — галіна навукі, якая вывучае і рэалізуе ме-

тады колькаснай ацэнкі якасці прадукцыі.

**КВАЛІТАТЫ́ЎНЫ** (лац. qualitativus) — якасны (напр. к-ыя змены).

**КВАЛІФІКАВА́ЦЬ** (с.-лац. qualificare = акрэсліваць уласцівасці) — 1) вызначаць ступень падрыхтаванасці да працы (напр. к. рабочага); 2) характарызаваць прадмет, дзеянне, адносячы яго да якой-н. катэгорыі (напр. к. тавары, к. паводзіны).

**КВАЛІФІКА́ЦЫЯ** (с.-лац. qualificatio) — 1) ступень падрыхтаванасці чалавека да якой-н. працы (напр. спецыяліст высокай к-ыі); 2) рабочая прафесія, спецыяльнасць (напр. к. механіка); 3) характарыстыка прадмета, дзеяння, аднясенне яго да якой-н. катэгорыі (напр. к. тавараў масавага ўжытку).

**КВАНТ** (ням. Quant, ад лац. quantum = колькі) — найменшая колькасць, на якую можа змяняцца дыскрэтная па сваёй прыродзе фізічная велічыня (дзеянне, энергія і інш.).

**КВАНТАВА́ЦЬ** (ад лац. quantum = колькі) — праводзіць *дыскрэтызацыю.*

**КВАНТАМЕ́ТР** (ад *квант* + *-метр*) — прыбор, які аналізуе хімічны састаў рэчыва па яго выпраменьванню.

**КВА́НТАР** (ад лац. quantum = колькі) — *лог.* аператар, які пераводзіць адну слоўную форму ў другую.

**КВАНТЫТАТЫ́ЎНЫ** (с.-лац. quantitativus) — *кніжн.* колькасны; к-ае вершаскладанне — сістэма вершаскладання, заснаваная на колькасных суадносінах метрычных паказчыкаў у вершы.

**КВАНТЫФІКА́ЦЫЯ** (ад лац. quantum = колькі + *-фікацыя*) — колькаснае выражэнне якасных прымет (напр. ацэнка ў балах майстэрства спартсменаў).

**КВАРК** (англ. quark = нешта няпэўнае, містычнае — неалагізм ірландскага пісьменніка Дж.Джойса) — гіпатэтычная часціца, з якіх, як мяркуецца, складаюцца элементарныя часціцы (*адроны*).

**КВА́РТА** [польск. kwarta, ад лац. quarta (pars) = чацвёртая частка] — 1) невялікі металічны кубак для піцця; 2) даўнейшая мера вадкіх і сыпкіх рэчываў, роўная чацвёртай часціцы гарца (0,70577 л); 3) *муз.* чацвёртая ступень дыятанічнай гамы; інтэрвал, які ахоплівае 4 ступені.

**КВАРТА́Л** (польск. kwartał, ад с.-лац. quartalis) — 1) частка тэрыторыі горада, абмежаваная з чатырох бакоў вуліцамі; 2) чацвёртая частка года (3 месяцы); 3) адзін з квадратных участкаў, на якія разбіваецца лес.

**КВАРТЭРДЭ́К** (англ. quarterdeck) — прыўзнятая частка верхняй палубы ў кармавой частцы судна.

**КВАРТЭРО́Н** (ісп. cuarterón, ад лац. quartus = чацвёрты) — назва асобы ў Амерыцы, адзін з продкаў якой у трэцім пакаленні быў неграм.

**КВАРТЭ́Т** (іт. quartetto) — 1) музычны твор для чатырох інструментаў або галасоў; 2) ансамбль з чатырох выканаўцаў (музыкантаў або спевакоў).

**КВАРЦ** (ням. Quarz) — 1) найбольш распаўсюджаны мінерал, які сустракаецца ў выглядзе крышталёў і суцэльнай зярністай масы;

двухвокіс *крэмнію*; 2) апрамяненне кварцавай лямпай з лячэбнай мэтай (назначыць к.).

**КВАРЦЫ́Т** (ад *кварц*) — метамарфічная горная парода, якая складаецца пераважна з *кварцу*.

**КВАТАР'Е́Р** (ням. Quartierherr) — службовая асоба ў вайсковых часцях, якая пры перамяшчэнні войска пасылаецца ўперад для падрыхтоўкі кватэр або выбару *бівакоў*.

**КВАТАРМА́ЙСТАР** (ням. Quartiermeister) — службовая асоба ў арміях некаторых краін, якая займаецца размяшчэннем войск па кватэрах і забеспячэннем іх харчамі і фуражом.

**КВАТРАЧЭ́НТА** (іт. quattrocento = чатырыста) — італьянская назва 15 ст., перыяду ранняга Адраджэння ў італьянскай культуры.

**КВАТЭ́РА** (польск. kwatera, ад ням. Quartier) — 1) частка жылога дома, якая складаецца звычайна з некалькіх пакояў і мае асобны выхад; 2) памяшканне, якое часова наймаецца ў каго-н. для жылля; 3) *мн.* месца размяшчэння войск у населеным пункце.

**КВАТЭ́РКА** (польск. kwaterka) — даўнейшая мера вадкіх і сыпкіх рэчываў, роўная чацвёртай частцы *кварты* (0,17644 л).

**КВАТЭРНІЁНЫ** (фр. quaternion, ад лац. quaterni = па чатыры) — сістэма лікаў, што мае чатыры адзінкі, для якой справядлівыя ўсе асноўныя законы дзеянняў, акрамя *камутатыўнага* закона множання.

**КВЕБРА́ХА** (ісп. quebracho, ад quebrar = ламаць + hacha = сякера) — дрэва сям. анакардыевых, пашыранае ў Паўд. Амерыцы; дае цвёрдую, цяжкую драўніну і дубільны экстракт.

**КВЕЗА́ЛЬ** (ісп. quetzal, ад індз. quetsalli) — птушка атрада *трагонаў* з доўгімі верхнімі пёрамі, што цалкам закрываюць хвост, якая водзіцца ў горных лясах Цэнтр. Амерыкі.

**КВЕРУЛЯ́НТ** (ад лац. querulus = які скардзіцца) — суцяжнік, зводнік.

**КВЕРШЛА́Г** (ням. Querschlag) — 1) гарызантальная або нахільная падземная горная выработка, якая праходзіць па пустых пародах пад вуглом да месца залягання карысных выкапняў.

**КВЕ́СТАР** (лац. quaestor) — 1) службовая асоба ў Стараж. Рыме, якая ажыццяўляла розныя функцыі (адміністратыўныя, судовыя, фінансавыя); 2) службовая асоба, якая загадвае адміністрацыйна-гаспадарчай часткай у парламентах некаторых заходнееўрапейскіх краін; 3) паліцэйскі чын у Італіі.

**КВЕСТУ́РА** (лац. quaestura) — 1) пасада і абавязкі *квестара*; 2) мясцовае паліцэйскае ўпраўленне ў Італіі.

**КВІЕТЫ́ЗМ** (фр. quietisme, ад лац. quietis = спакойны, бестурботны) — 1) містычнае вучэнне ў *каталіцызме*, якое прапаведуе пакорлівасць, пасіўна-сузіральныя адносіны да жыцця; 2) непрацаўленне, пасіўныя адносіны да жыцця.

**КВІЗ** (англ. quiz) — радыё- або тэлевізійная гульня ў пытанні і адказы на розныя тэмы з прызамі для пераможцаў; літаратурная, музычная ці якая-н. іншая віктарына.

**КВІКСТЭ́П** (англ. quickstep = *літар.* хуткі крок) — разнавід-

насць хуткага факстроту, парны англійскі танец свабоднай кампазіцыі.

**КВІНА́РЫЙ** (лац. quinarius = пяціскладовы) — рымская сярэбраная манета, якую чаканілі з перапынкамі ад 269 г. да н.э. да 3 ст. н.э.

**КВІ́НТА** (лац. quinta = пятая) — 1) *муз.* пятая ступень *дыятанічнай* гамы; інтэрвал, які ахоплівае 5 ступеней; 2) самая высокая па тону струна скрыпкі.

**КВІНТА́Л** (ісп. quintal, ад ар. qintar) — мера вагі ў многіх краінах Лац. Амерыкі, роўная 100 *фунтам* (*лібрам*).

**КВІНТО́ЛЬ** (ад лац. quintus = пяты) — *муз.* пяцідольная рытмічная фігура.

**КВІНТЫЛЬЁН** (фр. quintillion) — лік, які запісваецца ў выглядзе адзінкі з 18 нулямі, а ў некаторых краінах (напр. у Англіі, Германіі) — з 30 нулямі.

**КВІНТЭСЕ́НЦЫЯ** (с.-лац. quinta essentia = пятая сутнасць) — аснова, самая сутнасць чаго-н.

**КВІНТЭ́Т** (іт. quintetto) — 1) музычны твор для пяці інструментаў або галасоў; 2) ансамбль з пяці выканаўцаў (музыкантаў або спевакоў).

**КВІНЦІ́ЛА** (ісп. quintillo, ад лац. quintus = пяты) — *страфа* з пяці вершаваных радкоў, злучаных дзвюма рыфмамі або *клаўзуламі*; пяцірадкоўе.

**КВІПРАКВО́** (лац. qui pro quo = *літар.* хто замест каго) — непаразуменне, што ўзнікла ў выніку таго, што адна асоба, паняцце, рэч прынята за другую; 2) *перан.* блытаніна, неверагодная прыгода.

**КВІРЫНА́Л** (лац. Quirinalis = назва аднаго з сямі пагоркаў, на якіх узнік Рым) — урад у манархічнай Італіі.

**КВІРЫ́ТЫ** (лац. quirites) — афіцыйная назва паўнапраўных грамадзян у Стараж. Рыме.

**КВІ́СЛІНГ** (нарв. W.Quisling = прозвішча лідэра фашысцкай партыі ў Нарвегіі ў 1933—1945 гг.) — *перан.* здраднік радзімы.

**КВІТ** (польск. kwit < с.-в.-ням. quit, ад с.-лац. quitus = вольны) — тое, што і *квітанцыя*.

**КВІТА́НЦЫЯ** (ст.-польск. kwitancyja, ад с.-лац. quietantia) — афіцыйная распіска ў атрыманні ад каго-н. грошай, каштоўнасцей, дакументаў (напр. паштовая к.).

**КВО́РУМ** [лац. quorum (praesentia sufficit) = якіх (прысутнасць дастатковая)] — колькасць прысутных на якім-н. сходзе, пасяджэнні, неабходная для прызнання яго рашэнняў сапраўднымі.

**КВО́ТА** (польск. kwota, ад с.-лац. quota) — 1) частка, пай, норма; 2) доля ўдзелу ў вытворчасці і збыце прадукцыі для кожнага з удзельнікаў якога-н. эканамічнага аб'яднання (напр. падатковая к.); 3) мінімум галасоў, неабходны для атрымання на выбарах аднаго дэпутацкага мандата.

**КЕБ** (англ. cab) — аднаконны экіпаж у Англіі.

**КЕ́ГЕЛЬ** (ням. Kegel) — памер друкарскай літары (у вышыню), вызначаны ў друкарскіх пунктах.

**КЕГЕЛЬБА́Н** (ням. Kegelbahn) — 1) памост для пастаноўкі *кегляў* і катання шароў; 2) памяшканне для гульні ў кеглі.

**КЕ́ГЛІ** (ням. Kegel) — 1) гульня, якая заключаецца ў збіванні шаром драўляных або пластмасавых слупкоў (кегляў), расстаўленых на спецыяльным памосце; 2) драўляныя або пластмасавыя слупкі для гэтай гульні.

**КЕДР** (гр. kedros) — вечназялёнае хвойнае дрэва сям. сасновых, пашыранае ў Міжземнамор'і, гарах Малой Азіі, Гімалаях; культывуецца як дэкаратыўнае.

**КЕ́ДЫ** (рус. кеды, ад англ. Kads = уласнае імя) — лёгкі спартыўны абутак з прарызіненай тканіны на мяккіх рабрыстых гумавых падэшвах.

**КЕЙНСІЯ́НСТВА** [ад англ. J.Keynes = прозвішча англ. эканаміста (1883—1946)] — эканамічная тэорыя, якая абгрунтоўвае неабходнасць актыўнага ўмяшальніцтва дзяржавы ў гаспадарчую дзейнасць для забеспячэння бесперапыннага працэсу грамадскай вытворчасці.

**КЕ́ЙПЕР** (ням. Keuper) — тоўшча страката-каляровых кантынентальных і лагунных адкладанняў верхняга *трыясу* на тэрыторыі Цэнтр. Еўропы.

**КЕЙФ** гл. *кайф*.

**КЕК** (англ. cake = зацвердзяваць) — слой цвёрдых часцінак, якія застаецца пасля фільтрацыі суспензій, або нерастваральныя рэшткі пасля вышчалачвання каштоўных кампанентаў з руды.

**КЕКЕНМЕ́ДЫНГІ** (дацк. kokkenmodding = кухонныя адыходы) — скапленні ракавін і касцей з вугальнымі праслойкамі, каменнымі прыладамі і іншымі рэчамі, якія знаходзяцца ў адкладах часоў *неаліту* на месцы стаянак старажытных рыбакоў і паляўнічых.

**КЕКС** (англ. cakes = піражныя) — кандытарскі выраб са здобнага цеста з разынкамі або карынкай.

**КЕКУО́К** (англ. cakewalk) — танец амерыканскіх неграў, які ўвайшоў у моду ў пач. 20 ст. у Амерыцы і Еўропе.

**КЕ́ЛАР** (лац. cellarius) — манах, які загадвае манастырскай гаспадаркай, эканом.

**КЕ́ЛІХ** (польск. kielich, ад с.-в.-ням. kelch) — вялікая чарка, чаша.

**КЕ́ЛЛЯ** (с.-гр. kella, ад гр. kellion) — 1) пакой манаха (манашкі) у манастыры; 2) *перан.* невялікі пакой адзінокага чалавека.

**КЕЛО́ІД** (ад гр. kele = пухліна + *-оід*) — пухлінападобнае разрастанне злучальнай тканкі скуры, якое развіваецца пасля траўмы або вынікае мімавольна на непашкоджанай паверхні скуры.

**КЕ́ЛЬВІН** [англ. W.Kelvin = прозвішча англ. фізіка (1824—1907)] — адзінка тэмпературы па тэрмадынамічнай шкале ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ), роўная 1/273,16 часткі тэрмадынамічнай тэмпературы трайнога пункта вады.

**КЕ́ЛЬМА** гл. *кельня*.

**КЕ́ЛЬНЕР** (ням. Kellner) — афіцыянт рэстарана, півной, кавярні і інш. у заходнееўрапейскіх краінах.

**КЕ́ЛЬНЯ, КЕ́ЛЬМА** (польск. kielnia, ад с.-в.-ням. kelle) — прылада муляра, тынкоўшчыка ў выглядзе трохвугольнай лапаткі для нанясення раствору на мур.

**КЕ́ЛЬНЯ, КЕ́ЛЬМА** (польск. kielnia, ад с.-в.-ням. kelle) — прылада муляра, тынкоўшчыка ў вы-

глядзе трохвугольнай лапаткі для нанясення раствору на мур.

**КЕЛЬТ** (п.-лац. celtus = долата) — старажытны полы ўнутры бронзавы тапор з каленчатым дзяржаннем, які быў распаўсюджаны ў 2—1 тысячагоддзях да н.э.

**КЕМАЛІ́ЗМ** [ад тур. A.Qemal = імя тур. палітычнага дзеяча (1881—1938)] — турэцкі буржуазна-нацыянальны рух, які ўзнік у 1919 г. і прывёў да перамогі рэвалюцыі ў 1923 г.

**КЕ́МБРЫЙ** (англ. Cambria = даўняя назва правінцыі Уэльс у Англіі) — першы перыяд *палеазойскай* эры геалагічнай гісторыі Зямлі, які распачаўся каля 570 млн. гадоў таму назад і працягваўся 70 млн. гадоў, а таксама пласты горных парод, якія ўтварыліся ў той час.

**КЕМБРЫ́ЙСКІ** (ад англ. Cambria = даўняя назва правінцыі Уэльс у Англіі); к. п е р ы я д — тое, што і *кембрый*.

**КЕ́МПІНГ** (англ. camping) — спецыяльна абсталяваны лагер для аўтатурыстаў.

**КЕН** (яп. ken) — 1) мера даўжыні ў Японіі, роўная 1,8 м; 2) асноўная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Японіі.

**КЕНАТА́Ф** (гр. kenotaphion, ад kenos = пусты + taphos = магіла) — надмагільны помнік, пастаўлены не на месцы пахавання нябожчыка (напр. калі чалавек загінуў на чужыне).

**КЕНАТРО́Н** (ад гр. kenos = пусты + *-трон*) — двухэлектродная электронная вакуумная лямпа, прызначаная для выпрамлення пераменнага току.

**КЕНА́Ф** (цюрк. kenaf, ад перс. kanap) — травяністая расліна сям. мальвавых, пашыраная ў Індыі, Кітаі, Бразіліі, ЗША, з валакна якой вырабляюць шпагат, канаты, мешкавіну, а таксама валакно гэтай расліны.

**КЕНГУРУ́** (англ. kangaroo, ад аўстрал. Kangaroo = назва вострава) — сумчатае аўстралійскае млекакормячае з доўгімі заднімі і кароткімі пярэднімі нагамі, якое перамяшчаецца скачкамі.

**КЕНДЫ́Р** (тур. kendir = каноплі) — травяністая расліна сям. барвенкавых, пашыраная пераважна ў субтропіках, валакно якой выкарыстоўваецца ў тэкстыльнай прамысловасці.

**КЕНІЯПІТЭ́К** (н.-лац. kenyapithecus) — вымерлая чалавекападобная малпа, блізкая да *рамапітэка*, якая жыла ў верхнім *міяцэне*.

**КЕНТА́ЎР** (гр. kentauros) — міфічная істота з конскім тулавам і чалавечымі галавой і торсам у старажытнагрэчаскай міфалогіі.

**КЕНТРА́НТУС** (н.-лац. kentranthus) — травяністая расліна сям. валяр'янавых з дробнымі яркачырвонымі або белымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў Цэнтр. Еўропе і Міжземнамор'і; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**КЕ́НЭЛЬ** [англ. cennel (coal)] — разнавіднасць сапрапеліту, якая змяшчае вялікую колькасць мікраспораў.

**КЕ́ПІ** (фр. képi) — 1) фуражка з невялікім цвёрдым донцам і прамым казырком (у арміях некаторых краін і ў рускіх гімназістаў 19 ст.); 2) мужчынскі летні мяккі га-

лаўны ўбор з казырком без аколыша.

**КЕРАГА́З** [рус. керогаз, ад керо(синовый) газ] — бясшумны прымус, у якім згарае газа.

**КЕРАМЗІ́Т** (ад гр. keramos = гліна) — порысты будаўнічы матэрыял у выглядзе гравію, шчэбеню або пяску, які вырабляецца паскораным абпальваннем легкаплаўкіх глін.

**КЕРАМЗІТАБЕТО́Н** (ад *керамзіт* + *бетон*) — лёгкі бетон, атрыманы з керамзіту і цэменту.

**КЕРА́МІКА** [гр. keramike (techne) = ганчарнае майстэрства] — 1) агульная назва розных вырабаў з абпаленай гліны (*маёліка*, *тэракота*, *фарфор*, *фаянс* і інш.); 2) маса, з якой атрымліваюць такія вырабы; 3) ганчарная вытворчасць.

**КЕРАМІ́Т** (ад гр. keramis = чарапіца) — выпаленая цэгла-брусчатка.

**КЕРАМІ́ЧНЫ** (гр. keramikos) — які мае адносіны да *керамікі*; зроблены з керамікі.

**КЕРАРГІРЫ́Т** (ад гр. keras = рог + argyros = серабро) — мінерал класа самародных металаў бурага, жаўтаватага, зеленаватага колеру; руда серабра.

**КЕРАТАКО́КУС** (н.-лац. keratococcus) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. анкістрадэсмавых, якая трапляецца ў сырых месцах, каля асновы дрэў, у вадаёмах.

**КЕРАТАПЛА́СТЫКА** (ад гр. keras, -atos = рог + *пластыка*) — перасадка рагавіцы вока пры бельмах з мэтай вяртання зроку.

**КЕРАТАФІ́Р** [ад гр. keras, -atos = рог + *(пар)фір*] — магматычная горная парода, якая складаецца з дробназярністай масы і ўкрапаных крышталёў, пераважна *альбіту*.

**КЕРАТО́З** (ад гр. keras, -atos = рог) — патаўшчэнне рагавога слоя скуры, характэрнае для шэрагу незапаленчых захворванняў яе.

**КЕРАТЫНАТРО́ФЫ** (ад гр. keras, -atos = рог + *-трофы*) — група грыбоў, якія пасяляюцца на поўсці, рагах і капытах жывёл, пер'і птушак, рагавых тканках чалавека (напр. *трыхафітон*, *ктэнаміцэс*, *мікраспорыум*, *эпідэрмафітон*); узбуджальнікі *мікозаў*.

**КЕРАТЫ́Т** (ад гр. keras, -atos = рог) — запаленне рагавой абалонкі вока.

**КЕРАЦІ́Н** (ад гр. keras, -atos = рог) — бялковае рэчыва, састаўная частка рагавога слоя валасоў, ногцяў, капытоў, рагоў і інш.

**КЕ́РВЕЛЬ**, **КЕ́РБЕЛЬ** (гал. kervel, ням. Kerbel) — травяністая расліна сям. парасонавых з зубчастым лісцем і дробнымі белымі кветкамі ў парасоніках, пашыраная ў Еўразіі; лекавая, востраприпраўная і меданосная.

**КЕ́РЛІНГ** (англ. curling) — спартыўная гульня, мэта якой трапіць пушчанай па лёдзе бітой у намаляваную на ім мішэнь.

**КЕРМЕ́ТЫ** [ад *кер(аміка)* + *мет(ал)*] — матэрыялы, у якіх аб'яднаны ўласцівасці керамічных рэчываў (высокая цвёрдасць, тугаплаўкасць і інш.) і металаў (напр. значная цеплаправоднасць, пластычнасць).

**КЕРН** (ням. Kern) — 1) парода, грунт, якія бяруць для пробы пустацелым інструментам, напр. бурам пры бурэнні свідравін; 2) пункт, які наносіцца *кернерам* пры

разметцы загатовак для далейшай апрацоўкі.

**КЕ́РНЕР** (ням. Körner) — слясарны інструмент у выглядзе завостранага стальнога стрыжня, які прымяняецца пры разметцы загатовак для далейшай апрацоўкі.

**КЕ́САР** (гр. kaisar, ад лац. Caesar = прозвішча Юлія Цэзара) — тое, што і *цэзар*.

**КЕСО́Н** (фр. caisson) — 1) воданепранікальная *камера*, якую апускаюць на дно мора ці ракі пры падводных работах; 2) стальная каробка ў металургічных печах, у якой цыркулюе вада для ахаладжэння; 3) *архіт.* паглыбленне ў форме геаметрычнай фігуры на столі або на ўнутранай паверхні аркі.

**КЕ́ТА** (рус. кета, ад эвенк. keta) — марская прамысловая рыба сям. ласасёвых.

**КЕТГУ́Т** (англ. catgut) — ніці з кішак дробнай рагатай жывёлы, якія выкарыстоўваюць пры хірургічных аперацыях для ўнутраных швоў і перавязкі сасудаў.

**КЕТМЕ́НЬ** (цюрк. ketmen) — сельскагаспадарчая прылада тыпу матыкі, якой у Сярэд. Азіі акучваюць пасевы, капаюць і чысцяць арыкі.

**КЕТО́ЗЫ** (ням. Ketosen) — *монацукрыды*, у малекулах якіх прысутнічае кетонавая група.

**КЕТО́Н** [ад *к(альцый)* + *(ац)этон*] — арганічнае злучэнне, якое змяшчае карбанільную групу, звязаную з двума вуглевадароднымі радыкаламі[1].

**КЕТСА́ЛЬ** (ісп. quetzal, ад індз. quetsalli = назва птушкі) — 1) грашовая адзінка Гватэмалы, роўная 100 *сентава*; 2) тое, што і *квезаль*.

**КЕТЧ** (англ. catch = лавіць) — разнавіднасць прафесійнай спартыўнай барацьбы, якая дазваляе любыя сілавыя прыёмы.

**КЕ́ТЧУП** (англ. ketchup) — востры таматны соус са спецыямі.

**КЕФАЛАМЕ́ТРЫЯ** (ад гр. kephale = галава + *-метрыя*) — сістэма вымярэння галавы чалавека пры дапамозе антрапаметрычных інструментаў.

**КЕФА́ЛЬ** (гр. kephale = галава) — марская прамысловая рыба атрада кефалепадобных са сплюснутым з бакоў целам.

**КЕФІ́Р** (рус. кефир, ад асец. k'aepy) — густы кіславаты напітак, які выраблецца з каровінага малака шляхам спіртавога і малочнакіслага браджэння.

**КЕФІ́РЫЯН** (н.-лац. kephyrion) — аднаклетачная залацістая водарасць сям. эўхрамулінавых, якая пашырана ў прэсных вадаёмах.

**КЕЧ** (англ. ketch) — невялікае двухмачтавае парусное судна.

**К'ЁКЕНМЕ́ДЫНГІ** (дацк. kokkenmodding = кухонныя рэшткі) — скапленне ракавін, касцей рыб і жывёл па берагах мораў і рэк, дзе былі стаянкі першабытных людзей эпохі *мезаліту* і *неаліту*.

**КІ́БАРГ** [ад *кіб(ернетыка)* + *арг(анізм)*] — прыстасаванне, у якім у пэўнай меры здзейснены *сімбіёз* фізічных і інтэлектуальных здольнасцей чалавека і тэхнічных сродкаў аўтаматыкі.

**КІБЕРНЕ́ТЫКА** (гр. kybernetike = майстэрства кіраваць) — навука аб агульных заканамернасцях працэсаў атрымання, захоўвання, перадачы і пераўтварэння інфарма-

цыі ў машынах, жывых арганізмах і грамадстве.

**КІБІ́ТКА** (рус. кибитка, ад тат. kibit = лаўка, магазін) — 1) крытая павозка; 2) лёгкае пераноснае жыллё ў качавых народаў.

**КІ́ВЕР** (рус. кивер, з усх. моў) — высокі галаўны ўбор, які насілі ў еўрапейскіх арміях у 18—19 ст.

**КІ́ВІ** (палінез. kivi) — птушка групы бескілявых з кароткімі моцнымі нагамі, доўгай гібкай дзюбай і неразвітымі крыламі; пашырана ў Новай Зеландыі; жыве ў густых зарасніках.

**КІВО́РЫЙ** (гр. kiborion) — даразахавальніца, пазней алтарны балдахін, які падтрымліваецца калонамі, у хрысціянскіх храмах.

**КІВО́Т** (гр. kibotos) — зашклёная створкавая рама або шафка для абразоў.

**КІДНЭ́ПІНГ** (англ. kidnapping, ад kidnap = красці) — выкраданне людзей (часцей дзяцей), каб атрымаць выкуп.

**КІЁСК** (фр. kiosque, ад перс. kuszk = павільён) — невялікі лёгкі будынак для дробнага гандлю (напр. газетны к.).

**КІЗЕЛЬГУ́Р** (ням. Kieselgur) — інфузорная зямля, рыхлая, лёгкая і порыстая горная парода, якая выкарыстоўваецца ў шкляной, керамічнай і іншых галінах прамысловасці.

**КІЗЕРЫ́Т** (ад ням. D.Kieser = прозвішча ням. натураліста) — мінерал класа *сульфатаў*, бясколерны або шаравата-белага, жаўтаватага колеру са шкляным бляскам; выкарыстоўваецца для атрымання *магнію* і *эпсаміту*.

**КІЗІ́Л** (цюрк. kizil = чырвоны) — невялікае дрэва або куст сям. кізілавых, пашыраныя на поўдні Еўропы, у гарах Азіі, Паўн. Амерыкі, а таксама цёмна-чырвоны кіслы і даўкі плод гэтай расліны.

**КІЗЯ́К** (цюрк. tizek) — гной з дамешкай саломы, які ў Сярэд. Азіі высушваецца ў выглядзе цаглін і выкарыстоўваецца як паліва.

**КІКБО́КСІНГ** (ад англ. kick = удараць нагой + box = біць кулаком) — від спорту, які аб'ядноўвае тэхніку і правілы бокса з прыёмамі ўсходніх адзінаборстваў — *каратэ* і *тэквандо*; бокс у спалучэнні з ударамі нагамі.

**КІКС** (англ. kicks) — няўдалы ўдар кіем па шары ў більярднай гульні.

**КІКСТА́РТЭР** (ад англ. kick = штуршок + *стартэр*) — прыстасаванне для запуску матацыклетнага рухавіка падштурхоўваннем педалі нагой.

**КІЛ** (тур. kil) — гліністая горная парода зялёна-жоўтага або светла-жоўтага колеру, якая змяшчае вялікую колькасць шчолачаў; выкарыстоўваецца для ачысткі нафтапрадуктаў, мыцця бялізны ў марской вадзе і інш.

**КІЛА-** (фр. kilo, ад гр. chilioi = тысяча) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «тысяча».

**КІЛАВА́Т** (ад *кіла-* + *ват*) — адзінка вымярэння магутнасці электрычнага току, роўная 1000 ват.

**КІЛАВО́ЛЬТ** (ад *кіла-* + *вольт*) — адзінка розніцы электрычных *патэнцыялаў*, электрычнага напружання і электрарухальнай сілы, роўная 1000 вольт.

**КІЛАВО́ЛЬТ-АМПЕ́Р** (ад *кіла-вольт* + *ампер*) — адзінка вымярэння сілы электрычнага току (здабытку з ліку кілавольт на лік ампераў).

**КІЛАГЕ́РЦ** (ад *кіла-* + *герц*) — адзінка частаты ваганняў, роўная 1000 герц.

**КІЛАГРА́М** (ад *кіла-* + *грам*) — асноўная адзінка масы ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ), роўная масе міжнароднага прататыпу кілаграма (плацінавай цыліндрычнай гіры, якая захоўваецца ў Нацыянальным архіве Францыі).

**КІЛАГРАМАМЕ́ТР** (ад *кілаграм* + *метр*) — адзінка вымярэння энергіі (работы), роўная рабоце, што затрачваецца для падняцця масы ў 1 кілаграм на вышыню 1 метр.

**КІЛАГРА́М-КАЛО́РЫЯ** (ад *кілаграм* + *калорыя*) — тое, што і *кілакалорыя*.

**КІЛАГРА́М-МА́СА** (ад *кілаграм* + *маса*) — адзінка масы ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ), роўная 1000 г.

**КІЛАДЖО́УЛЬ** (ад *кіла-* + *джоуль*) — кратная адзінка *энергіі* ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ), роўная 1000 джоуляў.

**КІЛАКАЛО́РЫЯ** (ад *кіла-* + *калорыя*) — адзінка колькасці цяпла, роўная 1000 калорый.

**КІЛАЛІ́ТР** (ад *кіла-* + *літр*) — мера ёмістасці, роўная 1000 літраў.

**КІЛАМЕ́ТР** (ад *кіла-* + *метр*) — адзінка даўжыні ў метрычнай сістэме мер, роўная 1000 метраў.

**КІЛАМЕТРА́Ж** (фр. kilométrage) — працягласць у *кіламетрах*.

**КІЛАПАРСЕ́К** (ад *кіла-* + *парсек*) — адзінка вымярэння астранамічных адлегласцей, роўная 1000 парсекаў.

**КІЛАПО́НД** (ад *кіла-* + лац. pondus = цяжар) — назва кілаграм-сілы, якую ўжываюць у Германіі і іншых краінах.

**КІЛАТО́НА** (ад *кіла-* + *тона*) — умоўная адзінка вымярэння магутнасці ядзернага зарада (або выбуху), якая адпавядае магутнасці ўзрыву тысячы тон *трынітраталуолу*.

**КІЛЕ́КТАР** (гал. kiellichter) — судна з магутнымі грузапад'ёмнымі сродкамі для пад'ёму затануўшых якараў і выканання іншых партовых работ.

**КІ́ЛІК** (гр. kyliks) — старажытнагрэчаскі гліняны сасуд для піцця віна.

**КІЛІ́М** (тур., кр.-тат. kilim) — шарсцяны бязворсавы дыван ручной работы.

**КІЛЬ** (гал. kiel) — 1) брус, які праходзіць уздоўж судна пасярэдзіне яго дна; 2) нерухомая вертыкальная частка хваставога апярэння самалёта, дырыжабля; 3) прадаўгаваты выраст на грудной косці, да якога прымацаваны грудныя мышцы ў птушак і некаторых млекакормячых (напр. у кажаноў, крата).

**КІЛЬБЛО́К** (англ. keelblock) — падпора ў выглядзе брусоў, накладзеных адзін на адзін, на якую ставіцца судна ў доку ў час будавання.

**КІЛЬВА́ТЭР** (гал. kielwater) — струмень вады, які застаецца ў час руху ззаду судна; і с ц і ў к і л ь в а т э р ы — рухацца ў адну лінію.

# К

**КІ́ЛЬКА** (рус. килька, ад эст. kilu) — невялікая марская прамысловая рыба сям. селядцовых.

**КІ́ЛЬСАН** (англ. keelson) — падоўжная бэлька на судне, якая размешчана зверху *шпангоутаў* паралельна *кілю*.

**КІМАГРА́ФІЯ** (ад гр. kyma = хваля + *-графія*) — метад даследавання дзейнасці пэўных органаў (напр. сэрца, вен, мышцаў) пры дапамозе *кімографа*.

**КІМАНО́** (яп. kimono) — 1) традыцыйнае мужчынскае і жаночае адзенне ў японцаў — халат з поясам і шырокімі рукавамі; 2) асобы крой рукава ў жаночым адзенні.

**КІМБЕРЛІ́Т** (ад англ. Kimberley = назва горада ў Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы) — магматычная горная парода чорнага колеру з сінім або зялёным адценнямі, алмазаносная.

**КІМВА́Л** (гр. kymbalon) — старадаўні ўдарны музычны інструмент, які складаецца з дзвюх медных талерак.

**КІМО́ГРАФ** (ад гр. kyma = хваля + *-граф*) — прыбор для графічнай рэгістрацыі ціску крыві, скарачэння мышцы і інш.

**КІН** (яп. kin) — мера вагі ў Японіі, роўная 600 г.

**КІНА-** (гр. kineo = рухаю) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «кіно», «кінематаграфія».

**КІНААКЦЁР** (ад *кіна-* + *акцёр*) — акцёр, які здымаецца ў кінафільмах.

**КІНААЛЬМАНА́Х** (ад *кіна-* + *альманах*) — *кінафільм*, які складаецца з некалькіх самастойных фільмаў, аб'яднаных агульнай тэмай, адным жанрам і інш.

**КІНААПЕРА́ТАР** (ад *кіна-* + *аператар*) — спецыяліст, які знімае *кінафільм*.

**КІНААРТЫ́СТ** (ад *кіна-* + *артыст*) — тое, што і *кінаакцёр*.

**КІНААРХІ́Ў** (ад *кіна-* + *архіў*) — установа, у якой захоўваюцца кінафільмы і кінаматэрыялы.

**КІНААТЭЛЬЕ́** (ад *кіна-* + *атэлье*) — спецыяльна абсталяванае памяшканне для здымкі *кінафільмаў*.

**КІНААЎТАМА́Т** (ад *кіна-* + *аўтамат*) — электронна-вылічальная ўстаноўка, якая дазваляе паказваць адзін з *фільмаў* па выбару большасці гледачоў.

**КІНАВА́Р** (гр. kinnabari) — мінерал чырвонага колеру класа *сульфідаў*, а таксама фарба з яго.

**КІНАГРА́МА** (ад *кіна-* + *-грама*) — зарэгістраваны на кінаплёнцы паслядоўны шэраг якіх-н. дзеянняў, рухаў і інш.

**КІНАДАКУМЕ́НТ** (ад *кіна-* + *дакумент*) — дакументальны кінафільм, дакументальныя кінакадры.

**КІНАДРАМАТУРГІ́Я** (ад *кіна-* + *драматургія*) — сукупнасць *кінасцэнарыяў*, тэорыя пабудовы кінасцэнарыяў.

**КІНАДЫЛО́ГІЯ** (ад *кіна-* + *дылогія*) — два кампазіцыйна самастойныя *кінафільмы*, звязаныя агульнасцю сюжэту, дзеючых асоб.

**КІНАДЭТЭКТЫ́Ў** (ад *кіна-* + *дэтэктыў*) — *кінафільм*, тэмай якога з'яўляецца раскрыццё злачынства, работа разведчыкаў і інш.

**КІНА́ЗЫ** (ад гр. kineo = рухаю) — 1) *ферменты* класа *трансферазаў*,

якія каталізуюць перанос фасфатных лішкаў з адэназінтрыфосфарнай кіслаты на розныя субстраты (бялкі, вугляводы і інш.) у клетках і тканках арганізма; 2) ферменты, якія садзейнічаюць ператварэнню неактыўнай формы фермента на актыўную.

**КІНАІНФАРМА́ЦЫЯ** (ад *кіна-* + *інфармацыя*) — інфармацыя пра бягучыя падзеі сродкамі кіно.

**КІНАКА́ДР** (ад *кіна-* + *кадр*) — асобная сцэна або эпізод з *кінафільма*.

**КІНАКАМЕ́ДЫЯ** (ад *кіна-* + *камедыя*) — *кінафільм* камедыйнага зместу.

**КІНАКА́МЕРА** (ад *кіна-* + *камера*) — апарат, прызначаны для здымкі кінафільмаў.

**КІНАКАМПА́НІЯ** (ад *кіна-* + *кампанія*) — аб'яднанне па вытворчасці кінафільмаў.

**КІНАКАНЦЭ́РТ** (ад *кіна-* + *канцэрт*) — канцэрт песень і музычных твораў з кінафільмаў.

**КІНАКЛА́СІКА** (ад *кіна-* + *класіка*) — выдатныя творы кінамастацтва, якія на доўга захоўваюць сваё мастацкае значэнне.

**КІНАКРЫ́ТЫКА** (ад *кіна-* + *крытыка*) — аналіз і крытычная ацэнка кінафільмаў.

**КІНАЛАБАРАТО́РЫЯ** (ад *кіна-* + *лабараторыя*) — спецыяльнае памяшканне па тэхнічнай апрацоўцы кінафільма.

**КІНАЛЕКТО́РЫЙ** (ад *кіна-* + *лекторый*) — цыкл лекцый з дэманстрацыяй кінафільмаў.

**КІНАЛО́ГІЯ** (ад гр. kyon, kynos = сабака + *-логія*) — раздзел *заалогіі*, якія вывучае сабак.

**КІНАМАНАПО́ЛІЯ** (ад *кіна-* + *манаполія*) — аб'яднанне па вытворчасці кінафільмаў.

**КІНАМАНТА́Ж** (ад *кіна-* + *мантаж*) — злучэнне асобна знятых частак кінафільма ў цэласны кінатвор.

**КІНАМУ́ЗЫКА** (ад *кіна-* + *музыка*) — інструментальная і вакальная музыка, якая выконваецца ў кінафільме.

**КІНАНАВЕ́ЛА** (ад *кіна-* + *навела*) — невялікі *кінафільм* з апавядальным сюжэтам.

**КІНАО́ПТЫКА** (ад *кіна-* + *оптыка*) — аптычная кінаапаратура.

**КІНАПАВІЛЬЁН** (ад *кіна-* + *павільён*) — пастаянная або часовая пабудова, прызначаная для кіназдымак.

**КІНАПАНАРА́МА** (ад *кіна-* + *панарама*) — 1) панарамны *кінафільм*, пры дэманстрацыі якога ствараецца эфект прысутнасці гледача на месцы дзеяння; 2) *кінатэатр* для дэманстрацыі панарамных фільмаў; 3) кінафільм з шырокім і шматгранным паказам якіх-н. падзей.

**КІНАПРАЕ́КТАР** (ад *кіна-* + *праектар*) — апарат, прызначаны праектаваць кінафільмы на экран.

**КІНАПРАЕ́КЦЫЯ** (ад *кіна-* + *праекцыя*) — праектаванне кінафільмаў на экран пры дапамозе *кінапраектара*.

**КІНАРАМА́Н** (ад *кіна-* + *раман*) — мастацкі *кінафільм*, які ахоплівае шырокае кола жыццёвых з'яў і падзей.

**КІНАРЫ́НХІ** (н.-лац. kinorhyncha) — клас *нематгельмінтаў*, чэрві з пляскатым целам даўжынёй да 1 мм, расчляненым на ўчас-

ткі, з венчыкам шыпоў або кручкоў і хабаткам, якія жывуць у марскім грунце.

**КІНАРЭЖЫСЁР** (ад *кіна-* + *рэжысёр*) — пастаноўшчык, рэжысёр кінафільма.

**КІНАРЭПАРЦЁР** (ад *кіна-* + *рэпарцёр*) — *кінаапаратар*, які працуе ў галіне кінарэпартажу.

**КІНАСЕА́НС** (ад *кіна-* + *сеанс*) — час, на працягу якога дэманструецца фільм, а таксама сама дэманстрацыя яго.

**КІНАСТУ́ДЫЯ** (ад *кіна-* + *студыя*) — прадпрыемства па вытворчасці кінафільмаў, дзе спалучаюцца мастацка-творчыя і вытворча-тэхнічныя працэсы.

**КІНАСЦЭНА́РЫЙ** (ад *кіна-* + *сцэнарый*) — літаратурны твор, на аснове якога ствараецца кінафільм.

**КІНАТРЫЛО́ГІЯ** (ад *кіна-* + *трылогія*) — тры кампазіцыйна самастойныя кінафільмы, звязаныя агульнасцю сюжэту.

**КІНАТЭАДАЛІ́Т** (ад *кіна-* + *тэадаліт*) — прыбор для кіназдымкі лятальнага апарата, каб дакладна вызначыць траекторыю палёту.

**КІНАТЭА́ТР** (ад *кіна-* + *тэатр*) — памяшканне для публічнай дэманстрацыі кінафільмаў.

**КІНАТЭ́КА** (ад *кіна-* + *-тэка*) — збор, архіў кінафільмаў і іншых кінаматэрыялаў.

**КІНАТЭ́ХНІКА** (ад *кіна-* + *тэхніка*) — галіна тэхнікі, звязаная з вытворчасцю і дэманстрацыяй кінафільмаў.

**КІНАФА́БРЫКА** (ад *кіна-* + *фабрыка*) — прадпрыемства, якое займаецца вытворчасцю кінафільмаў.

**КІНАФЕСТЫВА́ЛЬ** (ад *кіна-* + *фестываль*) — агляд твораў кінамастацтва, прысвечаных агульнай тэме або пэўнай падзеі.

**КІНАФІКА́ЦЫЯ** (ад *кіна-* + *-фікацыя*) — разгортванне сеткі кінатэатраў для абслугоўвання насельніцтва пэўнай тэрыторыі.

**КІНАФІ́ЛЬМ** (ад *кіна-* + *фільм*) — твор кінамастацтва, кінакарціна.

**КІНАХРО́НІКА** (ад *кіна-* + *хроніка*) — кінафільм або кіначасопіс пра падзеі бягучага грамадскага жыцця.

**КІНАЭПАПЕ́Я** (ад *кіна-* + *эпапея*) — кінафільм, які апавядае пра вялікія гістарычныя падзеі, стварае шырокую шматпланавую карціну грамадскага жыцця.

**КІНГСТО́Н** (англ. kingston) — *клапан* у падводнай частцы судна для набірання або вылівання вады.

**КІНДА́РК** (алб. kindark) — разменная манета Албаніі, роўная 1/100 *лека*.

**-КІНЕЗ**, **-КІНЕЗІЯ** (гр. kinesis = рух) — другая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае рух, перамяшчэнне.

**КІНЕ́МА** (гр. kinema = рух) — 1) *лінгв.* артыкуляцыйная прымета *фанемы*; 2) структурная адзінка мімічнай (жэстыкуляцыйнай) мовы.

**КІНЕМАТАГРА́ФІЯ** (ад гр. kinema, -atos = рух + *-графія*) — галіна культуры і прамысловасці, якая выпускае кінафільмы і паказвае гледачам.

**КІНЕМАТО́ГРАФ** (ад гр. kinema, -atos = рух + *-граф*) — 1) комплекс апаратаў і метадаў, якія забяспечваюць здымку і паказ на экране кі-

нафільмаў; 2) відовішча, якое з'явілася на аснове тэхнікі *кінематаграфіі*.

**КІНЕМА́ТЫКА** (ад гр. kinema, -atos = рух) — раздзел *механікі*, які вывучае геаметрычныя асаблівасці руху цел без уліку іх масы і ўздзеяння на іх пабочных сіл.

**КІНЕ́СІКА** (ад гр. kinesis = рух) — сукупнасць рухаў цела (жэстаў, мімікі), якія выкарыстоўваюцца ў працэсе чалавечых зносін, а таксама навука, якая вывучае гэтыя сродкі зносін.

**КІНЕСКО́П** (ад гр. kinesis = рух + *-скоп*) — прыёмная трубка тэлевізара, якая ператварае электрычныя сігналы ў адлюстраванне.

**КІНЕТАБЛА́СТ** (ад гр. kinetos = рухомы + *-бласты*) — *арганоід*, размешчаны ля асновы жгуціка або раснічкі.

**КІНЕТАДЭ́СМЫ** (ад гр. kinetos = рухомы + desmos = звязка, сувязь) — вельмі тонкія *фібрылы*, якія бяруць пачатак ад базальнага цельца і выконваюць у прасцейшых апорную функцыю.

**КІНЕТАКАРДЫЯГРА́ФІЯ** (ад гр. kinetos = рухомы + *кардыяграфія*) — метад электрычнай рэгістрацыі нізкачастотных ваганняў груднной сценкі, абумоўленых скарачэннямі сэрца.

**КІНЕТАСКО́П** (ад гр. kinetos = рухомы + *-скоп*) — апарат для разглядання фотаздымкаў, якія хутка змяняюцца і ствараецца ўражанне, што зняты аб'ект рухаецца; адзін з папярэднікаў *кінематографа*.

**КІНЕТАСО́МА** (ад гр. kinetos = рухомы + *сома*) — асобае ўтварэнне ў плазме клеткі, ад якога ў прасцейшых адыходзіць жгуцік або раснічка.

**КІНЕТАСТА́ТЫКА** (ад гр. kinetos = рухомы + *статыка*) — раздзел *механікі*, у якім разглядаюць спосабы рашэння дынамічных задач пры дапамозе аналітычных або графічных метадаў статыкі.

**КІНЕТАТЭРАПІ́Я** (ад гр. kinetos = рухомы + *тэрапія*) — лячэнне фізічнымі практыкаваннямі, масажом і пры дапамозе спецыяльных апаратаў і прыстасаванняў.

**КІНЕТЫ́ЗМ** (ад гр. kinetikos = рухомы) — мастацтва, якое стварае складаныя рухомыя канструкцыі, дзе спалучаюцца і выкарыстоўваюцца ўласцівасці і якасці архітэктуры, скульптуры, жывапісу, часам кіно, а таксама гук і пераменнае святло.

**КІНЕ́ТЫКА** (гр. kinetikos = рухальны) — раздзел тэарэтычнай *механікі*, які ўключае *дынаміку* і *статыку*.

**КІНЕТЫ́ЧНЫ** (гр. kinetikos) — 1) які мае адносіны да *кінетыкі*; 2) звязаны з рухам; к - а я  э н е р г і я — энергія цела, якое рухаецца, энергія механічнага руху.

**КІНЖА́Л** (рус. кинжал, ад тур., кр.-тат. chandžar < ар. chandžar) — халодная зброя ў выглядзе вострага з двух бакоў клінка.

**КІ́НІКІ** (гр. kynikoi) — старажытнагрэчаская філасофская школа, якая мела пэўныя матэрыялістычныя тэндэнцыі, зняважліва адносілася да ўсякіх сацыяльных сувязей, звычаяў і набыткаў культуры.

**КІНКА́Н** (яп. kinkan) — пладовае дрэва або куст сям. рутавых, пашыраныя ва Усх. Азіі.

**КІНО́** (ням. Kino, ад гр. kineo = рухаю) — 1) род мастацтва, творы якога ствараюцца з дапамогай кіназдымкі падзей рэчаіснасці; кіна-

мастацтва; 2) тое, што і *кінафільм*; 3) тое, што і *кінатэатр*.

**КІНО́ЛАГ** (ад *кіналогія*) — спецыяліст у галіне кіналогіі.

**КІП** (лаоск. kip) — грашовая адзінка Лаоса, роўная 100 *атам*.

**КІ́ПА** (польск, kipa, ад ням. Kiepe) — 1) стос якіх-н. прадметаў (напр. к. газет); 2) упаковачная мера сыравіны (напр. к. пянькі).

**КІПАРЫ́С** (гр. kyparissos) — вечназялёнае хвойнае дрэва сям. кіпарысавых, пашыранае ва ўмерана цёплых зонах Еўразіі, Паўн. Амерыкі, Паўн. Афрыкі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўнае.

**КІПРЭ́ГЕЛЬ** (ням. Kippregel, ад kippen = перакідаць + Regel = лінейка) — геадэзічны вугламерны інструмент, які прымяняецца разам з *мензулай* для тапаграфічных здымкаў на мясцовасці.

**КІ́ПУ** (кечуа kipu = вузел) — вузельчыкавае пісьмо старажытных народаў Паўд. Амерыкі; уяўляла сабой вяроўку з прывязанымі каляровымі матузамі (колькасць і форма вузельчыкаў на іх мелі пэўны ўмоўны сэнс).

**КІРАВА́ЦЬ** (польск. kierować, ад ням. kehren) — 1) рэгуляваць рух, работу чаго-н. з дапамогай прыбораў, рычагоў і інш.; 2) рабіць уплыў на ход якога-н. працэсу; 3) быць на чале, накіроўваць дзейнасць каго-н., чаго-н.

**КІРА́СА** (фр. cuirasse) — металічныя латы, якія даўней надзявалі кавалерысты на грудзі і спіну для засцярогі ад халоднай і агнястрэльнай зброі.

**КІРАСІ́Р** (фр. cuirassier) — коннік цяжкай кавалерыі ў еўрапейскіх арміях 17 — пач. 20 ст. (насіў *кірасу* і *каску*).

**КІ́РЗА** (ням. Kirsei, ад англ. kersey) — шматслойная бавоўняная тканіна, насычаная асобым саставам для засцярогі ад вільгаці; выкарыстоўваецца як заменнік скуры.

**КІРМА́Ш** (польск. kiermasz, ад ням. Kirchmesse) — 1) святочны базар, які даўней рабіўся звычайна ў пэўную пару года і суправаджаўся народным гуляннем, забавамі; 2) перыядычны масавы продаж тавараў, звычайна ў пэўным месцы (напр. перадпавагодні к.); 3) *перан.* шумнае зборышча (напр. птушыны к.).

**КІРУ́НАК** (польск. kierunek, ад с.-в.ням. kêrunge) — 1) лінія руху; бок, у які накіраваны рух, дзеянне; напрамак; 2) *перан.* шлях развіцця, накіраванасць якога-н. дзеяння, з'явы; 3) грамадская, навуковая, літаратурная або іншая плынь, групоўка.

**КІ́РХА** (ням. Kirche = царква) — лютэранскі храм.

**КІРХНЕРЫЕ́ЛА** (н.-лац. Kirchneriella) — каланіяльная зялёная водарасць сям. сцэнадэсмавых, якая пашырана ў прэсных вадаёмах.

**КІРЭНА́ІКІ** (гр. kyrenaikoi, ад Kyrena = назва горада ў Стараж. Грэцыі) — старажытнагрэчаская філасофская школа, заснаваная ў 4 ст. да н.э. Арыстыпам з Кірэны; развівала прынцыпы вучэння Сакрата ў напрамку паслядоўнага *геданізму*.

**КІСЕ́Т** (рус. кисет, ад перс. kisä = кашалёк) — тое, што і *капшук*.

**КІСТА́** (гр. kystis = пузыр) — полая пухліна ў органах і тканках чалавека і жывёл, напоўненая вадкай масай.

**КІСЦЕ́НЬ** (тат. kistän = кій) — даўнейшая зброя ў выглядзе кароткай палкі з металічнай гірай на адным канцы і пятлёй на другім.

**КІСЯЯ́** (рус. кисея, ад тур. käsi = раскроеная матэрыя) — тонкая празрыстая баваўняная тканіна.

**КІТ**[1] (кр. ketos) — 1) вялікая марская млекакормячая жывёліна; 2) *перан.* адна з галоўных асоб у якой-н. справе (напр. кіты сучаснай фізікі).

**КІТ**[2] (польск. kit, ад ням. Kitt) — вязкае рэчыва для замазвання шчылін паміж шыбамі і рамай у вокнах.

**КІТА́Б** (ар. kitab) — рэлігійная кніга, напісаная на беларускай мове арабскім пісьмом; ствараліся татарамі, якія пасяляліся на Беларусі з 14 ст.

**КІТАЙБЕ́ЛІЯ** (н.-лац. kitaibelia) — травяністая расліна сям. мальвавых з зубчастым лісцем і буйнымі белымі кветкамі, пашыраная ў Паўн. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**КІТА́ЙКА** (ад тат. Kytai = Кітай) — гладкая шаўковая тканіна, якую прывозілі з Кітая, а пазней і баваўняная тканіна мясцовых вырабаў.

**КІФА́РА** (гр. kithara) — струнны шчыпковы музычны інструмент, падобны да *ліры*.

**КІФО́З** (гр. kyphos = згорблены) — *мед.* скрыўленне хрыбта, пераважна груднога аддзелу, выпукласць назад пры некаторых захворваннях касцявой, мышачнай і нервовай сістэмы.

**КІ́ЦЕЛЬ** (ням. Kittel) — форменная куртка са стаячым каўняром.

**КІЧ** (ням. Kitsch = халтура) — халтурная карціна, безгустоўны фільм або літаратурны твор.

**КІШЛА́К** (цюрк. kyšlak = зімоўе) — паселішча ў Сярэд. Азіі.

**КІШМІ́Ш** (цюрк. kišmiš, ад перс. kišmiš) — сорт вінаграду без костачак, а таксама разынкі з гэтага вінаграду.

**КІЯНІ́Т** (гр. kyanite = блакітны) — мінерал класа *сілікатаў* пераважна блакітнага, сіняга колераў; на Беларусі трапляецца ў крышталічных сланцах і кварцытах; выкарыстоўваецца для атрымання *сілуміну*.

**КЛАА́КА** (лац. cloaca) — 1) падземны канал для сцёку нечыстотаў; 2) вывадная адтуліна, агульная для кішэчніка і мочапалавых органаў у земнаводных, паўзуноў, птушак, некаторых рыб і аднапраходных млекакормячых; 3) *перан.* што-н. брыдкае, агіднае (напр. засмечанае месца, амаральнае асяроддзе і інш.).

**КЛАБУ́К** (ад цюрк. kalpak = шапка) — манаскі галаўны ўбор у выглядзе высокай цыліндрычнай шапкі з пакрывалам.

**КЛАВАРЫЯДЭ́ЛЬФУС** (н.-лац. clavariadelphus) — *базідыяльны* грыб сям. рагацікавых, які расце на глебе ці апалай ігліцы, лісці, галінках пераважна ў хвойных лясах; ядомы.

**КЛАВЕСІ́Н** (фр. clavecin, ад лац. clavis = ключ) — струнны шчыпковы клавішны музычны інструмент 16—18 ст., папярэднік *фартэпіяна*.

**КЛАВІКО́РДЫ** (фр. clavicorde, ад лац. clavis = ключ + гр. chorde = струна) — струнны ўдарны кла-

вішны музычны інструмент 15—18 ст.

**КЛАВІ́Р** (ням. Klavier, ад лац. clavis = ключ) — 1) агульная назва струнных клавішных музычных інструментаў (*клавікордаў*, *клавесіна*, *фартэпіяна* і інш.); 2) тое, што і *клавіраусцуг*.

**КЛАВІРА́УСЦУГ** (ням. Klavierauszug) — пералажэнне *партытур* вакальна-сімфанічнага твора (*оперы*, *араторыі*, *кантаты* і інш.) для спявання і фартэпіяна або толькі для фартэпіяна.

**КЛАВІЦЫМБА́Л** (с.-лац. clavicymbalum) — першапачатковая назва *клавесіна*.

**КЛАВІЦЫТЭ́РЫЮМ** (ад лац. clavis = ключ + гр. kithara = кіфара) — *клавесін* з размешчаным вертыкальна корпусам.

**КЛА́ВІШ, КЛА́ВІША** (польск. klawisz, ад лац. clavis = ключ) — 1) пласцінка ў некаторых музычных інструментах (фартэпіяна, баяне, трубе і інш.), пры націсканні пальцам на якую атрымліваецца гук; 2) наканечнік рычажка ў пішучай машынцы, тэлефонным апараце і іншых механізмах, які прыводзіцца ў рух пальцамі.

**КЛАВІЯТУ́РА** (ням. Klaviatur, ад лац. clavis = ключ) — сістэма *клавішаў* у музычных інструментах або якіх-н. механізмах (напр. к. аргана, к. пішучай машынкі).

**КЛАВУЛІ́НА** (н.-лац. clavulina) — *базідыяльны* грыб сям. рагацікавых, які трапляецца ў лясах на глебе, зрэдку на гнілой драўніне; ядомы.

**КЛАДАГЕНЕ́З** (ад гр. klados = парастак + *-генез*) — шлях эвалюцыі жывёльных арганізмаў, які прыводзіць да ўзнікнення ў выніку *дывергенцыі* вялікай колькасці відаў, родаў, сямействаў і г.д.

**КЛАДАПАДЫЕ́ЛА** (н.-лац. cladopodiella) — пячоначны мох сям. адантасхізмавых, які трапляецца на вярховых сфагнавых балотах і ў азёрах, якія зарастаюць.

**КЛАДАРХІ́ДЫ** (н.-лац. cladorchidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *трэматодаў*; кішачныя паразіты млекакормячых.

**КЛАДАСПАРЫЁЗЫ** (ад *кладаспорый*) — хваробы раслін, якія выклікаюцца паразітычнымі грыбамі кладаспорыямі.

**КЛАДАСПО́РЫЙ** (н.-лац. cladosporium) — недасканалы грыб сям. дэмацыевых, які жыве на раслінных і жывёльных субстратах, у глебе.

**КЛАДЗІ́НА** (н.-лац. cladina) — кусцісты сумчаты лішайнік сям. кладоніевых, які расце на пясчаной глебе ў лясах, на гнілой драўніне, купінах балот.

**КЛАДО́ДЫЙ** (ад гр. klados = парастак + eidos = выгляд) — лістападобнае сцябло раслін, якое выконвае функцыі ліста (напр. у спаржы).

**КЛАДО́НІЯ** (н.-лац. cladonia) — кусцісты сумчаты лішайнік сям. кладоніевых, які расце на пясчаной глебе ў лясах, на пнях, гнілой драўніне, купінах балот.

**КЛАДО́ФАРА** (н.-лац. cladophora, ад гр. klados = парастак + phoros = які нясе) — ніткаватая зялёная водарасць сям. кладофаравых, якая пашырана ў морах і прэсных вадаёмах.

**КЛАДРА́СЦІС** (н.-лац. cladrastis) — дрэва сям. бабовых з буйным лісцем і белымі духмянымі кветкамі ў доўгіх суквеццях, па-

шыранае ў Паўн. Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўнае.

**КЛАЗЕ́Т** (англ. closet) — прыбіральня з вадаправодным прыстасаваннем для прамывання унітаза.

**КЛА́КА** (фр. claque) — група гледачоў, нанятая для таго, каб гучна апладзіраваць або свістаць і тым самым ствараць уражанне поспеху або правалу артыста, спектакля.

**КЛАКЁР** (фр. claqueur) — асоба, якая ўваходзіць у састаў *клакі*.

**КЛА́КСАН** (англ. klaxon) — механічны сігнальны гудок аўтамабіля, трактара.

**КЛАН** (англ. clan, ад кельц. clann) — 1) радавая абшчына, род (першапачаткова ў кельцкіх народаў); 2) *перан.* замкнутая група людзей, звязаных якімі-н. агульнымі інтарэсамі (эканамічнымі, дзелавымі і інш.).

**КЛА́ПАН** (рус. клапан, ад ням. Klappe = крышка, засланка) — 1) прыстасаванне ў механізмах для прыкрыцця адтуліны, праз якую выходзіць пара, газ, вадкасць; 2) *анат.* частка полага органа, якая перашкаджае адваротнаму руху змесціва (напр. лімфатычны к.); 3) нашыўка з тканіны, якая прыкрывае кішэнь або шво на адзенні.

**КЛАП-КА́МЕРА** (ад ням. Klappe = засланка + *камера*) — складаны фотаапарат з высоўнай пярэдняй сценкай, куды ўстаўлены аб'ектыў.

**КЛАРК** [англ. F.Clarke = прозвішча амер. геахіміка (1847—1931)]; к л а р к і  э л е м е н т а ў — колькасныя паказчыкі змяшчэння хімічных элементаў у зямной кары, гідрасферы, атмасферы, горных пародах, касмічных аб'ектах і інш.

**КЛА́РКІЯ** (н.-лац. clarkia, ад W.Clark = прозвішча амер. падарожніка) — травяністая расліна сям. скрыпнёвых з падоўжана-авальным лісцем і чырвонымі, ружовымі, белымі, фіялетавымі кветкамі, пашыраная ў Паўн. Амерыцы; выкарыстоўваецца для групавых пасадак.

**КЛАРНЕ́Т** (фр. clarinette, ад іт. clarinetto) — драўляны духавы язычковы музычны інструмент, які мае форму трубкі з клапанамі і раструбам на канцы.

**КЛАРЭ́Н** (ад лац. clarus = бліскучы) — напаўбліскучая крохкая састаўная частка выкапнёвага вугалю, якая залягае палосамі ў пластах.

**КЛАС** (лац. classis = разрад) — 1) вялікая група людзей з пэўным становішчам у гістарычна складзенай сістэме грамадскай вытворчасці і з пэўнай, звычайна заканадаўча замацаванай роллю ў грамадскай арганізацыі працы, аб'яднаная аднолькавымі адносінамі да сродкаў вытворчасці, да размеркавання грамадскага багацця і агульнасцю інтарэсаў; 2) група вучняў аднаго і таго ж года навучання або група, якая навучаецца ў пэўнага выкладчыка, вывучае пэўны прадмет (у мастацкіх школах) (напр. к. жывапісу); 3) пакой для заняткаў у школе; 4) разрад, падраздзяленне па якой-н. класіфікацыі (напр. к. земнаводных, каюта першага класа); 5) ступень, узровень чаго-н. або ступень падрыхтаванасці, кваліфікацыі каго-н. (напр. шафёр першага класа).

**КЛА́СІК** (лац. classicus = першакласны) — 1) выдатны пісьменнік,

дзеяч мастацтва, навукі; 2) прадстаўнік *класіцызму* ў літаратуры і мастацтве; 3) спецыяліст па класічнай філалогіі (грэчаскай і лацінскай мовах і літаратурах).

**КЛА́СІКА** (лац. classicus = першакласны) — творы літаратуры і мастацтва, якія маюць сусветнае прызнанне, вякамі зберагаюць сваё значэнне.

**КЛАСІФІКАВА́ЦЬ** (ад лац. classis = клас + facere = рабіць) — рабіць *класіфікацыю*.

**КЛАСІФІКА́ТАР** (ад *класіфікацыя*) — 1) спецыяліст у галіне класіфікацыі; 2) апарат для механічнай класіфікацыі вугалю, руды па велічыні, форме, шчыльнасці.

**КЛАСІФІКА́ЦЫЯ** (фр. classification, ад лац. classis = разрад + facere = рабіць) — размеркаванне якіх-н. прадметаў, з'яў, паняццяў па класах, групах, разрадах на падставе пэўных агульных прыкмет (напр. к. моў, к. раслін).

**КЛАСІЦЫ́ЗМ** (ням. Klassizismus, ад лац. classicus = першакласны, узорны) — стыль і кірунак у літаратуры і мастацтве 17 — пач. 19 ст., заснаваны на перайманні антычных узораў.

**КЛАСІ́ЧНЫ** (лац. classicus = першакласны) — 1) які датычыць старажытных грэкаў і рымлян, антычны; 2) які мае адносіны да *класіцызму*, уласцівы паслядоўнікам гэтага напрамку; 3) створаны *класікам*, узорны, дасканалы; 4) звязаны з вывучэннем антычных моў і літаратур (напр. к-ая філалогія).

**КЛАСТАГЕ́ННЫ** (ад гр. klastos = зламаны + *-генны*) — утвораны з абломкаў горных парод.

**КЛАСТРЫДЁЗЫ** (ад *кластрыдыі*) — інфекцыйныя хваробы жывёл і чалавека (напр. *батулізм*, слупняк і інш.), якія выклікаюцца кластрыдыямі.

**КЛАСТРЫ́ДЫІ** (н.-лац. clostridium, ад гр. kloster = верацяно) — спараносныя бактэрыі; пашыраны ў глебе, вадзе, рэштках жывёл і раслін.

**КЛА́СТЭР** (англ. cluster) — 1) *хім.* група малекул, якія вылучаюцца сярод іншых падобных малекул і аб'ядноўваюцца ва ўстойлівыя ўтварэнні; 2) *лінгв.* паслядоўнасць, ланцужок моўных элементаў, напр. гукаў, часцін мовы.

**КЛАСТЭ́РЫУМ** (н.-лац. closterium) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. кластэрыевых, якая пашырана ў прэсных вадаёмах, на сырых скалах, імхах.

**КЛАТО́ІДА** (ад гр. klotho = праду + *-оід*) — плоская спіралепадобная крывая, якая складаецца з дзвюх частак, размешчаных сіметрычна адносна пачатку *каардынат*.

**КЛАТРА́ТЫ** (лац. clathratus = ахаваны кратамі) — крышталічныя злучэнні ўключэння, у якіх малекулы асноўнага рэчыва ўтвараюць каркас, а малекулы іншых элементаў размяшчаюцца ў поласцях каркаса.

**КЛАУЗІЛІ́ДЫ** (н.-лац. clausiliidae) — сямейства сцябліставокіх малюскаў, пашыранае ў Еўразіі і Паўд. Амерыцы; жывуць у лясах, на скалах.

**КЛАУНА́ДА** (ад *клоун*) — 1) жанр цыркавога мастацтва, заснаваны на выкарыстанні прыёмаў *эксцэнтрыкі* 2, *буфанады* 1, *гратэску* 1; 2) цыркавое прадстаўленне з удзелам клоунаў (гл. *антрэ* 1).

**КЛА́ЎЗУЛА** (лац. clausula = заключэнне) — 1) спецыяльная ўмова, агаворка ў завяшчанні, дагаворы і інш. (у юрыспрудэнцыі); 2) заключная частка прамовы (у рыторыцы); 3) заключныя склады вершаванага радка пасля апошняга націскнога склада.

**КЛА́ФТЭР** (ням. Klafter = сажань) — адзінка даўжыні ў Аўстрыі і Венгрыі, роўная 1,896 м.

**КЛАША́Р** (фр. clochard = жабрак) — бадзяга, валацуга, бяздомнік.

**КЛЕБСІЕ́ЛЫ** (н.-лац. klebsiella) — капсульныя бактэрыі сям. энтэрабактэрый; паразіты жывёл і чалавека, пашыраны і ў знешнім асяроддзі.

**КЛЕБСІЯЛЁЗЫ** (ад *клебсіелы*) — інфекцыйныя хваробы жывёл і чалавека, якія выклікаюцца клебсіеламі.

**КЛЕЁМА** (н.-лац. cleome) — кустовая расліна сям. каперсавых, з ружовымі або белымі кветкамі ў коласападобных суквеццях, пашыраная ў Паўн. Афрыцы і тропіках Амерыкі; культывуецца як дэкаратыўная.

**КЛЕЙАФА́Н** (ад гр. kleos = слова + phanos = светлы) — мінерал класа *сульфідаў*, светлая або бясколерная разнавіднасць *сфалерыту*.

**КЛЕЙДЭСДА́ЛЫ** (англ. Clydesdale = назва даліны ракі Клайд у Шатландыі) — парода коней-цяжкавозаў, выведзеная ў Шатландыі.

**КЛЕЙМС** (англ. claims) — прэтэнзіі, патрабаванні пакупніка да прадаўца ў сувязі з дрэннай якасцю або станам пастаўленага тавару.

**КЛЕЙСТАГА́МІЯ** (ад гр. kleistos = замкнёны + *-гамія*) — самаапыленне і самаапладненне раслін з нераскрывальнымі кветкамі (напр. у арахісу, ячменю).

**КЛЕЙСТАКА́РПІЙ** (ад гр. kleistos = замкнуты + karpos = плод) — тое, што і *клейстатэцый*.

**КЛЕ́ЙСТАР** (ням. Kleister) — клей, прыгатаваны з мукі або крухмалу.

**КЛЕЙСТАТЭ́ЦЫЙ** (ад гр. kleistos = замкнуты + thekion = каробачка) — замкнутае пладовае цела некаторых сумчатых грыбоў з абалонкай без адтулін.

**КЛЕ́МА** (ням. Klemme) — прыстасаванне для далучэння правадоў да машыны, прыбора, апарата.

**КЛЕПСІ́ДРА** (гр. klepsydra, ад klepto = краду + hydor = вада) — вадзяны гадзіннік у старажытных Індыі, Кітаі, Егіпце, Грэцыі і Рыме.

**КЛЕПТАМА́Н** (ад гр. klepto = краду + *-ман*) — хворы на *клептаманію*.

**КЛЕПТАМА́НІЯ** (ад гр. klepto = краду + *-манія*) — неадольнае хваравітае імкненне да крадзяжу, якое выклікаецца некаторымі псіхічнымі захворваннямі.

**КЛЕПТАПАРАЗІТЫ́ЗМ** (ад гр. klepto = краду + parasitos = нахлебнік) — прымусовае прысваенне корму, здабытага іншай асобінай; найбольш распаўсюджана сярод птушак, млекакормячых і рыб, радзей сярод насякомых.

**КЛЕРАВА́ЦЬ** (ням. klären) — рабіць светлым, празрыстым; ачышчаць (цукар, алей і інш.).

# К

**КЛЕРАДЭ́НДРУМ** (н.-лац. clerodendrum, ад гр. kleros = лёс + dendron = дрэва) — кустовая расліна сям. вербенавых, пашыраная ў тропіках Азіі і Афрыкі; некаторыя віды выкарыстоўваюцца ў кветкаводстве пад назвай *валькамерыя*.

**КЛЕРК** (фр. clerc, англ. clerc, ад п.-лац. clericus = духоўная асоба) — 1) духоўная асоба ў сярэдневяковай Францыі і Англіі; 2) канторскі служачы ў некаторых краінах.

**КЛЕРУ́ХІІ** (гр. kleruchiai, ад kleros = надзел + echo = валодаю) — старажытнагрэчаскія вайсковаземляробчыя пасяленні на тэрыторыі падначаленых дзяржаў, якія ўтвараліся для ажыццяўлення ваенна-палітычнага кантролю над імі.

**КЛЕРЫКА́Л** (с.-лац. clericalis = царкоўны) — прыхільнік *клерыкалізму*, а таксама член клерыкальнай партыі.

**КЛЕРЫКАЛІ́ЗМ** (ад *клерыкал*) — палітычны кірунак, які імкнецца ўзмацніць уплыў царквы на грамадска-палітычнае і культурнае жыццё краіны.

**КЛЕ́ТРА** (н.-лац. clethra) — дрэвавая або кустовая расліна сям. клетравых парадку верасовых, пашыраная ў Амерыцы і Паўд.-Усх. Азіі; некаторыя віды вырошчваюцца як дэкаратыўныя.

**КЛЕЎРЭ́Т** (ст.-слав. клеврет, ад лац. collibertus = вольнаадпушчаны) — прыслужнік, паслугач.

**КЛЕ́ФТЫ** (н.-гр. klephtes, ад гр. klepto = таямніча захопліваю) — грэчаскія сяляне-партызаны, якія змагаліся ў 17 — пач. 19 ст. супраць турэцкага панавання ў Грэцыі.

**КЛЁЦКІ** (польск. kluski, kloski, ад с.-в.-ням. kloz) — страва з мучнога цеста або дранай бульбы ў выглядзе галачак, звараных у супе, малацэ, вадзе.

**КЛЁШ** (фр. cloche) — асаблівы крой адзення з расшырэннем унізе, а таксама штаны, спадніца такога крою.

**КЛІВА́Ж** (фр. clivage) — здольнасць горных парод расшчапляцца пад уплывам ціску на тонкія пласціны незалежна ад слаістасці.

**КЛІ́ВЕР** (гал. kluiver) — касы трохвугольны парус у пярэдняй частцы судна наперадзе *фок-мачты*.

**КЛІ́ВІЯ** (н.-лац. clivia) — травяністая расліна сям. амарылісавых з раменепадобным лісцем і аранжавымі кветкамі ў парасоніках, пашыраная ў Паўд. Афрыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**КЛІЕ́НТ** (лац. cliens, -ntis) — 1) асоба ў Стараж. Рыме, якая знаходзілася пад апякунствам *патрона*[2] 1 і выконвала ў яго карысць розныя павіннасці; 2) асоба, якая карыстаецца паслугамі адваката, натарыуса і г.д.; 3) пастаянны наведвальнік, пакупнік, заказчык.

**КЛІЕНТУ́РА** (лац. clientura) — сукупнасць *кліентаў*.

**КЛІЕНТЭ́ЛА** (лац. clientela) — форма сацыяльна-эканамічнай залежнасці паміж *патронам*[2] 1 і *кліентам* 1 у Стараж. Рыме.

**КЛІЁНА** (н.-лац. clione) — марскі крылаты *малюск*; служыць ежай рыбам, некаторым бяззубым кітам.

**КЛІ́ЗМА** (гр. klysma = прамыванне) — 1) увядзенне ў прамую кішку вадкасці з мэтай лячэння або прамывання; 2) прыбор для ўвядзення вадкасці ў прамую кішку.

**КЛІ́КА** (фр. clique = банда) — група людзей, якія імкнуцца любымі сродкамі дасягнуць якіх-н. карыслівых мэт (напр. прыдворная к.).

**КЛІ́МАКС** (гр. klimaks = лесвіца) — 1) перыяд у жыцці чалавека, які з'яўляецца пераходным ад палавой спеласці да поўнага спынення функцый палавых залоз; 2) стылістычная фігура, размяшчэнне слоў ці выразаў у парадку ўзмацнення эмацыянальнага і сэнсавага зместу; від *градацыі* 2 (параўн. *антыклімакс*).

**КЛІМАКТЭ́РЫЙ** (гр. klimakter = прыступка ў лесвіцы) — тое, што і *клімакс* 1.

**КЛІ́МАТ** (гр. klima, -atos) — шматгадовы рэжым надвор'я, уласцівы пэўнай мясцовасці ў залежнасці ад геаграфічных абставін (напр. вільготны к., цёплы к., умераны к.).

**КЛІМАТАГРА́ФІЯ** (ад *клімат* + *-графія*) — раздзел *кліматалогіі*, які апісвае кліматычныя ўмовы розных частак зямнога шара.

**КЛІМАТАЛО́ГІЯ** (ад *клімат* + *-логія*) — навука, якая вывучае клімат.

**КЛІМАТАПАТАЛО́ГІЯ** (ад *клімат* + *паталогія*) — узнікненне або абвастрэнне захворванняў пад уплывам неспрыяльных кліматычных уздзеянняў у выніку парушэння працэсаў прыстасавання арганізма да змененых метэаралагічных умоў.

**КЛІМАТАТЭРАПІ́Я** (ад *клімат* + *тэрапія*) — выкарыстанне з лячэбна-прафілактычнай мэтай кліматычных фактараў (тэмпературы, атмасфернага ціску і інш.).

**КЛІМАТРО́Н** (ад *клімат* + гр. thronos = месцапрабыванне) — *аранжарэя* са штучным кліматам для вырошчвання раслінных згуртаванняў розных геаграфічных зон (параўн. *фітатрон*).

**КЛІМА́ЦЫУМ** (н.-лац. climacium) — лістасцябловы мох сям. кліманцыевых, які расце на сырой і балоцістай глебе на лугах, у лясах, па берагах вадаёмаў.

**КЛІМЕ́НІІ** (н.-лац. clymenia = німфа, дачка Акіяна) — атрад вымерлых малюскаў класа галаваногіх; жылі ў познім *дэвоне* — раннім *карбоне*.

**КЛІ́НА** (гр. klino = нахіляю) — беспераліынная змена ў адным напрамку характарыстык *абіятычных* фактараў і расліннасці.

**КЛІНАСТА́Т** (ад гр. klino = нахіляю + *-стат*) — прыбор, які выкарыстоўваецца ў доследах па *фізіялогіі* раслін для пазбаўлення ад аднабаковага ўплыву на іх некаторых фактараў знешняга асяроддзя (у асноўным сілы прыцяжэння, святла).

**КЛІНАЦЭФА́ЛІЯ** (ад гр. kline = ложа + *-цэфалія*) — форма галавы з седлападобным паглыбленнем у вобласці цемені.

**КЛІ́НІКА** (гр. klinike = лячэнне) — лячэбная ўстанова, дзе акрамя лячэння хворых праводзіцца навукова-даследчая і вучэбна-выкладчыцкая работа.

**КЛІНІЦЫ́СТ** (ад *клініка*) — урач, які працуе ў клініцы.

# К

**КЛІ́НКЕР**[1] (ням. Klinker) — надта моцная цэгла, у якую не пранікае вільгаць; выкарыстоўваецца для машчэння дарог, падлогі ў прамысловых будынках і інш.; 2) абпаленая да спякання цэментная сыравіна ў выглядзе цвёрдых кускоў.

**КЛІ́НКЕР**[2] (англ. clinker) — вузкі доўгі човен для акадэмічнага спартыўнага веславання.

**КЛІНКЕ́Т** (гал. klinket = засланка) — клінавы кран для трубаправодаў на судне.

**КЛІНО́МЕТР** (ад гр. klino = нахіляю + *-метр*) — прыбор для вымярэння нахілу адхонаў насыпу, крэну судна.

**КЛІНЧ** (англ. clinch = заціск) — узаемнае захопліванне баксёраў у працэсе бою, што з'яўляецца парушэннем правіл.

**КЛІП** (англ. clip = стрыгчы, рабіць выразкі) — кароткі музычны нумар, зняты на відэаплёнку часта на фоне дэкарацыі, ландшафту, вуліцы.

**КЛІ́ПА** (шв. klippa = абразаць нажніцамі) — манета, чаканеная круглым штэмпелем на металічных чатырох-, шасці- і васьмівугольных пласцінах.

**КЛІ́ПЕР** (гал. klipper, англ. clipper) — 1) быстраходнае марское парусное судна з трыма мачтамі (існавала да 19 ст.); 2) быстраходнае парусна-маторнае прамысловае судна.

**КЛІ́ПСЫ** (англ. clips) — заціскныя завушніцы.

**КЛІР** (гр. kleros = жэрабя) — сукупнасць служыцеляў культу хрысціянскай царквы, а таксама царкоўны хор.

**КЛІ́РАС** (гр. kleros = жэрабя) — месца для пеўчых у хрысціянскім храме на ўзвышэнні па баках алтара.

**КЛІ́РЫК** (гр. klerikos) — член *кліру*, царкоўнаслужыцель.

**КЛІ́РЫНГ** (англ. clearing, ад clear = ачышчаць, уносіць яснасць) — сістэма безнаяўных разлікаў за прададзены тавар або выкананую работу, якая ажыццяўляецца праз банк.

**КЛІ́РЭНС** (англ. clearance) — адлегласць паміж ніжэйшымі пунктамі канструкцыі аўтамабіля (за выключэннем колаў) і дарогай.

**КЛІСТРО́Н** (ад гр. klyzo = б'ю + *-трон*) — звышвысокачастотная электронная лямпа; выкарыстоўваецца для ўзмацнення, генерыравання, павелічэння частаты ваганняў і інш.

**КЛІСЦІ́Р** (гр. klyster) — тое, што і *клізма*.

**КЛІТО́ПІЛ** (н.-лац. clitopilus) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. ружовапласціннікавых, які расце на палянах, узлесках; адзін з відаў — падвішань.

**КЛІ́ТРЫС** (н.-лац. clithris) — сумчаты грыб сям. псеўдафацыдыевых, які развіваецца на галінках дуба.

**КЛІФ** (англ. cliff) — абрыў марскога берага, які ўтвараецца пад уздзеяннем прыбою.

**КЛІШО́ГРАФ** (ад фр. cliche = адбітак + *-граф*) — разнавіднасць электроннага гравіравальнага аўтамата.

**КЛІШЭ́** (фр. cliché) — рэльефны малюнак, чарцёж, зроблены на металічнай, драўлянай або лінолеумавай пласцінцы для ўзнаўлення

яго пры друкаванні; друкарская форма.

**КЛО́БМЕНЫ** (англ. clubmen, ад club = друк, кій) — удзельнікі сялянскага руху ў Англіі ў перыяд Англійскай буржуазнай рэвалюцыі 17 ст.

**КЛОН** (гр. klon = парастак) — генетычна аднароднае патомства раслiннага або жывёльнага арганізма, якое ўтвараецца ў выніку вегетатыўнага размнажэння або непалавога дзялення клетак.

**КЛО́НУС** (гр. klonos = сумятня) — міжвольныя хуткія рытмічныя скарачэнні асобных мышц або іх груп, што з'яўляецца прыкметай паражэння цэнтральнай нервовай сістэмы

**КЛО́ПФЕР** (ням. Klopfer) — тэлеграфны апарат для прыёму сігналаў азбукі Морзе на слых.

**КЛО́УН** (англ. clown) — 1) камічны персанаж у п'есах англійскіх драматургаў 16 ст.; 2) цыркавы артыст-комік.

**КЛО́ЦІК** (ад гал. kloot = шар) — металічны або драўляны круг з выступаючымі краямі на верхнім канцы мачты або флагштока.

**КЛУАЗАННЕ́** (ад фр. cloison = перагародка) — перагародачная эмаль.

**КЛУА́ТР** (фр. cloître, ад лац. claustrum = закрытае месца, манастыр) — крытая *галерэя*, якая акружае прамавугольны двор манастыра або вялікай царквы ў раманскай і гатычнай архітэктуры.

**КЛУБ** (англ. club) — грамадская арганізацыя, якая праводзіць культурна-асветную, спартыўную і інш. работу ў населеным пункце, на прадпрыемстве, а таксама памяшканне такой арганізацыі.

**КЛУБІЁНА** (н.-лац. clubiona) — павук сям. *клубіянідаў*, які жыве на адкрытых месцах, на нізкіх раслінах, паверхні глебы.

**КЛУБІЯНІ́ДЫ** (н.-лац. clubionidae) — сямейства павукоў бледнажаўтаватай, жоўта-зялёнай ці светла-карычневай афарбоўкі, якое ў сусветнай фауне налічвае каля 1,5 тысяч відаў; жывуць у скручаным лісці, у траве, пад карой, у імху, лясным подсціле або пад камянямі.

**КЛУ́МБА** (ад англ. clump = група дрэў) — невялікая фігурная града для кветак, прыўзнятая над узроўнем дарожак і газонаў.

**КЛУМПАКО́ІС** (літ. klumpakojis, ад klumpe = драўляны абутак + kója = нага) — старадаўні літоўскі народны парны танец.

**КЛУ́НАК** (польск. tłumok) — рэчы, звязаныя ў кавалак матэрыі, посцілку, хустку.

**КЛУ́НЯ** (літ. klúonas) — гаспадарчы будынак для захоўвання і малацьбы збажыны; гумно.

**КЛУП** (ням. Kluppe) — інструмент для ручной нарэзкі разьбы на металічных вырабах.

**КЛЮЗ** (гал. kluis) — адтуліна ў корпусе карабля для прапускання якарнага ланцуга або троса (*швартова*).

**КЛЮЙВЕРАМІЦЭ́ТЫ** (н.-лац. kluyveromyces) — аскаспоравыя дрожджы, пашыраныя ў глебе, марской вадзе, малочна-кіслых прадуктах.

**КЛЮФТ** (ням. Kluft = расколіна) — *геал.* пустата паміж жылай і прылеглай да яе пародай.

**КЛЯЙМО́** (с.-н.-ням. kleinôe) — 1) знак (пячатка), які ставяць на

вырабах, таварах, а таксама прылада, якой гэта робяць; 2) *перан.* знак, сведчанне чаго-н. (напр. ганебнае к.).

**КЛЯ́МАР** (ст.-польск. klamra, klamer, ад с.-в.-ням. klamer) — жалезны прут або паласа з загнутымі канцамі для мацавання драўляных частак будынка.

**КЛЯ́МКА** (польск. klamka, ад с.-в.-ням. klam) — прыстасаванне, з дапамогай якога адчыняюць і зачыняюць дзверы.

**КЛЯ́СЕР** (фр. classeur) — папка з кішэнькамі або альбом для марак.

**КЛЯ́ЎЗА** (ст.-польск. klauza, ад с.-лац. clausa) — ілжывая дробязная скарга, нагавор, паклёп.

**КЛЯ́ШТАР** (польск. klasztor < чэш. klášter < с.-в.-ням. kloster, ад с.-лац. clostrum) — каталіцкі манастыр.

**КМЕН, КМІН** (польск. kmin < ст.-в.-ням. kumin < лац. cuminum, ад гр. kyminon) — 1) травяністая расліна сям. парасонавых з прамым, разгалінаваным уверсе сцяблом і белымі або ружовымі кветкамі; 2) пахучае насенне гэтай расліны, якое выкарыстоўваецца як прыправа.

**КНЕМІ́ДЫ** (гр. knemides) — металічныя даспехі старажытнагрэчаскага воіна, якія закрывалі галёнкі.

**КНЕ́ХТ** (ням. Knecht) — 1) пехацінец у даўнім нямецкім войску; 2) батрак у Германіі.

**КНЕ́ХТЫ** (гал. knecht) — парныя тумбы на палубе судна або на прыстані для замацавання *швартовых* або буксірных канатаў.

**КНІДА́РЫІ** (н.-лац. cnidaria) — тып кішачнаполасцевых; водныя, пераважна марскія, адзіночныя або каланіяльныя арганізмы, для якіх характэрны дзве жыццёвыя формы — прымацаваны *паліп* і свабоднаплаваючая *медуза*; падзяляюцца на класы *гідразояў*, *сцыфоідных*, каралавых паліпаў і выкапнёвых *канулярый*.

**КНІДАСПАРЫ́ДЫІ** (н.-лац. cnidosporidia) — клас аднаклетачных жывёл тыпу прасцейшых; паразітуюць у клетках рыб, чарвей.

**КНІ́КСЭН** (ням. knicksen = рабіць рэверанс, прысядаць) — спрошчаная форма жаночага паклону ў выглядзе кароткага неглыбокага прысядання, якая замяніла *рэверанс*.

**КНІФО́ФІЯ** (н.-лац. kniphofia) — травяністая расліна сям. лілейных з доўгім лісцем і аранжава-чырвонымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў Цэнтр. і Паўд. Афрыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**КНОП** (гал. knoop) — *мар.* плецены вузел у выглядзе патаўшчэння на канцы троса або снасцей.

**КНО́ПКА** (рус. кнопка, ад гал. knoop = гузік) — 1) цвічок з круглай шырокай плешкай для прымацавання паперы, тканіны да чаго-н. цвёрдага; 2) рухомы гузічак для замыкання электрычнага ланцуга або прывядзення ў дзеянне розных механізмаў націсканнем на яе (напр. к. электрычнага званка); 3) металічная засцежка, якая складаецца з дзвюх частак, што ўваходзяць адна ў другую.

**КНОТ** (польск. knot, ад с.-в.-ням. knote) — спецыяльная стужка для гарэння ў газавай лямпе, газніцы, свечцы.

**КНЭ́ЛІ** (фр. quenelle) — клёцкі з мяснога або рыбнага фаршу.

**КО́БАЛЬТ** (с.-лац. cobaltum, ад ням. Kobold = дамавік, гном) — 1) серабрыста-белы метал з чырванаватым адлівам, цвярдзейшы за жалеза; 2) цёмна-сіняя фарба, у склад якой уваходзіць кобальт.

**КО́БЗА** (укр. кобза, ад тур. kopuz = аднаструнная гітара) — старадаўні ўкраінскі струнна-шчыпковы музычны інструмент.

**КО́БРА** (парт. cobra) — ядавітая змяя сям. *аспідаў*, якая ў раздражнёным стане расшырае шыю ў выглядзе дыска; пашырана ў Афрыцы і Азіі.

**КО́БЫЗ** гл. *кабыз*.

**КО́ГІЯ** (н.-лац. kogia) — млекакормячае падатрада зубастых кітоў, пашыранае ў цёплых і ўмерана цёплых водах Сусветнага акіяна.

**КОД** (фр. code, ад лац. codex = спіс) — сістэма ўмоўных абазначэнняў або сігналаў для перадачы, апрацоўкі або захавання якой-н. інфармацыі (напр. тэлеграфны к.).

**КО́ДА** (іт. coda = хвост) — 1) дадатковая заключная частка музычнага твора; 2) звышсхемныя дадатковыя словы або радкі ў цвёрдых формах верша (санеце, актаве і інш.).

**КО́ДЭКС** (лац. codex = кніга) — 1) звод законаў якой-н. галіны права (напр. крымінальны к., грамадзянскі к.); 2) *перан.* сукупнасць правіл паводзін, поглядаў (напр. маральны к.).

**КОЙР** (тамільск. kojr) — валакно з пладоў некаторых разнавіднасцей какосавых пальм, якое ўжываецца для вырабу шчотак, цыновак, лёгкіх канатаў у Паўд. Азіі.

**КОК** (англ. cook, гал. kok) — кухар на судне.

**КО́КА** (ісп. coca, з індз.) — кустовая расліна сям. какаінавых, пашыраная ў тропіках Паўд. Амерыкі і Азіі; дае *какаін* і іншыя *алкалоіды*.

**КО́КА-КО́ЛА** (англ. Coca-Cola) — безалкагольны газіраваны напітак з дабаўкай экстракту з лісця *какавы* і гарошын *колы*.

**КОКАМІКО́З** (ад гр. kokkos = зерне + *мікозы*) — хвароба пладовых дрэў, што выклікаецца сумчатым грыбам Coccomyces.

**КО́КАН** (фр. cocon) — абалонка, якую будуе вакол сябе вусень перад ператварэннем у кукалку.

**КО́КІ** (гр. kokkos = зерне) — шарападобныя бактэрыі, якія маюць шырокае распаўсюджанне ў прыродзе.

**КО́КЛЕ** (латыш. kokle) — латышскі струнны шчыпковы музычны інструмент.

**КО́КЛЮШ** (фр. coqueluche) — інфекцыйная хвароба, пераважна ў дзяцей, якая выражаецца ў частых прыступах сутаргавага кашлю.

**КО́КНІ** (англ. cockney) — 1) зняважліва-насмешлівая мянушка прадстаўніка лонданскіх сярэдніх і ніжэйшых слаёў насельніцтва; 2) назва дыялекта, на якім гавораць прадстаўнікі ніжэйшых сацыяльных слаёў насельніцтва Лондана.

**КО́КПІТ** (англ. cockpit) — адкрытае памяшканне для рулявога і пасажыраў на *катэры* або парруснай *яхце*.

**КОКС** (ням. Koks, ад англ. coke) — цвёрдае паліва, якое ат-

рымліваецца з каменнага вугалю або торфу ў выніку награвання іх без доступу паветра да 950—1050 °С.

**КОК-САГЫ́З** (рус. кок-сагыз, ад казах. kok sagiz) — травяністая расліна сям. складанакветных, якая паходзіць з Цянь-Шаня; шырока культывуецца як каўчуканосная.

**КОКСАХІ́МІЯ** (ад *кокс* + *хімія*) — вытворчасць, звязаная з перапрацоўкай каменнага вугалю шляхам каксавання.

**КО́ЛА** (лац. cola, ад афр. kola) — вечназялёная дрэва сям. стэркуліевых, пашыранае ў трапічнай Афрыцы; выкарыстоўваецца ў медыцыне і харчовай прамысловасці, напр. для вырабу *кока-колы.*

**КО́ЛАН** (гр. kolon = частка сказа, элемент перыяду) — 1) група стоп у антычнай метрыцы, дзе рытмічны націск адной стапы падпарадкоўвае сабе націскі астатніх; 2) адзінка маўлення, аб'яднанае лагічным націскам словазлучэнне, якое вымаўляецца адным выдыхам.

**КО́ЛАР-І́НДЭКС** (ад лац. color = колер + *індэкс*) — *астр.* паказальнік колеру, розніца паміж фатаграфічнай і візуальнай зорнымі велічынямі якога-н. нябеснага свяціла.

**КО́ЛБА** (ням. Kolben) — шкляная шарападобная або канічная пасудзіна з доўгім рыльцам для лабараторных работ.

**КОЛЕАПТЭРАЛО́ГІЯ** (ад гр. koleopteros = жук + *-логія*) — раздзел *энтамалогіі*, які вывучае жукоў.

**КО́ЛЕР** (лац. color) — 1) афарбоўка (напр. сіні к., к. вясёлкі); 2) адценне фарбы, густата, ступень яркасці яе; 3) падрыхтаваны для афарбоўкі чаго-н. састаў фарбы.

**КОЛЕРАКАРЭ́КТАР** (ад *колер* + *карэктар*) — электронны апарат для колерападзельнай *карэктуры.*

**КОЛЕРАМЕ́ТР** (ад *колер* + *-метр*) — аптычная прылада для вызначэння колеру і канцэнтрацыі афарбаваных раствораў, эмульсій.

**КОЛЕРАМЕ́ТРЫЯ** (ад *колер* + *-метрыя*) — метад колькаснага вызначэння колеру (яго тону, яркасці).

**КО́ЛЕУС** (н.-лац. coleus, ад гр. koleos = ножны) — травяністая расліна сям. ясноткавых з цёмначырвоным лісцем і блакітнымі або ліловымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў тропіках і субтропіках; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**КО́ЛІ** (англ. collie) — парода службовых сабак; шатландская аўчарка.

**КОЛІБАКТЭРЫЁЗ** (ад гр. kolon = тоўстая кішка + *бактэрыёз*) — інфекцыйнае захворванне нованароджанага маладняка сельскагаспадарчых жывёл і пушных звяроў, якое выклікаецца патагеннымі сератыпамі кішэчнай палачкі.

**КО́ЛІКІ** (гр. kolike = кішачная хвароба) — рэзкі, востры боль, што ўзнікае пераважна пры захворваннях органаў стрававальнай сістэмы.

**КО́ЛХІКУМ** (н.-лац. colchicum, ад гр. kolchikon) — травяністая расліна сям. лілейных з падоўжаным лісцем і буйнымі ліловa-ружовымі кветкамі, пашыраная ва ўмераных і субтрапічных зонах; змяшчае алкалоід *калхіцын*, што выкарыстоўваецца ў медыцыне; пазнацвет.

**КОЛЬТ** [англ. colt, ад S.Colt = прозвішча амер. збройніка (1814—1862)] — рэвальвер або пісталет асобай сістэмы.

**КО́МА**[1] (н.-лац. coma, ад гр. koma = глыбокі сон) — *мед.* выключна цяжкі паталагічны стан арганізма са стратай прытомнасці, парушэннем кровазвароту, дыхання, працэсу абмену.

**КО́МА**[2] (гр. kome = валасы) — 1) *фіз.* адно са скажэнняў адлюстраванняў, якое ўтвараецца аптычнымі сістэмамі ў выглядзе плямы; 2) *астр.* газавая туманная абалонка ядра каметы, якая разам з ім утварае галаву каметы.

**КО́МА**[3] (гр. komma = адрэзак) — *муз.* невялікі (меншы за 1/8 тона) інтэрвал паміж двума гукамі.

**КО́МАНЕР** (англ. commoner) — член англійскай палаты абшчын.

**КОМІВАЯЖО́Р** (фр. commis voyageur) — прадстаўнік фірмы, які раз'язджае з узорамі тавараў (або іх каталогамі) і збірае заказы, заключае гандлёвыя пагадненні.

**КО́МІК** (гр. komikos) — 1) акцёр, які іграе камічныя ролі; 2) *перан.* той, хто ўмее смяшыць, весяліць іншых.

**КО́МІКС** (англ. comics) — серыя малюнкаў з кароткімі суправаджальнымі тэкстамі, што ўтвараюць закончанае апавяданне.

**КО́МІН** (польск. komin < с.-в.-ням. kámin, ад лац. caminus < гр. kaminos) — труба для адводу дыму з печы; дымаход.

**КО́МІНГС** (англ. coamings) — дашчанае або металічнае абрамленне люкаў у палубе судна.

**КО́МПАС** (іт. compasso) — прыбор для вызначэння напрамку свету пры дапамозе намагнічанай стрэлкі, якая заўсёды накіравана на поўнач.

**КО́МПЛЕКС** (лац. complexus = сувязь, ахоп) — сукупнасць паняццяў, з'яў, прадметаў, дзеянняў, якая ўспрымаецца як адно цэлае (напр. архітэктурны к., к. гімнастычных практыкаванняў).

**КОМПЛЕКСАМЕ́ТРЫЯ** (ад *комплекс* + *-метрыя*) — спосаб хімічнага аналізу, у аснове якога ляжыць утварэнне комплексных злучэнняў.

**КО́МПЛЕКСНЫ** (ад *комплекс*) — які ахоплівае цэлую групу прадметаў, з'яў, працэсаў, з'яўляецца комплексам чаго-н. (напр. к-ая вытворчасць, к. лік).

**КО́НДАР** (ісп. cóndor, з мовы кечуа kuntur) — 1) драпежная птушка падатрада амерыканскіх грыфаў, якая водзіцца ў Паўд. Амерыцы; 2) залатая і сярэбраная манеты ў некаторых паўднёваамерыканскіх краінах (Чылі, Калумбіі, Эквадоры) у 1851—1933 гг.

**КО́НКУРС** (лац. concursus = сутыкненне) — спаборніцтва з мэтай выявіць лепшых яго ўдзельнікаў.

**КО́НСУЛ** (лац. consul) — 1) адна з дзвюх вышэйшых службовых асоб у Стараж. Рыме, якая ажыццяўляла ваенную і грамадзянскую ўладу; 2) тытул кожнай з трох асоб, надзеленых неабмежаванай выканаўчай уладай у Францыі з часу перавароту Напалеона Банапарта (9 лістапада 1799 г.) да абвяшчэння яго імператарам (1804 г.); 3) службовая асоба, прызначаная ў якасці пастаяннага прадстаўніка ў якім-н. горадзе іншай дзяржавы для абароны інтарэсаў сваёй дзяржавы і грамадзян.

# К

**КО́НСУЛЬСТВА** (ад *консул*) — 1) час кіравання консулаў у Стараж. Рыме ў перыяд рэспублікі і ў Францыі (1709—1804); 2) прадстаўніцтва адной дзяржавы на тэрыторыі другой дзяржавы на чале з консулам, а таксама памяшканне, якое яно займае.

**КО́НТА** (іт. conto) — *фін.* рахунак.

**КОНТР-, КОНТРА-** (лац. contra = супраць) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «супраць».

**КО́НТРА** (лац. contra = супраць) — нацягнутыя адносіны паміж кім-н.; узаемная незадаволенасць, раздражнёнасць.

**КОНТРАГЕ́НТ** (лац. contrahens, -ntis = які дамаўляецца) — асоба або ўстанова, якія ўзялі на сябе пэўныя абавязкі па дагавору.

**КО́НТР-АДМІРА́Л** (фр. contre-amiral) — ніжэйшае адміральскае званне.

**КОНТРАЖУ́Р** (фр. á contrejour = супраць святла) — фота- або кіназдымка, калі крыніца святла знаходзіцца ззаду аб'екта здымкі.

**КОНТР-АПРО́ШЫ** (фр. contre-approches, ад contre = супраць + approche = набліжэнне) — ходы злучэння, якія асаджаныя ў крэпасці войскі пракладвалі насустрач *апрошам* праціўніка з мэтай контратакі.

**КОНТРАПУНКТЫ́СТЫ** (іт. contrappuntisti) — кампазітары 14—18 ст., якія развівалі ў сваіх творах прынцып шматгалосся.

**КОНТРАСІГНАВА́ЦЬ** (ад *контра-* + лац. signare = падпісваць) — пацвярджаць другім афіцыйным подпісам важнасць дакумента.

**КОНТРАСІГНАТУ́РА** (лац. contrasignatura = міністэрскі подпіс) — знак, які выбіваўся даўней на манетах для надання ім новай вартасці.

**КОНТРАСІГНА́ЦЫЯ** (ад *контра-* + лац. signare = падпісваць) — подпіс міністра на дакуменце, выдадзеным кіраўніком дзяржавы, якім міністр бярэ на сябе юрыдычную і палітычную адказнасць за гэты дакумент.

**КОНТРАТА́КА** (фр. contre-attaque, ад contre = супраць + attaque = нападзенне) — сустрэчная *атака*, якую арганізоўваюць з мэтай адбіць наступленне праціўніка або самім перайсці ў наступленне.

**КОНТРАТЫ́П** (ад *контра-* + *-тып*) — копія з арыгінальнага негатыва, якая выкарыстоўваецца ў кінавытворчасці для масавага вырабу фільмакопій.

**КОНТРАФАГО́Т** (іт. contrafagotto) — драўляны духавы музычны інструмент, які гучыць на актаву ніжэй *фагота*.

**КОНТРБАЛА́НС** (ад *контр-* + *баланс*) — табліца бухгалтарскіх дадзеных, складзеная з мэтай праверкі і аналізу ўсяго балансу або часткі яго.

**КОНТРВАЛЮЦЫ́ЙНЫ** (ад *контр* - + лац. vallum = вал); к - а я л і н і я — земляны вал і роў вакол крэпасці, якія рабілі войскі, што яе асаджвалі, каб акружаныя не маглі вырвацца.

**КОНТРГРЭ́ЙФЕР** (ад *контр-* + *грэйфер*) — прыстасаванне для дакладнага ўстанаўлення кінаплёнкі ў кадравым акне кіназды-

мачнага апарата пасля яе перамяшчэння на крок кадра.

**КОНТРМАНЕ́ЎР** (фр. contre-manoevre) — сустрэчны *манеўр*, манеўр у адказ.

**КОНТРМА́РШ** (фр. contre-marche) — *марш.* з мэтай ліквідацыі марша праціўніка, каб потым нанесці яму паражэнне.

**КОНТРМІ́НА** (фр. contre-mine) — *міна*[1] 1 для знішчэння мінных галерэй праціўніка пры абароне бліжэйшых подступаў да абарончых збудаванняў.

**КОНТРПРАЕ́КТ** (ад *контр-* + *праект*) — праект у адказ на іншы праект.

**КОНТРПРАПАГА́НДА** (ад *контр-* + *прапаганда*) — сістэма ідэалагічных мер аператыўнага і доўгачасовага характару, накіраваная на прадухіленне і нейтралізацыю непажаданай прапаганды.

**КОНТРРЭВАЛЮ́ЦЫЯ** (фр. contre-révolution) — барацьба скінутага сацыяльнай рэвалюцыяй класа за аднаўленне ранейшых парадкаў.

**КОНТРРЭВАЛЮЦЫЯНЕ́Р** (фр. contre-révolutionnaire) — удзельнік *контррэвалюцыі.*

**КОНТРРЭЛЬЕ́Ф** (ад *контр-* + *рэльеф*) — заглыбленая ў плоскасць выява; від рэльефу.

**КОНТРРЭФАРМА́ЦЫЯ** (ад *контр-* + *рэфармацыя*) — рэлігійна-палітычны рух у Еўропе 16—17 ст. на чале з папствам, накіраваны супраць Рэфармацыі, за захаванне *феадалізму* і ўзмацненне *каталіцызму.*

**КОНТРТЫ́ТУЛ** (ад *контр-* + *тытул*) — дадатковы тытул на левай старонцы развароту кнігі, што змяшчае выхадныя дадзеныя пераважна ў шматтомных або серыйных выданнях.

**КОНТРФО́РС** (фр. contre-force) — вертыкальны выступ, рабро ў сцяне, плаціне для павышэння яе ўстойлівасці.

**КОНТРША́НСЫ** (ад *контр-* + *шансы*) — сустрэчныя шансы на атрыманне перавагі ў шахматнай гульні.

**КО́НТРЫ** (фр. contre = супраць, ад лац. contra = супраць) — напружаныя адносіны, варожасць (напр. быць у контрах).

**КОНТРЭСКА́РП** (фр. contrescarpe) — 1) пярэдні (бліжэйшы да праціўніка) схіл знешняга рова ўмацавання (параўн. *эскарп* 1); 2) супрацьтанкавая перашкода ў выглядзе крутога зрэзу ўзгорка (берага ракі), звернутага ў бок тых, хто абараняецца (параўн. *эскарп* 2).

**КО́НТУР** (фр. contour) — знешні абрыс чаго-н. (напр. контуры дрэў, к. рукі).

**КО́НУНГ** (ст.-сканд. konungr) — вайсковы кіраўнік, а пасля кароль у скандынаўскіх народаў.

**КО́НУС** (лац. conus, ад гр. konos) — геаметрычнае цела, якое ўтвараецца вярчэннем прамавугольнага трохвугольніка вакол аднаго з яго катэтаў, а таксама прадмет, які мае форму такога геаметрычнага цела (напр. к. вулкана).

**КО́НХА** (гр. konche = ракавіна) — паўкупал для перакрыцця паўцыліндрычных частак збудавання (*апсідаў*, *нішаў*).

**КО́ПІЯ** (лац. copia = мноства) — 1) дакладнае ўзнаўленне, паўтарэнне чаго-н. (напр. к. дыплома, к. карціны); 2) *перан.* знешняе падабенства з кім-н., чым-н.

# К

**КО́ПРА** (парт. copra, ад малайск. koppara) — высушаная мякаць какосавага арэха.

**КО́ПУЛА** (лац. copula = звязка) — *лінгв.* службовы дзеяслоў.

**КО́РА** (гр. kore = дзяўчына) — статуя прама стаячай дзяўчыны ў доўгім адзенні ў старажытнагрэчаскім мастацтве.

**КО́РАК** (польск. korek, ад ням. Kork) — 1) вонкавы адмерлы слой кары некаторых драўняных раслін; 2) затычка для бутэлек.

**КО́РАНЕР** (англ. coroner) — судовы следчы ў Англіі, ЗША і некаторых іншых краінах, які праводзіць расследаванне ў выпадках смерці, што здарылася пры нявысветленых абставінах або раптоўна.

**КО́РБА** (польск. korba, ад ням. Kurbe) — ручка ў выглядзе загнутага прута, пры дапамозе якой прыводзіцца ў рух які-н. механізм; крывашып.

**КОРД**[1] (польск. kord, ад венг. kard < тур. kard < перс. kārd) — *гіст.* кароткі меч.

**КОРД**[2] (фр. corde = вяроўка) — 1) моцныя кручаныя ніткі з баваўнянага або хімічнага валакна, з якіх вырабляюць тканіну для авія- і аўтапакрышак; 2) сорт шарсцяной тканіны ў рубчык.

**КО́РДА** (фр. corde = вяроўка) — 1) доўгая вяроўка, на якой ганяюць па крузе коней пры абучэнні; 2) нітка для кіравання лятаючымі мадэлямі.

**КО́РДАБА** (ісп. córdoba) — грашовая адзінка Нікарагуа, роўная 100 *сентава.*

**КО́РДЫЦЭПС** (н.-лац. cordyceps) — сумчаты грыб сям. спарыннёвых, які з'яўляецца паразітам насякомых, радзей павукоў, грыбоў.

**КОРН** (ням. Korn = зерне) — 1) вага высакароднага металу ў манеце; 2) зярністая шурпатая паверхня каменя ў *літаграфіі*, металічнай пласцінкі ў афсетным спосабе друку або спецыяльнай паперы (*корнпапір*).

**КО́РНЕР**[1] (англ. corner = скупляць тавар са спекулятыўнай мэтай) — кароткатэрміновы дагавор з мэтай авалодаць рынкам шляхам скупкі акцый, тавараў, кантрактаў на біржах і перапрадажы іх па манапольных цэнах.

**КО́РНЕР**[2] (англ. corner = вугал) — штрафны вуглавы ўдар у футболе.

**КОРНПАПІ́Р** (ням. Kornpapier, ад Korn = зерне + Papier = папера) — папера з зярністай будовай паверхні, пакрытая спецыяльным клеявым слоем; выкарыстоўваецца ў *літаграфіі.*

**КО́РНЦАНГ** (ням. Kornzange) — 1) шчыпцы накшталт нажніц з зазубрынамі на рэжучым баку, якія выкарыстоўваюцца ў *хірургіі*; 2) невялікія шчыпчыкі (*пінцэт*) у гадзіннікавай і ювелірнай справе.

**КО́РПІЯ** (с.-лац. corpia) — перавязачны матэрыял у выглядзе ніткак, нашчыпаных з рызззя (выйшаў з ужытку).

**КО́РПУС** (лац. corpus = цела) — 1) тулава чалавека або жывёлы; 2) аснова прыбора, апарата, механізма (напр. к. гадзінніка); 3) асобны будынак на агульнай пляцоўцы (напр. галоўны к.); 4) вайсковае злучэнне з некалькіх дывізій; 5) сукупнасць асоб адной спецыяльнасці, аднаго службовага станові-

шча (напр. дыпламатычны к.); 6) друкарскі шрыфт, *кегель* якога роўны 10 *пунктам* (3,76 мм).

**КОРРЭПЕТЫ́ТАР** (ад con = з, разам + *рэпетытар*) — піяніст, памочнік дырыжора, які развучвае з выканаўцамі оперы ці балета сольныя партыі (параўн. *канцэртмайстар* 3).

**КОРТ**[1] (англ. court) — пляцоўка для гульні ў *тэніс*.

**КОРТ**[2] (польск, kort, ад англ. cord) — баваўняная тканіна атласнага перапляцення для рабочага і спартыўнага адзення.

**КОРТЫКАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. cortex, -icis = кара); к. ф у н к ц ы й — узрастанне ў працэсе гістарычнага развіцця жывёл значэння вышэйшых аддзелаў цэнтральнай нервовай сістэмы ў рэгуляцыі функцый арганізма.

**КОРТЫКАСТЭРО́ІДЫ** (ад лац. cortex, -icis = кара + *стэроіды*) — група стэроідаў, якія маюць уласцівасці *гармонаў* кары наднырачнікаў.

**КОРТЫКАСТЭРО́Н** (ад лац. cortex, -icis = кара + гр. stereos = цвёрды) — гармон кары наднырачных залоз, больш слабы па дзеянню, чым *гідракартызон*.

**КОРТЫКАТРАПІ́Н** (ад лац. cortex, -icis = кара + гр. trope = змена) — тое, што і *адрэнакортыкатропны гармон*.

**КО́РЦІК** (рус. кортик, ад перс. kard = нож) — халодная зброя ў форме кароткага кінжала як прыналежнасць параднай формы марскіх афіцэраў розных дзяржаў.

**КО́РЫНЕ** (н.-лац. coryne) — сумчаты грыб сям. гелоцыевых, які трапляецца на пнях і гнілых ствалах дуба, таполі.

**КО́РЫУМ** (лац. corium = скура, ад гр. chorion = абалонка) — тое, што і *дэрма*.

**КО́СІНУС** (н.-лац. cosinus) — *мат*. адна з трыганаметрычных функцый, адносіны прылеглага катэта да гіпатэнузы (параўн. *сінус*).

**КО́СМАС** (гр. kosmos) — сусветная прастора, Сусвет, а таксама бліжэйшая прастора за межамі зямной атмасферы.

**КО́ТЭРЫ** (англ. cotters) — слой феадальна залежнага сялянства ў сярэдневяковай Англіі.

**КО́ЎДРА** (польск. kołdra, ад іт. coltra) — пасцельная прыналежнасць, якой накрываюцца.

**КОЎШ** (літ. káušas) — 1) драўляная або металічная пасудзіна з ручкай для чэрпання вады, квасу і інш.; 2) вялікае механічнае прыстасаванне для зачэрпвання і пераносу да месца разгрузкі грунту, разлівання расплаўленага металу і інш. (напр. к. экскаватара).

**КО́ФЕ** (гал. koffie, ад ар. kachva) — 1) вечназялёная дрэвавая або кустовая расліна сям. марэнавых, пашыраная ў тропіках і субтропіках, насенне якой выкарыстоўваецца для прыгатавання асобага напітку; кафейнае дрэва; 2) тое, што і *кава*.

**КОФР** (фр. coffre) — скрыня з некалькімі аддзяленнямі.

**КО́ФТА** (польск. kofta) — верхняе кароткае жаночае адзенне.

**КО́ХІЯ** (н.-лац. kochia, ад ням. W.Koch = прозвішча ням. батаніка) — расліна сям. лебядовых з вузкім лісцем і дробнымі кветкамі ў коласападобных суквецціях, пашыраная ў камяністых стэпах, паўпустынях і на засоленых гле-

бах; на Беларусі трапляецца на пясках, уздоўж дарог, платоў; прутняк.

**КО́ШАР** (ст.-яўр. kaser = чысты) — дазволеная іудзейскай рэлігіяй страва ў веруючых яўрэяў.

**КОШТ** (польск. koszt < чэш. košt, ад с.-в.-ням. kost, koste) — выражаная ў грашах вартасць чаго-н. (напр. к. працы, к. тавараў).

**КРА́АЛЬ** (афрыкаанс kraal, ад парт. curral = загон для скаціны) — пасяленне ў народаў Паўд.-Усх. Афрыкі, у якім будынкі размешчаны па крузе, а ўнутры загон для скаціны.

**КРАБ** (гал. krab) — рак атрада дзесяціногіх (*дэкаподаў*), пераважна марскі; многія віды з'яўляюцца аб'ектам промыслу.

**КРА́ГІ** (рус. краги, ад шв. krag = каўнер) — 1) накладныя скураныя халявы з зашпількамі; 2) раструбы ў пальчатках.

**КРАКАВЯ́К** (польск. krakowiak) — польскі народны танец, а таксама музыка да яго.

**КРАКАДЗІ́Л** (лац. crocodilus, ад гр. krokodeilos) — буйны паўзун з тоўстай панцырнай скурай, які водзіцца ў вадаёмах трапічных краін.

**КРАКАІ́Т** (ад гр. krokoeis = шафранавы) — мінерал класа *храматаў* чырвонага колеру, які змяшчае *сульфіды* свінцу.

**КРАКА́НЫ** (фр. croquants) — удзельнікі сялянскіх паўстанняў 16—17 ст. у Францыі.

**КРАКЕЛЮ́Р** (фр. craquelure) — растрэскванне грунту, слоя фарбы або лаку карціны.

**КРАКЕ́Т** (англ. croquet, фр. croquet) — гульня спартыўнага тыпу, у якой шар ударамі драўлянага малатка праводзіцца праз размешчаныя ў пэўным парадку драцяныя вароты.

**КРАКІ́** (фр. croquis = накід) — 1) накід малюнка, чарцяжа, эскіз; 2) план мясцовасці, выкананы на вока, без папярэдняга вымярэння.

**КРАКІРАВА́ЦЬ** (фр. croquer) — стукаць сваім шарам у шар праціўніка пры гульні ў *кракет*.

**КРАКЛЕ́** (фр. croquelé) — сетка тонкіх трэшчын на паліванай паверхні керамічных вырабаў.

**КРАКО́СМІЯ** (н.-лац. crocosmia) — травяністая расліна сям. касачовых з мечападобным лісцем і аранжава-чырванаватымі кветкамі, пашыраная ў трапічнай і Паўд. Афрыцы; выкарыстоўваецца ў кветкаводстве Беларусі.

**КРА́МА** (польск. kram, ад с.-в.-ням. kram) — магазін.

**КРАМАНЬЁНЕЦ** (ад фр. Cro-Magnon = назва пячоры ў Францыі) — непасрэдны продак сучаснага чалавека, які жыў у эпоху позняга *палеаліту*.

**КРА́МБАЛ** (гал. kraanbalk) — невялікі кран для падымання якара на судна ўручную.

**КРА́МБЕ** (н.-лац. crambe) — травяністая расліна сям. крыжакветных, якая ў дзікім стане расце ў Афрыцы; вырошчваецца як агародная культура; абісінская капуста.

**КРАМПАВА́ЦЬ** (ням. krempeln) — надаваць бляск ваўняным тканінам, прыгладжваючы ворс.

**КРАН** (ням. Kran) — 1) невялікая трубка з засаўкай ці рухомай пробкай для выпускання з рэзервуара або трубапровода вадкасцей, газаў;

2) механізм для пад'ёму і перамяшчэння грузаў (пад'ёмны к.).

**КРАНА́РЦЫЙ** (н.-лац. cranartium) — *базідыяльны* грыб сям. мелампсоравых, які развіваецца на хвойных пародах дрэў і ягадных культурах.

**КРАН-БЭ́ЛЬКА** (ад *кран* + *бэлька*) — разнавіднасць пад'ёмнага крана маставога тыпу, у якога *тэльфер* перамяшчаецца па бэльцы з коламі.

**КРАНГЛА́С** (ням. Kronglas) — тое, што і *крон*[2].

**КРА́НЕЦ** (гал. krans) — прыстасаванне з дрэва, гумы, парусіны, якое замацоўваецца на борце судна для засцярогі яго ад удараў пры падыходзе да прыстані або да другога судна.

**КРАНІЯГРА́ФІЯ** (ад гр. kranion = чэрап + *-графія*) — *анат.* атрыманне контураў, малюнкаў чалавечага чэрапа ў цэлым і яго частак.

**КРАНІЯЛО́ГІЯ** (ад гр. kranion = чэрап + *-логія*) — раздзел *антрапалогіі* і *заалогіі*, які вывучае чарапы людзей і жывёл.

**КРАНІЯ́ЛЬНЫ** (ад гр. kranion = чэрап) — *анат.* чарапны, галаўны, размешчаны на падоўжнай восі цела чалавека або жывёлы бліжэй да галавы (пра які-н. орган); проціл. *каудальны*.

**КРАНІЯМЕ́ТРЫЯ** (ад гр. kranion = чэрап + *-метрыя*) — вымярэнне чэрапа; праводзіцца ў *антрапалогіі*, асабліва ў *краніялогіі*.

**КРАНІЯСКАПІ́Я** (ад гр. kranion = чэрап + *-скапія*) — візуальнае вывучэнне чэрапа ў *антрапалогіі*.

**КРАНІЯСТЭНО́З** (ад гр. kranion = чэрап + *стэноз*) — прыроджаная недастатковасць развіцця арганізма, якая выражаецца ў дачасным зарошчванні швоў чэрапа, што абумоўлівае неадпаведнасць паміж ёмістасцю чарапной поласці і аб'ёмам мозгу і вядзе да павышэння ўнутрычарапнога ціску, атрафіі зрокавых нерваў, змянення формы чэрапа.

**КРАНШНЭ́П** (ням. Kronschnepfe) — кулік сям. сіўцовых; жыве на балотах.

**КРАНШТЭ́ЙН** (ням. Kragstein) — 1) выступ у сцяне для падтрымання балкона, карніза; 2) апора для прымацавання дэталі, вузла машыны да вертыкальнай паверхні.

**КРАПЛА́К** (ням. Krapplack) — сумесь алюмініевых і кальцыевых солей *алізарыну*, з якой вырабляюць паліграфічныя і акварэльныя фарбы.

**КРАСАКА́ЛІКС** (н.-лац. crossocalyx) — пячоначны мох сям. лафазіевых, які трапляецца на гнілой драўніне ў сырых лясах.

**КРАСВО́РД** (англ. cross-word) — задача-гульня, у якой фігуру з перакрыжаванымі радамі клетак трэба запоўніць адзіна магчымымі словамі.

**КРАСІНГО́ВЕР** (англ. crossing-over) — абмен часткамі гамалагічных (парных) *храмасом*, які стварае ўмовы для ўтварэння новых камбінацый генаў у арганізмах.

**КРАСМЕ́Н** (англ. cross-man) — удзельнік *кросу*.

**-КРАТ** (гр. kratos = улада) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «валадар».

**КРАТАЛЯ́РЫЯ** (н.-лац. crotalaria, ад гр. krotalon = бразгалка) — травяністая або кустовая расліна сям. бабовых, пашыраная ў тропіках і

субтропіках; адзін з відаў вырошчваецца як прадзільная культура.

**КРАТАНЕ́ЎРУМ** (н.-лац. crotaneurum) — лістасцябловы мох сям. кратанеўравых, які расце ў ручаях, на балотах.

**КРАТАРЭ́ЛЮС** (н.-лац. craterellus) — *базідыяльны* грыб сям. лісічкавых, які расце на глебе і лясным подсціле ў лісцевых і мяшаных лясах; ядомы.

**КРАТО́Н**[1] (гр. kroton) — кустовая або дрэвавая расліна сям. малачаевых, пашыраная ў тропіках і субтропіках, з насення некаторых відаў атрымліваюць алей, які выкарыстоўваецца ў медыцыне.

**КРАТО́Н**[2] (гр. kratos = сіла, моц) — кансалідаваны ўчастак кантынентальнай зямной кары, які не адчувае значных складачных дэфармацый.

**КРА́ТЫ** (польск. kraty, ад лац. crates) — металічная рашотка на вокнах, на дзвярах.

**-КРАТЫЯ** (гр. kratos = улада) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццю «ўлада».

**КРА́ТЭР** (гр. krater = вялікая чаша) — 1) адтуліна ў вяршыні вулкана, праз якую выліваецца лава; 2) упадзіна, абкружаная кальцавымі валамі, у ландшафце Месяца.

**КРАЎЧ** (англ. crouch = схіляцца, прысядаць) — 1) стойка ў сагнутым становішчы ў боксе; 2) нізкая стойка пры спусках у лыжным спорце.

**КРА́ЎЧЫ** (польск. krajczy) — *гіст.* прыдворны, які загадваў княжацкі сталом.

**КРАФТ-ПАПЕ́РА** (ад ням. Kraft = сіла + *папера*) — моцная папера са слаба праваранай дрэўнай цэлюлозы з доўгімі валокнамі.

**КРАФТ-ЦЭЛЮЛО́ЗА** (ад ням. Kraft = сіла + *цэлюлоза*) — слаба праваранай дрэўная цэлюлоза з доўгімі валокнамі; выкарыстоўваецца пры вырабе асабліва моцнай паперы (*крафт-паперы*), напр. мяшкоў для цэменту.

**КРАХ** (ням. Krach) — 1) банкруцтва, разарэнне (напр. біржавы к.); 2) *перан.* поўны правал, няўдача (напр. к. імперыі).

**КРАШЭ́** (фр. crochet = кручок) — моцныя кручаныя ніткі, а таксама карункі з такіх нітак.

**КРО́КУС** (н.-лац. crocus, ад гр. krokos) — 1) тое, што і *шафран* 1; 2) парашок вокісу жалеза шафранавага колеру для паліроўкі шкла, металаў.

**КРОЛЬ** (англ. crawl) — самы хуткі спосаб спартыўнага плавання на грудзях з пераменнай работай рук і ног.

**КРО́МЛЕХ** (ад брэтон. crom = круг + lech = камень) — культавае збудаванне эпохі *неаліту* і бронзавага веку ў выглядзе акруглых загарод з вялікіх камянёў у Паўн. Францыі, Англіі і іншых краінах.

**КРОН**[1] [ням. Kron(gelb), ад гр. chroma = фарба] — мінеральная жоўтая фарба, соль хромавай кіслаты.

**КРОН**[2] [ням. Kron(glas)] — шкло для аптычных прыбораў.

**КРО́НА**[1] (ням. Krone, ад лац. corona = вянец, карона) — наземная, (вышэй *штамба*) галіністая частка дрэва.

**КРО́НА**[2] (ням. Krone) — 1) грашовая адзінка Швецыі, Нарвегіі і Даніі, роўная 100 *эрэ*; 2) англій-

ская сярэбраная манета, роўная 5 *шылінгам* 1 (да 1971 г.); 3) залатая манета Францыі (14—17 ст.), Англіі (16—17 ст.) і некаторых іншых краін.

**КРО́НВЕРК** (ням. Kronwerk) — абаронная прыбудова ў старых крэпасцях.

**КРОНПРЫ́НЦ** (ням. Kronprinz) — тытул наследніка трона ў Германіі і Аўстра-Венгрыі ў часы манархічнага праўлення (да 1918 г.).

**КРОНЦЫ́РКУЛЬ** (ням. Kronzirkel) — 1) прылада для чарчэння ў выглядзе спружыннага цыркуля; 2) вымяральны інструмент у выглядзе цыркуля з дзвюма выгнутымі доўгімі ножкамі.

**КРО́ПЕРЫ** (англ. cropers, ад crop = збіраць ураджай) — арандатары-здольнікі ў ЗША, якія атрымліваюць ад землеўласніка не толькі зямлю, але і рабочую жывёлу, сельскагаспадарчы інвентар, насенне.

**КРОС** (рус. кросс, ад англ. to cross = перасякаць, пераходзіць) — від спартыўнага спаборніцтва, спартыўны бег або гонкі па няроўнай мясцовасці (напр. лыжны к.).

**КРОСБРЫ́ДЗІНГ** (англ. crossbreeding, ад cross = скрыжоўванне + breeding = развядзенне) — разнавіднасць *аўтбрыдзінгу*, метад развядзення сельскагаспадарчых жывёл, пры якім скрыжоўваюцца жывёлы розных парод (параўн. *інбрыдзінг*).

**КРО́СІНГ** (англ. crossing) — 1) вентыляцыйны праход у шахце для раздзялення перасякальных струменяў паветра; 2) *сп.* забаронены прыём у забегу, заездзе, калі адразу пасля абгону рэзка перасякаецца шлях саперніку.

**КРО́СІНГАВЕР** (англ. crossing-over) — узаемны абмен участкамі паміж гамалагічнымі храмасомамі ў выніку разрыву і злучэння ў новым парадку іх ніцей (*храматыдаў*).

**КРО́ФТЭРЫ** (англ. crofters, ад croft = прысядзібны ўчастак) — дробныя *фермеры* ў Шатландыі.

**КРУЗЕ́ЙРА** (парт. cruzeiro) — грашовая адзінка Бразіліі, роўная 100 *сентава*.

**КРУІ́З** (англ. cruise) — марское турыстычнае падарожжа.

**КРУЙС-ПЕ́ЛЕНГ** (гал. kruispeiling) — спосаб вызначэння месцазнаходжання судна ў моры па двух *пеленгах* на адзін і той жа прадмет, напр. маяк.

**КРУЙТ-КА́МЕРА** (гал. kruitkamer) — памяшканне на ваенным караблі старога флоту, дзе захоўваліся выбуховыя рэчывы.

**КРУМЦЫ́РКУЛЬ** (ням. Krummzirkel = крывы цыркуль) — тое, што і *кронцыркуль* 2.

**КРУП** (англ. croup) — запаленне гартані і трахеі, якое суправаджаецца ўскладненнем дыхання (удушшам і кашлем).

**КРУП'Е́** (фр. croupier) — распарадчык гульні і банкаўшчык у ігральным доме.

**КРУПО́Н** (фр. croupon) — частка скуры, атрыманая пры раскройцы цяжкіх скур; выкарыстоўваецца для вырабу рамянёў, падэшваў.

**КРУСТУЛІ́НА** (н.-лац. crustulina) — павук сям. цянётнікаў, які жыве на паверхні глебы, у імху, лясным падсціле, пад камянямі.

# К

**КРУСТЫФІКА́ЦЫЯ** (ад лац. crusta = кара + *-фікацыя*) — абрастанне абломкаў горнай пароды, сценак поласцей крышталічнымі коркамі, мінеральнымі абломкамі.

**КРУХМА́Л** (польск. krochmal, ад с.-в.-ням. kraft-mël, kracht-mël) — 1) вуглявод, які ўтвараецца ў зялёных частках раслін і адкладваецца ў клубнях, насенні, лісці; 2) белы парашок, які атрымліваецца з некаторых раслін; прымяняецца ў харчовай, хімічнай і тэкстыльнай прамысловасці.

**КРУЦЫА́ТА** (н.-лац. cruciata) — травяністая расліна сям. марэнавых з падоўжаным лісцем і зеленавата-жоўтымі кветкамі, пашыраная ў Еўразіі; выкарыстоўваецца ў народнай медыцыне.

**КРУЦЫГЕ́НІЯ** (н.-лац. crucigenia) — каланіяльная зялёная водарасць сям. сцэнадэсмавых, якая трапляецца ў *планктоне* прэсных вадаёмаў.

**КРУШО́Н** (фр. cruchon = маленькі гарлач) — 1) сумесь белага сталовага віна з каньяком або ромам, у якую дадаюць цукар, свежыя фрукты, часам шампанскае; 2) асвяжальны фруктовы напітак.

**КРЫЁМЕТР** (ад гр. kryos = холад, мароз, лёд + *-метр*) — прыбор для вымярэння тэмпературы зацвярдзення чыстага растваральніка і растварэння ў ім даследуемага рэчыва.

**КРЫЖА́К** (польск. krzyżak) — удзельнік крыжовых паходаў заходнееўрапейскіх рыцараў у 11—13 ст.; крыжаносец.

**КРЫЗ** (фр. crise = прыступ) — раптоўнае рэзкае абвастрэнне захворвання (напр. гіпертанічны к.).

**КРЫ́ЗІС** (гр. krisis = рашэнне, паваротны пункт) — 1) рэзкі, круты пералом у чым-н. (напр. урадавы к.); 2) *мед.* хуткае змяненне праяў хваробы, якое суправаджаецца рэзкім (крытычным) паніжэннем высокай тэмпературы (проціл. *лізіс* 1); 3) перыядычная перавытворчасць тавараў, якая вядзе да разладу эканамічнага жыцця, росту беспрацоўя; 4) востры недахоп чаго-н. (напр. жыллёвы к.).

**КРЫК** (англ. creek) — перасыхаючая рэчка або ручай у Аўстраліі, які ў засушлівы перыяд года распадаецца на шэраг асобных вадаёмаў.

**КРЫКЕ́Т** (англ. cricket) — спартыўная камандная гульня з драўляным мячом і бітамі на прамавугольным травяным полі.

**КРЫЛЬ** (гал. kriel = *літар.* драбяза) — прамысловая назва планктонных марскіх рачкоў.

**КРЫМІНА́Л** (польск. kryminał < ням. Kriminal, ад лац. criminalis = злачынны) — крымінальная справа, злачынства.

**КРЫМІНАЛІ́СТ** (ад *крыміналістыка*) — спецыяліст у галіне крыміналістыкі.

**КРЫМІНАЛІ́СТЫКА** (ад лац. criminalis = злачынны) — юрыдычная навука, якая вывучае методыку, тактыку і тэхніку расследавання злачынстваў.

**КРЫМІНАЛО́ГІЯ** (ад лац. crimen, -minis = злачынства + *-логія*) — навука, якая вывучае злачыннасць як сацыяльную з'яву.

**КРЫМІНА́ЛЬНЫ** (лац. criminalis) — звязаны са злачынствам, злачынны.

**КРЫМІНО́ЛАГ** (ад *крыміналогія*) — спецыяліст у галіне крыміналогіі.

**КРЫНАЗО́І** (н.-лац. crinozoa) — падтып беспазваночных жывёл тыпу ігласкурых, якія пашыраны ў марскіх водах.

**КРЫНАІДЭ́І** (н.-лац. crinoidea) — клас беспазваночных жывёл тыпу ігласкурых, якія пашыраны ў марскіх водах; марскія лілеі.

**КРЫНАЛІ́Н** (фр. crinoline, ад лац. crinis = волас + linum = палатно) — шырокая спадніца на тонкіх абручах, стальных або з кітовага вуса.

**КРЫНІТА́РЫЯ** (н.-лац. crinitaria) — травяністая расліна сям. складанакветных з лінейным лісцем і дробнымі залаціста-жоўтымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная пераважна ў Еўразіі, у т.л. на Беларусі.

**КРЫ́НУМ** (ад гр. krinon = лілея) — цыбульная травяністая расліна сям. амарылісавых з буйнымі кветкамі ў парасоністых суквеццях, пашыраная ў тропіках і субтропіках; некаторыя віды вырошчваюцца як дэкаратыўныя.

**КРЫП** (англ. creep = паўзці) — павольная пластычная *дэфармацыя* матэрыялаў пад дзеяннем пастаяннай нагрузкі; паўзучасць металаў.

**КРЫ́ПТА** (гр. krypte = круты падземны ход, тайнік) — 1) падземнае памяшканне са скляпеннямі ў старажытных грэкаў і рымлян; 2) капліца пад храмам для пачэсных пахаванняў у сярэдневяковай заходнееўрапейскай архітэктуры; 3) *мед*. паглыбленне ў паднябенных міндалінах.

**КРЫПТА-** (гр. kryptos = схаваны) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «таемны», «патаемны».

**КРЫПТАГА́МІЯ** (ад *крыпта-* + *-гамія*) — спосаб размнажэння раслін пры дапамозе спораў.

**КРЫПТАГА́МЫ** (ад *крыпта-* + гр. gamos = шлюб) — расліны, якія не маюць кветак (напр. папараці, хвашчы, імхі, грыбы, водарасці); параўн. *фанерагамы*.

**КРЫПТАГЕ́ННЫ** (ад *крыпта-* + *-генны*); к а я ф а у н а — выкапнёвыя арганізмы (прадстаўнікі фауны) пэўнай тоўшчы зямной кары, продкі якіх невядомыя з ніжэйшых слаёў.

**КРЫПТАГЛЕ́НА** (н.-лац. cryptoglena) — аднаклетачная водарасць сям. эўгленавых, якая трапляецца ў прэсных водах розных вадаёмаў.

**КРЫПТАГРА́МА** (ад *крыпта-* + *-грама*) — надпіс, выкананы адным са спосабаў *крыптаграфіі*.

**КРЫПТАГРА́ФІЯ** (ад *крыпта-* + *-графія*) — спосаб пісьма, зразумелы толькі для дасведчаных або разлічаны на адгадванне; тайнапіс.

**КРЫПТАДЭПРЭ́СІЯ** (ад *крыпта-* + *дэпрэсія*[2]) — затопленая вадой упадзіна на зямной паверхні, дно якой ніжэй, а водная паверхня вышэй узроўню мора (напр. возера Байкал).

**КРЫПТАЗО́Й** (ад *крыпта-* + *-зой*) — інтэрвал часу, на працягу якога сфарміраваліся тоўшчы горных парод *дакембрыя*, пазбаўленыя відавочных рэштак шкілетнай *фауны*.

**КРЫПТАКАКО́З** (ад *крыпта-* + гр. kokkos = зярнятка) — рэдкая хвароба жывёл і чалавека, выклі-

каная дрожджавымі грыбамі, пры якой паражаюцца лёгкія, цэнтральная нервовая сістэма, скура і падскурная клятчатка.

**КРЫПТАКАРЫ́НА** (н.-лац. cryptocoryne) — водная травяністая расліна сям. ароідных з пурпурова-чырвоным лісцем, пашыраная ў тропіках Паўд.-Усх. Азіі, Малайскага архіпелага; многія віды дэкаратыўныя, культывуюцца ў акварыумах, аранжарэях.

**КРЫПТАКО́КІ** (н.-лац. cryptococcus) — сумчатыя грыбы (дрожджы), якія развіваюцца ў глебе, страўнікава-кішачным тракце і на паверхні цела жывёл і чалавека.

**КРЫПТАМЕ́РЫЯ** (ад *крыпта-* + *-мерыя*) — паўднёвае вечназялёнае хваёвае дрэва сям. таксодыевых, якое дасягае вельмі вялікіх памераў; пашырана ў Японіі і Кітаі, у іншых краінах вырошчваецца як дэкаратыўнае.

**КРЫПТАМІ́ЦЭС** (н.-лац. cryptomyces) — сумчаты грыб сям. эўфацыдыевых, які развіваецца на лісці і галінках дрэвавых і травяністых раслін.

**КРЫПТАМНЕЗІ́Я** (ад *крыпта-* + гр. mnesis = успаміны) — парушэнне памяці (разнавіднасць *парамнезіі*), пры якім знікае розніца паміж сапраўднымі падзеямі і падзеямі, убачанымі ў сне або пачутымі ці прачытанымі.

**КРЫПТАМО́НАС** (н.-лац. cryptomonas) — аднаклетачная *пірафітавая* водарасць сям. крыптаманадавых, якая пашырана пераважна ў штучных вадаёмах-адстойніках, рыбагадоўчых сажалках, радзей у вадасховішчах і азёрах.

**КРЫПТАНІ́М** (ад *крыпта-* + гр. onyma = імя) — літара або літары, якія часам ставяць аўтары пад сваімі творамі замест подпісаў.

**КРЫПТАРХІ́ЗМ** (ад *крыпта-* + гр. orchis = яечка) — анамалія эмбрыянальнага развіцця, пры якой да моманту нараджэння чалавека або жывёліны адно або два яечкі не трапляюць у машонку.

**КРЫПТАФІ́ТЫ** (ад *крыпта-* + *-фіты*) — травяністыя расліны, у якіх пупышкі аднаўлення знаходзяцца ў глебе (*геафіты*) або пад вадой (*гідрафіты*).

**КРЫПТАФО́НІЯ** (ад *крыпта-* + *-фонія*) — тэлефонныя перагаворы з выкарыстаннем шыфру.

**КРЫПТО́Н** (ад гр. kryptos = схаваны) — хімічны элемент, адзін з інертных газаў; выкарыстоўваецца для запаўнення электрычных лямпаў, рэкламных трубак і інш.

**КРЫ́ПТЫЯ** (гр. krypteia) — карныя экспедыцыі супраць *ілотаў* у Спарце, якія перыядычна праводзіла дзяржава сіламі спартанскай моладзі.

**КРЫ́ТЫК** (гр. kritikos = які асуджае) — 1) асоба, якая аналізуе, ацэньвае чыю-н. дзейнасць, паводзіны і інш.; 2) асоба, якая прафесійна займаецца *крытыкай* твораў літаратуры, мастацтва і навукі або канцэртаў, мастацкіх выставак.

**КРЫ́ТЫКА** [фр. critique, ад гр. kritike (techne) = майстэрства разбіраць] — 1) разбор, абмеркаванне каго-н., чаго-н. з мэтай ускрыць недахопы, даць ацэнку; 2) літаратурны жанр, задачай якога з'яўляецца ацэнка твораў літаратуры, навукі, мастацтва (напр. тэатральная к.).

**КРЫТЫЦЫ́ЗМ** (ад гр. kritikos = які асуджае) — крытычныя адносіны да чаго-н.

**КРЫТЫ́ЧНЫ** (ад гр. kritikos = які асуджае) — 1) звязаны з *крытыкай*; 2) здольны з ацэнкай, крытычна адносіцца да чаго-н. (напр. к. розум); 3) пераломны (напр. к. узрост); 4) надта цяжкі, небяспечны (напр. к-ае становішча).

**КРЫТЭ́РЫЙ** (фр. critérium < лац. criterium, ад гр. kriterion = сродак для меркавання) — мерка, з якой падыходзяць да ацэнкі чаго-н.; к. і с ц і н ы — мерка для вызначэння правільнасці, дакладнасці нашых ведаў, іх адпаведнасці аб'ектыўнай рэальнасці.

**КРЫШТАДЗІ́Н** [ад *крышта(лічны) + (гетэра)дзін*] — крышталічны *генератар* і ўзмацняльнік, у аснове якіх ляжыць з'ява генерыравання незгасальных ваганняў *дэтэктарам*, які жывіцца ад невялікай батарэі; дэтэктарны радыёпрыёмнік.

**КРЫШТАЛЕГІДРА́ТЫ** (ад *крышталь + гідраты*) — крышталічныя рэчывы, якія маюць у сваім складзе малекулы вады, напр. гідрат хлорыстага кальцыю.

**КРЫШТАЛЁГРАФ** (ад *крышталь + -граф*) — спецыяліст у галіне *крышталяграфіі*.

**КРЫШТАЛЁІД** (ад *крышталь + -оід*) — прадукт перапрацоўкі матэрыі ў раслінавай клетцы.

**КРЫШТАЛІЗАВА́ЦЬ** (гр. krystallizo = прасвечваюся, як крышталь) — падвяргаць *крышталізацыі*.

**КРЫШТАЛІЗА́ТАР** (ад *крышталізаваць*) — 1) апарат для выпучэння крышталічных рэчываў выпарэннем ці ахаладжэннем насычаных раствораў; 2) цеплаабменны апарат для адводу цяпла *крышталізацыі* ад металу, які цвярдзее.

**КРЫШТАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад гр. krystallizo = прасвечваюся, як крышталь) — працэс утварэння і росту *крышталёў* пры пераходзе рэчыва з газападобнага або вадкага стану ў крышталічны.

**КРЫШТАЛІ́Т** (ад *крышталь + -літ*) — цвёрдае цела, *монакрышталь* няправільнай формы, які не мае характэрнай крышталічнай агранкі.

**КРЫШТАЛІ́ЧНЫ** (ад *крышталь*) — які мае адносіны да крышталя (крышталічная будова).

**КРЫШТА́ЛЬ** (польск. kryształ < лац. cristallus, ад гр. krystallos) — 1) цвёрдае цела, якое мае натуральную форму мнагагранніка і часцінкі якога (атамы, іоны і малекулы) маюць упарадкаванае размяшчэнне; 2) тое, што і *хрусталь*.

**КРЫШТА́ЛЬНЫ** (гр. krystallinos) — 1) які складаецца з *крышталёў*, мае форму крышталя; 2) *перан.* празрысты, светлы, чысты; 3) *перан.* бездакорны, беззаганны.

**КРЫШТАЛЯГРА́ФІЯ** (ад *крышталь + -графія*) — навука аб крышталях, іх будове і ўласцівасцях.

**КРЫШТАЛЯО́ПТЫКА** (ад *крышталь + оптыка*) — галіна оптыкі, якая вывучае законы праходжання святла праз крышталі.

**КРЫШТАЛЯФАСФО́РЫ** (ад *крышталь* + гр. phos = святло + *-фор*) — неарганічныя крышталічныя *люмінафоры*, выкарыстоўваюцца ў люмінесцэнтных лямпах.

**КРЫШТАЛЯФІ́ЗІКА** (ад *крышталь + фізіка*) — раздзел малекулярнай фізікі, які вывучае фізічныя ўласцівасці крышталёў у сувязі з іх будовай.

**КРЫШТАЛЯХІ́МІЯ** (ад *крышталь* + *хімія*) — навука аб прастораваым размяшчэнні малекул, атамаў, іонаў у крышталях і залежнасці фізіка-хімічных уласцівасцей крыштальных рэчываў ад іх структуры.

**КРЫЯ-** (гр. kryos = холад, мароз, лёд) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з лёдам, нізкімі тэмпературамі.

**КРЫЯБІЁНТЫ** (ад *крыя-* + *біёнты*) — арганізмы, якія жывуць на лёдзе або ў снезе (напр. снежная хламідаманада).

**КРЫЯБІЯЛО́ГІЯ** (ад *крыя-* + *біялогія*) — раздзел біялогіі, які вывучае ўздзеянне на жывыя арганізмы нізкіх і звышнізкіх тэмператур.

**КРЫЯГЕНЕ́З** (ад *крыя-* + *-генез*) — сукупнасць фізічных, хімічных, біяхімічных і іншых працэсаў, якія адбываюцца ў межах *крыясферы* і суправаджаюцца ўтварэннем лёду.

**КРЫЯГЕ́ННЫ** (ад *крыя-* + *-генны*) — звязаны з атрыманнем вельмі нізкіх тэмператур.

**КРЫЯГІДРА́Т** (ад *крыя-* + *гідрат*) — сумесь крышталёў лёду і крышталёў солей, якая растапляецца з утварэннем раствору таго самага складу, што і сумесь.

**КРЫЯКАНІ́Т** (ад *крыя-* + гр. konia = пыл) — найдрабнейшыя часцінкі пылу, якія выпадаюць на зямную паверхню з міжземнай прасторы; касмічны пыл.

**КРЫЯЛІ́Т** (ад *крыя-* + *-літ*) — мінерал класа *фтарыдаў* белага, бурага або жаўтаватага колеру з шкляным бляскам; штучны к. выкарыстоўваецца ў металургіі алюмінію і для атрымання эмалей.

**КРЫЯЛІТАЗО́НА** (ад *крыяліт* + *зона*) — частка *крыясферы* ў межах верхняга пласта зямной кары, якая характарызуецца наяўнасцю адмоўных тэмператур і магчымасцю існавання падземных ільдоў.

**КРЫЯЛО́ГІЯ** (ад *крыя-* + *-логія*) — навука аб уздзеянні холаду на фізічныя целы.

**КРЫЯПАТАЛО́ГІЯ** (ад *крыя-* + *паталогія*) — хваравіты стан і працэсы, якія адбываюцца ў арганізме пад уздзеяннем нізкіх тэмператур.

**КРЫЯПЕДАЛО́ГІЯ** (ад *крыя-* + *педалогія*) — тое, што і *гангарызм.*

**КРЫЯПЛАНКТО́Н** (ад *крыя-* + *планктон*) — сукупнасць дробных арганізмаў, прыстасаваных да жыцця пры нізкіх тэмпературах (на ледніках, высакагорных снежных схілах).

**КРЫЯСКАПІ́Я** (ад *крыя-* + *-скапія*) — метад вызначэння малекулярнай вагі растворанага рэчыва па паніжэнню пункта замярзання раствору ў параўнанні з пунктам замярзання чыстага растваральніка (параўн. *эбуліяскапія*).

**КРЫЯСТА́Т** (ад *крыя-* + *-стат*)— прыбор (*тэрмастат*) для падтрымання нізкіх тэмператур у замкнутым асяроддзі (ніжэй -153 °С).

**КРЫЯСФЕ́РА** (ад *крыя-* + *сфера*) — абалонка зямнога шара, якая характарызуецца наяўнасцю лёду або магчымасцю яго існавання.

**КРЫЯТРО́Н** (ад *крыя-* + *-трон*) — электронны пераключальны прыбор у вылічальных машынах.

**КРЫЯТУРБА́ЦЫЯ** (ад *крыя-* + лац. turbatio = сумятня, бязладдзе) — формы складання горных парод, якія маюць у разрэзе выгляд завіхрэнняў, выгінаў, кольцаў і інш.

**КРЫЯТЭРАПІ́Я** (ад *крыя-* + *тэрапія*) — лячэнне холадам як болесуцішальным сродкам.

**КРЫЯТЭ́ХНІКА** (ад *крыя-* + *тэхніка*) — галіна тэхнікі, звязаная са стварэннем і выкарыстаннем вельмі нізкіх тэмператур.

**КРЫЯФІ́ЗІКА** (ад *крыя-* + *фізіка*) — фізіка нізкіх тэмператур, якія дасягаюцца пры выкарыстанні скропленых газаў.

**КРЫЯФІ́ЛЫ** (ад *крыя-* + *-філ*) — арганізмы (аднаклетачныя водарасці, некаторыя чэрві і насякомыя), якія жывуць на паверхні лёду і снегу, у вадзе, што прапітвае лёд (параўн. *тэрмафілы*).

**КРЫЯФІ́ТЫ** (ад *крыя-* + *-фіты*) — расліны, прыстасаваныя да жыцця ў засушлівых халодных раёнах.

**КРЫЯФО́Р** (ад *крыя-* + *-фор*) — устройства для дэманстравання ахалоджвання вады ў час выпарвання.

**КРЫЯХІРУРГІ́Я** (ад *крыя-* + *хірургія*) — метад абязбольвання шляхам замарожвання частак цела, якія падлягаюць аперацыі.

**КРЫЯЭКСТРА́КТАР** (ад *крыя-* + *экстрактар*) — прыбор для замарожвання і наступнага выдалення памутнелага крышталіка вока.

**КРЫЯЭЛЕКТРО́НІКА** (ад *крыя-* + *электроніка*) — раздзел электронікі, звязаны з даследаваннем узаемадзеяння электрамагнітнага поля з электронамі ў цвёрдых целах пры вельмі нізкіх тэмпературах і стварэннем электронных прыбораў на аснове гэтых цел.

**КРЭАДО́НТЫ** (ад гр. kreas = мяса + *-адонт*) — атрад вымерлых прымітыўных драпежных млекакормячых, якія жылі ў *палеагенавы* перыяд.

**КРЭАЗО́Т** (фр. creosote, ад гр. kreas = мяса + sodzo = ахоўваю, зберагаю) — масляністая вадкасць з едкім пахам, якая атрымліваецца шляхам сухой перагонкі драўніны, часцей буку; выкарыстоўваецца ў тэхніцы і медыцыне.

**КРЭАЛІ́Н** [ад *крэ(зол)* + лац. oleum = алей] — мыльны раствор крэзолу, які выкарыстоўваецца як дэзінфекцыйны сродак.

**КРЭАТУ́РА** (лац. creatura = тварэнне) — стаўленік уплывовай асобы, паслухмяны выканаўца яе волі.

**КРЭАТЫ́ЎНЫ** (ад лац. creatio = тварэнне) — творчы, стваральны.

**КРЭАЦІ́Н** (ад гр. kreas, -atos = мяса) — злучэнне азоту, якое знаходзіцца ў тканках арганізма і выдаляецца з мачой у выглядзе *крэацініну*.

**КРЭАЦІНІ́Н** (ад гр. kreas, -atos = мяса) — прадукт перапрацоўкі *крэаціну*, які знаходзіцца ў крыві і мачы.

**КРЭАЦІНКІНА́ЗА** (ад *крэацін* + *кіназа*) — *фермент*, які каталізуе рэакцыю, што пастаўляе энергію для мышачнага скарачэння.

**КРЭАЦЫЯНІ́ЗМ** (ад лац. creatio, -onis = стварэнне) — ідэалістычны кірунак у *біялогіі*, які лічыць, што неарганічны і арганічны свет створаны богам, адмаўляе змены відаў у іх гістарычным развіцці.

# К

**КРЭВЕ́ТКА** (фр. crevette) — невялікі ядомы марскі рак атрада дзесяціногіх (*дэкаподаў*).

**КРЭ́ДА** (лац. credo = веру) — 1) веравызнанне, сімвал веры ў каталіцкай царкве; 2) чые-н. цвёрдыя перакананні, погляды, асновы светапогляду (напр. жыццёвае к., навуковае к.).

**КРЭ́ДЫТ** (лац. credit = ён верыць) — правы бок бухгалтарскага *балансу*, у рахунках *актыву* 2 змяшчае расходную частку, а ў рахунках *пасіву* 2 прыходную (параўн. *дэбет*).

**КРЭДЫ́Т** (ням. Kredit, ад лац. creditum = доўг) — 1) выдача ў доўг грошай або тавараў з растэрміноўкай выплаты; 2) грашовая сума, выдзеленая дзяржавай для пэўнай мэты (напр. к. на жыллёвае будаўніцтва).

**КРЭДЫТАВА́ЦЬ** (фр.créditer, ад лац. credere = давяраць) — 1) даваць каму-н. у доўг, адпускаць што-н. у *крэдыт*; 2) адпускаць каму-н., крэдыты; 3) запісваць суму на *крэдыт* рахунка.

**КРЭДЫТО́Р** (лац. creditor) — асоба або ўстанова, якія даюць у *крэдыт* грошы або тавары (параўн. *дэбітор*).

**КРЭЗ** (гр. Kroisos = імя цара Лідыі, які меў незлічоныя багацці) — вельмі багаты чалавек, уладальнік незлічоных багаццяў.

**КРЭЗО́Л** (ад гр. kreas = мяса + *-ол*) — арганічнае злучэнне класа *фенолаў* з характэрным пахам, якое змяшчаецца ў каменнавугальнай і дрэўнай смале; выкарыстоўваецца для вырабу фарбавальнікаў, медыцынскіх прэпаратаў, выбуховых і пахучых рэчываў.

**КРЭ́ЙДА** (ст.-польск. krejda < ням. Kreide, ад лац. creta) — кавалак мелу, які ўжываецца для пісьма.

**КРЭ́ЙСЕР** (гал. kruiser) — вялікі быстраходны ваенны карабель з магутным артылерыйскім і ракетным узбраеннем (напр. лінейны к.).

**КРЭЙСІ́РАВАЦЬ** (гал. kruisen) — плаваць, рабіць рэйсы па пэўным маршруце.

**КРЭ́ЙЦКАПФ** (ням. Kreuzkopf) — дэталь паўзуннага механізма, якая коўзае ў прамалінейных напрамках.

**КРЭЙЦМЭ́ЙСЕЛЬ** (ням. Kreuzmeissel) — зубіла з вузкім лязом для высякання ў метале канавак.

**КРЭ́ЙЦЭР** (ням. Kreuzer) — дробная разменная манета ў Германіі і Аўстра-Венгрыі, якая была ў абароце да канца 19 ст.; на Беларусі ў 15—17 ст. абарачаўся трайны сярэбраны к.

**КРЭ́КЕР** (англ. cracker) — 1) сухое пячэнне з заквашанага цеста; 2) тонкія лустачкі, высушаныя скрылёчкі бульбы.

**КРЭ́КІНГ** (англ. cracking) — перапрацоўка нафты для атрымання маторнага паліва і сыравіны для хімічнай прамысловасці.

**КРЭ́КІНГ-ПРАЦЭ́С** (ад *крэкінг* + *працэс*) — разлажэнне цяжкіх нафтапрадуктаў у спецыяльных устаноўках пры высокіх тэмпературах для атрымання бензіну, газаліну і інш.

**КРЭМ** (фр. crème) — 1) салодкая маса з сумесі ўзбітай смятанкі, масла, фруктовых сокаў, цукру і інш. для праслойвання і ўпрыгожвання піропсных і тортаў; 2) касме-

тычная мазь; 3) мазь для скуранога абутку, вакса.

**КРЭМАЛЬЕ́Р** (фр. crémaillère) — механізм для плаўнага перамяшчэння рухомых частак у аптычных і вымяральных інструментах.

**КРЭМАТО́РЫЙ** (н.-лац. crematorium) — будынак са спецыяльным абсталяваннем для *крэмацыі*.

**КРЭМА́ЦЫЯ** (лац. crematio = спальванне) — спальванне цела нябожчыка ў спецыяльнай печы (параўн. *інгумацыя*).

**КРЭМНЕФТАРЫ́ДЫ** (ад *крэмній* + *фтарыды*) — солі крэмнефтарыставадароднай кіслаты.

**КРЭ́МНІЙ** (ад гр. kremnos = скала) — хімічны элемент, які ўваходзіць у састаў большасці горных парод.

**КРЭН** (рус. крен, ад гал. krengen = класці судна на бок) — 1) нахіл судна або лятальнага апарата набок; 2) *перан.* паварот да іншых мэт, задач.

**КРЭ́НГЕЛЬС** (англ. cringles) — кольца, якое ўстаўляецца ў адтуліны паруса для прадзявання канцоў вяровак.

**КРЭ́НДЗЕЛЬ** (рус. крендель, ад с.-в.-ням. krengel) — здобная вітая булка ў форме лічбы 8.

**КРЭНЕРЫ́Т** (ад венг. Krenner = прозвішча венг. мінералога) — мінерал класа *тэлурыдаў* серабрыста-белага, латунна-жоўтага колеру з металічным бляскам.

**КРЭ́НІЦЬ** (рус. кренить, ад гал. krengen) — нахіляць набок (судна, самалёт).

**КРЭНО́МЕТР** (ад *крэн* + *-метр*) — прыбор для вызначэння вугла крэну судна.

**КРЭО́Л** (фр. créole, ад ісп. criollo) — 1) патомак іспанскіх і партугальскіх каланізатараў у Лац. Амерыцы; 2) чалавек, які паходзіць ад змешанага шлюбу, напр. еўрапейцаў з індзейцамі, рускіх з эскімосамі і г.д.

**КРЭП** (фр. crêpe) — 1) шаўковая або шарсцяная тканіна з шурпатай паверхняй; 2) жалобная павязка з празрыстай гафрыраванай тканіны чорнага колеру.

**КРЭПДЭШЫ́Н** (фр. crêpe de Chine = кітайскі крэп) — густая і тонкая матавая шаўковая тканіна.

**КРЭПІТА́ЦЫЯ** (ад лац. krepitare = скрыпець, хрусцець) — *мед.* адчуванне хрусту ў месцах пераломаў, у суставах пры адкладванні солей, у лёгкіх пры дыханні.

**КРЭС-САЛА́ТА** (ад ням. Kresse = расліна сям. крыжакветных + *салата*) — гароднінная расліна сям. крыжакветных, пашыраная ў розных кліматычных зонах, лісты якой ужываюць у ежу.

**КРЭ́СЫ** (польск. kresy = прыгранічная вобласць) — польская назва заходніх беларускіх і ўкраінскіх зямель, якія ўваходзілі ў склад Польшчы ў 1919—1939 гг.

**КРЭТО́Н** (фр. cretonne) — шчыльная бавоўняная ўзорыстая тканіна для абіўкі мэблі.

**КРЭЦІ́Н** (фр. cretin) — 1) хворы на *крэцінізм* 1; 2) *перан.* тупіца.

**КРЭЦІНІ́ЗМ** (фр. crétinisme) — 1) прыроджаная разумовая адсталасць і фізічная недаразвітасць, абумоўленая парушэннем функцый шчытападобнай залозы і галаўнога мозга; 2) *перан.* тупасць, абмежаванасць розуму.

# К

**КРЭЦІНО́ІД** (ад *крэцін* + *-оід*) — псіхічна нармальны чалавек, з выгляду падобны на крэціна.

**КРЭШЧЭ́НДА** (іт. crescendo) — *муз.* узмацненне сілы гуку, паступовы пераход ад ціхага гучання да моцнага (проціл. *дымінуэнда*).

**КРЭ́ШЭР** (англ. crusher, ад crush = давіць, таўчы) — металічны стрыжань, па *дэфармацыі* якога вызначаюць ціск газаў у час выбуху.

**КСАНТАПСІ́Я** (ад гр. ksanthos = жоўты + opsis = погляд) — парушэнне зроку, пры якім усе прадметы здаюцца афарбаванымі ў жоўты колер; назіраецца пры жаўтусе, атручванні *пікрынавай* кіслатой, *сантанінам* і інш.

**КСАНТАФІ́Л** (ад гр. ksanthos = жоўты + *-філ*) — жоўты *пігмент* з групы *карацінoідаў*, які знаходзіцца ў пупышках, лістах, кветках і пладах многіх раслін, а таксама ў мікраарганізмах.

**КСАНТАФО́РЫ** (ад гр. ksanthos = жоўты + *-фор*) — ярка афарбаваныя жоўтыя пігментныя клеткі скуры ніжэйшых пазваночных і некаторых беспазваночных.

**КСАНТО́РЫЯ** (н.-лац. xanthoria) — ліставаты сумчаты лішайнік сям. целасхіставых, які трапляецца на кары дрэў, апрацаванай драўніне, камянях.

**КСАНТЫ́ДЫУМ** (н.-лац. xanthidium) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. касмарыевых, якая трапляецца ў сфагнавых балотах, дыстрофных азёрах, канавах, рэках.

**КСАНТЫ́ПА** (гр. Ksanthippe = імя жонкі Сакрата, старажытнагрэчаскага філосафа) — *перан.* злая, сварлівая жанчына.

**КСАНЦІ́Н** (ад гр. ksanthos = жоўты) — прамежкавы прадукт распаду *пурыну* ў арганізме жывёл і чалавека.

**КСЕНА-** (гр. ksenos = чужы) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «чужы», «чужародны».

**КСЕНАБІЁТЫКІ** (ад *ксена-* + гр. biotos = жыццё) — чужародныя для арганізмаў злучэнні — пестыцыды, прэпараты бытавой хіміі, лекавыя сродкі і г.д.

**КСЕНАГА́МІЯ** (ад *ксена-* + *-гамія*) — перакрыжаванае апыленне, пры якім кветкі адной расліны апыляюцца кветкамі другой расліны таго ж віду (параўн. *гейтанагамія*).

**КСЕНАКО́НХІІ** (н.-лац. xenoconchia) — група вымерлых малюскаў, якія жылі ў *палеазоі*.

**КСЕНАЛІ́Т** (ад *ксена-* + *-літ*) — абломак горнай пароды, які трапляецца ў магматычнай пародзе і адрозніваецца ад яе мінералагічным складам, напр. к. сланцу ў граніце.

**КСЕНАТРАНСПЛАНТА́ЦЫЯ** (ад *ксена-* + *трансплантацыя*) — перасадка органаў або частак тканкі прадстаўніку іншага біялагічнага роду (параўн. *алатрансплантацыя*, *гетэратрансплантацыя*).

**КСЕНАТУРБЕЛІ́ДЫ** (н.-лац. xenoturbellida) — клас плоскіх чарвей; жывуць у Паўночным моры.

**КСЕНАТЫ́М** (ад гр. ksenos = чужы + time = гонар) — мінерал класа *фасфатаў* жоўтага, чырвонага, карычневага колеру са шкляным бляскам; сыравіна для атрымання *ітрыю*.

**КСЕНАФО́БІЯ** (ад гр. ksenos = чужы + *-фобія*) — 1) неадчэпны страх перад незнаёмымі асобамі; 2) боязь усяго незнаёмага, малавядомага.

**КСЕ́НІІ** (гр. ksenia = гасціннасць) — 1) падарункі ў старажытных грэкаў і рымлян, якія гаспадар дарыў гасцям; 2) застольныя вершы-мініяцюры ў форме *эпіграм* і *афарызмаў*; 3) праяўленні прыкмет бацькоўскай расліны ў гібрыднага насення і пладоў.

**КСЕНО́Н** (ад гр. ksenos = чужы) — хімічны элемент, адзін з *інертных* газаў, які прымяняецца ў электратэхніцы.

**КСЕРА-** (гр. kseros = сухі) — першая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцце «сухі».

**КСЕРАГРА́ФІЯ** (ад *ксера-* + *-графія*) — спосаб *электрафатаграфіі*, заснаваны на дзеянні святла на матэрыял са святлоадчувальным слоем з паўправадніка, на які перад здымкай наносіцца электрастатычны зарад.

**КСЕРАДЭ́РМА** (ад *ксера-* + *дэрма*) — тое, што і *іхтыёз*.

**КСЕРАДЭРМІ́Я** (ад *ксера-* + *дэрма*) — *мед.* павышаная адчувальнасць скуры да ультрафіялетавых прамянёў.

**КСЕРАКО́М** (н.-лац. xerocomus) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. балетавых, які расце ў хвойных і лісцевых лясах; адзін з відаў — махавік.

**КСЕРАКО́ПІЯ** (ад *ксера-* + *копія*) — копія, здымак, якія атрыманы шляхам *ксераграфіі*.

**КСЕ́РАКС** (ад *ксераграфія*) — 1) апаратыўны размнажальны апарат з выкарыстаннем магнітнага сухога друку; 2) сухі электрастатычны метад атрымання копій дакументаў, матэрыялаў і г.д.; 3) копія, атрыманая ў выніку выкарыстання гэтага метаду.

**КСЕРАМАРФІ́ЗМ** (ад *ксера-* + *-марфізм*) — сукупнасць марфалагічных і анатамічных прыкмет, якія з'яўляюцца ў раслін як прыстасаванне да засушлівых умоў.

**КСЕРАМЕЗАФІ́ТЫ** (ад *ксера-* + *мезафіты*) — расліны, якія прыстасаваліся жыць у сярэднеўвільготненых мясцінах і могуць пераносіць засушлівы перыяд лета.

**КСЕРАСТАМІ́Я** (ад *ксера-* + гр. stoma = рот) — *мед.* сухасць у роце, якія ўзнікае ў выніку частковага або поўнага спынення *сакрэцыі* слінных залоз.

**КСЕРАТЭРМІ́ЧНЫ** (ад *ксера-* + гр. therme = цяпло); к. п е р ы я д — перыяд з сухім і цёплым кліматам, які адзначаўся ў суббарэальнай фазе пасляледнікоўя (каля 4500—2500 гадоў таму назад).

**КСЕРАФІ́ЛЫ** (ад *ксера-* + *-філ*) — расліны і жывёлы, якія жывуць у засушлівых мясцовасцях (гл. *ксерафіты*).

**КСЕРАФІ́ТЫ** (ад *ксера-* + *-фіты*) — засухаўстойлівыя расліны, здольныя пераносіць перагрэў і абязводжванне, напр. *сукуленты* (параўн. *гіграфіты*, *гідрафіты*, *мезафіты*).

**КСЕРАФО́РМ** (ад *ксера-* + *форма*) — жоўты парашок, які выкарыстоўваецца ў прысыпках і мазях як антысептычны сродак.

**КСЕРАФТАЛЬМІ́Я** (ад *ксера-* + гр. ophtalmos = вока) — сухасць злучальнай і рагавой абалонкі ва-

чэй у выніку парушэння слёзавыдзялення.

**КСЕРО́ГРАФ** (ад *ксера-* + *-граф*) — устройства для атрымання ксераграфічных адбіткаў.

**КСЕРО́З** (гр. kseros = сухі) — сухасць скуры, абумоўленая памяншэннем *сакрэцыі* сальных залоз.

**КСЁНДЗ** (польск. ksiądz) — каталіцкі святар у Польшчы, на Беларусі і Украіне.

**КСІЛА-** (гр. ksylon = ссечанае дрэва) — першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на сувязь з дрэвам, драўнінай.

**КСІЛАБІЁНТЫ** (ад *ксіла-* + *біёнты*) — арганізмы, якія жывуць у драўніне, напр. многія насякомыя, грыбы.

**КСІЛАГРА́ФА** (н.-лац. xylographa) — накіпны лішайнік сям. агарыевых, пашыраны пераважна ў Паўн. паўшар'і; трапляецца на драўніне елак, на ствалах бяроз.

**КСІЛАГРА́ФІЯ** (ад *ксіла-* + *-графія*) — 1) гравіраванне на дрэве; 2) гравюра на дрэве (дрэварыт), а таксама адбітак з такой гравюры.

**КСІЛАКО́ПА** (н.-лац. xylocopa) — пчала размерам з чмяля, пашыраная ў тропіках.

**КСІЛАЛІ́Т** (ад *ксіла-* + *-літ*) — штучны будаўнічы матэрыял з сумесі драўняных апілак, азбесту і інш.

**КСІЛА́РЫЯ** (н.-лац. xylaria) — сумчаты грыб сям. ксіларыевых, які развіваецца на адмерлай драўніне.

**КСІЛАФО́Н** (ад *ксіла-* + *-фон*) — самагучальны ўдарны музычны інструмент у выглядзе размешчаных у пэўным парадку драўляных пласцінак, па якіх удараюць спецыяльнымі малаточкамі.

**КСІЛЕ́МА** (ад гр. ksylon = дрэва) — асноўная тканка наземных раслін, якая праводзіць ваду і раствораныя ў ёй мінеральныя солі; драўніна.

**КСІЛІДЫ́НЫ** (ад гр. ksylon = ссечанае дрэва) — арганічныя злучэнні, цвёрдыя або вадкія бясколерныя рэчывы з пахам *аніліну*; выкарыстоўваюцца пры вырабе фарбавальнікаў, як паскаральнікі *вулканізацыі* каўчуку, як *антыаксіданты* і інш.

**КСІЛІ́Л** (ад *ксілол*) — цвёрдае крышталічнае рэчыва белага колеру, якое выкарыстоўваецца як *брызантнае* выбуховае рэчыва.

**КСІЛІ́Т** (ад гр. ksylon = ссечанае дрэва) — пяціатамны спірт, рэчыва ў выглядзе бясколерных крышталёў салодкага смаку, якое выкарыстоўваецца ў харчовай прамысловасці замест цукру для хворых дыябетам.

**КСІЛО́ГРАФ** (ад *ксіла-* + *-граф*) — гравёр па дрэву.

**КСІЛО́ЗА** (ад гр. ksylon = дрэва) — *монацукрыд* з групы *пентозаў*, які ўваходзіць у склад пекцінавых рэчываў (гл. *пекціны*), слізяў, *геміцэлюлозаў*, дрэўны цукар.

**КСІЛО́Л** (ад *ксіла-* + *-ол*) — вадкі *араматычны* вуглевадарод, аналаг *бензолу*.

**КСІЛО́МЕТР** (ад *ксіла-* + *-метр*) — прыбор для вызначэння аб'ёмаў цел няправільнай формы (раней гал. ч. драўніны) шляхам вымярэння аб'ёму вадкасці, якую выцясняюць гэтыя целы пры апусканні ў сасуд.

**КСІ́СТЫКУС** (н.-лац. xysticus) — павук сям. бакаходаў, які жыве ў

траве і дробных хмызняках, пад камянямі.

**КСІФАПА́ГІ** (ад гр. ksiphos = мечападобны храсток + pagos = горб) — парок развіцця, пры якім блізняты зрасліся ў вобласці грудзей (параўн. *пігапагі*).

**КТЫ́ТАР** (гр. ktitor = *літар*. заснавальнік) — царкоўны стараста.

**КТЭНАМІ́ЦЭС** (н.-лац. ctenomyces) — сумчаты грыб сям. гімнааскавых, які развіваецца на пер'і птушак.

**КТЭНАФО́РЫ** (ад гр. kteis, ktenos = грэбень + *-фор*) — клас беспазваночных жывёл тыпу кішачнаполасцевых, якія пашыраны ва ўсіх морах.

**КТЭНІ́ДЫІ** (н.-лац. ctenidia, ад гр. kteis, -enos = грэбень) — 1) органы дыхання ў малюскаў; жабры; 2) грэбеняпадобныя хіцінавыя пласцінкі на галаве, радзей на грудзях і брушку ў некаторых насякомых.

**КТЭНО́ІДНЫ** (ад гр. kteis, -enos = грэбень + *-оід*); к - а я л у с к а — разнавіднасць касцявой лускі касцістых рыб.

**КУА́ДРА** (ісп. cuadro = квадрат) — 1) мера даўжыні ў краінах Лац. Амерыкі (ад 80 да 130 м); 2) мера плошчы ў краінах Лац. Амерыкі (ад 1 да 1,74 га).

**КУАФЁР** (фр. coiffeur) — *уст*. цырульнік.

**КУАФЮ́РА** (фр. coiffure) — *уст*. пышная жаночая прычоска.

**КУБ** (лац. cubus, ад гр. kybos) — 1) правільны шасціграннік, усе грані якога квадраты; 2) *мат*. здабытак трох роўных лікаў, трэцяя ступень ліку; 3) кубічны метр (напр. куб дроў); 4) пасудзіна цыліндрычнай формы для перагонкі або кіпячэння вадкасці; тытан.

**КУБАМЕДУ́ЗЫ** (н.-лац. cubomedusae) — атрад марскіх кішачнаполасцевых жывёл класа сцыфоідных; паліпы без ахоўнай трубкі.

**КУБАНІ́Т** (ад ісп. Cuba = Куба) — мінерал класа *сульфідаў* бронзава-жоўтага колеру з металічным бляскам; медная руда.

**КУБАТУ́РА** (рус. кубатура, ад лац. cubus < гр. kybos = куб) — аб'ём чаго-н., выражаны ў кубічных адзінках (напр. к. пакоя).

**КУ́БЕЛ** (польск. kubel, ад с.-в.-ням. kübel) — вялікая драўляная дзежка з накрыўкай ці векам для захоўвання прадуктаў і рэчаў.

**КУБІ́ЗМ** (фр. cubisme, ад лац. cubus < гр. kybos = куб) — кірунак у выяўленчым мастацтве пач. 20 ст., які перадаваў прадметы рэальнага свету камбінацыямі геаметрычных фігур.

**КУ́БРЫК** (рус. кубрик, ад гал. koebrug) — памяшканне для каманды на караблі.

**КУВА́ДА** (фр. couvade = высёджванне яец) — абрадавая сімуляцыя бацькам родавага акта пры нараджэнні дзіцяці, вядомая ў многіх народаў.

**КУВЕ́З** (фр. couveuse = інкубатар) — апарат са штучным мікракліматам для саграванне неданошаных дзяцей.

**КУВЕ́РТ** (фр. couvert = накрыты) — *уст*. сталовы прыбор.

**КУГА́** (кр.-тат. qoga) — водная травяністая расліна сям. асаковых; азёрны чарот.

**КУГУА́Р** (ад тупі-гуарані cuguacuara) — тое, што і *пума*.

# К

**КУДО́НІЯ** (н.-лац. cudonia) — сумчаты грыб сям. геаглосавых, які расце на глебе ў лясах.

**КУДУ́**[1] (афр. kudu) — парнакапытная жывёла сям. пустарогіх, пашыраная ў Афрыцы; лясная антылопа.

**КУДУ́**[2] (інд. kudu) — дэкаратыўны элемент у форме падковападобнай аркі, тыповы для індыйскай архітэктуры.

**КУ́ЗАЎ** (рус. кузов, ад тат. kyzau = карзіна з бярозы) — частка павозкі, аўтамашыны, якая служыць для размяшчэння людзей або грузаў.

**КУЗЕ́Н** (фр. cousin) — стрыечны брат.

**КУЗІ́НА** (фр. cousine) — стрыечная сястра.

**КУКА́РДА** (фр. cocarde) — спецыяльны значок на форменнай шапцы.

**КУКЕРСІ́Т** (ад эст. Kukruse = назва эстонскай вёскі) — гаручы сланец светла- або цёмна-бурага колеру, які ўтварыўся з асадкаў, багатых сіне-зялёнымі водарасцямі; выкарыстоўваецца як паліва.

**КУ-КЛУКС-КЛА́Н** (англ. Ku-Klux-Klan) — тайная расісцкая тэрарыстычная арганізацыя ў ЗША (створана ў 1865 г.), якая вядзе барацьбу супраць неграў.

**КУКУРБІТА́РЫЯ** (н.-лац. cucurbitaria) — сумчаты грыб сям. плеяспоравых, які развіваецца на адмерлых галінках парэчак, шыпшыны.

**КУКУРУ́ЗА** (рум. cucuruz) — травяністая расліна сям. злакавых з высокім тоўстым сцяблом і сабранымі ў пачаткі зярнятамі, якая паходзіць з Цэнтр. і Паўд. Амерыкі і пашырана ў розных кліматычных зонах.

**КУЛА́Ж** (фр. colage = страта) — 1) скідка з вагі на ўтруску, што робіцца ў час куплі рэдкіх прадуктаў, а таксама сама ўтруска; 2) *перан.* непрадуктыўная растрата матэрыяльных сродкаў, часу, працы.

**КУЛА́Н** (цюрк. kulan) — дзікі азіяцкі асёл.

**КУ́ЛІ** (тамільск. kuli = заработкі) — некваліфікаваны рабочы ў Кітаі (да 1949 г.) і некаторых краінах Азіі.

**КУЛІНА́Р** (лац. culinarius = кухонны) — вопытны, умелы кухар.

**КУЛІНА́РНЫ** (лац. culinarius) — які мае адносіны да *кулінарыі*, звязаны з ёй.

**КУЛІНА́РЫЯ** (лац. culinarius = кухонны) — 1) майстэрства прыгатавання ежы, а таксама зборная назва страў; 2) магазін паўфабрыкатаў.

**КУЛІ́СЫ** (фр. coulisse) — 1) плоскія часткі тэатральнай *дэкарацыі*, размешчаныя па баках сцэны адна за другой; 2) *перан.* тое, за чым хаваецца што-н.; з а  к у л і с а м і — тайна, скрытна, у неафіцыйнай абстаноўцы; 3) *тэх.* сістэма рычагоў для перамены ходу машыны.

**КУЛІСЬЕ́** (фр. coulissier) — неафіцыйны біржавы пасрэднік, які без удзелу афіцыйных *маклераў* заключае біржавыя здзелкі.

**КУЛО́Н**[1] (рус. кулон, ад фр. coulant) — упрыгожанне з каштоўных камянёў на ланцужку, якое носяць на шыі.

**КУЛО́Н**[2] [фр. Ch.Coulomb = прозвішча фр. фізіка (1736—1806)] — адзінка колькасці электрычнасці ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ),

роўная колькасці электрычнасці, якая працякае праз папярочнае сячэнне праваднікa за 1 с пры сіле току 1 *ампер*.

**КУЛОНАМЕ́ТРЫЯ** (ад *кулон*$^2$ + *-метрыя*) — электрахімічны метад аналізу, які грунтуецца на вымярэнні колькасці электрычнасці, што траціцца на *электралітычнае* аднаўленне або акісленне.

**КУЛУА́РЫ** (рус. кулуары, ад фр. couloirs = *літар*. калідоры) — бакавыя залы, калідоры ў тэатры, парламенце, якія служаць для адпачынку, а таксама неафіцыйных сустрэч, абмену думкамі; г у т а р к і ў к у л у а р а х — неафіцыйныя сустрэчы.

**КУЛЬ** (літ. kulŷs) — тоўсты сноп няцёртай саломы.

**КУЛЬБІ́Т** (фр. culbite) — акрабатычны пераварот-перакат наперад з апорай на рукі, галава прыціснута да грудзей.

**КУ́ЛЬМАН** (англ. Culman = назва фірмы) — прыстасаванне для чарчэння.

**КУЛЬМІНА́ЦЫЯ** (фр. culmination < с.-лац. culminatio, ад лац. culmen, -minis = вяршыня) — 1) момант найвышэйшага напружання, уздыму, развіцця чаго-н. (напр. к. падзей, к. драмы); 2) *астр*. праходжанне свяціла праз нябесны мерыдыян.

**КУЛЬМІНІ́РАВАЦЬ** (п.-лац. culminare) — 1) дасягаць найвышэйшага напружання, уздыму, развіцця; 2) *астр*. праходзіць праз нябесны мерыдыян (пра нябесныя свяцілы).

**КУЛЬТ** (лац. cultus) — 1) пакланенне бажаству і выкананне звязаных з гэтым рэлігійных абрадаў; 2) *перан*. непамернае ўзвелічэнне каго-н., чаго-н. (напр. к. асобы).

**КУЛЬТУ́РА** (лац. cultura) — 1) сукупнасць дасягненняў чалавечага грамадства ў вытворчай, грамадскай і разумовай дзейнасці (напр. матэрыяльная к., духоўная к.); 2) узровень развіцця якой-н. галіны гаспадарчага або духоўнага жыцця (напр. к. вытворчасці, к. мовы); 3) ступень адукаванасці, выхаванасці каго-н. (чалавек высокай культуры); 4) вырошчванне якой-н. расліны, а таксама сама расліна, якая вырошчваецца (напр. кармавыя культуры).

**КУЛЬТУРАЛО́ГІЯ** (ад *культура* + *-логія*) — навука пра духоўную культуру народа.

**КУЛЬТУРКА́МПФ** (ням. Kulturkampf = барацьба за культуру) — назва мерапрыемстваў ураду О.Бісмарка ў Германіі ў 70-х гг. 19 ст., праведзеных пад выглядам «барацьбы за культуру» супраць каталіцкай царквы.

**КУЛЬТУРО́ЛАГ** (ад *культура* + *-лаг*) — спецыяліст у галіне культуралогіі.

**КУЛЬТУРТРЭ́ГЕР** (ням. Kulturträger) — іранічная назва каланізатара, які эксплуатуе насельніцтва заняволеных краін пад выглядам пашырэння культуры.

**КУЛЬТУРЫ́ЗМ** (фр. culturisme) — сістэма фізічных практыкаванняў, пераважна сілавых, якія павінны развіваць мускулатуру, садзейнічаць фарміраванню прыгожай фігуры і паставы, а таксама занятак такімі практыкаваннямі.

**КУЛЬТЫВАВА́ЦЬ** (фр. cultiver, ад п.-лац. cultivare = апрацоўваць) — 1) разводзіць, вырошчваць (напр. к. лён); 2) право-

дзіць *культывацыю*; 3) садзейнічаць развіццю чаго-н. (напр. к. новыя тэхнічныя метады).

**КУЛЬТЫВА́Р** (англ. cultivar, ад cultivated variety = культурная разнавіднасць) — сукупнасць раслін з гаспадарчымі карыснымі прыкметамі, што перадаюцца ў спадчыну пры палавым або вегетатыўным размнажэнні.

**КУЛЬТЫВА́ТАР** (фр. cultivateur, ад п.-лац. cultivare = апрацоўваць) — сельскагаспадарчая прылада для перадпасяўной апрацоўкі глебы і догляду пасеваў (рыхленне глебы, знішчэнне пустазелля і інш.).

**КУЛЬТЫВА́ЦЫЯ** (п.-лац. cultivatio) — апрацоўка глебы *культыватарам*.

**КУЛЬТЫ́ЗМ** (фр. cultisme, ад лац. cultus = аздоблены) — тое, што і *гангарызм*.

**КУ́ЛЯ** (польск. kula, ад с.-в.-ням. kūle) — галаўная частка баявога патрона стралковай, паляўнічай і спартыўнай зброі (напр. бранябойная к.).

**КУМАРО́Н** (індз. kumaron) — бясколерная вадкасць са спецыфічным пахам, якая змяшчаецца ў каменнавугальнай смале.

**КУМАРЫ́Н** (фр. coumarine) — арганічнае злучэнне, цвёрды крышталічны прадукт з пахам свежага сена; выкарыстоўваецца ў парфумернай, мылаварнай і харчовай прамысловасці.

**КУМА́Ч** (тат. kumač, ад ар. kumáš) — баваўняная тканіна яркачырвонага колеру.

**КУМГА́Н** (цюрк. kumgan) — высокі збан з носікам, ручкай і накрыўкай у цюркскіх народаў і каўказскіх горцаў.

**КУ́МЖА** (рус. кумжа < фін. kumsi, ад саам. kuūdža) — прамысловая рыба сям. ласасёвых, пашыраная ў морах, якія амываюць Еўропу; прэснаводная форма — *фарэль*.

**КУМПЯ́К** (літ. kūmpis) — бядровая частка свіной тушы, шынка.

**КУМУЛЯТЫ́ЎНЫ** (лац. cumulatus = павялічаны, узмоцнены) — здольны да *кумуляцыі* 2; к. с н а р а д — артылерыйскі снарад вялікай прабіўной сілы, заснаванай на кумуляцыі.

**КУМУЛЯ́ЦЫЯ** (лац. cumulatio = памнажэнне, награмаджэнне) — 1) накапленне ў арганізме лекавых рэчываў у сувязі з працяглым іх ужываннем; 2) канцэнтрацыя энергіі выбуху ў пэўным напрамку, напр. пры дзеянні кумулятыўнага снарада.

**КУМЫ́С** (тат. kymyz) — напітак з малака кабылы, вярблюдзіцы, каровы, прыгатаваны асобым спосабам.

**КУНА́К** (цюрк. kunak = госць) — асоба, звязаная з кім-н. абавязкам дружбы, узаемадапамогі (у каўказскіх горцаў).

**КУНГА́С** (карэйск. kungas) — вялікая лодка без палубы (грабная або парусная), якая пашырана на Далёкім Усходзе.

**КУНЖУ́Т** (перс. kundžud) — травяністая расліна сям. кунжутавых з белымі, ружовымі або фіялетавымі кветкамі, пашыраная ў тропіках Афрыкі і Азіі; з яе насення здабываюць алей.

**КУНКТА́ТАР** (лац. cunctator) — *перан.* марудны, нерашучы чалавек.

**КУНСТКА́МЕРА** (ням. Kunstkammer) — збор разнастайных гістарычных, мастацкіх, навуковых рэдкасцей, а таксама памяшканне для такога збору.

**КУНТУ́Ш** (польск. kontusz, ад венг. köntös) — старадаўняе верхняе мужчынскае адзенне (апранаді на *жупан*) у выглядзе кафтана з шырокімі разрэзанымі адкіднымі рукавамі, якое насіла польская, беларуская і ўкраінская шляхта.

**КУНШТУ́К** (ням. Kunststück) — *уст.* дасціпны прыём, фокус, трук.

**КУПА́Ж** (фр. coupage) — змешванне розных він, гатункаў чаю, сокаў у пэўных суадносінах, каб палепшыць іх якасць.

**КУ́ПАЛ** (іт. cupola) — 1) пукаты дах у выглядзе паўшар'я (напр. к. царквы); 2) *перан.* якое-н. пакрыццё акруглай формы (напр. к. парашута).

**КУПА́НУС** (н.-лац. macropodus cupanus) — рыба атрада акунепадобных, якая водзіцца ў невялікіх вадаёмах Індыі, Шры-Ланка; на Беларусі вядома як акварыумная.

**КУПАРВА́С** (ст.-польск. koperwas, ад с.-в.-ням. kupfer-wasser) — сернакіслая соль некаторых цяжкіх металаў (напр. медны к.).

**КУПЕЛІ́РАВАЦЬ** (фр. coupeller) — праводзіць *купеляцыю*.

**КУПЕЛЯ́ЦЫЯ** (фр. coupellation) — ачышчэнне ад свінцу і іншых прымесей высакародных металаў.

**КУПІДО́Н** (фр. Cupidon, ад лац. Cupido = бог кахання ў выглядзе хлопчыка з лукам і стрэламі ў антычнай міфалогіі) — *перан.* прыгожы хлопчык або юнак.

**КУПІ́РАВАЦЬ** (фр. couper) — 1) *мед.* ліквідаваць прыступ хваробы своечасовым, эфектыўным лячэннем; 2) адразаць, адсякаць.

**КУПЛЕ́Т** (фр. couplet) — асобная *страфа* ў вершы або ў песні.

**КУПО́Н** (фр. coupon) — 1) адразны талон у каштоўных паперах на атрыманне працэнтаў; с т р ы г ч ы к у п о н ы — жыць на даходы з каштоўных папер; 2) адразны або асобны талон, які дае права купіць пэўны прадукт або тавар у магазіне; 3) адрэз тканіны на касцюм, сукенку, звычайна са спецыяльным аздабленнем (каймой, вышыўкай і інш.).

**КУПРЫ́Т** (ад лац. cuprum = медзь) — мінерал класа вокіслаў і гідравокіслаў чырвонага колеру; медная руда.

**КУ́ПУЛА** (лац. cupula = бочачка) — жэлепадобны каўпачок, які пакрывае валаскі эпітэліяльных клетак у вестыбулярным апараце пазваночных.

**КУПФЕРМЕРЫТО́ЛЬ** (ад ням. Kupfer = медзь) — медна-мыш'яковы прэпарат *(інсектафунгіцыд)*, які выкарыстоўваецца для барацьбы са шкоднымі насякомымі і грыбкамі.

**КУПФЕРШТЭ́ЙН** (ням. Kupferstein, ад Kupfer = медзь + Stein = камень) — сплаў сярністага жалеза і сярністай медзі.

**КУПЭ́** (фр. coupé) — асобнае аддзяленне для некалькіх пасажыраў у вагоне.

**КУПЮ́РА** (фр. coupure, ад couper = рэзаць, адразаць) — 1) скарачэнне, пропуск у літаратурным або музычным творы; 2) каштоўная папера (напр. сторублёвая к.).

# К

**КУРАГА́** (цюрк. kurug = сухі) — высушаныя без костачак абрыкосы.

**КУРА́Ж** (фр. courage = смеласць) — *уст.* паказная смеласць, развязнасць.

**КУРА́ЖЫЦЦА** (ад фр. courage = смеласць) — важнічаць, трымацца фанабэрыста; крыўляцца.

**КУРА́Й** (цюрк. kuraj) — башкірскі і татарскі духавы музычны інструмент тыпу *флейты*.

**КУРА́НТА** (іт. couranta) — урачысты прыдворны танец 16—17 ст., які быў вядомы ў многіх еўрапейскіх краінах.

**КУРА́НТЫ** (фр. courante = бягучы) — вежавы або насценны гадзіннік з музыкай, а таксама музычны механізм у такім гадзінніку.

**КУРАРТАЛО́ГІЯ** (ад *курорт* + *-логія*) — раздзел *медыцыны*, які вывучае лекавыя ўласцівасці прыроды, іх уплыў на арганізм і выкарыстанне з лячэбна-прафілактычнай мэтай.

**КУРАРЭ́** (індз. kurara) — атрутнае рэчыва з карэння і маладых парасткаў некаторых паўднёваамерыканскіх раслін; выкарыстоўваецца ў медыцыне.

**КУ́РАС** (гр. kuros) — статуя юнака-атлета ў мастацтве старажытнагрэчаскай *архаікі*.

**КУРА́ТАР** (лац. curator = апякун) — асоба, якой даручана кіраўніцтва, нагляд за кім-н., чым-н. (напр. к. групы); 2) студэнт у клініцы, які назірае за хворым (гл. *курацыя* 2).

**КУРА́ЦЫЯ** (лац. curatio) — 1) лячэнне, догляд хворага; 2) студэнцкая практыка з наступным складаннем гісторыі хваробы і дакладам выкладчыку.

**КУРБЕ́Т** (фр. courbette) — 1) скачок з падагнутымі пярэднімі нагамі, які выконвае верхавы конь; 2) від акрабатычнага скачка; 3) *перан.* нечаканая выхадка, дзіўны ўчынак.

**КУРВАТУ́РА** (лац. curvatura = крывізна) — ледзь прыкметная крывізна прамалінейных частак будынка, якая выкарыстоўваецца для ліквідацыі аптычных скажэнняў і для ўзмацнення пластычнай выразнасці архітэктуры.

**КУРВІ́МЕТР** (ад лац. curvus = крывы + *-метр*) — прыбор для вымярэння даўжыні крывых ліній на планах і картах.

**КУРВІЦЭ́ПС** (н.-лац. aquidens curviceps) — рыба атрада акунепадобных, якая водзіцца ў Амазонцы; на Беларусі вядома як акварыумная.

**КУРГА́Н** (цюрк. kurhan) — 1) высокі старадаўні магільны насып (напр. скіфскі к.); 2) земляны насып у памяць якой-н. падзеі, даты, асобы (напр. к. Міцкевіча).

**КУРДАНЁР** (фр. cour d'honneur = ганаровы двор) — парадны двор палаца, асабняка, які ўтвараецца асноўным корпусам і бакавымі флігелямі.

**КУРДЗЮ́К** (ад цюрк. kujruk = хвост) — тлушчавое адкладанне каля хваста ў некаторых парод авечак.

**КУР'Е́Р** (фр. courrier) — 1) пасыльны ва ўстанове, які разносіць дзелавыя паперы; 2) службовая асоба, якая пасылаецца са спешнымі даручэннямі (напр. дыпламатычны к.).

**КУР'ЁЗ** (рус. курьёз, ад лац. curiosum = цікавая рэч) — незвычайны, недарэчны або смешны выпадак, здарэнне.

**КУРЗА́ЛА, КУРЗА́Л** (ням. Kursaal) — памяшканне для сходаў, канцэртаў і г.д. на курортах.

**КУРКУ́МА** (н.-лац. curcuma, ад ар. kurkum) — травяністая расліна сям. імбірных, пашыраная ў Індыі і на поўдні Кітая, з карэння якой здабываюць жоўтую фарбу; выкарыстоўваецца як харчовая і лекавая.

**КУРО́К** (польск. kurek) — частка ўдарнага механізма ў ручной агнястрэльнай зброі.

**КУРО́РТ** (ням. Kurort, ад Kur = лячэнне + Ort = месца) — мясцовасць з прыроднымі лекавымі сродкамі (мінеральнымі крыніцамі, гразямі і інш.), прыгодная для пабудовы санаторыяў, дамоў адпачынку і інш.

**КУРС** (лац. cursus = ход, цячэнне) — 1) напрамак руху, шлях (карабля, самалёта і інш.); 2) кірунак у палітыцы, грамадскай і інш. дзейнасці; 3) цана, па якой прадаюцца каштоўныя паперы (аблігацыі, вэксалі і інш.); 4) аб'ём якога-н. навучання (напр. к. сярэдняй школы); 5) год навучання ў вышэйшай або сярэдняй спецыяльнай навучальнай установе; 6) сістэматычны выклад якой-н. навуковай дысцыпліны, а таксама падручнік з такім выкладам (напр. к. фізікі).

**КУРСІ́РАВАЦЬ** (лац. cursare = бегаць) — рабіць рэгулярныя паездкі па пэўным маршруце (пра транспарт).

**КУРСІ́Ў** [фр. cursive, ад с.-лац. cursiva (littera) = скорапіс] — друкарскі шрыфт з нахілам, падобны на рукапісны.

**КУРСО́ГРАФ** (ад *курс* + *-граф*) — навігацыйны прыбор для аўтаматычнага запісу курсу карабля.

**КУРСО́РНЫ** (лац. cursorius = беглы) — паспешны; к - а е  ч ы т а н н е — хуткае чытанне тэксту без падрабязнага яго разгляду (параўн. *статарны*).

**КУ́РТА** (польск. kurta, ад венг. kurta = сабака) — бясхвосты або караткахвосты сабака.

**КУРТА́Ж** (фр. courtage) — узнагарода маклеру або іншым пасрэднікам у камерцыйных здзелках.

**КУ́РТКА** (польск. kurtka, ад лац. curtus = кароткі) — верхняя кароткая вопратка, якая зашпільваецца на гузікі ці на замок.

**КУРТУА́ЗНЫ** (фр. courtois) — вытанчана ветлівы; к - а я  л і т а р а т у р а — прыдворна-рыцарская плынь у еўрапейскай літаратуры 12—14 ст., якая апявала воінскія подзвігі і рыцарскае каханне.

**КУРТЫЗА́НКА** (фр. courtisane = прыдворная дама) — жанчына лёгкіх паводзін і авантурыстычнага спосабу жыцця ў арыстакратычным асяроддзі.

**КУРУЛТА́Й** (цюрк. kurultaj) — агульны сход, з'езд у мангольскіх і цюркскіх народаў.

**КУРУ́ЦЫ** (венг. kurucok, ад лац. cruciati = крыжаносцы) — 1) сяляне, якія прымалі ўдзел у антыфеадальных паўстаннях у Венгрыі ў 16 ст.; 2) удзельнікі антыгабсбургскіх вызваленчых рухаў у Венгрыі ў 17—18 ст.

**КУРФЮ́РСТ** (ням. Kurfürst) — уладарны князь у феадальнай Гер-

маніі, які меў права ўдзельнічаць у выбарах імператара.

**КУРЦІ́НА** (фр. courtine) — 1) *уст.* града для кветак, клумба; 2) участак, засаджаны адной пародай дрэў; 3) *ваен.* частка крапаснога вала паміж двума *бастыёнамі*.

**КУРЦХА́АР** (ням. kurz = кароткі + Haar = шэрсць) — парода жорсткашэрсных нямецкіх лягавых сабак рознай масці.

**КУРЦЬЕ́** (фр. courtier = пасрэднік) — тое, што і *маклер*.

**КУРЫ́РАВАЦЬ** (лац. curare) — ажыццяўляць нагляд і дапамогу.

**КУ́РЫЯ** (лац. curia) — 1) правінцыяльны гарадскі сенат у Старажытнарымскай імперыі; 2) савет сеньёра з яго васаламі ў сярэдневяковай Зах. Еўропе; 3) разрад выбаршчыкаў па маёмаснай, нацыянальнай, расавай або іншай прымеце ў некаторых краінах (напр. рабочая к.).

**КУРЫЯ́ЛЫ** (лац. curiales) — члены абшчынных рад у *курыі* 1.

**КУРЫЯ́ЛЬНЫ** (лац. curialis) — які мае адносіны да *курыі*.

**КУСТО́ДА** (лац. custodia = ахова) — першае слова тэксту наступнай старонкі, змешчанае ўнізе папярэдняй старонкі ў старажытных рукапісных ці друкаваных кнігах.

**КУТА́С** (тур. kutas) — пучок нітак, звязаных на адным канцы разам, для ўпрыгожання (напр. пояс з кутасамі).

**КУТУ́М** (н.-лац. kutum) — прахадная рыба сям. карпавых, якая водзіцца ў Каспійскім моры; аб'ект промыслу.

**КУТЫЗО́Н** (ад лац. cutis = скура, абалонка) — лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца пры лячэнні віруснага *грыпу*.

**КУТЫ́КУЛА** (лац. cuticula = скурка) — 1) шчыльнае ўтварэнне на паверхні *эпітэлію* жывёл і чалавека; 2) тонкая плеўка, якая пакрывае *эпідэрміс* лістоў і сцёблаў раслін.

**КУ́ТЫС** (лац. cutis = скурка) — тое, што і *дэрма*.

**КУ́ТЭР** (англ. cutter, ад cut = рэзаць) — 1) машына для тонкага здрабнення мяса, якая выкарыстоўваецца ў каўбаснай вытворчасці; 2) аднамачтавае паруснае судна з косымі парусамі.

**КУ́ФАР** (польск. kufer, ад ням. Koffer) — скрыня з векам на завесах і замком для захоўвання тканіны, адзення і інш.

**КУ́ФЕЛЬ, КУ́ХАЛЬ** (польск. kufel, ад с.-в.-ням. kuefel) — шкляны кубак для піва.

**КУ́ХАР** (польск. kucharz < чэш. kuchař, ад с.-в.-ням. kuchenaere) — той, хто гатуе стравы, повар.

**КУХМА́ЙСТАР** (с.-в.-ням. küchenmeister) — *уст.* умелы *кухар*.

**КУ́ХНЯ** (польск. kuchnia < чэш. kuchyne < ст.-в.-ням. kuchina, ад лац. coquina) — 1) памяшканне з печчу або плітой для гатавання ежы; 2) падбор страў, характар ежы (напр. малочная к., беларуская к.); 3) *перан.* скрыты, закулісны бок якой-н. дзейнасці (напр. дыпламатычная к.).

**КУЦЮ́М** (фр. coutume) — прававы звычай у сярэдневяковай Францыі, які рэгуляваў у асноўным маёмасныя і сямейныя адносіны.

**КУЦЮР'Е́** (фр. couture = кравец) — 1) закройшчык высокага

класа, майстар шыцця; 2) стваральнік моды ў адзенні.

**КУШ** (фр. couche = стаўка ў гульні) — вялікая сума грошай; вялікі хабар.

**КУШНЕ́Р** (ст.-польск. kusznierz, ад с.-в.-ням. kürsenaere) — рамеснік, які вырабляе шкуры на футра і шые з футра.

**КУШЭ́ТКА** (фр. couchette) — невялікая *канапа* з узгалоўем і без спінкі.

**КУЭ́СТЫ** (ісп. cuesta = горны схіл) — грады з асіметрычнымі схіламі і ўступамі ў рэльефе, якія ўтвараюцца ў выніку размывання нахіленых у адзін бок скапленняў горных парод.

**КУЯВЯ́К** (польск. kujawiak) — польскі народны танец.

**КША́ТРЫІ** (санскр. kšatrija) — другая з чатырох *варн* у Стараж. Індыі, да якой належала ваенная арыстакратыя.

**КШТАЛТ** (ст. польск. kształt, ад с.-в.-ням. gestalt) — 1) форма, выгляд; 2) спосаб.

**КЭТ** (англ. cat) — аднамачтавае судна з адным парусам.

**КЮ́БЕЛЬ** (ням. Kübel = цэбар) — устройства для зачэрпвання і механічнай разгрузкі сыпкіх рэчываў.

**КЮВЕ́** (фр. cuvée) — сок, які атрымліваецца ў выніку першых трох адцісканняў вінаграду на прэсе пры вытворчасці шампанскіх він.

**КЮВЕЛЯ́Ж** (фр. cuvelage) — 1) праходка ў шахце плывуноў з дапамогай кольцавых металічных звёнаў, якія змацоўваюцца ў адну трубу; 2) воданепранікальнае мацаванне ў выглядзе суцэльнага металічнага цыліндра.

**КЮВЕ́Т** (фр. cuvette) — канава ўздоўж дарогі для сцёку вады.

**КЮВЕ́ТА** (фр. cuvette) — плоская прамавугольная ванначка для праяўлення і апрацоўкі фатаграфічных *негатываў* і *дыяпазітываў*, а таксама траўлення *клішэ*.

**КЮЛО́Т** (фр. culotte) — кароткія штаны, якія дваране насілі ў Францыі да пач. 19 ст.

**КЮНЕРАМІ́ЦЭС** (н.-лац. kuehneromyces) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. страфарыевых, які расце на пнях, ламаччы ў лісцевых і хвойных лясах; ядомы.

**КЮРАСО́** (гал. Curacao = назва вострава ў Вест-Індыі) — апельсінавы лікёр.

**КЮРЫ́** [фр. Curie = прозвішча фр. фізікаў P.Curie (1859—1906) і M.Skłodowska-Curie (1867—1934)] — адзінка радыеактыўнасці рэчываў.

**КЮ́РЫЙ** [н.-лац. curium, ад фр. Curie = прозвішча фр. фізікаў P.Curie (1859—1906) і M.Skłodowska-Curie (1867—1934)] — штучна атрыманы радыеактыўны хімічны элемент з атамным нумарам 96.

**КЮРЫТЭРАПІ́Я** (ад *кюры* + *тэрапія*) — тое, што і *гама-тэрапія*.

**КЮРЭ́** (фр. curé) — каталіцкі прыходскі святар у Францыі, Бельгіі і некаторых іншых краінах.

**КЯРЫ́З** (цюрк. kjaryz) — падземная ёмістасць для збірання грунтавых вод і вывядзення іх на паверхню зямлі для арашэння і абвадnення.

**К'ЯТ** (бірманскае kiat) — грашовая адзінка ў М'янме (былой Бірме).

# Л

Л

**ЛАБА́З, ЛАБА́С** (рус. лабаз, ад комі lobos = будан) — *уст.* 1) памяшканне для продажу або захоўвання зерня, мукі, а таксама склад розных тавараў; 2) абарог.

**ЛАБАРА́НТ** (лац. laborans, -ntis = які працуе) — 1) навукова-тэхнічны супрацоўнік *лабараторыі*, даследчай установы; 2) памочнік выкладчыка на лабараторных занятках.

**ЛАБАРАТО́РЫЯ** (с.-лац. laboratorium) — 1) спецыяльна абсталяванае памяшканне для навуковых даследаванняў, вучэбных заняткаў; 2) *перан.* унутраная, творчая дзейнасць каго-н., чаго-н. (напр. творчая л. пісьменніка).

**ЛАБАРДА́Н** (гал. labberdaan) — прасоленая і правяленая траска без хрыбтовай косці.

**ЛАБА́РЫЯ** (н.-лац. labaria) — ліставаты сумчаты лішайнік сям. лабарыевых, які трапляецца на кары дрэў.

**ЛАБА́С** гл. *лабаз.*

**ЛАБЕКТАМІ́Я** (ад гр. lobos = кавалачак + ektome = выраз) — выдаленне часткі лёгкіх пры *туберкулёзе*, гнойных працэсах, пухлінах і іншых захворваннях лёгкіх.

**ЛАБЕЛІ́Н** (ад *лабелія*) — *алкалоід*, які змяшчаецца ў раслінах роду лабелія; выкарыстоўваецца ў медыцыне ў якасці стымулятара дыхання.

**ЛАБЕЛІ́СТЫКА** (ад англ. label = наклейка, этыкетка) — калекцыяніраванне этыкетак, якія наклейваюцца на чамаданы ў гатэлях у час турысцкіх падарожжаў.

**ЛАБЕ́ЛІЯ** (н.-лац. lobelia, ад фр. M. de Lobel = прозвішча нідэрл. батаніка 16—17 ст.) — травяністая расліна сям. лабеліевых з чырвонымі, блакітнымі або белымі кветкамі, пашыраная ў тропіках і субтропіках; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ЛАБІ́ЗМ** (англ. lobbyism) — тое, што і *лобі* 1.

**ЛАБІ́ЛЬНАСЦЬ** (ад *лабільны*) — нястойкасць, зменлівасць (напр. л. дзіцячага арганізма).

**ЛАБІ́ЛЬНЫ** (лац. labilis) — нястойкі, няўстойлівы, рухомы.

**ЛАБІРЫ́НТ** (лац. labyrinthus, ад гр. labyrinthos) — 1) складанае, заблытанае размяшчэнне памяшканняў, пераходаў, дарог і інш.; 2) *перан.* складанае спалучэнне, перапляценне чаго-н. (напр. л. думак); 3) *анат.* унутраная частка вуха.

**ЛАБІРЫНТАДО́НТЫ** (н.-лац. labyrinthodontia, ад гр. labyrinthos = лабірынт + odus, odonthos = зуб) — падклас вымерлых земнаводных, якія знешне нагадвалі *кракадзілаў* або *саламандраў*, жылі ў сярэдзіне *палеазою* — пач. *мезазою*.

**ЛАБІРЫНТЫ́Т** (ад *лабірынт*) — *мед.* запаленне ўнутранага вуха.

**ЛАБІ́СТ** (англ. lobbyist) — тое, што і *лобі* 2.

**ЛАБІЯДЭНТА́ЛЬНЫ** (ад лац. labium = губа + dens, -ntis = зуб) —

*лінгв.* губна-зубны зычны гук (напр. «в», «ф»).

**ЛАБІЯЛІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. labialis = губны) — *лінгв.* вымаўленне некаторых гукаў мовы з акругленнем выцягнутых губ.

**ЛАБІЯ́ЛЬНЫ** (лац. labialis = губны) — 1) *лінгв.* утвораны з удзелам губ, губны гук (напр. «б», «п»); 2) які нагадвае сабой губы (напр. л-ыя органы пачуццяў у насякомых).

**ЛАБРАДАРЫ́Т** (ад *лабрадор*) — магматычная горная парода, якая складаецца пераважна з лабрадору; выкарыстоўваецца для розных вырабаў і ўпрыгожвання будынкаў.

**ЛАБРАДО́Р** (англ. Labrador = назва паўвострава ў паўн.-ўсх. Канадзе) — мінерал групы палявых *шпатаў*, бясколерны, шэры або зеленаваты; выкарыстоўваецца ў будаўніцтве.

**ЛАБЭКТАМІ́Я** (ад англ. lobe = доля, частка + гр. ektos = па-за) — *мед.* аперацыйнае выдаленне часткі чалавечага органа (напр. палавіны лёгкага).

**ЛА́ВА**[1] (іт. lava) — 1) расплаўленая маса, якая вывяргаецца вулканам на паверхню зямлі; 2) *перан.* імклівая, нястрымная маса чаго-н., лавіна.

**ЛА́ВА**[2] (польск. ława) — 1) баявы парадак конніцы для адначасовай атакі з флангаў і з тылу; 2) падземная горная выработка з доўгімі забоямі, у якой здабываюцца карысныя выкапні.

**ЛАВАБРЭ́КЧЫЯ** (ад *лава* + *брэкчыя*) — магматычная горная парода вулканічнага паходжання, складзеная пераважна з абломкаў эфузіўных горных парод.

**ЛАВА́НДА** (іт. lavanda) — вечназялёная травяністая расліна сям. ясноткавых з блакітнымі, сінімі або фіялетавымі пахучымі кветкамі, пашыраная ў Міжземнамор'і; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная і эфіраалейная.

**ЛАВА́Ш** (цюрк. lavaš) — пшанічны хлеб у выглядзе тонкіх праснакоў, які пашыраны ў Закаўказзі.

**ЛАВЕЛА́С** [англ. Lovelace = імя героя рамана С.Рычардсана (1689—1761) «Кларыса Гарлоу»] — спакуснік жанчын, ахвотнік да любоўных прыгод; залётнік.

**ЛАВІ́НА** (ням. Lawine) — 1) вялікая маса падаючага з гор снегу, лёду; снежны абвал; 2) *перан.* тое, што і *лава*[1] 2.

**ЛАВІ́РАВАЦЬ** (ням. Lavieren) — 1) плысці на парусным судне супраць ветру па ломанай лініі; рухацца зігзагамі, каб абмінуць перашкоды; 2) *перан.* спрытна прыстасоўвацца да абставін, ухіляцца ад прамых дзеянняў.

**ЛАВІ́С** (фр. lavis) — 1) спосаб гравіравання, пры якім малюнак наносіцца на металічную пласцінку пэндзлем, змочаным у кіслаце; 2) *гравюра* на метале, выкананая такім спосабам, а таксама адбітак з такой гравюры.

**ЛАГ**[1] (гал. log) — 1) прыбор для вымярэння хуткасці руху судна і пройдзенай ім адлегласці; 2) борт судна (пры вызначэнні становішча судна адносна хвалі, іншага судна і г.д.).

**ЛАГ**[2] (англ. lag = запазненне) — разрыў у часе паміж дзвюма з'явамі або працэсамі, якія знаходзяцца ў прычынна-выніковай сувязі (напр. у эканоміцы час ад моманту

ўкладання сродкаў да атрымання аддачы).

**-ЛАГ** гл. *-лог.*

**ЛА́ГА** (ад ням. Lagebalken = бэлька ў столі) — 1) часовая падкладка пад што-н. у выглядзе нятоўстага бервяна, жэрдкі; 2) падваліна, папярочнае бервяно, на якое насцілаецца падлога.

**ЛАГАГРА́МА** (ад гр. logos = слова + *-грама*) — скарочаная форма мовы, неабходная ў некаторых сітуацыях зносін (напр. тэлеграма, ваенная каманда, рэклама і інш.).

**ЛАГАГРА́Ф** (гр. logographos) — старажытнагрэчаскі храніст, аўтар пісанняў гістарычнага характару.

**ЛАГАГРЫ́Ф** (ад гр. logos = слова + griphos = загадка) — род *шарады*, для разгадвання якой трэба адшукаць загаданае слова і ўтварыць ад яго новыя словы шляхам перастаноўкі або выкідвання асобных складоў ці літар.

**ЛАГАПА́Т** (ад *лагапатыя*) — чалавек з маўленчымі недахопамі.

**ЛАГАПА́ТЫЯ** (ад гр. logos = слова + *-патыя*) — недахопы маўлення (картавасць, шапялявасць, заіканне і інш.).

**ЛАГАПЕ́Д** (ад *лагапедыя*) — спецыяліст у галіне *лагапедыі*.

**ЛАГАПЕ́ДЫЯ** (ад гр. logos = слова + *-педыя*) — раздзел *дэфекталогіі*, які вывучае парушэнні маўлення, распрацоўвае метады і прыёмы іх папярэджання і пераадолення.

**ЛАГАРАСІФО́Н** (н.-лац. lagarosiphon) — водная травяністая расліна сям. жабнікавых з цёмна-зялёным лісцем на доўгіх сцёблах, пашыраная ў Паўд. Афрыцы; на Беларусі вядома як акварыумная.

**ЛАГАРЫ́ФМ** (лац. logarithmus, ад гр. logos = слова + arithmos = лік) — *мат.* паказчык ступені, у якую трэба ўзвесці лік-аснову, каб атрымаць дадзены лік.

**ЛАГАТЫ́ПІЯ** (ад гр. logos = слова + *-тыпія*) — набор *лагатыпамі*.

**ЛАГАТЫ́ПЫ** (ад гр. logos = слова + *-тып*) — паліграфічныя наборныя *літары* 2 з найбольш ужывальнымі словамі і складамі (адбітымі на адной ножцы), якія выкарыстоўваліся пры ручным наборы.

**ЛАГАФЕ́Т** (польск. logofet, ад гр. logothetes = кантралёр рахункаў) — 1) чыноўнік у візантыйскім дзяржаўным апараце, які адказваў за фінансы, збор падаткаў, пошту, замежныя справы і інш.; 2) вышэйшы дзяржаўны чын у Малдаўскай дзяржаве 15—19 ст.

**ЛАГАФТА́ЛЬМ** (ад гр. lagos = заяц + ophthalmos = вока) — няпоўнае закрыванне вока пры прыроджанай кароткасці павек, паралічы тваравага нерва і інш.

**ЛАГАЭ́Д** (гр. logaoidikos, ад гр. logos = слова + aoide = спяванне) — разнавіднасць антычнага верша, у радках якога чаргаваліся ў строгай паслядоўнасці розныя па характару стопы.

**ЛА́ГЕР** (ням. Lager) — 1) часовае пасяленне, стаянка каго-н. (напр. ваенны л., турысцкі л.); 2) месца ўтрымання ваеннапалонных ці зняволеных (напр. канцэнтрацыйны л.); 3) *перан.* групоўка людзей, аб'яднаных адзінствам поглядаў.

**ЛАГЕРГЕ́ЙМІЯ** (н.-лац. lagerheimia) — аднаклетачная зялёная водарасць сям. аацысцыевых, якая трапляецца ў *планктоне* азёр, рэк, сажалак і вадасховішчаў.

**-ЛАГІЗМ** (гр. logismos = разважанне) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «слова», «словазлучэнне».

**ЛАГІ́НІЯН** (н.-лац. lagynion) — аднаклетачная залацістая водарасць сям. лагініевых, якая пасяляецца ў прэсных вадаёмах на *трыбанеме, эдагоніуме, мікраспоры, бульбахетэ*.

**ЛАГІ́СТ** (гр. logistes) — 1) прадстаўнік *лагістыкі* 2; 2) службовая асоба ў Стараж. Афінах, якая кантралявала дзейнасць *архонтаў*.

**ЛАГІ́СТЫКА** (гр. logistike = майстэрства лічэння) — 1) матэматычная *логіка*; 2) адзін з кірункаў філасофіі і матэматыкі, які імкнецца атаясаміць матэматыку з логікай, надаючы логіцы чыста сімвалічнае значэнне (параўн. *інтуіцыянізм*).

**ЛАГІЦЫ́ЗМ** (ад *логіка*) — кірунак у філасофска-лагічным абгрунтаванні матэматыкі, што спрабуе цалкам звесці яе да логікі.

**ЛАГІ́ЧНЫ** (гр. logikos) — 1) заснаваны на законах *логікі*, выяўлены з яе дапамогай (напр. л. метад, л. вывад); 2) абумоўлены ўнутранай заканамернасцю чаго-н., непазбежны, неабходны (напр. л-ае развіццё падзей, л. вынік).

**ЛАГЛІ́НЬ** (гал. loglijn) — тонкі карабельны трос *(лінь)*, які злучае паплавок простага *лага*[1] 1 са шпулькай.

**ЛАГО́МЕТР** (ад гр. logos = слова, адносіны + *-метр*) — механізм для вымярэння адносін велічынь двух электрычных токаў; выкарыстоўваецца ў *омметрах, мегомметрах, фазометрах* і інш.

**ЛАГУ́НА** (іт. laguna) — 1) неглыбокі заліў, аддзелены ад мора наносной палосай сушы (*бар*[4]) або злучаны з ім вузкім залівам; 2) участак мора паміж берагам мацерыка ці вострава і каралавымі рыфамі, а таксама ўнутраны вадаём *атола*.

**ЛА́ГТЫНГ** (нарв. lagting) — верхняя палата нарвежскага парламента *(стортынга)*; параўн. *одэльстынг*.

**ЛАДАВА́ЦЬ** (ст.-польск. ładować, ад с.-в.-ням. laden) — роўна, парадкам укладваць, грузіць.

**ЛА́ДАН** (гр. ladanon) — пахучая смала з лісця некаторых трапічных дрэў, якая выкарыстоўваецца для абкурвання ў час рэлігійных абрадаў.

**ЛАДУ́НКА** (польск. ładunek, ад с.-в.-ням. ladunge) — 1) сумка для пораху і шроту ў паляўнічых; 2) набой для стрэльбы.

**ЛАДЫ́КУЛА** (н.-лац. lodicula) — плевачка ў кветках большасці злакаў, якая ў час цвіцення набухае і садзейнічае раскрыванню кветкі.

**ЛАЖ** (іт. l'aggio) — 1) адхіленне ў бок павышэння рыначнага курсу грашовых знакаў, вэксаляў і іншых каштоўных папер ад іх намінальнай вартасці (параўн. *дызажыо*); 2) розніца паміж каштоўнасцю металічнай манеты і абясцэненай пры інфляцыі аднайменнай папяровай купюры.

**ЛАЖАМЕ́НТ** (фр. logement) — 1) апорнае прыстасаванне для замацавання на транспартных сродках якіх-н. машын, грузаў; 2) апорнае прыстасаванне для размяшчэння касмічнага лятальнага апарата на стартавай пляцоўцы; 3) прафіліяванае сядзенне крэсла для лётчыка або касманаўта; 4) *уст.* невялікі акоп для пяхоты або гармат.

# Л

**ЛАЗАРЭ́Т** (фр. lazaret, ад іт. lazzaretto) — 1) невялікая бальніца пры вайсковай часці; 2) *уст.* бальніца для бедных.

**ЛА́ЗЕР** (англ. laser, ад Light Amplification by Stimulated Emission of Radiation = узмацненне святла ў выніку вымушанага выпрамянення) — прыбор для атрымання канцэнтраваных светлавых пучкоў.

**ЛАЗУ́РАК** [польск. lazur < с.-в.-ням. lāsur(e) < с.-лац. lazurium, ад ар. lāzaward] — 1) блакіт; 2) фарба светла-сіняга колеру.

**ЛАЗУРЫ́Т** (польск. lazuryt, ад с.-лац. lazurium = блакіт) — мінерал сіняга колеру падкласа каркасных *сілікатаў*, які выкарыстоўваецца для прыгатавання сіняй фарбы і як вырабны камень.

**ЛА́ЙБА** (фін. laiva) — вялікая парусная лодка з дзвюма мачтамі.

**ЛА́ЙДЫ** (фін. laita) — прыбярэжныя нізінныя раўніны на поўначы Еўропы і ў Сібіры, якія затапляюцца ў час марскіх прыліваў.

**ЛА́ЙНЕР** (англ. liner) — буйное марское пасажырскае судна або шматмесны самалёт, якія робяць рэгулярныя рэйсы па пэўным маршруце (параўн. *трамп*).

**ЛА́ЙНСМЕН** (англ. linesman, ад line = лінія + man = чалавек) — памочнік суддзі ў спартыўных гульнях (футболе, тэнісе і інш.), які сігналізуе яму пра становішча мяча і гульцоў.

**ЛАК** (ням. Lack < ар. lakk, ад санскр. lākšā) — раствор смол у спірце, якім пакрываюць паверхню прадметаў, каб надаць ім бляск, засцерагчы ад псавання.

**ЛАКАЛІЗАВА́ЦЬ** (фр. localiser, ад лац. localis = мясцовы) — спыняць пашырэнне чаго-н., абмяжоўваць што-н. пэўным месцам (напр. л. пажар).

**ЛАКАЛІЗА́ЦЫЯ** (фр. localisation, ад лац. localis = мясцовы) — абмежаванне якога-н. дзеяння або з'явы пэўнай прасторай.

**ЛАКАЛІ́Т** (ад гр. lakkos = яма + *-літ*) — маса мінералаў вулканічнага паходжання, якая застыла ў верхніх слаях зямной кары ў выглядзе грыба.

**ЛАКА́ЛЬНЫ** (лац. localis) — 1) які не выходзіць за межы пэўнай тэрыторыі, мясцовы, абмежаваны (напр. л-ая вайна); 2) асноўны, нязменны, уласцівы дадзенаму прадмету (напр. л. колер).

**ЛАКАМАБІ́ЛЬ** (фр. locomobile, ад лац. locus = месца + mobilis = рухомы) — паравы рухавік, які прыводзіць у дзеянне іншыя машыны і механізмы (малатарні, помпы і інш.).

**ЛАКАМАТЫ́Ў** (фр. locomotive, ад лац. locus = месца + motio = рух) — цягавая машына (паравоз, цеплавоз, газатурбавоз, электравоз), прызначаная для перамяшчэння па рэйках чыгуначных саставаў або асобных вагонаў.

**ЛАКАМО́ЦЫЯ** (ад лац. locus = месца + motio = рух) — сукупнасць каардынаваных рухаў, пры дапамозе якіх чалавек і жывёлы перамяшчаюцца ў прасторы (разнавіднасці — хада, палёт, плаванне і інш.).

**ЛАКАНІ́ЗМ** (гр. lakonismos) — кароткасць і дакладнасць у выражэнні думкі, ідэі, задумы.

**ЛАКАНІ́ЧНЫ** (гр. lakonikos) — коратка і дакладна выказаны, выражаны (напр. л. адказ, л-ыя формы).

**ЛАКА́ТАР** (англ. locator, ад лац. locator) — спецыяльная ўстаноўка для вызначэння месцазнаходжання аб'екта з дапамогай адбітых ад яго гукавых ці электрамагнітных хваляў або па яго асабістым выпрамяненні (напр. гукавы л., лазерны л.).

**ЛАКАТЫ́Ў** [лац. (casus) locativus] — *лінгв.* месны склон.

**ЛАКА́УТ** (англ. lock out = *літар.* зачыняць дзверы перад кім-н.) — закрыццё прадпрыемстваў і масавае звальненне рабочых як адна з форм класавай барацьбы капіталістаў супраць рабочага класа.

**ЛАКА́ЦЫЯ** (лац. locatio) — 1) вызначэнне месцазнаходжання аб'екта з дапамогай *лакатара*; 2) здольнасць некаторых жывёл арыентавацца і шукаць корм пры дапамозе асобых органаў пачуццяў.

**ЛАКЕ́Й** (фр. laquais) — 1) слуга; 2) *перан.* асоба, якая падхалімнічае, выслужваецца перад кім-н.

**ЛАКІРАВА́ЦЬ** (ням. lackieren) — 1) пакрываць лакам; 2) *перан.* прыхарошваць, хаваючы недахопы (напр. л. рэчаіснасць).

**ЛА́КМУС** (ням. Lackmus, гал. lakmoes) — фарба з марскіх лішайнікаў, якая пад дзеяннем кіслот набывае чырвоны колер, а пад дзеяннем шчолачаў сіні, а таксама папера, насычаная растворам гэтай фарбы.

**ЛАКРЫМА́ТАРЫ** (ад лац. lacrima = сляза) — слёзатачывыя атрутныя рэчывы (*хлорацэтафенон, хлорпікрын* і інш.).

**ЛАКРЫМО́ЗА** (лац. lacrimosa, ад lacrimosus = смутны, журботны) — частка *рэквіема.*

**ЛАКРЫ́ЦА** (с.-в.-ням. lakeritze < лац. laquiritia, ад гр. glykyrrhiza = салодкі корань) — травяністая расліна сям. бабовых са складаным лісцем і фіялетавымі кветкамі, пашыраная ва ўмераных і субтрапічных зонах, карэнне якой выкарыстоўваецца ў медыцыне і харчовай прамысловасці; салодка.

**ЛАКСАДРО́МА** (ад гр. loksos = крывы + dromos = бег) — лінія на паверхні Зямлі, якая перасякае ўсе мерыдыяны пад пастаянным вуглом (мае значэнне для *навігацыі* 1).

**ЛАКТА-** (лац. lac, -ctis = малако) — першая састаўная частка складаных слоў, што выражае паняцце «які адносіцца да малака».

**ЛАКТААЛЬБУМІ́НЫ** (ад *лакта-* + *альбумін*) — простыя прыродныя бялкі *(альбуміны)*, якія змяшчаюцца ў малацэ.

**ЛАКТАБАЦЫЛІ́Н** (ад *лакта-* + *бацыла*) — 1) грыбок, здольны акісляць малако, надаючы яму лячэбныя ўласцівасці; 2) сыракваша, прыгатаваная заквашваннем малака такім грыбком.

**ЛАКТАБАЦЫ́ЛЫ** (н.-лац. lactobacillus) — малочна-кіслыя *бактэрыі*; пашыраны паўсюдна на раслінах, малочных прадуктах, у кішачным тракце жывёл і чалавека.

**ЛАКТАГЛАБУЛІ́НЫ** (ад *лакта-* + *глабулін*) — жывёльныя бялкі (глабуліны), якія змяшчаюцца ў малацэ і складаюць 95% бялкоў сыроваткі.

**ЛАКТА́МЫ** [ад *лакта-* + *ам(іны)*] — цыклічныя аміды амінакарбонавых кіслот; выкарыстоўваюцца для атрымання *палімераў.*

**ЛАКТАСКО́П** (ад *лакта-* + *-скоп*) — прыбор для вызначэння колькасці тлушчу ў малацэ.

# Л

**ЛАКТАТДЭГІДРАГЕНА́ЗА** (ад *лактаты* + *дэгідрагеназа*) — *фермент*, які выклікае ў арганізме чалавека і жывёл акісленне малочнай кіслаты.

**ЛАКТА́ТЫ** (ад лац. lac, -ctis = малако) — солі малочнай кіслаты.

**ЛАКТА́ЦЫЯ** (ад лац. lactare = утрымліваць малако, карміць малаком) — працэс утварэння і выдзялення малака малочнымі залозамі.

**ЛАКТО́ЗА** (лац. lactosus = малочны) — арганічнае злучэнне класа *дыцукрыдаў*; змяшчаецца ў малацэ млекакормячых і чалавека; малочны цукар.

**ЛАКТО́МЕТР** (ад *лакта-* + *-метр*) — прыбор для вызначэння гушчыні малака.

**ЛАКТО́НЫ** (ад лац. lac, -ctis = малако) — арганічныя злучэнні, унутраныя цыклічныя *эфіры* аксікіслот.

**ЛАКТАФЛАВІ́Н** (ад *лакта-* + лац. flavus = жоўты) — тое, што і *рыбафлавін*.

**ЛАКУ́НА** (лац. lacuna = паглыбленне, упадзіна) — 1) *анат*. пустата паміж тканкамі або органамі чалавека і жывёл, запоўненая лімфай; 2) тое, што і *крыпта* 3; 3) прапушчанае месца ў тэксце.

**ЛАКУНА́РЫЙ** (лац. lacunar, ад lacuna = паглыбленне) — тое, што і *кесон* 1.

**ЛАКФІЁЛЬ** (ням. Lackviole) — травяністая расліна сям. крыжакветных з жоўтымі і чырвона-жоўтымі пахучымі кветкамі, пашыраная ў Паўд. Грэцыі; на Беларусі разводзіцца як дэкаратыўная.

**ЛАЛ** (тур. lâl, ад перс. lāl) — *уст*. тое, што і *шпінель*.

**ЛАЛА́РДЫ** (англ. lollards, ад гал. lollaerd = які шэпча малітвы) — удзельнікі антыкаталіцкага сялянска-плебейскага руху ў Англіі, Нідэрландах, Германіі 14 ст., які папярэднічаў *Рэфармацыі*.

**ЛА́МА**[1] (ісп. llama, ад кечуа llama) — бязгорбая ўючная жывёліна сям. вярблюдавых, якую разводзяць у Паўд. Амерыцы (асабліва цэніцца яе воўна).

**ЛА́МА**[2] (тыбецк. blama = вышэйшы) — будыйскі манах у краінах, дзе пашыраны *ламаізм*.

**ЛАМАІ́ЗМ** (ад *лама*[2]) — кірунак *будызму*, які ўзнік у 7 ст. у Тыбеце і ў 16—18 ст. пашырыўся ў Манголіі.

**ЛАМАНЦІ́Н** (фр. lamantin) — млекакормячае атрада *сірэн*, пашыранае ў прыбярэжных водах Атлантычнага акіяна; аб'ект промыслу.

**ЛАМАРКІ́ЗМ** [ад фр. J.Lamarck = прозвішча фр. прыродазнаўцы (1744—1829)] — вучэнне аб эвалюцыйным развіцці жывой прыроды, паводле якога змены пад уздзеяннем знешніх умоў мэтаўзгоднены з унутраным імкненнем арганізмаў да ўдасканалення.

**ЛАМБА́РД** (фр. lombard, ад іт. Lombardia = вобласць у Італіі) — крэдытная ўстанова, якая выдае грашовую пазыку за пэўны працэнт пад заклад рэчаў або маёмасці.

**ЛА́МБЕРТ** [ням. J.Lambert = прозвішча ням. вучонага (1728—1777)] — адзінка яркасці, звычайна яркасці паверхні, якая свеціцца за кошт рассеянага святла.

**ЛАМБРАЗІЯ́НСТВА** [ад іт. C.Lombroso = прозвішча іт. псіхіятра і антраполага (1835—

1909)] — вучэнне, якое тлумачыць злачыннасць прыроджанымі біялагічнымі ўласцівасцямі злачынцы.

**ЛАМБРЭКЕ́Н** (фр. lambrequin) — 1) аздабленне з матэрыі на дзвярных і аконных праёмах, на партале тэатральнай сцэны; 2) драўляная разьба на выступах страхі, над дзвярамі і вокнамі.

**ЛАМІНА́РНЫ** (ад лац. lamina = пласцінка, палоска) — слаісты, плоскі; л. р у х в а д к а с ц і — рух, пры якім слаі вадкасці цякуць паралельна, не змешваюцца (параўн. *турбулентны*).

**ЛАМІНА́РЫЯ** (н.-лац. laminaria, ад лац. lamina = пласцінка, палоска) — буйная марская водарасць, асобныя віды якой ужываюцца ў ежу, прымяняюцца ў медыцыне; марская капуста.

**ЛАМІНА́ТАР** (ад лац. lamina = пласцінка) — механізм для пракатвання паміж валкамі шчыльнай паперы або кардону з мэтай ушчыльнення і надання ім глянцу.

**ЛАМІНАЭКТАМІ́Я** (ад лац. lamina = пласцінка + гр. ektome = высячэнне) — ускрыццё пазваночнага канала шляхам выдалення асцістых адросткаў і дужак пазванкоў.

**ЛАМПА́ДА** (с.-гр. lampada, ад гр. lampas, -ados = факел; сонца) — невялікі свяцільнік, які запальваецца перад абразамі.

**ЛАМПА́С** (фр. lampas) — каляровая суконная паласа, якая нашыта ўздоўж бакавога шва форменных штаноў.

**ЛАМПІЁН** (фр. lampion) — ліхтар з каляровай паперы або шкла для асвятлення ці ілюмінацыі.

**ЛАМПРАФІ́Р** [ад гр. lampros = бліскучы + (por)phyreus = пурпуровы] — жыльная магматычная горная парода, якая складаецца з палявога шпату і павышанай колькасці (не менш за 30%) каляровых мінералаў.

**ЛАН** (ст.-польск. łan < чэш. lan, ад с.-в.-ням. lehen) — даўняя мера зямлі; валока.

**ЛАНАЛІ́Н** (н.-лац. lanolinum, ад лац. lana = воўна + oleum = алей) — жывёльны воск, вязкае буравата-жоўтае рэчыва, якое атрымліваюць пры прамыўцы воўны; выкарыстоўваецца ў медыцыне і касметыцы.

**ЛАНГЕРМА́НІЯ** (н.-лац. langermannia) — *базідыяльны* грыб сям. дажджавіковых, які расце на глебе ў лісцевых лясах, на палях, лугах, сярод травы.

**ЛАНГЕ́Т** (фр. languette = язычок) — страва з мяса (выразкі), нарэзанага тонкімі прадаўгаватымі кавалкамі.

**ЛАНГЕ́ТКА** (фр. longuette) — павязка з гіпсу, якая забяспечвае нерухомасць зламаных касцей рук або ног.

**ЛАНГУ́СТ** (фр. langouste) — марскі рак атрада дзесяціногіх *(дэкаподаў)* з цвёрдым панцырам, без клюшняў, з доўгімі вусікамі, які водзіцца ў цёплых морах; аб'ект промыслу.

**ЛАНГХА́АР** (ад ням. lang = доўгі + Haar = шэрсць) — парода доўгашэрсных нямецкіх лягавых сабак, гал. ч. карычневай і шэрай масці.

**ЛАНДВЕ́Р** (ням. Landwehr) — катэгорыя ваеннаабавязаных запасу другой чаргі і вайсковыя часці з гэтых ваеннаабавязаных у Прусіі,

Германіі, Аўстра-Венгрыі і Швейцарыі ў 19 — пач. 20 ст.

**ЛАНДГРА́Ф** (ням. Landgraf) — тытул вяльможных князёў у сярэдневяковай Германіі.

**ЛАНДКА́РТА** (ням. Landkarte) — даўнейшая назва геаграфічнай карты.

**ЛАНДО́** (фр. landau) — 1) чатырохмесная карэта з адкідным верхам; 2) кузаў легкавога аўтамабіля з адкідным верхам над заднімі сядзеннямі.

**ЛАНДРА́С** (дацк. Landrace, ад land = краіна + race = парода) — беконная парода свіней, выведзеная ў Даніі.

**ЛАНДРА́Т** (ням. Landrat) — 1) орган кіравання ў некаторых кантонах Швейцарыі; 2) выбарная асоба, якая ўзначальвае раённы орган мясцовага кіравання ў Германіі; 3) член дваранскай калегіі пры губернатары ў Расіі 18—19 ст.

**ЛАНДСКНЕ́ХТ** (ням. Landsknecht) — 1) наёмны салдат у некаторых краінах Зах. Еўропы ў 15—17 ст.; 2) *перан.* наёмнік.

**ЛА́НДСТЫНГ** (шв. Landsting) — 1) орган мясцовага самакіравання ў Швецыі; 2) верхняя палата парламента *(рыгсдага)* у Даніі да 1953 г. (ніжняя *фолькетынг*).

**ЛАНДТА́Г** (ням. Landtag, ад Land = зямля + Tag = сход) — выбарны орган самакіравання адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак — зямель у Германіі і Аўстрыі.

**ЛАНДША́ФТ** (ням. Landschaft) — 1) агульны выгляд, а таксама сукупнасць тыповых прыкмет якой-н. мясцовасці (напр. горны л., азёрны л.); 2) тое, што і *пейзаж* 2.

**ЛАНДШТУ́РМ** (ням. Landsturm) — катэгорыя ваеннаабавязаных запасу трэцяй чаргі і сфарміраваныя з іх дапаможныя вайсковыя часці ў Германіі да 1945 г.

**ЛА́НДЫ** (фр. landes) — нізінныя пясчаныя раўніны па берагах Біскайскага заліва ў Францыі, адгароджаныя ад мора паласой дзюнаў.

**ЛА́НДЭСШТАТ** (ням. Landesstaat) — сістэма саслоўных устаноў дваранства ў Прыбалтыцы ў 17 — пач. 20 ст., якая прадугледжвала аўтаномію памешчыкаў у адносінах да цэнтральнай улады.

**ЛАНЖЭРО́Н** (фр. longeron) — асноўны сілавы элемент у раме аўтамабіля, уздоўж корпуса самалёта, лодкі, трактара і іншых машын, які надае ім трываласць.

**ЛАНСА́ДА** (фр. lançade) — круты высокі скачок верхавога каня ў цыркавым конным спорце.

**ЛАНСЬЕ́** (фр. lancier) — англійскі парны бальны танец сярэдзіны 19 ст. тыпу *кадрылі.*

**ЛАНТА́Н** (н.-лац. lanthanum, ад гр. lanthano = хаваюся) — хімічны рэдказямельны элемент, белы метал, які акісляецца ў паветры і гарыць пры награванні; выкарыстоўваецца пры вырабе аптычнага шкла.

**ЛАНТАНАЗУ́Х** (н.-лац. lanthanosuchus, ад гр. lanthano = хаваюся + suchos = кракадзіл) — вымерлае земнаводнае падкласа *батрахазаўраў*, знешне падобнае да *саламандры*, якое жыло ў канцы *палеазою.*

**ЛАНТАНІ́ДЫ, ЛАНТАНО́ІДЫ** (ад *лантан* + гр. eidos = выгляд) — хімічныя элементы, якія ў перыядычнай сістэме элементаў Мендзялеева размешчаны за лантанам.

**ЛАНУ́ГА** (лац. lanugo = пух, пушок) — першасны валасяны покрыў у зародкаў млекакормячых і чалавека.

**ЛАНЦУ́Г** (польск. łańcuch, ад ням. Lannzug) — 1) прыстасаванне ў выглядзе паслядоўна счэпленых металічных звёнаў, прызначанае для розных мэт; 2) устаноўка з шэрагу злучаных між сабой элементаў, якія ўтвараюць суцэльную лінію (напр. электрычны л.); 3) суцэльны рад каго-н., чаго-н. (напр. л. агнёў); 4) *перан.* паслядоўны шэраг падзей, думак і інш. (напр. л. здарэнняў).

**ЛАНЦЭ́Т** (фр. lancette, ад лац. lancea = кап'ё) — хірургічны інструмент у выглядзе невялікага вострага з двух бакоў нажа.

**ЛАНЦЭ́ТНІК** (ад лац. lancea = кап'ё) — беспазваночная жывёла класа бесчарапных з празрыстым целам і хваставым плаўнікам, які па форме нагадвае *ланцэт*; пашырана пераважна ў трапічных морах.

**ЛАПАЛІ́Т** (ад гр. lopos = шкарлупіна + *-літ*) — форма залягання горных парод у выглядзе плоскай чашы, утвораная з застылай магмы ў глыбіні Зямлі.

**ЛАПАРАСКАПІ́Я** (ад гр. lapara = жывот + *-скапія*) — тое, што і *перытонеаскапія*.

**ЛАПАРАТАМІ́Я** (ад гр. lapara = жывот + *-тамія*) — рассячэнне поласці жывата ў час хірургічных аперацый.

**ЛАПІДА́РНЫ** (лац. lapidarius = рэзчык па камені) — сціслы, выразны (напр. л. стыль).

**ЛАПІ́ЛІ** (лац. lapillus = каменьчык) — дробныя кавалкі застылай лавы, выкінутыя вулканам у час вывяржэння.

**ЛАПСАРДА́К** (ідыш lapserdak = рытуальная кашуля з махрамі) — даўнейшы доўгі сурдут у польскіх і галіцыйскіх яўрэяў.

**ЛАРВІЦЫ́ДЫ** (ад лац. larva = лічынка + *-цыды*) — *інсектыцыды*, якія прымяняюцца для знішчэння лічынак і вусеняў насякомых.

**ЛА́РВЫ** (лац. larvae) — злыя духі і прывіды злых людзей у старажытнарымскай міфалогіі.

**ЛА́РГА** (іт. largo = павольны, шырокі) — 1) *муз.* самы павольны *тэмп*; 2) музычны твор або яго частка ў такім тэмпе.

**ЛАРГЕ́ТА** (іт. larghetto, ад largo = павольны, шырокі) — 1) *муз.* умерана павольны тэмп, блізкі да *андантэ*; 2) музычны твор або яго частка ў такім тэмпе.

**ЛАРДО́З** (гр. lordos = выгнуты) — прыроджанае або набытае скрыўленне пазваночніка выпукласцю наперад.

**ЛАРНЕ́Т** (фр. lorgnette) — 1) складныя акуляры з ручкай; 2) *уст.* разнавіднасць *манокля*.

**ЛАРНІ́РАВАЦЬ** (фр. lorgner) — глядзець, разглядваць у *ларнет*.

**ЛА́РЫ** (лац. lares) — старажытныя міфалагічныя духі, якія лічыліся заступнікамі дому і сям'і.

**ЛАРЫКА́ТЫ** (н.-лац. loricata) — тое, што і *хітоны*.

**ЛАРЫНГА-** (гр. larynks, -ngos = гартань) — першая састаўная частка складаных слоў, што выражае паняцце «які адносіцца да гартані».

**ЛАРЫНГАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад гр. larynks, -ngos = гартань) — тое, што і *глаталізацыя*.

# Л

**ЛАРЫНГАЛО́ГІЯ** (ад *ларынга-* + *-логія*) — раздзел *отарыналарынгалогіі*, які вывучае анатомію, фізіялогію і хваробы гартані.

**ЛАРЫНГАСКАПІ́Я** (ад *ларынга-* + *-скапія*) — метад даследавання гартані пры дапамозе *ларынгаскопа* і іншых інструментаў (параўн. *аўтаскапія*).

**ЛАРЫНГАСКО́П** (ад *ларынга-* + *-скоп*) — прыбор у выглядзе плоскага люстра на доўгім стрыжні для даследавання гартані.

**ЛАРЫНГАСПА́ЗМА** (ад *ларынга-* + *спазма*) — сутаргавае скарачэнне галасавых звязак, якое перашкаджае дыхаць.

**ЛАРЫНГАСТЭНО́З** (ад *ларынга-* + *стэноз*) — звужэнне гартані або поўнае закрыццё яе прасвету, прыроджанае або выклікане некаторымі захворваннямі.

**ЛАРЫНГАТАМІ́Я** (ад *ларынга-* + *-тамія*) — хірургічная аперацыя рассячэння гартані (параўн. *ларынгаэктамія*).

**ЛАРЫНГАТРАХЕІ́Т** (ад *ларынга-* + *трахея*) — адначасовае запаленне слізістай абалонкі гартані і трахеі пры віруснай інфекцыі.

**ЛАРЫНГАФО́Н** (ад *ларынга-* + *-фон*) — спецыяльны мікрафон для пераўтварэння акустычных ваганняў у электрычныя, які прыкладваецца непасрэдна да гартані пры перагаворах ва ўмовах моцнага шуму (на самалётах, у танках і інш.).

**ЛАРЫНГАЭКТАМІ́Я** (ад *ларынга-* + гр. ektome = высячэнне) — хірургічная аперацыя поўнага выдалення гартані (параўн. *ларынгатамія*).

**ЛАРЫНГІ́Т** (ад гр. larynks, -ngos = гартань) — запаленне слізістай абалонкі гартані.

**ЛАРЫНГО́ЛАГ** (ад *ларынга-* + *-лаг*) — урач-спецыяліст па *ларынгалогіі*.

**ЛАСАЛЬЯ́НСТВА** [ад ням. F.Lassale = прозвішча ням. сацыяліста (1825—1864)] — плынь у рабочым руху другой пал. 19 ст., якая адмаўляла класавую барацьбу і сацыялістычную рэвалюцыю.

**ЛАСО́** (фр. lasso, ад ісп. lazo) — аркан з рухомай пятлёй для лоўлі жывёл.

**ЛАСТ** (гал. last = груз) — адзінка вымярэння вагі грузаў, якія перавозяцца на суднах (неаднолькавая ў розных краінах).

**ЛА́СЦІК**[1] (англ. lasting = трывалы) — лёгкая бавоўняная тканіна атласнага перапляцення, якая ўжываецца звычайна на падкладку.

**ЛА́СЦІК**[2] (ад н.-лац. elasticus = пругкі, эластычны) — каўчук, гума.

**ЛАСЬЁН** (фр. lotion, ад лац. lotio = мыццё) — касметычны гігіенічны сродак для догляду скуры твару.

**ЛАТ** (латыш. lats) — грашовая адзінка ў Латвіі ў 1922—1940 гг. і з 1993 г.

**ЛА́ТА** (польск. łata, ад с.-в.-ням. latte) — дошка або жэрдка, якая кладзецца ўпоперак крокваў.

**ЛАТА́НІЯ** (індз. alattani) — пальма з шырокім веерападобным лісцем, пашыраная ў тропіках; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ЛАТАРЭ́Я** (іт. lotteria) — розыгрыш рэчаў або грашовых сум па білетах.

**ЛАТО́** (фр. loto) — гульня, удзельнікі якой закрываюць на спецыяльных картах названыя нумары або малюнкі (выйграе той, хто першым закрые ўсе нумары або малюнкі).

**-ЛАТРЫЯ** (гр. latreia = служэнне, шанаванне) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «служэнне», «шанаванне».

**ЛАТСІЯ́НСТВА** [ад гал. J.Lotsy = прозвішча гал. батаніка (1867—1931)] — антыдарвінаўская канцэпцыя эвалюцыі жывой прыроды, якая разглядае развіццё арганічнага свету як перакамбінацыю спрадвечна існуючых генаў.

**ЛАТУ́К** (с.-н.-ням. lattuke, ад лац. lactuca) — травяністая расліна сям. складанакветных са сцябловым лісцем і дробнымі светла-жоўтымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная ў Еўразіі, Афрыцы і Амерыцы; адзін з відаў — *салата*.

**ЛАТУ́НЬ** (ням. Latun) — сплаў медзі з цынкам, часам з прымессю волава, алюмінію, марганцу.

**ЛАТЫМЕ́РЫЯ** (н.-лац. latimeria) — рыба групы кісцяпёрых, якая водзіцца ў Індыйскім акіяне.

**ЛАТЫНІЗАВА́ЦЬ** (п.-лац. latinizare) — 1) уводзіць лацінскую мову і лацінскую культуру; 2) замяняць які-н. алфавіт лацінскім.

**ЛАТЫНІЗА́ЦЫЯ** (ад п.-лац. latinizare = латынізаваць) — 1) увод лацінскай мовы і лацінскай культуры; 2) пераход на лацінскі алфавіт.

**ЛАТЫНІ́ЗМ** (ад лац. latinus = лацінскі) — слова або выраз, запазычаныя з лацінскай мовы.

**ЛАТЫНІ́СТ** (с.-лац. latinista) — спецыяліст у галіне лацінскай *філалогіі*.

**ЛАТЫ́НЬ** [лац. latina (lingua)] — лацінская мова.

**ЛАТЫФУ́НДЫЯ** (лац. latifundium, ад latus = шырокі + fundus = зямля, маёнтак) — буйное прыватнае зямельнае ўладанне, маёнтак.

**ЛАТЭНСІФІКА́ЦЫЯ** (ад лац. latens = схаваны + *-фікацыя*) — працэс узмацнення схаванага (непраяўленага) фатаграфічнага адлюстравання да праяўлення фотаматэрыялу.

**ЛАТЭ́НТНЫ** (лац. latens, -ntis = скрыты, нябачны) — які знешне не праяўляецца, скрыты (напр. л. перыяд хваробы).

**ЛАТЭРА́ЛЬНЫ** (лац. lateralis = бочны) — які знаходзіцца збоку, бакавы (аб органах, размешчаных збоку ад сярэдняй плоскасці цела; напр. л-ыя зубы).

**ЛАТЭРЫ́Т** (ад лац. later = цэгла) — горная парода чырвонага або бурага колеру, падобная на гліну.

**ЛАЎН-ТЭ́НІС** (англ. lawn-tennis) — прынятая ў міжнароднай спартыўнай тэрміналогіі назва *тэніса*.

**ЛАЎР** (лац. laurus) — 1) вечназялёнае дрэва сям. лаўровых з прадаўгаватым пахучым лісцем, пашыранае ў Міжземнамор'і; 2) *мн.* лаўровы вянок або асобныя галінкі гэтага дрэва як сімвал перамогі, славы; п а ж ы н а ц ь   л а ў р ы — карыстацца вынікамі перамогі.

# Л

**ЛА́ЎРА** (гр. laura) — буйны мужчынскі праваслаўны манастыр, які падпарадкоўваецца *сіноду* 1.

**ЛАЎРЭА́Т** (лац. laureatus = увенчаны лаўрамі) — 1) пераможца якіх-н. спаборніцтваў, адзначаны лаўровым вянком у старажытных грэкаў і рымлян; 2) званне, якое прысуджаецца за выдатныя заслугі ў галіне навукі, тэхнікі, мастацтва; 3) пераможца мастацкага конкурса.

**ЛАЎРЭ́НСІЙ** [ад англ. E.Lawrence = прозвішча амер. фізіка (1901—1958)] — штучна атрыманы радыеактыўны хімічны элемент сям. *актыноідаў*.

**ЛАЎСА́Н** [рус. лавсан, ад Ла(боратория) в(ысокомолекулярных) с(оединений) А(кадемии) н(аук)] — сінтэтычнае валакно, якое выкарыстоўваецца ў тэкстыльнай прамысловасці, а таксама тканіна з такога валакна.

**ЛАЎСО́НІЯ** [н.-лац. lawsonia, ад J.Lawson = прозвішча шв. натураліста (памёр у 1747 г.)] — кустовая расліна сям. чальчаковых з светла-жоўтымі або чырвонымі пахучымі кветкамі ў мяцёлках, пашыраная ў тропіках; вырошчваецца як дэкаратыўная і фарбавальная расліна (з лісця атрымліваюць *хну*).

**ЛАЎТЭРБАРНІЕ́ЛА** (н.-лац. lauterborniella) — каланіяльная зялёная водарасць сям. сценадэсмавых, якая трапляецца ў прэсных вадаёмах.

**ЛАФАКАЛЕ́Я** (н.-лац. laphocolea) — пячоначны мох сям. лафакалеевых, які расце ў вільготных месцах, цяністых лясах на глебе, гнілой драўніне.

**ЛАФАТРЫ́ХІ** (ад гр. lophos = пучок + thriks, -ichos = валасы) — *бактэрыі* з пучком жгуцікаў на адным з канцоў клеткі.

**ЛАФАФО́РА** (н.-лац. laphophora) — расліна сям. кактусавых з шарападобнымі сцёбламі без калючак і ружовымі, белымі або жоўтымі кветкамі, пашыраная на поўдні ЗША і ў Мексіцы.

**ЛАФЕ́Т** (ням. Lafette, ад фр. l'affut) — станок, на якім умацоўваецца ствол гарматы для надання яму пэўнага становішча перад стрэлам, а таксама для перамяшчэння гарматы.

**ЛАФІ́Т** (фр. lafite) — сорт чырвонага вінаграднага віна.

**ЛАФО́ЗІЯ** (н.-лац. lophozia) — пячоначны мох сям. лафозіевых, які расце ў лясах на гнілой драўніне, пясчанай або глеістай глебе, камянях.

**ЛАХНЕЛУ́ЛА** (н.-лац. lachnellula) — сумчаты грыб сям. гіяласцыфавых, які развіваецца на галінках і igліцы хвойных дрэў.

**ЛАХНЕ́Я** (н.-лац. lachnea) — сумчаты грыб сям. пецыцавых, які развіваецца на глебе, рэштках драўніны ў лясах.

**ЛА́ХТА** (фін. lahti) — мелкаводная марская бухта ў Фінскім заліве.

**ЛАЦАРО́НІ** (іт. lazzaroni, ад ісп. lázaro = жабрак) — 1) удзельнікі паўстання ў Паўн. Італіі супраць іспанскага панавання ў 17 ст.; 2) назва дэкласаваных элементаў у Італіі ў 18—19 ст.

**ЛАЦМА́ЙСТАР** (ад *лоцыя* + *майстар*) — службовая асоба, якая загадвае службай марской бяспекі,

назірае за станам агараджальных знакаў на рэйдах і фарватэрах.

**ЛА́ЦЫ** (іт. lazzi, ад lazzo = жарт) — буфонныя трукі, камічныя нумары (музычныя, акрабатычныя, танцавальныя, славесныя), уключаныя ў асноўнае дзеянне камедыі масак.

**ЛАШТ** (ст.-польск. łaszt, ад с.-в.-ням. last = груз) — адзінка масы ў сістэме мер Вялікага княства Літоўскага (120 пудоў); выкарыстоўвалася пры меранні сыпкіх рэчываў (збожжа, солі і інш.).

**ЛАЯЛІ́СТЫ** (англ. loyalists) — прыхільнікі *метраполіі* ў час вайны за незалежнасць у Паўн. Амерыцы ў 1775—1783 гг.

**ЛАЯ́ЛЬНЫ** (фр. loyal = *літар.* верны) — 1) які трымаецца ў межах закону, часам толькі знешне; 2) які карэктна адносіцца да каго-н., чаго-н.

**ЛЕАНІ́ДЫ** (ад лац. leo, -onis = леў) — паток метэораў, *радыянт* якога знаходзіцца ў сузор'і Льва.

**ЛЕАПА́РД** (лац. leopardus, ад гр. leopardos) — буйны драпежнік сям. кашэчых з плямістай поўсцю, які водзіцца ў Афрыцы і Паўд. Азіі.

**ЛЕВАМІЦЭЦІ́Н** (ад лац. laevus = левы + гр. mykes, -etos = грыб) — лекавы прэпарат, *антыбіётык*, які прымяняюць пры брушным тыфе, дызентэрыі і іншых хваробах.

**ЛЕВА́НТ** (іт. Levante = Усход) — 1) *уст.* агульная назва краін, размешчаных на ўсх. узбярэжжы Міжземнага мора; 2) усходні вецер на Міжземным, Чорным і Азоўскім морах.

**ЛЕВАНЦІ́Н** (фр. levantine) — шаўковая тканіна з косым перапляценнем, з якой шыюць блузкі, робяць падкладкі і інш.

**ЛЕВАРЫ́Н** (ад лац. levor, -oris = роўнасць, гладкасць) — лекавы прэпарат, *антыбіётык*, які прымяняюць пры *кандыдамікозах*.

**ЛЕВЕЙЛУ́ЛА** (н.-лац. leveillula) — сумчаты грыб сям. мучніста-расяных, які развіваецца на травяністых раслінах і дрэвах.

**ЛЕ́ВЕЛЕРЫ** (англ. levellers) — радыкальна-дэмакратычная палітычная групоўка ў Англіі ў перыяд буржуазнай рэвалюцыі 17 ст., якая выступала за ўстанаўленне рэспублікі, правядзенне сацыяльных рэформ.

**ЛЕВІРА́Т** (ад лац. levir = швагер) — звычай некаторых народаў, паводле якога ўдава мае магчымасць (ці нават абавязана) выйсці замуж за брата нябожчыка-мужа.

**ЛЕВІТА́ЦЫЯ** (лац. levitatio = падыманне) — магічны спосаб пераадолення зямнога прыцяжэння (напр. падыманне ўласнага цела намаганнем волі, палёты ў сне і г.д.).

**ЛЕВІЯФА́Н** (ст.-яўр. liwjāthān) — 1) вялікае марское страшыдла, аб якім гаворыцца ў Біблії; 2) *перан.* нешта велізарнае, страшнае.

**ЛЕВУЛЁЗА** (ад лац. laevus = левы) — тое, што і *фруктоза*.

**ЛЕГАЛІЗАВА́ЦЬ** (фр. legaliser) — узаконьваць, лічыць законным, пераводзіць на легальнае становішча.

**ЛЕГАЛІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. legalis = законны) — 1) наданне законнай сілы якому-н. акту або дзеянню; 2) у міжнародным праве — засведчанне подпісаў на дакументах,

прызначаных для дзеяння ў замежных дзяржавах.

**ЛЕГАЛІ́ЗМ** (ад лац. legalis = законны) — паводзіны, якія толькі знешне ўзгадняюцца з агульнапрынятымі маральнымі нормамі, не адпавядаючы сапраўднаму духу маральнасці.

**ЛЕГА́ЛЬНЫ** (рус. легальный, ад лац. legalis) — прызнаны, дазволены законам.

**ЛЕГА́Т**[1] (лац. legatus) — 1) пасол сената, які выконваў палітычныя даручэнні ў Стараж. Рыме; 2) дыпламатычны прадстаўнік рымскага папы, які выконвае спецыяльную місію ў замежных краінах.

**ЛЕГА́Т**[2] (лац. legatum = належнае па завяшчанню) — выкладзенае ў завяшчанні даручэнне выплаціць якой-н. асобе пэўную суму або перадаць ёй пэўную маёмасць.

**ЛЕГА́ТА** (іт. legato = звязна) — *муз.* звязнае выкананне гукаў, пры якім яны плаўна пераходзяць адзін у другі (проціл. *стаката*).

**ЛЕГАТЫ́СІМА** (іт. legatissimo) — *муз.* звязнае выкананне гукаў, больш плаўнае, чым *легата*.

**ЛЕГА́ЦЫЯ** (лац. legatio) — 1) пасольства рымскага папы, якое накіроўваецца з асаблівай дыпламатычнай місіяй; 2) правінцыя ў колішняй Папскай вобласці (Італія).

**ЛЕГГЕМАГЛАБІ́Н** (ад лац. lego = збіраю, згортваю + *гемаглабін*) — рэчыва, падобнае на гемаглабін, якое ўтвараецца ў некаторых раслінах.

**ЛЕГЕ́НДА** (лац. legenda = тое, што павінна быць прачытана) — 1) вуснае народнае апавяданне аб якой-н. гістарычнай або выдуманай падзеі, асобе; 2) выдумка, што-н. неверагоднае; 3) сукупнасць умоўных знакаў і тлумачэнняў да карты, што раскрываюць яе значэнне.

**ЛЕГЕНДА́РНЫ** (ад лац. legenda = тое, што павінна быць прачытана) — 1) які з'яўляецца легендай, казачны; 2) авеяны легендамі, незвычайны, небывалы.

**ЛЕГІЁН** (лац. legio, -onis) — 1) асноўная арганізацыйная адзінка старажытнарымскага войска; 2) асобнае вайсковае фарміраванне ў некаторых замежных краінах; 3) *перан.* вялікая колькасць, мноства каго-н., чаго-н. (напр. л. зорак).

**ЛЕГІ́РАВАЦЬ** (ням. legieren) — уводзіць у метал для змянення яго хімічных і фізічных уласцівасцей дамешкі іншых металаў.

**ЛЕГІСЛАТУ́РА** (ад лац. lex, legis = закон + latura = унясенне) — 1) прадугледжаны законам тэрмін паўнамоцтваў заканадаўчых органаў; 2) сукупнасць заканадаўчых органаў у Англіі, многіх штатах ЗША.

**ЛЕГІСЛАТЫ́ВА** (фр. legislative, ад лац. legis latio = устанаўленне права) — назва заканадаўчага сходу Францыі ў час Французскай рэвалюцыі ў 1791—1792 гг. (да Канвента) і ў час Другой рэспублікі 1849—1851 гг.

**ЛЕГІ́СТЫ** (с.-лац. legistae, ад лац. lex, legis = закон) — сярэдневяковыя юрысты, якія ўводзілі ў практыку грамадзянскае рымскае права, супрацьпастаўляючы яго царкоўнаму праву і феадальным звычаям.

**ЛЕГІТЫМА́ЦЫЯ** (лац. legitimatio) — пацвярджэнне ці прызнанне законнасці якога-н. права, а таксама дакумент, які пацвярджае гэтае права.

**ЛЕГІТЫМІ́ЗМ** (фр. légitimisme, ад лац. legitimus = законны, правамерны) — палітычны кірунак у Зах. Еўропе ў 19 — пач. 20 ст. (пераважна ў Францыі), які прызнаваў спадчыннае права якой-н. дынастыі на ўладу.

**ЛЕГІТЫМІ́РАВАЦЬ** (с.-лац. legitimare) — прызнаваць законам.

**ЛЕГІТЫМІ́СТ** (фр. légitimiste, ад лац. legitimus = законны, правамерны) — прыхільнік *легітымізму*, манархіст.

**ЛЕГІТЫ́МНЫ** (лац. legitimus) — законны, правамерны.

**ЛЕГІЯНЕ́Р** (фр. legionnaire, ад лац. legionarius = які належыць да легіёна) — воін, салдат *легіёна*.

**ЛЕГО́РН** (англ. leghorn, ад Leghorn = Ліворна) — парода яйцаноскіх курэй з белым апярэннем.

**ЛЕ́ГУА** (ісп. legua) — мера даўжыні ў краінах Лац. Амерыкі (ад 4 да 6,6 км).

**ЛЕДЭБУРЫ́Т** [ад ням. A.Ledebur = прозвішча ням. металурга (1837—1906)] — структурная састаўляючая жалезавугляводзістых сплаваў, механічная сумесь *аўстэніту* і *цэментыту*.

**ЛЕДЭРЫ́Н** (ад ням. Leder = скура) — баваўняная тканіна з лакавым пакрыццём, якая імітуе скуру.

**ЛЕ́ЕР** (гал. leer = пераносная лесвіца) — *мар.* агароджа (з тросаў, металічных труб) уздоўж бартоў, вакол люкаў на суднах, а таксама трос для мацавання некаторых парусоў.

**ЛЕЕРСІ́Я** (н.-лац. leersia) — травяністая расліна сям. злакавых з доўгім востра-шурпатым лісцем і суквеццем у выглядзе рэдкай мяцёлкі, пашыраная ў розных кліматычных зонах; кармавая.

**ЛЕЖАНЕ́Я** (н.-лац. leieunea) — пячоначны мох сям. лежанеевых, які трапляецца на ствалах дрэў, часам на камянях у цяністых лясах.

**ЛЕ́І** (фр. lé = палатно, шырыня тканіны паміж двума пругамі) — нашыўкі са скуры ці моцнай тканіны на кавалерыйскіх штанах у месцах, якія пры яздзе датыкаюцца да сядла.

**ЛЕЙ** (рум. leu) — грашовая адзінка Румыніі, роўная 100 *бані*.

**ЛЕЙАГО́М** (ад гр. leios = мяккі + фр. gomme = смала) — сорт дэкстрыну, які атрымліваецца пры падсмажванні бульбянога крухмалу.

**ЛЕЙБАРЫ́СТ** (англ. Labourist, ад labour = праца) — член рабочай партыі ў Англіі, Ірландыі, Аўстраліі і некаторых іншых краінах, якая праводзіць палітыку класавага супрацоўніцтва з буржуазіяй.

**ЛЕЙБ-ГВА́РДЫЯ** (ням. Laibgarde) — асабістая ахова манарха, а таксама прывілеяванае войска ў шэрагу манархічных дзяржаў.

**ЛЕЙБЛ** (англ. label = ярлык, этыкетка) — невялікая фірменная метка на адзенні, від таварнага знака, які мае таксама дэкаратыўнае значэнне.

**ЛЕЙБ-МЕ́ДЫК** (ад ням. Leib = цела + *медык*) — прыдворны ўрач.

**ЛЕЙКАДЭ́РМА** (ад гр. leukos = белы + *дэрма*) — знікненне *пігменту* скуры ў выніку некаторых захворванняў, а таксама пры прыёме некаторых лякарстваў.

**ЛЕЙКАКСЕ́Н** (гр. leukoksene = белы і чужародны) — тонказярністая (да скрытакрышталічнай) міне-

ральная сумесь вокіслаў рутылу, анатазу і сфену з кварцам, ільменітам, гліністым рэчывам і інш.

**ЛЕЙКАПЕНІ́Я** (н.-лац. leucopenia, ад гр. leukos = белы + penia = беднасць) — памяншэнне колькасці *лейкацытаў* у крыві.

**ЛЕЙКАПЛАКІ́Я** (ад гр. leukos = белы + plakous = плоскі) — малочна-белыя плямы на слізістых абалонках рота, гартані і інш., што ўзнікаюць пры гіпавітамінозах А і В пры працяглых раздражненнях слізістых абалонак.

**ЛЕЙКАПЛА́СТЫ** (ад гр. leukos = белы + *пласт*) — бясколерныя *пластыды (амілапласты* і элаяпласты) у клетках раслін, якія выконваюць розныя функцыі.

**ЛЕЙКАТРО́ПЫ** (ад гр. leukos = белы + *-тропы*) — рэчывы, якія выкарыстоўваюцца для атрымання вытраўных малюнкаў (белых або жоўтых узораў) на пафарбаванай тканіне.

**ЛЕЙКАХЛАРЫДЫ́НЫ** (н.-лац. leucochloridinae) — падсямейства *гельмінтаў* сям. *брахілемідаў*, паразіты дзятлападобных і вераб'інападобных птушак.

**ЛЕЙКАЦЫТО́З** (н.-лац. leucocytosis, ад гр. leukos = белы + kytos = клетка) — павелічэнне колькасці *лейкацытаў* у крыві.

**ЛЕЙКАЦЫ́ТЫ** (н.-лац. leucocytus, ад гр. leukos = белы + kytos = клетка) — белыя крывяныя цельцы, састаўная частка крыві чалавека і жывёл; падзяляюцца на *агранулацыты* і *гранулацыты* (параўн. *эрытрацыты*).

**ЛЕЙКЕМІ́Я** (н.-лац. leucaemia, ад гр. leukos = белы + haima = кроў) — *уст.* тое, што і *лейкоз*.

**ЛЕЙКО́З** (гр. leukos = белы) — агульная назва пухлін, што ўзнікаюць з крывятворных клетак і пашкоджваюць касцявы мозг, а таксама іншыя органы і тканкі; белакроўе.

**ЛЕЙКО́МА** (гр. leukoma) — памутненне рагавой абалонкі вока ў выніку ўтварэння непразрыстай рубцовай тканкі; бяльмо.

**ЛЕ́ЙНЕР** (англ. liner) — тонкасценная стальная труба з вінтавымі нарэзамі ўнутры, якая ўтварае канал ствала гарматы.

**ЛЕЙТМАТЫ́Ў** (ням. Leitmotiv = вядучы матыў) — 1) музычная тэма, кароткі музычны зварот, які звязваецца з пэўнай ідэяй і шматразова паўтараецца ў творы адпаведна развіццю сюжэта; 2) *пераи.* асноўная думка, якая неаднаразова паўтараецца і падкрэсліваецца (напр. л. рамана).

**ЛЕЙТЭНА́НТ** (ням. Leutenant, ад фр. lieutenant) — воінскае званне малодшага афіцэрскага саставу ў арміі і флоце.

**ЛЕ́ЙЦЫ** (польск. lejce, ад ням. Leitseil) — частка вупражы, вяроўкі або рамяні для кіравання запрэжаным канём.

**ЛЕЙЦЫ́Н** (н.-лац. leucinum, ад гр. leukos = белы) — арганічнае злучэнне, якое ўваходзіць у склад усіх жывёльных і раслінных бялкоў.

**ЛЕЙЦЫ́Т** (ад гр. leukos = белы) — мінерал класа *сілікатаў* белага або шэрага колеру.

**ЛЕЙЦЫШЧІ́Т** (ад *лейцыт*) — вулканічная горная парода, складзеная пераважна з лейцыту і манаклліннага *піраксену*, ад шэрага да чорнага колеру.

**ЛЕЙШМАНІЁЗЫ** (ад *лейшманія*) — захворванні чалавека і жывёл, якія выклікаюцца *лейшманіямі*, што паражаюць скуру і слізістыя абалонкі.

**ЛЕЙШМАНІ́Я** [н.-лац. leishmania, ад англ. Leishman = прозвішча англ. урача (1865—1926)] — прасцейшае групы *трыпанасомаў*, якое паразітуе ў арганізме чалавека і некаторых жывёл.

**ЛЕК** (алб. lek) — грашовая адзінка Албаніі, роўная 100 *кіндаркам*.

**ЛЕКА́Ж** (ням. Leckage, ад Leck = цячэнне) — страта вагі або аб'ёму тавару ў выніку яго выцякання або прасыпання з тары ў час перавозкі.

**ЛЕКАНА́КЦІС** (н.-лац. lecanactis) — накіпны сумчаты лішайнік сям. леканакцінавых, які трапляецца на кары і драўніне хвойных дрэў.

**ЛЕКА́НІЯ** (н.-лац. lecania) — накіпны сумчаты лішайнік сям. леканоравых, які расце на кары дрэў, апрацаванай драўніне.

**ЛЕКАНО́РА** (н.-лац. lecanora) — накіпны сумчаты лішайнік сям. леканоравых, які расце на кары дрэў, апрацаванай драўніне, камянях.

**ЛЕКІ́СТЫ** (ад англ. lake = возера) — група англійскіх пісьменнікаў сентыментальна-рамантычнага кірунку (канец 18 — пач. 19 ст.), якая выступала супраць *псеўдакласіцызму*.

**ЛЕКІ́Ф** (гр. lekythos) — старажытнагрэчаскі гліняны распісны сасуд з вузкім горлам і вертыкальнай ручкай для туалетнага алею.

**ЛЕКСЕ́МА** (ад гр. leksis = слова) — *лінгв.* слова як самастойная сэнсавая адзінка, якая разглядаецца ва ўсёй сукупнасці сваіх форм і значэнняў.

**ЛЕ́КСІКА** (гр. leksikos = слоўнікавы) — 1) сукупнасць слоў якой-н. мовы або дыялекта; 2) сукупнасць слоў, якія ўжываюцца ў пэўнай сферы дзейнасці (напр. рамесніцкая л.); 3) слоўнікавы склад твораў якога-н. аўтара.

**ЛЕКСІКАГРА́ФІЯ** (ад гр. leksikos = слоўнікавы + *-графія*) — раздзел мовазнаўства, які займаецца тэорыяй і практыкай укладання слоўнікаў.

**ЛЕКСІКАЛО́ГІЯ** (ад гр. leksikos = слоўнікавы + *-логія*) — раздзел мовазнаўства, які вывучае *лексіку*.

**ЛЕКСІКАСТАТЫ́СТЫКА** (ад *лексіка* + *статыстыка*) — тое, што і *глотахраналогія* 2.

**ЛЕКСІКО́ГРАФ** (ад *лексікаграфія*) — спецыяліст у галіне лексікаграфіі.

**ЛЕКСІКО́ЛАГ** (ад *лексікалогія*) — спецыяліст у галіне лексікалогіі.

**ЛЕКСІКО́Н** (гр. leksikon) — 1) даўнейшая назва слоўніка (напр. «Лексікон» П.Бярынды); 2) запас засвоеных чалавекам слоў і выразаў.

**ЛЕКСІ́ЧНЫ** (гр. leksikos) — які мае адносіны да *лексікі*, слоўнікавы.

**ЛЕ́КТАР** (лац. lector) — асоба, якая чытае *лекцыі*.

**ЛЕКТО́РЫЙ** (с.-лац. lectorium) — 1) арганізацыя, якая наладжвае чытанне публічных *лекцый*; 2) цыкл лекцый, аб'яднаных тэматычна ці прызначаных для пэўнага кола слухачоў; 3) памяшканне для чытання публічных лекцый.

# Л

**ЛЕКЦЫ́Н** (н.-лац. leccinum) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. балетавых, якi расце ў лясах; у лiку вiдаў — падасiнавiк, падбярозавiк.

**ЛЕ́КЦЫЯ** (лац. lectio = чытанне) — 1) вусны выклад вучэбнага прадмета ў вышэйшай навучальнай установе; 2) публiчнае выступленне на якую-н. тэму.

**ЛЕ́МА** (гр. lemma) — *мат.* дапаможная *тэарэма*, неабходная для доказу адной або некалькiх iншых тэарэм.

**ЛЕМАНЕ́МА** (н.-лац. laemonema) — рыба сям. моравых, якая водзiцца ва ўсiх акiянах на глыбiнi 300—700 м.

**ЛЕМАНТА́Р** (польск. lamentarz, ад лац. elementarius = якi адносiцца да пачаткаў) — *уст.* буквар.

**ЛЕ́МIНГ** (нарв. lemming) — грызун сям. палёвак з доўгай буражоўтай плямiстай поўсцю, пашыраны ў Арктыцы.

**ЛЕМНIСКА́ТА** (лац. lemniscata = упрыгожаная стужкамi, ад гр. lemnikos = стужка або павязка з воўны) — *мат.* крывая на плоскасцi, якая з'яўляецца лiнiяй узроўню модуля мнагачлена з комплекснымi каэфiцыентамi.

**ЛЕМПÍРА** (icп. lempira, ад Lempira = iмя iндзейскага правадыра) — грашовая адзiнка Гандураса, роўная 100 *сентава*.

**ЛЕМУ́РЫ** (лац. lemures = душы памёршых) — 1) духi, душы памёршых у старажытнарымскай мiфалогii; 2) паўмалпы, пашыраныя на Мадагаскары i прылеглых астравах.

**ЛЕН** [1] (польск. lenno, ад ням. Lehen) — 1) спадчыннае зямельнае ўладанне ў Зах. Еўропе ў эпоху феадалiзму, якое *сеньёр* даваў *васалу* пры ўмове выканання ваеннай або адмiнiстрацыйнай службы; 2) падатак, якi збiраўся з такога зямельнага ўладання.

**ЛЕН** [2] (шв. län) — адмiнiстрацыйна-тэрытарыяльная адзiнка ў Швецыi.

**ЛЕНДЛАРДЫ́ЗМ** (англ. landlordism, ад landlord = памешчык) — сiстэма буйнога землеўладання ў Англii, заснаваная на манаполii на зямлю *лендлордаў*.

**ЛЕ́НДЛЕР** (ням. Ländler) — даўнi сялянскi парны танец у Паўд. Германii i Аўстрыi, адзiн з папярэднiкаў *вальса*.

**ЛЕНД-ЛÍЗ** (англ. lend-lease ад lend = пазычаць + lease = здаваць у арэнду) — сiстэма перадачы ЗША ў пазыку або арэнду зброi, боепрыпасаў, сыравiны, харчавання краiнам антыгiтлераўскай кааліцыi ў час 2-й сусветнай вайны.

**ЛЕНДЛО́РД** (англ. landlord) — буйны землеўладальнiк у Англii, якi здае зямлю ў арэнду фермерам-прадпрымальнiкам i атрымлiвае зямельную *рэнту*.

**ЛЕ́НIКС** (ням. Lenix) — элемент ланцуговай перадачы ў выглядзе кола, якое свабодна верцiцца i дазваляе рэгуляваць нацяжэнне ланцуга або рэменя.

**ЛЕ́ННЫ** (польск. lenny, ад ням. Lehen = лен) — якi мае адносiны да *лена*[1] 1, звязаны з яго ўладаннем (напр. л-ае права).

**ЛЕ́НСМАН** (шв. lansman) — прадстаўнiк палiцэйскай i падатковай улады ў прыгарадах i сельскiх мясцовасцях Швецыi i Фiнляндыi.

**ЛЕ́НТА** (iт. lento) — 1) *муз.* павольны тэмп, крыху хутчэйшы,

чым *ларга*; 2) музычны твор або яго частка, напісаныя ў такім тэмпе.

**ЛЕНЧ** (англ. linch) — назва другога снядання ў Англіі і некаторых іншых краінах.

**ЛЕПАЦЫ́НКЛІС** (н.-лац. lepocinclis) — аднаклетачная водарасць сям. эўгленавых, якая трапляецца ў сажалках, рэках.

**ЛЕПІДАДЭ́НДРАНЫ** (ад гр. lepis, -idos = луска + *-дэндран*) — вымерлыя дрэвападобныя расліны *(лепідафіты)*, якія існавалі ў *палеазоі*; дасягалі ў вышыню 30 м і мелі ў дыяметры 2 м; лускадрэвы.

**ЛЕПІДАЗА́ЎРЫ** (н.-лац. lepidosauria) — падклас паўзуноў *(дыапсідаў)*, які ўключае атрады *эазухій* (выкапнёвыя формы), дзюбагаловых і лускаватых.

**ЛЕПІДАКРАКІ́Т** (ад гр. lepis, -idos = луска + krokys, -ydos = нітка) — мінерал класа гідравокіслаў чырванаватага колеру, які ўваходзіць у склад жалезнай руды.

**ЛЕПІДАЛІ́Т** (ад гр. lepis, -idos = луска + *-літ*) — мінерал класа *сілікатаў* пераважна фіялетавага колеру, часам бясколерны.

**ЛЕПІДАПТЭРАЛО́ГІЯ** (ад гр. lepis, -idos = луска + pteron = крыло + *-логія*) — раздзел *энтамалогіі*, які вывучае матылькоў.

**ЛЕПІДАСІ́РЭН** (ад гр. lepis, -idos = луска + seiren = чараўніца, сірэна) — прэснаводная рыба, якая дыхае лёгкімі і жабрамі; водзіцца ў Паўд. Амерыцы.

**ЛЕПІДАФІ́ТЫ** (ад гр. lepis, -idos = луска + *-фіты*) — гіганцкія вымерлыя дрэвападобныя расліны з узорыстай карой у выглядзе лустачак *(лепідадэндраны, сігілярыі* і інш.), якія існавалі ў *палеазоі*.

**ЛЕПІДО́ЗІЯ** (н.-лац. lepidozia) — пячоначны мох сям. лепідозіевых, які трапляецца на гнілой драўніне, гумуснай глебе, камянях у лясах.

**ЛЕ́ПРА** (гр. lepra) — *мед.* хранічная інфекцыйная хвароба чалавека; праказа.

**ЛЕПРАЗО́РЫЙ** (ад лац. leprosus = пракажоны) — лячэбная ўстанова для хворых на *лепру*.

**ЛЕПРА́РЫЯ** (н.-лац. lepraria) — штучная група, якая аб'ядноўвае лішайнікі паводле структуры *талому*; трапляюцца на ствалах дрэў, камянях, скалах, імхах.

**ЛЕ́ПТА** (гр. lepton) — 1) дробная старажытнагрэчаская медная манета, роўная 1/100 *драхмы* 1; 2) сучасная грэчаская разменная манета; 3) *перан.* пасільны ўклад у якую-н. агульную справу.

**ЛЕПТАБА́ЗІС** (н.-лац. leptobasis) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. лептабазальных, якая трапляецца ў прэсных стаячых водах, на водных раслінах, вапняковых камянях, у рэках, на балоце і кары дрэў.

**ЛЕПТАДЫ́КЦЫУМ** (н.-лац. leptodictyum) — лістасцябловы мох сям. амблістэгіевых, які расце ў вадзе і над вадой на камянях, затопленых дрэвах, глебе.

**ЛЕПТАЛІ́ДЫ** (н.-лац. leptolida) — атрад марскіх кішачнаполасцевых жывёл падкласа гідроідных; прадстаўлены асобінамі паліпоіднага і медузоіднага паходжання; марскія гідроідныя паліпы.

**ЛЕПТАМЕДУ́ЗЫ** (ад гр. leptos = дробны + *медуза*) — медузоіднае пакаленне марскіх гідроідных паліпаў *(лепталідаў)*.

# Л

**ЛЕПТАМЕНІНГІ́Т** (ад гр. leptos = далікатны + *менінгіт*) — запаленне мяккай мазгавой абалонкі, адна з форм менінгіту.

**ЛЕПТАРА́ФІС** (н.-лац. leptorhaphis) — накіпны сумчаты лішайнік сям. плеяспаравых, які расце на кары лісцевых дрэў.

**ЛЕПТАСПІРО́ЗЫ** (ад *лептаспіры*) — група інфекцыйных хвароб жывёл і чалавека, якая выклікаецца *лептаспірамі*.

**ЛЕПТАСПІ́РЫ** (н.-лац. leptospira, ад гр. leptos = дробны + speira = віток) — ніцепадобныя бактэрыі сям. *спірахетаў*, якія выклікаюць у жывёл і чалавека *лептаспірозы*.

**ЛЕПТАСТРО́МА** (н.-лац. leptostroma) — недасканалы грыб сям. лептастромавых, які развіваецца на раслінах сям. сасновых, вярбовых, драсёнавых, парасонавых.

**ЛЕПТАСФЕ́РЫЯ** (н.-лац. leptosphaeria) — сумчаты грыб сям. плеяспаравых, які развіваецца на раслінных рэштках, лісці, сцёблах, парастках раслін.

**ЛЕПТАТРАХІ́ЛА** (н.-лац. leptotrochila) — сумчаты грыб сям. дэрматэацавых, які трапляецца на лісці люцэрны.

**ЛЕПТАТЫ́РЫЙ** (н.-лац. leptothyrium) — недасканалы грыб сям. лептастромавых, які паразітуе на лісці і пладах раслін сям. ружавых і драсёнавых.

**ЛЕПТО́ГІЙ** (н.-лац. leptogium) — накіпны сумчаты лішайнік сям. калематацыевых, які пасяляецца ў лясах на глебе, старых пнях, ствалах дрэў.

**ЛЕПТО́НЫ** (ад гр. leptos = лёгкі) — група найбольш лёгкіх элементарных часціц *(нейтрына, антынейтрына, электрон, пазітрон*, пазітыўны і негатыўны *мюоны)*.

**ЛЕРХЕНФЕ́ЛЬДЫЯ** (н.-лац. lerchenfeldia) — травяністая расліна сям. злакавых з шэра-зялёным лісцем і светла-бурымі каласкамі, пашыраная пераважна ў Еўразіі, Паўн. Амерыцы, Паўн. Афрыцы; кармавая.

**ЛЕСБІ́ЙСКІ** (ад гр. Lesbos = назва вострава ў Эгейскім моры); л-ае каханне — палавыя зносіны жанчыны з жанчынай.

**ЛЕСБІЯ́НКА** (ад гр. Lesbos = назва вострава ў Эгейскім моры) — 1) жыхарка вострава Лесбас; 2) жанчына, якая мае палавыя зносіны з іншай жанчынай.

**ЛЕСІВА́Ж** (фр. lessivage = вышчалочванне) — тое, што і *ілімерызацыя*.

**ЛЕСІРАВА́ЦЬ** (ням. lasieren) — наносіць тонкія празрыстыя або паўпразрыстыя слаі фарбаў на высахлыя фарбы карціны для ўзмацнення ці аслаблення колеравых тонаў.

**ЛЕСКЕЕ́ЛА** (н.-лац. leskeella) — лістасцябловы мох сям. ляскеевых, які трапляецца на ствалах лісцевых дрэў, радзей на камянях у цяністых лясах.

**ЛЕСПЕДЭ́ЦА** (н.-лац. lespedeza) — травяністая або кустовая расліна сям. бабовых з доўгім лісцем і чырвонымі або ружовымі кветкамі ў рыхлых гронках, пашыраная ва Усх. Азіі, Паўн. Амерыцы і Аўстраліі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ЛЕ́ТА** (гр. Lethe = *літар.* забыццё) — рака забыцця ў старажытнагрэчаскай міфалогіі, размешчаная ў падземным царстве *(Аідзе)*; душы памёршых, якія напіліся з

яе, забывалі аб сваім зямным жыцці; к а н у ц ь  у  Л е т у — быць забытым, бясследна знікнуць.

**ЛЕТАРГІ́ЧНЫ** (гр. lethargikos) — які выкліканы *летаргіяй* (напр. л. стан).

**ЛЕТАРГІ́Я** (гр. lethargia) — хваравіты стан, падобны на працяглы сон, пры якім пульс і дыханне амаль не адчуваюцца.

**ЛЕ́ТКА-Е́НКА** (фін. letkajenk ka) — фінскі бальны групавы танец, а таксама музыка да яго.

**ЛЕТЫПО́Р** (н.-лац. laetiporus) — губавы *базідыяльны* грыб сям. скутыгеравых, які пасяляецца ў асноўным на драўніне, часцей на жывых ствалах дрэў.

**ЛЕТЭРФО́Т** (ад англ. letter = літара + photo = фатаграфія) — фотанаборная машына для набору загалоўкаў.

**ЛЕЎ** (балг. lev) — грашовая адзінка Балгарыі, роўная 100 *стацінкам.*

**ЛЕЎЗЕ́Я** (н.-лац. leuzea, ад гр. leusso = гляджу) — травяністая расліна сям. складанакветных з перыста-рассечаным лісцем і фіялетавымі кветкамі, пашыраная пераважна ў Сібіры і Сярэд. Азіі; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная і лекавая; маралавы корань.

**ЛЕЎКАДО́Н** (н.-лац. leucodon) — лістасцябловы мох сям. леўкадонтавых, які расце на ствалах лісцевых дрэў, на камянях, пакрытых гумусам.

**ЛЕЎРЭ́ТКА** (фр. levrette) — парода пакаёвых дэкаратыўных сабак, выведзеная ў Італіі.

**ЛЕФТЫФА́НТЭС** (н.-лац. lephthyphantes) — павук сям. *лініфіідаў*, які пасяляецца ў дамах і іншых пабудовах, жыве на кустах, галінках дрэў, у лясным подсціле.

**ЛЕЦЫДЗЕ́Я** (н.-лац. lecidea) — накіпны сумчаты лішайнік сям. лецыдзеевых, які расце на камянях, кары дрэў, драўніне, радзей на глебе.

**ЛЕЦЫЦІНА́ЗЫ** (ад *лецыціны*) — рэчывы бялковай прыроды *(ферменты)*, якія раскладаюць *фасфатыды* ў арганізмах жывёл і чалавека.

**ЛЕЦЫЦІ́НЫ** (ад гр. lekithos = жаўток яйца) — тлушчападобныя арганічныя рэчывы, якія змяшчаюцца ў раслінных і жывёльных арганізмах.

**ЛЕ́ЧА** (венг. lecso) — кансерваваная страва з чырвонага перцу і памідораў.

**ЛЕЯКАЛЕ́Я** (н.-лац. leiocolea) — пячоначны мох сям. лафоневых, які трапляецца на вапняковай глебе.

**ЛЕЯКА́РПУС** (н.-лац. leocarpus) — слізявік, які развіваецца ў лясах на тоўшчы гнілых пнёў, бярвення, пад апалай карой, на лясным подсціле.

**ЛЕЯСФЕРЫ́ДЫЯ** (н.-лац. leiosphaeridia) — выкапнёвая аднаклетачная марская водарасць з падгрупы *сферамарфітаў*, якая трапляецца на Беларусі ў адкладах *пратэразою — кайназою*.

**ЛЁКАЙ** (польск. lokaj < ням. Lakai, ад фр. laquais) — *уст.* тое, што і *лакей*.

**ЛЁС** [1] (польск. los, ад с.-в.-ням. lōz) — 1) незалежны ад волі чалавека ход падзей, збег абставін; 2) далейшае існаванне, будучыня; 3) доля, становішча ў жыцці (напр. жаночы л.).

# Л

**ЛЁС** [2] (ням. Löss) — асадачная горная парода светла-жоўтага колеру, на якой фарміруецца ўрадлівая глеба.

**ЛІ** (кіт. li) — 1) кітайская мера даўжыні, роўная 576 м або 644,6 м; 2) кітайская адзінка вагі золата і серабра, роўная 37,5 мг.

**ЛІБЕРА́Л** (лац. liberalis = свабодны) — 1) прыхільнік *лібералізму*, член ліберальнай партыі; 2) *уст.* вальнадумец; 3) *перан.* той, хто займаецца залішнім патураннем.

**ЛІБЕРАЛІЗА́ЦЫЯ** (ням. Liberalizierung = вызваленне, ад лац. liberalis = свабодны) — даванне большай свабоды, вызваленне; л. ц э н — зняцце абмежаванняў, лімітаў і меж аптовых і рознічных цэн на тавары і прадукты; найчасцей гэта азначае павышэнне цэн.

**ЛІБЕРАЛІ́ЗМ** (ад лац. liberalis = свабодны) — 1) палітычная плынь, якая аб'ядноўвае прыхільнікаў парламенцкага ладу і абмежаваных буржуазна-дэмакратычных свабод; 2) *уст.* вальнадумства; 3) *перан.* залішняя паблажлівасць, шкоднае патуранне.

**ЛІБЕРА́ЛЬНЫ** (лац. liberalis = свабодны) — 1) які мае адносіны да *лібералізму*, 2) *перан.* які дапускае *лібералізм* 3.

**ЛІБЕРЦІ́** (англ. liberty) — бліскучая шаўковая тканіна, з якой шыюць блузкі, сукенкі.

**ЛІБЕРЦІ́НЫ** (лац. libertinus = вольнаадпушчаны) — адпушчаныя на свабоду рабы або тыя, хто выкупіўся ў Стараж. Грэцыі і Рыме.

**ЛІБІ́ДА** (лац. libido) — палавая цяга.

**ЛІ́БРА** (лац. libra = фунт) — 1) адзінка вагі ў Стараж. Рыме і сярэдневяковай Еўропе, роўная 1 *фунту*; 2) друкарская мера паперы, роўная 25 *аркушам*; 3) мера вагі ў краінах Лац. Амерыкі, роўная 460 г; 4) грашовая адзінка Перу з 1897 да 1930 г. (замест яе быў уведзены *соль*[2]).

**ЛІБРА́ЦЫЯ** (лац. libratio = калыханне) — невялікія ваганні Месяца, выкліканыя нераўнамернасцю яго руху па арбіце, у выніку якіх зямны назіральнік можа бачыць (не адначасова) каля 60% паверхні Месяца.

**ЛІБРЫФО́РМ** (ад лац. liber, libri = луб + *форма*) — тканка драўніны, якая надае ёй моцнасць.

**ЛІБРЭ́ТА** (іт. libretto = *літар.* кніжыца) — славесны тэкст тэатралізаванага музычна-драматычнага твора (оперы, аперэты, араторыі), сцэнарый балета, а таксама кароткі пераказ зместу спектакля ў тэатральнай праграме.

**ЛІБРЭТЫ́СТ** (ад *лібрэта*) — аўтар лібрэта.

**ЛІ́ВЕР** [1] (англ. liver = печань) — вантробы забойнай жывёлы (печань, лёгкія, сэрца і селязёнка) як прадукты харчавання.

**ЛІ́ВЕР** [2] (англ. lever, ад лац. levare = паднімаць) — адкрытая з абодвух бакоў трубка з расшырэннем пасярэдзіне для набірання невялікай колькасці вадкасці.

**ЛІВІСТО́НА** (н.-лац. livistona) — пальма з буйным веерападобным лісцем, пашыраная ў тропіках Азіі; некаторыя віды разводзяцца як дэкаратыўныя.

**ЛІ́ГА** [1] (польск. liga, ад с.-лац. liga) — саюз, аб'яднанне асоб, арганізацый, дзяржаў.

**ЛІ́ГА** [2] (іт. liga = сувязь) — знак у выглядзе дугі над нотамі, які абазначае, што патрэбна іграць *легата*.

**ЛІ́ГА** [3] (англ. league) — мера адлегласці, прынятая ў Англіі і ЗША, роўная 3 *мілям*.

**ЛІГА́ЗЫ** (ад лац. ligare = звязваць) — клас ферментаў, якія прымаюць удзел у *біясінтэзе* кіслот, бялкоў і іншых субстанцый, неабходных для жыцця раслінных і жывёльных арганізмаў.

**ЛІГАМЕ́НТ** (лац. ligamentum = перавязь) — 1) эластычны цяж з рогападобнага рэчыва, які злучае чарапашкі двухстворкавых малюскаў; 2) *анат.* звязкі, якія ўмацоўваюць суставы або ўтрымліваюць унутраныя органы.

**ЛІГА́НДЫ** (ад лац. ligare = звязваць) — *малекулы* або *іоны* ў хімічных комплексных злучэннях, звязаныя непасрэдна з цэнтральным атамам.

**ЛІГАТУ́РА** (с.-лац. ligatura = сувязь) — 1) літара, утвораная са спалучэння элементаў дзвюх літар; 2) дапаможны сплаў, які дабаўляецца ў расплаўлены метал або сплаў для надання яму пэўных уласцівасцей; 3) *мед.* нітка, якой перавязваюць крывяносныя сасуды пры аперацыі.

**ЛІГЕІ́ДЫ** (н.-лац. lygaeidae) — сямейства насякомых атрада паўцвердакрылых; шкодзяць раслінам, памяншаюць іх усходжасць, затрымліваюць рост; клапы земляныя, наземнікі.

**ЛІГНАСТО́Н** (ад лац. lignum = дрэва + англ. stone = камень) — спрасаваная пры высокай тэмпературы драўніна, з якой робяць чаўнакі, шасцерні, укладышы падшыпнікаў і інш.

**ЛІГНАФО́ЛЬ** (ад лац. lignum = дрэва + folium = ліст) — канструкцыйны драўніннаслаістны матэрыял, прыгатаваны з лістоў шпону (пераважна бярозавага), якія насычаны смоламі, а пазней спрасаваны.

**ЛІГНІ́Н** (ад лац. lignum = дрэва) — 1) арганічнае рэчыва, якое разам з *цэлюлозай* змяшчаецца ў драўніне; 2) матэрыял у выглядзе тонкай слаістай паперы, выраблены з драўніны; раней выкарыстоўваўся як перавязачны; драўнінная вата.

**ЛІГНІ́Т** (ад лац. lignum = дрэва) — разнавіднасць бурага каменнага вугалю.

**ЛІГРАІ́Н** (англ. ligroine) — адзін з гаручых прадуктаў перагонкі нафты; выкарыстоўваецца як дызельнае паліва, растваральнік і інш.

**ЛІГУЛЁЗ** (ад *лігулы*) — глісная хвароба карпавых і бычковых рыб, якая выклікаецца лічынкамі лігул.

**ЛІГУ́ЛЫ** (н.-лац. ligulidae) — сямейства *гельмінтаў* класа *цэстодаў*, паразіты рыбаедных птушак; рамянцы.

**ЛІГУ́СЦІКУМ** (н.-лац. ligusticum) — травяністая расліна сям. парасонавых з доўгачаранковым лісцем і белымі або ружаватымі кветкамі ў парасоніках, пашыраная пераважна ва Усх. Азіі, Чылі, Новай Зеландыі; ужываецца як агародніна.

**ЛІ́ДА** (іт. lido = бераг) — пясчаныя косы на беразе Адрыятычнага мора, якія аддзяляюць ад мора *лагуны* 1.

**ЛІДЗІ́Т** (англ. lyddite, ад лац. Lidia = назва старажытнай краіны ў Малой Азіі) — горная парода чорнага, бурага або зялёнага колеру,

якая складаецца з кварцу, халцэдону і апалу з прымессю вугальнага рэчыва; выкарыстоўваецца для вырабу тачыльных брускоў; 2) назва *трынітрафенолу* ў Англіі ў канцы 19 — пач. 20 ст.

**ЛІ́ДЭР** (англ. leader = вядучы, кіраўнік) — 1) кіраўнік палітычнай партыі, грамадска-палітычнай арганізацыі (напр. прафсаюзны л.); 2) той, хто ідзе першым у спартыўным спаборніцтве (напр. л. веласіпеднай гонкі); 3) вядучы карабель у караване суднаў.

**ЛІ́ДЭРТАФЕЛЬ** (ням. Liedertafel) — нямецкія мужчынскія харавыя аматарскія таварыствы.

**ЛІЗ-**, **ЛІЗА-**, **-ЛІЗ** (гр. lysis = растварэнне) — першая або другая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае адносіны да растварэння, раскладання рэчыва.

**ЛІЗАГЕ́НІЯ** (ад *ліза-* + гр. genos = паходжанне) — здольнасць мікраарганізмаў утвараць і выдзяляць у навакольнае асяроддзе *бактэрыяфагі*.

**ЛІЗАЛЕЦЫЦІ́Н** (ад *ліза-* + *лецыцін)* — арганічнае рэчыва, прадукт адшчаплення ад лецыціну ненасычанай тлустай кіслаты, якое выклікае разбурэнне *эрытрацытаў* і *гемоліз*.

**ЛІЗАСО́МЫ** (ад *ліза-* + *сома*) — дробныя акруглыя цельцы, выяўленыя ў клетках жывёл і раслін, якія ўдзельнічаюць ва ўнутрыклетачных працэсах пераварвання бялкоў, *ліпідаў* і нуклеінавых кіслот.

**ЛІЗА́ТЫ** (ад гр. lysis = растварэнне) — 1) прадукты *лізісу* 2 якога-н. органа або тканкі; 2) лекавыя прэпараты, якія выкарыстоўваюцца ў ветэрынарнай практыцы для стымуляцыі органаў з аслабленай функцыяй.

**ЛІЗАФО́РМ** [ад *ліза-* + *фарм(алін)*] — раствор фармаліну ў калійным мыле.

**ЛІЗАЦЫ́МЫ** (ад *ліза-* + гр. zyme = закваска) — бялкі, якія змяшчаюцца ў жывёльных і раслінных арганізмах і з'яўляюцца *ферментамі*, што выклікаюць *лізіс* 2 некаторых мікраарганізмаў.

**ЛІ́ЗГАЛЬД** (англ. leasehold) — форма зямельнай арэнды ў сярэдневяковай Англіі.

**ЛІЗГО́ЛЬДЭРЫ** (англ. leasholders, ад lease = арэнда + holder = трымальнік) — арандатары ў Англіі позняга сярэдневякоўя, якія арандавалі зямлю ў буйных землеўладальнікаў *(лендлордаў)*; параўн. *капігольдэры, фрыгольдэры*.

**ЛІЗІГЕ́ННЫ** (ад *ліз-* + *-генны*) — які ўтварыўся ў выніку разбурэння або растварэння (*лізісу* 2).

**ЛІЗІ́МЕТР** (ад *ліз-* + *-метр*) — прыбор для вымярэння колькасці вады, якая прасочваецца ў глыбіню праз паверхневыя пласты глебы.

**ЛІЗІ́Н** (ад гр. lysis = растварэнне) — адна з амінакіслот, якая ўваходзіць у склад амаль усіх бялкоў.

**ЛІ́ЗІНГ** (англ. lease, ад гр. lysis = растварэнне) — форма гаспадарчых сувязей, заснаваная на перадачы ў арэнду машын, абсталявання і іншых каштоўнасцей; л. ф і н а н с а в ы — форма крэдытна-фінансавых адносін, якая забяспечвае мабілізацыю грашовых сродкаў і фінансаванне здзелак.

**ЛІ́ЗІС** (гр. lysis = растварэнне) — 1) *мед.* павольнае аслабленне праяў хваробы, якое суправаджаецца

паніжэннем высокай тэмпературы (процiл. *крызіс* 2); 2) растварэнне клетак пад дзеяннем ферментаў, кіслот, солей, шчолачаў.

**ЛІЗÓЛ** (ад *ліз-* + *-ол*) — масляністая вадкасць чырвона-бурага колеру, якая ўжываецца для дэзінфекцыі.

**ЛІКАГÁЛА** (н.-лац. lycogala) — слізявік сям. лікагалавых, якія развіваецца на пнях і іншых рэштках хвойных і лісцевых дрэў.

**ЛІКАЗÍДЫ** (н.-лац. lycosidae) — сямейства павукоў цёмнай афарбоўкі, якое ў сусветнай фауне налічвае каля 1,2 тысяч відаў; жывуць на глебе, дрэвах, кустах, каля берагоў вадаёмаў, могуць бегаць па паверхні вады; павукі-ваўкі.

**ЛІКАПАДЫЕ́ЛА** (н.-лац. lycopodiella) — травяністая расліна сям. дзеразовых з паўзучымі сцёбламі, лінейна-шылападобным лісцем, пашыраная ў розных кліматычных зонах; на Беларусі трапляецца рэдка.

**ЛІКАПÓДЫЙ** (н.-лац. lycopodium, ад гр. lykos = воўк + pus, podos = нага) — спелыя сухія споры дзеразы, а таксама жоўты парашок з іх, які выкарыстоўваецца ў медыцыне (у т.л. як дзіцячая прысыпка) і ў піратэхніцы.

**ЛІКВÁЦЫЯ** (лац. liquatio = плаўленне) — 1) раздзяленне аднароднай магматычнай масы пры пачатку яе астывання на дзве розныя па саставу вадкасці; 2) хімічная і структурная неаднароднасць сплаваў, металаў, якая ўзнікае пры іх крышталізацыі.

**ЛІКВІДАВÁЦЬ** (фр. liquider, ад с.-лац. liquidus = вольны ад даўгоў) — праводзіць *ліквідацыю*.

**ЛІКВІДÁМБАР** (ад лац. liquidus = вадкі, цякучы + *амбра*) — дрэва сям. гамамелідавых, пашыранае ў субтропіках; дае *стыракс* 2.

**ЛІКВІДÁЦЫЯ** (фр. liquidation, ад с.-лац. liquidus = вольны ад даўгоў) — спыненне існавання, дзейнасці чаго-н. (напр. л. трэста).

**ЛІКВÍДНЫ** (с.-лац. liquidus = вольны ад даўгоў) — *фін.* які лёгка рэалізуецца, ператвараецца ў наяўныя грошы (напр. л-ыя сродкі).

**ЛІКВÍДУС** (лац. liquidus = вадкі; відавочны) — графічная выява (лінія, паверхня) залежнасці тэмператур пачатку раўнаважнай крышталізацыі раствораў або сплаваў ад іх хімічнага складу.

**ЛІКВÓР** (лац. liquor = вадкасць) — вадкасць, вільгаць; л. ц э р э б р а с п і н а л ь н ы — спінамазгавая вадкасць.

**ЛІКЁР** (фр. liqueur) — салодкі моцны спіртны напітак з сумесі спірту, цукру, фруктовых або раслінных эсенцый.

**ЛÍКТАР** (лац. lictor) — член ганаровай аховы вышэйшых адміністрацыйных асоб *(консулаў, прэтараў)* у Стараж. Рыме; суправаджаючы іх, нёс *фасцыі* 1.

**ЛІКТРÓС** (гал. lijktros) — *мар.* мяккі трос, якім абшываюць краі парусоў для трываласці.

**ЛІЛÉЯ** гл. *лілія*.

**ЛІЛІПÚТ** (англ. Lilliput = назва маленькага чалавечка, жыхара выдуманай краіны Ліліпуцыі ў рамане Д.Свіфта «Падарожжа Гулівера») — 1) чалавек вельмі маленькага росту, карлік; 2) *перан.* нікчэмны, малазначны чалавек.

# Л

**ЛІ́ЛІЯ, ЛІЛЕ́Я** (польск. lilja, ад лац. lilium) — травяністая расліна сям. лілейных з прамым сцяблом і буйнымі кветкамі розных колераў, пашыраная пераважна ва ўмераных і субтрапічных зонах; вырошчваецца як дэкаратыўная і лекавая.

**ЛІЛО́ВЫ** (рус. лиловый, ад фр. lilas) — светла-фіялетавы, бэзавы.

**ЛІМА́Н** (тур., кр.-тат. liman) — мелкаводны марскі заліў, звычайна ў вусцях рэк.

**ЛІМАНА́Д** (фр. limonade) — салодкі безалкагольны напітак з сокам лімона ці іншых фруктаў і ягад.

**ЛІМАНІ́Т** (ням. Limonit, ад гр. leimon = луг, балота) — мінерал класа вокісаў і гідравокісаў цёмнабурага колеру.

**ЛІМАЦЫ́ДЫ** (ад лац. limax, -acis = слімак, смоўж + caedere = забіваць) — хімічныя рэчывы для знішчэння смаўжоў, якія з'яўляюцца шкоднікамі сельскагаспадарчых культур.

**ЛІМБ** (лац. limbus = край, кант) — 1) плоскае кольца, падзеленае на градусы, у вугламерных прыборах; 2) бачны край дыска Сонца, Месяца, планеты.

**ЛІ́МБА** (ісп. limbo) — групавы танец, пашыраны сярод насельніцтва вострава Табага (Цэнтр. Амерыка).

**ЛІМБУРГІ́Т** (ад ням. Limburg = назва гары ў Германіі) — вітрапарфіравая, ультраасноўная магматычная горная парода, складзеная з шклаватага базісу шчолачнага саставу з патэнцыяльнымі нефелінам і палявым шпатам, вылучэннямі алівіну і аўгіту.

**ЛІМІ́Т** (фр. limite, ад лац. limes, itis = мяжа, граніца) — 1) норма, у межах якой дазволена карыстацца чым-н., расходаваць што-н.; 2) *перан.* крайняя мяжа чаго-н. (напр. л. часу).

**ЛІМІТАВА́ЦЬ** (лац. limitare = абмяжоўваць) — абмяжоўваць, устанаўліваць *ліміт*.

**ЛІМІТА́ЦЫЯ** (лац. limitatio = устанаўленне, вызначэнне) — абмежаванне, устанаўленне *ліміту*.

**ЛІМІТРО́ФЫ** (лац. limithropus = прыгранічны, ад лац. limes = мяжа, граніца + гр. trophos = які жывіць) — 1) прыгранічныя вобласці Рымскай імперыі, якія павінны былі ўтрымліваць войскі, што сталі на мяжы; 2) дзяржавы, якія ўтварыліся на заходніх ускраінах былой Расійскай імперыі пасля 1917 г. (Літва, Латвія, Эстонія, Фінляндыя).

**ЛІ́МІТЭД** (англ. limited = абмежаваны) — абмежаваная адказнасць кампаніі па абавязацельствах (у межах уласнай маёмасці).

**ЛІМНАБІЁНТЫ** (ад гр. limne = возера + *біёнты*) — расліны і жывёлы, якія жывуць у азёрах.

**ЛІМНАКАЛЯ́НУС** (н.-лац. limnocalanus) — рачок падкласа весла080ногіх, які трапляецца ў азёрах ледніковага паходжання.

**ЛІМНАЛО́ГІЯ** (ад гр. limne = возера + *-логія*) — раздзел *гідралогіі*, які вывучае фізічныя, хімічныя і біялагічныя працэсы ў вадаёмах (азёрах, вадасховішчах, сажалках); азёразнаўства.

**ЛІМНАФІ́ЛЫ** (ад гр. limne = возера + *-філ*) — расліны і жывёлы, якія аддаюць перавагу азёрам як асяроддзю жыцця.

**ЛІМНІ́ГРАФ** (ад гр. limne = возера + *-граф*) — самазапісваючы прыбор, які рэгіструе ваганні ўзроўню вады ў буравых свідравінах, студнях, а таксама ў паверхневых вадаёмах (напр. азёрах).

**ЛІМНІЁН** (гр. limnion = азярцо) — зона свабоднай вады ў азёрах.

**ЛІМНО́ФІЛА** (н.-лац. limnophila) — водная травяністая расліна сям. залознікавых з светла-зялёным перыстым лісцем, пашыраная ў тропіках і субтропіках Азіі, Аўстраліі, Афрыкі; на Беларусі вядома як акварыумная.

**ЛІМО́Н** (фр. limon, іт. limone, ад перс. limun) — 1) паўднёвае вечназялёнае цытрусавае дрэва сям. рутавых; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўнае; 2) плод гэтага дрэва з пахучай жоўтай скуркай, кіслы на смак.

**ЛІМУЗІ́Н** (фр. limousine) — вялікі прадстаўнічы легкавы аўтамабіль з закрытым кузавам, забяспечаным шкляной перагародкай.

**ЛІ́МФА** (лац. lympha = вільгаць) — бясколерная вадкасць у целе чалавека і пазваночных жывёл, якая абмывае ўсе тканкі і клеткі арганізма; па хімічнаму саставу блізкая да *плазмы* 1.

**ЛІМФАГРАНУЛЕМАТО́З** (ад *лімфа* + *гранулема*) — захворванне, якое характарызуецца злаякасным пухлінападобным разрастаннем лімфатычных вузлоў.

**ЛІМФАДЭНІ́Т** (ад *лімфа* + *адэніт*) — запаленне *лімфатычных вузлоў*.

**ЛІМФАНГІ́Т** (ад *лімфа* + гр. angeion = сасуд) — запаленне *лімфатычных* сасудаў.

**ЛІМФАСТА́З** (ад *лімфа* + *-стаз*) — прыпыненне цыркуляцыі лімфы ў лімфатычных сасудах у выніку з'яўлення перашкод да іх адтоку.

**ЛІМФАТЫ́ЧНЫ** (ад *лімфа*) — які мае адносіны да лімфы; л - а я с і с т э м а — сукупнасць сасудаў, вузлоў у пазваночных жывёл і чалавека для адводу лімфы з тканак і органаў у венозную сістэму.

**ЛІМФАЦЫТО́З** (ад *лімфацыты*) — павелічэнне колькасці лімфацытаў у адзінцы аб'ёму крыві.

**ЛІМФАЦЫ́ТЫ** (н.-лац. lymphocytus, ад лац. lympha = вільгаць + гр. kytos) — адна з форм незярністых *лейкацытаў (агранулацытаў)*; удзельнічаюць у рэакцыях *імунітэту* 1.

**ЛІ́НА** (польск. lina, ад с.-в.-ням. line) — тоўсты канат з валокнаў ці дроту.

**ЛІНАГРАВЮ́РА** (ад лац. linum = палатно + *гравюра*) — пукатая гравюра на лінолеуме або падобных на яго палімерна-пластычных матэрыялах, па тэхніцы блізкая да *ксілаграфіі*, а таксама адбітак з яе.

**ЛІНАЛЕА́ТЫ** (ад лац. linum = лён + oleum = алей) — солі *ліналенавай* кіслаты, якія садзейнічаюць хуткаму высыханню алеяў, фарбаў і лакаў.

**ЛІНАЛЕ́НАВЫ** (ад лац. linum = лён + oleum = алей); л - а я к і с - л а т а — арганічнае злучэнне *аліфатычнага* рада, бясколерная вадкасць, якая з'яўляецца састаўной часткай высыхаючых алеяў; служыць асновай натуральнай *аліфы*.

**ЛІНАТРО́Н** (ад лац. linea = лінія + *-трон*) — фотанаборная машына, падобная да *дыгісета*, але з

меншым асартыментам наборных элементаў.

**ЛІНАТЫ́П** (англ. linotype, ад лац. linea = лінія + гр. typos = адбітак) — друкарская наборная машына, якая адлівае набор цэлымі радкамі.

**ЛІНАФІ́ЛЬМ** (ад лац. linea + *фільм*) — электронная фотанаборная машына, якая забяспечвае атрыманне фотанабору шрыфтамі *кегеля* 6—36 *пунктаў* на фотаплёнцы або фотапаперы.

**ЛІНГАФО́Н** (ад лац. lingua = мова + *-фон*) — апарат з наборам пласцінак для самастойнай работы па вывучэнню замежнай мовы.

**ЛІ́НГБІЯ** (н.-лац. lyngbia) — ніткаватая сіне-зялёная водарасць сям. асцыляторыевых, якая пашырана ў розных тыпах прэсных, саланаватых і марскіх вадаёмаў.

**ЛІНГВАГЕАГРА́ФІЯ** (ад лац. lingua = мова + *геаграфія*) — раздзел *дыялекталогіі*, які вывучае тэрытарыяльнае распаўсюджванне тых элементаў мовы, якімі дыялекты гэтай мовы адрозніваюцца адзін ад другога.

**ЛІНГВІ́СТ** (ад лац. lingua = мова) — спецыяліст у галіне *лінгвістыкі*; мовазнавец.

**ЛІНГВІ́СТЫКА** (фр. linguistique, ад лац. lingua = мова) — мовазнаўства, навука аб мове.

**ЛІНДЭ́РНІЯ** (н.-лац. lindernia) — травяністая расліна сям. залознікавых з авальна-падоўжаным лісцем і адзіночнымі кветкамі на доўгіх кветаножках, пашыраная ў розных кліматычных зонах на глеістых берагах вадаёмаў і балотах; на Беларусі заносная.

**ЛІНЕАМЕ́НТЫ** (лац. lineamentum = лінія, контур) — 1) глыбінныя разломы на Зямлі; 2) элементы рэльефу Месяца, якія маюць лінейную форму.

**ЛІНЕА́РНЫ** (лац. linearis) — які адносіцца да *лініі*, акрэслены лініяй, выражаны пры дапамозе ліній.

**ЛІНЕАРЫЗА́ЦЫЯ** (ад лац. linearis = лінейны) — метад аналізу нелінейных сістэм (або залежнасцей), пры якім яны разглядаюцца як лінейныя.

**ЛІНЕАРЫ́ЗМ** (лац. linearis = лінейны) — перавага меладычнай лініі над гармоніяй у шматгалосай музыцы.

**ЛІНЕА́ТУС** (н.-лац. aplocheilus lineatus) — рыба атрада карпазубых, якая водзіцца ў невялікіх застойных вадаёмах Шры-Ланка і ўсходняга ўзбярэжжа Індыі; вядома як акварыумная.

**ЛІНЕЁН** (н.-лац. linnaeon) — сукупнасць марфалагічна падобных і блізкародных груп раслін.

**ЛІНЕІ́Т** [ад шв. K.Linné = прозвішча шв. батаніка (1707—1778)] — мінерал класа *сульфідаў* белага або сталёва-шэрага колеру з металічным бляскам; сыравіна для атрымання *кобальту* 1.

**ЛІНЕ́ЙНЫ** (ад лац. linea = лінія) — 1) які мае адносіны да *лініі*; 2) які мае выгляд лініі (напр. л. арнамент); 3) прызначаны для абслугоўвання лініі сувязі ці шляхоў зносін (напр. л. дыспетчар); 4) які складае аснову баявых злучэнняў арміі ці флоту (напр. л. крэйсер); 5) *мат.* які адносіцца да першай ступені (напр. л-ае ўраўненне).

**ЛІНЕ́Я** [н.-лац. linnaea, ад шв. K.Linné = прозвішча шв. батаніка (1707—1778)] — паўкустовая расліна сям. бружмелевых са скурыстым лісцем і ружавата-белымі дух-

мянымі кветкамі, пашыраная ў хвойных лясах Еўразіі і Паўн. Амерыкі; трапляецца на Беларусі.

**ЛІ́НЗА** (ням. Linse = літар. чачавіца) — 1) выпуклае або ўвагнутае аптычнае шкло (напр. л. тэлескопа); 2) *геал.* форма залягання горных парод, якая нагадвае дваякавыпуклую лінзу.

**ЛІНІМЕ́НТЫ** (ад лац. linere = мазаць, націраць) — лячэбныя мазі, прызначаныя для націрання.

**ЛІНІ́ФІ** (н.-лац. linyphia) — павук сям. *лініфіідаў*, які жыве ў лясах на кустах, траве.

**ЛІНІ́ФІІДЫ** (н.-лац. linyphiidae) — сямейства павукоў шэрай, жоўтай ці белай афарбоўкі, часта з цёмным малюнкам, якое ў сусветнай фауне налічвае каля 800 відаў; жывуць у ніжніх ярусах лесу, у лясным подсціле, у высокім травяністым покрыве.

**ЛІ́НІЯ** (польск. linia, ад лац. linea) — 1) граніца паверхні, якая мае толькі адно вымярэнне — даўжыню, а таксама ўяўная рыса, якая злучае дзве кропкі (напр. прамая л., ломаная л.); 2) паласа (існуючая ці ўяўная), якая вызначае граніцу, край чаго-н. (напр. берагавая л.); 3) абрыс, контур чаго-н.; 4) доўгі рад прадметаў, з'яў (напр. л. акопаў); 5) шлях зносін, які звязвае два пункты (напр. чыгуначная л.); 6) сістэма прыстасаванняў для перадачы сігналаў, электраэнергіі (напр. тэлефонная л.); 7) паслядоўны рад асоб, аб'яднаных кроўнымі сувязямі; 8) *перан.* напрамак дзеянняў, думак (напр. л. паводзін).

**ЛІ́НКАС** [ад лац. lin(gua) cos(mica) = касмічная мова] — штучная мова для магчымай сувязі з іншапланетнымі цывілізацыямі.

**ЛІНКРУ́СТ** (ад лац. linum = палатно + crusta = кара) — тоўстая папера ці кардон, пакрытыя тонкім слоем пластмасы, з гладкім або рэльефным малюнкам; выкарыстоўваецца для абіўкі сцен.

**ЛІНО́ЛЕУМ** (англ. linoleum, ад лац. linum = палатно + oleum = алей) — тоўстая цвёрдая тканіна, пакрытая непрамакальным саставам, якая ўжываецца для пакрыцця падлогі.

**ЛІНО́Н** (фр. linon, ад lin < лац. linum = лён) — тонкая льняная выбеленая тканіна.

**ЛІНЧ** [англ. lynch = распраўляцца самасудам, ад C.Lynch = прозвішча амер. палкоўніка-расіста (1736—1796)] — самасуд, расправа без следства над неграмі і палітычнымі дзеячамі ў ЗША; суд Лінча.

**ЛІНЧАВА́ЦЬ** (ад *лінч*) —падвяргаць самасуду, суду Лінча.

**ЛІНЬ** (гал. lijn) — вельмі моцны тонкі карабельны *трос*.

**ЛІНЬЯ́Ж** (фр. lignage, ад ligne = лінія, радок) — колькасць радкоў у друкарскай паласе (на старонцы).

**ЛІПААКСІГЕНА́ЗА** (ад гр. lipos = тлушч + *аксіген*) — фермент класа *аксідарэдуктазаў*, які акісляе ненасычаныя тлустыя кіслоты да перакісаў.

**ЛІПААКСІДА́ЗА** (ад гр. lipos = тлушч + *аксідазы*) — тое, што і *ліпааксігеназа*.

**ЛІПАБЛАСТО́МА** (ад гр. lipos = тлушч + *бластома*) — тое, што і *ліпома*.

**ЛІПА́ЗЫ** (ад гр. lipos = тлушч) — *ферменты*, якія забяспечваюць у

арганізме расшчапленне *ліпідаў* на гліцэрын і тлустыя кіслоты.

**ЛІПАКАІ́Н** (ад гр. lipos = тлушч + kaio = спальваю) — прэпарат, які атрымліваюць з падстраўнікавай залозы буйной рагатай жывёлы; выкарыстоўваецца пры захворваннях печані, цукровым дыябеце.

**ЛІПАМЕ́ТРЫЯ** (гр. lipometria, ад leipo = не хапаць + metron = памер) — замена склада паўзай у пачатку стопнага вершаванага радка.

**ЛІПАМІЦЭ́ТЫ** (н.-лац. lipomyces) — сумчатыя грыбы (дрожджы) сям. эндаміцэтавых, якія развіваюцца ў глебе.

**ЛІПАПРАТЭІ́ДЫ** (ад гр. lipos = тлушч + *пратэіды*) — складаныя бялкі, якія ўтвараюцца з *пратэінаў* і *ліпідаў*, змяшчаюцца ў клетках жывёльных і некаторых раслінных арганізмаў.

**ЛІПА́РЫС** (н.-лац. liparis) — травяністая расліна сям. ятрышнікавых з прадаўгаватым лісцем і жаўтавата-зялёнымі кветкамі ў гронках, пашыраная ў розных кліматычных зонах на забалочаных лугах; трапляецца на Беларусі.

**ЛІПАРЫ́Т** (ад іт. Lipari = назва горада на Ліпарскіх астравах недалёка ад Сіцыліі) — магматычная горная парода, якая складаецца са шклопадобнай масы з украпленнямі кварцу, плагіяклазу і інш.

**ЛІПАФУСЦЫ́Н** (ад гр. lipos = тлушч + лац. fuscus = цьмяны, непразрысты) — жоўта-карычневы *пігмент*, які ўяўляе сабой *ліпапратэід* і ўтвараецца пры акісленні ў арганізме *фосфаліпідаў* і тлушчаў.

**ЛІПІ́ДЫ** (ад гр. lipos = тлушч) — група арганічных рэчываў, да якой належаць тлушчы і тлушчападобныя рэчывы *(ліпоіды)*; пашыраны ў жывёльных і раслінных арганізмах.

**ЛІПО́ІДЫ** (ад гр. lipos = тлушч + *-оід*) — група тлушчападобных рэчываў расліннага і жывёльнага паходжання, якая разам з тлушчамі ўваходзіць у групу *ліпідаў*.

**ЛІПО́МА** [н.-лац. lipoma, ад гр. lipos = тлушч + (ogk)oma = пухліна)] — дабраякасная пухліна з тлушчавай тканкі.

**ЛІ́ПСІ** (ням. Lipsi, ад Lipsia = лацінская назва Лейпцыга) — сучасны бальны танец з сінкапіраванымі акцэнтамі.

**ЛІ́РА** [1] (польск. lira < лац. lyra, ад гр. lyra) — 1) старажытнагрэчаскі струнны шчыпковы музычны інструмент; 2) даўнейшы струнны фрыкацыйны музычны інструмент вандроўных беларускіх музыкантаў-песняроў (лірнікаў); 3) *перан.* творчасць паэта, паэзія (напр. змоўкла л. Купалы).

**ЛІ́РА** [2] (іт. lira) — грашовая адзінка ў Італіі, роўная 100 *чантэзіма*, і Турцыі, роўная 100 *піястрам*.

**ЛІРЫ́ДЫ** (ад лац. Lyra = назва сузор'я) — метэорны паток з *радыянтам* у сузор'і Ліры.

**ЛІРЫ́ЗМ** (гр. lyrismos = ігра на ліры) — эмацыянальнасць, паэтычная ўсхваляванасць, сардэчнасць у творах мастацтва.

**ЛІ́РЫК** (гр. lyrikos = пачуццёвы) — аўтар лірычных літаратурных твораў.

**ЛІ́РЫКА** (фр. lyrique < лац. lyrica = ода, ад гр. lyrikos = пачуццёвы) — 1) адзін з трох родаў мастацкай літаратуры (побач з *эпасам* і *драмай*), які адлюстроўвае жыццё праз вобраз-перажыванне; 2) *перан.* чуллівасць, перажыванні.

**ЛІРЫ́ЧНЫ** (гр. lyrikos) — 1) які мае адносіны да *лірыкі*, з'яўляецца лірыкай; 2) *перан.* чуллівы, эмацыянальна ўзвышаны.

**ЛІ́СЕЛЬ** (гал. lijzeil) — дадатковы парус на судне, які паднімаецца пры слабым ветры ў дапамогу асноўным парусам.

**ЛІСІРАВА́ЦЬ** (фр. lisser) — глянцаваць, паліраваць (напр. л. карціну).

**ЛІ́СТЭР** [н.-лац. listera, ад англ. M.Lister = прозвішча англ. урача (памёр у 1712 г.)] — расліна сям. архідных, якая расце ва ўмераным клімаце Паўн. паўшар'я.

**ЛІСТЭРЫЁЗ** (ад *лістэрыя*) — вострая інфекцыйная хвароба жывёл і чалавека, якая выклікаецца лістэрыямі.

**ЛІСТЭ́РЫІ** (н.-лац. listeria) — палачкападобныя аэробныя *бактэрыі*; узбуджальнікі *лістэрыёзу* ў чалавека і жывёл.

**ЛІТ** (літ. lit) — грашовая адзінка Літвы ў 1922—1940 гг. і з 1993 г., роўная 100 *цэнтам*.

**ЛІТА-**, **-ЛІТ** (гр. lithos = камень) — першая або другая састаўная частка складаных слоў, якая выражае паняцці «камень», «горная парода», «мінерал», «геалагічная эпоха».

**ЛІТАВА́ЦЬ** (польск. litować, ад с.-в.-ням. loeten) — *уст.* паяць.

**ЛІТАГЕНЕ́З** (ад *літа-* + *-генез*) — сукупнасць прыродных працэсаў утварэння і далейшых змен асадачных горных парод.

**ЛІТАГЛІ́ФІКА** (ад *літа-* + гр. glypho = разьблю) — разьба на камені.

**ЛІТАГРА́ФІЯ** (ад *літа-* + *-графія*) — 1) спосаб друку, пры якім адбітак атрымліваецца пераносам фарбы пад ціскам з плоскай паверхні каменя непасрэдна на паперу; 2) малюнак, зроблены такім спосабам; 3) прадпрыемства або цэх, дзе друкуюць такім спосабам.

**ЛІТАКІНАСКО́П** (ад гр. lis = палатно + kineo = рухаю + *-скоп*) — прыбор для разглядання і мантажу кінастужак.

**ЛІТАЛО́ГІЯ** (ад *літа-* + *-логія*) — раздзел *петраграфіі*, які вывучае склад, будову і паходжанне асадачных горных парод.

**ЛІТАМУРА́ЦЫЯ** (ад *літа-* + лац. murus = сцяна) — разнавіднасць *імурацыі*, калі жывы арганізм замуроўваецца ў працэсе ўтварэння горных парод і гіне.

**ЛІТА́ННЕ** (лац. litania, ад гр. litaneia) — 1) малітва ў католікаў, у якой звяртаюцца да бога або святых з просьбай аб заступніцтве; 2) *перан.* доўгае манатоннае пералічванне чаго-н.

**ЛІТАПО́Н** (ад *літа-* + лац. ponere = класці) — белая мінеральная фарба, сумесь сярністага цынку і сернакіслага барыю.

**ЛІ́ТАР** (рус. литер, ад лац. littera = літара) — дакумент на права бясплатнага або льготнага праезду з пазначанай на ім умоўнай літарай.

**ЛІ́ТАРА** (польск. litera, ад лац. littera) — 1) графічны знак, які абазначае гук ці спалучэнне гукаў; 2) такі знак, выразаны на металічным брусочку для друкарскага набору.

**ЛІТАРА́ЛЬ** (лац. litoralis = берагавы) — прыбярэжная паласа марскога дна, якая агаляецца ў час адліву.

**ЛІТАРА́ЛЬНЫ**[1] (польск. literalny, ад лац. litteralis) — 1) дакладны,

даслоўны (напр. л. пераклад); 2) прамы, не пераносны (напр. л. сэнс).

**ЛІТАРА́ЛЬНЫ** [2] (лац. litoralis, ад litus = узбярэжжа) — прыбярэжны (напр. л-ыя адклады).

**ЛІТАРА́ТАР** (лац. literator) — 1) пісьменнік; 2) літаратуразнавец.

**ЛІТАРАТУ́РА** (лац. litteratura) — 1) сукупнасць твораў пісьменнасці якога-н. народа, эпохі або ўсяго чалавецтва; 2) від мастацтва, якое адлюстроўвае жыццё, стварае мастацкія вобразы пры дапамозе слова, мовы, а таксама творы гэтага мастацтва; 3) сукупнасць твораў, прац па якой-н. галіне ведаў, нейкаму спецыяльнаму пытанню (напр. метадычная л., навуковая л.).

**ЛІТАРЫ́НЫ** (н.-лац. littorinidae) — сямейства марскіх пярэднежабравых *малюскаў*.

**ЛІТАСІДЭРЫ́ТЫ** (ад *літа-* + *сідэрыт*) — каменна-жалезныя *метэарыты*, асноўная маса якіх уяўляе сабой губку з нікелістага жалеза, поры якой запоўнены мінераламі; уваходзіць у клас *сідэралітаў*.

**ЛІТАСКО́П** (ад гр. lis = палатно + *-скоп*) — тое, што і *літакінаскоп*.

**ЛІТАСО́ЛІ** (ад *літа-* + лац. solum = зямля, глеба) — слабаразвітыя маласільныя глебы, якія фарміруюцца на шчыльных пародах, пераважна ў гарах.

**ЛІТАСФЕ́РА** (ад *літа-* + *сфера*) — верхняя цвёрдая абалонка зямнога шара.

**ЛІТАТА́МНІІ** (ад *літа-* + гр. thamnos = куст) — чырвоныя водарасці класа *фларыдэевых*, якія пашыраны ў цёплых морах; разам з караламі ўтвараюць *рыфы*[1].

**ЛІТАТРЫПСІ́Я** (ад *літа-* + гр. tripsis = расціранне) — аперацыя раздрабнення камянёў у мачавым пузыры.

**ЛІТАТРЫ́ХТАР** (ад *літа-* + гр. tribo = расціраю) — шчыпцы для раздрабнення камянёў у мачавым пузыры.

**ЛІТАТЭ́КС** (ад *літа-* + лац. texo = складаю) — тып размнажальных машын для шматразовага фатаграфавання адлюстраванняў невялікага памеру.

**ЛІТА́ЎРЫ** [ад гр. (po)ly = многа + taurea = барабан] — старажытны мембранны ўдарны музычны інструмент накшталт барабана.

**ЛІТАФА́НІЯ** (ад *літа-* + гр. phanos = ясны, празрысты) — 1) дэкаратыўныя вырабы з абпаленага непаліванага фарфору, малюнкі на якім бачны пры разгляданні на святло; 2) спосаб стварэння такіх вырабаў; 3) падрыхтоўчыя барэльефныя адлюстраванні на воску для вырабу карцін на паперы, якія відаць пры прасвечванні.

**ЛІТАФІ́ЛЬНЫ** (ад *літа-* + гр. phileo = люблю); л-ыя элементы — група хімічных элементаў, якія складаюць асноўную масу мінералаў зямной кары.

**ЛІТАФІ́ТЫ** (ад *літа-* + *-фіты*) — расліны, якія растуць на скалах і камянях (імхі, лішайнікі, некаторыя водарасці і інш.).

**ЛІТАХРАМІ́РАВАЦЬ** (ад *літа-* + гр. chroma = фарба) — друкаваць літаграфскім спосабам у фарбах.

**ЛІТАХРЫЗАГРА́ФІЯ** (ад *літа-* + гр. chrysos = золата + *-графія*) — літаграфскі друк бронзавай фарбай.

**ЛІТО́ГРАФ** (ад *літаграфія*) — спецыяліст у галіне літаграфіі.

**ЛІТО́ТА** (гр. litotes = прастата) — разнавіднасць *метаніміі*: зварот мовы, процілеглы *гіпербале*; замена якога-н. выразу іншым, раўназначным.

**ЛІТР** (фр. litre, ад гр. litra = фунт) — 1) мера аб'ёму і ёмістасці ў Метрычнай сістэме мер (СІ), роўная 1000 $см^3$; 2) пасудзіна такой ёмістасці.

**ЛІ́ТРА** (гр. litra) — асноўная адзінка візантыйскай манетнай вагі, роўная 327,45 г.

**ЛІТРА́Ж** (фр. liltrage) — аб'ём якой-н. пасудзіны ў *літрах*.

**ЛІТУРГІ́Я** (гр. leiturgia) — хрысціянскае набажэнства, у час якога робяць прычасце (у праваслаўных — абедня, у каталікаў і лютэран — *меса* 1).

**ЛІ́ТЫЙ** (н.-лац. lithium, ад гр. lithos = камень) — хімічны элемент, серабрыста-белы метал, які выкарыстоўваецца пераважна ў ядзернай энергетыцы.

**ЛІТЫФА́НТЭС** (н.-лац. lithyphantes) — павук сям. цянётнікаў, які жыве на паверхні глебы ў сухіх мясцінах.

**ЛІТЫЯ́** (ад гр. lite = просьба, маленне) — 1) кароткае царкоўнае богаслужэнне ў прытворы хрысціянскага храма; 2) абрад адпявання нябожчыка ў час ходу жалобнай працэсіі і на могілках.

**ЛІЎР** (фр. livre, ад лац. libra = фунт) — 1) сярэбраная манета ў сярэдневяковай Францыі; 2) грашовая адзінка ў Францыі да ўвядзення *франка* (1799 г.), роўная 240 *дэнье*; 3) даўнейшая французская мера вагі, роўная 1/2 кг.

**ЛІЎРЭ́Я** (фр. livrée) — форменная, звычайна вышытая галунамі адзежа для швейцараў, лакеяў і інш.

**ЛІФ** (рус. лиф, ад гал. lijf) — частка жаночай сукенкі, якая аблягае грудзі і спіну.

**ЛІФТ** (англ. lift) — машына для падымання пасажыраў і грузаў у шматпавярховых дамах, шахтах і інш.

**ЛІХЕНАІНДЫКА́ЦЫЯ** (ад гр. leichen = лішайнік + лац. indicare = указваць, вызначаць) — выкарыстанне лішайнікаў у якасці біялагічных *індыкатараў* ступені забруджанасці атмасфернага паветра.

**ЛІХЕНАЛО́ГІЯ** (ад гр. leichen = лішайнік + *-логія*) — раздзел *батанікі*, які вывучае лішайнікі.

**ЛІ́ХІЯ** (н.-лац. lichia) — рыба сям. стаўрыдавых, пашыраная ў Атлантычным і Індыйскім акіянах.

**ЛІХТА́Р** (польск. lichtarz, ад с.-в.-ням. liuhtaere) — род лямпы з закрытым шклом для асвятлення двароў, вуліц і інш.

**ЛІ́ХТЭР** ( гал. lichter) — невялікае грузавое, пераважна несамаходнае марское судна тыпу *баржы*.

**ЛІЦЫ́Й** (н.-лац. lycium) — кустовая расліна сям. паслёнавых з падоўжаным лісцем і ружова-бэзавымі кветкамі, пашыраная ў трапічных і ўмераных зонах; трапляецца на поўдні Беларусі; вырошчваецца як дэкаратыўная.

**ЛІЦЭ́Й** (лац. lyceum, ад гр. Lykeion = школа ў Афінах, дзе вучыў Арыстоцель) — 1) сярэдняя агульнаадукацыйная навучальная ўстанова ў некаторых краінах Зах. Еўропы, Лац. Амерыкі, Афрыкі; ёсць і на Беларусі; 2) прывілеява-

ная навучальная ўстанова для сыноў дваран у царскай Расіі.

**ЛІЦЭ́НЗІЯ** (рус. лицензия, ад лац. licentia = права, дазвол) — 1) дазвол кампетэнтнага дзяржаўнага органа на прывоз тавараў або іх вываз за мяжу; 2) дазвол на выраб якой-н. прадукцыі, выкарыстанне вынаходніцтва, на адстрэл дзікіх жывёл, паляванне на якіх абмежавана.

**ЛІЦЭ́НЦЫЯ** (польск. licencja, ад лац. licentia = права, дазвол) — адступленне ад агульнапрынятых правіл (звычайна ў галіне мастацтва).

**ЛІЦЭНЦЫЯ́Т** (с.-лац. licentiatus = звольнены, адпушчаны) — 1) выкладчык у сярэдневяковых універсітэтах, які меў права чытаць лекцыі да абароны доктарскай дысертацыі; 2) першая вучоная ступень у некаторых краінах Зах. Еўропы і Лац. Амерыкі.

**ЛІ́ШТВА** (ст.-польск. lisztwa, ад с.-в.-ням. liste) — 1) накладная планка вакол дзвярнога ці аконнага праёма; 2) нашытая палоска матэрыі для аддзелкі, падрубкі.

**ЛІЯ́ЗЫ** (ад гр. lyo = раствараю) — клас ферментаў, якія каталізуюць у арганізме рэакцыі расшчаплення малекул арганічных рэчываў.

**ЛІЯНЕ́З** (фр. lyonnaise, ад Lyon = назва горада ў Францыі) — баваўняная шчыльная тканіна з рубчыкамі.

**ЛІЯ́НЫ** (фр. liane, ад lier = звязваць) — расліны, якія не здольны самастойна захоўваць вертыкальнасць сцябла і выкарыстоўваюць для апоры іншыя расліны, скалы, будынкі; пашыраны пераважна ў трапічных лясах, бываюць лазячыя і павойныя.

**ЛІЯТРАПІ́Я** (ад гр. lyo = раствараю + *-трапія*) — уплыў раствораных рэчываў на малекулярныя ўласцівасці растваральніка.

**ЛІЯФІ́Л** (н.-лац. lyophyllum) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. радоўкавых, які расце на глебе, лясным подсціле, гнілой драўніне; большасць відаў ядомыя.

**ЛІЯФІЛІЗА́ЦЫЯ** (ад *ліяфільнасць*) — спосаб сушэння вільготных матэрыялаў (тканак або іншых біялагічных аб'ектаў) у замарожаным стане ў вакууме.

**ЛІЯФІ́ЛЬНАСЦЬ** (ад гр. lyo = раствараю + phileo = люблю) — здольнасць рэчываў інтэнсіўна ўзаемадзейнічаць з малекуламі вадкага асяроддзя, да якога гэтае рэчыва дакранаецца (гл. таксама *гідрафільнасць*).

**ЛІЯФО́БНАСЦЬ** (ад гр. lyo = раствараю + phobos = страх) — здольнасць рэчываў вельмі слаба ўзаемадзейнічаць з малекуламі вадкага асяроддзя, да якога гэтае рэчыва дакранаецца (гл. таксама *гідрафобнасць*).

**ЛО́БЗІК** (рус. лобзик, ад ням. Laubsage) — ручны інструмент для выпілоўвання ўзораў на фанеры або мяккім метале.

**ЛО́БІ** (англ. lobby = кулуары) — 1) сістэма кантор, агенцтваў буйных банкаў і манаполій пры заканадаўчых органах некаторых краін, якія ўплываюць на заканадаўцаў і дзяржаўных чыноўнікаў з мэтай прыняцця або адхілення тых ці іншых законаў у інтарэсах гэтых банкаў і манаполій; 2) агенты такіх кантор і агенцтваў.

**ЛО́ВЕРДЭК** (англ. lower deck) — ніжняя палуба на судне.

**-ЛОГ, -ЛАГ** (гр. logos = слова; вучэнне) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «той, хто займаецца навукай», «слова», «маўленне».

**ЛОГАНЕЎРО́З** (ад гр. logos = слова + *неўроз*) — разлад моўнай функцыі чалавека, які наступае ў выніку неўратычнага стану асобы.

**ЛОГАПАТАЛО́ГІЯ** (ад гр. logos = слова + *паталогія*) — разлад маўлення.

**ЛО́ГАС** (гр. logos = паняцце; думка, розум) — духоўны першапачатак, сусветны розум, абсалютная ідэя ў ідэалістычнай філасофіі.

**ЛО́ГЕР** (ням. Logger) — тое, што і *дрыфтэр*.

**ЛО́ГІКА** (лац. logica, ад гр. logike) — 1) навука аб законах і формах мыслення; 2) ход разважанняў (напр. л. думкі); 3) унутраная заканамернасць чаго-н. (напр. л. падзей).

**-ЛОГІЯ** (гр. logos = слова; вучэнне) — другая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае паняццям «навука», «вучэнне», «веды».

**ЛО́ДЖЫЯ** (іт. loggia) — 1) адкрытая *галерэя*, якая прымыкае да будынка; памяшканне з каланадай замест вонкавай сцяны; 2) балкон жылога дома ў выглядзе нішы.

**ЛО́ЖА** (фр. loge) — 1) месца ў глядзельнай зале, аддзеленае перагародкай (вакол *партэра* і на ярусах); 2) аддзяленне масонскай арганізацыі, а таксама месца сходаў *масонаў*.

**ЛО́ЗУНГ** (рус. лозунг, ад ням. Losung) — 1) заклік, які ў кароткай форме выражае кіруючую ідэю, задачу, патрабаванне, а таксама плакат з такім заклікам; 2) *уст.* пароль.

**ЛО́КА** (лац. loco = на месцы) — 1) умова пагаднення, згодна з якой цана тавару вызначаецца па месцы яго знаходжання (без уліку дастаўкі); 2) аперацыя з іншаземнай валютай або каштоўнымі паперамі на *біржы*.

**ЛО́КАН** (рус. локон, ад ням. Locke) — кучаравая або завітая пасма валасоў.

**ЛОКУЛААСКАМІЦЭ́ТЫ** (н.-лац. loculoascomycetidae) — падклас *аскаміцэтаў*, для якога характэрна фарміраванне *аскаў* у поласцях паміж пладовымі целамі; пашыраны па ўсім зямным шары; пераважна *сапратрофы*, некаторыя — *паразіты* раслін; аскалакулярныя грыбы.

**ЛО́КУС** (лац. locus = месца) — месцазнаходжанне пэўнага *гена* ў *храмасоме* або на генетычнай карце храмасомы.

**ЛО́МАС** (ісп. lomas = узгоркі) — тып пустыннай расліннасці ў Паўд. Амерыцы на ціхаакіянскім узбярэжжы.

**ЛО́МБЕР** (фр. l'hombre, ад ісп. hombre = чалавек) — гульня ў карты, у якой прымаюць удзел звычайна трое.

**ЛО́НЖА** (фр. longe) — 1) тое, што і *корда* 1; 2) вяроўка (трос), якая прымацоўваецца да пояса гімнаста, акрабата пры выкананні небяспечных нумароў для засцярогі ад падзення.

**ЛО́ПАР** (гал. looper, ад lopen = бегчы) — *мар.* хадавы або знешні канец у *талей* і ўсялякай снасці на судне, за які цягнуць трос.

**ЛО́ПІНГ** (ад англ. looping the loop = завіванне пятлі) — спартыўны

снарад у выглядзе вярчальных арэляў для трэніровак лётчыкаў, касманаўтаў.

**ЛО́РА** [ад іт. loro (conto) — іхні рахунак] — тое, што і *лора-конта*.

**ЛО́РА-КО́НТА** (іт. loro conto = іхні рахунак) — рахунак, адкрыты банкам свайму *карэспандэнту* для ўнясення сум, якія ідуць на яго карысць.

**ЛОРД** (англ. lord) — 1) спадчынны *тытул* вышэйшага дваранства ў Англіі; 2) састаўная частка афіцыйных назваў некаторых вышэйшых пасад у Англіі (напр. *лорд-канцлер, лорд-мэр*).

**ЛОРД-КА́НЦЛЕР** (англ. Lord Chancellor) — адна з высокіх службовых асоб у Англіі — член урада і старшыня палаты лордаў, які выконвае функцыі міністра юстыцыі, кіраўніка Вярхоўнага суда; захавальнік вялікай дзяржаўнай пячаткі.

**ЛОРД-МЭ́Р** (англ. Lord mayor) — гарадскі галава ў Лондане і некаторых іншых гарадах Англіі.

**ЛО́РЫ** (англ. lory, ад малайск. luri) — 1) маленькая паўмалпа сям. лорыевых, якая водзіцца ў Паўд.-Усх. Азіі; 2) птушка атрада папугаяў з яркім апярэннем, пашыраная на Філіпінскіх астравах, на поўдні Аўстраліі і ў Палінезіі.

**ЛОТ** [1] (гал. lood) — прыбор для вымярэння глыбіні мора з карабля; адрозніваюцца простыя *(лотлінь)*, механічныя і акустычныя *(рэхалот*[1]).

**ЛОТ** [2] (ням. Lot) — адзінка вагі, роўная прыблізна 12 г, якая існавала ў многіх краінах да ўвядзення метрычнай сістэмы мер.

**ЛО́ТАС** (лац. lotos, ад гр. lotos) — водная травяністая расліна сям. лотасавых з прыгожымі буйнымі кветкамі, пашыраная ў тропіках і субтропіках.

**ЛО́ТЛІНЬ** (гал. loodlijn) — тонкі трос (лінь) з гірай на канцы; просты *лот*[1].

**ЛОТР** (польск. łotr < чэш. lotr, ад с.-в.-ням. loter) — лайдак, гультай; п'яніца.

**ЛОЎЖ** (літ. lāužas) — куча галля.

**ЛОХ** (фін. lohi = ласось, сёмга) — самец сёмгі ў перыяд нерасту.

**ЛО́ЦМАН** (гал. loodsman) — 1) спецыяліст па праводцы суднаў на падыходах да партоў і ў небяспечных для плавання месцах; 2) невялікая марская рыба сям. стаўрыдавых, якая трымаецца каля суднаў і каля акул у трапічных і субтрапічных водах.

**ЛО́ЦЫЯ** (рус. лоция, ад гал. loodsen = весці карабель) — 1) раздзел суднаваджэння, які вывучае ўмовы плавання ў водных басейнах; 2) кіраўніцтва для плавання ў пэўным водным басейне з падрабязным апісаннем яго навігацыйных асаблівасцей.

**ЛУ́БІН** (польск. łubin, ад лац. lupinus = воўчы) — травяністая расліна сям. бабовых з прамым сцяблом, буйным лісцем і пахучымі кветкамі розных колераў, пашыраная пераважна ва ўмераных зонах; на Беларусі высяваецца для ўгнаення і на корм жывёле.

**ЛУБРЫКА́ТАР** (ад лац. lubricare = рабіць слізкім) — прыбор для аўтаматычнай змазкі пад ціскам дэталей машын і механізмаў, якія труцца.

**ЛУ́ДА** (карэл. luodo) — невялікі камяністы востраў, пазбаўлены расліннасці (напр. на ўзбярэжжы Белага мора).

**ЛУДЗІ́ТЫ** (англ. Luddites, ад N.Ludda = прозвішча рамесніка, які, згодна з паданнем, першым разбіў свой вязальны варштат у знак пратэсту супраць самавольства гаспадара) — удзельнікі стыхійных рабочых хваляванняў у Англіі ў другой пал. 18 — пач. 19 ст. супраць прымянення машын, якія павялічвалі колькасць беспрацоўных.

**ЛУДЛО́Ў** (англ. I.Ludlow = прозвішча амер. канструктара) — наборная радковаадліўная вялікакегельная машына з ручным наборам *матрыц*.

**ЛУ́ЗА** (польск. luza) — адтуліна ў бартах більярднага стала, у якую падае шар.

**ЛУІДО́Р** [фр. louis d'or = залаты Луі, ад Louis = імя фр. караля Людовіка XII (1601—1693) + d'or = з золата] — старадаўняя французская залатая манета (17—18 ст.).

**ЛУКРАТЫ́ЎНЫ** (лац. lucrativus = які прыносіць карысць) — даходны, які дае вялікі прыбытак (напр. л-ая паездка за мяжу).

**ЛУМП** (англ. lump = грудка) — цукар-пясок невысокай якасці, які атрымліваецца з адходаў рафінаднай вытворчасці.

**ЛУНАЦЫ́ЗМ** (н.-лац. lunatismus, ад лац. luna = месяц) — тое, што і *самнамбулізм*.

**ЛУНА́ЦІК** (польск. lunatyk, ад лац. lunaticus) — тое, што і *самнамбула*.

**ЛУ́ПА** (фр. loupe) — збіральная *лінза* ў аправе або сістэма лінз для разглядання дробных дэталей.

**ЛУПЕРКА́ЛІІ** (лац. lupercalia) — старажытнарымскае веснавое свята ў гонар бога палёў і лясоў Фаўна.

**ЛУПУЛІ́Н** (ад лац. lupulus = хмель) — залозкі суплоддзяў хмелю, а таксама горкае клейкае рэчыва, якое выдзяляецца гэтымі залозкамі; выкарыстоўваецца ў піваварнай прамысловасці.

**ЛЬЁ** (фр. lieue) — старадаўняя французская мера даўжыні, роўная 4,444 км (марское л. роўнае 5,556 км).

**ЛЬЯ́НАСЫ** (ісп. llanos = раўніны) — тып *саваннаў* у Паўд. Амерыцы (па левабярэжжы р. Арынока).

**ЛЭ́ДЗІ** (англ. lady) — жонка *лорда* або *баранета*, а таксама ўвогуле замужняя жанчына з арыстакратычных колаў у Англіі.

**ЛЮ́ВЕРС** (гал. leuwers) — круглая адтуліна ў парусе, тэнце для прадзявання вяроўкі, каб замацаваць іх.

**ЛЮ́ГЕР** (ням. Lugger) — 1) трохмачтавае паруснае судна з *бізаньмачтай* перад воссю руля; 2) даўнейшы трохмачтавы парусны ваенны карабель.

**ЛЮДВІ́ГІЯ** (н.-лац. ludwigia) — водная травяністая расліна сям. скрыпнёвых з доўгімі галінастымі сцёбламі і аліўкава-зялёным лісцем, пашыраная ў вадаёмах Амерыкі, радзей Афрыкі; вядома як акварыумная.

**ЛЮІЗІ́Т** (англ. lewisite, ад W.Lewis = прозвішча амер. хіміка) — стойкае атрутнае рэчыва, арганічнае злучэнне мыш'яку, якое выклікае нарывы на скуры.

**ЛЮК** (рус. люк, ад гал. luik) — адтуліна з векам для пранікнення

ўнутр чаго-н. (напр. л. танка; каналізацыйны л.).

**ЛЮКА́РНА** (фр. lucarne) — невялікі аконны праём на даху або купальным пакрыцці.

**ЛЮКС** [1] (фр. luxe, ад лац. luxus = раскоша) — нешта асабліва раскошнае, лепшае па абсталяванню, па ўзроўню абслугоўвання (аб магазінах, гасцініцах, атэлье і інш.).

**ЛЮКС** [2] (лац. lux = святло) — адзінка вымярэння асветленасці ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ), роўная сіле асвятлення паверхні ў 1 $м^2$ струменем святла ў 1 *люмен*.

**ЛЮКСМЕ́ТР** (ад *люкс*[2] + *-метр*) — прыбор для вымярэння асветленасці, якая вызначаецца ў люксах.

**ЛЮКС-СЕКУ́НДА** (ад *люкс*[2] + *секунда*) — адзінка колькасці асвятлення, роўная асветленасці ў 1 люкс на працягу секунды.

**ЛЮМБА́ГА** (лац. lumbago) — востры боль у паясніцы, прастрэл.

**ЛЮМБА́ЛЬНЫ** (ад лац. lumbus = паясніца) — паяснічны, які адносіцца да паясніцы, да паяснічнай вобласці (напр. л-ыя пазванкі).

**ЛЮ́МЕН** (лац. lumen = святло) — адзінка вымярэння светлавога патоку ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ), роўная напружанню струменю святла ў 1 *кандэлу*.

**ЛЮМЕНО́МЕТР** (ад *люмен* + *-метр*) — прыбор для вымярэння светлавога патоку ў люменах.

**ЛЮМІНАГРА́ФІЯ** (ад лац. lumen = святло + *-графія*) — спосаб прыгатавання копій малюнкаў або тэксту з выкарыстаннем рэчываў, што могуць свяціцца і наносяцца на кардон, на які кладуць арыгінал і фотаматэрыял.

**ЛЮМІНА́Л** (н.-лац. luminalis, ад лац. lumen = святло) — лякарства, якое ўжываецца пры бяссонніцы і іншых хваробах нервовай сістэмы.

**ЛЮМІНАФО́РЫ** (ад лац. lumen = святло + *-фор*) — арганічныя і неарганічныя рэчывы, якія могуць свяціцца пад уздзеяннем знешніх фактараў; выкарыстоўваюцца ў вытворчасці лямп дзённага святла.

**ЛЮМІНЕСЦЭ́НЦЫЯ** (ад лац. lumen, -inis = святло + суфікс -escent, які азначае слабае дзеянне) — свячэнне рэчываў *(люмінафораў)*, якое ўзбуджаецца знешнімі крыніцамі энергіі і не з'яўляецца цеплавым выпрамяненнем; выступае ў разнавіднасцях *радыелюмінесцэнцыя, хемілюмінесцэнцыя, электралюмінесцэнцыя* і інш.; гл. таксама *фасфарасцэнцыя, флюарэсцэнцыя*.

**ЛЮМІТА́ЙП** (ад лац. lumen = святло + англ. tipe = адбітак) — электронная аднаапаратная літапраекцыйная лагічная машына; забяспечвае атрыманне фотанабору шрыфтамі *кегеля*.

**ЛЮ́МПЕН-ПРАЛЕТАРЫЯ́Т** (ням. Lumpenproletariat) — дэкласаваныя слаі насельніцтва (басякі, жабракі, злачынцы).

**ЛЮНЕ́Т** ( фр. lunette) — 1) *ваен.* палявое ўмацаванне, якое складаецца з аднаго-двух валоў *(бруствераў)* і рова ўперадзе; 2) прыстасаванне на металарэзных станках для дадатковага прытрымлівання пры апрацоўцы тонкіх і доўгіх загатовак; 3) *архіт.* арачны праём у скляпенні ці сцяне, гарызантальна абмежаваны знізу.

**ЛЮПАЗО́РЫЙ** (ад лац. lupus = воўк) — спецыяльная лячэбная

ўстанова для хворых на туберкулёз скуры *(люпус)*.

**ЛЮ́ПУС** (лац. lupus = воўк) — адзін з відаў туберкулёзу скуры; туберкулёзная ваўчанка.

**ЛЮСТР** (фр. lustre = бляск) — пігмент, які наносіцца на керамічныя вырабы зверху глазуры для надання ім металічнага або перламутравага бляску.

**ЛЮ́СТРА** [1] (польск. lustro, ад іт. lustro) — 1) адшліфаваная паверхня шкла, металу, здольная даваць адбіткі прадметаў, якія знаходзяцца перад ёю, а таксама спецыяльна зроблены прадмет з такой паверхняй; 2) *перан.* спакойная, гладкая паверхня вады; 3) *перан.* тое, што з'яўляецца адбіткам якіх-н. з'яў, працэсаў.

**ЛЮ́СТРА** [2] (фр. lustre) — падвесны асвятляльны прыбор з некалькімі крыніцамі святла (электралямпамі ці свечкамі).

**ЛЮСТРАВА́ЦЬ** (польск. lustrować, ад лац. lustrare) — адлюстроўваць, адбіваць.

**ЛЮСТРА́ЦЫЯ** [1] (польск. lustracja, ад лац. lustrum = падатковы перыяд) — перыядычныя апісанні дзяржаўных маёмасцей у Польшчы і на Беларусі ў 16—18 ст. з мэтай вызначэння іх прыбытковасці.

**ЛЮСТРА́ЦЫЯ** [2] (лац. lustratio = ачышчэнне шляхам ахвярапрынашэнняў) — рэлігійныя абрады, звязаныя з уяўленнем аб ачышчальнай сіле магічных дзеянняў.

**ЛЮСТРЫ́Н** (фр. lustrine) — тонкая шарсцяная або паўшарсцяная тканіна з глянцам; раней з яе шылі мужчынскія пінжакі.

**ЛЮТНІ́СТ** (польск. lutnista, ад с.-лац. lutnista) — музыкант, які іграе на *лютні*.

**ЛЮ́ТНЯ** (польск. lutnia < с.-в.-ням. lute  іт. liuto, ад ар. al'ud = драўляны інструмент) — даўнейшы струнны шчыпковы музычны інструмент, па гучанню блізкі да *гітары*.

**ЛЮТЭІ́Н** (ад лац. luteum = жаўток) — адзін з жаночых палавых *гармонаў*, які рыхтуе слізістую абалонку маткі для прыняцця зародка, а таксама стымулюе змены ў малочных залозах.

**ЛЮТЭРА́НІН** [польск. luteranin, ад ням. M.Luther = прозвішча ням. рэлігійнага рэфарматара (1483—1546)] — той, хто вызнае *лютэранства*.

**ЛЮТЭРА́НСТВА** (ад *лютэранін*) — адно з пратэстанцкіх веравучэнняў (гл. *пратэстантызм*), якое ўзнікла ў 16 ст. у Германіі на аснове вучэння М.Лютэра і пашырылася гал. ч. у Германіі і скандынаўскіх краінах.

**ЛЮТЭ́СЦЭНС** (лац. lutescens = які робіцца жаўтаватым) — разнавіднасць мяккай пшаніцы з белым безасцюковым коласам і чырвоным зернем.

**ЛЮТЭ́ЦЫЙ** (н.-лац. lutecium, ад лац. Lutecia = Парыж) — хімічны элемент сям. *лантаноідаў*, бліскучы метал.

**ЛЮФА́** (ням. Luffa, ад ар. luf) — травяністая расліна сям. гарбузовых, пашыраная ў тропіках і субтропіках, завязь якой ужываецца ў ежу, а са спелых пладоў робяць мачалкі, летнія галаўныя ўборы і інш.

**ЛЮФТ** (ням. Luft = паветра) — зазор паміж спалучанымі паверхнямі частак машыны.

**ЛЮФТПА́ЎЗА** (ням. Luftpause = паветраная паўза) — невялікая па-

ўза, з дапамогай якой пры выкананні музычнага твора вылучаецца пачатак матыва, фразы і інш.

**ЛЮЦЫ́ПАР** (польск. lucyper, ад лац. lucifer = той, хто прыносіць святло) — сатана, д'ябал.

**ЛЮЦЫФЕРА́ЗЫ** (ад *люцыферыны*) — *ферменты*, якія каталізуюць акісленне люцыферынаў, забяспечваючы працэсы *біялюмінесцэнцыі*.

**ЛЮЦЫФЕРЫ́НЫ** (ад лац. lucifer = які нясе святло) — арганічныя злучэнні, якія ўдзельнічаюць у *люмінесцэнцыі* арганізмаў, што свецяцца.

**ЛЮЦЭ́РНА** (польск. lucerna < ням. Luzerne, ад фр. luzerne) — травяністая расліна сям. бабовых з трайчастым лісцем і светла-бэзавымі або цёмна-фіялетавымі кветкамі ў суквеццях, пашыраная ў Еўразіі, Афрыцы і Амерыцы; на Беларусі вырошчваецца як кармавая.

**ЛЮ́ЭС** (лац. lues = зараза, хвароба) — тое, што і *сіфіліс*.

**ЛЯ** (лац. la) — шосты гук музычнай гамы, а таксама нота, якая абазначае гэты гук.

**ЛЯКРО́С** (фр. la crosse = клюшка) — спартыўная камандная канадская гульня з мячом і ракеткай-клюшкай.

**ЛЯЛЕМА́НЦЫЯ** (н.-лац. lallemantia) — травяністая расліна сям. губакветных з ланцэтападобным лісцем і белаватымі кветкамі, пашыраная ў Іране, Індыі, Пакістане; дае тэхнічны алей; на Беларусі — вопытныя пасевы.

**ЛЯ́ЛІУС** (н.-лшац. colisa lalius) — рыба атрада акунепадобных, пашыраная ў вадаёмах Індыі; вядома як акварыумная.

**ЛЯМАВА́ЦЬ** (польск. lamować, ад фр. lame = бляшка, паясок) — абшываць край матэрыялу, адзення іншым матэрыялам, тасьмой, футрам.

**ЛЯ́МАНТ** (польск. lament, ад лац. lamentum) — 1) крык, плач са скаргамі, жальбамі; 2) жанр старажытнай беларускай літаратуры, празаічны або вершаваны твор, напісаны з выпадку смерці якой-н. значнай асобы, а таксама вялікага асабістага ці грамадскага няшчасця.

**ЛЯМАНТАВА́ЦЬ** (польск. lamentować, ад лац. lamentari) — моцна і працягла крычаць, галасіць.

**ЛЯМБЛІЁЗ** (ад *лямблія*) — захворванне органаў стрававання чалавека, якое выклікаецца лямбліямі.

**ЛЯ́МБЛІЯ** (н.-лац. lamblia, ад рус. В.Лямбль = прозвішча рус. ўрача 19 ст.) — прасцейшае класа жгуцікавых; паразітуе ў кішэчніку млекакормячых (грызуноў), птушак, паўзуноў і земнаводных, у тонкім кішэчніку, жоўцевых пратоках і пузыры чалавека, выклікае страўнікава-кішэчныя захворванні.

**ЛЯМЕ́НТА** (іт. lamento, ад лац. lamentum = рыданне) — назва п'ес жалобнага, журботнага характару, шырока вядомых у музыцы *барока*.

**ЛЯМЕНТА́ЦЫЯ** (лац. lamentatio) — скарга, нараканне.

**ЛЯ́МКА** (рус. лямка, ад фін. lämsä = пятля, повад, аркан) — шырокі рэмень са скуры ці моцнай тканіны, які перакідваецца цераз плячо пры перацягванні, пераносцы грузу.

**ЛЯ́МПА** (польск. lampa < лац. lampas, ад гр. lampas) — 1) прыбор для штучнага асвятлення з дапамогай электрычнага току, газы і інш.; 2) прылада для асвятлення або награвання спецыяльнага прызначэння (напр. шахцёрская л., паяльная л.).

**ЛЯ́МУС** (польск. lamus, lemus, ад с.-в.-ням. lem-hus = гліняны будынак) — мураваны або драўляны будынак для зберагання гаспадарчых прылад, збожжа, прадуктаў.

**ЛЯНЗІ́ТЭС** (н.-лац. lenzites) — губавы *базідыяльны* грыб сям. порыевых, які расце на адмерлай драўніне лісцевых парод, выклікае белую гніль.

**ЛЯ́НІ** (фін. lääni) — асноўная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Фінляндыі.

**ЛЯ́ПІС** (лац. lapis = камень) — азотнакіслае серабро, крышталічны парашок, які выкарыстоўваецца ў медыцыне як процізапаленчы сродак.

**ЛЯ́ПІС-ЛАЗУРА́К** (ад лац. lapis = камень + lazur = блакіт) — тое, што і *лазурыт*.

**ЛЯПІ́СТА** (н.-лац. lepista) — шапкавы *базідыяльны* грыб сям. радоўкавых, які расце на подсціле і гумуснай глебе ў лясах, парках, садах; ядомы.

**ЛЯ́ПСУС** (лац. lapsus = падзенне, няправільны крок) — грубая, недарэчная памылка.

**ЛЯПТО́БРЫУМ** (н.-лац. leptobryum) — лістасцябловы мох сям. брыевых, які трапляецца на сырой, гліністай, пясчанай глебе ў лагчынах, лясах, на гнілой драўніне, балотах, палях, каменных сценах.

**ЛЯРД** (англ. lard) — топленае свіное сала.

**ЛЯСКЕ́Я** (н.-лац. leskea) — лістасцябловы мох сям. ляскеевых, які трапляецца на ствалах дрэў, часам на камянях у цяністых лясах.

**ЛЯСЭ́** (фр. lacé, ад ням. Lesezeichen = закладка) — стужачка-закладка, звычайна шаўковая, якая прыклейваецца да верхняй часткі кніжнага блока.

**ЛЯТА́ЛЬ** (лац. letalis = смяротэльны) — *ген*, які блакіруе развіццё палавых клетак або дарослых арганізмаў і выклікае іх гібель.

**ЛЯТА́ЛЬНАСЦЬ** (ад *лятальны*) — смяротнасць; паказчык медыцынскай статыстыкі.

**ЛЯТА́ЛЬНЫ** (лац. letalis = смяротэльны) — смяротны (проціл. *вітальны*).

**ЛЯ́ТЭКС** (лац. latex = рэчыва, сок) — млечны сок каўчуканосных раслін.

**ЛЯЎКА́С** (гр. leukos = белы) — мелавы грунт на жывёльным або рыбным клеі, які выкарыстоўваўся ў іканапісе і ўжываецца ў дэкаратыўна-прыкладным мастацтве.

**ЛЯЎКО́БРЫУМ** (н.-лац. leucobryum) — лістасцябловы мох сям. ляўкобрыевых, які трапляецца на глебе ў вільготных і сырых хвойных і мяшаных лясах.

**ЛЯЎКО́НІЯ** (ад гр. leukos = белы + ion = фіялка) — травяністая расліна сям. крыжакветных з пахучымі кветкамі розных колераў у гронках, пашыраная ў Міжземнамор'і, Усх. Азіі і Паўд. Афрыцы; на Беларусі вырошчваецца як дэкаратыўная; мацыёла.

Даведачнае выданне

**БУЛЫКА**
**Аляксандр Мікалаевіч**

СЛОЎНІК ІНШАМОЎНЫХ СЛОЎ

У 2 тамах

Том 1. А—Л

Адказны за выданне *Л.В.Календа*

Рэдактары: *Г.І.Дайлідава, І.У.Саламевіч*

Мастацкі рэдактар *У.М.Жук*

Тэхнічны рэдактар *М.І.Грыневіч*

Карэктары: *Н.У.Бохан, С.В.Рабец, А.В.Семенчукова, В.П.Спірыдонава, В.М.Чудакова*

Камп'ютэрная падрыхтоўка выдання: *С.А.Макаёнак* (заг. рэдакцыі), *І.У.Грыцэль, А.У.Гурыновіч, І.В.Касцюкевіч, І.М.Кузьмянкова, С.М.Хаустовіч*

Падпісана да друку 06.08.99. Фармат 84×108 1/32. Папера газетная. Гарнітура Таймс. Друк высокі. Ум. друк. арк. 38,64. Ум. фарб.-адб. 38,64. Ул.-выд. арк. 51,55. Тыраж 5000 экз. Заказ 3240.

Дзяржаўнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 10 ад 31.12.97. Рэспубліка Беларусь. 220072, г. Мінск, вул. Акадэмічная, 15а.

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка на ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінаце ВПП імя Я.Коласа. Рэспубліка Беларусь. 220005, г. Мінск, вул. Чырвоная, 23.

ISBN 985-11-0152-4



